АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

У ПЯЦІ ТАМАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»



1980

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# СЛОЎНІК
# БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ЯЕ ПАГРАНІЧЧА

## ТОМ 2

## Д—Л

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»



1980

ББК81.2Бел-4
С48

Укладальнікі:
Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ, Я. М. РАМАНОВІЧ,
А. І. ЧАБЯРУК, С. Г. ЛОБАЧ, Ф. Д. КЛІМЧУК, С. ГЛІНКА,
Я. ПЕТРУЧУК, Э. СМУЛКОВА, А. БАГРОЎСКА, Т. ЯСІНСКА-СОХА,
Я. ГЛУШКОЎСКА, Ц. ОШЭР-ПАДГУРСКА

Рэдакцыйная калегія:
Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ, А. І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ, Я. М. РАМАНОВІЧ,
А. І. ЧАБЯРУК, Ф. Д. КЛІМЧУК

Рэдактар тома Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ

**Слоўнік** беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5-ці т. Т. 2. Д—Л/[Уклад. Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч і інш.; Рэд. Ю. Ф. Мацкевіч].— Мн.: Навука і тэхніка, 1980.— 728 с.

С 48

В пер. 3 р. 20 к.

Дадзены том змяшчае звыш дзевяці тысяч слоў на літары Д—Л.

С $\frac{70105\text{-}139}{M316\text{-}80}$ 130-80 4602020000

ББК81.2Бел-4
4Бел(03)



## АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ

Дадзены том слоўніка змяшчае лексіку беларускіх народных гаворак, якая акрэслена ў першым томе. Склад лексікі і прынцыпы распрацоўкі артыкулаў вызначаны ў папярэднім томе.

Ва ўкладанні другога тома ўдзельнічалі: Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук (літары Д, З), С. Г. Лобач (літары Е, Ж, І), Ю. Ф. Мацкевіч (літара К), Ф. Д. Клімчук (літара Л). А. І. Грынавецкене распрацавала балтыйскія і германскія адпаведнікі.

Матэрыялы, узятыя з архіва Атласа Беласточчыны, падрыхтаваны С. Глінкам і Я. М. Рамановіч. Матэрыялы, сабраныя кафедрай Варшаўскага універсітэта, апрацаваны супрацоўнікамі кафедры пад кіраўніцтвам Э. Смулковай.

У дадзены том уключаны матэрыялы, якія дадаткова былі сабраны ў 1979 г.



# СПІС НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ, МАТЭРЫЯЛЫ З ЯКІХ ПАСТУПІЛІ Ў 1979 г., ПРОЗВІШЧЫ ЗБІРАЛЬНІКАЎ І ГОД ЗАПІСУ МАТЭРЫЯЛАЎ

## БССР

*Верхнядзвінскі раён*

Дзёрнавічы — С. Г. Лобач, Т. В. Бародзіч, 1979
Пярэкі — С. Г. Лобач, Т. В. Бародзіч, 1979
Юркава — С. Г. Лобач, 1979

*Вілейскі раён*

Кухты — Ф. Д. Клімчук, А. Ю. Відугірыс, 1979
Латыгаль — Ф. Д. Клімчук, А. Ю. Відугірыс, 1979
Цяпінцы — Ф. Д. Клімчук, А. Ю. Відугірыс, 1979

*Нясвіжскі раён*

Новіны — С. Г. Лобач, 1979

*Смаргонскі раён*

Івашкаўцы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1979
Нарбуты — А. І. Чабярук, 1979
Сасноўка — А. І. Чабярук, 1979
Снягяны — Я. М. Рамановіч, 1979
Солы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, 1979

*Стаўбцоўскі раён*

Барок — Ф. Д. Клімчук, А. Ю. Відугірыс, 1979
Дзераўное — Ф. Д. Клімчук, А. Ю. Відугірыс, 1979

## ЛітССР

*Вільнюскі раён*

Канюкай — Ф. Д. Клімчук, А. Ю. Відугірыс, 1979

*Шальчынінскі раён*

Кудзялянцы — Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, 1979

## ПНР

*Беластоцкае ваяводства*

Верхлессе (Крынкаўская гміна) — Ц. Ошэр-Падгурска, 1978
Яцаўляны (Сідранская гміна) — Ц. Ошэр-Падгурска, 1978



# Д

ДА, ДО *прыназ.* з *род.* 1. Пры абазначэнні накіраванасці дзеяння, руху. Да; на. *Пашлі да сусеткі.* Лісна В.-Дзв. *Да Манькі падышоў.* Рыбчына Віл. *Німа таго дня, кап хто да нас ні прышоў.* Ністанішкі Смарг. *Авечка да рук ідзець, вазьму і апстрыгу.* Малькуны Ігн. *Пашла да суседа.* Старыя Трокі Трак. *Прышоў да міне. Вядзе ў сат, да яблычкаў.* Паляцкішкі Воран. *Насіла да каваля тапор. Да лёну ідуць бабы.* Альхоўка Навагр. *Да лёну пойдзя.* Жылі Іўеў. *Да лёну хаджу.* Кемялішкі Астр. *Ідзі з'ядзём і пойдзям да работы!* Крэва Смарг. *Хлапцэ прышлі да дзявок.* Дзяніскавічы Ганц. *Прíходь до хаты.* Дзмітравічы Кам. *Пойдом до грэчкі!* Смаляніца Пруж. 2. Пры абазначэнні моманту, да якога працягваецца дзеянне, стан. Да. *Дайней да цямна жнеш, а ноч — маці, гуляць ідзеш.* Саланое Віл. *Паставім да часу.* Дакудава Лід. *Не вылезла да трэцяга дня.* Паляцкішкі Воран. *Да дня трэба ўстаць, падмалаціцца.* Жылі Іўеў. *Да ўмора буду сварыцца, што ёй дзевяноста гот.* Вецярэвічы Пух. *Устаеш рано, да дня.* Малахоўцы Бар. 3. Пры абазначэнні асобы, прадмета, з'явы, да якіх звернута дзеянне. Да. *А ён і да людзей не гавора.* Крэва Смарг. *Не да песняў было.* Кемялішкі Астр. *Стаў гаварыць да мяне.* Граўжышкі Ашм. *Кажды грабе да сябе.* Стральцы Шальч. *Да міне гаворыць.* Паляцкішкі Воран. *Упала да рук, цалаваць стала.* Новікі Гродз. *Да работы лёгенькі быў, мала рабіў.* Альхоўка Навагр. *Да мяне нічога не гаворыць.* Альхоўцы Лях. 4. Пры абазначэнні часовасці размяшчэння прадмета, аб'екта. На. *Паставілі да часу. Дарогу правялі да часу.* Дакудава Лід. 5. Пры абазначэнні месца, куды накіроўваецца аб'ект. У. *Куры ні лятуць у калхос да дабрыні.* Мярэцкія Глыб. *Я хачу ехаць да Свіра.* Кемялішкі Астр. *Зярно вазілі до свірна, до засека.* Старыя Трокі Трак. *Забіралі ў Прусы, да Германіі.* Грыкені Вільн. *Хадзі до школы!* Новыя Мацалі Варэн. *Млечка налея до бутэлечкі.* Стральцы

Шальч. *Хадзіла да калхозу, рабіла.* Новікі Гродз. *Паехаў да леса.* Кнышэвічы Бабіц. *Я пашоў да кіна. Пайду да свірна.* Крынкі Крын. *Хацела да гуты ехаць.* Альхоўка Навагр. *Гоняць каровы да лесу.* Вострава Маст. *Едзьмо да Навагрудка! Апусцілі да долу* [у яму]. Міратычы Карэл. *Выносят хліб до коморы.* Дзмітравічы Кам. 6. Пры абазначэнні адпаведнасці ці неадпаведнасці. Па. *Мы не купілі пальта, бо не дабралі да росту.* Ністалішкі Смарг. *Бацінак дарабіў сабе да наге.* Кіралі Шчуч. 7. Пры ўказанні на прызначэнне прадмета. Для. *Ні да дабрыні гэтыя мяшкі, гэтыя мяшкі толькі да бульбы.* Мярэцкія Глыб. *Цырта* [рыба] *да засолкі добра, да варкі — ні вельмо.* Быстрыца Астр. *Лапатка да крыцця даху.* Стракішкі Трак. *Благі лес, да грыбоў не гадзіцца.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Не маю гуркоў да прадання.* Вялікія Баяры Шчуч. 8. Пры абазначэнні асобы, прадмета, з'явы, у якіх наглядаецца або адсутнічае падабенства з кім-н. або чым-н. Да. *Хадакі пахожы да лапцей.* Магуны Паст. *Дырса расце ў жыця, да жыта пахожа.* Старыя Трокі Трак. *Ні пахожы адзін да аднаго.* Малахоўцы Бар. *Падобны да маткі.* Дакудава Лід. *Ліпень — красівая рыба, ока да сэрца пахожа.* Быстрыца Астр. *Падобны да маткі і да бацькі.* Кіралі Шчуч. *Да бацькі падабнюсенькі.* Паляцкішкі Воран. 9. Пры абазначэнні жывых істот ці прадметаў, з якімі змацоўваецца што-н. Да. *Падвёў каня, прывязаў да плоту.* Саланое Віл. *Замкнуў сабаку да буды.* Старыя Трокі Трак. 10. Пры ўказанні на вялікую колькасць чаго-н. Да. *У маём агародзе макрыцы да чорта. У іх хлеба да чорта. У лесе клешчэй да дуры.* Ахрэмаўцы Брасл. 11. Пры абазначэнні месца заняткаў. *Кандукторкай да алтобуса была.* Гемзы Шальч.

ДА'БА', ДО'БА *прысл.* Добра. *А дабá, што прышлі. Дабá, кап было.* Граўжышкі Ашм. *Дáба дзёрла.* Жылі Іўеў. *Сыраваты хлеб — закаляц на паляц, не зняло доба яго, як печ не палілася добра.* Старыя Смільгіні Воран.

ДАБАВІ'НА *ж.* Дамавіна. *Рабілі дабавіну з дошак.* Дзяніскавічы Ганц.

ДАБА'ВІЦЬ *зак.* 1. Прыбавіць. *Пенсію дабавюць.* Лісна В.-Дзв. 2. Дадаць. *Перцу пахнучага дабаўлю.* Солы Смарг. 3. *мед.* Пераліць кроў. *Дабавілі крыві, і як пачало паліць мяне.* Рагулішкі Даўг.

ДАБАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Прыбаўляць. *Пры каралёх польскіх, пры царох не пашлі на хутара, землі не дабаўлялі і не пашлі.* Ністалішкі Смарг.

ДАБІРА'ЦЦА *незак.* Збірацца. *Дабіраецца яна паехаць у Постаў. Усё дабіралася спячы блін с тварагом, сягання спяку.* Груздава Паст.

ДАБІРА'ЦЬ *незак.* Падбіраць. *Трэба дабіраць яду.* Саланое Віл. *Дабіралі зямлі на лён.* Дзераўное Стаўб.

ДАБІТНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш бойкі, кемлівы, разбітны. *Дабітнейшая жэншчына.* Кураполле Паст.

ДАБІ'ТНЯ *пабоч.* Зразумела. *Яна, дабітня, раскажыць як і што.* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *dobitnie* 'перакананаўча, зразумела, ясна'.

ДАБІ'ЦЦА *зак.* Капаючы, дасягнуць чаго-н., дакапацца. *Капаў глыбока і вады дабіўся.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДАБЛЁТКА *ж.* Таблетка. *Стала ныць пад грудзямі, далі даблётак, буду піць.* Валынцы В.-Дзв.

ДАБО'Р *м.* Панарад для красён. *Усенькі дабор да красён: стаціво, два стацівы, збівачы — палкі для замацавання стацівоў, навой велькі і мнейшы.* Старыя Смільгіні Воран.

ДАБРА'НАЦ *выкл.* у знач. *вык.* Дабранач. *Дабранац, аставайцеся здаровы.* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* польск. *dobranoc* 'тж'.

ДАБРА'НЫ, ДО'БРАНЫ *дзеепрым.* Падабраны. *Каб былі да вас дабраныя* [акуляры]. Груздава Паст. *З іх добрана пара, обое такіе гожы.* Курашэва Чыж.

ДАБРАТА' *ж.* толькі *адз.* Дабро, спагадлівасць да людзей. *Зрабі чалавеку дабрату?!* Магуны Паст. *Аднаму робіць дабрату.* Саланое Віл. *Як мая якую дабрату, то і сам аддае.* Новікі Гродз. ∇ *Няма дабраты — няма пагоды.* Магуны Паст. *Усе воўкі паздыхаюць ад яго дабраты.* Старыя Смільгіні Воран.

ДАБРАХВО'ЧЫ *прым.* Шчодры. *Дабрахвочы памяргуіцца, падзеліцца.* Мярэцкія Глыб. ∇*Хто скуп, сам сабе не глуп, дабрахвочы глядзіць скупому ў вочы.* Ухвала Круп.

ДАБРАХО'ЧЫ *прым.* Тое ж, што і д а б р а х в о́ ч ы.

ДАБРА'ЦЦА *зак.* 1. Дайсці, даехаць да якога-н. месца. *Пакуль я дабяруся, ты скарэй даберысся.* Кураполле Паст. 2. Дасягнуць жаданага. *Я дабяруся да чысцейшай работы, тады надзену* [сукенку]. Кураполле Паст.

ДАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Выбраць вольны час. *Не магу дабраць часу паехаць да зубнога.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ні дабяру врэмя рассадзіць цвяты.* Рагулішкі Даўг. 2. Падабраць, выбіраючы. *Як ты даберыш яду?* Саланое Віл.

ДАБРО' I *зб. н.* 1. Агульная назва злакавых раслін. *Па дабрэ скаціна ходзя.* Рыбчына Віл. *Егдзіў на поля, дабра даглядаў.* Лісна В.-Дзв. *Сушылі дабро і цапамы малацілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *У дабрэ падасоцік рос. Сухата можа на дабро паўліяць.* Цяпінцы Віл. *Таквеле дабра ўпаліло, агонь ідзе і радо́м і лёхамі.* Альхоўцы Лях. 2. Збожжа. *Цапамы дабро малацілі, с часоў трох да дня малацілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сабралі с поля ўсё дабро.* Ёдлавічы Брасл. *У свірне параблены аруды на ўсякая дабро.* Лісна В.-Дзв. *Дабро давалі, магазін быў такі.* Груздава Паст. *Дабро валкуюць, лепшая дабро будзя.* Магуны Паст. *У жолап засыпалі дабра, мукі. Многа*

*дабра намалацій: ячмень, жыта.* Асавец Віл. *Дабро сыпім у свірня.* Саланое Віл. *У вайну дабро знішчалася.* Солы Смарг. *Дабро ў нас не сушылі.* Жодзішкі Смарг. *У складзе дабро храніцца.* Ністанішкі Смарг. *Насыпана дабра многа.* Дакудава Лід. *Дабро ўсё: і жыта, і авёс, і гарох.* Ракаўскія Швянч. *Дабро змалацій і дадому завёз.* Ухвала Круп. *Многа дабра нажаў, намалацій.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Чужоя дабро бярэць за рабро.* Ёдлавічы Брасл.

ДАБРО′ II *н.* Тое ж, што і д а б р а т а́. *За дабро злом плацяць.* Лісна В.-Дзв. *Зроб чалавеку дабро, а ён можа заплаціць табе злом. За дабро плоцяць два раза дабром.* Ахрэмаўцы Брасл. *Адзін другому дабра думаям.* Граўжышкі Ашм. *Дабро скора забываецца.* Малькуны Ігн.

ДАБРЫНА′, ДАБРЫНЯ′ *зб. ж.* Тое ж, што і д а б р о́ I, 1. *Дабрына якая: зярняты вялікія, вялікая дабрына.* Ахрэмаўцы Брасл. *Грошы хавала ў дабрыню, а мужык жыта павёс прадаваць у Глыбокае — і грошы там. Я пабегла і нашла. Да дабрыні гэтыя мяшкі.* Мярэцкія Глыб.

ДАБРЫСЦІ′ *зак.* Дайсці да пэўнага месца. *Ні дабрысці, дошч ільець.* Магуны Паст.

ДАБЫ′ТАК I, ДАБЫ′ТЫК, ДОБЫ′ТОК *м.* 1. Прыбытак, прыбаўленне. *У міне сягонні дабытык—карова цялілыся.* Якубова Рас. 2. Буйная рагатая жывёла. *Добыток с поля прышов, трэба до хліва загнаті.* Курашэва Чыж. 3. Тое, што дабываецца ў выніку пошукаў, намаганняў. *Дабыткі тые, што дабыў. Пашла ў дабытак — свіням зелья дабываць.* Дзяніскавічы Ганц.

ДАБЫ′ТАК II *м.* Дарога. *Як няма дабытку, чэрас Нёман вязуць да нас, у бальніцу.* Галубы Маст.

ДАВАДЗІ′ЦЦА *незак.* Быць у сваяцтве з кім-н. *Ён мне давадзіўся дваюрны брат.* Валынцы В.-Дзв.

ДАВА′НЫ *дзеепрым.* у знач. *вык.* Дадзены. *Яшчэ сабаку не давана.* Валынцы В.-Дзв. *Свінням ні давана яшчэ.* Жодзішкі Смарг. *Мне свіня не даваны.* Вялікія Баяры Шчуч.

ДАВА′ЦЦА *незак. безас.* Надзяляцца. *Пашына адна давалася на ўсіх.* Жылі Іўеў.

ДАВА′ЦЬ *незак.* 1. Дарыць. *Пасагу давалі с скрыняю.* Судэрва Вільн. 2. Карміць. *То карову даіць нада, то свінням даваць.* Грыкені Вільн. *Даюць курам жоўты пясок, з картофляй ці з мукой мяшаюць.* Кіралі Шчуч. 3. Даіцца. *Пайтары літры малака давала козачка.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Аддаваць. *Я не даваю пенсіі.* Вострава Маст. 5. Забяспечыць чым-н. *Я вам даваю дрова.* Дзяніскавічы Ганц. 6. Зрабіць (укол). *Уколы давалі.* Кемялішкі Астр. 7. Наладзіць (вячэру). *Як пахаваюць нібошчыка, даюць вячэру.* Вялікія Баяры Шчуч. 8. *заг.* *давай* з інфінітывам *незак.* *Адзін ішоў злодзяй красці і сустрэў хазяіна: «Хто ты? — Злодзяй.— А ты хто? —*

*Я злодзяй». Сышліся і пашлі красці. «Што будзем красці? — Давай хлеп красці».* Курaполле Паст. *Давайце мыце-ка пойдземо.* Ванелевічы Кап. ◇ *Даваць лататы* — уцякаць. *Хлопцы давалі лататы.* Дварчаны Паст.

ДАВЕ'ДАВАЦЦА *незак.* Наведваць. *Я хадзіла бальных даведавацца.* Валынцы В.-Дзв.

ДАВЕ'ДАЦЦА *зак.* 1. Дазнацца, пачуць. *Ці многа чаго даведаліся?* Дзераўное Стаўб. 2. Наведаць. *Трэба даведацца яго.* Малахоўцы Бар. *Бацька прыедзіць даведацца.* Валынцы В.-Дзв.

ДАВІ'ЦЬ *незак.* 1. Выціскаць. *Да́віць мёд з сотаў.* Глівін Барыс. 2. Душыць. *Куры давя лісіца.* Рыбчына Віл.

ДАВО'ЛІ, ДОВО'ЛІ *прысл.* 1. у знач. *вык.* У дастатковай колькасці. *Цяпер бап даволі.* Рагулішкі Даўг. *Як добра цяпер жывецца, усяго даволі ёсць.* Саланое Віл. *Не было так, кап даволі ўсяго.* Каўняны Гродз. *Старэйшаму чалавеку то і даволі.* Мсцібава Ваўк. 2. у знач. *вык.* Досыць. *Даволі солі!* Мсцібава Ваўк. *Даво́лі з іх ягнят.* Кузьмічы Люб. *Даволі наслухаўсо.* Крынкі Крын. *Даволі мне ўжо, наеўся!* Калясное Міхал. 3. у спалуч. з *прысл.* У значнай ступені, у вялікай меры. *Даво́лі многа мукі. Даволі многа малака і дарма.* Ялова Пруж.

ДАВО'ЛЬНЕ, ДАВО'ЛЬНА *прысл.* 1. Тое ж, што і д а в о́ л і 1. *У нас лесу давольне.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і д а в о́ л і 2. *Сілы во няма, давольна.* Канюкай Вільн.

ДАВО'ЛЬНЫ *прым.* Задаволены. *Да гэтых войнаў усё мало было, а січас усім давольна стала.* Цярушкі Ваўк. *Будзь давольны, што ест, а не хватай.* Кудзялянцы Шальч.

ДАВУ'ТКА *ж.* Старая дзеўка. *Яна — давутка, ня йдзе замуш, ніхто ня ўзяў.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *dewotka,* літ. *davatkà* 'багамолка'.

ДАВУ'ЦЦА *м.* Камандзір, начальнік, палкаводзец. *Няма давуцца, і войска гіня.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *dowódca* 'тж'.

ДАВЯДА'ЦЦА, ДАВІДА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і д а в е́ д а в а ц ц а. *Як у бальніцы была, я давядалася. Доўга ні давядалася.* Лісна В.-Дзв. *Не давядаюцца яны да нас.* Лоск Валож. *Прыехалі давідацца мяне небажанята мае.* Кузьмічы Люб.

ДАВЯРА'ЦЬ *незак.* Аказваць давер'е. ▽ *Не давярай ваўку, пакуль яго з нох не саб'еш.* Кіралі Шчуч.

ДАВЯСЁЛКІ толькі *мн.* Народны звычай запрашаць пасля вяселля (праз тыдзень) блізкіх родных маладога ў дом да маладой. *Паехалі на давясёлкі — маладая з бацькамі маладога едзя да сваіх бацькоў.* Старое Сяло Зэльв.

ДАГАВАРЫ'ЦЦА *зак.* Дамовіцца. *Жаніцца дагаварыліся.* Солы Смарг.

ДАГАДАВА'ЦЬ *зак.* Выгадаваць. *Цялёнка трэба дагадаваць сабе.* Ракаўскія Швянч.

ДАГАДЖА'ЦЬ *незак.* 1. Гадзіць, ладзіць. *Дзяцём дагаджаяш, кап толькі прыходзілі.* Магуны Паст. *І мужу дагаджаю, а не дагадзі — як дрэнна.* Гемзы Шальч. *Толькі дагаджай ім усюды.* Кіралі Шчуч. 2. Спрыяць людзям, ладзіць з людзьмі. *А брат — брыгадзірам, дужа добра людзям дагаджая.* Калядзічы Ваўк.

ДАГА'ДЛІВЫ *прым.* Спагадлівы. *Быў дагадлівы, ён мяне жалеў.* Кіралі Шчуч.

ДАГАЛА' *прысл.* Да голага цела. *Дагала раздзейся!* Лісна В.-Дзв. *Раздзеласа дагала.* Вялікі Краснік Пруж.

ДАГАНІ'ЦЬ *зак.* Дагнаць. *Вы дагапілі міне, больш пасадзілі буракоў.* Мсцібава Ваўк. *Даганяў і дагапіў яго.* Дзяніскавічы Ганц.

ДАГАНЯ'ЦЦА *незак.* Дабівацца. *Сталі даганяцца сваіх грошы.* Альхоўка Навагр.

ДАГАНЯ'ЦЬ, ДОГАНЯ'ТІ *незак.* 1. Гнаць. *Корову до бычка два разы доганяв, але нэ побіегала, остала ялова.* Курашэва Чыж. 2. Параўноўвацца ў росце. *Пшэніця так хутко ростэ, што догоняе ўжэ жыто.* Курашэва Чыж. ∇ *Бягуць чатырэ братэ, адзін аднаго не даганяюць* [калёсы]. Старыя Смільгіні Воран.

ДАГАРЫ', ДАГАРЭ' *прысл.* На спіну, на спіне. *Лягла дагары.* Крынкі Крын. *Перавярнуўся дагарэ.* Кіралі Шчуч.

ДАГІ'ЛЬ *м. бат.* Чартапалох. *Дагіль яшчэ горшы за асот.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *dagìlis* 'тж'.

ДАГЛЕ'ДЗЕЦЬ, ДАГЛЕ'ДЗЯЦЬ *зак.* Паклапаціцца, зберагчы. *Рыбята малыя, хто ш дагледзіць.* Індра Красл. *Матка дзіця дагледзіць.* Солы Смарг. *Як не дагледзяш — прападзе.* Вялікія Баяры Шчуч.

ДАГЛЁД, ДАГЛЁТ *м.* Догляд. *Даглёду досіць скаціне.* Саланое Віл. *Каля трусоў трэбо даглёду.* Стральцы Гродз.

ДАГЛЯ'ДАВАЦЬ *незак.* Даглядаць. *Даглядавала другіх.* Малькуны Ігн.

ДАГЛЯДА'ЦЬ, ДОГЛЯДА'ЦІ, ДОГЛЕДА'ТІ *незак.* Тое ж, што і д а г л я́ д а в а ц ь. *Пайду даглядаць скаціну.* Рыбчына Віл. *Даглядаць трэба ісці скаціну.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пастух даглядаў стаду.* Альхоўка Навагр. *Пойду доглядаці за скоціною.* Смаляніца Пруж. *Пойду догледаті коровы.* Азарычы Пін.

ДАГЛЯ'ЧЧЫК *м.* Даглядчык. *Дагляччык даглядае кароў.* Мсцібава Ваўк.

ДАГЛЯ'ЧЧЫЦА *ж.* Даглядчыца. *Чатыры дагляччыцы цялят даглядаюць.* Саланое Віл.

ДАГНА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і д а г а н і ц ь. *Хай дагоніцца!* Старыя Смільгіні Воран.

ДАГНА'ЦЬ, ДОГНА'ТІ *зак.* 1. Нагнаць. *Ён не дагоніць міне.* Парэчча Гродз. *Самоход дожэнэ фурманку. Вуон так хутко біегае, што ніхто нэ дожэнэ.* Курашэва Чыж. 2. Параўняцца ў поспехах. *Спочатку кепско ўчывсе, а тэпэр ужэ всіех догнав.* Курашэва Чыж. 3. Загнаць. *Свіню до кнура догнав вэсною, будут поросята.* Курашэва Чыж.

ДАГЭ'ТУЛЬ *прысл.* Да гэтага часу. *Была п дагэтуль кончыўшы, кап не прышла яна.* Ністанішкі Смарг.

ДАДА'ТКА *ж.* Прыбаўка. *Далі дадатку зямлі, тут ні хваціла.* Саланое Віл.

ДА'ДЗЕНЫ *дзеепрым.* 1. Аддадзены ў карыстанне, ручаны. *У яго свой конь, яму дадзены, куды задумаў, туды паехаў.* Лісна В.-Дзв. *Яму дадзены білет.* Быстрыца Астр. 2. Выдзелены, дабаўлены. *Сотак боляй дадзена.* Магуны Паст. 3. *у ролі вык.* Нанесці ўдар, стукнуць. *І па галаве дадзена.* Ёдлавічы Брасл. *У вісок дадзена яму.* Бакшты Іўеў.

ДАДЗЕРЖА'ЦЬ *зак.* Вытрываць, вытрымаць. *Сястра казала, што я не дадзержу, памру.* Рагулішкі Даўг.

ДАДЗЕ'РЖЫЦЬ *зак.* Датрымаць, дагледзець. *Дадзержыла маму да вясны.* Міратычы Карэл.; *параўн.* руск. *додержать* 'тж'.

ДАДО'МУ *прысл.* Дахаты. *Уцёк дадому.* Альхоўцы Лях.

ДАДУ'МАЦЦА *зак.* Падумаўшы, успомніць. *Як дадумаецца, скажы. Ні дадумаяcся?* Рыбчына Віл. *Можа што і ведаю, але не магу дадумацца.* Лайпушкі Ігн.

ДАДУ'ЦЬ *зак. экспр.* Дадумацца, здагадацца. *Тады я дадула, што яна спужалася. Толькі пазней яны дадулі.* Ёдлавічы Брасл. *Я не дадула зрабіць.* Міратычы Карэл.

ДАДУШЫ' *выкл.* Ужываецца для запэўнення ў чым-н. *Дадушы, не казала, я нікому не казала.* Ёдлавічы Брасл.

ДАЕ'НЯ *н.* Даенне. *Мая карова спакойна да даеня.* Гемзы Шальч. *Якое тваё даене: больш за вядро, як у вядро.* Кіралі Шчуч.

ДАЕ'СЦІ I *зак.* З'есці да канца. *Я даем хлеп.* Быстрыца Астр.

ДАЕ'СЦІ II *зак.* Надакучыць. *Вот ужо даеў, аш горка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Што, быў Косця і нам даеў?* Ёдлавічы Брасл. *Жыць ні даела. Трава даесць за лета.* Граўжышкі Ашм. *Ім даела.* Старыя Смільгіні Воран. *Там даесць табе.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *надоесть* 'тж'.

ДАЁНКА *ж.* Дайніца. *Даёнка драўляная.* Быстрыца Астр., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Даёнка карову даіць.* Судэрва Вільн. *Даёнка дзеравяна з адною ручкаю, кароў даілі.* Кіралі Шчуч.

ДАЖДА'ЦЦА, ДАЖДА'ЦЦЯ *зак.* Дачакацца. *Скарэй смерці даждайся.* Саланое Віл. *Перажываю, не магу даждацця дачкі.* Кіралі Шчуч.

ДАЖДА'ЦЬ *зак.* Дачакаць. *Рада, рада баба, што лета даждала, што жыта пажала.* Індра Красл.

ДАЖДЖАВА'ЦЬ *незак. безас.* Дажджыць. *Як станя пішчалка крычаць — будзя дажджаваць.* Каўняны Гродз.

ДА'ЖДЖАНЫ *дзеепрым.* Дадзены. *Ціпер атпадаіць, а раньша каждаму чалавеку дажджана.* Індра Красл.

ДАЖДЖЛІ'ВЫ *прым.* 1. Дажджлівы. *Дажджлівы гот быў, вымакла бульба.* Асавец Віл. *Дажджлівая лета.* Граўжышкі Ашм. 2. Дажджавы. *Хмары цёмныя дажджлівыя.* Кіралі Шчуч.

ДАЖЫВА'ЦЬ *незак.* Дажываць век. *Не жывець, а дажываіць, толькі што дух у касцях маіць.* Кіралі Шчуч. *Тут буду дажываць веку.* Валынцы В.-Дзв. *Жыць як жыць, але дажываць цяшка.* Кудзялянцы Шальч.

ДАЖЫ'НКА *ж.*, ДАЖЫ'НКІ, ДАЖЫ'НЬКІ толькі *мн. абрад.* Свята ў дзень заканчэння жніва. *У нас дажынку так правілі: паследні снапок паставіш, палoжыш хлеп і круга хлеба ходзіш і прыгаварваеш: «Зямелька, ты дала мне хлеба і я табе дам». А патом хлеп закапаеш. Калі мурашачкі ў зямлі, то к багаццю.* Рыбчына Віл. *Дажынкі рабілі, калі пажнуць.* Старыя Трокі Трак. *Як дажыналі, с каласкоў, кветак і гарабіны саўём вянок, і гэта называецца дажынкі, у хату ўнясём, павесім на цвічку і вісіць.* Альхоўка Навагр. *Дажынкі, як скончат жаці.* Лука Нараўк. *На дажынкі гаспадара падвязвалі поясам, і гаспадар мусіць паставіць паўлітра.* Баброўнікі Гарад. *Дажынькі спяваюць.* Гемзы Шальч.; гл. а б ж ы н к і.

ДАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пражыць да якога-н. тэрміну. *Юзук старасці дажыў з Аленкаю.* Бакшты Іўеў. *Дажывіцё да маіх гадоў, тады пазнаеце, як добра старому.* Альхоўка Навагр. 2. Дажыць век. *Яга цётка пры нас веку дажыла.* Саланое Віл. *Да смерці не дажыю.* Паляцкішкі Воран.

ДАЗ'Е'ДУ *прысл.* Удосталь. *Цяпер даз'еду ўсяга, а даўна на свята не ў каждага былі булкі.* Саланое Віл.

ДАЗНА'ННЁ *н.* Следства. *Дазнаннё вёў судзьья.* Міратычы Карэл.

ДАЗНА'ЦЦА *зак.* Даведацца. *Гэты як дазнаўся, што ён памёр, ён павесіўся на дзвірах.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДАІ'ЦЦА *незак.* Даіцца. *Не доіцца кароўка.* Грыкені Вільн.

ДАІ'ЦЬ *незак.* 1. Даіць. *Пайду даіць кароўку.* Лісна В.-Дзв. *Кароўку хадзіла даіць.* Груздава Паст. *Тры разы даю.* Кемялішкі Астр. *Карову даіць, то свіням даваць.* Грыкені Вільн. *Хадзі, будзем даіць!* Паляцкішкі Воран. *Яна доіць і баба доіць каровы.* Старыя Смільгіні Воран. *Пайду даіць карову.* Вострава Маст. 2. Ссаць. *Вуш карову доіць.* Лісна В.-Дзв.

ДАЙ злуч. І, ды. *Я двом братом сплаціла дай аткупіла зямлю.* Дзераўное Стаўб.

ДАЙЛІ'Д м. Сталяр. Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *dailìdė* 'тж'.

ДАЙНІ'ЦА ж. Тое ж, што і даёнка. *Дайніца дзеравяная была.* Дакудава Лід. *У дайніцу доім карову.* Магуны Паст. *Дайніца цячэць.* Жодзішкі Смарг., Рыбчына Віл., Альба Нясв. *Былі драўняныя дайніцы.* Старыя Трокі Трак. *Дайніцу нада памыць.* Лайпушкі Ігн. *У дайніцы адляцела восілка, німа каму паправіць.* Малахоўцы Бар. *Даілі карову ў дайніцу з адным вухам, дзеравянну, с клепак.* Баброўнікі Гарад.

ДАЙНІ'ЧКА ж. бат. Жоўты гарлачык. *Лялея бела — вазірная, а жоўтыя — дайнічкі. Доўга не стаяць дайнічкі, апшнюпніць і ўсё.* Магуны Паст.

ДАЙСЦІ' зак. 1. Дазнацца, высветліць. *І нікак неможна дайсці, хто ўбіў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яна ўсюды дайшла, дабілася да Масквы, лячылася там.* Рагулішкі Даўг. 2. Памерці. *Дайшоў, са света сышоў, памёр.* Вялікія Баяры Шчуч. *Папа дайшоў, жонка рух чула.* Альхоўка Навагр. ◇ *Дайсці да розуму* — паразумнець. *Вышла замуш і не павязло — пакуль да свайго розуму не дашла.* Ёдлавічы Брасл.

ДАЙСЦІ'СЯ зак. Дайсці (пра чуткі). *Ні нада гаварыць січас, дайдзіцца, будзіць абіжацца.* Валынцы В.-Дзв.

ДАЙХО'ДЗІЦЬ гл. ДАХО'ДЗІЦЬ

ДАКА'ЗАВАЦЬ незак. Даказваць. *Людзі даказаваіць, што была кроў.* Ёдлавічы Брасл.

ДАКАЗА'ЦЬ зак. Данесці, падказаць. *Асталіся чатыры сям'і яўрэяў, так удалося, ні даказалі фашыстам.* Крэва Смарг.

ДАКА'ЗЛІВЫ прым. Які нагаворвае, даносіць. *Я не была даказлівая.* Кураполле Паст.

ДАКАНА'ЦЬ зак. Памерці, кончыцца. ∇ *Кап ты даканаў!* Гемзы Шальч.

ДАКЛЯРАВА'ЦЬ, ДАКЛІРАВА'ЦЬ незак. Абяцаць. *Чакаю жэншчыну, якая вады дакляравала прынясці.* Магуны Паст. *Дакляраваць ты ўмееш, а вось выканаць ці зможаш.* Беразіно Докш. *Дакляраваць грошы.* Рыбчына Віл. *Я дакляравала прыехаць, але дзе збярусь.* Крэва Смарг. *Дакляравоў памахчы, а ня прышоў.* Дакудава Лід. *Што яны дакляравалі, а зрабілі наабарот.* Чычалі Швянч. *Дакляравалі даць і не далі.* Гемзы Шальч. *Зіна дакляравала, што будзя гатова.* Сакаўшчына Валож. *Дакляравала ёй, што пайду ў грыбэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён мне дакляраваў, але не даў.* Кіралі Шчуч. *Ён дакляруя ёй дастаць лякарства.* Паляцкішкі Воран. *Дагаворымсё на калі што дакляраваць.* Малахоўцы Бар. *Дакляравала ягат ш чаромхі ат паносу і чарніцы.* Старое Сяло Зэльв. *Перш дакляравала грошы, а патом расходала.* Альхоў-

ка Навагр. *Я дакляравaў даць яблык, ды ні даў. Дакляравaў зрабіць, трэба ісці.* Міратычы Карэл. *Дакляравала табе курачку даць.* Масілавічы Сл. *Дакляравaў, ды ні даў.* Альхоўцы Лях. *Дакліравaў — гэта абішчаў.* Індра Красл. *Дакліравaў даць і не даець.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* польск. *deklarować* 'тж'<лац. *declarare* 'заяўляць, аб'яўляць'.

ДАКЛЯРО'ЎВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і д а к л я р а в а́ ц ь. *Дакляроўваў усё, а потым не даў.* Жодзішкі Смарг.

ДАКО'ПІЦЬ *зак.* Дакапаць. *Дакопілі бульбу.* Лука Нараўк.

ДАКО'ПКІ толькі *мн.* Заканчэнне копкі бульбы. *Сягоня дакопкі.* Лісна В.-Дзв. *Дакопкі — калі бульбу дакапалі.* Індра Красл. *Дакопкі спраўлялі: картофлю наварацъ, воткі бутэльку паставяць: пілі і картофляй закусвалі.* Дакудава Лід. *Дакопкі капалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *На дакопкі выпілі па чарцы — і дурэлі.* Мачаск Бярэз. *Дакопкі бульбы.* Альхоўка Навагр. *Дакопкі павінны зрабіць у гэтым месяцы.* Баброўнікі Гарад.

ДАКО'СКІ толькі *мн. абрад.* Заканчэнне касьбы. *Некалі дакоскі былі: кончылі касіць — бутэльку паставяць.* Дакудава Лід. *Дакоскі — калі кончылі касіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дакоскі — гэто калі скосяць сено.* Баброўнікі Гарад.

ДАКТАРЫ'ЦА, ДАХТАРЫ'ЦА *ж.* Жанчына-ўрач. *Палядзі, пайшла наша дахтарыца.* Стральцы Гродз.

ДАКТО'РКА, ДАХТО'РКА, ДАХТУ'РКА *ж.* Тое ж, што і д а к т а р ы́ ц а. *Дакторка наша саўсем дзяўчынка.* Міратычы. Карэл. *Цябе людзі ўважаюць, у нас дахторка свежая.* Кураполле Паст. *Дахторка была летась.* Груздава Паст. *Яго жана дахторкай была.* Кемялішкі Астр. *Дахторка новая прыехала.* Старое Сяло Зэльв. *Дахторка харошая.* Вялікі Краснік Пруж. *Дахтурка з Любані.* Пасека Ст.-Дар.

ДАКУ'КА *ж.* 1. Клопат. *З рабёнкам дакука: паднімі яго, пасадзі, пакармі, глядзі.* Гемзы Шальч. 2. Нуда, маркота. *Калі і дакука: блага жыць, дакучае.* Солы Смарг.

ДАКУЛЯ'ЦЬ *зак.* Дакульгаць. *Чуць дакуляла дамоў.* Валынцы В.-Дзв.

ДАКУ'МЯНТ, ДАКУ'МАНТ, ДАКУМЭ'НТ *м.* Дакумент. *Яе ўчылі за агранома, дакумянт дадуць.* Асавец Віл. *Выняла дакумянты ды даравала яму.* Альхоўцы Лях. *Чаляднікі бралі дакуманты, каб не рабіць у свята.* Рагулішкі Даўг. *На рукі дакумэнтаў не даіцё? Нейкі дакумэнты хавалі.* Груздава Паст.

ДАКУЧА'ЦЬ *незак.* Надакучаць. *Я ім дакучаю, але што ты зробіш, калі я бальная.* Валынцы В.-Дзв. *Я ім дакучаю: што нада, і ляту да іх.* Кураполле Паст. *Ці вам дзень дакучая? Ні дакучае вам у нас?* Мсцібава Ваўк. *Цялуха будзя*

*мармітаць, а напоіш — перастаня дакучаць.* Парэчча Гродз. *Мухі дакучаюць.* Кудзялянцы Шальч.

ДАКУ′ЧЛІВЫ *прым.* Надакучлівы. *Малады, а дакучлівы: ныя і ныя.* Беразіно Докш. *Дакучлівы чалавек, а з хаты не выганіш.* Ухвала Круп. *Ён дужа дакучлівы.* Мішневічы Шум.

ДАКУ′ЧНА *прысл.* Дакучліва. *Дакучна, калі чалавек бяз дзела.* Кураполле Паст.

ДАКУ′ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і д а к у́ ч л і в ы. *Дакучная работа.* Ахрэмаўцы Брасл., Мярэцкія Глыб., Дакудава Лід., Рудня Астравітая Чэрв. *Дакучны ён, яго не любілі, а ён усё ходзіць і ходзіць.* Ёдлавічы Брасл. *Дакучно дзіця.* Крынкі Крын.

ДАКУ′ЧЫЦЬ *зак.* Тое, ж што і д а е́ с ц і II. *Дакучыць з дзецьмі.* Граўжышкі Ашм.

ДАЛАВА′ *прысл.* На зямлі, на падлозе. *Сядзіць далава.* Жодзішкі Смарг.

ДАЛАВА′Х *прысл.* Тое ж, што і д а л а в а́. *Далавах стаяла калода.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шпакі грушы далавах дзяўбуць і на дзераві дзяўбуць.* Лісна В.-Дзв. *Мальчонак ласкавы, слаўны, нашоў далавах дзесяць капеік.* Валынцы В.-Дзв. *Ліжаў далавах і захроп.* Кураполле Паст. *Сядзеў далавах.* Мярэцкія Глыб.

ДАЛАНЯ′, ДАЛЫНЯ′ *ж.* Далонь. *На далані пясок.* Груздава Паст. *Хлут загнаў у даланю.* Асавец Віл. *Даланю цэлую выразаўшы была, жнучы.* Ністанішкі Смарг. *Далыня баліць.* Гайна Лаг.

ДАЛАТО′ *н.* Долата. *Далатамі начоўкі даўбалі.* Рагулішкі Даўг. *Прастоя, кавальскай работы далато. Бальшоя далато насаджано на длугаю палку, вычашчаць пазы ў шулах, ушаках.* Гемзы Шальч. *Далатом можна дзяўпці.* Дзяніскавічы Ганц.

ДАЛБА′НКА *ж.* Вулей, зроблены з камля дуплістага дрэва. *Раньшэ дзелалі далбанку — калоду яловую і ліповую.* Шкаўна Лудз.

ДАЛБЛЁНЫЙ *дзеепрым.* Выдзеўбаны. *Быў жолап далблёный.* Лісна В.-Дзв.

ДАЛГІ′ *гл.* ДО′ЎГІ

ДАЛЕГА′ЦЬ *гл.* ДАЛЯГА′ЦЬ

ДА′ЛЕЙ, ДА′ЛЯЙ, ДА′ЛІЙ, ДА′ЛІ *прысл.* 1. У пэўным аддаленні ад якога-н. месца. *Мы жылі даляй каля лясоў.* Старыя Трокі Трак. *Зярнята ляцяць даляй, а мякіна бліжай.* Альхоўка Навагр. *Дуп адзін рос далій.* Граўжышкі Ашм. 2. Затым, потым. *Далей немец куры давай браць.* Цеплень Уздз. *Прывязаў застрэшваннікі, далей паркі — то ўсё капіш.* Рыгалоўка Ліпск. *А даляй я прышоў дамой.* Якшыцы Бярэз. ◇ *Далей-лепі, далі-горай. Што далі, то лепі ўчыцце.* Курашэва Чыж. *Што далі, то горай.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДАЛЕ'ЦІЦЬ *зак.* Хутка дабегчы. *Языкам зліжа* [сабака], *як да чаго далеціць.* Альхоўка Навагр.

ДАЛЁКА, ДАЛЁКО, ДАЛЕ'КО, ДАЛЯКО' *прысл.* На вялікай адлегласці. *Дачка вышаўшы замуш натта далёка. Пакаціўся мячык далёка.* Ністанішкі Смарг. *У нас лес далёка быў.* Грыкені Вільн. *Ай, далёка ей прыляцець.* Старыя Смільгіні Воран. *Калі далёка ад берда, дык атпускаем палатно.* Дзераўное Стаўб. *Натта далёка быў заехаўшы.* Альхоўка Навагр. *У Маскве асталіся дзеці, далёка егдзілі.* Вострава Маст. *Туды далёко.* Горск Бяроз. *Яна ў Магілёве далеко жыве.* Кузьмічы Люб. *Даляко гарэхі.* Старыя Трокі Трак.

ДАЛЁНЬ *гл.* ДАЛО'НЬ

ДАЛЖНІ'К *гл.* ДАЎЖНІ'К

ДАЛЖО'Н *прысл.* Павінен. *Жэ далжон ён жэніцца.* Старыя Трокі Трак. *Не далжон быць.* Паляцкішкі Воран.

ДА'ЛІ *гл.* ДА'ЛЕЙ

ДАЛІГА'ЦЬ *гл.* ДАЛЯГА'ЦЬ

ДА'ЛІЙ *гл.* ДА'ЛЕЙ

ДАЛІКАВІ'ТА *прысл.* Даволі далёка. *Далікавіта хадзіць.* Рыбчына Віл.

ДАЛІКА'ТНЕЙ *прысл.* Больш далікатна. *Казаць тата, мама далікатней, чым бацька, матка.* Паляцкішкі Воран.

ДАЛІКА'ТНЫ *прым.* 1. Ветлівы, паслужлівы. *Акуратная дзевачка, такая далікатная.* Солы Смарг. 2. Які патрабуе догляду. *Цялушка — самая далікатная скаціна.* Кураполле Паст. 3. Пераборлівы. *Далікатны да яды. Які зяць далікатны, ня есць.* Крэва Смарг.

ДАЛІКА'ТНЯ *прысл.* Тактоўна, ветліва. *Гавора хараша, далікатня.* Граўжышкі Ашм.

ДАЛІ'НА' *ж.* Даліна, раўніна. *Жывець на даліня.* Ністанішкі Смарг. *Мякаціна — па далінах, яна найбарджэй расце.* Дакудава Лід. *На даліне́ яе гарот.* Граўжышкі Ашм. *У даліне́, дзе балота, камароў многа.* Івашкаўцы Смарг. *Даліна́ ніская.* Старыя Трокі Трак. *Пагурак, а тады дол, даліна́.* Чычалі Швянч. *Гарысто место і даліна́.* Старыя Смільгіні Воран. *Там даліна́ лепша.* Альхоўка Навагр.

ДАЛО'Й *прысл.* Далоў, прэч. *Гэту скуру ад ліпы далой.* Гемзы Шальч.

ДАЛО'НЬ *ж.* і *м.*, ДАЛЁНЬ *м.* Тое ж, што і д а л а н я́. *Далонь свярбіць — грошы буду лічыць.* Ёдлавічы Брасл. *Старшага сына на вайну былі ўзяўшы, ранены быў у далонь.* Масішкі Красл. *Зрабіласо штось на далоні. Баліць мне далонь.* Баброўнікі Гарад. *Далонь баліць.* Міратычы Карэл., Вострава Маст. *Далонь той загаіўса.* Старое Сяло Зэльв. *Сала на далонь таўшчыні.* Гемзы Шальч. *Як плясну даланём!* Мсцібава Ваўк. *Ён далёням рас — і палачку залажыўшы.* Рагулішкі Даўг.

ДАЛО'Ў *прысл.* На зямлю, на падлогу. *Злізай далоў!* Ністанішкі Смарг.

ДАЛУЧЫ'ЦЦА *зак.* Далучыцца. *Пеўнік далучыўся да цыплят.* Беразіно Докш.

ДАЛЫНЯ' *гл.* ДАЛАНЯ'

ДАЛЬ *ж.* Далячынь. *Гэдака даль.* Альхоўцы Лях.

ДА'ЛЬША *прысл.* Далей. *Я хацела вучыцца дальша.* Грускава Нясв.; *параўн.* руск. *дальше* 'тж'.

ДА'ЛЬШЫ *прым.* Больш далёкі сваяк. *Траюрадныя — дальшыя, як пляменнікі.* Быстрыца Астр.

ДАЛЯВЫ' *прым.* Узараны ў даўжыню. *Далявая баразна. Асталося капаць пяць далявых баразён.* Лісна В.-Дзв.

ДАЛЯГА'ЦЬ I *незак.* Настойваць. *Кап ён не далягаў, не дзяжурыў бы.* Магуны Паст.; *параўн.* польск. *dolegać* 'непакоіць, турбаваць'.

ДАЛЯГА'ЦЬ II, ДАЛЕГА'ЦЬ, ДАЛІГА'ЦЬ *незак.* 1. Балець. *Мне трошка далягая, але можна жыць. Яна з трыцатага года, і ей нага далягала.* Гемзы Шальч. *Яму нага так далягая, што ён не можа хадзіць.* Кіралі Шчуч. *Ей штось далягае.* Пацаўшчына Дзятл. *Далігала яму ў грудзях.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Хварэць. *Стаў далегаць, далегаць і памёр.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *dolegać* 'тж'.

ДА'ЛЯЙ *гл.* ДА'ЛЕЙ

ДАЛЯКО' *гл.* ДАЛЁКА

ДАМАВІ'К *м.* У народных павер'ях — злы або добры дух, які жыве ў хаце. *Як у хаці сваруцца, кажуць: «Там дамавік завёўся».* Ахрэмаўцы Брасл. *Дамавік ня любя паўсці* [масці] *якой. Дамавік скаціну ганяя, кага палюбя, каню рашчэша грыву.* Рыбчына Віл.

ДАМАВІКІ' толькі *мн.* Самаробны хатні абутак. *Дамавікі — обуй, у хаці насілі: трэпы, пэпці.* Старыя Трокі Трак.

ДАМАКУ'РКА *ж.* Газоўка. *Гарэлі дамакуркі: дзеўкі сядзелі пат прасніцамі, а хто пёры скубаў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДАМАЛО'ТКІ толькі *мн:* Завяршэнне малацьбы. *Ну, сёня дамалоткі, дамалацілі жыта, аспадыня кручок воткі паставіць.* Кіралі Шчуч. *Дамалоткі былі.* Індра Красл. *Дамалоткі— як дакончылі малаціць.* Лука Нараўк. *Дамалоткі рабілі пасля дакопкаў, па калядах ужэ.* Баброўнікі Гарад.

ДАМАТУ'Р *м. іран.* Дамасед. *Даматур — хто дома сядзіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Даматур — нічога не зная, с-пат спадніцы выляс і пат печай вырас.* Жылі Іўеў.

ДАМАЎЁ *н.* Дамавіна. *Дамаўё зрабілі.* Саланое Віл.

ДАМАЎНІ'К *м.* 1. Тое ж, што і д а м а в і к. *Ніхто ні пушчая, будзя хаты пілнаваць дамаўнік.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і д а м а т у́ р. *Дамаўнік — той, хто сядзіць дома.* Малахоўцы Бар.

ДАМА'ШНІ *прым.* Хатні.∇*Дамашняга зладзія не ўпільнуіш.* Кураполле Паст.

ДАМІ'ШЧА *м. павел.* Вялікі дом. *У іх дамішчы многа пакояў.* Крэва Смарг.

ДАМО'К *м.* Вулей. *У дамкох пшчол дзяржу.* Івашкаўцы Смарг.

ДАМО'Ў *прысл.* 1. Дадому. *Ідзём дамоў! Дамоў іду.* Кураполле Паст., Саланое, Рыбчына Віл., Ністанішкі Смарг. *Вярніся скарэй дамоў.* Кухты Віл. *Можыць прысці дамоў.* Мярэцкія Глыб. 2. *перан.* На вечны спакой. *Што ні рабі, а прышла пара — сабірайся дамоў.* Кузьмічы Люб.

ДАМЯША'НЫ *дзеепрым.* Прымешаны. *Там мякіна дамяшана.* Грыкені Вільн.

ДАНКРА'Т *м.* Дамкрат. *Цяпер данкраты падымаюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДАНУ'ШКА *ж.* Накрыўка. *Данушка, што закрываць бойку.* Малькуны Ігн.

ДА'НЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і д а в а́ н ы. *Малака ей ужо дана, а кошка мяўкаіць. Карові травы дана.* Валынцы В.-Дзв. *Ужэ курам дано.* Мсцібава Ваўк. *Колькі там дано таго сала?!* Альхоўцы Лях.

ДАПАЗНА' *прысл.* Вельмі позна. *Мыя дапазна.* Лоск Валож.

ДАПА'ЛЮВАЦЦА *незак.* Дагараць. *Дровы дапалюяцца.* Паляцкішкі Воран.

ДАПАМАГЧЫ' *зак.* Аказаць дапамогу. Дзераўное Стаўб.

ДАПІЛЬНАВА'ЦЬ *зак.* Высачыць. *Дапільнавалі яго.* Вялікія Баяры Шчуч.

ДАПО'МНІЦЦА *зак.* Успомніць. *Нада ўсё дапомніцца.* Ёдлавічы Брасл.

ДАПРАВА'ДЗІЦЬ *зак.* Праводзіць. *Яго даправадзіла да дарогі.* Вострава Маст.

ДАПРА'ДАВАЦЬ *незак.* Заканчваць прасці. *Дапрадаваю кудзелю.* Мярэцкія Глыб.

ДАПРА'ДА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і д а п р а́ д а в а ц ь. *Буду дапрада́ць кудзелю. Дапрада́ю я.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Кудзелю дапра́дае. Як кудзелю дапра́даеш, то нідопрадкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ДАПРА'СЦІ, ДАПРА'СЦЬ *зак.* Скончыць прасці. *Дапрала кудзелю. Мажэ яна дапрасці?* Дзяніскавічы Ганц. *Нада дапрасць ніткі, кудзелю.* Ёдлавічы Брасл.

ДАПРА'ТКІ толькі *мн.* Заканчэнне прадзення. *Як дапрадаюць кудзелю, то дапраткі кажуць.* Альхоўка Навагр.

ДАПРА'ШАЦЬ *незак.* Дапытваць. *Яны мяне дапрашаяць.* Лоск Валож.

ДАПРА'ШЫВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і д а п р а́ ш а ц ь.

*Па аднаму маладзеш выклікалі і дапрашывалі, дзе той парань.* Кураполле Паст.

ДАПУСКА′ЦЬ *незак.* Папярэджваць. *Самадзельныя пялёнкі не дапускаюць вогніка.* Індра Красл.

ДАПУЦІ′ЦЬ *зак.* Здагадацца, зразумець. *Дапуцілі, што нас пасылаюць на ліквідацыю банд.* Беразіно Докш.

ДАПЫТА′ЦЬ *зак.* Спытаць. *Дапыталі людзей, дзе жыве сястра.* Дакудава Лід.

ДАР *м.* 1. Падарунак маладым. *Молодым дары прынэслі.* Курашэва Чыж. 2. Здольнасць, талент. *І дась чалавеку такі дар!* Гемзы Шальч.

ДАРАБІ′ЦЬ *зак.* Надбудаваць. *Быў адзін эташ, а цяпер дарабілі яшчэ эташ.* Крэва Смарг.

ДАРАВА′ЦЬ *зак.* і *незак.* 1. Зняць віну, дараваць. *Свае яму ні даруюць: давёў дзяўчыну да такога.* Магуны Паст. *Яна яму даравала.* Крэва Смарг. *Гэта ён не даруе.* Гемзы Шальч. *Ужо даруям вам, вы тут нядаўна.* Жодзішкі Смарг. 2. Аддаць. *Выняла дакумянты ды даравала яму.* Альхоўцы Лях. 3. Дарыць. *Даруюць маладую.* Старыя Трокі Трак. *Бывала, мушчынам даравалі паясы.* Ракаўскія Швянч. ∇*Іду цібе даравaць усе рэчы ат печы і каромыслы на плечы.* Масішкі Красл.

ДАРАГАВІ′ЗНА *ж.* Дарагоўля. *Дарагавізна на свіней.* Ёдлавічы Брасл.

ДАРАГЕ′НЬКІ, ДАРАГО′НЬКІ *наз.* Даражэнькі (пры звароце). *Знахар атказваў: «Уся вада, дарагенька, свянцона». А я яе выліла.* Дзямянаўцы Шчуч. *Дарагенька, ну што табе яшчэ сказаць?* Галубы Маст. *Мая дарагонькая, куды ідзеш?* Солы Смарг. *Хто стараецца, той і маіць, мае вы дарагонькія.* Саланое Віл.

ДАРАГІ′-ПРАДАРАГІ′ *прым.* Вельмі дарагі. *Былі дарагія-прадарагія кнігі.* Саланое Віл.

ДАРАГО′ *гл.* ДО′РАГА

ДАРАГО′ЎЛЯ *ж.* Тое ж, што і д а р а г а в і з н а. *Была дарагоўля, а нада каптурак пашыць, і ня ўмела.* Саланое Віл. *Дарагоўля была на ўсё.* Мярэцкія Глыб., Ністанішкі Смарг. *Дарагоўля такая.* Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар.

ДАРАГУ′ХА *ж.* Дарагая (пры звароце). *Так вот, дарагуха, нізамагла.* Дакудава Лід.

ДАРА′ДЗІЦЬ, ДОРА′ДІТІ *зак.* 1. Парадзіць. *Нічога не дарадзіць.* Кемялішкі Астр. *Сам нічога ні дарадзіць, ён хітры.* Саланое Віл. *Тут ужэ дарадзілі жэншчыны семям паліць, семям парыць ґузку.* Калядзічы Ваўк. *Вуон мніе добрэ дорадів.* Курашэва Чыж. 2. Управіцца. *Адзін нічога не дарадзіш.* Кемялішкі Астр.

ДАРАЖЫНЯ′ *ж.* Тое ж, што і д а р а г а в і з н а. *Такая даражыня.* Рыбчына Віл.

ДАРАЖЫ'ЦЬ *незак.* Любіць, берагчы. *Яна крэпка дзецьмі даражыла. Яны ш ей крэпка даражылі.* Саланое Віл.

ДАРАЗУМЕ'НЯ *н.* Узаемаразуменне. *Даразуменя ня вышла.* Ёдлавічы Брасл.

ДАРАЗУМЕ'ЦЬ *зак.* Зразумець. *Я трохі не даразумела.* Кухты Віл.

ДАРА'ЦЬ *незак.* 1. Быць падобным. *Цапля дараіць да бацяна.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я дарала да бацькі, ён мяне любіў: даў зямлі больш.* Мярэцкія Глыб. *Лунь дараіць да каршуна, днем сядзіць.* Кураполле Паст. 2. Быць вартым. *Куды дараіць гаварыць на нявестак, яны ш твае дзеці. Кап я гэдак пашла ў магазін, сказалі п, куды дараіць твая сукенка.* Кураполле Паст. 3. Быць нявартым. *Нам ні нада абіжацца, калі мы не дараім сядзець на куці.* Кураполле Паст. 4. Быць абыякавым. *Табе ўсё дараіць: і плахоя слова скажыш, а ўсё сходзіць.* Кураполле Паст. 5. Быць непадыходзячым (пра месца). *Не дарала ім дзе нясціся.* Кураполле Паст. 6. Падыходзіць (у сумесі) да яды. *Агурок са сміпанай дараіць.* Кураполле Паст. 7. Ісці добра (пра справы). *Вясной як пасадзіш — дараіць, увосень як уберыш — дараіць.* Кураполле Паст. 8. Набліжацца. *Як конь дараіць да здоху, кажуць, скора пойдзіць у гарбарню.* Кіралі Шчуч. 9. Падыходзіць па ўзросту. *Ён малады, куды ён мне дараіць.* Кураполле Паст. 10. Падыходзіць, быць прыдатным. *Гэты значок не дараіць да такога пінжака.* Ёдлавічы Брасл.

ДАРАШАВА'ТЫ *прым.* Дэраш. *Дарашаваты конь, як красны, ды белыя валасы.* Пацаўшчына Дзятл.

ДАРДЫГА'НАМ *прысл.* Дагары. *Паляцеў дардыганам.* Крынкі Крын.

ДА'РМА', ДА'РМЯ *прысл.* 1. Дарам, без аплаты. *Хто там да́рма даець?!* Ёдлавічы Брасл. *Ксёндз і раней і цяпер ні хаваў дарма́.* Ракаўскія Швянч. *Хлеп дармя не даюць: усюды трэба працаваць.* Солы Смарг. ∇ *Дарма і воўк казе не скачыць.* Лісна В.-Дзв. *Дарма і каза прас плот ні скача.* Граўжышкі Ашм. 2. у знач. *вык.* Дарэмна, упустую. *Развя я дарма прышла?* Крэва Смарг. *Схадзіў дарма, яго дома не было.* Ёдлавічы Брасл. *Ня ведаю, дарма гаворыць.* Граўжышкі Ашм. 3. у знач. *часц.* Хай, нічога. *Дарма, я ні ўмарылася.* Рудня Чэрв. 4. Даволі вялікі. *А яна ўжэ дарма стала.* Багушэвічы Бярэз. *Іх дарма зупкі.* Лапічы Асіп. 5. Добра, нядрэнна. *Жылося цяшка, цяпер ужо дарма!* Якшыцы Бярэз. 6. Добра, у парадку. *Дома там дарма?* Валынцы В.-Дзв. 7. Якраз. *Надзела жакетку і дарма.* Вецярэвічы Пух.

ДАРМАВЕ'С *м.* Застрэшак. Вялікія Баяры Шчуч.

ДАРМАВЫ', ДАРМО'ВЫ *прым.* 1. Вельмі танны. *Скуркі вожыка дармавыя.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Бясплатны. *Дармавой водачкі напіўся, бабачка, ні крычы.* Крэва Смарг. *Дармо-*

*вы хлеп.* Вялікія Баяры Шчуч. *Адзёжа дармовая.* Паляцкішкі Воран.

ДАРМАЕ'Д, ДАРМАЕ'Т, ДАРМОЕ'Д *м. экспр.* Той, хто жыве за чужы кошт. *Як можна, не пагналі кароў пасвіць, дармаеды вы! Дармает ты, валяч!* Стральцы Гродз. *Нашто в дому дармоеда годоваті.* Курашэва Чыж.

ДАРМАЗ'Я'ДА *м.* і *ж.* Тое ж, што і д а р м а е́ д. *Дармаз'яда ты!* Граўжышкі Ашм. *Дармаз'яда гэтыя пятушкі.* Гемзы Шальч. *Трудні* [трутні] — *гэто дармаз'яды.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *darmozjad* 'тж'.

ДАРМО'М *прысл.* Тое ж, што і д а́ р м а 1. *Ён дармом хоча браць.* Кіралі Шчуч.

ДА'РМЯ *гл.* ДА'РМА'

ДАРНЯ'ЦЬ, ДАРЫНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Аддзяляць валакно ад кастрыцы. *Церніца ламая і дарняя.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Скрэбці, чысціць. *Трэба кішкі дарыняць. Трэба рыбу дарыняць. Дарыняю рыбу.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *darinėti* 'патрашыць'.

ДАРО'БАК *м.* Прылада з лубу ў форме высокага рэшата, на якую звівалі ніткі. *Былі даробкі, звівалі ніткі.* Саланое Віл. *На даробак ніткі наматывалі прас юрок.* Ухвала Круп. *Даробкі дзелаліся з кары, з лазовай, ліпавай, на даробкі мыталі пряжы, даробак на руку надзіваеш і мытаеш.* Мішневічы Шум.

ДАРО'БІЦЬ *зак.* Зрабіць. *Пайдзем к сталяром, к слясаром і даробім да каморы ключы.* Пузыры Мядз.

ДАРО'БКА, ДАРО'ПКА *ж.* Тое ж, што і д а р о́ б а к. *Даропка — з рэшатаў благіх рабілі, сшывалі дзве-тры, дзе стачавана — трапкай апшывалі, кап не чапаліся ніткі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДАРО'ГА *ж.* 1. Дарога. *Дарога харошая, паехаў як па стане.* Ёдлавічы Брасл. 2. Сцежка. *Свіні дарогі парабіўшы.* Рагулішкі Даўг.

ДАРО'ЖАЦЬ *незак.* Даражэць. *Дарожаць парасята не будуць.* Вострава Маст.

ДАРО'ЖКА, ДАРО'ШКА *ж.* 1. *памянш.* да д а р о́ г а. *Дарошка да школы ідзе.* Кіралі Шчуч. 2. у знач. *прысл. даро́шкай.* Па дарожцы. *Перашла дарошкай поля.* Паляцкішкі Воран.

ДАРО'ЖНІК *м. бат.* Спарыш. *Дарожнік па да́розе ўецца.* Кіралі Шчуч.

ДАРО'ПКА *гл.* ДАРО'БКА

ДАРО'СЛЫ *прым.* Сталы. *Я дарослы быў.* Латыгаль Віл.

ДАРО'ЎВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і д а р а в а́ ц ь 1. *Матка на судзе дароўвала сыном.* Граўжышкі Ашм.

ДАРО'ШКА *гл.* ДАРО'ЖКА

ДАРО'ШШЫ *прым. выш.* Даражэйшы. *Дарошшы быў*

*хлеп. Гэты дарошшы.* Паляцкішкі Воран. *Дарошшы купіла сведар.* Вострава Маст. *Гэта ўсё самы дарошшы сорт рыбы.* Альхоўка Навагр. *Дарошша за грошы.* Дзяніскавічы Ганц.

ДАРЫНЯ'ЦЬ *гл.* ДАРНЯ'ЦЬ

ДАРЫ'ЦЬ, ДАРЫ'ЦІ *незак.* Тое ж, што і д а р а в а́ ц ь 3. *Маладым дарылі палатном на кашулі, родныя дарылі цэлы свой.* Дакудава Лід. *Дорацъ хто чым.* Паляцкішкі Воран. *Молодую всіе вэсіельнікі дарылі.* Курашэва Чыж.

ДАРЭ'КТАР, ДЗІРЭ'КТАР, ДЗЯРЭ'КТАР, ДЫРЭ'КТОР *м.* Дырэктар. *Ён жа цяпер дарэктарам.* Ляхавічы Навагр. *Ён дзірэктарам работаіць.* Груздава Паст. *Ён быў дзірэктарам.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён за дзярэктара ў школе.* Лісна В.-Дзв. *Буле прыслале іі дырэктором.* Дзмітравічы Кам.

ДАРЭ'МНА, ДАРЭ'МНЕ, ДАРЭ'МНО, ДАРЭ'МНЯ *прысл.* Тое ж, што і д а́ р м а́ 2. *Схадзіў у магазін дарэмна, нічога не купіў.* Кіралі Шчуч. *Дарэмне схадзіла. Прыцягнула дзіця дарэмне гэдакай жарой.* Альхоўцы Лях. *Дарэмно ты ходіш.* Курашэва Чыж. *Дарэмня з'ездзіў.* Старыя Смільгіні Воран.

ДАРЭ'ЧНЫ *прым.* Добры. *Дарэчных сабралі арэхаў.* Альхоўка Навагр.

ДАРЭ'ЧЫ *прысл.* У патрэбны час, якраз. *Зварыла дарэчы бульбу.* Альхоўка Навагр.

ДАСА'ДА *ж.* Прыкрасць, непрыемнасць. *З дасады распілась матка.* Жыдзевічы Іўеў. *І людзі што не ведаюць, якая дасада, якая пячаль.* Вецярэвічы Пух.

ДАСАЧЫ'ЦЬ *зак.* Высачыць. *Дасачыла курыцу.* Быстрыца Астр. *Дасачыць трэба, паўзірацца, дзе кура нясецца.* Каўняны Гродз.

ДАСЕ'ЎКІ толькі *мн.* Заканчэнне сяўбы. *Як усе пасее — гето дасеўкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ДАСКА' *гл.* ДО'СКА

ДАСКРЫПЕ'ЦЬ *зак. перан.* Дажыць, дабыць. *Стары даскрыпеў да дзевяноста гадоў.* Кіралі Шчуч. *Як-нібуць даскрыпаю да вечара.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *skrebėti* 'цяжка ісці'.

ДАСМА'КУ *прысл.* Са смакам. *Ежа добрая, наемся дасмаку.* Кураполле Паст. *Дасмаку з'ела два кусочкі рыбы. Дасмаку паглытала.* Груздава Паст.

ДАСМО'ТРУВАЦЬ *незак.* Даглядаць. *Як вас, цёцю, хто дасмотруя?* Кудзялянцы Шальч.

ДАСПА'ЦЬ *зак.* Праспаць пэўны час, каб выспацца. *Я той ночкі не даспала.* Кухты Віл.

ДАСПЕ'ЦЬ *зак.* Стаць спелым. *Даспела жыта — пара жаць.* Старыя Смільгіні Воран.

ДАСПЯВА'ЦЬ *незак.* Станавіцца спелым. *Ужо жыта даспявая.* Ліпнікі Вільн.

ДАСТАВА'ЦЬ *незак.* 1. Выбіраць, вычэрпваць кроў (з за-

колатага парсюка). Новыя Мацалі Варэн. 2. Выкопваць. *Відзьмядзі даставалі людзей* [з магілы]. Саланое Віл. 3. Атрымліваць. *Я дастаю дваццаць рублей пенсіі.* Мсцібава Ваўк. *Мой бацька на пуці работаў, пенсію даставаў.* Парэчча Гродз.

ДАСТА'ТАК *м.* Заможнасць, матэрыяльная забяспечанасць. *Яны ў дастатку жывуць.* Валынцы В.-Дзв.

ДАСТА'ЦЦА *зак.* 1. Атрымаць пры размеркаванні. *Ім даесталася доля лепшая, добрая.* Валынцы В.-Дзв. 2. Дабрацца, натрапіць. *Рады, што дасталіся да вады, чыста вада і напіліся.* Альхоўцы Лях.

ДАСТА'ЦЬ *зак.* 1. Выняць, выцягнуць. *Дастаў ваду. Ужо з печы ядзэня дастала.* Ністанішкі Смарг. *Стасюк дастаў мёду* [з вулля]. Стральцы Шальч. *На лазоўцы — гэта такая канюшына бальшая — цвяты такія, што пшчолы мёду не могуць дастаць.* Швэды Вільн. *Трэба, кап карані дасталі гліну.* Чычалі Швянч. *З ямы картоплі дасталі.* Старое Сяло Зэльв. 2. Атрымаць, узяць што-н. *У яе не дастаніш сярот зімы кусок лёду, яна скупая.* Лісна В.-Дзв., Груздава Паст. *Чаго хацеў, таго і дастаў.* Крэва Смарг. 3. Атрымаць удар. *Дастаў* [каменем] *у брыво.* Сакаляны Сакол. 4. Купіць. *Дасталі гарэлкі на тры рублі.* Стральцы Шальч. *«Што Фэля дастала? — Радзікуль, капу».* Мсцібава Ваўк. 5. Атрымаць, зарабіць грошы. *Слесарам у дзіпе робіць, дастаў пяцсот рублёў жалавання.* Мсцібава Ваўк. 6. Атрымаць спадчыну. *Яны дасталі спаткаў у Амерыцы.* Крэва Смарг. *Бывала, капейку якую дастанеш і хлеба купіш.* Канюкай Вільн. *На сібе дом дастаў.* Кудзялянцы Шальч. 7. Заразіцца. *Яна дастала ў акопе тыфусу брушнога.* Солы Смарг. 8. Нажыць хваробу. *Немцы памучылі, дастаў разжыжэння сэрца.* Старыя Трокі Трак. *Дзень і ноч ехаў канём і дастаў бронхіт.* Малькуны Ігн. *Яна памяшаня дастала.* Гемзы Шальч. *Я задышку дастала.* Бакшты Іўеў. *Кілу дастанеш, плух трымаючы.* Паляцкішкі Воран. 9. Быць пакараным. *Дастаніш па пуцках* [па твары]. Граўжышкі Ашм. *Чапялы дастаняш!* Жылі Іўеў. *Дастаў па ядзэнні* [па зубах]. Лоск Валож. *Калісці, еслі перат старшым чалавекам не сніміш шапкі, то назаўтра ў школе дастанеш ад настаўніка.* Мсцібава Ваўк. 10. Атрымаць ацэнку. *Я точна расказала, і яна пяцёрку дастала за экзамен.* Крэва Смарг. ∇ *Дастаць лёду сярод зімы* [у каго-н.] — пра вельмі скупога чалавека. *У яго ні дастаніш лёду сярод зімы.* Лісна В.-Дзв. *Бяжыць гася-расцягася, як устане, дык і неба дастане* — дарога. Ухвала Круп.

ДАСТО'ЙНЫ *прым.* Варты павагі. *Быў ладны, дастойны хлопец.* Гемзы Шальч. *Яны — дастойныя людзі.* Малькуны Ігн.

ДАСТУПІ'ЦЦА *зак.* Падступіцца. *Дзе можна дступіцца, спусклівая мейсца, там мылі бялізну.* Ракаўскія Швянч.

ДАСТУ'ПНА *прысл.* Мець магчымасць. *Пану было даступна вучыць сваіх дзяцей.* Валынцы В.-Дзв.

ДАСУ'ЖЫ *прым.* Упарты, настойлівы. *Як ты такі дасужы, то будзеш мець вочы ззаду.* Старыя Смільгіні Воран.

ДАСЦІ'ПНЫ *прым.* Бойкі, кемны. *Мой кавалер быў велькі, а я была маленькая, але хоць і была малая, але дасціпная.* Мельканавічы Сл.

ДАСЫПА'ЦЬ *незак.* Дабаўляць. *І багаты, і бедны мякіну ў хлеп дасыпалі.* Латыгаль Віл.

ДАСЫ'ТА *прысл.* Удосталь, уволю. *Пад'еў дасыта.* Старыя Трокі Трак. *Дасыта далі пакушаць, а яму пашкодзіла.* Новікі Гродз.

ДАСЭ'ЧКА *ж. памянш.* да д о ш к а. *Дасэчка, дзе рэжуць сала.* Навікі Лудз.

ДАТАЧЫ'ЦЦА *зак.* Дакрануцца. *Баляць рукі — не датачуся.* Пацаўшчына Дзятл.

ДАТКНУ'ЦЦА, ДАТЫКНУ'ЦЦА, ДАТХНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і д а т а ч ы́ ц ц а. *Так баліць, не можна даткнуцца.* Гемзы Шальч., Кіралі Шчуч. *Ні датыкніся да яе — адразу ў слёзы.* Беразіно Докш. *Халодная ручка, не датхнуцца.* Чычалі Швянч.

ДАТРЫВА'ЦЬ *зак.* Вытрываць. *Жарка, не датрывае.* Гемзы Шальч. *Ні магла датрываць, так было холадна мне ў ногі.* Малахоўцы Бар.

ДАТУЛІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і д а т а ч ы́ ц ц а. *Паліц баліць, не магу датуліцца.* Малькуны Ігн.

ДАТУ'ЛЬ *прысл.* Да таго часу. *Пакуль я ні паем, ні пайду датуль.* Асавец Віл.∇ *Датуль маці я, пакуль за ручку вяду.* Солы Смарг.

ДАТУ'МКАЦЦА *зак. экспр.* Дадумацца. *Як ён датумкаўся, што і матку ў хату не пусціў.* Валынцы В.-Дзв.

ДАТХНУ'ЦЦА *гл.* ДАТКНУ'ЦЦА

ДАТЫКА'ЛЬНІК *м.* Кавалак палатна з канцамі асновы, які застаецца пасля заканчэння ткання. Рыбчына Віл. *Як канчаюць ткаць — датыкальнік.* Мачаск Бярэз.

ДАТЫКА'ЦЬ *незак.* Заканчваць тканне красён. *Я ш тку белы кужаль, да канца датыкаю.* Крэва Смарг.

ДАТЫ'КІ толькі *мн.* Заканчэнне ткання красён. *Калі кончылі ткаць, кажуць датыкі.* Вострава Маст. ∇ *Кап ні затыкі і ні датыкі, то і жаба ткала п.* Вострава Маст.

ДАТЫ'КІЧЫ *мн.* Прыстасаванне з палак, якое служыць для ўмацавання асновы пры завяршэнні ткання. *Датыкічы — дзве палкі ўдоўш і дзве папярок, яны высоўваліся, як датыкаліся кросна на іх.* Вялікія Баяры Шчуч.

ДАТЫКНУ'ЦЦА *гл.* ДАТКНУ'ЦЦА

ДАЎБА'НЫ *прым.* Тое ж, што і д а л б л ё н ы й. *Даўбаны кадаўпчык.* Малахоўцы Бар.

ДАЎБА'ТЫ *прым. пагард.* Дурнаваты, тупы. *Даўбаты — каторы плохо вучыцца.* Альхоўцы Лях.

ДАЎБА'ЦЬ, ДАЎБІ'ЦЬ *незак.* 1. Выдзёўбваць адтуліну. *Даўбаў дзюры ў калоццы.* Гемзы Шальч. 2. Вырабляць што-н. выдзёўбваннем. *Карыта збіваюць з досак або даўбуць.* Вострава Маст. *З альхі даўбалі кадаўб.* Пасека Ст.-Дар. *Апалонік даўбалі.* Парэчча Гродз. *Улі для пчол даўбілі.* Судэрва Вільн.

ДАЎБЕ'ЛЬ *м. лаянк.* Пра тупога чалавека. *Даўбель ты!* Каўняны Гродз.; *параўн.* літ. *daũbas* 'тупы, недаразвіты'.

ДАЎБЕ'НКА *ж.* Даўбешка. *Даўбенкай білі па кліну.* Дакудава Лід.

ДАЎБЕ'ШКА *ж.* Тое ж, што і д а ў б е́ н к а. *Бярэзіну апчашу, дзе ў руках дзяржаць, а тут круглая, грубая, гэтай грубай даўбешкай заганяю сякеру, што лезла ў дрэва.* Гемзы Шальч. *Даўбешкай абівалі лён.* Канюкай Вільн. *Даўбешка — што дровы разбіваць* Івашкаўцы. Смарг. *Цёрлі мак даўбешкай бярозавай.* Солы Смарг. *Свіней колісь білі даўбешкамі, а цяпер рэжуць.* Азяраны Раг.

ДАЎБЁНКА, ДАЎБЯ'НКА *ж.* Посуд, выдзеўбаны з суцэльнага кавалка дрэва. *Даўбёнка — выдаўбаная з дрэва.* Жодзішкі Смарг. *Даўбянка ёсць у мяне, з дрэва выдаўбляна.* Магуны Паст.

ДАЎБІ'ЦЬ *гл.* ДАЎБА'ЦЬ

ДАЎБНЯ' *ж.* 1. Доўбня. *Даўбню робяць так: ад бярозы адрэзаў калодачку, ад чачоткі крэпкай, бальшым тэблям дзюру раблю ў сярэдзіне навылят, тады ачэшваю калочак, туга заганяю ў дзюру, ён вылязая на другі бок, я заклінuю, каб не вырвала чаранко.* Гемзы Шальч. *Даўбня бывае бярозавая, чачотлівая.* Мачаск Бярэз. 2. *лаянк.* Тое ж, што і д а ў б е́ л ь. *Даўбня ты!* Магуны Паст.

ДАЎБСЦІ', ДАЎПСЦІ' *незак.* Тое ж, што і д а ў б а́ ц ь. *Буду даўпсці дырку. Даўбе долатам у слоне дырку, кап ношку ўставіць.* Баброўнікі Гарад.

ДАЎБЯ'НІК *м.* Вулей, выдзеўбаны з камля дрэва. *Даўбянікі стаяшчыя і ляжашчыя на баку.* Быстрыца Астр.

ДАЎБЯ'НКА *гл.* ДАЎБЁНКА

ДАЎГАЛІ'ЦЫ *прым.* Даўгатвары. *Натта даўгаліцы.* Мярэцкія Глыб.

ДАЎГАЛЫ'ГІ *прым.* Даўганогі. *Даўгалыгія пятушкі.* Гемзы Шальч.

ДАЎГАЛЫ'ТЫ *прым.* На доўгай ножцы (грыб). *Ёсць белякі даўгалытыя, пад нізам чорныя, тых не ядуць.* Мярэцкія Глыб.

ДАЎГА'Р *м.* Вугор. *Міногі пахожы на даўгара.* Быстрыца Астр.

ДАЎГІ' *гл.* ДО'ЎГІ

ДАЎГУНЫ′ *мн. буд.* Латы. *Паплёт секлі тоненькі, паплёцінай прывязавалі салому да даўгуной.* Лісна В.-Дзв.

ДАЎЖА′ *ж.* Вузкая прадаўгаватая дошка, якой закрываюць адтуліну ў калодачным вуллі. *Даўжа закрывала ўваход у стаяк.* Лісна В.-Дзв.

ДАЎЖНЕ′ЙШЫ *прым.* Даўжэйшы. *Яечка стрынаткі даўжнейшая, чым у жаўранка.* Вязынка Віл.

ДАЎЖНІ′К, ДАЛЖНІ′К, ДО′ЎЖНІК *м.* 1. Доўгае бервяно, якое кладуць на сохі ў гаспадарчым будынку. *Даўжнік — бервяно суцэльная, доўгая. Трэба выбраць даўжнікі.* Гемзы Шальч. *Даўжнік на сохі клалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Весь дах на далжніку дзержыцца. Далжнік на шулы лажылі.* Лайпушкі Ігн. *Чапёлы дзержаць далжнік, на далжнік вешаяць крохлы ў хаця.* Ракаўскія Швянч. 2. Тое ж, што і д а ў ж а́. *Даўжнік — дошчачка, якой зачыняюць вулей збоку.* Быстрыца Астр. *Даўжнікі закладалі ў калодзя, даўжнікоў была два — доўгі і карачшы.* Бакшты Іўеў. *Доўжнік, а вышай — вока, куды пчолы лазяць.* Вецярэвічы Пух.

ДАЎЖНО′Я БЯРНО′ *н.* Тое ж, што і д а ў ж н і к 1. *Цяпер паложым даўжноя бярно.* Мярэцкія Глыб.

ДАЎЖНЫ′ *прым.* Падоўжны. *Барозны бульбы даўжныя і папярэчныя.* Мярэцкія Глыб.

ДАЎЖЫНЯ′ *ж.* Даўжыня. *Ля свірна прыклетак з дошчак, даўжыні, як свірань.* Груздава Паст. *Такая даўжыня, такі кавалак!* Кіралі Шчуч.

ДАЎЖЭ′РАЗНЫ *прым.* Даўжэзны. *Ногі даўжэразны.* Альхоўцы Лях.

ДА′ЎКІ′ *прым.* Які перасядае ў горле. *Сыр біс масла будзіць да́ўкі. Грушы да́ўкія.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як устынуць, натта да́ўкія гарохавыя блінцэ, ні праглоціш, сухія.* Кіралі Шчуч. *Дзічкі раслі, да́ўкія, зёрнушкі сеялі і ўшчаплялі.* Пацаўшчына Дзятл. *Даўкі яблык, няможна есці.* Магуны Паст.

ДА′ЎНА, ДАЎНО′ *прысл.* 1. Даўно. *Даўна гэта было. Сяджу даўна.* Груздава Паст. *Даўна прыехала з Даўгынава.* Саланое Віл. *Даўна гэта было.* Асавец Віл. *Сістра памёрла даўна ўжо.* Лайпушкі Ігн. *Ён даўна ўжо памёршы. Роднага брата даўна ня відзяўшы.* Ністанішкі Смарг. *Цялёнка даўна прадаць трэба.* Ракаўскія Швянч. *Даўна не прыходзілі дзеці.* Бакшты Іўеў. *Даўно хацеў узяць яе.* Кемялішкі Астр. *Гэта даўно было, як пралі.* Кіралі Шчуч. *Каровы пагнаны даўно.* Паляцкішкі Воран. *Бацька даўно памёр.* Гемзы Шальч. *Жыву даўно, даўно, як уздумаю!* Ракаўскія. Швянч. *Ён прыяжджаў не натта даўно, ужо былі бульбу пасадзіўшы.* Альхоўка Навагр. 2. Здаўна, спрадвеку. *Даўна свіней у хаця кармілі, карыта стаяла лі парога. Басні бавілі даўна.* Саланое Віл. *Даўна было гэта, даўна, спрадвеку.* Малькуны Ігн. *Даўно былі дзеравяныя міскі.* Вецярэвічы Пух.

ДА′ЎНА-ПРАДА′ЎНА *прысл.* Вельмі даўно. *Даўна-прадаўна была ў Паставах.* Груздава Паст.

ДА′ЎНАСЦЬ *ж.* Старадаўнасць. *Шчэ гэто даўнасць.* Альхоўцы Лях.

ДА′ЎНАТА-ПРЫДА′ЎНАТА *прысл.* Тое ж, што і д а́ ў н а-п р а д а́ ў н а. *Даўната-прыдаўната было, што дуплё гэта было.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ДАЎНЕ′Й *прысл.* 1. Некалі, у далёкім мінулым. *Даўней ягат многа было. Даўней сем'і бальшыі былі. На кані даўней ездзілі, і то ногі ламалі.* Лісна В.-Дзв. *Даўней дзяржалі боляй мёт у дзеравяных бочках з двума днамі; мёт сцукруецца.* Груздава Паст. *Даўней бароны былі дзераўляныя.* Малькуны Ігн. *Тэраз і даўней. Даўней сякерай зарублівалі ўглы.* Грыкені Вільн. 2. Раней, не цяпер. *Даўней трэба было біць* [дзяцей]. Кемялішкі Астр.

ДАЎНЕ′ЙШЫ *прым.* 1. *выш.* да д а́ ў н і. *Красівыя былі даўнейшыя песні.* Мярэцкія Глыб. *Дзесянціна — мера даўнейшая.* Швэды Вільн. 2. Які мае многа гадоў. *Яна даўнейшая баба, старэй нас.* Магуны Паст. *Даўнейшы старыке ўсё папросту.* Навадворцы Васільк. 3. у знач. *наз. даўне́йшае, даўня́шня, даўнёшняя н.* Мінулае, старадаўнасць. *Стары чалавек многа помніць даўнейшага.* Ёдлавічы Брасл. *Што вам ведаць даўнейша?* Лешня Кап. *Што казаць пра даўнёшняя?* Ракаўскія Швянч.

ДА′ЎНЕ′ШНІ, ДА′ЎНІШНІ, ДАЎНЯ′ШНІ *прым.* Тое ж, што і д а ў н е́ й ш ы 1. *Да́ўнешня песня.* Навасёлкі Свісл. *Спявае даўне́шні песні.* Вялікія Баяры Шчуч. *Даўне́шня песня.* Альхоўцы Лях. *Гэта да́ўнішня палатно.* Рыбчына Віл. *Цыбуля — даўнішняе старыннае слова.* Мельнікі Лудз. *Шчэ даўняшняга чаю было.* Кіралі Шчуч. *Даўняшня ўсё яшчэ помню.* Жылі Іўеў.

ДАЎНЁШНЫ-РАЗДАЎНЁШНЫ *прым.* Вельмі даўні. *Гэта даўнёшная-раздаўнёшная песня.* Чычалі Швянч.

ДА′ЎНІ *прым.* Старадаўні. *Засценак Швэды з даўніх час.* Швэды Вільн.

ДАЎНІНА′ *ж.* Старадаўнасць, даўнейшае. *Даўніна прыпамінаіцца.* Мярэцкія Глыб. *Усе яшчэ даўніна вядзецца.* Рыбчына Віл. *Ткалі палатно, зрэб'я — усё даўніна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Што даўніна робіць?* Альхоўка Навагр. *У даўніне вайска па гарадах жылі.* Дзераўное Стаўб.

ДА′ЎНІШНІ *гл.* ДА′ЎНЕ′ШНІ

ДАЎНО′ *гл.* ДА′ЎНА

ДА′ЎНЫ-ПРАДА′ЎНЫ *прым.* Тое ж, што і д а ў н ё ш н ы-р а з д а ў н ё ш н ы. *Даўныя-прадаўныя дзеньгі.* Саланое Віл.

ДАЎНЯ′ШНІ *гл.* ДА′ЎНЕ′ШНІ

ДАЎПСЦІ′ *гл.* ДАЎБСЦІ′

ДАЎЧА'СУ *прысл.* Своечасова. *Глядзіця, хлопцы, даўчасу!* Ракаўскія Швянч.

ДАФАКТО'ВЫ *прым.* Раздураны, шкодны. *Дафактовы народ, гэтыя дзеці: неакуратны, усё шкодзя, моцна гаварыць.* Гемзы Шальч.

ДАХ I *м.* Страха. *Дах даўней крылі саломай, у нас дах апкрыты шыфярам.* Ёдлавічы Брасл. *Пад адным дахам усё зроблена, увесь будынак.* Малькуны Ігн. *Дах крылі саломай.* Старыя Трокі Трак. *На крохвы кладуць ґрабясты дах, а на дах — салому.* Грыкені Вільн.

ДАХ II *выкл.* Бах. *Цецераў махнуў крыламі, кап ляцець, але я дах! — выстраліў.* Журыхі Віл.

ДАХАВА'ЦЬ *зак.* 1. Дагледзець. *Ён дахаваў да смерці* [бацькоў]. Граўжышкі Ашм. *Бацьку дахавала да смерці.* Саланое Віл. *За маё дабро і чужы дахавая да смерці.* Кудзялянцы Шальч. 2. Пракарміць. *Кап сваю карову дахаваць!* Лоск Валож.

ДАХАДЖА'ЛЫ *прым.* Слабы, кволы. *Дахаджалыя мужчыны былі. Каторы дахаджалы галуб, таго вазьмець котка.* Саланое Віл.

ДАХАДЗІ'ЦЦА *незак.* Даводзіцца кім-н. каму-н. *Мы дахадзіліся срослва, і нада была разрашэнія ў кансістэрыі* [на вянчанне]. Філіпаўцы Красл.

ДАХА'ТЫ, ДАХА'Т *прысл.* Дадому. *Забрала курэй дахаты.* Лісна В.-Дзв. *Тут быў Гядровіч, дваццаць гадоў боты насіў, толькі ў касцеля пабудзя ў ботах, скіня боты, ідзе дахаты.* Жылі Іўеў. *Салунька, ідзі дахаты, у цябе дзеці!* Рагулішкі Даўг. *Ішла дахаты.* Ністанішкі Смарг. *Прышла яна дахаты.* Талейкі Швянч. *Будзя занатта позна дахаты ехаць.* Гемзы Шальч. *Прыехаў дахаты з пустым возам.* Кіралі Шчуч. *Ідзі дахаты, чаго ты будзеш стаяць!* Мсцібава Ваўк. *Ішлі ўдзень дахаты.* Альхоўка Навагр. *Ідзі дахат, цябе чакаюць!* Стральцы Гродз.

ДАХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Успомніць, здагадацца. *Чуць дахвацілася, як зовюць гэту траву. Я дахвацілася і сказала.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДАХО'ДЗІЦЬ, ДАЙХО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Дасягаць якога-н. месца. *Даходзіць да дарогі, а там чалавек ляжыць.* Стральцы Гродз. *Дайходзіць да плоту.* Міратычы Карэл. 2. *перан.* Разумець. *Не хватаіць у яго, не даходзіць усяго, як людзі.* Індра Красл. 3. *перан.* Разбірацца. *Сталі даходзіць гэта дзела.* Івашкаўцы Смарг.

ДАХО'ДНЫ *прым.* 1. Настойлівы, напорысты, настырны. *Во якая даходная, пашла ў ягады.* Граўжышкі Ашм. 2. Шкадлівы, памаўзлівы. *Даходная карова, у шкоду панадзілася.* Дакудава Лід. *Даходная карова, не пільнюя стады, а так*

*мадэруе ў кусты, глядзі — убійшыся ў жыта. Даходны кот, муся далесць хоць куды.* Гемзы Шальч.

ДАХО́УВАЦЬ *незак.* Даглядаць. *Дзеці матку будуць да смерці дахоўваць.* Бакшты Іўеў.

ДАХО́ЎКА *ж.* Чарапіца. *Дахоўка — чым крыюць хаты: накладаецца ат парубіны да парубіны.* Стральцы Гродз. *Дахоўку на страху купіла.* Дакудава Лід. *Дахоўкай пакрылі крышу. Дахоўка настывае.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *dachówka* 'тж'.

ДАХТАРЫ́ЦА *гл.* ДАКТАРЫ́ЦА

ДАХТО́РКА *гл.* ДАКТО́РКА

ДАХТУ́РКА *гл.* ДАКТО́РКА

ДАЦІМНА́ *гл.* ДАЦЯМНА́

ДА́ЦЦА *зак.* 1. Стукнуцца, ударыцца. *Ап камень далася і нагу збіла.* Жылі Іўеў. *Плячыма, грудзіма дайса. Даласа галавою.* Вострава Маст. *Плячыма даласа.* Альхоўка Навагр. *Доўся аб землю камянь.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Як падаў, даўся спіной аб цвёрдае.* Кузьмічы Люб. 2. Памерці; здохнуць (пра жывёлу, звера). *Папала на такім месцы, што ён даўся. Там ён і даўся. Каля нуры далася ваўчыца.* Рыбчына Віл. 3. *перан.* Хутка пабегчы. *Яны як даліся ў кусты!* Кудзялянцы Шальч. ◇ *Дацца ў знакі* — даняць, дапячы. *Ну і далася ш у знакі мне гэта пасада!* Оцкавічы Паст.

ДАЦЬ *зак.* 1. Даць. *Мы дамо поўбулкі хлеба.* Новікі Гродз. *Дадзём грошы, хлеба.* Ахрэмаўцы Брасл. *Далі рэшты мне.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хлопцы далі яму грошы.* Альхоўцы Лях. *Ня доў яму гною.* Вецярэвічы Пух. 2. Прынесці ў дар. *Карову далі на васэля.* Старыя Трокі Трак. 3. Аддаць у карыстанне. *На полі нам далі гарот.* Кемялішкі Астр. *Сыном дзве хаты далі.* Саланое Віл. *Кварціру ім далі добрую.* Солы Смарг. 4. Заплаціць. *За коня дав тышчу злоты.* Курашэва Чыж. 5. Накарміць. *Курам нада даць.* Груздава Паст. *Далі карові.* Граўжышкі Ашм. *Дай гусям, есці хочуць.* Вострава Маст. *Парасяткам дасі.* Паляцкішкі Воран. *Далі пойлы.* Чычалі Швянч. 6. Задаволіць патрэбу ў чым-н. *Ей далі работу.* Стральцы Шальч. *Аднэй дадзём мейсца.* Гемзы Шальч. 7. Дазволіць, зрабіць магчымым. *Гот, другі не дасць на бок лехчы.* Новікі Гродз. *Не дадзіцё з'есці.* Лоск Валож. *Мы табе не дамо заснуць.* Альхоўка Навагр. 8. Ударыць. *Луску абтайчэш з ячменю, дасі, дасі, так тайчэш. Малацілі цапамі, так бух-бух, тры разы дасі.* Грыкені Вільн. 9. Пакараць, набіць. *Яна ўжэ табе як дасць, то дасць!* Гемзы Шальч. 10. Падзяліцца апошнім каваалкам. *Паміркуецца з пасledнім, ад роту дасць.* Ухвала Круп. 11. Лінуць вады на гарачае каменне. *Было так: у лазні духу дадуць і прудзіць адзёжу.* Солы Смарг. 12. З рознымі назоўнікамі ўтварае спалучэнні са значэннем дзеяння ў залежнасці ад сэнсу назоўніка. *Дала капляў, ляхчэй стала.*

Солы Смарг. *Даць імя* — назваць. *Імя даў.* Старое Сяло Зэльв. *Даць слова* — абяцаць. *Даў слова, што боль не будзе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Даць джало* — укусіць. *Дала джало пчала.* Вострава Маст. *Шэршань даў джало.* Альхоўцы Лях. *Даў снех* — выпаў раптоўна і моцна. *Як даў снех, мятлой грабалі.* Рагулішкі Даўг. 13. З дзеясловамі ўтварае спалучэнні з розным значэннем дзеяння. *Даць знаць* — паведаміць. *Як далі знаць, уся акружнасць папрыяжджала на пахароны.* Валынцы В.-Дзв. ∇ *Не дай — не сусед, а дай — сабе нет.* Осава Мядз. *Плач, галасі — рады не дасі.* Чычалі Швянч. ◊ *Даць драла (маху)* — уцячы. *Ой, яна дала драла!* Вялікія Баяры Шчуч. *А астальныя ваўкі як убачылі, што еты воўк мяне вязе, дак, брат, так далі маху, што толькі я іх і бачыў.* Гарэлец Пух. *Даць веры* — паверыць. *Я ей сказала, то не дала веры.* Кіралі Шчуч. *Даць лу́пца* — адлупцаваць. *Як даў ёй лупца!* Кудзялянцы Шальч. *Даць пірма* — штурхнуць нагой. Вялікія Нястанавічы Лаг. *Даць рады* — справіцца з кім-н., чым-н., зрабіць што-н. *Да таго дзверы набрынялі, не дам рады атрыць.* Мсцібава Ваўк. *Мы ні дамо рады.* Калядзічы Ваўк. *Ні дам рады.* Вострава Маст. *Карова да шкоды ляціць, рады не далі.* Кіралі Шчуч. *Слапшы дужэйшага не ўходае, не дась яму рады.* Солы Смарг. *Даць дзень добры* — прывітацца. *Яна мне дзень добры дась, калі спаткаемся.* Ёдлавічы Брасл.

ДАЦЯМНА′, ДАЦІМНА′ *прысл.* Да цёмнага. *Дацямна сядзеў.* Альхоўка Навагр. *Гаварылі дацямна.* Кіралі Шчуч. *Даўней дацімна рабілі.* Лоск Валож.

ДАЧАКА′ЦЦА *зак.* Дачакацца. *Не магу дачакацца, а можа з ім што сталаса.* Парэчча Гродз.

ДАЧАКА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і д а ч а к а́ ц ц а. ∇ *Каб яна не дачакала таго хлеба есці!* Старыя Смільгіні Воран.

ДАЧА′НКА *ж.* Пляменніца. *Ты — мая дачанка: твая маці — мая сястра.* Стральцы Гродз.

ДАЧАПІ′ЦЦА *зак.* Дакрануцца. *Пакрасіла, ні да чого ні дачапіся!* Малахоўцы Бар.

ДАЧА′СНЫ *прым.* 1. Часовы. *Нічога нідзе ня вечная, дачасная.* Груздава Паст. 2. Тое, што адбываецца раней тэрміну. *Дачасны ацёл у каровы.* Гайна Лаг.

ДАЧА′СУ *прысл.* Дачасна. *Дачасу жаніўся Міхалюк.* Саланое Віл.

ДАЧКА′, ДО′ЧКА *ж.* Дачка. *Да дачкі прыедзіць. За маіх дачок нет лепшэ.* Ахрэмаўцы Брасл. *Каб мне хочацца дацэ даць!?* Саланое Віл. *Дачка прывёзшы і пасадзіўшы.* Лоск Валож. *Дачкой* [дачцы] *падарылі сярэбраны мэдаль за харошую работу.* Рагулішкі Даўг. *Для дочкаў роздана.* Швэды Вільн. *Тут мая дочка была.* Стральцы Шальч. *Дочка рабіла і ніткі насіла дахаты.* Лоск Валож.

ДА'ЧКА *ж. тэкст.* Від баваўнянай тканіны. *З дачкі просцінаў чатыры пашыла.* Дакудава Лід.

ДАЧУ'ШКА *ж. памянш.-ласк.* да д а ч к á. *А можа дачушка будзіць?* Саланое Віл.

ДАЧЧАНІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і д а ч á н к а. *Мая даччаніца замужам.* Гемзы Шальч.

ДАЧЧЫ'Н, ДАЧЫНЫ' *прым.* Які належыць дачцэ. *Дачыны пецяра дзяцей.* Дакудава Лід. *Дачыны дзеці.* Саланое Віл.

ДАЧЭ'КАЦЬ *зак.* Дачакацца. *Дачэкаем зімы.* Крынкі Крын.; *парайн.* польск. *doczekać* 'тж'.

ДАЧЭ'СНЫ *прым.* Часовы. *Як жывеш, не думаеш, што жыццё не вечная, а дачэсная.* Солы Смарг.

ДАШЧУ'РАЧКА *ж. памянш.* да д ó ш к а. *Там дашчурачка ляжыць, прынясі яе сюды. Дашчурачкі, з іх вёдры рабілі.* Валынцы В.-Дзв.

ДАШЧУ'РКА *ж. памянш.* да д ó ш к а. *Адна дашчурка ляжыт. Дашчуркі ў калёсах замошчаны.* Валынцы В.-Дзв.

ДАЯ'ДА *м.* і *ж.* Назола. *Ну і даяда ты!* Мярэцкія Глыб.

ДАЯ'ДЛЫ *прым.* Дакучлівы, назойлівы. *Пісклчты такія даядлыя, будуць лесці, кап карміў.* Мярэцкія Глыб.

ДАЯ'РКА *ж.* Даярка. *Матка даяркай ходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Там яна даяркай рабіла.* Лоск Валож. *Даяркай робіць.* Ліпнікі Вільн.

ДБАЦЬ *незак.* Клапаціцца, турбавацца. *Больша дачка дбая.* Паляцкішкі Воран. *Хлеб добры спячы — трэба дбаць, дзяжу ў добрым стане дзяржаць.* Кудзялянцы Шальч. ◊ *Ня(ні) дбая* — не звяртае ўвагі. *Я натта ні дбала.* Солы Смарг. *Ня дбая, як ест — так добра.* Жылі Іўеў. *Гуся ляжа на снех і ляжыць, ні дбая нічога.* Кіралі Шчуч.

ДВА *ліч. м., ж.* і *н.*, ДЗВЕ *ж.* і *н.*, ДВЫЙ *м.* 1. Два, дзве. *Да двох рас плацілі.* Паляцкішкі Воран. *З двама хлопцамі прышлі.* Крынкі Крын. *Два вёдры.* Судэрва Вільн. *Два дзярэўні — і саўсём начай гавораць.* Быстрыца Астр. *У двох бабоў пытала.* Крынкі Крынк. *У яе дзве дачке тут замужам.* Навасёлкі Свісл. *Мае дзве дзяўчаткі прышлі.* Паляцкішкі Воран. *Дзвямамі рукамі ткуць у кроснах, у варстаце — адной.* Дакудава Лід. *Дзве кіломатры.* Міратычы Карэл. *Цераз дзве хаці.* Альхоўцы Лях. *Дзве карыта наліла.* Мсцібава Ваўк. *Прыслаў дзве пісьме. У дзвёх местах пераяжджалі дарогу.* Вецярэвічы Пух. *Як двый абгарав, тады грыку пасеяў.* Паляцкішкі Воран. 2. у знач. *прысл. двох, двух; дзвёх, дзвюх.* Удвух; удзвюх. *Мы двох рабілі на яе.* Кіралі Шчуч. *Двух мы малацілі.* Стральцы Шальч. *Пашлі мы дзвёх туды.* Міратычы Карэл. *Мы дзвёх былі ў адной хаце.* Альхоўцы Лях. *Цяпер дзвёх асталісь.* Лісна В.-Дзв. *Яны дзвюх паехалі ў горат.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. у знач. *зб. ліч. двох, двух; дзвёх,*

*дзвюх*. Двое. *Бабы ўсе па двох жнуць. Іх двох ці трох было*. Паляцкішкі Воран. *Іх было двох*. Жылі Іўеў. *Двох сыноў былі на вайне*. Альхоўка Навагр. *Падойдуць двох-трох ваўкоў у вёску*. Альхоўцы Лях. *Нас было двох хлопцаў і трох дзевак*. Вецярэвічы Пух. *Нас двух было*. Стральцы Шальч. *Іх дзвёх засталося*. Лісна В.-Дзв. *У яе дзвёх дзяўчатак ат першага мужа*. Вострава Маст. *Дзвюх дзевачак ішло*. Ракаўскія Швянч.

ДВАГО′ДНІ, ДВУГО′ДНІ *прым*. Двухгадовы. *Дваготдня цялушка*. Вялікія Баяры Шчуч. *Двагодня цялушка можа ўжо і пабегаць*. Кіралі Шчуч. *Двугодні конік*. Дакудава Лід.

ДВАЗІ′МАК, ДВУЗІ′МАК *м*. Маладняк, які пражыў дзве зімы. *Двазімак — малады конь*. Малахоўцы Бар. *Кабыла здохла, астаўса маладу конь, двазімак, ніпрывучаны*. Номікі Бабіц. *Мая Раба тэраз будзе двузімак*. Грыкені Вільн.

ДВАІ′МА *гл*. ДВО′Е

ДВАІ′Х *гл*. ДВО′Е

ДВАЙГА′, ДВАЙГУ′, ДВО′ЙГУ *зб. ліч*. Двое. *Аддавалі да двайга* [цялят] *на пракорм*. Мсцібава Ваўк. *Трыццаць рублёў як-ніц на двайга*. Кіралі Шчуч. *Двайгу нас было*. Навасёлкі Свісл. *Ужо кінуў двойгу і жывіце, як хочаце*. Масілавічы Сл.

ДВАЙГУ′ *прысл*. Удваіх. *Двайгу ездзілі ў госці*. Пацаўшчына Дзятл. *Дрова і то двайгу пілуюць*. Бершты Шчуч. *Хлапчак быў, жылі двайгу. Мы двайгу былі з братам, двоя нас было*. Кіралі Шчуч. *Жылі двайгу*. Навасёлкі Свісл.

ДВАЙНІ′К *м*. Сетка для лоўлі ракаў. *Двайнік — такая сетка, удваіх лавілі ракаў*. Магуны Паст. *Пат кроўш патсуваіш двайнік. У двайніку ґеґні, выкопваюць с каранём дрэва*. Кураполле Паст.

ДВАЙНЮКІ′ *мн*. Двайняты. *Двайнюкі радзіліся*. Кураполле Паст. *Двайнюкі ў маей дачкі, два хлопчыкі*. Саланое Віл. *У той гот у мяне двайнюкі радзіліся*. Ракаўскія Швянч.

ДВАЙНЯ′ТНІКІ *мн*. Тое ж, што і д в а й н ю к і. *Двайнятнікі былі ў яе*. Вецярэвічы Пух.

ДВАЙНЯ′ТЫ *мн*. Тое ж, што і д в а й н ю к і. *Двайняты ёсь*. Груздава Паст. *У яго былі двайняты*. Ахрэмаўцы Брасл.

ДВАН *гл*. ДЫВА′Н

ДВАНА′СТКА *ж*. Від малой укладкі снапоў на полі. *Ставіцца па дванаццаць снапоў у дванасткі*. Парэчча Гродз. *Дванастка снапоў пакрываецца снапамі*. Крынкі Крын.

ДВАНА′СТЫ *ліч. парадк*. Дванаццаты. *Ягонай дочкі дванасты гот*. Рагулішкі Даўг.; *парайн*. польск. *dwunasty* ’тж’.

ДВАНАСЦЕЦЁРА *зб. ліч*. Дванаццацера. *Мела дванасцецёра дзяцей*. Снягяны Смарг.

ДВАНА′СЦЯ *ліч*. Дванаццаць. *У некаторых валока была дванасця гактараў*. Солы Смарг.; *парайн*. польск. *dwanaście* ’тж’.

ДВАНА'ЦЦАЦЬ *ліч.* Тое ж, што і д в а н а́ с ц я. *Хлопцу дванаццаць гадоў.* Кемялішкі Астр.

ДВАРЫ'ШЧА, ДВО'РЫШЧА *н.* Панадворак. *Па-нашаму — панадворак, а цяпер — дварышча.* Магуны Паст. *Перад Новым годам у наша дварышча прыцягнуць скрынку, попелам пасыпяць сцешку. Ён скарэй на кані — чуць жывы ўляцеў у дварышча.* Груздава Паст. *Махаў, кап ехалі ў дварышча.* Курраполле Паст. *Прыдзі ў дварышча.* Жодзішкі Смарг. *Як мы хлява не зачынім, можа вылеціць свіння на дварышча.* Ністанішкі Смарг. *Между хлевам і хатай — дварышча.* Ахрэмаўцы Брасл. *Падмёў дварышча.* Асавец Віл. *Выскачылі мы на дварышча, а после схаваліся ў гумне, палягли там.* Азаркі-Пудавінка Мядз. *Дворышча — дзе ходзім, ня сеям, каля хаты.* Лапічы Асіп.

ДВАЦАЦЕ'РА, ДВАЦЦА'ЦЕРА *зб. ліч.* Дваццацера. *З двацацера ці болей сватоў было, а зайшла за бедненькага, як кінуць.* Саланое Віл. *Дваццацера ці болі сватоў было.* Старыя Смільгіні Воран.

ДВА'ЦАЦЬ *ліч.* Дваццаць. *Я меў двацаць лет.* Швэды Вільн. *У баране двацаць зубоў.* Відаўцішкі Вільн.

ДВАЮ'РАДНЫ, ДВАЯРО'ДНЫ, ДВАЮ'РНЫ *прым.* Дваюрадны. *Ванькі дваюрадная сістра.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дваяродны брат жыве добра. Дваяродная сястра яе езде с Кіева.* Кіралі Шчуч. *Дваю́рны брат.* Валынцы В.-Дзв.

ДВАЯ'КІ *прым.* Двух відаў. *Перац бывае дваякі — горкі і пахнёнцы.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *dwojaki* 'дваякі'.

ДВАЯНЫ' I толькі *мн.* Вілы з двума рагамі. *Дваяны — вілы з двума рагамі, на доўгі кій насоджаны, высоко падаць сено.* Лука Нараўк.

ДВАЯНЫ' II толькі *мн.* Гаршкі-спарышы. *Дваяны з гліны, гаршчкі такея.* Лука Нараўк.

ДВАЯ'ЧКІ *мн.* Тое ж, што і д в а й н ю к і. *Мела дваячкі.* Старыя Трокі Трак.

ДВЕСЦЕ'Н *м.* Хата без унутраных перагародак. *Паставіў двесцен.* Сакаляны Сакол.

ДВІ'ГНУЦЬ *зак.* Паварушыць. *Я ні рукой не двігнула.* Старыя Смільгіні Воран.

ДВО'Е, ДВО'Я, ДВО'І *зб. ліч.* 1. Двое, два. *Сядзіць з дваіма піскляташі.* Саланое Віл. *Прыехаў з дваіма дзеткамі да мяне.* Ухвала Круп. *Было дваёх — забралі.* Старыя Трокі Трак. *З дваіма дзецьмі.* Міратычы Карэл. *Уночы ходзіць з дваіма дзецьмі.* Альхоўка Навагр. *Дзед умёр, покінуў свою жонку з двоіма дзецьмі. Свіня з двойма поросятамі.* Смалянніца Пруж. *Двоі соткі мая.* Жылі Іўеў. *У нас двоі сотак, нам хапае.* Мсцібава Ваўк. 2. у знач. *прысл. дваіх, дваю.* Удваіх. *Жывуць самы дваіх.* Дакудава Лід. *І бацька, і матка дваю*

*жывуць*. Парэчча Гродз. 3. у знач. *прысл. дваіма.* На двух. *Дваіма коньмі паехаў*. Дакудава Лід.

ДВО'ЙГУ *гл.* ДВАЙГА'

ДВО'ЙКО *зб. ліч.* Двое. *Двойко, тройко дзяцей.* Новы Свержань Стаўб.

ДВО'ЙНЕ толькі *мн.* Вілкі. *Двойне нада бі новыя купіць, а то гэтымі кацёл піракуліш*. Якубова Рас.

ДВО'ЙЧЫЦЬ *незак.* Ссукваць. *Трэба двойчыць ніткі*. Быстрыца Астр.

ДВОР, ДВЫР *м.* 1. Тое ж, што і д в а р ы́ ш ч а. *У нас па двору усі* [гусі] *ходзяць.* Паляцкішкі Воран. *Іду па двору.* Альхоўцы Лях. *У нас у два́рах чыста.* Рагулішкі Даўг. *Падмяла́ двор, па двару хадзіла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Свіння зрылі двор.* Азяраны Раг. *Коліcь на дном дворэ по тры, по штыры хаці стояло.* Смаляніца Пруж. *Двыр огорожэный.* Дзмітравічы Кам. 2. *гіст.* Маёнтак. *Пяцёра дзяцей было, сталі ў двор на работу хадзіць.* Ністанішкі Смарг. *Двары былі, а за польскім — маёнткі.* Граўжышкі Ашм. *Дварэ былі, хадзілі на работу.* Новікі Гродз. *Барысаўшчына* [поле], *там двор быў.* Вострава Маст. *Хадзіла ў двор работаць.* Валынцы В.-Дзв. *Ён па дворах служыў.* Старое Сяло Зэльв. *У дварэ яна рабіла, у пана.* Рыбчына Віл. *У нас двор Велька Мажэйкава. І ціпер кажуць двор, пашоў да двара.* Кіралі Шчуч. *У двор пана на работу хадзілі.* Малахоўцы Бар. *Паны былі па дварох.* Новыя Мацалі Варэн. *Былі двор купіўшы.* Гемзы Шальч. *Панскі двор.* Калясное Міхал. *Памешчык быў Юрась Пашкевіч, ці што, хадзілі на работу ў двор.* Лешня Кап. *Панскі двор у том канцы буў.* Пасека Ст.-Дар. *За болотом двыр буў, пан жив тут.* Дзмітравічы Кам. 3. *перан.* Гаспадар. *У дварох машыны ёсць.* Кудзялянцы Шальч. ◊ *На дворы* — на дварэ, не ў хаце. *Нада больш на дворы быць.* Магуны Паст. *На дворы начавалі.* Кураполле Паст. *На дворы ўжо суха, высахла балота. На дворы цёпленька.* Ністанішкі Смарг. *На дворыэ лепі вэсною, як в хаті.* Курашэва Чыж.

ДВО'РАК *м.* Тое ж, што і д в а р ы́ ш ч а. *Карова ідзе на дворак.* Старое Сяло Зэльв.

ДВО'РСКІ *пры́м. устар.* Панскі. *Дво́рска была сажалка.* Дзяніскавічы Ганц.

ДВО'РЫШЧА *гл.* ДВАРЫ'ШЧА

ДВО'Я *гл.* ДВО'Е

ДВОЯКІ' *мн.* Тое ж, што і д в а й н ю к і. *Двоякоў мела.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *dwojaki* 'тж'.

ДВОЯ'Н *м.* Два каласы, якія растуць на адным сцябле. *Двоян — колі колосы зростаюцца.* Смаляніца Пруж.

ДВОЯ'ЧКА *зб. ліч.* Двое. *А мой Зыдорачка пакінуў двоячка, а трэцяя ў бруся, да каго прыхінуся?* Кураполле Паст.

ДВУГО'ДКА *ж.* Двухгадовая карова. *Двугодка пабегалася; на другом годзе.* Пацаўшчына Дзятл.

ДВУГО'ДНІ *гл.* ДВАГО'ДНІ

ДВУЗІ'МАК *гл.* ДВАЗІ'МАК

ДВУКО'НЫ *прым.* Параконны. *Кары былі ў пана, двуконыя.* Малахоўцы Бар.

ДВУЛЕ'ТАК, ДВУХЛЕ'ТАК *м.* Двухгадовы конь. *У суседа е добра жарабіца двулетак.* Заполле Скід. *Двулетак — малады конь, патрошкі робяць на ім.* Гемзы Шальч. *Я жараб'я маю два года — двухлетак.* Лука Нараўк.

ДВУРА'ДНЫ *прым.* У два рады. *Плоскі колас* [ячменю] *двурадны.* Гемзы Шальч.

ДВУХЛЕ'ТНІ *прым.* Двухгадовы. *Двухлетняя цялушка, як ланя, ходзя; і дзяржы ты яе напрасна!* Гемзы Шальч.

ДВУХЛІ'ЧНЫ *прым.* Двудушны. *Была двухлічная баба.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *двуличный* 'тж'.

ДВУХСЛО'ЎНЫ *прым.* Тое ж, што і д в у х л í ч н ы. *Двухслоўны чалавек.* Міратычы Карэл.

ДВУХСУКО'ВЫ *прым.* З двума рагамі (пра вілы). *Вілы двухсуковыя, трохсуковыя бываюць, а капаць — нават чатырохсуковыя.* Мельнікі Лудз.

ДВУХТВО'РНЫ *прым.* Двухстворкавы. *Былі дзверы двухтворныя.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДВУХЦАЛЁВЫ *прым.* Двухцалёвы. *Рамштукі ідуць на папярэчныя ў акне, яны — двухцалёвыя.* Быстрыца Астр. *Над вушакамі дылі пілуюцца, як доскі, толькі двухцалёвыя.* Стральцы Гродз.

ДВЫЙ *гл.* ДВА

ДВЫР *гл.* ДВОР

ДВЭ'РА *гл.* ДЗВЕ'РЫ

ДЖАГА'ЛА *н.* Джала. *Джагала ў пчалы.* Якубова Рас.

ДЖА'ГАЦЬ *незак. экспр.* Біць, удараць. *Джагая тапаром, лапатай па паленя ці па жалезя, будзя стаяць і джагаць.* Рыбчына Віл.

ДЖА'ЛА, ДЖА'ЛО *н.* Тое ж, што і д ж а г á л а. *Джала ў пчалы.* Альхоўка Навагр. *У пчалы е джало.* Дзяніскавічы Ганц. *Джалам кусая. Укусіла пчала, асталосё джало. Джало ў пчалы, здрока.* Альхоўцы Лях.

ДЖАХ-ДЖАХ *выкл.* Жах-жах. *У церніцы е язык і шчокі, гэтым языком завальваяш жменькі, ды джах-джах.* Альхоўцы Лях.

ДЖВЕ'НЬҐАЦЬ *незак. экспр.* Чаўпці. *Ходзіць і джвеньґае, як сука зубамі, работы няма, дык джвеньґае.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* літ. *žvéngti* 'ржаць, рагатаць'.

ДЖВІ'ГНУЦЬ *зак. экспр.* Скочыць, сігануць. *Ён джвігнуў у гусцяр і ўцёк.* Валынцы В.-Дзв.

ДЖГАЦЬ *незак.* Кусаць. *Мухі так і джгалі.* Валынцы В.-Дзв.

ДЖГУН *м.* Зух, хват. *Гэты джгун жэніцца скора, не будзе доўга хадзіць.* Раўбічы Мін.

ДЖГУР *м.* Самец. *Джгур любы самец: певень, кнораз і мужык. Вот іграе — як джгур. Можна сказаць на кожнага: разыграўся, як джгур.* Кузьмічы Люб.

ДЖО'ГАЦЬ *незак. экспр.* 1. Касіць, выбіраючы мясціны з травой. *Касой джогая.* Дакудава Лід. *Канецкіе* [што жывуць на канцы] *то там, то там ды джогаюць і джогаюць. Джогаяць, можна сказаць, і сякуць, вот пападжогай, ён сягоння джогае касою. Гэтай касою і джогае, бо нема дзе касіць: ён махне рас, стане, шчэ глядзіць, дзе можно джогаць.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і д ж а́ г а ц ь. *Джогая і джогая тапаром.* Рыбчына Віл. *Джогаюць, як сякуць тапаром.* Саланое Віл. *Джоґаць: біць, дзёўбаць сякерай, малатком.* Мачаск Бярэз.; *параўн.* літ. *džẽginti* 'біць'.

ДЖО'ГНУЦЬ *зак. экспр.* 1. Сekануць. *Джогнуць — тапаром секануць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Лінуць. *Кіпням джогнула на руку, моцно апарыла.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Стукнуць. *Як прынясеш дрова і кінеш моцно, то кажуць: «Во джогнула дрывамі!»* Дзяніскавічы Ганц.

ДЖО'ЎНУЦЬ *зак. экспр.* Касануць. *Ён махне рас, стане, шчэ глядзіць, дзе можно джоўнуць.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* д ж о́ г а ц ь.

ДЖУГУ'Н *м.* Кацёл. *Джугун — у ім свіням варыцца, бялізну выгатаваць — такі з ушыма, цяжкі.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* руск. *чугун* 'чыгунны кацёл'.

ДЖЫ'ҐА *ж.* Пешня. *У джыґі верх — дзеравянны, ніз—жалезны, ёй лёт прарубаюць.* Галубы Маст.

ДЖЫ'ҐАЦЦА *незак.* Трэсціся, дрыжэць. *Джыґаяцца чыкаўка.* Крэва Смарг.

ДЖЫЦЬ *незак.* Цячы. *Джыць, аш свішча крой.* Дакудава Лід.

ДЖЭ'РГАЦЬ *незак.* Абдзіраць. *Хвашчанка с хвашча дзерскага, як пашаруеш, то аш дзярэ, аш джэргая.* Кіралі Шчуч.

ДЗВАНЕ'Ц *м. бат.* Званец. ∇ *Раз пасох дзванец—то касьбе канец.* Гемзы Шальч.

ДЗВАНІ'ЦА *ж.* Званіца. *Дзваніца стаіць там.* Гемзы Шальч.

ДЗВАНО'ЧАК *м. памянш.* Званочак. *Дзваночак вешалі або кляхотку, і чуваць, дзе яна* [карова] *ест.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *dzwonek* 'тж'.

ДЗВАНЫ' *мн.* Званы. *Як дзваны звінелі, усё шумела — што ж недобра?* Старыя Смільгіні Воран.

ДЗВЕ *гл.* ДВА

ДЗВЕ'РЫ, ДВЭ'РА толькі *мн.* Дзверы. *Тры дні стаяла пад*

*дзвярыма.* Граўжышкі Ашм. *Стаіць баба пад дзвярмы.* Кіралі Шчуч. *Мае дзверы.* Старыя Смільгіні Воран. *За дзвярыма стаяў.* Паляцкішкі Воран. *Пад дзвярыма падваротніца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Одчыныліся двэра, старая выбэгла зустрэчачы дочку.* Каўняцін Пін.

ДЗЕ, ДЭ *прысл.* 1. *пытальнае.* У якім месцы? *Стасік, дзе мама?* Грыкені Вільн. *Дзе ты дзела пугу?* Асавец Віл. *Сашік, дэ дядё?* Дзмітравічы Кам. 2. *месца.* У тым месцы, куды. *Дзе вяліка хата, рабілі дзянюшкі і вечарушкі.* Старыя Трокі Трак. *А ты дзе едзяш?* Крэва Смарг. *Дзе ты пойдзяш?* Пацаўшчына Дзятл., Паляцкішкі Воран. *Дзе пашла?* Сакаляны Сакол. 3. *адноснае.* Ужываецца як злучальнае слова. *Каму ў лес дзе ехаць, даюць каня.* Дакудава Лід. ◊ *Дзе там!* Грыкені Вільн.

ДЗЕБЕСІ'Л *гл.* ДЗІВАСІ'Л

ДЗЕВАЛЮ'К, ДЗІВАЛЮ'К, ДЗЕВУЛЮ'К *м. бат.* Касталом. *Дзевалюк — лякарства некае, як завушніцы, цвіце цёмным.* Малькуны Ігн. *Дзівалюк — лячэбны корань у яго расцець, яго капаюць.* Жодзішкі Смарг. *Дзевулюк квітне, як завушніцы.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *dievuliūkas* 'тж'.

ДЗЕВА'ЦЦА *гл.* ДЗЯВА'ЦЦА

ДЗЕ'ВАЧКА *ж.* Дзяўчынка. *Акуратная дзевачка.* Солы Смарг.

ДЗЕ'ВЕР, ДЗЕ'ВІР, ДЗЕ'ВЯР *м.* Брат мужа. *Прыехаў да нас дзевер.* Талейкі Швянч. *Тут мой дзевер жыве, во яго хата.* Грыкені Вільн. *А там пажджы майго дзевера. Пасварыліся з дзеверам.* Баброўнікі Гарад. *Мой дзевір памёр.* Мярэцкія Глыб. *Я плакала па дзевяру, як па роднаму брату.* Саланое Віл. *Дзевяры могуць у прымы зайсці, а залоўка жджэць, пака яе возміць хто.* Саланое Віл. *Дзевяр — брат маяго мужыка, а зальвіца — сястра.* Быстрыца Астр. *І пры мне быў дзевяр, я два года адзявала і абмывала яго.* Кіралі Шчуч. *Дзевяр мой быў у парцізанах.* Рудня Астравітая Чэрв.

ДЗЕВЕСІ'Л, ДЗЕВЯСІ'Л *гл.* ДЗІВАСІ'Л

ДЗЕВУЛЮ'К *гл.* ДЗЕВАЛЮ'К

ДЗЕВЯНЬЦЁРА *зб. ліч.* Дзевяцера. *Дзевяньцёра было дзяцей.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *dziewięcioro* 'тж'.

ДЗЕВЯ'ТАЯ КІ'ШКА *ж. анат.* Дванаццаціперсная кішка. *Дзевятая кішка хварэя.* Старыя Смільгіні Воран.

ДЗЕВЯ'ТНІК *м. рэліг.* Хрысціянскае свята ў дзевяты чацвер пасля вялікадня. *Сёмуха, дзевятнік і тройца.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзевятнік — праз дзевяць нядзель.* Рудня Астравітая Чэрв.

ДЗЕВЯЦЁРА, ДЭВЭТО'РО, ДЗЕВЯ'ЦЯРА, ДЭВЯ'ТЭРО *зб. ліч.* Тое ж, што і д з е в я н ь ц ё р а. *Нас было васьмёра, а ў каго дзевяцёра.* Альхоўка Навагр. *Сяголіта свіня прывэла дэвэторо поросят.* Курашэва Чыж. *У яе дзевяцяра дзяцей.*

Жодзішкі Смарг. *Дэвятэро дытэй нажыла з чоловіком.* Збураж Малар.

ДЗЕВЯЦІ'НЫ *мн. абрад.* Памінкі праз дзевяць дзён пасля смерці чалавека. *На дзевяціны стаўляюць стол па памёршаму.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЕВЯЦІРА'НКА, ДЗЕВЯЦЯРА'НКА *ж. бат.* Дуброўка. *Дзевяціранка ад вольнасці.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзевяціранка жоўтым цвіце.* Сапоцкіна Гродз. *Дзевяцяранка ад дзевяці ран, у яе лісточкі, як морква.* Вострава Маст.

ДЗЕВЯ'ЦЯРА *гл.* ДЗЕВЯЦЁРА

ДЗЕД І, ДЗЕТ, ДЗІЕ'Д *м.*, ДЗЯДЫ' *мн.* 1. Стары чалавек. *У нас жыве дзет, яму гадоў сто: ён многа помніць.* Жодзішкі Смарг. *Папытайця ў таго дзеда, мо ён помніць прыгон.* Быстрыца Астр. 2. Бацька маці ці бацькі. *Я сваіх дзядоў не помню, рана памерлі.* Саланое Віл. *Мама памерла, с намі дзет жыве.* Стральцы Гродз. *Дзеду, наце вам, Павел прыслаў!* Парэчча Гродз. *Дзеду, хоцце дохаты!* Баброўнікі Гарад. *Дзеду, дай мне груш!* Вострава Маст. *Мой дзет тэпэр у Барановічах.* Смаляніца Пруж. *Поіедэш до діеда і до бабы.* Курашэва Чыж. 3. Жабрак. *Пяклі тры булачкі на дзяды, называлі курачкі і аддавалі іх жабракам, дасі дзеду курачак.* Рыбчына Віл. *Дзет ходзіць па хатах.* Баброўнікі Гарад. 4. Чалавек, які ідзе за броднем у час лоўлі рыбы. Рыбчына Віл.

ДЗЕД ІІ, ДЗЕТ *м. абрад.* 1. Першая жменя або першы сноп жыта, зжатага ў час зажынак. *Дзеда нада выразаць і паставіць на куця за іконы, і як будзіш сеіць — дзеда нада вымалаціць.* Мярэцкія Глыб. *Як зажыналі жыта, першая жменька звязвалася і называлася дзет.* Груздава Паст. *Дзет сцярох, кап мышы ня елі, была прыварошка такая. Калі жыта сажнуць, дзеда кладуць першым, а на яго звозяць усё с поля.* Кураполле Паст. *Жменьку жыта выжніш і за абрас паложыш, і называлі дзет. Зажала жыта, выжала дзеда.* Мярэцкія Глыб. *Дзет — першая жменя жыта жжатага.* Жодзішкі Смарг. *Дзедам звалі першы сноп.* Бакшты Іўеў. 2. Пучок нязжатага жыта, які пакідалі на полі пры дажынках. *Дзеда астаўлялі на полі, убіралі краскамі, палолі і звязвалі, закапвалі хлеп і соль.* Мярэцкія Глыб.

ДЗЕД ІІІ, ДЗЕТ *м.*, ДЗЯДЫ', ДЗЯДЭ' *мн.* 1. Апорны слуп у гаспадарчым будынку, шула. *Дзет ставіўся па сцяне ў канцы будынку, на дзяды кладуць правіло і забівалі шчыт.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзяды ставяцца на пераруп.* Кураполле Паст. *Дзяды былі, патпіралі бэлькі.* Старыя Трокі Трак. *У хляве ставяцца дзядэ — тры або дзве пары, дзядэ ставяцца на бэльках, а на дзядэ кладуць кладку — дзеравіну.* Міратычы Карэл. 2. *устар.* Прыстасаванне, у якое ўстаўлялі лучыну для асвятлення хаты. *У дзеда лучыну ўстаўлялі. Паставяць дзеда, туды лучыну — і так пралі.* Жодзішкі Смарг. *Дзеда рабілі так: у*

*калотку кіёк убівалі, у калку бляшкі, у бляшкі лучыну ўпраўлялі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Такі дзет зроблены: дзве бляшкі збітыя, і ў тыя бляшкі ўтыкая лучыну, яна гарыць.* Кіралі Шчуч. *Дзядэ былі, вешалі на калочак, дзяўчаты прыходзілі с кудзелямі і пралі. Дзет — калодачка, і ў шпару ўстаўлялі лучыну.* Парэчча Гродз. 3. Прыстасаванне, у якое ўстаўлялася матавіла. *Як ніці маталі, барабан стаўлялі на дзеда.* Вялікія Баяры Шчуч. 4. Прыстасаванне для трапання льну. *Дзет — лён трапаць. Дай мне свайго дзеда, ты не трэплеш. Дзет самаробны, на трох лапках стаіць: павесіў ручку лёну і трапі.* Кіралі Шчуч. *Рабілі дзяды: калотка, дошка прыбіта ці выдаўбая ўсярэдзіне—і трапалі лён.* Старыя Трокі Трак. *Робяць дзядэ і трапаюць лён.* Вялікія Баяры Шчуч.

ДЗЕ'ДАЎ, ДЗЕ'ДАВЫ *прым.* Дзедаў. *Да дзедавых гадоў не дажыву.* Лоск Валож. *Дзедавыя боты з каморы прынесла.* Гемзы Шальч.

ДЗЕ'ДАЎШЧЫНА *ж.* Спадчына, якая застаецца пасля дзеда. *На дзедаўшчыне я жыў.* Крэва Смарг.

ДЗЕДЗІ'НЕЦ *гл.* ДЗЯДЗІ'НЕЦ

ДЗЕ'ДЗІЧ *м.* Гаспадар. *Дзедзіч з гэтага маёнтка ўцёк.* Дзераўное Стаўб.

ДЗЕ'ДЫ *гл.* ДЗЯДЫ'

ДЗЕЁВЫ *прым.* Дзейны, актыўны. *Ёсь людзі дзеёвыя.* Груздава Паст.

ДЗЕЖА', ДЗЯЖА', ДЭЖА' *ж.* Дзяжа. *Была дзежа, хлеп рашчынялі.* Старыя Трокі Трак. *У дэжэ рошчыняют хлеб.* Смаляніца Пруж.∇ *Аспажа — хлеба дзяжа, аспошка — хлеба трошка.* Солы Смарг.

ДЗЕ'ЖАЧКА *ж. памянш.* да д з ё ж к а 1. *У дзежачке расквасіць нада хлеб.* Лісна В.-Дзв. *Дзежачкі шчытныя, дубовыя на мёд бралі.* Ухвала Круп. *Масло складалі ў дзежачку.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЕ'ЖКА, ДЗЕ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і д з е ж а́. *У дзешцы хлеп кіснець.* Асавец Віл. *Была дзешка, мяшалі хлеп.* Стральцы Шальч., Кемялішкі Астр. *Дзешка — што пячэш хлеп.* Кіралі Шчуч. *Дзешка — гета такі цэбар, у якім мясілі цеста.* Баброўнікі Гарад. 2. Кубел. *У дзешку сала клалі.* Лісна В.-Дзв. 3. Кадушка. *Дзешка на гуркі.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЕ'ЙКА *ж.* Чутка, пагалоска. *Дзейка даўно ішла пра яго дзяла.* Нізок Уздз.

ДЗЕ'ЙКАЦЬ *незак.* Распускаць чуткі, гаварыць. *Не знаюць, так ці не, але большай часці людзі дзейкаюць на яго.* Гемзы Шальч. *Ці чула, што дзейкаюць людзі? Што там дзейкаюць?* Рудня Астравітая Чэрв.

ДЗЕ'ЛА І *н.* і *ж.*, ДЗІЕ'ЛО *н.* Справа. *К суду было дзела.* Лоск Валож. *Велька дзела маю, трэба ў сут заводзіць.* Па-

ляцкішкі Воран. *Такая наша дзела.* Солы Смарг. *Па дзелах прыехаў.* Саланое Віл. *Дзялоў мела многа.* Лісна В.-Дзв. *Я пра гэтыя дзялы нічога не знаю.* Груздава Паст. ◊ *Што за дзела, якое ей дзела, в чуом діело. Што каму за дзела? Што каму за дзела да чужога дзела?* Курапопле Паст. *Якое ей дзела да мяне?* Лайпушкі Ігн. *В чуом діело, пуоідэм і зробім, нэма біды.* Курашэва Чыж.

ДЗЕ'ЛА II *н.* Прыгон, служба. *Пану дзела служылі. Рабілі дзела пану. Пану трэба было дзела служыць.* Рыбчына Віл.

ДЗЕЛАВЫ', ДЗІЛАВЫ', ДІЛОВЫ' *прым.* Дзелавы. *Мой сын — дзелавы такі.* Солы Смарг. *Я хоць сліпая, ды дзілавая.* Курапопле Паст. *Манька ділового чоловіека достала.* Курашэва Чыж.

ДЗЕ'ЛАЦА *незак.* Рабіцца. *Кіпічонае малако, на ём плёначка дзелаіцца.* Індра Красл.

ДЗЕ'ЛАЦЬ *незак.* 1. Рабіць. *Падумаю, дзе я што дзелала, дзе палажыла.* Лоск Валож. 2. Віць. *Са зрэб'я вяроўкі, путы дзелалі.* Янова Рас. 3. Выраблянь. *Нада бочку дзелаць.* Альхоўцы Лях.

ДЗЕЛІ'ЦЦА *незак.* 1. Аддаваць каму-н. частку чаго-н. *Чым можна была, тым дзеліліcь.* Лісна В.-Дзв. 2. Разыходзіцца. *Давай дзеліцца: ты ў свой пуць, я — у свой.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Займацца чым.-н. *Нет чаго дзеліцца з німі.* Саланое Віл.

ДЗЕЛЯ', ДЗІЛЯ' *прыназ.* з *род.* 1. З-за. *Дзеля сэрца яшчэ можна жыць. Дзеля гэтага дзяцей будзіць.* Курапопле Паст. *Дзеля гэтага не расцець.* Саланое Віл. *Дзеля гэтага ў яе карова.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дзеля гэтых дакумэнтаў мусіць ждаць.* Каўняны Гродз. 2. Каля. *Дзеля гумна — пругмень.* Малахоўцы Бар. 3. Для. *Не толькі быў партной дзеля аблікі, а як пашые — на совесць.* Ухвала Круп. *Дзіля яго хоць што рабі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗЕЛЯСПЁР *м. заал.* Жэрах. *Дзеляспёр — рыба файная, велькая.* Дакудава Лід. *Дзеляспёр — бальшая, дзесяць-пятнаццаць кіль рыба, сільная, пакрытая белаю лускою, яе паймаць можна ноччу, а днём натта асцярожная, добра відзіць.* Альхоўка Навагр.

ДЗЕ'МЕДЗЬ, ДЗЕ'МЯЦЬ *м. бат.* Лекавы палын, богава дрэва. *Дземедзь — харошая трава, лячэбная. Ён зялёны, вузенькі.* Малькуны Ігн. *Дземяць расцёт кустом, пахніць, лісточкі цененькія, ягадаў німа.* Лайпушкі Ігн.; *парайн.* літ. *dĩemedis* 'тж'.

ДЗЕ-НІБУ'ЦЬ *прысл.* Дзе-небудзь. *Дзе-нібуць трафіця малако.* Солы Смарг.

ДЗЕ'ННІК *м.* Дзяннік. *Свіні ў дзенніку стаяць.* Старыя Трокі Трак.

ДЗЕНЬ, ДЭНЬ *м.* 1. Частка сутак ад усходу да захаду

сонца. *Цяпер дне стаяць на меры* [не ўбываюць]. Кіралі Шчуч. *Пэршый дэнь работа е, і дного дня ны буў дома.* Дзмітравічы Кам. *Ніні будэ погуодні дэнь, але морожаны.* Курашэва Чыж. 2. Суткі. *Тры ні* [дні] *не еўшая была, а есці хочацца.* Саланое Віл. *Еданасця днёў пражыла.* Гемзы Шальч. *Восім днёў у бальніцы ляжала.* Лоск Валож. *Днёў два, тры — і яны ўжо сухія.* Паляцкішкі Воран. *На тры дне хваціць есці.* Мсцібава Ваўк. *Тры дне вэсеў жывый* [гад]. Вялікі Краснік Пруж. *Як поіехав, то два дніе нэ было дома.* Курашэва Чыж. 3. Дзённае святло. *Стары месяц свеціць з раня да дня.* Стральцы Гродз. ∇ *Сава дні ні паела.* Груздава Паст. ◇ *Дзень з начой* — і дзень і ноч. *Работы яму было дзень з начой. Дзень у дзень, дзень пры дні* — кожны дзень. *Дзень у дзень хадзілі да пана, а як с платай — дык дужа ні раскініцца, за дзень злота ні заробім.* Новая Гута Віл. *Дзень пры дні на работу іду.* Альхоўка Навагр. *Гэтымі днямі* — на днях. *Раскажа гэтымі днямі.* Старыя Смільгіні Воран.

ДЗЕ′НЬГЕЛЬ *гл.* ДЗЯ′ГЯЛЬ

ДЗЕ′НЬГІ толькі *мн.* 1. Грошы. *Пажычыла дзеньгі.* Новыя Мацалі Варэн. *Калісь, як няма дзенех, не нада і твая дачка, яе замуш не бяруць. Яшчэ дзеньгі не плачана.* Паляцкішкі Воран. *Усе дзеньгі выдаіў панімношкі.* Альхоўцы Лях. 2. Значная сума грошай. *А ў то врэмя пятнацаць рублей былі дзеньгі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзеньгі бярэць добрыя.* Кемялішкі Астр. 3. у знач. *прысл. дзе́ньгамі.* Грашыма. *Дзеньгамі плацілі.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* руск. *деньги* 'тж'.

ДЗЕНЬКО′Я *часц.* Дзякуй. *Дзенькоя вам!* Лайпушкі Ігн.; *парайн.* польск. *dziękuję* 'тж'.

ДЗЕ′НЯ′ШНІ *гл.* ДЗЯНЯ′ШНІ

ДЗЕПУТА′Т, ДЗІПУТА′Т *м.* Дэпутат. *Яго выбралі дзепутатам.* Кемялішкі Астр. *Дзіпутатам сем гадоў быў.* Лоск Валож.

ДЗЕ′РАВА, ДЗЕ′РАВО, ДЭ′РЭВО *н.* 1. Дрэва. *Адно дзерава расце ля хаты.* Альхоўка Навагр. *Кап вы паселі пат дзеравам дзе.* Альхоўцы Лях. *Такія дзерава, як у мяне.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзеравы гараць.* Чычалі Швянч. 2. Лесаматэрыял. *Далі на хату дзерава.* Вялікія Баяры Шчуч., Вострава Маст. *Яна да мінісцерства ездзіла — далі дзерава на хату.* Альхоўка Навагр. 3. Стрэмка. *Дзерава загнала ў ногу.* Лука Нараўк. *Дзераво засадзіла ў руку.* Каўняны Гродз. *Дзераво ўсадзіла пад ногаць.* Дзяніскавічы Ганц. *Дэрэво ўбіла ў ногу і помэрла.* Азарычы Пін.

ДЗЕРАВІ′НА, ДЗЯРАВІ′НА *ж.* Асобнае дрэва. *Грубая дзеравіна.* Магуны Паст. *Дзеравіна нехарошая.* Старыя Смільгіні Воран. *Семдзесят дзеравін пасадзілі ў саду.* Саланое Віл. *У лес ездзіў па нейкую дзеравіну.* Стары Свержань Стаўб. *Чатыры дзеравіны. Каля смалярні некалькі дзеравін стаяло.* Ма-

сілавічы Сл. *Усякая дзеравіна ў мяне, і густа расцець: каштан, дуб, ліпіна.* Скрыпчына Лудз. *Дзеравіну, сволак нацягаюць, калі ставяць гумно, на гэту дзяравіну кладуць ключэ.* Малахоўцы Бар.

ДЗЕРАВЯ́КА *ж.* Бервяно, бэлька. *Дзеравяка кладзецца, а на дзеравяку ставілі кроквы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Адна дзеравяка кладзецца на другую, і робіцца вугал. Як доўгая хвойка, доўгая дзеравяка.* Вострава Маст.

ДЗЕРАВЯ́КІ *мн.* Драўляны абутак. *Трэпы — дзеравякі: падэшва дзеравяная з абцасікамі, кожай абабіта.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзеравякі насілі.* Бакшты Іўеў.

ДЗЕРАВЯ́НІКІ, ДЗЕРАВЯ́ННІКІ, ДЗЕРЭВЯ́НІКІ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Як боты абарвуцца, адваліцца падэшва, зробяць драўляную падэшву — і дзеравянікі.* Крэва Смарг. *Дзеравянікі насілі, падэшва дзеравяная.* Рудня Чэрв. *Дзеравяннікі—абутак на дзеравяннай падэшве.* Лапічы Асіп. *Дзеравяннікі на вайне насілі.* Галубы Маст. *У дзерэвяніках і верх дзеравяны.* Грыкені Вільн.

ДЗЕРАВЯ́НКА, ДЗЯРАВЯ́НКА *ж.* Тое ж, што і дзевяціра́нка. *Дзеравянка — назва травы, ад жывата п'юць.* Бакшты, Жылі Іўеў. *Дзеравянка расце па лугох ля кустоў, карэня яе капалі.* Міратычы Карэл. *Дзеравянка, на ёй жоўтыя цвяточкі, ад жывата п'юць.* Кузьмічы Люб. *Дзяравянка ад жвата.* Малахоўцы Бар.

ДЗЕРАВЯ́НКІ *мн.* Тое ж, што і дзерава́нікі. *Дзеравянкі — ababіць дзерава шкуратом — абутак.* Міратычы Карэл.

ДЗЕРАВЯ́НЫ, ДЗЕРАВЯ́НЫЙ, ДЗЕРАВЯ́ННЫ, ДЗЕРЭВЯ́НЫ *прым.* Драўляны. *Бароны былі дзеравяные.* Відаўцішкі Вільн. *Дзеравяная барана.* Швэды Вільн. *Былі дзеравяныя шчаткі, лён часалі. Палушачкі — начоўкі дзеравяныя.* Дакудава Лід. *Дзеравяный ложак купіла.* Ёдлавічы Брасл. *Дзеравянны лошкі.* Кіралі Шчуч. *Барана дзерэвяная; плуг дзерэвяны — то саха. Калёсы былі на дзерэвяных асях.* Грыкені Вільн.

ДЗЕРАВЯ́ШКІ *мн.* Тое ж, што і дзерава́нікі. *Дзеравяшкі насілі, я сама хадзіла ў школу ў дзеравяшках.* Валынцы В.-Дзв. *Дайней дзеравяшкі насілі: дзераўляную падэшву абаб'юць скурай, і хадзілі так.* Ракаўскія Шзянч.

ДЗЕРА́ЗА́, ДЗІРА́ЗА, ДЗЯРАЗА́ *ж. бат.* Дзераза. *Дзера́за цвіце, вілцы мае, і муку з яе збіраюць, у аптэку здаюць для перасыпкі.* Новікі Гродз. *Дзераза́ расце ў бары.* Міратычы Карэл. *Дзераза́ сцеліцца, і дзераза́ с качолачкамі.* Вецярэвічы Пух. *Дзераза́ цвіце. Часам раны засыпаюць дзеразо́й, то зацягае.* Баброўнікі Гарад. *Надзяры дзіразы вянок сплесці.* Саланое Віл. *Дзіраза ў лесі расцець.* Груздава Паст. *Пайдзём у дзіразу, надзяром.* Мярэцкія Глыб. *Дайней на іконы вянкі*

*вілі з дзіразы.* Курапалле Паст. *Дзяраза — абразы ўбяраям.* Альхоўка Навагр. *За дзяразу пут солі ўзялі, рвуць каткі, а пасля сушаць.* Дабрынёва Дзярж.

ДЗЕ'РАЎ *м.* Тое ж, што і д з ё р а в а 1.∇ *Які дзераў, такі клін, які бацька, такі сын.* Курапалле Паст.

ДЗЕРАЎЛЯ'НІКІ *мн.* Тое ж, што і д з е р а в я́ н і к і. *Дзераўлянікі насілі.* Чычалі Швянч.

ДЗЕРАЎЛЯ'НЫ, ДЗЯРАЎЛЯ'НЫ *прым.* Тое ж, што і д з е р а в я́ н ы. *Дзераўляная мая даўнейшая лошка.* Ракаўскія Швянч. *Дзераўляныя вілы былі.* Малькуны Ігн. *Дзераўляны цэбар.* Рыбчына Віл. *Дзераўляны абруч.* Навасёлкі Свісл. *Дзераўляныя начоўкі.* Альхоўцы Лях. *Фаска нявелічкая, дзяраўляная.* Магуны Паст. *Даўней дзяраўляная калыска вісела.* Ракаўскія Швянч.

ДЗЕРАЎНЫ', ДЗІРАЎНЫ' *прым.* Тое ж, што і д з е р а в я́ н ы. *Мялка дзераўная была.* Рагулішкі Даўг. *Трапло дзераўное.* Рудня Чэрв. *Дзераўныя плугі былі.* Пасіене Лудз. *Даёнка дзіраўная была.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗЕ'РАЎЦА *гл.* ДРЭ'ЎЦА

ДЗЕРБАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Хвастануць, сцебануць. *Ну я яго і дзербануў!* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзяцей дзербане скарачом.* Бакшты Іўеў.

ДЗЕРБЯЗА' *гл.* ДЗЕРМЯЗА'

ДЗЕРВА'Н *гл.* ДЗІРВА'Н

ДЗЕРГАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Лінуць (пра дождж). *Дошч дзергануў.* Кіралі Шчуч.

ДЗЕ'РГАЦЬ *незак.* Абкідваць. *Дзіркі трэба дзергаць.* Жылі Іўеў.

ДЗЕРЖА'ЦЦА *гл.* ДЗЯРЖА'ЦЦА

ДЗЕРЖА'ЦЬ *гл.* ДЗЯРЖА'ЦЬ

ДЗЕРКА'Ч I *гл.* ДЗЯРКА'Ч I

ДЗЕРКА'Ч II *гл.* ДЗЯРКА'Ч II

ДЗЕРМЯЗА', ДЗЕРМЕЗА', ДЗІРМЯЗА', ДЗЕРБЯЗА' *ж.* 1. Тое ж, што і д з е р а́ з а́. *Вянкі ўюць з дзермязы. Пылок з дзермязы збіраюць.* Рыбчына Віл. *Расцягнулася дзермеза — на вянкі добрая. Дзермеза памочная ат пужаня.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзірмяза на вянкі добра.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дзербяза расце ў бары. Дзербяза — што вянкі ўюць.* Кузьмічы Люб. 2. Насенне дзеразы. *Дзермяза — насенне.* Рыбчына Віл.

ДЗЕРНО' *гл.* ДЗЯРНО'

ДЗЕ'РСТКА *прысл.* Хутка, бадзёра. *Маладая дзерстка ідзе.* Кіралі Шчуч.

ДЗЕРУ'ГА *гл.* ДЗЯРУ'ГА I

ДЗЕРУНЫ' толькі *мн.* Вілы, якімі скідаюць гной з воза. *Дзеруны — з воза скідалі гной.* Лука Нараўк.

ДЗЕ'РЦІ, ДЗЕРЦЬ, ДЗЁРЦІ, ДЗЁРЦЬ *незак.* 1. Абдзі-

раць, знімаць з паверхні. *Дзерлі з ліпы лыко.* Малахоўцы Бар. *Віця не будзіць дзёрці кару.* Ёдлавічы Брасл. *Кару дзёрлі і лапці плялі.* Гемзы Шальч. 2. Узорваць. *Дзірван — нада пожню дзёрць.* Кураполле Паст. 3. Шчапаць. *Лучыны пуке надзіралі, сыруя дзерлі.* Малахоўцы Бар. 4. Драць на тарцы. *Дзерыш бульбу і наліваеш таўстыі кішкі.* Лоск Валож. *Дзерым бульбу на драчцы.* Беразіно Докш. *Ні магла дзёрці бульбу.* Лісна В.-Дзв. *Некалі буду дзёрці бульбу.* Кураполле Паст. 5. Разграбаць. *Куры дзеруць, дзе ты ўскапала, аш пыл ідзець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Куры лёхі дзяруць.* Мярэцкія Глыб. *Дзяруць куры, выдралі цыбуліну.* Валынцы В.-Дзв. *Куры лехі дзяруць, выдзерлі буракі і агуркі.* Ёдлавічы Брасл. 6. Душыць. *Шашок курэй дзярэць.* Валынцы В.-Дзв. 7. Рваць. *Дзеруць на трапкі ўсё стар'ё.* Ёдлавічы Брасл. *Трапкі буду дзёрці, ходнікі рабіць.* Солы Смарг. 8. *перан.* Біць. *Ён гатоў яе дзёрці, як не так зробіць.* Ракаўскія Швянч. 9. *экспр.* Хутка расці. *Цыбуля пашла дзерці, як паткарміў.* Валынцы В.-Дзв. ◇ *Дзёрці ката* — сварыцца. *Не маглі ўжыць — дзёрлі ката.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗЕ'РЦІСЯ I *незак.* Драцца, здзірацца (пра лыка). *Лапці плялі з лазы, з верасу, верас з вясны дзерацца, лаза да Пятра дзерацца.* Навікі Лудз.

ДЗЕ'РЦІСЯ II, ДЗЁРЦІСЯ *незак.* Біцца. *Дзерацца баран: как матанець пад ногі.* Пасіене Лудз. *А як с кім дзерыца, так і палучыць. Дзерыца з Чэсям. Яны дзёрліся, а дзевачка не навучылася.* Ракаўскія Швянч. *Будуць дзёрціся пітухі.* Саланое Віл.

ДЗЕРЦЬ *ж.* 1. Тоўстае дрэва. *А там дзерць.* Кураполле Паст. *Дзерць — тоўстае дрэва.* Бакшты Іўеў. *Яны хаваліся пад дзерць.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Пра моцнага чалавека. *Ён хворы, а паглядзець, такой дзерць.* Бакшты Іўеў.

ДЗЕРЫВО' *н.* Драная бульба. *Дзерывом наліваім кішкі.* Лоск Валож.

ДЗЕРЭВЯНЕ'ЦЬ *незак.* Нямець, страчваць адчувальнасць. *Мне дзерэвянея нага.* Крынкі Крын.

ДЗЕРЭВЯ'НЫ *гл.* ДЗЕРАВЯ'НЫ

ДЗЕРЭ'ЎНЯ *гл.* ДЗЯРЭ'ЎНЯ

ДЗЕСЬ, ДЭСЬ *прысл.* Дзесьці. *Палажыла грошы дзесь і не найду.* Мсцібава Ваўк. *Два вужэ зарэзалі, то галава дзесь падзелася.* Вялікі Краснік Пруж. *Дэсь скажэ хто.* Горск Бяроз. *Дэсь прыбыжыш сярэд дня, поісты і зноў до вэчора в школу, а учоба была гірша, як тыпэр.* Якоўчыцы Кам. *Дэсь на рукавовэ. Пойду дэсь трохо походжу.* Дзмітравічы Кам.

ДЗЕСЯНЦЁРА *зб. ліч.* Дзесяцера. *Жыў ляснік у леся, у яго дзяцей з дзесянцёра, усе тоўстыя.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *dziesięcioro* 'тж'.

ДЗЕСЯНЦІ'НА, ДЗІСЯНЦІ'НА *ж. устар.* Дзесяціна. *Дзе-*

*сяць дзесянцін зямлі.* Груздава Паст. *Дзесянціны былі перш, а потым актары.* Ёдлавічы Брасл. *Дзве дзесянціны рыдлёўкамі ўскапалі.* Галавачы Гродз. *Некалі называлі дзесянціна.* Альхоўка Навагр. *Дзесянціны жалі, яна не хадзіла дзесянцінаў жаць.* Гемзы Шальч. *Восемдзесят тры дзесянціны.* Швэды Вільн. *Многа дзісянцін было ў пана.* Солы Смарг. *Там цэлы ўчастак — дванаццаць дзісянцін.* Стральцы Гродз.; *параўн.* польск. *dziesięcina* 'тж'.

ДЗЕСЯ'ТКІ, ДЗЕСЯ'КІ, ДЗІСЯ'ТКІ *мн.* Малая ўкладка снапоў на полі. *Снапы ставілі ў дзесяткі, ячмень — па пяць снапоў.* Кіралі Шчуч. *У дзесяткі ставілі снапэ і шапкай накрывалі.* Каўняны Гродз. *У дзесякі паставілі снапэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Як дась дош, то ў дзісяткох жыта парасце.* Парэчча Гродз.

ДЗЕСЯТО'К, ДЗІСЯТО'К, ДЗЯСЯТО'К *м.* 1. Дзесятак. *Вазьмы дзесяток.* Груздава Паст. *Дзісяток запалак.* Ністанішкі Смарг. *Ім дам дзясяток яец.* Асавец Віл. 2. Тое ж, што і д з е с я т к і. *Дзісяток ставілі — дзевяць снапоў, а дзісятым накрывалі.* Парэчча Гродз.

ДЗЕСЯЦЬНІ'Т *м.* Палатно, тканае ў дзесяць нітоў. *Я дзесяцьніт ткала.* Лоск Валож.

ДЗЕТ I *гл.* ДЗЕД I

ДЗЕТ II *гл.* ДЗЕД II

ДЗЕТ III *гл.* ДЗЕД III

ДЗЕТ IV *гл.* ДЗЕД IV

ДЗЕ'ТАЧКА *ж.*, ДЭ'ТОЧКО *н. памянш.-ласк.* да д з і ц я. *Дзетачка мая, дочачка мая!* Кіралі Шчуч. *Ході ш, мое дэточко.* Дзмітравічы Кам.

ДЗЕ'ТКІ, ДЗЯ'ТКІ 1. *мн. памянш.-ласк.* Дзеці. *Дзеткі ўжо хадзілі, топалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пры сыну і двоя дзяток.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дачка двоя дзеткаў мая.* Стральцы Шальч. 2. *адз.* пры звароце да дзіцяці. Дзіця, дзіцятка. *Войтусь, не лесь, дзеткі!* Альхоўка Навагр. ∇ *Аднэй маткі няроўныя дзяткі.* Кіралі Шчуч.

ДЗЕ'ТУХА *ж.* Курыца, якая водзіць куранят. *Дзетуха іхняя рахманая курачка была.* Рудня Астравітая Чэрв.

ДЗЕ'ЎКА *ж.*, ДЗЕ'ЎКІ, ДЗЯЎКІ' *мн.* 1. Дзяўчына. *Усе людзі гаварылі, што за дзеўка.* Саланое Віл. *Яна яшчэ дзеўка.* Магуны Паст. *Яшчэ дзеўкай Паўліна была, як яны выехалі.* Груздава Паст. *Дачка дзеўкай памерла, кінулася ў падушку і задушылася.* Бакшты Іўеў. *Яшчэ, кажа, дзеўкай была.* Гемзы Шальч. *Было пяць братоў і чатыры дзеўкі.* Рагулішкі Даўг. *У Шатланскага былі тры дзеўкі. Нет той хаці, кап тры-чатыры дзеўкі не было.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзеўкі з работы ідуць.* Кемялішкі Астр. *Яны яшчэ дзеўкамі былі.* Лоск Валож. *Сколька дзявок прышло!* Альхоўка Навагр. *Нашы дзяўкі ходзяць на*

*вячоркі. Я такіх дзяўкоў не хачу. Спевакі хадзілі дзяўком спявалі.* Кудзялянцы Шальч. *Пойду до дэвок. Дзеўко, ты, уставай, а то покіну сплючы!* Смаляніца Пруж. 2. Служанка, наймічка. *Чэляць наймалі — некалькі дзевак і парапкоў ён дзяржаў.* Гемзы Шальч. ∇ *Кажуць, дзеўка на ляду грэіцца! Кап ты на печы не загрэўся, як дзеўка на ляду грэіцца!* Саланое Віл.

ДЗЕЎКАВА'ЦЬ *незак.* Быць, знаходзіцца ў дзявоцтве. *Як мы дзеўкавалі і прыбіраліся!* Старыя Смільгіні Воран. *Як мы дзеўкавалі, то ў нас весялей у сераду, як ім у нядзелю.* Лайпушкі Ігн.

ДЗЕ'ЎЧА *ж.* Дзеўчаня. *Дзе твая дзеўча вучыцца?* Ухвала Круп.

ДЗЕ'ЎЧАТКА *гл.* ДЗЯЎЧА'ТКА

ДЗЕ'ЎЧЫНА *гл.* ДЗЯЎЧЫ'НА

ДЗЕЎЧЫНЕ'ЧЭЧКА *ж. памянш.-ласк.* да д з я ў ч ы́ н а. *Дзеўчынечэчка прыляцела.* Гемзы Шальч.

ДЗЕ'ЎЧЫНКА *гл.* ДЗЯЎЧЫ'НКА

ДЗЕХЦЯВЫ' *прым.* Дзёгцевы. *Была дзехцявая мазніца, дзегаць дзяржалі ў ёй. Квач макалі ў дзегаць і калёсы мазалі.* Ёдлавічы Брасл.

ДЗЕХЦЯРЫ'К *гл.* ДЗІФЦІРЫ'Т

ДЗЕ'ЦІСКА, ДЗЯЦІ'СКА *зб. мн.* Дзеці, дзетвара. *Дзеціска набілі сцякла.* Мсцібава Ваўк. *Пашкуства гэтыя дзяціска.* Кіралі Шчуч.

ДЗЕ'ЦЦА, ДЫ'ТЫСЯ *зак.* 1. Знікнуць. *Дзе яны дзеліся гэтыя часэ?* Вецярэвічы Пух. *Дзе ш тыя каровы дзеліся?* Альхоўка Навагр. *Дзе Лакадзя дзелася? — Мо ў Пажарац, там вяселя?* Груздава Паст. *Дзе ж твая матка дзелася?* Азяраны Раг. *Дэ вона дылась?* Дзмітравічы Кам. 2. Схавацца. *Хоць ты куды дзенься!* Валынцы В.-Дзв. 3. *перан.* Не адмовіцца, не выкруціцца. *Дзе ён дзенецца — і заплаціць.* Саланое Віл.

ДЗЕЦЬ *зак.* Патраціць. *А дзе ты дзеў грошы, што купіў?* Саланое Віл.

ДЗЕЦЯНЯ'ТА, ДЗІЦЯНЯ'ТА *мн. памянш.-ласк.* 1. Дзеці, дзеткі. *Дзецянята прыняслі кацяня.* Старое Сяло Зэльв. 2. Дзеці жывёл, птушак. *У качкі дзецянята.* Старое Сяло Зэльв. *У мышы е дзіцянята.* Альхоўцы Лях.

ДЗЕЦЯНЯ'ТКА, ДЗЕЦЯНЯ'ТКО, ДЗІЦЯНЯ'ТКО *н. памянш.-ласк.* Дзіцятка. *Там дзецяняткі лезуць, не даюць робіць.* Ёдлавічы Брасл. *Дзецянятко на руках дзяржыць.* Мсцібава Ваўк. *Дзіцянятко родзіцца.* Кіралі Шчуч.

ДЗЕ'ЦЯТКА, ДЗЕ'ЦЯТКО *гл.* ДЗІЦЯ'ТКА

ДЗЕ'ШАВА *прысл.* Танна. *Дзешава купіў.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *дешево* 'тж'.

ДЗЕ'ШКА *гл.* ДЗЕ'ЖКА

ДЗЕШО′ЎНЫ *прым.* Танны. *Цяпер дзешоўныя цукеркі.* Паляцкішкі Воран.

ДЗЕШО′ЎШЫ *прым. выш.* Таннейшы. *Дзешоўшыя былі яблыкі.* Паляцкішкі Воран.

ДЗЕ-ЯКІ′ *займ.* Які-небудзь. *Высяўкі дзе-якія гусям мяшаям.* Малахоўцы Бар.

ДЗЕ′ЯЦЦА *незак.* Рабіцца. *Што там дзеяцца на свеце?* Чычалі Швянч. *Што на свеця дзеяцца?* Кудзялянцы Шальч.

ДЗЁБА *гл.* ДЗЮ′БА

ДЗЁБАЦЦА *незак.* Дзяўбаць. *Клеп крышымо, і куранята дзёбаюцца.* Парэчча Гродз.

ДЗЁБАЦЬ *гл.* ДЗЯЎБА′ЦЬ

ДЗЁГАЦЬ, ДЗЁГЕЦЬ, ДЗЁГІЦЬ, ДЗЁГЭЦЬ *м.* Дзёгаць. *Карчэ паляць у смалярні і дзёгаць робяць.* Сапоцкіна Гродз. *Дзёгаць чорны з бярозы. Як грып у падлозе, то дзёгцям шмаруіць.* Кіралі Шчуч. *Дзёгаць, што боты мазаць, смярдзёнцы, чорны.* Гемзы Шальч. *Дзегцярка для хранення дзёгцю.* Азяраны Раг. *Дзёгаць гоняц з бярозы.* Парэчча Гродз. *Дзёгаць — то есць такі шмар, шмаруюць ім плот.* Баброўнікі Гарад. *Дзёгець з бярозавай кары, яе паляць, з яе цячэць, ён дарагой.* Лайпушкі Ігн. *З бярозавай кары дзёгець палілі.* Малькуны Ігн. *Дзёгіць — ім мазалі калёса.* Быстрыца Астр. *У мяне ест дзёгэць, ім мазалі калёса.* Крынкі Крын.; *парайн.* літ. *degùtas* 'тж'.

ДЗЁНСЛЫ *гл.* ДЗЯ′СНЫ

ДЗЁНСНА *гл.* ДЗЯ′СНЫ

ДЗЁРАН *м.* 1. Густа зараслы травой верхні пласт глебы. *Дзёрнам зарасло, няможна араць, няможна выпалаць, як зарасцець дзёрнам.* Ёдлавічы Брасл. *Дзёран — дзе цвёрда, даўно не аралі.* Саланое Віл. *Нада ісці з агарода дзёрны выкалачваць.* Мішневічы Шум. 2. Выразаны пласт дзёрну. *Дзёрнам выкладалі магілачку.* Саланое Віл.

ДЗЁРБАЎКА *ж.* Церніца. *Была дзёрбаўка, дзёргалі лён, вярхоўя ішло. На дзёрбаўку атходзіць вярхоўя.* Лісна В.-Дзв.

ДЗЁРКА *ж.* Дранка. *Крылі* [стрэхі] *дзёркай.* Мярэцкія Глыб.

ДЗЁРНУЦЬ *зак. экспр.* Пабегчы, хутка пайсці. *Я дзёрнула ў лес.* Мачаск Бярэз. *Анюта дзёрнула некуды і не сказала. Яны пастараюцца рана дзёрнуць у грыбы.* Азяраны Раг.

ДЗЁРСТКІ I, ДЗЁРСКІ *прым.* 1. Жорсткі. *Гладкі хвашчан — дзёрсткі. Хвашчанка з хвашча дзёрскага.* Кіралі Шчуч. 2. Грубы, каляны. *Дзёрсткая тканіна з крутых нітак, як кол стане, як памочыш.* Кіралі Шчуч.

ДЗЁРСТКІ II *прым.* Бойкі, быстры. *Ён дзёрсткі, наш Віця, ён усё дастаня.* Кіралі Шчуч.

ДЗЁРТЫ *дзеепрым.* 1. Злуплены. *Лапці рабіліся з ліповай кары дзёртай.* Крэва Смарг. 2. Сцёрты на тарцы. *Картафляні-*

*кі пяклі з дзёртай картофлі.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзёртая бульба.* Солы Смарг.

ДЗЁРЦІ, ДЗЁРЦЬ *гл.* ДЗЕ'РЦІ

ДЗЁЎБАЦЬ *гл.* ДЗЯЎБА'ЦЬ

ДЗІ'ВА *н.*, ДЗІ'ВЫ *мн.* 1. Нешта незвычайнае, цуд. *Німа дзіва.* Ністанішкі Смарг. *Якоя то дзіва стала. Ой, якоя гэта дзіва!* Лісна В.-Дзв. *Дзіва німа, выдраў гарбус на семячкі.* Гемзы Шальч. *Дайней, еслі на рака забалеў хто,— бальшыя дзівы.* Малькуны Ігн. 2. у знач. *вык.* Дзіўна. *Дзіва, што яшчэ шмат лістоў пісаць.* Гемзы Шальч. *Нам гэто ня дзіва.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗІВАВА'ЦЦА, ДЗІВУВА'ЦЦА, ДЫВОВА'ТЫСЯ *незак.* 1. Углядацца, глядзець. *Ты рабая і я рабой, пацалуемся с табой, ніхай людзі дзівуюцца, як рабыя цалуюцца.* Кураполле Паст. *Дзіваваемся, як яны гоняць клейні* [плыты]. Азяраны Раг. *Сходыліся дывоватыся на тые картоплі.* Дзмітравічы Кам. *Бабы стаўшы і дзівуюцца.* Гемзы Шальч. 2. Дзівіцца, здзіўляцца. *Усе дзівуюцца, як ты іх гадавала. Яна дзівуіцца, як гэта ўнук можыць так любіць бабу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ты крэпка ня дзівуйся, а то атляціць цвяток.* Ёдлавічы Брасл. *Усе яны дзвіваваліся, што вы пытаеця.* Гемзы Шальч. *Усе дзівуюцца з гэтага дуба, ні помніць ніхто, скольki яму гадоў.* Малькуны Ігн. *Толькі дзівуваесся с курэй.* Азяраны Раг. ∇ *Дзівуецца качарга, што кацёл чорны.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* укр. *дивитися* 'глядзець, разглядваць'.

ДЗІВАЛЮ'К *гл.* ДЗЕВАЛЮ'К

ДЗІВА'ННА, ДЗІВО'ННА *ж. бат.* Дзіванна. *Калі шкрофель* [дыятэз] *у дзяцей, добра мыць гэтай дзіваннай.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дзівонна — зеля ад парушэння.* Старыя Смільгіні Воран.

ДЗІВАСІ'Л, ДЗІВЯСІ'Л, ДЗЕВЕСІ'Л, ДЗЕВЯСІ'Л, ДЗЕБЕСІ'Л *м. бат.* Дзівасіл. *Карні дзівасілу ад жывата п'юць, ад дзевяці балезней.* Лісна В.-Дзв. *У нас цэлы абмежак дзівясіла, карэння тоўстае, ат сэрца памоцны і ад жывата.* Кіралі Шчуч. *Дзівясіл — лякарства харошае.* Індра Красл. *Дзівясіл ад балезніў усякіх, лісця длінныя.* Пасіене Лудз. *Дзевесіл у садох расце, ён памоцны.* Сапоцкіна Гродз. *Дзевясіл жоўценькім цвіціць, яво ў хлявы ад гразы харашо.* Скрыпчына Лудз. *Дзевясіл з натугі п'юць.* Граўжышкі Ашм. *Дзевясіл па агародах расце ў нас.* Быстрыца Астр. *Дзевясіл зацвітая жоўтым, ад жывата п'юць, самы насяюцца, пры платох расце.* Альхоўцы Лях. *Дзебесіл расце ў нас у многіх, памагае ад многіх хвароб.* Старыя Смільгіні Воран.

ДЗІВАСІ'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і д з і в а с і л. *Дзівасільнік — карэння натта памоцна.* Парэчча Гродз.

ДЗІВА'ЧЫЦЦА *незак.* Раз'юшвацца. *Дзівачуцца каровы — рогам зямлю вернуць.* Малькуны Ігн.

ДЗІВІРЫ'К *м. бат.* Лабазнік вязаліставы. *Дзівірык як маладый, то свіням даюць.* Рагулішкі Даўг.

ДЗІВІ'ЦЦА, ДЗІВІ'ЦІСА, ДЫВЫ'ТЫСЬ *незак.* 1. Тое ж, што і дзівава́цца 1. *Под окно дзівісса.* Смаляніца Пруж. *М'яса не ела, не магла дзівіціса на его.* Вялікі Краснік Пруж. *Чэрэз окно будэ дывытысь. Найчэлася дывытысь на тыі часэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Тое ж, што і дзівава́цца 2. *Дзівіліся лі мяне.* Груздава Паст. *Усе людзі дзівіліся, што нявестка па свякроўцы так плачыць.* Саланое Віл. *Людзі с таго дзівіліся.* Кухты Віл. ◊ *Дзівам дзівіцца* — вельмі здзіўляецца. *Ой, дзівіліса, дзівам дзівіліса людзі.* Парэчча Гродз.

ДЗІВО'ННА *гл.* ДЗІВА'ННА

ДЗІВУВА'ЦЦА *гл.* ДЗІВАВА'ЦЦА

ДЗІВУ'К *м. бат.* Галадок. *Дзівук сінім квітніць. П'юць ат пуду яго корань, але патрошку, ён едавітый, цёмна-вішнёвымі калакольчыкамі цвецёт. Дзівук падобны да картофельных лісцяў, памідораў. Дзівук агародні, на поле не растёт.* Рагулішкі Даўг.; *гл.* дзевалю́к.

ДЗІВЯ'ДНА *ж. бат.* Тое ж, што і дзіва́нна. *Дзівядна ад прастуды.* Альхоўка Навагр.

ДЗІВЯСІ'Л *гл.* ДЗІВАСІ'Л

ДЗІГЦЯ'РНІК, ДЗІХЦЯ'РНІК *м.* Дзягцяр. *Ён дзіхцярнік.* Мярэцкія Глыб. *Ты, як дзіхцярнік, брудны.* Беразіно Докш.

ДЗІГЦЯ'РНЯ, ДЗІХЦЯ'РНЯ *ж.* Дзягцярня. *У нас была дзіхцярня.* Мярэцкія Глыб.

ДЗІ'ДАЙ *прысл.* Старчма. *У неахайлівага чалавека яго валосы дуба, дзідай стаяць.* Груздава Паст.

ДЗІЕ'Д *гл.* ДЗЕД

ДЗІЕ'ЛО *гл.* ДЗЕ'ЛА I

ДЗІК I *м.*, ДЗІКІ', ДЗІКЕ' *мн.* Дзікі кабан. *Дзік вышаў з лесу. Многа развялося дзікоў.* Ёдлавічы Брасл. *Дзікі капцы зімою паразварачываюць. Ой, ёсь і дзікоў у нас!* Саланое Віл. *Дзік капоты збаяўся, падумаў — чалавек стаіць.* Граўжышкі Ашм. *Дзе-нідзе толька стада дзікоў пройдзе.* Каралёў Стан Мін. *Дзікоў да нас не прыходзяло.* Гемзы Шальч. *Дзіка забіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дзіке парылі на полі бульбу.* Парэчча Гродз.

ДЗІК II *м.* У выразе: *Дзік дрыгае* — азноб, дрыжыкі. *Не пушчу, бо дзік дрыгае па спіне, дзік лядашты.* Кіралі Шчуч.

ДЗІ'КА КА'ЧКА *ж.* Дзікая качка. *Дзіка качка жыве ў лушкох на полі. Дзе-які лужок* [вадаём], *там і качкі жывуць.* Кіралі Шчуч.

ДЗІ'КА МЯ'ТА *ж. бат.* Дзікая мята. *Дзіка мята разраслася.* Вострава Маст.

ДЗІКА'Я КАНЮШЫ'НА *ж.* Дзяцеліна. Ёдлавічы Брасл. *Дзікая канюшына, пайдзі па леся, кустамі расце.* Граўжышкі Ашм.

ДЗІ'КАЯ КУ'РАЧКА *ж.* Пагоніч, балотная курачка. *Дзікая курачка на вадзе жывець.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗІ'КАЯ МЯ'СА, ДЗІКО'Я МЯ'СА, ДЗІ'КО МЯ'СО *н.* Дзікае мяса. *Дзікая мяса на раня.* Жылі Іўеў. *Дзікоя мяса нарасло.* Рагулішкі Даўг. *Дзіко мясо камянам сінім спалілі.* Малахоўцы Бар.

ДЗІ'КАЯ ЦЕ'РНЯ *ж. бат.* Шыпшына. *Дзікая церня кустамі расцець у лесе і кала хаты, цяпер не садзяць.* Ёдлавічы Брасл.

ДЗІ'КІ' *прым.* 1. Першабытны (пра чалавека). *Раней дзікія людзі былі, нічога не зналі.* Івашкаўцы Смарг. 2. Не прывіты, не акультураны (пра расліны). *Дзікую яблыню знішчу.* Лоск Валож. *Дзікáя яблына.* Ёдлавічы Брасл. *Там раслі дзікія вішні.* Гемзы Шальч. 3. Не прыручаны (пра жывёлу). *Дзікі звер.* Ёдлавічы Брасл. *Якая есць скаціна свая, такая і дзікáя.* Крэва Смарг. *Дзікáя кошка, дзікі бык.* Паляцкішкі Воран. 4. Баязлівы, не ручны (пра жывёл, птушак). *Пятух дзікі, ні патхоць да яго, і курыца дзіка, ні возьміш, на вочы скача. Гэта дзіка курыца, ае ня зловіш. Не лаві яе, яна натта дзіка.* Кіралі Шчуч. *Дзікая курыца.* Рыбчына Віл. *Дзікі скажуць на скот, які не ловіцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Пятух дзікі, курыца дзікáя.* Мярэцкія Глыб. *Курыца як лагодная, то зловіш, а бывая дзікáя.* Жодзішкі Смарг. *Дзікáя курыца.* Старыя Смільгіні Воран. *Курыца дзікáя была.* Лайпушкі Ігн. *Дзікія куры натта ня зловіш.* Гемзы Шальч. *Дзікáя курыца.* Ракаўскія Швянч. 5. *перан.* Які дзічыцца, пазбягае людзей. *Дзікáя дзеўка.* Жодзішкі Смарг. *Тая хрэсніца ласкавая, а гэта дзікáя была.* Рагулішкі Даўг. 6. *перан.* Рэзкі, непрыемны. *Дзікáя кісля ў дзяжы.* Старыя Смільгіні Воран. 7. Жорсткі. *Дзікáя рэская трава.* Старыя Смільгіні Воран.

ДЗІ'КІ ЛЁН *м. бат.* Крапінец. Граўжышкі Ашм.

ДЗІ'КІ МАК *м. бат.* Відук. *Дзікі мак расце ў гародзі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ДЗІ'КІНЬКІ *прым. памянш.* Дзікенькі. *Курыца дзікінькая.* Лоск Валож.

ДЗІ'КІ ПАРСЮ'К *м.* Дзікі кабан. Ахрэмаўцы Брасл., Востраваа Маст.

ДЗІКЛІ'ВЫ *прым.* Дзікі. *Дзіклівая курыца, адзічэла. Дзіклівая курыца, не спаймаць.* Мярэцкія Глыб.

ДЗІКО'Я МЯ'СА, ДЗІ'КО МЯ'СО *гл.* ДЗІ'КАЯ МЯ'СА

ДЗІКТАВА'ЦЦА *незак.* Вылучацца. *Поле ў нас дзіктавалася шнурам.* Латыгаль Віл.

ДЗІКТА'НДО *н.* Дыктоўка. *Нада яму дзіктандо пісаць.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *dyktando* 'тж'.

ДЗІЛАВЫ', ДІЛОВЫ' *гл.* ДЗЕЛАВЫ'

ДЗІЛЯ' *гл.* ДЗЕЛЯ'

ДЗІЛЯ'НКА *гл.* ДЗЯЛЯ'НКА

ДЗІНАТУ'РА *ж.*, ДІНАТУ'Р *м.* Дэнатурат. *Дзінатуру прынасілі. Ад дзінатуры быў аслепшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Купіла дінатуру скурку осмаліті.* Курашэва Чыж.

ДЗІ'НГЕЛЬ *гл.* ДЗЯ'ГЯЛЬ

ДЗІНДЗІЛІ'НЕ *м.* і *ж. экспр.* Той, хто многа гаворыць. Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *dzindzilỹnė* 'тж'.

ДЗІНДЗЯЛЕ'Й *м.*, ДЗІНДЗІЛЕ'Я, ДЗЫНДЗЫЛЕ'Я *ж.* Чыстацел. *Дзіндзялей ад скул.* Рыбчына Віл. *Дзіндзілея каля плоту расце.* Жылі Іўеў. *Дзындзылея цвіце жоўтым.* Крэва Смарг.; *параўн.* літ. *cindalijà* 'тж'.

ДЗІ'НДРА *ж.* Акаліна. *Дзіндра ад залеза адлятая ў кузні.* Быстрыца Астр. *Як куеш, ад жылеза дзіндра ляціць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗІНДРЫ'ЦЦА *незак.* Пакрывацца акалінай. *Жалеза дзіндрыцца, як нагрэіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗІПУТА'Т *гл.* ДЗЕПУТА'Т

ДЗІРА', ДЗЮРА', ДЫРА' *ж.* 1. Адтуліна, шчыліна. *Дзіра ў жарнавым камені ест.* Новікі Гродз. *Дзіру прасеклі ў лёдзе.* Кіралі Шчуч. *Дзюра была на коміне. Там дзюры ёсць.* Едлавічы Брасл. *Дзюра тут, ня лесь, правалісся!* Рагулішкі Даўг. *Дзюру закладзі, кап не лазілі ў гарот куры!* Кураполле Паст. *Праз дзюру ўлес.* Жодзішкі Смарг. *Дуя с той дзюры.* Жылі Іўеў. *Дзюра мнейшая.* Паляцкішкі Воран. *Бывала, колюць свіню ў шыю, затыкаюць дзюру.* Старыя Смільгіні Воран. *Куры ў гарот лезуць, трэба дзюру забіць у плоце, а то яны праз дзюру лазяць. Праз гэту дзюру дым ідзе.* Гемзы Шальч. *Дзюра прасвідравана.* Грыкені Вільн. *Выб'е дзюру ў калодцэ — і ступа.* Беняконі Воран. *Дыр много.* Смаляніца Пруж. 2. Дзірка ў адзенні. *Свеціцца спадніца, дзіра будзе.* Новікі Гродз. *Дзюра вялікая прадралася.* Солы Смарг. 3. Прамежак. *Кіненая дзюра между сцяной і печчы.* Гемзы Шальч. 4. Прарэшак (для гузіка). *Дзюра, куды ўдзеваюць ґузікі.* Грыкені Вільн. ◊ *Дзіры на дзірах* — увесь у дзірках. Вялікія Баяры Шчуч.

ДЗІРА'ВЫ, ДЗЮРА'ВЫ *прым.* Дзіравы. *Дайней адны чаравікі — і тыя дзіравыя.* Валынцы В.-Дзв. *Дзюравы стол.* Магуны Паст. *Дзюравы збанок, выцікаіць малако.* Ністанішкі Смарг. *Штаны дзюравамы сталі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шпунтом затыкаюць бочку дзюравую.* Старыя Трокі Трак.

ДЗІРАВЯ'ШКІ, ДЗЯРАВЯ'ШКІ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Я сама хадзіла ў школу ў дзіравяшках.* Валынцы В.-Дзв. *Дайней дзяравяшкі насілі: дзяраўляную падэшву абаб'юць скурай і хадзілі так.* Ракаўскія Швянч.

ДЗІРА'ГА *ж. бат.* Дзераза. *У лесе расце дзірага.* Кемялішкі Астр., Ністанішкі Смарг. *Дзірага ў лесі расце, па зямлі сцеліцца.* Солы Смарг.

ДЗІРА'ЗА *гл.* ДЗЕРА'ЗА'

ДЗІРА'ЎКІ *мн.* Рэдкая саматканая тканіна. *Дзіраўкі ткалі ў тры нічальніцы.* Граўжышкі Ашм.

ДЗІРАЎНЫ' *гл.* ДЗЕРАЎНЫ'

ДЗІ'РАЧКА, ДЗЮ'РАЧКА, ДЫ'РАЧКА *ж. памянш.* 1. да дзі р á 1. *Дзірачкі ў дзязе.* Кіралі Шчуч. *Дзірачкі німа.* Саланое Віл. *Пузырок лопнуў, нашлася дзірачка.* Лайпушкі Ігн. *Бромцік рабілі с палачкі: палачку абчысціць, прасвідруя дзірачку і прышывая да паясніцы штаноў.* Старыя Трокі Трак. *Выдаўбе дзюрачку, туды цвек.* Беняконі Воран. *Дзюрачкі былі перасечаныя ў керанках* [у грашах], *адарвеш колькі трэба керанак ад велькага кавалка.* Альба Нясв. *У барылку два дна і дырачка.* Судэрва Вільн. 2. Прарэшак. *Трэба дзірачкі апкідаць.* Саланое Віл. 3. Пяцелькі для аборы ў лапцях. *Дзюрачкі наўкола ў хадакох.* Грыкені Вільн.

ДЗІРВА'Н, ДЗЯРВА'Н *м.* 1. Тое ж, што і д з ё р а н 1. *Ліха, як дзірван — не буду палоць.* Лоск Валож. *Поля дзірваном зарасло.* Івашкаўцы Смарг. 2. Тое ж, што і д з ё р а н 2. *Дзірван з пожні выразаюць і аткос дарогі выкладаюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Выараны дзірван.* Саланое Віл. 3. Аблога. *Ляжала зямля дзірванамі.* Ністанішкі Смарг. *Дзірван нада ўдзерць дзергачом. Лён на дзірване от расцець бальшы.* Кураполле Паст. *Пасеілі на дзірване, узаралі дзірван.* Мярэцкія Глыб. *Дзірваны, дзе ні пашыцца, адзірванела зімля.* Валынцы В.-Дзв. *Гэта трава на дзірванах расце.* Малькуны Ігн. *Адзін год не пасееў, другі — дзірван.* Гемзы Шальч. *На дзірване пасцілі.* Чычалі Швянч. *Дзярван выдраў, тут даўно аралася, і пасеяў на выдзірках грыку.* Старыя Смільгіні Воран. 4. у знач. *прысл. дзірваном.* Аблогай. *Дзірваном стаіць зямля.* Малькуны, Лайпушкі Ігн. *Дзірваном стаяла поля, ніхто не пахал.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *dirvónas* 'тж'.

ДЗІРВА'ННЯ, ДЗІРВА'НЕ *зб. н.* Дзёран. *Пайду пагляджу, калі будзіць там дзірвання, ня буду палоць. Дзірвання нада дзёрць.* Кураполле Паст. *Калі будзіць там дзірване, я ні пайду палоць.* Саланое Віл.

ДЗІРВАНО'К *м. памянш.* да д з і р в á н 1. Грудок. *Дзірванкі выбіралі харошыя, там лён слалі.* Быстрыца Астр. *Гдзе дзірванок, чмелі наносяць гняздо.* Гемзы Шальч.

ДЗІРВЯ'НЫ *прым.* Драўляны. *Дзірвянай лышкай мяшала.* Крэва Смарг.

ДЗІРГА'Ч *м.* Спружыноўка. *Дзіргач ёсь, ён пірадзерыць усю пожню.* Кураполле Паст.

ДЗІРЖА'К *м.* Млён. *Дзіржак верхняка круціць.* Ухвала Круп.

ДЗІРЖА'ЦЬ *гл.* ДЗЯРЖА'ЦЬ

ДЗІ'РКА, ДЗЮ'РКА, ДЫ'РКА *ж.* 1. Тое ж, што і д з і р á 1. *Праверчана дзірка ў вушаку.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзіркі е ў кошыку, закладаюць лозу, ракіту.* Альхоўцы Лях. *Праз*

*дзірку лазяць куры.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цячэ ведро, вілікія дзіркі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Як снуем, маям лапатачкі, у іх дзве дзюркі.* Быстрыца Астр. *У гэтым розе была дзюрка.* Мсцібава Ваўк. *Прабіў дзюрку ў куце.* Лісна В.-Дзв. *Дзюрка відаца, як надзьму* [кішку]. Едлавічы Брасл. *Есць дзюрка ў жорнах.* Рагулішкі Даўг. *Такая длініні дзюрка была ў курных хатах.* Солы Смарг. *Дорнік, дзе ў жалезя дзюрку выбівая грубшую ці цянейшую.* Старыя Трокі Трак. *Як яно ўлезло ў дырку?* Вострава Маст. 2. Тое ж, што і дзіра́ 2. *Зашый гэту дзірку, як ты ходзіш!* Валынцы В.-Дзв. *У кішэні дзірка.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзюрка ў кашані, зашый!* Асавец Віл. *На яго плячэ вырвала дзюрку.* Альхоўка Навагр. *Праравалася дзюрка ў панчося.* Мярэцкія Глыб. 3. Тое ж, што і дзіра́ 4. *Праразаецца дзюрка для гузіка.* Гемзы Шальч. ▽ *Якая дзірка, такая бірка.* Кураполле Паст.

ДЗІРКА'Ч *гл.* ДЗЯРКА'Ч I

ДЗІРМЯЗА' *гл.* ДЗЕРМЯЗА'

ДЗІ'РСА *гл.* ГІРС

ДЗІРЭ'КТАР *гл.* ДАРЭ'КТАР

ДЗІСІНЦЕ'РЫЯ, ДЗІСЯНЦЕ'РЫЯ *ж. мед.* Дызентэрыя. *Матка дзісінцерыяй памёрла, я нянчыла яе, памёрла на маіх руках.* Валынцы В.-Дзв. *Урач сказала, што ў дзеўчыны дзісянцерыя.* Ухвала Круп.

ДЗІ'СКА *ж.* Дыск аўтамата. *Немцы ўсё роўна стралялі, выпусцілі на мяне дзве дзіскі патронаў.* Літва Івян.

ДЗІСЬ, ДЗІ'СЯ, ДЗІ'СЯЙ, ДЗІ'СЕКА, ДЗІ'СЯКА *прысл.* 1. Сягоння. *Я дзісь сабакам не даваўшы.* Граўжышкі Ашм. *Дзісь сабачку не давана.* Жылі Іўеў. *Добрая дзісь пагода.* Стральцы Гродз. *Німа як мне дзісь туды ісці, ні маю часу.* Гемзы Шальч. *Я дзісь не кушала.* Паляцкішкі Воран. *Дзісь спёка горш, як учорака. Дзіся дошч ідзе.* Вострава Маст. *Дзіся ў нас колюць паршука. Дзісяй слонечна пагода. От горача дзісяй!* Грыкені Вільн. *Хачу есць, я дзісяй галодная.* Старыя Трокі Трак. *Я дзісяй была, ня шоўшы па грыбы. Дзісека паеду.* Паляцкішкі Воран. *Дзісека налапала рыбы.* Вострава Маст. *Дзісека пападая мне рабіць.* Парэчча Гродз. *Дзісека павінна прыехаць.* Гемзы Шальч. *Я дзісяка завінулася і ўсю работу парабіла.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзісяка прыбягала. Як хто мае пагаворку: хто дзісяй, а хто дзісяка.* Крынкі Крын. *Вчорака была погода і дзісяка будэ.* Курашэва Чыж. 2. Зараз. *Дзісека хваробы не баяцца, урачы ест.* Паляцкішкі Воран. 3. у знач. *прым.* Сённяшні. *І па дзісь дзень зубы перасталі балець.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *dziś, dzisiaj* 'тж'.

ДЗІСЯНЦІ'НА *гл.* ДЗЕСЯНЦІ'НА

ДЗІСЯ'ТКІ *гл.* ДЗЕСЯ'ТКІ

ДЗІСЯ'ТНІК *м. абрад.* Радаўніца. *На дзісятніка — памя-*

*нальныя дні, могілкі свенцяць, закупляваяць абедні.* Рыбчына Віл.

ДЗІСЯТО'К гл. ДЗЕСЯТО'К

ДЗІСЯ'ТУХА *ж.* Тое ж, што і д з і с я́ т н і к. *У пятніцу будзя дзісятуха.* Рыбчына Віл.

ДЗІСЯ'ЦКІ *м.* Дзесятнік. *Прышоў, паступіў на дарогах дзісяцкім.* Камена Лаг.

ДЗІЎГА' *ж. экспр.* Вялікая дзяўчына, дзявуха. *Во дзіўга такая вялікая вырасла, а рабіць нічога не ўмее.* Ухвала Круп.

ДЗІ'ЎНЫ' *прым.* Незвычайны, які выклікае здзіўленне. *Дзіўная яга хвароба.* Саланое Віл. *Яна дзіўна́я, хай не плаціць.* Пацаўшчына Дзятл.

ДЗІФЦІРЫ'Т, ДЗІХЦЕРЫ'Т, ДЗІХЦІРЫ'К, ДЗЕХЦЯРЫ'К *м. мед.* Дыфтэрыя. *Дзіфціによって хварэў.* Валынцы В.-Дзв. *Ад дзіхцерыту і кокліішу трое дзетак умерло.* Пасіене Лудз. *Дзіхцірык у яго быў.* Валынцы В.-Дзв. *Не пры нас кажучы, яго дзехцярык схваціў.* Альхоўцы Лях. *Я мела малая дзехцярык, у горле баліць, душыць, як лымя робіцца* [выпірае пухліну]. Баброўнікі Гарад.

ДЗІХЦЕ'ЦЬ гл. ДЫХЦЕ'ЦЬ II

ДЗІХЦЯ'РКА гл. ДЗЯГЦЯ'РКА

ДЗІХЦЯ'РНІК гл. ДЗІГЦЯ'РНІК

ДЗІХЦЯ'РНЯ гл. ДЗІГЦЯ'РНЯ

ДЗІЦЯ' *н., м.* і *ж.,* ДЗІЦЁ *н.* і *м.,* ДЗЯЦЁ, ДЫТЫ'НА, ДЫТЭ'НА *н.* Дзіця. *А то есць і ніводнага дзіця німа.* Кураполле Паст. *А дзе дзіця?* Кіралі Шчуч. *Нясе гэта дзіця, за плячыма мокра.* Лоск Валож. *Пасадзіў дзіця на беразе.* Альхоўка Навагр. *Каму рыпку даці? — Малому дзіцяці.* Гемзы Шальч. *Мой дзіця.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзе мая дзіця?* Парэчча Гродз. *У яе першае дзіцё.* Паляцкішкі Воран. *Тоя дзіцё абла́жыў* [з'еў] *кошык груш.* Кудзялянцы Шальч. *Дзіцё ў гацёх мокрых.* Старыя Трокі Трак. *Дзіцё астаўся маленькі.* Старыя Смільгіні Воран. *Адно дзіцё ў мяне.* Магуны Паст. *Цэлы дэнь з дзіцятэм.* Смаляніца Пруж. *В мынэ був тоды мужык і дытына тры дні.* Батарэя Бяроз. *З дытьмэма буле. Бырітэ дытэну!* Дзмітравічы Кам. *На дзеці грошы даюць.* Быстрыца Астр. *Дзеці дзыгаюць церас плот.* Каўняны Гродз. *Натта дзеці любіла.* Кудзялянцы Шальч. *Я сваe дзеці вучыла.* Дзераўное Стаўб. *У маей мамы адзінаццаць дзяцей было. Сын з дзяціма за дзьворыма.* Паляцкішкі Воран. *Давай дзяцём есці! Дзяцьмі асыпалася. Дзеці, што вы робіце?* Саланое Віл. ∇ *Дзеці падзяруць пазуху ат маткі хаваючы, а матка — усё дзецям носячы.* Лоск Валож. *Малыя дзеці спаць не даюць, а вялікія дзеці жыць не даюць.* Солы Смарг. *Малыя дзеці — малая бяда, падрастуць дзеці — падрасце бяда.* Новікі Гродз.

*Вот у яе дзяцей, як бобу. Адно дзіця, як кол у плоці.* Кіралі Шчуч.

ДЗІЦЯКІ′ *мн.* Дзеці. *У яе няма дзіцякоў.* Кудзялянцы Шальч.

ДЗІЦЯНКО′ *н. памянш.-ласк.* да дзіця́. *Маленькага не зняважыць дзіцянко.* Старыя Смільгіні Воран. *У мяне адно дзіцянко.* Старыя Трокі Трак. *Дзіцянко прыгрэлася — кашулька загарэлася.* Кудзялянцы Шальч.

ДЗІЦЯНЯ′ТА *гл.* ДЗЕЦЯНЯ′ТА

ДЗІЦЯНЯ′ТКО *гл.* ДЗЕЦЯНЯ′ТКА

ДЗІЦЯ′ТКА, ДЗІЦЯ′ТКО, ДЗЕЦЯ′ТКА, ДЗЕЦЯ′ТКО, ДЫТЯ′ТКО *н.* Тое ж, што і дзіцянко́. *Дзіцятка маленькая.* Альхоўка Навагр. *Яна дзіцятка пераняла.* Саланое Віл. *Дзіцятко родзіцца.* Альхоўцы Лях. *Мае дзецятка, даўно чакаю.* Вялікія Баяры Шчуч. *Калісь у сусеткі было дзецятко маленьке.* Баброўнікі Гарад. *Дытятко крывэнькій.* Дзмітравічы Кам.

ДЗІЧ *м.* і *ж.* 1. Скула. *Дзіч нарваў, нада выціснуць дзіч.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нашоўся дзіч на руке, апухла мне рука.* Валынцы В.-Дзв. *Выперло дзіч, а гной ішоў, а ў сыботу паліласа кроў.* Кузьмічы Люб. 2. Стрыжань у скуле. *Дзіч нада выціснуць, тады загоіцца скора. У раны, нарывах дзіч палучаецца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нажала — і дзіч вылеціў.* Ёдлавічы Брасл. 3. Дзікае мяса. *Дзіч нарастаіць бальшая і красная.* Лоск Валож. 4. Барадаўка. *Чыстацелам нада дзічы мазаць, дзічы выганяць.* Валынцы В.-Дзв. *Поўна дзічоў на руках.* Мішневічы Шум. 5. Радзімка. *Дзічы — радзімыя знакі.* Лісна В.-Дзв. 6. Нарасць на бульбе. *Нейкія дзічы ў бульбы, натта дзічаватая бульба. Ты дзічы павыкалупавай з кобачак* [ямачак], *вот наскрабала, а дзічы паставаліся ў кобачках.* Кураполле Паст.

ДЗІЧАВА′ТЫ *прым.* Пакрыты барадаўкамі (пра бульбу). *Нейкія дзічы ў бульбы, натта дзічаватая бульба.* Кураполле Паст.

ДЗІ′ЧКА I *ж.* 1. Непрышчэпленая яблыня. *Дзічка расцець, вялікая якая.* Ёдлавічы Брасл. 2. Плод дзікай яблыні. *Дзічкі — палявыя яблыкі.* Ёдлавічы Брасл. *Кіслыя яблыкі, як дзічкі.* Беразіно Докш.

ДЗІ′ЧКА II *ж.* Тое ж, што і дзіч 4. *Дзічкі змазвай чыстацелам, паможа.* Ухвала Круп.

ДЗІ′ЧКА III *ж.* Камень, з якога вырабляюць брусок. *Дзічка — такі камень ест, ён не б'еццa, з яго асёлкі вырабляюць.* Парэчча Гродз.

ДЗІЧКАВА′ТЫ *прым.* Пакрыты барадаўкамі. *Дзічкаватыя рукі.* Валынцы В.-Дзв.

ДЗІЧЫНА′ *зб. ж.* 1. Дзікі звер. *У Ашмяне ён дзічыну палюя.* Граўжышкі Ашм. *Дзічына — дзікія жывёлы, кабаны.*

Рудня Астравітая Чэрв. 2. Мяса дзікіх звяроў. *Дзічына пахніць лесам, балотам. Я не люблю дзічыны.* Едлавічы Брасл. 3. Неўрадлівая зямля. *Дзічына — такая благая зямля.* Саланое Віл.

ДЗІШАВЫ' *гл.* ДЗЯШО'ВЫ

ДЗУ'КІ *мн.* Жыхары паўднёва-ўсходняй Літвы. *Ест такіе дзукі на Варэну.* Старыя Трокі Трак.

ДЗЫБА'ТЫЙ *прым.* Цыбаты, высокі, худы. *Такый дзыбатый тылюк.* Відзібар Стол.

ДЗЫ'БАЎКА *ж.* Зыбкае балота. *Ня пройдзя, там дзыбаўка.* Крэва Смарг.

ДЗЫ'БАЧКІ толькі *мн.* У выразе: *На дзыбачках* — на пальцах. *Толькі купіла туфлі, сюды едучы, атарваўся каблук. На дзыбачках пашла.* Вецярэвічы Пух.

ДЗЫ'ҐАЦЬ *незак.* 1. Скакаць. *Блыха дзыґая па нагах. Жаба дзыґая.* Новікі Гродз. *Ґізаўка звініць, дзыґаіць.* Мярэцкія Глыб. *Дзыґала парасятка ўгору, увалілася ў яму.* Кіралі Шчуч. *Дзыґае дрост.* Крынкі Крын. *Коска на балоці летае, як дзыґае.* Любішчыцы Івац. 2. Пераскокваць. *Ат палі* [палена] *на палю дзыґаў.* Стары Свержань Стаўб. *Дзыґала праз вяроўку.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Пульсаваць. *Кроў дзыґая па жылах.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сэрца б'ецца і кроў дзыґая.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *dygać* 'кланяцца, рабіць рэверансы' літ. *dzigenti* 'хутка хадзіць'.

ДЗЫҐЛЯ'ТЫ *прым.* Тое ж, што і д з ы б а́ т ы й. *Які дзыґляты, згорбіўся ўжо!* Стральцы Гродз.; *параўн.* літ. *dygliúotas* 'калючы'.

ДЗЫ'ҐНУЦЬ *зак.* 1. Саскочыць. *З высатэ дзыґнуў.* Парэчча Гродз. *А ён так і дзыґнуў з моста ў воду.* Галубы Маст. *Дзыґнуў са страхі — і хоць бы што яму сталася.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Ускочыць на што-н. *Крот кучку нарывая, яна рухаецца, а кошка сядзіць і як дзыґне на тую кучу.* Кіралі Шчуч. *Ён як дзыґне!* Любішчыцы Івац.; гл. д з ы́ ґ а ц ь.

ДЗЫҐОНІ'ТЫ *незак.* Цурчаць. *Думав, шо ны тычымэ вода с цэбра, а налыв, то* [вада] *аж дзыґоныть, бо рассохся цэбэр. Покалічыв руку, кров дзыґоніть вжэ.* Сіманавічы Драг.

ДЗЫК *выкл.* Цырк. *Ана карову доіць — дзык і пашла.* Кіралі Шчуч.

ДЗЫНҐАЦЕ'ЦЬ, ДЗЫНКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Звінець. *Дно* [адно] *толькі дзынґацелі пасуда і вокна, як танґі ішлі.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзынкаціць усё на стале, як машына едзе.* Магуны Паст.; *параўн.* літ. *dzingsʹti* 'тж'.

ДЗЫНДАЛЕ'РЫЯ *ж.* Тое ж, што і д з і н д з я л е́ й. *У нас каля плоту дзындалерыя есць.* Солы Смарг.

ДЗЫНДЗЫЛЕ'Я *гл.* ДЗІНДЗЯЛЕ'Й

ДЗЫ'НДРА, ДЗЫ'НРА *ж.* 1. Шлак. *Дзындру пат падлогу высыпаюць, і грып не есь.* Гемзы Шальч. *Як зямля палопая*

*ат сухаты, кажуць, як дзындра стала.* Мсцібава Ваўк. *Зямля, як дзындра. Там зямля, як дзындра, ссеўшыся, як не ўдабрай яе, не ўсячэш, нічого на ёй не родзіць, яна ўсякага можа быць цвету, як гліна, яна кускамі выступая.* Міратычы Карэл. *Дзынра нагарвае, камы чорныя і плішконцыя — нагар ад жалеза, угля і пяску, ат каменнага ўгля, ён перагарыць, а дзынра астаецца.* Гемзы Шальч. 2. Металічнае пілавінне. *Дзындра — атходы ад напільніка.* Старыя Трокі Трак.

ДЗЫНКАЦЕ'ЦЬ *гл.* ДЗЫНГАЦЕ'ЦЬ

ДЗЬМУХАНУ'ЦЬ, ДМУХАНУ'ТІ *зак.* Дзьмухнуць. *Дзьмухані сільна!* Альхоўка Навагр. *Як сырые дрова, то і дмуханэ, ніц нэ поможэ, нэ хочут горыэті.* Курашэва Чыж.

ДЗЬМУ'ХАЦЬ *незак.* 1. Раздзьмухваць. *Дзьмухаем агонь, а печ не паліцца.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Дзьмуць. *Бурбалкі з мыла пушчалі, дзьмухаеш, кап не села.* Гемзы Шальч. *З заходу вецер дзьмухае.* Баброўнікі Гарад.

ДЗЬМУ'ХНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і дзьмухану́ць. *Пёры як дзьмухня, яны разляцяцца.* Старыя Трокі Трак.

ДЗЬМУЦЬ *незак.* Веяць. *Вецір дзьме.* Лоск Валож. *Вецярок маленькі дзьме.* Альхоўка Навагр. ◊ *Мароз дзьмець* — пра адчуванне хвалявання. *Яна табе скажэць у вочы — мароз дзьмець.* Саланое Віл.

ДЗЮБ, ДЗЮП *м.* Дзюба. *Дзюбом дзяўбуць птушкі.* Магуны Паст. *У курэй дзюп.* Паляцкішкі Воран. *Хоць дзюп патпхне гусяня пад індычку. У курыцы дзюп, у гусей дзюп, у качкі дзюп.* Кіралі Шчуч. *Ляціць пташка, у пташкі дзюп маленькі.* Дзяніскавічы Ганц. ∇ *Дзюп пагібаецца* — есці з апетытам. *Пагляджу, ці дзюп пагібаўся.* Пацаўшчына Дзятл.

ДЗЮ'БА, ДЗЁБА *ж.* Тое ж, што і дзюб. *Дзюба ў птушак.* Едлавічы Брасл. *У курэй дзюба, вялікая дзюба ў вароны.* Альхоўцы Лях. *Дзюба ў каршуна, як мой нос.* Лайпушкі Ігн. *Бацян у дзюбе нясець гадзюку.* Рагулішкі Даўг. *Курыца дзюбай дзяўбець.* Крэва Смарг. *Дзюба закруцяста ў каршуна.* Гемзы Шальч.

ДЗЮБА'К *м.* Тое ж, што і дзюб. *Якаясь пташка з велізорным дзюбаком на луг прылетіела.* Курашэва Чыж.

ДЗЮБА'Н *м.* Таўкач. *Дзюбанамі таўклі ў ступе.* Вострава Маст.

ДЗЮ'БА'ЦЬ *незак.* 1. Есці дзюбай. *Куры дзю́баюць зерня.* Паляцкішкі Воран. *Курапаткі дзю́баюць жукоў.* Старыя Смільгіні Воран. *Варона сядзя і дзю́бая, што пападзе.* Бакшты Іўеў. *Куры дзю́баюць зярнята.* Кіралі Шчуч. *Як пасыпеш чаго, куры дзю́баяць.* Ліпнікі Вільн. *На дрэвах дзюба́юць пташкі.* Старыя Трокі Трак. 2. Біць дзюбай. *Ён* [пятух] *дзю́бая гусянята і куранята.* Вострава Маст. 3. у спалучэнні з назоўнікам *прасніца.* Прасці. *Капцілачку запаліла і дзюбаіць у прасніцу.* Курaполле Паст.

ДЗЮГ, ДЗЮХ *м.* 1. Палоса. *Пасярэдзіне дзюх ушыты і па канцах. Дзюх лыка для лапцей. Аткроіў дзюх шырокі. У дзюгі ткалі: дзюх такі і такі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Пісага. *Карова правяла дзюх рагамі. На мордзі дзюх. Дзе ты зрабіла дзюх?* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Палосачка на ачышчаных кішках. *У калбасе дзюх белы, калі вывapачываюць кішкі. Дзюгі аставаліся, плейка злуплююцца, як сцякло, кішкі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *džiugaĩs* 'натоўпам', польск. *dziugi, dzugi* 'асадак, рэшткі пасля перагонкі смалы'.

ДЗЮ'ГА *ж.* 1. Тое ж, што і дзюг 1. *Коўдры ў дзюгі ткуць, папярок дзюгі ўсякія: дзюга красна, дзюга сіня.* Альхоўцы Лях. 2. Тое ж, што і дзюх 2. *Не гавіўсё палец, гэдакі дзюгі пашлі — чырвоныя палоскі на руцэ пат саму паху.* Міратычы Карэл. *Як носіць мушчына сарочку, ат цела, ат поту паробяцца на сароццы бы дзюгі чорныя, во занасіў.* Ганцавічы Лях.

ДЗЮ'ГАЦЬ *незак. экспр.* Стукаць, біць. *Дзюгаіць тапаром, касой зверху — дзюх-дзюх.* Курaполле Паст.; *параўн.* літ. *džiugėti* 'бразгаць'.

ДЗЮ'ГЛІК *м. экспр.* Удар кулаком. *Дзюгліка дам табе ў плечы!* Валынцы В.-Дзв.

ДЗЮ'ГЛІНА *ж.* Тое ж, што і дзю́глік. *Дзюгліну калі добра даць, дык і знак астаецца.* Валынцы В.-Дзв.

ДЗЮ'ГЛІЦЬ *незак. экспр.* Біць, лупцаваць. *Стала дзюгліць яго!* Валынцы В.-Дзв.

ДЗЮГЛЮ'К *м.* Тое ж, што і дзю́глік. *Дзюглюкоў дала яму ў плечы. Дала яму дзюглюка.* Валынцы В.-Дзв.

ДЗЮ'ГНУЦЬ *зак. экспр.* Стукнуць. *Гэтак ён мне дзюгнуў у плечы, аш я панырнула́.* Лісна В.-Дзв. *Я табе як дзюгну!* Валынцы В.-Дзв.

ДЗЮ'ЖАЧКА *ж. памянш.* да дзю́г 1. *Плаценка ткалі ў палоскі, у дзюжачкі.* Дакудава Лід.

ДЗЮЖО'К *м. памянш.* Невялікая паласа зямлі. *Чацвярцінкі зямлі дзялілі на дзюшкі і біліся за той дзюжок.* Рудня Астравітая Чэрв.

ДЗЮ'ЖЫЦЬ, ДЮ'ЖЫТЫ *незак.* Ліць (пра дождж). *Вот дзюжыць, што на галаве рупчынкі не было сухой.* Бакшты Іўеў. *Дзюжыў дошч.* Граўжышкі Ашм. *Дзюжа дошч.* Солы Смарг. *Вот, дошч дзюжыць, праўда, што дзюжыць.* Кіралі Шчуч. *Дошч дюжыть.* Сіманавічы Драг.

ДЗЮ'КІ-ГО'ПЦЯ-ДЗЮ'КІ *выкл.* Гоп-гоп. *Ой, дзюкі-гопця-дзюкі! — дзіця падкідваюць і прыгаворваюць.* Альхоўцы Лях.

ДЗЮП *гл.* ДЗЮБ

ДЗЮ'ПКА *ж.* Цура. *Дзюпка ці рулі — вада, хлеп туды, засаладзіў і ясі.* Магуны Паст. *Накрышам хлеба, вады, солі—*

*і дзюпка.* Малькуны Ігн. *Дзюпкі рабіць нада: ваду соліць ці салодзіць і с хлебам ядуць.* Ракаўскія Швянч.

ДЗЮПЛО′ *гл.* ДУПЛО′

ДЗЮРА′ *гл.* ДЗІРА′

ДЗЮРА′ВЫ *гл.* ДЗІРА′ВЫ

ДЗЮ′РАЧКА *гл.* ДЗІ′РАЧКА

ДЗЮ′РКА *гл.* ДЗІ′РКА

ДЗЮРКО′М *прысл.* Цурком. *Кроў ідзе дзюрком.* Вострава Маст.

ДЗЮРЧА′ЦЬ, ДЗЮРЧЭ′ЦЬ *незак.* Цурчаць. *Вот вада дзюрчыць.* Кіралі Шчуч. *Цячэ з бульканнем, то, кажуць, дзюрчыць вада.* Навасёлкі Свісл. *Вада дзюрчыць, паслухай.* Мачаск Бярэз. *Вада дзюрчыць.* Азяраны Раг.

ДЗЮРЭ′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і д з ю р ч а́ ц ь. *Дзюрыць вада, дзюрыць вада ў ручаі.* Навасёлкі Свісл. *Дзюрыць вада — моцно бяжыць, бывая падая наніз, дзе нізіна.* Альхоўцы Лях. *Дзюрыць дошч.* Нізок Уздз. *Пярун страляя, дзюрыць дож.* Азяраны Раг.

ДЗЮ′ХЦІК *м.* Тое ж, што і д з ю́ г л і к. *Набіла дзюхцікам рабёнка. Ну і даў я яму дзюхцікамі! Дайней і матка, чуць чаго — ды дзюхціка ўсадзіць у плечы і плакаць не дась.* Лісна В.-Дзв.

ДЗЯ′БАЦЦА *незак. экспр.* Касіць бугрыстую сенажаць. *Па пагонах, дзе каровы жануць, там дзябаўса.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЯ′БАЦЬ *незак. экспр.* Тое ж, што і д з я́ б а ц ц а. *Каб добра сенажаць, то касіў бы, а як лядайка, то дзябае.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЯ′БНУЦЬ *зак.* 1. Дзеўбануць. *Курыца дзябнула гусяня па галаве.* Кіралі Шчуч. 2. *перан.* Утаргаваць. *Ён чатыры тысячы дзябніць за дом.* Валынцы В.-Дзв.

ДЗЯВА′ЦЦА *незак.* Знаходзіць прытулак. *Не было ей дзе дзявацца.* Лісна В.-Дзв.

ДЗЯВА′ЦЬ *зак.* Траціць. *Яму грошы няма куды дзяваць.* Лісна В.-Дзв.

ДЗЯВО′ЦКІ *прым.* Дзявочы. *У пятніцу дзявоцкі каравай пякуць.* Саланое Віл.

ДЗЯВО′ЦТВА, ДЗЯВЁЦТВА *н.* Дзявочыя гады. *У дзявоцтве любіліся.* Пацаўшчына Дзятл. *Вэлен надзявалі, як дзеўка дзявёцтва харашо сваё вяла, а плоха вяла — ні надзявалі.* Ракаўскія Швянч.

ДЗЯВО′ЧЧЫНА *ж.* Тое ж, што і д з я в о́ ц т в а. *У тым домя ёсць такая жанчына — разам некалі дзявоччыну гулялі — дзеўкай была натта хварсістая.* Лаўцы Глыб.

ДЗЯВО′ШЧЫНА *ж.* Нявіннасць. *Ты сваю дзявошчыну сахраніла, не папусцілася.* Кураполле Паст.

ДЗЯВУ'ШЧАЯ *прым.* Незамужняя. *Мая пляменніца — яна дзявушчая, замуш ні пашла.* Магуны Паст.

ДЗЯГ, ДЗЯХ *м.* 1. Тое ж, што і д з ю г 1. *Узяў адзін дзях і плёў лапці. З дзягоў лапці плялі.* Вецярэвічы Пух. *Два дзягі. Даўней наробяць дзях і лапці плялі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Выздараўленне. *А дзях — гэта папраўка, чалавек паправіўся і пашоў работаць.* Лісна В.-Дзв. ◊ *Узяць дзягу* — набраць сілы, паправіцца. *Я паслі хваробы ніяк дзягу ні вазьму. Іна перахварэла і пасля хваробы ўзяла дзягу.* Лісна В.-Дзв.

ДЗЯ'ГА *ж.* 1. Тое ж, што і д з ю г 1. *Ткуць кросна ў палосы і кажуць: у дзягі. Посцілкі ткалі ў дзягі.* Альхоўцы Лях. 2. Тое ж, што і д з ю г 2. *Ад нарыва пашлі дзягі па руцэ. Па шыі пашла чырвона дзяга.* Навасёлкі Свісл. 3. Папруга, рэмень. *Лепну я цябе дзягаю! Дзягай пацягнуць цябе трэ.* Стральцы Гродз. *Дзягу куплю, можэ, бацька прыдзе і грошы будуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзе мая дзяга, німа чым портаў падвязаць.* Кіралі Шчуч. *Дзягай патпяразваюць мушчыны штаны.* Дакудава Лід. *У нас толькі дзяга, рэмінь кажуць цяпер маладзейшыя.* Асавец Віл. *Дзягай, рэмням патпяразацца.* Рыбчына Віл. *Пацягваюць дзягай, кап дзяржалася. Дзяга раменная.* Крупіца Мін. *Дзягай патпіразацца, паясом патпаясацца.* Мярэцкія Глыб. *Мужчыны насілі кожаныя дзягі — шырокія паясы — там піпка і табакерка.* Ухвала Круп. *Дзягай падпеdoes*

ДЗЯГНО' *н. кулін.* Ежа, прыгатаваная з канаплянага семя. *С калапень дзелала дзягно. Таўчонікі з дзягном елі. Дзягно з калапней. Палупюць картошку і з дзягном ядуць.* Лісна В.-Дзв. *Стаўчом калапень, змаслім і робім масла, выціснім масла, а клінцы варым, размішаім, і што збіраецца наверх, называім дзягно.* Мярэцкія Глыб. *Дзягно — яда с канапель, малако. Дзягно варылі с калаплянага семя.* Палік Барыс. *Малако — з калапней, а семя — дзягно.* Беразіно Докш. *Дзягно дзелалі с канапель, таўклі ў ступі, аш рашато масліцца.* Янова Рас.

ДЗЯГЦЯ'Р *м.* Тое ж, што і д з і г ц я́ р н і к. *Дзягцяр — чалавек, які гоніць дзёгаць.* Калясное Міхал.

ДЗЯГЦЯ'РКА, ДЗЯХЦЯ'РКА, ДЗІХЦЯ'РКА *ж.* Посуд для захоўвання дзёгцю. *Дзяхцярка для дзёхця, мазаць калёса.* Магуны Паст. *У дзіхцярках трымалі дзёгаць.* Ухвала Круп.

ДЗЯ'ГЯЛЬ, ДЗЕ'НЬГЕЛЬ, ДЗІ'НЬГЕЛЬ, ДЗЯ'НЬГІЛЬ *м. бат.* Дзягіль. *Карэня дзяґяля насілі на шыі ат халеры.* Граўжышкі Ашм. *Дзеньґель—вялікая шнітка.* Малькуны Ігн.

*Тыц-мыц, не маніць — найчыліся людзі з дзіньґелям воткупіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Такі дзяньґіль каля рэчкі рос. Дзяньґіль накідалі ў бутэльку і пілі ат чумы.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *dzięgiel* 'тж'.

ДЗЯ'ДЗІНА *ж.* Жонка дзядзькі. Магуны Паст., Паляцкішкі Воран., Масілавічы Сл., Вострава Маст., Навасёлкі Свісл., Міратычы Карэл., Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв., Багушэвічы Бярэз., Пасека Ст.-Дар. *Дзядзіна — чужая, а дзядзька — родны.* Кіралі Шчуч. *Госці ў мяне — дзядзіна прышла.* Малахоўцы Бар. *Колісь цётку звалі дзядзіна.* Смаляніца Пруж. *А што толькі, паглядзіце, дзядзіна вырабляіць!* Беразіно Докш. *Жонка брата бацькі — дзядзіна і жонка брата маткі — дзядзіна.* Старыя Трокі Трак. *Дзядзіна — жонка таткінага брата.* Гемзы Шальч. *Дзядзіна была, пашла ў другі канец. Дзядзіна — жонка роднага дзяцькі.* Малькуны Ігн., Азяраны Раг. *У мяне было тры дзядзінаў.* Ракаўскія Швянч. *Да аўтобуса іду па дзядзіну.* Баброўнікі Гарад.

ДЗЯДЗІ'НЯЦ I, ДЗЕДЗІ'НЕЦ *м.* Дварышча. *Так воўкі ў дзядзінцу яго* [сабаку] *злавілі.* Быстрыца Астр. *На дзядзінец гані.* Кемялішкі Астр. *Як пашлі на хутара, то называлі ўсю ўсадзьбу дзядзінцам. У дзядзінцу сат вынесены, а ў другіх і садох(к) уваходзіць у дзядзіняц.* Паляцкішкі Воран. *На дзядзінцу ліжалі каровы.* Валынцы В.-Дзв. *Дзедзінец — аднаго гаспадара двор.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *dziedziniec* 'тж'.

ДЗЯДЗІ'НЯЦ II *м. мед.* Эпілепсія. *Як кідаць пачне дзядзіняц!* Ракаўскія Швянч.

ДЗЯДЗЯ'ШЫМ *м. бат.* Дзікі часнок. *Дзядзяшым кладуць у кілбасы, ён пах мая, замяняя часнок.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* літ. *dedẽšrė* 'тж'.

ДЗЯДО'ВІК *м.* Парасё, якога забіваюць на дзяды (абрадавае свята). *Дзядовік — к дзядам будзім біць, а другога — к калядам.* Саланое Віл.

ДЗЯДО'К I *м. памянш.-ласк.* да д з е д I, 2. *Дзядок мой родненькі!* Вялікія Баяры Шчуч.

ДЗЯДО'К II *м. памянш.* да д з е д II, 1. *Дзядок старажыць хаты, яго торкалі за абрас. Дзядок — яго абіваяць і сеяць, як сеялі жыта, таксама ўкопвалі ў зямлю.* Груздава Паст.

ДЗЯДО'К III *м.* 1. Апорны слупок у гаспадарчым будынку. *Ставілі дзяткі для апоры, іх два ці тры.* Магуны Паст. *На дзятках крохвы.* Жодзішкі Смарг. *Дзядок — слуп для патпоры страхі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. *памянш.* да д з е д III, 3. *Шпулю ў калаўрот устаўляю ў дзядок.* Магуны Паст. 3. *памянш.* да д з е д III, 4. *Ставілі дзядок, як лён трапалі.* Старыя Трокі Трак.

ДЗЯДО'К IV *м.* Адтуліна ў жорнах, у якую ўстаўляецца млён. *Дзядок — куды ўкладаецца млён.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЯДО'К V *м.* Кассё. *Дзядок у касе.* Вецярэвічы Пух.

ДЗЯДО'ЎСКІ, ДІДУО'ВСКІ *прым.* Дзедаўскі. *Яшчэ дзядоўская асталося.* Жылі Іўеў. *Дідуовскою частею внукі поділілісе. Пушов на старые ліета на дідуовскі хліеп.* Курашэва Чыж.

ДЗЯДО'ЎШЧЫЗНА *ж.* Спадчына, якая засталася пасля дзеда. *Дзядоўшчызна наша.* Магуны Паст. *На дзядоўшчызне ставіла хату.* Паляцкішкі Воран.

ДЗЯДУ'К *м.* 1. Тое ж, што і дзед I, 1. *Дзядукі паміраюць.* Відаўцішкі Вільн. 2. Тое ж, што і дзед I, 2. *Мой дзядук насіў гаці з ґузікамі. Бацька маго бацькі — дзядук.* Старыя Трокі Трак. *Мой дзядук гаварыў — карчмы былі.* Малькуны Ігн. *Гараў валамі дзядук. Мой дзядук с суседам харашо жыў.* Грыкені Вільн. *Так, дзядук, ідзіце есці.* Буйвіджай Вільн. *Дзядук ідзе.* Стральцы Шальч. *Дзядук, скажы, як яны выглядалі, тыя хадакі?* Швэды Вільн.

ДЗЯДУ'ЛЬКА *м.* Дзядуля. *Дзядулька прышоў да нас.* Старыя Трокі Трак.

ДЗЯДУ'ЛЯ, ДЗЯДУ'ЛЬ, ДІДУ'ЛЬ *м. памянш.-ласк.* да дзед I, 2. *За немцамі дзядуля памёр.* Груздава Паст. *Мы любім дзядулю.* Магуны Паст. *Мой дзядуля прышоў. Дзядуля памёр.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дзядуля́ прывязлі с Палтаўскай губэрніі. Дзядуль мой расказваў: бацька з дзядулём меў шэсць валок зямлі. Мой дзядуль канавалам быў.* Гемзы Шальч. *Дзядуль, куды пойдзеш?* Альхоўка Навагр. *А ваш дідуль шчэ здоровы? Молоды, а ходіт згорбляны, як дідуль.* Курашэва Чыж.

ДЗЯДУ'НЯ *м. памянш.-ласк.* да дзед I, 2. *Дайце дзядуню есці.* Дзераўное Стаўб. *Дзядуня ўзяў да сябе внучку.* Ліпнікі Вільн.

ДЗЯДЫ' I, ДЗЕ'ДЫ, ДЗЯДЭ' толькі *мн.* 1. Продкі. *Нашы дзяды, прадзяды.* Мярэцкія Глыб. *Пакаленя прад намі — і дзяды і прадзяды.* Швэды Вільн. *Нашы дзядэ казалі, што француз ішоў.* Малахоўцы Бар. 2. *абрад.* Дзень, у які памінаюць нябожчыкаў. *Дзяды — памінальны дзень, на стале стаіць талерачка і місачка для дзядоў. Што самі ядуць, аткладаюць дзядом; пяклі тры булачкі на дзяды, называлі курачкі, і аддавалі іх жабраком.* Рыбчына Віл. *Дзідамі ішлі акопы капаць, анучкі паабвязавалі.* Саланое Віл. *Дзяды былі радушнія пасля вялікання, сёмушнія і багатыя ўвосень. На дзяды рабілі сем страў.* Кухты Віл. *На дзяды ўпаміналі помяршых.* Дакудава Лід. *Дзяды ўвосянь — памінны дзень.* Малахоўцы Бар. *На дзяды варылі капусту, крупы, кашы густой навараць, кампот.* Альхоўцы Лях. *На дзяды трэба дзевяць страў наварыць.* Азяраны Раг. *Дзеды і бабы — святы.*

*Сягоня дзеды, а заўтра бабы. На дзеды варадь посная: з грыбамі куцыю, із макам пасолю ці гарох параць.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзеды — гэто свято осеню, трэба барана рэзаць і дзеды спраўляць.* Парэчча Гродз. *Рэзалі гавечак, бараноў на дзядэ, кап мяса хапіла ўсім: за мёртвыя душы давалі па кусочку.* Кіралі Шчуч. *Перат калядамі ў нас дзядэ робяць.* Вецярэвічы Пух.

ДЗЯДЫ′ II *мн. бат.* 1. Чартапалох. *Дзяды калючыя парaслі.* Асавец Віл. *Дзяды — калючая трава, чартапалох.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дзяды колкія.* Вялікі Лес Круп. 2. Лопух. *Дзяды вялікія растуць.* Малькуны Ігн. *Дзяды — калючая трава, дзядоўнік.* Рыбчына Віл. 3. Суквецце-шышкі лопуху. *На лапуху калючыя дзяды.* Быстрыца Астр.

ДЗЯДЫ′ III *мн.* Звязаныя снапкі саломы, якімі ўмацоўваюць край саламянай страхі. *Калі крыюць хату саломаю, кап салома не разляталася, то навязваюць дзяды на канцох саломы па краях страхі.* Стральцы Гродз.

ДЗЯДЫ′ЛА *м. экспр.* Дзед, стары. *Ці найдзе мой дзядыла вотку?* Гемзы Шальч.

ДЗЯЖА′ *гл.* ДЗЕЖА′

ДЗЯ′ЖКА, ДЗЯ′ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і *д з ю г* 1. *Кроілі дзяшкі.* Рудня Чэрв. 2. Надзел. *Палучыў ён ніўку, ці дзяшку. Некалі дзяшкі былі і сена.* Дакудава Лід. 3. Тое ж, што і д з я́ г а 3. *Дзяшкай патпяразвалі порткі.* Магуны Паст. *Дзяшка — патперазвацца.* Кемялішкі Астр. *Дзяшкі захацеў?* Пацаўшчына Дзятл. *Дзяшкі — скураныя, спрошкі на іх былі.* Старыя Трокі Трак. *Дзе мая дзяшка?* Ракаўскія Швянч. *Падперазацца дзяшкай.* Грыкені Вільн. *Патперажы дзяшку, у дзяшкі прашка была!* Рагулішкі Даўг.

ДЗЯ′ЖЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і д з ю́ ж ы ц ь. *Дзяжыць дошч цэлы дзень, халодны дзень.* Мсцібава Ваўк.

ДЗЯ′Ж′Я *зб. н.* Рызманы. *Было, гулялі ў лапцях, ідзе дзеўка з вечарынкі, толькі дзяж'я цягнецца з лапцей.* Кузьмічы Люб.

ДЗЯ′КАВАЦЬ *незак.* Выказваць падзяку. *Было за што дзякаваць.* Солы Смарг.

ДЗЯКА′ДА *ж.* Дэкада. *Тры дзякадзі маям у месяц.* Калядзічы Ваўк.

ДЗЯ′КУЙ 1. *часц.* Дзякую. *Дзякуй богу і гэтаму дому.* Кураполле Паст. 2. у знач. *назоўніка, н.* Падзяка. *За дзякуй не адбудзеш.* Старыя Смільгіні Воран.

ДЗЯ′ЛАЧКА *ж. памянш.* да д з я́ л к а 1. *Дай дзялачку буракоў.* Паляцкішкі Воран.

ДЗЯЛІ′ЦЦА *незак.* Рабіць падзел гаспадаркі. *Дзяліцца яны сталі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Браты дзелюцца.* Пасіене Лудз.

ДЗЯЛІ′ЦЬ *незак.* Размяркоўваць, дзяліць. ∇ *Як красату*

*дзялілі, я спала, а як шчасце і долю дзялілі, я і ўстала.* Ухвала Круп.

ДЗЯ'ЛКА *ж.* 1. Участак зямлі, сенажаці, лесу. *Касіў дзялку сваю.* Кураполле Паст. *Дзялка лёну.* Быстрыца Астр. *Далі дзялку буракоў.* Жодзішкі Смарг. *Мела тры дзялкі лёну. Адна дзялка буракоў стаіць.* Ністанішкі Смарг. *Дзялку далі лесу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзялку скасіў, дзе Ласун сядзеў.* Лісна В.-Дзв. *Дзялку буракоў далі палоць.* Індра Красл. *Дзялкі дадуць касіць.* Паляцкішкі Воран. *Ішчэ есць дзялка буракоў.* Мсцібава Ваўк. *Па дзялках дзялілі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Адна на тых дзялках не справіцца, ідуць усёй сям'ёй: і дзеці, і старыя. Дзялкі чысцілі двайгу — Зіня і Саша.* Кіралі Шчуч. *Гэта сынава дзялка. Дзве дзялкі буракоў апалоць нада.* Саланое Віл. *Як палучу дзялку за Немнам, не бяру дакудаўскіх касцоў.* Дакудава Лід. *Дзялкі давалі жыта, і я брала.* Парэчча Гродз. *Во то жадная баба: вырвя сваю дзялку і другую пойдзя рваць.* Міратычы Карэл. *Кажды рас ходзіць у Пахабаўшчыну, бо дзялка там.* Альба Нясв. *Мая дзялка поруч з ёю.* Альхоўка Навагр. *Бліска дарогі далі дзялку.* Жылі Іўеў. *Выдзялілі дзялкі ў калхозя: дзялка картофлі, дзялка буракоў.* Малахоўцы Бар. *Дзялкі для сена давалі.* Ракаўскія Швянч. *Дзялкі падзелены, я не выпалала сваю.* Лайпушкі Ігн. *Дзялка буракоў.* Гемзы Шальч. *Узяў дзялку, капаць не мае чым.* Лука Нараўк. *Дзялкі, як дзелюць сенакос, а так соткі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Трэба дзялкі рабіць тэрас.* Канюкай Вільн. *На садзонках далі дзялкі.* Альхоўцы Лях. *Дзялілі зямлю на дзялкі.* Тухавічы Лях. 2. Дзялянка. *Дзялкі — дзе вырубаны лес.* Парэчча Гродз.

ДЗЯЛО'К *м.* Лаўкач. *Жонкі матка — дзялок. Ён натта дзялок.* Гемзы Шальч.

ДЗЯЛЯ'НКА І, ДЗІЛЯ'НКА *ж.* 1. Участак лесу, адведзены для высечкі. *Будуць адводзіць дзялянку лесу.* Вялікія Баяры Шчуч. *Адвёў дзялянку ў леся піліць.* Магуны Паст. *Дзерава далі дзялянку.* Быстрыца Астр. *Дзялянку закуплівалі — і там лес рэзалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзялянка — участак адведзенага лесу для вырупкі. У гэтай дзялянцы сукі трэба падабраць і спаліць іх.* Жылі Іўеў. *Выдзялілі дзялянку лесу для вырупкі.* Дакудава Лід. *Дзялянку лесу выдзяляюць для рупкі.* Малахоўцы Бар. *Лес разбіваюць на дзілянкі, прасекаюць лініі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Высечаны ўчастак сярод лесу, пасека. *Дзялянка — дзе вырубаны лес.* Рагулішкі Даўг., Кіралі Шчуч. *Вырубалі дзялянкі. Там пасаджаны лес, там трава харошая, хваінкі маленькія, жывёлы няможна пасвіць.* Гемзы Шальч. *Атвядуць квартал дрова рэзаць, як выражуць — дзялянка; у дзялянцы збірала ягады; леташняя дзялянка. Пасяка—даўней, цяпер—дзялянка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дзілянка — гэта пасека.* Палік Барыс. 3. Участак сена-

косу, адведзены для кашэння. *Мне далі дзілянку харошага пакосу.* Лісна В.-Дзв.

ДЗЯЛЯ'НКА II *ж.* Кавалак. *Дай дзялянку мяса!* Малахоўцы Бар.

ДЗЯНДЗЕ'РА *м.* і *ж.* *экспр.* Няўклюда, расцяпа, недарэка. *Выбралі гэткую дзяндзеру.* Саланое Віл.

ДЗЯНЕ'ЦЬ *незак.* *безас.* Днець. *На сценкі гляжу — ужо дзянеіць.* Рагулішкі Даўг.

ДЗЯННІ'К, ДЗЯНІ'К *м.* Агароджаная частка двара, дзе знаходзіцца жывёла ўдзень і ў добрае надвор'е. *Дзяннік гарадзілі балькамі. У дзяніку гарадзілі жардзямі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзянік — ат хаты да хлява балькай загароджана.* Лайпушкі Ігн. *Міш хлевом і хатай загараджаный дзянік.* Рагулішкі Даўг.

ДЗЯНЫ' *прым.* Дзённы. ▽ *Начная птушка перакукуіць дзяную* — жонка заўсёды не вінавата, а вінавата матка. Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗЯНЮ'ШКІ *мн.* Попрадкі ўдзень. *Дзянюшкі — калі ўдзень сабіраліся прасці.* Старыя Трокі Трак.

ДЗЯНЯ'ШНІ, ДЗЕ'НЯШНІ *прым.* Дзённы. *Дзяняшні ўдой.* Рудня Чэрв. *Паеў дзеняшняга і лёх.* Вецярэвічы Пух. *Што мяне дзеняшнім корміш?!* Вялікія Баяры Шчуч.

ДЗЯРАВІ'НА *гл.* ДЗЕРАВІ'НА

ДЗЯРАВЯ'НКА I *гл.* ДЗЕРАВЯ'НКА

ДЗЯРАВЯ'НКА II *ж.* Грэбень часаць лён. *Дзяравянка вялікая — гэта грэбянь. Пачасся лепшая, яно з другой дзяравянкі.* Магуны Паст.

ДЗЯРАВЯ'ШКІ *гл.* ДЗІРАВЯ'ШКІ

ДЗЯРАЗА' *гл.* ДЗЕРА'ЗА'

ДЗЯРАЎЛЯ'НКІ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Дрэва, абітае скурай — гэта дзяраўлянкі.* Магуны Паст.

ДЗЯРАЎЛЯ'НЫ *гл.* ДЗЕРАЎЛЯ'НЫ

ДЗЯРВА'Н *гл.* ДЗІРВА'Н

ДЗЯРГА'Ч I *гл.* ДЗЯРКА'Ч I

ДЗЯРГА'Ч II *гл.* ДЗЯРКА'Ч II

ДЗЯРГУ'ЧЫЙ *прым.* Раздражняльны. *Пыл дзяргучый.* Кураполле Паст.

ДЗЯРЖА'ДЛА *н.* Дзяржанне, ручка. *Дзяржадла ў вілах.* Жодзішкі Смарг.

ДЗЯРЖА'К, ДЭРЖА'К *м.* 1. Прыстасаванне, у якое ўстаўлялася вітушка. *Есь дзяржак с крыжаковымі палкамі.* Лісна В.-Дзв. 2. Тое ж, што і дзяржа́дла. *Патэльня з дэржаком.* Смаляніца Пруж.

ДЗЯРЖА'ЛЛЕ, ДЗЯРЖА'ЛЛЯ *н.* Тое ж, што і дзяржа́дла. *Вілкі насаджаюць на доўгі кій — дзяржалле. У лапаты дзяржалля.* Асавец Віл.

ДЗЯРЖА'ЛНО *н.* Тое ж, што і д з я р ж а́ д л а. *У нажэ е тронкі і дзяржално, кажуць.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЯРЖА'ННЯ, ДЗЯРЖА'НЯ *н.* Тое ж, што і д з я р ж а́ д л а. *Трэба ў лошках дзяржання пашараваць.* Вецярэвічы Пух. *У ножыка, качаргі — у ўсяго дзяржаня.* Дакудава Лід.

ДЗЯРЖА'ЦЦА, ДЗЕРЖА'ЦЦА *незак.* 1. Трымацца на чым-н. *После Яна лісты веніка не дзержацца.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Трымацца за што-н. *Я дзяржуся за жалескі, а ён мяне цянець.* Пасіене Лудз. 3. Прытрымлівацца чаго-н. *Цаны дзяржуся, кап даражэй прадаць.* Старое Сяло Зэльв. 4. Захоўвацца. *Загар доўга дзержыцца праз зіму.* Ёдлавічы Брасл. *Як аса ўкусіць — доўга опухаль дзержыцца.* Рагулішкі Даўг.

ДЗЯРЖА'ЦЬ, ДЗІРЖА'ЦЬ, ДЭРЖА'ТЭ *незак.* 1. Гадаваць, утрымліваць. *Дзве каровы дзяржаў.* Груздава Паст. *Мы дзяржалі трох кароў. Еслі ты дзержыш харошага каня, ты жывёш харашо. Дзержаць сабаку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хто дзяржыць цялушку і карову — з вялікай раскошы.* Асавец Віл. *Кароўку дзяржым, алі сілы нет.* Валынцы В.-Дзв. *Свіней многа дзяржым.* Лоск Валож. *Катэ дзяржаць.* Вострава Маст. *Ён дзяржыць карову.* Старое Сяло Зэльв. *Валы трэба было дзяржаць.* Швэды Вільн. *Дыржымо корову. Курэ дэржэт.* Дзмітравічы Кам. 2. Трымаць у руках. *Слоік у руках дзяржыць.* Старое Сяло Зэльв. *Мама, маю руку дзяржы!* Кураполле Паст. *Граблявіска — што ў руках дзяржаць.* Старыя Трокі Трак. 3. Трымаць пры сабе. *Хай бы дзяржала пры сабе дзіця.* Міратычы Карэл. 4. Выхоўваць. *Дзяржаць дзяцей нада строга.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Пакідаць у пэўным стане. *Аткрыўшы вул дзержыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 6. Падпіраць. *Кол дзержыць плот.* Палік Барыс. *Снех прымерс і дзяржыць, можна ісці напрама.* Кіралі Шчуч. 7. Захоўваць. *Гальяк натта доўга ваду халодную дзяржыць.* Гемзы Шальч. *Заколя ў баку і дзяржыць і дзяржыць.* Быстрыца Астр. 8. Валодаць кім-н., чым-н. *Паны парапкоў дзяржалі.* Ністанішкі Смарг. *Я дзяржаў кузню.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зямлю дзяржалі ў арэнду.* Магуны Паст. *За маей памяццю поп дзяржаў зямлю.* Рыбчына Віл. *Яна піварню дзяржала.* Парэчча Гродз. 9. Трымаць за грошы на сваёй плошчы, на сваіх харчах. *Яна ксяндза дзяржала.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я дзяржала на кварцірэ.* Лоск Валож. 10. *перан.* Затрымліваць. *Вы дзяржыцё брыгаду!* Саланое Віл. 11. Прытрымлівацца чаго-н. *Адна толькі я дзяржу моды.* Кураполле Паст. 12. у спалучэнні з назоўнікам *адказ.* Адказваць. *А цяпер дзяржы аткас.* Груздава Паст. ∇ *Баба дзяржыць тры ўглы гаспадаркі, а мужык — адзін угал* — самы важны ў сям'і жонка. Груздава Паст.

ДЗЯРКА'Ч I, ДЗЕРКА'Ч, ДЗІРКА'Ч, ДЗЯРГА'Ч *м.* Стары венік без лісця. *Садраўся венік — дзяркач. Дзяркачом падлогу шаруюць.* Рыбчына Віл. *Як дам дзяркачом!* Старыя

Смільгіні Воран. *Венік змяцецца да дзяркача.* Кіралі Шчуч. *Як вазьму дзяркач, я вам пакажу!* Гемзы Шальч. *Дзяркачом шаравалі палы.* Старыя Трокі Трак. *Дзяркач — стары венік.* Багушэвічы Бярэз. *Мо дзеркач е, то прынясі.* Вялікі Краснік Пруж. *Можна шаравацъ дзеркачом.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Дзіркачом пол шаравалі.* Солы Смарг. *Дзяргач — венік.* Чычалі Швянч.

ДЗЯРКА′Ч II, ДЗЕРКА′Ч, ДЗЯРГА′Ч *м. заал.* Драч. *Дзяркач крычыць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Дзеркач на балоце, у траве, бліжэ вады, дзеркач быстра бегае.* Лука Нараўк. *Дзяргач как дзёргаіць, ён больш каля вады.* Чарняўскія Лудз. *Дзяргач жаўтаваты такой, бегае каля вады.* Пасіене Лудз.

ДЗЯРКА′ЧЫК *м. памянш.* да д з я р к á ч I. *Дзяркачыкам падзяру падлогу.* Гемзы Шальч.

ДЗЯРКЛІ′ВЫ *прым.* Задзірысты. *Дзярклівы, задзіраецца.* Міратычы Карэл.

ДЗЯРНО′, ДЗЕРНО′ *н.* 1. Тое ж, што і д з ё р а н 1. *Дзярны парабіліся на той зямлі.* Мачаск Бярэз. *Траілі, дзе дзерно, дзе пырнік зарастае.* Відаўцішкі Вільн. 2. Зарослае балота. *Дзярно — гэто зарослае балото.* Баброўнікі Гарад.

ДЗЯРНЯ′К *м.* Тое ж, што і д з ё р а н 2. *Кусок муравы выража — ета дзярняк.* Лапічы Асіп.

ДЗЯРО′НІК *м.* Бабка з бульбы. *Дзяронік — бапка з бульбы. Дзяронік паставіла пячы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДЗЯРУ′ГА I, ДЗЕРУ′ГА *ж.* 1. Грубое, тоўстае палатно. *З рыззя рвалі і ткалі, і называлі дзяруга.* Рыбчына Віл. *Дзяруга — аснуюць ніткі, а тады паткуць трапкамі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дзяругі ткаць будам, дзяру́жна палатно плахоя, у роскідку тком.* Азяраны Раг. 2. Посцілка або коўдра з грубога палатна. Ядуці Іўеў. *Дзяруга ў дзве столкі, у пяць полак.* Рыбчына Віл. *Да дзяругі прывязалі кавалак вяроўкі, кап большу кучу прынясці. Пад адной дзяругай, дзіва, што змерзла. Дайця дзяругу, пайду па сена!* Кіралі Шчуч. *З дзярух шылі кордла.* Жылі Іўеў. *Дзяругу зелья прынесла.* Альхоўка Навагр. *Дзяругі сваёй работы, з хужэйшага лёну, тры полкі — і ўместа сшываюць, а ў канцы — ня сшыта; можна ўлезці ў дзяругу.* Ухвала Круп. *Нашу салому дзяругай.* Гемзы Шальч. *Дзяруга — у дзве рэдзі шшыем і ўкрываемся летам.* Азяраны Раг. *Дзеруга — со льну ткалі, накрываліся, у дзве столкі пэрэгорне. У дзеругах блошчыцы былі.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Посцілка з льновалакна рознай якасці. *Дзяруга — лошко засцілаюць, па траву ідуць, ткуць з нітак, ніткі прадуць з кудзелі і з доброго лёну.* Міратычы Карэл. 4. Грубое адзенне. *Во, дзяругу якую надзенеш.* Крэва Смарг.

ДЗЯРУ′ГА II, ДЗЯРУ′ХА *ж. бат.* Дзераза. *Дзяруга ў леся расце, добра ёй мыць. Дзяругой хаты прыбіралі.* Быстрыца Астр. *У лесі расцець дзяруга.* Кураполле Паст. *У лясу дзяру-*

*га расцець. Вянкі плятуць з дзяругі.* Валынцы В.-Дзв. *Дзяруга сцеліцца па зямлі.* Рагулішкі Даўг. *Дзяруху п'юць, як мачавы пузыр бальны.* Шамялі Брасл.

ДЗЯРУ'ШКА *ж.* Мяккая посцілка, тканая з рознага валакна — льну рознай якасці, шэрсці. *Дзярушкі — посцілкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзярушка тонянька, мяканька. Дзярушкі с кудзелі ткалі.* Дакудава Лід. *Дзярушкі зрэбныя ткуць.* Малахоўцы Бар. *Парцяная дзярушка і суконная дзярушка.* Альхоўка Навагр. *Пад аднэю дзярушкаю штук шэсць дзяцей паложацца і спяць.* Альхоўцы Лях. *Дзярушка — носяць траву.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЯРУ'ШЧЫ *прым.* 1. Жорсткі, каляны. *Вазьмі рагошку дзярушчую!* Крэва Смарг. 2. Шурпаты. *Міскі чорныя дзярушчыя.* Масілавічы Сл.

ДЗЯРЭ'КТАР *гл.* ДАРЭ'КТАР

ДЗЯРЭ'ЎКА *н. памянш.* да д з ё р а в а 1. *Дзярэўкі невялікія, на іх дзікія вішні.* Гемзы Шальч.

ДЗЯРЭ'ЎНЯ, ДЗЕРЭ'ЎНЯ *ж.* Вёска. *А сын у сваей дзярэўне.* Саланое Віл. *Мы з адной дзярэўні.* Лісна В.-Дзв. *Бо́льшая дзерэўня.* Кемялішкі Астр.

ДЗЯ'СНЫ, ДЗЯ'СНА, ДЗЁНСНА, ДЗЁНСЛЫ *мн.* Дзясны. Рыбчына Віл., Вялікія Нястанавічы Лаг., Вялікія Баяры Шчуч., Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Дзясны верхнія і споднія.* Старыя Смільгіні Воран. *Баляць дзясны, кроў з іх ідзе. Дзясна баляць.* Быстрыца Астр. *Зубы ў дзяснах сідзяць.* Малькуны Ігн. *Дзёнсна баляць.* Паляцкішкі Воран. *Дзёнслы распохлі, зубы баляць.* Ёдлавічы Брасл. *Зубы сідзяць у дзёнслах. З дзёнслаў кроў цячэць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *dziąsło* 'дзясна'.

ДЗЯСЯТО'К *гл.* ДЗЕСЯТО'К

ДЗЯСЯ'ТЫ *ліч.* Дзесяты. ▽ *Дзясятая вада пасля кісяля* — далёкая радня. Ракаўскія Швянч.

ДЗЯТВА' *зб. ж.* 1. Дзеці, дзетвара. *Я атправіў дзятву.* Бакшты Іўеў. *Дзятва малая, там ня будзя дабра.* Гемзы Шальч. *Дзятвы поўная хата.* Рыбчына Віл. *Дзятва бегая.* Лісна В.-Дзв. *Дзятва тут бегае.* Стральцы Шальч. *Дзятва сады пакалоціць, галье паламаіць.* Вецярэвічы Пух. 2. Лічынкі пчол. *Бярэш нош, выразаеш мёт, дашоў да дзятвы, пакідаеш.* Дакудава Лід. *Матка дзятву закладаіць. Дзятва ўжо вышла.* Кураполле Паст. *Як хвароба пчол, у дзятве мруць, чарвяком атміраяць.* Груздава Паст.

ДЗЯТВАРА' *зб. ж.* Тое ж, што і д з я т в а́ 1. *Мы, дзятвара, паглядзець хочым.* Гемзы Шальч.

ДЗЯ'ТЛАВІНА, ДЗЯ'ТЛІНА *ж. бат.* Дзяцеліна. *Дзятлавіны нарасло багато.* Дзяніскавічы Ганц. *Канюшына — дзятлавіна.* Азяраны Раг. *Дзятліну сморгалі і елі.* Мішневічы Шум.

ДЗЯТЛЕ'ЎКА *ж.* Тое ж, што і дзятлавіна. *Дзятлеўка — дзікая белая, клевер — розавы.* Навікі Лудз.

ДЗЯЎБА'ЦЬ, ДЗЕЎБАЦЬ, ДЗЁБАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і дзюба́ць 1. *Куры сталі дзяўбаць зярно.* Гемзы Шальч. *Куры дзяўбуць гуркі.* Альхоўцы Лях. *Куры картофлю дзёўбаюць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дзёўп пятух цукерку.* Пацаўшына Дзятл. *Дзёбаюць куры агуркі.* Жылі Іўеў. *Куранята дзёбаюць. Жвір на шасе, куры яго дзёбаюць.* Парэчча Гродз. 2. Дзяўбці, рабіць паглыбленне. Парэчча Гродз. *Карыткі даўней дзяўбалі далатом.* Ёдлавічы Брасл. *Былі кіркі, ён* [рабочы] *стаіць і дзяўбая.* Вязынка Маладз. 3. *перан.* Есці. *Дзёбайце ягады.* Парэчча Гродз. 4. *перан.* Лезці. *Як ляжыш — мухі дзяўбаюць у вочы.* Валынцы В.-Дзв.

ДЗЯЎБЕ'ШКА *ж. перан. лаянк.* Дурань. *Дзяўбешка ты нецярэбленая!* Тухавічы Лях.

ДЗЯЎБСЦІ', ДЗЯЎПСЦІ', ДЗЯЎБЦІ', ДЗЯЎПЦІ' *незак.* 1. Дзяўбаць. *Курыца дзяўбець зярно.* Якубова Рас. 2. Біць дзюбай. *Пятух дзяўбець, а гусак шчыпіцца.* Груздава Паст. 3. Тое ж, што і дзяўба́ць 2. *Пешняю можна дзяўпці і далатом.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЗЯЎБСЦІ'СЯ, ДЗЯЎПСЦІ'СЯ *незак.* 1. Біцца дзюбай. *Пятух дзяўбецца, а гусак шчыпіцца.* Груздава Паст. 2. *перан. экспр.* Торкацца, лезці. *Ні ўдзяўбіся ў балота; дзяўбецца, як сляпы.* Кураполле Паст.

ДЗЯЎБЯ'НКА, ДЗЯЎБЁНКА *ж.* 1. Даўбёнка. *Натта ёлка добрая, абручы харошыя рабілі, дзяўбянкі.* Груздава Паст. 2. Калодачны вулей. *Дзяўбянка — вулей. А то яшчэ дзяўбёнкі зваліся: дрэва тоўстая зрэжыць, выдаўбая. Дзяўбёнка стаіць, як домік, зверху крышка з кары яловай.* Груздава Паст.

ДЗЯЎГАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Сказаць недарэчнае. *Можа, дачка што-небудзь дзяўганула.* Бакшты Іўеў.

ДЗЯ'ЎКАННЕ *н. экспр.* Балбатанне. *Як штось не выходзіць, і я пераражываю, а сестра кажа: «Ну, што с твайго дзяўкання?»* Мсцібава Ваўк.

ДЗЯ'ЎКАЦЬ, ДЗЯ'ЎГАЦЬ *незак.* 1. Цяўкаць (пра сабаку). *Сабака дзяўкае.* Новікі Гродз. 2. *перан. экспр.* Гаварыць недарэчнае, балбатаць. *Будзе дзяўкаць без канца.* Мсцібава Ваўк. *Дзяўкая, а не гавора.* Граўжышкі Ашм. *Брэшыш усяк, так і дзяўкаяш.* Крупіца Мін. *Дзяўкаюць на сяле.* Мярэцкія Глыб. *Людзі дзяўкаюць абы-што. Ціхо, не дзяўкай ты!* Дзяніскавічы Ганц. *Ні сёя ні тоя дзяўкаіць, драмуха берыць.* Малькуны Ігн. *Дзяўкаюць, самі не ведаюць што.* Кіралі Шчуч. *Дзяўкая, як сабака. Дзяўкаць, што брахаць.* Малахоўцы Бар. *Дзяўкаць — гэта гаварыць абы-што.* Масілавічы Сл. *Дзяўгае языком, сама не ведае што.* Пацаўшчына Дзятл. *Досыць табе дзяўгаць, як суццы.* Бакшты Іўеў. *Што ты на міне дзяўгаеш.* Жылі Іўеў. *Чаго ты ўсё дзяўгаяш?* Дакудава Лід. *Абы дзяў-*

*гаць*. Азяраны Раг. 3. Назаляць просьбамі. *Гаворашь: «Ідзі ты ўжо, не дзяўкай!» — як будзя надаядаць якой просьбай*. Азяраны Раг.; *параўн*. літ. *džiáugčioti* 'адрыгваць, ікаць, нудзіць'.

ДЗЯЎПЦІ' *гл*. ДЗЯЎБСЦІ'

ДЗЯЎПСЦІ' *гл*. ДЗЯЎБСЦІ'

ДЗЯЎПСЦІ'СЯ *гл*. ДЗЯЎБСЦІ'СЯ

ДЗЯЎЧА'ТА *гл*. ДЗЯЎЧЫ'НА

ДЗЯЎЧА'ТКА, ДЗЕ'ЎЧАТКА *мн*. Дзяўчынкі. *Дзве дзяўчатка падгадавала*. Старыя Смільгіні Воран. *Мае дзве дзеўчатка*. Паляцкішкі Воран.

ДЗЯЎЧУ'К *ж*. Дзяўчынка. *Дзяўчук есці хоча, ідзі дай чаго-небудзь*. Стральцы Гродз. *Дзяўчук у трэці клас пашла. Паехалі ў Польску, там прастудзілі дзяўчука*. Парэчча Гродз. *Дзяўчук бяжыць да маткі. Дзяўчук яе*. Вялікія Баяры Шчуч. *Дзяўчук малая была, як вайна пачалася*. Галубы Маст. *О, так красівей на дзеўчука паглядзець!* Пацаўшчына Дзятл. *Як ужо падрослы, то дзяўчук*. Баброўнікі Гарад.

ДЗЯЎЧЫ'НА, ДЗЕ'ЎЧЫНА, ДЫ'ВЧИНА *ж*., ДЗЕЎЧА'ТЫ, ДЗЯЎЧА'ТА *мн*. Дзяўчына. *Дзяўчына — сталая дзеўка*. Гемзы Шальч. *Ужо была добра дзеўчына*. Дакудава Лід. *Дзеўчына як дзеўчына — яе апстаўшы парні*. Старыя Смільгіні Воран. *Скуль узяласа гэта дзеўчына?* Мсцібава Ваўк. *Як якая дзеўчына*. Малахоўцы Бар. *Дзеўчына ляціць*. Старое Сяло Зэльв. *У дзеўчыны каса доўга*. Альхоўцы Лях. *Яна маладая дзеўчына*. Каменка Стара Сакол. *Дзеўчына мая*. Крынкі Крын. *Хочэ тыбэ дывчиною зробытэ*. Дзмітравічы Кам. *Дзеўчаты тожа недалёка ад маткі атстаўшы*. Ахрэмаўцы Брасл. *Яго дзяўчата ходзяць у школу. У яе два хлопца і дзве дзяўчата*. Альхоўка Навагр. *Тры дзяўчата пры ёй*. Кудзялянцы Шальч.

ДЗЯЎЧЫНЁХА *ж. павел*. Дзяўчынка-падлетак. *Дзяўчынёха была*. Кураполле Паст. *Я дзяўчынёха была, не было натта дзе прыбірацца*. Саланое Віл.

ДЗЯЎЧЫНЁШАЧКА *ж. памянш.-ласк*. да д з я ў ч ы́ н а. *Дзяўчынёшачка прыбягая і кажа: «Дзядунька памёр»*. Гемзы Шальч.

ДЗЯЎЧЫНЁШКА *ж. памянш.-ласк*. да д з я ў ч ы́ н а. *Дзяўчынёшкай была*. Рыбчына Віл.

ДЗЯЎЧЫ'НКА, ДЗЕ'ЎЧЫНКА *ж*. Тое ж, што і д з я ў ч у́ к. *Дзяўчынка нічога сабе, добра, не сталая, лет пятнаццаць-шаснаццаць*. Гемзы Шальч. *Дзяўчынка да школы пашоўшы*. Стральцы Шальч. *Як малая дзеўчынка пасе, то пастушка*. Альхоўцы Лях.

ДЗЯХ *гл*. ДЗЯГ

ДЗЯХЦЯ'РКА *гл*. ДЗЯГЦЯ'РКА

ДЗЯ'ЦЕЛ, ДЗЯ'ЦЯЛЬ *м*. Дзяцел. *Дзяцел пекны, у дупле гняздо ўе*. Каўняны Гродз. *Дзяцел ест птушка*. Гемзы Шальч. *Дзяцяль дзяўбе хвою*. Кіралі Шчуч. ∇ *Ніхто не ведаў, што*

*дзяцел, кап не доўгі нос* — пра таго, хто сам сябе выдае. Мсцібава Ваўк.

ДЗЯ'ЦЕЛІНА, ДЗЯ'ЦЯЛІНА *ж.* Тое ж, што і дзя́тлавіна. *Дзяцеліна — дробненькая, беленькая, а канюшына — буйнейшая, ружова-чырвоная.* Беразіно Докш. *Дзяцяліна паўецца, як падушка.* Альхоўцы Лях. *Дзяцяліна пахня. Ест белая і ружовая дзяцяліна.* Альхоўка Навагр. *Дзяцяліна — беленькія кветачкі, натта пахня, кветачкі ружовенькія есць.* Кіралі Шчуч.

ДЗЯ'ЦЕЛЬНІК, ДЗЯ'ЦЯЛЬНІК *м. бат.* 1. Тое ж, што і дзя́тлавіна. *Дзяцяльнік сам сеяцца.* Быстрыца Астр. *Дзяцяльнік белы натта расце, скот яго скубая і скубая.* Граўжышкі Ашм. 2. Канюшына шаматкая. *Дзяцельнік жоўценькі.* Кураполле Паст.

ДЗЯ'ЦЕЛЬНІЦА *ж.* Тое ж, што і дзя́тлавіна. *Дзяцельніца — белая дромная канюшына.* Малахоўцы Бар. *Дзяцельніцу конь, карова любіць.* Малькуны Ігн. *Дзяцельніца расце, белым цвіце.* Вецярэвічы Пух. *Дзяцельніца белая, дробненькая.* Мачаск Бярэз. *Белая і ружовая дзяцельніца.* Старыя Смільгіні Воран.

ДЗЯЦЁ *гл.* ДЗІЦЯ'

ДЗЯЦЁНАК *м.*, ДЗЯЦЁНКА *н.* Дзіця. *На дзяцёнка ня трэба крычаць.* Кемялішкі Астр. *Радзіха нарадзіла дзяцёнка — у адведзіны ідуць.* Ракаўскія Швянч. *Дзяцёнак плачыць.* Палік Барыс. *Такоя дзяцёнка.* Саланое Віл.

ДЗЯ'ЦІЛІНКА *ж. памянш.* да дзя́целіна. Альхоўцы Лях. *Дзяцілінка парасла.* Саланое Віл.

ДЗЯЦІ'НУХА *ж.* Квактуха, якая водзіць куранят. *Дзяцінуха асталася і чатыры куркі.* Валынцы В.-Дзв.

ДЗЯЦІ'НЧЫК *м.* Канвульсіі, дзяцінец. *Патпаў дзяцінчык майму дзіцяці, аш абміраіць.* Саланое Віл.

ДЗЯЦІ'НЫ *прым.* Дзіцячы. *Дзяцінага хлеба паясі. Кашулькі дзяціныя.* Саланое Віл.

ДЗЯЦІ'СКА *гл.* ДЗЕ'ЦІСКА

ДЗЯ'ЦЬКА *м.* Брат мацеры ці бацькі. *Дзяцька памёр, то ён паехаўшы ў Вільню.* Гемзы Шальч. ∇ *Яму што поп — то дзяцька.* Саланое Віл.

ДЗЯЦЮ'К *м.* 1. Хлопец, юнак. *Ужо добры дзяцюк. Ён сталы кавалер, дзяцюк.* Магуны Паст. *Быў такі дзяцюк!* Груздава Паст. *Стройны дзяцюк.* Быстрыца Астр. *Шчэ маладым дзяцюк, да арміі.* Кіралі Шчуч. *Дзяцюк быў нежанаты.* Кіралі Шчуч. 2. Кавалер; стары халасцяк. *Дзяцюк прышоў на ігрышча ў простых штанах.* Кураполле Паст. *Дзяцюком пазнаёміўся са мной.* Крэва Смарг. *Дзяцюкамі яны яшчэ былі, файныя дзяцюкі.* Гемзы Шальч. *Ён дзяцюком жыў.* Дакудава Лід. *Брат быў дзяцюк.* Граўжышкі Ашм. *Дзяцюк — гэта не жанаты.* Альхоўка Навагр.

ДЗЯ'ЦЯЛІНА *гл.* ДЗЯ'ЦЕЛІНА

ДЗЯ'ЦЯЛЬ *гл.* ДЗЯ'ЦЕЛ

ДЗЯ'ЦЯЛЬНІК *гл.* ДЗЯ'ЦЕЛЬНІК

ДЗЯ'ШАР *м.*, ДЗЯ'ШАРА *ж.*, ДЗЯ'ШАРЫ, ДЭ'ШРЫ *мн.* 1. Кілбаса, начыненая крывёй, крупамі або бульбяной кашай і запечаная ў печы. *Пякуць дзяшар у дзяшарных кішках: насуваецца каша з дранай картошкі і пякуць. Дзяшар пякуць крупяны і крывяны.* Ёдлавічы Брасл. *Дзяшары нужна спеч. Круп сыпіць у кроў, наліваіць кішкі і ў печ — так дзяшары пякут. І с картошкі дзелаіць дзяшары.* Рагулішкі Даўг. *Грубыя кішкі наліваям і дэшры пяком.* Малькуны Ігн. 2. Тоўстая кішка. *Дзяшары — тоўстыя кішкі, хвалдаватыя. Нада дзяшару наліць — гэта грубыя чаровы наліць.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *dešrà* 'кілбаса'.

ДЗЯ'ШАРНЫЯ КІ'ШКІ *мн.* Тоўстыя кішкі. *Кішкі двух сартоў — дзяшарныя і калбасныя.* Ёдлавічы Брасл. *У дзяшарныя кішкі налівают кроў с крупой і пякут.* Рагулішкі Даўг.

ДЗЯ'ШКА *гл.* ДЗЯ'ЖКА

ДЗЯШО'ВЫ, ДЗІШАВЫ' *прым.* Танны. *Дзяшовы тавар.* Рудня Астравітая Чэрв. *Можа быць дарагі і дзішавы.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* руск. *дешевый* 'тж'.

ДЗЯШЭ'ЎЛЯ *прысл.* Танней. *Дзяшэўля купіла парасёнка.* Лоск Валож.; *параўн.* руск. *дешевле* 'тж'.

ДІДУ'ЛЬ *гл.* ДЗЯДУ'ЛЯ

ДІДУО'ВСКІ *гл.* ДЗЯДО'ЎСКІ

ДЛЕ *гл.* ДЛЯ

ДЛІНІНЯ' *ж.* Даўжыня. *Такой длініні дзюрка ў курных хатах, ёсць засуўка.* Солы Смарг. *Як какая длініня поперак бэлькі.* Лайпушкі Ігн.

ДЛІ'НЫ, ДЛІ'НЫЙ *прым.* Доўгі. *Каса была дліная.* Філіпаўцы Красл. *Палка дліная была.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *длинный* 'тж'.

ДЛІНЯ' *ж.* Тое ж, што і д л і н і н я́. *Два аршыні дліні і аршын — полка адна.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *длина* 'тж'.

ДЛІ'НЯНКІ *прым.* Доўгенькі. *Бульба была багінка: длінянкая, сінянкая.* Старыя Трокі Трак.

ДЛОНЬ *ж.* Далонь. *Лінь, як длонь, шырыні.* Малькуны Ігн. *Бондачкі, як длонь, таўшчыні.* Стральцы Шальч.; *параўн.* польск. *dłoń* 'тж'.

ДЛУ'БАЦЦА *незак.* 1. Корпацца. *Пашоў і длубаецца.* Жылі Іўеў. 2. Марудна есці. *Каровы длубаюцца.* Граўжышкі Ашм.

ДЛУГ, ДЛУХ *м.* Доўг. *Еслі я пазычу грошы, я маю длугу.* Гемзы Шальч. *Я ў длугу, многа грошы пазычыў, трэба аддаць. Длух маю.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *dług* 'тж'.

ДЛУ'ГА *прысл.* Доўга. *Длуга квашу брагу.* Магуны Паст.

*Длуга ляжала — дзве нядзелі. Зубы длуга мела, мела чым есці. Кошкаецца длуга.* Чычалі Швянч.; *парайн.* польск. *długo* 'тж'.

ДЛУ'ГАНЬКІ *прым. памянш.* да д л у́ г і. *Каропкі плялі з саломы, длуганькія.* Старыя Трокі Трак.

ДЛУ'ГІ *прым.* Доўгі. *Лавы былі длугія. Палоскі длугія.* Магуны Паст. *Кашуля белая, рукавы длугія.* Старыя Смільгіні Воран. *Длугія шылі сукенкі.* Паляцкішкі Воран. *Длугія сукенкі насілі маладыя* [на вяселлі]. Грыкені Вільн. *Дошкі ставяцца длугія.* Гемзы Шальч. *Зубы длугія ў драўлянай шчоцца. Гаці былі длугі.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *długi* 'тж'.

ДЛУЖ, ДЛУШ *прысл.* Удоўж. *Баранавалі длуш і ўпоперак.* Відаўцішкі Вільн.; *парайн.* польск. *wzdłuż* 'тж'.

ДЛУЖНІ'К *м.* Даўжнік. *Еслі я пазычыў вам грошы, вы длужнік.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *dłużnik* 'тж'.

ДЛУ'ЖНЫ у знач. *вык.* Які мае доўг. *Мой тата нікому ні длужны: у аднаго пазыча — другому аддасць.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *dłużny* 'тж'.

ДЛУЖЫНЯ' *ж.* Тое ж, што і д л і н і н я́. *Во гэтакай длужыні калочак.* Быстрыца Астр. *Нашто такая длужыня?* Граўжышкі Ашм. *Шчоткі такой длужыні.* Грыкені Вільн.

ДЛУХ *гл.* ДЛУГ

ДЛУ'ШШЫ *прым. выш.* Даўжэйшы. *Адзін канец карацейшы, а другі длушшы. Длушшая старана.* Гемзы Шальч. *Выбяру длушшыя палены.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *dłuższy* 'тж'.

ДЛЯ, ДЛЕ *прыназ. з род.* 1. Пры абазначэнні асобіны ці прадмета, для якога што-н. робіцца. Для. *Для казы будзя хлеп.* Кемялішкі Астр. *Трэба дзе-якіх яблыкаў для каровы.* Гемзы Шальч. *Улі для пшчол даўбілі.* Судэрва Вільн. *Ён для калхоза работаў.* Філіпаўцы Красл. 2. Пры ўказанні на прызначэнне прадмета. Для. *Верхнік быў зроблены для дыма.* Грыкені Вільн. *Дайней для людзей і для кароў быў базар.* Дзераўное Стаўб. 3. Пры абазначэнні асобы, прадмета, месца, паблізу якіх размяшчаецца хто-н., адбываецца што-н. Каля. *Для мацеры была.* Старыя Трокі Трак. *Далёка, для Мурманска быў.* Ухвала Круп. *Я жыву для вады.* Талейкі Швянч. *Мазалі для ямачкі.* Семежава Кап. 4. Пры абазначэнні асобы, для якой што-н. выконваецца. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі. *Тэрас для сыновай помогаю.* Навадворцы Васільк. 5. Пры абазначэнні прадмета, які знаходзіцца ў пэўным стане. З. *Штосьці зрабілосо для лымя.* Сакаляны Сакол.

ДМУХАНУ'ТІ *гл.* ДЗЬМУХАНУ'ЦЬ

ДНЕЦЬ, ДНІЕ'ТІ *незак. безас.* Світаць. *Днее чуць-чуць на*

*зару.* Жылі Іўеў. *Ужо днее.* Гемзы Шальч. *Як начынае дніеті, то трэба вставаті.* Курашэва Чыж.

ДНІЦЬ *зак.* Устаўляць дно ў драўляны посуд. *Трэбо дніць судзя.* Стральцы Гродз.

ДНІ'ШЧА, ДНЫ'ШЧЭ *н.* 1. Дно. *Уставіў добрая днішча* [у цэбар]. Стральцы Гродз. 2. Сядзенне ў прасніцы. *Харошае днішча ў цябе, тоненькае, не муляецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Днышчэ в потасі* [у прасніцы]. Відзібар Стол., Сіманавічы Драг.

ДНО *н.* 1. Тое ж, што і днішча 1. *Дно ўстаўляецца ў пруды бочкі.* Мярэцкія Глыб. *У барылку два дна і дырачка.* Судэрва Вільн. *Дно ў кошыку.* Грыкені Вільн. 2. Дошчачка, на якой рэжуць што-н. *Дно вялікая, дэначка меншанькая, на ём мяса, цыбулю крышым.* Магуны Паст.

ДНУ'ШАЧКА *ж.* Тое ж, што і дно 2. *Днушачку зрабі мне!* Рыбчына Віл.

ДНУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і дно 2. *На днушцы пакрашы сала!* Ухвала Круп. *Днушку паклаў на стол і на ёй сала стаў крышыць.* Глівін Барыс. *Днушку вазьмі, на ёй добра крышыць цыбулю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Днушка велькая.* Міратычы Карэл.

ДНЯВА'ЦЬ *незак.* Адпачываць, хавацца днём. *Днююць два ваўка ў лесе.* Альхоўка Навагр.

ДНЯ'МІ *прысл.* У бліжэйшы час. *Раскажу гэтымі днямі.* Старыя Смільгіні Воран.

ДНЯЧКО' *н. памянш.* да дно 1. *У дзежачку днячко ўставіў.* Стральцы Гродз.

ДО I *гл.* ДА

ДО II *гл.* ДО'СЫЦЬ

ДО'БА I *ж.* Суткі. *Суткі, або доба.* Ністанішкі Смарг. *Адну добу не гаварыў; скажуць: і адны суткі не гаварыў.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *doba* 'тж'.

ДО'БА II *гл.* ДА'БА'

ДОБІ'ТНЯ *прысл.* Добра. *Я добітня знаю маўру* [траву]. Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *dobitnie* 'ясна, выразна, пераканаўча'.

ДО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Выдзеўбаны. *Добленае карыто на мясо.* Вострава Маст.

ДО'БРА, ДО'БРО, ДО'БРЭ *прысл.* 1. Як мае быць, як трэба. *Я добра не відзеў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як сабе добра, то добра.* Кураполле Паст. *Добра робіць.* Асавец Віл. *Добро зрабіў.* Старое Сяло Зэльв. *Як добра, то жджы бяды.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Пра спрыяльныя абставіны. *Добра было жаць жыта.* Кіралі Шчуч. 3. Пра адчуванне задавальнення, прыемнасці. *Халера на яго, як яму добра!* Альхоўка Навагр. *Добраму чалавеку ўсюды добро.* Каўняны Гродз. *Мне тут добрэ.* Смаляніца Пруж. 4. Шмат, многа. *Я ў печы саган выкуліла,*

*добра вады разліла.* Крэва Смарг. *Мы былі выпілі добра. Тут добра салата нарвана.* Паляцкішкі Воран. 5. Па-добраму. *Мы з ей добра.* Саланое Віл. *Я з усімі добра.* 6. Пра лекавыя ўласцівасці. *Мята добра ад вольнасці.* Солы Смарг. 7. Акуратна, старанна. *Суравешкі добра злажы.* Солы Смарг. 8. у знач. *вык.* са *злуч. што.* Якраз дарэчы. *Добра, што сказала.* Солы Смарг.

ДО'БРАЕ *н.* Добрае. *Век пражыла, а добрага не відзела.* Кіралі Шчуч. *Добрага не скажу.* Парэчча Гродз.

ДО'БРАНЫ *гл.* ДАБРА'НЫ

ДО'БРАСЦЬ *ж.* Дабрата. *У добрасці гэтага слова не кажаш.* Парэчча Гродз.

ДОБРОЧЫ'НЬЦА *м.* Добразычлівец. *Муой брат быв мніе добрачыньцою, прыслав кроху грошы.* Курашэва Чыж.

ДО'БРЫ *прым.* 1. Дадатны па сваіх якасцях. *Добрая пагода.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Парасяты былі добрыя.* Асавец Віл. *Булён з добрым запахам.* Солы Смарг. *Добрая рунь у мяне.* Відаўцішкі Вільн. *Чартапалох добры для лячэння ат страху.* Крынкі Крын. 2. З дадатнымі рысамі характару. *Добраму чалавеку ўсюды ёсць работа.* Кудзялянцы Шальч. *Добраму ўсюды добра.* Каўняны Гродз. ▽ *Усе добрыя, як спяць.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Правы бок тканіны, адзення. *Левы бок і добры бок у матэрыі.* Альхоўка Навагр.

ДО'БРЫЦА *ж.* Правы бок матэрыі, адзення. *Надзела сукенку на добрыцу.* Мярэцкія Глыб., Саланое Віл. *Я вешаю плаццю на добрыцу.* Асавец Віл. *Гэта добрыца?* Ністанішкі Смарг.

ДО'БРЫЦЦА *незак.* Паддобрывацца. *Чаго ты добрысся да мяне?* Старыя Смільгіні Воран.

ДО'БРЭ *гл.* ДО'БРА

ДОБЫ'ТОК *гл.* ДАБЫ'ТАК

ДОВО'ЛІ *гл.* ДАВО'ЛІ

ДОВЦІПКОВА'ТІ *незак.* Жартаваць. *Вуон поважно нэ говорыт, оно довціпкуе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *dowcipkować* 'строіць жарты'.

ДОГАНЯ'ТІ I *незак.* Упікаць, дакараць. *Жуонка доганяе, што як я жэнівсе, то быв біедны.* Курашэва Чыж.

ДОГАНЯ'ТІ II *гл.* ДАГАНЯ'ЦЬ

ДО'ГАЦЬ *ж.* Здагадка. ◇ *Догаць даць* — падказаць. *Кап ім даў хто догаць у сушылку зайці паглядзець, што дзеці там.* Кіралі Шчуч.

ДО'ГЛЯД *м.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова д а г л я д а́ ц ь. *Карова догляду трэбуя.* Жылі Іўеў.

ДОГНА'ТІ *гл.* ДАГНА'ЦЬ

ДО'ДНІК *м.* Досвітак. *Увесь доднік малацілі. Увесь доднік матка прала.* Груздава Паст.

ДО'ДНЯ *прысл.* Досвіткам. *Дайней мама ўстаніць додня і прадзець.* Кураполле Паст. *Додня ўстала.* Груздава Паст. *Летам пасуць кароў додня.* Лоск Валож.

ДОЖДЖ, ДОШЧ, ДОШ *м.* 1. Дождж. *Ня хочацца дажджу. Вялікі вецяр дажджу нарвець. Алі дажджу німа?* Груздава Паст. *Дажджу не было.* Мішневічы Шум. *Дажджэ кажды дзень.* Парэчча Гродз. *Коні пасуцца на дажджэ.* Крынкі Крын. *Сабаку пастаў, то не выстаіць на гэдакум дажджэ.* Мсцібава Ваўк. *Дошч вялікі ідзе.* Стральцы Гродз. *Камягі белыя па небе — дош ня ідзець.* Асавец Віл. *Дош прайшоў.* Латыгаль Віл. *Дош пачаў ісці.* Саланое Віл. *Мамо, сядзімо, шчэ дош ідзе.* Дзяніскавічы Ганц. 2. у знач. *прысл. дажджо́м, дажджа́мі, дажджа́мы.* У час дажджу. *Дажджом садзілі. Цяпер камбаін і дажджом малоціць.* Саланое Віл. *Дажджом складалі сена. Дажджом пасвілі каровы.* Жыдзевічы Іўеў. *Дажджом не будзя гадзінаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Дажджом ест работа.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дажджом паехалі.* Вострава Маст. *Горэ з гэтым дажджом: то дошч, то снех, не то, што нада. Мы такімі дажджамі ўбіралі дзялкі.* Мсцібава Ваўк. *Дажджом збірала ягады.* Парэчча Гродз. *Дажджамы пчол многа пагібаіць.* Кураполле Паст.

ДО'ЖДЖЫК *м.* 1. *памянш.* да дождж. *Такі цёплы доżджык!* Стральцы Гродз. 2. у знач. *прысл. до́жджыкам.* У час дажджу. *Каровы харашо ходзяць дожджыкам такім — мухі не лезуць.* Гемзы Шальч.

ДОІ'ЕХАТІ *зак.* 1. Даехаць. *Вуоз зопсовавсе і чуть до дому доіехав.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Дайсці да ганебнага стану. *Хто думав, што вуон до того доіедэ.* Курашэва Чыж.

ДО'ЙКА *ж.* 1. Сасок. *На сіську* [у каровы] *скажуць дойка.* Магуны Паст. *Балея карова: пацягняш дойку, і кроў выступая.* Быстрыца Астр. *У каровы дойкі пакалоліся.* Парэчча Гродз. 2. Даенне. *Бягу з дойкі, кароў падаіўшы.* Валынцы В.-Дзв.

ДО'ЙЛА *н.* Вымя. *Карова добра, дойла вялікая.* Вецярэвічы Пух.

ДО'ЙНІК *м.* Даёнка. *Прынясі дойнік, подою корову.* Калясное Міхал.

ДО'ЙНІЦА *ж.* Дайніца. *Дойніца раней была з ручкай кароў даіць.* Лука Нараўк.

ДО'ЙШЛЫ, ДО'ШЛЫ *прым.* 1. Хворы, слабы. *Ён зусім дойшлы.* Жылі Іўеў. *Дошлы, зусім слабы.* Пацаўшчына Дзятл., Галубы Маст. 2. Збяднелы. *Дойшлы ён: у яго нічога няма, пуста. Дошлы, дайшоў да пустога канца, збяднеў.* Жылі Іўеў.

ДОКА'ЗУВАТІ *незак.* Сваволіць. *Діеті в школі доказують.* Курашэва Чыж.

ДОКІТА′ТІСЕ *зак. экспр.* Дажыць, дацягнуць. *Чуть до смэрті докіталасе.* Курашэва Чыж.

ДОКЛАДА′ТІСЕ *незак.* 1. Старацца. *Як будэш докладатісе, то хорушэ напішэш і ліепшы стопэнь достанэш. Як штось робіш, то докладайсе.* Курашэва Чыж. 2. Прымаць удзел у чым-н. *Як сын ставів хату, то і я докладавсе.* Курашэва Чыж.

ДО′КЛАТКА *ж.* Прыбаўка. *Як продаеш на кіла, то на доклатку шчэ трэба кажному доложыті.* Курашэва Чыж.

ДОКОСІ′ЦЬ *зак.* Дакасіць. *Я ешчэ маю докосіць.* Навадворцы Васільк.

ДО′КТАР, ДО′ХТАР *м.* і *ж.* Доктар. *Дактарове такія, і то ўміраюць.* Новікі Гродз. *Дайней доктар малатком па калені стукнуў два разы — і два злоты.* Ёдлавічы Брасл. *Прышла доктар і назначыла лячэння.* Лоск Валож. *І дахтаром надаела рабіць.* Кемялішкі Астр. *Дахтары былі папрыяжджайшы.* Старыя Трокі Трак. *Дохтар пытае: «Што у цібе?»* Ялова Пруж. *К дохтару звонюць.* Пасіене Лудз. *Дохтар сказаў: «Заедзеш дахаты, там будзеш лечыць».* Сакаляны Сакол.

ДО′КТАРАХА *ж.* Жанчына-ўрач. *Раней доктарахі не знали.* Кемялішкі Астр.

ДО′КТАР СКАЦЯ′ЧЫ *м.* Ветэрынар. *Нешта стала с каровай, прыходзіў доктар скацячы, мусіла прадаць яе.* Дакудава Лід.

ДОЛ *м.* 1. Ніз; паверхня зямлі, падлогі. *Сеў і сядзіць на доле.* Гемзы Шальч. *З долу цяшка падняць мех.* Вецярэвічы Пух. 2. Нізіна. *Вот у дале стаіць наша вёска.* Ністанішкі Смарг. *Пагурак, а тады дол, даліна.* Чычалі Швянч. *На доле той дом, што дырэктар жыве.* Грыкені Вільн. *Пры доля было мокра.* Жылі Іўеў. *У нас расце многа травы ў доля.* Кіралі Шчуч. *Зямля наша ў доле.* Новікі Гродз. *У далу зямля чорна.* Парэчча Гродз. 3. Магіла. *Як памрэ, то дол выкапаць трэба.* Парэчча Гродз. *Пашлі дол капаць капачы.* Саланое Віл., Ністанішкі Смарг., Навасёлкі Свісл. *Схавалі ў дол.* Асавец Віл., Дакудава Лід. *Трэба ісці папрасіць капачоў, кап дол выкапалі.* Гемзы Шальч. *Пашлі мушчыны на магілке ўжо капаць дол.* Кіралі Шчуч. *Дол выкапалі і апусцілі ў дол нябошчыка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дол капалі і труну туды апускалі.* Вострава Маст. 4. Падол, ніз вопраткі. *Долу не патшыла.* Граўжышкі Ашм. *Бакешы насілі, распора з долу аж да плячэй.* Грыкені Вільн.

ДО′ЛАК *м.* Тое ж, што і д о л 1. *Жывот балеў, качалася па долку.* Саланое Віл.

ДО′ЛАНЬ *м.* Далонь. *Дай долань, я пагадаю.* Магуны Паст. *Вот долань засвярбеў, нехта прыдзя, прывітаюся.* Кіралі Шчуч.

ДО′ЛАТА *н. ясл.* Долата. *Маеш долата?* Баброўнікі Гарад.

ДО′ЛАХ *прысл.* Тое ж, што і д а л а в а́. *А што ш гэта мама долах ляжыць? Нявестка ня можыць долах мыцца.* Кураполле Паст.

ДО′ЛГІ *гл.* ДО′ЎГІ

ДО′ЛІЦЦА *незак.* Бароцца. *Хлопцы долююцца.* Быстрыца Астр. *Янук доляяцца с хлопцамі.* Гемзы Шальч. *Доляцца хлопцы.* Граўжышкі Ашм.

ДО′ЛКАХ *прысл.* Тое ж, што і д о́ л а х. *Сядзіць долках.* Рыбчына Віл., Палік Барыс., Ухвала Круп.

ДО′ЛУ, ДО′ЛЕ, ДО′ЛЯ *прысл.* 1. У нізіну, у дол; у нізіне. *Пайду долу, там травы ўкашу.* Ністанішкі Смарг. *Пайду долу.* Паляцкішкі Воран. *Там доле гарот.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і д о́ л а х. *Курапата долу нясецца.* Груздава Паст. *Пасядзіць доле і пашла.* Кузьмічы Люб. *Гот сядзеў доля* [не хадзіла дзіця]. Альхоўка Навагр. *Вазьмі доля там. Онь там, доля палажыў.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Уніз. *Вусы ні закруціш, ні загладзіш — раслі долу.* Граўжышкі Ашм.

ДОЛХ *гл.* ДОЎГ

ДО′ЛЬНЫ *прым.* Нізінны. *Дольная зямля.* Паляцкішкі Воран.

ДО′ЛЯ *ж.* Шчасце, лёс. *Вы сваю долю дзяржыце сабе, чужым не нада адаваць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Якая доля ў яе!* Солы Смарг. ▽ *Бох ні гуляіць — долю міняіць.* Кураполле Паст. *Як урадзіўся без долі, то і еш бес солі.* Кіралі Шчуч. *Дажывёш да лет, ды долі нет.* Лоск Валож. *Дажыў да лет, ды долі нет.* Солы Смарг. *А за ею ліха доля ў пагоню.* Дзяніскавічы Ганц. ◇ *Дзве долі прахляпала*—два разы магла выйсці замуж. Лоск Валож. *Сабачая доля* — цяжкі лёс. *Сабачай доляй мы жылі.* Старыя Трокі Трак.

ДОМ *м.* Будынак разам з гаспадаркай. У выразе: *За домам* — даглядаючы дом, гаспадарку. *Ей натто было скучно за домом першы гот.* Мсцібава Ваўк.

ДО′МА *прысл.* У сваёй хаце. *Я дома буду.* Солы Смарг.

ДО′МІК *м.* Вулей. *Домік і вуль — адно, толькі домік цяперашняе, а вуль — усягда так звалі.* Рыбчына Віл. *У вас калоды і домікі.* Асавец Віл.

ДОМЫКА′ТІСЕ *незак.* Замыкацца. *Двэры зопсовалісе і не домыкаюцце.* Курашэва Чыж.

ДО′ННІК *м. бат.* Баркун. *Доннік для пчол сеюць, белым і жоўтым цвіціць, меданосная трава.* Кураполле Паст.

ДО′РАГА, ДАРАГО′ *прысл.* Дорага. *Дорага прадаюць.* Кемялішкі Астр. *У Вільні дорага начаваць. Пальто стоіла дараго.* Паляцкішкі Воран. *Дараго было купляць тытун.* Кудзялянцы Шальч.

ДО'РАГІ *прым.* Які каштуе многа грошай. *Варэня рэтка варылі, сахар дорагі быў.* Пацаўшчына Дзятл.

ДОРА'ДІТІ *гл.* ДАРА'ДЗІЦЬ

ДО'РАЖАЙ *прысл.* Даражэй. *То можа шчэ доражай прыходзіцца.* Паляцкішкі Воран.

ДО'РНІК *м.* Прабойнік. *Дорнік — дзе ў жалезе дзюрку выбівая групшую ці цянейшую.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* ням. *Dorn* 'тж'.

ДОРУМНЯ'ТІ *зак.* Выраўняць. *Вуон мніе нэ дорумняе.* Курашэва Чыж.

ДОРЭ'ШТІТІ *зак.* Дакончыць. *Што свіні нэ зіелі, то собака дорэштів.* Курашэва Чыж.

ДО'СВЕТУ *прысл.* Да світання. *Я ўстала шчэ не відняла, я ўсё досвету парабіла.* Кіралі Шчуч.

ДО'СКА *гл.* ДО'ШКА

ДО'СТАВА *ж.* Дастаўка. *Вчора была достава товару до склепу.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *dostawa* 'тж'.

ДО'СЫЦЬ, ДО, ДО'СІ, ДО'СІЦЬ, ДО'СЫ, ДОСЬ, ДОСЬЦЬ *прысл.* 1. Дастаткова, хопіць. *Досыць солі, ня сып! До солі!* Мярэцкія Глыб. *Досыць солі?* Солы Смарг. *Досі млека нам.* Граўжышкі Ашм. *Сын зарабляя досі.* Асавец Віл. *Гора мне досі.* Бакшты Іўеў. *Наснавала ўжо, досі.* Кіралі Шчуч. *Мне досіць ужо солі.* Лісна В.-Дзв. *Ці досіць дажджу?* Валынцы В.-Дзв. *Досіць, усе паелі, твая часць асталась толька.* Груздава Паст. *Ці досіць ліць?* Кемялішкі Астр. *Досіць хлеба, заўтра купім яшчэ.* Рыбчына Віл. *Досіць ліць. Дось грошы.* Саланое Віл. *Я паем чаго троху і досы.* Альхоўка Навагр. *Ніхай будя дось.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дось ужо.* Магуны Паст. *Ляжаў чатыры нядзелі, дось.* Ракаўскія Швянч. *Мачылі лён, ці дось яму ляжаць? Ужо мне галава закруцілася, ужо мне дось піць.* Малькуны Ігн. *Дось будзя.* Старыя Смільгіні Воран. *Толькі падумаеш бывала: «А кап табе жыць стала досьць!» Але ш устаеш.* Оцкавічы Паст. *Досьць цукру, ні купляй боляй.* Быстрыца Астр. *Досьць, што адзін рас пашла на базар малако купляць.* Малева Нясв. 2. у знач. *вык.* Выражае загад, прапанову спыніць што-н. *Досыць, балтаеш абы-што.* Валынцы В.-Дзв. *Досыць табе дзяўгаць!* Бакшты Іўеў. *Ну, до плакаць!* Дакудава Лід. *До беседаваць, будзям абедаць! Дось вам там сядзець, выхадзіця!* Гемзы Шальч. *Досі табе піць!* Крэва Смарг. *Досі есці!* Альхоўка Навагр.

ДОЎГ, ДОЎХ, ДОЛХ *м.* Тое ж, што і д л у г. *У яго даўгоў было начапана.* Кураполле Паст. *Было ў мяне даўгу.* Стральцы Шальч. *Сын доўх ні аддаець. Я і так у далгу, я вінавата яму дваццаць рублёў.* Кіралі Шчуч. ∇ *Доўх — не вяроўка, ззаду не цягніцца.* Кураполле Паст. *Долх — не нітка, ззаду не цягніцца.* Ёдлавічы Брасл.

ДО'ЎГА, ДО'ЎГО *прысл.* Працяглы час. *А нага доўга спухшы была.* Ахрэмаўцы Брасл. *Што гэта, што іх німа так доўга?* Кіралі Шчуч. *Летась ён доўго быў.* Альхоўка Навагр. *Доўго хвароба цянулася, больш як чатырэ месяцэ.* Крынкі Крын.

ДО'ЎГАНЬКІ, ДО'ЎГЕНЬКІ, ДО'ЎГЯНЬКІ *прым. памянш.* да до́ўгі 1. *У стрэлкі* [страказы] *скрылачкі доўганькія.* Солы Смарг. *Кара́лі, як палачкі, доўгенькія.* Гемзы Шальч. *Паляндвіца доўгянькая.* Малахоўцы Бар.

ДО'ЎГІ, ДАЎГІ', ДО'ЛГІ, ДАЛГІ' *прым.* 1. Які мае вялікую даўжыню. *На хваробу ты шыў такі доўгі кажух?!* Гемзы Шальч. *Доўга плаця.* Старыя Смільгіні Воран., Вялікія Баяры Шчуч. *І доўгі кажух шылі, і кароткі.* Кіралі Шчуч. *Доўгі кажух.* Ністанішкі Смарг. *Доўгая вяроўка.* Паляцкішкі Воран. *Сукенка доўга.* Старое Сяло Зэльв. *Доўгія спадніцы насілі, аш да зямле тая спадніца.* Новікі Гродз. *Хлеў доўгі.* Альхоўка Навагр. *Праз доўгу вуліцу паехаў.* Сакаляны Сакол. *Хвост доўгі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шылі даўгія і клёшныя спадніцы.* Саланое Віл. *Усё даўгоя было: кажух даўгі, спадніца даўгая.* Мярэцкія Глыб. *Долгі дзень. Долгая дарога. Пашыла долгаю сукенку. Шнуры долгія былі, зямля была ў шнурах.* Ёдлавічы Брасл. *У яго зубы далгія. Як пасееш — от дзень далгой.* Малькуны Ігн. ∇ *Злодзій доўгія рукі маіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Высокі. *Доўгі чалавек і высокі чалавек скажуць.* Парэчча Гродз.

ДОЎЖ, ДОЎШ *м.* Тое ж, што і даўжа́. *Доўш длінный. Даўжом закрывалі калоды.* Саланое Віл. *Доўш — дзверца ў калодзе.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Доўш — затвор у ўллі, пад ніс і верх.* Малыя Аўцюкі Калінк., Беразіно Докш.

ДО'ЎЖНІК *гл.* ДАЎЖНІ'К

ДОЎХ *гл.* ДОЎГ

ДО'ХТАР *гл.* ДО'КТАР

ДО'ЧКА *гл.* ДАЧКА'

ДОШ *гл.* ДОЖДЖ

ДО'ШКА, ДО'СКА, ДАСКА' *ж.* Дошка. *Да калоткі дошка прыбіта.* Старыя Трокі Трак. *Адна дошка паламалась, нада ўставіць другую.* Кіралі Шчуч. *Дошка ляжыць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дошкі ўсё людзям рэзаў.* Альхоўка Навагр. *Дылёўка — доска тоўстая. Доскі прывёс на пол. Ляжыць адна доска.* Жодзішкі Смарг. *Доску прыцягнуў.* Рыбчына Віл. *Доска ляжыць. Многа дасок. Даска зламалася.* Мярэцкія Глыб. *Даў доскаў на хату.* Солы Смарг.

ДО'ШЛЫ І *прым.* Спрытны, пранырлівы. *Што я ні дошлая, што не дайду?* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* руск. разм. *дошлый* 'кемлівы, спрытны'.

ДО'ШЛЫ ІІ *гл.* ДО'ЙШЛЫ

ДО'ШНІК *м.* Вялікая бочка. *Пад дошнік грошы патсунуў.*

*Дошнік на капусту. Дошнік круглый, як дзешка бальшая.* Валынцы В.-Дзв.

ДОШЧ *гл.* ДОЖДЖ

ДО'ШЧАЧКА *ж. памянш.* да д о ш к а. *Накручваем ніткі на навой, то ўстаўляем такія дошчачкі, дзе чыны.* Дзераўное Стаўб.

ДО'ЯНЫ *дзеепрым.* Падоены. *Хай будзя ні пояно, ні дояно, ні давано!* Міратычы Карэл.

ДРАБА'ЦЬ *незак.* 1. Шчапаць (лучыну). *Нада драбаць лучыну ножам.* Кураполле Паст. 2. Сячы на часткі. *Драбаюць* [калодку] *тапаром на брускі.* Кураполле Паст.

ДРАБА'Ч *м.* Венік без лісця, дзяркач. *Драбачом падзяры стол, пабялея!* Саланое Віл.

ДРАБАЧО'К *м.* Матыка з зубцамі. *Шукаю драбачок.* Мярэцкія Глыб.

ДРАБ'Ё *зб. н.* Дробныя саджанцы. *Драб'я прывёс і засадзіў сат.* Паляцкішкі Воран.

ДРАБІ'НА *ж.* 1. Прыстаўная лесвіца. *Драбіна такая, лесці страшна.* Мярэцкія Глыб. *Драбіну прынясі, палезу на гару.* Рыбчына Віл. *Падстаў драбіну, нада салому сцягнуць.* Жодзішкі Смарг. *Наверх залесці нада, ставім драбіну.* Чычалі Швянч. *На гору лезут па драбіні.* Курашэва Чыж. 2. Яслі, кармушка. *Сена кладуць каню за драбіну.* Груздава Паст. *За драбіну оўцам сена закладалі.* Лоск Валож.

ДРАБІ'НКА *ж.* Прыстасаванне ў выглядзе крыжыка для прымацавання сотаў. *Лісток воску, уздзеты на драбінку — гэта наўзы* [вашчыны]. Саланое Віл.

ДРАБІ'НКІ толькі *мн.* 1. Вазок. *Драбінкі — такі возік на васэле. Брычка на рысорах, а драбінкі без рысораў.* Чычалі Швянч. 2. *памянш.* да д р а б і н ы 2. *Драбінкі ў возе тэж драўляныя.* Грыкені Вільн.

ДРАБІ'ННЫ *прым.* Які належыць драбінам. *Драбінная досачка.* Чычалі Швянч.

ДРАБІ'НЫ толькі *мн.* 1. Тое ж, што і д р а б і н а 1. *Прынясі драбіны, палезу на гору!* Кіралі Шчуч. *На гору ліезут по драбіні.* Курашэва Чыж. 2. Рашотчатыя бакі ў калёсах. *Кладуць драбіны на цілегу.* Лоск Валож. *Уставіў драбіны ў вос.* Судэрва Вільн. *Кладзі доўгія драбіны, паедзем па сена!* Кіралі Шчуч. *Збоку воза драбіны, паедзем па сена!* Кіралі Шчуч. *Збоку воза драбіны.* Вялікія Баяры Шчуч., Пацаўшчына Дзятл. *Двіе драбіны до воза.* Курашэва Чыж. 3. Калёсы з рашотчатымі бакамі. *Паехаў у драбінах. Закладай драбіны, паеду па снапэ. Залажыця драбіны!* Кіралі Шчуч.

ДРАБІНЯ'К *м.* Тое ж, што і д р а б і н ы 2. *Драбіняк у калёсах.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДРАБІНЯ'СТЫ *прым.* Які з драбінамі (пра воз). *Пять*

*драбінястых возуов сіена прывюос. Тылько вэток в борові, хоть ты драбінястым возом бэры.* Курашэва Чыж.

ДРАБІ'ЦЬ *незак.* 1. Разбіваць на дробныя часткі. *Драбок сахару дрэбяць на чатыры часці.* Кураполле Паст. 2. Шчапаць лучыну. *І са смалякоў дрэбяць лучыну.* Кураполле Паст.

ДРАБНІ'ЦА *ж.* Дробная салома. Вялікія Нястанавічы Лаг.

ДРАБНО'Я *зб. н.* Дробныя рэчы. *Усё драбноя пєравязуць.* Рыбчына Віл.

ДРАБНЫ', ДРАМНЫ', ДРО'МНЫ *прым.* Дробны. *Якія драбныя маліны!* Мярэцкія Глыб. *Драбную бульбу нада перабраць і свіням зварыць.* Кураполле Паст. *Бульбу драмную сыпалі ў скрыню.* Асавец Віл. *Дромная салома.* Гайна Лаг. *Мятлою зжане дромнае, каласкі — зярно з мякінаю астаецца.* Пацаўшчына Дзятл.

ДРАБО'К, ДРУБО'К *м.* 1. Невялікі кавалачак чаго-н. *Драбок цукру мне можна з'есці.* Мярэцкія Глыб. *Драбок цукру ўкінь у малако!* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Драбок сахару ўкінуў у шклянку.* Беразіно Докш. *Драбок, як драбавоя што.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дай мне драбок цукру!* Кіралі, Вялікія Баяры Шчуч. 2. Невялікая колькасць чаго-н. сыпкага. *Нада было друбок соды палажыць.* Груздава Паст.

ДРА'БЫ І толькі *мн.* Рэбры, косці. *Худы, адныя драбы.* Саланое Віл.

ДРА'БЫ ІІ толькі *мн.* Калёсы з высокімі драбінамі для перавозкі сена, снапоў. *На драбах летам возяць сено, возім і снапы.* Стральцы Гродз. *Драбы — вос такі, снапы вазілі.* Вострава Маст.

ДРАБЫ' *мн.* Вялікія кавалкі. *Соль у драбах прадавалі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Некалі соль была ў драбох.* Вецярэвічы Пух.

ДРАБЯЗА' *зб. ж.* Дробныя адходы саломы пасля абмалоту. *Вымалачаваім, кулі трасем, драбязаываляваіцца.* Асавец Віл. *Як згоніш мятлой драбязу — гэта шчынкі.* Мачаск Бярэз.

ДРАБЯ'ЗГІ *мн.* 1. Адрэзаныя шыя, крылы, галава, лапкі курыцы. *Каб што добрая, а то драбязгі; я люблю з цэлай куры зварыць, а то драбязгаў даў, і вары яму добры суп.* Малева Нясв. 2. Невялікія рэчы, дробязь. *Можа, гэтыя драбязгі пагладжу.* Малева Нясв. 3. Усе дэталі красён. *Ідзі ўнясі драбязгі: набіліцы, панажэ, збівачы, нічальнікі, берда — гэта ўсё прыбор да кроснаў.* Парэчча Гродз.

ДРАБЯЗІ'ЦЬ *незак.* Рэзаць на дробныя кавалкі, драбіць, крышыць. *Што ты драбязіш так буракі?* Вялікія Баяры Шчуч.

ДРАБЯЗО' *зб. н.* Дробная птушка. Паляцкішкі Воран.

ДРА'БЯСТ *гл.* **ГРЭ'БЕСТ**

ДРАБЯСЦІ'НА *гл.* **ГРЭБЯСЦІ'НА**

ДРАБЯСЦІ'ЦЬ *гл.* **ГРАБЯСЦІ'ЦЬ**

ДРАВАСЕ'ТНІК *м.* Дрывотня. *Дравасетнік — дзе дровы б'юць.* Валынцы В.-Дзв.

ДРАВІНА' *ж.* Палена. *Прыдзецца дравіну якую дабыць.* Масілавічы Сл.

ДРАГА'ННЕ *н.* Дрыжанне. *Бапка* [вінт] *ад драгання адрэзалася, нада новую купіць.* Валынцы В.-Дзв.

ДРА'ГАЦЬ *незак.* Стукаць. *Драгаў у дзверы цэлы час.* Лісна В.-Дзв. *Лапату ўзяў і драгаіць у дзверы.* Рагулішкі Даўг.

ДРАГБА' *гл.* ДРЫГВА'

ДРАГБІ'СТЫ, ДРАЖБІ'СТЫ *прым.* Дрыгвяністы. *Драгбістае места. Дражбістая балота.* Мярэцкія Глыб.

ДРАГЕ'НЬКІ *прым.* Драхленькі, старэнькі. *Некалі былі драгенькія домікі.* Бакшты Іўеў.

ДРА'ГЛЫ *прым.* Зыбкі, гнуткі. *Драглая дошка.* Бакшты Іўеў.

ДРАЖНІ'К *м.* Рэха. Ракаўскія Швянч.

ДРАЖНІ'ЦЬ *незак.* Раздражняць. *Не дражні сабакі!* Кіралі Шчуч., Лайпушкі Ігн.

ДРА'ЗА, ДРА'ЗГА, ДРЭ'ЗГА *ж.* Лучына. *С хвайны дралі дразы, драза ні курыць. Мама расказвая, што даўней не было лямпаў, газовак, свяцілі дразґамі.* Стральцы Гродз. *Гаварылі: «Нашчапай дразґаў».* Вялікія Баяры Шчуч. *Я помню, у нас у хаця дразґамі свяцілі.* Вострава Маст. *Выдраў такую дрэзґу, даўней дралі дрэзґі. Дрэзґі рабілі з хвоі і пілілі.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *drzazga* 'трэска'.

ДРА'ЗАЧКА *ж. памянш.* да д р а́ з а. *Тата наколя цэлыя пуке дразачак, мы павяжам, на печы пасохня. Дралі дразачкі с хвайны. Дразачка як гарыць, то не курыць.* Вострава Маст.

ДРАЙНІ'ЦА *ж.* Лучына. *С сасонніку нашчапаюць драйніц.* Лісна В.-Дзв.

ДРА'КА I *ж.* Бойка. *Гляджу, каб на драку не звясці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Там такая драка вышла, што я чуть утюок.* Курашэва Чыж. ∇ *Пусціўся ў драку — чуба не жалей.* Саланое Віл.

ДРА'КА II *ж.* Тачылка для алоўка. *Драку дзелаяш таку шыроку, устаўляяш карандаш і драчыш.* Быстрыца Астр.

ДРАЛЯВА'ЦЬ *незак.* Траляваць. *Драляваць лес — рэзаць і выцягваць на дарогу.* Валынцы В.-Дзв.

ДРАМА'ЦЬ *незак.* Драмаць. *Яны сідзяць і дрэмяць.* Кемялішкі Астр. *Сядзелі і драмалі. Дрэмуць яны.* Паляцкішкі Воран. *Як сядзіш, то і дрэмлеш.* Ялова Пруж.

ДРАМЛІ'ВЫ *прым.* Дрымотны. *I такі чалавек ні драмлівы, ні лянівы.* Саланое Віл.

ДРАМЛЮ'К *м.* Той, хто ўвесь час дрэмле. *Ніяк ты ня выспісся, драмлюк ты!* Асавец Віл.

ДРАМНУ'ЦЬ *зак.* Прыдрамнуць. *Драмнула троха.* Кіралі Шчуч.

ДРАМНЫ' *гл.* ДРАБНЫ'

ДРАМО'ТА *ж.* Дрымота. *Драмота напала.* Пацаўшчына Дзятл.

ДРАМО'ТКА *ж. бат.* Бяссмертнік. *Драмоткі — суханькія сцяблінкі і суханькі цвяточак, сеюць обак маліны.* Магуны Паст.

ДРАМУЛІ' *мн. бат.* Бяссмертнікі. *Драмулі мела набраўшы сёлета; растуць на сухіх мястах.* Быстрыца Астр.

ДРАМУ'ХА *ж.* Тое ж, што і драмóта. *Сягоня мяне драмуха ня берыць, а ўчора драмала.* Малькуны Ігн.

ДРА́'НАЧКА *ж. памянш.* да дрáнка I, 2. *Драначкі нажом расколвалі і на комінку сушылі.* Навасёлкі Свісл.

ДРАНГ *м.* 1. Прут, прэнт. *Патхват, прыкручаны да дранґа.* Гемзы Шальч. 2. Завала. *Дранґам закладаюць дзверы, кап сын не ўлес.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *drąg* 'шост'.

ДРА'НІКІ *мн.* Аладкі з дранай бульбы. *Дранікі пяклі.* Янова Рас. *Нада было дранікаў здзелаць.* Лісна В.-Дзв. *Пячы дранікі!* Рыбчына Віл.

ДРАНІ'ЦА *ж.* Дранка. *Драніцай крышу крылі.* Беразіно Докш. *Драніцай накрыта страха.* Саланое Віл., Дакудава Лід.

ДРА'НКА I, ДРА'НГА *ж.* 1. Тое ж, што і драніца. *Дранку прывязі крышу крыць.* Беразіно Докш. *Дранкай крылі страху.* Быстрыца Астр. *Дранку дзяруць пакрываць стрэхі.* Жылі Іўеў. *Дранкай крыюць страху.* Багушэвічы Бярэз. *Крыют хаты дранкою.* Смаляніца Пруж. *Надралі дранґі накрыць хату.* Кіралі Шчуч. *Надзёр дранґі крыць гумно.* Старыя Смільгіні Воран. *Дранґай накрыта крыша.* Галубы Маст. 2. Лучына. *Надзяры дранак ды сініх* [з абалоні]! *Дранку дралі і свяцілі ў хаце і ў гумне.* Дзяніскавічы Ганц. *Пры Польшчы дранкою светылі.* Ялова Пруж.

ДРА'НКА II *ж.* Посцілка, патыканая анучамі. *Дранкі ткалі с трапак.* Валынцы В.-Дзв. *Посцілку завуць дранка або шарпанка.* Рудня Астравітая Чэрв.

ДРА'НКА III *ж.* Тое ж, што і дзерывó. *Дранкай налівалі кішкі.* Лісна В.-Дзв.

ДРА'НКІ *мн.* Дубцы, расшчэпленыя напалавіну. *У кошыку два лукі, жэбры, заплецены віткамі або дранкамі.* Грыкені Вільн.

ДРАНТВЕ'ЦЬ *незак.* Нямець, дранцвець. *Рука дрантвея.* Малахоўцы Бар.

ДРАНЧЫ'ЦЬ, ДРЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Непакоіць, балець;

свярбець. *Ай-яй, ну і дранчыць рука!* Кіралі Шчуч. *Нешта яго дрэнчыць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дрэнчаць ногі, аш сіл няма вытрымаць.* Галубы Маст. *Дрэнчаць ногі.* Альхоўка Навагр. *Дрэнчыць балячка.* Баброўнікі Гарад.

ДРА'НЫ *дзеепрым.* 1. Садраны, зняты. *З дранай лазы кашы плялі.* Альхоўцы Лях. 2. Біты. *Каб я злавіла цябе, скура была п драная!* Вялікія Баяры Шчуч. 3. у знач. *прым.* Садраны на тарцы. *Драныя бліны, каша драная.* Мярэцкія Глыб. *Будзем есці драныя картафляныя клёцкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *З'ясі мо дранага бліна?* Мачаск Бярэз. *Галушкі с картошкі дранай рабілі.* Тухавічы Лях.

ДРАПА'К *м.* 1. Спружыноўка. *Драпак пускаюць па цвёрдай зямлі, дзе мурох.* Стральцы Гродз. 2. Матыка з зубамі. *Драпаком буракe драпалі. У драпака тры зубэ.* Пацаўшчына Дзятл.

ДРАПАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Паматычыць кароткі час. *Пайду драпану* [матыкай], *а то прападзе картопля.* Альхоўцы Лях.

ДРАПА'Ч *м.* Тое ж, што і д р а п á к 2. *Драпач ест, у ім тры зубы, буракі палоць.* Мсцібава Ваўк. *Там ня ровар, а драпач.* Кіралі Шчуч.

ДРАПА'ЧАК *м. памянш.* да д р а п á ч. *Драпачак грады палоць.* Крэва Смарг.

ДРАПІЕ'ЖНІК *м.* Драпежная жывёліна. *Куот то такі малы драпіежнік.* Курашэва Чыж.

ДРАПІЕ'ЖНЫ *прым.* Драпежны. *Драпіежны, як ястрап, пазурамі дэрэ.* Курашэва Чыж.

ДРА'ПІНА *ж.* Драпіна. *Драпіна, абдрапала ногу.* Лука Нараўк.

ДРА'ПКІ толькі *мн.* 1. Тое ж, што і д р а п á к 2. *Матыкай і драпкамі асыпаюць картофлі.* Міратычы Карэл. 2. Рашотка. *Драпкі — гэто рэшотка такая ў пліце.* Баброўнікі Гарад. 3. Вілы. *Драпкі — залезныя вілы, гной выкідалі.* Малахоўцы Бар.

ДРА'ПНУЦЬ *зак.* Драпнуць. *Курыца зара пазурамі драпне.* Паляцкішкі Воран.

ДРА'ПЦЫ, ДРА'ПЦІ толькі *мн.* Тое ж, што і д р а п á к 2. *Драпцы — матыка, толькі з зубамі. Некалі драпцамі асыпалі бульбу.* Альхоўка Навагр. *Драпці вазьмі і памяшай* [жар]. Жылі Іўеў.

ДРАПЧА'К *м.* Воз для выезду. *Як едуць да места, то накладаюць драпчака. Паеду на рынак у драпчаку.* Баброўнікі Гарад.

ДРАСЁН, ДРО'СЕЛЬ, ДРО'СІЛЬ, ДРО'СІНЬ, ДРО'СЯН, ДРО'СЯНЬ *м. бат.* Драсён. *Драсён горкі, вазьмі ў рукі, то і рукі горкія, і твар. Драсён горкі ўвесь гарот заваліў, драсну да халеры.* Кіралі Шчуч. *Драсён у гародзе.* Вялікія Баяры Шчуч., Рудня Астравітая Чэрв., Альба Нясв. *Драсён горкі, ро-*

*завым цвіце.* Пацаўшчына Дзятл. *Дросель белы і ружовы.* Беразіно Докш. *Дросіль — гарчыца, расцець у гародах.* Мярэцкія Глыб., Кураполле Паст. *Дросінь гарчыць.* Рыбчына Віл. *Дросян разаваты, гарчыць.* Жодзішкі Смарг. *Дросянь — трава такая.* Груздава Паст. *Дросянь у нас расце.* Рудня Чэрв.

ДРАТАВА'НКА *ж.* Вяроўка, звітая з тонкіх тугіх вяровачак. *Дратаванку вілі з лёну. Дратаванка, як провалка, стаіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Вілі вяроўкі — дратаванкі.* Валынцы В.-Дзв.

ДРАТАВА'НЫ *прым.* Звіты, скручаны. *Дратаваную вяроўку віюць з лёну.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДРАТАВА'ЦЬ *незак.* Круціць, вярцець. *Калаўрот нагой дратуям.* Быстрыца Астр.

ДРАЎЛЯ'НЫ, ДРАЎНЯ'НЫ *прым.* Драўляны. *Лён трапалі і часалі на драўляную шчэтку, а тады на зялезную.* Груздава Паст. *Драўляныя зубы зрабіў* [для драўлянай бараны]. Саланое Віл. *Шуфэляк драўляны.* Жодзішкі Смарг. *Была адна драўляная лышка і тую зламаў.* Кемялішкі Астр. *Бараны драўляныя.* Ракаўскія Шввянч. *Драўняныя бароны, потым пашлі плужкі драўняныя.* Грыкені Вільн. *У бойках драўняных білі масла.* Старыя Трокі Трак. *Драўняныя восі былі і драўняныя колы.* Беняконі Воран.

ДРАЎНЯ'НІКІ *мн.* Тое ж, што і дзеравя́нікі. *Драўнянікі насілі, на драўнянай падэшве можна было хадзіць.* Грыкені Вільн.

ДРА'ЦВІНА *ж.* Дратва. *Нада драцвіну зрабіць, што зашыць.* Мярэцкія Глыб. *Драцвіна ўсягда нада, што зашыць.* Рыбчына Віл.

ДРАЦІНА' *ж.* 1. Дрот. *Аб драціну б'ецца і радзіва заікліваецца, трашчыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і дра́цвіна. *Драцвіна, ці драціна — тоя ш. Прынясі драціну зашыць!* Рыбчына Віл.

ДРАЦІНКА' *ж. памянш.* да драціна́. *На драцінку нанізвалі кляновы ліст, і цэлу зіму вісіць.* Крэва Смарг.

ДРА'ЦЦА *незак.* 1. Рвацца. *Мае наўлечкі дзяруцца.* Солы Смарг. *Патклатку пат плечы клалі, кап не дралася кашуля.* Вострава Маст. ∇ *Занавеска дзярэцца — на новую бярэцца.* Азяраны Раг. 2. Драпаць. *Лячай мякі, не дзярэцца, а асака дзярэцца.* Кузьмічы Люб. 3. Чухацца. *Сядзіць і дзярэцца.* Малахоўцы Бар. 4. *перан.* Лезці гвалтам, сілай. *Я не хацеў яго забіць, але ён драўся ў хату.* Лайпушкі Ігн.

ДРАЦЬ *незак.* 1. Знімаць кару. *Пашоў драць кару.* Ракаўскія Швянч. *Дралі ліпу на лыка.* Альхоўка Навагр. *Хадзілі драць лыкі і плялі лапці.* Мсцібава Ваўк. *Ліпу дзяруць.* Альхоўцы Лях. 2. Выдзіраць. *У гэтым ройсце мох дралі.* Гемзы Шальч. *Лазу часць зрубаем, часць дзяром с карнямі.* Істра Лудз. 3. Скубці (пер'е). *Пер'я на падушкі дзяруць.* Паляц-

кішкі Воран. *Трэба драць пер'е.* Мсцібава Ваўк. *Трэба драць на подушку пер'я.* Кіралі Шчуч. *Пер'я на падушку трэба драць. Ты дзярэш пер'я?* Альхоўка Навагр. 4. Часаць лён. *Дзярэш* [лён] *на дзераўную шчотку — пакулы атходзяць.* Рагулішкі Даўг. 5. Шчапаць. *Дралі лучыну, вязалі ў пукі.* Граўжышкі Ашм. *Лучыну драді ценянькую.* Дакудава Лід. *Лучыну драді з абалоны хвоі.* Вецярэвічы Пух. *Колім хвойку на плашкі, дзяром на лучыну.* Тухавічы Лях. *Буду драць елавіну.* Дзяніскавічы Ганц. *Я вам пакажу, як драді дразгі.* Парэчча Гродз. 6. Церці на тарцы. *Бульбу нада драць.* Мярэцкія Глыб. *Хочацца бапкі, і доўго драць картоплю.* Малахоўцы Бар. 7. Разграбаць лапамі. *Курыца з куранятамі натта гарот дзяруць.* Кіралі Шчуч. *Дзяруць грады куры.* Рудня Астравітая Чэрв. *Курыца дзярэ лапамі.* Номікі Бабіц. *Куры лехі дзеруць.* Мішневічы Шум. 8. Драпаць. *Рак гнібне і дзярэ разам.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *Каты капцюрамі дзеруць — вецер будзе.* Мішневічы Шум. 9. Моцна дзьмуць. *Вецяр драў на дошч.* Гемзы Шальч. 10. Задзіраць, забіваць. *Кранкач дзярэ курэй.* Гемзы Шальч. 11. *перан.* Раскопваць. *Адна старушка як прыедзіць — зямлю дзярэць* [на магіле], *плачыць.* Індра Красл. 12. *перан. экспр.* Гаварыць. *Суседзі дзяруць, што я матку* [свякроў] *пахавала добро.* Альхоўцы Лях. 13. *перан. экспр.* Крычаць, лямантаваць. *Пашлі дочкі драць, што памрэ матка. Будзя драць праз расаду.* Альхоўцы Лях. ◈ *Драць вочы* — нападаць на каго-н. са злосці. *Чаго ты дзярэш вочы?* Магуны Паст.

ДРАЦЯНЫ' *прым.* Зроблены з дроту. *Была драцяная ключка.* Мсцібава Ваўк.

ДРАЧ *м.* Тое ж, што і д з я р к а́ ч II. *Драч цэлу ноч крычыць.* Малахоўцы Бар. *Драчэ — невялікія, чорныя, хвосцік кароценькі, як без хваста, усё дзярэцца.* Пацаўшчына Дзятл. *Ана* [птушка] *крычыць громка — драч.* Пасіене Лудз.

ДРА'ЧКА I *ж. цясл.* Драчка. *Драчкай аддзярэ на бервяне рыскі і па гэтай рысца сякерай выбіраюць раўчачок.* Гемзы Шальч. *Драчка ест, ей карыстаюцца, дзе трэба прыпусціць бярвёно.* Старыя Смільгіні Воран.

ДРА'ЧКА II *ж.* Паз. *Выбраць нада драчку.* Гемзы Шальч. *Выбіралі драчку, карытку такую, туды моху наложыць.* Старыя Трокі Трак.

ДРА'ЧКА III *ж.* Расшчэпленыя дубцы для пляцення кошыкаў і інш. *Драчку з гарэшніку дзяруць і кошыкі плятуць.* Міратычы Карэл. *Калубель із дошчак, із драчкі.* Грыкені Вільн.

ДРА'ЧКА IV *ж.* Тарка. *Тарка — цяпер так гаворацъ, даўней — драчка.* Мярэцкія Глыб. *Асцярожна, драчка новая, рукі можна падраць!* Рыбчына Віл. *Надрала бульбы на драчцы і бапку спякла.* Мачаск Бярэз.

ДРА'ЧКА V *ж.* Печыва з дзёртай бульбы і грэцкай мукі. *Надзяруць бульбы, туды грэцкую муку, на бляху — і ў печ.* Стральцы Гродз.

ДРА'ЧКА VI *ж.* Шчотка для абдзірання, ачысткі льну. *Драчкі былі такія: дошка, набіты гвоздзі, таўсціні, як ручка, і абдзіраем лён.* Латыгаль Віл.

ДРАЧНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш ручны. *Драчнейшы быў кот спачатку, а цяпер не так драчны.* Ёдлавічы Брасл.

ДРАЧНЫ', ДРО'ЧНЫ *прым.* Ручны, ласкавы. *Драчны кот наш і сабака драчны. Ну і куры ў вас дрочныя, дрочныя каровы, усе жывёлы дрочныя.* Ёдлавічы Брасл.

ДРАЧО'НІКІ *мн.* Тое ж, што і д р а́ н і к і. *Драчонікі спяку, са сміта́най будзем есці.* Беразіно Докш.

ДРАЧЫ' *мн.* Тое ж, што і д р а́ н і к і. *Мама, спячы драчоў! Драчы — таркаваныя.* Ракаўскія Швянч.

ДРАЧЫ'ЦЬ, ДРО'ЧЫЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і д р а н ч ы́ ц ь. *Пад рукою драчыць, як спарыцца пот.* Навасёлкі Свісл. *Пальцы папрэлі, драчыць вельмі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Драчыць балячка якая. Драчыць у вусе.* Альхоўцы Лях. *Зуп драчыць стала. Ой, як драчыла! Дрочыць скула.* Мсцібава Ваўк. *Ногі сільна дрочаць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Стругаць, тачыць. *Драку дзелаяш таку шыроку, устаўляяш карандаш і драчыш.* Быстрыца Астр. 3. Дражніць. *Ён дзіця драчыць.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *droczyć* 'дражніць, мучыць, прыгнятаць' (СВ, I, 557).

ДРО'БАЧКА, ДРУ'БАЧКА *ж.* Тое ж, што і д р а б о́ к 2. *Усып дробачку солі!* Альхоўцы Лях. *У грыбок друбачку соды нада сыпаць.* Крэва Смарг.

ДРОБНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Драбнейшы. *З грудка дробнейшае сена дают каню.* Лука Нараўк.

ДРО'БНІНЬКА *прысл.* Дробненька. *Міґла мыґліць дробнінька.* Магуны Паст.

ДРО'БНЫ *прым.* 1. Невялікі. *Дошч дробны — мыгла.* Солы Смарг. 2. Кароткі. *Сем ганей па сто метраў — дробныя гоні.* Івашкаўцы Смарг.

ДРО'БЫ *мн.* Камякі. *Соль даўней была ў дробах, яе ў мажджару церлі.* Жылі Іўеў.

ДРО'ВЫ, ДРО'ВА толькі *мн.* Дровы. *Лёня дровы сячэ. Дровы* [у печы] — *на поце.* Солы Смарг. *Тыя дровы, як абаранькі, сухія.* Парэчча Гродз. *Пілавалі мне дрова.* Баброўнікі Гарад.

ДРО'ГІ толькі *мн.* Развалкі. *Лес вазілі дрогамі.* Лісна В.-Дзв.

ДРО'ЖДЖЫ, ДРЭ'ЖДЖЫ толькі *мн.* Дрожджы. *На дражджах рашчыняюць булкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дражджэй купіла.* Старое Сяло Зэльв. *Пячом бапкі з дражджы-*

*ма.* Альхоўцы Лях. *Начоўка была някіслая, а яна і дрэжджаў ня паклала.* Сваткі Мядз. *Дрэжджы купіла, будуць бліны добрыя.* Ністанішкі Смарг. *Прывязі дрэжджы, спяку булку.* Жодзішкі Смарг. *Прывязі мне дрэжджы!* Асавец Віл.

ДРО'МНО *прысл.* Дробна. *Дромно пасячэш смалякі.* Альхоўцы Лях.

ДРО'МНЫ *гл.* ДРАБНЫ'

ДРО'МНЯНЬКІ *прым. памянш.* Дробненькі. *Зранку абапал слівы нападала дромнянькіх сліў.* Стральцы Гродз.

ДРОНГ, ДРОНК *м.* 1. Ручка. *Дронґ доўгі ў сечкарні—метра два.* Галубы Маст. 2. Жэрдка, якой замацоўваюць сена на возе, рубель. *Дронк, або рубель — сена ўціскаць.* Навасёлкі Свісл. 3. Драўляная засаўка. *Толькі дронк выцягнем, і выпусціш карову. Дронк — палена, жэртка, што закладаюць дзверы ў хляве.* Малькуны Ігн. 4. Завеса, якой прымацоўваюць дзверы да вушака. *Да дронґа дзверы прыкраплялі.* Івашкаўцы Смарг. 5. Падгерац. *Шворан ідзе прас крэсла і прас дронк.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *drąg* 'жэрдка, кол'.

ДРО'НГІ *мн.* Жэрдкі ў драбінах калёс. *Чатыры дронґі; у дронґі ўстаўляюцца ляскі.* Парэчча Гродз.

ДРО'НЧАК *м.* Доўгія калёсы без кузава. *Дрончак — чатыры калясы, адна даска пасрадзіне.* Лісна В.-Дзв.

ДРО'СЕЛЬ, ДРО'СІЛЬ *гл.* ДРАСЁН

ДРО'СІНЬ *гл.* ДРАСЁН

ДРО'СНІК *м. бат.* Драсён. *У дросніку лісця, як жылвіца.* Быстрыца Астр. *Дроснік горкі.* Гемзы Шальч. *Дроснік мая бóльшыя лісты.* Граўжышкі Ашм. *Дроснік горкі, як хвароба.* Солы Смарг.

ДРО'СЯН, ДРО'СЯНЬ *гл.* ДРАСЁН

ДРОТ *м.* Дрот. *Плыты дротом звязаны.* Грыкені Вільн. *Такія драты тоўстыя.* Беняконі Воран. *Дрот калючы.* Гемзы Шальч. *Дрот ляжаў скінены.* Паляцкішкі Воран.

ДРО'ЎНІ толькі *мн.* Простыя сані. *Галоўні ў дроўнях, палазы для дравéнь.* Пасіене Лудз. *Дроўні — гэта сані.* Мешкінева Лудз.; *параўн.* руск. *дровни* 'тж'.

ДРО'ХКА *прысл.* Страшна. *Так мне было дрохка, што не хадзіла далёка.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* бел. літар. *дрогкі* 'які трасе або трасецца'.

ДРО'ЧНЫ *гл.* ДРАЧНЫ'

ДРО'ЧЫЦЬ *гл.* ДРАЧЫ'ЦЬ

ДРУБ, ДРУП *м.* Кавалачак. *Дай друп цукру. Друбы цукру.* Быстрыца Астр.

ДРУ'БАЧКА *гл.* ДРО'БАЧКА

ДРУБІ'НАЧКА *ж. памянш.* Драбок. *Дай мне друбіначку солі.* Кухты Віл.

ДРУБО'К *гл.* ДРАБО'К

ДРУГ, ДРУХ *м.* Сябар. *Друга пільнуе.* Ялова Пруж. *Друж'ямі завёўся.* Мсцібава Ваўк.

ДРУГА'К *м.* Другі рой. *Ад другака маткі пяюць.* Валынцы В.-Дзв. *Другак — другій рой.* Янова Рас.

ДРУГАЛЯ'КА *прысл.* Інакш. *У нас другаляка гаворацъ.* Ракаўскія Швянч.

ДРУГА'ЧКА *ж.* Тое ж, што і двуго́дка. *Другачка пахадзіла.* Саланое Віл.

ДРУГІ' *прым.* 1. Які адбываецца паўторна. *Другі рас ішоў воўк і сеў на дарозя і не пусціў.* Граўжышкі Ашм. *Другі рас прышоў, цягаецца бэс патрэбы.* Паляцкішкі Воран. *Другі рас сюды не прыду.* Курашэва Чыж. 2. Процілеглы. *Каровы былі на другом баку рэчкі.* Солы Смарг. 3. Наступны па ліку. *Ён узяў другую жонку.* Ахрэмаўцы Брасл. *Другі муж у яе.* Ялова Пруж. 4. Іншы. *Нада другім днём вынесці цыбулю, кап пасохла.* Курапслле Паст. 5. Горшы, чым першы (пра сорт). *Часть збуожа пушло в другі сорт, а часть — в пэршы.* Курашэва Чыж.

ДРУГЛЯ'ВЫ *прым.* Друзлы. *Бапка — грып друглявы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДРУЖБА' *ж.* 1. Сяброўка. *Гэта мая дружба была, мы дружылі.* Малькуны Ігн. 2. Сяброўства. *Як прышлосе груошмі ділітісе, то і дружба пропала.* Курашэва Чыж.

ДРУЖБА'К *м.* Сябар. *Дружбакі яны дайно.* Мярэцкія Глыб.

ДРУЖБА'НТ *м. абрад.* Шафер. *Маладыя дружбанта бяруць.* Дакудава Лід. *Ён быў дружбантам, а яна — друшкай.* Гемзы Шальч. *З дружбантамі было васэля.* Стральцы Шальч. *Дружбанты — хлопцы ў маладога, дружбанткі — у маладой.* Солы Смарг. *Дружбанты папіліся на васэлі.* Старыя Смільгіні Воран. *А малады бярэ дружбантаў.* Каўняны Гродз. *Дружбанты ў вяселлі і друшкі. Дружбанта выжануць с хаты.* Альхоўка Навагр.

ДРУЖБА'НТКА *ж. абрад.* Шаферка. *Дружбант — у маладога, дружбантка — у маладой.* Крэва Смарг. *У маладой былі дружбанткі.* Солы Смарг.

ДРУЖБІ'СТЫ *прым.* Той, хто лёгка ўваходзіць у кантакт з людзьмі. *Ён дружбісты, з усімі добра.* Рыбчына Віл. *Ну і дружбісты быў маляц!* Ёдлавічы Брасл. *Такі ён дружбісты, прылюдны.* Калясное Міхал.

ДРУ'ЖНА, ДРУ'ЖНО *прысл.* 1. У згодзе. *Дружна жывуць, добра жывуць.* Солы Смарг. *В некоторых сем'ях дружно жывут і нэ сварацце.* Курашэва Чыж. 2. Разам, сумесна. *Ну, хлопці, дружно возмэмсе!* Курашэва Чыж.

ДРУЖЫ'НА *ж.* 1. *абрад.* Сваякі і сябры жаніха або нявесты, якія ўдзельнічаюць у вясельным абрадзе. *Дружына едзя на вяселя: сват і сванька едуць, малады і маладая.* Да-

кудава Лід. *Дружына была: шафіра, шафірыцы, сваты.* Індра Красл. 2. Сям'я. *Усяляка бывае дружына: і велька і малая, не ўчуеш іх сварачыся і б'ючыся.* Кіралі Шчуч. *Я не баяласяісці за яго, што ў яго дружына была велькая. Велька была дружына.* Каўняны Гродз. *У мяне дружыны не было, толькі бацька.* Парэчча Гродз. *У нас была велька дружына, многа дзяцей было.* Стральцы Шальч. *Была дружына шэсць душ, як сядзім за стол, то толькі лыжкі пляскуюць каля міскі.* Старыя Смільгіні Воран. *Мая радзіна, а раней казалі дружына. Вяліка дружына ў бацькі.* Паляцкішкі Воран. *У нас была вялікая дружына.* Старыя Трокі Трак. *Я пра брата хадзіла варажыць, якая дружына будзе.* Баброўнікі Гарад. *У нас дружына велька.* Альхоўка Навагр. *У нас большая дружына.* Вецярэвічы Пух. 3. Сям'я пчол. *Сем дружын пчол.* Гемзы Шальч.

ДРУЖЫ'ЦЦА *незак.* Сябраваць. *Дружацца яны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДРУЖЫ'ЦЬ *незак.* Сябраваць. *Яны дружаць.* Кураполле Паст. *Унук дружыць з бабай.* Кемялішкі Астр. *Яны ні дружаць.* Альхоўка Навагр.

ДРУЗ, ДРУС *зб. м.* 1. Трэскі. *Лучынку ці друзу якога паткіняш у печ.* Дакудава Лід. 2. Кавалкі гліны, цэглы. *Друс — кускі сухой гліны, як разбіраюць печ, дробныя каменчыкі, кавалкі цэглы.* Рыбчына Віл. 3. Смецце. *Насыпалася друзу с сталявання.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* літ. *drūzgaĩ* 'трэскі, крошкі'.

ДРУЗА' *ж.* Твань. *Друза ў балоці, у канаві.* Мярэцкія Глыб., Ністанішкі Смарг. *Балаціна — такая друза, што каша.* Рагулішкі Даўг. *Друза ў балоце, дзе дрыжыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як што-небудзь спорціцца з яды, то кажуць: «Як друза».* Мярэцкія Глыб. *Ляжыць мяса, як друза, загніўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Раздрузеўшы, згніўшы, як друза што.* Ракаўскія Швянч. *Паглядзець — баба здаровая, а яна, як друза.* Кураполле Паст. *Слабы, стары ён ужо, як друза, толькі ходзіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *На старога кажуць: «Ён ужо, як друза, толькі ходзіць».* Азяраны Раг.

ДРУЗА'К *зб. м.* Трэскі. *Дрова сяку, друзак адлятая ад дроў.* Семежава Кап.; *гл.* д р у з.

ДРУЗА'ЛКІ, ДРУЗГА'ЛКІ *мн.* Кавалачкі бульбы ў бульбяной кашы. *Асталіся друзалкі ў кашы, таўчы добра!* Саланое Віл. *Друзгалкі ў кашы з бульбы.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *гл.* д р у з.

ДРУ'ЗАЧКА *ж.* Асколачак, кавалачак. *Шклянка на друзачкі пабілася.* Дакудава Лід.

ДРУЗГА'ЛЛЯ *зб. н.* Груды. *Друзгалля ўсохшы, трэба пабаранаваць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ДРУ'ЗГІ, ДРУ'СКІ *мн.* Асколкі. *Пабіласо* [шкло] *на*

*дробныя друзгі.* Стральцы Гродз. *Пабіў шклянку на друзгі.* Кіралі Шчуч. *Слоік пабіла на друзгі.* Каўняны Гродз. *Пабіла бутылку на друскі, што нельга і сабраць.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *drūzgai* 'тж'.

ДРУЗЕ'ЛЯ *н. бат.* Дурнап'ян. *Нехта патшуціў, кінуў у печку друзеля, у лазні, то хто мыўся — пап'янелі.* Івашкаўцы Смарг.

ДРУК *м.* Жэрдка. *Друк — таўшчэйшая палка.* Малахоўцы Бар. *Машына друкі павязла. Друк, як тоўсты, то распілоўваюць надвоя. Гародзяць плот друкамі.* Навасёлкі Свісл. *Друкі павёс; з друкоў плот гародзяць. Завязь асыпалася долія, як друк дзерава.* Вецярэвічы Пух.

ДРУ'КІ *мн.* 1. Прыстасаванне з сукаватых маладых ялінак, пастаўленых у рад для сушэння льну, вікі, гароху. *Надзівалі віку, гарох у друкі.* Мярэцкія Глыб. *У друкі нада галоўкі складаць.* Курапалле Паст. 2. Планкі, да якіх прымацоўваюцца драбіны або жэрдкі ў возе. *На друкі наложыць аплавы.* Калясное Міхал.

ДРУП *гл.* ДРУБ

ДРУС *гл.* ДРУЗ

ДРУ'СКІ *гл.* ДРУ'ЗГІ

ДРУХ *гл.* ДРУГ

ДРУХЛЯ'К *м.* Сукенка з саматканага палатна. *Друхляк — плацце, сукенка з сваей ткані шылі.* Рыбчына Віл.

ДРУ'ХНА *ж.* Тое ж, што і д р у ж б а́ н т к а. *Маладая бярэ чтэры друхны.* Каўняны Гродз. *Маладыя бяруць друхну і дружбанта.* Сапоцкіна Гродз.

ДРУЧА' *ж.* Палка. *Дручой калацілі і траслі яго.* Малькуны Ігн.

ДРУЧКІ' *мн. памянш.* да д р у́ к і 1. *На дручках хоць што можна сушыць: гарох, бульбоўнік і сена, віку.* Груздава Паст.

ДРУЧО'К *м. памянш.* да д р у к. *Два дручкі дзеравяныя; і лажылі на іх сена і выносілі на грудок.* Мсцібава Ваўк. *Дручкі кладут і на іх сена.* Лука Нараўк.

ДРУ'ШКА *м.* і *ж.* 1. Тое ж, што і д р у ж б а́ н т. *Старшы сват друшка зрабіў яга ваўком.* Рыбчына Віл. *Ён паехаў за друшка, а яна за друшку.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і д р у ж б а́ н т к а. *Ад маладой друшкі, а хлопцы — закоснікі.* Солы Смарг. *На вяселя: друшкі і дружбанты.* Паляцкішкі Воран. *Ён быў дружбанта, а яна друшка.* Гемзы Шальч. *У маладога—шваўкі, у маладой—друшкі, сколькі ў яго, столькі ў яе.* Талейкі Швянч. *З друшкай сядзеў.* Стральцы Шальч. *Друшкі ад міне і ад яго дружбант.* Старыя Трокі Трак. *Чужые друшке былі. Хароша друшка.* Старое Сяло Зэльв. *Друшкі — у яе, у яго — патсвашкі і браты.* Альхоўцы Лях. *Яна за друшку будзя.* Парэчча Гродз.

ДРУ'ШКО *м.* Тое ж, што і д р у ж б а́ н т. *Друшка — дзяў-*

*чына, а друшко — хлопяц.* Вялікія Баяры Шчуч. *Друшко ўводзіць маладую, а за ёю ўваходзяць усе друшкі і садзяцца напроціў маладога.* Семежава Кап. *Друшко яе.* Галубы Маст.

ДРЫВА′ЛЬНІК *м.* Дрыботня. *Дрывальнік быває, дзе дровы пілуюць і шчапаюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДРЫВЕ′ЦЬ *незак.* 1. Трызніць. *Пачаў дрывець ён. З памяці зганяя чалавека. Ён дрывеў, гаварыў бес памяці.* Бакшты Іўеў. *Дрывіць у гараццы.* Жыдзевічы Іўеў. 2. Насміхацца, здзекавацца. *Ён смяецца, дрывіць.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *drwić* 'насміхацца, здзекавацца'.

ДРЫВО′ *зб. н.* Дрэвы. *Параспускалася дрыво.* Пацаўшчына Дзятл.

ДРЫВО′ТНІК *м.* Тое ж, што і д р ы в а́ л ь н і к. *Дрывотнік — дзе дровы сячом.* Солы Смарг. *Трэба ісці на дрывотнік парубаць дроў.* Гемзы Шальч. *У дрывотніку дрыва.* Старыя Смільгіні Воран. *Дрывотнік — там жа сор і трэсачкі, усё.* Багушэвічы Бярэз. *Назбірай трэсак у дрывотніку.* Мачаск Бярэз. *Пайдзі вазьмі трэсак на дрывотніку.* Дзяніскавічы Ганц.

ДРЫВО′ТНЯ *ж.* Тое ж, што і д р ы в а́ л ь н і к. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Вострава Маст. *Ён там, дзе дрывотня, сячэ дровы.* Беразіно Докш. *Дрывотня — дзе рэзалі і калолі дзеравы.* Пацаўшчына Дзятл. *Пойдзім пілаваць дрова на дрывотню.* Кіралі Шчуч. *Трэскі там у мяне ляжаць, дзе дрывотня.* Глівін Барыс. *Прыбрала дрывотню, патчысціла.* Рудня Астравітая Чэрв. *На дрывотні сячом дрова.* Малахоўцы Бар. *Дрывотня за хлявом, там сякуць дровы, дровы там ляжаць.* Альба Нясв.

ДРЫГА′ЛКА I *ж.* Вясло для рэгуліроўкі плыта. *Дрыгалка, як вясло, длінная, упярадзе паложана, перак ганка паложана.* Кураполле Паст. *І дровы — плахі гналі* [сплаўлялі], *дрыгалка была, апчосана, як даска — вясло такоя.* Валынцы В.-Дзв.

ДРЫГА′ЛКА II *ж.* Драўляны гузік. *Я табе ўшыла дрыгалку ў рукавах і ў кажух.* Кіралі Шчуч.

ДРЫГАНУ′ЦЬ *зак.* Страсянуць, скалануць. *Самалёт дрыгануў.* Валынцы В.-Дзв.

ДРЫГАТА′ *ж.* Дрыжыкі. *Зімою дрыгата бярэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Так я змерзла, аж дрыгата міне бярэ, палезу на печ.* Кіралі Шчуч. *Дрыгата нейкая бярэ.* Галубы Маст.∇ *Сягодня — дрыгату, а заўтра — рагату.* Старыя Трокі Трак.

ДРЫГАТУ′ХА *ж.* Тое ж, што і д р ы г а т а́. *Выехаў у марынарцы, дрыгатуха бярэ, трэба ш мне было адзець кажух.* Гемзы Шальч.

ДРЫГАЎНЯ′ *ж.* Балота, зыбкае месца. *Дрыгаўня — дзе балоцістае месца, трасецца.* Альхоўка Навагр.

ДРЫГВА', ДРЫГБА', ДРАГБА' *ж.* Тое ж, што і д р ы г а ў н я́. *Дрыгва — зыпкая, топкая месца.* Рыбчына Віл. *Дрыгва — балоціна места: тут станяш, а там падымаяцца.* Дакудава Лід. *Ні ступіш нагой — дрыгва там, балота такое.* Гемзы Шальч. *Там крэпка топкая балота, ня йдзіця, там ужо дрыгва.* Ёдлавічы Брасл. *Там настаяшча дрыгва: граско, вяско.* Малахоўцы Бар. *Крынічная балота як рушыцца, трасецца, кажуць дрыгва.* Жылі Іўеў. *На такой дрыгбе грэбля паложана.* Груздава Паст. *Не хадзі — там дрыгба, усё калышацца.* Беразіно Докш. *Драгба — багністая балота.* Мярэцкія Глыб. *На лугах ёсь драгба, зыбаісся там, карова ўвязніць — выцягваюць, конь там праваліўся і пашоў ка дну.* Валынцы В.-Дзв. *Папаў у драгбу.* Палік Барыс.

ДРЫГЛЕ'Ц *м.* Тое ж, што і д р ы г а ў н я́. *Дрыглец — дрыгва такая. Каля Куранца такая гавенда.* Жодзішкі Смарг.

ДРЫГЛІ'ВЫ *прым.* Дрыжачы. *Дрыглівы чалавек, ак дрыжаць рукі.* Пацаўшчына Дзятл.

ДРЫГО'ТКА, ДРЫГУО'ТКА *ж.* Тое ж, што і д р ы г а т а́. *Дрыготка міне бярэ.* Каўняны Гродз. *Холат, дрыготка ўзяла.* Баброўнікі Гарад. *Быв такі хворы, што аж дрыгуотка кідала.* Курашэва Чыж.

ДРЫЖА'ХА, ДРЫЖУ'ХА *ж.* Тое ж, што і д р ы г а т а́. *Дрыжаха бярэць с сярэдзіны. Выпіла парашок, і дрыжаха бярэць.* Ёдлавічы Брасл. *Дрыжуха зімой бярэць.* Быстрыца Астр.

ДРЫ'ЖЫКІ толькі *мн.* Тое ж, што і д р ы г а т а́. *Дрыжыкі з плячэй сыплюць.* Пацаўшчына Дзятл.

ДРЫЖЭ'ЦЬ *незак.* 1. Калаціцца. *Дрыжыць сэрца.* Саланое Віл. 2. *перан.* Перажываць за каго-н., аберагаць каго-н. *Адзін за адным так дрыжэлі!* Саланое Віл.

ДРЫЗГ, ДРЫСК *м.,* ДРЫ'ЗГІ *мн.* Шматок, кавалак. *Парвалі на дрыск і кінулі.* Кіралі Шчуч. *У дрызгах прышоў.* Малькуны, Лайпушкі Ігн.; *парайн.* літ. *drìzgas, driskà* 'ануча'.

ДРЫЛЬ I *м.* Дрыль. *Дрылям дрыляваў катлы.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *dryl* 'тж', ням. *drillen* 'свідраваць'.

ДРЫЛЬ II *м.* Вялікі кол. *Як вазьму дрыль, як змалачу, то і хана* [канец] *табе будзя! Як ухапіў дрыль добры і па ём, дык ён скаціўся.* Кіралі Шчуч.

ДРЫЛЯВА'ЦЬ *незак.* Свідраваць. *Дрылям дрыляваў катлы.* Магуны Паст.

ДРЫН *м.* Палка. *Вазьму дрын і дрынам як дам!* Ахрэмаўцы Брасл., Рыбчына Віл., Бакшты Іўеў. *Дрын — палка такая.* Дакудава Лід. *Палучылі дрына.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вазьмі дрын ды дрынам яго!* Вецярэвічы Пух.

ДРЫНГО'ЛА *ж. экспр.* Худзізна. *Гэта дрынгола.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* літ. *dringëti* 'грукатаць'.

ДРЫ́НДА *ж. экспр.* Стары воз. *То вуос? — То дрында. Я такою дрындою встыдавсе б іехаті.* Курашэва Чыж.

ДРЫ́НДАЛА *ж. экспр.* Абібок, лайдак. *Ах ты дрындала!* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *drynda* 'рамізнік'.

ДРЫ́НДАЦЬ *незак.* Хадзіць без справы, бадзяцца. *Ладная дзеўчына — і дрындаіць па ўліцы.* Кураполле Паст. *Дрындая па вёсцы, нічога не робіць.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *dryndać* 'трэсціся, падскокваць у час язды'.

ДРЫСК *гл.* ДРЫЗГ

ДРЫСЛЯ́Г *м.* Друшляк. *Праз дрысляг цэдзім, як таркуям.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *durszlak* 'тж'<ням. *Durchschlag* 'рэшата, цадзілка'.

ДРЫЎНІ́К *м.* Тое ж, што і д р ы в а́ л ь н і к. *У дрыўніку і сячом — паветачка такая.* Быстрыца Астр.

ДРЭ́БЯЗГІ *мн.* Кавалкі, шматкі. *Пабілася шкло на дрэбязгі. Чыста парвалася мая сукенка ў дрэбязгі.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *drobiazg* 'драбяза'.

ДРЭ́БЯСТ *гл.* ГРЭ́БЕСТ

ДРЭ́ВА *н.* 1. Дрэва. *Дрэва сукаватая.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Дрэва расце.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дрэвы сухія павыразаў.* Груздава Паст. 2. Лесаматэрыял. *Дубняк на дрэва рэзалі.* Дакудава Лід.

ДРЭ́ЖДЖЫ *гл.* ДРО́ЖДЖЫ

ДРЭ́ЖЫНЬ *м. заал.* Яшчарка. *Дрэжынь бляшчыць, да шчыпака падобны.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *driežas* 'тж'.

ДРЭ́ЗГА *гл.* ДРА́ЗА

ДРЭЛІХО́ВЫ *прым. тэкст.* Які пашыты з ціку. *Дрэліховы нагавіці собіе пошыв.* Курашэва Чыж.

ДРЭЛЬ *м.* Тое ж, што і д р ы г а́ л к а I. *Дрэль — палка даўгая; ім упраўлялі ганком.* Валынцы В.-Дзв.

ДРЭ́НА *прысл.* Дрэнна. *І ўсё там дрэна.* Чычалі Швянч. *Нам дрэна.* Грыкені Вільн.

ДРЭНҐ *м.* Сверб. *Крапівой нажэгала, так нядобра было, аш дрэнґ быў.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *dręczyc* 'мучыць'; *гл.* д р а ч ы́ ц ь.

ДРЭ́НЕНЬКІ *прым. памянш.* да д р э́ н н ы. *Дрэненькая хатка, купілася і аддзялілася.* Ёдлавічы Брасл.

ДРЭ́ННЫ, ДРЭ́НЫ *прым.* 1. Кепскі. *А, ты дрэнны чалавек!* Саланое Віл. *Дрэная пагода.* Ёдлавічы Брасл. *Калісці дрэна было жыця.* Стральцы Шальч. *Пойла добрае і дрэнае. Дрэныя ніткі.* Грыкені Вільн. 2. Стары, паношаны. *Дрэнную нажутку пасцялі.* Малькуны Ігн.

ДРЭ́НЧЫЦЦА, ДРЭ́НЧЫЦА *незак.* 1. Капрызіць, нерванацца. *Люда нешта дрэнчыца.* Крэва Смарг. *Цягаеца, штургаеца — во і дрэнчыца.* Ракаўскія Швянч. *Чаго ты дрэн-*

*чысся?* Едлавічы Брасл. 2. Гуляць. *Яны дрэнчуцца, дзеці.* Чычалі Швянч.

ДРЭ'НЧЫЦЬ *гл.* ДРАНЧЫ'ЦЬ

ДРЭНЬ *ж.* Той, хто кепскі, тое, што кепскае. *Дрэнь была баба. Мая капуста — дрэнь.* Валынцы В.-Дзв. *Сам ты дрэнь!* Саланое Віл. *Дрэнь ты!* Ністанішкі Смарг.

ДРЭ'ПАЦЬ *незак.* Драпаць. *Кот лапамі дрэпаіць.* Груздава Паст. *Капцюрамі дрэпае.* Багушэвічы Бярэз.

ДРЭ'ЎЦА *н. памянш.* да д р э́ в а 1. *Растуць дрэўцы маладыя.* Талейкі Швянч., Вялікія Баяры Шчуч.

ДУ'БА, ДЫ'БА *прысл.* 1. Дубка. *Конь дуба становіцца.* Саланое Віл. *Дуба стаў конь.* Лука Нараўк. *Конь стаў дыба, на заднія ногі.* Кіралі Шчуч. *Дыба стаў конь.* Пацаўшчына Дзятл. *Конь дыба стаў.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Дыбам, тарчма. *Свіння шэрсць падняла дуба, нечага спужалася.* Саланое Віл. ◊ *Валасы дуба (стаяць)* — пра пачуццё вялікага страху. *Валасы дуба стаяць ат такога.* Груздава Паст. *Валасэ дуба сталі.* Номікі Бабіц.

ДУБАЛЁМ *прысл.* Тое ж, што і д у́ б а 2. *Валасы дубалём.* Груздава Паст.

ДУ'БАЛЬТ *м.* Слой, пласт. *Напярыш гваздзей, у тры дубальты крылі.* Саланое Віл.

ДУБАЛЬТО'ВЫ I, ДУБЭЛЬТО'ВЫ *прым.* Падвойны. *Дубальтовыя вокны.* Мсцібава Ваўк. *Дубальтовыя окна на зіму ўстаўляліся.* Лука Нараўк. *Як ставіў хату, то дав дубэльтовы стіены.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *dubeltowy* 'тж'.

ДУБАЛЬТО'ВЫ II *прым.* Клятчасты. *Пярэтакі на дубальтовых коўдрах.* Альхоўцы Лях.

ДУБАЛЬТО'ЎКА I *ж.* Двухстволка. *Устаў я раненька, яшчэ чуць свет, узяў дубальтоўку, патроны, кусок хлеба ў торбу і пашоў у лес.* Журыхі Віл. *Узбегла ліса на палянку, тут я і выстраліў з дубальтоўкі.* Падневічы Івян. *Праве, у каждаго дубальтоўка была.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *dubeltówka* 'тж'.

ДУБАЛЬТО'ЎКА II *ж.* Суконная хустка ў клетку. *Дубальтоўка — хустка-суконка і велькая, бальшыя клеткі, зложыць на раге на голаў, і паехала на базар.* Кіралі Шчуч.

ДУ'БАЛЬТЫ *мн.* Клеткі на тканіне. *А патом сталі ткаць у дубальты, у чатыры ніты.* Альхоўцы Лях.

ДУ'БАМ, ДЫ'БАМ *прысл.* Тое ж, што і д у́ б а 1. *Натурлівы конь дыбам становіцца.* Лісна В.-Дзв. ◊ *Валасы дубам* — пра пачуццё вялікага страху. *Асвеціць малання — валасы толька дубам.* Асавец Віл. *Дубам сталі валасы.* Ракаўскія Швянч. *Мне дажэ валасы дубам сталі ад страху.* Мсцібава Ваўк.

ДУ'БАРАМ *прысл.* ◊ *Валасы (сталі) дубарам* — пра па-

чуццё вялікага страху. *Валасы сталі дубарам, як спужаўся.* Ёдлавічы Брасл.

ДУБАСА', ДУБАСО'Ю *прысл.* Тое ж, што і дуба 1. *Конь стаў дубаса.* Номікі Бабіц. *Конь становіцца дубасою.* Стральцы Гродз.

ДУБАСАВА'ЦЬ *незак.* Станавіцца дыбам. *Конь дубасуе.* Номікі Бабіц.

ДУБА'СІЦЬ, ДУБА'ШЫЦЬ *незак. экспр.* 1. Моцна ісці (пра дождж). *Дош дубасіць.* Ахрэмаўцы Брасл., Валынцы В.-Дзв. *Зноў дошч дубашыць.* Кіралі Шчуч. 2. Гучна ісці, цікаць (пра гадзіннік). *Вот харашо дубашаць часы.* Кіралі Шчуч. 3. Сячы. *Яна дубасіць і дубасіць — усе дровы пашчапала.* Ёдлавічы Брасл.

ДУБАЎЯ' *прысл.* ◊ *Валасы дубаўя (сталі)* — пра пачуццё вялікага страху. Ёдлавічы Брасл.

ДУ'БЕНЫ *прым.* Выраблены дубленнем. *У дубовай кары дубяць шубу, шуба дубеная.* Паляцкішкі Воран.

ДУБЕ'Ц *м.* Прут, розга. *Дупцы з лазы.* Рыбчына Віл. *Дупцэ з гарэшыны дзяруць і плятуць кошыкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дубцы з рокіты ці з лозіны, чым плёў кошык.* Калясное Міхал. *Дубец роўнянькі такі — у поля гнаць.* Рудня Чэрв.

ДУБЕ'ЦЬ *незак. экспр.* Мерзнуць. *Індыкі натта дубеюць.* Рыбчына Віл.

ДУБ'Ё *зб. н.* Дубняк. *Трэба дуб'ё карчаваць.* Рыбчына Віл.

ДУБІ'НА' *ж.* 1. Дуб (дрэва). *Дубіна там адна.* Галубы Маст. 2. Будаўнічы матэрыял з дубу. *Дубіну прывёс.* Вострава Маст. *У гумне саха дубовая, дубіна спушчана.* Мсцібава Ваўк.

ДУБІ'ЦА *ж.* Лодка, выдзеўбаная з тоўстага дрэва. *Дубіца — лотка ні збіваная, а выдалбаная з дрэва.* Мярэцкія Глыб. *Гляджу — быта дубіцы плывуць, а гэта ласі былі. Дубіцу рабілі з тоўстай дзеравіны: сасновые, дубовые, асінавые.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДУ'БІ'ЦЬ *незак.* 1. Падвяргаць дубленню. *У дубовай кары ду́бяць* [шкуру]. Паляцкішкі Воран. *Скуру ў карэ дубя́ць, ложуць у кару.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *экспр.* Стукаць. *Ён дзень і ноч малатком дубіў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДУ'БКІ, ДУ'ПКІ, ДУПКА', ДЫПКЕ' *прысл.* Тое ж, што і дуба 1. *Конь становіцца дупкі.* Лісна В.-Дзв. *Конь дупкі стаў.* Магуны Паст. *Дупка конь скачыць. Конь становіцца дупка.* Гайна Лаг. *Конь становіцца дыпке.* Малахоўцы Бар.

ДУБНЯ'К, ДУБНІ'К *м.* Дубовы лес. *Дубняк падняўся высокі.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *У дубняку жалуды на зямле ляжаць.* Беразіно Докш. *Па дубнякох растуць грыбэ і ягады.* Кіралі Шчуч. *Дубняк маладзы парос.* Вострава Маст.

*Много баравікоў па хвойніку, па ельніку, па дубняку.* Альхоўцы Лях. *У нас няма дубніку, дзе-нядзе дуп.* Ёдлавічы Брасл. *У дубніку дубэ велькія, жалудэ з іх падаюць, свінні іх ядуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Дубнік маладьі.* Багушэвічы Бярэз. *Адзін дубнік парос.* Рудня Астравітая Чэрв.

ДУБО'ЎКА *ж. кулін.* Бабка. *Кашу драную з бульбы падаўнейшаму называлі дубоўка.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ДУБО'ЎНІК *м.* Тое ж, што і дубняк. *Там дубоўнік вялікі.* Чычалі Шванч. *У дубоўніку жалудоў назбірала.* Мішнявічы Шум.

ДУБЭЛЬТО'ВО *прысл.* Удвая. *Як мне продасі, то я тобіе дубэльтово заплачу.* Курашэва Чыж.

ДУБЭЛЬТО'ВЫ *гл.* ДУБАЛЬТО'ВЫ

ДУБЭ'ЛЬТЫ толькі *мн.* Падвойныя вокны. *Даўней дубэльтаў не было, мату плялі і засыпюць кастрой шыбіну.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я ня вынімала дубэльты* [з акна], *хай стаяць.* Магуны Паст. *Пашкліць дубэльты нада.* Быстрыца Астр. *Ні вынімала дубэльты, да зімы будуць стаяць, памыю толькі.* Жодзішкі Смарг. *Як уставіш дубэльты, то цяплей, а так не ладзіць, як дубэльтаў нет.* Малькуны Ігн. *Дубэльты на зіму застаўляюць.* Кіралі Шчуч. *Дубэльты ставім на зіму.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дубэльты — двайноё акно. Трэба на зіму заставіць дубэльты.* Альхоўцы Лях. *Столькі пылу, машыны ходзяць, дубэльты ў вокнах так і стаяць.* Малахоўцы Бар.

ДУБЯ'К *м.* Дубовае палена. *Дубяка кусок.* Граўжышкі Ашм.

ДУГА' *ж.* 1. Абруч, дуга. *Дуга ў нораце.* Беразіно Докш. *У бучу дуга палукруглая і палка да дугі.* Рагулішкі Даўг. 2. у знач. *прысл. дугой.* У форме дугі. *Рака дугой абгіная.* Рыбчына Віл.

ДУДА' *ж.* Дуда. ∇*Дуды ў мех і па ўсіх танцах* — пра канец справы, работы. Граўжышкі Ашм.

ДУДА'Ч *м.* Дудар. *Дудач на дутку грае.* Альхоўцы Лях.

ДУДДЗЁ, ДУ'ДДЗЯ *зб. н.* 1. Дуды. *Курыная дуддзё.* Рыбчына Віл. *Дуддзя — сярэдзіна пяра.* Асавец Віл. 2. Тоўстыя сцяблы травы, цыбукі. *Дуддзя накосіць.* Груздава Паст.

ДУДЗЕ'ЦЬ *незак. экспр.* Бурчаць. *Старая дудзіць і дудзіць, раздудзелася.* Саланое Віл. *Натта ўрэнная, усё дудзіць.* Станіслаўцы Глыб.; *параўн.* літ. *dudėti* 'грукатаць'.

ДУ'ДКА, ДУ'ТКА *ж.* 1. Дудка. *Гралі дзеці на дуццы. Зрабі дутку! Дутку с кары робяць, здзяруць з гарэшніку.* Міратычы Карэл. 2. Сцябло. *Дутка саланешніка.* Рыбчына Віл., Глівін Барыс. *Гарох пасеялі на дуткі ржыння, ён тады дужа стручыцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бабовыя дуткі нясі ў хлеў!* Кураполле Паст. *Жук каліва бульбы аб'есць, толькі дутка астаецца.* Саланое Віл. *Дутка ад сонца* [сланечніку]. Мачаск

Бярэз. 3. Стрыжань птушынага пяра. *Дутка ад пер'я.* Рыбчына Віл. *Дуткі ат пер'я павыкідвай.* Саланое Віл. *Як абшарпаяш пер'я, астаюцца дуткі.* Жодзішкі Смарг. 4. у знач. *прысл. ду́ткай.* Моцным струменем. *Бывала, пашчэпюцца ногі ат северу, вады, аш кроў дуткай б'ець.* Оцкавічы Паст. 5. *мн. ду́ткі.* Адросткі пер'яў пасля лінькі. *Птушка, як выліна-іць, перамі не абростая, толькі дуткі гэтыя.* Чычалі Швянч. *Дуткі ў курыцы тырчаць.* Ухвала Круп. *Кура зліняла, адны дуткі тырчаць.* Глівін Барыс.

ДУДУ'К I *м. заал.* Дудак. *Дудук — пташка малая, яна ў крушне вядзецца. У дудука ногі кароткія, чубаты, дзюба доўгая.* Граўжышкі Ашм. *Дудук — пташка такая.* Жылі Іўеў.; *параўн.* літ. *dudùkas* 'тж'.

ДУДУ'К II *м. экспр.* Маўчун. *Пашоў дудук гэты, ня хоча гаварыць.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *dudùkas* 'разявака'.

ДУДУ'КАЦЬ *незак.* Нягучна, ціха размаўляць. *Дзеці лягуць і дудукаюць.* Саланое Віл. *Нешто дудукая.* Стральцы Гродз. *Цэлы дзень дудукалі і дудукалі.* Гемзы Шальч.

ДУ'ДЫ *мн.* Тое ж, што і д у́ д к а 3. *Дуды з пер'я.* Востраба Маст. *Дуды з бальшых пер'яў з хваста, з крылаў.* Мсцібава Ваўк.

ДУ'ЖА, ДУ'ЖО *прысл.* 1. Вельмі. *Захацеў дужа піць.* Лоск Валож. *Тут нас ня дужа хацелі. Дужа яна добрая.* Саланое Віл. *Дужа велька яна.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Многа, шмат. *Дужа прынёс грыбоў.* Кемялішкі Астр. *Дужа яйкоў нанесла курыца. Каторыя зямлі мелі дужа.* Паляцкішкі Воран. *Іх дзеці дужа елі.* Кудзялянцы Шальч. *Вэсною в рыціе дужо воды, але осэною сёголіта было буольш.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *dużo* 'многа'.

ДУЖАВА'ТЫ *прым.* Велікаваты. *Штаны трохі дужаватыя.* Нізок Уздз.

ДУ'ЖАЙШЫ *прым. выш.* Дужэйшы. *Гэты хлапец дужайшы.* Кіралі Шчуч.

ДУ'ЖАЦЦА, ДУ'ЖАТІСЕ *незак.* Бароцца. *Хлапцы дужаяцца. Падужайся ты.* Рыбчына Віл. *Паршукі дужаюцца.* Старыя Смільгіні Воран. *Хлопцы дужаюцца.* Кіралі Шчуч. *Дужаюцца хлопцы.* Лука Нараўк. *Дужайся з ім.* Рудня Астравітая Чэрв. *Хлопці дужалісе і одін другого покотів.* Курашэва Чыж.

ДУ'ЖКА, ДУ'ШКА *ж.* 1. Ручка ў кошыку. *Душка зламалася ў кошыку.* Рыбчына Віл. *Душкі ў кошык рабілі з гарэшыны.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Дужка ў вядры. *Душка пагнулася. Пагбаная душка ў вядрэ.* Калясное Міхал.

ДУЖМА'НЫ *прым.* 1. Рослы, здаровы. *Ест дужманыя хлапчакі.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Густы. *Дужманая пярэмяшка.* Навасёлкі Свісл.

ДУЖОВА'ТО *прысл.* Даволі многа. *Коровы шчэ дужовато дают молока, хоць ужэ осэнь.* Курашэва Чыж.

ДУ'ЖЫ *прым.* 1. Моцны, здаровы. *А мядзвець дужы: гэта кап сілу яга! Цялушка дужая.* Груздава Паст. *Дужы: пяць пудоў нясець.* Ністанішкі Смарг. *Воўк дужы, ухопя авечку.* Гемзы Шальч. *Людзі былі здаровыя і дужыя.* Навасёлкі Свісл. *Дужы конь.* Вострава Маст. *Якій дужий!* Дзмітравічы Кам. *Дужы чоловіек мэтэр картохель на плечах понэсэ.* Курашэва Чыж. 2. Вялікі. *Быў малы, а цяпер дужы.* Вялікія Баяры Шчуч. ∇*Даўней казалі: «Хто душ — той і праў».* Малькуны Ігн.

ДУЖЭ'Й *прысл.* 1. Лепш, больш сытна. *Пад'ясі дужэй — дужэйшая будзяш.* Магуны Паст. 2. Мацней. *Хоць і дужэй крычы, не чую.* Валынцы В.-Дзв.

ДУЖЭ'ЙШЫ, ДУ'ШШЫ *прым. выш.* Тое ж, што і д у ж а й ш ы. *Пад'ясі дужэй — дужэйшая будзяш.* Магуны Паст. *Кап я была дужэйшая!* Груздава Паст. *Кумпякі астаўляюцца на лета: касец з'есць —і душшы.* Дакудава Лід. *Мушчына душшы, як баба.* Курашэва Чыж.

ДУЛА'ЦЕНЬКІ *прым.* З чубкамі каля вушэй (пра курыцу). *Дулаценька курачка — прырода курэй такая: каля галавы збоку такоя дуло с пер'я.* Навасёлкі Свісл.

ДУЛЕ'ЦЬ *незак.* 1. Пыліць (у час красавання збажыны). *Дулея жыта ў час красы, пылок пыліць.* Бакшты Іўеў. 2. Гарэць без полымя, тлець. *Не гарыць, а дулеець.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *dulėti* 'трухлець, тлець'.

ДУЛО' *н.* Чубок каля вушэй у курыцы. *Прырода курэй такая: каля галавы такоя дуло с пер'я.* Навасёлкі Свісл.

ДУ'ЛЬКА *ж.*, ДУ'ЛЬКІ', ДУЛЬКЕ' *мн.* 1. Пыл, які ўтвараецца пры апрацоўцы льну. *Наляцела ду́лькі поўна; у нос набілася ду́лькі. Як чэшуць лён — ляціць дулька.* Мярэцкія Глыб. *Як у шчэткі чэшуць, тады дулька сыпіцца, дулька тая аш грудзі залажыла. Дулька шкадлівая, у горла лезла, як у каго ўдуша.* Кураполле Паст. *Дулька — як трэпеш* [лён], *як пыл.* Саланое Віл. *Дулька с-пад грэбня і с-пат трапла. Ду́лькі нанюхалася, яна врэдна ўдушлівым.* Рыбчына Віл. *Як набраўся дулькі — чуць ні здох. Дулька з лёну. Як трэплем, лён ідзе ў дульку.* Бакшты Іўеў. *Дулька ўсюду налезіць, як мнеш лён.* Малькуны Ігн. *Дулька ад лёну адлецела і кастрыца. Дулькі наглыталася, аш душна.* Гемзы Шальч. *Як трэпяш лён, дулька ляціць.* Жодзішкі Смарг. *Дулька душа, як лён абраблялі.* Івашкаўцы Смарг. *Дулька — пыл, натта едавіты, як трэпецца лён, на грудзях цяжка ад дулькі.* Солы Смарг. *Дулька ляціць, як чэшаш лён, мелкі пылочак.* Рудня Чэрв. *Пыл такі, дух — гэта дулька.* Данілавічы Дзярж. *Пыл цяпер, а раней гаварылі дулька.* Вязынка Маладз. *Ніякаі ду́лькі не было? Здуло ад ду́лькі. Цябе дулька замучыць.* Міра-

тычы Карэл. *Як трапём лён, ду́лькі кураць і сядаюць на лёкія. Калі ш напілася я ду́лькаў, як п'яная сяджу.* Старыя Смільгіні Воран. *Нанюхалася дулькаў. Ду́лькі насапе носам, улезуць у горло і вантробы. Я дуляк баюся. Кажуць, што старыя дуляк баяцца.* Альхоўцы Лях. *Ду́лькі лётаюць.* Крупіца Мін., Семежава Кап., Малахоўцы Бар. *Як калоціш кудзелю, дык ду́лькі ляцяць. Яны ўгары лятаюць — і ў нос, усюды налятаюць ду́лькі тыя. Набралася дуляк, дык чыхаю. Яны ўсюды дапнуць тыя ду́лькі.* Вецярэвічы Пух. *Як чэшам лён, то дулькі ідуць.* Каўняны Гродз. *Дулькі — пыл ад лёну.* Кудзялянцы Шальч. *Як трэпем, дулькі пат'столь ляцяць, дулькі натта забіваюць дух, німа як сапці.* Мсцібава Ваўк. *Дульке ідуць, як лён чэшуць жалезнай шчэткай. Дульке — пыл ад лёну.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прама на сэрца дульке садавяцця; дульке чуць не задушылі мяне сёня: церла лён.* Кіралі Шчуч. *Дульке гэтыя ўдушлівы чалавек не выдзержыць.* Парэчча Гродз. *Дульке ляціць, ад іх кашляеш.* Галубы Маст. *Як часалі лён, дульке чалавек глыкае — і спушыць яго, і галава баліць.* Пацаўшчына Дзятл. *Дуляк поўна хата, лезе ў рот, дуляк набраўса.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Кастрыца, рэшткі льновалакна. *Дулька такая, як кудзелю трасеш, лятуць, як і ад ваты; як дамы робяць, сцеляць яе замест могу.* Крэва Смарг. *Як трэпям лён, дулька ляціць: тут і пыл, і мелкія атходы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дулька — кастра там, толькі шчыліны забіць.* Ракаўскія Швянч. *Як трэпім лён, дулька атходзя. Дульку пабіралі і колдры шылі.* Гемзы Шальч. *Як трапаіш, дулька ляжыць на зямлі, каславачкамі адлятая, яе выварачуям і каровя пасцелям.* Быстрыца Астр. *С-пат трапачкі ляцела дулька, ёю затыкалі сцены.* Дакудава Лід. *Дульку вытрасе верацяном і сцеля кудзелю.* Жылі Іўеў. *Дулька — што лён трэплем і ляціць на зямлю, атвальваецца, там і валаскі і кастрыца. Сколькі ду́лькі ў мяне — цэла куча.* Альхоўка Навагр. 3. Пылок ад раслін. *Пшчала* [з кветкі] *зляцела, так дулька ляціць.* Галоўні Воран. 4. Пыл. *Як мяцем, то ду́лькі падняліся.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *dùlkės* 'пыл, пылок ад раслін'.

ДУ'ЛЯ *ж.* 1. Сорт ігрушы. *Дуля адна ў нас расла.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзве дулі расце.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *груб.* Фіга. *Дуля вот табе!* Лісна В.-Дзв.

ДУМАТА' *ж.* Перажыванне, турбота. *Там у яе экзамены, цяпер думатэ-да халеры.* Кіралі Шчуч.

ДУМАЎЁ *н.* Дамавіна. *Думаўё — раней гаварылі, труна — цяпер.* Мярэцкія Глыб. *Нашто мне шыфер, думаўё накрываць?* Беразіно Докш. *Думаўё робяць.* Рыбчына Віл. *Раней думаўё стаўлялі на покуці.* Якубова Рас.

ДУ'МАЦЦА *незак. безас.* З'яўляцца ў думках. *Мне бу-*

*дзіць думацца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ім думацца.* Альхоўцы Лях.

ДУ'МАЦЬ *незак.* 1. Меркаваць. *Я думаю, спіцё?* Ністанішкі Смарг. 2. Мець намер. *Думала там быць.* Вострава Маст. 3. Жадаць. *Адзін другому дабра думаям.* Граўжышкі Ашм.

ДУ'МБЛА, ДУ'МБЛЯ *ж.* Твань. *Топка, калі думбля занесла. Думблой у рацэ заплыўшы дно, і ступіць няможно.* Ракаўскія Швянч. *Ён укачаў у думблу. Думблой пахнець, думбла там.* Малькуны Ігн. *Келбукі — сама групка́я рыба, па малінькіх рыштоках водзіцца, пры думбле: там мутная вада, мул такі.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *dum̃blas* 'тж'.

ДУМБЛІ'СТЫ *прым.* Ілісты. *Возяра думблістая.* Старыя Трокі Трак. *Думблістая озяра, думбла там.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *dum̃blas* 'твань'.

ДУ'МКА *ж.* Мысль, думка. *Алі думка такая ест. Няма чалавека, каб ён жыў бяз думкаў, кажны чалавек мае свае думкі.* Гемзы Шальч. ∇*Думкі за гарамі, а смерць — за плячыма.* Кіралі Шчуч.

ДУ'НДА *ж.* 1. Соска. *Дунду дзяцём далі ў зубы смактаць.* Гемзы Шальч. *Дай дунду, хай ссе!* Малахоўцы Бар. 2. *ж.* і *м.* Соня. *Ідзе і спіць, як дунда.* Каўняны Гродз.

ДУНДА'Р *м.* Гром, пярун. ∇*Каб цібе дундар свіснуў!* Каўняны Гродз.; *параўн.* літ. *dundùlis* 'гром'.

ДУ'НДАРЫ *мн.* Авадні. *Дундары наляцелі, гізуюць каровы.* Пасіене Лудз.; *параўн.* літ. *dundùlis* 'таўстун'.

ДУНДЖЭ'ЦЬ *незак.* Бубніць. *Чаго там дунджыш?* Ракаўскія Швянч.

ДУНДЗЕ'ЦЬ *незак.* Грукатаць. *Пустая бочка дундзіць.* Лайпушкі Ігн.; *параўн.* літ. *dundė́ti* 'тж'.

ДУ'НДЗІ'ЦЬ *незак.* Ссаць. *Ду́ндзіць дзень цалы малако.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзіця цыцку ду́ндзіць.* Мсцібава Ваўк. *Вуш высасая карову: па назе лезе і дундзіць карову.* Кіралі Шчуч.

ДУНДЗІ'ЦЬ *незак. экспр.* 1. Гаварыць недарэчнае. *Што ты горла разяўляіш, дундзіш ты!* Каўняны Гродз. 2. Бубніць. *Дундзяць і дундзяць — няможна заснуць. Мы дундзём.* Кураполле Паст. *Што вы біс абеду дундзіцё?* Ахрэмаўцы Брасл. *Што вы тут дундзіцё?* Валынцы В.-Дзв. *Дундзіць пад нос.* Каўняны Гродз. *Што вы тут дундзіцё? Што яны там дундзяць і дундзяць?* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *dundė́ti* 'гаварыць'.

ДУНДУ'К *м. экспр.* Той, хто ап'янеў ад курэння. *Я, як дундук, дось — ня куру.* Саланое Віл.

ДУНДУ'ЛЬКА *ж.* Тое ж, што і ду́нда 1. *Бывала, дундульку зробіш і хлеба с сахарам пажуеш у лапінку, дасі дзіцяці, яно ссе, пойдзеш і што зробіш.* Кіралі Шчуч.

ДУ'НУЦЦА *незак.* Уздувацца. *Балота дунецца — як*

*ідзеш, дак вагаецца; топкая, можна праваліцца.* Кіралі Шчуч. *Балото дуняцца, як ступіш.* Навасёлкі Свісл. *Дуняцца балото, паднімаяцца.* Міратычы Карэл. *Ідзеш па балоці, аш дунецца балото. Прорва ў балоце, мох дунецца.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* літ. *dunùs* 'шырокі, глыбокі; які разліваецца, выходзіць з берагоў'.

ДУ'НУЦЬ I *незак.* Пучыць. *Цяля дуня.* Вялікія Баяры Шчуч.

ДУ'НУЦЬ II *зак.* Падзьмуць, павеяць. *Аттуль вецяр дуня.* Альхоўцы Лях. *Дуня цёплы вецер, падуў халонны вецер.* Дзяніскавічы Ганц. *Як дуне — аш пыл уе.* Ёдлавічы Брасл.

ДУПЕ'ЛЬ *м.* Дупло. *Дупляватая дзерава: тут дупель, там дупель.* Жодзішкі Смарг.

ДУ'ПКІ, ДУПКА' *гл.* ДУ'БКІ

ДУПЛАВА'ТЫ, ДУПЛЯВА'ТЫ, ДУПЛЮВА'ТЫ *прым.* Дуплаваты. *Бручка дуплаватая, дзерава можа быць дуплаватая.* Беразіно Докш. *Дуплявата бручка барабаніць.* Жылі Іўеў. *Елка дупляватая: сэрца* [у дрэве] *высахла, а абалонь стаіць. Парэш карові, бо гэта брушка дуплявата, барабаніць, як пустая бочка.* Кіралі Шчуч. *Дупляватая грыжына.* Валынцы В.-Дзв. *Дупляватая дзерава.* Саланое Віл. *Дупляватая бручка.* Рыбчына Віл. *Дупляватая дзерава: тут дупель, там дупель.* Жодзішкі Смарг. *Дупляватая кручка.* Быстрыца Астр. *Ні гадзіцца гэты дуп, дупляваты ён.* Стральцы Гродз. *Дуплюватая грыжына.* Мярэцкія Глыб.

ДУПЛА'ВЫ, ДУПЛІ'ВЫ, ДУПЛЯВЫ' *прым.* Тое ж, што і д у п л а в á т ы. *Бручка дуплавая.* Міратычы Карэл. *Бывае хвойка, елка дуплівая, сэрца сапрэе.* Пацаўшчына Дзятл. *Дуплявоя дзерава.* Старыя Смільгіні Воран. *Брушка дуплява.* Лука Нараўк.

ДУПЛАНАВА'ТЫ, ДУПЛІНАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і д у п л а в á т ы. *Бручка дупланавата браждэжыць.* Курапол-ле Паст. *Дуплінаватая ліпа — дуплё ў ей.* Саланое Віл. *Дуплінаватая грыжына браждэжыць.* Валынцы В.-Дзв. *Бручка дуплінаватая.* Гайна Лаг.

ДУПЛАНА'ТЫ, ДУПЛЯНА'ТЫ, ДУПЛЯНЯ'ТЫ *прым.* Тое ж, што і д у п л а в á т ы. *Бручка згніець і дупланатая стаття.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У дуплянатых хвоях пчолы водзяцца.* Вецярэвічы Пух. *Дуплянатая дзерава выбіралі на борць. Дуплянятая бульба.* Бакшты Іўеў.

ДУПЛА'СТЫ, ДУПЛІ'СТЫ, ДУПЛЯ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і д у п л а в á т ы. *Дупласты асіннік, дровы не гараць.* Валынцы В.-Дзв. *Дуплістая бручка.* Гемзы Шальч. *Дупляста хвайна бывая.* Каўняны Гродз. *Крэжава сасна: яе не разрэжаш, дуплястая.* Малахоўцы Бар. *Дуплястае дзераво.* Мсціба-ва Ваўк. *Дупляста бульва.* Номікі Бабіц.

ДУПЛЁ *гл.* ДУПЛО'

ДУПЛЁНКА гл. ДУПЛЯ'НКА

ДУПЛІ'ВЫ гл. ДУПЛА'ВЫ

ДУПЛІНАВА'ТЫ гл. ДУПЛАНАВА'ТЫ

ДУПЛІ'СТЫ гл. ДУПЛА'СТЫ

ДУПЛО', ДУПЛЁ, ДЗЮПЛО' н., ДУПЛЯ' ж. Тое ж, што і дупе́ль. *І цяпер як сякуць лес, дык у дуплах находзяць пчол. Дуплё ў дрэве, там дзікія пчолы вадзіліся.* Саланое Віл. *Па дуплах водзяцца восы.* Малахоўцы Бар. *Дуплё мае дуплавастая дзерава.* Ахрэмаўцы Брасл. *У дуплі нашоў пчол.* Валынцы В.-Дзв. *Дуплі нахадзілі.* Груздава Паст. *Велька дуплё, могуць два чалавекі памясціцца.* Кіралі Шчуч. *Находзяць дуплё шпакі, там пасяляюцца.* Альхоўка Навагр. *У дуплю вывяліся дзятлы.* Дзяніскавічы Ганц. *Старыныя пчолы ў дуплях жылі.* Прэдэ Даўг. *Сава ў тую дуплю залезіць і дзяцей выводзіць.* Рагулішкі Даўг. *Дуплё ў бручцы.* Рудня Чэрв., Багушэвічы Бярэз., Пасека Ст.-Дар. *Дуплё ў дубе вялікае.* Мачаск Бярэз. *Дрэва грубое і дзюра—гэта дзюпло.* Солы Смарг. *Ежэлі дупля есць, сосна крывая, дуплятая. Дупля зарасла ў ліпе.* Старыя Трокі Трак. *Пшчолы часам у дуплю залезуць.* Паляцкішкі Воран. *Дупля ў ліпе. Ест дупля, ніжай гэтай дуплі пракруціць трэба дзюрку. У дуплях совы водзяцца.* Гемзы Шальч. *Дупля, дзе пчолы водзяцца.* Малькуны Ігн.

ДУПЛЯВА'ТЫ, ДУПЛЮВА'ТЫ гл. ДУПЛАВА'ТЫ

ДУПЛЯВЫ' гл. ДУПЛА'ВЫ

ДУПЛЯ'К м. 1. Калодачны вулей. *Дуплякі былі — калоды для пчол.* Бакшты Іўеў. 2. Кавалак гнілога дрэва з дуплом або дзіркай. *З бору пара дуплякуов прыв'юос.* Курашэва Чыж.

ДУПЛЯНА'ТЫ гл. ДУПЛАНА'ТЫ

ДУПЛЯ'НКА, ДУПЛЁНКА ж. 1. Тое ж, што і дупля́к 1. *Дуплянкі рабілі: вырабяць гніллё с сярэдзіны, застаўку рабілі, застаўлялі дзюрку.* Рыбчына Віл. *У калодах, у дуплянках пчолы вадзіліся.* Саланое Віл. *Дуплянка — выдаўбленая з суцэльнага берввяна калода для пчол.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дуплянка — дзе пчолы жывуць.* Янова Рас. 2. Дзежачка для мёду. *У дуплянкі мёт з вашчыны складалі.* Саланое Віл. *Дуплёнкі з ліпы, альхі рабілі.* Мярэцкія Глыб.

ДУПЛЯНЯ'ТЫ гл. ДУПЛАНА'ТЫ

ДУПЛЯ'СТЫ гл. ДУПЛА'СТЫ

ДУПЛЯ'ТЫ прым. Тое ж, што і дуплава́ты. *Ежэлі дупля есць, сасна крывая, дуплятая.* Старыя Трокі Трак.

ДУР І ж. Дурасць. *Дур лезіць у галаву.* Валынцы В.-Дзв. *Галава з велькай дуры забаліць.* Кіралі Шчуч.

ДУР ІІ м. бат. Блёкат. *Дур, люляк — сівавато зелье, брыды, як яго паеўшы, то можно захварэць.* Мсцібава Ваўк.

ДУРАВА'ТЫ прым. Дурнаваты. *Дураваты — недапечаны*

*чалавек.* Паляцкішкі Воран. *Яго сын дураваты.* Альхоўка Навагр.

ДУРАВЕ'ЛЬ *м. лаянк.* Дурань. *Дуравель ты!* Вялікія Баяры Шчуч.

ДУРА'К *м.* Тое ж, што і д у р а в е́ л ь. ∇*Дурака і свет не навучыць.* Кураполле Паст. *Дуракоў ні сеяць, ні гаруць, яны самыя родзяцца.* Кудзялянцы Шальч.

ДУРАКАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і д у р а в а́ т ы. *Ён нямнога дуракаваты.* Чычалі Швянч., Любішчыцы Івац.

ДУРАЛЕ'Й *м.* Тое ж, што і д у р а в е́ л ь. *Дуралей ты!* Міратычы Карэл.

ДУ'РАНЬ *м.* Тое ж, што і д у р а в е́ л ь. ∇*Дурня хоць і золатам аблажы, яму ўсё раўно.* Кураполле Паст.

ДУРАСЛІ'ВЫ *прым.* Гуллівы. *Дураслівы кот.* Ёдлавічы Брасл.

ДУРАТА' *ж.* 1. Дурасць. *У яго ўсіх дома німа, у галаве дурата.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Неабдуманы ўчынак. *Дурата нашла на мене, і я пабегла шукаць.* Номікі Бабіц.

ДУ'РБАЦЬ I *незак.* 1. Разумець, цяміць. *Ужо твая малая дурбая нешта.* Дакудава Лід. *Дурбая* [у арыфметыцы] *троха.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён слаба дурбая, як рашаць задачы.* Кіралі Шчуч. *Малоя, а добра дурбая.* Старыя Трокі Трак. *Ужо яна* [дзяўчынка] *дурбае, мацеру, бацьку пазнае.* Галубы Маст. 2. Затлумліваць, задурваць. *Што ты мне дурбаеш галаву?!* Парэчча Гродз.

ДУ'РБАЦЬ II *незак.* Хадзіць і патроху скубці траву. *Яшчэ карова троху дурбаіць.* Ракаўскія Швянч.

ДУ'РДАЦЬ *незак. экспр.* Будзіць тармосячы. *Раздурдай ты яго! Дурдаеш, дурдаеш і ня можаш раздурдаць.* Солы Смарг.

ДУР-ЗЕ'ЛЬЯ *н. бат.* Дурнап'ян. *Дур-зелья на печы пасыпалі, бабы паляжалі, падурнелі, на двор павыскіквалі.* Солы Смарг.

ДУРМАНА'Й *м.* Тое ж, што і д у р а в е́ л ь. *Ні было б гэтакого дурманаю, і жыла б добро. Дурманай ты!* Міратычы Карэл.

ДУРНАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і д у р а в а́ т ы. *Была такая дурнаватая баба.* Лісна В.-Дзв.

ДУРНАП'Я'Н *м.* Тое ж, што і д у р-з е́ л ь я. *Дурнап'ян ад пужаня.* Рыбчына Віл.

ДУРНАТА' *ж.* Тое ж, што і д у р а т а́ 1. *Дурната ў галаву залезіць.* Ёдлавічы Брасл.

ДУРНІ'ЦЫ *мн. бат.* Буякі. *Дурніцы растуць у лесе, п'яніца, ягада такая.* Саланое Віл.

ДУРНО'Е *н.* Тое ж, што і д у р а т а́ 1. *Добрага не скажу, а дурнога прыдумаю.* Парэчча Гродз.

ДУРНО́СЦЬ *ж.* Тое ж, што і д у р а т а́ 1. *Дурносць узяў у галаву.* Ракаўскія Швянч.

ДУРНО́ЎСТВА *н.* Распуста. *Гэта такоя дурноўства ў дзяцей, лезуць у гарот.* Міратычы Карэл.

ДУРНЫ́ *прым.* Неразумны. *Дурнога не вылячыш.* Каўняны Гродз. ∇*З дурнога добрых не бываіць — ён дабра не панімаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ДУРО́НЫ *прым.* Спешчаны, свавольны. *Дуроныі рабяты, німа спакою ад іх.* Валынцы В.-Дзв. *Дуроная дзіця.* Саланое Віл.

ДУ́РСТАЦЦА *незак.* Корпацца. *Што ты там дурстаіся цэльны дзень і нічаго не зрабіў?* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *dùrstytis* 'тж'.

ДУ́РСТАЦЬ *незак.* Тузаць. *Нашто вы мяне дурстаеце?* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *dùrstyti* 'тыкаць, торкаць'.

ДУРЫ́НЫ *мн.* Тое ж, што і д у р н і ц ы. *Дурын назбіраў.* Саланое Віл. *Збіраем і дурыны, сушым, кісель варым з іх.* Беразіно Докш.

ДУРЫ́ЦЦА *незак.* 1. Займацца непрыемнай, непажаданай работай. *Дурыцца трэба цэлы тыдзянь.* Гемзы Шальч. 2. Сваволіць, дурэць. *Дурыцца дзіця.* Дзяніскавічы Ганц.

ДУРЫ́ЦЬ *незак.* ◊ *Дурыць галаву* — дакучаць размовамі. *А яна мне галаву дурыць.* Паляцкішкі Воран.

ДУРЭ́НЯ *н.* Затлумленне. *Гэтыя дзеці — дурэня галавы. За учыцельку не хоча — дурэня галавы.* Гемзы Шальч.

ДУРЭ́Ц I *м.* Тое ж, што і д у р а в е́ л ь. *Дурэц гэты!* Міратычы Карэл.

ДУРЭ́Ц II *м.* Тое ж, што і д у р II. *Дурэц — трава ядавітая.* Старое Сяло Зэльв.

ДУРЭ́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і д у р ы́ ц ц а 2. *Дзяцёнак дурэіць.* Лісна В.-Дзв. *Бацька добра ўкаціў мальцам, ня будуць дурэць.* Валынцы В.-Дзв. *Дзеці дурэюць, рады німа.* Кіралі Шчуч. *Дурэюць дзеці.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ДУС *м.* Дуст. *З'елі* [каларадскія жукі] *увесь быльнік* [бульбоўнік], *дусам апсыпала.* Валынцы В.-Дзв. *У магазынах няма дусу.* Парэчча Гродз.

ДУСІ́ЦЦА *незак. перан.* Знаходзіцца ў стане цечкі. *Толькі дусюцца і дусюцца каровы.* Малькуны Ігн.

ДУСІ́ЦЬ *гл.* ДУШЫ́ЦЬ

ДУХ *м.* 1. Паветра. *Дух у хаці цяшкі.* Кураполле Паст. *Трэба змяніць дух у хаця.* Граўжышкі Ашм. *Да сябе дух моцна пацягне.* Паляцкішкі Воран. *У акуня пляскуна нету, плейка ў яго, там дух сабіраяцца.* Быстрыца Астр. *У рыбы есць душа, як наступіш, то пэнкне, у душэ — дух.* Кіралі Шчуч. *Рыба ідзець на дух.* Беразіно Докш. *Так у хаце млосно — духу не хватае.* Кузьмічы Люб. 2. Дыханне. *Удушлівы, яму дух забівая.* Кіралі Шчуч. *Дух забівая мне.* Старыя

Смільгіні Воран. *Парыцца не можа, дух забівая яму.* Гемзы Шальч. *Дулькі забіваюць дух, німа як сапці.* Мсцібава Ваўк. *Заложыць дух, і чалавек памірае.* Рагулішкі Даўг. *Дух забіла ад гарэлкі.* Альхоўцы Лях. *Дай хвігай у дыхавіну, аш дух забіў.* Номікі Бабіц. 3. Задышка. *Перайшла хату — і дух.* Кудзялянцы Шальч. 4. Цяпло, цёплае паветра. *Засунь люшку, каб ні выходзіў дух з печы.* Стральцы Гродз. *Пчолы дух свой маюць.* Саланое Віл. *Спусціла дух* [з печы]. Лісна В.-Дзв. *Не выпускай дух с печы!* Каменка Стара Сакол. 5. Па́ра, гарачае паветра ў лазні. *Узлі вады на печку, дай духу.* Саланое Віл. *У дух лазіла на палаткі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бярацё венік, леяцё духу, каб было добра.* Гемзы Шальч. *Ліём дух, а печка шніпіць.* Ністанішкі Смарг. 6. Чад. *Чаго ты там залес, там дух, учадзяў.* Крынкі Крын. 7. Плавальны пузыр (у рыбы). *Глядзі, дух з рыбы кот выцягнуў!* Стральцы Гродз. *Дух у рыбы.* Дакудава Лід. *Глянь, які велькі дух у плоткі!* Галубы Маст. *У рыбы дух, ён страляя, як нагой наступіш.* Малахоўцы Бар. *Рыба без духа не можа жыць.* Баброўнікі Гарад. ▽*Кап табе дух выперла!* Жылі Іўеў. ◇ *Жывы дух* — жывая істота. *Трымаю свінчо, кап жывы дух быў.* Граўжышкі Ашм. *Духам жыць* — невядома чым жыць, існаваць. *Ён адным духам жыве.* Баброўнікі Гарад.

ДУХАВА́Я МУ́ЗЫКА *ж.* Духавы аркестр. *Далі духавую музыку на пахароны.* Крэва Смарг.

ДУХАТА́, ДУХУТА́ *ж.* Душнае надвор'е. *Духата на вуліцы.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Духата, дыхаць няма чым.* Старыя Смільгіні Воран. *У хляве паатчыняныя дзверы і вокна, і ўсё роўна духата.* Кіралі Шчуч. *Духата велька.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Духута гэткая!* Мярэцкія Глыб.

ДУХВА́ЦЬ *незак.* Думаць, меркаваць, спадзявацца. *Дзеці не духваюць, што будуць старыя. Не духвалі, што палучыцца так.* Кіралі Шчуч.

ДУХ-ДУХ *выкл.* Стук-стук. *Мяне як молатам у галаву дух-дух.* Ёдлавічы Брасл.

ДУ́ЦЦА I *незак.* Уздувацца. *Балото дуласо.* Дзяніскавічы Ганц.

ДУ́ЦЦА II *незак.* Галасіць. *Дзеўку забілі, бацькі недзя дуліся.* Магуны Паст.

ДУЦЬ *незак.* 1. Дзьмуць. *С Пацавіч вецяр дуя — марос будзя.* Бакшты Іўеў. 2. Надзімаць. *У кузні гарно і мех; дуць мехам і баба можыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. *перан.* Малаціць. *Дуеш і дуеш гэта жыта цэпам.* Крэва Смарг. 4. Біць. *Зачала яго дуць, панамайлялі дзеці.* Новікі Гродз. *Дуя гусяната* [качар]. Кіралі Шчуч. 4. *перан.* Гаварыць адно і тое ж, паўтараць. *Ён дуіць аб вотку.* Ракаўскія Швянч. *Яна яму дуе ў галаву, кап ні хадзіў на работу.* Быстрыца Астр. 5. *перан.*

Ткаць. *Яна ш іх* [пасцілкі] *дуе і дуе.* Крэва Смарг. 6. *перан.* Калыхаць, ківаць. *Дзе ні сядзіць, нагамі дуець і дуець. Ні махай нагамі!* Магуны Паст. 7. *перан.* Павялічваць. *Дулі, дулі яны цану.* Грыкені Вільн. 8. *экспр.* Есці. *Гаршок крупені наварыла і дуй.* Пасіене Лудз.

ДУЧАЁК *м. памянш.* да д у ч а́ й. *Дучаёк у жарнах, дзе мука сыплецца.* Мсцібава Ваўк.

ДУЧА'Й *м.* Адтуліна ў верхнім камені жорнаў. *Дучай у жарнох, куды збожа сыплем.* Новікі Гродз. *Дучай там, дзе сыпаць жыта — дырачка такая.* Баброўнікі Гарад.

ДУША' I *ж.* 1. Член сям'і. *У яго пяць душ малых.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дваццаць пяць душ сгарэла маяго радства ў Красным.* Ухвала Круп. *На тры душэ.* Ялова Пруж. 2. *перан.* Чалавек. *Кажды гот бярэ душу Друць. Друць бяроць душы людзкія.* Азяраны Раг. 3. Добры чалавек. *Той харошы, у каго душа харошая.* Кураполле Паст. *Ай, ужа ў мяне і душы німа.* Саланое Віл. *Чалавек не без душы, дасць паесці.* Альхоўка Навагр. 4. *перан.* Сярэдзіна чаго-н. *У калотку застаўлялі душу — тое самае, што вітушка.* Сасноўка Смарг. ▽*Як душа крывая — усё прымая* — пра крывадушнага чалавека. Кіралі Шчуч. *Кап яго душа ў пеклі гарэла!* Вецярэвічы Пух. ◇ *Жыць аднаею душою* — жыць дружна, у поўнай згодзе. *Яны жывуць аднаею душою.* Навасёлкі Свісл. *Адзін душою* — адзінокі, без сям'і, блізкіх. *Яна адна душой.* Альхоўка Навагр. *Па душы* — падабацца. *Яму не па душы, што аб яго гаворуць людзі.* Валынцы В.-Дзв. *Душа гнецца* — мець схільнасць, зацікаўленасць да чаго-н. *Глаўна, куды душа твая гнеца.* Саланое Віл. *Душа вылеціць* — знясіліць. *Душа вылеціць: на гэтым полю па цэлых днях.* Мсцібава Ваўк. *К душы* — даспадобы. *Хлеп з Магілёва — дык к душы.* Мачаск Бярэз. *Душы німа* — пра пачуццё хвалявання. *Ай, ужа ў мяне душы німа.* Саланое Віл.

ДУША' II *ж.* Плавальны пузыр. *У рыбы есць у сярэдзіне душа, як наступіш, то пэнкне.* Кіралі Шчуч. *Як пратаеш рыбу на дварэ, наступіш нагой на душу, то ён — плясь.* Гемзы Шальч.

ДУШАГРЭ'ЙКА *ж.* Безрукаўка. *Насіла душагрэйку.* Гемзы Шальч.

ДУ'ШКА *гл.* ДУ'ЖКА

ДУШНЫ' *прым.* Цёплы. *Гэты фартух душны.* Кураполле Паст.

ДУ'ШШЫ *гл.* ДУЖЭ'ЙШЫ

ДУШЫ'ЦЬ, ДУШЫ'ЦІ, ДУСІ'ЦЬ *незак.* 1. Душыць. *Сталі душыці яго.* Вострава Маст. *Шашкі толькі мышэй дусяць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Каршуны курэй дусяць, вароны — курчакоў. Дусіў, дусіў, паваліў — ды яшчэ.* Ракаўскія Швянч. 2. Перашкаджаць дыханню. *Мяне душа.* Граўжышкі Ашм.

*Страшне дусіць, духу не хапая, як хто дусіць мяне.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *dusić* 'тж'.

ДУШЭ'ЎНЫ *прым.* Сардэчны, добразычлівы. *Я душэўная, я такой тут не маю* [не ведаю]. Парэчча Гродз.

ДЫ'БА I *ж.* Лаянкавае слова. *Дыба, чорт — благія чартоўскія словы. Ну якая ж табе дыба? Чаго ты паехаў туды? Якая дыба цябе прыгнала сюды? Казала, век не зайдуся. А чаго цябе дыба прыгнала? Чаго іх дыба ганяіць гэтых рабят?* Кураполле Паст.

ДЫ'БА II *гл.* ДУ'БА

ДЫ'БАМ *гл.* ДУ'БАМ

ДЫ'БАЦЬ *незак. экспр.* Павольна ісці, шукаючы што-н. *Дыбаў, дыбаў і надыбаў на грыбы.* Старыя Трокі Трак.

ДЫ'БЫ *мн.* У выразе: *На дыбы* — дубка. *Конь стаў на дыбы.* Дакудава Лід.

ДЫВА'Н, ДВАН *м.* Коўдра, якую ткалі з сукна або патыкалі сукном, ці ткалі з ануч. *Як сукном ткуць, то дыван.* Стральцы Шальч. *Матка дала дыван сваёй работы з воўны: аснова парцяная, а дэтка шарсцяная.* Гемзы Шальч. *Дыван — накрываць пасцель. Пасцілка чыстая, а дыван каляровы.* Грыкені Вільн. *Дыван начай ткалі, чым дзяружкі; і такія набіваныя грубыя дываны.* Альхоўка Навагр. *Пасцель накрываецца капай або дыванам.* Вострава Маст. *Дыван — одыяло, як увэсь ширстяный, то дыван.* Дзмітравічы Кам. *Яна вытчыць дыван, то ей соткі абробіць хто. Аснавалі дываны, будзем ткаць. Дываны ткуць якія красівыя!* Малькуны Ігн. *Есць тут у нас дываноў.* Ністанішкі Смарг. *Тканыя дываны — перабіранкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Дыванэ ткалі ў палоску.* Пацаўшчына Дзятл. *Дываны ўмела ткаць, саўсём дэсень стройны, с Амерыкі былі прыслаўшы, я паглядзела і зрабіла. Пасцілка з рыззя, а дыван суконны.* Груздава Паст. *Дываны ткалі: аснова ляная, а патыкалі сукном.* Саланое Віл. *Ткала шарсцяныя дываны.* Солы Смарг. *Дыван тканы: там і пташкі, там і ўсё.* Швэды Вільн. *З лахманоў падбіралі пасы, і такія дываны накрываццa рабілі. Простую трапку ткалі на дываны. Мы спалі век свой на лошку, дыванам* [з ануч] *засцеліш.* Старыя Трокі Трак. *Дываны ткалі с трапак, клалі на ложак і накрываліся.* Ёдлавічы Брасл. *Суцэлныя дыванэ ткуць, і с трапак ткуць.* Кіралі Шчуч. *Дыван у перабіры ткалі: воўнай па воўні, па ґарэ* [мулінэ], *можа быць перабірысты дыван.* Баброўнікі Гарад. *Влучку раней купл яалі, дваны ткалі. С трапак дван.* Магуны Паст.

ДЫВОВА'ТЫСЯ *гл.* ДЗІВАВА'ЦЦА.

ДЫВЫ'ТЫСЬ *гл.* ДЗІВІ'ЦЦА

ДЫГА'ТЫ *прым.* Высокі. *Дыгатая ёлка.* Рудня Астравітая Чэрв.

ДЫ'ДАЛАМ *прысл.* У беспарадку. *Дзеці ўсё дыдалам паробяць. Дыдалам ляжыць усё.* Вецярэвічы Пух.

ДЫК *часц.* Дык, ну. *Дык я ўзяла плаццяя, адзену?* Пасіене Лудз.

ДЫ'ЛДА *м* і *ж.* 1. Высокі нязграбны чалавек. *Такая дылда, а падлажыць сукенку не ўмее.* Беразіно Докш. *Дылда — даўгалыткі.* Малькуны Ігн. 2. *экспр.* Касалапы, крываногі. *Дылда — крываношка, касалапы. Як дылда ідзе — дыл-дыл.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *dilda* 'непаваротлівы чалавек'.

ДЫЛЁЎКА *ж.* Тоўстая дошка. *Дылёўка — доска тоўстая.* Жодзішкі Смарг. *Дылёўка — тоўстая дошка, што робяць падаконнік.* Груздава Паст.

ДЫЛЬ *м.* Тое ж, што і дылёўка. *На вузком дыле скача. Рэжут на дыле балі, як дама строят.* Лука Нараўк.

ДЫ'ЛЬКІ *мн.* Дошчачкі. *Бондар з дубу, с сосны шчапая дылькі на клёпкі, патом клёпкі выгаблёўвая, каб глаткія былі, каб не было шчэлінаў.* Гемзы Шальч.

ДЫ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і дылёўка. *Тапчан — як зэдаль, шырокі; з дылі зробляны.* Магуны Паст. *Дыля — доска на падаконік.* Быстрыца Астр. *Над вушакамі дылі, пілуецца, як доска, толькі двухцалёва.* Стральцы Гродз. *Дылі — грубыя доскі, выкладалі дылямі астаронкі.* Кіралі Шчуч. *Дыля— дошка пяць санціметраў таўшчыні.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дыля — підзісятка доска.* Дакудава Лід. *Дылі — дошкі тоўстые. З іх робяць шупляды.* Дзяніскавічы Ганц. *Дыля — гэта з чаго робяць падаконнік.* Семежава Кап. *З дыль будаваць вокна, падаконікі рабілі.* Малькуны Ігн. *Дылі — тры цалі. Шуфляда зроблена з дыляў.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *dyl* 'распілаванае ўдоўж бервяно', ням. *Diele* 'дошка, падлога'.

ДЫМ *м.*, ДЫМЫ' *мн.* Дым. *Дым ідзе з коміна — значыць, не спяць ужо.* Саланое Віл. *Беларусь немцы палілі, толькі дымы відзіш, не было людзям пакою.* Рагулішкі Даўг. *Пушов ссюоль, як дым.* Курашэва Чыж.

ДЫМАКУ'Р *м.* Дымар. *Дымакур — пчол адганяць.* Саланое Віл.

ДЫМАКУ'РКА *ж.* 1. Тое ж, што і дымакур. *Аграбалі ў лупку рой — гнілякоў насыпюць у кацялок, а цяпер дымакурка, яна фук-фук — і дыміць.* Малькуны Ігн. 2. Лямпачка без шкла. *Даўней запаліць дымакурку — і пралі, і шылі пры гэтай дымакуркі.* Ёдлавічы Брасл.

ДЫМА'Р *м.* Тое ж, што і дымакур. *Узяў дымар і не атнёс.* Валынцы В.-Дзв. *Дымар узяў пчол падкурваць.* Глівін Барыс. *У дымар закладваюць гніллё трухлявая і падкурваюць.* Шкаўна Лудз. *Парахня, гнілушкі ўкладваюцца ў дымар і падкурваюцца пчолы.* Мішневічы Шум. *Дымар — зубяль, ім дымілі. Цяпер дымар жалезны.* Азяраны Раг.

ДЫМА'РКА, ДЫМЯ'РКА *ж.* Тое ж, што і дымакур.

*Дымарка — для падкурвання пчол.* Ухвала Круп. *Дымярка — пчол падкурваць.* Мсцібава Ваўк.

ДЫ'МБА *м.* і *ж.* Тое ж, што і дылда 1. *Вырас, як дымба.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* літ. *dìmba* 'хто высокі'.

ДЫМБЛЯ'К *м.* Тое ж, што і дзед III, 1. *«Дымблякі паставім» — некаторыя ў нас дзяткі гаварылі.* Быстрыца Астр.

ДЫМЕ'ЦЬ *незак.* Куродымець. *Галавешка дыміць.* Старыя Трокі Трак. *Лучына з абалоны хвоі не дыміла.* Вецярэвічы Пух. *Печ дыміць.* Азяраны Раг.

ДЫМІ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і дымакўр. *Даўней дымілка была, нашчапаем парахні і падкурваем.* Парэчча Гродз.

ДЫМІ'ЦЬ *незак.* Абкурваць. *Трэба цыбулю дыміць; дымлена цыбуля ў пукі не расце.* Жылі Іўеў.

ДЫ'МКА I *ж.* Тое ж, што і дымакўр. *Дымку бярэш і дым пускаеш у вулей.* Дакудава Лід.

ДЫ'МКА II *ж.* Палатно, тканае ў чатыры ніты з узорам. *Гэтыя ручнікі — асмярня, а групчыя — дымка.* Быстрыца Астр. *У дымкі ткалі — чатыры ніты.* Мачаск Бярэз.

ДЫМКО'ВЫ *прым.* Тканы ў дымку. *Дымковы абрус.* Гемзы Шальч.

ДЫМЛІ'ВЫ *прым.* Які дыміць. *Дымлівыя дрова.* Рудня Астравітая Чэрв.

ДЫ'МНЫ *прым.* Курны. *Калісьці дымныя хаты былі, дым ідзе пад сталяванем, трэба сагнуцца і хадзіць.* Каўняны Гродз. *Печы дымныя* [печы без комінаў]. Бакшты Іўеў.

ДЫМЯ'РКА *гл.* ДЫМА'РКА

ДЫ'НДА *м.* і *ж.* *экспр.* 1. Гультай, гультайка. *Дында — хто ня робя нічога. Ходзя, як дында.* Рыбчына Віл. *Дында — падрослая настаяшча і не робіць.* Магуны Паст. *Вялікі вырас — дында.* Крэва Смарг. 2. Хлус. *Дында — лыгун такі. Прозвіска такое — дында.* Дакудава Лід. ◊ *Абіваць дынды* — гультаяваць, бяздзейнічаць. *Займіся дзелам, а то абіваеш дынды.* Магуны Паст.; *парайн.* літ. *dìnda* 'гультай'.

ДЫ'НДАТІ *незак.* Матляцца. *Якаясь трапка дындае ў тэбэ ззаду.* Курашэва Чыж.

ДЫ'НДАЦЬ *незак.* Хадзіць без справы. *Дындаіш, як дында.* Магуны Паст.; *парайн.* літ. *dìnduoti* 'гультаяваць'.

ДЫ'НДЗІЦЬ *незак.* Тое ж, што і дундзіць 1. *Сабраў людзей і дындзіць.* Дакудава Лід.

ДЫ'НДРА *гл.* ДЗЫ'НДРА

ДЫ'НІ *мн.* Пахвіны. *Села скула ў дынях.* ▽*Каб табе скула села ў дынях!* Саланое Віл.

ДЫПКЕ' *гл.* ДУ'БКІ

ДЫРА' *гл.* ДЗІРА'

ДЫ'РАНЫ *дзеепрым.* Удараны. ▽*Пыльным мяшком дыраны.* Мсцібава Ваўк.

ДЫ'РАЧКА *гл.* ДЗІ'РАЧКА

ДЫ'РГАЦЬ *незак.* Мігацець. *Стала мне дырґаць у вачах.* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *mirgti* 'мітусіцца'.

ДЫ'РДА *м.* і *ж.* Тое ж, што і д ы́ л д а 1. *Дырда ты!* Міратычы Карэл.; *парайн.* літ. *dìnda* 'гультай'.

ДЫ'РЗАЦІ *незак. экспр.* Ісці павольна. *Ідзе не своімі ногамі; хутчэй трохі, не дырзай!* Ялова Пруж.

ДЫ'РКА *гл.* ДЗІ'РКА

ДЫРКА'ВЫЙ *прым.* Тое ж, што і д з і р а́ в ы. *Дыркавый мышок.* Дзмітравічы Кам.

ДЫ'РСА *гл.* ГІ'РС

ДЫРСО'ВЫ *прым.* З дамешкай гірсы. *Малолі хлеб з дырсай і пяклі дырсовы хлеп.* Сапоцкіна Гродз.; *гл.* ґ і р с.

ДЫ'РХНУЦЬ *зак. экспр.* Моцна крыкнуць. *Дырхнула на яго.* Крэва Смарг.

ДЫРЭ'КТОР *гл.* ДАРЭ'КТАР

ДЫСЦЫПЛІ'НА *ж.* Строгае выхаванне. *Я ў бацькоў была, а дысцыпліну мела.* Саланое Віл.

ДЫ'СЯ *ж. экспр.* Тое ж, што і д ы́ л д а 1. *Дыся такая!* Саланое Віл.

ДЫ'ТКА *ж.* Пабочны заработак. *У мяне дытка ёсць — работа, за якую заплацяць. Зарабіў дытку, зрабіў дытку.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *dytek* 'старажытная манета, роўная шасці грошам'.

ДЫТЯ'ТКО *гл.* ДЗІЦЯ'ТКА

ДЫХ *м.* Дыханне. *Як дыхну, дых дзяржыць.* Валынцы В.-Дзв.

ДЫХАВІ'НА *ж.* 1. Упадзіна ў баках каровы. *Дыхавіна справа меншая, а калі бываюць роўныя, то карову абдуло.* Навасёлкі Свісл. 2. Дыхавіца. *Дай хвігай у дыхавіну, аш дух забіў.* Номікі Бабіц.

ДЫ'ХАВІЦА *ж. мед.* Задышка, астма. *Дыхавіца ў яго.* Магуны Паст. *Дыхавіцу мая.* Каўняны Гродз. *Дыхавіца бывая ў чалавека і ў скаціны. Дыхавіцу дастаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Дыхавіца — удушлівы чалавек.* Рыбчына Віл. *Дыхавіца заціснула, цяшка дыхаць было.* Саланое Віл. *Дыхавіцу дастаў, аш водзіць у бакі.* Ахрэмаўцы Брасл. *У яго дыхавіца — цяшка хадзіць, дыхаць ня можыць.* Ёдлавічы Брасл. *Дыхавіца — задышка.* Мярэцкія Глыб. *Дыхавіца мне прызнана.* Рагулішкі Даўг. *То й ціпер цяшко, альбо ў дыхавіцу станя балець.* Калядзічы Ваўк. *Дыхавіца напала — задышка.* Міратычы Карэл. *Дыхавіца ў каровы.* Лука Нараўк. *Умёр бацька, дыхавіца была ў яго.* Старыя Трокі Трак. *Яму дыхавіца не пазваляець касіць.* Малькуны Ігн. *Дыхавіца ў яго.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ДЫХАВІ'ЧНЫ *прым.* З дыхавіцай. *Дыхавічны ён, дыхавіца ў яго.* Магуны Паст. *Ён дыхавічны, удушлівы.* Рыбчына Віл. *Жыў адзін стары, дыхавічны, ня мох робіць.* Ёдлавічы

Брасл. *Карова наша дыхавічная, яна сапе моцна.* Ракаўскія Швянч. *Той конь буў дыхавічны. Каторы дыхавічны, як чэшуць лён, у хаце тады ні сядзі.* Пасека Ст.-Дар. *Дыхавічны ня будзя часаць лён, пыл ляціць.* Старыя Трокі Трак.

ДЫХАВІ'ШНАЯ ГО'РЛА *н. анат.* Дыхальнае горла. *Дыхавішная горла ў яго баліць.* Бакшты Іўеў.

ДЫХАВО'Е ГО'РЛА *н.* Тое ж, што і д ы х а в і ш н а я г о́ р л а. *Балеў доўга, было нешта з дыхавым горлам.* Альхоўцы Лях.

ДЫХА'НЯ *н.* Дыханне. *Дыханя закладаіць — становіцца цяжка дыхаць.* Рагулішкі Даўг.

ДЫ'ХАТІ *незак.* 1. Дыхаць. *Всё жывое дыхае.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Жыць. *Ну, скажы, як вуон там дыхае?* Курашэва Чыж. ◊ *Чуць дыхаць* — ледзьве жыць, быць безнадзейна хворым. *Ужэ чуць дыхае, хутко ўмрэ.* Курашэва Чыж.

ДЫХАЦЕ'ЦЬ *гл.* ДЫХЦЕ'ЦЬ II

ДЫХА'ЦЬ *незак.* Павяваць. *Вецяр дыхая.* Альхоўцы Лях.

ДЫ'ХІ *мн.* Тое ж, што і д ы х а в і́ н а 1. *У каровы роўныя дыхі.* Навасёлкі Свісл.

ДЫХНУ'ЦЬ *зак.* 1. Удыхнуць. *Дыхнула да сябе.* Міратычы Карэл. 2. Выдыхнуць. *Дыхнула ад сябе.* Міратычы Карэл.

ДЫ'ХТА *ж.* Фанера. *Дэначка ў мяне з дыхты.* Магуны Паст. *Дыхта — гэта фанера.* Быстрыца Астр. *Дыхта дыхціць, ніплотна прылягая.* Дакудава Лід. *Вася взяў і вырэзаў звэзду з дыхты, охварбыў чэрвоною хварбою.* Обеч Пруж. *Дыхтой подшываемо, шчоб роўно было.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* польск. *dykta* 'тж'.

ДЫХТАВА'ЦЬ *незак.* 1. Гаварыць, тлумачыць. *Я пані дыхтавала, што бацьком не пажалілася.* Гемзы Шальч. 2. Дыктаваць. *Дыхтуя пісаць пісьмо.* Магуны Паст. *Дыхтаваць задачу.* Альхоўка Навагр. 3. Камбінаваць, меркаваць. *Нешта дыхтуіць.* Груздава Паст.; *параўн.* ням. *dichten* 'ствараць, складаць'.

ДЫХТО'ЎНЫ *прым.* Моцны. *Добры мацерыял, дыхтоўны.* Мярэцкія Глыб.

ДЫХЦЕ'ЦЬ I *незак.* 1. Уздувацца. *У нас гаворація, што балото дыхціць, калі яно паднімаецца ці апускаецца. Дыхціць зямля.* Міратычы Карэл. 2. Няшчыльна прылягаць, адставаць. *Дыхта дыхціць, ніплотна прылягая, дошкі могуць дыхцець.* Дакудава Лід.; *параўн.* літ. *diktĕti* 'набракаць, набрыньваць' <ням. *dick* 'поўны, тоўсты'.

ДЫХЦЕ'ЦЬ II, ДЫХАЦЕ'ЦЬ, ДЗІХЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Смярдзець. *Рыба дыхціць, як паляжыць доўго.* Старое Сяло Зэльв. *Бочка дыхціць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дыхціць мясо, як паляжыць у цёплом.* Альхоўцы Лях. *Бочка дыхціць — пахне нехарошым; мяса, рыба пратухлае дыхціць. Падло здохне — дзіхціць.* Дзяніскавічы Ганц. *Парэзалі та-*

*кія скваркі, а тоя сала нечым дыхціць.* Вецярэвічы Пух. 2. Пахнуць. *І карэньчык гэдак дыхціць воздухам. Уся хата дыхаціць ад кветак.* Альхоўцы Лях. *Дзіхціць сялётка жывою рыбаю.* Старое Сяло Зэльв.

ДЫ'ШАЛЬ *м.* 1. Жэрдка, прымацаваная да сярэдзіны пярэдняй восі калёс. *Дышаль злучая тыльную і пярэднюю ось* [у возе]. Быстрыца Астр. *Дышаль усаджваецца ў задні вузавалак.* Вялікія Баяры Шчуч. *На падушку — шворань, к шворню — дышаль.* Старыя Трокі Трак. 2. Дэталь у плузе, да якой прымацоўваецца ворчык. *Да дышля прыкрэпляўся орчык.* Грыкені Вільн.; *парайн.* польск. *dyszel* 'дышаль'<ням. дыял. *disel.*

ДЭ *гл.* ДЗЕ

ДЭВЭТІЕРНІ'К *м.* Малая ўкладка снапоў на полі, бабка. *Овэс ужэ выжаты: трэба позносіті і в дэвэтіерникі поставляті.* Курашэва Чыж.

ДЭВЯ'ТЭРО *гл.* ДЗЕВЯЦЁРА

ДЭ'ҐЕЛЬ *м.,* ДЭ'ҐЛІ *мн.* Птушка з доўгімі нагамі. *Дэґелю гэтаму галаву адсяку. Забяры сваяго дэгеля, а то ўб'ю, што ён ходзіць к маім курам. Дэґлі* [гусі], *кудэ вы пойдзіце? На бацяноў кажуць дэґлі, бо іх ногі доўгія, як гэта палка.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *dẽglas* 'стракаты, пярэсты', *dẽglis* 'той, хто плямісты'.

ДЭЖА' *гл.* ДЗЕЖА'

ДЭ'КІ *мн.* Саматканыя коўдры. *Дэкі ткалі. Дэкі ткалі, самі дэкамі накрываліся.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* ням. *Decken* 'тж'.

ДЭ'НАК *м.* Дошчачка, на якой рэжуць што-н. *Дэнак — крышыць сланіну.* Старыя Смільгіні Воран.

ДЭ'НАЧКА *ж. памянш.* да д э́ н к а. *Дэначка меншанькая, дно вялікая. На дэначку мяса, цыбулю крышым. Атагрэю кісляк, вылію ў сырнік, камням прыцісну на дэначку— і сыр гатоў.* Магуны Паст. *Дэначка — што сала крышыць.* Саланое Віл. *У мяне з дыхты дэначка.* Дакудава Лід.

ДЭ'НКА *ж.,* ДЭ'НКО, ДЭ'НЦА *н.* Тое ж, што і д э́ н а к. *Дэнка вялікая і малая, рэзаць на ёй добра.* Быстрыца Астр. *На дэнцы крышым сала, цыбулю.* Жодзішкі Смарг. *Дэнка, дэнца — кружочак сала рэзаць.* Крэва Смарг. *Пашукай дэнку кроіць сланіну.* Солы Смарг. *Дэнка ў мяне з дыхты, на ёй добра рэзаць.* Дакудава Лід. *Сала рэжуць на дэнкі.* Ёдлавічы Брасл. *На дэнку парэш.* Індра Красл. *Дэнка — і малая, і большая; сала на ёй крояць.* Ракаўскія Швянч. *Дэнка — сала крышыць.* Малькуны Ігн. *Дэнка была, рэзалі на ёй.* Старыя Трокі Трак. *Дошка любой формы, на якой можна рэзаць сала, ставіць патэльню, называюць дэнка.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дэнку памый, а то сала рэзала на ёй.* Беразіно Докш. *Дэнко і большая і малоя, крышылі сала, цыбу-*

*лю, капусту.* Стральцы Гродз. *Дэнца трэба, кап такоя было з дзірачкамі і на квас зверху.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *denko* 'тж'.

ДЭ'НТКА *ж.* Камера ў веласіпедзе. *Дэнтка в ровары пэнкла.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *dętka* 'тж'.

ДЭ'РАШ, ДЭ'РЭШ *м.* Конь любой масці з прымессю іншага колеру. *Дэраш — дэрашаваты конь, як красны ды белыя валасы* [белая грыва, хвост]. Пацаўшчына Дзятл. *Як продав дэрэша, то гнядого купів.* Курашэва Чыж.

ДЭРЖА'К *гл.* ДЗЯРЖА'К

ДЭРЖА'ТЭ *гл.* ДЗЯРЖА'ЦЬ

ДЭ'РЭВО *гл.* ДЗЕ'РАВА

ДЭРЭВЯ'НІКІ *гл.* ДЗЕРАВЯ'НІКІ

ДЭСЬ *гл.* ДЗЕСЬ

ДЭ'СЭНЬ *м.* Узор. *Дэсэнь ладны.* Паляцкішкі Воран. *Дэсэнь стройны.* Груздава Паст.; *парайн.* польск. *deseń* 'тж'.

ДЭСЭТЁРО *зб. ліч.* Дзесяцера. *С-пут куркі вылізло дэсэтёро курэнят.* Курашэва Чыж.

ДЭ'ТОЧКО *гл.* ДЗЕ'ТАЧКА

ДЭЎШ *м.* і *ж.* Даўжыня. *Баразна такі дэўш — на кіламетр.* Пацаўшчына Дзятл. *Ведамо, гетака дэўш — плашчак.* Дзяніскавічы Ганц.

ДЭФЕНЗЫ'ВА *ж.* Контрразведка ў буржуазнай Польшчы. *Прадзержалі нас у дэфензыве много, но некаторых таварышаў выпусцілі.* Асташына Навагр.; *парайн.* польск. *defensywa* 'тж'.

ДЭ'ЧЫЦЬ I *незак. экспр.* 1. Крочыць. *А вунь нехта дэчыць.* Магуны Паст. 2. Хутка рабіць. *Во дзе дык дэчыць, скора шпулю надэчыш.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *экспр.* *děti* 'хутка хадзіць, хутка рабіць'.

ДЭ'ЧЫЦЬ II *незак. экспр.* Тое ж, што і дундзіць 2. *Ён дэчыць — кажыць адно і тое ж.* Груздава Паст.; *парайн.* літ. *экспр.* *děti* 'абгаворваць'.

ДЭ'ШРЫ *гл.* ДЗЯ'ШАР

ДЮ'ЖЫТЫ *гл.* ДЗЮ'ЖЫЦЬ

Д'Я'БАЛ *м. лаянк.* Чорт, сатана. *Не хачу гэдакіх д'яблаў* [курэй], *не ўгародзіш ад іх — дзе гляне, там пераляціць.* Мсцібава Ваўк.

ДЯХТО'ЛЬ *м. заал.* Дзяцел. *Тэпэр дэсь і дяхтоля в борові рыэтко чуті.* Курашэва Чыж.

# Е

Е *гл.* ЁСЦЬ

Е′ВЕЛЬ, Е′ВІЛЬ *м.* Верхняя частка шчыта ў страсе. *Евель даскам забіваць нада.* Скрудалена Даўг. *Евіль забіты — само верхня частка, канец шчыта.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *ëvelis* (<ням. *hêwel*) 'тж'.

ЕВО′НЫЙ *займ.* Яго. *У евонай маткі цесна.* Рагулішкі Даўг.

ЕВЮ′РКА *ж.* Ваверка. *Евюрка маленькая, рухавая.* Ялова Пруж.

ЕГДЖА′ЦЬ, Е′ГДЗІЦЬ *гл.* Е′ЗДЗІЦЬ

Е′ГНЕТКА, Е′ГНЕТКО *н. памянш.-ласк.* да е г н я́. *Егнетка ў нас малое.* Вялікія Баяры Шчуч. *Авечка прывяла егнетко.* Альхоўка Навагр. *Егнетко не хоча есці.* Вострава Маст.

ЕГНЯ′ *н.* Ягня. *Егня хворае.* Альхоўка Навагр. *Егня не есць.* Вострава Маст.

ЕДАВІ′ТЫ *прым.* Ядавіты. *Медная змяя едавітая.* Рагулішкі Даўг.

ЕДЗЭ′НЯ *н.* Ежа. *Да травы мякіны даложыш, бульбы — і свіно́ едзэня.* Ліпнікі Вільн.; *параўн.* польск. *jedzenie* 'тж'.

Е′ДКІ, Е′ТКІ *прым.* Прыдатны да яды. *Смучай для харчэй скату не едкі.* Пасека Ст.-Дар. *Сенажаць еткая, добрая, смачная трава там.* Жылі Іўеў.

ЕДЛАВЕ′Ц, ЕДЛЕ′НЕЦ, ЕДЛЕ′НІЦ, ЕДЛЯНЕ′Ц, ЕЛАВЕ′Ц, ЕЛЫ′НЕЦ *м. бат.* Ядловец. *Грывенку скруціць з едлаўцу нада. Едлавец урэдны для рагатага ската, як цвіце і пыліць.* Мсцібава Ваўк. *Едленцам вэньдзяць мяса.* Рагулішкі Даўг. *Едленіц расцець у лесі.* Валынцы В.-Дзв. *Едлянец у лесе.* Магуны Паст. *Куст елаўцу расце.* Альхоўцы Лях. *Елавец рос.* Жылі Іўеў. *Елавец расце ў лесі.* Жыдзевічы Іўеў. *Вэндзяць елаўцом.* Альхоўка Навагр. *Хадак плялі з елаўцу.* Кіралі Шчуч. *Нарэзаў елаўцу.* Дзяніскавічы Ганц. *Елынец у лесе.* Навікі Лудз.

ЕДЛАЎЦО′ВЫ, ЕЛАЎЦО′ВЫ *прым.* Ядлоўцавы. *Едлаўцово лыко возьмеш, з яго добро плесці кашалі.* Мсцібава Ваўк. *Елаўцовы лук у кошыку, накрыш ставяцца луке ў кошыку і скрабы ўстаўляюцца з гарэшыны.* Кіралі Шчуч. *Адзін сват бярэ квітку елаўцову і б'е ў полап.* Баброўнікі Гарад.

ЕДНА′КОЛЬ *пабоч.* Аднак, усё ж. *Яна тагды прышла, еднаколь.* Паляцкішкі Воран.

Е′ДНЭ *ліч.* Адно. *Еднэ слово крычыт і крычыт.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* польск. *jedno* 'тж'.

ЕДРЫНА′ *ж. заал.* Божая кароўка. *Едрына з кропачкамі.* Парэчча Гродз.

ЕДУ'НКА *ж.* Ядок. *Я добрая едунка.* Старыя Смільгіні Воран.

ЕЁРКА *ж.* Тое ж, што і е в ю р к а. *Еёрка скача па гарэшніку і есць гарэхі.* Баброўнікі Гарад.

Е'ЖА *ж.* 1. Тое, што ядуць, прадукты харчавання. *Дачку ні абіжаюць ні ў ежы, ні ў чым.* Валынцы В.-Дзв. *Даўней як пойдзім на работу, увесь разгавор пра ежу.* Лісна В.-Дзв. *Ежа добрая, смачная.* Кураполле Паст. *І ежа была добрая, як здаройя нетуці, то нічога не памагаіць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Корм для жывёлы. *Свіная ежа; густую ежу мая свіння есь.* Груздава Паст.

ЕЖДЖА'ЛЫ *прым.* Езджаны. *Ежджалая дарошка.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЕЖДЖА'ЦІ *незак.* Ехаць. *Ежджайце скарэй!* Вялікі Краснік Пруж.

Е'ЖДЖАЦЬ, Е'ЖЖАЦЬ *гл.* Е'ЗДЗІЦЬ

Е'ЖНАЯ *н.* Ядомае. *Дзе ежная, усюды пурсакі ўвалюцца.* Вялікія Баяры Шчуч.

Е'ЖНЫ *прым.* Тое ж, што і е́ д к і. *Ежная бульба — гэта крупная.* Магуны Паст. *Ня ежная бульба — падгнілая.* Груздава Паст.

Е'ЖЫК *гл.* ЁЖЫК

ЕЖЭ'ЛІ *злуч.* Калі б, калі. *Ежэлі яны былі вайну выіграўшы, то яны б паказалі ўсім. Ежэлі тэрас сабака навязан, то не будзе кідацца.* Паляцкішкі Воран. *Ежэлі рэчка глыбокая, купацца харашо.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *ежели,* польск. *jeżeli* 'тж'.

ЕЗ, ЕС *м.* Перагародка на рацэ. *Я чуць не ўтапілась, дзе язы; як памянулі вы ез, я не магу.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ес робіцца вясной, лазой аплятаецца.* Бакшты Іўеў. *Забівалі колікі, жардзіна кладзецца — і язы гатовыя.* Саланое Віл. *Язы парабілі, ес на рацэ.* Рудня Астравітая Чэрв.

Е'ЗДЗІЦЬ, Е'ЗДЖАЦЬ, ЕГДЖА'ЦЬ, Е'ГДЗІЦЬ, Е'ЖДЖАЦЬ, Е'ЗДЫТЫ *незак.* 1. Рухацца па сушы, па вадзе пры дапамозе якіх-н. сродкаў перамяшчэння. *Ездзілі па дню.* Старыя Трокі Трак. *Дзеці ездзюць сюда з Рыгі.* Навікі Лудз. *На лотках ездзюць.* Мельнікі Лудз. *Ездзяць возамі.* Вялікі Краснік Пруж. *Ездзюють у Віцебск часта.* Мішневічы Шум. *Езджаіць на скорай помашчы.* Магуны Паст. *Егджала я, а яна была з дзецьмі. Ён егджаў да дактарой. Ён егджая на мора, кап кітоў убіваць.* Альхоўка Навагр. *Егджая ў лес.* Паляцкішкі Воран. *Егджая бацька да сына.* Бакшты Іўеў.*Ніколі ня відзяўшы свет, егдзіла ў Маскву.* Асавец Віл. *Егдзілі ў лес па дрова.* Лісна В.-Дзв. *Егдзіла ў Мінск.* Кураполле Паст. *Егдзілі ў Паставы.* Граўжышкі Ашм. *Егдзілі мы на рум траляваць.* Крэва Смарг. *Егдзіла да горада.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хрышчона егдзіла ў Жалудок.* Кіралі Шчуч. *Любіш ты егдзіць.* Галубы

Маст. *Егдзілі ў Гродна.* Вострава Маст. *Егдзілі коньмі і павыбівалі выбоі.* Пацаўшчына Дзятл. *Панавучваліся меншыя егдзіць.* Навасёлкі Свісл. *І егдзілі на сорак дзён. Ні было як ехаць, а егдзілі с той вёскі. На брычцы брыгадзір егдзіць. Як астоўся, дваццаць гадоў егдзіць.* Дакудава Лід. *Егдзілі да сваіх дзяцей. Я рас егдзіла ў Зэльву.* Старое Сяло Зэльв. *Егдзілі да Ліды. Усё егдзіць вучыцца.* Стральцы Гродз. *Егдзілі коньмі.* Новікі Гродз. *Некалі вазамі егдзілі. Егдзіў па полі.* Малахоўцы Бар. *Егдзіў здаваць.* Ісерна Слуц. *Егдзіў лепш за ўсіх.* Сакаўшчына Валож. *Я ні егдзіла к яму.* Масілавічы Сл. *Егдзілі ў Мінск.* Стары Свержань Стаўб. *У поле егдзіў глядзець.* Дзяніскавічы Ганц. *Ежджаюць па свету.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ежджалі каждую нядзелю на базар, пакуль не пеpакуліліся з матацыклам.* Ёдлавічы Брасл. *Ежджаюць хлопцы на конях.* Стральцы Шальч. *Мы з ей ежджалі.* Ракаўскія Швянч. *У горадзі ежджаюць аўтобусам.* Рагулішкі Даўг. *Ежджалі ўсюды.* Крэва Смарг. *Ежджа па кукурузе. Ён ежджа па дзярэўні. Ежджа ў лес.* Паляцкішкі Воран. *Да Манюсі ежджаў. Ежджая яе брат у Баку.* Старыя Смільгіні Воран. *Ежджую ў Ліду. Да Іўя ежджала. Недзі ежджалі далёка зімой.* Бакшты Іўеў. *Покынуў на роботу ездыты.* Горск Бяроз. 2. Умець карыстацца якім-н. сродкам перамяшчэння. *Ён уміець ежджаць на матацыкле.* Рагулішкі Даўг.

ЕЗЁРО *н.* Возера. *Кала езёра жылі.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *jezioro* 'тж'.

ЕЙ *гл.* ЁЙ

Е'ЙНЫ *займ.* Яе. *Ейныя сёстры вучацца, а яна так і ня кончыла школы. Ейная карова ачараваная. Ейны агарот звузіў. За ейным бытам памерлі.* Магуны Паст. *Сістра ейная прыехаўшы.* Лісна В.-Дзв. *Ейны мужык луччы, як мой.* Валынцы В.-Дзв. *Гэта ейныя грошы. Ейны старшы брат.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прышоўшы да ейнаго дому, а яна памярла.* Старыя Трокі Трак. *Фамілія ейная Торба.* Індра Красл. *Матка ейная ішла. Братова ейная купіла парсюка.* Ракаўскія Швянч.

ЕК *прысл.* Як. *Помню, ек первы землемер ішоў.* Лахаўка Лун.

ЕЛАВЕ'Ц *гл.* ЕДЛАВЕ'Ц

ЕЛАВЫ' *прым.* Яловы. *Елавыя сураешкі на ельніку растуць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЕЛА'ЖНІК *м.* 1. Яловы лес. *Мачонікі растуць па елажніку.* Валынцы В.-Дзв. 2. *зб.* Яловыя лапкі. *Чалавек забіты ліжаў у лесі, елажнікам быў закрыты.* Валынцы В.-Дзв.

ЕЛА'ЖНІЧАК *м. памянш.* да е л á ж н і к 1. *Там такі елажнічак, сцешка была: ён яго паткалавурыў там.* Валынцы В.-Дзв.

ЕЛАЎЦО'ВЫ *гл.* ЕДЛАЎЦО'ВЫ

Е′ЛАЧКА *ж. памянш.* да ё л к а 3. *У елачкі былі тканыя ручнікі.* Саланое Віл.

Е′ЛЕ′НЬ *м.* Алень. *Елёнь ішоў жытам, я бачыла, карову пасючы.* Старыя Смільгіні Воран. *Ёлень ідзе жытам.* Старое Сяло Зэльв. *Два ёлені стаяць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *jeleń* 'тж'.

Е′ЛІ *прысл.* Ледзь. *Елі жывога завезлі ў бальніцу.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* руск. *еле* 'тж'.

ЕЛІКТРАСТА′НЦЫЯ *ж.* Электрастанцыя. *Калхос мельніцу меў турбінную вадзяную, і еліктрастанцыя была свая.* Раўбічы Мін.

Е′ЛІНА′ *ж.* 1. Елка. *Ёліна разлапістая.* Міратычы Карэл. *Еліна расла апусціўшыса.* Новікі Гродз. *Еліна расце.* 2. Яловы лес. *Па еліне растуць грыбэ.* Вецярэвічы Пух.

Е′ЛІЦ *м. бат.* Свінакроп. *Еліц сціскаў лён.* Мярэцкія Глыб.

Е′ЛКА, ЁЛКА *ж.* 1. Елка. *У ельніку елка расце.* Малахоўцы Бар. *Елка велькая.* Рыбчына Віл. *Елку зрубілі.* Мярэцкія Глыб. *Што там, пад елкаю?* Вялікія Баяры Шчуч. *Елкі роўныя, у радок растуць.* Навікі Лудз. *Ёлка вырасла густая.* Чычалі Швянч. *Ёлку зрубілі.* Галоўні Воран. *Ёлка павалілася.* Грыкені Вільн. *Ставіцца на каляду ёлка.* Баброўнікі Гарад. 2. *бат.* Хвошч. *Елка расце ў жыці, у картошцы.* Міратычы Карэл. *Елка е, расце, яе каровы не ядуць.* Вецярэвічы Пух. 3. Узор на тканіне. *Радзюшка ў елкі ткана.* Малахоўцы Бар. *У елку буду ткаць.* Вецярэвічы Пух.

ЕЛКАВА′ТЫ *прым.* Крыху ёлкі. *Елкаваты здор з'ялчая.* Альхоўцы Лях.

Е′ЛКАСЦЬ *ж.* Ёлкасць. *Староя сала елкасць дае. Малако гарчыць, елкасць дае.* Малахоўцы Бар. *З'ялчэла сала, за горла бярэ елкасць.* Кіралі Шчуч.

Е′ЛКІ I *прым.* Пазелянелы. *Елкая картошка, кагда сонцам прахватіт, тагда зеленеет і не вкусна.* Рагулішкі Даўг.

Е′ЛКІ II *прым.* Брудны, зацягнуты цінай. *Елкая вада, зялёным пацягнуўшы.* Старыя Смільгіні Воран.

ЕЛЦА′ *ж.* Тое ж, што і ё л к а 2. *Елца расце ў лёні, у жыці, у картошцы.* Міратычы Карэл. *Елца — палявая ёлачка, яе каровы ядуць.* Альхоўка Навагр.

ЕЛЫ′НЕЦ *гл.* ЕДЛАВЕ′Ц

ЕЛЬЁВЫ *прым.* Ліловы. *Ельёву і бурдову дала посцілку.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *liliowy* 'тж'.

Е′ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і е л а́ ж н і к 1. *Ельнік — ель згушчоная.* Беразіно Докш. *Адзін ельнік зарос.* Кіралі Шчуч. *Ельнік больш к нізу і к лугу, балоту расце.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ельнік густы.* Рыбчына Віл. *У ельніку мокра.* Мярэцкія Глыб. *Свінні растуць, дзе асіннік і ельнік.* Істра Лудз. *Ельнік высокі і густы.* Чычалі Швянч.

ЕЛЬНІНА' *ж.* Тое ж, што і е л а́ ж н і к 1. *У ельніне не было грыбоў.* Галубы Маст.

ЕЛЬНЯ'Г *м.* Тое ж, што і е л а́ ж н і к 1. *У ельнягу грыбы растуць.* Граўжышкі Ашм.

ЕЛЬЧА'ЦЬ *незак.* Рабіцца ёлкім. *Ад тэй каровы ельчало масло, ад гэтай — не.* Мсцібава Ваўк.

Е'ЛЬЧЫК *м. заал.* Ялец. *Ельчык — плоская, здаравейшая за ўклейку рыба, перышкі красныя.* Беразіно Докш. *Ельчык, як плотка, но вузенькая, як сялёдачка.* Ухвала Круп. *Ельчык, ельцы: як плотка патхадзя.* Рудня Чэрв.; *параўн.* польск. *jelec,* укр. *яльчик* 'тж'.

ЕЛЯ'ЖАЧКА *ж.* Тое ж, што і е л а́ ж н і к 1. *Па гэтай еляжаццы грыбы растуць. Еляжачка — зараснікі елкі.* Граўжышкі Ашм.

ЕНКАНЫ' толькі *мн.* Стогны, крык. *Ад енканоў с пуці збіла: не ведаю, што хацела сказаць.* Галубы Маст.; *гл.* е́ н ч ы ц ь.

ЕНЧА'РЫ толькі *мн.* Шамкі. *Енчары — сістэма званочкаў, да дваццаці-дваццаці двух каля хамута, дугі.* Грыкені Вільн.

Е'НЧЫЦЦА *незак.* Енчыць, стагнаць, крычаць. *Ён енчыцца, яму баліць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гот спусця другі захварэў галоўкай, так енчыўся.* Кураполле Паст.

Е'НЧЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і е́ н ч ы ц ц а. *Енчыла, на чом свет.* Галубы Маст. *Чаго ты енчыш? Енчыць і енчыць.* Кіралі Шчуч. *Дзе жоравы садзяцца на пожыў, адзін пілнуе, як што — енчыць і ўлятаюць тады.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* польск. *jęczeć* 'стагнаць, вохкаць'.

ЕПРУ'К *м.* Вяпрук. *Калолі епрука, вэндзілі — і дом зга-рэў.* Дзяніскавічы Ганц.

ЕРАВЫ', ІРАВЫ' *прым.* Яравы. *Еравоя поля — пшаніцу сеілі, віку, гарох.* Індра Красл. *Іравое поле — авёс, ячмень.* Лісна В.-Дзв.

ЕРАМБІ'НА *ж.* Рабіна. *Ерамбіна ў нас пад вакном.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *jarzębina* 'тж'.

ЕРАПЛА'Н, ЕРАФЛА'Н *м. устар.* Самалёт. *Яго ерапланам завезлі.* Дакудава Лід. *Ерафлан пашоў.* Старыя Смільгіні Воран.

ЕРАШЧА'КА *ж. кулін.* Верашчака. *Семенё высушыць, а тады стаўчы і на сітко працадзіць і густавасенько развесці семенё на кваску, і праварыць — ерашчака гатова.* Міратычы Карэл.

ЕРМО' *н.* Ярмо. *Волу на шыю ермо накладалі.* Смаляніца Пруж. *Ермо волам клалі.* Калясное Міхал.

ЕРМЯ'К *м.* Армяк. *С сукна ермякі шылі.* Кемялішкі Астр. *Ермяк — як адеет на шубу полупальто.* Рагулішкі Даўг. *Ермякі насілі дайней.* Азяраны Раг.

ЕРУНДА′ *ж.* Глупства. *Чорт лысы, толькі выдумліваеш ерунду.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *ерунда* 'тж'.

ЕРЫНА′ *ж.* Ярына. *Ерыны засеяў.* Вострава Маст.

ЕРШ *гл.* ЁРШ

ЕРЫХО′НСКІ *прым.* У выразе: *Ерыхонская труба.* Курашэва Чыж.

ЕС *гл.* ЕЗ.

Е′СЛІ *злуч.* Калі. *Еслі ня будзіця памешваць, прыгарыць. Еслі печка чуць пагрэіцца, то будзе цяплей.* Філіпаўцы Красл.; *параўн.* руск. *если* 'тж'.

ЕСТ *гл.* ЁСЦЬ

Е′СТЫ *гл.* Е′СЦІ

ЕСТЬ *гл.* ЁСЦЬ

Е′СЦІ, ЕСЦЬ, ЕСЬ *незак.* Есці. *Ешча канфеты.* Валынцы В.-Дзв. *Сяду і буду есць.* Паляцкішкі Воран. *Каровы есць ні будуць. Заґа есць. Ешча, а то прастыне. Есці ні есць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Есць жывёла хоча. Ежма мы с табой. Ешча, дзеці!* Кіралі Шчуч. *Пайду згатую есць.* Ліпнікі Вільн. *Горка рэдзька, а ўсе ядуць.* Чычалі Швянч. *Зґаґа мне ела, я крэйду ела. Мама гатуіць есць. Хачу есць, давай буду снедаць.* Старыя Трокі Трак. *Ешча малако і хлеп.* Вецярэвічы Пух. *У вайну нечага было есь.* Валынцы В.-Дзв. *Цэлы вечар ядзём. Есь ня будзім.* Лісна В.-Дзв. *Есь мухам няма нічога, на стале ўсё пазакрывана.* Ёдлавічы Брасл. *Ядзём многа. Наліла кату памыі, ён есь.* Магуны Паст. *Мы не ямо калбасы.* Мсцібава Ваўк. *Ямо бульбу.* Беняконі Воран. *Пяклі булучкі такія і ясі, а цяпер есце, хоць на лоб лезце.* Старыя Смільгіні Воран. *Еж, Таня! А шчо ты есцімэш? Ежмо шчо.* Смаляніца Пруж. ∇ *Кап па табе елі хаўтуры!* Альхоўцы Лях.

Е′СЦІСЯ *незак.* 1. *безас.* Пра наяўнасць жадання або магчымасці есці. *У лічаных хазяяваў елася многа.* Магуны Паст. 2. Выядаць. *Вот дым есца ў вочы.* Лісна В.-Дзв. *Пойна хата дыму, дым есца ў вочы.* Ністанішкі Смарг.

ЕСЦЬ I *гл.* Е′СЦІ

ЕСЦЬ II *гл.* ЁСЦЬ

Е′СЦЯКА *гл.* ЁСЦЯКА

ЕСЬ *гл.* Е′СЦІ

ЕСЯНІ′НА *ж.* Аплата, якая выдавалася кавалю восенню, часцей збожжам. *Есяніну плацілі кавалю, каваль есяніну збіраў па восені.* Азяраны Раг.

ЕСЯНО′ВЫЙ *прым.* Асінавы. *Стол есяновый, здзеланы біз гваздоў, кліны бантам укладваліся.* Мішневічы Шум.

Е′ТКІ *гл.* Е′ДКІ

ЕТРО′ЎКА *ж.* Ятроўка. *Майго мужа сістра мне будзіць етроўка.* Індра Красл. *Етраўке і пасварацца, і пагодзяцца, і разыйдуцца.* Кіралі Шчуч. *Пажэняцца ў бацька два сыны, жоны іх называюцца етроўкамі.* Баброўнікі Гарад. *Мая быў-*

*шая етройка.* Малыя Аўцюкі Калінк. ∇ *Етрайке, як вайке.* Кіралі Шчуч.

Е'ТЫ *займ.* Гэты. *Сітцавы платок ня ездзіць, а етат ня люблю.* Скрыпчына Лудз. *Ад паносу сушаць ету траву.* Валынцы В.-Дзв.

Е'ЎНЯ *гл.* ЁЎНЯ

Е'ХАЦЬ *незак.* Ехаць. *Трэба ехаць да Вільня.* Старыя Смільгіні Воран. *Ехалі мы машынамі.* Тухавічы Лях. *Чым збіраецеся ехаць?* Кемялішкі Астр. *Едзьмо ў Вільнюс.* Паляцкішкі Воран. *Ехаць трэба пазагуменням.* Дакудава Лід. *Едзьма да нас.* Вялікія Баяры Шчуч. *Бяры Косцю і едзьмо!* Навасёлкі Свісл. *Чым веце ездзіце?* Ялова Пруж. *Доўга ехаць туды лоткай.* Пацаўшчына Дзятл. *Ехаў самалёт і сеяў.* Гемзы Шальч.

Е'ЧА *ж.* 1. Стрававод. *Ечу завяжы, каб ні лілося с трыбуха. Усё субіраецца, як у ечы цесна ідзець. Нада ечу завязаць. Пішча ў ечы цесна ідзець.* Саланое Віл. *Еча, ечная чараво — стрававод.* Вялікія Ністанавічы Лаг. 2. *перан.* Сварлівы чалавек. *Еча — хто сварыцца бес канца. Алі ш і еча — усё грызе, сварыцца, лаяцца.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* бел. *есці,* літ. *eičiùkas* 'нячысты дух'.

ЕЧМЕ'НЬ *м.* Ячмень. *Ечменю нажала многа.* Старыя Трокі Трак.

ЕЧМЕ'НКА, ЕЧМЯ'НКА *ж.* Ячная салома. *Ечменку едят каровы.* Рагулішкі Даўг. *Ечмянка наша насечана, гэдака хароша была, ды мышы завяліся.* Мсцібава Ваўк.

ЕЧМЯНІ'СКО *н.* Ячнішча. *Як скосяць ечмень, то астаецца ечмяніско.* Баброўнікі Гарад.

Е'ЧНАЕ ЧАРАВО' *н.* Тое ж, што і е́ ч а 1. *Не разарвіце ечнае чараво.* Рыбчына Віл.

Е'ШКІ, Е'ШЧЫ *прым.* 1. Непераборлівы. *Ешкая і спакойная карова.* Малькуны Ігн. *Ешкі — небракаўлівы да яды.* Ракаўскія Швянч. *Ешчы—хто добра есць; свіння ешчая.* Мярэцкія Глыб. *Парсюк ешчы.* Рыбчына Віл. *Карова ешчая.* Граўжышкі Ашм. *Ешчы мальчык, што хочаш з'есць.* Шамялі Брасл. *Ешчы, непераборлівы мушчына, такога і на стол узяць можна.* Мішневічы Шум. 2. Прагны. *Ну, і ешкі — усю місу з'еў, прагна есць.* Ёдлавічы Брасл. *Ох, і ешчая карова, сена не набрацца.* Мішневічы Шум. *Ешчы чалавек, што парасёнак.* Індра Красл.

ЕШЧЫ' *прысл.* Яшчэ. *Маем мы ешчы і дочку.* Лукомір Пруж.

# Ё

Ё *гл.* ЁСЦЬ

ЁДАВАЯ ТРАВА' *ж. бат.* Чыстацел. *Ёдавая трава гаючая, як ёд; пьют многія, вылечают у серадзіне, апеціт ад яе.* Скрыпчына Лудз.

ЁДЛА *ж.* 1. Тое ж, што і ё л к а 1. *З аднэй ёдлы пастроім цэла гумно. Пярун яе збіўшы, адну ёдлу.* Паляцкішкі Воран., Грыкені Вільн. *Каля ёдлы высякае агонь.* Старыя Трокі Трак. 2. Тое ж, што і е л а́ ж н і к 2. *Ёдла ўгору падкідалі.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *lodła* 'елка'.

ЁДЫ'НА *ж.* Ёд. *Ёдына з амульсіяй.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *jodyna* 'тж'.

ЁЖЫК, Е'ЖЫК *м.* Вожык. *Ёжык калючы, зімою спіць; залезе часта ў пуню, у сена закапаецца.* Лісна В.-Дзв. *Ёжык клубочкам скруціцца і ляжыць.* Кіралі Шчуч. *Ёжыкі мышэй ловяць.* Малькуны Ігн. *Ёжык калючы.* Дакудава Лід. *Ежык у нас жыве.* Чычалі Швянч. *Ежык п'е малако.* Грыкені Вільн.; *парайн.* руск. *ёж,* польск. *jeż* 'тж'.

ЁЗА *м.* і *ж.* Непаседа. *Ёза, што ты еўзаесся?* Кіралі Шчуч.

ЁКАЦЬ *незак.* Гучна, прагна глытаць. *З прагненям п'ець, аш чувацца, як ёкаіць.* Курополле Паст.

ЁЛА *ж.* Тое ж, што і ё л к а 1. *На ялену кажут ёла і ялена.* Дзяніскавічы Ганц. *Зрыэзалі грубу ёлу.* Курашэва Чыж.

ЁЛАЧКА *ж.* Тое ж, што і ё л к а 2. *Ёлачку скаціна ня есь.* Ракаўскія Швянч.

ЁЛКА *гл.* Е'ЛКА

ЁЛКІ *прым.* Прагорклы, з непрыемным пахам. *Не магу есці ёлкае масла.* Магуны Паст. *З'ялчала сала, ёлкая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Старая сланіна ёлкая.* Стральцы Гродз. *Ёлкая сала, ёлкі здор.* Граўжышкі Ашм. *Ёлкая сала няўкусная, рудоя.* Валынцы В.-Дзв. *Ёлкая дзелаецца сала.* Азяраны Раг.

ЁМЕНЬКІ *прым. памянш.* да ё м к і 1. *Ёменькі тапорык быў.* Вецярэвічы Пух.

ЁМКА *прысл.* Марозна, холадна. *Сягоння ёмка, ногі, рукі мерзнуць.* Лісна В.-Дзв.

ЁМКІ, ЁМКІЙ *прым.* 1. Востры. *Ёмкі нош.* Крэва Смарг., Магуны Паст. *Ёмкая сякера: да дрэва аж ліпне.* Гемзы Шальч. *Ёмкі гостры нош, каса, тапор ёмкі.* Кіралі Шчуч. *Ёмкі нош, як востры.* Старыя Трокі Трак. *Ёмкі нож, ёмка каса.* Лайпушкі Ігн. *Нош ёмкій, вострый.* Рагулішкі Даўг. 2. Спрытны, лоўкі, зграбны. *Бодры, ёмкі, хоць і стары.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ёмкія дзеўкі ў суkenках.* Вецярэвічы Пух. 3. Укормлены. *Парасята, як лутэ, жырныя, ёмкія.* Вецярэвічы Пух. 4. Злы. *Наш сабака ёмкі.* Валынцы В.-Дзв.

ЁМУ *займ.* У яго. *Прызналі ёму затэмненне лёгку.* Дзяніскавічы Ганц.

ЁРЗАЦЦА *незак.* Ёрзаць, неспакойна сядзець. *Чаго ты ёрзаісся, не пасядзіш спакойна?* Беразіно Докш. *Што ёрзаісся, не пасядзіш на месці?* Лісна В.-Дзв. *Не сядзіцца табе — ёрзаісся.* Саланое Віл. *Не ёрзайся на лошку, ярзун ты!* Граўжышкі Ашм. *Ня ёрзайся па пасцелі, не качайся!* Лайпушкі Ігн. *Чаго ты ёрзаішся па пасцелі?* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *jur̃šti* 'муціць'.

ЁРЗАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ё р з а ц ц а. *Ёрзаюць бабы, не сядзіцца ім. Рабёнак ёрзаіць па пасцелі.* Валынцы В.-Дзв. *Сашыю мяшочкі на ручкі дзіцяці, кап не царапаўся. Ёрзаіць, чэшыць, а ні царапаіць.* Індра Красл. *Ён ёрзая; ні ёрзай.* Азяраны Раг. 2. Рабіць абы-як. *Ёрзаць, а не рабіць можаш.* Ракаўскія Швянч. 3. Няправільна, неахайна скародзіць поле. *Як пачаў ён ёрзаць поле, то страх паглядзець.* Старыя Трокі Трак. 4. *перан. разм.* Выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах, атрымліваць выгаду з каго-н., чаго-н. *Ён будзіць па табе ёрзаць.* Кураполле Паст.

ЁРШ, ЕРШ *м. заал.* Ёрш. *Ёрш калючы.* Беразіно Докш. *Ёрш у любой нараст ідзет.* Шкаўна Лудз. *Ёрш колецца.* Істра, Пасіене Лудз. *Ёрш такі калюшчы, на ём луска бальшая, нада яе драць.* Кіралі Шчуч. *Ерш маленькі.* Мсцібава Ваўк. *Ершоў налавіў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЁСЬ *гл.* ЁСЦЬ

ЁСІЦЬКА, ЁСЦІКА *гл.* ЁСЦЯКА

ЁСЦЬ, ЁСЬ, ЕСЦЬ, ЕСТЬ, ЕСТ, Ё, Е. Ёсць. *Есць ягадаў, ёсць у нас тут грыбоў.* Ністанішкі Смарг. *Вот усялякіх людзей ёсць на свеця; ёсць многа добрых.* Малькуны Ігн. *Каза ёсць у нас.* Кемялішкі Астр. *І сын, і ўнук ёсць.* Пасіене Лудз. *Ёсць і добрых людзей; ёсць і злых гадзюк. Мы не зналі, які ён ёсць. Ні знаю, што мне ёсць.* Рагулішкі Даўг. *Ні скажу, усяляк ёсь. У нас сабака ёсь. А колькі тут грошы ёсь на стале?* Ністанішкі Смарг. *У нас курэй ёсь. Дзе ты ёсь? Пазаві, дык ён і прыдзіць, як ласкавы. Дамінікова дзе ёсь? Мала яблыкаў ёсь. Пайду, як ёсь. Меншыя ёсь, нада ш ісці. Хітрыя бабы ёсь.* Груздава Паст. *Закрутка ёсь пры дзвярах.* Магуны Паст. *Дзе ты там ёсь?* Рыбчына Віл. *Дзе ты ёсь сягоння?* Мярэцкія Глыб. *Есь нітка чорна.* Міратычы Карэл. *Загоны ёсь.* Чычалі Швянч. *Унукаў прывёў, ёсь унукі, што жаніць нада. Свая машына ёсь.* Ахрэмаўцы Брасл. *У яе катлоў ёсь. Дзе ты ёсь?* Валынцы В.-Дзв. *Ёсь двоя свіней, абоя кормім. Дзе Віцька ёсь? Многа такіх людзей ёсь. Рыбы мала ёсь. Мышы чуяць, дзе кот ёсь. Там мышы ёсь. Дзе баба есць?* Лісна В.-Дзв. *Есць такіх людзей, што ўмеюць піяць.* Малькуны Ігн. *Есць такіх старыкоў, каторым тут схадзіць?* Лайпушкі Ігн. *Травы многа есть.* Скрудалена Даўг. *Ест у людзей грошы.* Мсцібава Ваўк. *Ідзі паглядзі,*

*можа, што ест? І твая палавіна ест. Ці ест яна ў іх?* Жылі Іўеў. *Ест у нас такіх слоў. Ест грэбля.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ест коні.* Беняконі Воран. *Тут яблыкаў ест. Ест такіх людзей. Ест ягадаў. Свініна ест. А што там ест? Лісіцаў ест.* Паляцкішкі Воран. *Гэтым годам многа ест ягад, але дробныя. Дзе дзяўчата ест? Будзеця знаць, якія людзі на свеце ест. Там травы ест. Мо іх там дзве тысячы ест?* Альхоўка Навагр. *Ест обад суцэльны і часцічны.* Судэрва Вільн. *Ест мало дубу. Яшчэркаў ест.* Грыкені Вільн. *У нас пяскі ест, жвіры ест.* Відаўцішкі Вільн. *Боты ест, буду насіць.* Старыя Трокі Трак. *Ест тут тры дарогі.* Стральцы Шальч. *У гаёвых сваіх людзей ест.* Гемзы Шальч. *Ест зайцэ.* Вялікі Краснік Пруж. *Я ведаю, што ты ест.* Дзяніскавічы Ганц. *Ё пляменнікі, але яны далёкая радня.* Паплавы Бярэз. *Ё армякі. Увесь посуд ё, што нада пад рукамі.* Азяраны Раг. *Тут у нас е такіх дэвочок. Е картопля, е сало. Е ў возе ось.* Дзяніскавічы Ганц. *Усе кнішкі е.* Малахоўцы Бар. *У нас, што хочаш, е.* Альхоўцы Лях. *Тут е вужакоў.* Грыкені Вільн.

ЁСЦЯКА, ЁСЦІКА, ЁСІЦЬКА, Е'СЦЯКА. Тое ж, што і ё с ц ь. *Ты ёсцяка тут?* Асавец Віл. *Цяпер мы ўжо шмат працадпёў у калгасе зарабілі — хлеба й да хлеба ёсціка.* Селішчы Ашм. *Есіцька трохі малака, папей.* Ухвала Круп. *Есцяка хлеп і малако.* Малахоўцы Бар.

ЁЎЗАЦЦА, Е'ЎЗАЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што і ё р з а ц ц а. *Вот усюды ёўзаецца і ёўзаецца, нідзе месца не найдзя. Чаго ты еўзаешся па кравацi? Кінь ты еўзацца!* Кіралі Шчуч. *Бацька цэлы дзень ёўзаўся з нагамі па пасцелі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Што ты ёўзаесса па пасцелі?* Каўняны Гродз. *Што ты тут ёўзаешся, сяць.* Дакудава Лід. 2. Тое ж, што і ё р з а ц ь 2. *Еўзаецца, не памыла, а раз'ёўзала падлогу.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* укр. *евза* 'малярыя, трасца' (Грынч., 1, 466).

ЁЎНЯ, Е'ЎНЯ *ж.* Асець. *Насадзі ёўню!* Глівін Барыс. *Затапі ёўню!* Мачаск Бярэз. *Дзелалі сушылкі — называлі еўня.* Азяраны Раг.; *параўн.* літ. *jáuja* 'тж'.

# Ж

ЖА'БА, ЖЭ'БА, ЖЯ'БА *ж.* 1. Жаба. *Ёсць земляныя і вадзяныя жабы.* Лісна В.-Дзв. *Жап кідалі ў малако, кап халодная было. Усякіх ёсь жабаў. Зялёныя жабы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жаба зялёна ня ўрэдна.* Кіралі Шчуч. *Жаба і та, на купіну вылязшы, дзівуіцца: во-во-во.* Гемзы Шальч. *Жаба сліская,*

*зялёная.* Ракаўскія Швянч. *Жап развялося.* Рыбчына Віл. *Крумкаюць жабы на дождж.* Саланое Віл. *Жаба паскакала.* Грыкені Вільн. *Жабы выводзяцца сківілаў.* Рагулішкі Даўг. *Вярэпаўка — бальшая, тоўстая жаба, а то і рапухай завуць. Жабы па зямлі скачуць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Некіі жабы, чы шчо.* Горск Бяроз. *Жэбы квакаюць.* Старыя Смільгіні Воран. *Жяба скачэ.* Дзмітравічы Кам. ∇ *У яе жаба на языку не спячэцца* — не пабудзе ў тайне. Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Пагардлівае абзыванне дзяцей. *Жаба ты, памаўчы, не ўмешвайся ў размову старэйшых!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖАБАНКІ′ толькі *мн.* Павуціна. *Жабанкі зацягнуў павук і лапая муху.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *žabángai* 'пастка'.

ЖА′БІНА *ж.* Тое ж, што і ж а́ б а 2. *Ах ты жабіна малая!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖА′БІНЫ ХА′ТКІ *мн.* Ракавіны малюскаў. *Жабіны хаткі ляжаць каля рэчкі, іх там многа.* Магуны Паст.

ЖА′БІНЫ ХО′ВАНКІ *мн. бат.* Папараць. *На папараць кажуць «жабіны хованкі».* Вострава Маст.

ЖАБО′Р *м. бат.* Зябер. *Жабор па жыці расце, калючы.* Мсцібава Ваўк.

ЖАБРАВА′ЦЬ *незак.* 1. Збіраць міласціну. *Жабравала, хадзіла па хатах.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Выпрошваць, дакучаць просьбамі. *Даўней бабы па льну хадзілі, жабравалі, як мнуць, то дадуць павесму нятрапанага.* Лісна В.-Дзв.

ЖАБРА′К, ЖЭБРА′К *м.* Старац. *Даўна жабракі хадзілі.* Саланое Віл. *Ідуць жабракі с торбамі.* Рыбчына Віл. *Жабрак жабруя.* Старое Сяло Зэльв., Навасёлкі Свісл. *Быў з'ехаўшы на жабрака, але дачка выўчылася за настаўніцу.* Ністанішкі Смарг. *Бывала, жабраке хадзілі па вёсках.* Кіралі Шчуч. *Жабрак жабруе.* Паляцкішкі Воран., Вострава Маст. *Цяпер няма жабракоў, а перш дзверы няможна было зачыніць ад іх.* Ёдлавічы Брасл. *Жабрак ходзіць па вёсцы і просіць.* Баброўнікі Гарад. *Калісь ходзілі жэбракі.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* польск. *żebrak* 'тж'.

ЖАБРАНІ′НА *ж.* Жабраванне. *Пашлі мы з Анцяй на жабраніну.* Альба Нясв. *Па жабраніня хадзіла, дзяцей гадавала.* Вецярэвічы Пух.

ЖАБРА′ЧКА *ж.* Старчыха. *Жабрачка хадзіла па хатах, цяпер не відна яе, памерла ці што?* Беразіно Докш. *Жабрачка, ці ўбогая, якая па хатах хадзіла, прасіла.* Мярэцкія Глыб. *Жабрачка брыткая была.* Калясное Міхал.; *гл.* ж а б р а́ к.

ЖА′БРЫ I, ЖЭ′БРЫ *мн.* 1. *анат.* Рэбры. *Жабры прынёс, звары.* Старыя Трокі Трак. *Жэбры ламаныя, кантужаны. Жэбры ўламаў.* Быстрыца Астр. *У яго бракоўныя лёхкія, прысохлі да жэбраў.* Жодзішкі Смарг. *Жэбры ўкінула варыць.* Крэва Смарг. *Жэбры паламаў.* Гемзы Шальч. *Як свіню зарэжыць,*

*тры-чатыры жэбры пасячэць і варыць.* Ракаўскія Швянч. *У каровы во жэбры вялікія!* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *żebry* 'тж'. 2. *перан.* Пруты ў каркасе кошыка. *Жэбры паставіў у кошык.* Быстрыца Астр. *У кошыку ручка, жэбры.* Жодзішкі Смарг. *Жэбры — рэбры ў кошыку.* Магуны Паст. *Жэбры ў кошыку.* Беняконі Воран. *Абручы і жэбры ў кошыку, а с канцоў — вочы.* Ракаўскія Швянч. *Жэбры ўставіць у кошык.* Чычалі Швянч. *Калі плятуць кошык, лук сагнуць, жэбры ўставяць, шлокснямі пераплятаюць. У кошыку два лука і жэбры.* Старыя Трокі Трак.

ЖА'БРЫ II, ЖЭ'БРЫ *мн.* Жабры. *Жабры рыбы.* Мсцібава Ваўк. *У рыбы жэбры.* Асавец Віл.

ЖАБРЫ'НА *ж.* Рабро, рабрына. *Кожная жабрына выпірая — тошчая карова.* Быстрыца Астр. *Жабрыну зламаў.* Магуны Паст.; *гл.* ж á б р ы I, 1.

ЖАБРЭ'Й *м.* Тое ж, што і ж а б ó р. *Жабрэй на гарошак дзікі пахожы, як павяліца.* Палік Барыс.

ЖАБРЭ'ЙКА *ж.* Тое ж, што і ж а б ó р. *Жабрэйка — трава, яна каляча ў перыяд цвіцення.* Альхоўцы Лях.

ЖАБРЭ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і ж а б ó р. *Жабрэль — калюча трава. Адна жанчына шмат ячменю мела, папрасіла сусетку памагчы жаць, але тая не пашла, бо жабрэлю шмат, а як прышла зімой пазычаць мукі, жанчына і кажа: «Як я да мукі — жабрэль да рук, як я да круп — жабрэль да рук».* Мсцібава Ваўк.

ЖАБУРА' *ж.* Гнаявая жыжка. *У хлеве жабура сцякая, стаіць адно.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЖАБУРКІ' *гл.* ЖАБУРО'К

ЖАБУРНЯЧО'К *м. заал. памянш.-ласк.* Апалонік. *Жабурнячкі ў канаве.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖАБУРО'К *м.*, ЖАБУРКІ', ЖЫБУРКІ' *мн.* 1. Цурка. *Прынясі жабуркоў.* Чычалі Швянч. *Насячы жыбуркоў — дроў такіх маленькіх.* Магуны Паст. 2. Аскабалак, трэска. *Кінь жабуркі ў печ, жабуркі дровы распаляць.* Магуны Паст. *Жабуркоў сухіх прынясі. Жыбуркі гараць.* Лайпушкі, Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *žabaraĩ* 'сухія галіны'.

ЖАБУРЫ'ННЯ I, ЖАБУРЫ'ННЕ, ЖАБУРЫ'НЯ, ЖАБУРЭ'ННЯ, ЖАБУРЭ'НЯ *зб. н.* Жабіна ікра. *Жабурыння ў жаб.* Паляцкішкі Воран. *Жабурыння — як жабы куркаяць.* Рыбчына Віл. *Жабурынне жабы пускаюць.* Багушэвічы Бярэз. *У вадзе жабурыня.* Буда Уздз. *Жабурэння жабы пускаюць.* Дакудава Лід. *У вадзе поўна жабурэння жабячага.* Пацаўшчына Дзятл. *Жабурэння пуская жаба.* Рудня Астравітая Чэрв. *З жабурэня апалонікі выводзяцца. Жабурэня само белая, а чорны крапелькі па ём, а з тых крапелькаў выходзяць апалонічкі, а з апалонічкаў робяцца жабы.* Кіралі Шчуч.

ЖАБУРЫ'ННЯ II, ЖАБУРЭ'ННЕ, ЖАБУРЭ'ННЕ, ЖА-

БУРЭ'НЁ, ЖАБУРЭ'ННЯ, ЖАБУРЭ'НЯ *н.* 1. *бат.* Раска. *Жабурыння ў возяры папляцецца зялёнае.* Рыбчына Віл. *Зялёнае жабурэнне; жабурэнне памыла; па вадзе сабралася жабурэнне; я сагнала жабурэнне.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жабурэннё ў вадзе зялёная, плаўвае па вадзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Жабурэнё чапляецца за ногі, як ідзеш па вадзе. Па вадзе плывая жабурэня.* Альхоўка Навагр. *Жабурэня такое кучамі ў калужах.* Новікі Гродз. 2. *зб.* Зелле, трава. *Якога жабурэння сабяры свінням, травы, ці што.* Азяраны Раг.

ЖАБУРЫ'ННЯ III, ЖАБУРЭ'ННЯ, ЖАБУРЭ'НЯ *н.* 1. Цвіль, плесня. *Жабурыння — як зацягня страву плесняю.* Крупіца Мін. *Жабурэння — як гніе капуста, кіслая зрабілася, мяккая, паслюзла.* Бакшты Іўеў. 2. Гразь, ціна. *Як выберуць воду са студні, то адно жабурэня астаецца.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЖАБУРЫ'НЫ *мн.* Тое ж, што і ж а б у р ы́ н н я II, 1. *Жабурыны, збіўшыся па вадзе, іх с сажалкі граблямі цягаў. Жабурыны на стаячай вадзе.* Граўжышкі Ашм.

ЖАБУРЫ'НЯ *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ I

ЖАБУРЭ'ЙКА *ж.* Тое ж, што і ж а б ó р. *У жыце жабурэйка вельмо колецца.* Пасека Ст.-Дар.

ЖАБУРЭ'НЁ *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ II

ЖАБУРЭ'ННЕ *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ II

ЖАБУРЭ'ННЁ *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ II

ЖАБУРЭ'ННЯ I *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ I

ЖАБУРЭ'ННЯ II *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ II

ЖАБУРЭ'ННЯ III *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ III

ЖАБУРЭ'НЯ I *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ I

ЖАБУРЭ'НЯ II *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ II

ЖАБУРЭ'НЯ III *гл.* ЖАБУРЫ'ННЯ III

ЖА'БЫ-О'ЧЫ *мн. перан.* Вялікія прыгожыя вочы. *Жабы-очы — дужы очы, красівыя очы ў ней.* Малькуны Ігн.

ЖАБЭ'РАЧКІ *мн. памянш.* Дошчачкі. *Жабэрачкі — досточкі тоненькія, усаджвалі ў намаражні, с топля рабілі, ні шчапаліся* [баляснікі]. Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *žobaraĩ* 'сухія галіны'.

ЖАБЭ'РКА *н. памянш.* Рабрынка. *Жабэркі ўкусныя.* Лайпушкі, Малькуны Ігн. *З'еш жабэрка хоць адно.* Жодзішкі Смарг.; *параўн.* польск. *żaberko* 'тж'.

ЖАБЯ'К *м. заал.* Від шчупака. *Жабяк — кароткай формы шчупак. Жабякі водзяцца.* Бакшты Іўеў.

ЖАБЯНЯ'ТКА *н. памянш.-ласк.* Жабка. *Жабянятка скок у воду.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖАВАКО'СТ *гл.* ЖЫВАКО'СТ

ЖА'ВАРАНАК, ЖАВАРО'НАК, ЖА'ЎРАНАК, ЖАЎРО'НАК *м.* Жаваранак. *Жаваранак — сама снег злезе, угору леціць і леціць, а потым на землю апускаецца.* Пацаўшчына

Дзятл. *Жаваранкі прыляцелі, робяць гнёзды на палях і на лонках.* Едлавічы Брасл. *Як зіма злезя, жаваранак тут ужо.* Кіралі Шчуч. *Жаваранак на полі высока падымаецца пад воблакі.* Лука Нараўк. *Жаваранак прыляцеў.* Чычалі Швянч. *Жаваранак прылітаіць, кагда снегу нет савершэнна на палях.* Чарняўскія Лудз. *Жаваранак рана прылятае.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дзе жаваронак нясецца, і зязюлька знясецца. Жаваронкі на зямле гнёзда ўюць.* Кемялішкі Астр. *Жайранак пяець рана вясной.* Пасіене Лудз. *Жайронак прыляцеў і спявае ў полі.* Чычалі Швянч.

ЖА'ВАРАНКА, ЖА'ЎРАНКА *ж.* Тое ж, што і ж а́ в а р а н а к. *Летам рана жаваранка высока заліваецца.* Асавец Віл. *Жаваранка ў небя спявая.* Лісна В.-Дзв. *Жаваранка рэпы насеіла, трасецца і пяець.* Валынцы В.-Дзв. *Жаваранка прыляцела.* Рыбчына Віл. *Жайранка спявае ў полі.* Мярэцкія Глыб.

ЖАВА'ЦЦА *незак.* Жаваць. *Павэнджана сланіна ня жуецца.* Ракаўскія Швянч.

ЖАВА'ЦЬ, ЖВАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ж а в а́ ц ц а. *Пачаў жаваць: жую, ні пажую — зубоў німа.* Кіралі Шчуч. 2. Жаваць жваку. *Карова жуйку жуе.* Дакудава Лід., Малахоўцы Бар., Грыкені Вільн. *Карова ні перастае жаваць, усягда жуець.* Магуны Паст. *Жуе і жуе карова, калі і пад'есць.* Паляцкішкі Воран. *Не жуе карова.* Лісна В.-Дзв. *Карова жваку жвець.* Асавец Віл. *Каровы жваку сталі жваць.* Малькуны Ігн. *Жве карова жваку.* Мачаск Бярэз. *Жвачку жве карова.* Мішневічы Шум.

ЖАВІ'НА *ж. бат.* Ажына. *Жавіны збіраюць і варэнне вараць.* Глівін Барыс., Рудня Чэрв. *Не жавіны, а нейкія заморкі.* Мачаск Бярэз.

ЖА'ГА I *ж.* Пякотка. *Гарыць пад грудзьмі, есь мяне жаґа.* Дакудава Лід.

ЖА'ГА II *ж. бат.* Жыгучка. *Жаґу дзеці збіраюць і ў школу нясуць; жаґу на лякарства збіраюць. Дробненькая жаґа, кусаецца крэпка.* Малькуны Ігн.

ЖА'ГАРАС *м. заал.* Драч. *У лесе ля ракі жаґарас водзіцца.* Чычалі Швянч.; *параўн. літ. žùgara* 'птушка, якая жывіцца рыбай'.

ЖАГА'РЧЫКІ *мн. памянш.* да ж а ґ а́ р ы́. *Жаґарчыкі — сухія сучкі, іх парубаем, укіням у зявы, і хлеб запякаецца. Жаґарчыкі на падпал.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖАГА'РЫ', ЖАГУРЫ', ЖАГЯРЫ' *мн.* 1. Тонкае суччa, лом. *Жаґа́ры — сучкі большыя. Жаґа́ры — як цярэбяць лес. Крушня жаґа́роў.* Старыя Трокі Трак. *Жаґары́ — сухое тоненькае суччa.* Галоўні Воран. *Жаґара́мі тапілася ў печы, яловыя яны ці сасновыя.* Рагулішкі Даўг. *Жаґары́ — хвораст.* Чычалі Швянч. *Жаґары́ нада накладаць пад торп, пад сена.* Гемзы Шальч. *Жаґяры — сукі тонкія, крэпка сукаватыя, нада жаґя-*

*роў прыцягнуць.* Едлавічы Брасл. 2. Трэскі. *Жаґáры — трэсачкі ўсялякія.* Быстрыца Астр. *Ад лучыны сэрца секлі на жаґуры.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *żagary* 'шчэпкі, што буслы зносяць на гняздо' (СВ, VIII, 685), літ. *žagaraĩ* 'сухія галіны', руск. дыял. *жагра* 'драўляная губа і абгарэлыя анучкі' (Даль, I, 524).

ЖА'ҐАЦЦА *незак.* Пячы. *Жаґаіцца жаґіва.* Навікі Лудз.

ЖА'ҐЕЛЬ, ЖЭ'ҐЕЛЬ *м.* Моцны вецер. *Вее вецер моцны — жаґель, там паветранае места. Выправілі гэтых людзей на жэґель.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* ням. *Segel* 'парус, ветразь'.

ЖАҐІ'ВА *ж.* Тое ж, што і ж á ґ а II. *Жаґіва жаґаецца.* Навікі Лудз.

ЖАҐІ'НІ, ЖЭ'ҐЕНІ, ЖЭ'ҐІНІ, ЖЭ'ҐІНЫ, ЖЭ'ҐЯНІ *мн.* Азярод. *Жаґіні — як снежныя шчыты, наверх кладуць сена сушыць.* Старыя Трокі Трак. *У жэґенях згарэла семя.* Скрудалена Даўг. *Жэґені наб'юць, наложаць у жэґені гароху, і ён сохніць.* Кемялішкі Астр. *Боп толькі ў жэґінях нада спяліць, тады харашо лушчыўся, малаціўся боп, бяз жэґіняў не сахраніш яго. А для ячменя былі асобыя жэґіні — жэрдзі. Галоўкі льняныя, як абрэжуць — і ў жэґіні для семя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Астрыўё ставілі, жэрдачкі ўздзівалі і называлі жэґіні.* Лісна В.-Дзв. *Жэґіні дзелалі ўродзі рам; клалі ў жэґіні снапы, корм сушылі.* Валынцы В.-Дзв. *На жэґіні палажыў сушыць.* Быстрыца Астр. *Жэґіні — сена лажыць сушыць, бульбоўнік, гарох.* Ракаўскія Швянч. *Сена складаюць у жэґіні, с палкаў збітыя, сушаць у жэґінях.* Чычалі Швянч. *Галоўкі льну ложаць у жэґіні—у жэґінях сушылі.* Масішкі Красл. *В жэґінях згарэла семя.* Рагулішкі Даўг. *Жэґіны с палак саб'юць і сушаць.* Быстрыца Астр. *Жэґяні на гарох: сасонку рубалі, апсякалі, клалі досачкі, складалі галоўкі, спялілі, сушылі, а тады цапом пойсалі, малацілі. Боп, гарох сушылі на жэґянях.* Едлавічы Брасл. *парайн.* літ. *žagìniai* 'тж'.

ЖА'ҐЛІ *мн.* Тое ж, што і ж а ґ í н і. *На жаґлі палажылі сено сушыць.* Мсцібава Ваўк.

ЖАГНА'ЦЦА *незак.* Хрысціцца. *Ён мовіў пацяры, толькі кончыў жаґнацца і як закрычыць на жонку. А яна на яго: «Кап ты знік!»* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *żegnać się* 'хрысціцца, развітвацца'.

ЖА'ҐНУЦЬ *зак. экспр.* Укусіць. *Там крупная машкара, як жаґніць, ня пасядзіш.* Скрыпчына Лудз.

ЖА'ҐРЫ *мн.* Саха. *Жаґры меў, зямлю араў.* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *žãgrė* 'тж'.

ЖАҐУНЫ' *мн.* Мясцовая назва літоўскага насельніцтва. *Пашоў да жаґуноў.* Жылі Іўеў. *Жаґуны — назва жыхароў вёсак Герваты, Дзявенішкі, Лазуны.* Граўжышкі Ашм.

ЖАҐУРЫ' *гл.* ЖАҐА'РЫ'

ЖАҐЯРЫ' *гл.* ЖАҐА'РЫ'

ЖАДА'ЦЦА, ЖЫДА'ЦЦА *незак. безас.* 1. Хацецца. *Жадаецца яму яблыкі — і купляюць яму.* Кураполле Паст. *Жадалася ўсяго, а нічога ня з'ела.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ей жыдаіцца яго бачыць.* Кураполле Паст. 2. Мець патрэбу. *Скваркай не жадаюцца.* Жылі Іўеў.

ЖАДЗЁБА *м.* і *ж.* Скнара. *Жадзёба цалком есць, не жуе, але глыкая цалком.* Кіралі Шчуч.

ЖАДЗЁН, ЖА'ДЗІН у знач. *вык.* Ахвочы да чаго-н., мае патрэбу ў чым-н. *Ён галодны, жадзён хлеба, жадзён вары якой.* Кіралі Шчуч. *Я, як жаніўсе, жадзён бабамі.* Міратычы Карэл. *Чалавек жадзён картофлі, жадзён хлеба, ён дажа цыбулькі жадзён.* Рудня Астравітая Чэрв. *У голад і цыбулькі жадна.* Старое Сяло Зэльв. *Як вайной людзі хлеба былі жадны, прыварку, а ціпер панамі парабіліся.* Мсцібава Ваўк. *Ён жадзін бабамі.* Міратычы Карэл.

ЖА'ДЗІНА *м.* і *ж.* Тое ж, што і ж а д з ё б а. *Ты жадзіна, ты скупіньдзя, ты жалееш сама сабе.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖА'ДЛА, ЖА'ДЛО *н.* Джала. *Жадлам усякла пчала.* Быстрыца Астр. *Укусіла пшчала, жадло аставіла.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *żądło* 'тж'.

ЖА'ДНЫ I *прым.* Прагны, скупы. *Я баба не жадная.* Альхоўка Навагр. *Жадны хоча ўсё забраць, каб адно мне, а другому не.* Міратычы Карэл. *Жадна баба — лакома на чужоя, шмат есь.* Вялікія Баяры Шчуч. *Які ты жадны!* Баброўнікі Гарад. *Жадны, скупы, прапасны ты чалавек.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЖА'ДНЫ II, ЖО'ДНЫ у знач. *займ.* Ніякі, ніводзін. *Гаворыць без жаднага паняцця аб гэтым.* Пацаўшчына Дзятл. *Жадна баба з ім ні сажнецца.* Жылі Іўеў. *Жаднай вільгаці нет, балата паасушавалі.* Граўжышкі Ашм. *У яго німа жаднего рубля, нігоднага рубля.* Навасёлкі Свісл. *Не знае жаднага слова. Сядзіць бэж жаднай работы. Каструлі няма жаднай, прынесенай ад сабакі. За жадныя грошы ты не купіш такога адзеня. У яго няма жаднай бяды.* Паляцкішкі Воран. *Я жаднага слова не панімаю. Жаднай разніцы німа.* Парэчча, Каўняны Гродз. *Німа жаднага яблыка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Німа жаднае хусткі закруціць, усе памыла.* Альхоўцы Лях. *Німа ні жаднай карысці.* Быстрыца Астр. *Савецкая Армія нас асвабадзіла без жадного ўшчэрба.* Асташына Навагр. *Калісь не было труцізны жаднай.* Мсцібава Ваўк. *Ны жадного чоловіка ны було.* Дзмітравічы Кам. *Не было да гасцінку жаднэй хаты.* Грыкені Вільн. *Ні маю жаднай радні.* Старыя Трокі Трак. *Жаднай радні там нет.* Стракішкі Трак. *Жодных дрэў не было.* Чычалі Швянч.; *параўн.* укр. *жодный,* польск. *żaden* 'тж'.

ЖАДНЮ'ГА, ЖАДНЮ'КА *м.* і *ж.* Тое ж, што і ж а д з ё-

б а. *Ах ты жаднюга!* Лісна В.-Дзв. *Злыдзянь, жаднюка шкадуя ўсяго.* Азяраны Раг.

ЖА'ЖДА *ж.* Смага. *Як жажда піць, то выпіла п піва.* Мсцібава Ваўк.

ЖА'ЖДАЦЬ *незак.* Кваліцца, быць прагным. *На чужоя жаждая, ні жаждзіся на чужоя, сваё астанецца.* Рыбчына Віл.

ЖАК *м.* Рыбалоўная снасць: нерат з двума крыламі. *Жак с крыльямі, два крыла.* Валынцы В.-Дзв. *Жакамі ўгорыча лавілі. Жак с капшуком.* Лісна В.-Дзв. *Жакі с крыламі.* Мярэцкія Глыб. *Жака паставілі; жак, ці венцер — адно і тое ж.* Рыбчына Віл. *Жакі з сеткаю і абручамі, абручы круглыя. Ставілі жакі, жакі с крылушкамі, ён длінный, у ім куль, як у невадзе, у куль пападая рыба.* Азяраны Раг. *Жакі е, бы рэшата, ўшываюць палатно, уюны ловяць.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* польск. *żak* 'тж'.

ЖАКЕ'Т, ЖА'КЯТ *м.* Верхняе кароткае жаночае адзенне. *Жакеты калісь шылі, а цяпер больш швідры носяць.* Стракішкі Трак. *Жакет пашыла.* Грыкені Вільн. *Жакят адзень новы.* Старыя Трокі Трак.

ЖАКЕ'ТКА, ЖУКЕ'ТКА *ж.* 1. Тое ж, што і ж а к е́ т. *Жакетку злажы.* Кемялішкі Астр. *Жакетка яе была старая, але чыстая.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Верхняе кароткае мужчынскае адзенне; пінжак. *Жакетка мужчынская кароткая.* Саланое Віл. *Жакеткі шарачковыя насілі, яны кароткія былі.* Старыя Трокі Трак. *Скінь жукетку. Жукетка ў яго была с сукна кароткая.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖАКІ' *мн. абрад.* Валачобнікі. *Дзеці ў другі дзень пасхі хадзілі ў жакі, ім яйко давалі.* Крэва Смарг.

ЖАЛАБО'К *м. памянш.* да ж о́ л а б 1. *Жалабок цясёлкай вычасаюць.* Малькуны Ігн.

ЖАЛАЗАВА'ННЯ *н. вет.* Залазаванне. *Жалазавання ў каня, жалазуя конь, прама ўвесь гной прэ з яго праз нос.* Кіралі Шчуч.

ЖАЛАЗАВА'ЦЬ *гл.* ЗАЛАЗАВА'ЦЬ

ЖА'ЛАСНІК *м.* Жаласнік. *Жаласнік ён, адзін жыве, а ўсіх жалеіць.* Мішневічы Шум.

ЖА'ЛАСНЫ *прым.* Жаласлівы, чулы, спачувальны. *Яна такая жаласная, як што такое, дык плачыць.* Саланое Віл.

ЖА'ЛЕЖ *ж.* Няўдобіца. *Там жалеж, нічога не вырасце, як і пасееш.* Галубы Маст.

ЖАЛЕ'ЗА, ЗАЛЕ'ЗО, ЗЯЛЕ'ЗА *н.* 1. Жалеза. *Калёсы жалезам акуты.* Швэды Вільн. *Нагар такі ад залеза адлятая.* Малахоўцы Бар. *Залезом сэчэ.* Смаляніца Пруж. *Ржа на зялезя.* Асавец Віл. 2. Жалезная рэч. *Усе жалезы каб былі вон вынесены.* Паляцкішкі Воран. 3. Свяцільня. *Жалеза вісела — і відна было, як пралі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЖАЛЕ′ЗНІК *м.* Прас, які награвалі на агні. *Жалезнік брасалі ў агонь, а так быў прас.* Індра Красл.

ЖАЛЕ′ЗНІЦА, ЖАЛЯЗНІ′ЦА *ж. заал.* Мядзянка. *Жалезніца — гадзіна, яна быстрая, шах у куст — і схавалася.* Кіралі Шчуч. *Жалязніцаната жаля.* Гемзы Шальч.

ЖАЛЕ′ЗНЫ, ЗАЛЕ′ЗНЫ, ЗЯЛЕ′ЗНЫ *прым.* Зроблены з жалеза. *Жалезна кураўка — дымар.* Старыя Смільгіні Воран. *Буду часаць на жалезну шчэтку.* Кіралі Шчуч. *Барана дзеравяная, а зубы жалезныя.* Швэды Вільн. *Жалезныя осі.* Грыкені Вільн. *Бёрда былі залезныя.* Парэчча Гродз. *Вандзідло залезно.* Малахоўцы Бар. *Зялезныя дзераўяныя рагі* [у баране]. Дзяніскавічы Ганц. *У нас зялезныя начоўкі.* Асавец Віл.

ЖАЛЕ′ЗЫ *мн.* У выразах: *Ганяць у жалезы; у жалезы* — рабіць штучнае абсемяненне. *Ганялі ў жалезы карову. Куды ты* [вядзеш карову], *к бугаю? — Да не, у жалезы.* Ухвала Круп.

ЖАЛЕ′ЙКА *ж. муз.* Жалейка. *І Ганэтка чуіць, што ў бані граюць у жалейкі.* Кураполле Паст. *На жалейку бяруць траву маркоўнік — яна, як свісток.* Якубова Рас.

ЖАЛЕ′СКА *гл.* ЖАЛЯ′ЗКА

ЖАЛЕ′ТКА *ж.* Камізэлька. *Жалетка—бязрукаўка ў мужчын.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жалетка — біз рукавоў.* Янова Рас.

ЖАЛЕ′ЦЬ *незак.* 1. Шкадаваць каго-н. *Ён нікога не жалеіць.* Саланое Віл. *І дачка жалеіць мяне.* Груздава Паст. ∇ *Яна так яго жалела, як сабака палку. Нада жывога жалець, а не мёртвага.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Неахвотна аддаваць, скупіцца. *Кансервную банку жалеіш?* Саланое Віл.

ЖА′ЛІ *гл.* ЖАЛЬ

ЖА′ЛІЦЦА *незак.* 1. Выказваць жальбу, незадаволенасць. *Як пачнець жаліцца — і канца німа.* Саланое Віл. *Ністары памёр, жаліўся, што галава балела.* Валынцы В.-Дзв. *Жаліцца ня будзіць каму.* Груздава Паст. 2. Скардзіцца на каго-н., што-н. *Праўда ці не праўда, а жаліўся пастаянна, што яго пакрыўдзілі.* Лісна В.-Дзв.

ЖАЛКАВА′ЦЬ *незак.* Шкадаваць, бедаваць. *Ап чым мне жалкаваць?* Грыкені Вільн.

ЖАЛКНЕ′ЦЬ *незак.* Жаўцець, жоўкнуць. *Без пары пачалі лісты жалкнець.* Гемзы Шальч.

ЖАЛО′БА *ж.* 1. Смутак з прычыны чыёй-н. смерці. *Памёр бацько, сын носіць жалобу.* Міратычы Карэл. 2. Чорнае адзенне, павязка, вуаль і іншае як сімвал смутку. *Жалоба — усё чорнае накладаюць.* Навасёлкі Свісл. 3. Памінкі. *Жалоба была велькая.* Граўжышкі Ашм. *Сягоння ў нас жалоба, памёр чалавек.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *żałoba* 'тж'.

ЖАЛО′БНЫ АБЕ′Т *м. абрад.* Памінкі. *Нябошчыка пахавалі і справілі жалобны абет.* Магуны Паст. *Пахаваюць і жалобны абет робяць.* Быстрыца Астр. *Жалобны абет адышоў —*

*яна паказала дакумент на хату.* Індра Красл. *Жалобны абет рабілі — памінальны стол.* Ракаўскія Швянч.

ЖАЛО'БНЫ СТОЛ *м.* Тое ж, што і ж а л о́ б н ы а б е́ т. *Быў заказан абет на пядьдзясят чалавек — жалобны стол.* Ахрэмаўцы Брасл. *На жалобны стол трэба паставіць тры стравы.* Альхоўцы Лях. *Так запрашалі да жалобнага стала: «Прашу бога і вас на жалобны стол».* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖАЛО'ВАЦЬ *незак.* Шкадаваць. *Ён сабе есць жалуя, жмінда гэты.* Жылі Іўеў. ∇ *Нашто жаловаць ружы, калі лясы гарацы.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *żałować* 'тж'.

ЖАЛО'ЗА *ж.* Залоза. *Жалозы на шыі напухлі.* Пацаўшчына Дзятл. *Жалозы такія велькія.* Галубы Маст.

ЖАЛО'СНА, ЖАЛО'СНЯ *прысл.* Жаласна. *Мама жалосна пяяла.* Ністанішкі Смарг. *Мама пела так жалосня.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* польск. *żałośnie* 'тж'.

ЖАЛТА'ЧКА *гл.* ЖАЎТА'ЧКА

ЖАЛТА'ЧНІК *м. бат.* Падтыннік. *Пат школай поўна жалтачніку.* Ёдлавічы Брасл.

ЖАЛТКО' *н.* Жаўток. *Жалтко і бялтко ў яйку.* Ліпнікі Вільн. *У яйку жалтко.* Старыя Трокі Трак.

ЖАЛТО'К *гл.* ЖАЎТО'К

ЖАЛУБАВА'ТЫ *прым.* Пакарабачаны. *Жалубаватая хвоя — дзераво няроўнае, як карыта вывернутае.* Пацаўшчына Дзятл.

ЖАЛУБНУ'ЦЬ *зак.* Крыху з'есці, глынуць. *Троху жалубну — і пайду.* Магуны Паст. *Трохі жалубнула бурака — трохі з'ела пакрышанага бурака цялушка. Жалубнуць дай рас.* Крэва Смарг.

ЖАЛУ'Д, ЖАЛУ'Т *м.* Жолуд. *Жалуд бальшы, такія на адном дубе.* Асавец Віл. *Лес — аднэ дубэ, свінні збіраюць жалудэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзіке жалудзе і карэня ядуць свіні.* Кіралі Шчуч. *Жалуд вялікі.* Ракаўскія Швянч. *Жалуды збіраюць дзеці.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Заваляўся адзін жалут.* Вязынка Маладз. *З дуба ўпаў жалут, а колькі ж іх у дубніку.* Якубова Рас. *Жалут прарасцець і дуп вырасціць.* Ёдлавічы Брасл.

ЖАЛУ'ДАК *м.* Страўнік. *Памёр ж жалутка. Жалудак не рабіў.* Альхоўцы Лях. ∇ *У жалудку арганы іграюць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖАЛУДО'ВЫ *прым.* Які мае адносіны да жолуда, прыгатаваны з жалудоў. *Кофе жалудовая добра ад паносу.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖАЛЬ *м.*, ЖА'ЛІ *мн.* 1. Смутак, туга. *Як нагалосісся, то ляхчэй, жаль выходзіць.* Кураполле Паст. *Асталася ўдавой, як прыпомню мужыка, жаль бярэ.* Старыя Трокі Трак. 2. Засмучэнне, шкадаванне. *Яго там жалі забралі, што радной*

*бацька яго біў.* Кураполле Паст. 3. у знач. *безас. вык.* Шкада. *Ці жаль табе багаства? — Не, ні жаль.* Лісна В.-Дзв.

ЖА'ЛЬНЯ *ж.* Жняя. *Вясной, як падымалася жыта, хадзілі ў жыта і піялі жытнія песні: «Жніця, жніця, жальні маладыя! А мы жальні ні ліжалі, сорак коп нажалі».* Лісна В.-Дзв.

ЖАЛЯ'ЗКА, ЖАЛЯ'СКА, ЖАЛЯ'СКО, ЖАЛЕ'СКА, ЖЭЛЯ'СКА, ЗАЛЯ'СКО *н.* 1. Тое ж, што і ж а л ё з н і к. *Нагрэй жалязка і атпрасуй сукно.* Галубы Маст. *Раскладзі жаляска прасаваць плацце.* Данілавічы Дзярж. *Нагрэецца жаляско, і буду гладзіць. Хачу пагладзіць жаляскам.* Бабро̆унікі Гарад. *Набіралі вуглякоў і распальвалі жэляска.* Кіралі Шчуч. *У заляско жар накідаюць гладзіць.* Гайна Лаг. 2. Электрычны прас. *Жалеска ўключы.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *żelazko* 'тж'.

ЖАЛЯЗНІ'ЦА *гл.* ЖАЛЕ'ЗНІЦА

ЖАЛЯЗНЯ'К, ЗАЛЯЗНЯ'К *м.* 1. Драўляная лапата, акаваная жалезам. *Забяру жалязнякі.* Паляцкішкі Воран. *Жалязняк у сярэдзіне дзерайяны, а крае акованы жалезам.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Жалезная рыдлёўка. *Залязняк — невялікая лапата. Залязняком капалі землю.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖАЛЯЗЯ'НКА *ж.* Тое ж, што і ж а л ё з н і ц а. *Жалязянка — від гадзіны.* Жылі Іўеў.

ЖАМЕ'РАНЫ *гл.* ЖАМЕ'РЫНЫ

ЖАМЕ'РВІНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і ж а м ё р ы н ы. *Жамервіны астаюцца, як што выціснеш. Як білі алей, заставаліся жамервіны і макуха, як выцісніш яга.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖАМЕ'РНІНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і ж а м ё р ы н ы. *Жамерніны з ягат, яблык, з канапель, каторыя працэдзіш і выцісніш.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖАМЕ'РЫ толькі *мн.* Тое ж, што і ж а м ё р ы н ы. *Жамеры ад калапень астаюцца. Ад воску астаюцца жамеры — смуга, жмыха. Алей ціснулі — жамеры аставаліся. Ад кісяля аставаліся жамеры ў рэшаце.* Саланое Віл. *Жамеры, як выжмеш ягады.* Мсцібава Ваўк. *Калапне тайклі, што ў яду ішло, а жамеры — асобна.* Беразіно Докш. *Жамеры адны астаюцца, як усе вымаіш, як мылі крухмал.* Палік Барыс. *Каноплі ачышчалі ад жамер і ў печ — варылі, скідалі ў гаршчок лошкай і елі.* Мачаск Бярэз.

ЖАМЕ'РЫНЫ, ЖАМЕ'РАНЫ толькі *мн.* Жамерыны. *Жамерыны, ці каструкі, як ягады выжымаеш.* Кураполле Паст. *Жамерыны — выжымы ад ягад.* Мсцібава Ваўк. *Змеля жыто ці пшаніцу буйно, то кажуць: «Вот змалоў, адны жамерыны». Лупіны ад канопляў — жамерыны. Дзікі мак-відук не меліцца, цвёрды, што якія жамерыны.* Міратычы Карэл. *Жамерыны, як што-небудзь выціскаюць, што астаецца.* Альхоўцы Лях. *Жамерыны — лушчыны із семя, канопляў, асядаюць на дне,*

*як зальюць муку з семя вадою. Жамерыны з семя, лушчыны с канаплёў, луска. Жамерыны — з воску адход, фус.* Навасёлкі Свісл. *Жамерыны — выжымкі з аўсянага кісяля.* Малахоўцы Бар. *Жамерыны — жмыха з льнянога семя.* Масілавічы Сл. *Як церлі каноплі, малако рабілі, цадзілі, луска, што астаецца,— жамерыны.* Малькуны Ігн. *Жамерыны — аджымкі цвёрдых рэштак ягад, яблыкаў, адцэдзіш, а там астаюцца жамерыны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жамерыны — адыходы ад семечак, семя ільну, канаплі.* Гайна Лаг. *Жамерыны ад канопляў.* Мачаск Бярэз. *Жамерыны — як труць семя лёну ці канаплі.* Данілавічы Дзярж. *Жамерыны ад ягат кінь каровя ў цэбар. Жамерыны ад воску.* Вецярэвічы Пух. *Як плаваюць часцічкі пергі, воску ў мяду — жамерыны.* Мішневічы Шум. *Жамераны застаюцца, як воск выціснуць, і ад канапель, і ад алею.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* укр. *жемериння* 'макуха', літ. *šamaraĩ* 'парушынкі, саломінкі'.

ЖАМКІ' толькі *мн.* Тое ж, што і ж а м е́ р ы н ы. *Жамкі ад калапнёў. Жамкі ад воску.* Рыбчына Віл.

ЖАМЯРА' *зб. ж.* 1. Тое ж, што і ж а м е́ р ы н ы. *Жамяра асядая, трэба сабраць і вон.* Граўжышкі Ашм. 2. *перан.* Дзятва. *Яны і дом разнясуць, такая жамяра сабралася.* Ёдлавічы Брасл.

ЖАМЯРНІ'К *м. перан.* Тое ж, што і ж а д з ё б а. *Вот жамярнік, што свет не відаў.* Жылі Іўеў.

ЖАМЯРНІ'ЦЫ толькі *мн.* Тое ж, што і ж а м е́ р ы н ы. *Жамярніцы — адходы ад алею.* Жылі Іўеў.

ЖАМЯРУ'ХА *ж.* Тое ж, што і ж а м е́ р ы н ы. *Жамяруха апсела, выкінь яе.* Граўжышкі Ашм.

ЖАМЯРЫ'ННІК *м.* Тое ж, што і ж а д з ё б а. *Жамярыннік — скупы, завідны, шкадуя сам сабе з'есці.* Жылі Іўеў.

ЖАМЯРЫ'ТНІК *м.* Тое ж, што і ж а д з ё б а. *Жамярытнік сабе есць жалуя.* Жылі Іўеў.

ЖАНА' *ж.* Жонка. ∇ *Жана — тупая піла, не маглі ўжыць — дзёрлі ката* [сварыліся]. Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *жена* 'тж'.

ЖАНА'ТЫ *прым.* Жанаты. *Ён даўно жанаты.* Пацаўшчына Дзятл. *Із жанатым гуляла.* Груздава Паст.

ЖАНДО'ВЫ *прым.* Дзяржаўны. *Жандовая балота. Хлявы былі жандовыя.* Быстрыца Астр.; *гл.* ж о н д.

ЖАНІ'ДЖБА *ж.* Жаніцьба. *Ты апазорысся гэдакой жаніджбаю.* Міратычы Карэл.

ЖАНІ'Х, ЖАНІ'К *м.* 1. Жаніх. *Гэта яе жаніх; хутка на вяселлі будзем гуляць.* Мачаск Бярэз. *Жанік прыехаў да яе.* Паляцкішкі Воран. *Жанік яе прышоў з войска, будзя жаніцца.* Ністанішкі Смарг. *Жанік, калі ўжо жэніцца.* Магуны Паст. *Жанік непрыгожы.* Стральцы Гродз. *Жанік даўно на месці.* Рагулішкі Даўг. 2. Халасты мужчына, які шукае сабе

нявесту. *Ездзіў гэты жаніх па вёсках, а ці знайшоў сабе вартую дзяўчыну — невядома.* Кіралі Шчуч. ∇ *Вот жанік — хата на патпорах, а брычка на рысорах.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖАНІ'ЦЦА *незак.* Жаніцца. *Быў жаніўся, прывёс бабу, ды атвёс.* Саланое Віл. *Як жаніцца, то трэба было ісці ў пана пытаць.* Грыкені Вільн.

ЖАНУ'ХНА *ж. памянш.-ласк.* да ж а н а́. *Жанухна мая паехала ў горат.* Талейкі Швянч.

ЖАНЬБА' *ж.* Тое ж, што і ж а н і д ж б а. *Ні пра замуж, ні пра жаньбу ні гаворым.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖАНЮ'Х, ЖАНЮ'К *м.* 1. Тое ж, што і ж а н і х 1. *Жанюх прыехаў.* Міратычы Карэл., Старое Сяло Зэльв. *Жанюх багаты, а які ён чалавек — шчэ невядома.* Вялікія Баяры Шчуч. *Прыходзіў жанюк да яе.* Паляцкішкі Воран. *Жанюк такі з яго!* Навасёлкі Свісл. 2. Тое ж, што і ж а н і х 2. *Жанюх прыгожы, высокі, ды і яна нічога сабе, зграбненькая.* Вялікія Баяры Шчуч. *Трэба было жанюха браць і ехаць.* Альхоўка Навагр.

ЖАР *м.* Гарачае вуголле. *Жар клалі ў прас.* Кураполле Паст. *Выграпсці трэба жар.* Мярэцкія Глыб. *На жар паставіў патэльню.* Рыбчына Віл. *Трэба налажыць дроў, штоб жар быў.* Старыя Смільгіні Воран. *На жарэ скора закіпіць саганчык.* Кіралі Шчуч. *Нада жару ў прас.* Лайпушкі Ігн.

ЖАРА' *ж.* 1. Гарачыня, спёка. *На жарэ пякліся.* Альхоўка Навагр. *Чаго ты на жарэ ходзіш?* Крэвені Даўг. *Сорак градусаў жарэ.* Дзяніскавічы Ганц. *Была велька жара, аш не было чым дыхаць.* Кіралі Шчуч. *Жара сягоня, так парит.* Скрудалена Даўг. *Здаецца, і жарэ нэ было.* Смаляніца Пруж. 2. у знач. *прысл. жаро́й, жаро́ю.* У спякоту, гарачыню. *Жарой халадні́чок ідзець добра.* Саланое Віл. *Няхота ў лаўку ісці жарою.* Альхоўцы Лях. 3. Высокая тэмпература цела. *Яна ўся ж жары гарыць, гаворыць абы-што.* Малахоўцы Бар.

ЖАРАБЁ *гл.* ЖАРАБЯ'

ЖАРАБЁНАК *м.* Жарабё. *Жарабёнак сыты, глаткі.* Палік Барыс.

ЖАРАБЁТКА *н. памянш.-ласк.* да ж а р а б ё. *Жарабётка цэлы дзень каля кабылы: у лес, на поле.* Асавец Віл.

ЖАРАБІ'К *м.* Завостраная цурка, якой вяжуць снапы. *Жарабік — вязаць снапы дручок, заструганы канец пад пярэвясло пудтыкалі.* Лука Нараўк.; *параўн.* літ. *žãbaras* 'сухая галіна'.

ЖАРАБІ'ЦА *ж.* Жаробка. *Жарабіца падала жватом.* Стральцы Гродз. *Жарабіца была хароша.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖАРАБУ'К *м.* Жарабок. *Жарабук галодны.* Жылі Іўеў. *Жарабук уцёк.* Груздава Паст. *Жарабук на дварэ.* Паляцкішкі Воран. *Жарабук двух зім.* Кемялішкі Астр. *Такі вялікі лось, як жарабук.* Грыкені Вільн. *Жарабук, як венкшы.* Но-

выя Мацалі Варэн. *Адсояць яго, жарабука.* Старыя Трокі Трак.

ЖАРАБУЧО́К *м. памянш.-ласк.* да ж а р а б у́ к. *Жарабучка напаі.* Старыя Смільгіні Воран. *Жарабучок каля маткі.* Новыя Мацалі Варэн. *Трэба адлучыць жарабучка.* Ліпнікі Вільн. *Жарабучка закладаяць у сані і абучаяць яго.* Старыя Трокі Трак.

ЖАРАБЯ́, ЖАРАБЁ, ЖЭРЭБЯ́ *н.* Тое ж, што і ж а р а б ё н а к. *Жарабятам вешалі на шыю званок.* Магуны Паст. *Кабыла і жарабя бягуць трушком.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гадавое жарабё ў нас.* Рыбчына Віл. *Жарабё — сысун.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кабыла пасецца з жэрэбем.* Баброўнікі Гарад.

ЖАРАЛО́, ЖАРАЎЛО́, ЖУРАВО́, ЖУРАЛО́, ЖЫРАЛО́ *н.* 1. Адтуліна (у зямлі). *У крыніцы жарало, вада з яго бяжыць.* Навасёлкі Свісл. *Вада прабіла жарало.* Дзяніскавічы Ганц. *Жарало — гэто такая жыла выбіваецца з зямле.* Мсцібава Ваўк. *Як праб'е дзе дзірка, ляціць вада — гэта жарало ў зямлі.* Старое Сяло Зэльв. *Вада ў зямлі ідзець — гэта жураво. Жураво ў зямлі, б'ець вада.* Асавец Віл. *Усё журало заплыло балотам—німа вады ў студне.* Гемзы Шальч. *Вада натта добрая з журала бяжыць. Выберам і січас наляціць.* Саланое Віл. *Жырало, гдзе вада б'е, гдзе вада выбівалася.* Гемзы Шальч. 2. Вір. *Жарало на рэчцы аткрылася, напаў на жарало і ўтапіўся.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Прорва. *У само жырало (журало) уляцеў — у балота.* Лісна В.-Дзв. 4. Адтуліна, дзірка ў рыбалоўнай снасці. *Нерот — з двума жараламі, чарпак — з адным жаралом.* Пасіене Лудз. *Жарало ў бучку санціметраў трыццаць у длінку. У міpожы і ў бучку два жарала.* Істра Лудз. *У нораці журало бальшоя і лепш залезіць у норат і ня вылізіць.* Валынцы В.-Дзв. 5. Адтуліна ў трубе. *Жарало ў трубе бальшое.* Альхоўцы Лях. *Трубы густа слалі, жарало е ў трубах.* Вецярэвічы Пух. 6. Лаз у склепе. *Жарало добра закрый у пограбе, а то дошч будзе.* Ухвала Круп. 7. Пра́ток, малочны канал. *Жарала малыя ў каровы, цяшко даіць.* Мсцібава Ваўк. *Жарало ў цыцках як вельке, то добра даіць, як тонкае, то цвёрда. Жаралэ шырокія і вускія. Запаленне ў жаралэ.* Кіралі Шчуч. *У цыцы ў каровы жарало ест.* Вялікія Баяры Шчуч. *У каровы ў цыцках е жарало.* Дзяніскавічы Ганц. *Жорла ў сіськах каровы, у дойках.* Парэчча Гродз. *У каровы ў цыццы жараўло.* Вялікія Баяры Шчуч. *У цыцках у каровы журало замярло, і малака німа. У кабыліных цыцках жыралэ.* Гемзы Шальч. *Жырало ў каровы ў цыццы, бывае дзве жырале.* Навасёлкі Свісл.

ЖАРАЛЦО́ *н.* 1. *памянш.* да ж а р а л о́ 1. *Жаралцо абрасла гразею.* Вецярэвічы Пух. 2. *памянш.* д а ж а р а л о́ 7.

*Жаралцо, як у адной сысцы па дзве жаралцы, тады малако сеецца.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖА′РАНЫ *прым.* Смажаны. *Жараныя грыбэ найсмашнейшыя.* Кіралі Шчуч.

ЖАРА′ТАК *м.* Тое ж, што і ж а р. *Парацъ млека, у жаратак ставяць.* Магуны Паст. *Жаратак — дробны, пасечаны жар; у ямку зграбаюць жаратак.* Жодзішкі Смарг. *Адзін жаратак у печы.* Ністанішкі Смарг. *Жаратак выгортваюць у ямку.* Ракаўскія Швянч.

ЖАРАЎЛІ′НЫ *гл.* ЖУРАВІ′НЫ

ЖАРАЎЛО′ *гл.* ЖАРАЛО′

ЖА′РГАЦЬ *гл.* ЖЭ′РГАЦЬ

ЖАРДЗЁ, ЖАРДЗЕ′ *зб. н.* Жэрдзе. *Ідзі ў канец, убачыш ляжыць жардзё, там цётка твая жыве.* Стральцы Гродз. *Жардзе — плот гарадзіць, калкі, калы паравіваюць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖАРДЗІ′ *мн.* Палок у лазні. *У лазне ўсе лезуць на жардзі.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *žãrdas* 'прыстасаванне з жэрдак для сушкі чаго-н.'

ЖАРДЗІ′НА *ж.* 1. Жэрдка, якой умацоўваюць сена, салому на возе; рубель. *Жардзіна — вос уціскаць.* Янова Рас. 2. Тое ж, што і з ы́ б а ў к а 2. *Зыпка — жардзіна, іна зыпкая люльку.* Лісна В.-Дзв.

ЖА́РДЫ′ толькі *мн.* Тое ж, што і ж а ґ і н і. *Гарох сушылі на жардах.* Старыя Смільгіні Воран. *На жардах сена сушаць, складаюць.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *žãrdas* 'прыстасаванне з жэрдак для сушкі'.

ЖАРЖАВІ′ННЯ *н.* Іржа. *Жаржавіння — гразь рэдкая, клейкая на балоце.* Саланое Віл.

ЖА′РКА *прысл.* 1. Горача. *Жарка ў кашулі.* Груздава Паст. 2. Ярка. *Звязда жарка свеціць.* Дакудава Лід.

ЖАРКА́ТА′ *ж.* Тое ж, што і ж а р а́ 1. *Жарката такая, каб у рэчку акунуцца дзе.* Мачаск Бярэз.

ЖАРЛІ′ВЫ, ЖО′РЛІВЫ, ЖЫРЛІ′ВЫ *прым.* Пражэрлівы. *Ён ні гэдакі жарлівы.* Міратычы Карэл. *Жарлівыя вуткі, мохам з сажалкі кармілі.* Ракаўскія Швянч. *Жорлівая карова, можа ўбаёдаць сама сябе.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Карова жырлівая.* Мярэцкія Глыб.

ЖАРНАВІ′ШЧА *мн.* Жорны. *У жарнавішчах малолі жыта.* Пасіене Лудз.

ЖАРНАВЫ′, ЖАРНАВО′Й, ЖЭРНАВЫ′, ЖЭРНО′ВЫ *прым.* Які з'яўляецца часткай жорнаў або мае адносіны да жорнаў. *Можна жарнавы камень палажыць.* Сакаўшчына Валож. *Быў верхні жарнавы камянь і ніжні.* Рыбчына Віл. *Жарнавы камень у жорнавах быў, другі — на восьцы.* Пацаўшчына Дзятл. *Камянь жарнавы: адзін сподні, другі верхні.* Кіралі Шчуч. *Трэба накаваць жарнавы камень.* Мсцібава

Ваўк. *Сподні жарнавы камянь.* Жодзішкі Смарг. *Жарнавы хлеп — з мукі пасля жорнаў.* Дакудава Лід. *Хлеп жарнавы быў, намеліў у жорнах.* Кіралі Шчуч. *Разышоўся, як камянь сподні жарнавы.* Старыя Трокі Трак. *Быў жарнавой малаток.* Валынцы В.-Дзв., Лайпушкі Ігн. *Жэрнавы камень: верхні і сподні.* Кемялішкі Астр. *Жэрновы стол.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖАРНАКЛЁЎ *м.* Жарнасек. *Жарнаклёвы каменя вырабатывалі на жорна.* Жылі Іўеў.

ЖА′РНАЎКА *ж.* Тое ж, што і ж а́ в а р а н а к. *Жарнаўка — маленькая птушачка, высока лётае і так пяе хораша.* Мачаск Бярэз.

ЖАРНО′ *н.* Камень у жорнах. *Планка жалезная, здзеланая храстом з дзіркай, у каторую ўстаўляюць верхняе жарно.* Ухвала Круп.

ЖА′РНУЦЬ, ЖЭ′РНУЦЬ *зак. экспр.* 1. Ударыць, выцяць. *Жарнуў харашэнька, аж прысеў. Калі жарнула дзягай, аж рубец падняўся; от жарнуў кнутом.* Кураполле Паст. *Жарнула дзягай — са скуры вывярцеўся.* Пацаўшчына Дзятл. *Як вырасту, як жарну, а каму — ня сказаў.* Ракаўскія Швянч. *Целёнак жарнуў мне нагой.* Лісна В.-Дзв. *Цялушка як жарніць мне ў грудзь; як жарнала, так вот і пятна.* Старыя Смільгіні Воран. *Цялёнак так жарнуў мне нагою ў груць, аш у вачах пацямнела.* Кіралі Шчуч. *Жарнуў пасам мяне.* Старыя Трокі Трак. 2. Рэзнуць. *Як жэрнула сярпом, раздваілася костка.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *žer̃ti* 'ўдарыць'.

ЖАРО′БНАЯ, ЖАРЭ′БНА, ЖЭРО′БНА *прым.* Жарэбная. *Наша кабылка жаробная.* Асавец Віл. *Кабыла жаробна.* Вострава Маст. *Кабыла жарэбна.* Кемялішкі Астр. *Кабыла жарэбная.* Ахрэмаўцы Брасл., Старыя Смільгіні Воран. *Кобыла жэробна.* Смаляніца Пруж.

ЖАРО′МІНЫ толькі *мн.* Тое ж, што і ж а м ё р ы н ы. *Жароміны ад аўса.* Жыдзевічы Іўеў.

ЖАРО′НДА *ж.* Люстра. *У хаце запалілі жаронды.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *żyrandol* 'тж'.

ЖАРО′НКА, ЖА′РЕНКА *ж.* Што-н. смажанае. *Злавіў бы рыбы — жаронка была бы.* Саланое Віл. *Нескалька баравікоў — акраз жаренка.* Мішневічы Шум.

ЖАРО′НКІ толькі *мн.* Страўнік у птушак, пуп. *У куры жаронкі. Мама, дай мне жаронкі.* Рагулішкі Даўг.

ЖАРО′НЦЫ толькі *мн.* Тое ж, што і ж а р о́ н к і. *Жаронцы ў кур, у гусей. Зернета ў волюшку, а ў жаронцах жвірок.* Шамялі Брасл.

ЖАРСВЯ′НЫ *гл.* ЖАРСЦВЯ′НЫ

ЖАРСТВА′, ЖЭРСТВА′ *ж.* Буйны пясок, дробныя каменьчыкі. *Поўныя вочы нанясло жарствы, вочы рэжыць.* Ёдлавічы Брасл. *Жарству даём курам.* Рыбчына Віл. *Жарства — дробныя каменьчыкі.* Альхоўцы Лях. *Жарствой пол шаравалі.*

Рудня Астравітая Чэрв. *Трэба жарствы курам прынесці.* Вецярэвічы Пух. *Жарства — гэто дробнае камене.* Баброўнікі Гарад. *Жэрства пад нагамі, разлітаецца ў стораны.* Мішневічы Шум.

ЖАРСТВАВЫ′ *прым.* Жарсцвяны. *Жарстваная гоны, дзе жарства.* Кіралі Шчуч.

ЖАРСТВІ′НЕЦ *м.* Глеба з перавагай жарствы. *Адзін там жарствінец; што можа на тым месцы вырасці?* Альхоўцы Лях.

ЖАРСЦВЯ′К, ЖЭСЦВЯ′К *м.* Тое ж, што ж а р с т в і н е ц. *Пасадзілі бульбу на жарсцвяку, нейкая будзя. На жарсцвяку ні расцець нічога.* Саланое Віл. *От, якая там зямля — жэсцвяк адзін.* Глівін Барыс.

ЖАРСЦВЯ′НЫ, ЖАРСВЯ′НЫ *прым.* Тое ж, што ж а р с т в а в ы. *Жарсцвяны камянь паб'ем і курам даём; жарству даём курам.* Рыбчына Віл. *Жарсвяны камінь — як ударыш, то і разваліцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖАРТ *м.* Жарт. *Гэта ўсё жарты, не звяртай увагі.* Чычалі Швянч.

ЖАРТАВА′ЦЬ *незак.* Насміхацца, кпіць. *Ні жартуй ты над ім: што зробіш, калі ён такі маўчун!* Альхоўцы Лях.

ЖАРТАЎЛІ′ВЫ, ЖАРТУЛІ′ВЫ, ЖАРТЛІ′ВЫ *прым.* Схільны, ахвочы да жартаў (пра чалавека). *Нато жартаўлівы і смяшлівы чалавек.* Каўняны Гродз. *Жартаўлівы такі дзед быў.* Калясное Міхал. *Жартулівы быў Юзюк.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён жартлівы, любіць жартаваць.* Дакудава Лід.

ЖАРТАЎНІ′ЦА *ж.* Тая, хто любіць жартаваць. *Цяпер німа жартаўніц, не хочацца жартаваць.* Баброўнікі Гарад.

ЖАРТО′ЎНІК *м.* Той, хто любіць жартаваць. *Жартоўнік ён, зара пажартуе.* Баброўнікі Гарад.

ЖАРХУНЫ′ *мн.* Шамкі. *Жархуны на шыі ў каня — званкі такія.* Крэва Смарг.

ЖА′РЫ, ЖА′РЫЙ *прым.* Жоўта-карычневы, рыжы. *Жары конь, адкуль такі?* Глівін Барыс. *Жары — краснаваты конь.* Нізок Уздз. *Жарый — рудый конь.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЖА′РЫЦЬ *незак. экспр.* 1. Моцна прыпякаць. *Сенё горш жарыць сонца, як учоро.* Альхоўцы Лях. 2. Моцна ісці (пра дождж). *Дош жарыць — вялікі дош.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ната дошч жара.* Гемзы Шальч. 3. Сцёбаць, хвастаць. *Трэба плечы венікам жарыць.* Гемзы Шальч.

ЖАРЭ′БНА *гл.* ЖАРО′БНАЯ

ЖА′ЎГАЦЬ, ЖА′ЎКАЦЬ, ЖО′ЎГАЦЬ, ЖО′ЎКАЦЬ *незак.* Чмякаць бяззубым ротам. *Стары без зубоў жаўґая.* Старыя Смільгіні Воран. *Я жаўкаю: у куце зубоў няма. Што ты там жоўкаеш у губе?* Магуны Паст. *Жоўґаю, жоўґаю — і нічога не выходзіць.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *žiáugoti* 'тж'.

ЖАЎНА′ I, ЖОЎНА′ *ж. заал.* Жаўна. *Чорная жаўна дзерава прадаўбаіць. Жоўтая жаўна ў нас ёсць.* Кураполле Паст.

*Жоўны — пташкі такія.* Дакудава Лід. *Жоўна — птушка з доўнай дзюбай, язык доўны, пчол есць.* Вецярэвічы Пух.

ЖАЎНА′ II *ж.*, ЖО′ЎНЫ *мн.* Гузы. *У чалавека гузэ на шыі — жаўна.* Старое Сяло Зэльв. *Гаварылі, былі жоўны ў людзей, асобенно на шыі. Бывая чалавек у шрамах ад жоўнаў, як іх выражуць.* Ісерна Слуц.

ЖАЎНАВА′ТЫ *прым.* Гузаваты. *Чалавек жаўнаваты — гузэ, жаўна на шыі.* Старое Сяло Зэльв.

ЖАЎНЕ′Р *м. устар.* Салдат польскай арміі. *Жаўнер увайшоў у хату.* Талейкі Швянч.; *параўн.* польск. *żołnierz* 'тж'.

ЖА′ЎРАНАК, ЖАЎРО′НАК *гл.* ЖА′ВАРАНАК

ЖА′ЎРАНКА *гл.* ЖА′ВАРАНКА

ЖАЎРУ′К *м.* Тое ж, што і ж а́ в а р а н а к. *Жаўрук харашэ спявае.* Вострава Маст.

ЖАЎСЦВІ′НЕЦ *м.* Жоўты пясок. *Там адзін жаўсцвінец жоўты.* Тухавічы Лях.

ЖАЎТАБРУ′ШКА, ЖОВТОБРУ′ШКА *ж. заал.* Жаўтапузік. *Жаўтабрушка — невялікая птушка, жоўценькая.* Альхоўка Навагр. *Жовтобрушка сіла на голыны.* Сіманавічы Драг.

ЖАЎТАВА′ТЫ *прым.* Злёгку жоўты. *Сукня жаўтаватага колеру.* Рыбчына Віл. *У яго жаўтаваты, хваравіты выгляд твару.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖАЎТА′ВЫ, ЖАЎТЛЯ′ВЫ *прым.* Тое ж, што і ж а ў т а в а́ т ы. *Надрала цвету з ліпы, пасушыла, стаў жаўтавы; добро піць, калі горло баліць.* Стральцы Гродз. *Млека жаўтава.* Жылі Іўеў. *Жаўтава масла, жырнае.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Цвет жаўтлявы нейкі.* Мачаск Бярэз.

ЖАЎТА′К *гл.* ЖАЎЦЯ′К

ЖАЎТАПЕ′С *м.* Тое ж, што і ж а ў с ц в і́ н е ц. *Жаўтапес — жоўты пясок.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖАЎТА′ЧКА, ЖОЎТА′ЧКА, ЖАЛТА′ЧКА, ЖУЛТА′ЧКА *ж. мед.* Жаўтуха. *Дзіця на жаўтачку захварэла.* Граўжышкі Ашм. *Захварэла на жаўтачку і месяц адлежала ў больніцы.* Беразіно Докш. *Жаўтачка — гэта балесь такая, увесь тоўсты станяш.* Магуны Паст. *Жаўтачкай не хварэла.* Вострава Маст. *Вось лякарства ад жаўтачкі.* Лайпушкі Ігн. *Яна хварэла на жоўтачку.* Ёдлавічы Брасл. *Як хворы на жалтачку, жоўць расходзіцца, ікаіць чалавек, пякотка пячэць, адрыгаецца.* Малькуны Ігн. *Жалтачка напала — і жонка не ў галаве.* Старыя Смільгіні Воран. *У мяне жалтачка была.* Быстрыца Астр. *Жалтачкай людзі хварэлі: вочы жоўтыя і пазнокці, между пальцаў жаўцеіць.* Ёдлавічы Брасл. *На жултачку захварэў.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *żółtaczka* 'тж'.

ЖАЎТЛЯ′К, ЖОЎКЛЯ′К *м.* Насеннік. *А сёлета не было ў мяне жаўтлякоў.* Азяраны Раг. *На насенне жаўтлякі бралі.* Дзяніскавічы Ганц. *Жоўкляке пакідаем на семяно.* Вецярэвічы Пух.

ЖАЎТО'К, ЖАЛТО'К *м.* Тое ж, што і ж а л т к о́. *Жаўток не люблю.* Мярэцкія Глыб. *Жаўток з'еў.* Рыбчына Віл. *Жаўток у яйку.* Вялікія Баяры, Кіралі Шчуч. *Белок і жаўток у яйцэ.* Вострава Маст. *Разбіў яйцо, жаўток — вон.* Гемзы Шальч. *Жаўток у цеста ўбіла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жалток у яйцу.* Малькуны Ігн.

ЖАЎТУ'ХА, ЖАЎЦЮ'ХА *ж.* Тое ж, што і ж а ў т а́ ч к а. *Жаўтухай перабалела, пасаветавалі бярозавый грып піць.* Валынцы В.-Дзв. *Хварэла на жаўтуху, жоўць разлілася.* Саланое Віл. *Жаўтуха ў яе — уся зжаўцела.* Мярэцкія Глыб. *У яго жаўтуха, жоўць разышлася.* Кіралі Шчуч. *Жаўтуха ў яе, німожно мяса есці.* Малахоўцы Бар. *Жаўтуха ў яго, разышлася жэўць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ад жаўцюхі малачай п'юць.* Бакшты Іўеў.

ЖАЎЦЕ'Ц *м.* Тое ж, што і ж а ў с ц в і н е ц. *На тым жаўцяцу нічога не расце.* Ухвала Круп.

ЖАЎЦІНЯ' *ж.* Жаўцізна. *Жаўціня будзіць на цадзілцы; ад жыру будзіць жаўціня.* Рагулішкі Даўг.

ЖАЎЦЮ'ХА *гл.* ЖАЎТУ'ХА

ЖАЎЦЯ'К, ЖАЎТА'К *м.* Тое ж, што і ж а ў с ц в і н е ц. *Хіба на жаўцяку будзя што расці? Жаўцяк — зямля жоўтага колеру.* Рыбчына Віл. *Там адзін жаўцяк, ніхарошая зямля.* Міратычы Карэл. *Жаўцяк, нічога не расце. Якое там поле — адзін жаўцяк.* Пацаўшчына Дзятл. *Там, на жаўцяку, нічога не расце.* Галубы Маст. *Поле неўрадлівае такое, жаўцяк адзін.* Ухвала Круп. *Узвярнуў увесь жаўцяк наверх.* Лісна В.-Дзв. *Жаўтак — там нічога ня вырасціць.* Магуны Паст.

ЖАЎЦЯЧО'К *м. памянш.* да ж а ў ц я́ к. *Дзе лахцінка, там жаўцячок, там вада бехчы будзя ручаём.* Старое Сяло Зэльв.

ЖА'ХАЦЬ *незак. экспр.* 1. Бліскаць. *Жахае маланка.* Слабада Смал.; *параўн.* укр. *жахати* 'страшыць, палохаць, жахацца, вырывацца (аб полымі)' (Грынч., I, 476). 2. Сцябаць, біць. *Жахая крапівой па спіне, каб ні балела.* Лапічы Асіп.

ЖА'ХНУЦЬ *зак. экспр.* 1. Бліснуць. *Жахнула маланка, як свечка.* Ёдлавічы Брасл. 2. З сілай ударыць, стукнуць. *І жахнулі па оку, і ока вынулі.* Старыя Смільгіні Воран. *Я палкай жахнула па галаве.* Азяраны Раг.; *параўн.* польск. *żachnąć* 'накінуцца на каго-н.'

ЖА'ЦІ *гл.* ЖАЦЬ I

ЖА'ЦІЦЫ *мн.* Жаночыя асобіны канапель. *Жаціцы—другія каноплі, з зярнямі.* Кіралі Шчуч.

ЖАЦЬ I, ЖА'ЦІ *незак.* Жаць. *Зачала добра жаць.* Паляцкішкі Воран. *У пятніцу пойдуць жаць.* Альхоўцы Лях. *Хоць галава баліць, алі жаць пайду.* Ністанішкі Смарг. *Жняя жне.* Вялікія Баяры Шчуч. *Пашлі жаць жыта.* Відаўцішкі Вільн. ▽ *Добры ячмянёк — яго трэба жаці, благі, добры мужычок — трэба шанаваці.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖАЦЬ II *незак.* 1. Мыць што-н. *Лугам жалі плаццю. Жмуць у начоўках.* Семежава Кап. 2. Ціснуць, выціскаць. *Вінт жме алей.* Гемзы Шальч.

ЖА'ЧКА *ж.* Жняя. *Жачкі жалі жыта.* Курапoлле Паст. *Жачкі некалі наймаліся жыта жаці.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖА'ЧЫКІ *мн.* Тое ж, што і ж а к і. *Жачыкі перш хадзілі на вельканац.* Магуны Паст.

ЖБАН *м.* Збан. *Жбаны ёсць на малако.* Саланое Віл.

ЖБАНО'К *м.* Збанок. *Жбанок з адной ручкай.* Індра Красл.

ЖБАНО'ЧАК *м. бат.* Жоўты гарлачык. *Жбаночкі растуць на рацэ, яны жоўценькія.* Саланое Віл.

ЖВА'ВЫ *прым.* Быстры, рухавы. *Я жвавая і сільная.* Граўжышкі Ашм. *Такі жвавы быў.* Гемзы Шальч. *Яна кабета жвава, лятонца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Жвавы, як чорт.* Кіралі Шчуч. *Жвавая карова.* Вецярэвічы Пух.

ЖВА'КА, ЖВА'ЙКА, ЗВЯ'КА *ж.* Жвачка. *Жве жваку карова.* Рыбчына Віл. *Жваку жуець карова.* Мярэцкія Глыб., Магуны Паст., Беразіно Докш. *Карова дзень жуе жваку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жвайку жуе карова.* Нізок Уздз. *Звяку карова работаець.* Пасіене Лудз.

ЖВАКАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ж а в а́ ц ь 2. *Карова жвакуя — жваку жуе.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖВА'ЛЫ *прым.* Тое ж, што і ж а́ л а с н ы. *Жвалы чалавек, усім спачувае.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖВАЦІ'СТЫ *прым.* З вялікім жыватом, тоўсты. *Мікіта хварэў, нічого не рабіў — стаў жвацісты.* Стральцы Гродз.

ЖВАЦЬ *гл.* ЖАВА'ЦЬ

ЖВА'ЧКА *ж.* Тое ж, што і ж в а́ к а. *Карова жвачку жуець — значыць, здаровая.* Ёдлавічы Брасл.

ЖВІР, ЖВЫР, ЖДЖВІР *м.,* ЖВІ'РА *ж.* Жвір. *Жвір — пясок жоўцянькі.* Дакудава Лід. *Жвір — пясок мелкі, але буйнейшы, як манная крупа.* Пацаўшчына Дзятл. *Каля Вільні жвір пры пясочку, а гравій—толькі каменьчыкі.* Магуны Паст. *Як бяруць жвір з горкі, то косці выкопваюць.* Саланое Віл. *Гравяр — па-руску, па-нашаму — жвір.* Быстрыца Астр. *Жвір вазілі.* Навасёлкі Свісл. *Жвір вазілі на дарогу, жвірок быў дробнянькі.* Ёдлавічы Брасл. *Жвір — дробныя каменьчыкі.* Відаўцішкі Вільн., Чычалі Швянч., Смаляніца Пруж. *Каровы на жвір пашлі.* Старыя Трокі Трак. *Жвір каля рэчкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *За сялом есь жвіроўня, дзе жвір бяруць.* Баброўнікі Гарад. *Жвыр, жарства — маленькія каменьчыкі.* Альхоўцы Лях. *Схадзі на жвыр і сыпані курам, можа, лепей несціся будуць.* Глівін Барыс. *Жвыр — пясок з дробным каменнем.* Малахоўцы Бар. *Як жвыр — то адны каменьчыкі.* Малькуны Ігн. *Шэ трэба хуру жвыру прывысты на пудмурівку.* Сіманавічы Драг. *Жджвіру падсып курам, несціся будуць.*

Беразіно Докш. *Курыца набраўшы жвіры ў пуп.* Ракаўскія Швянч.

ЖВІРАВА'ТЫ *прым.* Жвірысты. *Жвіраватая ў нас зямля, жвірок.* Мярэцкія Глыб. *Зямля тут жвіраватая.* Рыбчына Віл. *Жвіраватая зямля, жвір. На жвірэ пасадзіла бульбу, але не ўрадзіла.* Новікі Гродз. *Жвіраваты камянь.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖВІ'РНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і ж а́ р н у ц ь. *Як жвірнула ёй палкай, яна шмыгнула.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖВІРО'К, ЖВЫРО'К *м. памянш.* да ж в і р, ж в ы р. *Мелкі жвірок, з яго дзелалі чарапіцу.* Малахоўцы Бар. *На жвірку нігды конскага гною не складзі, бо спальвае.* Азяраны Раг. *З берагу ракі плытко — жвырок. Дзе плытко, там жвырок.* Альхоўцы Лях.

ЖВІРО'ЎНЯ *ж.* Месца, адкуль бяруць жвір. *Каровы ляжалі на жвіроўні; на жвіроўні жвір выбяраюць.* Ёдлавічы Брасл.

ЖВІРЧА'НЫ *прым.* Тое ж, што і ж в і р а в а́ т ы. *Жвірчаная месца — там выша, называецца грут.* Рыбчына Віл.

ЖВІРЫ' *мн.* Жвірыстая глеба. *У нас пяскі ест, жвіры ест.* Відаўцішкі Вільн.

ЖВОТ *гл.* ЖЫВО'Т

ЖВЫР *гл.* ЖВІР

ЖВЫРО'К *гл.* ЖВІРО'К

ЖВЯ'КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і ж а в а́ ц ь 2. *І зноў жвякая карова, а балела не так доўно.* Гемзы Шальч.

ЖВЯ'НКА *ж.* Тое ж, што і ж в а́ к а. *Карова жвянку жвець.* Янова Рас.

ЖВЯ'НЬКАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае, звягаць. *Жвянькая што-небудзь.* Азяраны Раг.; *парайн.* літ. *žvéngti* 'рагатаць'.

ЖҐУР *м.* Вяровачка, абора (з пянькі). *Жґур — плоская пляцёнка з пянькі, ня рэжа плячукі. Мне не лясёначкі шкада, а жґуры — добрыя былі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖДАЦЬ *незак.* Чакаць. *Каждага чалавека гэто жджэ.* Вострава Маст. *Ждэмо сынка з бабою кажны дэнь.* Лукомір Пруж.; *парайн.* руск. *ждать* 'тж'.

ЖДЖВІР *гл.* ЖВІР

ЖЖАНІ'ЦЬ *зак. перан.* Надзець адно на другое. *Кажух і армяк трэба жжаніць уместа.* Саланое Віл.

ЖЖАХА'ЦЦА *незак.* Палохацца. *Жжахаіцца ўночы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖЖАХНУ'ЦЦА *зак.* Спалохацца. *Жжахнулася ад гэтага стуку.* Граўжышкі Ашм.

ЖЖО'РЦІ *зак. груб.* З'есці. *Жжорлі авёс, воллі ні пасседжвалі, набілі воллі — і чатыры курыцы здохлі, гэдак наперліся.* Мярэцкія Глыб.

ЖЖЫМА'ЦЬ *незак.* Выціскаць ваду, выкручваць. *Як памыем бялізну, нада яе жжымаць.* Кіралі Шчуч.

ЖЛОП *гл.* ЖО'ЛАБ

ЖЛУ'КТА, ЖЛУ'ГТА, ЖЛУ'ХТА *ж.*, ЖЛУ'КТО *н.* 1. Пасудзіна для запарвання бялізны, кадушка. *Жлукта зберыцца адзежы, многа мыць.* Кураполле Паст. *Жлукта была адзеня мыць.* Лайпушкі Ігн. *У жлукце палакалі адзежу.* Дзяніскавічы Ганц. *Жлукта — такі кадупчык, дзе плацця зложыш, паміш камення кладзеш і лееш воду, і вада балбоча; жлукцілі так плацця.* Вецярэвічы Пух. *Жлукта—цэбар з дзіркай пад нізом; адзежу жлукцілі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У жлукце мачылі адзенне.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жлукта — цэбар, у ёй мачылі бяллё.* Мачаск Бярэз. *У жлукту кладуць і золяць палатно; жлукта на тры нагі, адна дзірка ў дне, лееш ваду на попел, яна сцякая, і робіцца слізкі шчолак.* Азяраны Раг. *Жлукта бралі і жлукцілі.* Малькуны Ігн. *Жлукта, гдзе золяць плацця.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Выдаўбуць жлукта, у жлукце жлукцілі палатняно.* Пасека Ст.-Дар. *Лух рабілі, нейкая бочка была на трох ношках, бабуля звала жлухта.* Груздава Паст. *Жлукто, што плацця мылі, без дна.* Ісерна Слуц. 2. Замочаная бялізна. *Нада жлугціць жлугта.* Кураполле Паст. *Мокры, як жлухта, выжлухтаўся пад дожджам.* Ёдлавічы Брасл. 3. Мыццё. *Даўней казалі: «Сягоння ў мяне жлукта», а цяпер — сцірка.* Кураполле Паст. 4. *перан. м.* і *ж.* Пра чалавека, які многа п'е, есць. *Ах ты жлукта, сядзіш ды жлукціш сабе малако!* Пацаўшчына Дзятл. *Як хто многа і быстра кушая, то кажуць жлукта.* Альхоўцы Лях. *Добрая ты жлукта!* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *žlùgtas* 'замочаная бялізна', *žlùgti* 'мачыць у лузе бялізну'.

ЖЛУ'КТАЦЬ *незак.* Запарваць бялізну ў жлукце. *Жлуктаць нада; бяльё жлукталі.* Малькуны Ігн. *Жлукталі бялізну, бяльё ў цабэрку: рад бялля, рад камення — і лугам узлівалі.* Лайпушкі Ігн.; *гл.* ж л ý к т а 1.

ЖЛУ'КЦІЦЬ, ЖЛУ'ГЦІЦЬ *незак.* Тое ж, што і ж л ý к т а ц ь. *Жлукцілі плутно.* Кемялішкі Астр. *Даўней жлукцілі адзеня.* Лайпушкі Ігн. *Некалі выбіралі попел плацця жлукціць.* Вецярэвічы Пух. *Таўклі плацця ў ступі таўкачом, тагда жлукцілі: клалі ў бочку на ножках, унізу дзірку ў бочцы пракручвалі, у папяльнік сыпалі попял і гатаваную ваду леялі і жлукцілі плаццё, а тады аджымалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *У жлукце жлукцілі палатняно.* Пасека Ст.-Дар. *Жлугцілі адзежу.* Кураполле Паст.

ЖЛУ'ХТА *гл.* ЖЛУ'КТА

ЖМА I *прысл.* Процьма. *Жма камароў наляцела.* Бакшты Іўеў.

ЖМА II *ж.* Тое ж, што і ж а м é р ы н ы. *С канапель жмы шмат астаецца.* Бакшты Іўеў.

ЖМА'КІ *мн.* Камякі. *Воск усплывець наверх, яго сціскаюць у жмакі, ці ў галдуны.* Саланое Віл.

ЖМАХА' *гл.* ЖМЫ'ХА'

ЖМА'ХАЦЬ *незак.* Тое ж, што і ж а ц ь II, 1. *Нады бялізну жмахаць; даўней усе жмахалі плаццях, а ціпер мыюць.* Лісна В.-Дзв.

ЖМАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і ж а ц ь II, 1. *Цэлы лоўж наскідала плаццях, буду яго жмаць.* Пасека Ст.-Дар. *Трэба жмаць, ідуць на рэчку жмаць* [бяллё]. Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Выціскаць. *Жмалі каноплі і малако рабілі.* Малькуны Ігн.

ЖМА'ЧКІ *мн.* Тое ж, што і ж а м е́ р ы н ы. *З жмачак ад канапель малако рабілі. У клешчы ціснулі вашчыну з мёдам, астаюцца жмачкі.* Саланое Віл.

ЖМЕ'НЬКА *ж. памянш.* да ж м е́ н я 2. *Жменька лёну да трапання.* Беняконі Воран. *Жменькамі на плот накрыш лён вешалі.* Быстрыца Астр. *Жменька лёну.* Рыбчына Віл. *Ячмень жнуць на жменькі, а жыто вяжуць у снапы.* Вострава Маст. *Ячмень жалі на жменькі.* Лісна В.-Дзв. *Лён рвалі і ў жменькі вязалі, а як падымаць, то кулі вязалі.* Едлавічы Брасл.

ЖМЕ'НЯ, ЖМЭ'НЯ, ЖМЯНЯ' *ж.* 1. Жменя. *Зачэрпнуў жменяю вады з рышціка і напіўся.* Мачаск Бярэз. *Жменяю наберацъ лён і трэпляць.* Навікі Лудз. *Озьмі цукерок у жмэню.* Смаляніца Пруж. 2. Мера, колькасць чаго-н., што змяшчаецца ў далоні. *Жменя ільну бярэцца і трэплецца.* Мярэцкія Глыб., Вялікія Баяры Шчуч., Рудня Астравітая Чэрв. *Жменя льну бярэцца для трапання.* Лука Нараўк. *Жменя, як трапалі лён — не вязалі, а закруціць і згорне дзве жмені ўместа.* Дзяніскавічы Ганц. *Харошы лён — харошая жменя.* Буда Уздз. *Жмяня лёну.* Старыя Смільгіні Воран. *Жмяню арэхаў дала.* Паляцкішкі Воран. *Рвалі лён у снапок, а ўпярод снапка — гарсці, а папросту — жмені.* Грыкені Вільн. *Вяжаць лён па жменям і ставяць.* Альхоўка Навагр.

ЖМЕ'НЯЧКА *ж. памянш.* Жменька. *Ані жменячкі мукі.* Граўжышкі Ашм.

ЖМІ'НДА *м.* і *ж.* Тое ж, што і ж а д з ё б а. *Жмінда сабе есць жалуя.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жмінда хоча есці, але жалея рубля.* Гемзы Шальч.

ЖМІ'ХА *гл.* ЖМЫ'ХА'

ЖМО'ТКА *ж.* Позыў. *Жмотка жме* [пры паносе]. Рыбчына Віл.

ЖМУРО'Ю у знач. *прысл.* Разам, у сукупнасці. *Пчолы жмурою ляцяць. Мошкі жмурою лятаюць.* Саланое Віл.

ЖМУ'РЫЦЦА *незак.* Прыплюшчваць вочы. *Сон змарыў мяне, жмурацца вочы.* Едлавічы Брасл.

ЖМУТ *м.* 1. Пук. *Гэткія жмуты валасоў былі.* Малькуны Ігн. 2. Корч, куст. *Жмут цыбулі вырваў.* Малькуны Ігн.

ЖМУ'ТАК *м.* 1. Тое ж, што і ж м у т 1. *Гэткі жмутак*

*валасоў скручу, як пачашуся.* Саланое Віл. 2. Камяк. *У мяшку жмутак жамерын астаецца, як воск выціскаеш.* Азяраны Раг.

ЖМУХ *гл.* ЖМЫ'ХА'

ЖМУХА' *гл.* ЖМЫ'ХА'

ЖМЫ'КАЦЬ *незак.* Пераціраць. *Жмыкаюць капусту, а потым морквы наложацьі — і ў дзешку.* Малькуны Ігн.

ЖМЫ'ХА', ЖМАХА', ЖМІХА', ЖМУХА' *ж.*, ЖМУХ *м.* Тое ж, што і ж а м ё р ы н ы. *Жмыха астаецца, як семя стаўчэш.* Саланое Віл. *Жмыха́ ад семя стоўчанага.* Мярэцкія Глыб. *Жмыха́ — семя, што з алею астаецца.* Індра Красл. *Жмыха́ — ад тоўчанага семя.* Пасіене Лудз. *Жмаха з альняпога семя, з канапель.* Мельнікі Лудз. *Асталася жміха ад воску.* Ахрэмаўцы Брасл. *Посная масла с семя гналі, жмуха была.* Валынцы В.-Дзв. *Жмуха ат сяменя.* Крэва Смарг. *Як семя калапней стаўкуць, то жмуха ці жамераны астаюцца.* Рыбчына Віл. *Жмуха пасля таго, як алей выцісnуць.* Ухвала Круп. *З канапель быў смашны жмух, але зялёны.* Баброўнікі Гарад.

ЖМЭ'НЯ, ЖМЯНЯ' *гл.* ЖМЕ'НЯ

ЖМЯЦЬ *незак.* Прыціскаць. *Жмяла да сябе і плакала.* Паляцкішкі Воран.

ЖНЕ'ЙКА *ж.* і *м.* Тое ж, што і ж а́ л ь н я. *Жнейка займя постаць жаць.* Быстрыца Астр. *Жнейкі-мужчыны вот скора жалі.* Ракаўскія Швянч.

ЖНЕЦ, ЖНЭЦ, ЖЭНЕ'Ц *м.* і *ж.*, ЖАНЦЫ', ЖАНЦЭ', ЖЭНЦЫ', ЖЭНЦЭ' *мн.* Той, хто жне сярпом. *Адзін жнец. Жанцы сярпамі жалі.* Мсцібава Ваўк. *Гаворацьі на бабаў: «Ідуць жанцэ».* Малахоўцы Бар. *Жнец — мушчына, які жне.* Тухавічы Лях. *Жнец — жанчына, якая жне. Наймалі жанцоў жыта жаці.* Вострава Маст. *Жанцэ пашлі жаць авёс ці жыто.* Міратычы Карэл. *Жнец адзін, як много — жэнцэ пашлі жаць авёс ці жыто.* Калясное Міхал. *Жнец пойдзе жаці.* Ялова Пруж. *Набраў жанцоў і паехаў.* Навасёлкі Лях. *Цяпер ужэ не трэба жанцоў, камбайністы пажнуць і пакосяць.* Баброўнікі Гарад. *Жанцэ некалі наймалі, наняў — ды жжалі жыта.* Дзяніскавічы Ганц. *П'яць жэнцоў жнут.* Смаляніца Пруж. *Ідут жаты жэнцэ.* Горск Бяроз. *Чотыры жэнцы жалі, адзін — жэнец.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЖНІ'ВА, ЖНІВО' *н.* Час уборкі ўраджаю. *Жыта паспела. Пара жаць, жніва патходзіць.* Асавец Віл. *Жытняя жніва, а так еравая ўборка.* Індра Красл. *Жніва прыйшло.* Рыбчына Віл. *Жніво пашло сёначы. Калі жніво наступае, у хаця нічога ня робіш.* Малахоўцы Бар. *Жніво — гэта вялікае свята.* Груздава Паст. *Жніво началося.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Жніво настало.* Лука Нараўк. *Як было жніво, то нікого дома нэ было.* Смаляніца Пруж.

ЖНІВЯ'РКА, ЖНЯВА'РКА *ж.* Жняярка. *У пана Базарэўскага было две жніяркі, жалі жыто, ячмень.* Альба Нясв. *Жняваркі жнуць ячмень.* Танежыцы Слуц.

ЖНІЎНЫ' *прым.* Жніўны. *Жніўных песянь я ў памяці дзяржу.* Жодзішкі Смарг.

ЖНЭЦ *гл.* ЖНЕЦ

ЖНЯЯ' *ж.* Тое ж, што і ж а́ л ь н я. *Жняя жала быстра, толькі Марыля з ёю жжыналася. Даўней сярпамі жалі, добра было жаць.* Кіралі Шчуч. *Жняя быстрая.* Рыбчына Віл. *Жнеі жалі жыта, наймалі жней.* Ёдлавічы Брасл.

ЖОВТОБРУ'ШКА *гл:* ЖАЎТАБРУ'ШКА

ЖО'ГНУЦЬ I *зак. перан.* Лінуць. *Перавярнула кацёл і кіпням жоґнула на сябе.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖО'ГНУЦЬ II *зак. экспр.* Кінуць, шпурнуць. *Кіняш моцно: кажуць — жоґнула дрывамі.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖО'ДНЫ *гл.* ЖА'ДНЫ II

ЖО'ЛАБ, ЖО'ЛАП, ЖО'ЛУП, ЖЛОП *м.* 1. Жолаб. *С крышы вада сцікла ў жолап і па жолабу — у бочку.* Лісна В.-Дзв. 2. Драўляная скрынка, у якую ўстаўляліся жорны. *Жолап да жорнаў зрабіў.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Кармушка. *У жолап насыпіш сечкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Сечка ляжыць у жолабі.* Бабpоўнікі Гарад. *Жолабы плялі з саломы, з дупцоў: унізе шырака, кверху вузей.* Асавец Віл. *Жолап стаяў. У жолап клалі сена, аўса.* Альхоўцы Лях. *Даўней жолап рабілі так: чатырохкутны яшчык з дасок — каню сена пакласці.* Рудня Астравітая Чэрв. *У жолубя мяшалі сечку.* Стральцы Гродз. *Пад жолубам ляжыць скурацяны ўпраш.* Старыя Смільгіні Воран. *Траву ў жолуп паклаў.* Вялікія Баяры Шчуч. *У жолуп сена клалі для каня.* Дзяніскавічы Ганц. *Жлоп быў выдаўбаны, яго прыбівалі да сцяны і давалі пойлу каню.* Мярэцкія Глыб. *Жлоп быў у хляве, кармілі з яго каня.* Магуны Паст. *Жлоп стаіць на ношках — карыта для каровы.* Жодзішкі Смарг.

ЖО'ЛУД, ЖО'ЛУТ, ЖО'ЛУЦЬ *м.* Тое ж, што і ж а л у́ д. *Галінка з жолудам.* Галоўні Воран. *Жолут упаў адзін.* Альхоўцы Лях. *Адзін жолут падняў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жолут ш шапачкай.* Дзяніскавічы Ганц. *Жолуць падняў.* Новікі Гродз. *Наступіў нагой на жолуць.* Галоўні Воран. *Які жолуць на той галінцы.* Чычалі Швянч.

ЖО'ЛУП *м.* Выдзеўбаная з калоды бочка. *Жолуп зрабіў з дзвюх частак даўбаных, бочку такую.* Рыбчына Віл.

ЖОМ *м.* Тое ж, што і ж а м ё р ы н ы. *Жом ад ягад курам выкінь.* Пацаўшчына Дзятл.

ЖО'МАЦЬ I *зб. ж.* 1. Машкара. *Лётае жомаць.* Палік Барыс. 2. *перан.* Малыя дзеці. *Як пойдзеш на работу, калі жомаць у хаце: і накармі, і пакалышы.* Палік Барыс.

ЖО'МАЦЬ II *незак. экспр.* Жаваць, есці. *Што ты жомаеш сухі хлеп?* Дакудава Лід.; *парайн.* літ. *žiaumóti* 'тж'.

ЖОНД, ЖОНТ м. 1. Дзяржава. *Як перавозілі будынак з хутара ў вёску, жонд даў дзерава.* Мсцібава Ваўк. *Калісьці куплялі ад жонду зямлю. Латы здавалі жонду.* Быстрыца Астр. *У жондзя ўзяўшы карову.* Стральцы Шальч. *Да жонду малако насілі.* Старыя Трокі Трак. 2. Урад. *Быў жонд польскі. Жонд не бараніў Гале будавацца.* Паляцкішкі Воран. *Цяпер што за жонт стаў — усе добра жыюць.* Стральцы Шальч.; *парайн.* польск. *rząd* 'урад'.

ЖО'НДЛА *ж.* Джала. *Шаршон мае жондла, аш кроў ідзе, як укусіць.* Паляцкішкі Воран. *Жондла ў пшчалы.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *żądło* 'тж'.

ЖО'НКА, ЖЫ'НКА *ж.* Тое ж, што і ж а н á. *Жонка даўна на тым свеце.* Саланое Віл. *Жонка ў горат паехала.* Вялікія Баяры Шчуч. *Жонка бальная.* Кемялішкі Астр. *Нет горшага врага, як твая жонка.* Кураполле Паст. *Жанок многа меў.* Паляцкішкі Воран. *Жанке вашыя няхай дзяцей пільнуюць.* Міратычы Карэл. *Муш і жонка дома.* Старыя Трокі Трак. *Будзеш жыць з жонкаю.* Талейкі Швянч. *Мая жонка даяркай.* Істра Лудз. *Са жонкаю жыў.* Рагулішкі Даўг. *Брат жонкі прыехаў.* Грыкені Вільн. *Жонка з дзецьмі дома.* Смаляніца Пруж. *Тая жонка брытка і кульгавая.* Кузьмічы Люб. *Жынка мая хворая.* Швэды Вільн. *Був ожэныўся і взяв жынку хорошу.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Адна жонка ад бога, другая — ад людзей.* Каўняны Гродз.

ЖО'РАВЕЛЬ I *гл.* ЖУРАВЕ'ЛЬ

ЖО'РАВЕЛЬ II *м.* Журавель (у студні). *Жоравель у студні быў, да яго чаплялі коварат.* Мсцібава Ваўк.

ЖО'РАЎ *гл.* ЖУРАВЕ'ЛЬ

ЖО'РДАЧКА *гл.* ЖЭ'РДАЧКА

ЖО'РДКА *гл.* ЖЭ'РДКА

ЖО'РКІ, ЖЭ'РКІ *прым.* 1. Ядомы. *Шырокая асака — жоркая, яе ядуць каровы.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і ж а р л í в ы. *Жоркая карова — многа есць.* Ёдлавічы Брасл. *Жэрка карова — усё б з'ела.* Лука Нараўк.

ЖО'РЛІВЫ *гл.* ЖАРЛІ'ВЫ

ЖО'РНЫ, ЖО'РНА толькі *мн.* 1. Жорны. *У жорны клалі зерне малоць.* Рыбчына Віл. *Жорны ў многіх былі.* Мярэцкія Глыб. *Жорнаў пытаецца.* Лоск Валож. *У жорны малолі.* Ністанішкі Смарг. *Сявеньку насушым зярна і змелім у жорнах.* Кіралі Шчуч. *У сінях жорны стаялі.* Лісна В.-Дзв. *У жорнах каждая баба мельнік.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я сама малола ў жорнах.* Рагулішкі Даўг. *Хлеб у жорнах сваіх малолі.* Грыкені, Швэды Вільн. *Жорны малолі зерне на хлеп.* Філіпаўцы Красл. *Тут нарабілі жарон дзеравяных, але ня мелюць цяпер.* Новая Ніва Чэрв. *У мяне сваіх жарон не было.*

Янова Рас. *У жарнах малолі зярно паранае.* Граўжышкі Ашм. *У жарнах прамеліш мукі.* Старыя Смільгіні Воран. *Хлеб у жарнах малолі.* Беняконі Воран. *На жарнох малолі зерне.* Кемялішкі Астр. *Жорна папраў, кап добра малолі.* Старое Сяло Зэльв. *Калісь жарнам малолі; колькі я змалола зерня!* Малькуны Ігн. *Колісь малолі ў жорнах.* Дзяніскавічы Ганц. *У нас самух былі жорна.* Баброўнікі Гарад. 2. *перан.* Тое ж, што і ж а р о́ н к і. *У пташак, у курэй, у гусей, у качак у жорнах камушкі і перамеляваюць зеркі.* Едлавічы Брасл. *Жорны — у пташак, у курэй.* Лайпушкі Ігн. *Жорны ў рачка есь.* Лісна В.-Дзв.

ЖО'РСТКІ *прым.* Шорсткі. *Віксва — жорсткая, на балотах расцець.* Ракаўскія Швянч.

ЖО'РТКА *гл.* ЖЭ'РДКА

ЖО'РТОЧКА *гл.* ЖЭ'РДАЧКА

ЖО'РЦІ *гл.* ЖРАЦЬ

ЖОРЦЬ *гл.* ЖРАЦЬ

ЖО'СТКА *прысл.* Хутка. *Жостка ходзя, не ўгонішся за ёю.* Ухвала Круп.

ЖО'ЎГАЦЬ *гл.* ЖА'ЎГАЦЬ

ЖО'ЎКАЦЬ *гл.* ЖА'ЎГАЦЬ

ЖОЎКЛЯ'К *гл.* ЖАЎТЛЯ'К

ЖО'ЎКНУЦЬ *незак.* Тое ж, што і ж а л к н е́ ц ь. *Зразу была добрая кукуруза, а цяпер жоўкніць.* Аксакаўшчына Мін.

ЖОЎНА' *гл.* ЖАЎНА' І

ЖО'ЎТА *прысл.* Жоўтым колерам. *Малачай жоўта цвіцець.* Ракаўскія Швянч.

ЖОЎТА'ЧКА *гл.* ЖАЎТА'ЧКА

ЖО'ЎТЫ *прым.* Жоўты. *Жоўта бувае сланіна.* Парэчча Гродз.

ЖОЎТЫ'Р *м.* Тое ж, што і ж а ў с ц в і н е ц. *На етуй прыстані жоўтыр — пясок жоўты. Поўбівала жоўтыр — так каціла ету воду.* Вецярэвічы Пух.

ЖО'ЎЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да ж о́ ў т ы. *Жоўценькія, харошыя бонды ядзём.* Гемзы Шальч. *Пчэльны хлеб жоўценькі.* Саланое Віл. *Жоўценькі пясочак там.* Грыкені Вільн.

ЖОЎЦЬ, ЖОЛЦЬ *ж.* Жоўць. *Жоўць пры печані.* Міратычы Карэл. *Жоўць накапілася.* Альхоўцы Лях. *Разышлася жоўць па печані.* Ялова Пруж. *Жолць зліваюць у бутэлячку на лякарства.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *żółć* 'тж'.

ЖОЎЧЛІ'ВЫ *прым.* Чалавек, які многа п'е. *Такі чалавек жоўчлівы, добрая жлукта.* Вецярэвічы Пух.

ЖРАБЕ'ЦЬ *м.* Жарабец. *Жрабець у ворку* [плацэнце] *нараджаіца.* Саланое Віл.

ЖРА'КА *ж. экспр.* Ежа. *Лезуць куры: давай і давай, кап ні выходзіла с-пад носу жрака.* Мярэцкія Глыб.

ЖРАТВА′ *ж.* Тое ж, што і ж р á к а. *Варэня: толькі праў гэту жратву то сабе, то скаціне.* Кураполле Паст.

ЖРАЦЬ, ЖО′РЦІ, ЖОРЦЬ, ЖЭРЦЬ *незак. груб.* Есці. *Свінні як стануць жраць, яду кругом параскідаюць.* Мачаск Бярэз. *Многа свіні жаруць.* Груздава Паст. *Жрае карова ўвесь дзень.* Мсцібава Ваўк. *Жаруць добра, віна папіваюць, не цяшка робюць, шыі ліжаць на каўнірах, што валы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Куры жаруць — ні набрацца яды.* Валынцы В.-Дзв. *Карова ня будзя гэту траву жорці.* Ракаўскія Швянч. *Свіння будзіць жорць.* Валынцы В.-Дзв. *Кабанчык добра жэрыць, а свінка смокчыць. Куры пражорлівыя, жэруць дзень.* Ахрэмаўцы Брасл. *Карова мала жэрыць сена, напэўна, слабая.* Ракаўскія Швянч.

ЖУБРО′ЎКА *ж. бат.* Зуброўка. *Жуброўку кідалі ў вотку, да асакі падобна, адна старана зялёненькая, другая сівавата, як вырвеш — то пахня.* Мсцібава Ваўк.

ЖУВІ′КШЧ *м. ткац.* Шнурок для замацавання ніта. *Да достачкі прывязваюць жувікшч.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *žuvýkštis* ’тж’.

ЖУДЗЕ′ЦЬ *незак. экспр.* Дакараць, павучаць, лаяць. *Ён жудзіць і жудзіць — не магу перажываць; ён жудзіць, а цябе на сэрцы нудзіць.* Кураполле Паст. *А свекар жудзіць, бярэць цябе на антабы: ты такая, гэткая, я ні знаю, каму маліцца: ці мужыку, ці свекру. Свекар жудзіць, лежучы ў запечку. Як набрала вады ў рот — да веку дзіржала ў роця. Жуджу я свёкра, жудзіла і буду жудзіць, а свёкар, тожа жудзіць, крычыць.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *žudýti* ’мучыць, губіць’.

ЖУДЛІ′ВЫ *прым.* Надакучлівы, бурклівы. *Жудлівы ён такі — грызлівы.* Кураполле Паст.

ЖУ′ДРА *м.* і *ж. экспр.* Хто бурклівы. *Жудра еты: бубніць, надаядаіць. Не баба, а некая жудра.* Мішневічы Шум.

ЖУЖА′ *гл.* ЖЫ′ЖА′

ЖУЖА′К *м. заал.* 1. Авадзень. *Жужак укусіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жужакі кусаюць кароў.* Рудня Чэрв. 2. Хрушч. *Жужак бярозавы — майскі жук.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Гнаявік. *Чорны жужак, жужакі ў калі вядуцца.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Вадзяны жук. *Жужак — у возеры жук чорны.* Магуны Паст.; *параўн.* руск. *жужга, жужг* ’сляпні, авадні’ (Фасм., II, 63); *гл.* ж ý ж л а.

ЖУ′ЖАЛКА *ж. заал.* Жабянятка. *Жужалкі так і скачуць.* Магуны Паст.

ЖУ′ЖАЛКІ *мн. анат.* Частка кумпяка, рулька. *Патсікаў жужалкі ці куралькі на квашаніну; жужалкі да кунпякоў.* Саланое Віл.

ЖУ′ЖАЛЬ I *м. бат.* Куколь. *Нада патсеіць ячмень — многа жужалю. Як патсіваіш, ён наверх выбіваецца, увесь наверх зберыцца, тады скідаюць далоў.* Мярэцкія Глыб.

ЖУ′ЖАЛЬ II *м.* Шлак. *Жужаль ад угля пат падлогу сыпюць, тады ў хаця суха.* Жылі Іўеў. *Жужаль з заводу бралі — вугаль мелкі, сыпалі пад падлогу, пол ні гніе, суха ў хаці. Жужалю хватала — цёрты вугаль выкарыстоўвалі пат памост, сушку дае.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* польск. *żużel* 'тж'.

ЖУ′ЖАЛЬ III *м.* 1. Тое ж, што і ж а б у р а́. *Самую лепшую сукенку возміць ды ў грасъ, у жужаль утопчыць.* Саланое Віл. 2. Лёк. *Чорны жужаль ад селядцоў.* Саланое Віл. 3. Наогул што-н. вадкае. *Як што жытко, то кажуць — жужаль. Раскіпіць, як жужаль.* Семежава Кап.; *парайн.* руск. *жужелица* 'шлак' (Фасм., II, 64).

ЖУ′ЖЛА *ж.* і *н. заал.* Жук. *Нейкая жужла пайзець па зямле.* Лісна В.-Дзв., Жылі, Бакшты Іўеў. *Я думала, жужла рухаецца па галаве. Напалі жужлы.* Граўжышкі Ашм. *Многа па зямле лётая жужлы.* Гемзы Шальч. *Жужла такая ёсць прадлінаватая і скрыдэлцы цвёрдыя.* Крэва Смарг. *Жук жуком, а там нівелькія вузенькія жужлы, яны чарвей садзяць.* Крэва Смарг. *Усякія жужлы, казявачкі па вадзе плывуць.* Быстрыца Астр. *Жужла чорная, вялікая; жужла пайзе.* Жылі Іўеў.; *парайн.* літ. *žužlà* 'тж'.

ЖУ′ЖМА I, ЖУ′ШМА *ж.*, ЖУ′ЖМО, ЖУ′ШМО *н.* 1. Мера льну, канапель, роўная тром жменям. *Лён дзялілі на жужма, пук быў звязаны, патом дзялілі яго на жужма, абівалі, вязалі ў пук, патом бралі па жужме і сцялілі. Жужма — жменяў тры, жменю дзелім на жменькі. Жужмоў пяць укладалася ў пук.* Міратычы Карэл. *У жужмы ставілі лён. Лён рвалі і ставілі снапкі незвязаныя, жужмы.* Жодзішкі Смарг. *Нарвала лёну жушму. Чаго ты такую вялікую жушму выняс з лазні? Можна нарваць жушму лёну, канаплі.* Магуны Паст. 2. Вязка чаго-н. *Жужма — вязанка дроў, лазы.* Ухвала Круп. *Жушма лазы.* Магуны Паст. *Узяў жушму дроў і нясець.* Камаі Паст. 3. *перан.* Вялікая колькасць. *Нас кінуў бацька — такую жужму дзяцей.* Саланое Віл. 4. *перан. экспр.* Неахайная жанчына. *Жужма ты, што ты с косэй зробыла!* Відзібар Стол. 5. *прысл.* Тое ж, што і ж м а I. *Жужма, як многа чагонебудзь.* Рудня Астравітая Чэрв. 6. у знач. *прысл. жу́жмаю.* Процьма. *Вот там ягат, буякоў — жужмаю.* Рудня Астравітая Чэрв. 7. у знач. *прысл. жу́жмаю.* Чарадой. *Гэтыя дзеці жужмаю бегаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖУ′ЖМА II *ж.* Тое ж, што і ж а м е́ р ы н ы. *Жужма: выжымкі ат канапель, смітану выжму, а выжымкі — жужмы.* Глівін Барыс.

ЖУЖУ′ЛАЧКІ *мн.* Самаробныя дзіцячыя цацкі з касцей. *Некалі з двух касцей рабілі жужулачкі: прадоўбвалі дзюрачкі, у іх уцягвалі нітачкі.* Крэва Смарг.; *гл.* ж у́ ж л а.

ЖУЖЭ'ЦЬ *незак.* Гусці. *Пчолы жужаць.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *жужжать,* літ. *žiužėti* 'тж'.

ЖУЗНЕ'ЦЬ, ЖУЗНІ'ЦЬ *незак.* 1. Бурчаць. *Ен жузніў і жузніў цэлы век. Стары ляжыць на печы і жузніць. Ці перастанеш ты жузніць?* Кіралі Шчуч. 2. Доўга, марудна жаваць. *Не перастае жузнець, нешта ўсё ў роце трымае. Узяў мяса ў рот і жузніць цалую гадзіну.* Кіралі Шчуч.

ЖУЗНІ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і ж у д л і в ы. *Цалы дзень жузніць, жузнівы быў стары.* Кіралі Шчуч.

ЖУЗНЯ' *м.* і *ж.* Тое ж, што і ж у́ д р а. *От жузня, перастань жузніць!* Кіралі Шчуч.

ЖУ'ЙКА *ж.* Тое ж, што і ж в а́ к а. *Карова жуйку жуе.* Малахоўцы Бар., Дакудава Лід., Грыкені Вільн., Лука Нараўк. *Калі карова жуйку не жуе, валошку гатуюць і льюць карові.* Пацаўшчына Дзятл. *Карова жуйку жуець.* Быстрыца Астр. *Карова жуйку траціць.* Сапоцкіна Гродз. *Карова хворая, жуйку не жуе.* Вострава Маст. *Жуйку жуе карова, нада, кап жуйка была, без яе карова хворая.* Кіралі Шчуч. *Захварэла карова і жуйку не жуе.* Альхоўцы Лях. *Жуйку не жавала карова, відаць, хвора.* Навасёлкі Свісл. *Карова найдзе жуйку і будзя яё варачываць.* Гемзы Шальч. *Карова жуйку жве.* Багушэвічы Бярэз.

ЖУК *м.* Жук. *Жук нейкі паўзе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ад жукоў дус ест.* Парэчча Гродз. *Конь, як жук, чорны.* Лука Нараўк.

ЖУКАРЭ' *мн.* Жукі. *Жукарэ мы завем, яны не кусаюцца.* Парэчча Гродз.

ЖУКЕ'ТКА *гл.* ЖАКЕ'ТКА

ЖУК МАЁВЫ *м.* Хрушч. *Жук маёвы ў маі з'яўляецца.* Магуны Паст.

ЖУКО'ВІНА *ж.* Пярсцёнак. *Венчалная жуковіна ў міне — так абручык, без вочка.* Бакшты Іўеў. *Жуковіна з вочкам.* Альхоўцы Лях. *Венчальна жуковіна ў яе.* Дзяніскавічы Ганц. *Жуковіну носіт на пальцэві.* Смаляніца Пруж.

ЖУК-ПЯТРУ'К *м. заал.* Божая кароўка. *Жука-петрука падкідаюць уверх і кажуць: «Пётра-Паўла, скажы праўду!»* Рагулішкі Даўг.

ЖУЛВІ'ЦА *гл.* ЖЫЛВІ'ЦА І

ЖУЛІКАВА'ТЫ *прым.* Схільны да жульніцтва, ашуканства. *Жулікаваты хлопяц ён.* Жылі Іўеў.

ЖУЛТА'ЧКА *гл.* ЖАЎТА'ЧКА

ЖУЛЫ'ЦА *гл.* ЖЫЛВІ'ЦА І

ЖУЛЬМА'Н *м. экспр.* Жулік. *Жульман ты!* Міратычы Карэл.

ЖУНДЗЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і ж у з н е́ ц ь 1. *Жундзя і жундзя, аш галава баліць.* Крэва Смарг.

ЖУПА'Н *м. устар.* Жупан. *Жупан — верхняя вопратка з сукна, ззаду ў зборачку.* Семежава Кап.

ЖУ'ПАРЫЦЬ, ЖЫ'ПОРЫТЫ *незак. экспр.* Есці маруднa, многа. *Бульбу жупарыш і жупарыш. Што ты жупарыш канфеціну? Глядзела ў вакно і жупарыла. Дзе не ідзець — жупарыць. Карова жупарыць сена, траву. Жупарыў хлеп, яблык — усё на свеці.* Валынцы В.-Дзв. *Сыдыть собі і жыпорыть картоплі с кубасою.* Сіманавічы Драг.

ЖУ'ПІЦА *ж.* Тое ж, што і ж у п á н. *Жупіца — чыстэ суконнэ світно з усамі, по-колісьному пошытэ.* Смаляніца Пруж.

ЖУ'ПІЦЬ *незак.* Гаварыць, размаўляць. *Паселі бабы ды жупяць. Я не жуплю.* Вецярэвічы Пух. *Жупілі бабы, як пашла я, мо, і пра мяне?* Ванелевічы Кап.

ЖУР *м. кулін.* 1. Рэдкая страва, прыгатаваная з рошчыны ці падкалочаная мукой з дабаўленнем розных прыпраў. *Як пячом хлеб, то набіраем кваснага цеста, развядзём вадой — і ў кіпячоную воду, перакіпяцім — і журназываўся.* Пацаўшчына Дзятл. *Жур варылі з хлебнай рошчыны, з грыбамі, падбельвалі.* Кіралі Шчуч. *Буракі квашу, расол налію, вару, мукой запушчу, туды грыпкоў — гэта жур.* Магуны Паст. *Жур варылі з рошчыны, грыбоў падкідаеш, смятаны, забеліш. Адбяры рошчыны на жур.* Парэчча Гродз. *У посные дне жур варылі; ён кіслы, як хлеп пякуць, пакінуць цеста, яго разаб'юць, дадаюць мукі і такій жур вараць.* Баброўнікі Гарад. *Як хлеп пяклі, набіралі рошчыны на чатыры літра вады і жур гатавалі.* Каўняны Гродз. *Вараць жур: хлеп зарашчыняўшы, у гаршчок яго, цыбулькі, перац туды.* Старыя Трокі Трак. *Жур кіслы.* Лайпушкі Ігн. *Жур варылі з грыбамі.* Малькуны Ігн. *Жур елі з паронкамі.* Азяраны Раг. 2. Страва, прыгатаваная з салоджанага цеста. *Жытнюю ці пшанічную муку нарэтка замешваюць у халоднай вадзе, на кіпятак ліецца і памешваецца, квасу дабаўляецца, солі, а закваснее — кваснай смятаны, а інныя любяць сахару. І гэта жур такі белы. Жур варылі рэдзенькі: хлебны квас патсаладжвалі сахарам і закалачвалі пшанічнай мукой. Жур любілі есці і старыя і малыя. Я часта варыла жур.* Мсцібава Ваўк. *А жур варылі з жытняй мукі.* Вострава Маст., Лука Нараўк. 3. Рыбная юшка, поліўка. *Рыбу варыш, мукой падмішаіш — называлі жур, елі с хлебам.* Стракішкі Трак. 4. Расольнік. *Жур рабілі так: крышылі агурок салёны, бульбу, хлеп.* Старыя Смільгіні Воран. 5. Рэдкі кісель. *Рэткі жур с аўсянай мукі.* Бакшты Іўеў. *Дайней жур гатовілі з аўса, но я яга не любіў.* Саланое Віл. *Жур варылі з аўса.* Пацаўшчына Дзятл. *З жыткага цэду варат жыткі жур. Жур — кісель с аўса.* Міратычы Карэл. *Варым густы кісель, астаткі залiваям, працэджваям і варым ужо рэткі жур.* Дакудава Лід. *Жыдзенькі жур ва-*

раць з аўсянай мукі. Лісна В.-Дзв. *Жур — рэткій кісель з аўса, кваснеець, працэджую на рэшата.* Рагулішкі Даўг. *Жур — рэдзенькі кісель.* Дзяніскавічы Ганц. *Жур рэдзенькі, варылі с цэду. Звары, мама, журу.* Вецярэвічы Пух. *Жур — рэткі аўсяны кісель, заскваранны ці запраўлены алеем кісель.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жур вараць з аўсянай мукі.* Азяраны Раг. *Варыцца журавінны жур.* Лісна В.-Дзв. 6. Густы аўсяны кісель. *Жур — сцюдзёны аўсяны кісель вараны, густа рэжуць скібамі і ядуць з малаком.* Мішневічы Шум. 7. Пена. *Вараць кісель, кагда падымаецца пена, яе знімаюць ложкай — эта жур.* Глівін Барыс.; *параўн.* літ. *žiũrė* 'рэдкая каша, рэдкі суп, рэдкая страва з жытняга квашанага цеста; аўсяны кісель'.

ЖУРА′ *ж.* Кісель. *Жура нечыстая, нешта папала туды.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *žiũrė* 'рэдкая страва з рошчыны, рэдкі кісель'.

ЖУРАВА′ЦЬ *гл.* ЖЫРАВА′ЦЬ

ЖУРАВЕ′ЛЬ, ЖО′РАВЕЛЬ, ЖУРА′ЎЛЬ, ЖУРА′Ў, ЖО′РАЎ *м.* Журавель. *Адзін журавель ходзіць.* Кіралі Шчуч. *Жураўля залетаюць у далёкія балоты.* Чарняўскія Лудз. *Журавель прыляцеў.* Чычалі Швянч. *А да нас прылетаюць на балото жураўле, яны большые за буслы, яны каля Крушынян.* Баброўнікі Гарад. *Жоравель, дзе вядзецца, разгрузіць кругом куста, так гразка, што карова не падыйдзе, травы няма.* Пацаўшчына Дзятл. *Жураўль пасяліўся ля балота.* Гемзы Шальч. *Жураў ходзіць па балоце.* Грыкені Вільн. *Жораў у нас есць.* Істра Лудз.

ЖУРАВІ′НЫ, ЖУРАЎЛІ′НЫ, ЖАРАЎЛІ′НЫ *мн.* Журавіны. *З журавін кісель варылі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Журавіны буйныя на балоце.* Мярэцкія Глыб. *З журавін кісялёк варылі.* Саланое Віл. *Назбірала журавін — і сабе, і дзецям на зіму хопіць.* Беразіно Докш. *Журавіны ў ройстах.* Старыя Смільгіні Воран. *Журавіны перацерлі з цукрам.* Галоўні Воран. *Кісель з журавін густы.* Груздава Паст. *Журавіны на маху растуць.* Грыкені Вільн. *Цяпер мала журавінаў.* Чычалі Швянч. *Журавіны ўрадзілі.* Альба Нясв. *У тым балоце журавіны бяруць.* Ухвала Круп. *Журавіны на купінах раслі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жураўліны растуць у балоце.* Альхоўка Навагр. *Жураўліны ест у нас на балоце.* Новікі Гродз. *Жураўліны на купінах растуць.* Кіралі Шчуч. *Жураўліны разварваюць, цэдзяць, крухмал усыплюць, і палучаецца кісель.* Малахоўцы Бар. *Можэ, раз у жураўліны схожу.* Смаляніца Пруж. *Жураўліны продаюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Жураўліны кідаем у капусту.* Парэчча Гродз. *Жураўліны на балоце паспелі, бач, якія чырвоныя.* Галубы Маст. *Жураўліны растуць большай часткай па лугох.* Мсцібава Ваўк.

ЖУРАВО′ *гл.* ЖАРАЛО′

ЖУРАЛО′ *гл.* ЖАРАЛО′

ЖУРА′Ў, ЖУРА′ЎЛЬ *гл.* ЖУРАВЕ′ЛЬ

ЖУРА′ЎКА *ж.* Калодка з адтулінай у верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца млён. *Журайка — дзе млён устаўляецца.* Дакудава Лід. *Журайка ест, кап млён дзяржайся.* Каўняны Гродз.

ЖУРА′Ф *м.* Тое ж, што і ж о́ р а в е л ь II. *У студні тоўставаты жураф перакладаецца, да яго прыкрэплена свіршня.* Старыя Трокі Трак.

ЖУРБА′ *ж.* Тое ж, што і ж а б у р а́. *Пайду спускаць журбу ў свіней.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЖУ′РКА *ж.* 1. Тое ж, што і ж у р 1. *Журка рабілася з крыві, жытняй мукі, а хто хлеп крышыў, вараць мясны расол, а потым залівають кроўяй з мукой. Журка падкісленая.* Жодзішкі Смарг. *Журка з жытнёй мукі, з грыбамі, заквасіць.* Чычалі Швянч. *Брасаюць грыбкі, немношка мукі, перцу, луку — і гэта журка. Хлеб зарашчынялі, рашчыну разбалталі, кіпятку — і гэта журка.* Гемзы Шальч. *Журка кіслая з расчыны.* Быстрыца Астр. 2. Тое ж, што і ж а б у р а́. *Антось скупаўся ў журцы на кароўніку. Навос рэткі, як журка.* Быстрыца Астр.; *гл.* ж у р.

ЖУРЛІ′ВЫ *прым.* Тое ж, што і ж у д л і в ы. *Журлівы быў бацька — як што, дык бурчыць і бурчыць.* Галубы Маст. *Журлівы чалавек — жудзіць і жудзіць; не трэба табе ўжо жудзець.* Саланое Віл. *Журлівы ён — усё не так яму.* Кураполле Паст. *Журлівая баба такая.* Лісна В.-Дзв.

ЖУРМА′Н *м.* Хітрун. *Журман гэты ўсіх абхітрыць.* Паляцкішкі Воран.

ЖУРО′К *м. памянш.* 1. Тое ж, што і ж у р 1. *Журок з грыбамі, падкалочаны мукой.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і ж у р 5. *Густы кісель, а рэткі — журок звалі.* Саланое Віл. *Журок — рэдзенькі аўсяны кісель. Журок смачны.* Мярэцкія Глыб.

ЖУРУВА′ЦЬ *гл.* ЖЫРАВА′ЦЬ

ЖУРЧА′ЦЬ, ЖУРЧЭ′ЦЬ *незак.* Цурчаць. *Вада ў рэчцы чуць журчыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вада журчыць.* Чычалі Швянч. *Дош вялікі, аш вада журчыць.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* руск. *журчать* 'тж'.

ЖУ′РЫ′ЦЦА I *незак.* Сумаваць. *Людзі жура́цца адзін аб адным.* Старое Сяло Зэльв. *Жу́рыцца адзінокі чалавек.* Азяраны Раг. *Журу́ся я па ём.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЖУРЫ′ЦЦА II *незак.* Жмурыцца. *Глядзіць на нас і журыцца ад сонца.* Чычалі Швянч.

ЖУРЫ′ЦЬ *незак.* 1. Дакараць, выгаворваць. *Будзіць цябе журыць.* Кураполле Паст. *Баба мужыка журыць; пажурыш адзін аднаго — і послі буры бываіць ціха.* Валынцы В.-Дзв.

2. Нудзіцца, сумаваць, маркоціцца. *Чаго ты ўжо так журыш па ём?* Альхоўцы Лях.

ЖУРЭ'ЦЬ *незак.* 1. Тлець, слаба гарэць. *Дровы не гарaць, толькі журaць: адзін жар, агню німа, як цмеюць. Жар журыць.* Гемзы Шальч. 2. Разгарацца. *Вот як журыць жар на мароз, разжурэўся.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *žiorúoti* 'бліскаць, разгарацца'.

ЖУ'ТКО *прысл.* Жудасна, страшна. *Так жутко мне.* Альхоўцы Лях.

ЖУ'ТНА *прысл.* Тое ж, што і жу́тко. *Жутна ісці паўс кладаўё.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖУХАЦЕ'ЦЬ *незак.* Шугаць, моцна гарэць. *Аж жухаціць полымя.* Бакшты Іўеў.

ЖУ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і жа́ґа II. *Жучка расце ўсюды, куслівая, вешаюць, кап ведзьма не залезла.* Саланое Віл. *Жучкаю рукі папёк, дробнінькія лісцікі, а пякучыя.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖУ'ЧЫЦЬ *незак.* Тое ж, што і жудзе́ць. *Яе бацькі бес канца жучуць і жучуць. Бацькі яго сталі жучыць.* Раўбічы Мін.

ЖУ'ШМА *гл.* ЖУ'ЖМА I

ЖУ'ШМО *гл.* ЖУ'ЖМА I

ЖУШЧЭ'ЦЬ *незак.* Хрусцець на зубах. *Хлеп, як з мякіны, ня будзіць так скора есца; я напратала мякіны, абы болі было, насушыла яе, у ступцы стаўкла, на рэшата прасеіла, іна, як мука, жоўценька і хлеп жоўты, але як еш, то жушчыць.* Мярэцкія Глыб.

ЖЫБІНЬЦЕ'Й *м.* Прыстасаванне для асвятлення лучынай. *Жыбіньцей — жалеска спляскана на палцы, абсаджана лучынаю; лучыну нашчапаіш, звяжаш у кулёчак; біз жыбіньцея нялоўка было свяціць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *žibiñčius* 'тж'.

ЖЫБУ'ЛЬКА *ж.* 1. Тое ж, што і жабо́р. *Жыбулька калюшча расце ў збожэ.* Каўняны Гродз. *Жыбулька натта коліцца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Жыбулькі квітнуць первыя.* Чычалі Швянч. *Ячменю жаць я не пайду — жыбулькі колюцца.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *Я ў кубіл за муку, мне жыбулька за руку.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Асцюк. *Нейкую жыбульку ў палец засадзіла ды скрэбаецца.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *žibulỹs* 'зябер'.

ЖЫБУРКІ' *гл.* ЖАБУРО'К.

ЖЫБУРЫ' I *мн.* Тое ж, што і жабуры́ння I. *Жыбуры жаб, як лупіна ў кудрэ* [возеры]. Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *žiburỹs* 'тое, што зіхаціць'.

ЖЫБУРЫ' II *мн.* 1. Тое ж, што і жабуро́к 1. *Жыбуры — кароткія дровы.* Чычалі Швянч. 2. Тое ж, што і жабу-

р о́ к 2. *Жыбуры — дробныя кавалачкі дрэва.* Быстрыца Астр. *Набраў жыбуроў, шчабні якой.* Ракаўскія Швянч.

ЖЫВА'ВЫ, ЖЫВА'ЛЫ *прым.* 1. Жывучы. *Кот жывавы — яго б'юць, а ён усё жыве.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і ж в а́ в ы. *Баба жывава: усё бягом і бягом.* Дзяніскавічы Ганц. *Яна яшчэ жывала баба: рухава, быстра ходзіць.* Альхоўцы Лях.

ЖЫВАКО'СТ, ЖАВАКО'СТ *м. бат.* Жывакост, рагулькі. *Жывакост дзікі і гародні; як палом, косці зрастаюцца лучшы, як жывакост прыкладаюць.* Граўжышкі Ашм. *Накапала корню жывакосту, а патом з салам змяшала і прыкладвала к пяты і закручвала так жа, как канпрэс* [костка балела]; *высахніць, как шчэпка, і, дзе палом, прыкладваецца і зрасецца. П'юць на водке, еслі каму біркулёз; доўга нада піць.* Скрыпчына Лудз. *Жывакост растёт, как дзівасіл. У жывакоста, як у дзівасіла, лісты.* Шалкуні, Прэдэ Даўг. *Жавакост піць, як бронхі баляць. Жавакосту каранёў нацерці — і добра зажываіць.* Шамялі Брасл.; *параўн.* польск. *żywokost* 'тж'.

ЖЫВАСІ'Л *м.* Тое ж, што і д з і в а с і л. *Жывасіл расце ў гародзе.* Мсцібава Ваўк. *Корань жывасілу ад жывата п'юць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖЫВАТНІ'ЦА *ж.* 1. *мед.* Панос. *Жыватніца ў яга, рэжыць у жываце, бурчыць.* Груздава Паст. 2. *м.* і *ж. перан. экспр.* З вялікім жыватом. ∇ *Кап свету ні відзяў, жыватніца гэнты!* Груздава Паст.

ЖЫВАТО'К *м. памянш.* да ж ы в о́ т 1. *Жыватоқ у малога балеў, плакаў усю ноч.* Альхоўцы Лях.

ЖЫВАЦЕ'ЦЬ *незак. мед.* Хварэць на панос. *Як цялёнак жывацеіць, то гэта панос у яго, нада ячменя заварыць і напаіць.* Кураполле Паст.

ЖЫВЕ'Й *прысл.* Хутчэй, шпарчэй. *Ідзі жывей!* Лісна В.-Дзв.

ЖЫВЕ'НЁ *н.* Жыўленне. *Ваўчыха пашла на жывенё.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *żywienie* 'тж'.

ЖЫВЕ'Ц I *м. вет.* Макрэц. *Жывец міш капытоў у каровы.* Быстрыца Астр.

ЖЫВЕ'Ц II *м.* Дрэнна вырабленая шкура. *Як кожа невыраблена — жывец.* Альхоўцы Лях. *Скура недаквашана, жыўца ў яе поўна. Жывец у скуры.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖЫВЕ'Ц III *м.* Нявылежалы лён. *Чысты жывец; як трэш, і астаецца нявыцерта.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЖЫВЕ'Ц IV *м. ткац.* Шнур у нічальніцы ткацкага станка, да якога прывязваюцца ніці. *Нітка ці некалькі нітак, якія прывязваюцца да нітоў. Нада прывязаць да нічальніцаў жывец, і жыўца заўязваюць на прутку.* Дзяніскавічы Ганц. *Па жыўцу пацягнеш нічальніцы то туды, то сюды.* Баброўнікі Гарад.

ЖЫВЕ́Ц V *м.* 1. *заал.* Жывая рыбка, якую насаджваюць на кручок у якасці прынады. *Ставяць жыўца і ловюць шчуку на жыўца. Ловюць вясной і ўвосінь на жыўца.* Ахрэмаўцы Брасл. *На кручок чапляюць жывец, шчука праглыне жывец і кручок.* Рудня Чэрв. 2. *рыб.* Сетка для захоўвання жывой рыбы. *Жывец, дзе рыба храніцца.* Палік Барыс.

ЖЫВЕ́Ц VI *м.* Прырослая частка пазногця. *Жывец сагнала ў пазнохці.* Жылі Іўеў. *З жыўцом атрэзала палец.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖЫВЕ́Ц VII *м.* Топкае месца, багна. *Жывец — як станеш і ног не вырвеш; засмактуюцца, дыбаеш, каб скарэй перайсці.* Азяраны Раг.

ЖЫВЁЛА *зб. ж.*, ЖЫВЁЛ *м.* Свойская жывёла. *Жывёла не мая дзе хадзіць.* Граўжышкі Ашм. *Пайду пакармлю жывёлу, яна хоча есць.* Кіралі Шчуч. *Збыткуецца над жывёлай.* Грыкені Вільн. *Трымае жывёл, не лянуецца.* Стракішкі Трак. *Жывёл балея.* Старыя Смільгіні Воран. *Жывёл той колюць.* Паляцкішкі Воран.

ЖЫВЁЛІНА *ж.* Адна асобіна. *Такая спакойная жывёліна.* Чычалі Швянч.

ЖЫВІ́НА́ *зб. ж.* 1. Тое ж, што і ж ы в ё л а. *У ўсякай жывіны клуп.* Міратычы Карэл. *Жывіну трэба пасвіць.* Вострава Маст. *Жывіна — гэто кровы, коні. Хваціць сядзець, ідзі жывіну карміць.* Стральцы Гродз. *Вешалі званка, калка шкоднай карові, як паслі ў карчах, жывіну было чуць.* Лука Нараўк. *Нераць напала на жывіну. У мяне жывіна благая, ніяткая, ні хоча есці.* Міратычы Карэл. *Жывіна́ ест у нас.* Вострава Маст. *Шчасліваму чалавеку жывіна́ ідзе.* Парэчча Гродз. 2. Жывая істота, часцей дробная. *Каршун — праклятая жывіна!* Старыя Трокі Трак.

ЖЫВІ́ЦА I *ж.* Жывіца. *Жывіца з дрэў рэдзянькая, як запякаецца, то цвёрдая.* Пацаўшчына Дзятл.

ЖЫВІ́ЦА II *ж.* Тое ж, што і ж ы в е́ ц IV. *Жывіца — нітка, якой замацоўваюць ніты на палаццы.* Альхоўцы Лях. *Жывіца, жывіцы — таўстыя дзве ніткі на достачках у кроснах.* Рыбчына Віл.

ЖЫВІ́ЦЦА *незак.* Карміцца, харчавацца. *Што зараблялі, тым і жывіліся.* Лісна В.-Дзв. *Самы жывяцца галубы.* Альхоўка Навагр. *Чым вэн жывіцца?* Азарычы Пін.; *параўн.* польск. *żywić się* 'тж'.

ЖЫВІ́ЦЬ *незак.* Карміць. *Кошка сама сібе жывіць.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *żywić* 'тж'.

ЖЫВО́Е СЯРЭБРО́ *н.* Ртуць. *Як тэрмометр разбіўся, раскаціліся шарыкі — гэта жывое сярэбро.* Кураполле Паст. *Я, як жывое сярэбро: і тут, і тут.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖЫВО́Т, ЖВОТ *м.* 1. Страўнік, кішэчнік. *Так балеў жывот, аш качалася.* Валынцы В.-Дзв. *Жывот боліць у каровы.*

Малыя Аўцюкі Калінк. *Цэлы дзень у мяне гурчыць у жваце. Жвот баліць.* Стральцы Гродз. 2. Жывот. *Нэ можэ быці жывота столькі піўшы і еўшы.* Смаляніца Пруж. 3. Жыццё, быць жывым. *Так мучыўся, чуць у жывоці астаўся.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Хай іх жывот пабярэ!* — забаліць жывот. Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *żywot* 'жыццё'.

ЖЫВУ'ЧЫ, ЖЫВУ'ШЧЫ *прым.* Тое ж, што і жывáвы 1. *Кот у нас быў, такі жывучы: ні балезня, нічога яго не брала.* Беразіно Докш. *І голад, і холад у вайну перанеслі яны — і нічога, адным словам — жывучыя людзі. Ён такі жывучы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жывушчая такая курыца ў нас.* Саланое Віл. *Кот жывушчы, яго не заб'еш.* Старыя Смільгіні Воран. *Курыца нека жывушча.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кот жывушчы.* Кіралі Шчуч., Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Жывушчы, як кот, і слабы, як муха* — пра чалавека. Альхоўцы Лях. *Жывушчы, як кот.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кот жывушчы, як гума.* Кіралі Шчуч.

ЖЫВУ'ШКА *гл.* ЖЫГУ'ЧКА

ЖЫГА'ДЛА *н.* Джала. *Пчала жыґадла ўпусціла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Жыґадла ў пчалы.* Магуны Паст. *У пшчалы — жыґадла.* Жодзішкі Смарг. *Жыґадлам жыгае пчала.* Крэва Смарг. *Пшчала жыґадлам жыгае.* Старыя Трокі Трак.

ЖЫГА'ДЛАЧКА *н. памянш.* да жыґáдла. *Жыґадлачкам пчолка кусаіць.* Ёдлавічы Брасл.

ЖЫГА'ЛА *н.* і *ж.*, ЖЫГА'ЛО *н.* 1. Тое ж, што і жыґáдла. *У шарстня жыґала ў нажні.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пшчолы — жыґалам кусаюць.* Ёдлавічы Брасл. *Іскуюць пчолы, жыґала ўпусціць — сітка такоя ёсь. Пчолы кусаюць — жыґала ўпусціць і сама памрэць.* Валынцы В.-Дзв. *Жыґала як упусціць, тады паміраіць пчала.* Груздава Паст. *Жыґала ў пчалы, у гадзіны.* Кураполле Паст. *Пчала кусаецца жыґалам. Няхай пчала ўкусіць жыґалам, так спухня цела.* Кіралі Шчуч. *Ай, пчала жыґала ўпусціла!* Мярэцкія Глыб. *Жыґалам кусаіць пчала.* Саланое Віл. *Жыґалу ўпусціла пчала.* Асавец Віл. *Жыгало пчала дась — і тры дні спухня рука ці што.* Мсцібава Ваўк. 2. Стрыжань у скуле. *Жыґала ў скулі бываіць, пукі выцісніш жыґалу, тады скула прападаіць.* Малькуны Ігн.

ЖЫГА'ЛЬ *м.* Вострая жалезіна. *Жыгалем урэзала — зялязяцінай шылаватай.* Саланое Віл.

ЖЫ'ГАЦЬ I *незак.* Тое ж, што і жáхаць. *Маланка жыгая, а грому ня чуць.* Азяраны Раг.

ЖЫ'ГАЦЬ II *незак.* Кусаць. *Мухі лётаюць і жыгаюць моцна.* Валынцы В.-Дзв.

ЖЫ'ГНУЦЬ *зак. экспр.* Бліснуць. *Маланка як жыгнет!* Кіралі Шчуч. *Як жыгне маланка — відна дзелаецца.* Азяраны Раг.

ЖЫГУЛІ' *мн.* Парасткі вярбы. *Жыґулі тоненькія раслі, з вербалозіны жыґулі — маладыя адросткі, жоўценькія дупцы, нараслі каля куста атожылы.* Бакшты Іўеў.; *гл.* жылбуць.

ЖЫГУРО'К *м.* Тое ж, што і жабурок 1. *Жыґуркі нашчапаныя, кругленькія, жыґуркоў збірала.* Кураполле Паст.; *гл.* жаґары.

ЖЫГУРО'ЧАК *м. памянш.* да жыґурок. *Нашчапаіць с палена жыґурочкаў на распалку печы. Ускінь хоць адзін жыґурочак, мала духу — не спечэцца блін ці какорка.* Кураполле Паст.

ЖЫГУ'ХА *ж.* Тое ж, што і жаґа II. *Жыгуха жагаецца.* Навікі Лудз.

ЖЫГУ'ЧКА, ЖЫГУ'ШКА, ЖЫВУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і жаґа II. *Наберыў ахаб жыґучкі і сцібаецца ў бакі ад спіны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Крапіва вялікімі лістамы, а жыґучка дробнамі лісточкамі.* Ёдлавічы Брасл. *Нада было нарваць жыґучкі.* Кураполле Паст. *Жыґучкай апёк усе рукі.* Мярэцкія Глыб. *Пасаветаваў жыґушку піць, ена дробненькая.* Шамялі Брасл. *Жыґушку пасекла і даю курам.* Глівін Барыс. *Жыґушку свінням даем.* Мачаск Бярэз. *Жыґушка жгець крэпка.* Мішневічы Шум. *Жыґушка — маленькая крапіва.* Рагулішкі Даўг. *Жывушка такая пяконцая.* Магуны Паст.

ЖЫДА'ЦЦА *гл.* ЖАДА'ЦЦА

ЖЫДЖА'ЦЬ *незак.* Рабіцца рэдкім, вадкім. *Як з рослага жыта мука зроблена, потым замесіш цеста, то яно жыджая.* Бакшты Іўеў.

ЖЫДЗЕ'ЛЬ *м.* Жыжка. *Картошку з'ела, жыдзель астаўся.* Навікі Лудз.

ЖЫ'ЖА', ЖУЖА', ЖЭЖА' *ж.* 1. Тое ж, што і жабура. *Жыжа цячэць с хлява.* Ёдлавічы Брасл. *Жыжу вазілі на поля.* Валынцы В.-Дзв. *З навоза жыжа, насіла жыжу палівать капусту.* Рыбчына Віл. *Жыжа з гною нацякла ў яму. Жыжу на вос ні зложыш, яе нада ў бочку наліваць.* Жылі Іўеў. *Жыжа збігае ў яму каля хлева.* Мсцібава Ваўк. *Жыжа сцякая ад гною.* Вецярэвічы Пух. *Жыжу вылію, а то сабралася дужа.* Старыя Смільгіні Воран. *Жужа сцякае с хлева.* Мсцібава Ваўк. *Жэжа — гнойная вода.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і жыдзель. *Бульбянай жыжой праганяіць* [запівае] *хлеб.* Кураполле Паст. 3. Лёк. *У жыжу сялёдашную дзеці бульбай макалі.* Беразіно Докш.

ЖЫ'ЖАЧКА *ж. памянш.* да жыжа 2. *Я зліў гэтую жыжачку з супу.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖЫЖА'ВАЧКА *ж. памянш.* да жыжаўка. *На камян стаў і памыў ногі халоднаю вадой, назаўтра жыжавачка якаясь ускочыла, а назаўтра і гузка села.* Калядзічы Ваўк.

ЖЫЖА'ЎКА *ж.* Прышч. *Жыжаўка баліць. Выскачыла жыжаўка на руцэ, на ліцэ; выскакваюць часам с прастуды жыжаўкі нівелькія, але балючыя.* Мсцібава Ваўк. *Выскачыла жыжаўка.* Баброўнікі Гарад.

ЖЫЖУ'ТКА *ж.* Тое ж, што і ж а́ ґ а II. *Жыжутка — крапіва такая, дробнянька.* Быстрыца Астр.

ЖЫЗНЬ, ЖЫ'ЗНЯ, ЖЫЗЬ, ЖЫСЬ, ЖЫСЦЬ *ж.* Жыццё. *Якая жызнь коло братов.* Горск Бяроз. *Трудная ў вайну была жызня, голат быў.* Малькуны Ігн. *Так і жызню можна пражыць — і не агледзецца.* Ёдлавічы Брасл. *Ня хочацца жызню памінаць.* Ністанішкі Смарг. *Усю жызню трэба так жыць.* Магуны Паст. *Цяжолая была мая жызня, век пражыла, а добрага ня відзела.* Кіралі Шчуч. *Жызь мая была цяжолая, а цяпер пенсію палучаю, работы мала.* Старыя Смільгіні Воран. *Якая яму там жысь.* Янова Рас. *Жысць пройдзе, і не аглянешся.* Граўжышкі Ашм. ∇ *Жысць пражываць — не канфетку з'есці.* Грускава Нясв. *Жыта родам, а жысь пераходам — сягоння так жывеш, а заўтра інакш.* Саланое Віл.; *параўн.* руск. *жизнь* 'тж'.

ЖЫЛАВА'ННЕ *н.* Супоня. *Жылаванне — чым звязваюць клешчы ўвярху, гэта рэмень ці аборка.* Рыбчына Віл.

ЖЫЛАВА'ТЫ *прым.* 1. Жылісты. *Жылаватыя рукі, ногі: як вяроўкамі звітыя жылы. Рукі ў яго жылаватыя, балючыя.* Ёдлавічы Брасл. *Рукі тонкія, жылаватыя, кашчаватыя.* Кураполле Паст. *Жылаватыя рукі.* Бакшты Іўеў., Рыбчына Віл., Міратычы Карэл., Старыя Смільгіні Воран., Магуны Паст., Быстрыца Астр., Рудня Астравітая Чэрв. *Рукі натта жылаватыя, паўсталі жылы. Жылаваты патчаровак, яго і зубамі трудна ўкусіць.* Кіралі Шчуч. *У мяне рукі жылаватыя, ад работы яны* [вены] *выпіраюць.* Малахоўцы Бар. *Жылаватэ рукі ад работы.* Лука Нараўк. 2. Мускулісты, сухарлявы. *Жылаваты чалавек.* Альхоўцы Лях. 3. Жылкаваты. *Буракі жылаватыя, як зварацца — як хлут, як дрэва.* Кураполле Паст. *Трыпутнік жылаваты, карні дліныя.* Рагулішкі Даўг. *Жылаватых насадзіш буракоў.* Азяраны Раг.

ЖЫ'ЛАВІСТЫ *прым.* Тое ж, што і ж ы л а в а́ т ы 1. *Жылавістыя рукі ў яе.* Навасёлкі Свісл.

ЖЫ'ЛАВЫ *прым.* 1. Тое ж, што і ж ы л а в а́ т ы 1. *Жылавыя рукі, жылы павыступаўшы.* Старыя Смільгіні Воран. *Жылавы рукі, жылы значны.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Разлапісты. *Жылава галіна.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖЫЛА'Ч *м. заал.* Верабей. *На вераб'я кажуць жылач.* Навасёлкі Свісл.

ЖЫЛБУЦЁВЫ *прым.* Лазовы. *Кош быў жылбуцёвы ў мяне.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* ж ы л б у́ ц ь.

ЖЫЛБУ'ЦЬ, ЖЫЛГУ'ЦЬ, ЖЭЛГУ'ЦЬ *м.* Вітка, прут з лазы, вярбы ці ляшчыны. *Жылбуць выдзіраецца з ляшчыны,*

*і жылбуцём звязваецца памяло, і сявенькі плецены з жылбуця.* Граўжышкі Ашм. *Закручую жылбуць. Знізаў рыбу на жылбуць і нясе дахаты. З жылґуцей сплецены бучы; кашы плялі з жылґуцей.* Старыя Смільгіні Воран. *Жылґуць тонкі; з жылґуцёў кош сплёў. Жылґуці здзелаюць з ляшчыны і каша плятуць. З ляшчыны жылґуць атстае ат прутка.* Гемзы Шальч. *Калыску плялі з жылґуцёў; спляцеш жылґуці; жылґуці — розгі, рэзалі з лазы.* Стракішкі Трак. *Пайду нарэжу жэлґуцёў.* Жылі Іўеў.; *парайн.* літ. *žilgas* 'разнавіднасць вярбы'.

ЖЫЛВІ'ЦА I, ЖУЛВІ'ЦА, ЖУЛЫ'ЦА, ЖЫЛВІ'ЦЬ *ж.* 1. *бат.* Від лазы. *Маладыя пшчолы з жылвіцы нясуць пыльцу. Жылвіцы крохкія, ломяцца, растуць возлі рэк і ў ніскіх містах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жылвіца нам памяшала, заняла многа месца.* Ёдлавічы Брасл. *Жылвіца хрупкая, ломіцца — лаза такая рагаценькая, сцібель ва ўсе стораны. Прыляціць зязюлька на жылвіцу, сядзіць і кукуіць, як мама хварэла.* Рагулішкі Даўг. *З яе пены многа, аш капаіць з жулвіцы.* Шамялі Брасл. *Жулыца — крохкая, лісты, як у лазе, расце таўстая, раскідзістая.* Індра Красл. *Жылвіць на лазу пахожа, лаза такая за нашай гарой ёсць.* Чычалі Швянч. *Жылвіці па райстах растуць, кошыкі плялі з іх.* Старыя Трокі Трак. 2. Тое ж, што і ж ы л б ў ц ь. *Жылвіца — віткі з вярбы і лазы.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *žilvitis* 'ракіта, лаза'.

ЖЫЛВІ'ЦА II *ж.* Тое ж, што і ж ы в е́ ц IV. *Чыновачка маіць адну жылвіцу. Жылвіцы — пажыліны прывязваюць да чыноўкі* [у кроснах]. Кураполле Паст.; *гл.* ж ы л в і ц а I.

ЖЫЛВІЦЁ *зб. н.* Тое ж, што і ж ы л б ў ц ь. *Жылвіцё нарэжаш і пляцеш кошыкі. Лукі ў кошыку рабілі з тых жа жылвіцёў. Шлоксні дралі з жылвіця.* Старыя Трокі Трак.; *гл.* ж ы л в і ц а I, 2.

ЖЫЛВІЦЁВЫ *прым.* Тое ж, што і ж ы л б у ц ё в ы. *Плятуць кошык з жылвіцёвых шлоксняў.* Старыя Трокі Трак.

ЖЫЛВІ'ЧНІК *зб. м.* Тое ж, што і ж ы л в і ц а I, 1. *Жылвічнік — пустоя лёхкая дзерава, і на дровы не ідзе.* Індра Красл.

ЖЫЛВІ'ЧЫНА *ж.* Тое ж, што і ж ы л в і ц а I, 1. *Жылвічына расце ў ніскіх містах ля рэк, крохкая такая.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЖЫЛҐУЦЁН *м.* Тое ж, што і ж ы л б ў ц ь. *Гэтат жылґуцён гібкі і длугі.* Гемзы Шальч.

ЖЫЛҐУЦЁЎ *прым.* Тое ж, што і ж ы л б у ц ё в ы. *Жылґуцёў кош.* Гемзы Шальч.

ЖЫ'ЛІСТЫ, ЖЫ'ЛЫСТЫ *прым.* Тое ж, што і ж ы л а в а́ т ы 1. *Такая ў яго жыліста рука.* Старое Сяло Зэльв. *Рука ў яе сухая, жыліста.* Мачаск Бярэз. *Жылыстыя рукі ад работы.* Рагулішкі Даўг.

ЖЫЛЬНІКАВА'ЦЬ *незак. абрад.* Пасціць. *Жыльнікуе баба: нічога не есць перад святам.* Лука Нараўк.

ЖЫ'ЛЬНЫ *прым.* Тое ж, што і жылава́ты 1. *Жыльныя рукі, жылы выпірліся.* Мярэцкія Глыб.

ЖЫЛЯ'К *м.* Тоўстая жыла. *Жылякі пуд каленам.* Лука Нараўк.

ЖЫЛЯ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і жылава́ты 1. *Ад цяжкай работы і рукі жылястыя.* Беразіно Докш.

ЖЫ'НКА *гл.* ЖО'НКА

ЖЫ'ПОРЫТЫ *гл.* ЖУ'ПАРЫЦЬ

ЖЫР I *м.* 1. Тлушч. *Ператопленае сала — жыр.* Альхоўцы Лях. *Некаторые вэндзяць кумпяка, але много выцякае з яго жыру. Смалец — гэто жыр.* Баброўнікі Гарад. 2. Здор. *Даўней жыр унутраны скручвалі.* Кураполле Паст.

ЖЫР II *м.* Тое ж, што і жыве́нё. *Шчука пойдзя на жыр.* Быстрыца Астр. *Пчолы на жыр ідуць за пяць кіламетраў. Ідуць пчолы на жыр, збіраюць мёд з кветак.* Саланое Віл.

ЖЫРАВА' *ж.* Ежа, харч. *Ёсць у яго жырава, а ён худаежлівы.* Магуны Паст.

ЖЫРАВА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і жывіцца. *Цапля ў вады жыруецца.* Чарняўскія Лудз.; *параўн.* польск. *żerować się* 'карміцца, знаходзіць корм'.

ЖЫРАВА'ЦЬ, ЖУРУВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і жывіцца. *А плотка жыруіць бузой — шыцік, матылі ў бузе, рыба іх выдаўліваіць з бузы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Заяц жыруя.* Дакудава Лід. *Што ты тут жыруяш?* Старое Сяло Зэльв. *Лось журуя.* Крэва Смарг.

ЖЫРАЛО' *гл.* ЖАРАЛО'

ЖЫРАЎНЫ' *прым.* Пражэрлівы. *Такі жыраўны, усё паесць.* Беразіно Докш.

ЖЫ'РГАЦЬ *гл.* ЖЭ'РГАЦЬ

ЖЫ'РКІ' *прым.* Неперабарлівы. *Жы́ркі конь, жы́рка карова, жы́ркі кабан — хто ўсё па́драд есць.* Новікі Гродз. *Ён жыркі: што дасі — з'есць.* Магуны Паст. *Жыркі — неперабарлівы ў ядзе.* Быстрыца Астр. *Не жырка́я карова.* Чычалі Швянч. *Котка не жырка́я.* Гемзы Шальч. *Жыркі чалавек.* Старыя Смільгіні Воран. *Жыркі быў ён.* Старыя Трокі Трак.

ЖЫРЛІ'ВЫ *гл.* ЖАРЛІ'ВЫ

ЖЫ'РНЫ' I, ЖЫ'РНЫЙ *прым.* 1. Тлусты. *Жы́рная куця перад Новым годам.* Ёдлавічы Брасл. *Жырно́я малако, як прыпарыш — пленачка бывая.* Рагулішкі Даўг. 2. Топкі. *Жы́рная сала топіцца на тук, збягае на тук.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖЫ'РНЫ II *прым.* 1. Тое ж, што і жы́ркі. *Жырна карова, як добра есць.* Жылі Іўеў. *Есць добро, жырная, удачная свінча.* Альхоўцы Лях. *Жырны чалавек, яму хоць хво-*

*раст дай — ён будзя есці, так і скаціна.* Мсцібава Ваўк. *Жырны, еслі не перабірае, усё яму смашна.* Ухвала Круп. *Жырная карова, а як ня есь — пераборлівая.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Тое ж, што і ж ы р а ў н ы́. *Жырны много есць, абжора.* Міратычы Карэл. *Жырны чалавек, хто многа есь.* Старое Сяло Зэльв. *Абжорліва, жырна карова, не ўкармлю, шмат есь.* Альхоўка Навагр. 3. Сыты, поўны (пра чалавека). *Жырны, сто шэсць кіло важыць той чалавек.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЖЫ'РНЫ III *прым.* Цёмна-зялёны (пра траву, якая вырасла на месцы, дзе быў памёт). *Жырная трава, што расце на гнойнай зямлі, чорная такая. Авечкі і каровы выгрызлі траву кругом, асталася жырная трава, яе каровы не ядуць.* Малькуны Ігн.

ЖЫ'РШЧО *н.* 1. Іржышча. *Жыршчо пасля ўсяго: як скосяць жыта, пшаніцу.* Старое Сяло Зэльв. 2. Рэшткі сцяблоў збожжа, скошаных пасля жніва. *Жыршчо шчэ на патсцёл касілі.* Старое Сяло Зэльв.

ЖЫСЦЬ *гл.* ЖЫЗНЬ

ЖЫСЬ *гл.* ЖЫЗНЬ

ЖЫ'ТА, ЖЫ'ТО, ЖЭ'ТО *н.* Жыта. *Днём жыта жнець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Даўней хлопцы, дзеўкі ідуць пад жыта. Ён ніколі з ёй пад жыта не ідзець.* Кураполле Паст. *Жыта па жыце сеяць.* Мачаск Бярэз. *Той рок жыта прапала.* Стракішкі Трак. *Жыта многа сеюць.* Мельнікі Лудз. *Жыта на зіму сеялі.* Відаўцішкі Вільн. *Жыта плывець* [каласуе]. Чычалі Швянч. *Жыто сеюць увосень.* Міратычы Карэл. *Пашоў сеяці жыто.* Навасёлкі Свісл. *Жыто цвіце, жыто расуіцца.* Баброўнікі Гарад. *Жэто посыют — потом волочат.* Дзмітравічы Кам.

ЖЫ'ТКА I *ж. экспр.* Жыццё. *Якая жытка ў яе!* Дзяніскавічы Ганц.

ЖЫ'ТКА II *прысл.* Хутка, шпарка, борзда. *Жытка бегаць — быстра бегаць.* Пацаўшчына Дзятл.

ЖЫ'ТКІ I *прым.* Рэдкі. *Мы касілі аб гэтаю вадзе з жыткой ядой. Жыткая яда.* Саланое Віл.

ЖЫ'ТКІ II *прым.* Нясопкі (пра бульбу). *Сыпкая і жыткая бульба бывае.* Ракаўскія Швянч.

ЖЫ'ТКІ III *прым.* Тое ж, што і ж в а́ в ы. *Я такая жытка, іду быстра.* Кіралі Шчуч.

ЖЫ'ТНІ, ЖЫ'ТНЫ', ЖЭ'ТНІЙ *прым.* 1. Які мае адносіны да жыта. *Злажыў усю жытнюю салому.* Груздава Паст. *Жытня салома на потсціл ідзе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Жытняй саломай патсцілаюць у хляве, дзе карова стаіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жытнёё пожніско — поле, дзе расло жыта.* Вострава Маст. *Жытня пожня — жыта зжалі, пагналі кароў на жытню пожню.* Кіралі Шчуч. *Жытнее ржыска.* Відаўціш-

кі Вільн. *Жытняя жніво ў калхозя.* Старыя Трокі Трак. *На жытных каласях мядуніца выступала.* Саланое Віл. *Куль жытно́й саломы прынёс.* Ракаўскія Швянч. *Жэтня солома лыжыть.* Дзмітравічы Кам. 2. Прыгатаваны з жыта або прадуктаў яго апрацоўкі. *Жытняй мукі крыху маю.* Мярэцкія Глыб. *Там у мяшку жытня мука.* Паляцкішкі Воран. *Жытню кашу варылі так: паставяць вадэ, закіпяціў, засыпаў муке — і жытня каша.* Кіралі Шчуч. *Жытня мука шчэ е.* Лука Нараўк. *Жытну́ю муку рашчыняяць.* Магуны Паст. *Адзін жытны́ хлеп. Зробяць закваску із жытно́й мукі, потым вараць поляўку з крывёй і без яе.* Ракаўскія Швянч. *Жэтня мука ны пшанэчна.* Дзмітравічы Кам.

ЖЫ'ТНІСКО *н.* Тое ж, што і жы́ршчо 1. *Паехаў гарацъ жытніско, пшанічніско.* Міратычы Карэл. *Жытніско — дзе зжалі жыта; пожэнем каровы на жытніско.* Дзяніскавічы Ганц.

ЖЫ'ТНІЦА I *ж.* Жытняя салома. *Жытніцы навёз, ржаная салома — жытніца.* Рагулішкі Даўг.

ЖЫ'ТНІЦА II *ж. бат.* Жытняк. *Жытніца — трава, каласкі, як у жыта, па лугах, ля рэк, на полі расце.* Саланое Віл.

ЖЫ'ТНІШЧА, ЖЫ'ТНІШЧЭ *н.* Тое ж, што і жы́ршчо 1. *Ганіця кароў на жытнішча.* Кураполле Паст. *Бульбу садзяць у жытнішчу.* Саланое Віл.

ЖЫ'ТНЫ' *гл.* ЖЫ'ТНІ

ЖЫ'ТНЯ *ж.* Тое ж, што і жы́ршчо 1. *Жытня пустая.* Саланое Віл.

ЖЫ'ТО *гл.* ЖЫ'ТА

ЖЫТУ'ХА *ж.* Тое ж, што і жы́тка I. *Якая там жытуха!* Міратычы Карэл. *Хто поросята продаў, то жытуха.* Смаляніца Пруж. *Жытуха хорошая.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЖЫЎЦО'М *прысл.* 1. У жывым стане, жывым. *Жыўцом загубіла б, задушыла б фашыста.* Саланое Віл. 2. Гвалтоўна. *Жыўцом лезя.* Альхоўцы Лях.

ЖЫХ *выкл.* 1. Бах. *Перш як устрэцішся мне — жых у сэрца.* Ёдлавічы Брасл. 2. у знач. *вык.* Пых. *Ён такі, што як кранеш яго, ён жых, як лучына.* Саланое Віл.

ЖЫХА'Р *м.* Жыхар. *Які гэта жыхар!* Мярэцкія Глыб.

ЖЫ'ЦВІЦА *ж.* Тое ж, што і жы́тніца II. *Жыцвіца, як жыта.* Граўжышкі Ашм. *Дзе лён сеяць, там часто жыцвіца расце, яе выкідаюць, полюць.* Мсцібава Ваўк. *Жыцвіца — трава такая, каля вады расце.* Ухвала Круп. *Многа жыцвіцы ў лёні.* Бабро́ўнікі Гарад.

ЖЫ'ЦЕ, ЖЫ'ЦЁ, ЖЫ'ЦЯ *гл.* ЖЫЦЦЁ

ЖЫЦЕ'Ц *м.* Тое ж, што і жы́тніца II. *Жыцец у лёня расце.* Вецярэвічы Пух.

ЖЫ'ЦІ *гл.* ЖЫЦЬ

ЖЫ'ЦІК *м.* Тое ж, што і жы́тніца II. *У жыціку ж*

*двухрадовы каласок і зярняткі, як у жыці. Жыцік — трава, лёну мяшая.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЖЫ'ЦІЦА *ж.* Тое ж, што і жы́тніца II. *Жыціца ў лёне.* Старыя Смільгіні Воран. *Жыціца па лянох расце, зярнята доўгія.* Бакшты Іўеў. *Жыціца — трава такая, у жыці расце, яе было шмат у лёне, не маглі вычысціць.* Жылі Іўеў. *Жыціца расце ў лёне, лён ачышчаюць ад жыціцы, адзін шчабель у яе зубаценькі — зубок то на адзін, то на другі бок.* Кіралі Шчуч.

ЖЫ'ЦЦА *незак. безас.* Складвацца (пра ўмовы жыцця). *Жывецца добра.* Ахрэмаўцы Брасл. ▽ *Жылосё не багато і нікому не вінавато.* Мсцібава Ваўк.

ЖЫЦЦЁ, ЖЫ'ЦЦЕ, ЖЫ'ЦЕ, ЖЫ'ЦЁ, ЖЫ'ЦЯ *н.* Жыццё. *Жыццё маё прайшло, нават азірнуцца не паспела.* Мачаск. Бярэз. *Жыццё невядома як прайшло.* Рудня Астравітая Чэрв. *Усякім жыццям жыла.* Ністанішкі Смарг. *Як плохая жыцце, то дрэнна жыць і сэрца ніякая.* Малькуны Ігн. *За нашым жыццям сколькі іх тут перавярнулася.* Лісна В.-Дзв. *Ну, што было раней за жыце — рабі і рабі, а што меў?* Пацаўшчына Дзятл. *За мае жыце шмат мінуласё ўсяго. За жыце свае так камандаваў. Мне хваліцца жыцем нечаго. Ціпер жыце змянілася.* Мсцібава Ваўк. *Жыце прайшло невядома як.* Баброўнікі Гарад. *За маё жыце ўсенького было.* Каўняны Гродз. *Такое жыце: згрызесся, звалнуешся, уступаеш у злосць.* Кіралі Шчуч. *Якое было жыце! Цала жыце пражыў. Канец жыця.* Вялікія Баяры Шчуч. *Усенька зёлка паможа, як на жыця.* Навікі Гродз. *За мое памеці нэ было жыця лепшого, як согоні жыце.* Смаляніца Пруж. *Брат мая сваё жыцё.* Граўжышкі Ашм. *Жыцё маё прашло.* Старое Сяло Зэльв. *Удаве жыця плахоя, ніхто ні спагадая.* Кіралі Шчуч. *Петрунэля жыця слабоя мая.* Старыя Смільгіні Воран. *Абы жыця было добра.* Дакудава Лід. *Дрэна было жыця.* Стракішкі Трак. *Там жыця скверная.* Вецярэвічы Пух. ▽ *Ні ўсім роўна жыця: сабача жыця на дварэ, а катова — у хаце.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *życie* 'тж'.

ЖЫЦЬ, ЖЫ'ЦІ *незак.* 1. Існаваць. *Сёня жыву і паеўшы, і абуты.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я знаю, як з людзьмі жыць.* Валынцы В.-Дзв. *Як жыеш?* Граўжышкі Ашм. *Жыйця тут. Старыя жыюць адныя.* Паляцкішкі Воран. *Што я жыву за ім, я ніякага свету ня віджу.* Рыбчына Віл. *Я ш ля яе не жыла. Трэба жыць, каб было за чым.* Саланое Віл. *Удвох жыюць.* Жылі Іўеў. *Дзе звеннявая жыве?* Міратычы Карэл. *Пастаў вады, хай на дворку жыве.* Альхоўка Навагр. *Жыець у горадзі.* Ністанішкі Смарг. *Жыець без бацькі. Дзе жыіцё? Ціпер жыюць харашо.* Кемялішкі Астр. *Многа гадоў, усё жыець.* Быстрыца Астр. *Пабудаваліся і жывямо тут.* Кіралі Шчуч. *Бедная дзеўка ня мела чым жыць.* Рагулішкі Даўг.

*Жыю тут болей сарака лет. Каля лесу ту жыю. Мой дзядук жые. Жыюць адны.* Старыя Трокі Трак. *Очэнь харашо жыюць.* Новыя Мацалі Варэн. *У улях пшчолы жылі.* Судэрва Вільн. *Унук жые ў Вільня. Я жыю пры сыне. Тэрас усе добра жыюць.* Стракішкі Трак. *Бацька з дзядулём пашлі ў Рудаміну жыць.* Гемзы Шальч. *Хто быў якім учэннічкам, той жыў.* Чычалі Швянч. *Ніколі ня жылі так, як ціпер жывуць.* Малькуны Ігн. *Мы начай жывем. Яна жыве пры бацькаві.* Парэчча Гродз. *Яшчэ жыцьмеш, Тэкля? Не ведаю, чы ён жыцьме, ці памрэ. Калі жыцьме, то палучыць пэнсію.* Вецярэвічы Пух. *Цяжко було жыці. Жывэтэ ў мэнэ цэлу зіму.* Смаляніца Пруж. 2. Бываць, знаходзіцца. *Пятух мала калі жыве са сваімі курмі, усё ляціць да чужых.* Кіралі Шчуч. 3. Гуляць, адпачываць. *Ідзі, жыві, нарабіцца будзе час.* Міратычы Карэл. ∇ *Жыву я, як гарох пры дарозе: хто ідзець, той і скубець. Нада жыць, як бяжыць.* Едлавічы Брасл. *Мужык хочэць піць, а жонка — жыць.* Курاполле Паст. *Не ўсігда па гору жыць.* Саланое Віл. *Яны жывуць яко блах, яко нах* — бедна, у нястачы. Кіралі Шчуч. *Сам не жыець і другім не даець.* Быстрыца Астр. *Сёстры жылі, як кот с сабакам.* Лісна В.-Дзв. *Жыве, як варона на колічку.* Азяраны Раг. ◊ *Жыць з мазаля, жыць з працы рук* — жыць за кошт уласнай працы. *Я жыву з мазаля.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жыву з працы рук.* Бакшты Іўеў. *Кажды жыве с працы рук.* Міратычы Карэл. *Жыць, як у божэму уху* — жыць добра, спакойна. Саланое Віл.

ЖЫ'ЧКА, ЖЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і ж á ґ а II. *Жычка пячэць сільна.* Беразіно Докш. *Апякла жычкай рукі.* Галубы Маст. *Жычка — крапіва такая расце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Фэня жычку жала для індычынятаў; яны растуць ад жычкі.* Кіралі Шчуч. *Жычка красненькая.* Рудня Чэрв. *Жышка — дробненькая крапіва, моцно пячэцца.* Малахоўцы Бар. *Жышка — кусучая крапіва.* Пасека Ст.-Дар. *Жышка ад высыпкі ў дзяцей: піць і змыцца — і праходзіць.* Альхоўка Навагр. *Жышкай ногі папякла.* Мярэцкія Глыб. *Жышка пячэцца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Жышка пячэцца, аш цела гарыць.* Вецярэвічы Пух.

ЖЫЧКА'ВЫ *прым.* Пякучы. *Жычкавая крапіва, так апякла рукі.* Рыбчына Віл.

ЖЫЧКА'ЎКА *ж.* Тое ж, што ж á ґ а II. *Адна жычкаўка расцець.* Крэва Смарг.

ЖЫЧКІ' *прым.* Тое ж, што і ж ы ч к á в ы. *Дробная крапіва жычкая.* Дакудава Лід.

ЖЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Жадаць. *Не жычу нікому такога жыцця без маткі.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *życzyć* 'тж'.

ЖЫ'ШКА I *гл.* ЖЫ'ЧКА

ЖЫ'ШКА II *ж.* 1. Жыжка. *Налі мне жышкі.* Жодзішкі

Смарг. *Улій жышкі, юшачкі.* Мярэцкія Глыб. *Жышка і гушча бываіць. А наша свінка жышку п'ець?* Саланое Віл. *Наліла адной жышкі.* Магуны Паст., Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Тое ж, што і ж а б у р а́. *У хляве адна жышка, німа як зайсці ў хлеў, нада атпратаваць* [вылівацъ]. Кіралі Шчуч. *Жышка — гнойная юшка, жышкай паліваюць вішняк, алі кап пад дош.* Мярэцкія Глыб.

ЖЭ *злуч.* Што. *Я чуў, жэ должон ён жэніцца.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* польск. *że* 'тж'.

ЖЭ'БА *гл.* ЖА'БА

ЖЭ'БРАК *гл.* ЖАБРА'К

ЖЭ'БРЫ I *гл.* ЖА'БРЫ I

ЖЭ'БРЫ II *гл.* ЖА'БРЫ II

ЖЭ'БРЫ III *мн.* Тое ж, што і ж а б р а н і н а. *Жабракі па жэбрах хадзілі, ціпер нет іх. Пара паснедаць, ды маткі з жэбраў нет.* Валынцы В.-Дзв. *У жэбры не хачу хадзіць.* Кураполле Паст.

ЖЭ'ГАЦЦА *незак.* Хвастацца. *Ён ідзе ў баню, бярэ пук крапівы і жэґаецца крапівай, гэта здорава.* Кіралі Шчуч.

ЖЭ'ГЕЛЬ *гл.* ЖА'ГЕЛЬ

ЖЭ'ГЕНІ, ЖЭ'ГІНІ *гл.* ЖАГІ'НІ

ЖЭ'ГЕНЬ *м. перан.* Высокі сухарлявы чалавек. *Чалавек тонкі, як жэґень, сухі.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *žaginỹs* 'жэрдка'.

ЖЭГІ'НІНА *ж.* Сукаватая палка. *Жэґініна рагатая, сукі не абрубліваліся наглатка, на гэтыя сукі клалі жэрткі і гарох клалі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *гл.* ж а ґ і н і.

ЖЭ'ГІНЫ *гл.* ЖАГІ'НІ

ЖЭ'ГЯНІ *гл.* ЖАГІ'НІ

ЖЭ'ДЗЕНЬ *м.* Невялікі стажок сена, саломы. *За зімку тры жэдзені сена з'ела карова, а худая, як палена.* Медумі Даўг.

ЖЭ'ЖА *гл.* ЖЫ'ЖА

ЖЭ'ЛА *ж.* Тоўстая жыла. *Жэлы повыпэрало. Жэла лопнула.* Дзмітрыевічы Кам.

ЖЭЛГУ'ЦЬ *гл.* ЖЫЛБУ'ЦЬ

ЖЭ'ЛО *н.* Джала. *Зубамі кусае гадзюка, а жэлом — вуш.* Вялікі Краснік Пруж.

ЖЭЛЯ'СКА *гл.* ЖАЛЯ'ЗКА

ЖЭЛЯТЫ'НА *ж.* Жэлацін. *А ён прывёс жэлятыны.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *żelatyna* 'тж'.

ЖЭ'МЖА *ж.* Тое ж, што і ж м а I. *Жэмжа кузурак, мух, камароў.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* літ. *žėmžėti* 'абрастаць валасамі, барадой, мець зямлісты колер твару'.

ЖЭ'МУХІ *мн.* Тое ж, што і ж а м е́ р ы н ы. *Жэмухі — вашчына пасля выціскання мёду, васкавыя жамерыны. Мёд*

*выціскаюць з вашчурын, а жэмухі ператапляюць — і на ваду.* Азяраны Раг.

ЖЭНЕ'Ц *гл.* ЖНЕЦ

ЖЭНІ'ЦЬ *незак.* Надзяваць адно на другое. *Як сцюдзіна, жэнюць рукавы.* Старыя Смільгіні Воран.

ЖЭ'НСЫ *мн.* Вейкі. *Жэнсы велькі.* Паляцкішкі Воран. *Жэнсы — што на глазах.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *rzęsy* 'тж'.

ЖЭ'НШЧЫНА, ЖЭ'НШЧЫЗНА, ЖЭ'НЧЫНА *ж.* Жанчына. *Устаючы і кладучыся, гэта жэншчына плача па дзецях.* Альхоўка Навагр. *Асталася ўдавой, яна — пеapproachжытая жэншчына.* Старыя Трокі Трак. *Жэншчызна тут жыла.* Старыя Смільгіні Воран. *З намі паедзіць жэншчызна.* Стракішкі Трак. *Не распісувайся з гэтай жэнчынай.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* руск. *женщина* 'тж'.

ЖЭРАБЕ'Ц *м.* Тое ж, што і жарабу́к. *Конь пакладаецца, а жэрабец не.* Баброўнікі Гарад.

ЖЭ'РГАЦЬ, ЖА'РГАЦЬ, ЖЫ'РГАЦЬ *незак.* 1. Пераступаць (праз каго-н., што-н.). *Жэрґае, пераступае, спаць не дае.* Магуны Паст. *Чаго ш лёх пад ногі, я буду хадзіць, цябе жэрґаць.* Граўжышкі Ашм. *Жэрґай праз граду, ды не стапчы!* Галоўні Воран. *Жэрґай, ды не ўпадзі.* Грыкені Вільн. *Ня жэрґай, а то ня будзя расці малы.* Ракаўскія Швянч. *Што жэрґаеш праз дзіця?* Старыя Трокі Трак. *Вядро піражырґнула і пашла; не нада жарґаць.* Мярэцкія-Глыб. *Жарґайця праз мяне!* Лісна В.-Дзв. *Праз ланцюг не можна жарґаць.* Малькуны Ігн. *Што ты мяне жырґаў, атступай назат!* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Парох піражырґнуў; ня трэба жырґаць.* Саланое Віл. 2. Пералазіць. *Жэрґае туды-сюды прас плот.* Жылі Іўеў. *Жэрґала праз плот і парвала сукенку.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Скакаць праз што-н., каго-н. *Ні жэрґайця! Жэрґаюць дзеці адзін праз другога.* Старыя Трокі Трак. *Жэрґай праз мяне!* Чычалі Швянч. 4. Ступаць, крочыць. *Жэрґае сабе памалу.* Быстрыца Астр. *Я пяшком жарґаў туды.* Кураполле Паст. *Жарґай сабе — ня стой!* Магуны Паст. 5. Мераць крокамі. *Я жэрґаў, правярай шагамі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *žergti* 'пераступаць, хадзіць'.

ЖЭ'РДАЧКА, ЖО'РДАЧКА, ЖО'РТОЧКА *ж. памянш.* да жэ́рдка. *У лазні лён на жэрдачкі паставім і сушым.* Новыя Мацалі Варэн. *Жэрдачку прыб'еце.* Кемялішкі Астр. *Жэрдачка ля печы.* Рудня Астравітая Чэрв. *А ў лазні жордачкі; павесь, што табе трэба, на жордачкі.* Курaполле Паст. *Отложы жорточку.* Горск Бяроз.

ЖЭРДЗЬ, ЖЭРЖДЗЬ, ЖЭРЦЬ, ЖЭРСЦЬ *ж.* Тое ж, што і жэ́рдка. *Лата, як жэрдзь. Прынясі адну жэрдзь.* Грыкені Вільн. *Жэрждзі ліжацць, нада плот загарадзіць.* Мя-

рэцкія Глыб. *Жэрць уціскаць вос.* Лісна В.-Дзв. *Жэрсць наверх клалі, сена, салому ўціскалі.* Мярэцкія Глыб.

ЖЭ'РДКА, ЖЭ'РТКА, ЖО'РДКА, ЖО'РТКА *ж.* Жэрдка. *Адзежу павесь на жэрца.* Бакшты Іўеў. *Жэрдка наперадзе і с тылу.* Грыкені Вільн. *Жэрдка каля печы, цепер дроцінка.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Жэртку ў плаце памалявала — і стаяць памаляваныя.* Ёдлавічы Брасл. *Жэртка паламалася.* Альхоўцы Лях. *Высекая жэртку і лезе па ёй.* Дзяніскавічы Ганц. *Жордка зламалася.* Чычалі Швянч. *Паеду ў лес, можа, якіх жардок прывязу.* Вялікія Баяры Шчуч. *На палок ставілі снапы, жорткі закладаліся — станавілі ў цапкі жыта.* Саланое Віл. *Палок быў у лазні, жорткаў заставяць сушыць лён. На жорткі накіну кляянку і ўкрыю агуркі.* Ракаўскія Швянч. *У плоцця кідалі жорткі ўдоўш.* Магуны Паст. *Платэ гарадзілі жарткамі.* Кіралі Шчуч. *Жартке прыбілі да платоў.* Баброўнікі Гарад.

ЖЭ'РЖДЗЬ *гл.* ЖЭ'РДЗЬ
ЖЭ'РКІ *гл.* ЖО'РКІ
ЖЭРНАВЫ' *гл.* ЖАРНАВЫ'
ЖЭРНО'ВЫ *гл.* ЖАРНАВЫ'
ЖЭ'РНУЦЬ *гл.* ЖА'РНУЦЬ
ЖЭРО'БНА *гл.* ЖАРО'БНАЯ
ЖЭРСТВА' *гл.* ЖАРСТВА'
ЖЭРЦЬ I, ЖЭРСЦЬ *гл.* ЖЭРДЗЬ
ЖЭРЦЬ II *гл.* ЖРАЦЬ
ЖЭРЭБЯ' *гл.* ЖАРАБЯ'
ЖЭРЭЛО' *гл.* ЖАРАЛО'

ЖЭ'РЭП *м.* Жэрабя. *Я жэрэп выцягнуў туды ехаць і паехаў.* Істра Лудз.

ЖЭСМІ'Н, ЖЭСМЕ'Н *м. бат.* Язмін. *У саду жэсмін, срэнь [бэз] — усяго расцець.* Скрыпчына Лудз. *Харашэ пахне жэсмен.* Баброўнікі Гарад.

ЖЭСЦВЯ'К *гл.* ЖАРСЦВЯ'К
ЖЭ'ТНІЙ *гл.* ЖЫ'ТНІ
ЖЭ'ТО *гл.* ЖЫ'ТА

ЖЭХЧ *незак.* Пячы. *Атышло, не так стала жэхч.* Валынцы В.-Дзв.

ЖЭЧ *ж.* Рэч. *Жаднае жэчы не купіла. Нявіданна жэч.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *rzecz* 'тж'.

ЖЭ'ШКА I *ж.* Тое ж, што і ж á ґ а II. *Жэшка пячэцца — жэшка дробненькая.* Мсцібава Ваўк. *Жэшка — крапіва з дробненькімі лісткамі.* Навасёлкі Свісл. *Жэшка — дробна, пячэцца вельмо.* Стральцы Гродз.

ЖЭ'ШКА II, ЖЭ'ШКО *прысл.* Горача. *Жэшка, надта пячэ сонца.* Вострава Маст. *Страшэнно жэшко.* Дзмітравічы Кам.

ЖЭ'ШКІ *прым.* Гарачы. *Жэшкі чай. Жэшкі суп.* Дзмітравічы Кам.

ЖЮРІ'ХА *ж.* Жытні кісель. *Жюріха — жытні кісель; навары жюріхі.* Янова Рас.; *гл.* жур.

ЖЯ'БА *гл.* ЖА'БА

ЖЯРДЗЯНЫ' *прым.* Жардзяны. *Зрабіў жярдзяны плот.* Ахрэмаўцы Брасл.

# З

З, ЗЭ, С, СА *прыназ.* I. з *род.* 1. Пры абазначэнні прычыны дзеяння. Ад. *З пяруна бывая пажару многа.* Магуны Паст. *Ей з ветру стала, яе круціць. З налёту* [самалётаў] *мамка пагібла.* Крэва Смарг. *Яна памерла з родаў.* Стральцы Гродз. *І мой аспадар умёр з галавы.* Дакудава Лід. *Хата згарэла з грому.* Малахоўцы Бар. *Яна з чахоткі ўмерла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сабакі з голаду вылі.* Старыя Трокі Трак. *Захварэла дзіця з пуду.* Беразіно Докш. *З поперазку* [з перапалоху] *выскачыў — і ў поле.* Ухвала Круп. *Што, кап зэ зласці ды сказаў пра гэта?* Граўжышкі Ашм. *С аччу зрабілася дзіцяці.* Рыбчына Віл. 2. Пры абазначэнні месца. З, са; ад. *З Вільні прыехала дачка.* Ністанішкі Смарг. *Выпускай куры с патпечка!* Стральцы Гродз. *Я раней за цябе з дому вышаў. З рук карміць.* Альхоўка Навагр. *З гэтуль сікерка* [рыба] *мае калючачкі.* Быстрыца Астр. *Скробаць рыбу і с сяроткі выпускаць.* Старыя Трокі Трак. *Спратаць са стала.* Дакудава Лід. 3. Пры абазначэнні сукупнасці, адкуль вылучаецца прадмет. З. *Праўнук з радні вон. Яна не была з красівых.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Пры ўказанні на час. З. *З утра была халодна.* Ахрэмаўцы Брасл. *З восені ўдвух, утрох робяць.* Паляцкішкі Воран. *Не ідзі з вечара!* Кіралі Шчуч. *З малых дзён вучыць яго.* Альхоўка Навагр. *З дайна дайным так называлі. З замалада гумовыя боты яму сцягуя ногі.* Гемзы Шальч. *С утра пагода, слонейка выказалася.* Магуны Паст. 5. Пры абазначэнні адносін асобы да аб'екта. Адпавядае канструкцыі з *род.* скл. без прыназоўніка. *Быў дырэктар са клюба.* Быстрыца Астр. 6. Пры абазначэнні прадмета дзеяння. Адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі з *тв.* скл. (рэзаць нажом). *Банды рэзалі з нажа людзей.* Крэва Смарг. 7. Пры абазначэнні матэрыялу, з якога зроблены прадмет. З. *Аржаная мука з рожы.* Лісна В.-Дзв. *Сявенька з саломы і дупчыка.* Дзяніскавічы Ганц. *Хадакі с кожы шылі.* Быстрыца Астр. *Сявенька была, рабілі с саломы*

*і акручвалі лазою.* Вострава Маст. *Каробка плецена с саломы.* Судэрва Вільн. *Слізікі на куцю пяклі с пшонай мукі.* Старыя Трокі Трак. *Хвастач шылі с канцоў. Сцяшкі, што сцягвалі с лёну. Са сцяжак путы вілі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Тук с сала.* Палік Барыс. *Рабілі смятану с канапель, пяклі картафляныя латкі, мачалі ў смятану і елі.* Рудня Астравітая Чэрв. 8. Пры ўказанні на прыналежнасць часткі цэламу. З. *Пільшчык — грубы канец пяра с скрыдлаў, с хваста.* Магуны Паст. *Са льна сыплюцца сцібіклі, як трэплеш.* Старыя Смільгіні Воран. 9. Пры абазначэнні асобы, прадмета, да якіх праяўляецца якое-н. пачуццё. З. *Усе людзі з цябе смяюцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не смейся з яе!* Кемялішкі Астр. *З меня будзеце смяяцца.* Саланое Віл. *Сукенка доўга, з яе дзяўке смяюцца.* Старое Сяло Зэльв. *З мяне людзі дзівіліся.* Дакудава Лід. II. з *він.* Пры абазначэнні прыблізнай колькасці. З, са, каля. *Станкоў стаяла, можа, з восем. Ідуць чалавек з дзесяці. На могліцах бярозы сядзелі са две.* Саланое Віл. III. з *тв.* 1. Пры абазначэнні частак, з якіх складаецца прадмет. З. *Вілы з трумя рагамы для сена.* Ахрэмаўцы Брасл. *Перадок з галоблямі.* Судэрва Вільн. *Картошку ўпарыш, с кіслым малаком еш.* Старыя Трокі Трак. *Сцябяльцо с карэньчыкам вырваў.* Альхоўцы Лях. 2. Пры абазначэнні асоб, прадметаў, якія ўдзельнічаюць у чым-н. або суправаджаюць адзін аднаго. З. *Ен ідзець з ей.* Ахрэмаўцы Брасл. *Он з ей паехаў.* Гемзы Шальч. *Умесна жывуць с сястрой.* Шамялі Брасл. *Пад'еццяс канём. Пялюшка — гарох с аўсом сеялі, смесь. Карову маюся сдаваць, яна с пятым цялюком, файная карова.* Старыя Трокі Трак. 3. Пры абазначэнні прадмета руху. На. *Людзі з машынай едуць.* Саланое Віл. 4. Пры абазначэнні месца, куды змяшчаецца прадмет. З, па. *Быў ён ей цяжак і вясной з вадой пусціла* [на рэчку каўтун]. Саланое Віл. 5. Пры абазначэнні асобы, да якой праяўляюцца пачуцці. З. *Яна палюбілася з тым.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗА *прыназ.* I. з *він.* 1. Пры абазначэнні прадмета, да якога прымацоўваецца другі прадмет. За. *Брункта чэпіцца за плуг.* Відаўцішкі Вільн. 2. Пры ўказанні на прамежак часу, праз які адбываецца дзеянне. Праз. *Сабралася і за нядзельку паехала.* Кураполле. Паст. *За нядзелю будзе бульбачка.* Граўжышкі Ашм. *За тыдзень часу прыязджая мой сын. За гот мне нада была ісці на праверку.* Крэва Смарг. *За тры дні памру.* Жылі Іўеў. *Пятра будзя за месяц часу.* Дакудава Лід. 3. Пры абазначэнні часу, за які адбываецца дзеянне. За. *За ноч убраў кватэру.* Ністанішкі Смарг. *За адзін дзень напралі і выткалі палатно.* Паляцкішкі Воран. 4. У спалучэнні з лічэбнікамі ўказваюць на няпоўную колькасць чаго-н. Без. *За дзесяць мінут адзінаццаць часоў.* Ністанішкі Смарг. *За пятнасця пяць часоў.* Кемялішкі Астр. *Зе дзесяць мінут сем.*

Гемзы Шальч. *За дзесяць-адзінаццаць гадзін.* Мсцібава Ваўк. 5. Пры абазначэнні пасады чалавека, роду дзейнасці. За або адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі з *тв.* (быць кім-н., чым-н.). *Ён быў за аканома ў папа.* Паляцкішкі Воран. *Рабіў за каваля.* Ракаўскія Швянч. *Сын служыў у Германіі за шофера, абжыўся там.* Саланое Віл. *Станавіў яе за даярку ў калхозе.* Старое Сяло Зэльв. *Яна была за звінявую.* Альхоўка Навагр., Альхоўцы Лях. *Вон сечас за секратара.* Вялікі Краснік Пруж. *Мой брат за прэдседацеля.* Смаляніца Пруж. *Служыў за пастуха.* Бакшты Іўеў. *Я ўжо за няньку пайду. Адна дачка за настаўніцу нідалёка ад Рубаняк.* Груздава Паст. *Выбралі за прадсядацеля.* Паляцкішкі Воран. *Была за няньку.* Граўжышкі Ашм. 6. Пры ўказанні спецыяльнасці, прафесіі, якой авалодвае хто-н. На, за. *Два лет учыўся за столяра.* Навадворцы Васільк. *Яе вучылі за агранома, а паставілі за брыгадзіра.* Асавец Віл. *За трактарыста вучыцца.* Быстрыца, Кемялішкі Астр. *Дачка выўчылася за настаўніцу.* Ністанішкі Смарг. *Пашоў за ўрача вучыцца. За лабаранку наўчылася.* Мсцібава Ваўк. *Вучыцца за трактарыстаў.* Ракаўскія Швянч. *Вучыцца за інжынера.* Сакаляны Сакол. *Будэ вучыцця за якога тракторіста, за шохвыра.* Дзмітравічы Кам. 7. Пры абазначэнні асобы, якая выступае ў якасці каго-н. За або адпавядае беспрыназоўнікавай канструкцыі з *тв. За жонку возьме.* Паляцкішкі Воран. *Я ў іх за матку.* Груздава Паст. *Я не люблю за няньку быць.* Лісна В.-Дзв. *Яна за хазяйку была.* Саланое Віл. *За хазяйку была, усе давяралі мне.* Вецярэвічы Пух. 8. Пры параўнанні, супастаўленні каго-н., чаго-н. з кім-н., чым-н. За, чым. *Яна высокая за мяне.* Асавец Віл. *Бульбачка за ўсё смачней.* Груздава Паст. *Яна малодша за мяне.* Старыя Смільгіні Воран. *Меньшая хітрэе за большэй.* Саланое Віл. *Хужэ за асінавыя дровы нет. За ўгораша жырнее рыбы нет. Яна маладзее за яго на лет дзесяць.* Ахрэмаўцы Брасл. *На сем гадоў старэй за мяне. Ён лепшы за другія.* Альхоўка Навагр. *За ўсіх мая дзеўчына найлепша.* Сакаляны Сакол. *Аліва смашнейша за алей.* Номікі Бабіц. 9. Пры параўнанні па ўзросту. На. *Она за дэсыть літ молочча.* Дзмітравічы Кам. 10. Пры абазначэнні асобы, за якую бярэцца ці не бярэцца адказнасць. *Я не бяруся за Юрку, а Зося робіць добра.* Магуны Паст. 11. Пры параўнанні дзейнасці аднаго з дзейнасцю іншых. *Труцень за тры пчаліны з'есць.* Саланое Віл. 12. Пры абазначэнні прадмета і месца, за межы якіх накіроўваецца або за межамі якіх знаходзіцца прадмет. За. *Я пашла за парох.* Груздава Паст. *Чаго за свет ехаць да радні?* Дакудава Лід. 13. Пры абазначэнні асобы, якая выступае жаніхом. *Ідзі за Юзіка!* Індра Красл. 14. Пры абазначэнні часу, эпохі, асобы, з'явы, у бытнасць, перыяд дзейнасці якіх адбываецца што-н. Пры. *За Польшчу жылі. За Польшчу войтам быў. Зям-*

*лю рабіў за Польшчу.* Груздава Паст. *За Польшчу яны тут жылі, а цяпер выехалі.* Граўжышкі Ашм. *За жывеня маткі было такоя здарэня.* Кіралі Шчуч. *За мае памяці бондачкі пяклі.* Міратычы Карэл. *За Польшчу скаціну дзяржалі, гнаілі зямлю.* Рыбчына Віл. *За маю памяць ні было жукоў.* Малахоўцы Бар. *Яна за жывоце* [пры жыцці] *купіла надгробнік.* Ахрэмаўцы Брасл. *Шчэ за Мікалая.* Швэды Вільн. *І за Нікалая была вёска і засцянак Грыкені.* Грыкені Вільн. *Жылі дочкі ў Лехавіч за Польшчу. За маю памяць гэтага не было.* Альхоўцы Лях. 15. Пры абазначэнні прычыны дзеяння. З-за. *Адзін чалавек убіў чалавека за дзеньгі, і ніхто не відзеў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яны за кіно ругаліся.* Кіралі Шчуч. *Бэз пары ссівеў за гэтым клопатам.* Гемзы Шальч. II. з *тв.* 1. Пасля дзеяслова *ісці* абазначае ўказанне на аб'ект мэты. Па, за. *Ядзя, ідзі за вадой!* Ністанішкі Смарг. *Пашла за вадой.* Кемялішкі Астр. *Пашла за булкамэ.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Пры абазначэнні аб'екта, на які накіравана дзеянне. За. *Я і за лошадзямі ўхажывала.* Індра Красл. 3. Пры абазначэнні аб'екта ў спалучэнні з дзеясловам *быць* або калі гэты дзеяслоў падразумяваецца. *Ні за воднага ўдаўца Марыня не пашла. Кап вышла за яго замуш — за галавой была п.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яму некалі, усё хазяйства за ім.* Валынцы В.-Дзв. 4. Пры абазначэнні асобы, якой аддаюцца жыццё, клопаты. Адпавядае канструкцыі з *дав.* без прыназоўніка. *Бацька за гэтымі дзецьмі аддаңы.* Паляцкішкі Воран. *Ён за ей галаву ложыць.* Стральцы Шальч. *Я за гэтымі дзецьмі ўсю жызню аддана.* Міратычы Карэл. *Маці за дзецьмі душу раняя* [маці дзецям душу аддае]. Вецярэвічы Пух. 5. Пры абазначэнні месца, за якім знаходзіцца што-н. *За дохтара хатай ён жыве.* Паляцкішкі Воран. *За ракой цётка жыла.* Азяраны Раг. *Нясе гэта дзіця, за плячымі мокра.* Лоск Валож. *За ракой чорныя ягады. Скучна за Мінскам у такой глушы, пошле горада, што глуш.* Мсцібава Ваўк. 6. У тым жа значэнні, што і I, 14. *Так сярчыкі* [запалкі] *за Польскай былі. За маей памяцю трубаў ні было.* Быстрыца Астр. *За Нікалаем было гэта па ўсіх фабрыках забастоўка.* Кемялішкі Астр. *Гэта за Мікалаем было, прыехаў поп па калядзе і спяваў. За ейным бытам памерлі.* Магуны Паст. *Не за нашай памяцһю гэта. За савецкім правам усе маюць доступ вучыцца. За Польшчай была ў нас пастырка.* Ністанішкі Смарг. *Я быў за царом у Смаленску. Не за намі вадзілі мядзведзяў.* Саланое Віл. *Я шчэ быў маленькім, яшчэ за царам матка вычча с пачасніцы, груба зробіць, на паліц, і да дзесяці гадоў дзеці хадзілі ў кашулях. За нашай памяцію гэта было.* Паляцкішкі Воран. *Мой бацька за рускім быў учыцелем. За польскім забілі яе сына.* Галубы Маст. *За маею памяцію разы штэры гарадзілі каму кладбішча.* Мсцібава Ваўк. *За польскум ішла дзеўка замуш. Казалі място за Польшчай.* Старое Сяло

Зэльв. *Нядаўна ткала — ужо за калхозам.* Старыя Трокі Трак. *За Польскай куском зямлю давалі. За польскім не ўчылі по-руску.* Новыя Мацалі Варэн. *За маей памяцяй млынамі малолі. За Польшчай дорага плацілі за выдраў — дванаццаць-трынаццаць даляраў за скуру.* Гемзы Шальч. 7. Пры абазначэнні паслядоўнасці ў часе. За. *Чакаям дзень за днём.* Магуны Паст. *За другім разам утанула.* Гемзы Шальч. 8. Пасля дзеясловаў, якія выражаюць розныя пачуцці. Па. *Ядзя заскучыла за мамай і прыехала.* Мсцібава Ваўк. 9. Пры абазначэнні пэўных абставін. Пры. *Бывала, гарэла лучына, і кудзелі прадзімо за лучынаю.* Кіралі Шчуч. *За огнем робіла, хлеб замэсілі.* Смаляніца Пруж. ◊ *За ветрам* — у зацішку. *Дзе за ветрам, так смаліць* [сонца]. Ракаўскія Швянч.

ЗААРАНДАВА'ТЫ *дзеепрым.* Заарандаваны. *У маткі пожні ні заарандаватыі.* Валынцы В.-Дзв.

ЗААРАНДАВА'ЦЬ, ЗААРЭНДАВА'ЦЬ *зак.* 1. Здаць у арэнду. *Кап я нікому не заарандавала пожню сваю.* Валынцы В.-Дзв. 2. Узяць у арэнду. *Заарэндуюць озера і ловяць рыбу.* Істра Лудз.

ЗААРА'ЦЬ, ЗАГАРА'ЦЬ *зак.* Узараць. *Сахой заараў ні так, як нада.* Валынцы В.-Дзв. *Заараць нада ганок.* Лісна В.-Дзв. *Як загаралі, зямля мякчэйшая.* Вострава Маст. *На зіму загарэш аржынне.* Івашкаўцы Смарг.

ЗААФТАВА'НЫ *дзеепрым.* Запячатаны. *Заафтаваны мёт.* Старыя Трокі Трак.

ЗААХО'ЦІЦЦА *зак.* Захацець. *Тут я заахоцілася, рашыла ехаць да сына.* Крэва Смарг.

ЗАБАБО'НЫ *мн.* Прымхі. *Цяпер у забабоны ня веруць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ні верці ў забабоны, бо гэта няпраўда.* Каўняны Гродз. *Мы ў гэты забабоны не верым.* Новікі Гродз.

ЗАБА'ВА *ж.* Гулянне. *Якое мне цяпер гора: дзе якая забава — танцы ці бяседа — дык усюды яна.* Жукойні Астр. *Ні прышла на забаву тую.* Новыя Мацалі Варэн. *Завядзем музыкі, на музыкі пойдзем, пойдзем на забаву.* Бабро́унікі Гарад.

ЗАБА'ВІЦЦА *зак.* Затрымацца. *Скора прыхадзі, бо зара пойдзім, я не забаўлюся.* Ністанішкі Смарг. *Пашла да сусеткі і забавілася.* Рыбчына Віл. *Дзе ж гэта забавіўся бацька?* Асавец Віл. *Як пайду да яе, то забаўлюся.* Альхоўка Навагр. *Ні забаўсо, найбольш скажуць ні задляйса, прыхоць.* Вострава Маст. *Пашоў і забавіўса.* Дзяніскавічы Ганц. *Забавілася недзе, вот няма доўга.* Альхоўцы Лях. *Забавілася ля студні, а малако пабегла.* Беразіно Докш. *Забавілася з бабаю Саклетаю.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *параўн.* польск. *zabawić* 'прабыць', *zabawić się* 'загуляцца'.

ЗАБАГАЦЕ'ЦЬ *зак.* Разбагацець. *А тут баба забагацела.* Саланое Віл.

ЗА'БАЛАЦЬ *м.* і *ж.* Тонкія шарсцяныя ніткі. *Некалі мякенька забалаць была, куплялі, казалі — улочка.* Дзяніскавічы Ганц. *Забалаццем вышываюць касыначку.* Ухвала Круп. *Забалаццю вышываюць касыначку.* Ухвала Круп. *Забалаццю вышываюць. Красные, чорные ніткі, тонкія — забалаць.* Мачаск Бярэз.

ЗАБАЛЕ'ЦЬ *зак.* Захварэць. *Дачка забалела і памярла.* Ністанішкі Смарг. *Тады ён забалеў на васпаленне.* Пасіене Лудз.

ЗАБАЛЬШЫ' *прым.* Велікаваты. *Забальшыя басаношкі купіла.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАБА'ЛЯВАЦЬ *незак.* Захворваць. *Лёхкія забаляваюць, кажда лета ежджую ў санаторый.* Белы Бераг Іўеў.

ЗАБАРАНАВА'ЦЬ *зак.* Заскарадзіць. *Трэба забаранаваць пасеянае.* Гемзы Шальч.

ЗАБАРАНЯ'ЦЬ *незак.* Не дазваляць. *На печы сушыць забаранялі, кап пажару не было ў даму.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАБАРБЕ'ЦЬ *зак.* Забразгаць, забрынкаць. *Кручка забарбела: у сярэдзіне пустая. Пустая бочка забарбіць, як кіняш.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *barbėti* 'бразгаць, брынкаць'.

ЗАБАРО'НЬВАЦЬ *незак.* Забараноўваць. *Загорвалі і забароньвалі зямлю.* Дакудава Лід.

ЗАБАРО'ЦЬ *зак.* Забадаць. *У нас карова бабу забарола.* Мсцібава Ваўк.

ЗАБА'РСАВАЦЬ *незак.* Зашнуроўваць. *Чаравікі тут забарсавалі* [шнуркамі]. Палік Барыс.

ЗАБА'РСА'ЦЬ, ЗАВАРСА'ЦЬ *зак.* Зашнураваць. *Аборкамі забáрсаць лапці.* Ухвала Круп. *Забарсáць лапці валокамі — зацягнуць у лапці вераўчаныя ці раменныя валокі.* Альхоўцы Лях. *Заварсай лапці!* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* літ. *várstyti* 'шнураваць'.

ЗА'БАРСНІ *мн.* Аборы. *Забарсні ў лапцях.* Рыбчына Віл.; *гл.* з а б á р с á ц ь.

ЗАБАСЦІ' *зак.* 1. Забадаць. *За Польшчай баран забоў старыка.* Груздава Паст. 2. Укалоць. *Яна каронкі нашывае, каронкі робіць, можа забасці руку.* Дзяніскавічы Ганц. ◊ *Забасці руку* — трапіць у нясцерпнае, цяжкае становішча; зганьбіць сябе. *Ужэ Іван забоў руку, што ўзяў гэтаку жонку: нечыста, неакуратна. Яна забала руку, што вышла за яго; лепш дзеўкаю сядзела, чым ісці за гэтакаго. Як гэтакую браць — лепш быць нежанатым, забадзе руку, калі жэніцца на ёй. Калі пазычыў і не аддаў — ну, ён забадзе гэтым руку.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗА'БАЎКА *ж.* Забава. *Забаўка для дзяцей.* Жылі Іўеў., Старое Сяло Зэльв. *Пасадзя некалькі галоўкаў сланэчніка на забаўку дзецям.* Гемзы Шальч.

ЗАБАЎЛЯ'ЦЦА, ЗАБАЎЛЯ'ЦЦЯ *незак.* Гуляць, праводзіць час у забаве. *Дзеці пачалі забаўляцця. Ні мішайце ім, хай забаўляюцца!* Кіралі Шчуч. *Ідзі забаўляцца на двор!* Навасёлкі Свісл. *Дзіця забаўляецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Забаўлялася дзіця.* Альхоўцы Лях. *Дзіця гуляя, забаўляецца.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАБА'ЧЫЦЬ *зак.* Убачыць. *Я забачыў — і за ім.* Быстрыца Астр. *Забачыў яго і пабег.* Пацаўшчына Дзятл. *Я яго забачыла.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *zobaczyć* 'тж'.

ЗАБЕ'ГЧЫСЯ, ЗАБЕ'ХЧЫСЯ *зак.* Забегчы. *Ён тут забегся дамоў.* Камена Лаг. *Забехся да маткі.* Кемялішкі Астр. *Ён забехся, я стаю, нехта тоўх мяне.* Саланое Віл. *Забяжыся на мінуту, а забавісся.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗАБЕДАВА'ЦЦА *зак.* Забедаваць. *Я забедавалася па ей, што доўга німа.* Кіралі Шчуч.

ЗАБЕ'ЛЬВАЦЬ, ЗАБЕ'ЛЬВАТЫ *незак. кулін.* Запраўляць смятанай, малаком. *Забельваць смятанай бураке.* Старыя Трокі Трак. *Забельваю смэтаною.* Горск Бяроз.

ЗАБЕ'ЛЯНЫ *дзеепрым.* Прыпраўлены малаком. *Забеляна картопля.* Альхоўцы Лях. *Крупы забеляныя.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Паставіла забеляны крупнік, будзем есці.* Старыя Трокі Трак.

ЗАБІВА'ЦЦА *незак.* Змацоўвацца (цвікамі). *Аглоблі загібаліся кала осей, патом кароткая часць выразалася і забівалася.* Пасіене Лудз.

ЗАБІВА'ЦЬ *незак.* 1. Закрываць, перагароджваць. *Язы забівалі: вада задзержываецца і наносіць усякай шумы.* Кураполле Паст. 2. Канапаціць. *Хату забіваюць пакулямі.* Старыя Смільгіні Воран. ◊ *Забіваць дух* — спыняць дыханне. Кураполле Паст. *Ён удушлівы. Яму дух забівая.* Кіралі Шчуч.

ЗАБІГА'ТІ *незак.* Старацца, клапаціцца. *Ціелэ жыце забігалі, коб буольш зэмліе міеті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *zabiegać* 'тж'.

ЗАБІ'ЕГАТІСЕ *зак.* Стаміцца. *Діеті так забіегалісе, што хутко поснулі.* Курашэва Чыж.

ЗАБІРА'СТЫ *прым.* Сабраны ў зборку. *Спадніца забірастая ў яе.* Ухвала Круп.

ЗАБІРА'ЦЬ *незак.* Уганяць. *Забіралі ў Прусы да Германіі.* Грыкені Вільн.

ЗАБІ'ТЫ *дзеепрым.* Пазбаўлены жыцця. *На вайне папа забіты.* Рагулішкі Даўг. *А два сыны забіта.* Новыя Мацалі Варэн.

ЗАБІ'ЦЦА I *зак.* Ударыўшыся, разбіцца насмерць. *Дочка плачыць: «Мама, папа забіўся».* Рагулішкі Даўг.

ЗАБІ'ЦЦА II *зак.* Закалаціцца (пра сэрца). *Забілася сэрца, так тоўхая, як рыба плешча.* Вецярэвічы Пух.

ЗАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Пазбавіць жыцця. *Бацьку ў вайну забілі.* Саланое Віл. *Быў заехаўшы ў лес чалавек, рэзаў палена, і яго забіла.* Лісна В.-Дзв. *Бацьку вайной забіла.* Гайна Лаг. 2. Прыбіць. *Нада забіць ручкі* [у возе]. Ракаўскія Швянч. 3. Заліць. *Маё поле забіло вадою.* Крынкі Крын. 4. Сагнуць да зямлі. *Забіў, заліў дождж бульбу.* Старыя Смільгіні Воран. 5. Застраміць. *Асот забіла ў ногу. Дзерава забіла ў ногу.* Мсцібава Ваўк. ∇ *Кап цябе пярун забіў!* Гемзы Шальч. ◊ *Дух забіць* — перапыніць дыханне. *Німа чым дыхаць, дух заб'е.* Старыя Смільгіні Воран. *Дух забіла.* Альхоўцы Лях.

ЗАБЛЕ'НТАЦЦА *зак.* Заблытацца. *Асыпаўся і заблёнтаўся пачынак, не дам рады.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *zapłątać się* 'тж'.

ЗАБЛУДЗІ'ЦЦА *зак.* Заблудзіць. *Я заблудзілася ў лесе.* Міратычы Карэл. *Пашлі ў тайгу ў гарэхі і заблудзіліся.* Кудзялянцы Шальч.

ЗАБЛУДЗІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а б л у д з і ц ц а. *Пашоў у лес і недзе заблудзіў: знакомо место і заблудзіў.* Малахоўцы Бар. *І ніхаця заблудзіш.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАБОЖЫ'ТІСЕ *зак.* Прысягнуць. *Забожысе, што праўду кажэш!* Курашэва Чыж.

ЗАБО'І *мн.* Груды лёду. *А калі вясною пачынае ламаць лёд, то на рэчцы ідуць велькія забоі, як дама, горы лёду.* Альхоўка Навагр.

ЗАБО'Й *м.* ◊ *На забой* — насмерць. *Мужык біў яе на забой.* Вострава Маст. *На забой б'ецца курыца за гэтыя куранята.* Кіралі Шчуч.

ЗАБО'ЙКА *ж.* Няроўнасць на палатне касы ад няўмелага кляпання. *Забойка ў касе.* Кемялішкі Астр.

ЗАБО'ЙНЫ *прым.* Моцны (пра дождж). *Забойны дошч — як дошч з ветрам, з вялікімі каплямі. Дошч забойны раптоўна ідзе.* Дзяніскавічы Ганц. *Забойны дошч моцна ліе.* Малькуны Ігн.

ЗАБО'К *м.* Месца збоку загнету, куды заграбаецца вугаль. *У забок загортваем вугаль.* Баброўнікі Гарад.

ЗАБО'ЛІВАЦЬ, ЗАБО'ЛЬВАЦЬ, ЗАБО'ЛЯВАЦЬ *незак.* 1. Пачынаць балець. *Заболівала галава.* Саланое Віл. *Мне галава заболяваіць, зуп, як ясі, ён здаецца даўжэйшы.* Кураполле Паст. 2. Захворваць. *Раньшы яна ні забольвала.* Малахоўцы Бар. *Я заболявала, такая фаля прашла, ліецца з наса.* Саланое Віл. *Завараць і п'юць крапіву, і не заболяваюць ад крапівы.* Лісна В.-Дзв.

ЗАБО'ЛЬВАНЫ *дзеепрым.* Пашкоджаны. *Усе агуркі забольваны.* Малахоўцы Бар.

ЗАБО'МІЦЬ *зак.* Затрымаць бомай плыт, дрэва. *Забоміць дзерава.* Бакшты Іўеў.; *гл.* б о́ м а.

ЗАБО'РЦЫ *мн.* Манжэты. *Шылі сарочкі з заборцамі, іх вышывалі.* Стральцы Гродз.

ЗАБО'РЫ *мн.* 1. Маршчыны. *Заборы па твары пашлі.* Асавец Віл. *Ня еш пенку, заборы будуць, скора састарэіш.* Кураполле Паст. 2. Зборкі. *Казачына — такі кажух з заборамі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

• ЗАБРАЖДЖЭ'ЦЬ *зак.* Забразгатаць. *Жэлезінка ўпала і забраждджэла.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *brazdėti* 'стукаць, грукаць'.

ЗАБРАКАВА'ЦЬ, ЗАБРАКОВА'ТЭ *зак.* 1. Не хапіць. *Забракавала солі мне.* Галубы Маст. *Забракуе вады.* Мсцібава Ваўк. *Забракуе досок нам.* Дзмітравічы Кам. 2. Зганьбіць, забракаваць. *Мой стары забракаваў туфлі.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАБРА'НЫ *дзеепрым.* 1. Прызваны. *Забраны ў армію.* Крэва Смарг. *Два браты былі забраныя на вайну.* Тухавічы Лях. 2. Узяты сабе. *Забраныя ходнікі ў мяне.* Старыя Трокі Трак.

ЗАБРАТА'ЦЬ, ЗАБРЫТА'ЦЬ *зак.* 1. Закілзаць. *Ідзі каня забратай і прывядзі!* Мярэцкія Глыб. *Каня забратаць.* Старыя Трокі Трак. *Забратай каня!* Мельнікі Лудз. *Забрытай каня!* Ухвала Круп., Мачаск Бярэз., Беразіно Докш., Лука Нараўк. 2. *перан.* Прымусіць пайсці. *Я сястру забратаю і пайдзём на станцыю.* Пасіене Лудз. 3. Заблытаць, зблытаць. *Забрытала ніткі, ні магу разабраць.* Кіралі Шчуч.

ЗАБРА'ЦЦА *зак.* 1. Сабрацца. *Ён такую прывычку маіць, што заберыцца і пашоў на сяло.* Валынцы В.-Дзв. 2. Сысціся ў адно месца. *Забраліся ў кучу.* Грыкені Вільн.; *параўн.* польск. *zebrać* 'сабраць'.

ЗАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Узяць да сябе. *Яго заберуць.* Саланое Віл. *Можа, мама мяне заберыць.* Кураполле Паст. *Матка заберыць да сябе дзяцё і не аддаець ім.* Груздава Паст. *Дахаты мяне заберуць.* Жодзішкі Смарг. *Заберуць яго ў тую школу. Можа, сыны мяне забяруць.* Кемялішкі Астр. *Міне заберуць скора.* Валынцы В.-Дзв. *Нада забраць. Ніхай ён заберыць маму.* Мярэцкія Глыб. 2. Адабраць. *Карову немцы забралі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яны заберыць малако.* Ёдлавічы Брасл. *Тапор быў добры, дык ён заброў.* Вецярэвічы Пух. 3. Захапіць. *Гітлер забраў і Латвію, і Літву, Францыю быў забраўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Прымусіць сілай ісці, ехаць куды-н. *У вайну сталі немцы хапаць у Германію, і мяне забралі.* Стральцы Гродз. 5. Прызваць. *Заберуць восенню сына ў армію.* Мішневічы Шум.

ЗАБРО'ДЖВАЦЬ *незак.* Рабіць мяжу слядамі. *Заброджвай граніцу, а то перакашу суседа.* Стральцы Гродз.

ЗАБРО'СНЯВАЦЬ *незак.* Пакрывацца плесняй. *Бросні скідая за сценку — белая шкурка забросняваe на гурках, на капусця.* Міратычы Карэл.; *гл.* б р о́ с н я.

ЗАБРО'СНЯЦЬ *зак.* Пакрыцца плесняй. *Забросняла капуста.* Малахоўцы Бар. *Забросняць прадукты.* Данілавічы Дзярж.; *гл.* б р о́ с н я.

ЗАБРУСЕ'ЦЬ *зак.* Зацвярдзець. *Забрусела, як брус было вымя, я і расцірала і намазвала. Забрусела ў каровы вымя, я памінютня даіла.* Курадолле Паст.

ЗАБРЫ'НДАК *м. зневаж.* Неахайны чалавек. Міратычы Карэл.

ЗАБРЫ'НДАНІЦА *ж. зневаж.* Неахайная жанчына. *Забрынданіца, забрындаўшы ходзіць, вісяць стужкі патрапаўшыся.* Жылі Іўеў.

ЗАБРЫ'НДАНЫ *прым.* Неахайны. *Ідзе забрындана баба.* Сапоцкіна Гродз. *Ё, калтыга, пашла забрындана.* Баброўнікі Гарад.; *гл.* б р ы́ н д ы.

ЗАБРЫ'НДАЦЦА *зак. зневаж.* 1. Абарвацца, абадрацца. *Забрындалася спадніца, аш брынды вісяць.* Кіралі Шчуч. *Забрындалася, брынды вісяць.* Гемзы Шальч. 2. Запэцкацца. *Забрындалася ніраха, замазаўшыся ходзіш.* Крэва Смарг. *Дзе ты так забрындалась?* Кіралі Шчуч. 3. Апусціцца, стаць неахайным. *Забрындаўся хлопец начыста.* Каўняны Гродз.; *гл.* б р ы́ н д ы.

ЗАБРЫ'НДАЦЬ *зак.* Апырскаць граззю. *У гразі забрындаеш спадніцу, як не паднясеш.* Баброўнікі Гарад.

ЗАБРЫНДО'ХА *ж.* Тое ж, што і з а б р ы́ н д а н і ц а. *Забрындоха, абрындала адзеня.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАБРЫТА'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і з а б л ё н т а ц ц а. *Клубок забрытаўся, ніткі пабрыталіся.* Кіралі Шчуч. *Забрытоўся маток.* Галубы Маст.

ЗАБРЫТА'ЦЬ *гл.* ЗАБРАТА'ЦЬ

ЗАБУРБУЛЯ'ЦЬ *зак.* Забрадзіць, закіснуць. *Забурбуляў піва. Стары суп забурбуляў.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *burbuliúoti* 'брадзіць'.

ЗАБУ'ОЙ *м.* Вялікі цвік. *Забіў забуоя, коб муцней трымало.* Курашэва Чыж.

ЗАБУ'РАЧКІ *мн. памянш.* Складачкі. *У весялкоў шапачкі на забурачках.* Альхоўцы Лях.

ЗАБУРМА'ШЫСТЫ *прым.* Мажны. *Забурмашысты чалавек — такі сыты, мурлаты, тоўсты.* Міратычы Карэл.

ЗАБУШАВА'ЦЬ *зак.* Забрадзіць. *Варэня забушавала.* Магуны Паст.

ЗАБЫВА'ЦЦА *незак.* Пераставаць помніць. *Я цяпер хужа забываюся: палажу і забуду, але пасля здумаяш.* Малахоўцы Бар. *Многае забываецца.* Індра Красл.

ЗАБЫВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а б ы в а́ ц ц а. *Ні забывайце нас! Выйдзіце на лесніцу, ні забывайце!* Пасіене Лудз.

ЗАБЫ'СТРО *прысл.* Празмерна, вельмі хутка. *Забыстро б'еш па касе.* Лука Нараўк.

ЗАБЫ'ЦЦА *зак.* 1. Перастаць помніць. *Дзеці на мяне забыліся.* Кураполле Паст. *Я ўжо забылася на тоя.* Саланое Віл. *Як увідзіла міне карова, як ўраўнець, на шэсь месіцаў і на міне не забылася.* Валынцы В.-Дзв. *Я не магу забыцца. Гэта забудзецца.* Лісна В-Дзв. *Забылася купіць расады.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яны забыліся, што яны прышлі мыцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Іду ў хату і забудуся, чаго прышла.* Міратычы Карэл. *Я забылася, што ўчора рабілася.* 2. Пакінуць, не ўзяць з сабой. *Забылася вяровак. Кап хаця цяпер вяровак не забыцца.* Ністанішкі Смарг. *Закалолі і павезлі смаліць і забыліся агню.* Саланое Віл. *Свого каптана забыласа.* Смалянніца Пруж.

ЗАБЫ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а б ы ц ц а 1. *Пра ўсё гора забудзіш.* Саланое Віл. *Што і была, дык забыла.* Навікі Лудз.

ЗАБЯГА'ЦЬ *незак.* 1. Заходзіць (пра сонца). *Сонейка забягая, пара каровы дахаты гнаць.* Гемзы Шальч. 2. Касіць. *У яе забягаў глаз.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАБЯГЧЫ' *зак.* Забегчы. *Чы можна ў акопчык забягчы?* Саланое Віл.

ЗАБЯЛІ'ЦЦА *зак. кулін.* Прыправіць смятанкай, малаком. *Хочаш — забяліся смятанкай булён.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАБЯЛІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а б я л і ц ц а. *Малаком забяліць.* Беняконі Воран.

ЗАБЯЛЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а б е́ л ь в а ц ь. *Жур забялялі смятанай і с картофлей елі.* Каўняны Гродз.

ЗАБЯРА'НЫ *дзеепрым.* Тканы ўзорамі. *Узорамі — гэта забяраныя.* Ракаўскія Швянч.

ЗАБЯРО'СКА *ж. пчал.* Воск, які закрывае зверху соты. *Нож для зразання забяроскі. Забяроска, каб мёд не выцякаў і ня порціўся.* Груздава Паст.

ЗАВА'ДЗІЦЦА *зак.* Пачаць сварыцца. *Як завадзіцца яна з ім!* Гемзы Шальч.

ЗАВАДЗІ'ЦЦА I *гл.* ЗАВО'ДЗІЦЦА I

ЗАВАДЗІ'ЦЦА II *гл.* ЗАВО'ДЗІЦЦА II

ЗАВАДЗІ'ЦЬ *незак.* Рашчыняць. *Нада саладуху завадзіць, ніхай пасаладжаіць.* Валынцы В.-Дзв.

ЗА'ВАДЗЬ, ЗА'ВАЦЬ *ж.* Затока. *Заваць—дзе старое русла ракі.* Жылі Іўеў. *Заваць на возеры, дзе цячэння нету.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗАВА'ДКА, ЗАВА'ТКА *ж.* Сварка. *Заваткаў многа ў сына.* Кіралі Шчуч. *Завялася заватка.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Німа той хаткі, каб ні было заваткі.* Бакшты Іўеў.

ЗА'ВАДЫ *мн.* Сварка. *Весці завады пачынае.* Старыя Трокі Трак.

ЗАВАЖЖА'ЦЬ *зак.* Запрэгчы. *Заважжаць каня трэба.* Семежава Кап.

ЗАВАКАВА'ЦЬ *зак.* Паклікаць, зазваць. *Нада Косцю за-*

*вакаваць, ён любіць гаварыць.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *wakować* 'быць свабодным, вакантным'.

ЗАВА'Л *м.* Запруда, зробленая бабрамі. *Бабры завалы дзелаюць на раке, кап вада не меньшала.* Лісна В.-Дзв.

ЗАВА'ЛА *ж.* 1. Прыстасаванне для запірання дзвярэй (палка ці металічны стрыжань). *Завалы былі — завальвалі дзверы.* Вецярэвічы Пух. 2. *перан.* Гультай. *Прышоў рана будзіць: «Чаго ты ляжыш, завала?»* Навасёлкі Лях.

ЗАВАЛА'ЦЬ, ЗАВО'ЛАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а в а к а в а́ ц ь. *Нада Таню завалаць.* Саланое Віл. *Хочуць сына зноў у райком завалаць.* Дакудава Лід. *Заволай яго!* Галубы Маст. Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *zawołać* 'паклікаць'.

ЗАВАЛАЧЫ' *зак.* Уцягнуць. *Завалакла нітку ў іголку.* Масілавічы Сл.

ЗАВА'ЛЕНЫ *дзеепрым.* Абвалены. *Мост быў завалены.* Крэва Смарг.

ЗАВА'ЛІВАЦЬ, ЗАВА'ЛЬВАЦЬ *незак.* Запіраць. *Завалы — ключ, якім завалівалі дзверы.* Янова Рас. *Узяў завалы і стаў завальваць дзверы.* Вецярэвічы Пух.

ЗАВА'ЛІНА *ж.* Прызба. *Асыпалі вакол хаты — заваліна называяцца.* Быстрыца Астр. *Заваліну абсыпаў.* Беразіно Докш.

ЗАВА'ЛІНКА *ж.* Тое ж, што і з а в а́ л і н а. *Пайдзем на завалінкі пасядзём. Мая завалінка апсунулася.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сядзела на завалінкі.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАВАЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Праваліцца. *Снех, як пух — як стаў, так і заваліўся.* Жылі Іўеў. 2. Паваліцца, упасці. *Карова завалілася. Як длуга спадніца, можна заваліцца.* Старыя Трокі Трак.

ЗАВАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Заперці. *Заваліла дзверы заперкаю дзеравянаю.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Забіць, закрыць. *Як каўкі завалілі гэту печку, я чуць раду даў.* Гемзы Шальч. 3. Засыпаць. *Яму зробяць скрынкай* [скрынку], *і бульву заваляць наглуго.* Номікі Бабіц. 4. *перан.* Пра хваравітае адчуванне ў вушах, носе. *Заваліць мне ухо, много не чую.* Новікі Гродз. ∇ *Каб табе скула заваліла!* Саланое Віл.

ЗА'ВАЛКА *ж.* 1. Засаўка. *Зачыні дзверы на завалку!* Дакудава Лід. 2. Падваротня. *Пад варота завалку закладзі!* Галубы Маст.; *парайн.* літ. *vaĩkė* 'тж'.

ЗАВА'ЛКА *ж.* Увядзенне воласа пад скуру каню, каб выдаліць адтуль вадкасць. *Пры нарыцы даецца завалка: каню пад скуру ўводзюць волас, і вада сцікаіць па воласу.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАВА'ЛКІ толькі *мн. мед.* 1. Ангіна. *Баліць у горля, завалкі ў яе.* Малахоўцы Бар. *На горла хварэў, завалкі былі.* Новікі Гродз. *Завалкі кажуць, як у році баліць.* Альхоўцы Лях. *Завалкі ў горле, забалеў.* Лука Нараўк. 2. Міндаліны.

*Завалкі завалілі горла, неік прадыхнуць.* Мярэцкія Глыб. *У самым горлі завалкі; яны баляць і не даюць лыгаць сліны; іх бабы душылі* [выціскалі]. Баброўнікі Гарад.; *парайн.* літ. *vil̃kti* 'зацягнуць'.

ЗАВАЛО'ЖЫЦЬ *зак.* Заправіць тлушчам. *Зварыш кашу і лошку сала паложыш — заваложыла кашу.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *vãlagas* 'ежа'.

ЗАВАЛО'КА *ж.* Распусная жанчына. *С такою завалокаю ніхто не ожэніцце.* Курашэва Чыж.

ЗАВА'ЛЬВАЦЬ *гл.* ЗАВА'ЛІВАЦЬ

ЗАВА'ЛЬНЫ *прым.* Напружаны (пра работу). *Завальна работа ўжо мінуласа.* Вострава Маст.

ЗАВА'ЛЬНЯ *ж.* Тое ж, што і з а в а́ л і н а. *Завальню трэба апсыпаць ці апкапаць.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАВАНТУ'РЫЦЦА *зак.* Занаравіцца. *Дачка завантурылася.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. *awanturować się* 'скандаліць, дэбашырыць, буяніць'.

ЗА'ВАНЬ, ЗА'ВАНЯ, ЗАВО'НЬ, ЗАВО'НЯ *ж.* 1. Тое ж, што і з а́ в а д з ь. *Завань—дзе застаўляюць ручаёк.* Рыбчына Віл. *Рэчка крывая, вада ціха цячэ — кажуць: там завань.* Дакудава Лід. *Заваня — бухта такая.* Мішневічы Шум. *На рэчцы завонь — зацякае вада.* Малахоўцы Бар. *Былі завоні. Цяпер рэчку выраўнавалі. Завоня — калі калясом рака апходзіць. У завоні рыбу лавіў.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Месца каля затокі, лука. *Па заванях расцець валір'ян. Ідзіця завань касіць! Па заванi дрыгбушчая балота.* Саланое Віл.

ЗАВАНЯ'ЦЬ *зак.* Засмярдзець. *Яны, зайцы, заванялі вікся.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *завонять* 'тж'.

ЗАВАПНЯ'ЦЦА *незак.* Зацвердзяваць (пра крывяносныя сасуды). *Склярос адтаго, што завапняюцца жылкі ў галаве.* Солы Смарг.

ЗА'ВАРАТКА *ж.* Дэталь у кроснах, якой замацоўваюць палатно на навоі. *Завараткай закручвалася палатно на навоі.* Рыбчына Віл.

ЗА'ВАРАЦЕНЬ, ЗА'ВЕРАЦЕНЬ, ЗА'ВЯРАЦЯНЬ, ЗА'ВЕРЦЕНЬ, ЗА'ВЯРЦЕНЬ, ЗА'ВЕРЦЬ *м.* 1. Вітка з дубцоў, якой прымацоўваюць аглоблі да саней. *Заваратні з дубовага дупца заварочваюць за пярэдні капыл.* Рыбчына Віл. *Заваратні з дупцовых вітак.* Рудня Астравітая Чэрв. *Заверацень з дубу ў санях; туды закладалі аглоблі і прывязвалі да капыла з двух бакоў саней.* Альхоўцы Лях. *Завярацянь з дупца круцілі, усаджвалі аглоблі.* Малахоўцы Бар. *Заверцень прымацоўвае аглоблі да саней.* Глівін Барыс. *Завярцень закручвалі да капыла і аглоблю прыкраплялі ў санях, а цяпер крукі.* Вецярэвічы Пух. *Заверць аглоблю прывязвае да санак.* Мачаск Бярэз. 2. Палка, пры дапамозе якой туга сціскаюць снапы. *Завара-*

*цень зроблен быў, кап туго сціскаць снапы. Салому звязвалі ў кулі заваратнем.* Мсцібава Ваўк.

ЗАВАРАЧА'ЦЦА *незак.* Паварочвацъ. *На магільнік вы ні там заварачаліся.* Крэва Смарг.

ЗАВАРАЧА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а в а р а ч а́ ц ц а. *На магільнік тут нада заварачаць.* Крэва Смарг. *Міша пашоў кароў заварачаць.* Бакшты Іўеў.

ЗАВА'РВАЦЬ *незак.* Заліваць варам. *Учора я заварвала чай.* Смаляніца Пруж.

ЗАВА'РКА *ж.* Настой з траў. *Без сахару піў бы заварку с траў.* Альхоўка Навагр.

ЗАВАРО'Т *м.* Паварот (дарогі). *На завароця астаноўка.* Быстрыца Астр. *Чатыры кіломатры нада ехаць і заварот налева, там інваліцкі дом.* Рагулішкі Даўг. *Там, на завароце, стань з канём.* Беразіно Докш.

ЗАВАРО'Т КІШО'К *м. мед.* Заварот кішак. Альхоўцы Лях.

ЗАВАРО'ТНЫ *прым. перан.* Ненармальны, дурны. *Ён заваротны: нап'ецца ды лупіць, загарадзіў плот, а потым увесь парубаў.* Кіралі Шчуч.

ЗАВАРО'ЧВАЦЬ *незак.* Ставіць тушыць у перавернутым чыгуне. *Брукву налупяць ды ў чыгуночак заварочваюць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАВАРСА'ЦЬ *гл.* ЗАБАРСА'ЦЬ

ЗАВАСКАВА'НЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а а ф т а в а́ н ы. *Заваскаваны мёт.* Рыбчына Віл.

ЗАВА'ТКА *гл.* ЗАВА'ДКА

ЗАВАЦКІ' *прым.* 1. Сартавы. *Калхоз аммяняў просто жыто на завацкое.* Заполле Маст. 2. Пародзісты (пра жывёлу). *Завацкая карова.* Вострава Маст.

ЗА'ВАЦЬ *гл.* ЗА'ВАДЗЬ

ЗАВЕ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Устаноўлены, заведзены. *Так ужо заведжана.* Ракаўскія Швянч.

ЗАВЕ'ЗЦІ, ЗАВЕ'СЦІ *зак.* Адвезці. *Завес да фермы.* Саланое Віл.

ЗАВЕ'ЙКА *ж.* Завея. *Вот сёня завейка, аш на двор не выйці. Такая в'юга, аш вые вецер.* Кіралі Шчуч. *Зімою снех, завейка.* Вялікі Краснік Пруж.

ЗАВЕ'ЛЬКІ *прым.* Велікаваты. *Купіла сандалы, але завелькія мне.* Кіралі Шчуч.

ЗА'ВЕРАЦЕНЬ *гл.* ЗА'ВАРАЦЕНЬ

ЗАВЕ'РНЕНЫ *дзеепрым.* Запоўнены. *Дзесяць сцен напрала і наткала, шкап завернены адзежай.* Малькуны Ігн.

ЗАВЕ'РТАЦЬ *незак.* Закручваць, завязваць. *Завертала пальца. Мяса заліваюць здорам цяплаватым і завертаюць, каб нічога не набівалася.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗА'ВЕРЦЕНЬ *гл.* ЗА'ВАРАЦЕНЬ

ЗА′ВЕРЦЬ *гл.* ЗА′ВАРАЦЕНЬ

ЗАВЕ′РЫЧ, ЗАВІ′РЫЧ *м.* Тое ж, што і з а́ в а р а т к а. *Заверыч — з навоя аснову адпускаць.* Дзяніскавічы Ганц. *Завірычам круцілі навой.* Стральцы Гродз. *А ў другім навойчыку завірыч е.* Альхоўцы Лях.

ЗАВЕ′СІЦЬ *зак.* Закрыць, павесіўшы што-н. *Нада завесіць акно.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАВЕ′СЦІ I, ЗАВЯСЦІ′ *зак.* 1. Распачаць што-н. *Завядзі сут, а што ён паможа?* Старыя Трокі Трак. *Завядзе рэч аб сасе, растлумачвае, што чалавек будзя лятаць у воздусе — яму веры не давалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Яны завялі любоў.* Рыбчына Віл. 2. Абзавесціся. *Я завіла пчол, алі пчолы ня выжылі.* Валынцы В.-Дзв. 3. Уцягнуць што-н. (нітку, аборы і г. д.). *Завядзі нітку ў голку!* Галубы Маст. *Завёў у лапці аборы.* Жылі Іўеў. 4. Пракалоўшы, уцягнуць што-н. *Парсюкам нада драты завясці ў нос.* Рыбчына Віл. 5. Аснаваць кросны. *Нада ўмець кросны завясці.* Вялікія Баяры Шчуч. 6. Заварыць. *Завёў гарэлку і выгнаў.* Лісна В.-Дзв.

ЗАВЕ′СЦІ II *гл.* ЗАВЕ′ЗЦІ

ЗАВЕ′СЦІСЯ I, ЗАВЯСЦІ′СЯ *зак.* Пачаць сварыцца. *Суседкі завяліся за курыцу.* Рум Валож. *Наша маці завялася з Сашам.* Кіралі Шчуч. *Завяліся за ёлку.* Жылі Іўеў. *Трэба па бондацца ўсім, а не, то завядуцца і будуць плакаць.* Саланое Віл. *Яна завядзёцца з імі.* Валынцы В.-Дзв. *Завёўся сварыцца, аш цябе чэрці апанавалі.* Лісна В.-Дзв. *І завёўся са мной, плот гародзячы.* Альхоўка Навагр. *Мы завядземся і пагудзём.* Ёдлавічы Брасл. *Ён завёўся і даў сакерай.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАВЕ′СЦІСЯ II, ЗАВЯСЦІ′СЯ *зак.* 1. Узнікшы, распладзіцца. *Скуль завёўся гэты каларат?* Малькуны Ігн. *Пацы завядуцца, грызуць усё.* Кудзялянцы Шальч. *Мышы завяліся.* Лісна В.-Дзв. 2. Разрасціся. *Натта макрыца завялася.* Кіралі Шчуч.

ЗАВЕ′СЫ *мн.* Металічныя пласцінкі, якімі прымацоўваюць дзверы, вокны да вушакоў. *Да дзвярэй прыбіваюцца завесы. У дзвярах завесы з вушмі.* Гемзы Шальч. *Завесы завешуяцца на крукі.* Баброўнікі Гарад.

ЗАВЕ′ШАНЫ *дзеепрым.* Завешаны, занавешаны. *Матамі з вуліцы завешана.* Пасіене Лудз.

ЗАВЕ′Я *ж.* Тое ж, што і з а в е́ й к а. *Завея, як венікам мяце.* Старыя Смільгіні Воран. *Завея цэлу ноч мяла.* Старыя Трокі Трак.

ЗАВЕ′ЯЦЬ *зак.* 1. Засыпаць снегам. *Як дарогу завея, як ісці крушка, то кілометры тры трэба ісці.* Лісна В.-Дзв. 2. *безас.* Прадзьмуць. *Можа ёй* [карове] *завеяла прас сцяну.* Жылі Іўеў.

ЗАВЕ́РТКА *ж.* Тое ж, што і з а́ в а р а́ ц е н ь 1. *Завёртка — кагда аглобля да саней прывязвалася.* Навікі Лудз.

ЗАВІВА́ЛЬНІЦА *ж. абрад.* Жанчына, якая надзявае маладой чапец. *Маладые жанкі — сваячкі і суседзі маладое — называюцца завівальніцы. Яны завіваюць маладую ў шапку.* Семежава Кап.

ЗАВІВА́ЦЦА *незак.* Старацца, завіхацца. *Ужо слонца ніска, завіваімся скарэй рабіць!* Ністанішкі Смарг.

ЗАВІ́ДАВАЦЬ *незак.* Зайздросціць. *Завідаваюць людзі: гэдакі добры.* Саланое Віл. *На его ўсе людзі завідуюць.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* руск. *завидовать* 'тж'.

ЗАВІ́ДЗІНА *м.* і *ж.* Зайздроснік, зайздросніца. *Жадзіна, завідзіна ты, табе шкода!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАВІ́ДЛІВЫ *прым.* Зайздросны. *Завідлівая баба: усё ёй мала.* Мачаск Бярэз.

ЗА́ВІДНА *прысл.* Да наступлення цемнаты. *Мне нравіцца завідна памыцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Завідна прышлі.* Альхоўцы Лях.

ЗАВІ́ДНІК *м.* Зайздроснік. *Завіднік — кап другому не даць, усе сабе.* Ракаўскія Швянч.

ЗАВІ́ДНЫ *прым.* Тое ж, што і з а в і́ д л і в ы. *Скупы, завідны, зайздросціць другім, завідны — з горла выцягнуў бы.* Ёдлавічы Брасл. *Завідны чалавек.* Мярэцкія Глыб., Міратычы Карэл. *А ён завідны чалавек, што ўвідзя, кап яму гэта.* Гемзы Шальч. *Завідны чалавек завідуе, кап у яго было.* Кіралі Шчуч. *Ён такі завідны!* Дакудава Лід. *Завідны — завідуе на другога.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАВІЗА́ЦЬ *зак.* Закласці. *Первый вінец завізаў.* Лісна В.-Дзв.

ЗАВІНАВА́ЦІЦЦА *зак.* Стать даўжніком. *Ішчо семдзесят капеек завінаваціласа за такрошне, будуць атшчытаваць.* Альхоўка Навагр.

ЗАВІНУ́ЦЦА *зак.* 1. Пастарацца. *Завінуліся бабы на рабоця.* Мярэцкія Глыб. *Завінуцца толькі нада — і ўсё кончыш.* Палік Барыс. *Кап завінулася, усю работу парабіла.* Старыя Смільгіні Воран. *Стары завінуўся авечку дзяржаць.* Пацаўшчына Дзятл. *Завінулася — і ў хаце чыста.* Малахоўцы Бар. *Адзін гот завінуліся былі і насіласавалі каровам.* Альхоўка Навагр. *Завінуцца і зробяць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Завінуласа — зрабіла скоро.* Дзяніскавічы Ганц. *Завінемся, здзелаем ды пойдзем.* Альхоўцы Лях. 2. Разбушавацца. *Бура завінецца.* Альхоўцы Лях. 3. Павярнуцца, доўга не быць. *Завінуўся — і пабех на рэчку.* Быстрыца Астр. 4. Тое ж, што і з а в е́ с ц і с я І. *Завінуліся сварыцца.* Рудня Чэрв. 5. Усхадзіцца, разбуяніцца. *Другі рас як завінеся, так я цябе запру.* Малахоўцы Бар.

ЗАВІНУ'ЦЬ *зак.* Завязаць. *Завіні паляц мне.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *užvyniόti* 'тж'.

ЗАВІНЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а в і н ý ц ь. *Завіняць нагу або закруціць.* Ракаўскія Швянч.

ЗАВІ'РАВІЧ *м.* Тое ж, што і з á в а р а т к а. Мярэцкія Глыб.

ЗАВІ'РАК *м.* Тое ж, што і з á в а р а т к а. *Завірак — у кроснах палачка.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАВІРУ'ХА *ж.* Тое ж, што і з а в é й к а. *Завіруха, які снех ідзе, аш вочы заляпляя.* Кіралі Шчуч. *Мяцель, ох падняласся завіруха!* Азяраны Раг.

ЗАВІРУ'ШНЫ *прым.* Віравы. *Завірушныя места. Чалавек ня можа выплысці, яго скруціць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАВІ'РЫЧ *гл.* ЗАВЕ'РЫЧ

ЗА'ВІСКА *гл.* ЗА'ВЯ'ЗКА

ЗАВІ'СЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і з а в і д л і в ы. *Завісліві, на чужоя кваліцца.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАВІТАВА'ЦЬ *зак.* Пераплесці. *Завітаваў калкі і палажыў жардзіну.* Саланое Віл. *Завітуець віткамі жэрдкі* [частакола]. Пасіене Лудз.; *параўн.* літ. *vytóti* 'звіваць, скручваць'.

ЗАВІХА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і з а в і в á ц ц а. *Завіхалася, кап скарэй дажаць.* Груздава Паст. *Я завіхаюся, кап скарэй печку выпаліць.* Кіралі Шчуч. *Не хачу завіхацца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Завіхалася рабіць.* Міратычы Карэл. *Завіхаюся работаць.* Альхоўцы Лях. *Завіхаяцца ў рабоця.* Старыя Трокі Трак. *Завіхацца трэба, кап парабіць усё.* Вецярэвічы Пух.

ЗАВІХНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і з а в і н ý ц ц а 1. *Вы бы завіхнуліся, крутнулі сваю норму.* Вецярэвічы Пух.

ЗАВІ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а в і т а в á ц ь. *Калы ўб'юць, віткамі заўюць.* Грыкені Вільн. 2. Аснаваць кросны. *Нада ўкідаваць у ніты бёрда, я завіла кросны.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАВО'Д, ЗАВО'Т *м.* Парода. *Добрага заводу свіні, авечкі, каровы, коні.* Альхоўка Навагр.

ЗАВО'ДЗІЦЦА I, ЗАВАДЗІ'ЦЦА *незак.* 1. З'яўляцца, размнажацца. *Грып заводзіцца пат паламі.* Скрудалена Даўг. *Заводзіліся вужы ў хаці.* Рудня Астравітая Чэрв. *У дзераве пшчолы заводзяцца.* Судэрва Вільн. *Буяшке* [завязь] — *гэта заводзіліся яблыкі.* Парэчча Гродз. 2. Намячацца, чакацца. *Заводзіцца вяселля.* Лісна В.-Дзв.

ЗАВО'ДЗІЦЦА II, ЗАВАДЗІ'ЦЦА *незак.* Пачынаць сварыцца, задзірацца. *Чаго ты заводзішся?* Лісна В.-Дзв. *Мы заводзімся, сварымся.* Саланое Віл.

ЗАВО'ДЗІЦЬ *незак.* Уводзіць, уцягваць. *Драты ў лыч заводзяць, кап не рылі свіня.* Граўжышкі Ашм. *Маленькія абцэнгі — свіням дрот заводзіць.* Гемзы Шальч.

ЗАВО'З, ЗАВО'С *м.* Збожжа, прывезенае на млын. *«Чаго ты доўга быў? — Але натта завос велькі ў мліне».* Кіралі Шчуч.

ЗАВОЗІ'ТІ *зак.* 1. Засыпаць. *Піском завозілі ямку на лонці.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Запэцкаць, забрудзіць. *Так завозів сорочку, што чуць вымыла.* Курашэва Чыж.

ЗАВО'ІНА *ж.* Тое ж, што і з а́ в а д з ь. *У завоіну заехаў і там налавіў рыбы.* Рудня Астравітая Чэрв. *У завоіны рыба заходзіць. Там і мочуць лён — гэта кусочак вады, ні бягучая.* Данілавічы Дзярж.; *парайн.* руск. дыял. *заводина* 'тж'.

ЗАВО'Й *м.* Кавалак палатна ці анучы, якімі абмотвалі лыткі ў час жніва, каб не пакалоць ногі. *Дайней бабы на лыткі завой наверчавалі, рабілі с палатна, са старой кашулі.* Кураполле Паст.

ЗАВО'ЙКА *ж.* Тое ж, што і з а в о́ й. *Як ідуць жаць, завойкі навярчаваюць, нада ш завойкі навярцець.* Кураполле Паст.

ЗАВО'ЛАЦЬ *гл.* ЗАВАЛА'ЦЬ

ЗАВО'МПІЦЬ *зак.* Залямантаваць. *Я завомпіў, спалохаўся, што, думаю, баба захварэла, што буду рабіць, сам не магу хіляцца.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *завопить* 'тж'.

ЗАВО'НЬ *гл.* ЗА'ВАНЬ

ЗАВО'НЯ *гл.* ЗА'ВАНЬ

ЗАВО'РАТЫ *дзеепрым.* Заараны. *Барануюць заворатую зямлю.* Малахоўцы Бар.

ЗАВО'С *гл.* ЗАВО'З

ЗАВО'Т *гл.* ЗАВО'Д

ЗАВО'ЧНЯ, ЗАО'ЧНЕ *прысл.* 1. Завочна. *Заочне сказала.* Старыя Трокі Трак. 2. Пра вучобу без наведвання лекцый. *Вучыўся завочня.* Бакшты Іўеў. *Заочне ўчыцца.* Старыя Трокі Трак.

ЗАВУ'ОД, ЗАВУ'ОТ *м.* Гадоўля, развядзенне. *Купів корову на завуот.* Курашэва Чыж.

ЗАВУ'ОР *м.* Клапан. *Завуор в моцыклеті зопсовавсе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *zawór* 'тж'.

ЗАВУ'ШНІЦА *ж.* Завушніца. *Нашлі гэную з аднэй завушніцай.* Кіралі Шчуч. *Завушніцы насілі.* Альхоўка Навагр. *Завушніцы аж гараць на сонцы.* Беразіно Докш. *Завушніцы новыя купіла, а цяпер сярошкі называіць.* Ёдлавічы Брасл. *Пазацягала завушніцы ў вушы.* Кнышэвічы Бабіц.

ЗА'ВША, ЗА'ВШЭ *гл.* ЗА'ЎШЭ

ЗАВЫСО'КІ *прым.* Высакаваты. *Хлопец завысокі для сваіх гот.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗАВЫ'ЦЬ *зак.* Пачаць выць. *Ездзіла на начлех, завыў воўк, і маліц завыў.* Мярэцкія Глыб. *Воўк на тоўстым ланцугу прывязан, як завыя.* Кіралі Шчуч.

ЗАВЭ'ЦКАЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Завэцкала ўсю скамейку.* Дзяляцічы Навагр.

ЗАВЯДЗЁНКА *ж.* Звычка. *Цяпер німа завядзёнкі рваць капытнік свіням.* Вецярэвічы Пух.

ЗАВЯ'ЗАВАЦЦА *незак.* З'яўляцца (пра завязь у раслін). *Агурцы завязываліс.* Кіралі Шчуч.

ЗАВЯ'ЗАВАЦЬ, ЗАВЯ'ЗЫВАЦЬ, ЗАВЯ'ЗВАЦЬ *незак.* 1. Павязваць. *Яна завязаваіць хустку.* Асавец Віл. *Завязывай чыстую хустачку!* Саланое Віл. 2. Прывязваць. *Будзям кідаць у нічальніцы, будзям кідаць у бёрда, тады завязваць ніткі да пруточка.* Солы Смарг.

ЗАВЯЗА'ЦЦА *зак.* Узнікнуць, пачацца (пра падзеі). *Бой завязаўся крэпкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАВЯЗА'ЦЬ *зак.* Завязаць. *Завязаць нада другую хустку.* Ёдлавічы Брасл., Грыкені Вільн. ◇ *Як завязаць* — вельмі многа. *Повен клуб людзей — як завязаць.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАВЯ'ЗІЧ *м. ткац.* Тое ж, што і датыка́льнік. *Завязіч — да яго калочак і прывязваюць ніці да завязіча, аснову.* Кіралі Шчуч.

ЗА'ВЯ'ЗКА, ЗА'ВЯ'СКА, ЗА'ВІСКА *ж.* 1. Шнурок, якім завязваюць што-н. *У мэшку за́вязка.* Смалянiца Пруж. *Быру за́вязку, буду мышка завязуватэ.* Дзмітравічы Кам. *Нада за́вяску прывязаць да мяшка. За́вяскаў няма пры мяшках.* Ёдлавічы Брасл. *За́вяска да ворка разбрызгалася на ўжгуры.* Гемзы Шальч. *Завя́скі да фартуха прышываліся.* Кіралі Шчуч. *У мяшку парвалася заві́ска.* Мярэцкія Глыб. 2. Звязка. *Прынёс цэлу завя́ску лык.* Беразіно Докш.

ЗАВЯЗНО'ВАНЫ, ЗАВЯНО'ВАНЫ *прым.* Аплоднены. *Ні завязнована яйцо. Нізавянована яйцо.* Вострава Маст.

ЗАВЯ'ЗНУЦЬ *зак.* Ушчаміцца. *Курыца завязла ў шчынкетах, ідзем даставаць.* Кіралі Шчуч.

ЗА'ВЯЗЬ, ЗА'ВЯСЬ *ж. бат.* Завязь. *На некаторых* [дрэвах, раслінах] *толькі завязь.* Альхоўка Навагр. *Завязь асыпалася з яблыны, ляжыць доля, як друк. Агурцэ пад восянь, як цвятэ, так і завясь.* Вецярэвічы Пух. *Вятры пазрывалі завясь.* Груздава Паст.

ЗАВЯЛІ'КІ *прым.* Тое ж, што і заве́лькі. *Купіў касцюм, і завялікі, а той яшчэ большы.* Ёдлавічы Брасл. *Гэта дошка завяліка.* Тухавічы Лях.

ЗАВЯНО'ВАНЫ *гл.* ЗАВЯЗНО'ВАНЫ

ЗА'ВЯРАЦЯНЬ *гл.* ЗА'ВАРАЦЕНЬ

ЗАВЯРНУ'ЦЦА *зак.* Павярнуцца. *Баба паругала — завярнуўся і пашоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Гэты завярнуўся і пашоў.* Лісна В.-Дзв. *А тут яны рас — і завярнуліся к дарозя.* Скрыль Пух.

ЗАВЯРНУ'ЦЬ *зак.* 1. Упакаваць. *Мяса кілаграм два завярнуў.* Лісна В.-Дзв. 2. Павярнуць у іншы бок. *Завярні ка-*

*равы, кап у шкоду не ішлі.* Мсцібава Ваўк. 3. *кулін.* Стушыць гародніну ў паравернутым чыгуне. *Паравярнуць чыгунок дагары дном, ды кажуць: «Завярнула качаной, завярнула брукву».* Дзяніскавічы Ганц.∇ *Кап вас завярнула!* Альхоўка Навагр.

ЗА′ВЯРЦЕНЬ *гл.* ЗА′ВАРАЦЕНЬ

ЗАВЯРЦЕ′ЦЬ *зак.* 1. Закруціць, заматаць. *Дайця лапіну паляц завярцець, я ўрэзала.* Кіралі Шчуч. *Дай чым завярцець паляц.* Альхоўка Навагр. *Завярцей пальца.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і з а в я р н у́ ц ь 1. *Завярчу кірпіч у мокрую трапку і палю спіну.* Гемзы Шальч.

ЗАВЯРША′ЦЬ *незак.* Завяршаць. *Стох ложаць* [складаюць] *і стох завяршаюць.* Паляцкішкі Воран.

ЗАВЯРШЫ′ЦЬ *зак.* Завяршыць. *Злажылі стох і завяршылі.* Лісна В.-Дзв.

ЗАВЯРЭ′ДЗІЦЬ *зак.* Натрудзіць. *Завярэдзіла руку жнучы.* Дакудава Лід.

ЗА′ВЯ′СКА *гл.* ЗА′ВЯ′ЗКА

ЗАВЯСЦІ′ I *зак.* Адвесці. *Завёў каня.* Рыбчына Віл.

ЗАВЯСЦІ′ II *гл.* ЗАВЕ′СЦІ I

ЗАВЯСЦІ′СЯ I *зак.* Уцягнуцца ў што-н. *Ушкі ў хадакох трымалі нагу, без ушкаў як гэтая абора завядзецца.* Грыкені Вільн.

ЗАВЯСЦІ′СЯ II *гл.* ЗАВЕ′СЦІСЯ I

ЗАВЯСЦІ′СЯ III *гл.* ЗАВЕ′СЦІСЯ II

ЗА′ВЯСЬ *гл.* ЗА′ВЯЗЬ

ЗА′ВЯЦЕНЬ *м.* Тое ж, што і з а́ в а р а ц е н ь 1. *Дубовую вітку парылі, скручавалі на завяцень* [куды ўсоўвалі аглоблю]. Рудня Астравітая Чэрв.

ЗА′ГА, ЗА′ГА, ЗГА′ГА *ж.* Пякотка. *Зага есць.* Вялікія Баяры Шчуч. *О, зага есць!* Солы Смарг. *Кажуть, што як зага пэчэ, то трэба бэз оддыху сказаті дэвэть разы: «Іехала зага на біелуой кобылі, кобыла ўпала і зага пропала», то тогды пэрэстанэ пэчы.* Курашэва Чыж. *Зага пячэ — нада цукру з′есць аба малака выпіць.* Гемзы Шальч. *Мяне зага пячэ.* Сасноўка Смарг. *Чаго ты скрывілася? — Зага пячэ, не магу вытрываць.* Кіралі Шчуч. *Зага пячэ.* Каўняны Гродз., Вострава, Галубы Маст., Жылі Іўеў., Альхоўцы Лях. *Зага пячэ, просто горыць у грудзях.* Баброўнікі Гарад. *Згага мне ела, я крэйду ела.* Старыя Трокі Трак. *Згага і пякотка — адно і тое, пячэ, нада сахару браць!* Лайпушкі Ігн. *Згага есць.* Старыя Смільгіні Воран. *Ад згаге бурнэльку п′юць.* Мсцібава Ваўк.

ЗАГА′БАЦЬ *зак.* Зачапіць. *Ні загабай ты яго, хай сядзіць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ.*gablỹs* 'прыдзіра, прычэпа'.

ЗАГАБНУ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а г а́ б а ц ь. *Не трогай — ён* [гад] *не загабне. Загабні маладога — ён нагаворыць усяго.* Старыя Трокі Трак.

ЗАГАВАРЫ'ЦЦА *зак.* Захапіцца размовай. *Загаварылася з вамі.* Жодзішкі Смарг.

ЗАГАВАРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пачаць гаварыць. *Сядзіць, не загаворыць, ідзе да другой.* Паляцкішкі Воран. *Як загаварыла Яніна, мне светла стала.* Ёдлавічы Брасл. 2. Сказаць. *Я можа і загавару не так.* Рагулішкі Даўг. 3. Звярнуцца з размовай да каго-н. *Яна да кожнага дзяцёнка загаворыць.* Ёдлавічы Брасл. 4. Замовіць, заваражыць. *Ой, гадзіну загаварыць — нада імець харошую галаву і харошую памяць.* Гемзы Шальч. *Рану загаварыць трэбо.* Баброўнікі Гарад.

ЗАГАВЕ'ЦЬ *зак. рэліг.* Пачаць пасціць. *Запусты, загавелі, заўтра пост.* Рыбчына Віл. *Загавелі перат пастом велькім.* Кіралі Шчуч. *Загавеім і посцім.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗА'ГАВІНЫ, ЗА'ГАВІНІ *мн. рэліг.* Апошні дзень перад пастом, калі ядуць скаромнае. *Заґавіны перат вялікодным пастом.* Ахрэмаўцы Брасл., Лісна В.-Дзв. *Послі місаеда заґавіны.* Індра Красл. *Заґавіны былі перад пастом.* Гемзы Шальч. *На заґавіні варылі мяса, квашаніну, кілбасаў.* Кіралі Шчуч.

ЗАГАВІ'ЦЦА *гл.* ЗАГАІ'ЦЦА

ЗАГАВІ'ЦЬ *гл.* ЗАГАІ'ЦЬ

ЗАГАДАВА'ЦЬ *зак.* Узгадаваць, вырасціць. *Яна сільна жадная, ад яе нічога не загадуеш.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАГАДА'ЦЬ *зак.* 1. Распарадзіцца. *Бапка загадала дзеду, кап ён збыў дзе патчарыцу.* Падневічы Івян. 2. Прапанаваць загадку. *Загадала загатку.* Гемзы Шальч.

ЗА'ГАДЗЯ, ЗА'ГАДЗДЗЯ, ЗА'ГАДЗІ, ЗАГАДЗЁЎ *прысл.* Зараней. *Загадзя прыехала.* Вецярэвічы Пух. *Загадздзя скасіла пожню.* Валынцы В.-Дзв. *Нада ўзнаць загадзі, калі аўтобус ідзець на Мінск.* Лісна В.-Дзв. *Паны ведалі загадзёў, што ім будзя.* Мсцібава Ваўк.

ЗА'ГАДКА, ЗА'ГАТКА *ж.* Загадка. *У, загатку загадай мне!* Магуны Паст. *Загадай загатку.* Лісна В.-Дзв. *Загатку такую загадай.* Старыя Трокі Трак. *Гэта загатка такая.* Лоск Валож. *Загаткі загадай.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАГАДНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а г а д а́ ц ь 2. *Загадні загатку.* Паляцкішкі Воран.

ЗАГАІ'ЦЦА, ЗАГАВІ'ЦЦА, ЗАГОВІ'ЦІСА *зак.* Зажыць, зарубцавацца. *Нага прэнтка загаілася.* Старыя Смільгіні Воран. *Загаілася рука. Усё ўжо загавілася.* Дакудава Лід. *Загавілася мая нага ад той масці.* Каўняны Гродз. *Загавілася яму рана.* Вострава Маст. *Нога заговіласа.* Смаляніца Пруж. *За дзве нядзелі загоілася рука.* Рагулішкі Даўг.

ЗАГАІ'ЦЬ, ЗАГАВІ'ЦЬ *зак.* Залячыць, зажывіць. *Уквяліў* [рану], *нядможна загаіць.* Магуны Паст. *Усе выгаілосо, дуп загоіць скоро.* Дзяніскавічы Ганц. *З натугі стала рана, пакуль загóвілі.* Мсцібава Ваўк.

ЗАГА′ЙВАЦЬ *незак.* Залечваць. *Я загайвала рану.* Лайпушкі Ігн.

ЗА′ГАЛАСКІ *мн.* Рэха. *Вот гукнуў, аш загаласкі ідуць.* Гемзы Шальч.

ЗАГАЛУ′НІЦЦА *зак. экспр.* Заняцца. *Загалунілася і не змагла пазваніць.* Беразіно Докш.

ЗАГАМАВА′ЦЬ *зак.* Затармазіць. *Машына шыбка загамавала.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *hamować* 'тармазіць'.

ЗАГА′МТАЦЬ *зак. экспр.* Засунуць, заткнуць куды-н. *«Дзе тыя ключы?» — «Недзе з адзежай загамтала».* Альхоўка Навагр.

ЗАГАНІ′ЦЬ *зак.* Увагнаць, убіць. *Цвік заганіла я ў сценку.* Альхоўцы Лях.

ЗА′ГАНКА *ж.* Тое ж, што і з а́ г а д к а. *Заганула заганку. Я адганула заганку.* Кіралі Шчуч.

ЗАГАНУ′ЦЬ, ЗАГАНУ′ТЭ *зак.* 1. Тое ж, што і з а г а д а́ ц ь 1. *Заганула вуліцаю гнаць.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і з а г а д а́ ц ь 2. *Загані загатку.* Масілавічы Сл. *Заганымо сванце сым загадок, коб розумна була і одганула.* Дзмітравічы Кам. 3. Запрасіць цану. *За пут грэчкі загануў пятнаццаць рублей.* Дакудава Лід.

ЗАГАНЯ′ЦЦА *незак.* Устаўляцца. *Спіцы* [у коле] *заганяліся ў трубкі.* Мешкінева Лудз.

ЗАГАНЯ′ЦЬ *незак.* 1. Устаўляць. *У колі е калотка; яна бярозава, і заганяюць у яе спіцы.* Альхоўцы Лях. 2. Забіваць у што-н. *Кавалкі бітага чыгуна заганяя ў калотку* [жорнаў] *і зверху і са споду.* Солы Смарг. 3. Прымушаць увайсці куды-н. *Рыбу заганяць у сетку.* Чычалі Швянч. 4. *экспр.* Засыпаць, пакрываць чым-н. *Паабапал рэчкі харошая саналжаць, але калі пройдзе велькі дош, то тады натта заганяе траву зямлёй.* Магенцы Іўеў. 5. Заносіць. *Заганяя сані ў бакі.* Гемзы Шальч.

ЗА′ГАРАД, ЗА′ГАРАТ, ЗА′ГОРОД *м.* Адгароджанае месца ў хляве, на двары. Альхоўка Навагр. *Авячкіе ў трэцём загарадзя. Загарат для каня.* Крынкі Крын. *Загород у хлеве.* Смаляніца Пруж.

ЗА′ГАРАДА *ж.* Тое ж, што і з а́ г а р а д. *Сярот поля загарада.* Груздава Паст. *Ёсць загарады: і цялушка ў загарадзі, і каровы, і свіні — усе па загарадах.* Кіралі Шчуч. *Загараду загарадзіў.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАГАРА′ДЖАВАЦЬ *незак.* Гарадзіць. *Загараджвалі плот.* Саланое Віл.

ЗА′ГАРАДЗЬ, ЗА′ГАРАЦЬ, ЗЫ′ГАРАЦЬ *ж.* Тое ж, што і з а́ г а р а д. *Загарадзь(ць) у хляве.* Міратычы Карэл. *У загарадзі каровы стаяць.* Альхоўцы Лях. *Каровы ў зыгарадзі стаялі.* Саланое Віл.

ЗА′ГАРАДКА, ЗА′ГАРАТКА, ЗЫ′ГАРАТКА, ЗЫ′ГАРТ-

КА *ж.* 1. Тое ж, што і з а́ г а р а д. *У хляве загараткі: цялёнку загаратка, свінёй* [свінні] *загаратка, авечкай* [авечцы] *загаратка, каровай* [карове] *загаратка.* Ёдлавічы Брасл. *Разбі загаратку, бо яна непатрэбна цяпер.* Ністанішкі Смарг. *Загнаў карову ў цесну загаратку.* Паляцкішкі Воран. *Загаратка ў хляве.* Лісна В.-Дзв. *Паламалі цяляты загаратку.* Рагулішкі Даўг. *Зыгаратка на полі — выгараджаная места для ската, і ў хлеве — для каровы, свінні, авечак.* Груздава Паст. *Зыгаратка для каровы адгароджана.* Мярэцкія Глыб. *З зыгарткі вылес, а пасля гэтага кабана загналі туды.* Валынцы В.-Дзв. 2. Агароджа на могілках. *Зыгараткі кала магілак.* Рагулішкі Даўг.

ЗА'ГАРАДНЯ *ж.* Тое ж, што і з а́ г а р а д. *Ні ідзі ў загарадню!* Граўжышкі Ашм. *Загарадня — венкшая, загаратка — меншая.* Паляцкішкі Воран.

ЗАҐА'РАК *м.* Гадзіннік. *На заґарак скрынка.* Магуны Паст. *Жывеш, як які заґарак, дзень пражыў, і добра.* Жукойні Астр. *Некалі заґаркаў не было, па ґвяздах уставалі малаціць.* Граўжышкі Ашм. *Заґарак ручны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Заґарка носіць.* Новы Свержань Стаўб. *Заґарак купіў.* Старое Сяло Зэльв. *У нас старыя гадзіннік звалі заґарак.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ідзе плоха заґарак.* Паляцкішкі Воран. *Заґарак стаў, тэрас яка гадзіна?* Каменка Стара Сакол.; *парайн.* польск. *zegarek* 'тж'.

ЗА'ГАРАЛАЕ ПЯТНО' *н.* Радзімая пляма чырванаватага колеру. *Загаралае пятно на твары — як матка спужаецца пажару і возьмецца рукой за твар ці лоп.* Мсцібава Ваўк.

ЗАГА'РАНЫ *прым.* Загарэлы. *Ногі загараны.* Малахоўцы Бар.

ЗАГАРА'НЫ, ЗАГО'РАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а в о́ р а т ы. *Поле загарано.* Дзяніскавічы Ганц. *Загорана поля.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗА'ГАРАТ *гл.* ЗА'ГАРАД

ЗА'ГАРАТКА *гл.* ЗА'ГАРАДКА

ЗА'ГАРАЦЬ *гл.* ЗА'ГАРАДЗЬ

ЗАГАРА'ЦЬ *гл.* ЗААРА'ЦЬ

ЗАГАРА'ЧЫ *прым.* Вельмі гарачы. *Не лесь, бо загарачо* [малако]. Вострава Маст.

ЗАГА'РВАЦЦА *незак.* Загарацца. *Загарвайся агонь.* Лука Нараўк.

ЗАГА'РВАЦЬ *незак.* Загараць. *Некалі толькі ногі і рукі загарваюць.* Малахоўцы Бар. *Дайней ні загарвалі, толькі каля работы.* Ракаўскія Швянч.

ЗАҐАРҐАТА'ЦЬ *зак.* Загагатаць. *Заґарґатала гусь.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* літ. *gargėti* 'гагатаць'.

ЗАГА'РДЗІЦЦА *зак.* Зачырванець. *Нагі не трэба нача-*

*сацъ, каб не загардзілася.* Саланое Віл. *Загардзіласа кала скулы.* Рыбчына Віл.

ЗАГА'РДЗІЦЬ *зак.* Зазлаваць. *Чаго ты на мяне заґардзіў?* Чычалі Швянч.

ЗАГАРНУ'ЦЬ *зак.* Згарнуць у адно месца, загрэбці. *Жар выгарнены с печы, загарнула жар у ямку.* Кіралі Шчуч.

ЗАГАРО'ДНІ *прым.* Які знаходзіцца за агародамі. *Трэба ехаць загародняй дарогай.* Рыбчына Віл.

ЗАГАРТА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і загарну́ць. *Загартаць у ямку жарок.* Гемзы Шальч.

ЗАГАРЭ'ЦЦА *зак.* Пачаць гарэць. *Можа лес загарэцца, не пакідайце жару, заліць яго трэба.* Кіралі Шчуч.

ЗАГА'СІ'ЦЬ, ЗАГАСЫ'ТЫ *зак.* Патушыць. *Зага́сіла вуглі.* Ёдлавічы Брасл. *Зага́сіў агонь.* Чычалі Швянч. *Зага́сь лямпу!* Малькуны Ігн. *Загасілі алектрыку.* Магуны Паст. *Загасі папяросу, дзіця тут спіцы!* Пацаўшчына Дзятл. *Загасіла папяросу.* Рыбчына Віл. *Вуглі нада загасіць.* Ракаўскія Швянч. *Загасіць агонь нада.* Грыкені Вільн. *Загасіць агонь.* Беняконі Воран. *Загасі святло!* Лука Нараўк. *Загасыты папыроса, огонь.* Сіманавічы Драг.

ЗАГАСТРЫ'ЦЬ *зак.* Завастрыць. *Загастру палачку.* Старое Сяло Зэльв. *Трэба загастрыць кала.* Гемзы Шальч.

ЗАГАТАВА'ЦЦА *зак.* Закіпяціцца.∇ *Не зная, як вада загатуецца* — пра чалавека, які не робіць хатняй работы. Солы Смарг.

ЗАГАТАВА'ЦЬ *зак.* Закіпяціць. *Трэба загатаваць вады.* Лісна В.-Дзв. *Загатуя вады і паставіць.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *zagotować* 'зварыць, згатаваць'.

ЗА'ГАТКА *гл.* ЗА'ГАДКА

ЗАГАТО'ВІЦЬ *зак.* Нарыхтаваць. *Сёлята мне нада болі загатовіць пошару на зіму.* Груздава Паст.

ЗАГА'ЎЛІНЫ *мн.* Тое ж, што і за́ґавіны. *Бліны пякуць перад заґаўлінамі.* Мсцібава Ваўк.

ЗАГА'ЧВАЦЬ *незак.* Перагароджваць. *Грэблю загачваюць, каб было сухо.* Навасёлкі Свісл.

ЗА'ГВАЗДКА, ЗА'ГВАСТКА *ж.* Загваздка, шпень. *Загвастка ззаду воза. Загвасткі былі дзеравяныя.* Дакудава Лід. *Загвастка згубілася.* Лісна В.-Дзв. *Калясо на восі, загвастка з канца.* Мешкінева Лудз. *Загвастка ў асях.* Грыкені Вільн. *Загвастка ў дзеравянай восі.* Гемзы Шальч. *У колі дайней з якога сучка рабілі загвастку.* Кіралі Шчуч. *Кола на восі замацоўваецца пры дапамозе загвасткі.* Глівін Барыс. *Коло на восі загвастка дзяржыць.* Малахоўцы Бар.

ЗАГВІЖА'ЦЬ *зак.* Завішчаць. *Куда заґвіжала?* [пра свінню]. Пацаўшчына Дзятл.

ЗАГЕ'ЛЗАЦЬ *гл.* ЗАКЕ'ЛЗАЦЬ

ЗАГЕ'ЛІЦЬ *зак.* Задумаць, захацець. *Заґеліў жаніцца,*

*мох яшчэ пачакаць.* Магуны Паст. *Заґеліў жаніцца, ешчэ малако маткіна не высахшы.* Рагулішкі Даўг. *Заґеліла яму жаніцця, а я не пазваляю.* Кіралі Шчуч. *Ну заґеліў ён у грыбы ісці.* Ёдлавічы Брасл. *Мяне не пускаюць, а я заґеліў і паехаў. Ну і заґеліла жаніцца.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *gélti* 'ныць, моцна хацець, карцець'.

ЗАГЕ'РЗАВАЦЬ *незак.* Зацягваць, перацягваць. *Между палазамі і за вусы заґерзаваем вяроўкамі — і не правальваецца і не абярнецца.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *kevérzoti* (>*kérzoti*) 'няроўна што-н. рабіць'.

ЗАГЕ'РЗАЦЬ *зак.* 1. Зашнураваць. *Заґерзаць чаравік.* Альхоўка Навагр. *Зацягні і заґерзай аборы ў хадаку!* Кіралі Шчуч. 2. Плетучы, залапіць. *Заґерзаў кош — абы дзюры не было.* Гемзы Шальч. 3. Закрэмзаць. *Ні прачытаюць, заґерзай!* Дакудава Лід.; *гл.* з а ґ е́ р з а в а ц ь.

ЗАГЗА'КІ *мн.* Зігзагі. *Гадзіна чорна і заґзакі па ёй.* Альхоўцы Лях.

ЗАГІ'БАНЫ *дзеепрым.* Сагнуты. *Што ты мне загібаны цвік прынесла?* Стральцы Гродз.

ЗАГІБА'ЦЦА *незак.* Загінацца. *Аглоблі бярозавыя загібаліся кала осей.* Пасіене Лудз.

ЗАГІБА'ЦЬ *незак.* Згінаць. *Бяроску загібалі і дзелалі связь.* Пасіене Лудз.

ЗАГІЗАВА'ЦЬ *зак.* 1. Узбудзіцца, забегаць ад укусаў аваднёў. *Каровы заґізуюць у жару, хвасты задзеруць уверх, дзе там сядзець і разбаівацъ.* Валынцы В.-Дзв. 2. *перан. экспр.* Пачаць бегаць. *І я заґізую.* Курaполле Паст.; *парайн.* літ. *gizúoti* 'гарачыцца'.

ЗАГІКА'СТЫ *прым.* Заіклівы. *Заґікасты чалавек.* Ністанішкі Смарг.

ЗАГІКА'ЦЦА *незак.* Заікацца. *Загікаецца дзеўчына.* Альхоўка Навагр. *Ён загікаецца.* Альхоўцы Лях.

ЗАГІ'КВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і з а г і к а́ ц ц а. *Хлапчака паткінула ўгору, і ён загікнуўся і січас загікваецца.* Кіралі Шчуч.

ЗАГІ'КВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а г і́ к в а ц ц а. *Карова на рох хапіла, і хлапец загікнуўся і цяпер загіквaець.* Кіралі Шчуч.

ЗАГІКНУ'ЦЦА *зак.* Заікнуцца. *Хлапец са страху загікнуўся і цяпер загікаецца.* Кіралі Шчуч.

ЗАГІ'КІВІСТЫ *прым.* Тое ж, што і з а ґ і к а́ с т ы. *Сільна загіківісты стаў.* Сакаўшчына Валож.

ЗАГІЛЯВА'ЦЦА *зак. перан. экспр.* Забегацца, стаміцца. *Залятаяцца, заґілюяцца за дзень.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* з а г і л я в а́ ц ь.

ЗАГІЛЯВА'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а ґ і з а в а́ ц ь 1. *Як загілююць валы, саху паламаюць.* Гемзы Шальч. *Заґілявай,*

*паляцеў патскакваючы.* Жылі Іўеў. 2. Напасці на скаціну (пра насякомых). *Як летам мухі, ґілі загілявалі, то валы задралі хвасты і...* Швэды Вільн.; *парайн.* літ. *gyliúoti* 'шалець'.

ЗАГІ'НУЦЬ, ЗАГІ'НАЦЬ *зак.* Загінуць. *Двох ужо маладые ўжо загінулі.* Альхоўка Навагр. *Могуць усе загінуць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён можыць загінаць.* Мярэцкія Глыб.

ЗАГЛЕ'ДЗЕЦЦА *зак.* Заглядзецца. *Загледзелася на вас.* Груздава Паст.

ЗАГЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Угледзець, убачыць. *Дома быў, а яго загледзелі і ўзялі немцы.* Курапалле Паст. *А ў мяне быў першы сын, дык і навучны быў: што ні загледзіць, дык зробіць.* Багушэвічы Бярэз.

ЗАГЛУПЕ'ЦЬ *зак.* Заглухнуць, зарасці травой. *Зарасло, заглупело, цяпер ні лучыш; маладое заглупело.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАГЛУШЫ'ЦЬ *зак.* Заглушыць. *Трава заглушыла буракі.* Жодзішкі Смарг.

ЗАГЛЮ'ЗНУЦЬ *зак.* Аслізнуць. *Сыр заглюс, мяса можа заглюзнуць. Глюзне, як мало пасолено: зверху сліскае, запах нехарошы, грыбы могуць заглюзнуць.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *suglìžti* 'тж', *sugliùžti* 'размякаць'.

ЗА'ГНАНЫ *дзеепрым.* Загнуты. *Качарэшка — палка загнана, памяшаць поліўку.* Магуны Паст.

ЗАГНА'НЫ *дзеепрым.* 1. Загнаны куды-н. *Свіння загнана* [у двор]. Магуны Паст. *Ужо каровы загнаны.* Граўжышкі Ашм. *Парсюк загнаны* [у хлеў]. Стральцы Гродз. *Былі людзі загнаныя туды.* Альхоўцы Лях. 2. Пакрыты, засыпаны чым-н. *Загнана дарога пяском.* Дакудава Лід. 3. Назапашаны. *Былі ў мяне дзеньгі загнаныя.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАГНА'ЦЬ *зак.* 1. Застраміць. *Загнала шчэпку ў паліц.* Едлавічы Брасл. 2. Загнаць куды-н. *Заганеце гусі ў хлеў і дайця есці!* Кіралі Шчуч. *Пачакай, заонім свіня.* Быстрыца Астр. *Зажэнь карову ў хлеў!* Вострава Маст. *Карову нехта загоніць.* Альхоўка Навагр. 3. Зрабіць запас. *Капейкі запасу не загнала, але ў маці адзежы ёсць.* Рагулішкі Даўг. 4. Занесці, пакрыць. *Загнала поле пяском пасля разліву.* Дакудава Лід. ◇ *Загнаць у казіны рог* — падпарадкаваць сабе. *У казіны рог яна загнала чалавека.* Саланое Віл.

ЗАГНЕ'Т, ЗАГНІ'Т *м.* 1. Прыпечак, загнетак. *Загнет у печы.* Вялікі Лес Круп. *Пастаў на загнеце.* Янова Рас. 2. Трэскі, якія паляць у чалесніках, каб запякаўся хлеб. *Загнет — трэскі паляць спераду печы, кап хлеп загнеціўся.* Жодзішкі Смарг. *Закінь ты загнету, хлеп ні загнеціцца, бо мала духу.* Груздава Паст.*Закідалі загнет, кап хлеп загнеціўся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Закінь загнету, каб хлеб чырвоненькі быў. Загнет даюць — саломкі, трэсачкі, кап дух схваціўся.* Саланое Віл. *Хлеб як пячэцца і духу мала, то ложаць загнет.* Рыбчына

Віл. *Ідзі насячы загнету печ паццепліваць!* Мярэцкія Глыб. *Загнет — трэскі, якія закідваюцца ў печ, кап запёкся хлеп.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Дзелаюць загнет, кап запякліся ў печы хлеп ці булка.* Палік Барыс. *Трэба закідаць загнет, каб хлеб запякайся.* Рудня Чэрв. *Загнет закладаецца, каб хлеб запякойся.* Мачаск Бярэз. *Загнет дзелаюць, закідаюць, каб захапуваўся хлеб.* Азяраны Раг. *Шэ крохы трысочок прынысу на загніт.*▽ *Росла сосонка кылько літ, рубалы іі на загніт, коб ріс коровай на всю піч, коб пошла славонька на ввэсь світ.* Сіманавічы Драг. 3. Напал, дух. *Укінь лучыначку, кап загнет браў, хлеп запякайся.* Курàполле Паст. *У цябе слабы загнет, ні спячэцца хлеп; закінь ты загнету, хлеп ні загнеціцца, бо мала духу.* Груздава Паст. *Мала загнету, не запякаецца хлеб, нада прыкінуць трэсак ці палку.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАГНЕ'ЦІЦЦА *незак.* Запякацца. *Закінь ты загнету, хлеп ні загнеціўся, бо мала духу.* Груздава Паст. *Кап хлеп загнеціўся, кідаюць загнет — паперку, лучынку.* Жодзішкі Смарг. *Закідалі загнет, кап хлеп загнеціўся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як у печ пасадзіш, то кажу: «Ужэ загнеціўсо хлеп».* Бàброўнікі Гарад. *Хлеп загнеціўсо.* Номікі Бабіц.

ЗАГНЕ'ШКА *ж.* Прут для замацавання дужак у ярме. *Ярмо — дрэва доўгая, метры два на карку; душкі ў ярмо, загнешка з дрэва, чым засоўваецца душка.* Рыбчына Віл.

ЗАГНЁНЫ *дзеепрым.* Загнуты. *Загнёныя вязы.* Жодзішкі Смарг. *У змяі зубы, як загнёныя, а гадзюка пакрапляста.* Малахоўцы Бар. *Загнёныя, крукаватыя вілы, імі гной скідалі.* Дакудава Лід.

ЗАГНЁТ *м.* Тое ж, што і з а г н é т 3. *Як коліцца* [хлеб], *то казалі: «Німа загнёту, нада закінуць трэсак».* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАГНІ'БІЦЬ *зак.* Ушчыпнуць. *Другі раз рак загнібіць і прарвець паляц.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *gnýbti* 'шчыпаць'.

ЗАГНІ'Т *гл.* ЗАГНЕ'Т

ЗАГНУ'ЦЦА *зак. перан. экспр.* Памерці. *Там і загнуліся оба, а яго забралі за сына.* Лісна В.-Дзв.

ЗАГНЭ'БІЦЬ, ЗАГНЭ'МБІЦЬ *зак.* Замучыць. *Загнэбіў яе зусім.* Галубы Маст. *Загнэмбіць дзіця.* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* польск. *zagnębić* 'тж'.

ЗАГОВІ'ЦІСА *гл.* ЗАГАІ'ЦЦА

ЗАГОВУ'ОР *м.* Замова. *Кажуць, што од жывота заговуор помогае.* Курашэва Чыж.

ЗАГО'Н, ЗАО'Н *м.* 1. Агароджанае месца ў лесе, у полі для жывёлы. Чычалі Швянч. *Загоны дзелалі, скот ганялі.* Індра Красл. 2. Нешырокі ўчастак ворнай зямлі. *Загоны аралі дваццаць плугоў перашоўшы, загонамі аралі, што рабілі роскіткі, кап вада сцякала.* Быстрыца Астр. *Уперат былі пры-*

*выкшы да загону сваяго.* Крэва Смарг. *Свіня загон картошкі зрыўшы.* Паляцкішкі Воран. *Загон — шэсць—восем барозён. Тыля загонаў згараў!* Жылі Іўеў. *Загон — участак зямлі ў восем баразён.* Малахоўцы Бар. *Загон — участак зямлі на шырыню.* Дакудава Лід. *Зямлю разбівалі на загоны.* Рудня Астравітая Чэрв. *На загоны рэзалі зямлю, загон вускі.* Лука Нараўк. *Загоны поля былі.* Альхоўцы Лях. *Загон — участак зямлі. Грачаныя загоны на чатыры баразны. Загон — па-старому ўчастак.* Старыя Трокі Трак. *Я шоў загонам пустым. Загоны шырокія, штобы не было роскідкаў многа.* Відаўцішкі Вільн. *Колісь кажны свого загона гледзеў.* Смаляніца Пруж. *Заон фасоля пасадзіў.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАГО'НЧЫК *м. памянш.* да з а г о́ н 2. *Пусцяць пат папар адзін загончык.* Альхоўцы Лях. *Арэ загончык свой уроскітку ці ўсклат.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАГО'РАНЫ *гл.* ЗАГАРА'НЫ

ЗАГО'РВАЦЬ *незак.* Заворваць. *Растрасаюць на полі і загорваюць гной.* Пацаўшчына Дзятл. *Загорвалі і забароньвалі зямлю.* Дакудава Лід.

ЗА'ГОРОД *гл.* ЗА'ГАРАД

ЗА'ГОРОДЕ *н.* Поле за агародамі. *На загороді посіелі пшэніцу.* Курашэва Чыж.

ЗАГО'РТЫВАЦЦА *незак.* Заграбацца. *Печ вытапіцца, і загортываецца жар у ямку.* Гемзы Шальч.

ЗАГОТО'ВІТІ *зак.* Нарыхтаваць. *Заготовів з дэсэть фуор дров.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *заготовить* 'тж'.

ЗАГОТУ'ОВКА *ж.* Нарыхтоўка. *Ціелу зіму іездів в ліес на заготуовку.* Курашэва Чыж.

ЗАГРАБА'ЦЬ *незак.* 1. Загортваць, заграбаць. *Жар заграбаю.* Азяраны Раг. *Печка, дзе попел заграбаем.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. *перан.* Захопліваць. *Ей бы ўсё заграбаць.* Індра Красл. ◊ *Хоць заграбай* — пра вялікую колькасць чаго-н. *А грыбоў многа было ў нашым лесе, хоць заграбай.* Хажова Маладз.

ЗАГРА'БІЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а г а р н у́ ц ь. *Нада заграбіць жар.* Валынцы В.-Дзв. *Заграбіць нада жар, заграбіць у ямку.* Малькуны Ігн. 2. Згрэбці. *Заўтра заграбіць сена трэба.* Ністанішкі Смарг.

ЗАГРАЗНІ'ЦЦА *зак.* Запэцкацца, забрудзіцца. *Загразнілася бяльё, нады мыць.* Лісна В.-Дзв.

ЗАГРА'ЗНУЦЬ *зак.* Загрузнуць, завязнуць. *Ідзі прэндзай, бо кураня загразла ў балоці!* Кіралі Шчуч. *Загразлі ў дарозе.* Ністанішкі Смарг. *Заграс у мул.* Жылі Іўеў. *Карова ў балоця загразла.* Рыбчына Віл. *Конь заграс і карова загразла ў балоця.* Мярэцкія Глыб. *Я загразла ў балота.* Гемзы Шальч. *Дзе ў гразі, то так загразнеш, што не вылезеш. Як карова*

*загразне, то верайкамі яе выцягаіш.* Баброўнікі Гарад. *Конь заграс.* Крынкі Крын.

ЗАГРАМАЗДЗЕ'ЦЬ *зак.* Загрукатаць. *Как бутта што заґрамаздзела: ляжу — ідзе Яська.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *gramozdótis* 'грукатаць'.

ЗАГРАМО'ЖДЖАНЫ *дзеепрым.* Загрувашчаны. *Уся хата заґраможджана.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *gramõzdyti* 'нагрувашчваць'.

ЗАГРА'НЫ, ЗАЙГРА'НЫ *прым.* Аплоднены. *Не загранaя яйко, калбатун, німа зародышка ў калбатуне.* Кіралі Шчуч. *Зайгранэ яйцо.* Лука Нараўк. *Зайграная яйцо.* Рыбчына Віл. *Яйко як зайграная, то відаць, калі паглядзець на слонца.* Ліпнікі Вільн.

ЗАГРА'ТЫ *гл.* ЗЕГРА'ТЫ

ЗАГРАЧО'НЫ *дзеепрым.* Загароджаны рашоткай. *Акно заґрачоная было.* Селавічы Нясв.; *парайн.* літ. *grõtos* (<польск. *graty* 'хлам') 'рашотка'.

ЗАГРУБЕ'ЦЬ *зак.* Стаць цяжарнай. Магуны Паст. *Загрубела Манька на дзісятым гаду* [замужжа]. *Ай, як яна рада была, што загрубела зноў Манька.* Саланое Віл. *Баба загрубела.* Ёдлавічы Брасл. *Вышла замуш і зразу загрубела.* Альба Нясв.

ЗАГРУБЫ' *прым.* Таўставаты. *Такоя палатно загрубое. Мечык наш загрубы.* Магуны Паст.

ЗАГРЫБЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца цвіллю. *Малако загрыбело.* Номікі Бабіц.

ЗАГРЭ'ЦЦА *зак.* Сагрэцца. *Загрэўся і пачырванеў.* Жылі Іўеў.

ЗАГРЭШЫ'ЦІ *зак.* Саграшыць. *Ужэ загрэшыла мало, то нэхай одзін грэх у нэдзелю.* Смаляніца Пруж.

ЗАГУБІ'ЦЬ *зак.* 1. Прывесці да гібелі. *Загубіў сябе.* Саланое Віл. *Загубілі яго.* Талейкі Швянч. 2. Згубіць. *Загубіла серп.* Пасека Ст.-Дар.

ЗАГУДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пра перыяд палавой актыўнасці ў свіней. *Загудзела свіння.* Рагулішкі Даўг. *Загудзела свіня, вядзі храку.* Пасіене Лудз.

ЗАГУКА'ЦЬ *зак.* Пачаць клікаць, закрычаць. *Ён як загукаў, яны пачулі.* Лісна В.-Дзв.

ЗАГУМЕ'ННЕ, ЗАГУМЕ'НЁ *н.* Месца, прастора за гумном. *Дарога па загуменню. Паехаў па загуменню.* Кіралі Шчуч. *Ішоў калі загумення.* Мярэцкія Глыб. *Дзеці на загуменні гуляюць.* Беразіно Докш. *Трэба ехаць загуменням.* Рудня Астравітая Чэрв. *Па загуменю ехаў.* Альхоўцы Лях.

ЗАГУМЕ'ННІЦА *ж.* Дарога, якая праходзіць за гумном. *Дарога кала гумён — загуменніца.* Жодзішкі Смарг.

ЗАГУМЕ'ННЫ, ЗАГУМЁННЫ, ЗАГУ'МНЫ, ЗАУМЕ'ННЫ *прым.* Які знаходзіцца за гумном, за гумнамі. *Загумен-*

*ная дарога.* Рыбчына Віл., Дакудава Лід., Беразіно Докш., Лапічы Асіп. *Загумённая дарога.* Нізок Уздз. *Загумная дарога.* Мярэцкія Глыб. *Ідзі зауменнай дарогай.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАГУМЁНКІ *мн.* Участак поля за гумном. *Сёлета на загумёнках пасеялі жыта.* Нізок Уздз.

ЗАГУ'СНУЦЬ *зак.* Загусцець. *Кісель зварылі, ён загусня, і елі.* Новікі Гродз. *Мілту сырой вадой налівалі, і яна загусніць, і ў руку можна ўзяць, а можна і радзей.* Саланое Віл. *Кісель загусне.* Солы Смарг.

ЗАГУСТАВА'ТЫ *прым.* Густаваты. *Загуставатая каша.* Кураполле Паст.

ЗАГУ'СЦІСЯ *зак.* Тое ж, што і з а г у д з е́ ц ь. *Свіння загулася кнуроў.* Азяраны Раг.

ЗАГУ'ЧЫВАЦЬ *незак.* Запруджваць. *Дзеці загучываюць рэчку, кап вада стаяла, агрэлася.* Гайна Лаг.

ЗАҐЭ'НСТЫ *прым.* Тое ж, што і з а г у с т а в а́ т ы. *Заґэнстая каша.* Быстрыца Астр. *Заґэнсты крупнік.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *zagęstnieć* 'загусцець'.

ЗАД, ЗАТ *м.* 1. Задняя частка воза. Чычалі Швянч., Грыкені Вільн. *У целеге пірадок і зат.* Істра Лудз. 2. Задняя частка тулава жывёлы. *Сыта карова, задам выкідае.* Мсцібава Ваўк.

ЗАДАВА'ТІСЕ *незак.* Ганарліва паводзіць сябе. *Гандзя задаецце, што то вона.* Курашэва Чыж.

ЗАДАВІ'ЦЦА *зак.* 1. Падавіцца. Каўняны Гродз. *Акотай рыбнай задавілася.* Рагулішкі Даўг. 2. Павесіцца. *Яе мужык задавіўся, у яе дочка.* Валынцы В.-Дзв.∇ *Дай божа, задавіцца першым куском!*— каб адзін раз быць замужам. Каўняны Гродз. *Ячмень пачынае выплываць — салавей перастае спяваць, людзі кажаць: «Салавей задавіўся асцюком».* Гемзы Шальч.

ЗАДАВІ'ЦЬ *зак.* 1. Задушыць. *Воўк штукі чатырэ авечак задавіў.* Кураполле Паст. 2. Сціснуць, здушыць. *Вот горла задавіла, задаўкі ў горля.* Кіралі Шчуч. ◊ *Жаль задавіў* — ахапіла пачуццё жалю. *Так задавіў яе жаль, што слова не магла прамовіць.* Солы Смарг.

ЗАДАЖДЖЫ'ЦЦА *зак. безас.* Пра зацяжны дождж. *Кап пакосы былі разбітыя, а то можа задажджыцца.* Груздава Паст. *От задажджылася, які дождж пашоў.* Саланое Віл. *Задажджылася на дзён тры.* Мсцібава Ваўк.

ЗА'ДАМ *прысл.* Спіной. *Адварачваямся задам і ідзём, руж'я схаваям у яляжніку.* Крэва Смарг.

ЗА'ДАРАШКА *ж.* Спінка ў вазку. *Задарашка сзадзі ў санях, як спінка.* Індра Красл.

ЗАДАРМА' *прысл.* Бясплатна. *На Расеі задарма вучылі.* Заполле Гродз.

ЗАДАРЭ'МНЕ *прысл.* Задарма. *Задарэмне адала малако.* Альхоўцы Лях.

ЗАДА'ТАК *м.* Частка сумы, якая ўносіцца наперад. *Задатак даў — ужо пэўны, нікому ня прадасць.* Граўжышкі Ашм. *Далі пядзесят рублёў задатку за карову. Ужо ён нікому не прадасць.* Кіралі Шчуч. *Цілёначка прадала, задаткі даў, а ўсё не прыежджаў за цілёначкам.* Масішкі Красл.

ЗАДАЎГАВА'ТЫ *прым.* Даўгаваты. *Атсячы канец, як задаўгавата палена.* Малахоўцы Бар. *Троха задаўгаваты.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАДАЎГІ' *прым.* Тое ж, што і з а д а ў г а в а́ т ы. *Задаўгі касцюм.* Мярэцкія Глыб.

ЗАДА'ЎКІ *мн. мед.* 1. Ангіна. *Вот горла задавіла, задаўкі ў горле, трэба напарыць малака і выпіць з мёдам.* Кіралі Шчуч. *Задаўкі ў міне, задавіла горла.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Свінка. *Каля шыі задаўкі.* Альхоўка Навагр. ∇ *Каб цябе задаўкі задавілі!* Галубы Маст. *Каб цябе задаўкі пакацілі, каб цябе даўкі задавілі!* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАДАЎНЕ'ЦЬ *зак.* Стаць даўнасцю. *Задаўнела даўно.* Жылі Іўеў.

ЗАДА'ЦЬ *зак.* 1. Паддаць на плечы што-н. *Задала яму на плечы ворак салетры.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Пакласці, усыпаць. *Дужа густая каша, многа круп задала.* Лісна В.-Дзв. 3. Набіць. *Як правінаваціцца дзіця, яго скарачом бацька ці матка задасць; б'е, баліць, як бічам б'юць.* Бакшты Іўеў. *Задаць дзіцяці.* Азяраны Раг. 4. Стукнуць, ударыць. *Каменням нам як задасць.* Валынцы В.-Дзв.

ЗА'ДЗДЗЯ *прысл.* Ззаду, услед. *Бабы задздзя пабіраюць бульбу* [за капалкай]. *Кошка задздзя бяжыць.* Лісна В.-Дзв.

ЗАДЗЕВА'ЦЦА *незак.* Замацоўвацца, надзявацца. *Атосы за калясо задзеюца.* Саланое Віл.

ЗАДЗЕ'РЖУВАЦЦА *незак.* Затрымлівацца. *Будзем задзержувацца.* Паляцкішкі Воран.

ЗАДЗЕ'РЖЫВАЦЬ *незак.* Затрымліваць. *Як моч* [мачу] *задзержуя, пятрушку п'юць.* Жылі Іўеў. *Бома дзерава задзержывае.* Сасноўка Смарг.

ЗАДЗЕ'РЖЫЦЬ *зак.* Затрымаць. *Задзержыў машыну.* Груздава Паст. *Задзерш яго.* Солы Смарг.; *параўн.* руск. *задержать* 'тж'.

ЗАДЗЕ'РЦІ I *зак.* Задраць, падняць. *Коні галавы задзерацъ і толькі фырчаць.* Рагулішкі Даўг. ◇ *Задзерці ногі* — памерці. *Уперат за яго задзерыць ногі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАДЗЕ'РЦІ II *зак.* Разарваць, забіць. *Курыцу задзярэ каршун.* Паляцкішкі Воран.

ЗАДЗЁРА, ЗАДЗІ'РА *м.* і *ж.* Буян, забіяка. *Задзёра ён, не чапай яга!* Рыбчына Віл. *Задзіра нейкі пашоў.* Кіралі Шчуч.

*Ён у бацькоў адзін задзіра, ніякі чалавек; яго выгналі са школы.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАДЗІВІ'ЦА *зак.* Здзівіцца. *Глянуў, задзівіўся.* Ракаўскія Швянч.

ЗАДЗІРА'КА *м.* і *ж.* Тое ж, што і задзёра. *Ну і задзірака ты!* Галубы Маст. *Вот задзірака ты! Чаго ты там лезеш? Усюды ты ўб'ешся!* Кіралі Шчуч. *Задзірака — ён прычапляецца да ўсіх.* Мсцібава Ваўк. *Ты — задзірака!* Малахоўцы Бар. *Задзірака — абы-што, ды біцца кідаецца.* Гемзы Шальч. *Біцца задзірака кідаецца.* Лука Нараўк.

ЗАДЗІРА'ЦЦА *незак.* Рабіцца валакністым. *Одлігай аж пакулі задзіраюцца на бярозавых санках.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАДЗІРВАНЕ'ЛЫ *дзеепрым.* Зарослы травою. *Задзірванелая зямля.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *dirvónas* 'дзірван'.

ЗАДЗІРВАНЕ'ЦЬ *зак.* Зарасці травою. *Поле задзірванела, травой зарасло.* Кураполле Паст. *Задзірванела чыста поля, дзірван стаў.* Рагулішкі Даўг. *Задзірванела зімля.* Саланое Віл., Чычалі Швянч. *Задзірванела зямля, дзірваном узялася.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *dirvónas* 'дзірван'.

ЗАДЗІРНО'СЫ *прым.* Кірпаты. Магуны Паст.

ЗАДЗЯРЖА'ЦЦА *зак.* Устрымацца. *Пятага сына нашоў і задзяржаўся.* Саланое Віл.

ЗАДЗЯРЖА'ЦЬ *зак.* Затрымаць, спыніць. *Яна мяне на дарозе задзяржала, сказала: «Не ідзі!» — і вярнула.* Ёдлавічы Брасл. *Задзяржаў і пытаецца, дзе дарога.* Малькуны Ігн. *Ён мяне задзяржаў і давай гаварыць.* Гемзы Шальч.

ЗАДЛЯ'ЦЦА *незак.* Затрымлівацца. *Найбольш скажуць: «Ні задляйса, прыхоць».* Вострава Маст.

ЗАДЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Затрымліваць. *Вы п рабілі, а я задляла вас.* Вострава Маст. 2. Адбіраць (час). *Учарашняя мука задляла мне час.* Мсцібава Ваўк.

ЗА'ДНІК I *м. шав.* Заднік (у абутку). Грыкені Вільн. *У постолові задніка дратвою прышывалі, а вуон часто одрывавсе.* Курашэва Чыж.

ЗА'ДНІК II *м. крав.* Клін. *Ззадзі заднік ушывалі ў штаны.* Саланое Віл.

ЗАДНІ'К *м.* Плытагон, які стаіць у канцы плыта. *Заднік стаіць у хвасце плыта.* Бакшты Іўеў.

ЗАДО'К *ж.* Тое ж, што і зад 1. *У калёсах перадок і зад, або задок.* Чычалі Швянч. *В возовы пырэдня половына—гэто пыродок, а задня — задок.* Сіманавічы Драг.

ЗАДОЛОВА'ТІ *зак.* Забуртаваць. *Буракі вжэ задоловав.* Курашэва Чыж.

ЗАДОМО'ВІТІСЕ *зак.* Адчуць сябе як дома. *Чужы куот так у нас задомовівсе, што все прыходіт.* Курашэва Чыж.

ЗАДО'РНЫ *прым.* Задзірысты. *С такім задорным лепі не пачынай, бо зара біцца будэ.* Курашэва Чыж.

ЗАДО'ЎГО *прысл.* Даволі доўга. *Гэта бапка задоўго сядзела.* Мсцібава Ваўк.

ЗАДО'ЎПСЦІ *зак.* Задзяўбці. *Заец не ўцячэ, крукі задоўбут.* Лука Нараўк.; *параўн.* літ. *dóbti* 'забіваць'.

ЗАДО'ХНУЦЦА *зак.* Задыхнуцца. *Дыхавіца ў яго, калінебуць задохняцца.* Магуны Паст.

ЗАДРАТАВА'ЦЬ *зак.* Пракалоўшы, уцягнуць дрот у лыч свінні. *Трэба задратаваць — замуздаць свінку, а то рыіць.* Саланое Віл.

ЗАДРА'ЦЬ I *зак.* Тое ж, што і з а д з е́ р ц і I. *Валы задралі хвасты.* Швэды Вільн.∇ *Пасток — задраў хвасток.* Індра Красл. ◊ *Задраць ногі* — адпачыць. *На тым свеце задзяром ногі.* Жодзішкі Смарг.

ЗАДРА'ЦЬ II *зак.* Тое ж, што і з а д з е́ р ц і II. *Пяець курыца на сваю галаву, ілі каршун яе задзярэць.* Саланое Віл.

ЗАДРЫНО'СЫ *прым.* Тое ж, што і з а д з і р н о́ с ы. Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗАДРЫ'ПА *м.* і *ж. пагард.* Пра неахайнага чалавека. *Я яе вылаяла: «Ты задрыпа, ты пуд гною носіш на сабе, сябе не абмыеш».* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* літ. *dribsà* 'цяльпук'.

ЗАДУ'МАЦЬ *зак.* Надумацца. *Куды задумаў, туды паехаў.* Лісна В.-Дзв.

ЗАДУПКАВА'ЦЬ *зак.* Стаць на заднія ногі. *Задупкаваў конь: становіцца на тыльныя ногі — і я зваліўся.* Гемзы Шальч.

ЗАДУСІ'ЦЦА *зак.* 1. Задыхнуцца. *Не задусісся, лазня паліцца ў Цыбульскіх, цеплім сенцы ў лазні.* Лайпушкі Ігн. 2. Задушыцца. *Тут задусіліся два цялёнкі.* Ёдлавічы Брасл.; *гл.* з а д у с і́ ц ь.

ЗАДУСІ'ЦЬ *зак.* Задушыць. *Яна нехарашо вялася і задусіла свайго дзяцёнка.* Ёдлавічы Брасл. *Ад злосці ён мох задусіць цябе.* Ракаўскія Швянч. *Яго яны задусілі і пад поезд падкінулі.* Мішневічы Шум.; *параўн.* польск. *zadusić* 'тж'.

ЗА'ДУ'ХА *ж.* Духата. *Аткрыйця дзвер, нашто такая за́духа! Як слонца пячэ, на полі заду́ха, і жалі.* Старыя Трокі Трак. *Мне заду́ха, рабіць не магу.* Гемзы Шальч.

ЗАДУШКАВА'ЦЬ *зак.* Задушыць. *Не задушкуйця рабёнка! Як вязуць крысціць, а кума маладая — хаця б не задушкавалі рабёнка.* Кураполле Паст.

ЗАДУШЫ'ЦЦА *зак.* 1. Задыхнуцца. *Дзеці гулялі, адна ўлезла ў бітон, другая закрыла — задушылася дзіця ў бітоне.* Солы Смарг. 2. Падавіцца.∇ *Еш, хоць задушыся!* Саланое Віл.

ЗАДУШЫ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а д у с і́ ц ь. *Задушыць*

*адну маглі.* Кураполле Паст. *Яшчэ хто прыдзе ды задуша.* Кудзялянцы Шальч.

ЗАДЫ'ШКА *ж.* Дыхавіца. *Я на гару іду, і ў мяне задышкі німа.* Стральцы Гродз. *У яе сільна бальшая задышка — так і поўзаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Задышка душыць.* Старое Сяло Зэльв. *Задышка душыла, і службу пакінуў.* Гемзы Шальч. *Задышка ў мяне.* Істра Лудз.

ЗАДЭ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Закінуты. *Задэчаная недзе есь спадніца.* Быстрыца Астр.; *парайн.* літ. *dėti* 'схаваць'.

ЗАЕ'ЗАК, ЗАЯ'ЗАК *м.* Тое ж, што і ез. *Заезак — перагароджаная рэчка дупцамі. У яго заезак горшы.* Ністанішкі Смарг. *Драйніцамі забіў заезак.* Лісна В.-Дзв. *Заезак забіў калком.* Беразіно Докш. *Заязак робяць: калкі б'юць і запляхаюць шчыт.* Рыбчына Віл.

ЗАЕ'ЗІЦЬ *зак.* Паставіць, зрабіць ез. *Заезак заезіў.* Беразіно Докш.

ЗАЕ'НЧЫЦЬ *зак.* Заскуголіць. *Заенчыў сабака, убрыкнула карова.* Альхоўка Навагр.

ЗАЕ'СЦІ *зак.* 1. З'есці. *Заем ягат у балоце, нічога не будзіць.* Індра Красл. 2. Задушыць. *Воўк заеў авечку.* Дакудава Лід. 3. *перан.* Замучыць, даняць. *Заеў дошч.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАЕ'ХАЦЦА *зак.* Заехаць. *Можа, заедуцца?* Саланое Віл. *Заехайся к брату і к маткі.* Валынцы В.-Дзв. *Заедзімся да аграномкі ў хату ды пасядзем.* Лісна В.-Дзв.

ЗА'ЕЦ *м.*, ЗА'ЙЦЫ, ЗАЙЦЭ' *мн.* Заяц. *Пашоў у лес на зайцы.* Лісна В.-Дзв. *Ходэм за зайцамэ.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАЁРЗАНЫ *прым.* Заношаны. *У яго заёрзаная кашуля.* Груздава Паст.

ЗАЖАДА'ЦЦА *зак. безас.* Захацецца. *Мне зажадаласё.* Міратычы Карэл.

ЗАЖАРВЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца іржой. *Старое вядро зажарвела.* Чычалі Швянч.

ЗАЖА'РКА *прысл.* Вельмі горача. *Зажарка было.* Лоск Валож. *У валёнках зажарка.* Лісна В.-Дзв.

ЗАЖА'ЦЬ *зак.* 1. Зжаць першы сноп пры зажынках. *Як пачыналі жаць, зажнеш сноп, называйся аспадар.* Солы Смарг. *Зложаць накрыш, зажнуць кругом.* Крэва Смарг. *Зажнуць снапок і паставяць на покуць.* Малахоўцы Бар. 2. Пачаць жаць. *Зажала п — зжала п да вечара.* Альхоўка Навагр. 3. Пашкодзіць, натрудзіць. *Зажала руку, натта велькія жмені брала, аш спохла.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Руку зажала, гэтак спохла.* Саланое Віл. *Зажала руку, баліць.* Жыдзевічы Іўеў., Дакудава Лід. *Руку зажала ад вялікай жмені.* Міратычы Карэл. *Зажала руку: жыта грубоя, жмені велькі брала.* Гемзы Шальч.

ЗАЖВЕ′РЫЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, стукнуць. *Ён ей так зажверыў — нос разбіў.* Солы Смарг.

ЗАЖВІРАВА′ЦЬ *зак.* Пакрыць жвірам. *Зажвіравалі дарогу.* Ракаўскія Швянч.

ЗАЖМЕ′НІЦЬ, ЗАЖМЯНІ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а ж а́ ц ь 3. *Руку зажменіла, брала велькімі жменямі.* Навасёлкі Свісл. *Першы дзень жала і руку зажмяніла, рука баліць.* Малахоўцы Бар. *Зажмяніла руку, вялікія жмені брала. Як пойдзеш першы дзень жаць, ды хватаеш, баліць рука, можна руку зажмяніць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАЖМУ′РЫЦЬ *зак.* ◊ *Зажмурыць очы* — памерці. *Покуль не зажмурыш очы, то ўсё клопат з дзеткамі.* Гемзы Шальч.

ЗАЖМУРЭ′НЫ *дзеепрым.* ◊ *Очы не зажмурэныя* — пра ўважлівага чалавека. Старыя Смільгіні Воран.

ЗАЖО′ЎКНУЦЬ *зак.* Пажоўкнуць. *Зажоўкне сланіна.* Кураполле Паст.

ЗАЖУРО′НЫ *прым.* Засмучаны. *Ты сягоне зажуроны.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАЖЫВА′ЦЦА *незак.* Нажываць гаспадарку, маёмасць, абжывацца. *Сталі яны зажывацца.* Саланое Віл. *Пасля вайны зажываліся, строіліся.* Лісна В.-Дзв.

ЗАЖЫВА′ЦЬ I *незак.* Загойвацца. *Ужо зажываіць мая рана.* Валынцы В.-Дзв. *Рана зажывает.* Рагулішкі Даўг.

ЗАЖЫВА′ЦЬ II *незак.* Запасіць. *Што-та за бацькі былі, што нічаго не зажывалі?* Саланое Віл. *Гэтыя годы, лічы, я нічога не зажываю, а тыя гады закіну і закіну капейку.* Рагулішкі Даўг.

ЗАЖЫВАЦЯ′ *прысл.* Пры жыцці. *Старуха зажываця купіла надгробнік.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАЖЫВО′ЦЦЕМ, ЗАЖЫВО′ЦЯМ *прысл.* Тое ж, што і з а ж ы в а ц я́. *Я паехала, дак зажывоццем застала яе.* Вецярэвічы Пух. *Зажывоцям он гэта зрабіў.* Гемзы Шальч.

ЗАЖЫ′ЛЫ *прым.* Заможны. *Яны такія зажылыя.* Альхоўка Навагр.

ЗАЖЫ′М *м.* ◊ *Папасці ў зажым* — трапіць пад чый-н. уплыў. *Ён у такі зажым папаў.* Курaполле Паст.

ЗАЖЫМА′ЦЬ *незак.* Заціскаць. *Увёрткам зажымала аглоблю.* Мешкінева Лудз. *У варстаце ест кліны зажымаць вешч, кап не рухалася.* Гемзы Шальч.

ЗАЖЫ′Н *м.* Першы пучок ці невялікі снапок зжатага жыта. Палік Барыс. *Зажын — первая жменька — за ікону паторніш.* Лісна В.-Дзв. *Зажын ставілі на кут.* Янова Рас.

ЗАЖЫ′НАК *м.* Тое ж, што і з а ж ы́ н. *Жменьку жыта сажнець і паставіць на кут да іконы. Зажынак стаіць, пакуль жыта вазіць, а як возюць, бяруць яго як хозяіна і ставюць у застаронак.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зажынак первы змалоцім, да-*

*жынаем — вянок спляцём.* Індра Красл. *Прыдуць з зажынкам да пратсядацяля, песні співаюць.* Лапічы Асіп.

ЗАЖЫНА'ЦЬ *незак.* 1. Пачынаць жаць, пачынаць жніво. *Зажыналі с хлебам і соллю, а дажыналі — укопвалі кусочак хлеба ў зямлю, кап хлеб ня зводзіўся: зямля дала і зямлі трэба даць.* Груздава Паст. *Між Яна і Пятра німожно зажынаць.* Малахоўцы Бар. *Зажынают жыта.* Лука Нараўк. 2. Натруджваць руку жнучы. *Зажыная руку, тады перавязваіць шарсцяной ніткай.* Крэва Смарг.

ЗАЖЫ'НКІ толькі *мн.* 1. Пачатак жніва. *Зажынкі — калі пачынаюць жаць.* Солы Смарг., Груздава Паст. 2. *абрад.* Свята ў дзень пачатку жніва. *Зажынкі пачыналі ў полі.* Індра Красл.

ЗАЖЫРНАВА'ТЫ *прым.* Які ўгноены больш меры. *Наша зямля зажырнаватая, прагнойная.* Кайшоўка Карэл.

ЗАЖЫ'РНЫ *прым.* Які вырас на вельмі ўгноенай зямлі. *Мурожнае сена зажырнае.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАЖЫРО'НЫ *дзеепрым.* Угноены больш меры. *Зажыроная зямля.* Жодзішкі Смарг.

ЗАЖЫ'ТАЧНА *прысл.* Заможна. *У Лапінях зажытачна людзі жылі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *зажиточно* 'тж'.

ЗАЖЫ'ЦЦА *зак.* Абжыцца, разбагацець. *Дайней матка мая гаравала, а цяпер зажылася, дзякуй богу.* Кураполле Паст. *Яны зажыліся і жывуць добра, усяго ёсць.* Солы Смарг. *Прама зразу зажыліся.* Саланое Віл. *Троху зажыліся мы.* Валынцы В.-Дзв. *Трудна было, пака зажылісь.* Мішневічы Шум.

ЗАЖЫ'ЦЬ *зак.* 1. Нажыць (гаспадарку, маёмасць, рэч). *А зажыць усё нада была пасля вайны.* Малькуны Ігн. 2. Перажыць радасць або гора. *І яе дзеці шчасця не зажылі.* Валынцы В.-Дзв. *Такое гора зажылі.* Галубы Маст. *Зажыла шчасця, што я маю сказаць.* Альхоўцы Лях. *Гора зажыў, хто займайса ім.* Дзяніскавічы Ганц. *А я, сірата, сколькі гора зажыла.* Старыя Смільгіні Воран. *Яна зажыла гора.* Кіралі Шчуч. *Усяго зажыў за жыцця.* Мсцібава Ваўк. *Дзяды то добра пражылі, а ўнукі зажылі мукі.* Жылі Іўеў.

ЗАЖЫ'ЦЯЛЬНЫ *прым.* Заможны. *А ён саўсём быў зажыцяльны чалавек.* Альхоўка Навагр.

ЗАЗВІНЕ'ЦЬ *зак.* Зазвінець. *Зазвінелі ўжэ бізаўкі.* Лісна В.-Дзв.

ЗАЗДАРЭ'ЦЬ *зак.* З'ялчаць. *Сала заздарэла, жоўтым зрабілася.* Саланое Віл.

ЗАЗДРО'НЫ *прым.* Зайздросны. *І заздроны жа ты!* Калясное Міхал.

ЗАЗЕЛЕ'НЬВАЦЬ *незак.* Пачынаць зелянець. *Зазеленьвае ўжэ траўка трохі, лес.* Мсцібава Ваўк.

ЗАЗЕЛЯНЕ'ЦЦА *зак.* Заплеснець, пакрыцца цвіллю. *Заzеляне́ўся сыр.* Саланое Віл.

ЗАЗЕЛЯНЕ'ЦЬ, ЗАЗІЛЯНЕ'ЦЬ *зак.* 1. Стаць зялёным. *А сейчас зарасла, зазілянела.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і з а з е л я н е́ ц ц а. *Зазелянеў сыр.* Ёдлавічы Брасл., Рудня Астравітая Чэрв., Саланое Віл. *Зазілянеў сыр.* Лісна В.-Дзв. *Зазілянеў сыр, і свіні есь не будуць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАЗІ'МАК *м.*, ЗАЗІ'МКІ *мн.* Першыя замаразкі са снегам; пачатак зімы. *Першы зазімак, другі прайшоў, а за трэцім зіма ляжа.* Рыбчына Віл. *Зазімак першы, другі, а тады зіма.* Мярэцкія Глыб. *Сёлета рана зазімак начаўся.* Глівін Барыс. *Зазімак першы, зазімак другій, а з трэцяга становіцца зіма.* Мішневічы Шум. *Першы зазімак, другі зазімак.* Рудня Астравітая Чэрв., Беразіно Докш. *Зазімкі — першы снех.* Індра Красл.

ЗАЗІ'МІСТЫ *прым.* Благі, які дрэнна есць, пераборлівы. *Худая, зазімістая карова.* Граўжышкі Ашм.

ЗАЗІМНЕ'ЦЬ *зак.* Пахаладаць. *Зазімнела тады, а ён казаў, што будзіць цёпла, а я казала, што ты яшчэ адзеніш фуфайку на работу. Точна, зазімнела.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАЗЛАВА'ЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Гэдак зазлавалася на мяне!* Саланое Віл. *Зазлуюцца на міне дзеці.* Паляцкішкі Воран. *Зазлаваўся на мяне.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я зазлуюся і маўчу.* Старыя Трокі Трак.

ЗАЗЛУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і з а з л а в а́ ц ц а. *Зазлулася яна на міне.* Ёдлавічы Брасл. *Так зазлуцца на яго!* Чычалі Швянч.

ЗАЗНА'ЦЬ *зак.* Спазнаць, зведаць. *Яны нашага труда ні зазнаюць, штодня трэба бехчы на ферму.* Навасёлкі Свісл. *Так я зазнала гора.* Лісна В.-Дзв.

ЗА'ЗУБЕНЬ, ЗА'ЗУБЯНЬ *м.* 1. Востры выступ на чым-н. *Зазубні ў плузе.* Мсцібава Ваўк. *У пчалы жала з зазубнямі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Раньша калом рукавадзілі, калі ткалі, цяпер калоча, зазубні.* Малахоўцы Бар. *На пярэднім навоі калесо з зазубнямі, як ткалі, навівалася палатно.* Лука Нараўк. 2. Рыбалавецкі кручок. *Вудзілі вудачкай, валасня прыхіліць зазубянь крукаваты. Валасню вырывалі ў каня з хваста.* Вецярэвічы Пух. *Зазубні служаць, кап рыба ні зрывалася з васцей.* Альхоўка Навагр.

ЗА'ЗУБНЯ *ж.* Тое ж, што і з а́ з у б е н ь 2. *Гэтат кручок, на какой зазубні хачу, на такой чапляю. Зазубня робіцца, дзве зазубні — на адну і на другую.* Гемзы Шальч.

ЗАЗУ'ЛЬКА *гл.* ЗЯЗЮ'ЛЬКА

ЗАЗЫВА'ЦЬ *незак.* Запрашаць, клікаць. *Зазывай усіх!* Лісна В.-Дзв.

ЗАЗЯ'БІЦЬ *зак. безас.* Пачаць калаціць. *Зазябіло мяне, вакно было адчынена.* Каўняны Гродз.

ЗАЗЯЛЕ'НІЦЬ *зак.* Запэцкаць у што-н. зялёнае. *Зазяленіш хустку!* Альхоўцы Лях.

ЗАІГРА'ЦЬ *зак.* Пачаць іграць. *Заігралі гуляць.* Саланое Віл.

ЗАІ'КАСТА *прысл.* Заікліва. *Стаў гаварыць заікаста.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАІ'КЛІВЫ, ЗАІ'НКЛІВЫ, ЗАЯНКЛІ'ВЫ *прым.* Тое ж, што і з а і́ к а́ с т ы. *Ён быў заіклівы.* Саланое Віл. *Заінкліва дзіця.* Навасёлкі Свісл. *Ён заікаецца, заянклівы.* Паляцкішкі Воран.

ЗАІСТРЫ'ЦЬ *зак.* Завастрыць. *Заістрыў зуба* [у баране]. Пасіене Лудз.

ЗАЙГРА'НЫ *гл.* ЗАГРА'НЫ

ЗАЙЗДРАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а в і́ д а в а ц ь. *Хто зайздруе — хай пакаштуе, ды аглохне хутчэй за мяне.* Парэчча Гродз. *Мы добра жылі, нам зайздравалі.* Кудзялянцы Шальч.

ЗАЙЗДРО'НЫ *прым.* Тое ж, што і з а в і́ д л і в ы. *Зайздроны чалавек зайздруе другім, як у іх што ёсць.* Вострава Маст. *Зайздроны чалавек.* Міратычы Карэл. *Зайздроныя очы.* Крынкі Крын.

ЗАЙЗДРО'СНЫ *прым.* Тое ж, што і з а в і́ д л і в ы. *Зайздросна баба.* Груздава Паст. *Я была не зайздросна.* Кудзялянцы Шальч. *Яна не зайздросна была.* Альхоўцы Лях. *Зайздросны поп можа садраць. Паследнюю рубашку сцяг із нішчага.* Дзяніскавічы Ганц. *Глядзі, а то мужык твой зайздросны.* Беразіно Докш.

ЗАЙМА'ЦЦА *незак.* 1. Брацца за якую-н. справу. *Ён гэтым толькі і займаўся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ці я каля рыбы займаюся?* Малькуны Ігн. 2. Заліваецца, пакрывацца. *Каля ўзвалля лух вясной займаецца, вада аш па кусты.* Рыбчына Віл.

ЗАЙМА'ЦЬ *незак.* 1. Закладаць, пачынаць асноўваць. *Я помню, як гэтыя могліцы займалі.* Саланое Віл. 2. Наймацца на работу за натуральную аплату. *Людзкія бабы сена займалі: дзве капы пану, адну сабе.* Гемзы Шальч.

ЗАЙМІ'СТЫ *прым.* Які можа многа захапіць, заняць. *Сіеты серп добры, бо займісты.* Курашэва Чыж.

ЗА'ЙМІШЧА *н.* Занятак. *Абы было займішча чалавеку.* Альхоўка Навагр.

ЗАЙСЦІ' *зак.* 1. Завітаць. *Ніхто к табе ні зайдзя.* Жодзішкі Смарг. *Ён зайдзя.* Солы Смарг. *Зойдуць удвох, утрох і гаворуць.* Паляцкішкі Воран. 2. Апынуцца за чым-н. *Зайдзіця за мост, на гарэ — дзярэўня Шнекайшчына.* Індра Красл. 3. Апусціцца за гарызонт (пра сонца). *Зайшло сонца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зайшло сонцэ ўжэ.* Старое Сяло Зэльв. 4. Насунуцца, наваліцца. *Крыга на крыгу зэйдзіць, стаяць гуртом крыгі.* Індра Красл. 5. Пакрыцца. *Возяра мохам зайшло.* Магуны

Паст. *Агрэсту была, але мохам зашоў. Варэня зайшло плеснямі. Зашло ўсё травой.* Старыя Трокі Трак. 6. Пачацца (пра падзеі). *Вайна зайшла.* Быстрыца Астр. *Як вайна зайшла, нада было ісці служыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 7. Апанаваць (пра пачуцці). *Зайдзёць жаль.* Ністанішкі Смарг. 8. *перан.* Аб пераходзе пэўнай мяжы ў часе. *За восьмую дзесятку зашла і памёрла.* Ахрэмаўцы Брасл. 9. Прыйсці да ўлады. *Зайшла Польшча.* Паляцкішкі Воран. ◇ *Зайсці замуш* — выйсці замуж. Малахоўцы Бар. *Зайшла замуж аж за трэцяга.* Саланое Віл. *Брыгадзірка тутака зайшла замуж.* Асавец Віл. *Зайсці дарогу* — перашкодзіць каму-н. *Ён і тут зайшоў дарогу.* Крэва Смарг.

ЗАЙСЦІ'СЯ *зак.* 1. Тое ж, што і з а й с ц і 1. *Ён нечага зайшоўся.* Магуны Паст. *Зайшлася ў хату, пачала тузгаць яго, а ён нежывы.* Кураполле Паст. *Да яе зайшлася.* Груздава Паст. *Чаму вы не зайшліся да нас?* Саланое Віл. *Я зайшоўся да брата.* Асавец Віл. *Зайдзіся, паваражы!* Лоск Валож. *Туды зайдзіся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Няго вы не зайдзіціся ка мне? Зайшлісь мушчыны паглядзець, іх апкусалі пчолы.* Валынцы В.-Дзв. *Зайшоўся ў магазін.* Лісна В.-Дзв. 2. Тое ж, што і з а й с ц і 5. *Сінімі пятнамі бульба зайшлася.* Крэва Смарг. 3. Страціць адчувальнасць. *Рукі зайшліся, як станusь у хаці адаграваціца, аж за сэрца бярэ.* Азяраны Раг. *Ад вады халоднай рукі зашліся, не магу цярпець.* Рагулішкі Даўг. 4. Памерці. *Яна зайшлася б, кап не я.* Раўбічы Мін.

ЗАЙХО'ДЗІЦЬ *гл.* ЗАХО'ДЗІЦЬ

ЗАЙЦЫ' *мн. кулін.* Талакно. *Зайцы рабілі з аўсянай мукі.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗА'ЙЧЫ МАК *м. бат.* Палявы мак. Альхоўка Навагр.

ЗА'ЙЧЫНА *ж.* Заечае мяса. *Да зайчыны красные бурачкі дзелалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАКАБЛУ'К *м.* 1. Драўляны вобад у рыбалавецкіх снасцях, кошыку. *Закаблук — абруч у няротах. Закаблуке ў кошыку гарэхавы.* Малахоўцы Бар. 2. Драўляная дуга ў драўлянай баране, за якую чапляўся ворчык. *Дзеравяна барана была, абведзена дзеравяным закаблуком.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* літ. *kablỹs* 'вобад у нераце', *kabliùkas* 'дуга ў сасе'.

ЗАКАВЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Заняпасці. *Кавэнчыў, кавэнчыў і закавэнчыў.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *kawęczeć* 'занепадаць'.

ЗАКАЖАНЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца тоўстай скурай. *Парасёнак за зіму закажанеіць.* Кураполле Паст.

ЗАКАЖЭ'НЕ *н.* Заражэнне. *Лілею п'юць ад закажэння.* Мсцібава Ваўк. *Даюць зашчык ад закажэня.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *zakażenie* 'тж'.

ЗАКА'ЗВАЦЬ, ЗАКА'ЗВАЦІ *незак.* Загадваць. *Брыгадзір*

*заказвоў ісці на сена.* Дакудава Лід. *Брыгадзір заказваў лён рваці.* Вялікі Краснік Пруж.

ЗАКАІ'МІСТЫ *прым.* Маўклівы, скрытны. *Закаімісты чалавек не гавора, як зазлаваўся — ні добра, ні блага.* Кураполле Паст.

ЗАКА'ІЦЦА *зак.* Пакаяцца, папрасіць прабачэння. *Абы ён закаіўся, яна атпусціцца.* Кураполле Паст.

ЗАКА'Л *м.* 1. Закалец. *Выходыть хліб—просто чудо. Нымa ны закалу, ныц.* Казловічы Брэсц. 2. Гарт, загартоўка. *Людзі старога закалу.* Скрудалена Даўг.

ЗАКАЛАЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Замяшаць. *Як касілі вáрдамцы, закалацілі мілты на абет, яна тугая была, набракшы.* Саланое Віл. *Закалаціў мукі і зварыў заціркі.* Вострава Маст. *Закалаціць талакно.* Беразіно Докш. *У місцы закалаціла бліноў, але не знаю, ці хваця.* Гемзы Шальч. 2. Падкалаціць, заправіць. *Трэбо мукой закалаціць.* Мсцібава Ваўк.

ЗАКАЛА'ЧВАЦЬ, ЗАКОЛА'ЧВАТІ *незак.* 1. Замешваць. *Закалачваць кулеш калатоўкай.* Ухвала Круп. *Солодуху заколачвают з жытнее мукі.* Смаляніца Пруж. 2. Прыпраўляць. *Поліўку закалачваюць мукой.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАКАЛБА'ТАЦЦА *зак.* Заварушыцца. *Калбатун рушыцца, закалбатаўся.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАКАЛБУЦІ'ЦЬ *зак.* Замяшаць. *Закалбуці бліноў. Закалбучу яешні.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗАКА'ЛЕЦ, ЗАКА'ЛІЦ, ЗА'КА'ЛЯЦ, ЗАКА'ЛЯЦЬ *м.* Тое ж, што і з а к á л 1. *Як апсядзе на скорку хлеп, называюць закалец.* Лука Нараўк. *Свякроў пікла хлеп, у яе нікагда ні ўдаваўся: вот то закаліц палучыцца, то яшчэ што.* Масішкі Красл. *Закалісты хлеп, закаліц на паліц.* Ахрэмаўцы Брасл. *Націраюць цыбуляй дзешку, каб ні было закальцу.* Жодзішкі Смарг. *Зáкаляц сіні такі зайшоў. Як нанясеш вады рукамі, і яна не ўкішшы і асядае на споднюю скарынку.* Кіралі Шчуч. *Закáляц злéяцца, аж ліпне к зубам.* Азяраны Раг.∇ *Закаляць на 'дзін паляц, як лядайка — дык на два.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАКА'ЛІСТЫ *прым.* З закальцам. *Закалісты хлеп, закаліц на паліц.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАКАЛО'ЦЬ *зак.* Забіць. *Свінчо заколем, сланіна ест.* Новікі Гродз. *Прыдзі ты мне парсюка закалі.* Гемзы Шальч.

ЗАКАЛТА'ЦЬ *зак.* Замяшаць, размяшаць. *Мучаныя сліжыкі скарэй закалтаць. На куццю сліжыкі ні рабілі.* Груздава Паст.; *гл.* к é л т а ц ь.

ЗАКАЛЯНЕ'ЦЬ *зак.* Скалець. *Закалянела, пака сядзела.* Навікі Лудз.

ЗА'КА'ЛЯЦ, ЗАКА'ЛЯЦЬ *гл.* ЗАКА'ЛЕЦ

ЗАКАМЫ'РДЗІЦЦА *зак. экспр.* Надзьмуцца, пакрыўдзіцца. *Скажы, дык закамырдзіцца, заверня нос.* Міратычы Карэл.

ЗАКАМЯ'ЧЫЦЬ *зак.* Змяць. *Закамячыла хустку, сподніцу.* Смаляніца Пруж.

ЗАКАНАПА'ЦІЦЬ *зак.* Шчыльна заткнуць. *Каўкі комін заканапацілі, і дым ідзець на хату.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *законопатить* 'тж'.

ЗАКАНУ'РАК *м.* Закутак. *У гэтым заканурку жыў.* Чычалі Швянч.

ЗАКА'ПАВАЦЬ *незак.* Закопваць. *Капцы—дзе бульбу закапаваям.* Магуны Паст.

ЗАКАПА'НЫ *дзеепрым.* Укапаны. *Закапаны ў зямлю слуп.* Саланое Віл.

ЗАКАПРЫ'СІЦЬ *зак.* Закапрызнічаць. *Не закапрысіла я, ні такі характар маю.* Граўжышкі Ашм.

ЗАКАПЦАВА'ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Бывала, мухі вокна закапцуюць, што нічога ня відзіш прас тоя акно.* Кіралі Шчуч.

ЗАКАПЫ'ЛІЦЬ *зак.* Падняць павека. *Гасцюк пападае ў вока, дае языкам, закапыліць веялку і дастаня страмяку з вока.* Кіралі Шчуч.

ЗАКАРКАВА'НЫ *дзеепрым.* Закупораны. *Бутэлячкі закаркаваны.* Гемзы Шальч.

ЗАКАРКАВА'ЦЬ *зак.* Закупорыць. Ракаўскія Швянч.

ЗАКАРМІ'ЦЬ *зак.* Недастатковым кармленнем давесці да знясілення. *Яна закарміла карову.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗА'КАРПІЦА *ж.* Маршчына. *Закарпіцы парабіліся, гэто ўжэ стары чалавек.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* літ. *kar̃pas* 'шрам, рубец'.

ЗАКАСАВА'ЦЬ *зак.* Знішчыць. *Рэчкі былі, называліся Марачанка і Лукна, Марачанку закасавалі.* Старыя Трокі Трак.

ЗАКАСА'ЦЬ *зак.* Закасаць. *Закасай рукаво.* Магуны Паст. *Калошы [штаноў] закаша і нося ваду.* Солы Смарг. *Рукаво закасаць.* Грыкені Вільн.

ЗАКАСМАЦЕ'ЦЬ *зак.* Абабіцца, пашарпацца. *Закасмацеў паднадолак.* Лісна В.-Дзв.

ЗАКА'ТНЫ *прым.* Пародзісты. *Закатную корову купів.* Курашэва Чыж.

ЗАКАТРУ'ПІТІ *зак.* Забіць. *Я того кота, нэчысту сілу, закатруплю!* Курашэва Чыж.

ЗАКАЎШЫ'ЦЬ *зак. экспр.* Збіць. *Іна міне закаўшыла п, раскулдачыла п са злосці.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* літ. *užkaũšti* 'ударыць'.

ЗАКАЦЯНЕ'ЦЬ *зак.* Заплеснець. *Сыр ужо закацянеў; на нём ворсік находзіцца, што плюшавый дзелаецца.* Рагулішкі Даўг.

ЗАКАЧА'ЦЦА *незак.* Задыхацца, заходзіцца. *У мяне асма бронхадыхальная, зусім закачуюся.* Крэва Смарг.

ЗАКА'ЧВАЦЦА *незак.* 1. Укочвацца, закочвацца. *Закот*

*закачваяцца па кроквах.* Крэва Смарг. 2. Заходзіць (пра сонца). *Слонца ўжо закачваяцца.* Ракаўскія Швянч.

ЗАКВАКТА'ЦЬ *зак.* Заквактаць. *Курыца заквактала.* Магуны Паст. *Ніводнай* [курыцы] *не заквакталі.* Солы Смарг.

ЗАКВАКЧЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а к в а к т а́ ц ь. *Курыца заквакчэла.* Гемзы Шальч.

ЗАКВА'СІЦЬ *зак.* Заквасіць. *Закваска, кап хлеп заквасіць.* Солы Смарг.

ЗАКВА'СКА *ж.* Рошчына. *Закваска ў мяне добрая, хлеп смачны.* Солы Смарг. *Закваска ў дзяжы, абграбая дзешку і астаўляя кусочак.* Паляцкішкі Воран. *Кісло тесто: моя закваска пэрэкысла.* Горск Бяроз. *Закваска ў дзешцы.* Лука Нараўк. *Закваска — у дзешцы цеста пакідалі. Закваска высахла ў дзешцы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Закваска ў дзяжы будзя вясціся.* Азяраны Раг. *Трэба рашчыняць хлеп на закваску.* Баброўнікі Гарад. *Выскрабала діешку і зробіла закваску.* Курашэва Чыж.

ЗАКВАСНЕ'ЦЬ *зак.* Закіснуць. *Ён* [мёт] *незасклеплены нетрывалны, ён можыць закваснець.* Быстрыца Астр. *Муке ўсыплем, і рошчына заквасне.* Новікі Гродз. *Закваска заквасняя.* Солы Смарг.

ЗАКВА'ШАНЫ *дзеепрым.* Заквашаны. *Дзешка заквашана і заквашана, мы яе ні мылі.* Дакудава Лід.

ЗАКВІ'ТНЕЦЬ *зак.* Зацвісці. *Як малачайчык заквітня, пчолы дзікія лятаюць.* Быстрыца Астр. *Хлеп заквіт плесняй.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *zakwitnąć* 'тж'.

ЗАКВЭ'ЦАЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Заквэцала каптан.* Міратычы Карэл. *Заквэцала спадніцу.* Старое Сяло Зэльв.

ЗАКЕ'ЛБАЦЬ *зак. перан.* Закілзаць, забрытаць. *Ідзе дошч, хоць ты яго закелбай.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *kìlpa* 'пятля'.

ЗАКЕ'ЛЗАЦЬ, ЗАКЯЛЗА'ЦЬ, ЗАГЕ'ЛЗАЦЬ *зак.* Закілзаць. *Каня трэба закелзаць.* Быстрыца Астр. *Трэба каня закелзаць, а то можа панясці, як лядашчы конь.* Кіралі Шчуч. *Каня закелзай!* Малахоўцы Бар. *Закелзай гэтага каня!* Пацаўшчына Дзятл. *Ні закелзаны конь; трэба каня закелзаць.* Альхоўка Навагр. *Цуглі каня закелзаць.* Магуны Паст. *Каня нада закелзаць.* Ухвала Круп., Беразіно Докш. *Закелзаў каня.* Чычалі Швянч. *Як закялзаяш каня, вандзідлы ў зубы ўложвалі.* Ракаўскія Швянч. *Загелзай каня, усадзі вандзідла!* Галубы Маст.; *параўн.* літ. *gelžìs* 'жалеза'.

ЗАКЕ'ЛТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а к а л т а́ ц ь. *Закелтаў мілты, ідзі еш! Закелтай бліноў!* Груздава Паст.; *гл.* к е́ л т а ц ь.

ЗАКЕ'МНІЦЬ *зак.* Уцяміць. *Скора закемніла.* Рыбчына Віл.

ЗАКЕ'ЎЗАЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Вот накеўзала, сукенку закеўзала.* Альхоўка Навагр.

ЗАКІДА'ЦЬ *незак.* 1. Закідваць (на што-н.). *Бярэм дзве гарсці лёну, вычысцім і на бэлькі закідваям.* Старыя·Трокі Трак. 2. Пакідаць без догляду. *Столькі работы, свайго парасёнка закідаяш.* Дакудава Лід.

ЗАКІЖЭ'НЕЦЬ *зак.* Закажанець. *Закіжэняя дзіця.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗАКІЛУНІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і з а г у д з е́ ц ь. *Свіня закілунілася, надьі весці к кілуну.* Лісна В.-Дзв.

ЗАКІ'НЕНЫ *прым.* Пакінуты без догляду. *Закіненая дзіця.* Груздава Паст.

ЗАКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Падкінуць, дабавіць. *Закінь трэсачак, хай хлеп спячэцца!* Дзяніскавічы Ганц. *Нада закінуць шчэпак, кап запёкся хлеп.* Альхоўцы Лях. 2. Ускінуць. *Карова закіне хвост на плот, пацяне і атарве* [хвост]. *Чатыры разы закінулі сетку і налавілі рыбы.* Гемзы Шальч. 3. Заправіць чым-н. *І бес крыві поляўка: хлеба аткініш, рашчыны, чым закініш.* Ракаўскія Швянч. 4. Адкласці ў запас. *Гэтыя годы я нічога не зажываю, я тыя гады закіну і закіну капейку.* Рагулішкі Даўг. 5. Пакінуць без увагі. *Закінеш усё, што ўмеў — забываеш.* Гемзы Шальч.

ЗАКІПА'ЦЬ *незак.* Пачынаць кіпець. *Вада закіпая.* Вялікія Баяры Шчуч., Засецце Дзятл., Альхоўцы Лях.

ЗАКІПЕ'ЦЬ *зак.* Закіпець. *Раскалташваюць муку, у печ становяць, закіпіць колькі разоў і вымаюць кісель.* Старое Сяло Зэльв.

ЗАКІПЯНІ'ЦЬ *зак.* Закіпяціць. *Вады паставіла закіпяніць.* Дакудава Лід.

ЗАКІПЯЦІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а к і п я н і́ ц ь. *Пастаўвадэ, закіпяціў.* Кіралі Шчуч.

ЗАКІРЗА'ЦЬ, ЗАКЯРЗА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а б а р с а́ ц ь. *Нада было закірзаць лапці.* Груздава Паст. *Як закярзаў, так і добра, так і хадзі.* Магуны Паст.; *парайн.* літ. *sukárzloti* 'тж'.

ЗАКІ'СКА *ж.* Тое ж, што і з а к в а́ с к а. *Пакінь цеста ў дзяжэ на закіску.* Кіралі Шчуч.

ЗАКІ'СНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а к в а с н е́ ц ь. *Закісня саладуха.* Паляцкішкі Воран.

ЗАКІ'ТРЫ *прым.* Вельмі хітры. *Ён ната закітры.* Гемзы Шальч.

ЗАКЛА'Д *м.* ◊ *Жыць да закладу* — жыць да смерці. *Стары жыве да закладу.* Новікі Гродз.

ЗАКЛА'ДАВАЦЬ *незак.* Запрагаць. *Закладавай каня.* Ністанішкі Смарг.

ЗАКЛАДА'ЦЦА, ЗАКЛАДА'ЦІСА *незак.* 1. Устаўляцца. *Увясці ніткі ў ніты і зноў у берда; між́ду імі закладаяцца ў*

*зеў.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Завязвацца ў бутоны. *Тая* [роза] *была ўжэ ў пупах і закладаласа.* Смаляніца Пруж.

ЗАКЛАДА'ЦЬ *незак.* 1. Нарыхтоўваць на зіму. *Будуць сялос закладаць.* Стральцы Шальч. *Ужо сілос закладаюць.* Вецярэвічы Пух. 2. Адкладаць лічынкі для патомства. *Закладаць чэр.* Груздава Паст. *І пчолы, і чмелі дзеці закладаюць.* Гемзы Шальч. 3. Класці, змяшчаць куды-н. *Трыгубіца доўгая, закладаюць у рэчку.* Солы Смарг. 4. Навіваць, намотваць. *Кончыла снаваць, чыны рубіш і закладаяш на навой.* Старыя Трокі Трак. 5. Запрагаць. *Каня закладаю.* Крэва Смарг. *Жарабучка закладаяць у сані і абучаяць яго.* Старыя Трокі Трак. *Закладаюць у калёсы каня.* Грыкені Вільн. 6. Абавязваць. *Пост пасцілі, папы закладалі пасціць.* Рыбчына Віл. 7. Класці. *Подоўжную подрубу пэршу закладаеця.* Курашэва Чыж.

ЗАКЛА'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Закладзены. *Комін закладжаны.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАКЛА'ДЗІНА *ж.* Вянок зруба. *Закладзіны — тры вянкі, як імшаць.* Кураполле Паст. *Закладзіну первую сдзелаюць, патом лагі кладуць.* Старыя Трокі Трак.

ЗАКЛА'ДКІ, ЗАКЛА'ТКІ *мн.* Складкі. *Заклаткі складаюцца, а фалды збіраюцца.* Солы Смарг.

ЗАКЛЕ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а а ф т а в а́ н ы. *Заклеплены мёд.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАКЛІ'ВІНА *ж.* Востраў пасярод ракі. Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *kliuvinỹs* 'перашкода'.

ЗАКЛІ'КАЦЬ *зак.* Паклікаць. *Яны заклікалі мяне да сябе.* Стральцы Шальч.

ЗАКЛІПА'ТІСЕ *незак.* Клясціся. *Закліпаюся, што праўду говору!* Курашэва Чыж.; *параўн.* літ. *klũpauti* 'падаць на калені'.

ЗАКЛО'ГАЦЬ *зак.* Збіць. *Е̮н яе заклогаў саўсём, цяпер яна няўздужаіць падняцца.* Мярэцкія Глыб.

ЗАКЛЫНА'ЦЬ *незак.* Праклінаць. *Дзіця заклыная такімі клятамі.* Рыбчына Віл.

ЗАКЛЮ'КА *ж.* Памылка пры ўцягванні ніткі ў бёрда. *Кідаць ніці ў бердо трэбо, кап не было заклюкоў.* Баброўнікі Гарад.

ЗАКЛЯ'ВА *ж.* Тое ж, што і з а́ в а н ь. *У закляві рыбу ловяць.* Жылі Іўеў.

ЗАКЛЯ'ПАВАЦЬ *незак.* Запячатваць запоўненыя мёдам соты. Старое Сяло Зэльв.

ЗАКЛЯПО'ВАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а а ф т а в а́ н ы. *Закляпованы мёт, закляпуюць вашчынаю.* Старое Сяло Зэльв.

ЗАКЛЯ'СЦІ' *зак.* Праклясці. *Закопуюцца грошы, і той іх закляне́.* Жылі Іўеў. *Яны заклялі́ іх.* Кудзялянцы Шальч. *Яе заклялі́ людзі.* Альхоўка Навагр.

ЗАКОЛА'ЧВАТІ *гл.* ЗАКАЛА'ЧВАЦЬ

ЗАКО'ЛЫ *мн.* Тое ж, што і е з. *Язы — заколы, перагародка рэчкі.* Шкаўна Лудз.

ЗАКО'НІК *м.* Манах. *Законікі сідзяць.* Саланое Віл. *Законікі жылі.* Жылі Іўеў.

ЗАКО'ПАНЫ *дзеепрым.* Закапаны. *Была закопана адзежа, аш прытухла, пахла тухлінаю.* Кіралі Шчуч. *Мой сын ужо закопаны.* Альхоўцы Лях.

ЗАКО'ПАЦЬ *зак.* і *незак.* Закапаць, закопваць. *Закопай у яму!* Міратычы Карэл. *Закопуюць у зямлю.* Жылі Іўеў. *Мы закопалі ячмень, ведалі, дзе закопаць.* Вецярэвічы Пух.

ЗАКО'ПЛІВАЦЬ *незак.* Закопваць. *Жывыя закоплівалі.* Паляцкішкі Воран.

ЗАКОПЯ'НКІ *мн.* Валёнкі з аздобай. *Закопянкі чырвонай кожай абдзеланы.* Грыкені Вільн.

ЗАКО'СКІ *мн.* Пачатак касьбы. *Закоскі — калі пачыналі касіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗАКО'СНІКІ *мн. абрад.* Шаферы. *Ад маладой—друшкі, а хлопцы — закоснікі.* Солы Смарг.

ЗАКО'Т *м.* 1. Франтон. *Закоты былі ў будынках і ў хатах.* Азяраны Раг. *Закот у шуло.* Бакшты Іўеў. *Закот закачваяцца па кроквах.* Крэва Смарг. 2. Подбіўка ў адзежы. *Як бальшы закот, то атпушчу, а як малы — то не.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАКО'ТА *ж.* Тое ж, што і з а к о́ т 1. *Ламаны дах, не дзелае закоту, а так закрывая.* Старыя Трокі Трак. *У крышы закота.* Індра Красл.

ЗАКОТЫ'ТЫ *зак.* Тое ж, што і з а к а с а́ ц ь. *Закочу рукава.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАКО'ЎЗАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а к е́ ў з а ц ь. *Спаніцу закоўзала.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАКО'ЎЗНАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а к е́ л з а ц ь. *Каня закоўзнаць.* Калясное Міхал.

ЗАКО'ШКАЦЬ *зак.* Разгрэбці. *Закошкалі куры гарот.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАКРА'ПАЦЬ *зак.* Заплесці. *Ты закрапала кашолку провалакай?* Валынцы В.-Дзв.

ЗАКРА'СА *ж.* Заправа, прыправа. *Дайця закрасы. Закрасай закрашу яду.* Жодзішкі Смарг. *Німа закрасы, німа чым закрасіць ці прыкінаць гаршчок.* Мярэцкія Глыб.

ЗАКРА'СІЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а к і н у ц ь 3. *Добра закрасіла яду — многа мяса паклала.* Жодзішкі Смарг.

ЗАКРА'СКА *ж.* Тое ж, што і з а к р а́ с а. *Закраска для кашы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАКРО'ІЦЬ *зак.* Зарэзаць. *Закройця барана!* Паляцкішкі Воран. *Закроілі парсюка. Як закроіш цялюка — мяса свежая.* Малькуны Ігн.

ЗАКРО'П *м.* Прыманка з пахучай травы. *Закроп даюць, кап селі пшчолы; запах з малінавага цвету, выціраюць сценкі улья.* Граўжышкі Ашм.

ЗАКРУГЛЯ'ЦЦА *незак.* Рабіцца закруглым. *На марос рошкі вятаха закругляюцца, на дошч — прастаюцца, як палачка.* Жылі Іўеў.

ЗАКРУЖЭ'НЯ *н.* Галавакружэнне. *Закружэння ў галаве: адзінаццаць дзяцей мела, а пяць жывых засталося, за адзін гот тры пахавала.* Бакшты Іўеў.

ЗАКРУ'Т КІШО'К *м.* Тое ж, што і з а в а р о́ т к і ш о́ к. *У яго закрут кішок.* Саланое Віл.

ЗА'КРУТА *ж.* Сукаратка. *Ніці пакруціліся ў закруты.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗА'КРУТКА *ж.* 1. Прыстасаванне для замыкання дзвярэй у выглядзе засаўкі, якая круціцца на восі. *Зачыні дзверы на закрутку!* Стракішкі Трак. *Раней закруткай закручвалі дзверы.* Стральцы Гродз. *У дзвярах закруткі былі.* Магуны Паст. *Зачыні на закрутку сенцы!* Саланое Віл. *Закруткай дзверы зачынялі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Закрутка была ў дзвярах, замыкалі без ключа.* Вецярэвічы Пух. 2. Палка, з дапамогай якой замацоўваецца меншы навой. *Закруткай закруцім навойчык і вяровачкай зацісьнім.* Саланое Віл. 3. Тое ж, што і з а́ к р у т а. *Закручваюцца закруткі ў крутых нітках.* Малахоўцы Бар. *Закруткі робяцца, як шарсцяна тчэш.* Пацаўшчына Дзятл. *Ніткі ў закруткі пашлі, много закрутак на ніцях.* Мсцібава Ваўк. *Крутая нітка ў закруткі пашла.* Жылі Іўеў. *Закруткі на нітках, як крута ніткі спрадзены.* Лука Нараўк. 4. Скручаны дубец, якім змацоўваюць што-н. *Закрутку зробіць з віткі, як плот гародзіць.* Гемзы Шальч.

ЗАКРУ'ТКА *ж.* Зламаныя і звязаныя ў пук сцяблы жыта, лёну з мэтай наклікаць бяду на гаспадара поля. *Закрутку ў жыці робілі — чаравалі.* Лука Нараўк. *Нехта накруціў тут, зваражыў — залом, закрутка.* Гемзы Шальч.

ЗА'КРУТНЯ *ж.* Вяроўка ці прут, якімі прымацоўваюць аглоблі да саней. Жылі Іўеў.

ЗАКРУ'ХАЦЬ *зак.* Зарохкаць. *А парсючкі мае тожа мяне знаюць: як толькі падыйду да свінарніка, дык яны як закрухаюць у адзін голас.* Гваздова Глыб.; *парайн.* літ. *kriũkti* 'рохкаць'.

ЗА'КРУЦЕНЬ *м.* Тое ж, што і з а́ к р у т н я. *Аглоблі закрутнямі прыдзелываюцца да саней.* Беразіно Докш.

ЗАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Завярцець у што-н. *Збяры і закруці ў посцілку ўсё адзене.* Гемзы Шальч. 2. Скруціць канцы перавясла. *Пацісну́ў снапа, закруціў і звязаў.* Відаўцішкі Вільн.

ЗАКРУЧА'СТЫ *прым.* Загнуты. *Наскі закручастыя ў абутку.* Солы Смарг.

ЗАКРУ'ЧЫВАЦЦА *незак.* Паварочваць, заварочваць. *Там рэчка закручываецца, велькая вада.* Гемзы Шальч.

ЗАКРУ'ЧЫВАЦЬ *незак.* Загортваць у што-н. *Куклу закручуюць.* Солы Смарг.

ЗАКРЫВА'ЦЦА *незак.* Зарубцоўвацца, зажываць. *Ня ведаю, што рабіць з нагой: рана не закрываецца на назе.* Лісна В.-Дзв.

ЗАКРЫВА'ЦЬ *незак.* Закладаць, зачыняць. *Юшка — комін закрываюць.* Грыкені Вільн. *Заслонкай печ закрывала.* Баброўнікі Гарад.

ЗАКРЫ'ЛІНЫ *мн.* Дошкі ў канцы (знізу) страхі, якія прытрымліваюць салому. *Закрыліны — па бакам доскі, якія прытрымліваюць салому.* Семежава Кап. *Закрыліны не давалі саломе спадаць набок.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАКРЫ'ПАВАЦЦА *незак.* Заблытвацца. *Валасы адрастуць і яны будуць закрыпавацца.* Беразіно Докш.; *гл.* з а к р ы́ п а ц ц а.

ЗАКРЫ'ПАЦЦА *зак.* Заблытацца. *Закрыпаюцца ніткі, тады раскрыпаеш іх.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *kraipýtis* 'скрыўляцца, паварочвацца', *krypùtė* 'зігзаг'.

ЗАКРЫ'ЎДЗІЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца, зазлавацца. Мярэцкія Глыб.

ЗАКРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Зачыніць. *Як ён дзверы не закрыў?* Едлавічы Брасл. 2. *перан.* Засланіць. *Яна магла яе закрыць.* Саланое Віл.

ЗАКРЫЧА'ЦЬ *зак.* Пачаць крычаць.∇ *Варона закрычала — трэба ткаць.* Старыя Трокі Трак.

ЗАКРЭ'НТ *м.* Паварот. *Закрэнт дарогі.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *zakręt* 'тж'.

ЗАКУЛДЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Загаварыць невыразна, забалбатаць. *Закулдычыць — нічога не паняць.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАКУПО'РАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а к а р к а в а́ н ы. *Бутылка закупорана моцно.* Мсцібава Ваўк.

ЗАКУПО'ЎВАЦЬ *незак.* Закупляць. *Ён егдзіў і закупоўваў ганучы.* Стральцы Гродз.

ЗАКУ'РАВАЦЬ *незак.* Пакрывацца сажай. *Саганы закураваюць ад дыму.* Гемзы Шальч.

ЗАКУ'РАЦЬ *зак.* Пакрыцца сажай. *Печ закурая, як дым ідзе з печы.* Лісна В.-Дзв. *Дно закураеш у вядры.* Вецярэвічы Пух. *Саганы закураць ад дыму.* Гемзы Шальч.

ЗАКУ'РЫ'ЦЦА *зак.* 1. Пачаць тлець. *Скалка, губа — агонь высякалі: губа закурыцца, а патом агонь.* Малахоўцы Бар. 2. Пакрыцца куродымам, пылам. *Закурыліся занавескі.* Лісна В.-Дзв. *Шкло ў лямпе закурылася.* Магуны Паст.

ЗАКУРЭ'ЦЦА I *зак.* Задыміцца. *Закурэлася сала, пакуль прышла с склепу.* Кіралі Шчуч.

ЗАКУРЭ'ЦЦА II *зак.* Заімгліць. *Вот закурэўся дошч.* Кіралі Шчуч.

ЗАКУРЭ'ЦЬ *зак.* Пачаць пыліць. *Гарыць сена, плесня закурэла, загарэлася.* Глівін Барыс.

ЗАКУСА'ЦІ *зак. перан.* Скусаць. *Закусают комарэ.* Смаляніца Пруж.

ЗА'КУ'СКА *ж.* Страва, якая з'ядаецца пасля выпітай гарэлкі, віна. *Я закуску даю.* Кудзялянцы Шальч. *Сядайця, а я закуску прынясу.* Крэва Смарг. *Закуска добрая была.* Паляцкішкі Воран. *На попраткі збіраліся: гарэлкі збяруць, закускі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗАКУ'Т, ЗАКУ'ТАК *м.* Паварот. *Закут, закутак ракі.* Саланое Віл.

ЗАКУ'ТАТІ *зак.* Захутаць. *Так дітя закутала, што аж змокрыэло.* Курашэва Чыж.

ЗАКУ'ТАЦІ *зак.* Замыць што-н. *Трэба закутаці, дзе аброблено ў муле плаце.* Смаляніца Пруж.

ЗАКУ'ТАЦЬ *зак.* Захінуць. *Закутаў дзверы, мату залажыў на дзверы, уцепліў іх.* Крынкі Крын.

ЗАКУ'ТОК *м.* Кутюк. *Влезла в закуток, і ніхто яе не бачыв.* Курашэва Чыж.

ЗАКЯЛЗА'ЦЬ *гл.* ЗАКЕ'ЛЗАЦЬ

ЗАКЯРЗА'ЦЬ *гл.* ЗАКІРЗА'ЦЬ

ЗАЛА' *ж.* 1. Попел. *Сажа і зала ў печы.* Вострава Маст. *Зала пераядая салому. Яе палівалі пазалкамі, і рабілі гной.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Луг. *Зала пераважна, а можна казаць лух.* Рудня Астравітая Чэрв. *Зала — з попелам вада.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Брудная вада, якая застаецца пасля мыцця бялізны, пазалкі. *Зала — вада, у якой мылі адзежу.* Саланое Віл. *Ад шчолаку застаецца зала.* Азяраны Раг. 4. Золь, золкасць. *Зала на дварэ, як мокра і халодна.* Азяраны Раг. *Зала нейкая на дварэ.* Вецярэвічы Пух. *Як ногі ў лапцях панамакаюць да мерзнуць, то казалі: ногі есць зала.* Дзяніскавічы Ганц. 5. Назола. *Прычапіўся, як зала.* Граўжышкі Ашм.

ЗАЛА'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Заварыць. *Гарэлку заладжу.* Бакшты Іўеў. 2. Запарыць. *Заладжу лякарства, будзя пахнуць.* Бакшты Іўеў.

ЗАЛАЖАВА'ЦЬ *гл.* ЗАЛАЗАВА'ЦЬ

ЗАЛАЖЫ'ЦЦА *зак.* 1. Арганізавацца, заснавацца. *Саўхос залажыўся ў Гірдові.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Завязацца. *Гурке на цвет залажыліся.* Вецярэвічы Пух.

ЗАЛАЖЫ'ЦЬ, ЗАЛОЖЫ'ТІ *зак.* 1. Запоўніць чым-н. *У гумне залажылі праслы.* Старыя Смільгіні Воран. *Сіеном двіе стороны заложыв.* Курашэва Чыж. 2. Пакласці што-н. на што-н. *Заложыв ногу на ногу і сідіт.* Курашэва Чыж. 3. Закрыць. *Юшку забылася залажыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Замацаваць. *Колца жалезная ў навоі і зубочкі пакручу і залажу*

*палкай*. Солы Смарг. 5. Заняць. *Ніхто тваe ямы не заложыць.* Вецярэвічы Пух. 6. Заснаваць, арганізаваць. *Тагды у Гердове залажылі калхос.* Ахрэмаўцы Брасл. *Заложылі спуолку і началі разом робіті.* Курашэва Чыж. 7. Прыгатаваць для пасеву зямлю і пачаць садзіць, сеяць. *Ужэ город заложыв: посадів капусту, гуркі і помідоры, осталосе шчэ ярыну заложыті.* Курашэва Чыж. 8. Стварыць. *Заложыті сем'ю.* Курашэва Чыж. 9. Запрэгчы. *Ідзі каня залажы ў сані!* Старыя Смільгіні Воран. *Ідзі каня залажы!* Паляцкішкі Воран. *Заложа кабылу і прывязе дроў.* Старыя Трокі Трак. *Трэба залажыць каня і паехаць у лес.* Ліпнікі Вільн. 10. Завесці. *Залажылі пчолы новую матку.* Быстрыца Астр. *Настроіла залажыць калтун, кап калтун звіўся.* Саланое Віл. 11. Наладзіць, учыніць. *З прыбылі залажыў п'янку.* Дакудава Лід. 12. Пакінуць у залог. *Майстры з работнікамі залажылі залог.* Грыкені Вільн. 13. Унесці грошы за каго-н. *Як ты не маеш грошы, то я за тэбэ заложу, а ты мніе вэрнэш, як будэш мієті.* Курашэва Чыж. 14. Завязаць хустку. *Скустку залажыць трэба.* Саланое Віл. 15. *безас.* Пра хваравітае адчуванне ў грудзях, носе і г. д. *Грудзі залажыла.* Груздава Паст. *Ушы залажыла.* Ахрэмаўцы Брасл. ◇ *Дошч залажыў* — пра аблажны дождж. *Дошч залажыў на цэлу ноч.* Рудня Чэрв.

ЗАЛАЗАВА'ЦЬ, ЗАЛЗАВА'ЦЬ, ЗАЛАЖАВА'ЦЬ, ЗАЛЫЗОВА'ТЫ, ЖАЛАЗАВА'ЦЬ *зак. вет.* Хварэць на мыт. *Коні залазуюць, залозы баляць.* Альхоўцы Лях. *Лошаць залзуіць — балеіць.* Лісна В.-Дзв. *Залзуіць конь — залзы пракалуюць.* Індра Красл. *Конь залажуе, рабяцца цвёрдыя пузыры.* Дзяніскавічы Ганц. *Мое жырыб'я зылызуе.* Сіманавічы Драг. *Конь як жалазуя, гной прэ праз нос.* Кіралі Шчуч.

ЗАЛАМА'НКА *ж.* Паварот. *На заламанку зімой ідуць лавіць рыбу.* Быстрыца Астр.

ЗАЛАМА'ЦЦА *зак.* Сагнуўшыся, надламацца. *Заламаўся ў каровы капыт.* Пацаўшчына Дзятл. *Капыт заламаўся.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАЛАМІ'ЦЬ *зак. перан.* Запрасіць вялікую цану. *Заламіў жа ты! Дзе я вазьму такія грошы?* Вязынка Маладз. ◇ *Заламіць галаву*—памерці. *Заламі ты галоўку сваімі грашмі!* Гемзы Шальч.

ЗА'ЛАМКА *ж. абрад.* Тое ж, што і з а к р у́ т к а. *Вядзьмар заламку мох зрабіць.* Малахоўцы Бар. *Заламкі рабілі ў жыці; заламка — кукла закручана. У лёні робяць заламкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАЛАМЛЯ'ЦЬ *незак.* Ламаць, пераломліваць. *Заламляюць калы, стажарні пат стох рабілі.* Старыя Трокі Трак.

ЗАЛА'ПІЦЬ *зак.* Залатаць. *Залапіла халат і хаджу.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *užlópyti* 'тж'.

ЗАЛАСКАТА'ЦЬ *зак.* Заклекатаць. *Бацьяны заласкочуць дзюпкамі.* Пасіене Лудз.

ЗАЛА'ТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а л а́ п і ц ь. *Магу мяшок залатаць.* Новікі Гродз. *Дай лату залатаць кашулю.* Солы Смарг. *Рукаў парваўся, трэба залатаць.* Рудня Чэрв.

ЗАЛА'ТВІЦЬ *зак.* Задобрыць. *Там залатвіш на пошце.* Чычалі Швянч.

ЗАЛАТНІ'К *м. устар.* Манета вартасцю ў дзесяць капеек. *З залатнікамі прышоў у краму.* Старыя Смільгіні Воран. ◊ *Залатнікі пасыпаліся* — іскры з вачэй пасыпаліся. *Яны як далі па лэбя, дык залатнікі пасыпаліся.* Жылі Іўеў.

ЗАЛАТО'ЎКА *ж.* 1. Тое ж, што і з а л а т н і к. Тухавічы Лях. 2. Манета вартасцю ў пятнаццаць капеек. Семежава Кап. *Залатоўку заробіш за дзень.* Вецярэвічы Пух.

ЗАЛАТУ'ХА *ж. мед.* Залатуха. *Залатуха ў дзяцей; на залатуху хварэе.* Рыбчына Віл. *Залатуха ў дзіцяці, як што карою была пасыпана ад сахару.* Кіралі Шчуч.

ЗАЛАТЫ' *прым.* 1. Зроблены з золата. *А перваму залато калцо.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Выдатны, цудоўны. *Ён быў залаты чалавек.* Ахрэмаўцы Брасл. ◊ *Залатыя рукі* — пра таго, хто ўмела, лоўка робіць. *Вот рукі залатыя, зрабіў, як зліў, як цацка, не насіць, а глядзець, адно заглядзеня.* Кураполле Паст. *Яга залатыя рукі.* Саланое Віл.

ЗАЛА'ЎНІК *м.* Засек. *Залаўнікі рабілі для зірна, мукі. Зрабіў з дасок залаўнік.* Малькуны Ігн.

ЗАЛВІ'ЦА, ЗАЛЬВІ'ЦА, ЗАЛУВІ'ЦА *ж.* Залоўка. *Мая залвіца прышла.* Груздава Паст. *Залвіца яе.* Граўжышкі Ашм. *Залвіца тут.* Лісна В.-Дзв. *Сястра майго мужыка мне прыходзіцца залвіца.* Дакудава Лід. *Залвіца мая — добры чалавек.* Грыкені Вільн. *Залвіца вышла замуш у другую вёску.* Старыя Трокі Трак. *Зальвіца—сястра маяго мужыка.* Быстрыца Астр. *Залувіца — брата мужыка ды жонка.* Малахоўцы Бар. *Залувіца — яна дзеўка, што хоча, то робіць, адна душа.* Кіралі Шчуч. *Сястра — мужу залувіца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Мая залувіца часта прыходзіць.* Старое Сяло Зэльв. *Залувіца прышла.* Альхоўка Навагр., Міратычы Карэл. *У маёй залувіцы сын дарослы.* Альхоўцы Лях. *Залвіца — сестра мужыка.* Крынкі Крын. ∇ *Залвіца — не сястрыца, ятроўка — не матуля.* Солы Смарг. *Залвіца — не сястрыца, да дзіцяці, як звярыца.* Гемзы Шальч.

ЗАЛЕ'ГЛЫ *прым.* Заляжалы. *Залеглы боп.* Рыбчына Віл.

ЗАЛЕ'ГЧЫ, ЗАЛЕ'ХЧЫ *зак.* 1. *безас.* Тое ж, што і з а л а ж ы́ ц ь 15. *І нос залёг, і ў грудзях цяшка.* Саланое Віл. *Горла залягло.* Старыя Трокі Трак. 2. Пахаваць. *Адны залеглі могліцы і другія побач сталі капаць, і на гэтых шмат людзей.* Саланое Віл. 3. Заняць. *Ніхто тваей магілы не заляжа.* Кіралі Шчуч.

ЗАЛЕ′ЖАНЫ *прым.* Тое ж, што і з а л е́ г л ы. *Залежаная калбаса.* Саланое Віл.

ЗАЛЕ′ЖАЦЦА *зак.* Пралежаць доўгі час без ужытку. *Залежаліся нескалькі паленаў дроў і травой абраслі.* Гемзы Шальч.

ЗАЛЕ′ЖНЫ *прым.* Абложны. *Залежная зямля.* Жодзішкі Смарг.

ЗАЛЕ′ЗНЫ *гл.* ЖАЛЕ′ЗНЫ

ЗАЛЕ′ЗО *гл.* ЖАЛЕ′ЗА

ЗАЛЕ′ЗЦІ *зак.* Забрацца на што-н. *Я залезла на печ, і ён залёс на печ.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАЛЕ′ЙЦАЦЬ, ЗАЛЕ′ЙЦІЦЬ, ЗАЛЯЙЦА′ЦЬ *зак.* 1. Замацаваць лейцы. *Трэба каня залейцаць.* Кіралі Шчуч. *Трэба залейціць каня, а тады сехчы і ехаць.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Абхапіць. *А ён, здаецца, таго воўка п ня баяўся, рукамі заляйцаў да й сеў бы на ём.* Скрыль Пух.

ЗАЛЕКАЦЕ′ЦЬ, ЗАЛЕКОТА′ТІ *зак.* Затрэсціся. *Залекацеў — гэта чалавек аслабеў, слабы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як выскочыв до менэ, то я зо страху залекотав.* Курашэва Чыж.

ЗАЛЕ′ТАСЬ *прысл.* Два гады назад. *Залетась яблык многа было.* Магуны Паст. *Будзіць сушэй, як гэта было залетась.* Лісна В.-Дзв. *Залетась не паехала ў бальніцу, а летась ніяк не паехала.* Вецярэвічы Пух.

ЗАЛЕ′ТАЦЦА *зак.* Забегацца. *Залетацца за дзень.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗАЛЕ′ЎКА *ж.* Разводдзе, паводка. *Залеўка, як вада зойдзя.* Граўжышкі Ашм.

ЗАЛЕ′ХЧЫ *гл.* ЗАЛЕ′ГЧЫ

ЗАЛЕ′ЦІЦЬ *зак.* Забегчы. *Залеціла карова ў гарот.* Міратычы Карэл.

ЗАЛЁТЫ толькі *мн.* Захады. *Залёты робіць да яе.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАЛЗАВА′ЦЬ *гл.* ЗАЛАЗАВА′ЦЬ

ЗА′ЛЗЫ, ЗЭ′ЛЗЫ *мн.* 1. Залозы. *Залзуіць конь — залзы пракалуюць на грудзях.* Індра Красл. *Залзы ў каня схваціць, як перагрэіцца і нап'ецца вады.* Ракаўскія Швянч. 2. Мыт. *Залзы — з носу цячэ, як сапля ў лашадзях.* Мельнікі Лудз. *Залзы — у каня хвароба, гной прабіваіцца.* Скрудалена Даўг. *Залзы ў каня, цячэ праз нос — конь прастаець, прастуджваецца.* Малькуны Ігн. *В мого жырыб'ята зэлзы.* Сіманавічы Драг.

ЗАЛІВА′ЦЬ *незак. перан.* Пакрываць. *Пот вочы залівая.* Жыдзевічы Іўеў.

ЗАЛІВЕ′НЬ *м.* Лівень. Рыбчына Віл.

ЗАЛІГА′ЦЬ *незак. безас.* Закладаць. *Нос залігаіць, не магу дыхаць.* Кураполле Паст.

ЗАЛІНА′ *ж.* Золь. *Заліна на дварэ.* Саланое Віл.

ЗАЛІ'Ў *м.* Тое ж, што і з а́ в а н ь. *Залівы на рэчках.* Крэва Смарг.

ЗАЛІЎНЫ' *прым.* Праліўны. *Перад дзівятнікам заліўныя дажджы павінны прайсці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Заліўны дошч ідзе і ідзе.* Кіралі Шчуч. *Заліўны дош нядобра, ручаі палятуць.* Рыбчына Віл. *Заліўны дошч.* Мярэцкія Глыб. *Заліўны дошч: уся прамокла.* Беразіно Докш. *Заліўны дош ідзе.* Палік Барыс., Індра Красл., Вецярэвічы Пух. *Там крупный быў дошч, заліўный дошч.* Рагулішкі Даўг.

ЗАЛІ'ЦЦА I *зак.* Патануць. *У стаўку дзеўка залілася.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАЛІ'ЦЦА II *зак.* Адкласціся. ▽ *Ніхай сала калі пупа заліецца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАЛІ'ЦЬ *зак.* Пакрыць вадою. *Залію вадою.* Паляцкішкі Воран. *Аснову зальем варам.* Солы Смарг.

ЗАЛІ'ШНЯ *прысл.* Занадта. *Печ залішня велька.* Тупічаны Ваўк.

ЗАЛО'ВАЧКА *ж. памянш.-ласк.* да з а л о́ ў к а. ▽ *Луччы дзевяць дзевяроў, чым адна заловачка.* Саланое Віл.

ЗАЛО'ВКА *гл.* ЗАЛО'ЎКА

ЗАЛО'Г *м.* Тое ж, што і з а д а́ т а к. *Майстры з работнікамі залажылі залог.* Грыкені Вільн.

ЗАЛО'ЖАВАЦЬ *незак.* Замацоўваць. *Атосы заложаваюць.* Ракаўскія Швянч.

ЗАЛО'ЖВАЦЦА *незак.* Закладвацца, закрывацца. *Дзірка заложвалася засланкай.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАЛО'ЖНІК, ЗАЛЫ'ЖНІК *м.* Спецыяльная паліца для місак і лыжак. *Заложнік быў — міскі варочалі, лыжкі закладавалі, прычэпяць недалёка ля печы.* Гайна Лаг. *Заложнік на нескалька полкаў.* Быстрыца Астр. *На залыжнікe паверне талэркі вымыўшы.* Гемзы Шальч.

ЗАЛОЖЫ'ТІ *гл.* ЗАЛАЖЫ'ЦЬ

ЗАЛО'М *м.* 1. Тое ж, што і з а л а м а́ н к а: *Залом — рэчка проста ішла і заламалася.* Жылі Іўеў. *На самым заломя ўзяў вывернуўся, мусіў другі рас вос складаць.* Гемзы Шальч. 2. Выступ. *Залом сцяны ў хаце: кухня шырша, а пакой вушшы, заламуюцца ў гэтым мейсцы.* Жылі Іўеў. 3. Тое ж, што і з а к р у́ т к а. *Залом, еслі даўней варожбы.* Быстрыца Астр. *Бывала, рабілі залом у жыця.* Магуны Паст. *Залом заламалі ў жыці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нехта залом заламіў у жыці, абжыналі яго.* Валынцы В.-Дзв. *Залом закруціць, як насмех возміш, наломіш каласоў, тады абажнуць круга, а гэта стаіць. Нехта залом на цябе заламаў.* Саланое Віл. *Нехта накруціў тут, зваражыў — залом, закрутка.* Гемзы Шальч.

ЗАЛО'МАВАЦЬ *незак. абрад.* Заломліваць. *Каласы заломавалі.* Груздава Паст.

ЗАЛО'МАК *м.* Тое ж, што і з а к р у́ т к а. *Ні чапайця гэ-*

*тых заломкаў: скаціна будзя дохці.* Кураполле Паст. *Я была ў жнеях, рабілі ў жыці заломкі, ламалі па сустаўках і скручвалі такую куклачку ў палавіня, хто на каго зло гоня. Заломкі зробя, биваіць, на скаціну, биваіць, на чалавека; на каго зробіш, таму паўрадзіць.* Рыбчына Віл.

ЗАЛО'ЎКА, ЗАЛО'ВКА *ж.* Тое ж, што і з а л в і ц а. *Як я ў хату, маі залоўкі бягом з хаты; залоўка ждзець, пака яё возміць.* Саланое Віл. *Залоўка скора замуш вышла.* Ёдлавічы Брасл. *Балела ў залоўкі запона.* Старыя Трокі Трак. *Залоўка — мужыкова сястра.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Залоўка — сястра мужа.* Малькуны Ігн. *Як добра залоўка, то добра жывеца.* Баброўнікі Гарад. ∇ *Золовка хужэ вовка.* Сіманавічы Драг.

ЗАЛПА'ТІ *зак.* 1. Злавіць, затрымаць. *Залпав мэнэ па дорозі і цэлу годіну трымав.* Курашэва Чыж. 2. Заспець, знайсці. *Шчэ залпала ёго дома.* Курашэва Чыж.

ЗАЛУВІ'ЦА *гл.* ЗАЛВІ'ЦА

ЗАЛУНЕ'ЦЬ *зак.* Састарэць. *Залунеў чалавек, ссівеў.* Кураполле Паст.

ЗАЛЧЫНЯ' *ж.* Тое ж, што і з а л á 4. *Залчыня, макрыня на дварэ.* Граўжышкі Ашм.

ЗАЛЫ'ЖНІК *гл.* ЗАЛО'ЖНІК

ЗАЛЫЗОВА'ТЫ *гл.* ЗАЛАЗАВА'ЦЬ

ЗАЛЬВІ'ЦА *гл.* ЗАЛВІ'ЦА

ЗАЛЮТАВА'ЦЬ *зак.* Запаяць. *Дзесь штось залютаваць трэбо, ідзем да яго.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *lutować* 'тж'.

ЗАЛЯДАВА'ЦЬ *зак.* Падняць пры дапамозе рычага. *Залядаваць дрэва.* Галубы Маст.; *параўн.* ням. *laden* 'грузіць, нагружаць'.

ЗАЛЯЗНЯ'К *гл.* ЖАЛЯЗНЯ'К

ЗАЛЯЙЦА'ЦЬ *гл.* ЗАЛЕ'ЙЦАЦЬ

ЗАЛЯ'СКО *гл.* ЖАЛЯ'ЗКА

ЗАЛЯТА'ЦЦА *зак.* Забегацца. *Залятаецца, заґілюяцца за дзень.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗАЛЯТА'ЦЬ *незак.* Забягаць. *Гэта яшчэ да мяне залятая часамі.* Сакаўшчына Валож.

ЗАЛЯТНЕ'ННЕ *н.* Спароўванне. *Матка* [пчалы] *залятняецца. На сёдмы дзень ідзе на залятненне і здваяецца.* Быстрыца Астр.

ЗАЛЯТНЯ'ЦЦА *незак.* Спароўвацца. *Матка* [пчалы] *залятняецца.* Быстрыца Астр.

ЗАЛЯЦЕ'ЦЦА *зак.* Забегчы, зайсці. *Галіна яшчэ заляцілца дахаты?* Крэва Смарг. *Да мяне заляцелася.* Магуны Паст.

ЗАЛЯЦЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а л я ц é ц ц а. *Я сама заляту да вас. Яна на хаду ляціцца, заляціць.* Крэва Смарг. *Заляцела баба ўперад.* Саланое Віл.

ЗАМА'ЗАНЫ *прым.* Запэцканы. *Рукі чорныя, замазаныя.* Альхоўцы Лях.

ЗА'МАК *м.* Замак. *Тут замак кагда-та стаяўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Можа так, як на замку, захараняліся.* Старыя Трокі Трак.

ЗАМА'ЛА *прысл.* Менш, чым трэба. *Замала было мацерыі. Солі замала.* Паляцкішкі Воран. *Замала духу, яблыкі не хочуць сохнуць.* Гемзы Шальч.

ЗАМАЛАВА'ТЫ *прым.* Малаваты. *Замалаваты яму касцюм.* Лісна В.-Дзв.

ЗА'МАЛАДА *прысл.* У маладосці. *Замалада за ім жыла.* Бакшты Іўеў. *К бацьком замалада парабраліса.* Дзяніскавічы Ганц. *Замалада балела.* Гемзы Шальч. ∇ *Ні кайся рана ўстаўшы і замалада ажаніўшыся.* Бакшты Іўеў.

ЗАМАЛАДЫ' *прым.* Надта малады. *Ты яшчэ замалады для гэтых спраў.* Асташына Навагр.

ЗАМАЛАДЫ'М *прысл.* Тое ж, што і з а́ м а л а д а. *Замаладым выходзяць, а я — старая.* Навікі Лудз.

ЗАМАЛІДАВА'ЦЦА, ЗАМАЛЬГАВА'ЦЦА *зак.* Стаць на ўлік, прапісацца. *Ён прышоў і замалідаваўся.* Гемзы Шальч. *Атседзеў, прышоў замальгаваўся, стаў добра рабіць.* Груздава Паст.; *гл.* з а м а л ь д а в а́ ц ь.

ЗАМАЛЫ' *прым.* Малаваты. *Гэта пальто мне замалоя.* Кураполле Паст.

ЗАМАЛЬДАВА'ЦЬ *зак.* Паведаміць. *Ён там замальдаваў, што рабаўшчык напаў на нас.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *zameldować* 'далажыць, адрапартаваць'<ням. *melden* 'паведамляць, дакладваць'.

ЗАМА'Н *м.* 1. Непраўдзівая, фальшывая прычына. *Вона оно такі заман нашла, коп пparticles.* Курашэва Чыж. 2. Чары. *Знае якісе заман.* Курашэва Чыж.

ЗАМАНІ'ЦЦА, ЗАМАНІ'ТІСЕ *зак.* Захацець. *Заманіўся жаніцца. Заманулась таго і таго — а бывая і нет.* Гемзы Шальч. *Заманілосе ёму, коп нову хату поставіті.* Курашэва Чыж.; *параўн.* літ. *užsimanýti* 'ўздумаць'.

ЗАМАНУ'ЦЬ, ЗАМАНІ'ТІ *зак.* Прывабіць. *Яна яго заманула.* Валынцы В.-Дзв. *Так ёго заманіла, што свіета за ею не бачыт.* Курашэва Чыж.

ЗА'МАРАСКА *ж.* Замаразак. *Замараска была, ланцугі абмёршы былі. Рана пачаліся замараскі.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАМАРА'ЦЬ *зак. перан.* Запэцкаць. *Замарала сваю апенію.* Дакудава Лід.

ЗАМАРО'ЖВАЦЬ *зак.* Даводзіць да замярзання. *Замарожуе ваду.* Паляцкішкі Воран.

ЗАМАРО'Т *м.* Замарока. *Нейкі замарот зайшоў у галаву.* Рыбчына Віл.

ЗАМАРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Затрымацца. *Чакала, не прышла,*

*пашла і замарудзіла.* Магуны Паст. *Яна замарудзіць, ня прыдзіць скора. Была п дайно прышоўшы, замарудзіў мяне яго бацька.* Едлавічы Брасл. *Здаіся, на мінутку ішла, і замарудзіла.* Малькуны Ігн. *Я так замарудзіла, што і ружоўкі* [сорт бульбы] *не скапаўшы.* Гемзы Шальч.

ЗАМАРЫ'ЦЦА *зак.* Стаміцца. *Сідзя, замарылася.* Ахрэмаўцы Брасл. *Замарыўся, цігаў ваду цэлый дзень.* Лісна В.-Дзв. *Вот я замарылася!* Рагулішкі Даўг.

ЗАМАРЫ'ЦЬ *зак.* Замардаваць, замучыць (да смерці). *Курыца замарыла кураня, можа, яйко аткацілася.* Кіралі Шчуч. *Як ты заморыш яго* [мужа], *буду жыць с табой.* Саланое Віл.

ЗАМАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Аказваць уздзеянне замовай, заклінаць. *Есць людзі, што замаўляюць.* Граўжышкі Ашм. *Чалавек натта бойка замаўляў ат пярэпалахаў.* Кіралі Шчуч. *Ён замаўляў ад парушэння.* Лісна В.-Дзв. *Замаўлялі ат падвею.* Рыбчына Віл. *Дзет замаўлёў рамацізну. Замаўляць ружу.* Дакудава Лід. *Замаўляюць ад гадзінаў.* Лайпушкі Ігн.

ЗАМАЎНІ'К *м.* Знахар. *Павязлі да замаўніка.* Старыя Смільгіні Воран. *Замаўнік умея рожу замаўляць, кроў замаўляя, парушэння.* Гемзы Шальч.

ЗАМАХРЫ'ЦЦА *зак.* Змарнець, зачахнуць. *Замахрыліся буракі, нічога з іх ня будзіць.* Рагулішкі Даўг.

ЗА'МАЧКА *ж. памянш.* да з á м к а. *Ела хлеп і замкнула замачку, у хлебя была.* Саланое Віл.

ЗАМБАЛІ'ЦЬ, ЗАМБО'ЛІЦЬ *незак.* Гаварыць не тое, што трэба. *Пачаў замбаліць. Я замбалю, і ён замболіць, пакуль не дастаня па нося. Натта ты замболіш несправядліве.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *zębacz прам. перан.* 'зубасты чалавек'.

ЗАМЕ'ЖАК *м.* Мяжа. *Паміз збожа і картоплі е замежак.* Альхоўцы Лях.

ЗАМЕ'РЗНУЦЬ, ЗАМЁРЗНУЦЬ *зак.* 1. Здранцвець. *Скура замерзла.* Грыкені Вільн. 2. Пакрыцца лёдам. *Рэчка замёрзла.* Быстрыца Астр.

ЗАМЕ'С *м.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова з а м е с і ц ь. *Прынясеш мукі на замес хлеба.* Мярэцкія Глыб. *Тым нада мукі на замес.* Грыкені Вільн.

ЗАМЕСІ'ЦЬ *зак.* Замясіць. *Я рашчыніла хлеп, замесіла.* Грыкені Вільн.

ЗАМЕ'СТ, ЗАМЕ'С *прыназ.* з *род.* Узамен каго-н., чаго-н. *Замест гузіка мужчынам біркі ўшывалі.* Кураполле Паст. *Кацёл благі; выб'юць бок і варылі на ім замес трыношка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАМЕ'СЦІ *зак.* Падмесці. *Трэба троху замесці хату.* Лісна В.-Дзв.

ЗАМЕ'Т, ЗАМЁТ *м.* Агароджа з бярвенняў. *Замет между*

*памяшчэннямі закідавалі.* Лісна В.-Дзв. *Замёт у шулы закладаецца.* Янова Рас. *Замёт рабілі, закідалі броўны ад хлява і да хаты.* Азяраны Раг. *Раньшэ агароды гарадзілі, дык замётам называлі агарожу.* Мачаск Бярэз. ▽ *У яго ні плоту, ні замёту.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАМЕ'ТАЦЬ *незак.* Падмятаць. *Мятлой заметалі.* Малахоўцы Бар. *Метла ў гумне на таку зернято заметаць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАМЕ'ТЛІВЫ *прым.* Прыкметны. *Вы тут заметлівыя людзі.* Стральцы Шальч.

ЗАМЕ'ЦІЦІ, ЗАМІЕ'ТІТІ *зак.* Заўважыць. *Едучэ, замеціў, дзе грыб седзіт; злазіў з машыны па грыбы.* Вялікі Краснік Пруж. *Не заметіла намет, колі вона пушла.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *заметить* 'тж'.

ЗАМЁРЗНУЦЬ *гл.* ЗАМЕ'РЗНУЦЬ

ЗАМІЕ'Т *м.* Нанос. *В ночы такіе заміеты понадувало, што трудно с хаты выйті.* Курашэва Чыж.

ЗАМІ'Ж, ЗАМІ'Ш *прыназ.* Тое ж, што і з а м е́ с т. *Алігеркі заміж пальто насілі.* Мсцібава Ваўк. *Заміж хлеба елі мякіну.* Міратычы Карэл. *У пост бралі селяццы, смажылі і ў памачушку заміш мяса.* Дакудава Лід. *Заміш тэбэ я пуйду.* Курашэва Чыж.

ЗАМІНА'ЦЬ *незак.* Перашкаджаць. *Заскемай называюць чалавека, які заміная.* Жодзішкі Смарг. *Мне ні заміная ўнучка.* Граўжышкі Ашм. *А што табе яно заміная?* Альхоўцы Лях. *Мне спадніцы замінаюць.* Гемзы Шальч.

ЗА'МКА *ж.* Стрэмка. *Замку закалоў, ой, як я закалоў! Цялушка міш капыта замку загнала.* Саланое Віл.

ЗАМКНЁНЫ, ЗА'МКНЕНЫ *дзеепрым.* Замкнуты. *Хата замкнёна.* Крэва Смарг., Ахрэмаўцы Брасл., Лоск Валож., Альхоўка Навагр., Альхоўцы Лях. *Тры ночы хата была замкнёна.* Малахоўцы Бар., Старое Сяло Зэльв. *Не замкнены дом.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАМКНУ'ЦЬ *зак.* 1. Закрыць на замок. *Замкнуць на замок дзверы.* Кемялішкі Астр. *Возьме замкне хату.* Лісна В.-Дзв. *Замкнуў ланцух да буды.* Старыя Трокі Трак. 2. Зачыніць. *Замкнуў акно.* Кемялішкі Астр. 3. Закрыць, залажыць. *Замкнулі юшку?* Старыя Трокі Трак. 4. Застраміць. *Ела хлеп і замкнула замачку, у хлебя была.* Саланое Віл.

ЗАМНО'ГА, ЗАМНО'ГО *прысл.* Вельмі многа. *Натта яна ляплівая: замнога гаворыць.* Магуны Паст. *Замнога хлеба аткроіў.* Быстрыца Астр. *Замнога пішаце.* Паляцкішкі Воран. *Замного ліштву падняла.* Малахоўцы Бар. *Прынёс замного дроў.* Калясное Міхал.

ЗАМО'ВА *ж.* Загавор. *Ён не верыў замовам.* Дакудава Лід.

ЗАМО'ВІЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а г а в а р ы́ ц ь 4. *Схадзі*

*да Мальвіны замовіць: шаптуха яна.* Магуны Паст. *Дай вады, замовіў.* Рыбчына Віл. *Я замовіў кроў, і кроў астанавілась.* Гемзы Шальч. *Як моцна хвора была, то замовілі ёй, і болі сціхлі ёй.* Баброўнікі Гарад.

ЗАМО'ЖНЕ *прысл.* Заможна. *Хто заможне жыў, было добра.* Гемзы Шальч.

ЗАМО'К *м.* Замок. *Няма нікога ў хаці, замок вісіць.* Баброўнікі Гарад. ∇ *Замкі ей на пупу вісяць* — яна цнотная. Саланое Віл.

ЗАМО'РАВАЦЦА *незак.* Стамляцца. *Яна не заморавaецца.* Саланое Віл.

ЗАМО'РАК *м.* 1. Замораны зародак кураняці. *Заморак ня выявўся.* Быстрыца Астр. *Заморак яйко, ня выходзіць курчо.* Магуны Паст. *Заморак — нежывоя кураня ў лупіне.* Кіралі Шчуч. *Найграна яйка, да не палучыцца — кажуць заморак.* Мачаск Бярэз. *Як ахалодаюць яйкі, то заморкі будуць.* Ліпнікі Вільн. 2. Кволы, мізэрны плод, расліна. *Харошая зярно выскачыць, а заморак астаецца ў каласку, у акалоця, там заморкі астаюцца.* Граўжышкі Ашм. *Заморкі, а не ягады сёлета.* Мачаск Бярэз. *Не вырасце на гародзі нешто, то кажуць заморак.* Баброўнікі Гарад.

ЗАМО'РКА *ж.* Тое ж, што і з а м о́ р а к 2. Відаўцішкі Вільн.

ЗАМО'РКАВАТЫ *прым.* Кволы, мізэрны. *Бывае зярня ў гарэху заморкавато.* Міратычы Карэл.

ЗАМО'РСКАЯ ЁЛКА *ж. бат.* Лістоўніца. Валынцы В.-Дзв.

ЗАМО'РЫ *мн.* Гібель рыбы ў рацэ ад недахопу паветра. *Заморы бываюць у рацэ — лёдам пакрываецца і воздух не пападае.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗАМО'РЫШ *м.* 1. Тое ж, што і з а м о́ р а к 1. *Заморышы-баўтуны, з іх не выводзіцца курчонак.* Ёдлавічы Брасл. 2. Кволы чалавек. *Як заморыш, дзіця.* Саланое Віл.

ЗАМО'ЦНА *прысл.* Вельмі моцна. *Замоцна крыкнула на яе, яна абідзелася.* Гемзы Шальч.

ЗАМО'ЧУВАЦЬ *незак.* Замочваць. *Палатно замочую ў цабэрак.* Быстрыца Астр.

ЗАМРУ'ЖЫЦЬ *зак.* Заплюшчыць. *Замружыць вочы — і спаць. Я замружыла і сплю.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *zamrużyć* 'тж'.

ЗАМУДО'ХАЦА *зак. экспр.* Стаміцца. *Замудохайся, трэба аддахнуць.* Індра Красл.

ЗА'МУЖ, ЗА'МУШ 1. у знач. *прысл.* У выразах: *Выйці замуж, ідучы замуж. Замуж выйці — трэба знаць: позна легчы, рана ўстаць. Яна плакала замуж ідучы.* Саланое Віл. *Замуш не выду.* Малькуны Ігн. *Кому вмырты, кому замуж пойты.* Сіманавічы Драг. 2. у знач. *назоўніка.* Замужжа, шлюб. ∇ *Такі*

*замуш заламала п ты горкаю асінаю* — пра няўдалае замужжа. Груздава Паст.

ЗАМУЗДА'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а к е́ л з а ц ь. *Каня нада замуздаць.* Янова Рас. *Замуздай каня!* Навікі Лудз. 2. *перан.* Пракалоўшы, зацягнуць дрот у лыч свінні. *Трэба замуздаць свіню.* Саланое Віл.

ЗАМУРАВА'НЫ *дзеепрым.* Абтынкаваны. *Печ замуравана.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАМУРАЖНЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца цвіллю, зацвісці. *Мясо, масло, малако, ягады могуць замуражнець. Кагда замуражнее — становіцца зялёненько, бы мшэчак, на версе.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАМУ'РЗАНЫ *прым.* Запэцканы, брудны. *Копка замурзаная ходзіць, не памыецця, не адзенецця.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *mùrza* 'бруднюха'.

ЗАМУ'РЗВАЦЦА *незак.* 1. Запэцквацца. *Дзіця замурзваецца на вуліцы.* Альхоўцы Лях. 2. *перан.* Хмарыцца. *Замурзваецца ў том баку* [неба]. Альхоўцы Лях.

ЗАМУРО'ЎЛІВАЦЬ *незак.* Замуроўваць. *Былі прамугі, там харанілі лучшая, замуроўлівалі.* Старыя Трокі Трак.

ЗА'МУСЬ *часц.* Быццам, у ролі. *Давай гратысь, я буду замусь говэчка, а ты замусь вовк, і ты мынэ ловытымэш.* Сіманавічы Драг. ∇ *Замуж — ны замусь* — замуж — рэальная справа. Сіманавічы Драг.

ЗАМУ'ТАК *м.* Непаразуменне. *Калі жыта вазіць, то ўсе возяць жыта, ні было ніякага замутку.* Груздава Паст.

•ЗАМУЦІ'ЦЦА *зак.* Стаць мутным. *Выберацца, замуціцца і зноў наляціць* [вада ў студні]. Саланое Віл.

ЗАМУ'ЧЫЦЦА *зак.* Стаміцца, знясіліць. *Замучыліcь, покуль картошку выкапалі.* Лісна В.-Дзв. *Вы замучаліся пішучы.* Альхоўка Навагр. *Конь замучыўся, аш лёх.* Крынкі Крын.

ЗАМУ'ЧЫЦЬ *зак.* Стаміць, знясіліць. *Работай мяне замучылі.* Кураполле Паст. *Замучылі яго работай.* Лісна В.-Дзв.

ЗА'МУШ *гл.* ЗА'МУЖ

ЗАМЭ'НЧЫЦЦА, ЗАМЭ'НЧЫТЫСЬ *зак.* Тое ж, што і з а м ў ч ы ц ц а. *Замэнчыўся — мокрая дарога.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я замэнчуся каля гэтай печы з гэтымі блінамі.* Гемзы Шальч. *Замэнчысся сто раз.* Дзмітравічы Кам. *Замэнчыўся робячы.* Крынкі Крын.; *парайн.* польск. *męczyć się* 'мучыцца'.

ЗАМЯНІ'ЦЬ *зак.* Падмяніць. *Яго былі паставіўшы замяніць каго.* Кураполле Паст.

ЗАМЯНЦІ'ЦЬ *зак.* Захапіць і пажаваць. *Карова заменціць храпай.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *mentẽ* 'лапатка', *užmę̃sti* 'ўдарыць чым-н.'

ЗАМЯРЗА'ЦЬ *незак.* Ператварацца ў лёд. *Крынічная вада не замярзая.* Жылі Іўеў.

ЗАМЯСІ'ЦЬ *зак.* Замясіць. *Дайней дзіўчаты зналі, як за-*

*мясіць хлеп.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хлеп замесіш, парушыцца, расце.* Стральцы Шальч.

ЗАМЯСЦІ′ *зак.* Падмесці. *Трэба хату замясці. Замяці ты хату, а то мне німа калі!* Кіралі Шчуч.

ЗА′МЯЦЬ *ж.* Завея. Масілавічы Сл. *Замяць замятая дарогу.* Альхоўка Навагр.

ЗАМЯША′ЦЬ *зак.* 1. Прыгатаваць корм жывёле. *Хадзі, памажы свіням замяшаць.* Жылі Іўеў. *Свіням нада замяшаць есць.* Груздава Паст. *Свіням замяшаць трэба.* Альхоўка Навагр. 2. Размяшаць. *Замяшай бліноў, усып соды і пячы.* Кіралі Шчуч.

ЗА′НАВЕСКА *ж.* Фіранка. *Занавескі ціпер вешаюць.* Індра Красл.

ЗАНАВО′ЗЗЕ, ЗАНАВО′ЗЕ *н.* Тое ж, што і з а г у м е́ н н е. *Па занавоззю можна ехаць. Па занавозю ехаць.* Альхоўцы Лях.

ЗАНА′ДА *ж.* 1. Падкормка, якую робіць пчаляр для пчол. *Занада для пчол, наварыў, заліў.* Масілавічы Сл. 2. Прынада. *Паддала занады, занадзіла іх* [дзяцей] *цукеркамі.* Крынкі Крын.

ЗАНА′ДЗІЦЦА *зак.* Унадзіцца. *Занадзілася карова ў шкоду.* Лука Нараўк. *Занадзіліся пацуке ў хату.* Парэчча Гродз.

ЗАНА′ДЗІЦЬ *зак.* Задобрыць, падкупіць. *Паддала занады, занадзіла іх* [дзяцей] *цукеркамі.* Крынкі Крын.

ЗАНАЧАВА′ЦЬ *зак.* Застацца на начлег. *Заначуй яшчэ адну ноч. І яна заначавала.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАНЕДБА′ЦЬ, ЗАНІДБА′ЦЬ *зак.* Заняпасці, занядужаць. *Цяпер ён занедбаў, а як быў у бабы, то печ паліў.* Жылі Іўеў. *Так занідбала ўжо тры гады.* Шамялі Брасл.

ЗАНЕЗДАРО′ВІЦЦА *зак. безас.* Пачаць нездаровіцца. *Нешта занездаровілася мне.* Саланое Віл.

ЗАНЕМАГЧЫ′ *зак.* Тое ж, што і з а н е д б а́ ц ь. *Як занеможыш — дрэнна.* Груздава Паст. *Занемагу — нічога ні міла.* Граўжышкі Ашм. *Мама занемагла, а весной памерла.* Рагулішкі Даўг. *Занемагла і памерла.* Вецярэвічы Пух.

ЗАНЕМО′ВІТІ *зак.* Перастаць гаварыць. *Зо страху аж занемовів.* Курашэва Чыж.

ЗАНЕ′СЕНЫ *дзеепрым.* Дастаўлены, прынесены. *Мука ўсыпана, занесена ўсё.* Паляцкішкі Воран.

ЗАНІДБА′ЦЬ *гл.* ЗАНЕДБА′ЦЬ

ЗАНІМА′ЦЦА *незак.* 1. Брацца за якую-н. справу. *Яна занімалася пчалыма.* Жылі Іўеў. 2. Звязвацца з кім-н., чым-н. *Ні нада было занімацца замуш ісці.* Дакудава Лід.

ЗАНІМА′ЦЬ *незак.* Захопліваць, браць. *Нада шырэй занімаць.* Саланое Віл.

ЗАНІ′СКА *прысл.* Нізкавата. *Цвек прыбіў заніска.* Быстрыца Астр.

ЗАНІХА'ЦЦА *зак.* Загінуць. *Так усё і заніхалася.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *zaniechać* 'спыніць што-н.', літ. *išnýkti* 'тж'.

ЗАНІХА'ЯНЫ *дзеепрым.* Занядбаны, закінуты. *У его добыток такі заніхаяны, скора* [скура] *і косці.* Курашэва Чыж.

ЗАНІЦЕ'ЦЬ *зак.* Стаць тонкім, кволым (пра расліны). *Картофля пад дзеравам заніцела.* Альба Нясв. *Можа заніцець.* Брусы Мядз. *Усё тут заніцела.* Беразіно Докш.

ЗАНО'ДАЦЬ *зак.* Змучыць. *Работай мяне занодалі.* Кураполле Паст. *Занодалі яго, работы не давалі.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАНО'ЗА *ж.* 1. Прут для замацавання ярма. *Заноза — засупоніць валу вярмо на карак.* Вялікія Баяры Шчуч. *Занозы ў ярме: два брайна пасярэдзіне скрэпленыя, закідае прута; гэты прут называецца заноза. Дзве занозы ў парнай і адна ў адзіночнай упражцы.* Дзяніскавічы Ганц. *У вярме прабіваліся дзіркі, а ў дзіркі ўстаўляліся занозы.* Альхоўцы Лях. *Заноза— чым замацоўваецца дужачка ў ярме.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Кіёк для замацавання века на кублe. *Занозай засоўваюць у вушкі кубла і замыкаюць.* Вецярэвічы Пух. *Заноза — палачка, якой засоўвалі кубельчык с салам у вушкі паверх века.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Палачка для пляцення лапцей. *Занозы — плёскія дзве; у вушкі пасаджаюць і плятуць лапці.* Вецярэвічы Пух. 4. Стрэмка. *Занозу была загнаўшы.* Валынцы В.-Дзв. *Ішла і закалола занозу.* Баложы Даўг.

ЗАНО'РЫСТЫ *прым.* Пакручасты. *Як дзерава коляцца коса, завуць занорыстая дзерава, яго ні раскалоць.* Лапічы Асіп.

ЗАНО'СІНЫ *мн.* Ухабы. *Выбоіны, натта вялікія заносіны.* Солы Смарг.

ЗАНУ'ДЗІЦЬ *зак. безас.* 1. Занудзіць. *Занудзіла пад грудзьмі.* Кураполле Паст. 2. Пачаць рваць. *Як занудзя, дык кішкі ўсе выматае.* Ухвала Круп.

ЗАНУРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Нырнуць. *Занурыць у ваду.* Груздава Паст. 2. Занепакоіць. *З поўначы яшчэ занурыць.* Груздава Паст.

ЗАНЫ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Затужыць. *Узяла яе нэндза, заныдзіла.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і з а н у́ д з і ц ь 1. *Так заныдзіць перад абедам, а чаго?* Мачаск Бярэз.

ЗАНЯГО'ДЗІЦЬ *зак. безас.* Занепагодзіць. *Занягодзіла на дварэ.* Тухавічы Лях.

ЗАНЯМЕ'ЦЬ *зак.* 1. Анямець. *Ат страху занямеў.* Быстрыца Астр. 2. Страціць адчувальнасць. *Занямелі мае пальцы.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАНЯСЦІ' *зак.* Занесці. *Нада цялёнку занясці піць.* Асавец Віл.

ЗАНЯ'ТЫ *прым.* 1. Несвабодны. *Цяпер я занят.* Ністаш-

кі Смарг. *Яна ні чым не занятая.* Саланое Віл. 2. Аплоднены. *Занятая, зайграная яйко.* Каўняны Гродз.

ЗАНЯ'ЎКАЦЬ *зак.* Замяўкаць (пра ката). *Котка заняўкала.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *kniaūkti* 'мяўкаць'.

ЗАНЯ'ЦЦА *зак.* 1. Праявіць цікавасць да каго-н., чаго-н. *З дзецьмі занялася.* Жылі Іўеў. *Заняўся ён варонамі, сарокамі.* Саланое Віл. 2. Пакрыцца, зацягнуцца. *Лёдам вада занялася ў карытах, у вёдрах.* Старыя Смільгіні Воран. *Плеснямі займецца.* Рыбчына Віл.

ЗАНЯ'ЦЬ *зак.* 1. Узяць. *Жнейка займя постаць жаць.* Быстрыца Астр. *Пайду, некі радочак займу буракоў* [палоць]. Саланое Віл. *Заняла постаць, займя і гоніць.* Солы Смарг. 2. Пераняць. *Як спусціш на панскае поле каравы, то стараюцца заняць, каб адрабіў* [гаспадар за патраву]. Мсцібава Ваўк. 3. Пазычыць. *Там людзі займуць дзенег карову купіць.* Кіралі Шчуч. ◊ *Сэрца заняло* — сэрца спынілася. *Сэрца яму заняла.* Старыя Трокі Трак. *Заняць дух* — спыніць дыханне. *Дух мне заняла.* Новікі Гродз.

ЗАНЯ'ЦЯ *н.* Занятак. *Ніякога заняця не мае.* Гемзы Шальч.

ЗАО'Н *гл.* ЗАГО'Н

ЗАО'ЧНЕ *гл.* ЗАВО'ЧНЯ

ЗАПАБЯГА'ЦЬ *незак.* Пазбягаць, асцерагацца. *Нада яго запабягаць і з ежай.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗА'ПАВЕДЗЬ, ЗА'ПАВЯЦЬ *ж. рэліг.* 1. Споведзь. *І ў запаведзь была пашоўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трэба на запаведзь несці — дачка ўжа маткай.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Абвяшчэнне. *Засваталіся. Потым едуць на запавяць у цэркаў.* Савані Стаўб.

ЗАПАВЕ'ТРЫЦЬ *зак.* У выразе: *Няхай яго запаветрыя!* — няхай з ім будзе няшчасце. Гемзы Шальч.

ЗАПАВО'ЛЬНЫ *прым.* Марудны. *Мой* [мужык] *запавольны. І ён гаворыць: «Паробім, бапка».* Граўжышкі Ашм.

ЗАПАГА'НІЦЬ *зак.* Забрудзіць. *Запаганіў вазоны.* Лісна В.-Дзв.

ЗАПАДА'ЦЬ *незак.* 1. Балець. *Яму часта западаіць горла, завязі яга ў бальніцу.* Саланое Віл. 2. Занядужваць. *Ён часта западая.* Дакудава Лід. *Вона западае всэ літо.* Сіманавічы Драг.

ЗА'ПАДЗЬ *ж.* Глухое месца. *Там была такая западзь у Астраўцах, беглі людзі аттуль.* Чычалі Швянч.

ЗАПА'ДЛІВЫ *прым.* 1. Нізкі. *Западлівая мейсца, западзіна.* Рыбчына Віл. 2. Кволы, слабы. *Западлівая скаціна.* Магуны Паст. 3. Хваравіты, слабы. *Мой сын быў западлівы, часта хварэў.* Рыбчына Віл. *Западлівы — заходлівы, хваравіты.* Быстрыца Астр. *Западлівы ён, хварэіць і хварэіць.* Ракаўскія Швянч. *Ён западлівы.* Старыя Трокі Трак.

ЗАПА'ДНЫ' *прым.* Кінуты, занядбаны. *Зямля очань западная.* Старыя Трокі Трак. *Западны саўхоз.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАПАЗНА'ЦЦА *зак.* Пазнаёміцца. *Яны запазналіся і пажаніліся.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *zapoznać się* 'тж'.

ЗАПАЛЕ'НЯ, ЗАПАЛЕ'НЕ *н. мед.* Запаленне. *Два разы было запаленя.* Кураполле Паст. *Прызналі запаленя лёхкіх.* Быстрыца Астр. *Запаленя мазóк хапіла мужыка.* Кіралі Шчуч. *Стала яму запаленя.* Ахрэмаўцы Брасл. *Запаленя жаўцявога пузырка.* Гемзы Шальч. *У назе запаленя шпіку.* Стральцы Шальч. *Я як заехала дахаты са шпіталю, то быстро захварэла на запаленя.* Сакаляны Сакол.

ЗАПАЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Загарэцца. *Запаліліся ад пакуля і папаліліся.* Быстрыца Астр. 2. Загарэць. *Запаліўся чалавек на сонцы.* Жылі Іўеў. 3. Падгарэць. *Як лішне стаіць хлеп у печы, запаліцца. Кажуць: «Запаліўся хлеп».* Дакудава Лід.

ЗАПАЛІ'ЦЬ *зак.* Прымусіць гарэць. *Іскаркі падая на гэтую гупку і запаля.* Івашкаўцы Смарг. *Запаліла ў печы — не арыць, а назат цягне. Купіла пушку запалкаў, але маска дрэная, не запалю.* Старыя Смільгіні Воран. *Запалеця лямпу, ужо цёмна.* Кіралі Шчуч. *Запалі лямпу!* Малахоўцы Бар. *Запаліць печку.* Баброўнікі Гарад.

ЗАПА'ЛОК *м.* Запалка. *Дрэва сухіе, як запалкі.* Курашэва Чыж.

ЗАПАЛЬНІ'СКО *н.* Камінак. *Запальніско было ў печы з таго боку.* Мсцібава Ваўк.

ЗАПАЛЬНІ'ЧКА *ж.* Запальніца. Магуны Паст.; *парайн.* польск. *zapalniczka* 'тж'.

ЗАПАМАГЧЫ' *зак.* Дапамагчы. *Там я не запамагла, капейкі не палажыла, алі паслухала.* Кураполле Паст.

ЗАПАМО'ГА *ж.* Дапамога. *Запамогу далі.* Ністанішкі Смарг.

ЗАПАМЯНТА'ЛЫ *прым.* Злапамятны. *Запамянталы натта,释мармуза, ходзіць надуўшыся.* Жылі Іўеў.; *парайн.* польск. *zapamiętały* 'заўзяты, гарачы'.

ЗАПА'МЯТАВАЦЬ *зак.* Запомніць. *Запамятуеш усё, як век пражывеш.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *zapamiętać* 'тж'.

ЗАПА'МЯЦЦЮ *прысл.* Пакуль помніцца. *Бяльё сняла запамяццю.* Лісна В.-Дзв.

ЗАПА'РВАЦЬ, ЗАПА'РАВАЦЬ *незак.* 1. Заварваць. *Чай запарваюць.* Магуны Паст. 2. Заліваць варам. *Сечку запараваць трэба.* Лісна В.-Дзв. *У цэбры запарвалі сечку.* Солы Смарг.

ЗАПА'РКА *ж.* Страта кіслі ў дзяжы ў выніку таго, што дзежку запарылі. *Запарка ў дэжэ, хлеп нэ ўдайса.* Смаляніца Пруж.

ЗАПАРО'ШЫЦЬ *зак.* Запарушыць. *Запарошыў вока, па-*

*рашына ўвалілася ў вока.* Рыбчына Віл. *Вока запарошыла, увалілася паршана.* Мярэцкія Глыб. *Запарошыў вока.* Беразіно Докш. *Запарошыў нечым вока.* Ухвала Круп.

ЗАПА'РУХА *ж.* 1. Саладуха. *Запаруху так робім: напарацъ картошку, картошкай запарвалі муку, асалоджая, тады варацъ яе, у дзяжу зліваюць, міску ганчарову нальюць і ядуць.* Альхоўцы Лях. 2. Галушкі з запаранай жытняй мукі. *Запаруха: закіпіць вада, туды мукі жытняе, і накачаям галушак, і ямо так без нічога. Мамко! Зрабі запарухі.* Міратычы Карэл.

ЗАПАРУШЫ'ЦЬ, ЗАПРУ'ШЫЦЬ *зак.* Тое ж, што з а п а р о ш ы ц ь. *Запарушыла воко, нека парушына папала.* Дзяніскавічы Ганц. *Мо запарушыў вока, а мо ячмень будзя.* Пасека Ст.-Дар. *Запарушыць вока, попала ў вока.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Запрушыла ока, пінцэтам дасталі асціну.* Каўняны Гродз.

ЗАПА'РЫЦЬ, ЗАПА'РЫТІ *зак.* Заварыць. *Аптаўчэш авёс, змеліш у жарнах, кіпятком запарыш, праз ноч пакісня.* Старыя Трокі Трак. *Запарыті оўсянку.* Курашэва Чыж.

ЗАПА'С *м.* Тое, што назапашана. *Яна капейкі запасу не загнала, але ў шафі адзежы ёсць.* Рагулішкі Даўг. *Нагнала запасу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гэты запас астаўсё мне.* Машэвічы Карэл. ◇ *Пра запас* — у запасе. *Я гуляла з ім да часу. Думаю: «Хай будзе пра запас».* Машэвічы Карэл.

ЗАПА'СВАЦЬ *гл.* ЗАПА'СУВАЦЬ

ЗАПА'СІЦЬ, ЗАПАСА'ТІ *незак.* Назапашваць. *У зіму запасім яблыкі, ні прадаём, а калі прададзём.* Груздава Паст. *Я кроху грошы запасаю на старые ліета.* Курашэва Чыж.

ЗАПАСКУ'ДЗІЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Усю адзежу запаскудзіў.* Альхоўка Навагр.

ЗАПА'СНАЕ, ЗАПАСНО'Я *н.* Ежа, якую давалі пастуху ў поле дадаткова. *Грыбкі — густая яечня, давалі пастуху запаснае.* Малахоўцы Бар. *Запаснога давалі пастуху — хто што мая: хлеба, кілбасу.* Крэва Смарг. *Ад рага па яйку на зялёны свёнткі, пастыр выбірае запаснаго.* Гемзы Шальч.

ЗАПА'СНЫ *прым.* Запаслівы. *Ты такая запасная, у цябе ўсё ёсь.* Кураполле Паст. *Я запасная, у мяне ўсё ёсць.* Кудзялянцы Шальч.

ЗА'ПАСТ *прысл.* Без перапынку. *Два дні запаст рабілі.* Лісна В.-Дзв.

ЗАПА'СУВАЦЬ, ЗАПА'СВАЦЬ *незак.* Пачынаць пáсціць. *Запасуюць быдла перад Юр'ям.* Граўжышкі Ашм. *Вербніца — за тыдзянь, пасвяцалі вярбу. Первы дзень запасуюць карой, дык выганялі вярбой.* Рудня Астравітая Чэрв. *Перад благавешчаням запасвалі каровы.* Вецярэвічы Пух.

ЗАПА'СЦІ *зак.* Стаць слабым, хваравітым. *Бацька запаў.* Альхоўка Навагр.

ЗАПАТРУ'ШЫЦЬ *зак.* Выпатрашыць. *Запатрушу я* [парсюка]. Старыя Смільгіні Воран.

ЗАПАТРЭ'БАВАЦЬ *зак.* Запатрабаваць. *Запатрэбуя есці і не есць.* Гемзы Шальч.

ЗАПАТЫ'ЛАК *м.* Патыліца. *Даў табе па запатылку.* Саланое Віл.

ЗАПАТЫ'ЛЬНІК *м.* Клінок, якім замацоўваюць касу на касільне. *Запатыльнік у касе.* Воўкуш Ліпск., Сакаляны Сакол.; *гл.* ДАБМ, карта № 263.

ЗА'ПАХ *м.* Пах. *Запах пачуя.* Жылі Іўеў. *Булёнчык з запахам добрым.* Солы Смарг. *Зацвіцець грыка, то пах, запах мёду.* Швэды Вільн. *Гэтых запахаў не пераномя.* Гемзы Шальч.

ЗАПА'ХАВАЦЬ *незак.* Заворваць. *Лупін запахуім.* Стральцы Шальч.

ЗАПАХА'ЦЬ *зак.* Заараць. *Прасіў яго, кап запахалі за садам.* Вязынка Маладз. *Запахаць поле.* Беразіно Докш.

ЗАПА'ШКА *ж.* Зямля, якую здавалі або бралі ў арэнду. *Ён узяў на запашку; Сайкоўскі купіў зямлю. Мы жалі на запашках, зямлі сваей ня мелі. Як дзялілі зямлю, мы па запашках хадзілі.* Рагулішкі Даўг.

ЗАПА'ШНІК *м.* Арандатар. *Запашнік на часці* [надзелу] *сядзіць.* Саланое Віл.

ЗАПЕ'КА'ЦЦА *незак.* Запякацца. *Хлеп запекаецца добра.* Масілавічы Сл. *Закінь трохі загнет, каб хлеб запекоўся.* Мачаск Бярэз. *Хлеб нэ запекаецца.* Смаляніца Пруж. *Запекаецца хлеп.* Лука Нараўк.

ЗАПЕ'НІЦЦА *зак.* Пакрыцца пенай, замыліцца. *Конь запеніўся.* Быстрыца Астр. *Спацеў конь, аш запеніўся; увесь конь у пеня.* Мярэцкія Глыб. *Запеніўся конь.* Глівін Барыс.

ЗА'ПЕРКА *ж.* Засаўка. *Заперка — дзверы запіраць.* Старыя Смільгіні Воран. *Сені на заперку — і давай яга біць.* Саланое Віл.

ЗАПЕ'РЦІ, ЗАПЁРЦІ, ЗАПЁРЦЬ *зак.* 1. Замкнуць. *Магазінчыца заперла магазін з хлебам.* Крэва Смарг. *Сенцы заперла.* Рыбчына Віл. *Запры дзверы! Трэба заперці дзверы.* Мярэцкія Глыб. *Надаело мне за вечур, я заперла, каб не прышлі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ні забыць запёрці на засоўку.* Асавец Віл. *Ён старайся яе запёрці ў хаці.* Рагулішкі Даўг. *Нада запёрць замком хату, а без ключа — зачыніць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Загнаць і зачыніць. *Курэй нада заперці.* Рагулішкі Даўг. *Каройка прышла, запёрла ў хлеў.* Груздава Паст. 3. Змясціць. *Свінчаці не было дзе заперці.* Вецярэвічы Пух.

ЗАПЕ'РЦІСЯ *зак. экспр.* Залезці. *Куды ты заперлася?* Мсцібава Ваўк.

ЗАПЕ'ЦЬ *зак.* Заспяваць. *Як пятух першы рас запяець — будуць малаціць.* Саланое Віл.

ЗА'ПЕ'ЧАК, ЗА'ПІЧОК, ЗАПЭ'ЧОК *м.* Месца паміж печ-

чу і сцяной, якое звычайна выкладваецца дошкамі на некаторай адлегласці ад падлогі. *Зáпечак — міжу сцяной і печай.* Жодзішкі Смарг. *Зáпечкі былі ад сцяны да печы.* Мсцібава Ваўк. *Запéчак праходзіць такі.* Кураполле Паст. *Усё ў запéчак скідавалі і дровы клалі сушыць.* Едлавічы Брасл. *Шукай рукавіцы ў запéчку.* Беразіно Докш. *Палажы дровы ў запéчак!* Рагулішкі Даўг. *Бывала, запéчкі дзелалі дзеравянныя.* Азяраны Раг. *На запічку сіету нуоч буду спаті.* Курашэва Чыж. *Запэчок около стэны.* Смаляніца Пруж. ▽ *Добраму чалавечку добра і ў зáпечку, а благаце плоха і на куце.* Багушэвічы Бярэз.

ЗАПЕЧА′ТАВАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а а ф т а в á н ы. *Запечатавана рамка.* Лісна В.-Дзв.

ЗАПЕЧА′ТЫВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а к л я́ п а в а ц ь. *Пчолы запечатываюць мёд ладзенька, і не пацячэць.* Саланое Віл.

ЗАПЁКЛЫ *прым.* Запечаны. *Свіню біўшы міжду ушэй, запёклая кроў у серадзіне, ключ'ям кроў.* Пасіене Лудз.

ЗАПЁРТЫ *дзеепрым.* Зачынены на засаўку. *Кап ні былі запёрты дзверы ўнізе, паўцякалі п свіння.* Магуны Паст.

ЗАПЁРЦІ, ЗАПЁРЦЬ *гл.* ЗАПЕ′РЦІ

ЗАПІЛАВА′ЦЬ *зак.* Надрэзаць пілой. *Запілаваў браўно на вугол у зрубя.* Ракаўскія Швянч. *Сякерай зарублівае углы, пілы не было запілаваць.* Грыкені Вільн.

ЗАПІ′НАК *м.* Фартух. *Запінак пашыіць і запнецца.* Саланое Віл.

ЗА′ПІНКІ *мн.* Запанкі. *Запінкі куплялі.* Альхоўка Навагр. *Купіла запінкі.* Малахоўцы Бар.

ЗАПІ′НКІ *мн.* Фіранкі. *Запінкі запінаюць вакно.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

ЗАПІРАЗА′ЦЦА *зак.* Падперазацца. *Поясам запіражацца.* Новыя Мацалі Варэн.

ЗАПІРА′ТІ *незак. перан.* Прымушаць рабіць што-н. *Заперлі яго на цыэлы дэнь до жнів.* Курашэва Чыж.

ЗАПІРА′ЦЬ *незак.* Перагароджваць. *Бабёр запіраіць раку, чтобы не спадала вада.* Лісна В.-Дзв.

ЗАПІСА′ЦЦА *зак.* 1. Уступіць у якую-н. арганізацыю. *Яна першая запісалася ў калхос.* Кіралі Шчуч. 2. Зарэгістраваць брак. *Ён такім врэмям запісаўся.* Саланое Віл.

ЗАПІ′СКА *ж.* Запіска. *Запіска была ў яе.* Крэва Смарг.

ЗАПІ′СУВАЦЬ *незак.* Запісваць. *У школу запісуюць.* Кемялішкі Астр.

ЗА′ПІЧОК *гл.* ЗА′ПЕ′ЧАК

ЗАПІЯ′ЦЬ *зак.* 1. Запець. *Ён можыць песню запіяць.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і з а п é ц ь. *Курыца запіяла — гэта, кажыць, на нішчасце.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАПЛА′ВІЦЬ *зак.* Заліць. *Заплавіла зямлю: прабіла тру-*

*бу і заплавіла зямлю, такая цвёрдая, злеглая стала.* Сасноўка Смарг.

ЗАПЛА′ЎЛЕНЫ *дзеепрым.* Запалонены. *Тут было заплаўлена імі* [фашыстамі], *не ўйдзеш.* Крэва Смарг.

ЗАПЛЕ′СНЕЦЬ, ЗАПЛЕ′СНЯЦЬ *зак.* 1. Пакрыцца цвіллю. *Заплесняў хлеп. Он зялёный делаецца.* Рагулішкі Даўг. 2. Забросцнець (пра капусту, гуркі). *Заплеснела капуста, трэба дэнка і камень зняць і памыць.* Кіралі Шчуч. *Заплеснелі агурцэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Заплесняла капуста, белай плявой зацягня, трэба сабраць плесню.* Рудня Астравітая Чэрв. *Заплеснялі агуркі.* Беразіно Докш.

ЗАПЛЕ′ТАЦІ *гл.* ЗАПЛЯТА′ЦЬ

ЗАПЛЕ′ТАЦЬ *гл.* ЗАПЛЯТА′ЦЬ

ЗАПЛЕ′ЦЕНЫ *дзеепрым.* Сплецены. *Заплеценыя сцімбуры скарача.* Гемзы Шальч.

ЗАПЛЁНТАЦЦА *зак.* Заблытацца. *Як ніткі заплёнтаюцца, гавораць: што ты накеўзаў.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *zaplątać się* 'тж'.

ЗА′ПЛІСКА *ж.* Жэрдка для ўмацавання сена на возе. Семежава Кап.

ЗАПЛІ′ТАТЫ *гл.* ЗАПЛЯТА′ЦЬ

ЗАПЛІ′ШЧЫЦЬ *зак.* Уціснуць што-н. *Заплішчыў вос.* Семежава Кап.

ЗАПЛЫ′ТКІ *прым.* Даволі мелкі. *Гэта тарэлка заплыткая.* Тухавічы Лях.

ЗАПЛЫ′ТКО *прысл.* Даволі мелка. *Заплытко бульва пасаджана.* Крынкі Крын.

ЗАПЛЮ′СНУЦЦА *зак.* Зажмурыцца. *Вочы заплюснуцца, ён закрапець* [захрапіць]. Саланое Віл.

ЗАПЛЮ′СНУЦЬ *зак.* Заплюшчыць. *Заплюс вочы, спі!* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАПЛЮ′ШЧВАЦІ *незак.* Заплюшчваць. *Завэду вас до птухі, шчо вочы заплюшчвае.* Смаляніца Пруж.

ЗАПЛЮ′ШЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а п л ю́ с н у ц ь. ◊ *Заплюшчыць вочы* — памерці. *Скора заплюшчу вочы.* Жодзішкі Смарг. *Заплюшчыў вочы.* Саланое Віл.

ЗАПЛЯ′ЖЫЦЬ *зак. экспр.* Заляпіць. *Так снег ачкі і заплiжыць.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАПЛЯЙСТРО′ВАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а а ф т а в а́ н ы. *Запляйстрованы мёд, пакрываецца пляйстрам, як воскам.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАПЛЯ′СКАЦЬ *зак. экспр.* 1. Заплюхаць. *Заляскаў дошч бульбу балотам.* Кіралі Шчуч. 2. Заліць. *Вада заляскала бульбу — не знаць баразён.* Гемзы Шальч.

ЗАПЛЯСЦІ′ *зак.* 1. Заплесці. *Трэба валасэ зачасаць і ў косу заплясці.* Кіралі Шчуч. 2. Плетучы, залатаць дзірку. *Добра не заплёў кош, толькі заґерзаў.* Гемзы Шальч.

ЗАПЛЯТА'ЦЬ, ЗАПЛЕ'ТАЦЬ, ЗАПЛЕ'ТАЦІ, ЗАПЛІ'ТАТЫ *незак.* 1. Заплятаць. *Заплетаць косы.* Масілавічы Сл. *Заплетае туга косы.* Малахоўцы Бар. *Касу заплетае.* Альхоўцы Лях. *Мама, будэтэ мэнэ заплетаці?* Смаляніца Пруж. *Косы заплятая.* Засулле Дзятл. *Заплітае косы.* Горск Бяроз. 2. Плетучы, латаць. *Заплятаю кашы.* Гемзы Шальч.

ЗАПЛЯ'ХАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а п л я́ с к а ц ь 1. *Дошч заплахаў бульбу.* Граўжышкі Ашм. *Спанніцу запляхала ззаду.* Саланое Віл.

ЗАПНУ'ЦЬ *зак.* 1. Завязаць. *Трэба запнуць фартух.* Старыя Смільгіні Воран. *Хвартуха запнуў.* Азарычы Пін. 2. Тое ж, што і з а в е́ с і ц ь. *Запні акно!* Беразіно Докш. 3. Спыніць. *Шпокая дош. Хай шпокая, не запнеш.* Вецярэвічы Пух.

ЗАПО'ЗНА, ЗАПО'ЗНО *прысл.* Даволі позна. *Запозна сяўба.* Быстрыца Астр. *Запозна прышлі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Запозна паехала; ручку папраставалі.* Рагулішкі Даўг. *Запозно ўжэ ідзецця.* Калядзічы Ваўк.

ЗАПО'ІНЫ, ЗАПО'ВІНЫ *мн. абрад.* Заручыны. *А маладая тожа сабірая сваіх, і робяць запоіны.* Савані Стаўб. *У сватэ едуць і заповіны робяць, гуляюць.* Вецярэвічы Пух. *Хлопец до дзеўчыны ідзе ў сваты, перэд свадзьбай — заповіны, каб дагаварыцца.* Баброўнікі Гарад.

ЗАПО'МНІЦЬ *зак.* Забыць. *Пра іх даўно запомніла.* Паляцкішкі Воран. *Сказалі мне бульбу зварыць, а я і запомніла. Запомніла котцы малака ўліць.* Старыя Смільгіні Воран. *Я запомніў, як называецца.* Жылі Іўеў. *Я ўжэ запомніў, нічога ня помню.* Едлавічы Брасл. *Ужо запомніла я, што калісь варылі.* Мсцібава Ваўк. *Я запомніла пра даўнейшыя свацьбы.* Ракаўскія Швянч. *Запомніла сказаць яму, каб цукру купіў.* Стральцы Шальч. *Што мелася сказаць, але запомніла.* Кудзялянцы Шальч. *Умела песняў, ды ўсё запомніла.* Новыя Мацалі Варэн. *Як называюцца адзін навой і другі, я гэта запомніла.* Старыя Трокі Трак. ∇ *А кап яна не ведала канца, як я запомніла!* Каўняны Гродз.; *парайн.* польск. *zapomnieć* 'тж'.

ЗАПО'НА, ЗАПО'НЯ *ж.*, ЗАПО'НЫ *мн.* Дыяфрагма. *Запона адзяляіць кішкі ат печані.* Магуны Паст. *Кішкі ад сэрца перагароджаны запонай.* Крэва Смарг. *У залоўкі балела запона.* Старыя Трокі Трак. *Запоня аддзяляя трыбух.* Быстрыца Астр. *Запоны — перагараджаіць кішкі і сэрца, лёхкія.* Лайпушкі Ігн.

ЗАПО'Р *м.* Плаціна. *Кап запор зрабілі на воду, то млін можна было п ставіць.* Мсцібава Ваўк.

ЗАПО'РХАЦЬ *зак. экспр.* Забіць. *Яны мяне запорхаюць.* Кудзялянцы Шальч.

ЗАПО'ЎЗЛЫ *дзеепрым.* Зацягнуты ілам. *Запоўзлая рака.* Мярэцкія Глыб.

ЗАПРА'ВІЦЬ *зак. экспр.* Адправіць. *Немцы мяне заправілі ў цюрму.* Стральцы Гродз.

ЗАПРАГА'НЯ *н.* Запраганне. *Конь гатовы да запрагання.* Альхоўка Навагр.

ЗАПРАГА'ЦЦА *незак.* Запрагаць. *Двое коней запрагалася. У барану таксама запрагалася пара.* Пасіене Лудз.

ЗАПРАГА'ЦЬ *незак.* Запрагаць. *Каня запражыце.* Саланое Віл. *Санкі запрагалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трэба каня запрагаць.* Альхоўка Навагр. *Каня запрагай.* Калясное Міхал. *Хай ідзе і запрэгая каня.* Любішчыцы Івац. ◊ *Запрагаць касу* — насаджваць касу на кассё. *Запрагай касу ды ідзі касі.* Латыгаль Віл.

ЗАПРАГЧЫ', ЗАПРАХЧЫ', ЗАПРАХЦІ', ЗАПРЭ'ХЧЫ, ЗАПРЭ'ГЧ, ЗАПРЭ'Ч *зак.* Запрэгчы. *Ён папрасіў каня запрахчы.* Асавец Віл. *Каня нада запрахчы, аброць ёсць, нада надзець на морду. Запрахчы каня.* Мярэцкія Глыб. *Запрагла каня.* Альхоўка Навагр. *Запражы каня.* Жодзішкі Смарг. *Можаш запрахці каня.* Тухавічы Лях. *Я запрэгч магу.* Беняконі Воран. *Нада каня запрэч.* Пасіене Лудз.

ЗА'ПРАЖКА *ж.* Тоўчанае і падсмажанае семя льну. *Колісь хліеб з запрашкою іелі.* Курашэва Чыж.

ЗАПРА'ЖЫТІ *зак.* Падсмажыць на патэльні што-н. *Запражыла запрашкі в велікі пуост.* Курашэва Чыж.

ЗАПРАСІ'ЦЬ *зак.* Назваць цану. *Запрасіла за кабана сто рублей.* Груздава Паст.

ЗАПРАСЦІ'ЦЬ *зак.* Забараніць. *Запрасцілі дзіржаць стоража ў цэркві.* Лісна В.-Дзв. *Запрасціла ей прыходзіць да нас.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* руск. *запретить* 'тж'.

ЗАПРА'ТУВАЦЦА *незак.* Хавацца. *Сікерка запратуяцца ў пясок.* Быстрыца Астр.

ЗАПРАЎЛЯ'ЦЬ I *незак.* Прыпраўляць. *Алей гналі, запраўлялі вару алеям у пост.* Кіралі Шчуч. *Суп запраўляць салам.* Мішневічы Шум.

ЗАПРАЎЛЯ'ЦЬ II *незак.* Запрагаць. *Я ўмеў каня запраўляць.* Крэва Смарг.

ЗАПРАЎЛЯ'ЦЬ III *незак.* Рамантаваць. *Кашы запраўляю бульбу капаць.* Гемзы Шальч.

ЗАПРАХЦІ' *гл.* ЗАПРАГЧЫ'

ЗАПРАХЧЫ' *гл.* ЗАПРАГЧЫ'

ЗАПРАЦАВА'ЦЦА *зак.* Стаміцца ад работы. *Ты ўжо зарабіўся, запрацаваўся.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАПРАША'ЦЬ *незак.* Прасіць прыйсці. *На 'бет запрашаюць, як пахаваюць памёршага, спяваюць і ядуць.* Гемзы Шальч. *Баль, запрашаюць, а яна с карэтай прыяжджая.* Кудзялянцы Шальч.

ЗАПРУ'ШЫЦЬ *гл.* ЗАПАРУШЫ'ЦЬ

ЗАПРЫ'ТКА *ж.* Тое ж, што і з а́ в а р а ц е н ь 2. *Запрытка дзеравяна.* Мсцібава Ваўк.

ЗАПРЫ'ЦІЦЬ *зак.* Туга завязаць пры дапамозе закруткі. *Трэбо запрыціць куля.* Мсцібава Ваўк.

ЗАПРЫ'ЭТ *м.* Забарона. ◇ *Даць запрыэт* — забараніць. Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *запрет* 'тж'.

ЗАПРЭ'ГЧ *гл.* ЗАПРАГЧЫ'

ЗАПРЭ'НДЗІЦЦА *зак. экспр.* Уздумаць. *Як яму запрэндзіцца, дык і заґізуя.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *pasispręsti* 'зачапіцца'.

ЗАПРЭ'НТКІ *прым.* Вельмі жвавы. *Ён натта запрэнткі, згавэндаў, нагаварыў многа і кажуць на яго запрэнткі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *prętki* 'хуткі, быстры'.

ЗАПРЭТІ'ТІ *зак.* Забараніць. *Суд запрэтів ему чужое поле обрабляті.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *запретить* 'тж'.

ЗАПРЭ'ХЧЫ *гл.* ЗАПРАГЧЫ'

ЗАПУ'ГАВАЦЬ *незак.* Запалохваць. *Што, запугаваць прывёс, як ката ў мяшку?* Кураполле Паст.; *парайн.* руск. *запугивать* 'тж'.

ЗАПУ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Запалоханы. *Запуджаныя піскляты.* Мярэцкія Глыб.

ЗАПУ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Спудзіць. *Курыца с курчакамі крыламі залопала і запудзіла курчакоў.* Груздава Паст. *Карова запудзіла цялушку.* Гемзы Шальч. 2. Запалохаць. *Немцы запудзяць, што пастраляюць усіх.* Кураполле Паст.

ЗАПУЛЯ'ЦЬ *зак.* Закідаць. *Запуляў граззю, шчэпкамі; ні трэба пуляць.* Саланое Віл.; *парайн.* літ. *užpìlti* 'засыпаць'.

ЗАПУНІ'ТІ *гл.* ЗАПЫНІ'ЦЬ

ЗАПУ'ОЛ *м.* Падол. *Цыэлы запуол зіеля свінём прынесла.* Курашэва Чыж.

ЗАПУСКА'ЦЦА *незак.* Пераставаць даіцца. *Запускаіцца карова.* Лісна В.-Дзв. *Запускаецца карова.* Янова Рас.

ЗАПУСКА'ЦЬ I *незак.* Класці. *Як кончыцца хата, запускаюць бэлькі, а па бэльках — шапашнікі.* Малахоўцы Бар.

ЗАПУСКА'ЦЬ II *незак. кулін.* Заквашваць. *Юшнік рашчынкай запускаіць.* Рагулішкі Даўг.

ЗАПУСКА'ЦЬ III *незак.* 1. Даваць магчымасць утварыцца. *Калтун некі быў дайней, яго запускалі.* Магуны Паст. 2. Пераставаць даіць. *Горка малако — нада запускаць карову.* Кіралі Шчуч.

ЗА'ПУСКІ толькі *мн.* Тое ж, што і з а́ ґ а в і н ы. *На запускі загаўляюць і прас седам тыгодні не ядуць з салам і малаком.* Старыя Смільгіні Воран. *Запускі — нядзеля да паста.* Малахоўцы Бар. *Запускі — загавелі на вялікі пост.* Мярэцкія Глыб. *Запускі бываюць перат коляды, шэсць недзель загаўляюца.* Баброўнікі Гарад.

ЗАПУСТІ'ТІ *гл.* ЗАПУСЦІ'ЦЬ II

ЗА′ПУСТКІ толькі *мн.* Тое ж, што і з а́ ґ а в і н ы. *Запусткі перад калядамі і перад вялікадням.* Міратычы Карэл.

ЗА′ПУСТЫ толькі *мн.* Тое ж, што і з а́ г а в і н ы. Быстрыца Астр. *У нядзелю запусты, а ў панядзелак папялец прысвятак.* Курaполле Паст. *Запусты ў аўторак.* Солы Смарг. *На запусты квашаніну варым, мяса.* Старыя Смільгіні Воран. *На запусты елі мяса.* Лоск Валож. *На запусты загавеім і на сем нядзель.* Ахрэмаўцы Брасл. *Запусты перад вялікім пастом.* Лісна В.-Дзв. *Запусты — не свята, перад вялікім постам нядзеля.* Лука Нараўк. *На запусты пойехалі в гостіну до своіх.* Курашэва Чыж.

ЗАПУСЦІ′ЦЦА I *зак.* Тое ж, што і з а й с ц і 3. *Сонца запусціцца.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАПУСЦІ′ЦЦА II *зак.* Перастаць даіцца. *Перэд отеліенём корова на міесец запустілася.* Курашэва Чыж.

ЗАПУСЦІ′ЦЬ I *зак.* 1. Падкалаціць. *Журок вараць, мукой запусцяць, туды грыпкоў — гэта жур.* Магуны Паст. 2. Заліць. *Таркую картошку, запушчу малаком і пяку бабку.* Кудзяльянцы Шальч. 3. Уставіць адно ў другое. *Запусціць у сетку сець.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗАПУСЦІ′ЦЬ II, ЗАПУСТІ′ТІ *зак.* 1. Даць магчымасць утварыцца. *Стаў кайтун крэпацца, і я запусціла яга!* Беразіно Докш. 2. Пакінуць без догляду. *На запушчануом полі ніц не хочэ рості. Поле аблогом запустів.* Курашэва Чыж.

ЗАПУ′ТНЫ *прым.* У выразе: *Запутная дарога* — дарога, па якой не ездзяць. *Запутная дарога — неежжомая дарога.* Лісна В.-Дзв.

ЗАПУХА′ЦЬ *незак.* Апухаць. *Ока запухае, плакаў слёскамі.* Паляцкішкі Воран.

ЗАПУ′ХНУЦЬ *зак.* Апухнуць. *Пад ачыма запухня.* Лісна В.-Дзв.

ЗАПУ′ШЧАНЫ *прым.* 1. Хранічны. *У мяне запушчаны кашаль.* Рагулішкі Даўг. 2. Неахайны. *Аб'ехаў, апмох — запушчаны ходзіць.* Індра Красл.

ЗАПЫЛА′ЦЬ *зак.* Запалаць. *Дровы запылалі: агонь даець аш у чалесніці.* Кураполле Паст.

ЗАПЫЛЕ′ЦЬ *зак.* Запыліцца. *Фіранкі запылелі, трэба мыць.* Гемзы Шальч.

ЗАПЫНІ′ЦЬ, ЗАПУНІ′ТІ *зак.* 1. Спыніць. *Запыніла брыгадзіра і кажу: «Гной німа куды дзяваць».* Дакудава Лід. *Нехта мяне запыніў.* Альхоўка Навагр. *Запыні каня!* Тухавічы Лях. *Трэба запыніць воўца.* Старое Сяло Зэльв. *Запынілі воўка.* Вецярэвічы Пух. *Запуні коровы, бо в шкоду ліезут.* Курашэва Чыж. 2. Затрымаць. *Тая посцілка не запыніць холат.* Мсцібава Ваўк. 3. Перагарадзіць. *На вуткі запынілі рэчку.* Мсцібава Ваўк.

ЗАПЫНЯ'ЦЬ *незак.* Спыняць. *Во тут запыняй каго!* Дакудава Лід. *Не запыняла я яе на гуліцы.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАПЫТА'ЦЦА *зак.* Спытацца. *Запытайся ты ў яго, чаго яму трэба?* Кіралі Шчуч.

ЗАПЫТА'ЦЬ *зак.* Спытаць. *Запытай яго!* Дакудава Лід.

ЗАПЭ'ЛНЯ *ж.* Поўня. *Находзіцца маладзік, тады запэлня ідзе.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *pełnia* 'паўната'.

ЗАПЭ'ЦКАЦЦА *зак.* Забрудзіцца. *Гдзе ты так запэцкайся?* Гемзы Шальч.

ЗАПЭ'ЧОК *гл.* ЗА'ПЕ'ЧАК

ЗАПЯКА'ЦЦА *незак.* Пакрывацца скарынкай. *Хлеп зверху запёкся.* Альхоўка Навагр. *Запякаяцца хлеп.* Рудня Астравітая Чэрв. *У печы хлеп запякаяцца.* Ракаўскія Швянч. *Запёкся хлеб добра.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

ЗАПЯ'ТЫ *дзеепрым.* Завешаны. *Там запята, дзе запечак.* Курaполле Паст. *Запяты вокны фіранкамі.* Саланое Віл.

ЗАПЯ'ЦЬ *зак.* 1. Завязаць. *Запяць фартух.* Крэва Смарг. 2. Тое ж, што і з а в е́ с і ц ь. *Нада запяць акно пасцілкаю — дайней, а цяпер — завесіць занавескамі.* Ёдлавічы Брасл. *Спадніцу раздзерлі і запялі акно.* Курaполле Паст.

ЗАПЯЧА'ТАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а а ф т а в а́ н ы. *Мёт запячатаны воскам.* Саланое Віл. *Запячатаны мёд.* Рудня Астравітая Чэрв., Шкаўна Лудз.

ЗАПЯЧЫ'СЯ *зак.* Пакрыцца скарынкай. *Паткінь дроў, каб запёкся хлеп.* Жылі Іўеў.

ЗА'РА, ЗА'РЭ, ЗА'РАЗ, ЗА'РАС *прысл.* 1. Неадкладна, у гэты ж момант. *Зара я распарцылюю.* Крэва Смарг. *Зара матка прыедзя.* Кемялішкі Астр. *Зара я вам раскажу, як біліся ў нас парцізаны з паліцыянтамі.* Абрамаўшчына Смарг. *Буцця тут, а я зара прыду. Зара будуць авечкі гнаць.* Ністанішкі Смарг. *Зара крупнічку паядаю.* Граўжышкі Ашм. *Зара пайду аходжвацця: трэба даць курам, гусям, свіням, цяляці пойла варыць. Зара наша карова будзя ісці.* Кіралі Шчуч. *Зара дом. Зара будзя снех падаць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Зара прыдзя.* Паляцкішкі Воран. *Зара і квятке расцвітуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Зара закурым.* Цярэшкі Ваўк. *Зара гот будзя, як старога сестра ўмярла.* Лоск Валож. *Зара паездзяця.* Дакудава Лід. *Зара святкі кончацца.* Лісна В.-Дзв. *Я цябе зара палкай як ажаню, дык ты пойдзіш!* Ахрэмаўцы Брасл. *Па жыта паедзяця зара.* Любішчыцы Івац. *Зара свіня загонім.* Альхоўка Навагр. *Зара прыжане каровы.* Старое Сяло Зэльв. *Зара іду!* Грыкені Вільн. *Зара будзе бульба, я крою, рас, два — сярётка рудая.* Малькуны Ігн. *Зара каройка прыдзя.* Гемзы Шальч. *Зара дам млечка.* Стральцы Шальч. *Зара вуна прыдэ.* Радастаў Драг. *А дошч ільe, а мо зарэ аціхне.* Дзяніскавічы Ганц. *Зарэ я высыплю картоплі і дам тобі кошыка.* Сіманавічы Драг. *Зарэ в Выдыбор прыідымо.* Відзібар Стол. *Я зарэ мыцім.* Сма-

ляніца Пруж. *Зарэ вжэ, Маню, можна будэ. Зараз дамоў пойдзіць.* Саланое Віл. *Пожді кроху, зараз буду іті.* Курашэва Чыж. *Зарас прыду.* Пацаўшчына Дзятл. *Пачакай, я зарас іду!* Вецярэвічы Пух. 2. У сучасны момант. *Ат нас тут недалёка, дзе зара сельсавет, жыў пан.* Новая Гута Віл. *Зарэ два разы кормлю.* Смаляніца Пруж. *Зарэ пасычала* [свіння]. Вялікі Краснік Пруж.

ЗАРА′ *ж.* 1. Світанне. *Світаяць, ужо зара.* Магуны Паст. 2. Ранішняя зорка. *Гаманяць у хаці, яшчэ зара не пагашыы.* Валынцы В.-Дзв. *Раняя зара.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Вячэрняя зорка. *Зара пры захадзя слонца.* Магуны Паст. *Вячэрняя зара.* Вялікія Баяры Шчуч. 4. у знач. *прысл. зарэ́ю.* На зары. *Устала зарэю.* Смаляніца Пруж.

ЗАРАБА′ТАВАЦЬ, ЗАРАБО′ТАВАЦЬ *незак.* Зарабляць. *Добра зарабатаваю ў калхозе: шчатаводам раблю. Заработаваю ў сына.* Ністанішкі Смарг.

ЗА′РАБАТАК, ЗАРАБО′ТАК *м.* 1. Плата за работу. *Зарабатак мей добры.* Вострава Маст. 2. Праца са здзельнай аплатай. *Нет заработку ляхчэйшага, як на буякох.* Вецярэвічы Пух.

ЗА′РАБАТКА *ж.* Тое ж, што і з а́ р а б а т а к 2. *Уехаў на зарабатку.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗА′РАБАТКІ, ЗАРАБО′ТКІ *мн.* Тое ж, што і з а́ р а б а т а к 2. *У зарабаткі ездзіла.* Саланое Віл. *Сукенку купіла, пашла на заработкі.* Малькуны Ігн.

ЗАРАБІ′ЦЬ, ЗАРО′БІЦЬ, ЗАРОБІ′ЦІ *зак.* Зарабіць. *Пайду зарабіць.* Кемялішкі Астр. *Весь дзень прарабіла, не знаю, ці многа зарабіла.* Кіралі Шчуч. *Ісці да пана зарабіць.* Швэды Вільн. *Што яны там заробілі; хай па рублю заробіў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ніц не заробіш, як будзеш спаці.* Вялікі Краснік Пруж. *Ніц нэ зароб'ю, дома сэдзячы.* Смаляніца Пруж. ∇ *Як заробіш, так палучыш.* Кураполле Паст.

ЗАРАБЛЯ′ЦЬ *незак.* Зарабляць. *Добра зарабляя.* Кемялішкі Астр.

ЗАРАГАТА′ЦЬ *зак.* Пачаць рагатаць. *Зарагатала ў сянях.* Жылі Іўеў.

ЗАРА′ДЖАВАЦЬ *незак.* 1. Закладаць у азярод. *Бульбоўнік зараджавалі ў пярэпла́ты.* Кураполле Паст. 2. Наладжваць, рыхтаваць кросны для ткання. *Буду зараджаваць кросна; зараджаваю ўжо.* Альхоўка Навагр.

ЗАРАДЗІ′ЦЦА *зак.* Нарадзіцца. *Я тут і зарадзілася, а ні бачыла такой вады.* Поціна В.-Дзв.

ЗАРА′ДЗІЦЬ *зак.* Наладзіць, падрыхтаваць кросны для ткання. *Трэба зарадзіць кросна; я зараджу і ты зарадзіш.* Альхоўка Навагр.

ЗАРАДЗІ′ЦЬ I *зак.* Урадзіць. *Зарадзіла бульба добра.* Ністанішкі Смарг. *Картошка зарадзіла.* Стральцы Шальч.

ЗАРАДЗІ′ЦЬ II *незак.* Тое ж, што і з а р а́ д ж а в а ц ь 1.

*Я снапы зарадзіў. У зарацьубіў калы і палажыў жэрдзя, і зарадзіў боп.* Кураполле Паст.

ЗАРАЖА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а р а́ д ж а в а ц ь 1. *Былі друкі і ляныя галоўкі заражалі; нада зарэдзіць, за дзве нядзелі так высахніць — носяць у ток.* Кураполле Паст.

ЗАРА'ЖУВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а р а́ д ж а в а ц ь 2. *Трэба заражуваць кросна.* Паляцкішкі Воран.

ЗА'РАЗ *гл.* ЗА'РА

ЗАРАКА'ЦЦА *незак.* Абяцаць не рабіць што-н. Граўжышкі Ашм. ∇ *Сколькі рас свіня заракаецца?!* Кураполле Паст. *Вжэ кылько раз свыння зарікалась?!* Сіманавічы Драг.

ЗАРА'НА, ЗАРА'НО *прысл.* Вельмі рана. *Зарана жаніўся.* Жодзішкі Смарг. *Зарана пашла.* Лісна В.-Дзв. *Табе зарана ўставаць, ты прыляш.* Гемзы Шальч. *Зарано прышоў.* Вострава Маст.

ЗАРА'НАЧКА *ж.* Ранішняя або вячэрняя зорка. *Заранячка утрам і вечарам.* Рагулішкі Даўг. *Заранaчка ўзышла.* Кураполле Паст. *Заранaчка вячорна ўзышла.* Саланое Віл. *Ёсць вячорная заранaчка. Як сонейка зайдзіць, яна відацца.* Рагулішкі Даўг.

ЗАРАНІ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і з а р а́ н а ч к а. *Заранічка рана ўстае.* Граўжышкі Ашм.

ЗАРА'НКА *ж.* Тое ж, што і з а р а́ н а ч к а. *Заранка вечарам першая ўсходзіць і раніцай першая заходзіць.* Солы Смарг. *Заранка рана ўсходзіць ад трох часоў.* Лайпушкі Іґн.

ЗАРА'ННЯ, ЗАРА'НЯ, ЗАРА'НЕ, ЗАРАНЁ, ЗАРАНЁЎ *прысл.* Рана. *Прышла дамоў зарання і работу парабіла.* Саланое Віл. *Увечара заранья прыходзяць.* Ракаўскія Швянч. *Заране прышоў.* Дзяніскавічы Ганц. *Заранё пагнаў каровы.* Навасёлкі Свісл. *Заранё фанар павесяць.* Малахоўцы Бар. *Заранё прышоў.* Старое Сяло Зэльв. *Заранё ўстала і печ выпаліла.* Дзяніскавічы Ганц. *Заранё ўстала.* Альхоўцы Лях. *Як ляжаш заранёў, то спаць не хочацца.* Лісна В.-Дзв.

ЗА'РАС *гл.* ЗА'РА

ЗАРАСІ'ЦЬ *зак.* Абрасіць. *На ранку натта раса, спадніцу зарасіла. Натта было расно́.* Кіралі Шчуч.

ЗА'РАСЛЯ *ж.* Зараснік. *Там зарасля — расла рабіна, каліна.* Рыбчына Віл.

ЗА'РАСНІК *м.* Тое ж, што і з а́ р а с л я. *Заснікі ні сякуць, пралесці нельга.* Саланое Віл. *Заснікі касіць, араць німа як.* Рыбчына Віл. *Там зараснік густы.* Груздава Паст. *Густы зараснік, ні пралесці.* Рудня Астравітая Чэрв. *У Залужжы сеюць, і заснікі падходзяць.* Беразіно Докш.

ЗАРАСТА'ЦЬ *незак.* Пакрывацца травой. *Траілі, гдзе дзерно, гдзе пырнік зарастае.* Відаўцішкі Вільн.

ЗАРАЎСЦІ' *зак.* Зараўці. *Заравець цялушка.* Чычалі Швянч.

ЗА'РАЦЬ *ж.* Прыстасаванне для сушкі бобу. *Зарацъ для сушкі бобу.* Кірàлі Шчуч.

ЗАРАЧЫ'СЕ *зак.* Зарачыся. *Лоні заруоксе курыті.* Курашэва Чыж.

ЗАРАШЧЫНЯ'ЦЬ *зак.* Рашчыніць цеста. *Зарашчыняя хлеп у дзежцы.* Старыя Смільгіні Воран. *Я зарашчыняю бліноў.* Жылі Іўеў. *Хлеб зарашчынялі.* Гемзы Шальч.

ЗАРВА'ЦЦА *зак.* Перастаць даіцца. *Наша не зарвалася карова.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАРВА'ЦЬ *зак.* 1. Перастаць даіцца; запусціцца; паменшыць ўдойнасць. *Карова зарве.* Старыя Смільгіні Воран. *Мая зарвала, палавіну малака німа.* Мсцібава Ваўк. *Каровы малака зарвалі — мене даюць, а тады зноў дабаўляюць.* Гемзы Шальч. 2. Раптоўна перарваць. *Як сказала пра гэта, дык ей і смех зарвала.* Груздава Паст. 3. Натрудзіць. *Руку зарвала жнучы.* Міратычы Карэл. ∇ *Кап табе зарвало!* Дзяніскавічы Ганц. *Напрэсся, нажрэсся, хай табе зарве!* Азяраны Раг.

ЗАРЖА'ВЯЦЬ *зак.* Пакрыцца іржой. *Жалеза заржавяла.* Дакудава Лід.

ЗАРЖА'ЎВАЦЬ *незак.* Ржавець. *Пасушы вядро, кап ні заржаўвала.* Малахоўцы Бар.

ЗАРНІ'ЦА *ж.* 1. Тое ж, што і з а р á 2. *Зарніца свеціць урана.* Мсцібава Ваўк. *Зарніца ўзышла, яна ўсходжуя яшчэ да дня.* Азяраны Раг. *Зарніца на ранку зышла.* Баброўнікі Гарад. 2. Водбліск далёкай навальніцы. *Зарніца, як находзіць гром.* Гайна Лаг.

ЗАРО'БАК *м.* Тое ж, што і з á р а б а т а к 1. *Заробак прынёс і аддаў.* Паляцкішкі Воран.

ЗАРОБІ'ЦІ I *гл.* ЗАРАБІ'ЦЬ

ЗАРОБІ'ЦІ II *зак.* Запэцкаць. *Всюды заробіш гэтымі чыгунамі: в хаці, в сенях.* Смаляніца Пруж.

ЗАРО'БІЦЬ *гл.* ЗАРАБІ'ЦЬ

ЗАРО'ДАК I *м. біял.* Зачатак. *У яйцэ зародак ест.* Вострава Маст.

ЗАРО'ДАК II *м.* Вырадак. *Пчала зародак какой-та: ні яна, ні ён.* Быстрыца Астр.

ЗАРО'ДЗІЦЬ *гл.* ЗАРЭ'ДЗІЦЬ

ЗАРО'ПКІ *мн.* Тое ж, што і з á р а б а т а к 2. *У заропкі паехаў.* Старое Сяло Зэльв.

ЗАРО'СЛІ *мн.* Тое ж, што і з á р а с л я. *Зарослі — малады лес. Была санажаць і зàрасла, і гаворацъ зарослі.* Жылі Іўеў.

ЗАРО'СЛІНЫ *мн.* Тое ж, што і з á р а с л я. *Там такія заросліны.* Чычалі Швянч. *Там кусты, заросліны, балота.* Гемзы Шальч.

ЗАРО'СЛЯ *ж.* Тое ж, што і з á р а с л я. *Заросля — дзе абрасло хмызняком, кустамі.* Солы Смарг.

ЗАРО'СТАЦЬ *незак.* Зарастаць. *Рэчка стала заростаць.*

Малахоўцы Бар. *Агрэхі заростаюць травою.* Вецярэвічы Пух.

ЗАРУ'БАК *м.* Гадавое кальцо на рагах у жывёлы. *Зарубак на рагах.* Бакшты Іўеў.

ЗАРУ'БАНЫ *дзеепрым.* Высечаны (сякерай). *Угол зарубаны сякерай.* Грыкені Вільн.

ЗАРУБА'ЦЬ *зак.* 1. Высечы. *Угол зарубае.* Грыкені Вільн. 2. Засячы, забіць. *Я зарубаю яго: ён п'е, б'е.* Старыя Трокі Трак.

ЗА'РУБАЧКА *ж. памянш.* Воблачка, хмарка. *Сонейка зойдзя на зарубачку.* Кудзялянцы Шальч.

ЗАРУБІ'ЦЬ *зак.* Падшыць. *Зарубі рубец!* Магуны Паст. *Падол зарубі!* Дакудава Лід. *Нада зарубіць рубашку. Ай, ты бальшы рубец зарубіла!* Валынцы В.-Дзв. *Нада зарубіць панадольнік вузкім рубцом.* Мярэцкія Глыб.

ЗА'РУБКА, ЗА'РУПКА *ж.* 1. Тое ж, што і з а р у́ б а к. *Зарупка каля рох цялухі. Зарупка паказвае, колькі гадоў цялухі.* Саланое Віл. *Зарупкі на рагах.* Рыбчына Віл. *Зарупка на рагах паказвае гады каровы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Колькі зарубак на рагах — столькі год карове.* Мачаск Бярэз. 2. Рубец у адзежы. *Бывала, блохі скакалі, лезе па ўсіх зарупках, у адзеня шыюцца, у пасцель.* Кіралі Шчуч. 3. Маршчына. *Зарупкі — маршчыны.* Саланое Віл.

ЗАРУ'БЛІВАЦЦА *незак.* Утварацца. *Кажды гот зарубліваяцца зарубы на рагах у каровы.* Дакудава Лід.

ЗАРУ'БЛІВАЦЬ *незак.* Высякаць. *Дайней сякерай зарублівалі ўглы.* Грыкені Вільн.

ЗА'РУБНІ *мн.* Гадавыя кольцы на рагах у жывёлы. *Зарубні на рагах у каровы.* Галубы Маст.

ЗА'РУБЫ *мн.* Тое ж, што і з а́ р у б н і. *Кажды гот зарубліваяцца зарубы на рагах.* Дакудава Лід.

ЗАРУДЗЕ'ЦЬ *зак.* Стаць рудым. *Зарудзеяць што с палатна — у шчолах с попілу ўкініш, памыіш і пабялеіць.* Індра Красл.

ЗАРУМЯ'НЕЦЬ *зак.* Упрэць, уварыцца. *Кісель зарумянеў, зачырванеў — зварыўся.* Гемзы Шальч.

ЗАРУ'ПІЦЦА *зак.* Захацецца. *Зарупілася ёй атправіць нас на сено.* Стральцы Гродз.; *парайн.* літ. *parūpti* 'тж'.

ЗА'РУПКА *гл.* ЗА'РУБКА

ЗАРУ'ШЫЦЬ *зак.* Зачапіць. *Парсюкі, шэрсь надуўшы, папужаліся, а ваўкі не зарушылі свіней.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАРЫВА'ЦЬ *незак.* Пераставаць даіцца, запускацца. *Карова зарываіць.* Кураполле Паст.

ЗА'РЭ *гл.* ЗА'РА

ЗАРЭ'ДЗІЦЬ, ЗАРО'ДЗІЦЬ *незак.* Азяродзіць. *Ён як зарэдзіў, дык цэлую нядзелю п'ець.* Кураполле Паст. *Нада снапы зарэдзіць.* Груздава Паст. *Зарэдзіць снапы.* Беразіно Докш. *Снапы с поля вазілі і зародзілі.* Палік Барыс.

ЗАРЭ′ЗАЦЦА *зак.* Зарэзаць. *Пятуха зарэзаца трэба.* Ёдлавічы Брасл.

ЗА′РЭШНІ *прым.* Цяперашні. *На зарэшні дошч, на зарэшню погоду іды з дзевкамі!* Смаляніца Пруж.

ЗА′САВЕНЬ *м.* Засаўка. *Запры кату на засавень. Запры дзвер на засавень.* Саланое Віл.

ЗАСА′ДЖАНЫ *дзеепрым.* Засееныя. *Соткі ўжо засаджаны.* Ракаўскія Швянч.

ЗАСАЛАДЖА′ЦЬ *зак.* Зрабіць салодкім у працэсе спецыяльнай апрацоўкі (пра цеста). *Заварыць* [муку], *тады засаладжаць.* Індра Красл.

ЗАСАЛАДЗІ′ЦЬ *зак.* Пасаладзіць. *Млека засаладзіў.* Магуны Паст. *Мак патруць, засалодзяць і ўльюць у сліжы.* Солы Смарг.

ЗАСАЛО′НЫ *прым.* Салёны звыш меры. *Засалоны кумпяк.* Альхоўка Навагр.

ЗА′САЎКА, ЗА′СОЎКА *ж.* 1. Тое ж, што і з а́ с а в е н ь. *Засаўка — дзверы засоўваць.* Быстрыца Астр. *Засаўка была; ідзі запры хату засаўкай.* Кіралі Шчуч. *Засаўка была; дзверы закрывалі на засаўку.* Скрудалена Даўг. *Дзверы я на засоўку засунула.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ні забыць заперці на засоўку.* Асавец Віл. *Засоўка ў дзвярах.* Баброўнікі Гарад. 2. Дошчачка або пласцінка, якой закрываюць якую-н. адтуліну. *Засаўкай збоку вулі закрывалі.* Старыя Трокі Трак. 3. Юшка закрываць комін. *Засаўка — у печы комін закладаць, а круглая называецца юшка.* Альхоўцы Лях. *Засоўкай засоўваюць комін.* Вялікія Баяры Шчуч. *Чыгуная засоўка, якую адсуваюць, каб ішоў дым у комін.* Баброўнікі Гарад. 4. Кіёк для замацавання века ў кубле. *Засоўка была ў кубле.* Лісна В.-Дзв.

ЗА′САЎКІ *мн.* Рашотка, якой закрывалі падпечак. *За засаўкамі сядзяць куры.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАСВА′ТАЦЦА *зак.* Сасватаць. *Выпілі і засваталіся.* Мікалаеўшчына Стаўб.

ЗАСВА′ТВАЦЦА *незак.* Сватацца. *Паехалі ў сваты, там засватваліся.* Магуны Паст.

ЗАСВІ′ДЗЕЦЬ, ЗАСВІ′ДЗІЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а п л е́ с н е ц ь 1. *Хлеп засвідзее.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сала засвідзіла, калі плеснямі займецца.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *svydėti* 'рабіць, каб блішчэла, паліраваць, націраць'.

ЗАСВІ′СНУЦЬ *зак. экспр.* Закінуць. *Я засвіснуў* [вілы] *у гной.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАСВЯЦІ′ЦЬ *зак.* 1. Запаліць. *Магу свет засвяціць.* Вострава Маст. 2. Асвяціць. *Яго* [лунаціка] *засвяціў месяц.* Гёмзы Шальч. *Засвеціць агонь.* Баброўнікі Гарад.

ЗАСЕ′ДЗЕЦЦА *зак.* Доўга праседзець дзе-н. *Мы заседзімся і нічаго ні знаем.* Саланое Віл.

ЗАСЕ′ДЖАНЫ *прым.* Аплоднены. *Байтун, еслі яйко не за-*

*седжана. Усе яйкі заседжаныя, а тады яна* [качка] *памарыла.* Крэва Смарг. *Заседжаная яйко.* Дакудава Лід.

ЗА'СЕ'К, ЗА'СІК, ЗАСІ'ЕК, ЗА'СЯК *м.* Адгароджанае месца ў свірні, клеці для захавання збожжа. *За́сек на мякіну.* Старыя Смільгіні Воран. *За́сек жыта, ячменю, гаўса, грэчкы* [пры каморы]. *Засякі дашкамі тоўстымі пагароджаны: адзін за́сек жыта, другі— ячменю.* Кіралі Шчуч. *Збожа ссыпалі ў за́секі.* Вялікія Баяры Шчуч. *У свірня за́секі былі парobленыя.* Стральцы Шальч. *Ссыпаюць збожа ў за́секі.* Ліпнікі Вільн. *За́сек у клеці, хлеп сыпаўся, нескалька за́секаў.* Пасіене Лудз. *Збож'ё ў засе́к ссыпаюць.* Малахоўцы Бар. *Быў сверан, і ссыпалі ў засе́кі.* Альхоўка Навагр. *Засе́кі ў клеці адбіты радам.* Лісна В.-Дзв. *Засе́кі ў клеці, у свірні.* Рудня Астравітая Чэрв. *У свірані засе́кі пароблены.* Малькуны Ігн. *Сені, там адгароджана было — засе́кі.* Масішкі Красл. *Засе́кі ў свірне. У за́сікі ссыпалі зярно.* Індра Красл. *Цыэлы засіек пшэніці намолотів.* Курашэва Чыж. *У засякі жыта ссыпалі.* Старыя Трокі Трак.

ЗАСЕМЯНЯ'ЦЦА *незак.* Апладняцца. *Пшчолы засемяняюцца, а труцянь падае нежывы.* Гемзы Шальч.

ЗА'СЕНЬ, ЗА'СІНЬ *ж.* Цень. *Сядзіць у будзе, засень, не адзываецца.* Старыя Трокі Трак. *Засінь была, бульба не пасрасла.* Кураполле Паст. *Каровы стаяць у засіні, засінь там.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАСЕРДАВА'ЦЬ *зак.* Раззлавацца. *Ён ня прыдзя: засердаваў.* Дакудава Лід. *Рассе́рдзілась, засердавала на мяне.* Пацаўшчына Дзятл. *Я засердавала на курыцу.* Баброўнікі Гарад.

ЗАСЕ'РДЗІЦЦА *зак.* Тое ж, што і з а с е р д а в а́ ц ь. *Мне паляхчэла, засердзілася я, хачу лехчы.* Валынцы В.-Дзв. *Засердзілася на мяне напрасна.* Вецярэвічы Пух.

ЗАСЕ'СЦІ *зак.* 1. Сесці надоўга. *Засеў пад ябланкай.* Жылі Іўеў. 2. За́расці. *Цяпер засеў адзін дуп.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАСЕ'ТКІ *мн.* Яйцо з заморaным зародкам. Саланое Віл.

ЗАСЕ'ЎКА *ж.* Пачатак сяўбы. *Засеўка ў нас сягонне.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАСЕ'ЎКІ *мн.* 1. Тое ж, што і з а с е́ ў к а. *Пашлі сеяць, сёння засеўкі. Я троі гоны засеяў.* Кіралі Шчуч. *Засеўкі жыта.* Рыбчына Віл. 2. Абрадавы хлеб, які закопваюць на полі пры дажынках ці перад пасевам жыта. Беразіно Докш.

ЗА'СІК *гл.* ЗА'СЕ'К

ЗАСІЛІ'ЦЬ *зак.* Зачэрпаць. *Засіліў вады.* Жодзішкі Смарг.

ЗАСІНЕ'ЦЦА *зак.* Пасінець. *Паліжаў і засінеўся.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАСІНЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а с і н е́ ц ц а. *Засінела цела ат холаду.* Лісна В.-Дзв.

ЗАСІНІ'ЦЬ *зак.* Падсініць. *Трэба афіранькі, хусткі засініць сінькай.* Кіралі Шчуч.

ЗА′СІНЬ *гл.* ЗА′СЕНЬ

ЗА′СІНЬКА *ж. памянш.* да з а́ с і н ь. *Сяжу ў засіньке.* Пасіене Лудз.

ЗАСІПЕ′ЦЬ *зак.* Зашыпець. *Вушака як засіпіць і дугой за мной!* Валынцы В.-Дзв.

ЗАСІРАНЕ′ЦЬ *зак.* Пакрыцца шарпаком. *Засіранеў снех.* Лісна В.-Дзв.

ЗА′СКАК *м.* Слясак. *Заскак у клямцы.* Мсцібава Ваўк.

ЗАСКАРУ′БНУЦЬ *зак.* Пакрыцца коркай, зацвярдзець. *Як пячэць яешню, толькі трошачку заскарубніць жаўточак, так і есь.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАСКАРУ′ЗНУЦЬ *зак.* Засохнуць. *Краска заскарузла.* Малахоўцы Бар.

ЗАСКАРУПЕ′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а с к а р у́ б н у ц ь. *На балячцы струп; са струпом балячка заскарупее, а пад сподам балячка. Каша ў печэ заскарупела.* Мсцібава Ваўк.

ЗАСКАРЭ′ЦЬ *зак.* Засохнуць. *Заскарэла плеўка на ём.* Баброўнікі Гарад.

ЗАСКВА′РВАЦЬ *незак.* Запраўляць скварaным салам. *Сало трэбо пячы, а як суп, то трэбо засквapваць.* Міратычы Карэл.

ЗАСКВА′РЫЦЬ *зак.* Заправіць скварaным салам. *Трэба яго засквaрыць.* Новікі Гродз. *Скваркамі засквaрыш кашу.* Солы Смарг. *Трэба засквaрыць булён.* Кіралі Шчуч. *Засквaрыць кашу, а да бліноў трэба спячы сланіны.* Старыя Смільгіні Воран. *Засквapаць бонды — і добра.* Гемзы Шальч.

ЗАСКЕ′МА *м.* і *ж.* 1. Клопат. *Заскема мне ад вас.* Ністанішкі Смарг. 2. Чалавек, які перашкаджае. *Заскемай называюць чалавека, які замінае.* Жодзішкі Смарг. 3. Скупы чалавек. *Заскема ён, нігды ня вып'ець.* Магуны Паст.

ЗАСКЕ′МІЦЦА *зак.* Зажмурыцца. *Што ты заскеміўся?* Дакудава Лід.

ЗАСКЛЕ′ПІЦЬ, ЗАСКЛЯПІ′ЦЬ *зак.* 1. Запячатаць поўныя соты з мёдам. *А як у рамкі засклепіць, ён выпараўшы і можа стаяць.* Быстрыца Астр. *Пчолы засклaпілі рамкі.* Малахоўцы Бар. 2. Склеіць, зляпіць. *Ластаўка гняздо засклепіць харашо.* Жылі Іўеў.

ЗАСКЛЕ′ПЛЕВАЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а к л я́ п а в а ц ь. *Пчолы засклеплеваюць мёт.* Мсцібава Ваўк. *Мёт засклеплюююць.* Граўжышкі Ашм.

ЗАСКЛЕ′ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з а а ф т а в а́ н ы. *Засклеплены мет.* Граўжышкі Ашм. *Засклеплены мет у рамках.* Старыя Смільгіні Воран. *Засклеплены мёд зрэжу.* Мсцібава Ваўк.

ЗАСКЛЁП *м.* Запоўненыя мёдам соты, якія запячатаны воскам. *У рамках поўно мёду—гэто засклёп.* Малахоўцы Бар.

ЗАСКО'ЧЫЦЬ *зак.* Заспець. *Заскочыў дошч у дарозе.* Магуны Паст.

ЗАСКУ'ПА *прысл.* Скупавата. *Заскупа адважыў.* Паляцкішкі Воран.

ЗАСКУПІ'ЦЦА *зак.* Паскупіцца. *Даюць* [бульбу] *усюды, у нас — заскупіўся.* Асавец Віл.

ЗАСЛАНІ'ЦЬ *зак.* Закрыць. *Заслані печ засланкай.* Магуны Паст. *Засланіла агонь.* Баброўнікі Гарад.

ЗА'СЛАНКА, ЗАСЛО'НКА *ж.* Засланка. *Зачыні засланку печкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Трэба закрыць печ засланкай.* Кіралі Шчуч. *За засланкай стаіць суп.* Лісна В.-Дзв. *Засланку адніμі, выцягні чуган.* Малахоўцы Бар. *Закрый засланкай печ.* Беразіно Докш. *Засланка жалезная, што печ засланяць.* Гемзы Шальч. *Засланкай засланяюць печ.* Грыкені Вільн. *Засланка — засланяць печ.* Старыя Трокі Трак. *Засланкай закрывалі печ.* Баброўнікі Гарад. *Заслонка — печ засланяць.* Малькуны Ігн. *Закрыла заслонку, падабралася.* Масішкі Красл.

ЗАСЛА'ПКО *прысл.* Не вельмі добра. *Сёння спаў заслапко быў, то пайду трохі аддыхну.* Цярэшкі Ваўк.

ЗАСЛА'ЦЬ *зак.* Пакрыць чым-н. *Засцялю пасцель і засланая, пакуль спаць не легла.* Лісна В.-Дзв.

ЗАСЛО'НЬВАЦЬ *незак.* ◇ *Заслоньваць вочы* — засцілаць вочы. *Заслоньвая вочы, цёмна ў вачах.* Міратычы Карэл.

ЗАСМА'ГНУЦЬ, ЗАСМЯ'ГНУЦЬ *зак.* Высахнуць, перасохнуць. *Засмаглі, засохлі губы, як піць хочацца.* Новікі Гродз. *Засмяглі губы.* Крэва Смарг. *Засмягла ў роце.* Асавец Віл.

ЗАСМА'ЖЫЦЦЯ *зак.* Засмажыцца. *Вот каша ў печы добра засмажылася!* Кіралі Шчуч.

ЗАСМА'ЛІЦА *зак.* Падгарэць. *Як катора гаспадыня не дагодзіць печы, і добро хлеп засмаліца.* Баброўнікі Гарад.

ЗА'СМАРГА *гл.* ЗА'ШМАРГА

ЗАСМАРГНУ'ЦЬ *гл.* ЗАШМАРГНУ'ЦЬ

ЗА'СМАРШКА *ж.* 1. Тое ж, што і з а́ ш м а р г а 1. *Засмаршка на нітках.* Рыбчына Віл. 2. Тое ж, што і з а́ ш м а р г а 2. *На засмаршку завяжыць кашулю — даўна гаравалі людзі.* Саланое Віл.

ЗА'СМАТКА *ж.* Тое ж, што і з а́ ш м а р г а 1. *Засматкі на крутых нітках.* Каўняны Гродз.

ЗАСМЕ'РДЗІЦЦА *зак.* Засмярдзець. *Засмердзілася ў хаця.* Рыбчына Віл.

ЗАСМО'ЛАК *м.* Месца, дзе выступае смала. *Засмолкі ў дзеравя, смала выступая.* Дакудава Лід.

ЗАСМО'ЛКІ *мн.* Маладыя парасткі ў хваёвых. *Засмолкі ад усіх гучкоў растуць.* Рыбчына Віл.

ЗАСМО'РГНУЦЦА *зак.* Зацягнуцца. *Засморгнуўся узел.* Магуны Паст.

ЗАСМУЦІ′ЦЦА *зак.* Стаць сумным. *Засмуцілася баба.* Міратычы Карэл.

ЗАСМЯ′ГНУЦЬ *гл.* ЗАСМА′ГНУЦЬ

ЗАСО′РЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а п а р о́ ш ы ц ь. *Вока засорыў мыльным камнем і аслеп.* Ёдлавічы Брасл. *Вока засорыла.* Малькуны Ігн.

ЗА′СОЎКА *гл.* ЗА′САЎКА

ЗАСПА′КА, ЗАСПА′ХА *м.* і *ж.* Той, хто любіць многа спаць, соня. *Санлівы, заспака, усе спіць і спіць.* Альхоўка Навагр. *Заспаха натта любя спаць цёнгло, спіць і есць.* Гемзы Шальч.

ЗАСПА′ЦЦА *зак.* Праспаць залішне доўга. *Позна ўстала, заспалася.* Малькуны Ігн.

ЗАСПЕ′ЦЬ *зак.* 1. Застаць, знайсці. *Я яго не заспела ў хаці, ногі атсядзела* [чакаючы]. Малькуны Ігн. *Не заспела я яго ў хаця, яго ўжо не было.* Гемзы Шальч. 2. Дагнаць, злавіць. *Ён уцёк, і дзяцька яго заспеў.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАСПО′РЫЦЬ *зак.* Заспрачацца. *Адна з аднэй як заспоруць!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАСТА′ВА *ж.* Заклад. *Пажычая дзеньгі, ён прынясе заставу.* Быстрыца Астр.

ЗАСТАВА′ЦЦА *незак.* Заставацца. *Лён часалі, тады паклы заставаліся.* Грыкені Вільн.

ЗАСТА′ВІЦЬ I *зак.* Наставіць. *Палок быў у лазні, жорткаў заставяць сушыць лён.* Ракаўскія Швянч.

ЗАСТА′ВІЦЬ II *зак.* Прымусіць. *Заставіў яе пайсці за яго.* Кураполле Паст. *Гора да ўсяго заставя.* Солы Смарг.

ЗАСТАЛЯВА′ЦЬ *зак.* Накрыць столь. *Засталяваць хлеў нада.* Магуны Паст.

ЗА′СТАРАНКА *ж.* Адгароджанае месца ў гумне для складвання збожжавых, мякіны. *Застаранка ў гумне была.* Рагулішкі Даўг. *Застаранка ў гумне, мякіну ссыпалі.* Гемзы Шальч.

ЗАСТАРО′НАК, ЗА′СТАРАНАК *м.* 1. Тое ж, што і з а́ с т а р а н к а. *Пасярэдзіне стоцяў у гумне закладваліся застаронкі.* Магуны Паст. *Застаронак у таку, снапы складалі. Поўны застаронак называўся тарпа.* Груздава Паст. *Жыта складалі ў застаронку.* Рыбчына Віл. *Снопы звозят до клуні і складают у засторонок.* Дзмітравічы Кам. *Наклала поўны застаронак жыта.* Мачаск Бярэз. *Застаранкі жыта ў гумне.* Лайпушкі Ігн. *Для зярна застаронкі рабілі.* Быстрыца Астр. *У застаронак ссыпалі мякіну.* Саланое Віл. *Между осецью і токам быў застаронак мякіну ссыпаць.* Лісна В.-Дзв. *У застаронак мякіну ссыпалі.* Валынцы В.-Дзв. *Застаронак — што сыпалі вотрыны, мякіну.* Палік Барыс. 2. Бэлька, якая аддзяляе ток ад застаронка ў гумне. *Застаранак — гэта бэлька сподняя.* Чычалі Швянч.

ЗАСТАРЫ′ *прым.* Даволі стары. *Застарыя во шпалеры.* Магуны Паст. *Ён застары выглядая.* Вострава Маст.

ЗАСТАЎЛЯ′ЦЬ I *незак.* Прымушаць. *Ён застаўляў, а іна не пашла.* Лісна В.-Дзв.

ЗАСТАЎЛЯ′ЦЬ II *незак.* Устаўляць. *У калотку застаўлялі душу.* Сасноўка Смарг.

ЗАСТА′ЦЦА *зак.* Застацца. *Папрыкорчывала пальцы, і так засталася.* Саланое Віл.

ЗАСТА′ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а с п е́ ц ь 1. *Засталі яго дома.* Дакудава Лід. *Застала іх сплючы.* Старое Сяло Зэльв. *Ні застаў, яго дома німа.* Азяраны Раг. 2. Знайсці. *Дзеці засталі падштанікі ў рацэ.* Саланое Віл.

ЗАСТІБА′ТІ *зак.* Зашпіліць. *Застэбні сорочку, бо ходіш росхрыэстаны! Распорку застэбні!* Курашэва Чыж.

ЗАСТО′ЙЧЫК *м.* Вяршок. *Ты застойчык злі, будзіць смітанка, блінок памакнеш, а малачко еш.* Курaполле Паст.

ЗАСТРА′ГА *ж.* Перашкода, затрымка. *Там застрагі няма. Нека застрага на дарозе, што ён не прыехаў парой.* Альхоўцы Лях.

ЗАСТРАГА′ЦЬ *незак.* Чапляцца. *Застрагая клапаногая.* Рыбчына Віл.

ЗАСТРА′ГНУЦЬ, ЗАСТРЯ′ГНУТІ *зак.* 1. Загрузнуць. *З сенам застрагнуў: калная дарога.* Стральцы Гродз. *Машына застрагне, аткопваць ідзем.* Масілавічы Сл. *Застраглі колы ў гразі.* Галубы Маст. *Застраг воз на дарозі.* Навасёлкі Свісл. *Недзе застрах з возам. У балоце трактар застрагае.* Дзяніскавічы Ганц. *Хотів проіхаты с хурыю, да застряг в воротюх.* Сіманавічы Драг. 2. Затрымацца. *Карова целіцца, і цялёнак застраг, нада яго цягнуць. Курчо застрагла ў лупінца.* Рыбчына Віл.; *парайн.* польск. *zastrzęgnąć* 'засесці, застрагнуць', літ. *įstrìgti* 'тж'.

ЗАСТРАМІ′ЦЬ *зак.* 1. Загнаць стрэмку. *Застраміла палец.* Беразіно Докш. *Застраміла руку.* Гемзы Шальч. 2. Увагнаць асцюк у горла. *Нявеяны хлеп горла застрэміць.* Кіралі Шчуч.

ЗАСТРУПЕ′ЦЬ *зак.* Пакрыцца струпамі. *Рана заструпела.* Мсцібава Ваўк.

ЗАСТРЫГА′ЦЬ *незак.* Выстрыгаць валасы ў маладой у час вяселля. *Застрыгаюць маладую — выстрыгаюць валасы, акрыюць яе станінай.* Крэва Смарг.

ЗАСТРЭ′ШАК *м.* Частка страхі, якая звісае над хатай. *Бяжы пад застрэшак!* Магуны Паст. *Застрэшак нада пусціць бальшы, не так будзе дошч забіваць на сцяну, можна кладок дроў палажыць.* Гемзы Шальч. *Схавайся пад застрэшак ад дажджу.* Беразіно Докш.

ЗАСТРЭ′ШКА *ж.* Тое ж, што і з а с т р э́ ш а к. *Схавайся пад застрэшку, перачакай дождж!* Глівін Барыс.

ЗАСТРЭ'ШША *н.* Тое ж, што і з а с т р э́ ш а к. *Станавісь пад застрэшша, не так замочышся!* Мачаск Бярэз.

ЗАСТУПА'ЦЬ *незак.* 1. Засланяць, зацямняць. *Ні заступай агню!* Рыбчына Віл. *Не заступай свет!* Беразіно Докш. *Не заступай агонь!* Мішневічы Шум. 2. Перашкаджаць, замінаць. *Ідуць* [дзеці] *на шашу і машынам заступаюць.* Кіралі Шчуч.

ЗАСТУПІ'ЦЬ І, ЗАСТУПІ'ТІ *зак.* 1. Пачацца. *Вайна заступіла, яна забалела.* Дакудава Лід. 2. Акупіраваць. *Немец заступіў.* Альхоўка Навагр. 3. Замяніць. *Яна мне заступіла маму.* Валынцы В.-Дзв. *Як я нэ прыду до роботы, то ты мэнэ заступіш.* Курашэва Чыж. 4. Засланіць, зацямніць. *Ты мне заступіў агонь, схіліся ўбок!* Кіралі Шчуч. *Заступіў агонь.* Тухавічы Лях. *Заступіць святло можна.* Палік Барыс.

ЗАСТУПІ'ЦЬ ІІ, ЗАСТУПІ'ТІ *зак.* Зацяжараць. *Баяліся, што яна заступіла.* Крэва, Жодзішкі Смарг. *Ужэ тры рокі, як вышла замуш, і не можэ заступіті.* Курашэва Чыж.

ЗАСТЫГА'ЦЬ *незак.* Застываць. *Сала застыгаіць.* Магуны Паст. *Застых тлушч.* Быстрыца Астр. *Тлушч застыгая.* Жылі Іўеў., Ліпнікі Вільн.

ЗАСТЫ'ГНУЦЬ *зак.* 1. Загусцець. *Тлушч застыґня.* Старыя Смільгіні Воран. *Тлушч на холадзе застых.* Старыя Трокі Трак. 2. Астыць. *Можа, застыґлі макароны?* Чычалі Швянч. 3. Моцна замерзнуць. *Ён застых на вуліцы.* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *sustìngti* 'тж'.

ЗАСТЫ'НУЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а с т ы ґ н у ц ь 1. *Воск застыніць і цвёрды становіцца, з яго свечкі рабілі.* Валынцы В.-Дзв. 2. Тое ж, што і з а с т ы́ ґ н у ц ь 3. *Іна застыніць і гаварыць ня можыць.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАСТЫ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а с т ы́ ґ н у ц ь 1. *Не застыне жыр.* Ухвала Круп. 2. Тое ж, што і з а с т ы́ ґ н у ц ь 3. *На пале стаяў, застыў натта.* Крэва Смарг. *Нага застыла.* Мярэцкія Глыб.

ЗАСУВА'ЦЬ *незак.* Закрываць на засаўку. *Засуваіць дзверы на засаўку.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАСУВЕ'НЬ *м.* 1. Тое ж, што і з а́ с а в е н ь. *Засувень у дзверы, запіраяцца на яго.* Магуны Паст. 2. Тое ж, што і з а́ с а ў к а 3. *Пліту нацепліў, засунь засувень.* Магуны Паст. *Засувень засоўваяць* [у печы]. Груздава Паст.

ЗАСУ'НУЦЬ *зак.* Надзець, уздзець. *Рабачка засуняць на кручок і кідаяць вудачку.* Магуны Паст.

ЗАСУПО'НІВАЦЬ *незак.* Сцягваць ярмо. *Засупоніваць ярмо.* Крэва Смарг.

ЗАСУПО'НІЦЬ *зак.* 1. Сцягнуць клешчы хамута супоняй. *Засупонь каня!* Жодзішкі Смарг. *Каня трэба засупоніць.* Быстрыца Астр. *Трэба засупоніць каня.* Рыбчына Віл. *І праўда; у нас кажуць: «Засупонь каня».* Малахоўцы Бар. *Конь атсупоніўся, нада засупоніць каня.* Ёдлавічы Брасл. *Засупоніць ха-*

*мут трэба*. Гемзы Шальч. *Клешчы засупоніць*. Старыя Трокі Трак. *Засупонь каня!* Мешкінева Лудз. 2. Сцягнуць ярмо. *Заноза засупоніць валу вярмо*. Вялікія Баяры Шчуч.

ЗА'СУ'ХА *ж*. Засуха. *Бальшая за́суха, нет дажджу, сухоя лета*. Граўжышкі Ашм. *Не было за́сухі*. Альхоўцы Лях. *Калі будзя засу́ха, то прападзе картофля, там адзін пясок*. Кіралі Шчуч.

ЗАСЦЕ'НАК, ЗАСЦЯ'НАК *м*. Хутар або невялікі населены пункт. *Дзве і тры хаты — гэта засценак, а футар — адна хата*. Магуны Паст. *Швады — вёска і Швады — засцянак. Там колькі хат у засцянку? Дзе я жыву, то* **Грыкені**, *вёска, і за Нікалая вёска, і быў* **Грыкені** *засцянак, там хатаў пяць-шэсць, а вёска венкшая, хатаў двадзесце ў* **Грыкенях**. Грыкені Вільн.

ЗАСЦЕ'НІЦЦА *зак*. Зацягнуцца хмарамі. *Сёня будзя перамена, неба засценілася*. Дакудава Лід.

ЗАСЫ'КАЦЬ *зак. перан*. Пачаць сыкаць ад болю. *Засыкала, так балела*. Стральцы Гродз.

ЗАСЫ'ПАНЫ *дзеепрым*. Насыпаны. *У салянку соль засыпана*. Ракаўскія Швянч.

ЗАСЫ'ПАЦЬ *зак*. 1. Усыпаць. *Закіпяціў вадэ, засыпаў муке — і каша*. Кіралі Шчуч. 2. Насыпаць. *У свірне дабро засыпалі*. Ракаўскія Швянч. 3. Абсыпаць. *Яблыкамі засыпя сат*. Лісна В.-Дзв.

ЗАСЫ'ЦІЦЬ *зак*. Засаладзіць. *Трэба засыціць ваду мёдам. Засычоная вада — засаладзіць ваду мёдам*. Саланое Віл.

ЗАСЫЧА'ЦІ *зак*. Зашыпець. *Сеў на вужа, той як засычыт!* Вялікі Краснік Пруж.

ЗАСЫЧО'НЫ *дзеепрым*. Засалоджаны. *Мёдам засычоная вада*. Саланое Віл.

ЗА'СЯК *гл*. ЗА'СЕ'К

ЗАСЯКЛІ'ЦЬ *зак*. Запрудзіць, перагарадзіць. *Засякліў равок*. Дакудава Лід.

ЗАСЯЧЫ' *зак*. 1. Забіць. *Кап не дзяцюк, то ён засёк гэтага качара*. Кіралі Шчуч. 2. *перан*. Пакусаць. *Што ў гэным гушчары? Там жа мошка засячэ*. Рыбчына Віл. *Пчала можа засячы, еслі пчалу ўзлуць*. Быстрыца Астр.

ЗАТ *гл*. ЗАД

ЗАТАІ'ЦЬ *зак*. Схаваць. *Затаілі мяне ў зямлянкі*. Гемзы Шальч.

ЗАТАКА'ЛЬНІК *гл*. ЗАТЫКА'ЛЬНІК

ЗАТАМІ'ЦЦА *зак*. Стаміцца. *«Затаміўся, атпачні! — Адпачну»*. Альхоўцы Лях.

ЗАТАМІ'ЦЬ *зак*. Стаміць. *Ой, затаміў мяне*. Альхоўцы Лях.

ЗАТАНУ'ЦЬ *зак*. Прапасці. ∇ *Хай яно затане* [тое сала]! Бакшты Іўеў. *Хай яно затане тоўстым быць — параз'ядаліся, як лані*. Пацаўшчына Дзятл.

ЗАТАПІ'ЦЬ *зак.* Пачаць тапіць. *Затаплю баню, кап нагрэлася камення.* Груздава Паст.

ЗАТА'РАВАЦЬ *незак.* Насыпáць. *Затаравала бульбу ў мяшкі.* Саланое Віл.

ЗАТАРО'МСАНЫ *дзеепрым. безас.* Засмечаны. *Усюды затаромсана смеццям.* Ністанішкі Смарг.

ЗАТА'РЫЦЬ *зак.* Насыпаць. *Рас трыццаць мяшкоў затарылі* [бульбы] *дзеля двух рублей.* Саланое Віл.

ЗА'ТАЎКА *ж. кулін.* 1. Заправа, закраса. *Німа ў мяне затаўкі* [сала, мяса], *трэба купіць. Затаўкай затаўкалася страва.* Саланое Віл. *Гарох для беднага чалавека — затаўка.* Граўжышкі Ашм. *Костачка, мяса ў суп называяцца затаўка.* Багушэвічы Бярэз. 2. Здор. *Затаўкай затаўчы* [капусту]. Рудня Астравітая Чэрв. *Затаўкай — з чапца і жыру ат кішок.* Вецярэвічы Пух. *Затаўчэш затаўкай і ясі!* Малахоўцы Бар. *Затаўка — са сланіны ці любовага.* Міратычы Карэл. *Затаўка — гэта ў сярэдзіне ля кішок уздор, так яго кідаюць у капусту і называецца затаўка.* Тухавічы Лях.

ЗАТАЎКА'НЫ *дзеепрым.* Запраўлены. *Пакаштуйця нашай затаўканай капусты!* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗАТАЎКА'ЦЬ *незак.* Запраўляць. *Затаўкай затаўкалася страва.* Саланое Віл.

ЗАТАЎСЦЕ'ЦЬ *зак.* Зацяжараць. *Затаўсцела наша Ленка.* Кураполле Паст.

ЗАТАЎЧЫ' *зак.* 1. Заправіць затаўкай. *Затаўчы салам капусту.* Дакудава Лід. *Наварыла капусты, і німа чым затаўчы. Трэба капусту затаўчы здорам.* Кіралі Шчуч. *Затаўкай капусту!* Малахоўцы Бар. 2. Забіць. *Затаўклі яе сына, прышлі ўночы, пэльнулі.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *Камары мак затаўклі — будзіць цяпло.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАТАХА'ЦЦА *незак.* Задыхацца, затыхацца. *Рыба ў рацэ зімой затахаецца.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАТАХЦІ'ЦЬ *зак.* Прытаптаць. *Выкапаў ямку, палажыў рыпку і затахціў, кап зямля тужэй была.* Гемзы Шальч.

ЗА'ТВЕРАЛЫ толькі *мн. анат.* Дыяфрагма. *Затвералы — эта плева такая, што адзеляя кішкі ат серца.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. дыял. *žutvėralaĩ* (<*ažutvėralaĩ*) 'тж'.

ЗАТВО'РЫ толькі *мн.* Тое ж, што і з а́ т в е р а л ы. *Затворы каля лёгкіх, сэрца, печані.* Лісна В.-Дзв., Янова Рас.

ЗАТІЕ'НОК *м.* Цень. *Як сонцэ вельмі грэе, то добрэ в затіенкові посідіеті.* Курашэва Чыж.

ЗА'ТКА *ж.* Корак. *Затка — закрываць бутылку.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗАТКА'ЦЬ *зак.* Пачаць ткаць. *Трэба заткаць кросна.* Альхоўка Навагр.

ЗАТКНЁНЫ *дзеепрым.* Закупораны. *Віно заткнёна.* Лісна В.-Дзв.

ЗАТКНУ'ЦЬ *зак.* Закупорыць. *Цяпер коркаў німа, саўсём бляхай бутэлькі заткнуць.* Солы Смарг.

ЗАТЛІ'ГНУЦЬ *зак.* Адліжыць. *Як марос, а потым цяпло, то кажуць затлігла.* Мсцібава Ваўк.

ЗАТЛІ'ЦЦА *зак.* Пачаць тлець. *Лён затліўся — вярхі затліліся.* Мсцібава Ваўк.

ЗАТНУ'ЦЦА *зак.* Пакрыўдзіцца. *Як затнецца, то доўга не атпускаецца.* Гемзы Шальч.

ЗАТНУ'ЦЬ *зак.* Заткнуць. *Затні пляшку карушчыкам!* Стральцы Гродз.

ЗАТО'КА *ж.* Тое ж, што і з а́ в а н ь. *Затока, дзе вада прарываіць убок.* Курааполле Паст. *Затока — закутак, куды заходзіць вада, задзержываецца.* Жодзішкі Смарг. *Пастух пагнаўся да затокі* [рэчкі]. Ністанішкі Смарг. *У затоках вада стаіць.* Рыбчына Віл. *Затока была некаліcь. Бурча — велька гара, то там затока асачыста.* Смалякі Лід. *Па затоках расце кіюха.* Новікі Гродз. *За затокаю ўжэ попраталі сіено.* Курашэва Чыж.

ЗАТО'КАВІНА *ж.* Тое ж, што і з а́ в а н ь. *Затокавіна кала ракі і кала возіра.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАТО'КІ толькі *мн.* Раменныя лейцы. *Затокі размоклі і порвалісе.* Курашэва Чыж.

ЗАТО'Н *м.* Тое ж, што і з а́ в а н ь. *Каля рэчак затоны; у затоне бросня можа быць, вада стаіць, заходзіць ад рэчкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАТО'ПТАЦЬ *зак.* З'ездзіць. *Там узгорак быў, а гэто лужэчак, машыны затопталі.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАТО'РНУЦЬ, ЗАТО'РКНУЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а т н у́ ц ь. *Вушы заторнуў, не мог слухаць.* Валынцы В.-Дзв. *Абдзерыш біросту, завернеш, палачкай заторнеш — і гузавок для ягад.* Навікі Лудз. 2. Тое ж, што і з а с я к л і́ ц ь. *Гавораць, што ведзьма заторкнула рэчку грабёнкамі за тое, што ўтапіўся ведзьмін сын.* Ухвала Круп.

ЗАТО'РЫ *мн.* Паз у драўляным посудзе, куды ўстаўляюць дно. *У заторы дно ўкладаюць, у райчакі, і называюць іх заторы.* Альхоўцы Лях.

ЗАТО'ЎСТЫ *прым.* Тоўсты звыш меры. *Скарынка затоўстая, зімной вадой ні палівала хлеп, калі запякаўся.* Ракаўскія Швянч.

ЗАТО'ХЛІЦЬ *зак.* Пакінуць без увагі, запусціць. *Гаспадыня затохліла дзяжу; трэба бурачком выцерці дзяжу.* Граўжышкі Ашм.

ЗАТО'ХНУЦЦА *зак.* Задыхнуцца. *Затохнуцца можна.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАТО'ХЦІСЯ *зак.* Тое ж, што і з а т о́ х н у ц ц а. *Затохлася дзіця.* Ёдлавічы Брасл. *Чуць ні затохся, затохнуцца можна.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАТО'ЧКА *ж. памянш.* Крынічка. *Там заточка, у ей вада круціцца млынком, вір там, аш яма.* Гемзы Шальч.

ЗАТРАСА'ЦЬ *незак.* Трасучы, засыпаць чым-н. *Затрасае навозам, потым засыпая.* Крэва Смарг.

ЗАТРАСЦІ' *зак.* Тайна занесці што-н. *Прыносяць таракнаў у хату, кап другому затрасці.* Лісна В.-Дзв.

ЗАТРУ'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Загружаны (працай). *Я цяпер чалавек затруджаны.* Граўжышкі Ашм.

ЗАТРУДЗІ'ЦЦА *зак.* Запрацавацца. *Мела труду, затрудзілася.* Гемзы Шальч.

ЗАТРУДНЕ'НЯ *н.* Цяжкасць. *Вам затрудненя машыну выганяць.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *затруднение* 'тж'.

ЗАТРУСІ'ЦЬ, ЗАТРУСЕ'ЦЬ *зак.* Запарушыць. *Затрусіў вока.* Граўжышкі Ашм. *Затрусіла вока, парушына ўлезла.* Дакудава Лід. *Затрусіла вока — дастаюць языкам страмяку тую.* Кіралі Шчуч. *Затрусіла око.* Каўняны Гродз. *Ока затрусіў.* Вострава Маст. *Затрусеў око: смеціна пупала ў око.* Лука Нараўк.; *параўн.* літ. дыял. *trūšos,* літар. *trųšos* 'гной'.

ЗАТРУ'ТЫ *дзеепрым.* Атручаны. *Уся рыба затрута хеміяй.* Старыя Трокі Трак.

ЗАТРЫМА'ЦЦА *зак.* Запаволіцца. *Затрымалася рэчка, шаць зверху.* Старыя Трокі Трак.

ЗАТРЫМА'ЦЬ *зак.* Спыніць. *Але ш ні затрымаяш дошч.* Дакудава Лід.

ЗАТРЭ'СЦІ *зак.* 1. Задушыць. *Кап сабака затрос курыцу, другая знала п.* Жылі Іўеў. 2. Тое ж, што і затрусі́ць. *Затрос ока.* Быстрыца Астр., Старыя Смільгіні Воран. 3. *безас.* Затрэсці ад страху. *Ажны мяне як затрасець ат страху.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАТРЭ'СЦІСЯ *зак.* Задрыжаць. *У грудзях затрасецца, як увіджу яго.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сэрца затрэслася.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗАТУЖА'ЦЬ *незак.* Заціскаць. *У хадаках рэмянчык затужаў нагу.* Крэва Смарг.

ЗАТУ'ЛАК *м.* Прамежак паміж будынкамі. *Пакінулі малы затулак між будынкамі.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАТУЛІ'ЦЦА *зак.* Схавацца. *Яна дужа пераживала, што ліцо абгарэўшы, затуліцца за печку і не ішла да дзяўчат.* Рагулішкі Даўг.

ЗА'ТУЛКА *ж.* Засланка ў печы. *А дэ моя затулка, трэбо пієч закрыті.* Курашэва Чыж.

ЗАТУЛЯ'ЦЬ *зак.* Шчыльна завязаць. *Затуляй хусцінку!* Стральцы Гродз.

ЗАТУ'ПТАЦЬ *зак.* Задушыць. *Ужэ затупталі кураня.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАТУ'ХЛІНА *ж.* Вадаём са стаячай вадой. *Затухліна—дзе вада стаячая.* Рыбчына Віл.

ЗАТУ'ХЛІЦЦА *зак.* Пратухнуць. *Вада бываіць затухліцца.* Рыбчына Віл.

ЗАТХНУ'ТІСЕ *зак.* Задыхнуцца. *В хаті было так душно, што можно затхнутісе.* Курашэва Чыж.

ЗАТЫ'ЖЫЦЬ *зак.* 1. Прымусіць. *Яна мяне затыжыла.* Гемзы Шальч. 2. Зганяючы, сабраць у адно месца. *Хто іх там затыжыў* [пра авечак]?Бакшты Іўеў. 3. *перан.* Замучыць. *Яна затыжыла мужыка.* Бакшты Іўеў.

ЗА'ТЫК *м.* Тое ж, што і з а́ г в а з д к а. *Затыкі дзеравяны, кап кола не звальваліся, а ў жалезных — гайкі.* Альхоўцы Лях.

ЗАТЫКА'ЛЬНІК, ЗАТАКА'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і д а т ы к а́ л ь н і к. *Затыкальнікам затыкаюць кросна.* Лісна В.-Дзв. *Як затыкаеш кросны — затыкальнік.* Мішневічы Шум. *Затыкальнік прывязваюць, як затыкаюць і як канчаюць ткаць.* Едлавічы Брасл. *Затыкальнік — кусок з мацер'ялу, несём к ніткам, чтобы затыкаць.* Навікі Лудз. *Затыкальнік з палатна, з вероўкі, коб вілося палатно.* Лука Нараўк. *Затакальнік — сама затакаць кросна.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАТЫКА'Ч *м.* Тое ж, што і д а т ы к а́ л ь н і к. *Затыкач быў, як кросны затыкалі.* Сапоцкіна Гродз.

ЗАТЫ'М *прысл.* Таму. *Затым я доўга так быў.* Дакудава Лід.

ЗАТЫ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і з а́ г в а з д к а. *Затычка—што ў вось утыкалася, кап кола не спадала.* Мсцібава Ваўк.

ЗАУГО'ЛЬНІК *м.* Тое ж, што і з а т у́ л а к. *Заугольнік паміс хатамі.* Рыбчына Віл.

ЗАУ'ЗДЫВАЦЬ *незак.* Закілзваць. *Зачэм зауздываць каня?* Пасіене Лудз.

ЗАУМЕ'ННЫ *гл.* ЗАГУМЕ'ННЫ

ЗА'УШНІЦА *ж. мед.* Свінка. *Заушніца — хвароба залос каля горла. Бываіць, заушніца зажымаіць, і можа падохці* [свіння]. Саланое Віл.

ЗАУ'ШНІЦЫ *мн.* Завушніцы. *Заушніцы купіла.* Лука Нараўк.

ЗАЎДАВА'ЦЬ *незак.* Даносіць на каго-н. *Пашоў заўдаваць.* Вострава Маст.

ЗАЎДАВЕ'ЦЬ *зак.* Аўдавець. *Заўдавела маладая.* Саланое Віл.

ЗАЎДА'ЦЬ *зак.* Данесці на каго-н. *Солтус заўдаў, і яго забілі.* Баброўнікі Гарад.

ЗАЎДУ'ХА *ж.* Задышка, дыхавіца. *Заўдуха гэдакая сільная.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАЎЗДА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а к е́ л з а ц ь. *Заўздай каня!* Пасіене Лудз.

ЗАЎЗЕ'НТЫ, ЗАЎЗЕ'НТНЫ *прым.* Заўзяты, настойлівы. *Заўзенты чалавек: дзень і ноч працуе.* Гемзы Шальч. *Вот ён*

*зайзенты!* Малахоўцы Бар. *Яна такая зайзентая да пісання! Ён такі зайзентны, ён хварэя і робіць.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *zawzięty* 'тж'.

ЗАЎЗІМА'ЦЦА *незак.* Заступацца. *Зачым я так зайзімаюся, я сэрца выяла з-за сына! Чалавек за чалавека зайзімаецца.* Граўжышкі Ашм. *Адзін другога б'е, а трэці зайзімаецца.* Жылі Іўеў. *Зайзімаецца яна за яе.* Бакшты Іўеў. *Яна зайзімаецца за дзейку.* Міратычы Карэл.

ЗАЎЗЯ'ЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Зайзялася й вабіду ды й злосць зайзімуся.* Міратычы Карэл.

ЗАЎМЕ'ННЫ *гл.* ЗАГУМЕ'ННЫ

ЗАЎРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Пашкодзіць. *Рыба патруцілася, вышайцы наверх; яе лавілі, елі, ні зайрадзіла нікому.* Ракаўскія Швянч.

ЗАЎСЕ'М, ЗАЎСЁМ *прысл.* Зусім. *Лесу зайсем нема.* Крынкі Крын. *Зайсём высахла і памярла.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* руск. *совсем* 'тж'.

ЗАЎСТРЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а с т р а́ г н у ц ь 2. *Цялёнак зайстрэй у каровы, ні выходзіць. Такое бывае, можыць зайстрэць.* Мярэцкія Глыб.

ЗАЎСЮ'ДЫ *прысл.* Заўсёды. *Зайсюды ён у сяле. Ён ні ганій, я зайсюды ганіла.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАЎСЯГДЫ', ЗАЎСЯГДА' *прысл.* Тое ж, што і з а ў с ю́ д ы. *Зайсягды прыходзя рана.* Лісна В.-Дзв. *Зайсягды бый у хаце.* Рыбчына Віл. *Зайсягда прывязе мне з горада.* Масілавічы Сл.

ЗАЎФА'НЫ *прым.* Шустры, непаседлівы. *Хлопяц такі зайфаны: тут есць, а тут. глядзі—дзе коні* [каля коней]. Жодзішкі Смарг.

ЗАЎЦЕ'ХНІК *м.* Заатэхнік. *Скаціна балеіць, а зайцехніка няма.* Асавец Віл.

ЗАЎЧА'СУ *прысл.* Заўчасна. *Нівелькія агуркі, узяліся расці зайчасу.* Граўжышкі Ашм.

ЗАЎЧО'РА, ЗАЎЧАРА', ЗАЎЧАРА'Х, ЗАЎЧАРЫ'Х *прысл.* Заўчора. *Зайчора Олеся нашла соннага* [свайго мужа] *у лесе.* Ёдлавічы Брасл. *Прырэзалі зайчора цялушку.* Магуны Паст. *Зайчара прыхадзіл.* Пасіене Лудз. *Карову здала зайчарах.* Груздава Паст. *Зайчарых прыяжджалі да іх.* Асавец Віл. *Зайчарых прыехай.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗА'ЎШЭ, ЗА'ВША, ЗА'ВШЭ *прысл.* Заўсёды. *Вясной яна зайшэ пасля зімы заігрывая.* Дакудава Лід. *Зайшэ адно і тое вару.* Міратычы Карэл. *Ты да мяне зайшэ прыягджай!* Галубы Маст. *Зайшэ адразу атнімаем* [цялят], *калі мы з імі чыкаемся.* Мсцібава Ваўк. *Зайшэ чуеш, як вона чытае.* Смаляніца Пруж. *Зайшэ шкадуе даці.* Ялова Пруж. *Яна зайшэ сядзела на сваём ганку.* Старое Сяло Зэльв. *Завша, цёнгля — гэта два словы*

*ест* [у адным значэнні]. Паляцкішкі Воран. *Завшэ продаемо.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *zawsze* 'тж'.

ЗАФАРБАВА'ЦЬ *зак.* Забрудзіць фарбай. *Яна прытулілася да бляхі і зафарбавала хустку.* Кіралі Шчуч.

ЗАФУНДАВА'ЦЬ *зак.* Пачаставаць. *Зафундаваць нада, кап зрабіў варота.* Крэва Смарг. *Калі ні зафундуеш, то ён ні паслухая.* Кіралі Шчуч. *Трэба зафундаваць чалавека.* Альхоўка Навагр. *Зафундаваць — барыш паставіць, угасціць; вот зафундавала!* Альхоўка Навагр.; *параўн.* польск. *zafundować* 'тж'.

ЗАФУНДЗІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а ф у н д а в á ц ь. *Зафундзіў яму добра.* Граўжышкі Ашм.

ЗАХА'БАВІНА *ж.* Затока. *Захабавіна ад возіра, не прамая, а заходзіць у сторану.* Лісна В.-Дзв.

ЗАХАДЗІ'ЦЦА *незак.* Заходзіць. *Баяркі* [таварышкі нявесты] *заходзяцца ў хаты і просяць дзевак, кап прышлі на вянок. Мы захадзіліся на кароўнік.* Магуны Паст.

ЗАХАДЗІ'ЦЬ *незак.* Пачаць моцна грымець. *Гром захадзіў.* Рагулішкі Даўг.

ЗАХА'КАЦЦА *зак.* Задыхацца. *Захакаюся, замаруся, пакуль прыду.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАХАЛАДА'ЦЬ *зак.* Пахаладаць. *Захаладала, не расце гародніна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Як захаладала, я думала — пацепляя.* Альхоўцы Лях.

ЗАХАЛАДНО' *гл.* ЗАХО'ЛАДНА

ЗАХАПІ'ЦЬ *зак.* Заспець. *Не захапіла аўтобус.* Альхоўка Навагр.

ЗАХАРАНЯ'ЦЦА *незак.* Хаваць памёршых. *Можа так, як на замкý* [на зáмку], *захараняліся?* Старыя Трокі Трак.

ЗАХА'ЦІНА *ж.* Тое ж, што і з а х á б а в і н а. *Захаціна тут ест, гаворацъ і затока.* Каўняны Гродз.

ЗА'ХАЦЬ *м.* Захад. *Сонца ўжэ на захаць.* Індра Красл.

ЗАХВАРЭ'ЦЬ *зак.* Стаць хворым. *Са страху захварэла.* Сакаляны Сакол.

ЗАХВА'Т *м.* Улоў. *За адзін захват семдзісят дзве тона рыбы злавілі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАХВА'ТАВАЦЬ *незак.* Захопліваць. *Я захватаваю работу ўсю.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАХВО'РАВАЦЬ *незак.* Хварэць. *Захворавая даўно ўжо.* Лісна В.-Дзв.

ЗАХВО'СЛІВЫ *прым.* Тонкі, пасечаны (пра валасы). *Захвослівыя косы зрабіліся.* Граўжышкі Ашм.

ЗАХВЫЦЭ'НЁ *н.* Летаргічны сон. *Была дваццаць пяць дзён у захвыцэнё і бачыла ўсіх мяртвых.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *zachwycenie* 'тж' (СВ, VIII, 42—43).

ЗАХІ'ЛАВАЦЦА *незак.* Абкручвацца. *Вяс захілаваецца кругом капыла.* Чычалі Швянч.

ЗАХІ'ЛЕНЫ *дзеепрым.* Загнуты. *Палазы захілены.* Малькуны Ігн.

ЗАХІЛІ'ЦЦА *зак.* Павярнуць, завярнуць. *Яны вось і захіліліся на Петручковы надворак.* Галубы Маст.

ЗАХІЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Падабраць пад сябе. *Захілю валасы і сяду на іх.* Крэва Смарг. 2. Загнуць. *Захіліць прэнт кручком.* Гемзы Шальч. *Бацька мой рагуці* [сані] *захіліць.* Малькуны Ігн.

ЗАХІНУ'ЦА *зак.* Тое ж, што і з а т у л і ц ц а. *Асталася неяк, захінулася.* Індра Красл.

ЗАХІНУ'ЦЬ *зак.* Схавацца, забегчы. *Кап за які куст захінуў, дык знойдуць, яны* [фашысты] *с сабакамы выцягнуць і застрэляць.* Кураполле Паст.

ЗАХЛО'ПНУЦЬ *зак. мед.* Закупорыцца. *У мяне захлопнула жыла* [вена]. Крэва Смарг.

ЗАХЛЫНУ'ЦЦА *зак.* Захліпнуцца. *П'ючы, захлынуцца можна.* Граўжышкі Ашм.

ЗАХЛЮ'БАК *м.* Вадкая страва, якой заядалі кашу, бліны. *Прыварку зварыла на захлюбак.* Кураполле Паст.

ЗАХЛЮБНУ'ЦЬ *зак.* Заесці кашу, бліны вадкай стравай. *Ці ёсь што захлюбнуць?* Кураполле Паст.

ЗАХЛЮ'НДРАЦЦА *зак.* Зрабіцца неахайным. *Захлюндралася і ходзіць.* Кураполле Паст.; *парайн.* ням. *Plunder* 'рвань', *plunderig* 'неахайны, нядбайны'.

ЗАХМУРНЕ'ЦЦА *зак.* Захмарыцца. *Перахвалілі пагоду, захмурнела быстра.* Кіралі Шчуч.

ЗАХО'Д, ЗАХО'Т *м.* 1. Захад. *Зара — пры заходзя слонца.* Магуны Паст. *Слонка ідзе на захот.* Ракаўскія Швянч. 2. Асобнае дзеянне з тых, што паўтараюцца. *З дзесяці заходаў кашолку рыбы натрос.* Бакшты Іўеў.

ЗАХО'ДАЦЦА *зак.* Стаміцца. *Заходаішся лётаючы, дык спіш, што забіты.* Оцкавічы Паст.

ЗАХО'ДЗІЦЦА *незак.* Нястрымна плакаць, смяяцца. *Як дзіця крычыць моцно ды зайдзецца, нежывое робіцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Смяюцца з мяне, заходзяцца.* Солы Смарг.

ЗАХО'ДЗІЦЬ, ЗАЙХО'ДЗІЦЬ *незак.* Заходзіць куды-н. *Два разы заходзіла. У хату ні заходзюць.* Саланое Віл. *Ні craня заходзіць.* Альхоўка Навагр. *Ганка ні зайходзіла.* Навасёлкі Свісл. *Не люблю, як мой стары зайходзіць.* Міратычы Карэл. *Ена не зайходзіць, нечага дунецца.* Альхоўцы Лях.

ЗАХО'ДКА, ЗАХО'ТКА *ж.* Наведанне. ∇ *Німа клаткі — німа і перахоткі, німа маткі — німа і захоткі.* Кураполле Паст.

ЗАХО'ДЛІВЫ *прым.* 1. Схуднелы, аслаблены. *Заходлівыя мы бапкі зрабіліся.* Старыя Трокі Трак. *Заходлівая скаціна — худая пад вясну.* Мярэцкія Глыб. 2. Заразны. *Заходліва балесь якаясь.* Старыя Трокі Трак.

ЗАХО'ДЛЫ *прым.* Аплоднены (пра яйцо). *Яйка заходлая.* Рагулішкі Даўг., Лайпушкі Ігн., Ёдлавічы Брасл.

ЗАХО'ДЫ *мн. перан.* Адхіленне ад нормы. *У Салуні многа заходаў.* Рагулішкі Даўг.

ЗАХО'ЛАДНА, ЗАХАЛАДНО' *прысл.* Вельмі холадна. *Можа, захоладна будзя?* Стральцы Шальч. *Будзя захаладно, трэба накласці куфайку.* Мсцібава Ваўк.

ЗАХО'Т *гл.* ЗАХО'Д

ЗАХО'ТКА *гл.* ЗАХО'ДКА

ЗАХРА'СНУЦЬ *зак.* Закласці, закрыць. ∇ *Дайця яму сыра, кап яму горла захрасла!* Ністанішкі Смарг.

ЗАХРУ'СНУЦЬ *зак.* Перасохнуць. *Канава захрусла.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАХУДЗЕ'ЦЬ *зак. безас.* Занудзіць. *Нешта мне захудзела.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАХУТАВА'НЫ *дзеепрым.* Завязаны. *Боп не захутаваны стаяў* [незавязаны ў мяху]. Саланое Віл.

ЗАЦА'МАР *м.* Від малатка. *Зацамар — малаток такі, заганяць рэхву дзе-коляк: адзін бок шырокі, а другі — цыбант. Кагда падагнаць большым малатком, не прыцукруеся, прыстаўляя зацамар і б'е другім малатком і заганяя прадмет на места.* Гемзы Шальч.

ЗАЦВЁРДЫ *прым.* Цвёрды звыш меры. *Зацвёрда, не зварылася картошка.* Паляцкішкі Воран.

ЗАЦВІСЦІ', ЗАЦВЫСЦІ' *зак.* 1. Пачаць цвісці. *Зацвіў мак.* Дзяніскавічы Ганц. *Зацвылі сады.* Рыбчына Віл. 2. Пакрыцца цвіллю. *Зацвіў хлеп.* Кураполле Паст., Гемзы Шальч. *Сыр ляжаў, аш зацвіў.* Кіралі Шчуч. *Зацвіў сыр, зялёнай плесняй пакрываецца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сыр зацвіў.* Каўняны Гродз. *Смятана зацвіла.* Номікі Бабіц. *Зацвіў ужо хлеп, доўга паляжаў.* Баброўнікі Гарад. *Хлеп зацвыў, аш зялёны зрабіўся.* Саланое Віл.

ЗАЦВІТА'ЦЬ *незак.* Пачынаць цвісці. *Маўра белянькая зацвітая.* Быстрыца Астр.

ЗАЦВІЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а ц в і с ц і 1. *Сады как зацвіцяць: праз дзярэўню прайдзяш — сады цвіцяць.* Скрыпчына Лудз. *Зацвіцець грыка, то пах — запах мёду.* Швэды Вільн. 2. Тое ж, што і з а ц в і с ц і 2. *Хлеп зацвіцеў.* Індра Красл.

ЗАЦЕ'КА'ЦЬ *незак.* Зацякаць. *Зрабіў дашак нат стогам, кап ні зацекáла.* Рыгалоўка Ліпск. *Нада стрэшку зрабіць, кап не зацéкала.* Бакшты Іўеў.

ЗАЦЕ'НКА *прысл.* Вельмі тонка. *Заценка намазала шмэльцам.* Гемзы Шальч.

ЗАЦЕ'НТНЫ *прым.* Упарты. *Зацентны длуга не атпусціцца.* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *zacięty* 'тж'.

ЗА'ЦЕНЬ *ж.* Тое ж, што і з а т і е́ н о к. *В зацені сцікаіт расценія — буракі, картошка.* Рагулішкі Даўг.

ЗАЦЕ'РКА *гл.* ЗАЦІ'РКА

ЗАЦЁРЦІ *зак.* Зацерці. *Нада заціркі зацёрці.* Кураполле Паст.

ЗАЦІЛІФАНАВА'ЦЬ *зак.* Пазваніць па тэлефону. *Яна заціліфанавала яму.* Кураполле Паст.

ЗАЦІ'НГЛІВЫ *прым.* Наравісты. *Конь зацінґлівы, наравісты, хоць ты пад хвост яму ялаўчыну падкладай.* Пацаўшчына Дзятл. *Зацінґлівы конь: панясе з возам ці верхам хто сядзе.* Галубы Маст.; *параўн.* літ. *tingùs* 'гультаяваты'.

ЗАЦІ'РКА, ЗАЦЕ'РКА *ж. кулін.* Зацірка. *Зацірку варылі.* Ёдлавічы Брасл., Саланое Віл., Гемзы Шальч. *Нада заціркі зацёрці.* Кураполле Паст. *Зацірку з мукі варылі.* Кемялішкі Астр. *Глядзіця, кап зацірка ні ўцякла!* Солы Смарг. *Зацірку гатавалі.* Старыя Трокі Трак. *Будзяця есці зацірку?* Дакудава Лід. *Зацерка варыцца.* Пацаўшчына Дзятл. *А зацерка найлепш на вачэру.* Вялікі Краснік Пруж.

ЗАЦІРУ'ХА *ж.* Тое ж, што і з а ц і р к а. *Сёня наварыла заціру́хі.* Кіралі Шчуч.

ЗАЦІРУШЫ'ЦЬ, ЗАЦЯРУШЫ'ЦЬ *зак.* 1. Прысыпаць. *Заціру́шыла сляды снегам.* Саланое Віл. 2. Запарушыць. *Зацярушыў вока.* Магуны Паст., Солы Смарг. *Зацярушыў воко, парушына папала.* Малахоўцы Бар.

ЗАЦІ'СКАЦЬ *зак.* Задушыць. *Заціскала жука.* Валынцы В.-Дзв.

ЗАЦІСКА'ЦЬ *незак.* 1. Сціскаць звязваючы. *Калі вяжуць сноп, шпулём заціскаюць.* Воўкуш Ліпск. 2. Задушваць. *Курыцу да смерці не заціскалі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАЦІ'СНУЦЬ *зак.* 1. Шчыльна абступіць з усіх бакоў. *Заціснець, як ты яго пазнаеш?* Груздава Паст. 2. Тужэй завязаць. *Нада заціснуць больш, аш баліць пятка.* Ёдлавічы Брасл. 3. Здушыць. *Горла заціснула, і памёр.* Лайпушкі Ігн. 4. Задушыць. *Заціснула* [свіння] *парася.* Быстрыца Астр.

ЗАЦІСНЯ'ЦЬ *незак.* Прыгнятаць. *У старой Польшчы заціснялі народ.* Чычалі Швянч.

ЗАЦКАВА'ЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Зацкаваў сабакам.* Саланое Віл. *Зацкаваў сабакам карову.* Гемзы Шальч.

ЗАЦМЫ'ЖЫЦЬ *зак.* Зрабіць надрэз. *Плашку зацмыжуя, робіць вузянькі верх, дзе будзе нажом шчапаць.* Гемзы Шальч.

ЗАЦУГЛЯ'ЦЬ *зак.* Закілзаць. *Цуґлямі зацуґляй каня!* Жодзішкі Смарг. *Зацуґляць каня.* Старыя Трокі Трак. *Нада зацуґляць каня.* Рыбчына Віл., Глівін Барыс. *Вазьмі зацуґляй каня!* Пацаўшчына Дзятл. *Калі конь пудлівы, то трэба зацуґляць каня.* Альхоўцы Лях.

ЗАЦУКРАВА'НЫ *прым.* Загусцелы (пра мёд). *Зацукраваны мёт.* Саланое Віл.

ЗАЦЫМАНТАВА'ЦЬ *зак.* Зацэментаваць. *Нада зацымантаваць ганак.* Кураполле Паст.

ЗАЦЫРАВА'ЦЬ *зак.* Залатаць цыруючы. *Я зацырую тую калыску.* Стральцы Шальч.

ЗАЦЫ'РКНУЦЬ *зак.* Закапаць, запырснуць. *Зацыркні сіськай вочка* [у дзіцяці], *як пачырванеіць.* Кураполле Паст.

ЗАЦЭ'ПВАЦЬ *незак.* Прычэпліваць. *Да верхіка ў кроснах зацэпваюць набільніцы, нічальніцы.* Стральцы Гродз.

ЗАЦЭ'ПЛЯНЫ *дзеепрым.* Прычэплены. *Зацэпляна клямка, каб дзверы не атчыняліся.* Магуны Паст.

ЗАЦЭРАВА'ЦЬ *зак. перан.* Запячатаць соты ў вуллі. *Зацэравалі пчолы рамку з мёдам, нада выразаць мёт.* Кураполле Паст.

ЗАЦЯ'ГАВАЦЬ *незак.* Закладаць. *У азяроды зацягавалі снапы.* Жылі Іўеў.

ЗАЦЯ'ГА'ЦЬ *незак.* 1. Уцягваць. *Зацяга́еш шнурок?* Нізок Уздз. *Зацягую нітку ў голку.* Дзяніскавічы Ганц. *Зацягая нітку ў голку.* Альхоўцы Лях. 2. Зацягваць. *Распонкі — дзве зложаныя дошчачкі — распінаюць палатно, каб не зацягало ў бердо.* Лука Нараўк. 3. *безас.* Закладваць нос. *Зацягуя нос.* Жылі Іўеў.

ЗАЦЯ'ГВАЦЬ, ЗАЦЯ'ГІВАЦЬ, ЗАЦЯ'ГУВАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і з а ц я г а́ ц ь 1. *Банкрутку* [вяровачку] *скруцім і зацягваем у вантробы.* Гемзы Шальч. 2. *безас.* Пакрываць тонкай плёнкай (пра вока). *Што табе і другое око зацягіваіць?* Саланое Віл. 3. Усцягваць. *Зацягувай каранікі на дзерава.* Старыя Смільгіні Воран. 4. Класці. *Нада засеч у балкі шып і шленгі зацягіваць.* Скрудалена Даўг.

ЗАЦЯ'ГЛЫ *прым.* Зацяжны. *Еслі зацяглая хвароба, то нада напраўленя з раёнай бальніцы.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАЦЯ'ГНЕНЫ *дзеепрым.* 1. Уцягнуты. *Нітка зацягнена.* Асавец Віл. 2. Пацягнуты, сцягнуты. *Зацягнены бераг* [палатна]. Новікі Гродз.

ЗАЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Уцягнуць што-н. *Іголкі ні зацягну.* Міратычы Карэл. *Трэба зацягнуць нітку ў голку.* Альхоўцы Лях. 2. Цягнучы, даставіць куды-н. *Трэба ў патпаветку вос зацягнуць.* Мсцібава Ваўк. 3. Прадоўжыць час работы. *Там ёй зацягнулі змену на пікарні.* Міратычы Карэл. 4. Нацягнуць, каб закрыць што-н. *Зацягнуць трэба фіранкі, ужо цёмна.* Солы Смарг. 5. Паказаць пры ўзважванні пэўную вагу. *Інцярэсна, сколькі яна* [свіння] *зацягня?* Вязынка Маладз. 6. Зарасці. *Зацягнуло зелье буракі, моркву.* Мсцібава Ваўк. 7. *безас.* Пакрыць тонкім слоем. *Зацягнула тонкім лятком.* Жодзішкі Смарг.

ЗАЦЯ'ГУВАЦЬ *гл.* ЗАЦЯ'ГВАЦЬ

ЗАЦЯ́ЖНЫ *прым.* Працяглы. *Зацяжны дошч будзе доўга ісці. Хмара зацяжная; хмара надыходная.* Граўжышкі Ашм.

ЗАЦЯМІ́ЦЬ *зак.* Засланіць святло каму-н. *Ты мне зацяміў. Не цямі!* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАЦЯМНЕ́ЦЬ *зак. безас.* Сцямнець. *Зацямнела, і дошч ідзе.* Гемзы Шальч.

ЗАЦЯМНІ́ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а ц я м і ц ь. *Зацямніла мне свет.* Груздава Паст.

ЗАЦЯМНЯ́ЦЬ *незак.* Засланяць святло каму-н. *Ні зацямняй, нічога ні бачу!* Жодзішкі Смарг. *Зацямняюць свет.* Ністанішкі Смарг.

ЗАЦЯРУШЫ́ЦЬ *гл.* ЗАЦІРУШЫ́ЦЬ

ЗАЦЯ́ТЫ *прым.* Упарты. *Яна такая зацятая: пяць гадоў можа не гаварыць.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *zacięty* 'тж'.

ЗАЦЯ́ЦЦА *зак.* Праявіць скупасць. *А тады зацяўся і ня стаў грошы траціць.* Крэва Смарг.

ЗАЦЯ́ЦЬ *зак.* Набіць. *За што ён цябе зацяў?* Тухавічы Лях. ◇ *Духі зацяла*—спынілася дыханне. *Духі зацяла, і не гавару.* Рагулішкі Даўг. *Не будзе рук (рукі) за што зацяць*—не будзе з чаго пачаць жыццё. *Будзя жаніцца — не будзя рукі за што зацяць.* Бакшты Іўеў. *Рук зацяць незачам.* Семежава Кап.

ЗАЧА́ВІТІ *зак.* Тое ж, што і з а ц і с к а ц ь. *Ястраб курку зачавів.* Курашэва Чыж.

ЗАЧА́ДЗЕЦЬ *зак.* Учадзець. *Зачадзела я.* Кнышэвічы Бабіц.

ЗАЧА́ІТІСЕ *зак.* Схавацца, затаіцца. *Зачаівсе, што ніхто його нэ бачыв.* Курашэва Чыж.

ЗАЧАПА́ЦЦА *незак.* Чапаць каго-н. *Не зачапайся ты з імі.* Мсцібава Ваўк.

ЗАЧАПА́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а ч а п а́ ц ц а. *Не зачапай нічога!* Галубы Маст. *Не трэбо яе* [курыцу] *зачапаць, хай сядзіць.* Мсцібава Ваўк.

ЗАЧАПІ́ЦЬ *зак.* 1. Выпадкова закрануць што-н. *Можа, корань зачапіў аручы?* Груздава Паст. 2. Падчапіць. *Зачапілі за раге карову і павалілі.* Бакшты Іўеў. 3. Змацаваць. *Я відала: чатыры колікі зачэпіць і вешаіць калыску.* Індра Красл. 4. *перан.* Пачаць гаворку з кім-н. *Зачапі яго — не абярэсся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Старога і малога зачэпя.* Солы Смарг. 5. Дакрануцца. *Падушкі штаб ні зачапілі.* Лісна В.-Дзв.

ЗАЧАПЛЯ́ЦЦА *незак.* Чапляцца за што-н. *Вяроўка длуга зачапляяцца.* Быстрыца Астр.

ЗАЧАПЛЯ́ЦЬ *незак.* Чапляць. *На казыркі* [загнутая частка палазоў] *зачаплялі сеткі такія, штобы снех не пападаў.* Судэрва Вільн.

ЗАЧАРЕ́НЫЙ *дзеепрым.* Запоўнены (лічынкамі пчол). *Усе рамкі зачарёныя.* Прэдэ Даўг.

ЗАЧАРЭ′ПАЦЬ *гл.* ЗАЧЭ′РПАЦЬ

ЗАЧАРЭ′ПНУЦЬ *зак.* Зачарпнуць. *Зачарэпні мне вады!* Вязынка Маладз.

ЗАЧАСА′НЫ *дзеепрым.* Зачэсаны. *Валасы ні зачасаныя.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл.

ЗАЧА′СКА *ж.* Кнопка. *Зачаскі прышываюць у блюскі.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *zatrzask* 'тж'.

ЗАЧА′ЦЦА *зак.* 1. Пачацца (пра падзеі). *Вайна зачалася, і хлопяц радзіўся.* Быстрыца Астр. 2. Пачаць што-н. рабіць. *У калхос зачаўся хадзіць.* Быстрыца Астр. 3. Заснавацца. *Як зачаўся калхос, мы жылі ў другой хаце.* Быстрыца Астр.

ЗАЧА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а ч а́ ц ц а 2. *Як зачнуць біцца!* Ракаўскія Швянч. *Зачалі ў Літву ездзіць.* Малькуны Ігн. *Цяпер зачалі класці стагі. Зачаў курыць. Руку так узяла, зачало калоць, цярпець ня мох.* Старыя Трокі Трак. *Зачне калоць* [руку] *ад локця.* Лоск Валож. *Зачалі рабіць хату.* Паляцкішкі Воран. *Нага была чырвона, мы ўзналі, е то рожа, зачалі ее выпаліваць.* Сакаляны Сакол. *Пазней зачала свіні, гусі карміць.* Навадворцы Васільк.; *параўн.* польск. *zacząć* 'тж'.

ЗАЧО′НТАК *м.* Пачатак. *Зачонтак зімы.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *zaczątek* 'тж'.

ЗАЧО′РСТВЯЦЬ, ЗАЧЭ′РСТВЕЦЬ *зак.* Зачарсцвець. *Хлеп зачорствяя.* Белы Бераг Іўеў. *Зачэрсцвеў хлеп.* Альба Нясв.

ЗАЧУ′ЦЬ *зак.* Пачуць. *Як зачуіць конь ваўка — храпіць.* Валынцы В.-Дзв. *Як зачуў гэта малойчык: «Ні плач, Нінка, ні бядуй, я горкую лялею пакашу, а сырую пшанічку патсушу і ў млыні змалю».* Валодзькі Маладз.

ЗАЧЫКІЛЬДА′ЦЬ *зак.* Закульгаць. *Зачыкільдаў, нага баліць, ня можа ісці.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* літ. *čikìlda* 'няветлівая жанчына'.

ЗАЧЫ′М *прысл.* Чаму.▽ *Зачым я цябе калекай не выгадавала?* — галашэнне. Граўжышкі Ашм.

ЗАЧЫНА′ЦЬ *незак.* Пачынаць. *Квеліцца дзіця — зачыная плакаць. Посля Яна зачынаюць касіць.* Старыя Трокі Трак. *Як раструюся, зачынаю дзерціся.* Крэва Смарг. *Кагда зруп зачынаюць, скока грошай у вугол кладуць, каб багата жылося.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зачыная мяне кніціць, каб што выпіць.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАЧЫ′НЕНЫ *дзеепрым.* Запёрты. *Свіні не зачынены.* Паляцкішкі Воран.

ЗАЧЫНІ′ЦЬ, ЗАЧЫНУ′ЦЬ *зак.* Зачыніць. *Зачыні дзверы!* Альхоўка Навагр. *Я зачыню дзверы.* Рудня Астравітая Чэрв.

*Ён зачынуў дзверы. Трэба зачынуць дзверы. Я зачыну.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗАЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Закрываць, закладаць. *Трэба зачыняць юшку.* Гемзы Шальч.

ЗАЧЫ'Р *м.* Паз у драўляным посудзе. *У зачыр устаўляюць дно ў цэбру, у кадушку.* Стральцы Гродз.; *гл.* з а т о́ р ы.

ЗАЧЭПА'ЦЦА *незак.* Зачэпліваецца. *Брунтка зачэпаецца за плуг.* Відаўцішкі Вільн.

ЗАЧЭ'ПАЦЬ *зак.* 1. Прычапіць. *Карове званка зачэпалі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Зачапіць за што-н. *Зачэпім лейцы і трасанем крэпка* [рой]. Саланое Віл. 3. Крануць. *Страшно зачэпаць сянік: адна сечка.* Альхоўцы Лях.

ЗАЧЭ'ПЛІВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і з а ч а п л я́ ц ц а. *Лук — што зачэпліваяцца каромысла ў баране.* Малахоўцы Бар.

ЗАЧЭ'ПЛІЦІ *зак.* Тое ж, што і з а ч э́ п а ц ь 2. *Ніц нэ зачэплійтэ.* Смаляніца Пруж.

ЗАЧЭ'РПАЦЬ, ЗАЧАРЭ'ПАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а ч а р э́ п н у ц ь. *Дай, зачэрпаю табе вады!* Магуны Паст. *Зачэрпай палоўнік мне крупені!* Пасіене Лудз. *Зачэрпай вады!* Старыя Трокі Трак. *Гэтым вядром ні зачэрпаіш вады.* Граўжышкі Ашм. *Лёду многа зачэрпаць можна.* Жылі Іўеў. *Тры разы зачэрпала вады.* Вецярэвічы Пух. *Рас зачэрпая вады.* Старое Сяло Зэльв. *Зачэрпай вады!* Альхоўцы Лях. *Ці я паляц памачыў, ці ён зачэрпаў вады?* Альхоўка Навагр. *Зачарэп крушку вады! Зачарэпаў вады.* Саланое Віл.

ЗАЧЭ'РПНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а ч а р э́ п н у ц ь. *Там зачэрпніць вады.* Кемялішкі Астр. *Зачэрпні мне кубачак вады!* Солы Смарг.

ЗАЧЭ'РСТВЕЦЬ *гл.* ЗАЧО'РСТВЯЦЬ

ЗАЧЭ'САВАЦЬ *незак.* Зачэсваць. *Буду зачэсаваць валасы.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл.

ЗАЧЭ'САЦЬ *незак.* Тое ж, што і з а ч э́ с а в а ц ь. *Зачэсая валасы. Прадзеш, прылепак палучаяцца, зачэсая яго, ́аля нітка ўсядно парвецца.* Старыя Трокі Трак. *Грэбням зачэсую валасы.* Паляцкішкі Воран.

ЗАШАБАСЦЕ'ЦЬ *зак.* Забразджэць. *Аб брук бах, і аш ён* [збанок] *зашабасцеў.* Бакшты Іўеў.

ЗАШАБУНЯ'ЦЬ I, ЗАШАБУНЕ'ЦЬ *зак.* Зашумець. *Як вып'юць, тады зашабуняюць, разгавор знайдзіцца. Выпілі, і зашабунелі бабы і мушчыны.* Лісна В.-Дзв.

ЗАШАБУНЯ'ЦЬ II *зак.* Захістацца. *Таўканула ў галаву, дык і зашабуняў.* Лісна В.-Дзв.

ЗАШАНАВА'ЦЦА *зак.* Зберагчыся. *Ні зашанаваўся, крэпка рабіў.* Саланое Віл.

ЗАШАНАВА'ЦЬ *зак.* Зберагчы. *Не зашануюць мяне дзеці.* Саланое Віл.

ЗАШАРМАТА'ЦЬ *зак.* Зашамацець. *Мышы зашарматалі там.* Рагулішкі Даўг.

ЗАША'РЫЦЬ *зак.* Пачаць шнарыць. *Немцы звечара як зашарацьі* Кураполле Паст.

ЗАШАРЭ'НЯ *н.* Засарэнне. *У яго зашарэня кішок.* Кураполле Паст.

ЗАШКВІРЭ'ЦЦА *зак.* Заплакаць. *Зашквірэцца гэта дзяўчына.* Лісна В.-Дзв.

ЗАШКО'ДЗІЦЬ *зак.* Пашкодзіць. *Гэта не зашкодзіць табе.* Ёдлавічы Брасл.

ЗАШКРУ'МҐАЦЦА *зак.* Зашавяліцца. *Зашкрумґаўся нехта.* Кураполле Паст.

ЗАШЛЁХАЦЦА, ЗАШЛО'ХАЦЦА *зак.* 1. Змучыцца, стаміцца. *У гэтых чаравіках ты зашлёхаіся.* Саланое Віл. 2. Запырскацца. *Зашлохаіцця на балоця хадзіўшы.* Саланое Віл.

ЗАШЛЯ'ПАЦЬ *зак. экспр.* Наслядзіць. *Прышоў і зашляпаў усю хату.* Кіралі Шчуч.

ЗАШМАРАВА'ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Зашмаравала сукенку.* Альхоўцы Лях.

ЗА'ШМАРГА, ЗА'СМАРГА *ж.* 1. Тое ж, што і з а́ к р у т а. *Зашмарга на нітках, такая скрутка. Ніткі паскручваны на засмаргі.* Альхоўцы Лях. 2. Вузел у выглядзе пятлі, завязаны адным канцом. *Мех завязаны на зашмаргу — такі вузёл, што яго пацягнеш — і ён развязваецца скоро. І мех завяжам на засмаргу.* Альхоўцы Лях. *Завязоў ніці на засмаргу, завяжы вузлом.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. у знач. *прысл. за́смаргай.* Завязаны на вузел у выглядзе пятлі. *Завяжы засмаргай, а не гузлам.* Стральцы Гродз.

ЗАШМАРГНУ'ЦЬ, ЗАСМАРГНУ'ЦЬ *зак.* Зацягнуць, завязаць. *Зашмаргнула вяровачку на назе.* Граўжышкі Ашм. *Смыкам засмаргнула за шыю сабаку і нясе на скрыню.* Гемзы Шальч.

ЗАШМА'Т *прысл.* Вельмі многа. *Зашмат качаноў было.* Гемзы Шальч. *Зашмат будзя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ты мне зашмат даеш* [мукі]. Альхоўка Навагр.

ЗАШМУ'ЛЯЦЬ *зак.* Намуляць. *Ён зашмуляў нагу, бот малы.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *šmulas* 'гладкі, бязрогі'.

ЗАШНУРАВА'ЦЬ, ЗАШНЮРАВА'ЦЬ *зак.* Зашнураваць. *Зашнуруй бацінкі!* Грыкені Вільн. *Трэба бацінкі зашнюраваць.* Кіралі Шчуч.

ЗАШО'РХНУЦЬ *зак.* Зашэрхнуць. *Зашорхла паверху вада.* Дакудава Лід., Малахоўцы Бар. *Зашорхла вада, марозік у вядры стаіць.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗАШО'РЫЦЬ *зак. экспр.* Пакласці што-н. куды-н. і забыцца. *Дзе я нош дзела? Недзі зашорыла.* Саланое Віл.

ЗАШПАРАВА'ЦЬ *зак.* Зашпакляваць. *Зашпараваць дзверы — замазаць шчэліны.* Старыя Трокі Трак.

ЗАШПІЛІ'ЦЦА *зак.* Зашпіліць адзенне. *Усе грудзі голыя, зашпіліся!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗАШПІЛІ'ЦЬ, ЗАШПЫЛІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з а ш п і л і ц ц а. *Прарэх не зашпіліла ў сарочцы.* Валынцы В.-Дзв. *Зашпілі на ґузік!* Гемзы Шальч. *Зашпілі каптан, а то ў цябе рашпілены!* Кіралі Шчуч. *Зашпілі крэсло* [прарэх у штанах]! Малахоўцы Бар. *Трэ зашпіліць ґузік.* Дзяніскавічы Ганц. *Зашпылі ґузік!* Вецярэвічы Пух.

ЗАШПУГАВА'ЦЬ *зак.* Змацаваць. *Трэба зашпугаваць дзверы: як раўчучок і выемка заходзіць адно за другое, называяцца зашпугаваныя дзверы.* Альхоўцы Лях.

ЗАШПЫ'ЛЕНЫ *дзеепрым.* Зашпілены. *Зашпылено паліто.* Альхоўцы Лях.

ЗАШУМЕ'ЦЦА *зак.* Угрэцца, пакрыцца шумам (пра каня). *Зашумеўся конь.* Жодзішкі Смарг.

ЗАШУМЕ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а ш у м е́ ц ц а. *Але быстра ехаў, наш конь аш зашумеў.* Кіралі Шчуч. *Зашумеў конь.* Пацаўшчына Дзятл. *Конь спацеў, аж зашумеў.* Мсцібава Ваўк. *Зашумеў конь, шума выступіла.* Альхоўка Навагр. *Запацеў, аш зашумеў конь.* Масілавічы Сл. *Конь зашумеў.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Забрадзіць, запеніцца (пра варэнне). *Зашумела варэнне.* Быстрыца Астр., Тухавічы Лях.

ЗАШЧАМІ'ЦЬ *зак.* Заціснуць. *А ён возмя і зашчэміць* [грошы] *у руку.* Стральцы Гродз.

ЗАШЧАПІ'ЦЦА *зак.* Зачыніцца на зашчапку. *Кінуўся ў хату, зашчапіўся і ня вышаў.* Ракаўскія Швянч.

ЗАШЧАПІ'ЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з а ш ч а п і ц ц а. *Зашчапі, цемно робіцца!* Малахоўцы Бар. 2. Прышчапіць. *Каб ты слівы зашчапіў, а то дзікія.* Малахоўцы Бар.

ЗА'ШЧАПКА, ЗА'ШЧЭПКА *ж.* Кручок. *Залажыла дзверы зашчапкай, драгаў цэлы час.* Лісна В.-Дзв. *Хата была на зашчапцы.* Рыбчына Віл. *Палавінкі акен зашчапляюцца зашчапкамі.* Вострава Маст. *Зашчапка прыбіта да дзверцаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Зашчапі акно на зашчэпку!* Баброўнікі Гарад.

ЗА'ШЧЫ'К I *м.* Укол. *За́шчыкі як выйдуць, будзя горш. Яго за́шчыкі дзяржаць.* Магуны Паст. *У яе сэрцовая хвароба, за́шчыкі рабілі.* Жодзішкі Смарг. *Трэба даць за́шчык, захварэла свіня.* Кіралі Шчуч. *За́шчык дала дакторка.* Старыя Смільгіні Воран. *На за́шчыкі ходзя.* Быстрыца Астр., Дакудава Лід. *Зашчы́кі будзе рабіць. Зашчы́кі прывезла.* Гемзы Шальч. *Многа зашчы́каў прынімалі людзі, шалёныя каты пакусалі.* Старыя Трокі Трак. *Я зашчы́каў баюся, гатова на сцену скакаць.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *zastrzyk* 'тж'.

ЗА'ШЧЫК II *м.* Голас птушкі. *Зязюля зашчык падае.* Талейкі Швянч.

ЗАШЧЫ′РЫЦЬ *зак.* Зрабіцца тонкім, кволым, зніцець (пра расліны). *Зарасла моргіва, зашчырыла ў траве седзячы.* Бакшты Іўеў.

ЗА′ШЧЫТ *м.* Франтон. *Зашчыт — усё разам: казёл і сцяна.* Чычалі Швянч.

ЗАШЧЫ′ТА *ж.* 1. Абаронца, муж. *Не было зашчыты за плячамі.* Саланое Віл. 2. Абарона. *Ты не ідзі ў зашчыту: ціпер свет такій.* Лісна В.-Дзв.

ЗАШЧЭ′МКА *ж.* Кіёк, якім замацоўваецца навой у кроснах. *Зашчэмка атскочыла ў краснах.* Кураполле Паст.

ЗА′ШЧЭПКА *гл.* ЗА′ШЧАПКА

ЗАШЧЭ′ПЛІВАЦЬ, ЗАШЧЭ′ПЛЯВАЦЬ, ЗАШЧЭ′ПВАЦЬ *незак.* Запіраць на зашчапку. *Зашчэплівайця хату, я ніскора прыду.* Мярэцкія Глыб. *Трэба зашчэпляваць хату.* Рыбчына Віл. *Не зашчэпвай хату!* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАШЫЛАВА′ЦІЦЬ *зак.* Завастрыць. *Ні зашылаваціць палку.* Рыбчына Віл.

ЗАШЫПУ′ЛІЦЬ *зак.* Засмеціць. *Ты мне зашыпуліў хату: бумагі нарваў.* Гемзы Шальч. *Ён зашыпуліў хату.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *šipulŷs* ’трэска’.

ЗАШЫРО′КІ *прым.* Празмерна шырокі. *Зашырокі мне кажух.* Мярэцкія Глыб. *Былі зашырокія дошкі.* Мсцібава Ваўк.

ЗАШЫ′ЦЦА, ЗАШЫ′ТЫСЬ *зак.* Забрацца, залезці ў глыб чаго-н. *Зашылася карова ў кусты.* Старыя Трокі Трак. *Зашылася карова ў лес, і не найці яе.* Вецярэвічы Пух. *Кот у будынак зашыецца і сядзіць.* Альхоўка Навагр. *Зашыўся в корчі, дай ны найшлы его.* Сіманавічы Драг.

ЗАШЭ′ВАЧКА *ж. крав.* Вытачка. *Зашэвачкі зашый!* Малахоўцы Бар.

ЗАШЭ′МРАЦЬ *зак.* Замітусіцца. *Людзі зашэмралі, сабіраюцца некуды.* Курополле Паст.

ЗАЮ′ШНА *прысл.* Заўзята. *Ён робіць заюшна.* Мярэцкія Глыб.

ЗАЯВІ′ЦЦА *зак.* Прыйсці да каго-н. *Я заявіўся да яго.* Гемзы Шальч.

ЗАЯДА′ЦЬ *незак.* 1. Загрызаць. *Паршук свінку заядае.* Номікі Бабіц. 2. *перан.* Губіць. *Гарэлка заядае сына, ён п′е.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗА′ЯДЗІ *мн. вет.* Мыт. *Заядзі ў каня — напухают ясны* [дзёсны]. Лука Нараўк.

ЗАЯ′ДЛІВА *прысл.* Тое ж, што і з а ю ш н а. *Вот яна работу робіць заядліва!* Кіралі Шчуч.

ЗАЯ′ДЛЯ *прысл.* Тое ж, што і з а ю ш н а. *Мая заядля робіць.* Граўжышкі Ашм.

ЗАЯ′ЗАК гл. ЗАЕ′ЗАК

ЗАЯКАРА′ВІЦЬ *зак.* Прымацаваць, прывязаць. *Даюць*

*упоры ў дзерава, заякараваюць да дзерава, цэпам заматаюць і стаіць.* Кураполле Паст.

ЗАЯНКЛІ′ВЫ *гл.* ЗАІ′КЛІВЫ

ЗАЯЎЛЕ′ННЁ *н.* Заява. *Заяўленнё падала, хоча вучыцца.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* руск. *заявление* 'тж'.

ЗА′ЯЧА КАПУ′СТА *ж. бат.* Кісліца. *Заяча капуста кісланькая, у лесе расце.* Быстрыца Астр.

ЗАЯ′ЧЫНА *ж.* Мяса зайца. *Як заб'юць зайца, то мясо заячына называецца.* Баброўнікі Гарад.

ЗБАБА′НІЦЬ, ЗБАБЭ′НІЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, стукнуць. *Збабаню палкай, будзяш ведаць!* Быстрыца Астр. *Тады я ўзяла таўсты кол, лезу і крычу: «Уцякай, чорт, бо ўсяроўна смерць табе зраблю!» І калі збабаню калом па пасцелі, аш рэха ідзець, а чорт і ня ўцякаіць, толька бліщчыць.* Азаркі-Пудавінка Мядз. *Ён палянякам збабэніў па спіне скаціне.* Крэва Смарг. *Збабэніў яго сільна.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗБА′БІЦЬ *зак.* Звянуць. *Збабіла картопля.* Вострава Маст.

ЗБАБЭ′НЧЫЦЬ *зак. экспр.* 1. Уздуць. *Збабэнчыла яго: узяло на колкі жывата, абдуло.* Альхоўцы Лях.∇ *Кап яго збабэнчыла!* Альхоўцы Лях. 2. Ускінуць на плечы. *Як збабэнчу на плечы, то панясу.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗБА′ВІЦЬ *зак.* Расказаць. *Трэба збавіць басню. Баўлю басню.* Лісна В.-Дзв.

ЗБАВЛЕ′НІЕ *н.* Ратунак. *От тых комаруов збавленія нэма.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *избавление* 'тж'.

ЗБАДА′ЦЬ *зак.* 1. Абследаваць хворага. *Пашла да доктара, і збадалі там мяне.* Кіралі Шчуч. *Доктары збадалі яго, гручолы ест.* Старыя Смільгіні Воран. *Цяпер урачы збадалі яго, сказалі — сухоты.* Новікі Гродз. 2. Дапытаць. *Пракурор збадаў бабу.* Груздава Паст. 3. Рашыць. *Як збадаў, так і даў.* Магуны Паст. 4. Зразумець. *Чалавецтва не збадае гэтага.* Вялікія Баяры Шчуч. 5. Праверыць. *Можна збадаць работу: харашо ці плоха яна здзелана.* Мярэцкія Глыб. 6. Даведацца. *Трэба збадаць, што дзе зрабілася.* Старыя Смільгіні Воран. 7. Даследаваць. *Лячылі не так, як трэба, покуль не збадалі соку.* Альхоўка Навагр. *Дахтары збадалі тоя лякарства — там быў ят.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *zbadać* 'даследаваць, вывучаць, абследаваць хворага'.

ЗБАДЗЯ′ЦЦА *зак.* Разляцецца, рассыпацца. *Трэскі па сену збадзяліся п, кап сякерай апсек.* Лісна В.-Дзв.

ЗБАДЗЯ′ЦЬ *зак.* Зняважыць, аблаяць. *Мужык мой не збадзяў ніколі мяне.* Груздава Паст. *Ня буду грашыць, на дзяцей ні скажу ні слова — ніколі ні збадзялі.* Лазічы Глыб. *Збадзяюць цябе на трапку.* Беразіно Докш.

ЗБАЁДАВАЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Збаёдаюць касу старому.* Жылі Іўеў.

ЗБАЖЫНА′ *ж.* Збожжавыя. *Збажына ўсякая есць.* Солы Смарг.

ЗБАЛАМУ′ТІТІ *зак.* Затлуміць, задурыць. *Впэруч мэнэ збаламутілі факторы* [камісіянеры], *а послі хотіелі ошукаті.* Курашэва Чыж.

ЗБАЛІ′ЦЬ *зак.* Параніць. *От збалілі карову!* Беразіно Докш.

ЗБАН *м.* Збан. *Збаны гліняныя з ручкамі.* Крэва Смарг. *Збан з ручкай.* Солы Смарг. *Збан з ручкай і бэз ручкі.* Гемзы Шальч. *Збан з ухам; як то збан бес уха?!* Грыкені Вільн. *Збаны былі гліняныя, паліваныя.* Дакудава Лід. *Збан пабіўся на малако.* Пацаўшчына Дзятл. *Есць такіе збаны з двама ўшыма.* Баброўнікі Гарад.

ЗБАНІТАВА′ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б а д з я ц ь. *Яна збанітавала нядобрымі славамы.* Кураполле Паст. *Свякроўка збанітавала маю работу: я ня ўмела клёцкі рабіць. Збанітавала мяне, збадзяла на грась.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *užbaniūtyti* 'тж'.

ЗБАН МАЛО′ЧНЫ *м.* Бітон. *У малочны збан налілі вады.* Крэва Смарг.

ЗБАНО′К *м.* Невялікі збан. *Збанок з ручкай.* Магуны Паст., Кемялішкі Астр. *У цябе збанок, як стаўбун, але ш велькі.* Кіралі Шчуч. *Збанкі гліняныя былі.* Новікі Гродз. *Збанок бывая шкляны, гліняны.* Альхоўка Навагр. *Збанок з вузкім горлам.* Лука Нараўк.

ЗБАЎТА′ЦЦА *зак.* Зблытацца. *Ніткі збаўталіся.* Рагулішкі Даўг.

ЗБАЎТА′ЦЬ *зак.* Зблытаць. *Ніткі знявечала, збаўтала іх.* Старыя Трокі Трак.

ЗБАЯ′ЦЦА *зак.* Спужацца. *Ён ні збаіцца вачэй.* Дакудава Лід.

ЗБЕ′ГЧЫ, ЗБЕ′ХЧЫ *зак.* Пераліцца цераз край пры кіпенні. *Капуста збегла.* Груздава Паст.

ЗБЕ′ГЧЫСЯ, ЗБЕ′ХЧЫСЯ *зак.* Загуснуць. *Кроў збеглася ў камы.* Рагулішкі Даўг.

ЗБЕ′РАЦЬ *зак.* Сабраць. *Наткалі, а патом нада зберадь для бялення.* Жодзішкі Смарг.

ЗБЕ′РЫЦЦА *зак.* 1. Сабрацца ў адным месцы. *Збераццa бабы, як палотны беляць.* Кураполле Паст. *Як зберыцца дзісяток бап у хату!* Груздава Паст. *Збераццa дзяўчата да Тарэсы.* Ністанішкі Смарг. *Зберуцца нівесткі і ругаюць міне.* Індра Красл. 2. Пайсці ў хуткім часе (пра дождж). *Цёмная хмара найшла, можа, зберыцца дош?* Саланое Віл. 3. Згрэбціся. *Сена зберыцца і прывязецца патом.* Ністанішкі Смарг.

ЗБІВА′ЦЬ *незак.* 1. Змацоўваць. *Клейны збівалі і гналі лес.* Саланое Віл. 2. Пластаваць сена. *Пласты збіваюць.* Валынцы В.-Дзв. *Сена ў пласты збіваяць.* Лісна В.-Дзв. *Сена ў*

*пласты збіваць.* Мішневічы Шум. *У пласты сена збіваям ці пласцім.* Асавец Віл. *Пласты граблямі збіваюць.* Старыя Трокі Трак. *Сена граблямі збіваць у пласты.* Відаўцішкі Вільн. *Пласты сена збівалі.* Індра Красл., Гемзы Шальч. 3. Складаць складкамі, гармонікам. *Збівала палатно.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗБІРА'ЦЦА *незак.* 1. Збірацца разам. *На попраткі збіраліся: гарэлкі збяруць, закускі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Зморшчвацца. *У роцця скура збіраецца.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. *безас.* Хмарыцца. *Збіраецца на дош.* Ністанішкі Смарг. 4. Рыхтавацца ў дарогу. *Я збіраюся да доктара ехаць.* Лоск Валож. 5. Чакацца, прадбачыцца. *Разгавор збіраецца якісь.* Крынкі Крын. 6. Складвацца ў зборкі, фалды, складкі. *Заклаткі складаюцца, а фалды збіраюцца.* Солы Смарг.

ЗБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Збіраць што-н. шукаючы. *Ён грыбы збіраў.* Ёдлавічы Брасл. *Хадзіў па лесу, збіраў грыбы.* Мярэцкія Глыб. 2. Складаць у адно месца. *Брахло* [барахло] *збірала.* Груздава Паст. *Шматы, рызы цыган збіраў.* Грыкені Вільн. 3. Браць ношку (пра пчол). *Мёт збіраюць пчолы с красак.* Мярэцкія Глыб. *Пшчолы знаяць, у якіх цвітах збіраць мёт.* Солы Смарг. *Пчолы з грэчкі найболі збіралі' мёду.* Альхоўка Навагр. 4. Назбіраць зрываючы. *Ягады збірала.* Рыбчына Віл. *Я сніла, што яблыкі збірала.* Граўжышкі Ашм. *Збіраюць яблыкі з яблыні.* Паляцкішкі Воран. 5. Рваць. *Траву збірала.* Паляцкішкі Воран. 6. Зліваць у што-н. *Як заб'юць кабана, пасоку* [кроў] *збіралі.* Саланое Віл.

ЗБІ'РЫСКО *н.* Натоўп, зборышча людзей. *У іх цэлае збірыско.* Баброўнікі Гарад.

ЗБІ'ТЫ *дзеепрым.* 1. Садраны. *У яе твар збіты.* Ракаўскія Швянч. 2. Змацаваны. *Бакоўкі з досак збіты.* Грыкені Вільн. 3. *перан.* Моцнага целаскладу. *Яна была збітая, як бутэлька.* Гемзы Шальч.

ЗБІ'ЦЦА *зак.* 1. Згубіць дарогу, заблудзіцца. *Ён збіўся с пуці.* Ахрэмаўцы Брасл. *Збіўся з дарогі.* Малахоўцы Бар. 2. Зблытацца, зваляцца (пра валасы, шэрсць). *Каўтун збіўся.* Лука Нараўк. *Ніткі збіліса.* Стральцы Гродз. ◇ *Збіцца з работы* — перастаць грабціся (пра курэй). *Куры з работы збіліся, нада даць хлеба.* Ахрэмаўцы Брасл. *С панталыкі збіцца* — заблытацца, памыліцца. *Забіла дух — нек с панталыкі збіўся.* Галубы Маст.

ЗБІЦЬ *зак.* 1. З боем выбіць адкуль-н. *І так збілі нашы немцаў у марце месяцэ!* Саланое Віл. 2. Садраць скуру. *Збіла паліц бігучы.* Саланое Віл. 3. Змацаваць адно з другім. *Карыта такое зб'е.* Беняконі Воран. 4. Спластаваць. *Нада збіць у пласт сена.* Лісна В.-Дзв. *Збіў у пласт і ў копы склаў.* Івашкаўцы Смарг. *Трэба збіць пластэ сена.* Кіралі Шчуч. 5. Прыгатаваць што-н. збіваючы. *Масла не зб'ем.* Паляцкішкі Воран. *Збіла масла, прамыць нада.* Стральцы Гродз.

ЗБЛАЖА'ЦЬ *зак.* 1. Схуднець, змарнець. *Зблажала дачка замужам.* Міратычы Карэл. 2. Захварэць. *Ён у вас зблажаў, з гарачкі гаворыць.* Альхоўцы Лях. 3. Згніць. *Зблажала сено пад дажджом.* Альхоўцы Лях.

ЗБЛАЖНЕ'ЦЬ *зак.* Змяніцца з твару, аслабець. *Зблажнеў, рвала яго.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗБЛАЖЫ'ЦЬ *зак. безас.* Знудзіць, вырваць. *Зблажыла чалавека, ката; можа зблажыць — як ірвець каго.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗБЛАЗНІ'ЦЬ *зак. экспр.* Сказаць недарэчнае. *Прышоў, зблазніў абы-што.* Магуны Паст.

ЗБЛІ'СКА *прысл.* Зблізку. *Я ні збліска.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗБЛО'ЦІЦЬ *зак.* 1. Змучыць, зняважыць. *Чаго ты ходзіш? Жонку зблоціў, а цяпер да чужых лезеш.* Паляцкішкі Воран. 2. Стаптаць, збіць. *Коні зблоцілі соткі.* Гемзы Шальч.

ЗБЛУДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Заблудзіць. *Пашла ў лес і зблудзіла.* Талейкі Швянч. 2. *перан.* Збіць з правільнага шляху. *Віш, зблудзіць чалавека.* Дакудава Лід.

ЗБЛУДНЕ'ЦЬ *зак.* Стаць на няправільны шлях жыцця. *Яна зблуднела.* Вострава Маст.

ЗБЛУ'ТАНЫ *прым.* Зблытаны. *Зблутаныя ніткі ўзяла; чорт толку не даб'ецца, не разблутаю.* Гемзы Шальч.

ЗБЛУ'ТАЦЦА *зак.* Тое ж, што і з б а ў т а́ ц ц а. *Ніткі зблутаюцца.* Гемзы Шальч.

ЗБЛУ'ТАЦЬ, ЗБЛЮ'ТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б а ў т а́ ц ь. *Зблутала ніткі.* Вецярэвічы Пух. *Зблютаяш ніткі.* Крэва Смарг.

ЗБЛЫ'НДАЦЦА *зак. экспр.* Уступіць у любоўную сувязь. *Блындаіцца маліц, зблындаўся з другой.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *blìnda* 'рыззё'.

ЗБО'ВІЧ *м.* 1. Вал, па якім ідзе палатно пры тканні. *Збовічы: адзін грудны, другі паткаленны, па іх матэрыял ідзе.* Галубы Маст. 2. Навой. *Звіваюцца кросна збовічамі.* Навасёлкі Свісл.

ЗБО'ЕЦ *м.* Забойца. *Той збоец толькі біў людзей.* Мсцібава Ваўк.

ЗБО'ЖА *н.* і *ж.*, ЗБО'ЖО, ЗБО'Ж'Е, ЗБО'Ж'Ё, ЗБОШ *зб. н.* 1. Зерне злакавых раслін. *Збожам плацілі.* Старыя Трокі Трак. *Хто збожа давай?* Гемзы Шальч. *Ужо збожа звязлі с поля ў гумно.* Кіралі Шчуч. *Уся збожа ў гумны звазілася.* Малькуны Ігн. *У гумне былі прыстаранкі, у прыстаранкі клалі збожо.* Альхоўцы Лях. *Збож'е — усе культуры.* Дзяніскавічы Ганц. *Збож'ё сыпалі ў скрыні.* Малахоўцы Бар. *Збош — усэ разом: жыто, ячмэнь.* Смаляніца Пруж. *Збош сыплем у мех.* Горск Бяроз. 2. Тое ж, што і з б а ж ы н а́. *Па збажох ка-*

*ровы ходзяць.* Паляцкішкі Воран. *Тры збош пабілі ярых.* Homікі Бабіц.

ЗБО'ІЧ *м.* Планка, пры дапамозе якой умацоўваюцца кросны. *Там збоічаў у варстаце шмат. Ты прынясі мне збоічы, я кросна складаю.* Кіралі Шчуч. *Варстат збіваецца збоічамі.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗБО'ЙКА I *ж.* Маслабойка. *Збойку прынісла, буду масла біць.* Лісна В.-Дзв.

ЗБО'ЙКА II *ж.* Намарзень. *Збойка ўдоль драўней, звязваець усе дроўні.* Мешкінева Лудз.

ЗБО'РКА *ж.* Складка на адзежыне. *Наморшчана зборка* [у сукенцы]. Солы Смарг.

ЗБО'РНЯ *ж.* 1. Попрадкі ўдзень. *Зборня ў іх хаці была.* Мсцібава Ваўк. *Шукаям, кап хто пусціў на зборню; пойдам с кудзеляю і прадом цэлы дзень.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Хата, у якой дзяўчаты збіраліся на попрадкі. *Зборня — хата, дзеўкі там збіраліся, а хлопцы з аднае зборні ідуць на другую.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗБО'РЧАВЫ *прым.* Ашчадны, эканомны. *Зборчавы быў чалавек.* Альхоўка Навагр.

ЗБО'ЎТАЦЬ *зак.* У выразе: *Збоўтаць галаву* — збіць валасы ў каўтун. *Баўтун* [каўтун] *узёўся, збоўтаў галаву.* Мачаск Бярэз.

ЗБОШ *гл.* ЗБО'ЖА

ЗБРАДЛІ'ВЫ *гл.* ЗБРО'ДЛІВЫ

ЗБРАКАВА'ЦЬ *зак.* Дрэнна адазвацца аб чым-н. *Можа, збракуіць маю яду?* Валынцы В.-Дзв.

ЗБРАТДЗЕ'ЦІ *мн.* Дваюрадныя браты, сёстры. *Збратдзеці — сёстры стрэчныя, першай стрэчы; у другой стрэчы браты, сёстры — не радня, можна жаніцца.* Рыбчына Віл.

ЗБРО'ДЖАНЫ *дзеепрым.* Стаптаны. *Зброджаны дзялкі.* Альхоўка Навагр., Альхоўцы Лях.

ЗБРО'ДЛІВЫ, ЗБРАДЛІ'ВЫ, ЗБРЫДЛІ'ВЫ *прым.* Шкадлівы, памаўзлівы. *Кот нічэйны, але нейкі збродлівы.* Ёдлавічы Брасл. *Ты, як збродлівы кот.* Рыбчына Віл. *Збродлівая карова: панадзілася ў шкоду хадзіць.* Беразіно Докш. *Збродлівая карова лезе ў шкоду. Збродлівы конь.* Багушэвічы Бярэз. *Збродлівая гэдакая карова: чуць сам убок — яе слет прастыў. Кот збрадлівы.* Груздава Паст., Рудня Астравітая Чэрв. *Збрыдлівая карова адлучаецца ат стада і ідзе ў шкоду.* Мярэцкія Глыб.

ЗБРО'ЙЛІВЫ *прым.* Тое ж, што і з б р о́ д л і в ы. *Збройлівая карова прывыкла хадзіць у шкоду.* Рыбчына Віл.

ЗБРО'ЙНЫ *прым.* Тое ж, што і з б р о́ д л і в ы. *Збройная мая карова: яна і басціся хоча, і нікому ня ўступіць.* Магуны Паст. *Збройная карова: у шкоду ляціць, дрэнна ўпасціць яе.* Ёдлавічы Брасл. *Збройная карова.* Быстрыца Астр. *Збройная*

*карова, усіх б'е карой, на каждую мае сілу.* Міратычы Карэл. *Не аддавала малако, гэдака збройна карова.* Старое Сяло Зэльв. *Збройна карова мая.* Воўкуш Лінск.

ЗБРУСАВА'ЦЬ *зак.* 1. Патаўсцець. *За тыдзень як збрусавала, у адзежу ня лезла.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Зацвярдзець. *Збрусавала мне грудзь. Збрусавала карове вымя.* Старыя Смільгіні Воран. *Скула была і так збрусавала.* Жылі Іўеў.

ЗБРУСНЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б р у с а в á ц ь 2. *Скула збруснела, можа патпасці што.* Жылі Іўеў. *Лымя ў каровы збруснела, трэба расціраць яго.* Кіралі Шчуч. *Збруснела вымя ў каровы.* Мсцібава Ваўк. *Набрыняла вымя ў каровы, збруснела.* Навасёлкі Свісл.

ЗБРУСНЯВЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б р у с а в á ц ь 2. *Збруснявела вымя ў каровы.* Жылі Іўеў.

ЗБРЫДА'ЦЬ *зак.* Стаптаць. *Каровы збрыдалі пасевы.* Быстрыца Астр.

ЗБРЫ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Надакучыць. *Збрыдзіў я і пашоў.* Гемзы Шальч. *Збрыдзялі яны.* Жодзішкі Смарг. *Ён мне ўжа збрыдзіў.* Старыя Смільгіні Воран. *Я вам збрыдзіла.* Міратычы Карэл. 2. Апрацівець. *Папок збрыдзіў.* Груздава Паст. *Калісь трымалі куры, збрыдлі яны мне, не хачу глядзець.* Мсцібава Ваўк. *Мне ўжо збрыдзіла, егджаючы ў гуту па іх.* Альхоўка Навагр. 3. Зганьбіць. *Яго збрыдзілі ўчыцяля.* Крэва Смарг. *Збрыдзялі яго.* Дакудава Лід. 4. Званітаваць. *Кап не збрыдзіла!* Жылі Іўеў.

ЗБРЫДЛІ'ВЫ *гл.* ЗБРО'ДЛІВЫ

ЗБРЫ'ДНУЦЬ *зак.* 1. Тое ж, што і з б р ы д з і ц ь 2. *Ён мне збрыт. Ото ш ты мне збрыт!* Кіралі Шчуч. *Стары сам сабе збрыдне.* Мсцібава Ваўк. *Збрыдло мне ехаць.* Сакаляны Сакол. *Збрыдло мне есці капусту.* Сакаляны Сакол. 2. Зненавідзець. *Ён так збрыт, што хацеў яе* [жонку] *у рэчку ўтапіць.* Кудзялянцы Шальч.

ЗБРЫ'ЗНУЦЬ *зак.* Абрызгнуць (пра малако). *Збрызла малако.* Старыя Трокі Трак., Кураполле Паст., Гемзы Шальч. *Малако еш, а то хаця п не збрызла.* Солы Смарг.; *гл.* б р ы з л ы.

ЗБРЫ'СКНУЦЦА *зак.* Тое ж, што і з б р ы з н у ц ь. *Збрысклася малако.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗБРЭ'СКНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б р ы з н у ц ь. *Збрэскла малако — ні салодке, ні кіслэ.* Лука Нараўк.

ЗБУДАВА'ЦЬ *зак.* Пабудаваць. *Ён хату збудуя.* Быстрыца Астр. *Збудавалі даўно клуп.* Жодзішкі Смарг. *Бобр такі дом збудуе!* Швэды Вільн.

ЗБУДАРА'ЖЫЦЬ *зак.* Зрабіць беспарадак. *Збударажыў усё.* Груздава Паст.

ЗБУЗАВА'НЫ *дзеепрым.* Забруджаны. *Збузавана вада, як гразёй размяшана.* Ракаўскія Швянч.

ЗБУЗА'ЦЬ *зак.* Перарваць, перашкодзіць чаму-н. *Збузаў мне гавэнду* [размову]. *Вот я цябе і збузаў!* Старыя Смільгіні Воран.

ЗБУЗО'ВАНЫ *дзеепрым.* Тое ж, што і з б р о́ д ж а н ы. *Збузованы дзялкі.* Альхоўка Навагр.

ЗБУНАВА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б р ы д а́ ц ь. *Збожа збунавалі каровамі.* Мсцібава Ваўк.

ЗБУНТАВА'НЫ *дзеепрым.* Прыведзены ў замяшанне, зблытаны. *Яна* [унучка] *збунтавана: вучылася па-польску, трошкі па-літэўску, па-руску.* Старыя Трокі Трак.

ЗБУНТАВА'ЦЦА *зак.* 1. Парушыць парадак. *«Жураві, акруціцеся каля маёй галавы!» Як скажаш так, яны і збунтуюцца.* Кураполле Паст. 2. Памыліцца. *Тку і збунтуюся, тады перарабляй.* Магуны Паст. 3. Разгубіцца. *Збунтавалася я: ляжыць маток, а я шукаю.* Магуны Паст. 4. Разгневацца. *Бацькі ўжо збунтаваліся.* Дакудава Лід.

ЗБУНТАВА'ЦЬ *зак.* Зблытаць, прывесці ў замяшанне. *У нас і добра было, а прышоў чалавек і збунтаваў — сказаў не так, прымахляваў.* Едлавічы Брасл. *Мармочыць пад нос, збунтаваў мяне.* Малькуны Ігн.

ЗБУРО'ВІЦЬ *зак.* Разбурыць. *Збуровілі хату, усё паздымалі.* Бакшты Іўеў.

ЗБУ'РЫЦЦА *зак.* Стаць друзлым. *Масла вялікае, збурылась.* Лайпушкі Ігн.

ЗБУ'РЫЦЬ *зак.* Узбударажыць. *Прыдзя* [сабака] *і збурыць гэтыя сабакі, і хоць ты што рабі.* Кіралі Шчуч.

ЗБУТВЕ'ЦЬ, ЗБУТЛЕ'ЦЬ, ЗБУТНЕ'ЦЬ *зак.* 1. Збуцвець. *Можыць збутвець хустка.* Мярэцкія Глыб. *У яе, казалі, збутвела палатно. Збутвела, дзе зложана, так і распаўзецца.* Крэва Смарг. *Як бялізна мокрая, доўга ляжыць, то збутвея, разваліцца.* Солы Смарг. *Адзеня можа збутвець.* Гемзы Шальч. *Збутлела адзежа, доўга ляжыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Палатно збутлело.* Масілавічы Сл. *Збутлела хустка, паліто, ясёнка.* Альхоўцы Лях. *Зусім пальто збутнела. Можа збутнець адзежа.* Саланое Віл., Рыбчына Віл. *Адзеня збутнела, посцілка збутнела, сукенка збутнела.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Пакрыцца плесняй. *Збутнела ў сумцы тоя сала.* Бакшты Іўеў. 3. Згнісці. *Збутвеў часнок.* Жылі Іўеў. *Ніжні вінец збутлеў. Збутлела — калі што згніло.* Індра Красл. 4. Струхлець, спарахнець. *Як прах, гэта цела збутлела ў труне.* Дакудава Лід.

ЗБУТЛЯ'ЦЬ, ЗБУТНЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б у т в е́ ц ь 1. *Збутляла адзежа лежачы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Адзеня можа збутняць, як яго ня носіш і ня перасушыш. Хустка збутняла.* Кіралі Шчуч.

ЗБУХТАВА́НЫ *дзеепрым.* Зношаны. *Боты гэтыя збухтаваныя.* Кураполле Паст.

ЗБУХТАВА́ЦЬ *зак.* Клеплючы, зрабіць пукатасці на лязе касы. *Касу, клеплючы, збухтаваў.* Чорна Весь Касцельная Чорна-Беласт.

ЗБУХТО́ВАНЫ *дзеепрым.* Няроўна кляпаны (пра касу). *Збухтавана каса, пафалдована, як хто забыстро б'е, памаленку трэбо аццягваць.* Лука Нараўк.

ЗБУЯ́ЦЬ *зак.* Пышна разрасціся (пра расліны). *Збуяла бульба, збуялі буракі.* Старыя Смільгіні Воран., Жылі Іўеў. *Збуяла картофля.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ні палола, буракі збуялі.* Стральцы Гродз. *Збуяла ў саду картошка, звішала.* Альхоўцы Лях.

ЗБЫ́ТАК *м.* Лішак. *Яна хоча, кап у яе збыткі былі, яна ўсё рупіцца і рупіцца.* Кіралі Шчуч.

ЗБЫТКАВА́ЦЦА, ЗБЫТКОВА́ЦІ *незак.* Здзекавацца. *Вот збыткуяцца!* Старыя Трокі Трак. *Збыткуецца над жывёлай.* Грыкені Вільн. *Збыткавоўся ён з яе.* Дакудава Лід. *Але ж і збыткаваліся з яе!* Пацаўшчына Дзятл. *Так ён збыткаваўся са сваёй жонкі, пярун яго хай возьме!* Галубы Маст. *Збыткуецца, не ўважае мачаха. Збыткуе з нас немец.* Баброўнікі Гарад.

ЗБЫТКАВА́ЦЬ *незак.* Тое ж, што і з б ы т к а в а́ ц ц а. *Што ты збыткуеш?* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Паны збыткавалі з людзей. Збыткавалі* [паны] *з нас!* Мсцібава Ваўк. *Мы з яе не збыткуем.* Навасёлкі Свісл.

ЗБЫ́ТНЫЯ ДНІ *мн.* Апошняя квадра Месяца. *Збытнымы днямы сон ні праўдзіць, толькі маладзіком.* Курополле Паст.

ЗБЫЦЬ *зак.* 1. Прадаць. *Карову збыў.* Лісна В.-Дзв. 2. Старацца пазбавіцца ад каго-н. *Бапка загадала дзеду, кап ён збыў дзе патчарыцу.* Падневічы Івян. *Яна ш нашла сабе другога, і хацела свайго мужа збыць.* Мікалаеўшчына Стаўб.

ЗБЭ́БНІЦЬ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Ён яе збэбніў.* Дакудава Лід.

ЗБЭ́ЛТАЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б а ў т а́ ц ь. *Збэлтала нітак.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗБЭ́НЧЫЦЬ *зак.* Успучыць. *Ах, як мяне сёдня збэнчыло, як дуе чалавека!* Баброўнікі Гарад.

ЗБЭ́РСАЦЬ *зак.* Скруціць, зматаць. *Збэрсаіць круцёлкі лыка.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *suvérti* 'нанізаць'.

ЗБЭ́СЦІЦЬ *зак.* Зганьбіць, зняславіць. *Ты ш збэсціш Галю!* Крэва Смарг.

ЗБЭ́ЧЫЦЦА *зак.* Стаць у ваяўнічую позу. *Ён збэчыўся, як казёл. Як узлуецца, то збэчыцца, не патхадзі да яго.* Кіралі Шчуч.

ЗБЭ́ШТАЦЬ *зак.* Даць ганьбу каму-н. *Мела аднаго кава-*

*лера і збэштала яго: і папіхне, і дурны ён у людзях, і так.* Кіралі Шчуч.

ЗБЯГА'ЦЬ *незак.* Сцякаць. *Сыраватка збягая.* Рыбчына Віл.

ЗБЯЛЕ'ЦЬ *зак.* Ссівець. *Яму збялела галава.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗВАГУ'ЛЬ *м.* Дубец. *Нарэзаў звагулёў, моцны кошык будзя.* Жыдзевічы Іўеў; *параўн.* літ. *žilgùlis* 'лазовы прут', *žvagùlis* 'дубец'.

ЗВА'ДА *ж.*, ЗВА'ДЫ, ЗВО'ДЫ *мн.* 1. Плёткі, склокі. *Звадой навадзіла яна — барані бох!* Саланое Віл. *Пашла сплетніца, назводзіла зводаў.* Вецярэвічы Пух. *Такая баба па хатах ходзіць і зводы зводзіць.* Кіралі Шчуч. *Нарабіла зводаў! Ходзіць і зводы разводзіць.* Альхоўка Навагр. *Зводы не звадзі!* Галубы Маст. *Во такія зводы!* Старыя Трокі Трак. *Дзе бабы плётак наробяць — то там зводы.* Лука Нараўк. 2. Сварка. *Звада ў іх ідзе, нешта вадзюцца.* Гемзы Шальч. *Адна баба памахлюе на другую, і робяць зводы: адна даказвае, што гаварыла, а другая даводзіць, што не гаварыла.* Мсцібава Ваўк. *Як што нагаворыш і хтось аткажэ, і тады зводы зводзяць сусеткі.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *zwada* 'тж'.

ЗВАДЗІ'ЦЬ *зак.* Абвесці. *Мяне звадзіла ўсюду.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗВАЙЦЯ'ЦЬ *зак.* 1. Выказаць крыўду. *Я цябе звайцяла: ты не так аворыш, не так робіш.* Старыя Смільгіні Воран. *Я яму звайцяла, ён звайцяў мне, выказалі абіду: я яму, ён мне, нам паляхчэла.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Вылаяць. *Звайцяла моцна яго.* Гемзы Шальч.; *гл.* в а й д а в а́ ц ь.

ЗВАКАВА'ЦЬ *зак.* Запрасіць, дамовіцца. *Халадзільнікі папсаваліся, так магазінэрка ніяк не звакуіць майстроў.* Старыя Трокі Трак. *Я звакавала маляроў з Вільні.* Гемзы Шальч. *Можа, дзе звакавалі.* Альхоўка Навагр.; *гл.* з а в а к а в а́ ц ь.

ЗВАЛ *м.* Мноства, вялікая колькасць. *Травы няма, павыядаўшы звал скаціны.* Альхоўка Навагр.

ЗВА'ЛЕНЫ *дзеепрым.* Зроблены шляхам валення. *Зваленае сукно.* Грыкені Вільн.

ЗВАЛЁК *м.* Сувой. *Звалёк — скручаное палатно. Звалькі скруцілі.* Лука Нараўк.

ЗВА'ЛІВАЦЦА *незак.* Адваліцца. *Агуркі пажаўцелі і зваліваюцца.* Саланое Віл.

ЗВАЛІ'ТІ *зак.* 1. Ссыпаць. *Звалів фуору овса в сторону.* Курашэва Чыж. 2. *перан.* Несправядліва прыпісаць каму-н. чужую віну. *Сам біды наробів і всё на мэнэ звалів.* Курашэва Чыж.

ЗВАЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Упасці адкуль-н. *Чорт яго бяры — ён зваліцца.* Саланое Віл. *С прыпечка зваліліся.* Паляцкішкі Во-

ран. 2. Апасці. *Еш тыя яблыкі, каторыя зваляцца.* Паляцкішкі Воран.

ЗВА'ЛІШЧА *н.* Лесасека. *Зваліwча, дзе лес валяць.* Старыя Трокі Трак.

ЗВАЛКАВА'ЦЬ *зак.* У выразе: *Звалкаваць падвал* — зраўняць збожжа, засыпанае ў засек. *Калі насыпалі* [збожжа] *вышэй берагоў, нада звалкаваць падвал — так у нас гавораць.* Мярэцкія Глыб.

ЗВАЛО'К *м.* Тое ж, што і з в а л ё к. *Як я выходіла колісь замуш, то міела пара звалкуов кужэльного полотна.* Курашэва Чыж.

ЗВАЛЬНЕ'НЁ *н.* Звальненне. *Мне звальненё далі.* Нагуевічы Сл.

ЗВАЛЬНЕ'ННЯ *н.* Панос. *Німа ніякай травы, толькі свінтуха* [спарыш], *яна памоцна ад звальнення.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗВАЛЬНІ'ЦЦА *гл.* ЗВО'ЛЬНІЦЦА

ЗВАЛЬНІ'ЦЬ *гл.* ЗВО'ЛЬНІЦЬ

ЗВАНА'Р *м.* Званар. *Званар лезя на званіцу, там званэ, і звоніць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗВАНАРЫ'ЦЦА *незак.* Наравіцца, упірацца. *Званарыцца конь і зусім не ідзе.* Бакшты Іўеў.

ЗВАНЕ'Ц *м. бат.* Званец. *На лугах званец расцець.* Валынцы В.-Дзв. *Званец — лугавая трава.* Рыбчына Віл. *Званец у жыце, крупкі чорныя ў званцу, як луска ў рыбе; хлеб чорны ад званца.* Мачаск Бярэз. *Бывая званец, як зродзь; хлеп чорны ад званца. Званец цвіце жоўценькім, ён шастая, ядраны.* Вецярэвічы Пух. *Званец — трава, расце на сенажаці.* Альхоўка Навагр. *У нас есь званец.* Міратычы Карэл.∇ *Дзе расцець званец — там сену канец.* Кураполле Паст. *Пасох званец — хлебу канец.* Рыбчына Віл.

ЗВАНІ'ЦА *ж.* Званіца. *Яны будавалі званіцу вышэй касцёла.* Грыкені Вільн.

ЗВАНКЕ' *мн.* Састаўная частка кола. *У коле ест званке, кавалачкі кола злучаюцца, апкоўваюцца.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗВА'ННЕ *н.* Паходжанне. *А жану ён сібе браў высокага звання.* Цінкаўцы В.-Дзв.

ЗВА'ННЯ, ЗВА'НЯ *н.* Назва. *«Тлуст» — с польскага звання.* Жодзішкі Смарг. *Званя спісвае ўсе.* Вецярэвічы Пух.

ЗВАНО' *н.* Састаўная частка кола. *Звона — часць вобада: на дзве спіцы адно звано, пяць звонаў на дзесяць спіц.* Альхоўка Навагр.

ЗВАНО'К *м.* Званок. *Званка вешалі шкоднай карові, як у лесе паслі, у карчах, коб чуці было.* Лука Нараўк.

ЗВАНЧАКІ', ЗВЕНЧАКІ', ЗВІНЧАКІ', ЗВІНЧУКІ', ЗВОНЧАКІ' *мн.* Тое ж, што і з в а н к é. *Званчакі развадзілі, а абат*

*суцэлны.* Старыя Смільгіні Воран. *Званчакі — часць кола, шэсць сектароў.* Альхоўцы Лях. *Званчакі — часткі кола. Калясо не суцэльнае, з званчакоў. Найбольш два званчакі.* Дзяніскавічы Ганц. *Кола на звенчакох.* Вялікія Баяры Шчуч. *Звенчакі — калі колы з кавалкаў дзелаліся.* Пацаўшчына Дзятл. *Звінчакі — кола без шыны, часць кола. Паехаў на звінчакох.* Граўжышкі Ашм. *У калёсах звінчукі.* Саланое Віл. *Еслі гнецца з ясэна, то называецца обод, а як з кавалкаў — звончакі.* Калясное Міхал.

ЗВАНЬКІ′ *мн.* Бразготкі. *Званькі такія на шыю* [каню] *павесе.* Грыкені Вільн.

ЗВА′НЯ *гл.* ЗВА′ННЯ

ЗВА′РАНЫ *дзеепрым.* Звараны. *У мяне было ўсё зварааная.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яда зварана, будзем есці.* Солы Смарг.

ЗВАРО′ТКА *ж.* Моўны зварот. *Гэту зваротку кінула.* Кураполле Паст.

ЗВАРУ′ХА *ж.* Згода, мір.∇ *Днём сваруха, а ноччу зваруха.* Крэва Смарг.

ЗВАРУШЫ′ЦЬ *зак.* Скрануць з месца. *Зварушыць з месца.* Малахоўцы Бар.

ЗВАРЫ′ЦЦА *зак.* Зварыць што-н. *Зварыся* [звары] *ты сама!* Ёдлавічы Брасл.

ЗВАРЫ′ЦЬ, ЗВАРЫ′ТЫ *зак.* 1. Тое ж, што з в а р ы′ц ц а. *Свіням картопялі зварыць і стаўчы.* Міратычы Карэл. 2. *тэх.* Зрабіць зварку. *Зварыв шыну на колысо.* Сіманавічы Драг.

ЗВАР'ЯВА′ЦЬ *зак.* Звар'яцець. *Ён звар'яваў.* Солы Смарг.

ЗВА′ЦЦА, ЗВА′ЦІСА *незак.* Называцца, насіць імя. *Во, які атадур — у нас зовіцца так.* Рагулішкі Даўг. *Путра зовіцца ў латышоў; вар забаўтаюць мукой — і путра.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бытока — наш сенакос так звоўся.* Мачаск Бярэз. *Дзе як завецца* [урочышча], *я і цяпер помню.* Дзяніскавічы Ганц. *Як завецца Надзіна дзяўчына?* Лоск Валож. *Як яе брат зазецца?* Вецярэвічы Пух. *Шолевка — зовэцца польская хустка.* Смаляніца Пруж.

ЗВАЦЬ *незак.* 1. Называць. *Меншая завець мяне бацькам.* Саланое Віл. *Як яны зовіць, не знаю. Мы зовім пух.* Рагулішкі Даўг. *Чуць дахвацілася, як зовюць гэту траву.* Ахрэмаўцы Брасл. *Раньша гаварылі вісельля, а ціпер свадзьба зовюць.* Індра Красл. *Шленґі звуць.* Старыя Трокі Трак. *Вужом звуць.* Вялікія Баяры Шчуч. *У варстаце на верху бланкі, ручкі звалі, да іх прывязвалі ляда.* Стральцы Гродз. *Неік зовуць яго, не магу ўспомніць.* Ёдлавічы Брасл. *Як яе звуць?* Вялікія Баяры Шчуч., Паляцкішкі Воран. 2. Клікаць. *Наперш маці звуць.* Старыя Трокі Трак.

ЗВАШАВА′ЦЬ *зак.* 1. Зрыць лычам. *Трэба свіням драты*

*вавясці: хата падворак звашавалі.* Гемзы Шальч. *Свіння звашавалі агарот, поля.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Перанесці. *Усю бульбу звашавалі ў склеп.* Бакшты Іўеў.; *гл.* в а ш а в а́ ц ь.

ЗВАЯВА'ЦЬ *зак.* Заваяваць. *Іх немцы зваявалі.* Талейкі Швянч.

ЗВЕ'ЗЦІ, ЗВЕ'СЦІ *зак.* 1. Звезці ў адно месца. *Звезлі салому ў гумно.* Лісна В.-Дзв. *Звезлі ў комнату вешчы.* Пасіене Лудз. 2. Адвезці. *Доктара туды звезлі, ён там і ўмер.* Пасіене Лудз.

ЗВЕНАВЫ' *м.* Звеннявы. *Ён звенавы.* Кураполле Паст.

ЗВЕ'НКАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае. *Звенкая нівядомо што.* Міратычы Карэл.; *парайн.* літ. *žvéngti* 'рагатаць'.

ЗВЕНЧАКІ' *гл.* ЗВАНЧАКІ'

ЗВЕНЯВА'Я, ЗВІНЯВА'Я, ЗВІНАВА'Я, ЗВЯНАВА'Я *ж.* Звеннявая. *Іх звенявая пашла на работу.* Вострава Маст. *Яна была за звінявую.* Альхоўка Навагр. *Яна звінавая, а ён брыгадзір.* Саланое Віл. *Была звянавая на льну.* Быстрыца Астр.

ЗВЕНЯКІ', ЗВІНЯКІ' *мн.* Тое ж, што і з в а н к е́. *Цепер робяць коло, і звенякі ў ём.* Быстрыца Астр., Судэрва Вільн. *Звінякі такія, абадоў не было, а былі кускі дрэва на дзве спрыхі, на тры спрыхі.* Грыкені Вільн.

ЗВЕРАБО'Й, ЗВІРАБО'Й *м. бат.* Зверабой. *Зверабой ат жыватоў п'юць.* Валынцы В.-Дзв. *Зверабой на дзірване расцёт.* Навікі Лудз. *Зверабой цвіціць жоўценькім, як шышка.* Вялікі Лес Круп. *Зверабой ат жаўтухі п'юць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бываіць, містамі не расцець звірабой.* Валынцы В.-Дзв.

ЗВЕРАДЗІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца. *Ой, ты зверадзіўся!* Жыдзевічы Іўеў.

ЗВЕ'РГНУЦЬ *зак.* Нарадзіць раней тэрміну. *Карова звергла.* Малахоўцы Бар. *Карова, кабыла звергла, так усе жывёлы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Звергла карова цяля.* Ванелевічы Кап. *Звергла карова, кабыла, свіня, мо дзе выцелася.* Альхоўцы Лях.

ЗВЕ'РСТВО *зб. н.* Звяр'ё. *Усялякае жыве зверство.* Баброўнікі Гарад.

ЗВЕ'РТКІ, ЗВЁРТКІ *прым.* Спрытны. *Такі ж ён тут і звёрткі да работы.* Гемзы Шальч. *Звёрткая ў рабоце.* Крэва Смарг.

ЗВЕ'РХНАСЦЬ *ж.* ◇ *Узяць зверхнасць* — дамагчыся перавагі над кім-н. *Узяла зверхнасць нада мною.* Дакудава Лід.

ЗВЕ'РХУ *прысл.* На паверхні, з вонкавага боку. *Свіння зверху сівая.* Солы Смарг.

ЗВЕ'СЦІ I *гл.* ЗВЕ'ЗЦІ

ЗВЕ'СЦІ II *зак.* 1. Завесці куды-н. *Звіла міне ў ягады.*

Лісна В.-Дзв. *Звёў цялуху і пабех дамоў.* Саланое Віл. 2. Сасватаць. *Мальца і дзеўку сватаюць, звялі ўмесці — вот і зглядзіны.* Індра Красл. 3. Знішчыць, перавесці. *Адзін гот авечкі звялі.* Саланое Віл. *Цяпер звялі ваўкоў.* Рыбчына Віл. *Пташкаў былі развялі, а патом звялі.* Альхоўка Навагр. 4. Падвесці, падмануць. *Мелася ісці за яго замуш, не пашла, толькі звяла яго і за другога пашла.* Гемзы Шальч. *Падгаварыла да звяла, толькі зводзіць.* Вецярэвічы Пух. 5. *перан.* Падбухтарыць да сваркі. *Звесці, кап пасварыліся.* Чычалі Швянч. ◊ *Звесці са свету* — загубіць, знішчыць. *Яны яго звялі са свету.* Кіралі Шчуч. *С памяці звесці* — страціць прытомнасць. *С памяці звядзе кросны.* Старыя Смільгіні Воран. *Звесці с толку* — выклікаць замяшанне, зблытаць. *Звёў мяне с толку.* Чычалі Швянч.

ЗВЕ′СЦІ III *зак.* Уцягнуць. *Звядзе ў нічальніцы і ў бэрда звядзе.* Стральцы Шальч.

ЗВЕ′СЦІСЯ *зак.* 1. Вывесціся, перастаць існаваць. *Цяпер калапні звяліся.* Груздава Паст. *Аґрэст звёўся ў мяне.* Крэва Смарг. *Звяліся пшчолы: усе абліты амунякам.* Гемзы Шальч. *Звяліся блохі — ні блахі, ні вашэй нет.* Жылі Іўеў. *Радня звялася.* Бакшты Іўеў. *І буські звяліся, і зязюль мала.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Стаць бяздзетнай. *Ты з дзяцей звядзесся: цяшка нясеш.* Гемзы Шальч.

ЗВЕ′СЦЯ *н.* Вестка. *Вы не чулі, а я вам звесця нясу.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *известие* ’тж’.

ЗВЕ′ЧАРА *прысл.* Вечарам. *Месяц свяціў звечара.* Стральцы Гродз. *Нага спохнець звечара.* Магуны Паст.

ЗВЁРТКІ *гл.* ЗВЕ′РТКІ

ЗВІВА′ЦЦА *незак.* Звівацца. *Калтун звіваецца: валасы збіваюцца ў кучу.* Ёдлавічы Брасл.

ЗВІВА′ЦЬ *незак.* Намотваць. *На развітушкі матаюць* [ніткі], *звіваюць.* Крынкі Крын. *У свої палатно звівалі.* Кудзялянцы Шальч.

ЗВІ′ЖАНЯ, ЗВІ′ЖАНЁ *н. рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 14 верасня. *На звіжаня кірмаш бывая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Звіжанё — свята ў Крывічах, у нас называюць крыш.* Альхоўка Навагр.

ЗВІ′ЖКІ, ЗВІ′ШКІ *мн.* Тое ж, што і з в і ж а н я. *Звішкі — свята такоя. А калі гэта летась былі звішкі, у які дзень?* Кураполле Паст.

ЗВІ′ЛІСТЫ *прым.* Са звілінамі. *Бераг тут звілісты, глыбока.* Галубы Маст.; *парайн.* руск. *извилистый* ’тж’.

ЗВІ′ЛЬЖЫЦЬ *зак.* Адсырэць, стаць вільготным. *Звільжала сена.* Сапоцкіна Гродз.; *парайн.* польск. *zwilżać,* літ. *suvilgyti* ’рабіцца вільготным’.

ЗВІНАВА′Я *гл.* ЗВЕНЯВА′Я

ЗВІНДАВА'ЦЦА *зак. перан.* Скурчыцца. *Чалавек звіндуецца, ледзь умейсціцца і ляжыць так.* Перавознікі Астр.

ЗВІНДАВА'ЦЬ *зак.* Падняць пры дапамозе вінды. *Трэба вінду патсунуць і звіндаваць машыну.* Гемзы Шальч.

ЗВІНЕ'ЦЬ *незак.* Гудзець (пра насякомых). *Перад вылятам матка звініць, пшчолы шумяць.* Старыя Трокі Трак. *Муха звініць.* Альхоўка Навагр.

ЗВІНЧАКІ', ЗВІНЧУКІ' *гл.* ЗВАНЧАКІ'

ЗВІНЯВА'Я *гл.* ЗВЕНЯВА'Я

ЗВІНЯКІ' *гл.* ЗВЕНЯКІ'

ЗВІРАБО'Й *гл.* ЗВЕРАБО'Й

ЗВІСТАВА'ННЕ *гл.* ЗВЯСТАВА'ННЕ

ЗВІ'ТНЫ *прым.* Тое ж, што і з в е р т к і. *Звітна баба, як буркайка. Звітны мушчына.* Парэчча Гродз.

ЗВІ'ТЫ *дзеепрым.* Сплецены. *Пуга звіта.* Саланое Віл.

ЗВІХНЕ'ННЯ *н.* Вывіх. *Ест трава звіхнік ад звіхнення.* Гемзы Шальч.

ЗВІХНЁНЫ *дзеепрым.* Вывіхнуты. *Мне спіна звіхнёна.* Валынцы В.-Дзв. *У мяне звіхнёная рука.* Гемзы Шальч.

ЗВІХНУ'ЦЬ *зак.* Вывіхнуць. *Звіхнула нагу, не магу ісці.* Магуны Паст., Кіралі Шчуч. *Звіхнула ногу.* Лука Нараўк.

ЗВІ'ЦЦА *зак.* Звіцца. *За ноч саўецца калтун.* Саланое Віл. *Звіюцца валасы ў каўтун.* Кудзялянцы Шальч.

ЗВІЦЬ *зак.* 1. Скруціць. *Для сябе якую вяроўку і звію.* Ахрэмаўцы Брасл. *Звіе путы. Путы зві!* Паляцкішкі Воран. *Шнурочак звіём і прывяжам.* Кудзялянцы Шальч. 2. Сплесці. *Вянок звіюць і пяюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Звіюць вянок с каласкоў, вянок павесяць на шыю і пяюць абжынкі.* Груздава Паст. 3. Зматаць у клубок. *Звіць клубок трэба.* Старыя Смільгіні Воран. *Звіла ніткі на клубок.* Кіралі Шчуч.

ЗВІША'ЦЬ *зак.* Збуяць. *Звішала картошка.* Альхоўцы Лях.

ЗВІ'ШКІ *гл.* ЗВІ'ЖКІ

ЗВО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Падводзіць, падманваць. *Нашто было людзей зводзіць!* Альхоўка Навагр. 2. Перастаць вырошчваць. *А я ні зводзіла, а ціпер забачце, якая харошая* [бульба]. *Можэ, я ей і не садзіла п, бо так цяшко, вядома, наймаць трэбо рабіць, але надто шкода зводзіць.* Баброўнікі Гарад. 3. *перан.* Падбухторваць да сваркі. *Ня звоць людзей!* Саланое Віл. 4. Уцягваць ніткі. *Ніткі зводзіць у бэрдо. Зводзіць у нічальніцы.* Беняконі Воран. *Ніткі зводзіць у ніты.* Глівін Барыс.

ЗВО'ЖАНЫ *дзеепрым.* Звезены. *Сена звожана ў такі.* Жодзішкі Смарг.

ЗВОЙ *м.* Тое ж, што і з в а л ё к. *Звой — скрутак матэрыялу, палатна.* Старыя Трокі Трак.

ЗВО'ЛІ *прысл.* Павольна. *Шпуля зволі круціцца.* Быстрыца Астр. *Ідзі зволі, не ляці!* Старыя Смільгіні Воран.

ЗВО'ЛЬНІЦЦА, ЗВАЛЬНІ'ЦЦА *зак.* Вызваліцца ад работы. *Хоча звольніцца са звіна.* Жылі Іўеў. *Звальніўся з работы.* Паляцкішкі Воран.

ЗВО'ЛЬНІЦЬ, ЗВАЛЬНІ'ЦЬ *зак.* Вызваліць ад работы. *Узялі і звольнілі з работы.* Кураполле Паст. *Ён яго звольніў з работы.* Груздава Паст. *Ён яе ад свіней звольніў.* Лісна В.-Дзв. *Звальніця мяне!* Гемзы Шальч.

ЗВОН *м.* 1. Звон. *Званэ звоняць.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Гук. *У пустой бочкі звону многа.* Курaполле Паст. *Клекотка с клёну найлучшэ звону давала.* Парэчча Гродз. *Начыня* [пасуда] *цэлая — які звон, а пабітая не звоніць.* Солы Смарг.

ЗВО'НАЧКА *ж.* Чырвоны ромбік у ігральнай карце. *Цвікля — чатырохкантовая звоначка.* Солы Смарг.

ЗВО'НКІ *прым.* Гучны. *Звонка дзерава хароша, ідзёт на будоўлю.* Кіралі Шчуч.

ЗВОНЧАКІ' *гл.* ЗВАНЧАКІ'

ЗВО'НЬЧЫКІ *мн. памянш.* да з в а н о́ к. *Звоньчыкі вешалі на шыю, кап дзынгало.* Каўняны Гродз.

ЗВО'ШЧЫК *м.* Рамізнік. *Звошчыкі ездзілі, наперадзе сядзіць і вязе звошчык.* Грыкені Вільн.

ЗВРАЦА'ЦЬ *незак.* ◊ *Зврацаць увагу* — звяртаць увагу. *На дзяцей зврацаям увагу.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *zwracać* 'тж'.

ЗВУО'Д, ЗВУО'Т *м.* Вочная стаўка. *Што я так нэ говорыла, то можэм на звуот.* Курашэва Чыж.

ЗВУО'ДЧЫК, ЗВУО'ТЧЫК *м.* Зводнік. *Я звуотчыком нэ буду!* Курашэва Чыж.

ЗВЫ'КЛЫ *прым.* Звычайны. *Звыклэ цесто.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *zwykły* 'тж'.

ЗВЫ'КЛЯ *прысл.* Звычайна. *Рашчынілі як звыкля кісель і варылі.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *zwykle* 'тж'.

ЗВЫ'КНУЦЦА *зак.* 1. Прывыкнуць да каго-н. *Звыкліся мы з ім. Стаў маліц чакаць дзяўчыну: яны ўжо звыкліся.* Ёдлавічы Брасл. *Яны так звыкліся, як свае.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Панадзіцца. *Карова звыкла хадзіць у шкоду.* Жодзішкі Смарг. *Твая карова ні звыкла, а мая туды ўсё валачэцца, прама ў шкоду.* Альхоўка Навагр.

ЗВЫ'ЧАЙ *м.* Звычай. *Быў звычай: жыць да столькі гадоў, пакуль можа рабіць, а тады вывозілі ў пушчу, як трэба памерці. На багатую куццю крадуць вароты; дзітва і цяпер цягаюць вароты; прыцягнуць ад хлапца дзеўцы, паставяць вароты — быў звычай такі.* Рыбчына Віл. ▽ *Што край, то звычай.* Саланое Віл.

ЗВЭ'НДАЦЦА *зак.* Здохнуць. *Куранятка збіў я нагой,*

*звэндаласа.* Парэчча Гродз.; *параўн.* ням. *Ende* 'смерць, канец'.

ЗВЯ'ГА *ж.* Крык, лаянка. *Ні хочуць звягаў дурных.* Міратычы Карэл.

ЗВЯ'ГАЦЬ, ЗВЯГА'ТЫ *незак.* 1. Брахаць. *Сабака звягая, прагані яго.* Індра Красл. 2. Назойліва прасіць. *Чаго ён звягаіць, хай замаўчыць!* Індра Красл. *Не звягай бяс толку!* Беразіно Докш. 3. *перан.* Крычаць на каго-н. *Чого вона на його звягае: вын жэ ны выноват.* Сіманавічы Драг.

ЗВЯГЛІ'ВЫ *прым.* Сварлівы. *Дзеці такія звяглівыя, як сама. Дадуць другога звяглівага, які агрызацца будзя.* Мсцібава Ваўк. *Звяглівыя бабы.* Багушэвічы Бярэз.

ЗВЯ'ГНУЦЬ *зак.* 1. Звяць. *Звягла бульва.* Номікі Бабіц. 2. *перан.* Супакоіцца. *Усё звягніць у яго, і злосць пройдзіць.* Мярэцкія Глыб.

ЗВЯГУ'Н *м.* Той, хто надакучае сваім прыставаннем з просьбамі, патрабаваннямі. *Што звягаіш, звягун?* Валынцы В.-Дзв.

ЗВЯ'ЗАВАЦЬ *незак.* Звязваць. *Лён звязавалі ў снапок.* Грыкені Вільн.

ЗВЯ'ЗАК *м.* Звязка льну. *Звязак лёну; у звяску дзесяць скруткаў.* Вострава Маст. *Лён мнуць і вяжуць у звяскі.* Лісна В.-Дзв.

ЗВЯЗА'ЦЦА *зак.* Звязаць. *Нада ніткі звязацца.* Едлавічы Брасл.

ЗВЯ'ЗКА, ЗВЯ'СКА *ж.* Тое ж, што і з в я́ з а к. *Патром лён, звяжам у звяскі і дахаты забяром.* Кіралі Шчуч.

ЗВЯ'ЗЛЫ *прым.* Сыты. *Звязлая жэншчына.* Малькуны Ігн.

ЗВЯЗЫ'СТЫ *м.* Сувязіст. *Яны звязыстамі былі.* Саланое Віл.

ЗВЯЗЬ, ЗВЯСЬ *ж.* 1. Сувязь. *Мелі звясь с парцізанамі.* Саланое Віл. *Звясь с партызанамі была.* Гайна Лаг. 2. Звязка. *Усю звясь* [плытоў] *дзяржыць сала* [востраў]. Ністанішкі Смарг.

ЗВЯ'КА *гл.* ЖВА'КА

ЗВЯНАВА'Я *гл.* ЗВЕНЯВА'Я

ЗВЯНО' *н.* 1. Тое ж, што і з в а н о́. *Шэсць звён* [у коле], *каждую частку звяно звалі.* Мярэцкія Глыб. 2. Звяно ў калгасе. *Палолі звінамі, наша звяно первая было.* Валынцы В.-Дзв. *Іх звяно лепшая ў калхозе.* Альхоўка Навагр.

ЗВЯРНУ'ЦЦА *зак.* 1. Выйсці з-за хмары (пра сонца). *Быў цень, а потым слонца звярнулася, і дзіця згарала.* Солы Смарг. 2. *перан.* Выйсці з цяжкага становішча. *Цяпер мы звярнуліся ў жызні, дзітвара паднілася.* Кураполле Паст.

ЗВЯРНУ'ЦЬ *зак.* 1. Зрушыць з месца. *Ён жа камень не звярнець, такі ме́дзвядзь.* Саланое Віл. 2. Завярнуць, пагнаць

назад. *Я звярну свіні.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Скалечыць. *Хто мне зверніць косць? За што?* Кемялішкі Астр.

ЗВЯРУ'ГА *м.* і *ж.* 1. Вялікі звер. *Ну і звяруга!* Мярэцкія Глыб. 2. *перан.* Вельмі злы чалавек. *Бацько-звяруга.* Міратычы Карэл.

ЗВЯРЫ'НА' *ж.* 1. *зб.* Звяры. *Цяпер нет звяры́ны, дау́ней было звяры́ны многа.* Альхоўка Навагр. *Страляў мой дзет звяры́ну, настраляя із вос вялікі.* Лайпушкі Ігн. 2. Звер. *У лесі аднаму страшна: ці яка звяры́на надыдзе, ці чалавек які лядашты.* Кіралі Шчуч. 3. Тое ж, што і з в я р у́ г а 2. *Ніцяга́лая ўдоўка, яна — што звярына́.* Рыбчына Віл.

ЗВЯРЫ'НСКІ *прым.* Вельмі цяжкі. *На ферме рабіў звярынску работу.* Саланое Віл.

ЗВЯ'СКА *гл.* ЗВЯ'ЗКА

ЗВЯ'СЛА *н.* 1. Клунак, звязак. *Звясла адзежы памыла. Звязала ў звясла адзежу.* Бакшты Іўеў. 2. Нізка, вясло. *Звясла кацелак лазы.* Бакшты Іўеў.

ЗВЯСТАВА'НЯ, ЗВІСТАВА'ННЕ *н. рэліг.* Благавешчанне. *На звяставаня мядзвець устыня.* Жылі Іўеў. *На звіставанне птушкі гнёзда прыляцеўшы ня ўюць.* Індра Красл. *На звіставанне птушачкі прылятаюць; казалі, штоніможна нічога рабіць, а то гадзіна прыдзе ў падворак.* Солы Смарг.

ЗВЯСЦІ' I *зак.* Вывесці, знішчыць. *Барадаўка сядзіць, кап яе звясці!* Кіралі Шчуч.

ЗВЯСЦІ' II *зак.* Пашчасціць. *Ей і звязло.* Дакудава Лід.

ЗВЯСЦІ'СЯ *зак.* Перавесціся. *У нас звялісі пчолы, цвятоў нет, лес кругом.* Лісна В.-Дзв. *Я с курэй звілася: арол падраў курэй.* Валынцы В.-Дзв. *Звілася с курэй: павыдыхалі.* Кураполле Паст.

ЗВЯСЬ *гл.* ЗВЯЗЬ

ЗГАВАРЫ'ЦЦА *зак.* Дамовіцца. *Мы з Амеляй згаварыліся і пажаніліся.* Ракаўскія Швянч. *Узоўтра згаворымса.* Крынкі Крын.

ЗГАВАРЫ'ЦЬ *зак.* Перараказаць, памаліцца. *Дзе ш я згавару тую малітву!* Крэва Смарг. *Трэба схадзіць па нябошчыку пацяры згаварыць.* Жылі Іўеў.

ЗГА'ГА *гл.* ЗА'ГА

ЗГАДА'ЦЬ *зак.* 1. Пагаварыць аб чым-н. *Няхай прыедзе, згадае, мо прывязуць сена.* Сасноўка Смарг.; *парайн.* польск. *zgadać* 'разгаварыцца, згаварыцца, дамовіцца'. 2. Адгадаць, прадбачыць. *На адны суткі астраном пагоды не згадая.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *zgadnąć* 'тж'.

ЗГАДЖА'ЦЬ *незак.* Наймаць. *Пастыра згаджалі, а памагалі па калейцы.* Крэва Смарг.

ЗГАДЗІ'ЦЦА *зак.* Дамовіцца. *Брукары згадзіліся і капаюць дарогу.* Быстрыца Астр.

ЗГАДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Наняць. *Пастыра́ згадзілі.* Рыбчына

Віл. *Згадзілі пастырá.* Жодзішкі Смарг. *Трэба згадзіць пастуха.* Рудня Астравітая Чэрв. *Хлопцаў згадзілі на работу. Раньша трэба было згадзіць пастуха.* Малахоўцы Бар. *Аднаго згадзілі, але ён адумаўся, што мала. Згадзіць пастуха.* Тухавічы Лях. *Згадзілі пастуха.* Номікі Бабіц.; *парайн.* польск. *zgodzić* 'тж'. 2. Дамовіцца. *Я ўжо буракі палоць згаджу.* Дакудава Лід.

ЗГАЛАБУ'ДЗІЦЬ *зак.* Зрабіць абы-як. *Сяк-так згалабудзіла спадніцу і злажыла* [надзела], *во і нашу.* Кіралі Шчуч.

ЗГАЛАДНЕ'ЦЬ *зак.* Прагаладацца. *Я згаладнеў, хачу есці.* Номікі Бабіц.

ЗГАЛАДНЯ'ЛЫ *прым.* Згаладалы. *Свіня згаладнялыя: высыпяць мяшок бульбы, яны грызуць. Згаладнялая карова.* Гемзы Шальч.

ЗГАНДЛЯВА'ЦЬ *зак.* Старгавацца. *Мы згандлявалі: яму аддаў карову, а ён мне — каня.* Курaполле Паст.; *парайн.* польск. *zhandlować* 'тж'.

ЗГА'НІЦЬ *зак.* Даць ганьбу каму-н., чаму-н. *Яна зганіла рыбу.* Ахрэмаўцы Брасл., Саланое Віл.

ЗГАНІ'ЦЬ *зак.* Сагнаць у адно месца. *Людзей зганілі ў адну хату.* Міратычы Карэл.

ЗГАНЬБАВА'ЦЬ *зак.* Пагрэбаваць, разлюбіць. *Ен мною зганьбаваў: перш хадзіў, а ціпер пашоў да другой.* Кіралі Шчуч.

ЗГАНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Змятаць. *Мятлой зганяюць бальшыну — саломку, калосся.* Лісна В.-Дзв. *Мятлой зганяюць каласы.* Беразіно Докш. *Прэд веянем шчыняюць, калосе зганяюць мяцёлкай.* Навадворцы Васільк. 2. Габляваць. *Рубанак спуст спускає, зганяя доску.* Малахоўцы Бар.

ЗГА'РАВІШЧА *н.* Папялішча. *У том згаравішчы.* Альхоўцы Лях.

ЗГА'РАНЫ *дзеепрым.* 1. Згарэлы (пра будынак). *Усе будынкі былі згараны.* Малахоўцы Бар. 2. Падгарэлы (пра печыва). *Згараныя булкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗГАРА'НЫ *дзеепрым.* Узараны. *Поле згарано ўзагон пат сяўбу.* Крынкі Крын.

ЗГА'РАЦЬ *зак.* Атрымаць сонечныя апёкі. *Пастаялка ад абжога, ат сонца, як згараяць — перша лякарства.* Солы Смарг.

ЗГАРБАЦЕ'ЦЬ *зак.* Згорбіцца. *Згарбацеў, ідзеш, як гарбыль.* Кураполле Паст.

ЗГАРБА'ЦЦЯ *зак.* Тое ж, што і з г а р б а ц е́ ц ь. *Баба была простая, а цяпер згарбалася ў крук.* Кіралі Шчуч.

ЗГАРНУ'ЦЦА *зак.* Скурчыцца. *Згарнуўся і лёх. Ляжыць, як корч, на пячэ.* Мсцібава Ваўк. *Згарнулася котка, ляжыць, спіць.* Каўняны Гродз. *Згарнуўса, бо халадно.* Номікі Бабіц.

ЗГАРНУ'ЦЬ *зак.* 1. Скруціць. *Сянік згорняш.* Малахоў-

цы Бар. *Трэ згарнуць кудзелю зрэбну. У свой згарнулі палатно.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Злажыць на рог (пра хусцінку). *Як хусцінку горнеш на крыло? Згарні на крыло!* Вострава Маст. 3. Згрэбці. *Каласкі згорнем аддзельна, аддаем каровя.* Саланое Віл.

ЗГАРУ'ШЧЫЦЬ *зак.* Сабраць, зберагчы. *Згарушчыць можам грошы і купіць машыну.* Гемзы Шальч.

ЗГАРЧА'ЦЬ *зак.* Згоркнуць. *Масла згарчала.* Едлавічы Брасл.

ЗГАРЭ'ЦЦА *зак.* Сапрэць злежаўшыся (пра сена). *Валкаватая сена злажылі, згарыцца.* Кураполле Паст. *Згарыцца сена ды плесняя: дым з яго ідзе, як станаць развалакуваць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗГАРЭ'ЦЬ *зак.* Знішчыцца агнём. *Хата згарэла, агонь велькі быў.* Стральцы Гродз. ∇ *(Хай) згарыць ён* — ужываецца як праклён, выражэнне незадаволенасці чым-н. *Згарыць ён з яго ядой!* Солы Смарг.

ЗГАСІ'ЦЬ *зак.* Патушыць. *Вецер лямпу згасіў.* Крэва Смарг. *Агонь згасім.* Солы Смарг.

ЗГАТАВА'ЦЦА *зак.* 1. Зварыцца, прыгатавацца (пра яду). *Ужо згатавалася яда.* Старыя Трокі Трак. 2. Закіпець (пра малако). *Згатавалася малако.* Старыя Трокі Трак.

ЗГАТАВА'ЦЬ *зак.* Зварыць, прыгатаваць. *Магу што згатаваць есці.* Лоск Валож. *Мушу есці згатаваці.* Гемзы Шальч. *Згатуй сяменя. Я вам картошкі згатую.* Старыя Трокі Трак.

ЗГВА'ЛЦІЦЬ *зак.* Згвалціць. *Ён такі, можа зґвалціць.* Рыбчына Віл. *Ён яе зґвалціў.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗГЕ'ЛІЦЬ *зак. безас.* Званітаваць. *Вот зґеліла мяне! Ката зґеліла: стаіць, яго тузаіць.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *gélti* 'ныць'.

ЗГЕ'РЗАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць абы-як. *Зґерзаць быля [абы]-як.* Мсцібава Ваўк. 2. Стаптаць. *Зґерзалі картошку.* Кіралі Шчуч.; *гл.* з а ґ е р з а ц ь.

ЗГІБ, ЗГІП *м.* Выгін пад каленам. *Нага на зґібя баліць. Зґіп пат каленам.* Мярэцкія Глыб.

ЗГІ'БА *ж.* Тое ж, што і з ґ і б. *Мая зґіба, яна пат каленам. Пад зґібай жыла баліць.* Граўжышкі Ашм.

ЗГІ'БАНЫ *прым.* Пагнуты. *Згібано вядро.* Міратычы Карэл.

ЗГІ'БЕЛЬ, ЗГІ'БЯЛЬ *ж.* Пагібель. *Згібель прышла на іх.* Груздава Паст. *На чалавека згібяль прыходзіць.* Альхоўка Навагр.

ЗГІ'БНУЦЬ *зак.* Сагнуць (дугу). *Дугу якую можна згібнуць.* Магуны Паст.

ЗГІ'БЦІ, ЗГІ'ПЦІ *зак.* Нагнуць дрэва. Магуны Паст.

ЗГІНО'ТА *ж.* Тое ж, што і з г і б е л ь. *Пусцілі яго на згіноту, паехаў, не вярнуўся.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗГІ'НУЦЬ *зак.* 1. Прапасці, згубіцца. *Дзе ён дзенецца, ня згіня!* Лісна В.-Дзв. *Недзя згіня дзіця.* Дакудава Лід. 2. Загінуць, знішчыцца. *Як недаглядзеш, то згіня ўсё.* Лісна В.-Дзв.

ЗГІПСАВА'НЫ *дзеепрым.* Загіпсаваны. *Быў зламаўшы шыю, ляжаў згіпсаваны.* Старыя Трокі Трак.

ЗГІ'ПЦІ *гл.* ЗГІ'БЦІ

ЗГЛА'ДЗІЦЦА *зак.* Зраўнавацца. *Камлі стукнуць аб зямлю, штоб салома згладзілася.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗГЛЕ'ДЗЕЦЬ, ЗГЛЕ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Заўважыць, угледзець. *Як ні згледзіць, яны яе схаваюць.* Кіралі Шчуч. 2. Убачыць. *Як згледзіла яго, стала ляхчэй на душэ.* Ністанішкі Смарг.

ЗГЛУМІ'ЦЬ *зак.* 1. Сапсаваць. *Толькі зглуміла хлеп.* Ракаўскія Швянч. 2. Знявечыць пабоямі. *Зглуміць дзіця наніц.* Баброўнікі Гарад. 3. *перан.* Зняславіць, зганьбіць. *Яна цябе зглуміць.* Курапολле Паст.

ЗГЛУШЫ'ЦЬ *зак.* Заглушыць. *Зглушыла морхва.* Беняконі Воран.; *параўн.* польск. *zgłuszyć* 'тж'.

ЗГЛЮ'СЦІ *зак.* Аслізнуць. *Зглюс сыр.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *suglìsti* 'тж'.

ЗГЛЯ'ДЗІНЫ толькі *мн. абрад.* Агледзіны. *Мальца і дзеўку сватаюць, звялі ўмесці — вот і зглядзіны.* Індра Красл.

ЗГНЕ'СЦІСЯ *зак.* Скамечыцца. *Зґнетлася сукенка.* Жылі Іўеў.

ЗГНЕ'ЦІЦЦА *зак.* Тое ж, што і з ґ н е́ с ц і с я. *Зґнеціла-ся блюска.* Граўжышкі Ашм.

ЗГНЭ'ПІЦЬ *зак.* Скамячыць. *Згнэпіў бумагу.* Быстрыца Астр.; *параўн.* літ. *knẽbti* 'шчыпаць'.

ЗГО'ДА *ж.* Мірныя, сяброўскія адносіны. *Як згода, парадак, жывуць добра, то і зажывуцца.* Солы Смарг.

ЗГО'ДНА, ЗГО'ДНЕ *прысл.* У згодзе, дружна. *Жылі зґодна з ім.* Чычалі Швянч. *Там зґодне жывуць, не калоцяцца.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗГО'ЙШЫЦЬ *зак. экспр.* 1. Растраціць. *Зґойшыў хазяйства.* Малахоўцы Бар. *Зґойшыла грошы.* Вецярэвічы Пух. *Зґойшыла ўсё, што мела.* Альхоўцы Лях. 2. Распрадаць. *Усё зґойшаю!* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *gaišìnti* 'растраціць'.

ЗГО'ЛАВАК *м.* Вузгалаўе. *Зголавак, што накладаецца на пярэднюю ось, а падушка па-рускі.* Масілавічы Сл.

ЗГО'МГАЦЬ *зак. экспр.* З'есці. *Зґомґала ўвесь хлеп!* Гемзы Шальч.

ЗГО'МТАЦЬ *зак. экспр.* 1. Узяць без дазволу, украсці. *Яна згомтала ў мяне рукавіцы.* Альхоўцы Лях. 2. Скамячыць. *Згомтала я сукенку.* Крынкі Крын.

ЗГОН *м.* ◇ *На згон зімы* — на сыход зімы. *На згон зімы купіла.* Лісна В.-Дзв. *На згон зімы пагналі фашыстаў.* Крэва Смарг. *На згон зімы босыя хадзілі.* Саланое Віл. *Карова па-*

*хадзіла на згон зімы, як зіму зганялі.* Гемзы Шальч. *Крыгі ідуць, як на згон зімы.* Малахоўцы Бар.

ЗГО'НІНЫ *зб.* толькі *мн.* Амецце. *Змяталі з зярна згоніны: тут каласкі, дробная салома.* Масілавічы Сл.

ЗГО'РБІЦЦА *зак.* Уцягнуць галаву (пра птушак). *Курыца згорбілася.* Солы Смарг.

ЗГО'РНЕНЫ, ЗГО'РНЯНЫ *дзеепрым.* 1. Згорнуты, складзены. *Маё ўсё згорнена.* Магуны Паст. *Згорняна палатно.* Малахоўцы Бар. 2. Сабраны ў адно месца. *Згорнены пясок ляжаў.* Гемзы Шальч.

ЗГО'РТВАЦЬ, ЗГО'РТАВАЦЬ *незак.* 1. Зграбаць. *У пячурку вуглі і попял згортваюць.* Солы Смарг. *Будзім жыта згортаваць у кучу.* Кураполле Паст. 2. Выціраць. *Кожны дзень пылок згортаваю.* Крэва Смарг.

ЗГРАБА'ЦЬ, ЗГРЭ'БАЦЬ *незак.* Тое ж, што і з г о́ р т в а ц ь 1. *Іду сена ў валке зграбаць.* Кіралі Шчуч. *Каласы граблямі зграбалі.* Відаўцішкі Вільн. *Трэба зграбаць сена.* Гемзы Шальч., Жылі Іўеў. *Жар, попял у ямку зграбаям.* Малахоўцы Бар. *Трэба згрэбаць сена ў валы.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗГРА'БІЦЬ *зак.* Згрэбці. *Зґрабіў сена.* Солы Смарг. *Граблям зґрабіш салому.* Быстрыца Астр.

ЗГРА'БНЫ *прым.* Прыгожы. *Яна на твары зграбная.* Лісна В.-Дзв.

ЗГРА'БНЯ *прысл.* Зграбна. *Зґрабня шылі дзяўкі.* Кудзялянцы Шальч.

ЗГРАБЦІ', ЗГРАПЦІ' *зак.* Тое ж, што і з ґ р а́ б і ц ь. *Зграбла добры стажок, скідалі ў копкі.* Альхоўцы Лях.

ЗГРАБЦІ'СЯ, ЗГРАПЦІ'СЯ, ЗГРО'ПЦІСЯ *зак. перан.* Сабрацца. *Пляменіца зграблася і пашла ад яе.* Кураполле Паст. *Як Дуся прагнала, ён згропся і прыехаў да міне.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* літ. *susigriẽbti* 'схамянуцца'.

ЗГРАІ'ШЧА *н. павел. перан.* Вялікі натоўп. *Зграішча было п людзей.* Кіралі Шчуч.; *гл.* з г р а́ я.

ЗГРА'ЙШЧЫНА *ж.* Тое ж, што і з г р а́ і ш ч а. *Зграйшчына народу была на гуліцы, везлі бабу на баране.* Кіралі Шчуч.

ЗГРАМА'ДЗІЦЬ *зак.* Пабудаваць. *Хата даўнейша, упярот зграмадзіў.* Маствілішкі Ашм.; *парайн.* літ. *gramõzdinti* 'нязграбна рабіць'.

ЗГРАМАЗДЗІ'ЦЬ *зак. экспр.* Зрабіць абы-як. *Зграмаздзіў, кап бох сцярох; гэта работа яго нікуды не гадзіцца.* Гемзы Шальч.

ЗГРАПЦІ' *гл.* ЗГРАБЦІ'

ЗГРАПЦІ'СЯ *гл.* ЗГРАБЦІ'СЯ

ЗГРА'Я *ж.* Група ваўкоў. *Бальшая зграя ваўкоў была* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *grujà* 'тж'.

ЗГРО'ПЦІСЯ *гл.* ЗГРАБЦІ'СЯ

ЗГРУ'ЖАНЫ, ЗГРУ'ЖАНЫЙ *дзеепрым.* Стаптаны. *Згружано балото.* Альхоўцы Лях. *Каровы сюды завшы гонымо поіты, то тут вжэ такое болото згружанэ.* Сіманавічы Драг.

ЗГРУЗІ'ЦЬ, ЗГРУЗЫ'ТЫ *зак.* Стаптаць. *Коні, каровы згрузілі санажаць.* Жылі Іўеў. *Коровы чысто згрузылы болото коло канала.* Сіманавічы Драг.

ЗГРЫБЕ'ЦЬ *зак.* Спарахнець. *Згрыбеў бурак, і яму час сходзіць.* Асавец Віл. *Грып чыста згрыбеў, возьмеш у рукі — і разваліцца.* Кіралі Шчуч.

ЗГРЫ'ЖАНЫ *дзеепрым.* Згрызены. *Згрыжана асіна бабрамі.* Швэды Вільн.

ЗГРЫЗЛІ'ВЫ *прым.* Сварлівы. *Яна такая згрызлівая: маці пацярпіць, а я не магу.* Гемзы Шальч.

ЗГРЫЗО'ТА *ж.* Перажыванне. *Згрызота мяне ўбіла.* Івашкаўцы Смарг.

ЗГРЫЗО'ТЫ *мн. экспр.* Сварка. *Усе згрызоты і згрызоты ў хаці.* Кіралі Шчуч.

ЗГРЫ'ЗЫ *мн.* Перажыванні. *У жыцці згрызы бываюць усялякія.* Івашкаўцы Смарг.

ЗГРЫ'МШЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і з г о́ м т а ц ь 1. *Мужык згрымшчыць грошы ў свой карман; згрымшчыла нявестка грошы.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* літ. *susigrémžti* 'захапіць'.

ЗГРЫ'ПЦІЦЬ *зак.* Тое ж, што і з г о́ м т а ц ь 1. *Згрыпціў яе адзежу.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *sugriẽbti* 'схапіць'.

ЗГРЫ'СЦІСЯ *зак. перан.* 1. Пасварыцца. *Дома згрызесся — і на рабоце непрыятнасць.* Кіралі Шчуч. 2. Змучыцца. *Згрыся бедны, калі даведаўся, што сын памёр.* Жылі Іўеў.

ЗГРЫЯ'НТ *м.* Натоўп, зборышча людзей. *А народу згрыянт, калі сабіраюцца.* Груздава Паст.; *параўн.* літ. *grėjus* 'разавы ўлоў рыбы'.

ЗГРЭ'БАЦЬ *гл.* ЗГРАБА'ЦЬ

ЗГРЭ'БІНЫ, ЗГРЭ'БЕНЫ толькі *мн.* Каласы, дробная салома пасля абмалоту збожжа. *Змалацілі жыта, ячмень і каласкі зграбаюць — гэта згрэбіны.* Быстрыца Астр. *Згрэбіны — саломка с каласкамі.* Стральцы Шальч. *Змяталі жыта, ячмень, згрэбіны зграбалі.* Старыя Трокі Трак. *Граблімі зграбаюць усе каласы і салому, каласы называюць згрэбіны, патом венічкам змятуць.* Альхоўка Навагр. *Згрэбены зграбалі. Згрэбены — бо грабліма выграбаеш.* Сасноўка Смарг.

ЗГРЭ'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Згрэбены. *Згрэбленая сена знісла.* Кураполле Паст.

ЗГРЭ'БЛІНА *ж.* Грубае палатно. *Я свайму мужу калісь шыла з згрэбліны нагавіцы.* Бяброўнікі Гарад.

ЗГРЭ'БНІНЫ *мн.* Валакно, атрыманае пасля першага ча-

сання льну. *Згрэбніны — первая апчэска лёну; ткалі шарак са згрэбніны.* Гемзы Шальч.

ЗГРЭ'БЦІ, ЗГРЭ'ПЦІ *зак. экспр.* Забраць. *Усё зграбець у свой карман і не даець.* Кураполле Паст.

ЗГРЭ'ЙЗАЦЬ *зак. экспр.* 1. Зрабіць абы-як што-н. *Як іна шыіць, згрэйзаіць так-сяк. Згрэйзаў, абы з рук здаў, а з нох само зваліцца.* Кураполле Паст. 2. Напісаць крыва. *Ты не напісала, але згрэйзала.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *grevezóti* 'тж'.

ЗГУ'БА *ж.* Пагібель. *Згубаў на чалавека многа.* Паляцкішкі Воран. *Цэлая згуба етая п'янка.* Вецярэвічы Пух.

ЗГУБІ'ЦЬ *зак.* 1. Страціць. *Згубілі падштанікі.* Саланое Віл. *Вона згубіла рубля.* Смаляніца Пруж. 2. Загубіць. *Яшчэ п пажыла, кап не такі мужык — згубіў сваім біццём.* Пацаўшчына Дзятл. ∇ *Лепі з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці.* Кураполле Паст. ◇ *Згубіць са свету* — загубіць, знішчыць. *Згубілі яе са свету свае ж дзеткі.* Галубы Маст. *Абы з свету згубіць.* Вецярэвічы Пух. *Згубіць мяне* — зрабіць няшчасным. *Вайна згубіла мяне.* Солы Смарг.

ЗГУО'РОК *м.* Узгорак. *Лоні* [прошлы год] *на згуоркові найхоруошчэ жыто было, а сёголіта пропало.* Курашэва Чыж.

ЗГУ'СНУЦЬ *зак.* Загусцець. *Згусла б'ючыся* [смятана]. Магуны Паст.

ЗГУШЧО'НЫ *прым.* Густы. *Ель там згушчоная, што не пройдзеш.* Беразіно Докш.

ЗДАВА'ЦЦА *незак.* 1. *безас.* Уяўляцца. *Там сівы вол здаваўся.* Жылі Іўеў. 2. *пабоч.* Здаецца, здавалася. *Здаецца, гэтага і не было.* Саланое Віл.

ЗДАВЁН-ДАЎНА', ЗДА'ВІН-ДАЎНА' *прысл.* Здаўна. *У кублы людзі накладалі палатна здавён-даўна.* Магуны Паст. *Здавін-даўна гэта ноч мела вялікая значэнне.* Груздава Паст.

ЗДА'ВЯН *прысл.* Тое ж, што і з д а в ё н-д а ў н á. *Ярмак і чуйка — здавян, боляй чуйка.* Магуны Паст.

ЗДАГНА'ЦЬ *зак.* Дагнаць. *Бяжы, здагоніш! Трэба бехчы, кап здагнаць.* Магуны Паст.

ЗДАІ'СЯ *пабоч.* Тое ж, што і з д а в á ц ц а 2. *Я, здаіся, на мінутку ішла — і замарудзіла.* Малькуны Ігн.

ЗДАКУ'ЧЫЦЬ *зак.* Надакучыць. *Мне здакучыць, расцілаю карты і гадаю.* Граўжышкі Ашм.

ЗДАЛЕ'ЦЬ *зак.* Здолець. *Яна засохла — хадзіць не здалеіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗДАЛЁК, ЗДАЛЕ'КА, ЗДА'ЛІКУ, ЗДА'ЛЯК *прысл.* 1. На вялікай адлегласці. *Здалёк чуваць.* Солы Смарг. *Здалёк шчэ бачыла.* Горск Бяроз. *Я его здалека познаю.* Курашэва Чыж. *Здаляк пахня, як квітня грыка.* Старыя Смільгіні Воран. 2. З далёкай мясцовасці. *Ён ідзе здалёк.* Міратычы Карэл. *Гэта*

*краўчыха здалека.* Навасёлкі Свісл. *Вы здалека?* Курашэва Чыж. *Узяў яе здаліку.* Асавец Віл.

ЗДА'ЛІ *прысл.* Тое ж, што і з д а л ё к 1. *Я здалі відзіла маладую.* Кураполле Паст.

ЗДАЛІКА'ЦІЦЬ *зак.* Заправіць, закрасіць. *Здалікацяць, абы смашнага пад'есці.* Лісна В.-Дзв.

ЗДА'НКІ *мн.* Зданні. *Казалі, што даўней былі чараўнікі, чаравалі зданкі.* Валынцы В.-Дзв.

ЗДА'ННЯ, ЗДА'НЯ *н.* Здань, прывід. *Здання здаецца.* Мярэцкія Глыб. *Здання прывіджваяцца.* Рыбчына Віл. *Здання мне здалося.* Рудня Астравітая Чэрв. *Здання мне дзісь здалося.* Граўжышкі Ашм.

ЗДАНЬ *ж.* і *н.* Тое ж, што і з д а́ н н я. *Гэта не здань, а праўда была, ваўкі нападалі.* Кіралі Шчуч. *Аднаго разу мне здань здалося.* Гемзы Шальч.

ЗДАРАВЕ'НЯ *м.* і *ж.* Чалавек моцнага целаскладу. *Такі здаравеня, сыты, мажны.* Галубы Маст.

ЗДАРАВІ'ЛА *м.* і *ж.* Тое ж, што і з д а р а в е́ н я. *Ну і здаравіла!* Рыбчына Віл.

ЗДАРАВО', ЗДАРО'ВА, ЗДО'РАВА, ЗДО'РАВО *прысл.* 1. Вельмі добра. *Здарава і васало было.* Старыя Смільгіні Воран. *Сённі здарава было.* Навасёлкі Свісл. *Здарава на дварэ.* Каменка Стара Сакол. *Здорава на дварэ!* Альхоўцы Лях. 2. у знач. *вык.* з адмоўем *не.* Дрэнна сябе адчуваць. *Мне ні здарава.* Граўжышкі Ашм. *Ні здарава, галава мая нека балюшча.* Калядзічы Ваўк. 3. у знач. *вык.* Добра для здароўя, карысна. *Саладуху варылі да таго, пакуль салотка станя, тады яна здарава і ўкусна.* Дакудава Лід. *Здарава кіслая малако есці.* Паляцкішкі Воран. *Маладыя шчытаяць, што загарваць— гэта здарова.* Ракаўскія Швянч. *Чамбор здарова піць.* Солы Смарг.

ЗДАРАВЮ'ШЧЫ *прым.* Моцны, здаровы. *Здаравюшчыя пенсіянеры, а дома сідзяць. Ну, быў здаравюшчы!* Рыбчына Віл.

ЗДАРА'ЦЦА *незак. безас.* Выпадаць на чыю-н. долю. *Не здараласо мне быць у шпіталю.* Каўняны Гродз.

ЗДАРО'ВЕ, ЗДАРО'ЎЕ *н.* Здароўе. *Слабое здарове.* Паляцкішкі Воран. ▽ *Ад нас здароўя ідзець пудамі, а к нам — залатнікамі.* Валынцы В.-Дзв.

ЗДАРО'ВІЦЦА *незак. безас.* Пра добры стан здароўя. ▽ *Як той казаў: як будзя здаровіцца, работка паробіцца.* Граўжышкі Ашм.

ЗДАРО'ВЫ *прым.* 1. Які мае добрае здароўе. *Высокая, здаровая і памёрла, учора хавалі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Здаровая дзеўка, як сыр.* Ёдлавічы Брасл. *Нічога ш нядобра так, як чалавек здаровы.* Лісна В.-Дзв. *Я была здарова, магла работаць.* Новыя Мацалі Варэн. 2. Марозны, ядраны. *Здаровая*

*раніца.* Дакудава Лід. *Здарова раніца, аш прымаразак.* Кіралі Шчуч. *Здарова раніца была.* Міратычы Карэл. ∇ *Як здароў — сем паноў, як занямох — адзін бох.* Бакшты Іўеў.

ЗДАРО'ЎКАЦЦА *незак.* Вітацца. *Здароўкацца буду з ім.* Лісна В.-Дзв. *Ён заўсёды здароўкаяцца.* Дакудава Лід.

ЗДАРО'ЎШЫ *прым. выш.* Здаравейшы. *Яна здароўша* [за сястру] *і ходзіць, як пані.* Кіралі Шчуч. *Здароўша за мяне.* Старое Сяло Зэльв. *Здароўшы за яго.* Міратычы Карэл. *Саша здароўша.* Вялікі Краснік Пруж.

ЗДАРЫ'ЦЬ *зак.* Абдарыць. *Яго здарылі грашыма.* Вострава Маст.

ЗДАРЭ'ЦЬ *незак.* Ялчаць. *Здарэіць сала, становіцца жоўтым.* Саланое Віл.

ЗДА'ТНА, ЗДА'ТНО *прысл.* 1. Добра, умела. *Здатна зґарадзіў плот.* Кіралі Шчуч. 2. Прыгодна, прыдатна. *А цяпер усё здатно па новай модзі да харашо.* Грыцкевічы Зэльв.; *парайн.* польск. *zdatny* 'тж'.

ЗДАТНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Больш прыдатны, адпаведны па сваіх памерах. *Гэта шынель здатнейшая.* Стары Свержань Стаўб.

ЗДА'ТНЫ *прым.* 1. Здольны, умелы. *Здатны да ўсякея работы.* Міратычы Карэл. *Ты быў здатны да работы.* Навасёлкі Свісл. 2. Прыгодны. *Дулька нікуды ні здатна, каровя яе слалі.* Быстрыца Астр. 3. Добры. *У калхозі е здатна кабыла.* Заполле Гродз.

ЗДАЎЖЫ'ЦЦА *гл.* ЗДО'ЎЖЫЦЦА

ЗДА'ЎНА', ЗДА'ЎНЯ *прысл.* З даўняй пары. *Мы здаўна падзяліўшыся.* Кураполле Паст. *Здаўна нам не прыхадзілася работаць* [на зямлі]. Скрудалена Даўг. *Герґунамі завуць іх здаўна: ні разбярэш іх, што гаворань.* Жодзішкі Смарг. *Ела здаўна кіслую капусту.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Карты здаўна саздавалі.* Лісна В.-Дзв. *Здаўна ён хварэіць.* Ёдлавічы Брасл. *Здаўна пры радні жыву.* Індра Красл. *Тут насаджана дзеравяў здаўна.* Рагулішкі Даўг. *Здаўна ён там жые на гэтым мейсцу.* Гемзы Шальч. *Гэдак аслабла здаўня.* Рыбчына Віл.

ЗДА'ЦЦА *зак.* 1. *безас.* Уявіцца. *Гэта вам здаецца.* Ністанішкі Смарг. *Нешта здалося, бо напіўся.* Жылі Іўеў. *Агнём не здасца страх.* Кудзялянцы Шальч. 2. Спатрэбіцца. *Нашто ён мне здаўся!* Груздава Паст.

ЗДАЦЬ *зак.* Перадаць. *Усю гаспадарку здалі на яго.* Стральцы Шальч.

ЗДВА'ІВАЦЦА *незак.* Спароўвацца. *Пчала на ляту здваіваецца.* Быстрыца Астр.

ЗДВАЯ'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і з д в а́ і в а ц ц а. *На сёмы дзень* [пчала] *ідзе на залятання і здваяецца с трутнем.* Быстрыца Астр.

ЗДЗЕ'КАВАЦЦА, ЗДЗЕ'КУВАЦЦА *незак.* Мучыць каго-н. *Здзекавалася з яе.* Лісна В.-Дзв., Кіралі Шчуч. *Нап'ецца, прыдзя, бушуя, да ён здзекуецца з яё.* Вецярэвічы Пух. *З цябе будуць здзекувацца паны.* Альхоўка Навагр.

ЗДЗЕ'КСТВА *н.* Здзек. *Такоя здзекства!* Граўжышкі Ашм.

ЗДЗЕРАВЯНЕ'ЦЬ, ЗДЗЯРАВЯНЕ'ЦЬ *зак.* 1. *перан.* Астыць. *Каша гатова, мыйся скора, бо яна здзеравянея!* Граўжышкі Ашм. 2. Прамерзнуць. *Зямля здзяравянела ат холаду, якая ш была работа.* Кіралі Шчуч.

ЗДЗЕРЖА'ЦЦА *зак.* Уцалець. *Бура прайшла, здзержаліся кусты.* Гемзы Шальч.

ЗДЗЕ'РЖАЦЬ *зак.* Стрымаць слова. *Ён ні здзержаў слова.* Жодзішкі Смарг.

ЗДЗЕ'РЖЫЦЦА *зак.* Спыніцца. *Ён крычыць: «Тпру!» Конь здзержыўся.* Дзесятнікі Валож.

ЗДЗЕ'РЦІ, ЗДЗЕРЦЬ, ЗДЗЁРЦЬ, ЗДЗЁРЦІ *зак.* 1. Злупіць. *Здзерыш скуру з яга.* Груздава Паст., Саланое Віл. *Котка з пацука скуру здзярэ.* Гемзы Шальч. *Здзёрць скуру нада.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Зняць сілай што-н. надзетае. *Мы шапярнулі хлапцом, кап ні чапалі, а самі здзёрлі штаны і насыпалі кастры.* Саланое Віл.

ЗДЗЕЦЬ *зак.* Зняць. *Здзень пальто, ба хораша* [цёпла]. Саланое Віл.

ЗДЗЕЦЯНЕ'ЦЬ *зак.* Здзяцінець. *Здзецянеў стары чалавек.* Парэчча Гродз.

ЗДЗЁРГІВАЦЬ *незак.* Зразаць. *Лён абдзіраць былі нажы з дзеравяннай ручкай: прывязвалі на казялкі і здзёргівалі.* Мельнікі Лудз.

ЗДЗЁРЦЬ, ЗДЗЁРЦІ *гл.* ЗДЗЕ'РЦІ

ЗДЗЁЎГАЦЬ *зак. экспр.* З'есці. *Купіла два кіля памідор і здзёўгала ўсё.* Жылі Іўеў.; *парайн.* літ. *džẽganos* 'аб'едкі'.

ЗДЗІВІ'ЦЬ *зак.* У забабонных людзей — пашкодзіць каму-н. дурным вокам. *Здзівілі цялуху, вымя распухла.* Саланое Віл.

ЗДЗІРА'ЦЬ *незак.* Счышчаць. *Ножам луску* [у рыбы] *здзіраюць.* Солы Смарг.

ЗДЗІРВАНЕ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца дзірваном. *Зусім у нас здзірванела зямля.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *dirvónas* 'аблога'.

ЗДЗІЧЭ'ЦЬ *зак.* Адзічэць. *Здзічэлі кролікі.* Грыкені Вільн.

ЗДЗЯВА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і з д з е́ к а в а ц ц а. *Немяц добра здзяваўся: згоніць у будыніну, спаліць сям'ю.* Саланое Віл. *Во, як здзяваліся паны над бедным народам!* Анкуды Ашм. *Паняў я гэтыя дэфензывы, як здзяюцца с простага народа.* Асташына Навагр.; *парайн.* руск. *издеваться* 'тж'.

ЗДЗЯРАВЯНЕ'ЦЬ *гл.* ЗДЗЕРАВЯНЕ'ЦЬ

ЗДЗЯЎБА'ЦЬ *зак.* Здзёўбаць. *Птушкі здзяўбалі канаплі.* Каўняны Гродз.

ЗДЛУ'ЖЫЦЦА *зак.* Здацца доўгім (пра час), зацягнуцца. *Мамо, ці здлужылася вам жывучы?* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *dłużyć się* 'доўга цягнуцца, зацягвацца (пра час)'.

ЗДО'БЫЧ *ж.* Здабыча. *Вот уся здобыч мая!* Граўжышкі Ашм.

ЗДО'ЛІЦЬ, ЗДО'ЛЯЦЬ, ЗДО'ЛАТІ *зак.* 1. Змагчы зрабіць што-н. *Я ні здолію!* Ахрэмаўцы Брасл. *Не здоляю смяяцца.* Гемзы Шальч. *Здоліў укаціць барана на вос, а дома паглядзеў — камянь на возя, п'яны ён быў.* Кудзялянцы Шальч. *Чы я здолаю всё зробіті?* Курашэва Чыж. 2. Асіліць. *Янук Фэльку здоляў.* Гемзы Шальч.

ЗДО'ЛЬНАСЦІ *мн.* Схільнасці да заняткаў. *Яна кемная, здольнасці мае.* Гемзы Шальч.

ЗДО'НЖЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і з д о́ л і ц ь 1. *Не здонжу ісці!* Ністанішкі Смарг. *Невядома, ці здонжую да поезда.* Старыя Трокі Трак. *Я ня здонжу падняць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *zdążać* 'паспяваць'.

ЗДОР *м.* Нутраны свіны тлушч. *Брушное сала—гэта здор.* Солы Смарг. *Са здорам капуста смачная.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Здор круцяць у скруткі і прасольваюць, перцу, часнаку кладуць у кошык і на гарэ вешаюць.* Кіралі Шчуч. *Здор здзіраюць ад шыі да нох.* Малахоўцы Бар. *Здор скручуюць і солю пасоляць; скруціў здор у скрутак.* Рудня Астравітая Чэрв. *Скруціла здор у трупку і палажыла. Здор ат кішак.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗДО'РАВА, ЗДО'РАВО *гл.* ЗДАРАВО'

ЗДО'РЫЦЬ *незак.* Сварыцца. *Вы будзеце спорыць і здорыць.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *вздорить* 'тж'.

ЗДО'ЎЖЫЦЦА, ЗДАЎЖЫ'ЦЦА *зак.* 1. Тое ж, што і з д л у́ ж ы ц ц а. *Здоўжыліся вы тут?* Быстрыца Астр. *Я за работай, і то мне дзень здоўжыцца.* Лісна В.-Дзв. *Здоўжылася ўжо, дамоў хачу. Ужо так здоўжылася мне!* Ракаўскія Швянч. *Натта мне здоўжылася.* Альхоўка Навагр. *Вам здоўжылася?* Груздава Паст. *Ім ужэ здоўжыцца пасучы.* Номікі Бабіц. 2. Зачакацца. *Я яго здаўжыўся.* Ракаўскія Швянч.

ЗДО'ХЛЫ *прым. перан.* Вельмі худы. *Здохлы, а-я-яй, які ш ён здохлы!* Кіралі Шчуч.

ЗДО'ХНУЦЬ *зак.* Падохнуць. ∇ *Ня можаш рабіць, кап ты здох!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗДО'ХЦІ *зак.* Тое ж, што і з д о́ х н у ц ь. *Можа здохці пісклёнак.* Саланое Віл. *Здохці мажэ* [парася]. Рудня Астравітая Чэрв.

ЗДРА'ВЫ *прым.* Моцны, дужы. *Здравага мушчыну нада.* Індра Красл.

ЗДРА'ГАЦЦА *зак.* Стаміцца ад трасяніны. *Я чуць устаць,*

*а яны міне прыдзержылі; я здрагалася, на калёсах сідзя.* Валынцы В.-Дзв.

ЗДРА'ДЗІЦЬ *зак.* Парушыць вернасць. *Ён мяне здрадзіў. Ён тую дзеўку здрадзіў.* Саланое Віл.

ЗДРАЖНІ'ЦЬ *зак.* Перадражніць. *Здражнілі яе ў свекрэвіхі, скрывілі.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗДРАЙ *м.* Глыбокая крыніца. *Такія там здраі на балотах; як пападзеш у здрай, то ні выйдзяш.* Масевічы Ваўк.; *параўн.* польск. *zdrój* 'струмень, які выцякае з крыніцы, крыніца, струга' (СВ, VIII, 422), руск. *струя* (Фасм., III, 31—32).

ЗДРАНТВЕ'ЦЬ *зак.* Здранцвець. *Здрантвела нага — здзервенела.* Лука Нараўк.

ЗДРАПА'ЦЬ *зак.* Скапаць лапамі. *Здрапалі куры гуркі.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗДРА'СТВАВАЦЬ *незак.* Вітаць. *Нікога не хоча здраставаць.* Сакаўшчына Валож.

ЗДРАТАВА'ЦЬ I *зак.* Затаптаць. *Не ідзі, Вэлюнька: цябе труські [каровы] здратуюць.* Гемзы Шальч.

ЗДРАТАВА'ЦЬ II *зак.* Звіць, скруціць з некалькіх тонкіх вяровак. *Звіе вяроўку, а потым на крук круціць, здратуе, а трэцяй павівае.* Паляцкішкі Воран.

ЗДРАТАВА'ЦЬ III *зак.* Пракалоўшы, уцягнуць дрот у лыч. *Кнура трэба здратаваць.* Саланое Віл.

ЗДРО'ВЯ *н.* Здароўе. *Можа мне здровя бацяны прынеслі?!* Жылі Іўеў. *Страціў здровя, да сына ездзячы.* Гемзы Шальч. *Дзеці здровя набіралі.* Стральцы Шальч.; *параўн.* польск. *zdrowie* 'тж'.

ЗДРОК *м.* Авадзень. *Здракі е, кароў кусаюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Здрок — спецыяльна лашадзям, кап агніт [гнід] напускаць у ногі.* Тухавічы Лях. *Здракі кусашчыя, хай карова пачуя — пачне гізаваць.* Альхоўцы Лях.

ЗДРО'ЧЫЦЬ *незак.* Свярбець. *Кату морду аб'елі, яму і здрочыць.* Саланое Віл.; *гл.* д р а ч ы́ ц ь.

ЗДРУЗЕ'ЦЬ *зак.* Струхлець. *Дрэва здрузея, згніе саўсем.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *drūzgėti* 'крышыцца', *drūzgas* 'смецце, дробны кавалак чаго-н.'

ЗДРЫГАНУ'ЦЦА *зак.* Зварухнуцца. *А тут я стаю, гляджу і ні здрыгануся.* Лісна В.-Дзв.

ЗДРЫГА'ЦЦА *незак.* Уздрыгваць. *Як стукніць хто — я здрыгаюсю, так спугаюсю.* Валынцы В.-Дзв.

ЗДУДУ'ЛІЦЦА *зак.* Скурчыцца. *Курчук здудуліўся.* Старыя Смільгіні Воран. *Чаго ты здудуліўся?* Вялікія Баяры Шчуч.; *параўн.* літ. *dū̃dulti* 'відаць, мільгаць, мільгацець'.

ЗДУ'ЖАЦЬ, ЗДУ'ЖАТІ *зак.* 1. Адолець, перамагчы каго-н. *Ці здужаям яго? Ен мяне здужая, я слабейшы яго.* Кіралі Шчуч. 2. Здолець, змагчы. *Яна ня здужая прынесці вады.* Лісна В.-Дзв. *Есь маленькі сын, алі ён ня здужаіць касіць.*

Груздава Паст. *Валя, ты ня здужаяш занясці цялушцы.* Кіралі Шчуч. *Ні здужала адна падняць.* Новікі Гродз. *А ніц нэ здужаем, коб здужаў косіці, ды сена накосіў, наробіў, а то ніц нэ здужаем мужчынского робіці.* Смаляніца Пруж. *Я ўжэ тэпэр хвора і нэ здужаю тяшко робіті. Коб я здужала робіті!* Курашэва Чыж.

ЗДУЛЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з г а р э́ ц ц а. *Сена здулея лежачы, калі сыроя зробіцца, у пліту возміцца.* Граўжышкі Ашм. *Здулела сена, сівоя зрабілася.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *sudūlėti* 'тж'.

ЗДУ'МАЦЬ, ЗДУ'МАТІ *зак.* 1. Успомніць. *Я цяпер хужа забываюся: палажу і забуду, але после здумаяш.* Малахоўцы Бар. *Я ўжэ здумала.* Вострава Маст. *Здумала і адсыпала насеня.* Мсцібава Ваўк. *Здумаю пра іх.* Альхоўцы Лях. *Часто сваю маму здумаю, а яна казала: «Пачакай, прыдзеш маіх гот, ні рас мяне здумаеш».* Дзяніскавічы Ганц. 2. Прыдумаць, выдумаць. *Ні здумаяш, што яна звара.* Лісна В.-Дзв. *Але чорт яго здумая.* Дзяніскавічы Ганц. *Вуон штось здумав і говорыт невіт што.* Курашэва Чыж. 3. Надумаць. *Здумала піць, а зімната!* Ракаўскія Швянч.

ЗДУМЕ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і з д ý м а ц ь 1. *Здумелася яна, як ён сказаў пра яе.* Жылі Іўеў.

ЗДУМЛЯ'ЦЬ *незак.* Выдумляць. *Нехарашо, мама, што ты здумляіш.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗДУРНЕ'ЦЬ *зак.* Адурэць. *Можна здурнець так.* Чычалі Швянч.

ЗДУРНІ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з г л у м í ц ь 3. *Яна цябе зглуміць, здурніць, і ты, як лунь, будзіш.* Кураполле Паст.

ЗДУРО'НЫ *прым.* Збалаваны. *Здуроная дзіця.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗДУРЭ'ЦЬ *зак.* 1. Страціць розум. *Мама здурэла, як сына застрэлілі.* Паляцкішкі Воран. 2. Зрабіць глупства. *Ты здурэла!* Стральцы Гродз. *Здурэла баба.* Смаляніца Пруж. 3. Збалавацца. *Цялушка здурэла: пойла ня п'ець, травы ня есць!* Саланое Віл.

ЗДУ'ТІСЕ *гл.* ЗДУ'ЦЦА

ЗДУХ *м.* Упадзіна ў баку каровы. *Корова голодна, бо здухі повтягало.* Курашэва Чыж.

ЗДУ'ХА *ж.* Дрыгва. *Зямля трасецца, як здуха.* Міратычы Карэл.

ЗДУХАВА'ТЫ *прым.* Балоцісты, дрыгвяністы. *Здухавата зямля каля балота, ніская.* Мсцібава Ваўк.

ЗДУ'ХАВІНА І *ж.* Падзолістая глеба. *Здухавіна — гліна белая, а пад ею вада, поля такоя плахоя.* Старыя Трокі Трак. *Здухавіна — благоя поля.* Дакудава Лід. *Здухавіна, гдзе нічого не расце. Можа быць і палявоё место.* Малахоўцы Бар. *Здухавіна — благая зямля.* Альхоўка Навагр.

ЗДУ'ХАВІНА II *ж.* Тое ж, што і з д у х. *Калі карові ў здухавіну дасі кулаком, то яна паваліцца.* Гемзы Шальч.

ЗДУ'ЦЦА, ЗДУ'ТІСЕ *зак.* Раздзьмуцца, апушыць. *Нешта курыца здулася, ні хоча есць, мусі здохня.* Кіралі Шчуч. *Корова об'еласе капусты і здуласе.* Курашэва Чыж.

ЗДУЦЬ *зак. безас.* Раздзьмуць, апушыць. *Здула карову.* Дакудава Лід., Альхоўцы Лях.

ЗДЫМА'ЦЬ *незак.* 1. Здзіраць, лупіць. *Скуру с цяляці здымаюць. Трэба здымаць скуру с каждай жывёлы і звяроў.* Альхоўка Навагр. 2. Збіраць. *Як усё даспея, трэба здымаць с поля.* Ліпнікі Вільн. 3. *перан.* Пачынацца, узмацняцца (пра болі). *Здымая на болі.* Старыя Смільгіні Воран. ◊ *Здымаць швы. Швы здымаяць і атпраўляюць* [хворага дахаты]. Гемзы Шальч.

ЗДЫ'МШЧЫК *м.* Фатограф. *Ходзіць здымшчык па дзярэўні, здымкі робіць.* Галубы Маст.

ЗДЫ'РДЗІЦЦА *зак. экспр.* Памерці, здохнуць. *Як благая баба памрэць і хто ў злосці на яе кажаць: яна ўжо здырдзілася!* Кураполле Паст. *Пісклёнак здырдзіўся.* Беразіно Докш.; *параўн.* літ. *dir̃dinti* 'тж'.

ЗДЫХАТА' *ж.* 1. Пагібель. *Прышла на яе здыхата.* Вялікія Баяры Шчуч. *Німа на цібе здыхатэ, апаражні хату!* Кіралі Шчуч. 2. Падла. *У лушку́ здыхатэ да халеры: хто здохня, тудэ кідаюць.* Кіралі Шчуч. 3. *перан.* Худзізна. *Нека здыхата пашла.* Кіралі Шчуч.∇ *Кап заела здыхата: як кінь хлеба, дык ты ні ясі.* Міратычы Карэл.

ЗДЫХА'ЦЬ *незак.* Падыхаць.∇ *Што п ты здыхаў быў!* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗДЫХЛЯ'К *м.* Тое ж, што і з д ы х а т а́ 3. *І здыхляк ты!* Рыбчына Віл., Гемзы Шальч.

ЗДЫХО'ВІНА *ж.* Тое ж, што і з д у́ х а в і н а І. *Здыховіна — зямля сівая, сівак: як вырасця, як нітачкі, і зярняткаў у ім няма.* Кіралі Шчуч.

ЗДЫХТАВА'ЦЬ *зак.* 1. Разабрацца, зразумець. *Ты здыхтавала, што да чаго?* Груздава Паст. 2. Скамбінаваць. *Вот я добра здыхтаваў!* Груздава Паст.; *гл.* д ы х т а в а́ ц ь.

ЗДЭ'ЧЫЦЬ І *зак.* Стукнуць, ударыць. *Як здэчу палкай па кунбіках, дык будзіш стаяць!* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *dė́ti* 'тж'.

ЗДЭ'ЧЫЦЬ ІІ *зак.* Падзець куды-н. *Здэчыў недзе я шапку.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *dė́ti* 'тж'.

ЗЕБЛІ'ЦЬ *незак.* Зябліць. *Зебляць поле на ерыну.* Навадворцы Васільк.

ЗЕ'ВА, ЗЯВО' *н.*, ЗЯ'ВЫ, ЗЯВЭ' *мн.* Прамежак паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы, праз які праходзіць чаўнок. *У зева чаўнык перакідаюць.* Лука Нараўк. *У зяво закідваяш чалнаком.* Магуны Паст. *Паднімаеш ніт, як зяво нячы-*

*стая.* Кураполле Паст. *Зявы ў кроснах.* Грыкені Вільн., Навасёлкі Свісл. *Чаўнок у зявы пускаюць.* Лісна В.-Дзв. *Зявы ў цябе малыя.* Саланое Віл. *Як станеш на понаш, зявы палучаюца.* Гемзы Шальч. *Зявэ — як наступіў на панажу, у зявэ чалнок піхаем.* Кіралі Шчуч. *Ніткі расхінаюцца — гэто зявэ, штоб залажыць чалнок з ніткай.* Пацаўшчына Дзятл. *Зявамі чалнык пускаеш, адна нітка аднізу ідзе, а другая кверху, і зявэ робяцца, чалнык ходзіць па зявох.* Баброўнікі Гарад.

ЗЕ'ВЫ, ЗЯ'ВЫ, ЗЯВЭ' *мн.* 1. Рот, пашча. *У сома зевы велькія.* Сапоцкіна Гродз. *У зявы каню цуглі ўстаўляюцца.* Старыя Трокі Трак. *Зявы ў рыбы.* Мсцібава Ваўк. *У рыбы зявэ.* Баброўнікі Гарад. 2. *перан.* Чалеснікі. *Зевы — у печы прахот.* Лука Нараўк. *Всаділа хлієб і заставіла затулкою зіевы.* Курашэва Чыж.

З'Е'ГДЗІЦЬ, З'Е'ГДЖАЦЬ *зак.* З'ездзіць. *Да мацяры з'егдзіў.* Ністанішкі Смарг. *З'егдзі да Пахомава!* Саланое Віл. *Яна з'егджая да яе.* Лісна В.-Дзв.

ЗЕГРА'ТЫ, ЗІГРА'ТЫ, ЗЯГРА'ТЫ, ЗАГРА'ТЫ, ЗІКРА'ТЫ *прым.* Вірлавокі. *Очы вялікія — зеґраты.* Лука Нараўк. *Зеґраты — у каго очы наверсі.* Мсцібава Ваўк. *Быў бы чалавек нічога, але натта вочы навярху, зіґраты.* Гемзы Шальч. *Пашла зіґрата баба.* Парэчча Гродз. *Зіґраты чалавек.* Сапоцкіна Гродз. *Зяґраты ён, дзеўкі ня любяць яго.* Кіралі Шчуч. *Зяґраты — як велькія глаза.* Пацаўшчына Дзятл. *Але ш там і заґратая баба — велькія вочы.* Вострава Маст. *У каго вочы такіе велькіе, той заґраты.* Баброўнікі Гарад. *Зікратыя вочы, як у вала.* Крэва Смарг.

З'Е'ДЖАНЫ *дзеепрым.* З'едзены. *Палавіна з'еджана трусой.* Магуны Паст.

З'Е'ЖДЖАЦЬ *зак.* З'ездзіць. *У Паставы толькі з'ежджай!* Ракаўскія Швянч.

З'Е'ЖДЖЫ *прым.* Прыезджы. *Вазміця горат — там з'ежджыя ўсе.* Вострава Маст.

З'Е'ЗДЗІЦЦА *зак.* Тое ж, што і з'ё ж д ж а ц ь. *Як з'ездзілася?* Ракаўскія Швянч.

ЗЕ'ЛЕ *гл.* ЗЕ'ЛЛЕ

ЗЕ'ЛЕНА *прысл.* 1. Зелена. *Зелена, зелена — канца нет.* Саланое Віл. 2. *перан.* Вялікая колькасць. *Зелена было немцаў.* Саланое Віл.

ЗЕЛЕНАВА'ТЫ *прым.* З зялёным адценнем. *Зеленавата гліна ў рацэ, хадзіла па гліну, мазалі сцены.* Лука Нараўк.

ЗЕЛЕНЬЦА'ВЫ *прым.* Недаспелы. *Зеленьцавыя слівы, у іх костачкі сама ні вылушчываюцца.* Міратычы Карэл.

ЗЕ'ЛЛЕ, ЗЕ'ЛЛЯ, ЗЕ'ЛЬЕ, ЗЕ'ЛЬЯ, ЗЕ'ЛЕ, ЗЕ'ЛЁ, ЗЕ'ЛЯ *н.* 1. Дзікарослыя травы. *Зелле высыпала, палоць трэба гарод.* Пацаўшчына Дзятл. *Курам зелля насяку.* Саланое Віл. *У картоплі многа зелья.* Нагуевічы Сл. *Пойду позбіраю*

*зелья свіням!* Смаляніца Пруж. *У зелы розныя зернючкі.* Стральцы Шальч. *Што за зелья?* Вецярэвічы Пух. *Баба, зелья хваціць!* Альхоўка Навагр. *У капусця, у гародзі нарасло многа зелья. Пайду павырываю зелья!* Навасёлкі Свісл. *Зелья рвуць у гарадох.* Крынкі Крын. *Парасло зеле.* Паляцкішкі Воран. *Там ніскае места, зелё толькі расце.* Малахоўцы Бар. *Зелё расце па гарадах, у картосцы, у агурцах.* Альхоўцы Лях. *Зеля свіням рвуць.* Дакудава Лід. *Сваё зеля падабрала, што дажджом палола.* Альхоўка Навагр. 2. Лекавая трава і настой з яе. *Трэба назбіраць і насушыць на зіму зелля — гэта лякарства.* Ністанішкі Смарг. *Дохтар прыпісаў зелля піць.* Саланое Віл. *Не знаю, ат чаго п'юць гэта зелье. Я не знаю гэтых зяльёў.* Кіралі Шчуч. *Зеля навары: бабоўніку, палыну, калі апіціту ні маіш.* Кураполле Паст. *Зелё варыць і п'юць.* Альхоўцы Лях. *Зялёў я не знаю.* Парэчча Гродз. *Трэба на лугу сабраць сто зёл і чай завараваць і піць.* Солы Смарг.

ЗЕ'ЛНА *н. рэліг.* Спас. *На зелна жыта свянцілі.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *žõlinė* 'тж'.

ЗЕ'ЛЬНА СВЯ'ТА *н.* Тое ж, што і з е л н а. *На зельна свята свенцяць яблыкі і овачы.* Быстрыца Астр.

ЗЕ'ЛЬСКО *зб. н.* 1. Тое ж, што і з е л л е 1. *Усялякага зельска ест. Трэба па зельска ісці.* Новікі Гродз. *Пружунувалі, кап зельско не расло. Тыля было зельска ў бураках, што жалі.* Мсцібава Ваўк. *Зельска нарвала.* Воўкуш Ліпск. *Нада яго палоць, зельско рваць.* Баброўнікі Гарад. 2. Тое ж, што і з е л л е 2. *Зельска спарылі, далі выпіць, стала луччы яму.* Новікі Гродз.

ЗЕ'ЛЬЯ, ЗЕ'ЛЯ *гл.* ЗЕ'ЛЛЕ

ЗЕЛЯЗНІ'К *м.* Чыгун з адбітым верхам. *У сагана астаецца дно, верх адбіты — гэта зелязнік, у ім што-небудзь пякуць.* Магуны Паст.

ЗЕЛЯЗЯ'НКА *ж. заал.* Мядзянка. *Зелязянка блішчыць, як заб'еш, то кружаюць кавалкі гадзіны.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗЕЛЯНЕ'ЙШАНЬКІ *прым. выш.* Зелянейшы. *Зелянейшанькая травіца кала ракі.* Індра Красл.

ЗЕЛЯНЕ'Ц *м. рэліг.* Сёмуха. *Зелянец — свята на дзевятым тыдні пасля вялікадня ў чацвер. Святкуюць, каб градабіця не было.* Мсцібава Ваўк.

ЗЕЛЯНІ'НА *ж.* 1. Зелень. *Козлік краўся ў гэтай зеляніне.* Гемзы Шальч. 2. Галінкі, якімі прыбіралі хату на сёмуху. *Зеляніну ўносілі, паставяць у хаці на сёмуху.* Старыя Трокі Трак.

ЗЕЛЯНІ'ЦЫ *мн. бат.* Зялёнкі. *Зеляніцы ў нас соляць.* Дакудава Лід. *Зеляніцы растуць у нас.* Альхоўка Навагр. *Зеляніцы ў пяску хаваюцца.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗЕЛЯНО′ *прысл.* ◊ *У вачох зеляно. Зрабілосё зеляно ў вачох.* Мсцібава Ваўк.

ЗЕЛЯНУ′ХІ *мн.* Тое ж, што і з е л я н і ц ы. *Зелянухі — добрыя грыбэ.* Каўняны Гродз.

ЗЕЛЯНУ′ШКІ *мн.* Тое ж, што і з е л я н і ц ы. *Зелянушкі восянню растуць на скуйнэ, елінэ.* Новікі Гродз.

ЗЕЛЯНЧЫ′НА *ж.* Зелень, якая выкарыстоўваецца ў ежу як прыправа. *Зелянчыну — што я палажу* [у суп], *а яшчэ нярошчаную цыбулю.* Індра Красл.

ЗЕ′ЛЯНЬ *ж.* Тое ж, што і з ё л л е 1. *Картошка зеляню зарасла.* Вострава Маст.

ЗЕЛЯ′НЬКІ *гл.* ЗЯЛЁНКІ

ЗЕ′РАШКА *н. памянш.* да з ё р к а 2. *Зерашкі жоўтыя на юдрыцы.* Рагулішкі Даўг.

ЗЕ′РКА *н.* 1. Ядро арэха. *А як зеркі няма, мяздра ў арэху.* Ёдлавічы Брасл. 2. Семя садавіны. *Чорная зерка спелая, вазьму пасаджу — і яблынька вырасця.* Старыя Трокі Трак.

ЗЕРКА′ДЛА *н.* Мыса. *Зеркадла ў каровы.* Янова Рас.

ЗЕ′РНЕТА, ЗЕ′РНІТА *н.* Зерне. *Зернета ў волюшку, а ў жаронцах* [пупку] *жвірок.* Шамялі Брасл. *Адно зернета буйноя. Зернеты рассыпала.* Новыя Мацалі Варэн. *Зерніта абдзіраюць — і гэта ашакі.* Індра Красл.

ЗЕ′РНЯ *н.* 1. Тое ж, што і з ё р н е т а. *Нашы діетко пільновалі, коб ані одно зерня збуожа нэ пропало.* Курашэва Чыж. 2. Тое ж, што і з ё р к а 1. *У арэху зерня.* Парэчча Гродз.

ЗЕ′РНЯТКА, ЗЁРНЯТКА *н. памянш.* да з ё р н я 1. *Зернятка ў ячмені яшчэ мякоя, шчэ ні пойдзім жаць.* Кіралі Шчуч. *Сколькі зерняткаў!* Вострава Маст. *Яшчэ зёрнеткі яе ядзём, што яна зарабіла.* Саланое Віл.

З′Е′СЦІ *зак.* З′есці. *Скварак многа, не з′ядзім.* Лісна В.-Дзв. *Не з′ядзём заўтра.* Ністанішкі Смарг. *Ідзі з′ядзём і пойдзям да работы.* Крэва Смарг.

З′Е′СЦІСЯ *зак.* 1. Аказацца з′едзеным. *Тлушч спускалі ў вядро, з′есца праз гот.* Ракаўскія Швянч. 2. Знасіцца, сцерціся (пра зубы). *У мяне зубы з′еліся.* Ракаўскія Швянч.

ЗЕЎ *м.* Тое ж, што і з ё в а. *У зеў чаўнык кідаюць. Зявэ — верхнія і ніжнія ніткі.* Малахоўцы Бар.

ЗЕХАЦЕ′ЦЬ *незак.* Часта дыхаць, раскрыўшы пашчу. *Сабака зехаціць, бо гарачэ, язык вываліць.* Баброўнікі Гарад.

З′Е′ХАЦЬ *зак.* 1. Выехаць, паехаць. *Ён у Рыгу з′ехаў.* Пасіене Лудз. 2. *перан.* Схуднець, змарнець. *На нерф бальны ён, сусім з′ехаў.* Крэва Смарг. *На косці з′ехала, хворая на сэрца.* Жылі Іўеў.

ЗЁЛКА *ж.*, ЗЁЛКІ *мн.* 1. Тое ж, што і з ё л л е 2. *Розна зёлка памагая.* Новікі Гродз. *Сабіраюць зёлкі лячыць, косяць ня зёлкі, а траву.* Магуны Паст. *Зёлкі ўсякія ведаіць.* Беразіно Докш. *Зёлкі ўкіну і чай п′ю.* Быстрыца Астр. *У сваці зёлак*

*было жуць.* Граўжышкі Ашм. *Первыя зёлкі — манюшкі, яны жоўтыя.* Старыя Трокі Трак. *Зёлкі — лякарства, травы лячэбныя.* Груздава Паст. *Калі нястраўнасць, п'юць зёлкі.* Солы Смарг. 2. Лякарства. *Карову абдуло, дала зёлак.* Ракаўскія Швянч. *Зёлкі — лякарства.* Дакудава Лід. *Дзе мае зёлкі?* Старыя Смільгіні Воран.

З'ЁРЗАЦЬ *зак.* Скамячыць. *Пасланая лошка, а дзеці прышлі і з'ёрзалі.* Гемзы Шальч.; *гл.* ё р з а ц ц а.

ЗЖО'ЎГАЦЬ *зак.* Зжаваць. *Зжоўгала ўсю скварку.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* з д з ё ў ґ а ц ь.

ЗЖО'ЎКНУЦЬ *зак.* Пажаўцець. *Мэрля доўга ляжыць, зжоўкла яна.* Дакудава Лід.

ЗЖЫВА'ЦЦА *незак.* Ужывацца з кім-н. *Гэта з даўных дат цягнецца — нявеста с свякрухаю не зжываюцца.* Кіралі Шчуч.

ЗЗА'ДУ, ЗЗА'ДЗІ 1. *прысл.* З тыльнага боку. *Ззаду шырокая доска ў цялеге. Связь дзелалі ўперадзе і ззадзі.* Пасіене Лудз. 2. *прыназ.* За кім-н. *Нехта ззаду ідзе.* Лоск Валож. 3. На нейкі час пазней. *Ён ззаду на гот вучыцца.* Магуны Паст.

ЗЗЫВА'ЦЬ *незак.* Склікаць. *Гасцей ззываюць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗЗЯЦЬ *незак.* Блішчаць, зіхацець. *Тата прыказваў нам, каб чысценька было, кап ззялі вокны.* Саланое Віл.

ЗІВАЧЭ' *мн. анат.* Міндаліны. *Прастыла дзіця, зівачэ паселі ў дзіцяці.* Валынцы В.-Дзв.

ЗІГРА'ТЫ, ЗІКРА'ТЫ *гл.* ЗЕГРА'ТЫ

ЗІЕПА'ТІ *незак.* Ледзь дыхаць. *Была такая хвора, што чуть зіепала.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *zіраć* 'дыхаць'.

ЗІЛЯЗІ'ННЯ *н.* Іржавая вада. *Расолам налівалі зялеза і фарбавалі ў зілязінні.* Груздава Паст.

ЗІМАВА'ЦЬ *незак.* 1. Заставацца дзе-н. на зіму. *Хай мае качкі зімуюць.* Ністанішкі Смарг. *Я дома не зімую.* Вецярэвічы Пух. 2. Гадаваць, карміць на працягу зімы (пра хатнюю жывёлу). *Ён зімуя карову.* Вялікія Баяры Шчуч. *Можа зімаваў карову?* Альхоўка Навагр. *Зімуюць карову.* Старое Сяло Зэльв. *Зімавалі мы две каровы. Колькі мы зімавалі курэй!* Мсцібава Ваўк. *Будзяце зімаваць цялушку?* Міратычы Карэл. *Буду зімаваць карову.* Альхоўцы Лях., Дзяніскавічы Ганц.∇ *Што ў полі зімуіць, тое ў брусе не начуіць.* Курапол-ле Паст.

ЗІМАВІ'К *м.* Парася, якое нарадзілася зімой. *Мае парасё — зімавік, зімой радзілася.* Граўжышкі Ашм.

ЗІМАВЫ' *прым.* Зімовы. *Была зімавая павоска.* Саланое Віл. *Зімавая цыбуля ў мяне сядзела.* Груздава Паст. *Жыта зімавоя.* Быстрыца Астр.

ЗІ'МКА *ж.* Азімая пшаніца. *Зімка — гэта пшаніца, што*

*на зіму сеяць.* Кіралі Шчуч., Жылі Іўеў. *Зімку сеюць увосень.* Вострава Маст.

ЗІ'МНА, ЗІ'МНО *прысл.* Холадна. *Заўтра, кажуць, будзя зімна.* Солы Сморг. *У хлеві зімна было.* Рагулішкі Даўг. *У рукі зімна.* Лісна В.-Дзв. *Мне ў нагу зімна. У каленкі зімна.* Магуны Паст. *Зімна на дварэ.* Жодзішкі Смарг. *Зімна, страшна раздзявацца.* Малькуны Ігн. *Зімна стала — даждж ні будзя.* Граўжышкі Ашм. *У ногі зімна.* Старыя Трокі Трак. *Зачыні акно, робіцца зімна ў хаце!* Ністанішкі Смарг. *Як удзень — то цёпла, як увечары — то зімна.* Паляцкішкі Воран. *Зімна зімою.* Старое Сяло Зэльв. *У хаті зімно, хоч і пієч от самого поранка паліцце.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *zimno* 'тж'.

ЗІМНАВА'ТА *прысл.* Халаднавата. *Троха зімнавата.* Старыя Трокі Трак.

ЗІМНАТА' *ж.* Холад, халадэча. *Зачыняйця дзверы, зімната ідзе!* Ракаўскія Швянч. *Зімната нейкая ў хаці.* Ёдлавічы Брасл.

ЗІМНЕ'Й *прысл.* Халадней. *Зімней у вышэйшых хатах, сталявання вышэй.* Магуны Паст.

ЗІМНЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Халаднейшы. *Там зімнейшая малако.* Ністанішкі Смарг.

ЗІ'МНІ *прым.* 1. Які прызначаны для зімы. *Зімняя шапка.* Саланое Віл. 2. Азімы. *Зімняя рош і зімняя пшаніца.* Навікі Лудз.

ЗІ'МНІК *м.* Дарога, па якой ездзяць толькі зімой. *Зімнік — зімова дарога, як балотня дарога — егдзяць зімою.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗІМНО' *н.* Холад. *Яны* [кураняты] *зімна баяцца, як бяруцца ў гэтыя пёры.* Граўжышкі Ашм. *Баюся зімна.* Ністанішкі Смарг., Жылі Іўеў. *Зімой такоя зімно.* Солы Смарг. *Здаецца, што і зімна нэма, а рукі мэрзнут.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *zimno* 'тж'.

ЗІ'МНО *гл.* ЗІ'МНА

ЗІ'МНЫ' *прым.* 1. Халодны. *Дзень зімны.* Кемялішкі Астр. *Я не люблю зімнага. Смятаны паложыш зімнай.* Гемзы Шальч. *Зімнай вадой змылі.* Новыя Мацалі Варэн. *Зімная вада.* Малькуны Ігн., Навасёлкі Свісл. *Восінь зімна́я. Зімным малаком бялілі. Будзя зімну́ю бульбу есці.* Ёдлавічы Брасл. *Люхты* [каля пліты] *зімны́я. Дзень зімны́.* Магуны Паст. *У зімну́ю ваду трэба рукі сунуць. Печ зімна́я.* Граўжышкі Ашм. *У нас болей гліня́стая зямля, яна зімна́я, не праграваецца. Пот пашоў зімны́.* Крэва Смарг. *Зімно́й вадой тлушч змываюць.* Ністанішкі Смарг. *Зімно́й вады прынясі, хай людзі нап'юцца.* Жодзішкі Смарг. *У зімно́й вадзе памыла ногі.* Быстрыца Астр. *Ваду зімну́ю п'ець.* Ракаўскія Швянч. 2. Тое ж, што і з і м н і 1. *Зімна шапка для мушчын.* Дзяні-

скавічы Ганц. 3. Азімы. *Зімная рош.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *zimny* 'халодны'.

ЗІМО'ВЫ *прым.* 1. Зімовы. *І сплю, і сяджу, і малюся доўгай ноччу зімовай.* Саланое Віл. *Зімовым врэменем ставілі бучу.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Які гадуецца зімой (пра жывёлу). *Зімовых свіней кормяць горш.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗІМО'ЎКА *ж.* Мужчынская зімовая шапка. *Зімоўка і летня шапка была.* Гемзы Шальч.

ЗІ'РКНУЦЬ *зак.* Зірнуць, глянуць. *Вы зіркнулі на нас. Яна зіркнула на цябе.* Старыя Трокі Трак.

ЗІРНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з і р к н у ц ь. *Я толькі на яго зірну.* Гемзы Шальч. *Я зірнуў, а яна за дзвярыма стаіць.* Паляцкішкі Воран.∇ *Зірну на хату — бярэ радасць, зайду ў хату — сядзіць гадась.* Вецярэвічы Пух.

ЗІРНЮ'К *м.* Зярнятка. *Зірнюкі ў коласе астаюцца, як нячыста змалоціш.* Кураполле Паст.

ЗІХАЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Блішчаць, ззяць. *Вот вычысціла акно, аш зіхаціць.* Кіралі Шчуч. 2. Бліскаць (пра маланку). *Маланка бліская, зіхаціць.* Вострава Маст.

ЗЛАВА'ЦЬ *незак.* Злавацца. *Ён на мяне злуець, а я на яга.* Саланое Віл. *Чаго яна злуець?* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗЛАД, ЗЛАТ *м.* Згода. *Жывуць у зладзі.* Саланое Віл.

ЗЛАДЗЕ'Й *гл.* ЗЛО'ДЗЕЙ

ЗЛАДЗЕ'ЙКА *ж. перан.* Шкодніца. *Ну і зладзейка мая карова!* Быстрыца Астр.

ЗЛАДЗЕ'ЙКІ *мн. перан.* Кураняты, што выведіся ўпотай. Быстрыца Астр.

ЗЛА'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Паладзіць. *Не зладзілі яны з маткай.* Кудзялянцы Шальч. 2. Прыняць правільнае рашэнне. *Добра зладзіла, што пашла замуш.* Саланое Віл.

ЗЛАДЗЮ'ГА' *м.* і *ж. лаянк.* 1. Злодзей. *Ну, пападзецца мне зладзюга!* Жылі Іўеў. *Ат, ты зладзюга!* Альхоўка Навагр. 2. Ашуканец, махляр. *Зладзюга ён: падрабіў дакументы.* Дакудава Лід.

ЗЛАЖЫ'ЦЦА *зак.* 1. Скласціся, даць грошы на агульную справу. *Зложымся і купім для ўсіх.* Стральцы Шальч. 2. *перан.* Сабрацца, прыстасавацца. *Ні магла злажыцца рабіць.* Ністанішкі Смарг.

ЗЛАЖЫ'ЦЬ, ЗЛОЖЫ'ЦІ *зак.* 1. Надзець. *Я злажыла спадніцу харошую, афтаваную.* Саланое Віл. *Злажы кашулю! Злажы штаны, кап цяплей было!* Дакудава Лід. *Пальто ні мяшай злажыць!* Вялікія Баяры Шчуч. *Трэба спадніцу злажыць. Злажыла халат, кап не так змокла.* Кіралі Шчуч. *Малого злажы кажуха!* Калядзічы Ваўк. *Трэба злажыць на каня вобруць. Злажыла каптан.* Альхоўка Навагр. *Я табе, маленькая, злажу паўзуны! Злажы Лялі шапку!* Альхоўцы Лях. *Як чыстэ плаце зложыш, то і світу чысту нада.* Смаляніца Пруж.

*Злажы хамута на каня!* Масілавічы Сл. *Злажыла куртку на ліхі бок.* Номікі Бабіц. 2. Сабраўшы, змясціць у што-н. *Суравешкі ў кашалачку добра злажы.* Солы Смарг. 3. Скласці ў дзве-тры столкі. *Злажы ў дзве ніткі.* Мярэцкія Глыб. *Зложыць удоўш і поперак.* Дзяніскавічы Ганц. 4. Састагаваць. *Стох злажылі і завяршылі.* Лісна В.-Дзв. 5. Заплюшчыць. *Як тольկі чуць глаза злажу, віжу мамку.* Гемзы Шальч. 6. Скруціць. *Садла — ад кішок і на трыбуху, яго можна злажыць.* Старыя Трокі Трак. 7. Паваліць, палажыць ветрам. *Вецер злажыў жыта ў адну старану.* Ахрэмаўцы Брасл. 8. Прыдумаць. *Злажыў бяду, што грошы ў яго выбраўшы.* Лайпушкі Ігн. ◊ *Злажыць смех* — абсмяяць. *Набрэндаю языкам, а яны зложаць смех.* Дакудава Лід. *Злажылі смех — якая яна табе цётка?!* Пацаўшчына Дзятл.

ЗЛА'ЗІЦЬ *незак.* Аблазіць. *Ласкутамі кожа злазіла.* Ёдлавічы Брасл.

ЗЛА'ІЦЬ *зак.* Аблаяць. *Кап ён мяне злаіў — ні злаіць!* Крэва Смарг.

ЗЛАКО'МІТІСЕ *зак.* Спакусіцца. *На тышчу злоты злакомівсе, а тэпэр в турме сідіт.* Курашэва Чыж.

ЗЛАМА'НЫ *дзеепрым.* Зламаны. *Зламано дрэво.* Альхоўцы Лях.

ЗЛАМАТА'ЦЬ *зак.* Паралізаваць. *Зламатала яго ўсяго і памёр.* Кіралі Шчуч.

ЗЛАМА'ЦЬ, ЗЛАМІ'ЦЬ *зак.* Зламаць. *Нагу зламала, не ходзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён нагу зламаў.* Лісна В.-Дзв. *Ішла і неік руку зламіла.* Індра Красл. *Тады зламіла руку. Як зламіла я руку, так яна мяне часала і мыла.* Ракаўскія Швянч.∇ *Кап ты галаву зламаў!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗЛАПА'ЦЬ *зак.* 1. Злавіць, схапіць. *Трэба злапаць курыцу. Котка злапала мыш.* Старыя Смільгіні Воран. *Злапаў яго за руку. Як злапаюць с самагонкай, то штраф накладуць.* Паляцкішкі Воран. *Як выткнецца з нары мыш — кот злапая.* Гемзы Шальч. 2. Набрацца сілы, паздаравець. *Як я злапаю духу, злапаю сілу, то буду здарова.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *złapać* 'злавіць, схапіць'.

ЗЛАТ *гл.* ЗЛАД

ЗЛЕ *прысл.* Дрэнна, блага. *Натта пат грудзьмі мне зле, аш рыгаць верне.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *źle* 'тж'.

ЗЛЕ'ЖАНЁ, ЗЛЕ'ЖАННЯ *н.* Ляжанне.∇ *Мая свякроў добра была, памерла яна, дай бох ёй добрае злежанё!* Міратычы Карэл. ∇ *Кап яму злежання на том свеця ня было!* Вецярэвічы Пух.

ЗЛЕ'ЗЦІ, ЗЛЕ'СЦІ, ЗЛІЕ'ЗТІ *зак.* 1. Сысці (пра снег, лёд). *Як лёт злезя, дзе добрыя прыпары, на баравых мястах там растуць весялкі.* Альхоўцы Лях. *Злес снех.* Старыя Смільгіні Воран. *Снех слес.* Солы Смарг. 2. Узлезці. *Зліез на піеч і*

*лёх спаті.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Сутыкнуцца, напароцца. *Ноч была цёмная, хоць на воўка злесь.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗЛЕЦЕ'ЦЬ *зак.* Зляцець. *Засяку — табе і галава злеціць набок.* Навасёлкі Свісл.

ЗЛІ'ВАК *м.* Гаршчок. *Злівак — паліваны гаршчок із вушкам і бэз вушак.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗЛІ'ВЕНЬ *м.* Лівень. *Дошч быў — злівень, паласой ішоўшы.* Скрыпчына Лудз.

ЗЛІЕ'ЗТІ *гл.* ЗЛЕ'ЗЦІ

ЗЛІ'ЖНА *прысл.* Адліжна. *Ой, як на дварэ зліжна, хутка вясна будзе.* Нагародавічы Дзятл.; *параўн.* укр. *злігнути* 'памякчэць, спасці (пра мароз)' (Грынч., II, 158).

ЗЛІЖЭ'ЦЬ *зак.* Пакрыцца потам, спацець. *Зробіцца арача, потам зліжэя цела.* Быстрыца Астр.

ЗЛІ'ЎНЫ *прым.* Тое ж, што і з а л і ў н ы́. *Зліўны дошч, не праедзеш.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗЛІЦЬ *зак.* 1. Выліць з розных пасудзін у адну. *Вотку гатую: у вотку мёду, сахару і кміну, загатаваць, зліць у бутылкі — гэта крупнічак.* Солы Смарг. 2. Выліць ваду, аддзяліўшы ад чаго-н. *Зверху саліець ваду.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. Узліць. *Духу зліць на печку нада ў байне.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗЛІЧЫ'ЦЬ *зак.* Палічыць. *Там шмат альхоўскіх, халера іх злічыць, колькі іх там ест.* Альхоўка Навагр.

ЗЛО *н.* і *ж.* Усё благое. *Зло такое: холадна, а яна паехала.* Стральцы Гродз. *Цяпер не пайду, зло такая.* Лісна В.-Дзв. *Што, бацько хоча гэтага зла?* Солы Смарг. ◊ *Зло пусціць* — нарываць. *Рана, скула зло пусціла, выскаквае, баліць.* Мсцібава Ваўк.

ЗЛО'ДЗЕЙ, ЗЛАДЗЕ'Й *м.* Той, хто крадзе. *Хто крадзе — злодзей. Такія зладзяі былі!* Ністанішкі Смарг. *Такі злодзей ён — нічога ні схаваеш.* Груздава Паст. *Такі злодзей, што канца німа.* Саланое Віл. *От наляцелі пшчолкі, быта злодзеі якія.* Ахрэмаўцы Брасл.▽ *На зладзею шапка гарыць.* Кураполле Паст.

ЗЛО'ЖАНЫ *дзеепрым.* Складзены ў адно цэлае. *Як обад часцічны, то звенякі, з іх зложано* [кола]. Судэрва Вільн. *Зложаны калёсы, толькі ехаць.* Чычалі Швянч.

ЗЛОЖЫ'ЦІ *гл.* ЗЛАЖЫ'ЦЬ

ЗЛОМ *м.* Зламанае дрэва. *Злом — зломано дзераво.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗЛО'МАК *м.* Тое ж, што і з л о м. *Той зломак зрэш.* Быстрыца Астр. *Высокі зломак папаў у лесе зрэзаць.* Міратычы Карэл.

ЗЛО'ПАТУ *прысл.* Спяшаючыся. *Так злопату зрабіў.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *lapatái* 'стрымгалоў'.

ЗЛОСЦЬ *ж.* Гнеў. *Як ня прышоў, злосць мяне ўзяла.* Ра-

тулішкі Даўг. *Са злосці лігла на той бок.* Ёдлавічы Брасл. *Аш мяне злосць бярэ.* Крынкі Крын.∇ *Вітка біець, а касцей не ломіць, а злосць успакоіць.* Ахрэмаўцы Брасл. ◊ *На злосць* — каб зрабіць непрыемнасць, раззлаваць. *Яны на злосць мне робяць.* Ёдлавічы Брасл.

ЗЛО'ТА *н.* Золата. *Злота дзенна плаціла.* Стральцы Шальч.; *парайн.* польск. *złoto* 'тж'.

ЗЛО'ТНА ВЕ'РБА *ж. бат.* Від вярбы. *Злотна верба ест, яна блішчаста.* Каўняны Гродз.

ЗЛО'ТЫ *м.* Злоты. *І гэтак мы плацілі дзесіць гадоў па дзесіць злоты, а тады пут жыта быў па два злоты.* Пронькі Мядз. *Капалі райчакі лапатамі за тры злоты ў дзень.* Гемзы Шальч. *Пут жыта стоіў дайней два злоты.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗЛУПІ'ЦЦА *зак.* Аблезці, садрацца. *Патом, пасля гарачкі, уся скура на целе злупілася.* Крынкі Крын.

ЗЛУ'ЦЦА *незак.* Злавацца. *Ён злуўся на мяне. Мама злулася.* Ёдлавічы Брасл.

ЗЛУЧА'ЦЦА *незак.* Зганяць жывёлу ў адно стада. *Не трэба злучацца, мы пад лес скот пагонім.* Старыя Трокі Трак.

ЗЛУ'ЧКА *ж.* Спароўванне. *Вадзілі карову на злучку.* Валынцы В.-Дзв.

ЗЛУЧЫ'ЦЦА *зак.* 1. Аб'яднацца. *Злучацца двух пастухоў і пасуць.* Міратычы Карэл. 2. Пасябравацъ.∇ *С кім злучысся — таго і навучысся.* Кураполле Паст.

ЗЛЫ, ЗЛЫЙ *прым.* 1. Злосны. *Злы сабака.* Ёдлавічы Брасл. *Хто найхудзейшы, той злы.* Груздава Паст. *Не чапай яго, бо ён натто злы! Натто характару злого.* Гемзы Шальч. *Сабака злый быў — атравілі.* Лісна В.-Дзв. 2. *перан.* Вельмі горкі. *Злая цыбуля, за гардзель бярэ.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗЛЫГА'ЦЬ *зак.* 1. Звязаць разам (пра валоў). *Злыгаць валоў, запрэгчы.* Ісерна Слуц., Тухавічы Лях. 2. Надзець адну адзежыну на другую. *Трэ злыгаць уместо кажух і бурнос.* Дзяніскавічы Ганц. *Злыгоў світу на кажух.* Вецярэвічы Пух. 3. *перан.* Схлусіць. *Кап не злыгаць.* Міратычы Карэл.

ЗЛЮБІ'ЦЦА *зак.* Пакахаць адзін аднаго. *Злюбіліся і рана пажаніліся.* Быстрыца Астр. *Яна злюбілася з міліцыянерам.* Крэва Смарг. *Цесць злюбіўся з яго маткай.* Ракаўскія Швянч. *Яны злюбіліся.* Дакудава Лід.

ЗЛЯДАВА'ЦЬ *зак.* Падняць які-н. цяжар пры дапамозе рычага. *Адзін чалавек злядуя цэлую хвою, а так чорт бы яе падняў.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* ням. *laden* 'тж'.

ЗЛЯКА'ЦЦА *зак.* Спужацца. *Злякалася дзіця.* Лука Нараўк.

ЗЛЯКНУ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і з л я к а́ ц ц а. *Злякнуцца магла і захварэць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як злякнесся, так і на-*

*бярэсся каросты, сверп, аш ташніць.* Кураполле Паст. *Зляк-нулася і адурнела.* Рыбчына Віл.

ЗЛЯНІ'ЦЬ *зак.* Змяніць. *Змія зляніла кожу.* Валынцы В.-Дзв.

ЗЛЯ'ПАЦЬ *зак.* Зляпіць. *Хлеп зляпаю, як саджу ў печ.* Малькуны Ігн.

ЗЛЯТА'ЦЬ *зак. перан.* Таропка пайсці куды-н. *Яна злятала ў Даўгынава.* Саланое Віл.

ЗЛЯХЧА'ЦЬ, ЗЛЯХЧЭ'ЦЬ *зак.* Палягчэць (пра самаадчуванне). *У больніцы баба, гадзіна ўкусіла, кажаць, замова памагая і вотка; воткі выпіла і ат воткі зляхчэла боль.* Альхоўка Навагр. *Троху мне зляхчэла.* Гемзы Шальч.

ЗЛЯХЧЫ'ЦЬ *зак.* Спакладаць. *Зляхчылі кнура.* Валынцы В.-Дзв.

ЗЛЯЦЕ'ЦЦА *зак.* Збегчыся. *Зляцеліся людзі, як на кярмаш.* Саланое Віл.

ЗЛЯЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. Зваліцца адкуль-н. *Яна зляцела з вазá і нагу была пракалоўшы.* Рагулішкі Даўг. 2. Вываліцца (пра зубы). *Зляцелі ў мяне зубы.* Новікі Гродз.

ЗЛЯЧЫ'ЦЬ *зак.* Вылечыць.▽ *Дурня хвароба ня злеча.* Граўжышкі Ашм.

ЗМАГА'ЦЬ *незак.* Адольваць.▽ *Усё панімаю, а ні змагаю.* Кураполле Паст.

ЗМАГЧЫ' *зак.* Аслабець. *Змагла я ўжо.* Ракаўскія Швянч.

ЗМАЗО'ЛІЦЬ *зак.* Нацерці мазалі. *Ногі змазоліць.* Саланое Віл.

ЗМА'ІЦЦА *зак.* Змучыцца, стаміцца. *Дзяўчынка змаілася ў аўтобусі.* Лісна В.-Дзв.

ЗМАЙНА'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Падмануць, не стрымаць слова. *Не купіў, а змайначыў. Змайначыў: сказаў куплю і не купіў ягады.* Парэчча Гродз. *Ён мне змайначыў: хадзіў, хадзіў, покі не змайначыў. Абяшчаў, абяшчаў і тэрас змайначыў.* Гемзы Шальч. *Ён яе віляў, віляў* [маніў] *і змайначыў слова.* Малькуны Ігн. *Скажа: «Зраблю!» — і не зробіць, вот кажуць: «Змайначыў ён».* Жылі Іўеў. 2. Перайначыць. *Змайначыў слова.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *mainýti* 'мяняць, перайначыць'.

ЗМАЛАДА' *прысл.* 1. Змоладу. *Калі ты хочыш лено жыць: ці змалада ці пат старасць?* Ахрэмаўцы Брасл. *Ён мучыў яе змалада.* Лісна В.-Дзв. *Свякроўка вучыла: «Біражы здароўя змалада, пат старась будзіць позна».* Кураполле Паст. *Змалада ня ўмела прасці, жаць.* Груздава Паст. *Змалада ўсяго было, ён яе біў.* Солы Смарг. *Змалада яна такая, баіцца людзей.* Быстрыца Астр. *Змалада гора ні зналі. Кап змалада яна падлячылася!* Рыбчына Віл. *Ваўкоў у нас было змалада.* Асавец Віл. 2. Па маладосці. *Наплачуся змалада за осяцю, утрухся, кап ніхто ня відзяў.* Індра Красл.

ЗМАЛАЦІ'ЦЬ *зак. перан.* Пабіць каго-н. *Узяў кавалак палена і змалаціў яму па хрыбяціні.* Кіралі Шчуч.

ЗМА'ЛІ *прысл.* З маленства. *Змалі работала, цялят пасціла. Змалі прывучалі чалавека да работы.* Лісна В.-Дзв.

ЗМА'ЛКУ *прысл.* Тое ж, што і з м а́ л і. *Змалку ён хварэў.* Ёдлавічы Брасл. *Хто вырасціць змалку ў вёсцы, таму трудна прывыкаць у горадзі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Змалку робіць у людзей.* Валынцы В.-Дзв. *Змалку ён такі хворы.* Рагулішкі Даўг. *Змалку хварэіць.* Мярэцкія Глыб. *Змалку малыя падымаліся.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЗМАЛО'ЦЦА *зак.* Змалоць. *Жыта дастану змалоцца і прыеду.* Рагулішкі Даўг.

ЗМАЛО'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з м а л о́ ц ц а.▽ *Як змеліш, так і з'еш.* Кураполле Паст.

ЗМА'ЛЬСТВА *прысл.* Тое ж, што і з м а́ л і. *Змальства балелі зубы.* Масілавічы Сл.

ЗМАНІ'ЦЬ *зак.* Схлусіць. *Вот людзі зманяць так. Во як можна зманіць!* Саланое Віл. *Зманіў мне.* Жодзішкі Смарг.▽ *Хто зманя і схлусіць, той вып'я і закусіць.* Вецярэвічы Пух.

ЗМАНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з м а н і́ ц ь. *Гэта дзяўчук зманула нам і пашлі кудэ-та.* Кіралі Шчуч. *Зманула мне, няправільно сказала.* Альхоўцы Лях.

ЗМАРА'ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Кап не змараць сукенку!* Ёдлавічы Брасл. *Толькі змараіш такой нягодай.* Ністанішкі Смарг.

ЗМАРГНУ'ЦЬ *зак. перан.* Задрамаць. *Змаргнула троха.* Альхоўка Навагр.; *параўн.* літ. *iššimárkstyti* 'прачнуцца'.

ЗМАРДАВА'ЦЦА *зак.* Стаміцца, змарыцца. *Я сільне змардаваўся, там і нарабіўся.* Гемзы Шальч.

ЗМАРКО'ЦІЦЦА, ЗМАРКАЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Засумаваць. *Змаркоцілася я біс сям'і, біс унучкі.* Лісна В.-Дзв. *Змаркоціўся без яе, паехаў і забраў з Мінска.* Груздава Паст. *Як німа дзень-два, змаркачуся па Луцэі.* Магуны Паст. 2. Захацець спаць. *Змаркоціўся і вочы заплюшчыў.* Альхоўка Навагр. *От, змаркоціўся, пайду пасплю.* Якубова Рас.

ЗМАРНАВА'ЦЦА *зак.* 1. Сапсавацца. *Пазыч, кап у цябе ні змарнавалася!* Старыя Смільгіні Воран. 2. Астыць. *Пастоў на стол, а то рыба змарнавалася.* Дакудава Лід. 3. Змучыцца. *Карова змарнавалася.* Стральцы Шальч.

ЗМАРНАВА'ЦЬ *зак.* 1. Звесці, знішчыць. *Змарнавалі коні.* Старыя Смільгіні Воран. *Не гаспадарлівы быў, змарнаваў усю гаспадарку.* Солы Смарг. 2. Знасіць. *Нову сукенку змарнавала.* Новыя Мацалі Варэн. 3. Растраціць. *Змарнаваў усе грошы.* Ялова Пруж.

ЗМАРНЕ'ЦЬ *зак.* Схуднець. *Змарнеў ты, хлопяц.* Дакудава Лід.

ЗМАРТВЕ'НЯ *н.* Гора. *Некаторыя гаворац, што як ві-*

*дзіш у сне пакойніка — будзіць змартвеня.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *zmartwienie* 'тж'.

ЗМА'РШЧКІ, ЗМО'РШЧКІ *мн.* Маршчыны. *Змаршчкі на твары.* Солы Смарг. *У яе змаршчкі на лбу.* Гемзы Шальч. *У его зморшчкі на лобі поробілісе.* Курашэва Чыж.

ЗМАРШЧКІ' *мн.* Зборкі. *Спадніца ўся ў змаршчках.* Альба Нясв.

ЗМА'РШЧЫЦЬ *зак.* Сабраць у зборку. *Змаршч трохі рукаў і ўшывай.* Альба Нясв.

ЗМАРЫ'ЦЬ *зак.* Стаміць. *Я каня змарыў.* Сакаляны Сакол.

ЗМАТА'НЫ *дзеепрым.* Звіты. *Зматаны клубок.* Мярэцкія Глыб.

ЗМАТАЖЫ'ЦЦА *зак.* Налегчы. *Індычка зматажылася на гусяня і пашла комкаючы, бадай ты акалела!* Кіралі Шчуч.

ЗМАХЛЯВА'ЦЬ *зак.* Ашукаць, схлусіць. *Што табе змахляваць?!* Ёдлавічы Брасл. *Я вам не змахлявала.* Рагулішкі Даўг. *Ён можа змахляваць, глатка выйдзя.* Новыя Мацалі Варэн. *Усякія прозвіска ест, як яшчэ, кап не змахляваць?* Старыя Трокі Трак. *Не, не змахлюеш!* Гемзы Шальч.

ЗМАЦНЯ'ЦЬ *незак.* Умацоўваць здароўе. *Уколамі змацняюць чалавека.* Гемзы Шальч.

ЗМАЦЫРАВА'ЦЬ *зак.* Прыгатаваць. *С чаго змацыруя мацыроўку?* Граўжышкі Ашм.

ЗМЕ'НА *ж.* 1. Фазы Месяца. *Першая змена* (маладзік), *другая змена — і на схот Месяца.* Рыбчына Віл. 2. Севазварот. *У нас тут змена, мяняям: то картошку, то лубін, то зернавыя.* Быстрыца Астр. 3. Перамена рацыёну для жывёлы. *Змену дзелаем некалькі рас, разная даём.* Лайпушкі Ігн. 4. у знач. *прысл. зменамі.* Пераход ад адной фазы Месяца да другой. *Калі зменамі ня пойдзе дош, то прапала.* Саланое Віл. 5. Здрада. *Якая змена!* Швэды Вільн.

ЗМЕ'НКІ *мн.* Апаражненне посуду для прыгатавання наступнай стравы. *У нас зменкі саганкоў: пасля снеданя на абед ставяць у тых жа саганках.* Ністанішкі Смарг.

ЗМЕ'НШЧЫК *м.* Здраднік. *Зменшчык, змяніў мне.* Дакудава Лід.; *парайн.* руск. *изменник* 'тж'.

ЗМЕ'НЬВАЦЬ, ЗМЕ'НІВАЦЬ, ЗМЕ'НЯВАЦЬ *незак.* 1. Мяняць. *Мы цяпер зменьваем языка.* Ракаўскія Швянч. *То зменівайця кватэру!* Жодзішкі Смарг. 2. Пераапранаць. *Хто, прышоўшы, плаця зменявая?* Лісна В.-Дзв.

ЗМЕ'РКНУЦЬ *зак. безас.* Сцямнець. *Ужо змеркла, а ён не прышоў.* Паляцкішкі Воран. *Як змеркла, паехаў на начлех.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗМЕ'РШЫ *прым.* Мёртвы. *Бачу — мой Гена змершы.* Крэва Смарг.

ЗМЕСЬ *ж.* Сумесь. *Усякая змесь.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *смесь* 'тж'.

ЗМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Заўважыць, убачыць. *Ні змеціш, дзе каменё.* Малахоўцы Бар.

ЗМІКІ'ЦІЦЦА *зак. экспр.* Засумаваць, зажурыцца. *Чаго ты змікіцілася? — кажуць на таго, хто сядзіць нівясёлы.* Мярэцкія Глыб.

ЗМІЛЕ'ЦЬ *прысл.* Спадабацца. *Ні змілела яму там?* Асавец Віл.

ЗМІНА'ЦКУ *прысл.* Знянацку, нечакана. *Агледзеў, зайшоў змінацку за капу, гляджу, а ключык вісіць. Нада трохі змінацку яе ўшчыпнуць.* Гемзы Шальч.

ЗМІТРЭ'НЖЫЦЦА, ЗМІТРЭ'ЖЫЦЦА *зак.* 1. Здохнуць. *Змітрэнжыліся гусі — раптам падохлі.* Малахоўцы Бар. *Змітрэжыўся гусак.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Разгубіцца. *Змітрэжыўся чалавек, ня ведая, што рабіць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗМІТРЭ'НЖЫЦЬ *зак.* 1. Адарваць ад работы. *Чаго ты мяне змітрэнжыў?* Магуны Паст. *Хацеў я толькі гэта зрабіць, ён падышоў і змітрэнжыў мяне.* Гемзы Шальч. 2. Сапсаваць. *Прышла, змітрэнжыла мне работу.* Быстрыца Астр. 3. Патурбаваць. *Лех спаць, а ён прышоў і змітрэнжыў мяне.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *zmitrężyć* 'згубіць час'.

ЗМІТУЗІ'ЦЦА *зак.* 1. Змяшацца, збунтавацца. *Ён змітузіўся.* Альхоўка Навагр. 2. Захоўваць рэжым. *Я не купляла белага хлеба, кап змітузіцца з ядой.* Груздава Паст.

ЗМІТУЗІ'ЦЬ *зак.* Перашкодзіць. *Хацела боп жаць, вы мне змітузілі.* Кураполле Паст.

ЗМНЕ'ЙШАЦЬ *зак.* Зменшыць. *Змнейшаюць гады.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *zmniejszać* 'тж'.

ЗМО'ВІЦЦА *зак.* Згаварыцца, дамовіцца. *Яны змовіліся і пашлі выкапаць яму і сыпаць бульбу.* Гемзы Шальч. *Яны змовіліся паехаць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗМО'ВІЦЬ *зак.* ◇ *Змовіць пацеры* — прачытаць малітву. *Ціханька змовіў пацяры.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пацяры змоў.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *zmówić pacierz* 'тж'.

ЗМО'ЛАТЫ *дзеепрым.* Змолаты. *Змолата жыта.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗМО'РШЧКІ *гл.* ЗМА'РШЧКІ

ЗМО'РШЧЫЦЦА *зак.* Сабрацца ў маршчыны. *Зморшчыўся твар, як фуфайка с-пад боку выцегненая.* Кураполле Паст. *Зморшчыліся рукі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗМО'ТВАЦЬ *незак.* Намотваць на што-н. *Ніткі змотвая.* Дакудава Лід. *Круціць і змотвае на пачынак.* Новікі Гродз.

ЗМО'ЎЧЫЦЬ *зак.* Прамаўчаць. *Тады добра, калі змоўчыш.* Жодзішкі Смарг.

ЗМРОК *м.* Прыцемак. *На змроку прыгналі.* Альхоўка Навагр. *Змрок, як пачыная цямнець.* Вострава Маст.

ЗМУ'ЗДАВАЦЬ *незак.* Звязваць, умацоўваць. *Лавачкі* [у плытах] *змуздаваюць у ганок бярозавымі віткамі.* Лісна В.-Дзв.

ЗМУ'ЛІЦЦА *зак.* Памыліцца. *Чытаў добра, адзін рас змуліўся.* Асавец Віл.

ЗМУ'ЛІЦЬ *зак.* Змуляць. *Цячэць рана, ногі змуліш.* Саланое Віл. *Конь змуліў спіну патсядзёлкай.* Рыбчына Віл. *Нагу змуляў, мазоль нацёр.* Вецярэвічы Пух. *Змуляў ногу.* Галубы Маст. *Змуляў плечы конь, хрыбет.* Міратычы Карэл.; *гл.* з а ш м у́ л я ц ь.

ЗМУРАВА'ЦЬ *зак.* Скласці, зрабіць. *Яны табе змуруяць комін.* Ракаўскія Швянч.

ЗМУ'СІЦЬ *зак.* Прымусіць. *Змусіла мяне пайсці да яе.* Саланое Віл.

ЗМУ'ЦІЦЦА *зак.* Скаламуціцца. *Змуцілася вада: такі дошч ліў.* Магуны Паст. *Змуцілася вада, не магу піць.* Саланое Віл.

ЗМУЧО'НЫ *дзеепрым.* Скаламучаны. *Змучоная вада; як увесь калодзісь выліць, змуціцца вада.* Саланое Віл.

ЗМУ'ЧЫЦЦА *зак.* Стаміцца. *Змучыўся, пакуль прышоў.* Старыя Трокі Трак.

ЗМЫ'ЛІНЫ толькі *мн.* Вада, у якой мылася бялізна, пазалкі. *Змыліны трэба выліць, як памыем бялізну.* Новікі Гродз. *Панесла змыліны выліваць.* Альба Нясв., Масілавічы Сл.

ЗМЫЛІ'ЦЦА *зак.* Тое ж, што і з м у́ л і ц ц а. *Змылісся, бываіць, і перамот паложыт, як кросны снует.* Саланое Віл. *Трэба падумаць, кап ні змыліцца.* Дакудава Лід. *Калі снуеш, нада ні змыліцца.* Стральцы Гродз.

ЗМЫ'ЛКІ толькі *мн.* 1. Тое ж, што і з м ы́ л і н ы. *Змылкамі моім якія мяхі брудныя.* Дакудава Лід. 2. Памыі. *Змылкі, што мыем пасуду.* Новікі Гродз.

ЗМЫСЛ *м.* Розум. *Каждая жывёла змысл мая.* Гемзы Шальч.

ЗМЫ'СЛЫ *мн.* Сэнс. *Якія змыслы былі так рабіць?* Быстрыца Астр.

ЗМЫЦЬ *зак.* Памыць. *Падоцік некі варыла мая мама: мяккая травіца, змыя яе і вара.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗМЭ'НЧАНЫ *дзеепрым.* Змучаны, стомлены. *Змэнчанага каня напаіў — ахват будзя.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *zmęczony* 'тж'.

ЗМЭ'НЧЫЦЦА *зак.* Змучыцца, стаміцца. *Змэнчыўся ў дарозе, а цяпер адпачыў.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *zmęczyć się* 'тж'.

ЗМЯНІ'ЦЬ I *зак.* 1. Перамяніць. *Дзве-тры вадзе нада*

*змяніць.* Малахоўцы Бар. 2. Памяняць. *Сын змяніў кварціру.* Крэва Смарг. 3. Тое ж, што і з д р а́ д з і ц ь. *Зменшчык, змяніў мне!* Дакудава Лід.; *парайн.* руск. *сменить* 'перамяніць', *изменить* 'парушыць вернасць'.

ЗМЯНІ'ЦЬ II *зак.* ◊ *Змяніць вочы* — заснуць, задрамаць. *Трохі вочы змяніла — і тут стук у дзверы.* Граўжышкі Ашм.

ЗМЯНЦІ'ЦЬ *зак.* Памянціць. *Зменцяць касу.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *mentė̃* 'лапатка'.

ЗМЯ'НЫ *мн.* Тое ж, што і з м е́ н а 1. *Змяны Месяца: на маладзіку, а патом пат поўня патходзіць.* Бакшты Іўеў. *На змянах Месяц разны бывая: сярпок — кагда маладзік і поўны Месяц.* Стральцы Гродз. *Змяны Месяца бываюць.* Парэчча Гродз.

ЗМЯНЮ'ШЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і з л а́ і ц ь. *Яна мяне змянюшчыла.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗМЯНЯ'ЦЦА *незак.* Зменьвацца, станавіцца іншым. *Галава ад раня баліць, пагода будзя змяняцца.* Гемзы Шальч.

ЗМЯНЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з м я н і́ ц ь I, 2. *Змянялі карову на каня.* Кураполле Паст.

ЗМЯРКАВА'ЦЬ *зак.* Памеркаваць, прыкінуць. *Трэба змяркаваць, як пашыць.* Лісна В.-Дзв.

ЗМЯРКА'ЦЦА *незак. безас.* Цямнець. *Змяркаяцца ўжо.* Магуны Паст.

ЗМЯРКА'ЦЬ *незак. безас.* Тое ж, што і з м я р к а́ ц ц а. *Змяркая ўжо.* Вялікія Баяры Шчуч., Дзяніскавічы Ганц.

ЗМЯРКІ' толькі *мн.* Тое ж, што і з м р о к. *На змярках вы прыехалі.* Любішчыцы Івац.

ЗМЯРЦВЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з д р а н т в е́ ц ь. *Змярцвела нага, ні магу стаць.* Магуны Паст.

ЗМЯРЦІ' *зак.* Памерці. *Змярлі браты.* Ністанішкі Смарг.

ЗМЯСЦІ'СЯ *зак. перан.* Звіцца (пра пчол). *Сядуць пчолы і змятуцца. Змяліся пчолы.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *susimèsti* 'тж'.

ЗМЯТА'ЦЬ *незак.* Абмятаць. *Мятлой каласкі змятаюць з абмалочанага зярна.* Рыбчына Віл. *Змяталі жыта, ячмень, згрэбіны зграбалі.* Старыя Трокі Трак. *Мятлой каласкі змятаяць.* Жодзішкі Смарг.

ЗМЯТЛІ'ЦЬ *зак.* Абмесці. *Нада жыта змятліць.* Курополле Паст.

ЗМЯТРЭ'ЖЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і з м і т р э́ н ж ы ц ь 1. *Змятрэжыў ён мяне.* Жодзішкі Смарг.

ЗМЯША'НЫ *дзеепрым.* Які мае запазычанні з іншых моў (пра мясцовую гаворку). *У нас змяшаны язык.* Лісна В.-Дзв.

ЗМЯША'ЦЬ *зак.* Зблытаць. *Мо я гэта змяшала, мо ні ў тым гаду?* Снягяны Смарг.

ЗМЯЯ' *ж.* 1. Гадзюка. *Усялякіх есць змей: і чырвоных, і чорных.* Парэчча Гродз. 2. *перан.* Спіртавы настой з высуша-

най гадзюкі. *Папаіла змяёй, і ён стаў відзіць. Змяёй націраюць рукі, ногі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗНАДО'БІЦЦА *зак.* Спатрэбіцца. *На даўна ўсё, усё знадобіцца.* Рыбчына Віл., Альхоўцы Лях.

ЗНАЁМАСЦЬ *ж.* Знаёмства. *Знаёмасць у іх была.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *znajomość* 'тж'.

ЗНАЁМІЦЦА *незак.* Уступаць у знаёмства з кім-н. *Прыходзяць хлопцы і знаёмяцца.* Старыя Трокі Трак.

ЗНА'ЙДА *м* і *ж.* 1. Падкідыш. *Нехта паткінуў дзіця, цяпер вялікі, а яго завуць знайда.* Рыбчына Віл. 2. *перан.* Жанчына, якая любіць сварыцца, абгаворваць. *На бабу скажуць знайда, якая ходзіць і языком трэпля.* Міратычы Карэл.

ЗНА'ЙДЗЯНЫ *дзеепрым.* 1. Адшуканы. *Ключ знайдзяны, доўго шукаў.* Стральцы Гродз. 2. у знач. *назоўніка знайдзёны.* Тое ж, што і з н а́ й д а 1. *Пашоў знайдзёны. Пашла знайдзёна, хоць і імя ёсць, а як знаіш малым, то так называіш, хоць стары, бо знайшлі.* Міратычы Карэл.

ЗНАЙДУ'К *м.* Тое ж, што і з н а́ й д а 1. *Знайдук не такі нядобры.* Беразіно Докш.

ЗНАЙДУКІ' *мн.* Тое ж, што і з л а д з е́ й к і. *Знайдукі выведіся пат плотам.* Ліпнікі Вільн.

ЗНАЙМІ'ЦЬ *зак.* Паведаміць. *Знаймілі, што мама папраўляецца, а яна памёрла.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *oznajmić* 'тж'.

ЗНА'ЙНІЦА *ж.* Вывaрат, левы бок. *На знайніцы ў цябе рубаха.* Асавец Віл. *Надзела сукенку на знайніцу.* Саланое Віл.

ЗНАЙСЦІ' *зак.* 1. Адшукаць. *Знайдзіш, бывала, ёлачку!* Лоск Валож. *Я ў адрынку ў сена схаваў яблыкі, а яны ўсётакі знайшлі.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Нарадзіць. *Чатыры дачкі, а пятага сына знайшоў і задзержыўся.* Саланое Віл.

ЗНАЙСЦІ'СЯ *зак.* 1. З'явіцца (пра пах). *Знайдзіцца ў летнее врэмя ў мяса запах.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Нарадзіцца. *Як дзеці без мужыка знайдуцца, то крапіўнікі звалі.* Рагулішкі Даўг.

ЗНАК *м.*, ЗНАКІ' *мн.* 1. Знак, метка на чым-н. *Будзя знакі рабіць.* Лісна В.-Дзв. 2. Пісага. *Ажна знак астаўся на плічах ад рэмня.* Лісна В.-Дзв. 3. Мазоль. *Яшчэ тыя знакі ёсць на руках ат цяшкой работы.* Рагулішкі Даўг. 4. Сіняк. *Аш чорны знак стаў — пабіў скуру.* Саланое Віл. *Так ударывсе, што аж знак оставсе.* КурашэваЧыж. 5. Тое ж, што і з а р у́ б а к. *Як карова не цялілася гот, то знак пераскікая. На рагах знакі выразаюцца.* Гемзы Шальч. 6. Умоўны сігнал. *Дзеці ўбачылі лася і давалі знакі нам.* Магуны Паст.

ЗНАКАМО'СЦЬ *ж.* Тое ж, што і з н а ё м а с ц ь. *Па знакамосці яна купіла хату.* Гемзы Шальч.

ЗНА'НЫ *прым.* Вядомы. *Знаны быў доктар, усё гаварыў па-простаму.* Солы Смарг.

ЗНАРВАВА'НЫ *прым.* Знерваваны. *Знарваваны чалавек, нэрвы разышоўшы.* Гемзы Шальч.

ЗНАРО'К *прысл.* 1. Наўмысна. *Знарок чалавек рабіў. Знарок хаваям гэтыя гаршкі.* Альхоўцы Лях. *Буду знарок хадзіць рваць карэння бярозкі свінням, ядзяць добра.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Спецыяльна прызначаны, з пэўнай мэтай. *Каню давалі сечку са ўсом, торбы былі знарок для гэтага, называяцца коньська торба.* Альхоўцы Лях.

ЗНАСІ'ЦЦА *зак. перан.* Састарэць. *Знасіўся чалавек, аслабеў.* Саланое Віл.

ЗНА'ТКА *пабоч.* Вядома. *Знатка, што ня быў чалавек у хаце. Знатка, што плахі хлеп, памяты.* Беразіно Докш.

ЗНАТУ'РЫТІСЕ *зак.* Уперціся. *Куонь знатурывсе і не хотіев тягнуті.* Курашэва Чыж.

ЗНАХА'ЛІЦЬ *зак.* Згвалціць. *Пад'юдзілі яго і знахаліў дзевачку.* Старыя Трокі Трак.

ЗНА'ХАР, ЗНАХО'Р *м.* Шаптун. *Жыў у Карытніцы знахар, умёр ён нідоўна: гот пяць таму будзя.* Дзямянаўцы Дзятл. *Знахар — гэто той, што зубы замаўляе, рожы.* Баброўнікі Гарад. *Знахор раньша лячыў, бальніцы ні было.* Малахоўцы Бар.

ЗНА'ЦЦА *незак.* 1. Сябраваць; быць знаёмым. *Із маладых гадоў зналіся. Мы здаўна знаімся.* Лісна В.-Дзв. *Яны з ім зналіся.* Дакудава Лід. *Мы зналіся.* Рудня Астравітая Чэрв. *Яны ні зналіся, ён насватаў.* Альхоўка Навагр. 2. Ведаць пра што-н., разбірацца ў чым-н. *Я на траву не знаюся.* Малькуны Ігн. *Бронька знаецца на гэтых прыборах.* Гемзы Шальч. *Мая баба знаецца* [пра траву] *ад рожы.* Мсцібава Ваўк. 3. Сустракацца. *Я знаўся з людзьмі, усюды бываў, быў между людзей.* Мсцібава Ваўк.

ЗНАЦЬ *незак.* 1. Ведаць. *Ён знаіць, што яму робіць.* Рагулішкі Даўг. *Малочшыя больш знаяць.* Гемзы Шальч. 2. Адчуваць. *Ні знаю страху.* Крынкі Крын. *Сабака зная добрага чалавека.* Солы Смарг. 3. Відаць. *Барозны знаць, як ты пабаранаваў.* Саланое Віл. *Рубчык стаў знаць.* Асавец Віл. *Яблыкаў будзя многа, цвету — ня знаць лісцяў.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Як ступіш нагой, і слет знаць на зямлі.* Вецярэвічы Пух. 4. Прабаваць. *Я зубамы яйка знаў.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗНА'ЧНО *прысл.* Прыкметна, відаць. *Па кончыку саломку патрасе, каб значно было, што пасеено.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗНА'ЧЫ'ЦЬ *незак.* 1. Памячаць. *Кажды свае копы зна́чыць.* Малахоўцы Бар. 2. *безас.* Відаць. *Карова запускаецца і значы́ць, што пабегана.* Альхоўцы Лях.

ЗНЕБО'ЖЫЦЦА *зак.* Прыкінуцца бедным, збедніцца. *Ён прыдзе, знебожыцца, кап яго шкадавалі.* Мсцібава Ваўк.

ЗНЕГАДНЕ'ЦЬ *зак.* Счарсцвець, засохнуць. *Батоны, булкі знегаднелі, есці не магу.* Бакшты Іўеў.

ЗНЕ'ЖЫЦЬ *зак.* Зрабіць пяшчотным. *Ня знежыш ты эта імя!* Беразіно Докш.

ЗНЕНАЧКУ' *прысл.* Знянацку. *Зненачку сенікам пусціў і спалохаў вояка.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗНЕРВАВА'ЦЦА *зак.* Стаць нервозным. *Нермасць бярэ, знервавалася.* Гемзы Шальч.

ЗНЕ'СЦІ *зак.* Аднесці вадой. *Вада мене знесла далёка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗНЕ'СЦІСЯ, ЗНЯСЦІ'СЯ *зак.* Устанавіць сувязь, звязацца. *Яна з ім знеслася.* Крэва Смарг. *Яны знясліся, і ён у армію пашоў.* Груздава Паст. *З адной дзеўкай знёсся.* Крэва Смарг.

ЗНЕ'ЧАЎКУ, ЗНЯЧЭ'ЎКУ, ЗНЕЧА'ЙКУ *прысл.* Тое ж, што і з н е н а ч к у́. *Знечаўку пашоў дошч. Прыдзе хто знечаўку?* Альхоўцы Лях. *Знячэўку прыехаў.* Пацаўшчына Дзятл. *Знячэўку яе ўбачыла.* Малахоўцы Бар. *Знечайку наляцеў на яе і стаў біць.* Кіралі Шчуч.

ЗНІВЕ'РЫЦЦА *зак.* Згубіць давер'е. *Ты ж зніверылася, і цябе ніхто на кватэру ня возьмя.* Солы Смарг.

ЗНІ'ЖЫЦЦА *зак.* 1. Знізіцца. *Як сонца зніжыцца, дзеўкі пяюць.* Саланое Віл. 2. Стаць ніжэй ростам. *Зніжылася я: зношаецца чалавек.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. *перан.* Налятаць на што-н., успароцца. *Лятая дзіця, яшчэ зніжыцца на ражон.* Альхоўцы Лях. 4. *перан.* Адстаяцца (пра малако). *Малако зніжылася.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЗНІ'ЗАК *м.* Адзенне, надзетае адно на другое. *Знізак — кажух з армяком злучалі і насілі.* Янова Рас.

ЗНІЗА'ЦЬ *зак.* Нанізаць. *Трэба пацяркі пабраць і на ніточкі знізаць. Як прынясеш з лесу грыбы, то на лазінку знізуць і ў печ.* Кіралі Шчуч. *Знізаў рыбу на жылбуць і нясе дахаты.* Старыя Смільгіні Воран. *Знізаў рыбу на дубец.* Жылі Іўеў.

ЗНІ'КНУЦЬ *зак.* 1. Прапасці. *Знік, ужо няма.* Груздава Паст. *Шла, шла і знікла.* Кураполле Паст. 2. Выпарыцца, высахнуць. *Спірт знік з бутылачкі.* Ёдлавічы Брасл. ▽ *Каб ты знік!* Груздава Паст. *Бадай ты знік!* Кураполле Паст.

ЗНІТО'ЎВАЦЬ *незак. тэх.* Зварваць, спайваць. *Аблівалі растворам трубы грубыя і нітоўвалі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *nitúoti* 'заклёпваць'.

ЗНІЦЕ'ЦЬ *зак.* Вырасці кволым (пра расліны). *Буракі ўсе зніцелі.* Валынцы В.-Дзв. *Ай, як зніцелі буракі, апалоць трэба, зніцела ўсё ў гародзе!* Саланое Віл. *Буракі зніцелі, травой зараслі.* Мярэцкія Глыб., Беразіно Докш. *Бульба зніцела, ценькая.* Малькуны Ігн. *Картофля пад ліпамі з канца гароду зніцела.* Альба Нясв.

ЗНІ'ШЧЫЦЦА *зак.* Вынішчыцца. *У вайну дабро знішчылася.* Солы Смарг.

ЗНІ'ШЧЫЦЬ *зак.* Вынішчыць. *Скасавалі, знішчылі ўсё* [у час вайны]. Грыкені Вільн.

ЗНО'ЗА *ж.* 1. Тое ж, што і з а н о́ з а 1. *Калі валамі гаралі, знозы ў вярмо засаджвалі, штобы вол ні вылазіў з вярма.* Навасёлкі Свісл. 2. Спецыяльная рамка ў ляжачым калодачным вуллі. *Да знозы вуза прыкраплялася.* Старое Сяло Зэльв.

ЗНО'САК *м.* Маленькае, звычайна апошняе, яйка, знесенае курыцай у сезоне. *Зносак — маленькае яйко.* Паляцкішкі Воран. *Зносак знясла.* Ліпнікі Вільн. *Зносак — маленько яйко.* Воўкуш Ліпск.

ЗНО'СІЦЬ *незак.* 1. Вытрымліваць, пераносіць. *Не магу зносіць: кажды дзень рубэль бярэ.* Паляцкішкі Воран. 2. Уплятаць у валасы. *У сваёй галаве зносіла стушкі.* Дакудава Лід.

ЗНОЎ *прысл.* Ізноў. *Зноў прыехалі ўнукі.* Стральцы Гродз.

ЗНО'ШАНЫ *дзеепрым. перан.* Аслабелы, састарэлы. *Зношаны чалавек.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗНУ'ДЗІЦЬ *зак.* 1. *безас.* Вырваць. *Знудзіла яго.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Абрыднуць, апрыкраць. *Як панясе цітрадзій правяраць, яна там знудзіла яго прама, гаварыў.* Дакудава Лід.

ЗНУ'ТКІ *мн.* Здзекі. *Воны надо мною знуткі вылробляют.* Курашэва Чыж.

ЗНЭ'НДЗІЦЦА *зак.* Збяднець, згалець. *Знэндзіўся чалавек.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *zną̧dnieć* 'тж'.

ЗНЮ'ХАЦЬ *зак.* 1. Вынюхаць, пазнаць па паху. *Як лісіца знюхала, пусць будзіць і завеена ветрам, яна вазмець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як толькі знюхалі каровы кроў, ляцяць цэлай стадай і крычаць.* Малькуны Ігн. 2. *перан.* Заўважыць. *Такую знюхаюць кавалеры.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗНЯВЕ'ЧАЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Ніткі знявечала, збайтала іх.* Старыя Трокі Трак.

ЗНЯВІ'ДЗЕЦЬ, ЗНЯВІ'ДЗІЦЬ *зак.* Зненавідзець. *Знявідзела мужыка. Я сябе знявідзела.* Міратычы Карэл. *Сын знявідзеў мацеру.* Вецярэвічы Пух. *Ён жонку знявідзіць.* Лісна В.-Дзв.

ЗНЯНА'ЦКУ *прысл.* Тое ж, што і з м і н а́ ц к у. *Ён прыехаў знянацку. Крыкунуў знянацку і спужаў.* Ністанішкі Смарг. *Знянацку наляцеў.* Крэва Смарг.

ЗНЯСЦІ' *зак.* Знесці будынак. *Хочуць знясці хату.* Стральцы Шальч.

ЗНЯСЦІ'СЯ *гл.* ЗНЕ'СЦІСЯ.

ЗНЯ'ЦЦА *зак.* 1. Узняцца (пра вецер). *Вецер зняўся, вечар зімны. В'юга знялася.* Старыя Трокі Трак. 2. Вырасці

ўверх. *Яблыкі велькія, зняліся, нішто не расце.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Пра перыяд палавой актыўнасці ў жывёл. *Свіння знялася да гукой, пагукала.* Старыя Смільгіні Воран. *Карова знялася на бугаі (і авечка, і свіня).* Солы Смарг. 4. Сфатаграфавацца. *Трэба ісці да фатаграўшчыка зняцца.* Гемзы Шальч.

ЗНЯЦЬ *зак.* 1. Узяць, ссадзіць адкуль-н. *Ды не здоймеш гэтага.* Солы Смарг. *Мама, здоймеш яе с печы!* Гемзы Шальч. 2. Зняць што-н. *Як ат шлюбу прыедзіць, як здоміць, так здоміць* [шлюбнае адзенне]. Ракаўскія Швянч. *Здыму уздэчку, пушчу каня.* Паляцкішкі Воран. 3. Зняць мерку. *Зняць меру. Znімі меру!* Вялікія Баяры Шчуч. 4. Сабраць ураджай. *Мы ўжо соткі знялі.* Стральцы Шальч. 5. Звольніць. *Знялі з работы.* Ністанішкі Смарг., Альхоўка Навагр. *Знялі яе на рабоце.* Паляцкішкі Воран. 6. Тое ж, што і з н я с ц і. *Тут хата стаяла, знялі.* Альхоўка Навагр. 7. *безас.* Падысці (пра цеста). *Сыраваты хлеп — закаляц на паляц, не зняло добра яго, як печ не палілася добра.* Старыя Смільгіні Воран. ◊ *Зняць галаву* — сурова пакараць. *Здыму галаву!* Паляцкішкі Воран.

ЗНЯЧЭ'ЎКУ *гл.* ЗНЕ'ЧАЎКУ

ЗОБ, ЗОП *м. анат.* 1. Зоб. *На шыі нашоўся зоп.* Курaполле Паст. *У чалавека зоп — хвароба. Кажуць: «Хворы на зоп». У некаторых аш вісіць зоп, а есць унутры — нутраны зоп.* Міратычы Карэл. *Ён хворы на зоп.* Альхоўцы Лях. 2. Валлё (у птушкі). *Курыца не выседзела зоп і здохла.* Малькуны Ігн.

ЗО'ДА *ж.* Сода. *Зода ўсыпана.* Шамялі Брасл.

ЗОЛГА'ТІ *зак.* Зманіць. *Вон як нэ золжэ, то і праўду нэ скажэ.* Курашэва Чыж.; *параўн.* руск. *солгать* 'тж'.

ЗО'ЛКА *прысл.* Сыра, холадна. *Золка, дзень мокры.* Магуны Паст. *Кап золка не было на дварэ!* Граўжышкі Ашм. *Вот як пагода: і не марос, і ні цяпло — гэта золка.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Так золка на дварэ, што і конь хадзіць не хоча.* Вецярэвічы Пух.

ЗО'ЛКАСЦЬ *ж.* Сырасць, пранізлівы холад. *Золкасць — як снех ідзець, золка.* Саланое Віл.

ЗОЛЬ *ж.* 1. Тое ж, што і з а л і н а́. *Восінь, дажджы пайдуць, золь.* Лісна В.-Дзв. *Дош, холат, золь на дварэ.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нейкая золь, які снех.* Курaполле Паст. 2. *прысл.* Холадна. *Золь у рукі.* Рыбчына Віл.

ЗО'НА *ж.* Паласа, зона. *Мы жылі ў парцізанскай зоні.* Курaполле Паст.

ЗОП *гл.* ЗОБ

ЗО'ПКА *ж.* Аброчная торба. *Зопка — такі мяшэчак, што накладваюць каню на галаву, за вушы наложаць.* Мсцібава Ваўк.

ЗО'РАВАТЫ *прым.* Зорны. *Неба зоравата, многа зорак.* Альхоўка Навагр.

ЗО'РАЧНЫ *прым.* Ясны. *Пагода зорачная.* Тухавічы Лях.

ЗО'РКА *ж.* 1. Зорка. *Ой, красівая, як зорка!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Тое ж, што і з а р á 2. *Ест зорка, яна больша за звычайных.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шчэ і зорка нэ зышла, а я ўстала.* Смаляніца Пруж.

ЗО'РКІ *прым.* Які мае добры зрок. *Мама была зоркая на вочы, дайней выштупаваіць манішку. Мае вочы не былі зоркія.* Кураполле Паст.

ЗО'РНО *прысл.* Зорна. *Зорно, марос будзя.* Малахоўцы Бар.

ЗО'РНЫ *прым.* Тое ж, што і з ó р а в а т ы. *Калі зорнае небо, пагода будзе.* Баброўнікі Гарад.

ЗОСТАВА'ТІ *незак.* Заставацца. *Зоставав вуон у нас на нуч!* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *zostawać* 'тж'.

ЗО'СТАЛКА *ж.* Столка. *Дзве зосталкі трэба адымаць* [адразаць]. Старое Сяло Зэльв.

ЗОСТА'ТІСЕ *зак.* Застацца. *Картохлі нэ выкопаны, на полі зосталісе.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *zostawić się* 'тж'.

ЗО'ЎТРА *прысл.* Заўтра. *Зоўтра паедзеш?* Пацаўшчына Дзятл. *Зоўтра пайду ў грыбы.* Мачаск Бярэз.

ЗО'ЧНУЦЬ *зак.* Пачаць. *Як зочнеш што дзелаць, не чуеш боль. Зочня прасці.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *zaczynać* 'тж'.

З-ПАД, С-ПАТ *прыназ.* Ужываецца пры абазначэнні матэрыялу, з якога робіцца што-н. *Алей с-пат сямення.* Солы Смарг.

ЗРАБІ'ЦЦА *зак.* 1. Стаць. *Заходлівы мы бапкі зрабіліся!* Старыя Трокі Трак. *Які ён зрабіўся здаровы!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *безас.* Спрацавацца. *Зрабіліся рукі, як калкі.* Груздава Паст. 3. *безас.* Здарыцца. *Але што яму такое зрабілася?* Паляцкішкі Воран. *Штосьці зрабілосо для лымя.* Сакаляны Сакол. 4. Утварыцца. *Зробюцца крупкі, мёт зацукруецца.* Саланое Віл. 5.Ператварыцца. *Крой ужо на ваду зрабілася.* Саланое Віл. 6. Прыгатаваць. *Зрабілася цюпкі і паела.* Чычалі Швянч. 7. Скончыць жыццё самагубствам. *Усё роўна, казаў, зраблюся што сабе.* Ёдлавічы Брасл. 8. *фальк.* Абярнуцца ў каго-н. *Ён зрабіўся воўк.* Гемзы Шальч.

ЗРАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Вырабіць. *Муляр зробіць печ, а збоку на адну цэглу ніжэй — пякелак.* Солы Смарг. *А гэта лёхка зрабіць.* Лісна В.-Дзв. *Не так зрабіў, памыліўся.* Гемзы Шальч. *Вазы зрабілі.* Дакудава Лід. *Зрабілі калёсы.* Паляцкішкі Воран. *Не кожны ўмея зрабіць сані.* Новікі Гродз. *Зроп кацюлькі* [цацкі]! Номікі Бабіц. 2. У спалучэнні з дзеяслоўным назоўнікам *узрэх.* Памыліцца. *Узрэх зрабіў.* Відаўцішкі Вільн. 3. Выканаць. *Не так зрабілі, як яна хацела.* Паляцкішкі Воран. *Не зробіш так, як трэба.* Старыя Смільгіні Воран.

4. Пабудаваць. *Я сваімы рукамы зрабіў увесь дом.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Тое ж, што і з р а б і ц ц а 6. *Закуску зрабілі.* Паляцкішкі Воран. 6. Звязаць. *Свэтар зрабіла. Васімнаццатую пару шкарпэтак зрабіла.* Магуны Паст. 7. Выкапаць. *Яму зробяць скрынкай, і бульву заваляць наглуго.* Номікі Бабіц. 8. Нарадзіць. *Глядзі, дзеўка зробя дзіця!* Вялікія Нястанавічы Лаг. 9. Зачараваць. *Ён як зрабіў, так я праснуўся вечарам.* Ракаўскія Швянч. *Вядзьмар мох зрабіць і адрабіць.* Малахоўцы Бар. ∇ *Як рукі зробяць, так плечы зносяць.* Кураполле Паст.

ЗРАБНІНА′, ЗРЭ′БНІНА *ж.* Тое ж, што і з г р э́ б л і н а. *Зрэбнае палатно называецца зрабніна.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Зрэбніна з хужэйшага палатна: мешок пушые, канопніна ичэ называют.* Лука Нараўк. *Пралі на штаны зрэбніну.* Груздава Паст. *Зрэбніны наткала на мяхе.* Кіралі Шчуч. *На штаны ідзе зрэбніна. Выткала зрэбніны тры сцяны.* Жылі Іўеў. *Зрэбніна групша, як пачасніна.* Каўняны Гродз. *Ткуць зрэбніну.* Вострава Маст. *Я ўжэ не ткала зрэбніну. Калісь старые людзі то шылі кальсоны з гэтай зрэбніны, а не, то на мяшке.* Баброўнікі Гарад.

ЗРАГАТА′ЦЦА *зак.* Нарагатацца. *Як сядзем, ды зрагочымся з даўнейшага.* Масілавічы Сл.

ЗРАДКА′, ЗРАТКА′, ЗРАТКУ′ *прысл.* Зрэдку. *Зратка гаворацъ і так.* Курaполле Паст. *Ён выпіць зратку.* Ракаўскія Швянч.

ЗРАЗУМЕ′ЦЬ *зак.* Асэнсаваць. *Я не магу зразумець.* Грыкені Вільн.

ЗРАІ′ЦЦА *зак.* Аслабець (пра пчол). *Пчолы зраіліся, слабая сям'я.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗРАКА′ЦЦА *незак.* Адракацца, адмаўляцца. *Я зракалася, што ён дваюрадны брат.* Граўжышкі Ашм. *Бацька — і зракаецца сваіх дзяцей.* Мсцібава Ваўк.

ЗРА′НА, ЗРА′НУ, ЗРА′НЁ, ЗРА′НЯ *прысл.* Зранку. *Нешта ты выпеяваіш зрана.* Ністанішкі Смарг. *Ён ідзе зрана да трахтара.* Стральцы Шальч. *Зрану паехаў да дохтара.* Стральцы Гродз. *Зранё пашоў.* Альхоўцы Лях. *Прыду ў суботу зраня.* Навадворцы Васільк.

ЗРАНІ′ЦЬ *зак.* Нарадзіць дачасна. *Зраніла двух дзяцей.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зраніла матка.* Гемзы Шальч.

ЗРА′НКУ *прысл.* Тое ж, што і з р а́ н а. *Зранку хадзіла па сяле.* Навасёлкі Свісл.

ЗРАСІ′ЦЦА *зак.* Абрасіцца. *Лятаў* [хлопчык] *па лёня, зрасіўся.* Жылі Іўеў.

ЗРАСЦІ′СЯ *зак.* Вырасці. *Каса зраслася во такая!* Малькуны Ігн.

ЗРАТКА′, ЗРАТКУ′ *гл.* ЗРАДКА′

ЗРАЎНАВА'ЦЬ *зак.* Зраўняць. ∇ *Калі бох лесу не зраўнаваў, то людзей пагатове не зраўнуе.* Кіралі Шчуч.

ЗРАХАВА'ЦЬ *зак.* Рашыць. *Я не ўмела зрахаваць задачу, то мяне ставілі на калені.* Каўняны Гродз.

ЗРАЧЫ' *зак.* У забабонных уяўленнях: пашкодзіць каму-н. дурным вокам, сурочыць. *Во, зраклі маю кароеу.* Дакудава Лід. *Падыйдзе і абы глянуў — і дзіця зрачэ. Зракуць яны дзіця!* Старое Сяло Зэльв. *Яго вочы шкадлівыя: як гляне, то і зрок.* Міратычы Карэл. *Ён зрок мяне.* Тухавічы Лях.

ЗРАЧЫ'СЯ, ЗРЭЧЫ'СЕ *зак.* Адрачыся, адмовіцца. *Яна зраклася каляскі.* Граўжышкі Ашм. *Зракліся дзеці яе.* Альхоўцы Лях. *Стэпан зруоксе работы і до дому прыіехав. Гапка зрэклася Івана і вэрнуласе з дієтём до батьков.* Курашэва Чыж.

ЗРАЧЫ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з р а ч ы́. *Зрачылі цябе.* Бакшты Іўеў. *Вы і зрачылі.* Сакаўшчына Валож.

ЗРО'БІЦЦА *гл.* ЗРАБІ'ЦЦА

ЗРО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* 1. Утвораны. *Верхнік быў для дыма зроблены.* Грыкені Вільн. 2. Начараваны. *Гэта яму зроблена.* Альхоўка Навагр.

ЗРО'ДУ *прысл.* Ніколі. *Зроду ні чула.* Старыя Трокі Трак.

ЗРОЙ *м.* Крыніца ў вадаёмах. *Зрой — дзе вада не замярзая. Карова ўпала ў зрой. З зрою выбіваецца вада і плыве. Ест зрае, што вада цёплая, як у пячэ грэтая, з таго зрою выцякая.* Новікі Гродз. *Зрае ест. Там адзін зрой у далочку.* Каўняны Гродз.

ЗРОК *м.* Здольнасць бачыць. *Ён мая добры зрок.* Міратычы Карэл. *Адзін зрок, як бліска, а начну шыць — не віджу.* Малькуны Ігн.

ЗРО'НКА *ж. анат.* Зрэнка. *Зронка ў воку.* Лісна В.-Дзв.

ЗРО'СЛЫ *прым.* Дарослы. *Дагадавалася зрослых дзяцей.* Міратычы Карэл.

ЗРО'ШЧА *ж.* Рост. *Няма яму ніякай зрошчы гэтаму гусяняці.* Кіралі Шчуч.

ЗРУБ, ЗРУП *м.*, ЗРУ'БЫ *мн.* Зруб. *Зруп дзеравяны для студні.* Гемзы Шальч. *Яшчэ работы: зруп толькі зрубілі!* Стральцы Гродз. *Зрубы тата рубіў, за цэлы дзень кацялок аўса заробіць.* Кураполле Паст.

ЗРУБА'НЫ *дзеепрым.* Ссечаны. *Той дуб зрубаны.* Паляцкішкі Воран.

ЗРУБА'ЦЬ *незак.* Ссякаць. *Пара капусту зрубаць.* Ёдлавічы Брасл. *Пашла зрубаць капусту.* Быстрыца Астр.

ЗРУБІ'ЦЬ *зак.* Ссячы. *Лес зрубілі, і ўсё ў Германію пашло.* Грыкені Вільн. *Зрубілі яблынку.* Крынкі Крын.

ЗРУ'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Зроблены (пра зруб). *Як усё зрублена, кладзецца ачэп.* Малахоўцы Бар.

ЗРУБО'К *м. памянш.* да з р у б. *За зрубок заплацілі.* Ністанішкі Смарг. *Зрубок зрабілі.* Жылі Іўеў.

ЗРУГА'ЦЦА *зак.* Вылаяцца. *Нашы хлапцы ні адзін не зругаіца.* Саланое Віл.

ЗРУГНУ'ЦЬ *зак.* Вылаяць. *Яна можа зругнуць. Ён хлопца ні зругнець.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗРУДЛІ'НКА *ж. памянш.* Крынічка. *Ёсць зрудлінка.* Рыбчына Віл.; *параўн.* польск. *źródło* 'крыніца'.

ЗРУНЕ'ЦЬ *зак.* Зарунець. *Вот зруніла жыта, нада пусціць карођ.* Кураполле Паст.

ЗРУП *гл.* ЗРУБ

ЗРУ'ХАЦЦА *зак.* Скрануцца, зрушыцца. *Баліць нага, не магу з мейсца зрухацца.* Гемзы Шальч.

ЗРУХНУ'ЦЬ *зак.* Скрануць, зрушыць. *Чуць з места зрухнуў вос.* Быстрыца Астр.

ЗРУЧНО' *прысл.* Зручна. *Тут мне не зручно сядзець, бо мае ногі вісяць.* Кіралі Шчуч.

ЗРУ'ШЫВАЦЬ *незак.* Рабіць аборт. *Едуць у бальніцу зрушываць, а цяжка падоймець, і само зрушыца.* Ракаўскія Швянч.

ЗРУ'ШЫЦЦА, ЗРУ'ШЫЦА *зак.* 1. Тое ж, што і з р ý х а ц ц а. *Ні магу зрушыцца з мейсца.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Зварухнуцца. *Зрушышся — у гардзель прэ.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Зрабіцца выкідышу. *Як цяшка падоймеш, можа зрушыца.* Ракаўскія Швянч.

ЗРУ'ШЫЦЬ *зак.* 1. *перан.* Падарваць здароўе. *Чалавек зрушыў сябе, падарвоўся.* Галубы Маст. 2. Нарадзіць дзіця да часу. *Нявестка падніла яшчык — зрушыла.* Кураполле Паст.

ЗРЫБЯЦЕ'ЦЬ *зак.* Здзяцінець. *Яна зрыбяцея, кацянятак носіць на руках.* Валынцы В.-Дзв.

ЗРЫВА'ЦЬ *незак. перан.* Зводзіць сутаргай. *Зрывая ногі, не магу стаць.* Гемзы Шальч.

ЗРЫН *м.* Тое ж, што і з р о к. *Зрын яго ні свеціць, ніскі на вочы.* Дакудава Лід.

ЗРЫЦЬ *зак.* 1. Скапаць, перакапаць лычам. *Чыста свіні зрылі ўвесь двор.* Малькуны Ігн. *Але ж і зрыла гной свіня.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Разгрэбці лапамі. *Куры чыста зрылі лехі.* Рагулішкі Даўг.

ЗРЭ'Б'Е, ЗРЭ'БІ, ЗРЭ'БЯ, ЗРЭ'Б'Я *н.* Льновалакно з ачоскаў. *Галаўке — першыя, лепшае, зрэб'ё — горшае.* Малахоўцы Бар. *Зрэбі валакністыя. Зрэбі карочай, ня гэткія.* Альхоўцы Лях. *Зрэбі — што чэшэш на шчэткі.* Смаляніца Пруж. *Калі першы рас чэшуць, палучаяцца зрэбя. Карэня' — гэто зрэбя буйнейшае. Зрэбя — першая кудзеля.* Стральцы Гродз. *Першая зрэб'я.* Кураполле Паст. *Са зрэбя рабілі коўдру.* Дакудава Лід.

ЗРЭ'БНІНА гл. ЗРАБНІНА'

ЗРЭ'БНЫ, ЗРЭ'МНЫ *прым.* Зроблены са зрэб'я. *Зрэбная пасцілка.* Мярэцкія Глыб. *Хушшай кудзелі ччэцца зрэбная.* Солы Смарг. *Дзярушкі былі зрэбныя і шарсцяныя.* Дакудава Лід. *Бывала, пашыеш сукенку, яна стаіць, як кол, вядома, зрэбна.* Кіралі Шчуч. *С карэня* [льну, калі ачэшуць] *ткуць зрэбнае: радзюшкі, на штаны шаракі. Штаны* [мужчыны] *насілі зрэбныя.* Стральцы Гродз. *Дзярушкі зрэбныя ткуць.* Малахоўцы Бар.

ЗРЭ'ДКА, ЗРЭ'ТКА *прысл.* Тое ж, што і з р а д к á. *Як калі і выпіць, але зрэтка на абедзе.* Ёдлавічы Брасл.

ЗРЭ'ЗАК *м.* Абломак нажа. *Дзе той зрэзак?* Крынкі Крын.

ЗРЭ'ЗАЦІ *зак.* Зрэзаць. *Трэба зрэзаці і скруціці.* Каўняны Гродз.

ЗРЭ'ЗВАЦЬ *незак.* 1. Зразаць. *Капусту нажом зрэзваюць.* Малахоўцы Бар. 2. Спілоўваць. *Зрэзваюць увесь лес.* Масілавічы Сл.

ЗРЭ'КВАЦЦА *незак.* Тое ж, што і з р а к á ц ц а. *Дзяцей сваіх зрэкваюцца. Дзеці мацярок зрэкваюцца.* Альхоўцы Лях.

ЗРЭ'МНЫ гл. ЗРЭ'БНЫ

ЗРЭ'НЁ *н.* Тое ж, што і з р о к. *Зрэнё кепскае.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* руск. *зрение* 'тж'.

ЗРЭНЬКА'ТЫ *прым.* Вірлавокі. *У зрэнькатага вочы вялькія.* Дакудава Лід.

ЗРЭ'ТКА гл. ЗРЭ'ДКА

ЗРЭХ *м.* Агрэх. *Кінуў зрэх, не дасеяў — дрэнны ты сявец.* Гемзы Шальч.

ЗРЭЦЬ *прысл.* 1. Тое ж, што і з р а д к á. *Зрэць калі прыдзя.* Лоск Валож. 2. Рэдка, на пэўнай адлегласці адно ад другога. *Садзіла буракі зрэць, у бацьво пашлі буракі.* Граўжышкі Ашм.

ЗРЭЧЫ'СЕ гл. ЗРАЧЫ'СЯ

ЗРЭ'ШТЫ *пабоч.* Дарэчы. *Зрэшты, можаця ні пісаць.* Дакудава Лід.

ЗУБ, ЗУП *м.* 1. Зуб. *Я зубамы яйка знаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зубы, як чоснік, белыя. Сын зубы кінаў на вайне.* Саланое Віл. *Няма зуба.* Ністанішкі Смарг. *Баліць зуп, ня магу есці.* Стральцы Гродз. *Зуб ґеліць* [ные]. Парэчча Гродз. 2. Зубец. *У баране двацаць зубоў дубовых.* Відаўцішкі Вільн. *Зуп ад бараны.* Старыя Трокі Трак. *Нада здзелаць зубы да грабляў.* Гемзы Шальч. *Выламала зуп, грабячы сена. Трэба загнаць у барану зуп, я адзін згубіў барануючы.* Кіралі Шчуч. *Барана — з дзерава і дубовыя зубы.* Стральцы Гродз. *Зубы* [для бараны] *кладуць у печ, кап яны добра высахлі і былі моцнымі.* Альхоўка Навагр. *Вілы з дзерава на два зубэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Зубэ ў дзеравянай баране былі дубовыя, усаджваліся между пятак і аплетваліся дубовымі дупцамі.*

Міратычы Карэл. *Валак з зубамі, валкам качаяць бялізну.* Солы Смарг. 3. Спарыння. *У жыці зубоў многа.* Лісна В.-Дзв. *Зуб у жыці расце.* Івашкаўцы Смарг. *Зубы чорныя ў жыці.* Індра Красл. *Зуп у жыця.* Мярэцкія Глыб. *Зуб чорны ў жыці.* Беразіно Докш. *У жыці зубоў многа.* Саланое Віл. *Зубы чорныя ў жыця.* Вялікія Нястанавічы Лаг. ∇ *Зубы, мае зубы, корні мае, корні! Вазьмі за канец да дзерні — і перастаня балець.* Гемзы Шальч. ◊ *Ні ў зуп ня есці* — нічога не есці. *Ні ў зуп карова ня есць.* Магуны Паст.

ЗУБАВА'ЦЬ *незак.* Выпрабоўваць моцнасць зубамі. *Трэба зубаваць яйцо, ці моцнаё яно.* Альхоўцы Лях.

ЗУБА'СТЫ *прым.* Зубчасты. *Храбуст — у яго зубасты лісты.* Мсцібава Ваўк.

ЗУБА'ТЫ *прым.* 1. З вялікімі зубамі. *Натта зубаты чалавек. Зубы, што барана, такі зубаты!* Кіралі Шчуч. *Ніхарошы ён, быў бы ані што, ат натта зубы вялікія, зубаты.* Гемзы Шальч. *Зубаты — такіе зубы велькіе, наверху, нават не стуляюца.* Баброўнікі Гарад. 2. Зубчасты. *Жалізяка зубатая дзіржала навой.* Індра Красл.

ЗУ'Б'Е *зб. н.* Зубцы. *Зуб'е ў баране дзеравянае або жалезнае.* Пасіене Лудз.

ЗУБЕ'Ц *м.* Тое ж, што і з у б 3. *Чорныя зупцы на жыця.* Рыбчына Віл. *Зубец у жыці.* Глівін Барыс.

ЗУБІ'ЛО *н.* Зазубень (на аглоблі). *Зубіло — дзе атоса прымацоўваецца да галоблі.* Грыкені Вільн.

ЗУБІ'ЦЦА *незак.* Прарастаць. *Зубяцца гуркі.* Дакудава Лід.

ЗУБІ'ЦЬ *незак.* Вастрыць, насякаючы зуб'е. *Серп зубілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трэбо сярпа зубіць.* Номікі Бабіц.

ЗУБІ'ШЧА *н. мед.* Ангіна. *Пры зубішчы піць даваць, у мет памачыць — і тоя зубішча прападзець. Умею зубішча цісnуць.* Рыбчына Віл. *Зубішча ў малых дзяцей бывая.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зубішча ў горлі, нада есці часнок і яму хукаць у губу гэтым духам — і зубішча прападзе.* Кіралі Шчуч. *Ой, дзіця цыцкі ні бярэ, зубішчы ў дзіцяці.* Мсцібава Ваўк.

ЗУБЛА'ТЫ *прым. перан.* Дзёрзкі, зубасты. *Зублатая баба!* Паляцкішкі Воран.

ЗУБО'К *м.* 1. *памянш.* да з у б 1. *Два зупкі выраслі.* Альхоўка Навагр. 2. Трысціна ў бёрдах. *У бёрдах зубок выляцеў.* Індра Красл.

ЗУ'БЧЫК, ЗУ'ПЧЫК *м.* Тое ж, што і з у б о́ к 2. *Зупчыкі ў бёрдах.* Індра Красл.

ЗУБЭ' *мн.* Карункі. *Зубэ шыдэлкам вязалі. Зубэ прышыла да спадніцы.* Пацаўшчына Дзятл.

ЗУДЗЕ'ЦЬ *незак.* 1. Свярбець. *Зудзіць мазоль.* Лісна В.-Дзв. 2. Ныць, ламаць. *Зудзяць ногі.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *зудеть* 'свярбець'.

ЗУ'ДЗІЦЬ *незак. экспр.* Папракаць. *Яна яго ўсё зудзіла, а ёй усё было дрэнна.* Гемзы Шальч.

ЗУЖЫ'ЦЬ *зак.* Скарыстаць. ∇ *Не капай яму каму, а зужы сваю.* Сасноўка Смарг.

ЗУ'ЗЛІЦЬ *незак.* Плакаць, ныць. *Чаго ты зузліш і зузліш?* Граўжышкі Ашм.

ЗУНА' *ж. экспр.* Плакса. *Зуна ты, зузліш і зузліш!* Граўжышкі Ашм.

ЗУП *гл.* ЗУБ

ЗУ'ПА *ж. кулін.* Суп. *Яна зупу варыць.* Лайпушкі Ігн. *Зупу гатавалі з грыбоў. Зупу згатуем, капусту, панцак — і так елі.* Новікі Гродз. *Будзім варыць зупу.* Каўняны Гродз.; *парайн.* польск. *zupa*, ням. *Suppe* 'тж'.

ЗУ'ПЧЫК *гл.* ЗУ'БЧЫК

ЗУ'РЗА *м.* і *ж.* 1. Буркун. *Зурза — такі чалавек: усё скнарыць, нада, ня нада — гаворыць.* Ракаўскія Швянч. *Вышла замуш за такога зурзу!* Гемзы Шальч. 2. Плакса. *Зурза ты!* Кураполле Паст. *Зурза жа ты, зурза няшчасная, чаго ты плачаш?!* Гемзы Шальч. *Ён зурза такі, не начынай!* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *zùrza* 'тж'.

ЗУ'РЗАЛА *м.* і *ж.* Тое ж, што і з у́ р з а 2. *Зурзала ты! Плачыць і плачыць, зурзаіць і зурзаіць.* Кураполле Паст.

ЗУ'РЗАЛІЦЬ *незак.* Плакаць, хныкаць. *Чаго ты зурзаліш: зурзаліць і зурзаліць.* Кураполле Паст.

ЗУ'РЗАЦЬ *незак.* 1. Бубніць, бурчаць. *Чаго ты зурзаіш? Сядзіць і зурзаіць, і зурзаіць.* Рагулішкі Даўг. *Чаго ты зурзаіш?* Кураполле Паст. *Надаеў ён: зурзаіць і зурзаіць.* Магуны Паст. *Зурзіць і зурзіць, як мая баба, часамі.* Гемзы Шальч. *Зурзаіць усё: і тое ня так, і гэта ня так.* Ракаўскія Швянч. *Зурзаіць і зурзаіць, яму няможна ўладзіць.* Лайпушкі, Малькуны Ігн. *Ён зурзаіць і зурзаіць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *zur̃zti* 'тж'. 2. Цурчаць. *Вада зурзаіць, цячэць памаляньку.* Магуны Паст.

ЗУРЗЕ'ЦЬ, ЗУРЗІ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і з у́ р з а ц ь 1. *Прыдзя і будзя зурзець, што я нічога не зрабіў.* Гемзы Шальч. *Буць хто можыць зурзіць: і мужык і жонка.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗУРЗЛІ'ВЫ *прым.* Бурклівы. *Зурзлівы чалавек, нарвовы.* Гемзы Шальч., Ракаўскія Швянч. *Ён быў зурзлівы.* Малькуны Ігн. *Зурзлівы быў свёкар.* Лайпушкі Ігн.; *парайн.* літ. *zurzlȳs* 'той, хто бубніць, бурчыць'.

ЗУРО'ЧЫЦЬ *зак.* Тое ж, што і з р а ч ы́. *Дзіця зурочылі, трэба мінушкаў, лупінаў, што куранята выходзяць, і дзеркача, і чартапалоху, і пакурыць — і ўсе ўрокі пройдуць.* Кіралі Шчуч.

ЗУСЁМ *прысл.* Зусім. *Зусём прапалі.* Жылі Іўеў.

ЗУСЮ'ЛЬ *прысл.* Адусюль. *Зусюль паз'яжжаўшыся былі.* Быстрыца Астр.

ЗУХ *м.* 1. Бойкі, спрытны. *Ой, баба была зух!* Саланое Віл. 2. Франт, моднік. *Кажуць, зух — хто ўбіраецца ладна.* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* польск. *zuch* 'малайчына, смяльчак'.

ЗЫ'БАЛКА, ЗЫ'БАЎКА *ж.* Зыбкае балота. *Зыбалка — дзе балота зыбаецца, ходзіць хадуром.* Ахрэмаўцы Брасл. *Не хадзі, там зыбалка, засасе.* Глівін Барыс. *Там зыбаўка, улезіш і ня вылязіш.* Жодзішкі Смарг.

ЗЫБА'ЛКА *ж.* Зыбка. *Зыбалка — карытка такояківалася.* Старыя Трокі Трак.

ЗЫ'БАЎКА *ж.* 1. Тое ж, што і з ы б á л к а. *Зыбаўку вешалі на бярэзіну.* Асавец Віл. *Зыбаўка качаецца.* Беразіно Докш. 2. Жэрдка, на якую вешалі калыску. *Калыска з зыбаўкай.* Саланое Віл.

ЗЫ'БАЦЦА *незак.* Гушкацца то падымаючыся, то апускаючыся. *Зыбаяцца балота.* Быстрыца Астр. *Там дзярно зыбаецца.* Гемзы Шальч. *Стаў зыбацца пол.* Мачаск Бярэз. *Зыбаюцца сплавы.* Старыя Трокі Трак.

ЗЫ'БАЦЬ *незак.* Калыхаць. *Вяровачкі чатыры звіе і зыбае.* Быстрыца Астр. *Я тут зыбаю Гэнюся.* Старыя Трокі Трак.

ЗЫБЕ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і з ы́ б а ц ц а. *Балота топкае, аш зыбіць. Мост зыбеў, казалі — ня хадзіць. Мост зыбіць, зыбіць, і як шухнулі ўніс людзі.* Магуны Паст. 2. Дрыжаць. *П'яная, аш ногі зыбяць.* Магуны Паст. *Ногі зыбяць.* Жодзішкі Смарг.

ЗЫ'БКА, ЗЫ'ПКА *ж.* 1. Тое ж, што і з ы б á л к а. *Зыпку пат сталяваня вешалі на жэрткі, і зыбалася.* Ёдлавічы Брасл. *Павешаюць зыпку, іна і качаіца.* Індра Красл. 2. Тое ж, што і з ы́ б а ў к а 2. *Зыпка — жардзіна, іна зыпкая люльку.* Валынцы В.-Дзв. *Люлька на зыпкі была.* Янова Рас. *Зыпка — жэрць, зыпка зыбалася і качала.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗЫБУ'Н *м.* Тое ж, што і з ы́ б а л к а. *Зыбун на балоці бываіць.* Валынцы В.-Дзв. *Зыбун — багністая места.* Кураполле Паст. *Зыбун у балоці. Зыбун зыбаіцца лі ракі.* Саланое Віл.

ЗЫБУ'ХА *ж.* 1. Тое ж, што і з ы б á л к а. *Зыбуха вешаяцца на бярозавую жэртку, прыбітай да бэлькі, дзяцей зыбаяць.* Рыбчына Віл. 2. Калыска з палатна, якую падвешвалі на тры калкі ў полі. *Зыбуха — палатняначка такая, бралі тры калочкі і падвешавалі яе на вяровачках у полі.* Рыбчына Віл. 3. Тое ж, што і з ы́ б а л к а. *Зыбуха — балота, там алешнік, нісхадзімая балота.* Рыбчына Віл.

ЗЫҐАВА'ЦЬ *незак.* Уцякаць, ратуючыся ад укусаў насякомых. *Каровы зыґуюць: падымуць хзасты і палятуць.* Кураполле Паст., Гайна Лаг.

ЗЫ'ГАРАТКА, ЗЫ'ГАРТКА *гл.* ЗА'ГАРАДКА

ЗЫ'ГАРАЦЬ *гл.* ЗА'ГАРАДЗЬ

ЗЫ'ГАЦЦА *незак.* Тое ж, што і з ы́ б а ц ц а. *Зыгаяцца балота.* Жодзішкі Смарг.

ЗЫ'ДАЛЬ, ЗЫ'ДЭЛЬ *гл.* ЗЭ'ДАЛЬ

ЗЫ'ЗМА *м* і *ж.* Прагны чалавек. *Гэта ўжэ такая зызма.* Кураполле Паст.

ЗЫК *м.* 1. Від авадня, гіз. *Зык, як пчала.* Асавец Віл. *Зык сячэ каня.* Рыбчына Віл. *Зыкі нападаюць на каровы, больша на коней.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зыкі лятаюць. Зык рабенькі. Зыкі — конскія мухі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Перыяд, калі каровы бегаюць, ратуючыся ад укусаў гіза. *Зыкуюцца каровы ў самы зык.* Асавец Віл. 3. Стан узбуджэння кароў ад укусаў насякомых. *Зык напаў на кароў.* Ухвала Круп.

ЗЫКАВА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і з ы ґ а в а́ ц ь. *Зыкуюцца каровы.* Рыбчына Віл.

ЗЫКА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і з ы ґ а в а́ ц ь. *Зыкаюцца каровы ў самы зык.* Асавец Віл. *Зыкаюцца цялухі: авадні напалі.* Саланое Віл.

ЗЫ'КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і з ы ґ а в а́ ц ь. *Авадні кусаюцца моцна, і каровы зыкаюць.* Беразіно Докш.

ЗЫ'ПКА *гл.* ЗЫ'БКА

ЗЫР *м.* Халодны, пранізлівы вецер. *Зыр — вецяр зыраваты.* Дакудава Лід. *Зыр — гэта сівер.* Данілавічы Дзярж.

ЗЫ'РКА, ЗЫ'РКО *прысл.* Горача. *Зырка, пагода пячэ, як у цялешніках.* Ісерна Слуц. *На дварэ зырко. На печы зырко.* Дзяніскавічы Ганц. *Ні зырко ў печы, ні запёкса хлеб.* Пасека Ст.-Дар.

ЗЫ'РЫЦЬ *незак.* Прыпякаць (пра мароз). *Зыра марос.* Рыбчына Віл.

ЗЫСКА'ЦЬ *зак.* 1. Атрымаць (грошы). *Хто зарабляя, той і грошы зыскавая. Зышчы грошы і купі мне сукенку.* Кіралі Шчуч. *Зыскаў мае грошы.* Вострава Маст. 2. Спагнаць. *Не магу зыскаць грошы.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* руск. *взыскать* 'спагнаць'.

ЗЫ'СПАДУ *прысл.* Знізу. *Падшворнік зыспаду прыдзержваецць, на шворан уздзяваецца.* Чычалі Швянч.

ЗЫСЦІ' *зак.* 1. Сысці. *Зыдзе кроў, завяжы руку!* Старыя Смільгіні Воран., Вострава Маст. 2. Сустрэцца. *Зышла кума с кумам.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Узысці (пра сонца). *Зышло сонцэ.* Старое Сяло Зэльв. 4. Узысці (пра расліны). *Гэты буракі зышлі, а тые — не.* Мсцібава Ваўк. 5. Выйсці замуж. *Зышла замуж за шафёра.* Ухвала Круп.

ЗЫСЦІ'СЯ *зак.* 1. Сысціся. *Зышліся ўдвух.* Грыкені Вільн. 2. Састояцца. *Вяршок зышоўся на малацэ.* Масілавічы Сл.

ЗЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Жадаць. *Благо зычыць.* Номікі Бабіц.

ЗЭ'ГРАЧ *м.* Чалавек з вялікімі лупатымі вачамі. *Зэґрачоў такіх німа.* Баброўнікі Гарад.

ЗЭ'ГРЫ *мн. экспр.* Вочы. *Зэґры мае велікіе.* Баброўнікі

Гарад. ◊ *Вываліўшы зэґры*—глядзець, шырока расплюшчыўшы вочы. *Сядзіць, вываліўшы зэґры.* Баброўнікі Гарад.

ЗЭ'ДАЛЬ, ЗЭ'ДЭЛЬ, ЗЫ'ДАЛЬ, ЗЫ'ДЭЛЬ *м.* Услон. *Зэдаль быў.* Курраполле Паст. *Зэдаль каля стала стаіць.* Магуны Паст., Стральцы Шальч. *Адзін рас пан хацеў даць па мордзяаднаму, але ён адбіўся; вечарам пан пазваў яго да сябе, зэдаль ужо быў прырыхтаваны — толькі біць нагайкай.* Анкуды Ашм. *Дзе — услон, у нас — зэдаль.* Крэва Смарг. *Усе паселі на зэдлі і на лавы.* Ністанішкі Смарг. *Лавы не падняць, зэдаль малы.* Дакудава Лід. *У нас зэдаль кажуць, чатэры нагі ў зэдлі.* Кіралі Шчуч. *І там зэдэль бальшы стаяў.* Грыкені Вільн. *Асмалілі парсюка і палажылі на зыдаль.* Новыя Мацалі Варэн. *Зыдаль — кароткі, а лава — ад сцяны да сцяны. На зыдаль усцягнуць свіню і колюць.* Старыя Трокі Трак. *Зыдэль невелікі.* Кемялішкі Астр.; *парайн.* польск. *zydel* 'тж'.

ЗЭ'ДЛІК *м.* Невялікі ўслончык. *Ставілі зэдлік каля печы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЗЭ'ДЛІЧАК *м. памянш.* да з э́ д а л ь. *Зэдлічак — маленькі, адзін ест у хляве. Ала садавіца і доіць карову.* Кіралі Шчуч.

ЗЭ'ЛЗЫ *гл.* ЗА'ЛЗЫ

ЗЭЛЯ'НЬКІ *гл.* ЗЯЛЁНКІ

ЗЭ'РКАТІ *незак.* Паглядаць. *Вона на мэнэ зэркала.* Курашэва Чыж.

ЗЭС *м.* Пранізлівы холад. *Які зэс на дварэ!* Груздава Паст.

ЗЭ'ШЛЫ *прым.* Мінулы. *Зэшлы гот быў прыехаўшы.* Кемялішкі Астр. *У зэшлым року купіў сабаку.* Мсцібава Ваўк. *Зэшлы рок дажджлівы быў.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *zeszły* 'тж'.

З'Ю'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Успудзіць, сагнаць з месца. *Свіня ляжалі, а ён падышоў і з'юдзіў іх. Ты толькі іх з'юдзіў. Ён пашоў і кароў з'юдзіў, кап не пашоў, то каровы ляжалі.* Гемзы Шальч. 2. Падбухторыць, падбіць на што-н. *Маю Тарэсу з'юдзіла.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яна яго з'юдзіла, кап ён з жонкай пасварыўся.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *užjùdinti* 'зрушыць, ссунуць'.

ЗЮЗЮ'КАЦЬ *незак.* Ціха гагатаць. *Як гусі выходзяць, дык гавораць: «Во як гусі зюзюкаюць!» Яны ш зю-зю-зю.* Саланое Віл.

ЗЮ'ЗЯ *ж. дзіцяч.* Агонь. *Не ідзі туды, там зюзя!* Жылі Іўеў.

ЗЯ'БЛІНА *ж.* Зябліва. *Зябліну нада пазябліць.* Жылі Іўеў.

ЗЯ'БЛЯ *ж.*, ЗЯ'БЛІ *мн.* Тое ж, што і з я́ б л і н а. *«Зябліш*

*на зіму — зябля».* Галубы Маст. *Зябля — згараная зямля на зіму.* Мсцібава Ваўк. *Зяблі абараць.* Мярэцкія Глыб.

ЗЯ'БРА I *ж. бат.* Зябер. *Зябра калючая.* Ліспа В.-Дзв., Саланое Віл. *Па гародах зябра расцець, на ей смактушкі бываюць, нектар салоткі.* Валынцы В.-Дзв. *У гародах зябра, яна калюча, расце па (а)ўсах, па гародах, па картошкі.* Рагулішкі Даўг.

ЗЯ'БРА II *ж.* Тое ж, што і з я́ б л і н а. *Вясной зябраць зябру.* Жодзішкі Смарг.

ЗЯ'БРЫ толькі *мн.* Жабры. *Зябры ў рыбы, у галаве.* Валынцы В.-Дзв. *Рыба жывая, бо во як зябрамі рухая.* Гемзы Шальч.

ЗЯ'БРЫЦЬ *незак.* Зябліць. *Зямлю вясной зябраць.* Жодзішкі Смарг.

ЗЯ'ВАЛА 1. *н.* Адтуліна. *Зявала* [у бучы] *проці вады ставяць.* Магуны Паст. 2. *м* і *ж. экспр.* Разявака. *Ён такі зявала!* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *žióva* 'тж'.

ЗЯВА'ЦЦА *незак. безас.* Пазяхаць. *Зяваецца, хачу спаць.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *žióvauti* 'тж'.

ЗЯ'ВАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і з я в а́ ц ц а. *Зяваю, спаць хачу.* Магуны Паст. 2. *перан. груб.* Умешвацца ў чужую размову. *Ня зявай, язык усунула куды ня нада!* Едлавічы Брасл. *Раскрыла ляпаўку, зявая і зявая.* Крэва Смарг.

ЗЯВА'ЦЬ *незак. перан.* 1. Быць адчыненым (пра вокны, дзверы). *Зявалі вокны цэлу ноч, паатчыняў.* Кіралі Шчуч. 2. *экспр.* Глядзець шырока адкрытымі вачамі. *Чаго ты на мяне зяваяш?* Міратычы Карэл. ◊ *Яма зявая* — смерць пагражае. *Да трох месяцаў на яе* [парадзіху] *яма зявая.* Граўжышкі Ашм.

ЗЯВО' *гл.* ЗЕ'ВА

ЗЯВУ'Н *м.* Той, хто зявае. *Ну і зявун ты!* Старыя Трокі Трак.

ЗЯ'ВЫ, ЗЯВЭ' *гл.* ЗЕ'ВЫ

ЗЯГРА'ТЫ *гл.* ЗЕГРА'ТЫ

З'ЯДА'ЦЬ *незак.* З'ядаць. *Госці прыяжджалі і з'ядалі ўсё.* Дзяніскавічы Ганц.

З'Я'ДЛА *н.* Ежа, страва. *З'ядла робіць.* Жодзішкі Смарг.

ЗЯЗЮ'ЛЬКА, ЗАЗУ'ЛЬКА *ж. памянш.-ласк.* да з я з ю́ л я. *Зязюлька гнязда ня робіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зязюлька ў лесі кукуіць.* Лайпушкі Ігн. *Гэты рок будзя ранняя вясна, бо рана зязюлька закукавала.* Гемзы Шальч. *Зязюлька нігды не высядзіць дзеці.* Каўняны Гродз. *Зазулька кукуя.* Лоск Валож.

ЗЯЗЮ'ЛЬКІ толькі *мн. бат.* Дрыжнік. *Зязюлькі трасуцца, іх завуць і кукушкіны слёскі.* Рагулішкі Даўг.

ЗЯЗЮ'ЛЯ *ж.* Зязюля. *Зязюля кукуіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зязюля сёліта не кукавала.* Кураполле Паст. *Зязюля куе.* Во-

страва Маст. *Была вяліка таполя, помню, прылецiць на тую таполю тры зязюлі.* Альхоўцы Лях. *Зязюля ляцела, але не кавала.* Баброўнікі Гарад. ∇ *Як будзіш пры грашах і с хлебам і пачуіш зязюлю, тады будзіш мець хлеп і грошы* — народная прыкмета. Кураполле Паст.

ЗЯЛЕ′ЗА *гл.* ЖАЛЕ′ЗА I

ЗЯЛЕ′ЗНІЦА *ж.* Жалезная шчотка. *Зялезніца з набітых цвякоў, ёй чэшуць лён.* Магуны Паст.

ЗЯЛЕ′ЗНЫ *гл.* ЖАЛЕ′ЗНЫ

ЗЯЛЕ′НІВА *н.* 1. Недаспелая садавіна. *Наясіся зялeніва і памрэш.* Старое Сяло Зэльв. 2. Ціна. *Зяленівам пацягнуўшы вада.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗЯЛЕ′НЫ СВЁНТКІ *мн. рэліг.* Сёмуха. *На зялены свёнткі ўбіраюць хату бяроскай.* Быстрыца Астр.

ЗЯЛЕ′НЯ *н.* Тое ж, што і з е́ л л е 1. *Зяленя прынясла.* Альхоўка Навагр.

ЗЯЛЕ′ПАЦЬ *незак. экспр.* Ціўкаць, пішчаць (пра куранят). *Зялепаюць ходзячы.* Граўжышкі Ашм.

ЗЯЛЕ′ПУХА, ЗЯЛЁПУХА *ж.* 1. Тое ж, што і з я л е́ н і в а 1. *Што ты зялепуху даеш!* Навасёлкі Свісл. *Што ты рвеш гэтыя зялепухі?!* Рудня Астравітая Чэрв. *Нейкія зялёпухі сталі ў кашолцы.* Парэчча Гродз. 2. Тое ж, што і з я л е́ н і в а 2. *Зялепуха стаіць у затоках.* Граўжышкі Ашм. 3. *перан.* Малакроўны чалавек. *Зялепуха ты, белая, як палатно, есці больш трэбо.* Стральцы Гродз.

ЗЯЛЕ′СКО *н. памянш.* Жалезца. *Зялеско пастаўлена ўдаўшкі.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗЯЛЁНАЯ ВАРО′НА *ж.* Сіваграк. *Зялёную варону ў лясу ўвідзіш.* Пасіене Лудз.

ЗЯЛЁНКА I *ж.* Зялёная маса, корм для жывёлы. *Зялёнку возяць у завот і муку робяць.* Ёдлавічы Брасл. *Зялёнка прывезена каровам.* Рагулішкі Даўг.

ЗЯЛЁНКА II *ж. мед.* Брыльянтавая зелень. *Цяпер зялёнкай красяць.* Рагулішкі Даўг.

ЗЯЛЁНКІ, ЗЯЛЯ′НКІ, ЗЕЛЯ′НЬКІ, ЗЯЛЯ′НЬКІ, ЗЭЛЯ′НЬКІ *мн.* Тое ж, што і з е л я н і́ ц ы. *Па выгалках зялёнкі растуць.* Кіралі Шчуч. *Зялёнкі добро саліць.* Стральцы Гродз. *Зялёнкі — асенія грыпкі.* Мсцібава Ваўк. *Зялёнкі, подзелёнькі растут восенню.* Лука Нараўк. *Зялёнкі соляць у цабэрак дубовы. Зялёнкі перамывалі.* Баброўнікі Гарад. *Зялянкі — зялёныя, падзялянкі — сталёвыя.* Солы Смарг. *Зеляньку ў лесе растуць.* Навасады Вільн. *Зяляньки на зіму марынуюць.* Кудзялянцы Шальч. *Зэляньки — асеннія грыбы.* Стральцы Шальч.

ЗЯЛЁПУХА *гл.* ЗЯЛЕ′ПУХА

ЗЯЛО′ *н.* Насенне траў. *Ад усякіх зёлак, ат усякай травы зяло адлятая.* Гайна Лаг.

З'ЯЛЧЭ'ЦЬ, З'ЯЛЧА'ЦЬ *зак.* Прагоркнуць (пра тлушч). *Сала з'ялчэла, елка стала.* Гемзы Шальч. *Сала з'ялчэла, бо старое.* Солы Смарг. *Скварка з'ялчэла.* Вялікія Баяры Шчуч. *З'ялчала, ёлкая стала сала.* Мярэцкія Глыб.

ЗЯЛЯ'НКІ, ЗЯЛЯ'НЬКІ *гл.* ЗЯЛЁНКІ

ЗЯЛЯ'ПАЦЬ *незак. экспр.* Крычаць. *Прышла* [курыца] *зяляпаць у хату?! Зяляпая, прышоўшы дахаты.* Граўжышкі Ашм. *У дома трэці сын усіх паднімае, зяляпая.* Бакшты Іўеў. *Зяляпая і зяляпая* [дзіця]. Жылі Іўеў.

ЗЯМЕ'Ц *м.* Пчаляр. *Зямцы разводзілі пчол.* Саланое Віл. *Дзед мой быў зямец: і ліжакі, і стаякі ў яга былі.* Беразіно Докш. *Зямец бярэць плець з лёну, сядло, каб сесці, і так падымаецца на дзерава.* Ухвала Круп. *Кап зямец, ён бы вам расказаў бы пра пчол.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЗЯМЛЯ' *ж.* 1. Зямля. *На зямлі буду спаць.* Лісна В.-Дзв. *Пашоў пабразгаў* [ланцугом] *па зямле.* Кіралі Шчуч. *Зямля набралася на чаравікі.* Баброўнікі Гарад. 2. Ворная зямля. *Невялікі ў нас надзел зямле.* Кіралі Шчуч. *Я зямлю здаю, не магу ўжэ рабіць. Ён мае зямлі мало.* Баброўнікі Гарад. 3. *перан.* Падлога. *На зямлі буду спаць.* Лісна В.-Дзв. ∇ *А зямля іх! Хай зямля возьме! Нікуды я ні пайду, а зямля іх з грыбамі.* Асавец Віл.

ЗЯМЛЯ'К *м.* Араты. *Адзін назовіць зямляк, другі — артай.* Малькуны Ігн.

ЗЯ'ПКА *ж. заал.* Берасцянка, зяблік. *Зяпка крычыць на непагаць.* Валынцы В.-Дзв.

ЗЯ'ПЛА *м.* і *ж. экспр.* Тое ж, што і з я́ в а л а 2. *Халадно на вуліцы, ён разявіць сваe горла, як зяпла.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *žióplа* 'тж'.

ЗЯ'РКА *н.* Тое ж, што і з я л ó. *Патруху с сена абмяшаюць мукой і курам даюць, там зяркаў многа ад травы.* Ракаўскія Швянч. *Канапляныя зяркі.* Малькуны Ігн.

ЗЯРНІ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і з а р а́ н а ч к а. *Ест ранна і вячорна зярнічка.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗЯРНО', ЗЯРНЁ, ЗЯРНЯ' *н.* 1. Зерне, каліва. *Узяў адно зярно і паспрабавай на зубы, ці сухоя.* Гемзы Шальч. *Зярнё пасажу і вырасця груша.* Быстрыца Астр. 2. Ядро арэха. *Зярнё ў арэху.* Рыбчына Віл. *Зярня ў гарэху вялікае.* Масілавічы Сл., Альхоўка Навагр., Мсцібава Ваўк. 3. Збожжа. *Зярно падвясці нада.* Старыя Трокі Трак.

ЗЯРНЮ'К *м.* 1. Тое ж, што і з я р н ó 1. *Зярнюк у коласе. Зярнюк налівая. Як зярнюк цвёрды — налівая.* Старыя Смільгіні Воран. *Зярнюк велькі вырас. Цэлы зярнюк выходзіць.* Жылі Іўеў. 2. Тое ж, што і з я р н ó 2. *Зярнюк у арэху.* Паляцкішкі Воран. 3. Спарыння. *Чорныя зярнюкі памоцны.* Старыя Смільгіні Воран.

ЗЯРНЮЧО'К *м.*, ЗЯРНЮЧКІ', ЗЯРНЯЧКІ' *мн. памянш.*

да з я р н ю к. *Зярнючок маленькі. У зелы розныя зярнючкі. Розныя зярнючкі дзяўбуць пташкі.* Стральцы Шальч. *У дзядзяшы зярнячкі ест.* Кудзялянцы Шальч.

ЗЯРНЯ′ *гл.* ЗЯРНО′

ЗЯРО′Д *гл.* АЗЯРО′Д

ЗЯРО′ШКА *н. памянш.* да з я р к а. *Зярошкі находзіць, капаецца па зямлі* [курыца]. Валынцы В.-Дзв.

ЗЯРЭ′ДЗІЦЬ *гл.* АЗЯРО′ДЗІЦЬ

ЗЯРЭ′НКІ *мн. памянш.* Зярняткі. *Зярэнкі кропу добра ад дайленя.* Солы Смарг.

З'ЯТ *м. зневаж.* Азіят. *З'ят ты! Такі лядашты, усе грызецца і грызецца гэты з'ят.* Кіралі Шчуч.

ЗЯ′ТНЯЯ КО′СТКА *ж.* Хрыбет. *Зятняя костка баліць.* Лісна В.-Дзв. *Пасячы зятнюю косць.* Солы Смарг.

ЗЯ′ЎКАЦЬ I *незак.* Гаварыць недарэчнае, балбатаць. *Абы-што зяўкаіш.* Валынцы В.-Дзв. *Ні зяўкай!* Старыя Трокі Трак.

ЗЯ′ЎКАЦЬ II *незак.* Пазяхаць. *Чаго ты зяўкаеш?* Ракаўскія Швянч.

ЗЯ′ЎКНУЦЬ *зак.* Гаўкнуць. *Сабака другі рас і зяўкніць.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *žiáuknoti* 'тж'.

ЗЯ′ЎНА′ *ж.*, ЗЯЎНО′ *н.*, ЗЯ′ЎНЫ, ЗЯ′ЎНІ *мн.* 1. Сківаца. *Вялікая зяўна. Купіла палавіну зяўны ніжняй і шэсь галоў. Верхнія і ніжнія зяўны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Зяўно з мясам купіла ў Лідзя.* Дакудава Лід. *Ён як разявіўся, і зляцелі зяўны.* Кудзялянцы Шальч. *Зяўні — во ў свіней і ў чалавека.* Ракаўскія Швянч. 2. *груб.* Рот. *Закрый сваю зяўну!* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *žiáunos* 'тж'.

ЗЯ′ЎРЫ *мн. груб.* Губы. ◇ *Распусціць зяўры*—раскрыць рот. *Што ты распусціў зяўры?!* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЗЯХНУ′ЦЬ *зак.* Уздыхнуць. *Зяхнула рас-два і памерла.* Кіралі Шчуч.

ЗЯЦЬ *м.* Зяць. *Былі прыехаўшыя два зяці.* Гемзы Шальч. ∇ *Не хвалі зяця за тры дне, але хвалі за тры гадэ. Як зяць у хату, то цёшча за яйка* [пячы яечню]. Кіралі Шчуч.

# I

І′ВАЛКА *ж. рыб.* Вузкі ўваход у венцеры. *Івалка ў венцеры.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *ìšvalka* 'проламка'.

ІВА′Н КУПА′ЛА *м. абрад.* Купалле. *На Івана Купалу вянкі пускалі дзеўкі.* Ухвала Круп.

ІВА'НЬКА *ж. заал.* Божая кароука. *Іванька, іванька — будзе дождж ці пагодка?* Ухвала Круп.

І'ВАШКА *ж.* Тое ж, што і і в а л к а. *Івашка ў вяршы.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *ęvaža* 'праезд; канал у ствале стрэльбы'.

І'ВІНА *ж.* Вярба. *Івіна расце беловата па ніскіх месцах.* Міратычы Карэл.

І'ГА, І'ГО *н.* 1. Ярмо (на валоў). *Іга на вала. Затычка ад іга.* Саланое Віл. 2. *перан.* Прыгнёт. *Вынесла мешалку і ёю біла, як бы пад ігам татарскім жыла, такая нявестка злая.* Валынцы В.-Дзв. *За немца то мы іго пэрэжылі.* Курашэва Чыж.

ІГЛІ'ЦА І, ГЛІ'ЦА *зб. ж.* Ігліца. *Ігліца пасохла пад нагамі.* Беразіно Докш. *С сасны, з ёлкі ігліца сыпіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ігліца як асыплецца, а так калючка.* Багушэвічы Бярэз. *Ездзілі ігліцу грэбці. Ігліца із сасны. Ігліца — калючкі хвоі.* Пасека Ст.-Дар. *Гліца хваёвая, яловая. Асыпалася гліца, доле ляжыць, у гліцы таўстухі растуць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІГЛІ'ЦА ІІ *ж.* 1. Спіца для пляцення чаго-н. *Ігліца ест да вязання палатна на сеткі.* Мярэцкія Глыб. *Ігліца — палачка вязаць сетку.* Дакудава Лід. *Ігліца робіцца з дзерава вязаць сетку для лоўлі рыбы.* Малахоўцы Бар. *Ігліцай вязалі сетку.* Старыя Трокі Трак. *Ігліца — плесці лапці.* Крупіца Мін. 2. Прылада для намотвання тоўстых нітак пры тканні. *Ігліца, як трапкі ткалі на палавіке.* Малахоўцы Бар. 3. *буд.* Папярочны драўляны брусок, якім змацоўваюцца дзвярныя дошкі і інш. *Ігліцу закладваюць, як сточваюцца броўна.* Дакудава Лід. *Дзверы змацоўваюцца ігліцамі.* Вострава Маст. *На ігліцы клалі ашлапы, як акно рабілі.* Быстрыца Астр.

ІГЛІ'ЦА ІІІ *ж.* Папярочная жэрдка ў драбінах воза. *Ігліцы ў драбіне ест, каб вяроўка не з'ехала, як вос уціскаюць.* Гемзы Шальч.

ІГЛІ'ЦА IV *ж. ваен.* Ударнік. *Ігліца засталасе — і вінтоўка не выстрыліла.* Курашэва Чыж.

І'ГО *гл.* І'ГА

ІГО'ЛКА *ж.* Іголка для шыцця. *Яна ўкалола іголкай — і нарывае.* Беразіно Докш.

ІГРА'ЦЬ *незак.* 1. Гуляць. *Будзем іграць вечарынку.* 2. Спароўвацца. *Пятух с курмі іграя.* Рыбчына Віл. *Пятух іграя с курмы.* Мярэцкія Глыб. *Не іграя гусак з гусёю, пятух іграя с курмі.* Вецярэвічы Пух. *Іграя с курмі пятух.* Рудня Астравітая Чэрв. *Гусі іграюць, куры іграюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Певянь з курамі іграя, усе птушкі іграюць.* Азяраны Раг. 3. *перан.* Зіхацець, блішчаць. *Сонца на Яна іграя, як усходзя, на вялікдзень іграя.* Рыбчына Віл. *Натта іграла сонца.* Лісна В.-Дзв.

ІГРУ'ША *ж.* Плод ігрушы. *Ігрушы велькія, што кулак.*

Мярэцкія Глыб. *Ігрушы нейкія даўкія, у горле перасядаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІГРЫ'ШЧА, ГРЫ'ШЧА *н.* Вечарынка, танцы. *Ігрышчы ў нас бывалі часта.* Саланое Віл. *Раней ігрышча там, дзе музыкі іграюць.* Дзяніскавічы Ганц. *Пойдзям на грышча.* Ракаўскія Швянч.

ІДА'К *м.* Ядок. *У сям'і чатыры ідакі.* Янова Рас.

ІЖВА'ЦЬ *незак.* Жаваць. *Карова іжве жваку.* Глівін Барыс.

ІЖДЖА'Й *м. заал.* Разнавіднасць акуня. *Рыба на вокуня пахожая — іжджай.* Ухвала Круп.

ІЖЕ'ЎНІК *м. бат.* Ажына. *Іжеўнік, сурмаліны — тое ж самае ў нас.* Мішневічы Шум.

ІЖЖО'ЎКНУЦЬ *зак.* Пажоўкнуць. *Іжжоўклі ўсе гуркі.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЖЖЫ'ТЫ *дзеепрым.* Пражыты. *Мой век іжжыты.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗАЛЯ'ЦЫЯ *ж.* Раз'яднанасць з іншымі. *Сам сядзеў у Навагрудку ў цюрме, у Баранавічах, у Вільні, у Гродні. Сядзеў на ізаляцыі адзін, так што было вельмі цяжко.* Асташына Навагр.

ІЗБУТЛЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з б у т в е́ ц ь. *Крама лежачы ізбутляе, мажэ плацье ізбутляць, мае спадніцы закопаны і ўсе пабутляло, пагніло, пазацекало.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЗВАЛНАВА'ЦЦА *зак.* Перахваляваццa. *Была ізвалнавалася ўся.* Старыя Смільгіні Воран.

ІЗВАРЫ'ТЭ *зак.* Тое ж, што і з в а р ы́ ц ь. *Суп ізвару. Кашы ізварыла, камякоў натаўкла.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЗВЕ'РГНУЦЬ *зак.* Нарадзіць раней тэрміну. *Карова ізвергла.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЗВЕ'СЦІ *зак.* Тое ж, што і з в е́ с ц і II, 3. *Ізвёў немец увесь хлеб, папаліў.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* руск. *извести* 'тж'.

ІЗВЕ'СЦІСЯ *зак.* Тое ж, што і з в е́ с ц і с я. *Ізвяліся зязюлі, дзе адна закукуе.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЗВЕ'СЬ *ж.* Вестка. *Сыну нехта ізвесь даў: бацька прадае дом.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *известие* 'тж'.

І'ЗВІСЬ *ж.* Вапна. *У ізвісь сыплюць солі, каб не мазалася печ.* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *известь* 'тж'.

ІЗВЯШЧЭ'НЯ *ж.* Паведамленне. *Прышла ізвяшчэня, што пагіпшы ён.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *извещение* 'тж'.

ІЗГАЛО'ВАК *м.* Вузгалаўе (у возе). *На асі лежыт падушка, на падушкі — ізгаловак, у каторым убіваюцца ручкі, каторыя прыдзержываюут гнаянкі чы драбінкі. Ізгаловак для таго, штоб паварот дзелаць.* Лука Нараўк.

ІЗГАРО'ДА *ж.* Агароджа. *Пралезай прас ізгароду.* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *изгородь* 'тж'.

ІЗГАРЭ'ЦЦА *зак.* Згніць, сапрэць зляжаўшыся (пра сена). *Ізгарэўся стох — стлела сена.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗГАРЭ'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і і з г а р э́ ц ц а. *Ізгарэло жыто, лён, картопля.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЗГУРА'СЦІЦЬ *зак.* Згрувасціць. *Ізгурасціў усё разам.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗДА'ЦЬ *зак.* Здаць. *Мы іздалі малако.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗДЗЕ'ЛАЦЬ *зак.* Зрабіць. *Трэба ш іздзелаць, што прасіў ты.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗДЗЕ'ЛЛЕ *н.* Выраб. *Дзе былі краўцы, хоць свайго іздзелля—нясуць яму.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *изделие* 'тж'.

ІЗДЗЕ'РЦЬ *зак.* Тое ж, што і з д з е́ р ц і 1. *Скуру трэба іздзерць і вон выкінуць.* Гемзы Шальч.

ІЗДО'ХНУЦЬ *зак.* Тое ж, што і з д о́ х н у ц ь. *Далі мышам атравы, а кот іздох.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЗДУ'ХІ *мн.* Месца сонечнага спляцення. *Як даў яму пад іздухі — пад лыжачку.* Рыбчына Віл.

ІЗ'Е'ЖЫ *прым.* Каштоўны. *У гэтум гаду свіння із'ежа.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗ'Е'СЦІ *зак.* З'есці. *Зарас із'ядуць усё.* Рыбчына Віл.

ІЗЛАВІ'ЦЬ *зак.* Злавіць. *Крый бох, ізловіць кага.* Альхоўцы Лях. *Паспрабуй ізлавіць яго.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗЛЕ'СЦІ *зак.* Злезці. *Ізлесь далоў, злась, бацько, ідзі дадому.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЗЛУПІ'ЦЬ *зак.* Злупіць, здзерці. *Ізлупіў ліпу, лубянку іздзелаў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗЛЫГА'ЦЬ *зак.* Тое ж, што і з л ы г а́ ц ь 1. *Нескалькі коняй ізлыгалі. Кароў ізлыгалі.* Данілавічы Дзярж.

ІЗМУЦІ'ЦЬ *зак.* Збіць масла. *У латушца трэба ізмуціць масла.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІЗНО'Ў *прысл.* Тое ж, што і з н о ў. *Скора ізноў маладзік.* Магуны Паст.

ІЗНО'ЎКА *прысл.* Тое ж, што і з н о ў. *А тут ізноўка яна крычыць: «Досыць спаць: быдлу дайно трэба быць у полі».* Оцкавічы Паст.

ІЗРУ'П *м.* Зруб. *Ізруп зрубілі.* Лісна В.-Дзв.

ІЗРЭ'Б'Я *н.* Зрэб'е. 1. Грубая, кастрывая кудзеля, якая аддзяляецца пры трапанні льну. *Ізрэб'я — з камлёў адходы. Ізрэб'я пралі.* Саланое Віл. *Я праду ізрэб'я — валакно з каранявой часткі льну.* Вецярэвічы Пух. 2. Палатно з грубай, кастрывай кудзелі. *Ізрэб'я — шорсткая палатно.* Саланое Віл.

І'ЗРЭДКА *прысл.* Зрэдку. *Дуб ізрэдка есць.* Навікі Лудз.; *параўн.* руск. *изредка* 'тж'.

ІК *прыназ.* К, да. *На саньках павёс ік доктару.* Альхоўцы Лях. *Ік Мані заходзіць.* Вецярэвічы Пух.

І'КАВІЦА *ж.* Ікаўка. *Ікавіца, ікая дзіця, шчоўкая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ікавіца ў мяне сільная.* Пасека Ст.-Дар.

І'КАЎКА *ж.* Тое ж, што і ікавіца. *Мяне ікаўка апанавала, ікаю, ужо туды сабіраюся.* Валынцы В.-Дзв. *Ікаіць, напала ікаўка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я паеў густога — дык ікаўка схваціла, стаў ікаць.* Ёдлавічы Брасл. *Ікаўка — ікаіць чалавек.* Мярэцкія Глыб. *Ікаўка напала, дзіця ікая.* Рыбчына Віл. *Ікаўка напала.* Саланое Віл. *Вот ікаўка напала, лёгка ікнулася — нехта добра ўспомніў.* Кураполле Паст. *Ікаўка на мяне напала.* Магуны Паст., Малахоўцы Бар. *Мяне ікаўка б'е.* Міратычы Карэл. *Ікаўка схваціла, напала.* Каўняны Гродз. *Ікаўка напала.* Лука Нараўк.

І'КАЦЬ *незак.* Ікаць. *Ікаіць дзіця.* Малькуны Ігн. *Што ты ікаіш, пазяваіш?* Лайпушкі Ігн.

ІКЛА' *гл.* ІКО'Л

ІКЛА'СТЫ *прым.* З вялікімі ікламі. *З вэлікімі ікламі, ікласты паршук.* Смаляніца Пруж.

ІКО'Л *м.*, ІКЛО' *н.*, ІКЛА' *ж.* Ікол. *Вялікі ікол у кабана.* Рудня Астравітая Чэрв. *У свіней збоку іклэ.* Малахоўцы Бар. *Іклам называлі чорныя зубы, ікло ў парасят, іх ламаюць, нада зубы выламаць.* Малькуны Ігн. *Кабан са дным іклом, ікло, іклы ў кабана.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ікла зламалася.* Багушэвічы Бярэз. *Адна ікла, у парасят ваўчкі* [іклы], *зломаюць ваўчкі і іклы.* Дзяніскавічы Ганц. *З вэлікімі ікламі паршук.* Смаляніца Пруж.

І'КНУЦЦА *зак. безас.* Ікнуцца. *Лёгка ікнулася — нехта добра ўспамянуў.* Кураполле Паст.

ІКРА' *ж.* 1. Лытка. Акругленыя мышцы на задняй частцы нагі, лытка. *Ікра ў нагах.* Жылі Іўеў. *Баляць ікры.* Гемзы Шальч. *Ікра на нагé.* Рагулішкі Даўг. 2. Вялікае мускулістае вымя. *Ікра ў каровы.* Жылі Іўеў.

ІКРА'З *прысл.* Якраз. *Ікраз так і была; ікраз нада была ў гэты час радзіць дзіця.* Саланое Віл.

ІКРА'НІЦА *ж.* Ікра. *У сялёдкі ікраніца і малачаннік.* Азяраны Раг.

ІКРЫ'СТЫ, ІКРА'СТЫ *прым.* 1. Вялікі мускулісты (пра вымя). *Вымя іскрыстая.* Жылі Іўеў. *Ікрастая вымя — ні малочная, а малоя вымя — малочная.* Азяраны Раг. 2. Які мае многа ікры. *Купіла селятцоў — і ўсе ікрыстыя.* Кіралі Шчуч.

ІКСВА' *ж. бат.* Асака. *Іксву паедаіць карова, іксва трохкантовая, наедкая. Пайду іксву касіць.* Кураполле Паст. *Іксва найскарэй расцець. Іксву на марозе косяць. Мяканькая вяснушчая іксва.* Магуны Паст. *Трыснік, іксва — войстрая трава.* Лайпушкі Ігн. *Іксва — вострая трава, зялёная.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *viksvà* 'тж'.

ІЛА'ГА *зб. ж.* Ельнік. *Адна там ілага, грыбы растуць.* Лісна В.-Дзв.

ІЛЛЯ′ *м.* і *ж. рэліг.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 20 ліпеня ст. ст. ∇ *Прышла Ілля — ужо я блін наліла, а прышла Спажа — ужо хлеба дзяжа!* Рыбчына Віл. *Ілля надзелаў гнілля.* Ухвала Круп.

ІЛЛЯ′НІШЧА, ІЛЬНЯ′НІШЧА *н.* Поле, дзе рос лён. *Ілляніша апусцела.* Беразіно Докш. *Ілляніша — пасля ільну.* Мярэцкія Глыб. *Пагонім кароў на ільняніша.* Едлавічы Брасл.

ІЛЛЯ′ННЕ *н.* Тое ж, што і і л л я́ н і ш ч а. *На іллянні кароў пасцілі.* Гайна Лаг.

ІЛО′ВЫ *прым.* Яловы. *Ііловы лес.* Навікі Лудз.

ІЛЬГА′ у знач. *вык.* Можна. *Ільга зрабіць.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЛЬМА′К *м. бат.* Ільма. *Ільмак е, ільмаку багато, з ільмаку дзяруць лозу. Дугу з ясені, ільмаку і вяза рабілі.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЛЬМА′ЧЫНА *ж.* Тое ж, што і і л ь м а́ к. *З ільмачыны дзяруць палосья на лапці.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЛЬМЁН *м.* Тое ж, што і і л ь м а́ к. *Ільмён уродзе куста.* Глівін Барыс.

ІЛЬМІ′НА *ж.* Тое ж, што і і л ь м а́ к. *Ільміна кусцістая.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв.

ІЛЬНІ′ШЧА *н.* Тое ж, што і і л л я́ н і ш ч а. *Ільнішча — як лён убралі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ільнішча — дзе лён быў.* Пасека Ст.-Дар.

ІЛЬНЭ′СКО *н.* Тое ж, што і і л л я́ н і ш ч а. *Ільнэско — дэ ріс лён.* Дзмітравічы Кам.

ІЛЬНЯ′НІШЧА *гл.* ІЛЛЯ′НІШЧА

ІЛЬНЯ′НЫ, ІЛЛЯ′НЫ *прым.* Льняны. *Ільняная мякіна есь.* Лісна В.-Дзв. *Ілляная мякіна. Семя ілляноя.* Мярэцкія Глыб. *Ілляное семя таўклі ў ступе.* Беразіно Докш. *Ілляная семя.* Янова Рас.

ІЛЬСЛІ′ВЫ *прым.* Ласкавы. *Ільслівае дзіця такоя.* Мішневічы Шум.

ІЛЬЦЬ *ж.* 1. Тое ж, што і і к о́ л. *Ляціць воўк, хвост утуліўшы і разявіўшы горла, і вялікія воўчыя ільці відаць. Ільці ў свіней.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Язык у паўзуноў. *Ільць у жабы, у гадзіны.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *iltis* 'тж'.

ІЛЯ′ГА *ж.* Тое ж, што і і г л і́ ц а І. *Іляга пасыпалася, вясна будзя скора.* Крэва Смарг.

ІМ *ж.* Вастрыня. *Асялок даець ім, імкі тапор, нош.* Ахрэмаўцы Брасл.

І′МАСЦЬ *ж. устар.* Іранічны зварот да жонкі знаёмага чалавека. *Імасць — на бабу, ягомасць — на мужчыну пры звароце.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІМБРЫ′ЧАК, ІНБРЫ′ЧАК *м.* Чайнік для заваркі чаю.

*Імбрычак пабіўся.* Рыбчына Віл. *Імбрычкі былі, чай заварвалі.* Быстрыца Астр. *Імбрычак да самавара.* Жодзішкі Смарг. *У імбрычку чай варылі. Даўней звалі імбрычак, цяпер — чайнік.* Кіралі Шчуч. *Шклянка, сподак, імбрычак маманазываіць.* Ёдлавічы Брасл. *Імбрычак — чайнік.* Ісерна Слуц. *Імбрычак — чайнік для заваркі чаю.* Нізок Уздз. *Імбрычак разбіўся.* Глівін Барыс. *Імбрычак быў гліняны, ставілі яго з зёлкамі ў печ.* Ухвала Круп. *Завары чай, вось інбрычак стаіць. Інбрычак новы купіла чай заварваць.* Мярэцкія Глыб. *Інбрычак — чайнік заварваць чай.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Зімны інбрычак. Што чаю не варылі?* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *imbryk* 'чайнік, кафейнік'.

ІМЕ'НЕ *н.* Маёнтак. *Там бальшое імене было.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *имение* 'тж'.

ІМЕ'ННЕ, ІМЕ'ННЯ, ІМЕ'НЯ *н.* 1. Імя. *Назвіска яго Кавалёў, а іменне — Фомка.* Магуны Паст. *Па іменню называлі.* Дакудава Лід. *Іменя яго ніхто не знаў, а Болбуз дразнілі.* Ухвала Круп. 2. Мянушка. *Сабакам іменя давалі Гарсан.* Лайпушкі Ігн. 3. Назва. *Ня знаю, як імення драўлянай акованай лапаты.* Магуны Паст.

ІМГЛА', ІМЛА' *ж.* 1. Імжа. *Хмарны дзень, імгла імгліць.* Беразіно Докш. *Імла імліць. Імла падая.* Вялікія Баяры Шчуч. *Імла ідзець — дробны дошч.* Кіралі Шчуч. *Імла сыпле цалы дзень.* Галубы Маст. *Імла імліць.* Вецярэвічы Пух. 2. Туман. *Імгла, нічога не відаць.* Старое Сяло Зэльв. *Імгла, дамоў не відаць.* Вострава Маст.

ІМЖА' *ж.* Тое ж, што і і м г л а́ 1. *Дождж ык імжыць, паімжэў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мошак многа, як імжы.* Мярэцкія Глыб. *Што імжы, рыбы.* Старыя Смільгіні Воран. *Камароў, як імжы.* Альхоўцы Лях.

ІМЖА'КА *ж.* Тое ж, што і і м г л а́ 1. *Імжака такая, туман, ні відаць нічога!* Ухвала Круп. *Імжака сыпля — дробнянькі дождж ык.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Імжака імжыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Імжака, як дробнянькі сеяцца дожджык.* Рудня Чэрв.

ІМЖА'ЧКА *ж. памянш.* да і м ж а́ к а. *Дошч марусіць, імжачка ідзе.* Багушэвічы Бярэз. *Была восіньская імжачка.* Паплавы Бярэз.

ІМЖЭ'ЦЬ *незак.* Імгліць. *Дождж ык мелкі — імжыць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІМКЖА'К *м.* Тое ж, што і і м г л а́ 1. *Імкжак імжыць.* Лапічы Асіп.

І'МКАСЦЬ *ж.* Вастрыня. *Як паточыш тапор, нош, асялок даець імкасць.* Ахрэмаўцы Брасл.

І'МКІ *прым.* 1. Востры. *Мая каса імкая, добра косіць. Нош мой ні імкі, тачу-тачу, нічога ні палучаіцца. Асялком як звядзеш — сільна імкая жалеза, тапор, нош імкі, усё будзіць*

*імкая, як сялку наточыш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Востры, імкі нож.* Кураполле Паст. 2. Стромы. *Страха імкая.* Мярэцкія Глыб.

ІМЛА' *гл.* ІМГЛА'

ІМЛЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і імжэ́ць. *Дошч імліць.* Галубы Маст. *Імліць дождж.* Вострава Маст. *Дождж ык імліць цёпленькі.* Вецярэвічы Пух.

І'МПАТ, І'МПЭТ *м.* 1. Паветраная хваля. *Нельзя бехчы ў час грому, імпат за табой бяжыць. Імпатам Зіню прыбіла, як стрэльнуў пярун.* Кіралі Шчуч. 2. Пах, дух. *Як выйшов з двору дохаты, то тэплым імпэтом удырыло.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *impet* 'парывістасць, імклівасць, націск'.

ІМСЦІ'ЦЕЛЬНЫЙ *прым.* Помслівы. *Імсціцельный чалавек такі, нядобры.* Лісна В.-Дзв.

ІМСЦІ'ЦЬ *незак.* Помсціць. *Імсцяць яму за даўная.* Саланое Віл.

ІМХАВЫ' *прым.* Імховы. *Імхавоя балота, дзе багун рос, журавініку многа. Імхавоя балота дзікая, нічога не расце.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІМХО'ВІК *м. бат.* Махавік. *Імховікі — грыбы, збіраемо іх.* Дзяніскавічы Ганц.

ІМЧЭ'ЧАК *м. памянш.* Машок. *Бор там, а ніжэй балото, імчэчак.* Дзяніскавічы Ганц.

ІМША' *ж. рэліг.* Каталіцкая абедня. *Ксёнз імшу адпраўляў.* Скрыпчына Лудз.

ІМШАНЫ' *прым.* Імховы. *Там імшаноя балота.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІМША'Р *м.* Імшара. *Імшар там велькі.* Мярэцкія Глыб.

ІМША'РА *ж.* Тое ж, што і імша́р. *Курганы і мох — імшара звалася.* Мярэцкія Глыб. *Кага там на імшары бачыў?* Беразіно Докш. *Пойдзім у імшару, там журавіны.* Ёдлавічы Брасл. *На імшары растуць чарніцы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ІМША'РКА *ж. памянш.* да імша́ра. *Імшарка сярод лесу, дзе ніска.* Мярэцкія Глыб.

ІМША'РЫНА *ж.* Тое ж, што і імша́р. *Імшарына — там сыроя места, ніская, многа алешніку.* Валынцы В.-Дзв. *Імшарына была, мокрая мейсца, а цяпер меліярацыя вырабіла гэта мейсца.* Ракаўскія Швянч.

ІМШАРЫ'СТЫ *прым.* Імшысты. *Там зімля імшарыстая на Кутах.* Саланое Віл.

ІМШО'К *м.* Тое ж, што і імчэ́чак. *Балота там, імшок, ягады сабіраюць.* Мішневічы Шум.

ІМЯЛА' *ж. бат.* Амяла. *Імяла зімою на дзераве пухнатая, касматая.* Пацаўшчына Дзятл.

ІМЯНІ'НЫ толькі *мн.* Дзень нараджэння. *На імяніны меліся ехаць.* Гемзы Шальч.

ІНА′ *займ.* Яна. *Яна была паехаушы на Каўказ.* Пасіене Лудз.

ІНА′КШ *прысл.* Іначай. *Выехаўшы, хто дзе пабудзіць, прыедзіць і гаворыць інакш.* Груздава Паст.

ІНА′КШЫ *прым.* Іншы. *Бутэлька інакшая.* Паляцкішкі Воран. *Баравыя грыбы інакшыя, харошыя, чым на ніскум месце.* Дзяніскавічы Ганц.

ІНА′ЧАЙ, ІНА′ЧЭЙ *прысл.* Тое ж, што і інáкш. *Усюды іначай гаворуць.* Жодзішкі Смарг. *Коб нанова робів, то іначэй зробів бы.* Курашэва Чыж. *А там ужэ іначэй называеца, знаеце, яны саўсім іначэй гаворяць.* Баброўнікі Гарад.

ІНА′ЧЫЙ *прым.* Тое ж, што і інáкшы. *Лошкі былі іначыі, такіе крашаные.* Навікі Лудз.

ІНВАЛІ′ДА *м.* Інвалід. *Ён інваліда з вайны.* Груздава Паст. *Тут ходзе інваліда, апчапіўшыся клумкамі цягаецца.* Гемзы Шальч. *Яго ацец інваліда.* Мсцібава Ваўк.

ІНБРЫ′ЧАК *гл.* ІМБРЫ′ЧАК

ІНГІРЫ′ЧНІК *м. бат.* Медуніца. *Інгірычнік у балоце расце, ліст, як рабінка, сцябло высокая і кветка белая; яго не збіраюць, як пойдзе ў сцімбуры, то і пасох.* Гемзы Шальч.; параўн. літ. *vingiarýkštis* 'тж'.

ІНГІРЫ′ШЧА *ж.* Тое ж, што і інгірычнік. *Інгірышча — трава, расце ў балоце, парыльнік яшчэ называюць.* Малькуны Ігн.

ІНДЗЮ′КА *ж.* Самка індзюка. *Качанята з індзюкаю, індзюка не палезя ў воду.* Вецярэвічы Пух.

ІНДЗЮЧО′К *м. памянш.* Індычаня. *Індзючкі ёсь у мяне.* Вострава Маст.

ІНДЗЯ′ЧЫНА *ж.* Мяса індыка. *Купі індзячыну.* Крэва Смарг.

ІНДЫ′К *м.* Індык. *Індык крылля распусціць, гудзе.* Пацаўшчына Дзятл. *Індыкі велькія.* Альхоўцы Лях. *Індык злуе.* Грыкені Вільн. *Індык ходзіць велькі.* Старыя Трокі Трак. *У індыка кішка вісіць.* Дзяніскавічы Ганц.

ІНДЫЧАНЯ′ *н.* Тое ж, што і індзючóк. *Індычанята баяцца страшна холаду.* Мсцібава Ваўк. *Індычаня кволае.* Альхоўка Навагр.

ІНДЫ′ЧЫ *прым.* Які належыць індыку. *Індыча пер'я бяз пуху, але мяхкая.* Кіралі Шчуч.

І′НЕ *прысл.* Тое ж, што і інáкш. *Іне не кажуць.* Жылі Іўеў.

І′НЕЙ, І′НІЙ, І′НЯЙ, ВІ′НЯЙ *м.* Тое ж, што і інея. *Усё дзерэво пакрыта інеем.* Баброўнікі Гарад. *Іній на ветках.* Пасіене Лудз. *Іняй на дзераве.* Навасёлкі Свісл. *Іняй велькі.* Вострава Маст. *Віняй заранё на дзеравінах.* Альхоўцы Лях.

І′НЕЯ, І′НІЯ, І′НЯЯ *ж.* Іней. *Інея сівая на дрэвах.* Галубы Маст. *Пала інея, панятна, што белая, не будзе ш яна*

*якая.* Багушэвічы Бярэз. *Дрэвы апцягнуты ініяй.* Малькуны Ігн. *Але сёня натта велька інія — будзя ўражай, так перад каляды бывая на дрэвах інія.* Кіралі Шчуч. *Аб'інялі дрэвы, інія на іх.* Рыбчына Віл. *Ужо інія на дрэве.* Саланое Віл. *Інія на дрэвах.* Мярэцкія Глыб. *Інія такая на дрэвах.* Валынцы В.-Дзв. *Іняя сягоння, атпускаць будзіць.* Ракаўскія Швянч. *Іняя на дзеравя.* Жодзішкі Смарг.

ІНКСТУКІ' *мн.* Ныркі. *Інкстукі пакупаем для ката.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *inkstùkai* 'тж'.

І'ННАЙ *прысл.* Тое ж, што і і н а́ к ш. *Як раіцца ідзець, звініць іннай.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *innej* 'тж'.

І'ННЫ, І'НЫ *займ.* Іншы. *Інны цывілізарам ловіць рыбу.* Быстрыца Астр. *Іны гот крыгі на беразе астаюцца, потым іх змыя павотка.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* польск. *innу* 'тж'.

ІНСПЕ'КТАР *м.* Інспектар. *Да школы інспектар прыйіехав.* Курашэва Чыж.

ІНСПЕ'КТЫ *мн.* Парнікі. *Інспекты былі, садзілі цвяты, капусту, агуркі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *inspekty,* літ. *inspèktai* 'тж'.

ІНСТРУМЕ'НТ *м.* Прылада для выканання якой-н. работы. *Інструментаў у мяне была гібель.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хочаце бачыць сваімі ачыма гэты інструмент?* Мсцібава Ваўк.

ІНТАРЭ'С, ІНТЭ'РАС *м.* 1. Цікавасць. *Не мая інтарэсу да кніг.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Карысць. *З вамі ён інтэрасу не будзя мець.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *interes* 'справа, зацікаўленасць'.

ІНТЕРЭ'СНЫ *прым.* Цікавы. *Як почнэ росказуваті, то всіе слухайют — такая інтерэсна скаска.* Курашэва Чыж.; *парайн.* руск. *интересный* 'тж'.

ІНТЭРНА'Т *м.* Памяшканне для сумеснага жыцця асоб, якія вучацца або працуюць разам. *У інтэрнаце дзяўчынка жыла.* Паляцкішкі Воран. *Воспітательніцэй була в інтэрнаті.* Дзмітравічы Кам.

ІНФРА'КТ, ІНФА'РТ *м. мед.* Інфаркт. *Інфрактам балеў.* Валынцы В.-Дзв. *Яму інфарт.* Старыя Смільгіні Воран.

І'НШЫ *прым.* Тое ж, што і і н а́ к ш ы. *Таго не вернецца, іншы свет пашоў.* Старыя Трокі Трак.

І'НЫ *гл.* І'ННЫ

І'НЯЙ *гл.* І'НЕЙ

І'НЯЯ *гл.* І'НЕЯ

ІРАВЫ' *гл.* ЕРАВЫ'

ІРВА'ННІЦА *ж.* Жанчына, якая рве лён. *Іранніцы на полі лён рвуць.* Мярэцкія Глыб.

ІРВА'ЦЬ, ІРВА'ЦІ, ІРВА'ТЭ *незак.* Рваць што-н. *Маладуха прышла лён ірваць.* Масішкі Красл. *Лён ірвалі вопша, разам.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ірвала лён.* Смаляніца Пруж. *Зылля ірвут.* Дзяніскавічы Ганц.

ІРДЗЕ'ЦЦА *незак.* Злавацца. *Дзіця паняло ірдзецца.* Альхоўцы Лях.

ІРЖА' *ж.* Іржа (на балоце). *Іржа на балоці тонка.* Мачаск Бярэз. *Іржой фарбавалі палотны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Чарнілі ў іржу — і не пускала краскі.* Азяраны Раг.

ІРЖА'ВІНА *ж.* Тое ж, што і і р ж а́. *Іржавіна на балоце.* Мярэцкія Глыб. *Вада пакрылася іржавінай.* Ёдлавічы Брасл.

ІРЖАВІ'ННЫ *прым.* Іржавы. *Нісмашная іржавінная вада.* Ахрэмаўцы Брасл.

ІРЖА'ВЫ *прым.* Тое ж, што і і р ж а в і н н ы. *Іржавая вада на балоце, не нап'ешся.* Беразіно Докш.

ІРЖА'НІЦА *ж. бат.* Жытняк. *Іржаніца расце на балоце, пад жыто патходзіць* [падобна]. Дзяніскавічы Ганц.

ІРЖАНЫ' *прым.* Аржаны. *Іржаная мука на хлеп, а цяпер кажуць жытня.* Дзяніскавічы Ганц.

ІРЖА'ЎШЧЫНА *ж.* Тое ж, што і і р ж а́. *Хацелі напіцца — аж там іржаўшчына.* Глівін Барыс. *Іржаўшчына на балоці.* Рагулішкі Даўг.

ІРЖА'ЦЬ *незак.* Іржаць. *Конь іржыць, порскаіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Коні іржаць.* Талейкі Швянч. *Іржэ конь.* Баброўнікі Гарад.

ІРЖЫ'ШЧА *н.* Тое ж, што і ж ы́ р ш ч о 2. *Па вазоў два нам будзя іржышча.* Альхоўка Навагр.

ІРЖЭ'ЎНІК *м.* Тое ж, што і ж ы́ р ш ч о 1. *Скот нада пусціць на іржэўнік.* Рагулішкі Даўг.

ІРМЯ'К *м.* Тое ж, што і а р м я́ к. *Буць на што надзівалі ірмяк.* Ахрэмаўцы Брасл.

ІРХА' *ж.* 1. Вузкая палоска аўчыны, скуры, якая закладваецца ў шво кажуха, рукавіцы і інш. *Ірхі скрабалі з аўчыны і ўшывалі ў рубец, калі шшывалі аўчыны.* Магуны Паст. *Шыюць кажух, вырабляюць аўчынку, лентачку — гэта ірха, яе ўкладаюць у сярэдзіну ў шво, кап крапчэй было, кап шыць мякка было. Ірха закладаецца паміж двумя кажушынамі.* Ракаўскія Швянч. *Ірха — тоненькая кожа, якой шылі, гузікі прышывалі.* Быстрыца Астр. *З ірхі рабілі гузікі і аплікі.* Старыя Трокі Трак. *З ірхі рабілі гузічкі ў кажухі.* Дакудава Лід. 2. Аблямоўка. *Ірха — гэта шыюць кажух, састрыгуць пільсць і наверх нашыюць.* Гайна Лаг.; *параўн.* польск. *ircha* 'замша'.

І'РХАЧКА *ж. памянш.* да і р х а́ 1. *Аўчынку выскрабуць і ірхачку рабілі.* Старыя Трокі Трак.

ІРЫНА' *ж.* Ярына. *Ірыну пасеялі.* Беразіно Докш. *Ірына вясною.* Мярэцкія Глыб. *Ірына — іравоя дабро: авёс, ячмень і інш.* Лісна В.-Дзв.

ІСК *м. пчал.* Пчаліная разведка, пошукавы палёт пчол. *Іск — ішчуць пчолы, ішчуць, дзе ўдабней.* Кураполле Паст.

*Калі іск не нашоў места, тады ў любую пасуду садзі, будуць сядзець.* Груздава Паст. *Іскуюць пчолы, пчаліны іск.* Рудня Астравітая Чэрв. *Іск — разведка ў пчол.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Іск — гэта пчолы пыляну абнаружываюць.* Палік Барыс. *Іск — пчолы іскуюць, за ім рой ідзе.* Саланое Віл. *Іск — высланыя пчолы, як знайдуць добры вабік, закропленыя, то вядуць рой.* Жылі Іўеў. *Іск паявіўся.* Мярэцкія Глыб. *Іск прышоў.* Старыя Смільгіні Воран. *Іск ідзе ўперат, а за іскам ідзе рой. Іск да сямі кілометраў ляціць. Іск ішча мейсца, дзе пасяліцца ці зажыцца, каб пшчолы выраіліся.* Гемзы Шальч. *Іск шукае месца.* Прэдэ Даўг. *Іск паявіўся — прыдзіць рой.* Лісна В.-Дзв.

ІСКАВА'ЦЬ *незак. пчал.* Шукаць, разведваць. *Іскавыя пчолы ідуць да поіску места, іскуюць, шукаюць.* Бакшты Іўеў. *Пчолы іскуюць.* Жодзішкі Смарг. *Пчолы іскуюць — шукаюць доміка.* Мярэцкія Глыб. *Іск — пчолы іскуюць.* Валынцы В.-Дзв. *Іскуюць пчолы на рой.* Данілавічы Дзярж. *Іскуюць пчолы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІСКАВЫ' *прым. пчал.* Пошукавы. *Іскавая пчала ішчэць места сабе.* Лісна В.-Дзв. *Іскавыя пчолы шукаюць места.* Бакшты Іўеў.

ІСКА'ЦЬ *незак.* Шукаць. *Ён іскаў яё па саседзях.* Кураполле Паст. *Іскалі бутылку, а іна ў буфеці.* Лісна В.-Дзв. *А самы давай Гродна іскаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *А я іскала і хлеба нідзе ні нышла ў складзіку.* Масішкі Красл. ▽ *Ішчы ў полі ветра.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *искать* 'тж'.

І'СКРА *ж.* Іскра. *Іскра вылятаіць.* Вострава Маст. *Гарыць сажа ў цібе — іскры ляцяць.* Кіралі Шчуч. *Іскры папалі ў крышу.* Пасіене Лудз. ◇ *Іскры ў вачах* [з вачэй] *пасыпаліся* [сыпяцца] — пра замарачэнне ад болю ў выніку моцнага ўдару па галаве. *Так стукнуўся, што аш іскры ў вачах пасыпаліся.* Гемзы Шальч. *Іскры з ачэй сыпяцца — так моцна ілбом ударыўся.* Лісна В.-Дзв.

ІСКРУ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Скручаны. *Гадзіна ляжыць іскручана к сонцу.* Дзяніскавічы Ганц.

ІСКРЫ'ЦЬ *незак.* Іскрыцца, свяціцца. *Іскраць іскры — ляцяць, гараць.* Вялікія Баяры Шчуч.

ІСПА'С *м. рэліг.* Спас. *На іспаса ўгашчу мёдам.* Мішневічы Шум. ▽ *Пятрок — асіны святок, іспас — усяму час, прачыстая — ачысціць усё чыста.* Ванелевічы Кап. *Святы іспас, каб ад усяго плахога спас.* Мішневічы Шум.

ІСПА'САЎКА *ж.* Тое ж, што і і с п а́ с. *Іспасаўка — свята ў канцы лета.* Рудня Чэрв. *На іспасаўку яблыкі можна есці, ігрушы.* Лапічы Асіп.

ІСПАТА'КАЦЬ *зак.* Зрасходаваць, выдаткаваць. *Трыста рублей іспатакала, жакетку купіла.* Рудня Астравітая Чэрв.

ІСПІ'ЦА *ж.* 1. Тое ж, што і і г л і́ ц а II, 1. *Іспіца — лапці*

*патплітаць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Спіца. *Іспіцы ў покаце* [коле] *і трупка.* Лісна В.-Дзв.

ІСПО'ДАК *м.* Сподак. *Исподак пабіла.* Мярэцкія Глыб.

ІСПО'ДНІ *прым.* Сподні. *Прымок да цела, исподняе бяльё мокрае.* Рудня Чэрв.

ІСПО'ДНІК *м.* Ніжні камень у жорнах. *Исподнік — ніжні камень у жорнах.* Беразіно Докш.

ІСПО'ЖКА *ж. рэліг.* Хрысціянскае свята 8 верасня ст. ст. *Іспожка раньша, чым бульбу капалі.* Стральцы Гродз.

ІСПО'Л *м.* Палавіна ўраджаю, якая аддавалася за арандаваную зямлю. *Дайней на ісполбралі зямлю і ўраджай дзялілі папалам.* Лісна В.-Дзв.

ІСПО'Т *м.* Под. *Іспот печы выдзерся.* Рыбчына Віл.

ІСПО'ТКІ *мн.* Рукавіцы. *Як с тоўстый воўны звязаны, то гета іспоткі.* Якубова Рас. *Нада іспоткі браць, рукі мерзнуць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ІСПУГА'ЦЦА *зак.* Спужацца. *Ад стуку іспугалася.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* руск. *испугаться* 'тж'.

ІСПЯЧЫ' *зак.* Спячы. *Іспяку блін с тварагом.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *испечь* 'тж'.

ІССЕ'КАЦЬ *зак.* Ссячы. *Не дамо яблыны іссекаць.* Дзяніскавічы Ганц.

ІСТО'ПКА, ІСТО'БКА *ж.* Будынак для захоўвання гароднiны, стопка. *У варыўню бульбу ссыпалі, дайней іх звалі істопкі.* Магуны Паст. *Бываюць печкі ў істопках, змуруюць маленькую — бульба, капуста, буракі там. Істопкі былі і ціпер есь калі хліва, варайня — радзей.* Ахрэмаўцы Брасл. *Істопка — будынак для захоўвання бульбы, гародніны.* Палік Барыс. *Істобка, як хата, толькі вакон німа, ставілі жар у чыгуне.* Азяраны Раг.

ІСТО'ТА *ж.* Жывы арганізм. *Еслі якая істота пушчана на свет, яе нельга ўністажаць.* Малькуны Ігн.

ІСТРАБЛЯ'ЦЬ *незак.* Знішчаць. *Курапатак арлы істрабляюць.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *истреблять* 'тж.

ІСТРЫ'ЦЬ *незак.* Вастрыць. *Касу бруском істрыць, малатком пабіць.* Мярэцкія Глыб.

ІСЦЕКА'ЦЬ *незак.* Сцякаць. *Ісцекае вада з град.* Дзяніскавічы Ганц.

ІСЦІ', ІЦІ' *незак.* 1. Рухацца, крочыць. *Не ідзець сама.* Лісна В.-Дзв. *Конь ідзе ступою.* Дакудава Лід. *Нада ісці. Саўсём не ідзець.* Кемялішкі Астр. *Баба, ня ідзьма да іх.* Паляцкішкі Воран. *Ідзям гуляць.* Жылі Іўеў. *Мы ідзімо с клуба.* Кіралі Шчуч. *Нада ісці.* Лісна В.-Дзв. *Па такой гразі цяжка іці.* Пасіене Лудз. *Трэба было ўчора іці.* Вялікі Краснік Пруж. *Можэтэ іці на дошч.* Смаляніца Пруж. *Як ідімеш, то не ўвіджу.* Вецярэвічы Пух. 2. Ехаць (пра аўтобус і інш.). *Ідуць аўтобусы, ідзе аўтобус.* Грыкені Вільн. *Колы ня ідуць*

*па каляіня, нешта яны крывыя.* Старыя Трокі Трак. 3. Ісці, падаць (пра дождж, снег). *Дош ідзець, канца німа.* Саланое Віл. *Дошч, снех ідзець.* Рыбчына Віл. *Ішоў гэдакі дош вялікі.* Груздава Паст. *Дош, снех ідзе, перастаў ісці.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Цячы. *Рака ідзе.* Грыкені Вільн. *Вада ідзе рыштокамі.* Старыя Трокі Трак. 5. Ляцець. *Рой ідзець са старой маткай.* Саланое Віл. *Вуль для прыманкі ставілі, рой ідзе ў яго.* Старыя Трокі Трак. *Пшчала ідзе па цвяток.* Швэды Вільн. 6. Прасціся. *Нітка ніроўна ідзе.* Быстрыца Астр. 7. Знаходзіцца. *Поверху ручак ішлі градачкі. На клямры поверху ішлі нахлесткі.* Пасіене Лудз. 8. Выходзіць, валіць (пра дым). *У хату* [курную] *с печы ішоў дым.* Грыкені Вільн. 9. Выходзіць замуж. *Яе падрушка ішла замуш.* Малахоўцы Бар. *Было за каго ісці.* Старыя Смільгіні Воран. *Як ты ідэш на чужые дієты?* Горск Бяроз. 10. Наймацца. *Ісці да пана зарабіць.* Швэды Вільн. 11. Мінаць, праходзіць. *Дні ідуць.* Лісна В.-Дзв. 12. Адыходзіць. *Ай, ідзіця вы ад мяне!* Рагулішкі Даўг. ▽ *Па сварку не нада ісці, як па грыбы.* Старыя Смільгіні Воран. *Як жывецца, дык і на шчэпку прадзецца, а як скаціна не ідзець рукой, дык і разўмны здурнеіць, не пойдзіць і па вераціна* — як скаціна не вядзецца. Кураполле Паст. ◇ *У галаву не ідзець* — не засвойваецца. *І яму гэта ўчёба ў галову не ідзець. У ёлачку ісці* — ісці хістаючыся. *Шала, глядзі, у ёлачку пашоў, выпіў.* Ахрэмаўцы Брасл.

І'СЦІНА *прысл.* Праўдзіва. *Ты мне ісціна гавары.* Старыя Смільгіні Воран.

ІСЦІ'С *м.* Сіла, моц. *Ісціс у руках.* Дзяніскавічы Ганц.

ІСЦІ'СЯ *незак. безас.* Весціся, ісці. *Так яно ідзецца. Варажылі на багатую куццю, слухалі пад вокнамі, так ідзецца з таго.* Рыбчына Віл. *Бокам ішлося.* Граўжышкі Ашм. *Ужо ідзецца так.* Быстрыца Астр. *Так ідзецца с таго часу.* Кіралі Шчуч. *Кап дружна жылі і добра ішлося, яна п і жыла.* Вецярэвічы Пух.

ІСЦЯЧЫ' І *зак.* Зрабіцца тонкім, кволым (пра расліны). *Ісцяклі бураке, ісцякуць у зел'і.* Вострава Маст.

ІСЦЯЧЫ' ІІ *зак.* Сысці крывёю. *Іс крыві ісцёк.* Дзяніскавічы Ганц.

ІТА'Ш *м.* Паверх. *За некалькі дзён цар паставіў на трэці іташ дачку і сказаў: «Хто даскочыць, той з ёй ажэніцца».* Дзесятнікі Валож.

І'ЎКА *ж.* Павека. *Баліць іўка над вокам. Брові над ачыма, верхняя іўка пад брывом.* Міратычы Карэл.; *параўн.* літ. *vókas* 'абалонка'.

І'ХНІ, І'ХНЫ, І'ХІ *займ.* Іхны. *Іхніі дзве куркі зняслiся.* Валынцы В.-Дзв. *Праз іхні панадворак ходзіць.* Магуны Паст. *Гэта іхня скрыня.* Судэрва Вільн. *Праз бульбу іхнюю ляжу.* Старыя Смільгіні Воран. *У том дворэ іхня хата.* Сма-

ляніца Пруж. *Яна з іхнега гатовіць. Іхныя пярэчкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Прыгоніць іхну карову.* Альхоўка Навагр. *Іхны ксёндз.* Старыя Трокі Трак. *Іхны раён Астраўцы.* Чычалі Швянч. *Іха матка тутэйшая. Іхія дзяўчаты.* Вострава Маст. *Картошка іха.* Дзяніскавічы Ганц.

ІЦІ′ *гл.* ІСЦІ′

ІЧА′ІНА *ж.* Адтуліна ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаюць збожжа. *Ічаіна ёсь у жарнах.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* а ч а́ й.

ІЧА′Й *м.* Тое ж, што і і ч а́ і н а. *Сыпіш у ічай зернеты і мелеш.* Валынцы В.-Дзв.

ІЧАЯ′ *ж.* Тое ж, што і і ч а́ і н а. *Зярно ў ічаю сыплюць.* Беразіно Докш.

ІЧМЕ′НЬ *м.* Ячмень. *Пачалі ічмень жаць.* Лісна В.-Дзв.

ІШЧЭ′ *прысл.* Яшчэ. *Можа, ішчэ і распорыцца. Ішчэ тога ест.* Альхоўка Навагр. *Ішчэ гэты хлопец малады.* Гемзы Шальч. *Ішчэ ён не прыходзіў.* Дзяніскавічы Ганц.

ІШШЭ′РХНУЦЬ *зак.* Пакрыцца тонкім слоем лёду. *Вот ішшэрхла, послі адлігі марозік.* Нізок Уздз.

# К

КАБ, КОБ *злуч.* Каб. 1. Умоўны. *Каб не сказала, то з'еў бы ўсё.* Альхоўцы Лях. *Каб я жыўшы пры дзярэўні, то тольві якую старую быў бы ўзяўшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Коб былі договорыліса, то песень было б много. Коб былі прадалі, то ўзялі б грошы.* Ялова Пруж. *Коб быў дошч, то посадзіла б капусту.* Смаляніца Пруж. 2. Мэты. *Трэба, каб вы прышлі.* Грыкені Вільн. *Так піць хочацца, каб бы з лужыны.* Саланое Віл. *Каб прышоў ба!* Чычалі Швянч. *Мне каб бляха таўставатая, да каваля трэба ісці.* Граўжышкі Ашм. *Коб жыў ды не балеў ніколі!* Кузьмічы Люб. *Трэба, коб хто ў хаці быў.* Смаляніца Пруж. *Коб то дітя побавылоса так!* Дзмітравічы Кам. ∇ *Каб цябе каршун задзёр!* Ахрэмаўцы Брасл.

КАБА′Н *м.* Кабан, парсюк, дзік. *Нада кабану нясці.* Груздава Паст. *Кабаном трэба даць.* Саланое Віл. *Кабан дзікі порваў яго.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КАБАНЁ *н.* Невялікі кабан, парася. *Ці кабанё, ці цялё, хадзіць за ім трэба.* Крэва Смарг.

КАБАНО′К *м.* Тое ж, што і к а б а н ё. *Кабанка купіў.* Магуны Паст. *Два кабанкі соўкаю.* Асавец Віл.

КАБА′Т *м.* Душагрэйка, безрукаўка. *Трэба надзець ка-*

*бат, каб было ў плечы і грудзі цёпла.* Нізок Уздз. *Кап спіна не мерзла, кабат надзяюць, а ў мушчын жалетка.* Глівін Барыс.; *параўн.* польск. *kabat* 'тж'.

КАБА'ЦІК *м. памянш.* да к а б á т. *Адзень мой кабацік!* Пасека Ст.-Дар.

КАБДЗЮ'Р *гл.* КАПЦЮ'Р

КАБЕ'ТА *ж.* Жанчына. *Тыля лет кабета тая сохне.* Верхлессе Крын. *Яна ад кабеты адбіла мужа.* Кудзялянцы Шальч.; *параўн.* польск. *kobieta* 'тж'.

КАБЛУ'К *м.* 1. Абадок, дужка ў кошыку. *Як кошык плятуць, то каблук і ўточкі лазою або карэннем аплятаюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Каблукі ў кашэ.* Каўняны Гродз. *У кошыку каблук.* Псярцы Шчуч. *Каблукі разам звязваюць.* Калясное Міхал. *У кошыка два каблука.* Тухавічы Лях. *Трэ было загнуць два каблуке, паўстаўляць скабы; як аснаваў кошыка, потым пляце хварастом ці дротам.* Баброўнікі Гарад. 2. Вобад у рыбалоўнай снасці. *Каблук, як дуга, і тры пруткі да яго.* Міратычы Карэл. *Венцяр вяжацца з нітак, а патом нацягваяцца на каблукі, сагнутыя з гарэшыны.* Альхоўка Навагр. *Каблук у нораце.* Беразіно Докш. *Каблук у рыболовнуй снасці, у кошыковы е.* Сіманавічы Драг. 3. Аснова ў форме дугі ў драўлянай баране. *Дзеравяна барана была, у ёй зуб'я віткамі закраплялі, а вакрух — каблук.* Міратычы Карэл. 4. Вобад у калысцы. *Даўней каблук загнуць, палатном апшыюць — і калубель гатова, на вяровачках вісела.* Міратычы Карэл. 5. Ярмо. *Каблук на шыю валу закладалі — і пашоў гараць.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *kabłąk* 'дуга, лук'; *гл.* з а к а б л ý к.

КАБЛУЧО'К *м.* 1. *памянш.* да к а б л ý к 2. *У бучы каблучок ест.* Парэчча Гродз. 2. Абцас. *Брызянтовачкі былі на каблучку.* Латыгаль Віл.

КАБЫ'ЛКА *ж. ткац.* 1. Пятля, вочка ў ніце. *Кабылка ў нічальніцах.* Дакудава Лід. *Кабылка — гэто звязанае вочко ў нічальніцах, з вочка зявэ робяцца.* Баброўнікі Гарад. *У нітах кабылкі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Блюзна. *Кабылка — гэта месца, дзе памылкова зацягнута нітка ў тканю.* Баброўнікі Гарад.

КАБЫ'ЛКІ I *мн. муз.* Кабылка. *У скрыпцы, у цымбалах пат струны патстаўлены кабылкі.* Якубова Рас.

КАБЫ'ЛКІ II *мн. бат.* Таўстухі. *Кабылкі — смачныя грыбы.* Солы Смарг.

КА'ВА *ж.* Кофе. *Кава — добры напітак.* Солы Смарг. *Зварана кава для піцця.* Грыкені Вільн., Чычалі Шванч., Беняконі Воран. *Пілі каву ячменну, самі рабілі.* Пацаўшчына Дзятл. *Я наварыла кавы сёня.* Кіралі Шчуч. *Улей мне кавы!* Галубы Маст. *Потом каву піцім.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* польск. *kawa* 'тж'.

КАВА'ДЛА, КАВА'ДЛО, КУВА'ДЛА *н.* Кавадла. *Кавадла і молат у кузні.* Магуны Паст. *Кавадла ў кузні і малатке, што жалеза куюць.* Кіралі Шчуч. *Кавадло ў кузні, каваль куе на кавадле.* Вострава Маст. *Кувадла ў кузні.* Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Раг.; *парайн.* польск. *kowadło* 'тж'.

КАВА'ЛАК, КАВА'ЛОК *м.* 1. Частка чаго-н. *Адламаў кавалак хлеба.* Міратычы Карэл. *Кавалак хлеба з'ела.* Чычалі Швянч. *Отрэзала кавалок хлеба.* Смаляніца Пруж. ◊ *Не мець кавалка хлеба* — жыць бедна. *Яна даўней кавалка хлеба ня мела.* Ністанішкі Смарг. 2. Адзінка вымярэння льну, палатна. *Вяжуць лён у кавалкі па пядзесят жмень.* Жыдзевічы Іўеў. *Палатно рэзалі на кавалкі: дванаццаць сцен — па чатыры сцяны.* Старыя Смільгіні Воран. *Ткалі палатно, кавалак палатна адрэжа — і бялілі.* Дакудава Лід. *Кавалкі палатна бялілі і ў трубу качалі.* Рыбчына Віл. *Калісь ад нас паняслі два кавалкі палатна салдаты.* Парэчча Гродз. 3. Частка поля, сенажаці, дарогі, значная адлегласць. *Далі яму кавалак зямлі.* Солы Смарг. *Кавалак поля ўзаралі. Кавалак сенакосу даў.* Саланое Віл. *Кавалак сенакосу скасіў.* Кіралі Шчуч. *Полацк ад нас — гэта ж кавалак дарогі!* Солы Смарг. 4. у знач. *прысл. кавалкамі(э).* Адрэзкамі, часткамі, кускамі. *Кавалкамі палатно бялілі.* Кудзялянцы Шальч. *Кавалкамэ тыло* [цела] *отлятуе.* Дзмітравічы Кам. ◊ *Кавалак часу* — прамежак часу. *Кавалак часу прайшоў, а іх няма.* Чычалі Швянч. *Кавалак часу паспала, а кавалак пасядзела ў хаці. Вот заснула я добры кавалак!* Кіралі Шчуч. *Кавалак сілы* — добрае здароўе, бадзёрасць. *Ён здаровы, ён кавалак мая сілі.* Кіралі Шчуч. *Лодара кавалак* — гультай. *Гэта не чалавек, а лодара кавалак!* Солы Смарг. *Кавалок дурня* — дурань. *Шо ты його слухаіш — гэто ж кавалок дурня!* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *kawałek* 'кавалак'.

КАВА'ЛАЧАК *м. памянш.* да к а в а́ л а к 1. *Кавалачак цукру ўкінь! Нарэжа мёду плястар — еш! і кавалачак дасць дадому.* Солы Смарг.

КАВАЛЕ'Р *м.* Хлопец, дзяцюк, жаніх. *Калі ты добры кавалер, то і дзевак каля цябе ёсць. Дзе добра дзеўка, то і кавалераў каля яе ёсць.* Малькуны Ігн. *У мяне кавалераў многа было.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *kawaler* 'халасцяк'.

КАВАЛЕРЫ'СТА *м.* Кавалерыст. *Муой брат Іван колісь за старої Польшчы в кавалерыі служыв, кавалерыстом був.* Курашэва Чыж.

КАВАЛЁК *м. заал.* Конік. *Кавалёк зялёны скача.* Малахоўцы Бар.

КАВАЛІ'СКО *н.* Тое ж, што і к а в а́ д л а. *З кузні забралі каваліско.* Міратычы Карэл.

КАВАЛІ'ХА *ж.* Жонка каваля. *Каваліха адна, і такі ку-*

*сок зямлі.* Лісна В.-Дзв. *Пашла каваліха — кавалёва жонка.* Баброўнікі Гарад. *Каваль у кузні куе, а каваліха на мяху заходзіцца са смяху.* Кіралі Шчуч.

КАВА'ЛЬ *м.* Хто ўмее каваць, працуе ў кузні. *Сын вучыцца на каваля.* Лоск Валож. *У нас ні адзін за каваля ня хочыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мне да каваля нада; наш сусет кавалём быў.* Груздава Паст.; *параўн.* польск. *kowal* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 314.

КАВА'НЫ *дзеепрым.* 1. Падкаваны. *Конь не каваны быў.* Асавец Віл. 2. Абабіты, акантаваны па вуглах і краях. *А мая скрыня была маляваная, каваная.* Ракаўскія Швянч.

КАВАРАЦЕ'Ц *м. памянш.* Брамка. *Каварацец зачыні! Каварацец — гэто калітка, ці брамка.* Баброўнікі Гарад.

КАВАТЫ'РЫЦЦА *незак. экспр.* Кахацца, гуляць. *Каля двух гадоў каватырыўся ён з ей, а патом кінуў.* Мярэцкія Глыб.

КАВА'ЦЬ I *незак.* 1. Выкоўваць з жалеза розныя прылады. *Ён быў добры каваль, каваў плугі, сякеры.* Мярэцкія Глыб. *Можна жалеза каваць.* Асавец Віл. 2. Падкоўваць. *Як сліска было, то кавалі валоў, коні.* Азяраны Раг. 3. Вастрыць. *Дайней кавалі жорна, як тупыя, то трэба каваць.* Саланое Віл. ▽ *Каваль куе — жонка пяе* — матэрыяльная забяспечанасць, дастатак. Міратычы Карэл.

КАВА'ЦЬ II *гл.* КУВА'ЦЬ

КАВЕ'ЛЬ *м.* Кавяла. *Кавель, як таўкач такі прыстаўлёны, і ён ходзіць, апіраючыся на яго.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАВЕ'НЬКА *ж. памянш.* Выгнутая дугой палка. *Еслі сагнута палка — кавенька.* Пасека Ст.-Дар.

КАВЕНЯ' *ж.* Тое ж, што і к а в е́ л ь. *Храмы на кавеню апіраецца.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КАВЕ'РЗАЦЬ *незак. экспр.* Неахайна рабіць што-н. *Яна каверзаяць абы-як, не глядзіць, каб добра зрабіць.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *kevérzoti* 'тж'.

КАВЁЛКА *ж.* Рабро ў матавіле. *Чатыры кавёлкі ў вітушцы, як звівалі — клаліся ніткі на кавёлкі.* Мярэцкія Глыб.

КАВЁРАК *м. памянш.* Дыванок. *Яна дала яму гэты кавёрак прадаваць.* Тупічаны Ваўк.

КАВІЛА' *гл.* КАВЯЛА'

КАВІНЯ'ЦЬ *незак.* Кульгаць. *Кавіняіць курыца — нага ей баліць.* Саланое Віл.

КАВО'ВЫ *прым.* Кафейны, цёмна-карычневы. *Купів собіе кавового костюма.* Курашэва Чыж.

КАВУ'ГЛІК *м. памянш.* Куточак. *Двор вузенькі, як кавуглік.* Мачаск Бярэз.

КАВУ'Р *м. заал.* Каня, кнігаўка. *Кавур крычыць — каву!* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *kóvarnis* 'грак'.

КАВЫ'ЛЬ-КАВЫ'ЛЬ *выкл.* Няроўна хадзіць, кульгаць.

*Іду, ногі каляныя — кавыль-кавыль, а больна.* Рагулішкі Даўг.

КАВЭ'НДЗІЦЬ *незак. экспр.* Хварэць доўгі час. *Кавэндзіў, кавэндзіў — і богу душу аддаў.* Ванелевічы Кап.

КАВЭ'НЧЫЦЦА *незак.* 1. Мучыцца, цярпець вялікі боль. *Матка доўга кавэнчылася.* Кураполле Паст. *Кавэнчыцца, ляжыць, забалеў.* Дакудава Лід. *Кавэнчыўся доўга, а памёр хутка.* Галубы Маст. *Яна кавэнчыцца з нагою.* Альхоўка Навагр. 2. *перан.* Жыць у галечы, гараваць. *Дайней не жылі, а кавэнчыліся: таго не было, таго не было, якоя там жыццё было!* Гемзы Шальч. *Ня жыў, а кавэнчыўся.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Цяжка, многа працаваць. *Работа ў яе была цяшкая, кавэнчылася цэлы дзень.* Альхоўка Навагр. *Катора пара, а ён кавэнчыцца, яшчэ ня снедаў.* Кіралі Шчуч.

КАВЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Мучыць, здзекавацца. *Не кавэнч дзіця! — што ты яго кавэнчыш!* Альхоўцы Лях., Малахоўцы Бар. *Кавэнчыў, кавэнчыў кот мыш і закавэнчыў.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *kawęczeć* 'карпець, занепадаць'.

КАВЯЛА', КАВІЛА' *ж.* Тое ж, што і к а в ё л ь. *Кавяла сделана, і ходіт на кавёлах.* Рагулішкі Даўг. *С кавялой ёй ляхчэй было хадзіць.* Магуны Паст. *А ён так упаў, што с кавялой ходзіць і цяпер.* Беразіно Докш. *Вун кавіла стаіць; ён кавёлы дзелаў.* Лісна В.-Дзв. *На кавёлах хадзіла.* Кураполле Паст.

КАВЯ'РНЯ *ж.* Кафэ. *Яны адкрылі кавярню.* Дзераўное Стаўб.; *парайн.* польск. *kawiarnia* 'тж'.

КАГА' *займ. род.* і *він.* Каго. *У кага ён робіць?* Груздава Паст. *Ад кага я буду хавацца?* Асавец Віл. *У кага была пшаніца, той меў муку.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

КАГА'Л *м.* 1. Род, радня. *Кажаць, што твой вялікі кагал.* Альхоўцы Лях. 2. Кампанія. *Сабраўся каля хаты кагал; пашлі кагалам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Быў у гэтым кагале.* Баброўнікі Гарад. 3. у знач. *прысл. кагалам.* Усе разам, сумесна. *Яны кагалам робяць; ідуць кагалам.* Бабробнікі Гарад.; *парайн.* ст.-яўр. *kāhāl* 'сход, абшчына' (Фасм., II, 155).

КАГА'Т *м.* Бурт, вялікая куча (пра буракі). *Кагаты вялькія — гэто капцэ буракоў. Ссыпаюць буракі ў кагаты на цукровых заводах — накрываюць матамі с саломы.* Вострава Маст.

КАГДА'СЬ *прысл.* Калісьці. *Кагдась было, што апаравалі крапіву, варылі і елі.* Вострава Маст.

КАГДА'-ТА *прысл.* Калісьці. *Кагда-та не разносілі пісьмы, газэты, а каму нада — шлі ў Тургелі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *когда-то* 'тж'.

КАГДЗЕ', КАДЗЕ' *прысл.* 1. Нядаўна, толькі-што. *Кагдзе быў тут. Кагдзе карміла куранят — і зноў крычаць. Кагдзе была ніварта ружа, а цяпер разраслася. Кадзе здумала, што*

*купцэ прыходзілі. Да кадзе прыехаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Я прышла кадзе.* Кайшоўка Карэл. *Кадзе прышоў з Ляхавіч.* Альхоўцы Лях. 2. Праз пэўны час, хутка. *Некагдзе прыдзе ён.* Дзяніскавічы Ганц.

КАДА′ *прысл.* Калі. *Када я стала ей гаварыць, а іна: «А ты мне кушаць дасі?»* Пасіене Лудз. *Гаршке чыстыя, када пліта скуйной паляцца.* Парэчча Гродз.; *парайн.* руск. *когда* 'тж'.

КАДА′СЬ-ТА *прысл.* Калісьці. *Веялкі кадась-та́ былі і варфы.* Ракаўскія Швянч.

КАДА′-ТА *прысл.* Тое ж, што і к а д а́ с ь-т а. *Там тарфяное балота, а када-та рэчка была.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КА′ДАЎБ, КА′ДАЎП, КАДО′ЎБ, КАДО′ЎП, КА′ДЛУБ *м.*, КА′ДАЎБА *ж.* 1. Вялікая бочка, выдзеўбаная з тоўстай калоды, куды ссыпалі збожжа, муку. *Кадаўбэ́ былі дзеравяныя, поўны кадаўб жыта насыпалі.* Парэчча Гродз. *Кадаўб — бочка з калоды, без абручоў, рабілі з альхі.* Рудня Астравітая Чэрв. *З альхі даўбалі кадаўб, у нас і цяпер е.* Пасека Ст.-Дар. *Кадаўбы здзеланы так: серадзіну дзерава выдаўбаюць, астаецца адна абалонь.* Бакшты Іўеў. *Адрэжуць бутлую хвойку, пачысцяць, дно ўставяць і сорак пудоў лезла, на паўтара мэтра высакосці — і гэта былі кадаўбы.* Пацаўшчына Дзятл. *Кадаўп — дзеравянная бочка, сыпалі муку, дзяржалі просо, каноплі.* Малахоўцы Бар. *У кадаўпы сыпалі збож'е.* Данілавічы Дзярж. *Кадоўб выдзяўбаюць, як кадзь.* Глівін Барыс. *Кадоўб, у ім муку і розную пашню дзержаць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Кадоўп — на збожа, велькі ён, выдаўбаны.* Дакудава Лід. *Кадлуб — бочка, выдлубаная з калоды, на муку, семя.* Жылі Іўеў. *Адна кадаўба і другая — дзве кадаўбы было, у адну сыпеш жытнюю муку, а ў другую — субар.* Азяраны Раг. 2. Вулей, калода для пчол. *Кадаўб — вуляй, кадаўбы пешняй рабілі.* Азяраны Раг. *Кадаўбэ́ выдоўбывалі долатам і пешняй і на дзераве ставілі кадаўбэ́ — уляе такія.* Парэчча Гродз. *Кадаўп як уляй. У папа былі пчолы ў кадаўбох.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Бочачка, куды злівалі мёд. *Рабілі кадаўбы з галешыны на м'ёт. У нас м'ёт быў у двух кадаўбох.* Дзяніскавічы Ганц. *У кадлубы злівалі мёт.* Жылі Іўеў. *Мёт з кадлубоў выбіралі і ставілі ў печку.* Навасёлкі Свісл. 4. Бочка без дна, устаўленая ў крыніцу. *Бацька кадоўб уставіў у крыніцу — і бралі воду.* Вецярэвічы Пух.

КАДАЎБЕ′РКА *ж.* Тое ж, што і к а́ д а ў б 2. *Кадаўберка — старчы вулей.* Данілавічы Дзярж.

КА′ДАЎБЧЫК, КАДО′ЎБЧЫК, КАДО′ЎПЧЫК *м. памянш.* да к а́ д а ў б 1. *Гнілую альху вычашчалі і кадаўбчык з альховага дрэва рабілі.* Рудня Астравітая Чэрв. *У ка-*

*доўбчык муку ссыпалі.* Малахоўцы Бар. *Кадоўпчык быў на збожа.* Бакшты Іўеў.

КАДАЎБЯ́НІК *м. зневаж.* Няўдалы чалавек, які мае загану. *Прышоў да іх некі кадаўбянік.* Кіралі Шчуч.

КАДЗЕ́ *гл.* КАГДЗЕ́

КАДЗЬ, КАЦЬ *ж.* Вялікая бочка, кадушка. *Цэлая кадзь мяса была.* Рудня Чэрв. *Роўны з гэтымі ўшакамі былі кадзі.* Саланое Віл. *У кадзях складалі муку, у кадзях і капусту квасілі. Каць — бочка, выдаўбленая з клёну.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У каць складалі палавінкі качаноў.* Саланое Віл. ◊ *Ліць, што ў каць* — пра дождж праліўны. *Ліе дош, што ў каць.* Рыбчына Віл.; *параўн.* літ. *kõdis* 'тж'.

КА́ДКА *ж.* Тое ж, што і к а д з ь. *У кадках мяса солім, капусту, агурцы.* Навікі Лудз.

КА́ДЛУБ *гл.* КА́ДАЎБ

КАДЛУБА́Н *м.* Бачурка. *Кадлубаны рабілі з ліпы.* Граўжышкі Ашм.

КАДЛУБА́ЯЧКА *ж. памянш.* Пасудзіна для ягад, зробленая з кары. *Даўней была кадлубаячка, зробленая с кары, ягады ў яе збіралі.* Граўжышкі Ашм.

КАДЛУ́БОК *м.* Тое ж, што і к а́ д а ў б ч ы к. *Еслі выпалена і выдаўбана з круглае калоды, то — кадлубок.* Калясное Міхал.

КАДЛУ́БЧЫК *м.* Тое ж, што і к а д л у б а́ я ч к а. *Кадлубчык з бярозавай кары рабілі на ягады.* Жылі Іўеў.

КАДО́ЎБ, КАДО́ЎП *гл.* КА́ДАЎБ

КАДО́ЎБЧЫК *гл.* КА́ДАЎБЧЫК

КАДРЫ́ЛЬ, КА́ДРАЛЬ, КАДРЫ́ЛЯ *ж.,* КАДРЭ́ЛЬ *м.* Кадрыля. *Кадрыль ішлі танцаваць.* Малькуны Ігн. *Кадрыль танцавалі ў дзве і тры пары.* Ухвала Круп. *Якушовы дзіўчаты добра танцавалі кадраль.* Саланое Віл. *Добра скакалі кадрэля.* Кіралі Шчуч. *Як пашлі кадрылю гуляць, было інцярэсна.* Малахоўцы Бар.

КАДУ́К *м.* Нячысцік, чорт. *А кадук яго ведае, дзе ён дзеўся.* Мачаск Бярэз. *Кадук яго зная, дзе ён.* Міратычы Карэл. *Кадук яго зная, што ён там казаў.* Азяраны Раг. *Але кадук его ўсе папіша.* Семежава Кап. *А хто ён той кадук — паветра яго ведае.* Ухвала Круп. *А кадук ёго відае.* Сіманавічы Драг. *Вот кадуке прынеслі.* Пасека Ст.-Дар. ∇ *А хай цябе кадук задуша!* Ухвала Круп. *Ах, каб цябе кадук!* Рыбчына Віл. *Хай яго кадук возьмя!* Кіралі Шчуч. *Яе кадук не браў.* Вострава Маст. *Ідзі ты к кадукам!* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* польск. *kaduk* 'эпілепсія'.

КАДУ́ШКА *ж.* Тое ж, што і к а д з ь. *Кадушка с клёпак.* Дакудава Лід. *Сыпалі муку ў кадушку.* Каменка Стара Сакол., Малахоўцы Бар. *Кадушка на гурке і на капусту. Налеця вадэ ў кадушку, карова прыдзе, будзя піць.* Кіралі Шчуч.

*Кадушка на гурке, на капусту, я заняў усе кадушке.* Баброўнікі Гарад.

КАЕ'Т *м.* Сшытак. *Увесь кает спісаў.* Вострава Маст. *Каетаў накупляў.* Ністанішкі Смарг.; *парайн. устар.* польск. *kajet* 'тж'.

КАЖАМЯ'КА *м.* Гарбар. *Аўчыны вырабляў кажамяка.* Рудня Чэрв.

КАЖА'Н, КАРЖА'Н *м.* 1. *заал.* Кажан. *Кажан крэпка дзярэцца, як у рукі возьмеш.* Ёдлавічы Брасл. *Кажан лятае вечарам, як прыцямнея.* Кіралі Шчуч. *Каржаны лётаюць вечарам.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Злы, невысокага росту чалавек. *І на людзей кажуць: кажан — на малых, злых: ну і кажан; дзярэцца, як кажан.* Ёдлавічы Брасл.

КАЖА'РЫНА, КАЖУРЫ'НА *ж.* 1. Стары, паношаны кажух. *Там кажарына вісіць, вазьмі надзень.* Лісна В.-Дзв. *Дай якую кажурыну адзець.* Кураполле Паст. 2. Кусок старой аўчыны, кажуха. *Прынясі якую кажурыну залатаць кажух.* Кураполле Паст.

КА'ЖДЫ, КО'ЖДЫ, КУ'ЖДЫ, КА'ЖНЫ, КА'ЖАН, КО'ЖНЫ *займ.* Кожны. *Кажды цяпер дзеньгі мая.* Гемзы Шальч. *Ціпер службу кажды меіць.* Новыя Мацалі Варэн. *Кажды дзень пішуць.* Кемялішкі Астр. *Зімой кажды грыб добры.* Жылі Іўеў. *Кажды ішоў да яе, яна памагала ўсім.* Старое Сяло Зэльв. *Кажды рас ходзіць туды, бо дзялка там.* Альба Нясв. *Кажда скаціна ходзіць.* Альхоўка Навагр. *Каждого года прыежджают у сэло.* Ялова̀ Пруж. *Кажду суботу ходзім у лазню.* Паляцкішкі Воран. *У каждай печы тры люхта.* Грыкені Вільн. *Кожды гот прыяжджаіць да бацькі.* Саланое Віл. *Ні кожды можа так становіць. Кожды рас прыносіць малако.* Старое Сяло Зэльв. *Кужда дрэва можа выпускаць атожылкі.* Старыя Трокі Трак. *Кужды рас запытаецца, ці можна?* Старыя Смільгіні Воран. *Куждаму работа дадзена.* Паляцкішкі Воран. *Кажны дзень піла авечы лой.* Скрыпчына Лудз. *Кажны на базар егдзіў.* Дакудава Лід. *Дайней кажны гот пастуха наймаць нада было.* Валынцы В.-Дзв. *Ны кажны грошы прынэсэ ў пору.* Дзмітравічы Кам. *Кажна стараецца, кап у запасе было пашыта.* Баброўнікі Гарад. *Кажну нэдзелю едэмо на базар.* Смаляніца Пруж. *Кажан тыдзянь едзіць дамоў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кажан з вясны тут ест.* Гемзы Шальч. *Кажан дзень іду туды.* Лоск Валож. *Ходзіць на работу ні чараз дзень, а кажан дзень.* Ракаўскія Швянч. *На кажан зубок нада было атцерпіць.* Асавец Віл. *Кожны дзень ідзі і ідзі.* Лісна В.-Дзв. ∇ *Кажды жыве сабе.* Новікі Гродз. *Кажды мае сваё гора.* Парэчча Гродз. *Каждая пачвара знайдзіць сабе пару.* Кураполле Паст. *Кажны хочэ на свеці быці.* Ялова Пруж. *Кажнаму сваё.* Лісна В.-Дзв.

КАЖУ́РНІК *м.* Тое ж, што і к а ж а м я́ к а: *Кажурнік кожы вырабляў.* Мачаск Бярэз.

КАЖУРНО́ *зб. н.* Аўчыны. *На няшытыя аўчыны казалі: кажурно. Шапкі шыюць с кажурна. Кавалкі кажурна валяюцца.* Рыбчына Віл.

КАЖУРЫ́НА *гл.* КАЖА́РЫНА

КАЖУРЫ́НКА *ж. памянш.* да к а ж а р ы́ н а 1. *Кажурынку мела і патсцілала пад бок.* Гемзы Шальч.

КАЖУ́Х *м.* Кажух. *Доўгі — кажух, а кароткі — паўшубак. Як спацеў, то мне кажух зрабіўся вільготны.* Гемзы Шальч. *Кажух шылі з вырабленых аўчынаў.* Грыкені Вільн. *У кажухі з аўчыны пугавіцы рабілі.* Рагулішкі Даўг. *Даўней кажухі белыя насілі.* Стральцы Шальч. ∇ *Сядзіць Маруся ў чырвоным кажусе* — цыбуля. Ухвала Круп.

КАЖУХО́М *прысл.* Вельмі густа. *Макрыца кажухом сплялася, не разгоніш плугам бульбу.* Раўбічы Мін.

КАЖУ́ШАК, КАЖУШО́К *м. памянш.* да к а ж у́ х. *Тут кажушак яе вісіць.* Дакудава Лід. *Кажушок з аўчынаў авечых пашылі.* Грыкені Вільн.

КАЖЫ́ННЫ, КАЖЫ́ННЫЙ, КАЖЫ́НЫ *займ.* Кожны. *Кажынны год высаткі былі.* Азяраны Раг. *Нада ў ніты ўкладаць па парачкі ў кажынный зуп.* Лайпушкі Ігн. *Даўней з лыкі лапці плялі, кажыная лыка захіленая і ў кажыную зацягавалі вяровачку; лапці былі на дванаццаць пістонаў.* Малькуны Ігн.

КАЖЭ́ЎНІК *м.* Тое ж, што і к а ж а м я́ к а. *Кажэўнік скуры вырабляе.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАЗА́ I *ж. заал.* Свойская і дзікая каза. *Яна гадуіць казу. Тут многа ў каго козы. І дзікія козы ёсць.* Чычалі Швянч.

КАЗА́ II *ж.* 1. Загон, які займае жняя. *Я казу заняла ды ганю, кап скарэй дажаць.* Старое Сяло Зэльв. 2. Маленькія саначкі, якія выкарыстоўваюцца пры перавозцы бярвенняў. *Пазыч казы, паеду па дрэвы.* Вязынка Маладз. 3. *рыб.* Прылада для асвятлення. *Каза, як чарпло, смалякі кідаеш у казу, запаліш яе, яна асвічаіць і ідзеш з васцямі рыбу лавіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дзелалі казу з дрота: шынкі такія на смалякі, калі рыбу лавілі.* Быстрыца Астр. 4. Памылка, якая дапушчана пры снаванні красён. *Палажыла я казу — пераскочыла церас калок, як снавала, і намучылася, тады казу назад атматала.* Ёдлавічы Брасл. *Каза — еслі адну сцяну перамінула, пашла ўніс, а нада ўверх.* Ракаўскія Швянч.

КАЗА́К I *м. устар.* Назва жаночага верхняга адзення, пашытага ў зборкі. *Казак быў у маткі, пашыты ў заборы, с куплёнага мацерыялу.* Янова Рас.

КАЗА́К II *м. кулін.* Грыбок. *Я казака спекла: раскалаціла пшанічнае мукі, малака ўліла, яйцо разбіла, на сквара-*

*ду — і ў печ, і ямо. Макалі бліны і так чэрпалі.* Дзяніскавічы Ганц.

ҚАЗА'ҚА *ж. заал.* Казяўка. *Паўзе нека казака.* Новікі Гродз.

ҚАЗА'ЛЫ толькі *мн.* Нагаворы, плёткі, паклёп. *Плюнь ты на гэтыя казалы!* Вецярэвічы Пух.

ҚАЗА'Н *м.* Саган. *Қазаны былі медныя, жоўтыя, як каструлі, у казанох варылі есці.* Азяраны Раг.

ҚА'ЗАНЫ *дзеепрым.* Загаданы. *Мне казана — і я так раблю.* Паляцкішкі Воран. ∇ *Так казана, так гаворана.* Лоск Валож.

ҚА'ЗАНЬ *ж.* ҚАЗА'НЕ *н. рэліг.* Прамова, пропаведзь. *Ксёнц кажа казань.* Міратычы Карэл. *Ксенц казане гавора.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kazań* 'тж'.

ҚАЗАРА'ГА *м.* і *ж. зневаж.* Хто неахайны, нязграбны. *Ходзіць, як казарага, нізграбэйла ты! Мальчонак яе — казарага.* Ахрэмаўцы Брасл.

ҚАЗАРЭ'З *м. бат.* Разак. *Ногі абрэзала казарэзам.* Мярэцкія Глыб.

ҚАЗАРЭ'ЗНІК *м.* Тое ж, што і казарэ́з. Мярэцкія Глыб.

ҚАЗА'ТЫ *гл.* ҚАЗА'ЦЬ

ҚАЗА'ХІЯ *ж.* Казахстан. *У Казахію на заработкі выехаў ён.* Чычалі Швянч.

ҚАЗА'ЦЬ, ҚАЗА'ЦІ, ҚАЗА'ТЫ *незак.* 1. Гаварыць. *Ніхто нічога не кажыць.* Груздава Паст. *Дзе ж ён будзя казаць.* Кемялішкі Астр. *Ён кажаць і знаяць.* Лоск Валож. *Трэба гаварыць так, як мама да дзіцяці ў калысцы казала.* Гемзы Шальч. 2. Паведамляць што-н. *Яна кажа, што ў лес хадзіла.* Стральцы Шальч. *Бацькі кажаць: «Мы хочам быць там, дзе дзеці».* Гемзы Шальч. *І сэм'е нэма — кажэтэ.* Смаляніца Пруж. 3. Расказваць, апавядаць. *Кажы мне казку!* Гемзы Шальч. 4. Перадаваць, пераказваць. *Пашла і тату казала.* Саланое Віл. *Пашла казаць маццa.* Лоск Валож. *Ад тэй пашоў к тэй і будзіць казаць так і так.* Кураполле Паст. 5. Называць. *А на дзіван у нас кажуць канапа.* Вострава Маст. *А ў Юравіч на гускі* [назва расліны] *кажуць какішнік.* Рудня Астравітая Чэрв. 6. Прапаноўваць. *Адна будзіць казаць: «Жыві ў мяне!»* Кураполле Паст. 7. Пытаць. *Я буду казаць: «Што ты робіш?»* Навасёлкі Свісл. 8. Прасіць. *Будзя казаць мая сусетка, каб карову скарэй с поля прыгналі.* Саланое Віл. *Казала: не трэба, нашто ехаць, не — паехаў.* Солы Смарг. *Вын кажэ набратэ картоплюв.* Дзмітравічы Кам. 9. Вымаўляць. *Каля Валожына кажаць: «Доў, казоў».* Жыдзевічы Іўеў. *Там кажаць: «Дай вадэ!»* Паляцкішкі Воран. ∇ *Мужу праўды лепей не кажы!* Гемзы Шальч. *Мужыку праўды не трэба казаць.* Саланое Віл. *Усе кажуць,*

*што не сам чалавек вешаецца — яго чорт вешаіць.* Ёдлавічы Брасл.

КАЗАЧО'К *м.* Драўляны вінт з галоўкай, які падымае і апускае жалезны шпень з насаджанай шпулькай у калаўроце. *Казачок у калаўротку.* Дакудава Лід.

КАЗАЧЫ'НА *ж.* Кажух, пашыты ў зборкі. *Казачына — такі кажух з зборамі кругом, насілі бабы і мужчыны.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КАЗАЧЫ'НАЮ ў знач. *прысл.* У зборкі. *Кажух быў просты, і кажух пашыты казачынаю.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАЗЕ'ЛЬКІ *мн. бат.* Казялец. *Казелькі на лузе растуць, жоўтыя кветкі.* Рыбчына Віл.

КАЗЁЛ I *м. заал.* Тое ж, што і к а в а л ё к. *Казёл зялёны, што па санажаці прыгая.* Гемзы Шальч. *Казлы шумяць нейк.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАЗЁЛ II *м.* 1. Тое ж, што і к а з л ы́ I. *Трэба зрабіць казла, на ім дровы добра пілаваць.* Гемзы Шальч. *На казле драва рэжам, ставім казёл і рож аббіваем.* Істра Лудз. 2. Тое ж, што і к а з а́ II, 4. *Снавала кросны і ўсадзіла казла, казёл ускочыў, трэба яго выкрыць.* Грыкені Вільн.

КАЗЁЛКА *ж.* Кацёлка ў прыстасаванні для падвешвання нітоў у кроснах. *Аборачку праз казёлку перахіліш і прывяжаш да нітоў.* Лоск Валож.

КАЗЁЛЬЧЫК *м.* Тое ж, што і к а в а л ё к. *Казёльчыкі па сенажаці скачуць.* Жылі Іўеў. *Казёльчык прых-прых зялёны.* Солы Смарг.

КАЗЁННЫ *прым.* Які мае адносіны да дзяржаўнага. *Бацька казённы ляснік быў.* Гемзы Шальч. *Адну зіму дык аш пяць штук мядзведзяў забілі ў казённым лесі.* Грабёнка Чэрв.

КАЗЁННЫЯ ЛЮ'ДЗІ, КАЗЁННЫ, КАЗЁННЭ ЛЮ'ДЭ *мн. гіст.* Дзяржаўныя сяляне ў час прыгону. *Мы былі панскія людзі, а там былі казённыя.* Рыбчына Віл. *В Сымоновыч чытьвёрта чясьць господарок булы казённы, а остальныйі — паньскы. В паньскых людэй учясток був восімнаццэть дысятын, а в казённых — дваццэть штыры. Паньскы робылы на пана, одроблялы пановы панщчыну, а казённы робылы на казню, на госудaрство. Казённы с Сымоновыч всэ в цыгэльню, шо за Былынем, ходылы робыты. Казённы булы Брашовськэйі парахвійі, а паньскыйі — Хомськэйі. Булы молыці* [могілкі] *паньскых і казённых. Пан ужэ казённымы ны роспоражявся.* Сіманавічы Драг. *В Радустувэ булэ казённэ людэ, а на Вільцэ — паньскэ, худэлэ на панщчыну.* Радастаў Драг.

КАЗІ'НАЯ, КАЗЛІ'НАЯ БАРАДА' *ж. бат.* Сівец. *Казіная барада — благая трава.* Міратычы Карэл. *Гэту траву называем казіныя бороды.* Старое Сяло Зэльв. *Казліная барада — сівая трава.* Быстрыца Астр.

КАЗІ́НЯЦ *м.* Тое ж, што і к а з і́ н а я б а р а д а́. *Казіняц расце на паплавох. Бывала, ляш і паляжы на казінцы, то сарочка будзе рабая ад блох, а цяпер дзе тыя блохі дзеліся?* Вецярэвічы Пух.

КАЗЛАВА́ЦЬ *незак.* Ванітаваць. *А каторы кот казлаваў? Гэты нігды не казлуіць.* Ёдлавічы Брасл.

КАЗЛІ́ННАЯ ДЗЯ́ТЛЕЎКА *ж. бат.* Бабоўнік. *Казлінную дзятлеўку козы любят, она горькая, на яе кажут і бабоўнік.* Навікі Лудз.

КАЗЛІ́ЦЦА *зак.* і *незак.* Акаціцца. *Позна казлілася каза.* Мішневічы Шум.

КАЗЛЫ́ I *мн.* 1. Козлы. *Казлы, дзе дровы рэзаць.* Пасіене Лудз. *Ставілі казлы, што дровы рэзаць, клалі дошку, бралі сноп за камель і білі.* Груздава Паст. 2. Прыстасаванне для дасушвання чаго-н. *Пад лазняй казлы канюшыну сушыць, сена, траву, яны вышэй, чым для дроў.* Старыя Трокі Трак. 3. Кроквы ў гаспадарчым будынку. *Казлы — сошкі такія для апоры страхі, казлы на бальках ставілі, крыша на казлах.* Ахрэмаўцы Брасл. *Казлы ставяць на пераруб.* Мярэцкія Глыб. 4. Прылада для рэзання саломы. *І рукамі кроілі сечку ўперод, казлы былі такія, горсць бярэ, па горстаццы і кроіць.* Грыкені Вільн. 5. Прыстасаванне для падвешвання калыскі ў полі. *Даўней казлы на плечы і калыску, бяруць дзіцё і ідуць жаць.* Саланое Віл.

КАЗЛЫ́ II *мн.* 1. Тое ж, што і к а з ё л ь к і. *Як вы кажаця, то казлы пахожа, што люцік.* Жодзішкі Смарг. *Казлы — гэта краскі жоўтыя, разыгатыя, кусцікам растуць.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Казлякі. *Казлоў набраў па хвойнічку.* Ухвала Круп. 3. Гронка. *На тых кустах арэшніку вялікія казлы арэхаў.* Кураполле Паст. 4. Пашкоджаныя вочкі на клубнях бульбы. *У картоплі натта многа казлоў.* Кіралі Шчуч.

КАЗЛЮ́К *м. заал.* Цвыркун. Ракаўскія Швянч.

КАЗЛЯ́ *н. бат.* Казляк. *Даўней замест мазі казля ўсадзіш у вось.* Чычалі Швянч.

КАЗЛЯ́К *м.* 1. Тое ж, што і к а з л я́. *Як абдзярэш казляк, то ён беленькі.* Баброўнікі Гарад. *Казлякі растуць па дарогах, дзе цвёрда, а сыраешкі — па бару.* Ёдлавічы Брасл. *Казлякоў набралі, падбярозавікаў.* Чарняўскія Лудз. 2. *мн.* Агульная назва грыбоў, акрамя баравікоў. *Казляке — чорныя грыбэ, казляке — не баравіке.* Вялікія Баяры Шчуч.

КАЗО́ДРЫКІ *мн. бат.* Кураслеп. *Казодрыкі — белыя цвяточкі, лісцікі зялёненькія, вясной цвітуць.* Пацаўшчына Дзятл.

КАЗО́ДРЫЦА *ж.*, КА́ЗОДРЫШЧА *н.* Тое ж, што і к а з о́ д р ы к і. *Казодрыца цвіце жоўтым і беленькім, кветачкі*

*гэтыя вясной растуць у лесі.* Міратычы Карэл. *Казодрышча, як толькі снех згоніць, белым цветам цвіце.* Кіралі Шчуч.

КАЗЫРО′К *м.* 1. Казырок у шапцы. *Паламаўса казырок.* Баброўнікі Гарад. *Казырок парваўся ў шапцы — і так ходзіць, важнаго ўдае.* Верхлессе Крын.; *параўн.* руск. *козырек* 'тж'. 2. Шчыток у санях. *Казырок збіты з дошчак і на ґохтах стаіць, каб конь снегу не кідаў у сані.* Гемзы Шальч. 3. Прычолак, прымацаваны да ніжняй часткі франтона. *Найперш казырок прыбіваюць, а тады закладаюць шчыты.* Старыя Смільґіні Воран.

КАЗЫТА′ЦЦА *незак.* Казытаць. *Кінь ты казытацца!* Пацаўшчына Дзятл.

КАЗЫТА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к а з ы т а́ ц ц а. *Не казычы!* Крынкі Крын. *Мама, ён міне казыча!* Каўняны Гродз. *Ён казыча яе і ўшчыпне.* Вялікія Баяры Шчуч. *Валя, не казычы!* Альхоўцы Лях. *Не казычы, бо я баюса!* Баброўнікі Гарад.

КАЗЫ′ТКА *ж.* Козыт. *Ён баіцца казыткі.* Крынкі Крын.

КАЗЬБА′ *ж.* 1. Час нарыхтоўкі сена. *Ужо казьба пачалася, людзі пашлі касіць.* Мярэцкія Глыб. 2. Кашэнне. *За казьбу нада плаціць.* Вялікія Баяры Шчуч.

КАЗЮ′ЛЬКА *ж.* Лескі. *Казюлька ставіцца і па ей лезуць на дзерава.* Беразіно Докш.

КАЗЮ′ЛЬКІ, КАЗУ′ЛЬКІ, КАЗЮ′РКІ, КАЗЮЛЬКЕ′ *мн. заал.* Казяўкі. *Усякія казюлькі поўзаюць.* Дакудава Лід. *Куры дзяўбуць казюлькі.* Альхоўка Навагр. *Казулькі ест такія.* Каўняны Гродз. *Казулек наляцела, як жэмжы.* Навасёлкі Свісл. *Казулькі па вадзе плывуць.* Баброўнікі Гарад. *Куры пойдуць у сат, а там казюркі ўрэдныі для курэй, наядуцца куры — ліюцца і дохнуць.* Валынцы В.-Дзв. *Казюльке на картошку нападаюць.* Парэчча Гродз.

КАЗЯКІ′ *мн. бат.* Агульная назва ўсіх грыбоў, акрамя баравікоў. *Казякі — усе чорныя грыбы, пасхнуць у печы, наніжаш на маточкі, квас харошы, як укінеш.* Дзяніскавічы Ганц.

КАЗЯЛЁК *м. заал.* Бакас. *Казялёк лётаіць і мяркечыць.* Лайпушкі Ігн.

КАЗЯЛО′К *м.* 1. Казляня. *Каза ці казялок пабех? Казялкі былі.* Істра Лудз. 2. Тое ж, што і к а в а л ё к. *Казялок скача па траве, казялкі іх зовіць.* Рагулішкі Даўг.

КАЗЯНЁТКА *н. памянш.-ласк.* Казляня. *Казянётка здохла.* Асавец Віл.

КАЗЯ′ТНІК *м.* 1. Тое ж, што і к а з л і́ н н а я д з я́ т л е ў к а. *Казятнік расцець у балоці.* Лісна В.-Дзв. *Казятнік на тры лісты, ад кашлю вараць, гаркі, што палын.* Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і к а з ё л ь к і. *Патры казятнікам — і ранкі бываюць.* Мішневічы Шум.

КА'ІЦЦА *незак.* Каяцца. *Я не каюся, што маладая пашла замуш.* ∇ *Ні кайся раня ўстаўшы, а молад ажаніўшысь.* Саланое Віл.

КАЙДАНЭ' *мн. заал.* Мурашкі. *Кайданэ — гэто дужыя лясныя мурашкі.* Сакаляны Сакол.

КА'ЙСТРА, КЭ'ЙСТРА *ж.* Торба з палатна, сумка. *Чалавек пайшоў з кайстрай.* Азяраны Раг. *Набраў поўну кэйстру есці ды пашоў касіць сено.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КАКАЛУ'ХА *гл.* КАЛАКАЛУ'ХА

КАКАРУ'ЗА *ж.*, КАКАРУ'С *м.* Кукуруза. *Какаруза расцець добра, пашлі какарузу палоць.* Кемялішкі Астр. *Какаруза расце, сарадэля.* Навасёлкі Свісл. *Какарус вырасце на сялос.* Стральцы Шальч.

КАКАРУ'ЗІШЧА *н.* Поле, дзе расла кукуруза. *Гані кароў на какарузішча!* Вострава Маст.

КАКАРУ'ЗНІСКО *н.* Тое ж, што і к а к а р у́ з і ш ч а. *Какарузніско ўзаралі.* Дзяніскавічы Ганц.

КАКАРУ'С *гл.* КАКАРУ'ЗА

КАКАРЭ'ЧКІ У выразах: *На какарэчкі, на какарэчках (прысесці, садзіцца, сядзець* і інш.) — прысесці на кукішкі, на наскі; сядзець на кукішках, на насках. *Яна на какарэчкі села, на какарэчках сядзіць.* Магуны Паст. *Ён поліць на какарэчках.* Саланое Віл. Дыялектныя варыянты такіх выразаў: *Села на како́шкі; прыехаў на како́шках.* Старыя Смільгіні Воран. *Прысела на кара́кучках; надаела сядзець на кара́кучках.* Саланое Віл. *На карко́шкі прысела карову даіць.* Гемзы Шальч. *На ко́кашках прысеў.* Галубы Маст. *Чаго ты села на ко́кашы?* Вострава Маст. *На ко́кішкі сеў.* Пацаўшчына Дзятл. *Прысеў на ко́кішкі і пачаў даіць карову.* Кіралі Шчуч. *Я прысеў на ко́кішках і гляджу, што ён будзя рабіць.* Малахоўцы Бар. *Садзіцца на ко́ркішках.* Ісерна Слуц. *Сядзіць на ко́рпушках.* Пасека Ст.-Дар. *Сеў на кукарэ́чкі, прысела на кукарэ́чкі.* Вязынка Маладз. *Сеў на ку́кішкі.* Міратычы Карэл. *Села на кукярэ́чках.* Мярэцкія Глыб. *Прысела на курkі́шкі.* Нізок Уздз. *Села на куркі́шкі; на куркі́шках села.* Жыдзевічы Іўеў. *На куркі́шках прысесць можа.* Жылі Іўеў. *На куркі́шках села.* Каўняны Гродз., Рудня Астравітая Чэрв. *Сеў на куркі́шкі.* Навасёлкі Свісл. *Села на куро́пачкі і даіла карову.* Азяраны Раг. *Прысела на ку́рпішкі ды доіць карову; ягады ішчэ бярэ на ку́рпішках; парабірая бы-што на ку́рпішках.* Дзяніскавічы Ганц. *Прысеў на ку́ртачкі і гуляе з дзецьмі.* Глівін Барыс. *Сядзя на ку́рцішках і сядзіць; на ку́рчыках сядзеў.* Бакшты Іўеў. *На ку́рачках сеў.* Гайна Лаг.

КА'КЛЯ *гл.* КА'ФЛЯ

КАКО'Й-ТА *займ.* Нейкі, якісьці. *Тут стаяць колы с какіх-та машын.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *какой-то* 'тж'.

КАКО'РКІ, КАКО'РЫ *мн. кулін.* Перапечкі з бульбы,

мукі, з прэснага або кіслага цеста. *Какоркі, ці какоры пяклі так: нада картошкі атварыць у лупінах, прапусціць праз машынку, абабраўшы лупіну, валачкам раскатаць, лук, маркоўку ўнутр, на брытван — і какоркі.* Старыя Трокі Трак. *Какоркі робяцца з варанай цёртай бульбы: трэба замясіць туга, раскачаць, пяклі на таку альбо на патэльні, на спечаны блін клалі вараную таркаваную маркоўку, аблівалі жырам і пяклі, рэзалі на кавалкі і елі.* Ракаўскія Швянч. *Какоркі рабілі так: зварыш бульбу, стаўчэш, на муцэ пакачаеш, у сярэдзіну паложыш зваранага тоўчанага гароху, цыбулі і спячэш. Какоркі смашна пахнулі, цяпер бы з'еў. Даўней з раўгеняй елі.* Кураполле Паст. *Бывая прэсная какорка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Какоркі пяклі на патэльні с кіслага цеста.* Ёдлавічы Брасл. *Какоркі пяклі ў вайну са ўсом, каласы мяшалі.* Рагулішкі Даўг. *Вайной какоры пяклі, клевір таўклі і какоры пяклі.* Валынцы В.-Дзв.

КАКО'РЫНА *ж. кулін.* Тоўсты блін з бульбы, мукі. *Буду картошку драць і какорыну пячы.* Якубова Рас. *Какорыны спяку, усыплю мукі, соды і вады дабаўлю, пухлейшыя ад соды.* Валынцы В.-Дзв. *Какорыны прасіла дзяўчына, як была ў горадзі, а яе не панімалі.* Лісна В.-Дзв.

КАКО'ШКА *ж.*, КАКО'ШКІ *мн. ткац.* Дошчачкі, якія закладаюцца ў аснову красён. *Какошкі перад навоем, какошка закладаецца, яг наўецца аснову.* Баброўнікі Гарад.

КАКО'ШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КАКО'ШНІК *м. бат.* Капытнік. *Какошнік расце на балоце, трохвугольны лісцік, цвяток разаваты і шышачка, свінні ядуць какошнік.* Глівін Барыс., Ухвала Круп., Мачаск Бярэз., Рудня Чэрв.

КАЛ *м.* Гразь, гной, бруд. *Многа калу, няма як прайсці.* Баброўнікі Гарад. *Свіня ўпэцкалася ў калу.* Крынкі Крын. *Упэцкайса, у кал улес.* Каўняны Гродз. *Много калу коньського прынёс стары.* Міратычы Карэл. *Кал качаецца на руках, на целе.* Міратычы Карэл. *Як асмаляць забітага паршука, памыюць і скрабаюць кал.* Навасёлкі Свісл. *Што ты кідаяса калам!* Стральцы Гродз. ∇ *Зайцоў у лесе, як калу.* Навасёлкі Свісл.

КАЛА' *гл.* КАЛЯ'

КАЛАБО'К *м. кулін.* Піражок, булачка. *Дай мне адзін калабок! Калапкі пяклі с кіслага цеста.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* руск. *колобок* 'тж'.

КАЛАБО'ЧАК *м. памянш.* да к а л а б о́ к. *Аржаную муку трэба расквасіць, замясіць рашчыну, кап цеста паднялося, а тады пячы калабочкі.* Лісна В.-Дзв.

КАЛАВА'ТЫ *прым.* 1. Цвёрды, чэрствы. *Калаваты хлеп, як нясвежый.* Лісна В.-Дзв. 2. Пруткі, каляны. *Калаватае палатно, як памочыш.* Кураполле Паст. 3. Акалелы, застылы,

адубелы. *Матка ляжыць нежывютка, калавата.* Гемзы Шальч.

КАЛАВА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да калава́ты 2. *Нітачка, як павашчыш воскам, калаваценькая зробіцца.* Кураполле Паст.

КАЛАВІ'НА *ж.* Выбоіна. *Полаз у калавіну пашоў.* Гемзы Шальч.

КАЛАВУ'Р, КАЛАВУ'РНЫ *м.* Вартавы, сторож. *Каля амбару калавур ходзіць.* Кураполле Паст. *Калавурны пашоў на склат.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* руск. *караул* 'варта', *караульный* 'вартавы'.

КАЛАВУ'РЫ *прым.* Слепаваты, касы. *Сустрэўся мне калавуры дзед на старажоўцы.* Беразіно Докш.

КАЛАВУ'РЫЦЬ, КАЛАУ'РЫЦЬ *незак.* Вартаваць, пільнаваць, пасвіць. *Ён сам ні мох калавурыць склат.* Лешня Кап. *Сторож сад калавурыць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Калаурыў каня ноч, у вайлаках трэба быць на начлезе.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *караулить* 'тж'.

КАЛАКАЛУ'ХА, КАКАЛУ'ХА *ж. бат.* Чаромха. *Наламалі калакалухі.* Крэва Смарг. *Какалуха расце ў лесі, лісцэя, як у вішняку.* Вязынка Маладз.

КАЛАМА'ЖАЧКА *ж. памянш.* Дзіцячая каляска. *Дайней каламажачкі былі, дзяцей вазілі.* Ёдлавічы Брасл.

КАЛАМА'ШКА, КАЛМА'ШКА *ж.* 1. Выязная павозка. *Каламашка была, на базар ездзілі.* Рыбчына Віл. 2. Ручная павозка на двух колах. *Каламашка была для гаспадарчых патрэб на двух колах.* Дзяніскавічы Ганц. *Самі калмашку цягалі.* Магуны Паст.

КАЛАМА'ШНІК *м.* Каляснік. *Каламашнік калёсы рабіў.* Старыя Смільгіні Воран.

КАЛАМУ'ТА *ж.* Муць. *Каламута, еслі што скаламуціш.* Малахоўцы Бар.

КАЛАМУ'ТНЫ *прым.* Мутны. *Каламутная вада ў вядры.* Нізок Уздз. *Каламутная вада стала пасля дажджу.* Дзяніскавічы Ганц.

КАЛАМУ'ЦЬ *ж.* Тое ж, што і каламу́та. Нізок Уздз.

КАЛАНІ'ЦА *ж.* Калёсная мазь. *Каланіца з дзёгцю, колы мазаць куплялі.* Рыбчына Віл.

КАЛАПЕ'НЬКІ *мн. бат.* 1. Дрыжнік. *Калапенькі на пожнях растуць.* Беразіно Докш. 2. Настойка з дрыжніку. *Калапенькі ад мачавога пузыра п'юць, як мочы не пуская.* Рыбчына Віл.; *гл.* канапе́лька 1.

КАЛАПНІ' *гл.* КАНО'ПЛІ

КАЛАПЛЯ'НЫ *прым.* Канапляны. *Калапляная семя труць у церніцы.* Жодзішкі Смарг. *Калапляная семя сушылі, таўклі, разводзілі ў вадзе і залівалі дранікі ці камы, клёцкі.* Валынцы В.-Дзв. *Калапляная малако рабілі.* Мярэцкія Глыб., Кураполле Паст.

КАЛАРА'Т *м. заал.* Каларадскі жук. *Скуль ён завёўся гэты каларат? Мы яго труцім.* Малькуны Ігн.

КАЛАСАВА'ЦЦА *незак.* Каласіцца. *Кагда каласуецца жыта, паяўляюцца грыбы.* Індра Красл. *Скора каласавацца пачне ячмень.* Валынцы В.-Дзв.

КАЛАСАВА'ЦЬ *незак.* 1. Другі раз малаціць (пра ячмень). *Трэба каласаваць ячмень, каб асцюкоў не было.* Бакшты Іўеў. *Ячмень каласавалі, абівалі асцяке.* Новікі Гродз. *Ячмень перш малоцяць, а потым каласуюць, велькую кучу накладуць на току і з цапамі б'юць, вусы пабілі, перавернуць і зноў б'юць, веюць потым.* Пацаўшчына Дзятл. *Ячмень каласуюць, тады віюць яго, тады патсеюць на патсітак, а тады робяць крупы.* Міратычы Карэл., Мсцібава Ваўк., Малахоўцы Бар., Крупіца Мін. 2. Тое ж, што і к а л а с а в á ц ц а. *Ужо жыта каласуе.* Палік Барыс.

КАЛАСАВІКІ' *мн. бат.* Баравікі, што растуць у час каласавання жыта. *Із ржы колас есць — каласавікі ў лясу.* Чарняўскія Лудз. *Ужо пад дрэвамі каласавікі ёсць.* Валынцы В.-Дзв. *Каласавікі растуць, як жыта красуецца.* Саланое Віл.

КАЛАСІ'НЫ толькі *мн.* Адходы з каласоў збожжа. *Каласіны даюць каровам.* Груздава Паст.

КАЛАСНІ'К *зб. м.* Нацярушаныя каласы пры парадкаванні збожжа. *Малацілі каласнік — адны каласы.* Магуны Паст.

КАЛАСО'К *м. памянш.* да к ó л а с 1. *Дзе каласок упаўшы ляжыць, яны падоймюць.* Гемзы Шальч.

КАЛАСЮКІ' *мн.*, КАЛАСЮ'К *м.* Пладаносная частка сцябліны аўса, мяцёлка. *Каласюкі аўсяныя коні паз'ядалі.* Жылі Іўеў.

КАЛАТА'ЦЦА *незак.* Хістацца. *Зуп калатаяцца.* Жодзішкі Смарг.

КАЛАТА'ЦЬ *незак.* 1. Адкачваць. *Ён утапіўся, яго выцягнулі і калаталі.* Кіралі Шчуч. 2. Гушкаць, калыхаць. *Самі дзеці калатаюць сябе.* Галубы Маст. 3. Хістаць, калыхаць. *Не калатай зуп!* Жодзішкі Смарг. *Ён калатая зуп, не калатай!* Старыя Смільгіні Воран. 4. *перан.* Весці беззмястоўнае жыццё, не працаваць. *Тут яна і калатала з бабай зіму. Усю зіму калатала, калатала, а ў марцы пайшла работаць у банк.* Пацаўшчына Дзятл.

КАЛАТКІ' толькі *мн.* Шчыкалаткі. *Калаткі на нагах. Такая навальніца, ды ўліло, ды па калаткі вады.* Семежава Кап.

КАЛАТЛІ'ВЫ *прым.* Дрогкі. *Калатлівая дарога, натта груда вяліка, кола груды не праломя.* Гемзы Шальч.

КАЛАТНІ'НА *ж.* Сварка, калатня. *У хаці хлопат, калатніна была.* Бакшты Іўеў.

КАЛАТНЯ' *ж.* Тое ж, што і к а л а т н í н а. *У іх была ў хаця крэпкая калатня, грызня, дрэнна жывуць.* Ёдлавічы

Брасл. *Такая калатня ў іх штодзень.* Мачаск Бярэз. *У іх цёнгля калатня ў хаці.* Қаўняны Гродз.

ҚАЛАТО'ВАЧҚА *ж. памянш.* да к а л а т о ў к а I, 2. *Масла калатовачкай калацілі.* Янова Рас. *Была калатовачка, чым мясілі картошку.* Валынцы В.-Дзв.

ҚАЛАТО'ЎҚА I, ҚАЛАТО'ВҚА *ж.* 1. Мешалка. *Қалатоўка была, сукаваценькая палка.* Валынцы В.-Дзв. *Қалатоўка была мішаць кісель.* Лісна В.-Дзв., Қураполле Паст. *Қалатовку круцят рукам, мука разбіваецца, еслі в комках.* Рагулішкі Даўг. *Қалатоўка — сасновая палачка з чэтырмя сукамі — кулеш падкалачваць, шчавель калаціць.* Мішневічы Шум. *Қалатоўка — палачка з сучкамі, круцяць яе, і закалачваецца кулеш.* Ухвала Қруп. *Қалатоўкай саладуху калацілі.* Дакудава Лід. *Қалатоўкаю зацірку калоцяць.* Данілавічы Дзярж. *Қалатоўкай кашу разбівалі, круцілі кісель.* Ахрэмаўцы Брасл. *Қалатоўка — калаціць гарбус, с хвойкі рабілі калатоўку, ва ўсе бакі сучкі служаць.* Жыдзевічы Іўеў. *Гарбузы варылі і калатоўкаю калацілі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Қіёчак з перакрыжаванымі планачкамі. *Қалатоўка — у бойцы, масла біць.* Дакудава Лід. *Қалатоўка — чым масла калаціць.* Пацаўшчына Дзятл. *Қалатоўка б'е масло ў бойцы.* Малахоўцы Бар. 3. Таўкач. *Была калатоўка бульбу таўчы.* Янова Рас. ◊ *Қалатоўку ўкідаваць* — уносіць разлад. *Матка будзіць калатоўку ўкідаваць.* Валынцы В.-Дзв.

ҚАЛАТО'ЎҚА II *ж. бат.* Рагоз. *Трава ё калатоўка, шышкі вялікія, пух з іх ляціць; во калатоўка пух пусціла.* Багушэвічы Бярэз.

ҚАЛАТУ'ХА, ҚАЛАТУ'ША *ж.* 1. *кулін.* Қулеш, зацірка. *Қалатуху варылі з мукі.* Валынцы В.-Дзв. *Қалатуша — на заціруху даўно казалі.* Пасека Ст.-Дар. 2. Қрупяная каша. *Қалатуха варыцца з пшанічных круп, таўкачом раскалачваецца, туды малака лілі, клалі масла і ставілі ў печ, яна станіць жоўценькая.* Лісна В.-Дзв. 3. Гразь. *Даўней, як дасць дош, на вуліцы такая калатуха, ногі ня выцягнеш.* Ракаўскія Швянч. *Дош ідзець, калатуха на дарозі.* Қураполле Паст. *Улес у калатуху, ног не выцягну.* Пацаўшчына Дзятл. *Там былі азёры, як калатуха.* Рудня Астравітая Чэрв. *На вуліцы грась зрабілі, калатушу.* Вецярэвічы Пух.

ҚАЛАТУ'ШҚА I *ж. кулін.* 1. Страва з бульбы і мукі. *Қалатушка варыцца с картошкі, мучыцы туды, малака.* Навікі Лудз. 2. Тое ж, што і к а л а т у́ х а 1. *Қалатушкі матка наварыць, так і елі, як ні дахватала.* Валынцы В.-Дзв. 3. Амлет. *Қалатушка — раскалочаная яечня з дамешкай малака, мукі.* Мярэцкія Глыб.

ҚАЛАТУ'ШҚА II *ж.* 1. Драўляная прылада, якой абівалі лён. *Лён абівалі пранікам, і была калатушка, яна выгібаста, кап пальцамі да току не даставаў, адзін канец цянейшы, а*

*другі канец групшы, ім б'юць.* Гемзы Шальч. 2. Доўбня. *Калатушка тоўстая ўнізе. Прыглушалі свіню сакераю ці калатушкаю, а калолі швайкаю.* Лука Нараўк.

КАЛАТЫ'РЫЦЦА *незак. экспр.* Валтузіцца, корпацца. *Пакінець мяне старую з дзецьмі, калатырся з імі цэлы дзень.* Мярэцкія Глыб.

КАЛАУ'РЫЦЬ *гл.* КАЛАВУ'РЫЦЬ

КАЛАЎРО'ДАК, КАЛАЎРО'ТАК *м.* Самапрадка, калаўрот. *На калаўродак прадзем.* Крынкі Крын. *Лён прадуць калаўроткам, да калаўротка прывязваецца кудзеля.* Грыкені, Швэды Вільн. *Калаўротак быў, а некалі пралі на верацёны.* Старыя Смільгіні Воран.

КАЛАЎРО'ДАЧНІК *м.* Майстар, які выробляў калаўроты. *Насілі да пачынкі калаўротка да калаўродачніка.* Баброўнікі Гарад.

КАЛАЎРО'Т, КАРАЎЛО'Т *м.* Тое ж, што і калаўро́дак. *Калаўротам пралі.* Навікі Лудз., Індра Красл. *Калаўрот быў прасці, шэрсць прадзём.* Салады Лудз. *Даўней нага папухня каpаўлот круцячы.* Гемзы Шальч. *Караўлот і прасніца — кудзелю прасці.* Пацаўшчына Дзятл.

КАЛАЎРО'ТАК *гл.* КАЛАЎРО'ДАК

КАЛАЦЁ *гл.* КАЛАЦЦЁ

КАЛАЦІ'ЦЦА *незак.* 1. Дрыжаць, трэсціся. *Я лошку не данясу к роту, рука калоціцца.* Вецярэвічы Пух. 2. *безас.* Моцна біцца (пра сэрца), хваляваца, трывожыцца. *У мяне ў грудзях калоціцца, усё думаю, як ён там, што з ім.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Сварыцца. *Маладыя добра жывуць, ні сварацца, ні калоцяцца.* Ракаўскія Швянч. *Там згодне жывуць, не калоцяцца.* Старыя Смільгіні Воран. *Тая баба бегла да нас калаціцца.* Жылі Іўеў. *Ці я буду біцца з вамі, калаціцца.* Новікі Гродз.; *параўн.* польск. *kłócić się* 'сварыцца'.

КАЛАЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Растрасаць. *Калаціў гной, аж упацеў.* Мачаск Бярэз. *Гной калачу на полі.* Саланое Віл. *Гной калоцюць.* Гайна Лаг. 2. Абіваць. *Я жыта на насеня калаціў: на два бакі пабіў цапом — гэта значыць накалаціў.* Гемзы Шальч. *Трэба ячмень калаціць.* Навасёлкі Свісл. *Лён калоцяць пранікамі.* Кіралі Шчуч., Стары Свержань Стаўб. 3. Вытрасаць роўную салому і вязаць кулі. *Калацілі кулі.* Мішневічы Шум. *Кулі калацілі з акалоту — са снапоў, якія абівалі на семяно.* Азяраны Раг. 4. Перыць. *Калаціла плацье пранікам.* Дзяніскавічы Ганц. 5. Збіваць масла. *Даўней масла калатовачкай калацілі.* Янова Рас., Лісна В.-Дзв. *Іна кожды дзень масла калоціць.* Валынцы В.-Дзв. *Масла калацілі лышкай у гаршку, а білі ў бойцы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бувала, у бутылках калацілі масла.* Кузьмічы Люб., Вецярэвічы Пух. 6. Распушваць пачаскі, кудзелю. *Кужаль чынюць, а ку-*

*дзельку калоцюць на верацяно.* Гайна Лаг. *Нада калаціць кудзелю.* Мішневічы Шум.

ҚАЛАЦЦЁ, ҚАЛАЦЁ *н.* Рэзкі боль, калаццё. *Қалаццё было ў сэрца.* Қураполле, Груздава Паст. *Қаляцё стала ў баку, не магу павярнуцца, з левага боку — то запаленя. Қалацё ў баку стаіць, не магу хадзіць. Вот мне калацё пора ў бок, калацё коля ў хлябу. Васілька ад калаця добра.* Қіралі Шчуч.

ҚАЛАЦЬБА′ *ж.* Дрыжанне. *Так смяялася, што пуп узарваўся ад калацьбы.* Қураполле Паст.

ҚАЛА′Ч I *м. кулін.* 1. Пірог, батон. *Даўней казалі калач, а цяпер — батон.* Чычалі Швянч. *Мы калач самі пяклі.* Беняконі Воран. *Як па дастачы — пяклі калачы.* Ухвала Қруп. *Қалач купіла.* Азяраны Раг. 2. *экспр.* Недапечаны, няўдалы хлеб. *Часам не ўдасца хлеп, ссядзецца на скарынку, бо не падыдзе, квасу мала ці чаго, і тады кажуць: «Ну, напякла калача!»* Бброўнікі Гарад. *Қалач — няўдалы печаны хлеб.* Грыкені Вільн. ∇ *Варона летам, сідзя на бабцы жыта, крычыць — гной, гной, а зімой, сідзя на кучы,— калач, калач!* Валынцы В.-Дзв.

ҚАЛА′Ч II *м.* Заверцень з вяроўкі ці з віткі ў форме абаранка. *З заваратні калача заварачвае і закладая аглоблю, патом перакладая, і ўжэ яна не сарвецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Скруцяць з бярозы калач і за бэльку, а за калач — крук, а за крук чаплялі вяровачкі ад калыбелі.* Вецярэвічы Пух.

ҚАЛА′Ч III *м. бат.* 1. Рагоз. *Там у балоце многа калачоў расце.* Альхоўцы Лях. 2. Насенная шышка рагозу. *Қалачы называюць, як лепяснік паспеіць, некалі падушкі рабілі.* Альхоўцы Лях. 3. Қіях кукурузы. *Қалач у кукурузя — шышка такая.* Дакудава Лід.

ҚАЛАЧА′НҚА *ж.* Трасянка, стрэсенае сена з саломай. *Қалачанкі скалаціў і карові даў.* Азяраны Раг.

ҚАЛА′ЧЫҚ I *м. бат.* Песцік, пладаносная частка сцябла некаторых раслін. *Қалачык з бапкі апшчыкваюць. Падарожнік, круглыя лісточкі і калачык на ём.* Альхоўцы Лях.

ҚАЛА′ЧЫҚ II *м.* 1. *памянш.* да к а л á ч II. *Была дзеравяна барана, у калачыкі зубы закрапляліся: калачык за калачык зашчэплены, і моцна дзяржаліся. Қалачыкі рабіліса з дзерава, з еловых дупцоў, пасля заганяно ў іх п'яць пруткоў: два ўдоўш і два ўпапярок, і заганяно зубы.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Ручка ў касе ў форме дужкі. *Ты рабіў да касы калачыка? — Можа маеш? Трэбо новага калачыка мне зрабіць.* Бброўнікі Гарад.

ҚАЛАША′ *гл.* ҚАЛО′ША

ҚАЛАШАВІНА′ *ж.* Қалашына. *Қалашавіна ў штанах падралася.* Янова Рас.

КАЛАШНЯ́ *ж.* Тое ж, што і к а л а ш а в і н а́. *Калашня ў штанах адна падралася, а другая цэлая.* Азяраны Раг.

КАЛБАТУ́Н *м.* 1. Баўтун, неаплодненае яйцо. *Усе заморкі і два калбатуны.* Граўжышкі Ашм. *Пасадзіла курыцу, і многа калбатуноў было.* Старыя Смільгіні Воран., Жыдзевічы Іўеў. *Адзін калбатун быў і дванаццаць куранятак вывілась.* Кіралі Шчуч. 2. *перан. экспр.* Балбатун. *Калбатун кажуць на таго, хто многа гаворыць. Калбатун ты! — Нігды не падумаў я, а ты гаворыш мне.* Дакудава Лід.

КАЛБАТУ́ХА *ж. кулін. экспр.* Непрыгодная для яды страва, бурда. *Кварту заціркі — калбатухі такой пан даваў.* Крэва Смарг.

КАЛБАЦІ́ЦЬ *гл.* КАЛБО́ЦІЦЬ

КАЛБО́ЦІЦЦА *незак. экспр.* Боўтацца, пялёскацца. *Што ты калбоцісся, як жаба ў лушку.* Кіралі Шчуч.

КАЛБО́ЦІЦЬ, КАЛБАЦІ́ЦЬ, КАЛБУЦІ́ЦЬ *незак.* 1. Рашчыняць. *Калбочу рошчыну, буду пячы бліны.* Жылі Іўеў. *Буду калбуціць бліны.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Замешваць. *Зацірку калбоцім.* Бакшты Іўеў. *Буду калбаціць мучаную яечню.* Гемзы Шальч. 3. Боўтаць. *Не калбуці ты мне малака!* Кіралі Шчуч.

КАЛГА́Н *м. бат.* Дуброўка. *Калган — добрае зелле, памагае ад жывата.* Багушэвічы Бярэз.

КАЛГО́С *м.* Калгас. *У калгос на работу пайду, калгос даў грошы, наш калгос багаты.* Барок Стаўб.

КАЛДАБА́НЫ *мн.* Замёрзлая гразь, груда, выбоіны. *Калдабаны на дарозе, цяшка каню.* Нізок Уздз.

КАЛДАВА́ЦЬ *незак.* Чараваць. *Тая баба калдуя.* Лоск Валож.

КАЛДО́БА *ж.* 1. Глыбокая выбоіна на дарозе. *Калдобы машынамі паразбівалі.* Груздава Паст. 2. Яма, сажалка. *Там выкапана калдоба.* Ялова Пруж. *Калдоба — сажалка такая.* Якубова Рас.

КАЛДО́БІНА *ж.* Тое ж, што і к а л д о́ б а 1, 2. *Калдобіна на дарозе, трудна ехаць, трасе.* Жылі Іўеў. *Калдобіна — яма ў каляіне.* Малахоўцы Бар. *Дарога пабіта калдобінамі.* Ёдлавічы Брасл. *Там калдобіна на санажаці, дзеці купаюцца.* Навасёлкі Свісл.

КАЛДУБЯ́НАЧКА *ж. памянш.* Дзежачка. *Была калдубяначка, раўґеню разводзілі, днішком накрывалі.* Мярэцкія Глыб.

КАЛДУ́Н I *м.* Страўнік. *Некаторыя калдуном называюць жалудок. Калдун свой напхаў, наеўся. У свіні калдун.* Баброўнікі Гарад. *Калдун чышчу, буду смажыць.* Воўкуш Ліпск.

КАЛДУ́Н II *м.* Чараўнік. *Дайней, як калдун зробіць плахое на доўгае врэмя, то шукалі знахара, каб адрабіў.* Дзяніскавічы Ганц.

КАЛДУ'Н III гл. КАЛТУ'Н

КАЛДУНЫ', КАЛДУНЭ' *мн. кулін.* Галушкі з начынкай. *І даўней калдуны варылі.* Азяраны Раг. *Калдунэ — галушкі з мясам.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *kołdun, kałdun* 'клёцка з мясам' (СВ, II, 10).

КАЛДЫКІ' *мн.* Камякі засохлага гною на поўсці жывёлы. *Карова была ўся ў калдыкох, панарастаўшы гной на кунпякох.* Лоск Валож.

КАЛДЭ'КАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць, размаўляць. *Іхнія бацькі па-ладгальскі калдэкалі.* Рагулішкі Даўг.

КАЛЕДАВА'ЦЬ *незак.* Калядаваць. *Ксёнц каледаваў па вёсцы.* Саланое Віл. *Калісьці каледавоў ксёнц.* Парэчча Гродз.

КАЛЕЖА'НКА *ж.* Сяброўка, таварышка. *Мая калежанка прышла.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *koleżanka* 'тж'.

КАЛЕ'ЙКА I, КОЛЕ'ЙКА, КУЛЕ'ЙКА *ж.* 1. Чарговасць на ўтрыманне пастуха, на выган і догляд жывёлы. *Пастух па калейцы ідзець.* Малькуны Ігн. *Наняты пастух жыве па калейцы.* Вострава Маст. *Пастух гоніць кожды дзень кароў, а яму даюць падзённіка па калейцы.* Дакудава Лід. *Падпасувалі па калейцы.* Быстрыца Астр. *Па калейцы давалі пастушка, і бялізна давалася на тыдзень. Нада даць гаці, і кашулю мушу даць.* Гемзы Шальч. *У нас калейка была памагаць пастуху.* Магуны Паст. *Цяпер па калейцы пасуць каровы, адбыў калейку — і добра.* Гемзы Шальч. *Даўно пастыр ганяў кароў, цяпер у нас калейка.* Малькуны Ігн. *Нам у панядзелак калейку гнаць. Пагнаў наш гаспадар калейку.* Кіралі Шчуч. *Зарас калейка пасці каровы.* Ракаўскія Швянч. *Калейка ў дзве нядзелі адзін рас.* Стральцы Гродз. *Калейка мая заўтра ў поля гнаць.* Крэва Смарг. *Калейка кароў пасвіць.* Беняконі Воран. *Пагнаў калейку пасвіць гаспадар.* Мсцібава Ваўк. *Нам взавтра колейку пасты.* Сіманавічы Драг. *Хутко кулейка пудходыть.* Радастаў Драг. 2. Чарга. *Стаяла ў калейцы, напарылася.* Ністанішкі Смарг. *Стань ты ў калейку! — Малады яшчэ.* Пацавічы Дзятл. 3. Ісці, рабіць па чарзе. *Адзін рас ён у кіно, другі рас я, па калейцы ідзём.* Ракаўскія Швянч. *Калейка другой лесці на печ.* Магуны Паст. *Такая калейка зубы рваць!* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *kolejka* 'чарга'.

КАЛЕ'ЙКА II, КУЛЕ'ЙКА *ж.* 1. Вузкакалейная чыгунка. *Тут калейка праходзіць праз лес, там ягад многа.* Дзяніскавічы Ганц. *Кулейка была, па кулейцы хадзіў поезд, а патом скасавалі кулейку.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *kolej żelazna* 'чыгунка', *kolejka* 'вузкакалейная чыгунка'. 2. *мн.* Кладкі. *Летам калейкі дзелаюць праз балота, як грузка.* Азяраны Раг.

КАЛЕ'ЙНІК *м.* Падпасак. *Пастух быў і калейніка давалі, бо адзін не ўпасе.* Вострава Маст.

КАЛЕ'ЙНО *прысл.* Па чарзе. *Калейно патходзяць і дарацъ маладых.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *kolejno* 'тж'.

КАЛЕ'КА I, КОЛЕ'КА, КАЛІ'КА *м.* і *ж.* Калека. *Бацька калека — без нагі.* Альхоўка Навагр. *Стэпан колека, в ёго нэма рукі.* Горск Бяроз. *Каліка, то ны хочэ і ны можэ йісты* [есці]. Дзмітравічы Кам. ∇ *Калекі большага німа, як гультай: гультаю работы німа.* Граўжышкі Ашм. *Ныма гыршого калікы за гультая. Робыть, як каліка.* Сіманавічы Драг.

КАЛЕ'КА II *ж. заал.* Мянтуз. *Калека — рыба такая. Калек там многа.* Ухвала Круп.

КАЛЕ'КІ *прым.* Калечаны. *Ён калекі на рукі.* Пацаўшчына Дзятл.

КАЛЕ'НА I *н.* і *ж.*, КАЛЕ'НІ *мн.* 1. *анат.* Каленны сустаў. *Калена пабіла крэпка.* Кіралі Шчуч. *Буду сукенку шыць так, кап калену закрыць.* Ёдлавічы Брасл. 2. У выразе: *Узяць на калені* — узяць на рукі. *Вазьмі яго на калені!* Кіралі Шчуч. *Села, кап узяць дзяцёнка на калены.* Ёдлавічы Брасл. 3. Сустаў пальца рукі. *Парэзала каля калена пальца.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Лысы, як калена. Мужыку* [мужу] *не кажы ўсей праўды, а толькі да калена.* Саланое Віл.

КАЛЕ'НА II *н.* 1. Лука. *Калена ля ракі, там коні ходзяць.* Кураполле Паст. 2. Вір, глыбокае месца на павароце ракі. *Ён купаўся і яго пацягнула ў калена.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дзе калена, там глыбока, вада выбівае, берах круты.* Азяраны Раг.

КАЛЕ'НА III *н.* Род, саслоўе. *Яна с калена багатага паходзіла, памерла ўжэ.* Альхоўцы Лях.

КАЛЕ'НІСТЫ *прым.* Звілісты. *Сінюха была каленістая рэчка, калены перарэзвалі, цяпер вады мала.* Навікі Лудз.

КАЛЕ'НЦЫ, КАЛЕ'НЦА, КОЛЕ'НЦЫ *мн.* Сучляненні ў сцяблах злакавых раслін. *Каленцы ад саломкі вяжа на нітачку.* Гемзы Шальч. *У жыце каленца на сцяблінках.* Дзяніскавічы Ганц. *Жыто ўжэ пошло ў коленцы, а потом начынае колосытыса.* Горск Бяроз.

КАЛЕ'НЬКІ *мн. памянш.* да к а л е́ н і 1. *Так балела—поўзала на каленьках.* Жодзішкі Смарг. *Стаў на каленькі.* Міратычы Карэл.

КАЛЕ'СНІК *гл.* КАЛЯСНІ'К

КАЛЕ'ТЭ *незак.* Бяліць, пабяляць. *Буду хату калетэ.* Дзмітравічы Кам.

КАЛЕ'ЦТВА, КАЛІ'СТВО *н.* Калецтва, фізічнае пашкоджанне, цяжкае раненне. *Калецтва велькае ў яго.* Кіралі Шчуч. *Ны лізь пуд молотілку, гэто ш каліство! Наробыв каліства — руку шклыныю розрізав.* Сіманавічы Драг.

КАЛЕ́ЧЫНА *м.* і *ж.* Калека. *Сын у яе калечына.* Крэва Смарг. *Ён такая калечына, нікаму нявартьі.* Гемзы Шальч.

КАЛЕ́ЧЫЦЬ *незак.* Наносіць пашкоджанні. *Асцямі лавіць рыбу не разрашалася, таму што калечылі рыбу.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *kaleczyć* 'тж'.

КАЛЕ́Я I, КУЛЕ́Я *ж.* Тое ж, што і к а л е́ й к а I, 1, 2. *Каровы пасуць усе па калеі.* Паляцкішкі Воран. *Кулеі ў магазіне не было.* Грыкені Вільн.

КАЛЕ́Я II *ж.* Дарога. *Калея абсаджана дрэвамі.* Старыя Трокі Трак.

КАЛЁДЫ *гл.* КО́ЛЯДЫ

КАЛЁНІЯ, КАЛЁНЯ *ж.* 1. Хутар. *Там далі мне калёнію з дзесяціну зямлі, калі вецер — заносіла і ўдобную зямлю, мусіў садзіць дзерава.* Лука Нараўк. *Кап было пабыўшы польска права, то вёскі нідзе п не было: усіх пагналі п на калёніі.* Асава Воран. *Мы на калёніі жылі.* Парэчча Гродз. *Там хата стаяла — знялі, у другоя места перанёс — на сваю калёнію. Як камісацыя прайшла, перайшлі да калёняў, перамерка зямлі была калёнямі.* Альхоўка Навагр. *Да нашай калёні кіламетраў пяць.* Мсцібава Ваўк. 2. Пасёлак. *Там калёнія — каля ста двароў.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *kolonia* 'пасёлак, гарадок'.

КАЛЁНЦЫ *прым.* Калючы. *Яжгур* [ёрш] *калёнцы такі.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* польск. *kolący* 'тж'.

КАЛЁСНІК *гл.* КАЛЯСНІ́К

КАЛЁСЫ толькі *мн.* Воз, павозка. *Некалі калёсы былі на дзеравяных асях. Закладаюць у калёсы каня.* Грыкені Вільн. *Калёсы — гэто воз.* Чычалі Швянч. *Запражы каня і садзісь у калёсы!* Лісна В.-Дзв. *Пагаварьі, можа, дадуць калёсы сена перацягнуць.* Асавец Віл. *Калёсы прыгнаў.* Ністанішкі Смарг. *Быў такі год — калясьмі зімой егдзілі.* Малахоўцы Бар.

КАЛЁШЫ *мн.* Галёшы. *Калёшы нада мець.* Старыя Трокі Трак. *Калёшы надзену, бо гразь на дварэ.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *kaloszy,* літ. *kaliòšai* 'тж'.

КАЛІ́ 1. *прысл.* Калі, у які час. *Калі ён ідзець? Калі ты хочаш лепей жыць: змаладá ці пат старасць?* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *злуч. умоўны. Калі пойдзем, то купім усё.* Грыкені Вільн. ◊ *Калі ласка* — выраз ветлівасці, запрашэння. *Калісьці маладусе як дадуць бохан, калі ласка, няхай прэ!* Грыкені Вільн.

КА́ЛІВА, КА́ЛЬВА, КА́ЛЬВО, КА́ЛІВО *н.* і *ж.* 1. Асобная сцяблінка, галінка гародніны і інш. *Каліва — адно сцябло чаго-небудзь.* Рагулішкі Даўг. *Вырвала каліва буракоў.* Саланое Віл. 2. Асобная расліна. *Некалькі каліў кінула маку, хай расце для пчол.* Валынцы В.-Дзв. *Дай каліва часнаку!* Гемзы Шальч. *Лёну каліва вырасла — адно семяно папала.* Саланое Віл. *За дно каліва махоркі судзілі*

*турмой за старой Польшчай.* Жылі Іўеў. *Пайду пасаджу якоя кальва.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ні зышло ні адно кальво морхвы, і ні маю свае ў гародзі.* Верхлессе Крын. *Рэдко дзе кальво гуркоў сышло.* Старое Сяло Зэльв. *Усяго можа быць кальво: і лёну кальво, і жыта кальво.* Стральцы Гродз. 3. Націна аднаго клубня. *Адно каліва вырваў, паглядзеў, якая бульба.* Кураполле Паст. *Каліва бульбы вырваў.* Ухвала Круп., Палік Барыс. *Каліва бульбы ці куст капаюць.* Жодзішкі Смарг., Галубы Маст., Саланое Віл. *Я вырвала адно каліва і паглядзела, ці велька картофля.* Кіралі Шчуч. 4. *перан.* Малая колькасць, трошкі чаго-н. *Дай мне хоць каліва маку!* Якубова Рас. *Дай каліва мукі і соды!* Гайна Лаг. *Кальво то — то маленько, малая часць чаго-небудзь.* Смаляніца Пруж. ◊ *Да каліва* — усё чыста, да нітачкі. *Немцы да каліва ўсё забралі!* Гайна Лаг.

КАЛІВА′ *ж.* Выбоіна, каляіна. *Упаў у каліву — і не паднімуся.* Мішневічы Шум.

КАЛІ′ЕТА *гл.* КАЛІТА′

КАЛІЗАВА′ЦЬ *незак.* Прышчэпліваць. *Зрэзуюць маладое очко з лісточком, зрэзуюць кару і засаджуюць за кару, як лісточак ападзе, то прымецца. Калізуюць у серпню.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *okulizować* 'тж'.

КАЛІ′КА *гл.* КАЛЕ′КА I

КАЛІ′НА *ж. бат.* Каліна. *Каліна горкая.* Гемзы Шальч. *Каліна, а называюць яшчэ пуцінас.* Чычалі Швянч. *Каліна ў леся расла.* Старыя Смільгіні Воран. *Куст каліны.* Кураполле Паст.

КАЛІ′НАВЫ *прым.* Які мае адносіны да каліны. *Калінавы цвет ад жалутка п'юць.* Валынцы В.-Дзв. *Калінавае галье з ягадамі ламаюць.* Дзяніскавічы Ганц.

КАЛІСНЯ′ *ж.* Станок для вырабу колаў. *Колісня была нацягваць абады, як рабілі колы.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАЛІ′СТВО *гл.* КАЛЕ′ЦТВА

КАЛІ′СЬ, КО′ЛІСЬ, КО′ЛЕСЬ, КО′ЛЫСЬ *прысл.* Некалі, даўней. *Каліcь хлеп чорны з мякінаю елі.* Парэчча Гродз. *Каліcь былі курныя хаты.* Паляцкішкі Воран. *Каліcь клумпі насілі.* Стральцы Гродз. *Каліcь ваўкоў было многа, прыходзілі к нам у вёску.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каліcь страхі то там, то там запынялі.* Мсцібава Ваўк. *Колісь місачка дзераўляна була.* Кузьмічы Люб. *Колісь хадзілі на кірмаш.* Дзяніскавічы Ганц. *Колісь тата наш казаў.* Азяраны Раг. *Колісь я ў Слабадзе дзяжурыла.* Вецярэвічы Пух. *Колісь што песень, танцаў было! Колісь продаў волы ды ў банк грошы несе.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Колісь огнівом красалі огонь.* Смаляніца Пруж. *Колісь амбарчыка на збожжэ клеттю называлі.* Горск Бяроз. *Колесь мы спалі на палатёх.* Дзмітравічы Кам.

*Я колысь малы на пэчы заблудыв: усэ стэна, стэна і комын.* Брады Пруж.

ҚАЛІ'СЬНЕЙШЫ, ҚАЛІ'СЬНІЙШЫ *прым.* Даўнейшы, мінулы. *Як калісьнейша вайна была, я помню.* Навасёлкі Свісл. *Қалісьнійшы жэншчыны спадніцы доўгія насілі. Қап калісьнійшыя кармы сёнешняй карові даў, то яна не панюхала б.* Мсцібава Ваўк.

ҚАЛІ'СЬЦІ, ҚАЛІ'СЬЦЯ *прысл.* Тое ж, што і к а л і с ь. *Қалісьці бабы пабяруць дзяцей і цягнуцца на поля жаць, а цяпер добра бабам, ні трэба насіцца. Қалісьці і гнаілі поле, і не так расло, як цяпер.* Стральцы Шальч. *Қалісьці было і вашэй, і плюскаў, і тараканаў.* Малькуны Ігн. *Қалісьці дома раджалі, роддом па дамох быў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Қалісьці не былі такія багатыя людзі, як ціпер.* Қаўняны Гродз. *Қалісьці не прынаглялі дзяцей хадзіць у школу. Қалісьці жыта вязалі ў снапы, тэрас камбайнам жнуць.* Гемзы Шальч. *Қалісьці ён быў зрабіў граблі, а цепер ужэ не ўмее.* Қрынкі Қрын. *Қалісьці ярмо ложаць на вала і гаруць памаленьку.* Қудзялянцы Шальч. *Қалісьці мяне мама ў восем нядзель пасадзіла.* Навасёлкі Свісл. *Қалісьці казалі: «Бонду хлеба спякла».* Парэчча Гродз. *Не толькі калісьці, а і тэрас робяць так.* Грыкені Вільн. *Қалісьця не так пяклі.* Ракаўскія Швянч.

ҚАЛІТА', ҚАЛІ'ЕТА *ж.* Сумка, кашалёк. *Қаліта была на грошы — такі кашалёк.* Смаляніца Пруж. *Ціелу каліету грошы прынюос.* Қурашэва Чыж.; *параўн.* руск. *калита* 'тж'.

ҚАЛІ'ТҚА I *ж. памянш.* да к а л і т а́. *Қалітка — мяшочак, у якім насілі крэсіва.* Тухавічы Лях.

ҚАЛІ'ТҚА II *ж.* Брамка. *Хата стаіць, а там ні коваратаў, ні каліткі.* Бброўнікі Гарад.; *параўн.* руск. *калитка* 'тж'.

ҚА'ЛІЎЦА, ҚА'ЛЯЎЦА *н. памянш.* да к а́ л і в а 1. *Адно каліўца буракоў вырвала с травой.* Груздава Паст. *Лічаныя каляўцы засталіся агуркоў.* Саланое Віл.

ҚАЛІ'ЎЯ *зб. н.* Націна бульбы. *Каліўя добрая ў бульбы.* Асавец Віл.

ҚА'ЛІЦЦА *незак.* Апаражняцца. *Нетрывалы конь часта каліцца, брасаіць галкі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ҚАЛІ'ЦЬ *незак.* Қалоць, сціскаць. *Так напалохалі мяне, аж сэрца каліць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Чую, як сэрца каліць.* Альхоўка Навагр.

ҚАЛІ'ШТА *прысл.* Қалісьці. *У Хатавічах была калішта цэрква.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ҚАЛІЯ' *гл.* ҚАЛЯЯ'

ҚА'ЛҚА *ж. заал.* Галка. *Қалка да вароны падобна, толькі меншая. У нас поўна гэтых калак.* Парэчча Гродз. *Қалка — мала, варона — велька.* Воўкуш Ліпск.; *параўн.* польск. *kawka* 'тж'.

КАЛКО'С *гл.* КАЛХО'З
КАЛКО'ЗНІК *гл.* КАЛХО'ЗНІК
КАЛКО'ЗНЫ *гл.* КАЛХО'ЗНЫ

КАЛМА'ТЫ *прым.* 1. Касматы. *У нас сабака калматы, з доўгай поўсцю.* Малахоўцы Бар. 2. Аброслы валасамі. *Ходзіць калматы, не патстрыжэцца.* Альхоўцы Лях.; *гл.* к а м л а́ т ы.

КАЛМА'ШКА *гл.* КАЛАМА'ШКА

КА'ЛНО *прысл.* Гразка. *Кално кала лугу. Як дошч — кално на дварэ.* Вострава Маст. *Кално, ногі страгнуць.* Номікі Бабіц.

КА'ЛНЫ' *прым.* 1. Гразкі. *Дарога ка́лная, цяшка ехаць.* Стральцы Гродз. *Кална́я дарога.* Вострава Маст., Рыбчына Віл. 2. Камяністы. *Ка́лна дарога праз горачку.* Старыя Смільгіні Воран.

КАЛО'ДА *ж.* 1. Спілаванае тоўстае дрэва, бервяно. *Зваліў калоду і парэзаў на карочшыя броўны.* Паляцкішкі Воран. *Калода — дзеравіна бальшая, зрэзаная, спіленая. От, тоўстая калода.* Альхоўцы Лях. *Калода — спіленае дзерава, катора ляжыць.* Дзяніскавічы Ганц. *Калода, а з калоды два аполкі.* Азяраны Раг. *Калода здарова, калода гнілая.* Дзяніскавічы Ганц. *Мой свёкар казаў, што даўней людзі гнілую калоду елі.* Саланое Віл. *Калода — браўно, таўшчынёй трыццаць цаляў і больш. Плытнік спрытны пераедзе на калодзе рэку.* Мсцібава Ваўк. *Даўней ездзілі ў калоды — вазілі лес да ракі, на берагох клалі.* Бакшты Іўеў. *Як рубяць хату: камені ложыш, а на камені — калоды, так робяць і так рабілі.* Азяраны Раг. 2. Вулей. *Былі такія драўляныя калоды, на дрэва прывяжа высока, прывязка была, пшчолы ў калодах гнязд зробяць.* Грыкені Вільн. *У калодах пшчолы вяліся.* Судэрва Вільн. *У калодах былі пчолы.* Саланое Віл. 3. Сям'я пчол, адзінка пры лічэнні сем'яў пчол. *У нас было дзве калодзе пчол.* Дзяніскавічы Ганц. *У нас тры калоды пчол было — начоўкамі мед бралі. Мае пчолы ў калодах, штук пятнаццаць калот.* Саланое Віл. 4. *ткац.* Навой у кроснах. *На калоду нада накруціць пражу, а на другі — палатно.* Навікі Лудз. ∇ *Пад ліжачу калоду вада ні пацячэць.* Кураполле Паст.

КАЛО'ДАЧКА I *ж.* 1. Ручка ў нажы. *Калодачка ў сталовых нажах, у складаных — тронкі.* Рыбчына Віл. 2. Стаўпец у граблях. Янова Рас. *Калодачка ў граблях, у якую ўбіваюцца зубы.* Пасіене Лудз. 3. Круглая качалка. *Калодачкай апстукаеш трупку кужалю.* Рагулішкі Даўг.

КАЛО'ДАЧКА II *ж. заал.* Божая кароўка. *У нас называюць калодачка, а божая кароўка — красненькая ў зямлі.* Дакудава Лід.

КАЛО'ДАЧКІ *мн.* Пянеўе ў птушак пасля ліняння. Дакудава Лід.

КАЛО'ДЗДЗЯ *зб. н.* Бярвенне. *І цяпер калодздзя знаходзім у рэчцы, там пні знаходзілі тоўстыя — і ўдзесяцярых не апшчэпіш.* Саланое Віл.

КАЛО'ДЗЕЗЬ, КАЛО'ДЗЯСЬ, КОЛО'ДЭЗЬ *м.* Калодзеж. *С сямі калодзезёў вада.* Баброўнікі Гарад. *Калодзясь у нас опчый.* Вязынка Маладз. *Чэрпая ваду ў калодзясі.* Альхоўка Навагр. *Калодзясе е.* Дзяніскавічы Ганц. *У калодзясёх няма вады.* Альхоўцы Лях. *Былі зробілі калодэзя.* Смаляніца Пруж.; *гл.* ДАБМ, карта № 241.

КАЛО'ДЗІСЬ *м.* Укладка дроў квадратнай формы. *Дрова кладуць у каладзісе.* Міратычы Карэл.

КАЛО'ДЗЯСЬ *гл.* КАЛО'ДЗЕЗЬ

КАЛО'ДКА, КАЛО'ТКА *ж.* 1. Апорны слуп. *Некалі будынкі на калодках ставілі.* Саланое Віл. 2. Кароткі адрэзак тоўстага бервяна, на якім сякуць што-н. *На дварэ калотка, што дровы рубаць.* Гемзы Шальч. *Сякера ўбіта ў калодцэ.* Беняконі Воран. *Калотка, на ей зачэшыш кол.* Малькуны Ігн. *Калотка — дзе дровы шчапаць.* Пасіене Лудз. *Дрова на калотцы сякуць.* Альхоўцы Лях. *На калоцца дрова коляць.* Дзяніскавічы Ганц. *На калотцы дрова рубаюць.* Верхлессе Крын. 3. Нерасшчэплены кругляк дроў. *Дровы парэжуць на калоткі, толькі трэба перашчапаць.* Гемзы Шальч. 4. Вулей. *Каліські улы калоткамі называлі.* Саланое Віл. *Калотка заменяла ульё.* Альхоўка Навагр. *Калотка лежаковая на козліках стаяла.* Бакшты Іўеў. *Спрадвеку калотку ставілі для пчол.* Данілавічы Дзярж. *Для пчол е калотка, у ёй дуплё выразалі, выдоўбавалі, устаўлялі дно, дзірка з боку.* Альхоўцы Лях. 5. Ступіца ў коле. *От коло: тут вобад, спіцы, шына, калодка.* Малахоўцы Бар. *Калотка ў коле аблягае ось.* Быстрыца Астр., Дакудава Лід., Рыбчына Віл. *У калотку ўсаджваяцца букса.* Жодзішкі Смарг. *З бярозы калоткі ў калёсы робяць.* Альхоўцы Лях. 6. Капыл. *Вытачыць нада калотку на боты.* Гемзы Шальч. *Шэўска калотка.* Баброўнікі Гарад.

КАЛО'ЖЫ *гл.* КАЛО'ШЫ I

КАЛО'ЙША *гл.* КАЛО'ША

КАЛО'К *м.* Кол. *Паміж пален калкі заганялі.* Беняконі Воран. *Плот гародзяць і заганяюць калкі.* Гемзы Шальч.

КАЛО'П *гл.* КЛОП

КАЛО'ПЛІ *мн.* Каноплі. Палік Барыс.

КАЛО'СЬЕ *зб. н.* Калоссе. *Дзеці калосье збіралі.* Дзяніскавічы Ганц.

КАЛО'ТКА I *гл.* КАЛО'ДКА

КАЛО'ТКА II *ж. крав.* Клін, які ўстаўляецца ў рукаў. *Дайней, як кроілі кашулі з палатна, то калотку ўстаўлялі ў*

*рукавы, патклатку на плечы і цвіклю пат паху.* Вострава Маст.

КАЛО́ЦЦА *незак.* Бадацца. *Каровы пачалі калоцца, скаціна колецца.* Рыбчына Віл., Дакудава Лід., Альхоўка Навагр.

КАЛО́ЦЬ I *незак.* 1. Бадаць. *Карова рагамі пора і коля.* Быстрыца Астр. 2. Забіваць. *Коляць кабана.* Старыя Трокі Трак. *Парсюка коліць на поўнаці і на віташку.* Рагулішкі Даўг. *Адзін не заколіш свіне.* Парэчча Гродз. *Ён свіня добра коля.* Лоск Валож. *Свіня колям.* Альхоўка Навагр. 3. *безас.* Адчуваць востры боль. *Аш у вухо коліць.* Валынцы В.-Дзв.

КАЛО́ЦЬ II *незак.* Шчапаць. *Трэ калоць дрова. Некалі хаты крылі доскамі, доскі калолі.* Дзяніскавічы Ганц. *Калоць дровы, лучыну секці.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КАЛО́ЧАК *м. памянш.* да к о л 1. *Зрабі мне калочак цяля навязаць!* Міратычы Карэл. *Мы былі згарэўшы: калочка не было на двару, вышла — як стая.* Альхоўцы Лях.

КАЛО́ША, КАЛО́ЙША, КАЛАША́ *ж.* Тое ж, што і к а л а ш а в і н а́. *Адна калоша ў портках падралася, а другая цэла.* Кіралі Шчуч. *Калошу забрудзіў.* Баброўнікі Гарад. *Калойша падралася ў штанах. Укруцілася калойша ў ланцух — і я ўпала на цэмант.* Старыя Смільгіні Воран. *Парвалася калаша гацей.* Гемзы Шальч. *Адна калаша штаноў.* Ахрэмаўцы Брасл., Рудня Астравітая Чэрв. *Грошы складаў у калашў.* Граўжышкі Ашм. *Нашто ты калошы пазакасваў?* Верхлессе Крын.

КАЛО́ШКА *ж. памянш.* да к а л о́ ш а. *Калошка ў штанах парвалася.* Індра Красл.

КАЛО́ШКАЦЦА *незак. экспр.* Корпацца, марудзіць. *Што ты там калошкаешся?* Пацаўшчына Дзятл.

КАЛО́ШКІ I *мн. памянш.* да к а л о́ ш ы I. *Калошкі наложэ!* Дзмітравічы Кам.

КАЛО́ШКІ II *мн. бат.* Шампіньёны. *Калошкі жаўтаватыя, як сапраўдныя калошкі, то ўкусныя.* Пацаўшчына Дзятл.

КАЛО́ШНІ *мн.* Калошы (у штанах). *Калошні ў штанах падраліся.* Азяраны Раг.

КАЛО́ШНІК *м.* Паветка. *Калошнік — як андрынка прыкінута на дрова.* Нізок Уздз.

КАЛО́ШЫ I, КАЛО́ЖЫ *мн.* Галёшы. *Купіла новыя калошы.* Альхоўка Навагр. *Ступіўся ў каложы, у каложах і пабех.* Ракаўскія Швянч.

КАЛО́ШЫ II *мн.* Тое ж, што і к а л о́ ш н і. *Цяпер шырокія калошы ў штанах.* Гемзы Шальч.

КАЛТУ́Н, КАЎТУ́Н, КАЛДУ́Н *м.* 1. *мед.* Каўтун. *Калтун скруціць валасы ў камяк. Калтун насілі, як адвісня, тады адразалі.* Гемзы Шальч. *Некалі казалі: што як калтун сав'еццa — астрігаць нельзя.* Рагулішкі Даўг. *Калтун гады*

*тры насіла, цяпер лечуць, а дайней шаптун ваду давай.* Валынцы В.-Дзв. *Калтун нейкі быў, яго запускалі.* Магуны Паст. *Калтун сплёўся.* Жылі Іўеў. *Валасы саб'юцца ў калтун і атрасце, яго атрэзаць і трэба несці закапаць, не аглядаючыся.* Каўняны Гродз. *Хварэя калтуном.* Рыбчына Віл. *Кайтун — то такі кумяк валасоў, што неможно яго расчасаць, абрэзаць, бо ўпадзе ў мозгі — і памрэш. Мусі, нячыстая сіла вяжа гэтого кайтуна.* Баброўнікі Гарад. *Кайтун збіўся.* Лука Нараўк. *Стаў кайтун крэпацца, яна і запусціла яга.* Беразіно Докш. *Кайтун у йіе.* Мсцібава Ваўк. *Мела дзеўка калдун: салдаты спужалі — і калдун стаў.* Лайпушкі Ігн. *Калдун звіўся.* Мярэцкія Глыб. *Калдун звіўся, бываіць, і рукі пакруціць.* Кураполле Паст. *Калдун у галаве.* Пацаўшчына Дзятл. *У яе цёткі збіліся валасы ў калдун, што шапка вісела. Казалі, што калдун нельзя зразаць, як зрэжаш — здурэеш.* Кіралі Шчуч. 2. Жмут валасоў, які выкарыстоўваецца для прычоскі. *Калтун, як шапка, паткладала пад валасы, ён знімаўся.* Саланое Віл. 3. *перан.* Наўмысна зробленая ў жыце закрутка з каласоў са злым намерам. *Дайней ў жыця нехта калдун завяжа.* Мярэцкія Глыб. *Калдун закруцілі ў жыці.* Лісна В.-Дзв. *Нехта начараваў: калдун зрабіў у жыця. Некалі казалі: калдун у жыця, ні чапай калдуна, нада яго абжаць, нехта пакалдніў.* Мярэцкія Глыб. 4. *перан.* Пакручанае бурай збожжа. *Віхор паклаў жыта і павіў у калдуны, і сярпом не звернеш.* Міратычы Карэл. 5. *бат.* Амяла. *Калтун у бярозе бывая.* Гемзы Шальч. ∇ *Ты прыстаў да мяне, як калтун да галавы.* Старыя Смільгіні Воран.

КАЛТУ'Я *ж.* 1. Біч і цапільна ў цэпе. *Калтуя ў цапу, чым б'юць.* Жодзішкі Смарг. *У цапу калтуя, біяк да яе прывязаны.* Крэва Смарг. 2. Таўкач. *Калтуя — палка з булдавешкаю, ёю картофлю таўчом свіням.* Кіралі Шчуч. 3. Палка, палена. *Дай мне гэту калтую, я яго сцігану! Я гэтаю калтуёю лупіла іх.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *keltojà* 'тж' (АЛМ, 116).

КАЛТЫ'ГА *м.* і *ж. зневаж.* Хто неахайны, брудны. *Пашла калтыга, абробленая, забрынданая. Калтыга ты халерны!* Баброўнікі Гарад. *Калтыга — неахайная кабета.* Яцаўляны Сідр.

КАЛТЫ'ЖНІЦА *ж.* Тое ж, што і к а л т ы́ г а *ж. Калтыжніца — гэто нячыстая жанчына.* Баброўнікі Гарад.

КАЛУБЕ'ЛЬ, КАЛЬБЕ'ЛЬ *ж.* 1. Калыска. *Дайней калубель была з лыка сплецена: чатыры вяроўкі, увярху пружына і за крук, а круком — за цвік, цвік убіваўся ў бэльку. Калубель бралі на поля, як ішлі жаць. Была і парцяная калубель, абцягнута зрэбнінай.* Кіралі Шчуч. *Калубель — у ёй лук і скабы запляtаюць.* Мсцібава Ваўк. *Калубель вісяшча, часцей пплялі з лазы і шылі з палатна, у поля бралі.* Навасёлкі Свісл. *Калубель і з драчкі пплялі.* Міратычы Карэл. *Калубель*

*і сошкі брали ў поля.* Рудня Астравітая Чэрв. *Бало, калубель на плечы — і пашла касіць.* Кузьмічы Люб. *Калубель з цапкамі бралі на поля і вешалі.* Мачаск Бярэз. *Вісіць у хаці калубель.* Якубова Рас. *Кальбель вісела ў хаце.* Тухавічы Лях. *Кальбель — вісела, а калыска — стаячая.* Дзяніскавічы Ганц. 2. у знач. *прысл. скасіць калубелямі.* Няроўна. *Пакасіў калубелямі жыто, авёс.* Номікі Бабіц.; *параўн.* руск. *колыбель* 'калыска'.

КАЛУБЕ'ЛЬКА *ж. памянш.* да калубе́ль 1. *Было так: забяруць того дзіця да тэчкі, распаструць тые калочкі, тую калубельку павесяць на берагу.* Баброўнікі Гарад.

КАЛУ'ГАВІНА *гл.* КАЛЮ'ГАВІНА

КАЛУ'ЖА *ж.* Лужына. *Калужа стаіць.* Жылі Іўеў. *Жабы па калужах водзяцца.* Новікі Гродз.

КАЛУ'Н *м.* Сякера. *Калуном тоўстыя калоды рассячэш.* Беразіно Докш. *Калуном добра дровы калоць.* Рагулішкі Даўг., Багушэвічы Бярэз., Рудня Астравітая Чэрв.

КАЛУПА'ЦЦА, КАЛЫПА'ЦЦА *незак.* Корпацца, марудна рабіць што-н. *Я старая цэлы дзень калупаюся пры хаці.* Заполле Гродз. *Што ты там калупаесся?* Азяраны Раг. *От што ш робіць, ні робіць, то гавораць калупаецца.* Баброўнікі Гарад. *Што ты там калыпаісся цэлы дзень?!* Едлавічы Брасл. *Ня хоча калупацца.* Солы Смарг.

КАЛУПА'ЦЬ, КАЛУПА'ЦІ *незак.* 1. Аддзяляць часткі ад цэлага. *Хлеб ня рэжыцца, калупаю і ем.* Лісна В.-Дзв. 2. Здзіраць. *Ні калупай струпа, а то й зноў будзя кроў цякла!* Верхлессе Крын. *Сядзіць і нос калупае.* Азяраны Раг. *Будэ носа колупаці.* Смаляніца Пруж.

КАЛХО'З, КАЛХО'С, КАЛКО'С *м.* 1. Калгас. *Калхоз тут стварыўся.* Швэды Вільн. *У калхозя ўсе робім.* Старыя Трокі Трак., Ністанішкі Смарг. *Кароў у калхозе многа ёсць.* Груздава Паст. *Наш калхос у добрым месця.* Лоск Валож. *Яна запісалася первая ў калхос.* Кураполле Паст. *Косяць у калхос.* Груздава Паст. *Пашоў касіць у калкос.* Парэчча Гродз. 2. *перан.* Калгаснікі. *Цэлы калхос сабраўся.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* руск. *колхоз* 'калгас'.

КАЛХО'ЗНІК, КАЛКО'ЗНІК *м.* Калгаснік. *У Судэрве калхознікі, там калхоз.* Швэды Вільн. *Калхознікі былі на полі.* Груздава Паст. *Мы тут усе калкознікі.* Старыя Смільгіні Воран., Кураполле Паст.

КАЛХО'ЗНЫ, КАЛКО'ЗНЫ, КОЛХО'ЗНЫ *прым.* Калгасны. *На калхознай зямлі жыў.* Кемялішкі Астр. *Калхознае жыта за дарогай.* Парэчча Гродз. *Калхозная поля аралі.* Кураполле Паст. *Я калкозныя мяшкі латала.* Мярэцкія Глыб. *Колхозны двор відзён.* Смаляніца Пруж.; *параўн.* руск. *колхозный* 'тж'.

КАЛХО'С *гл.* КАЛХО'З

КАЛЫВА'ТЫ *прым.* Каляны. *Даўней калыватая палатно было, усё цела паабразаюць гэтымі рупцамі, гэтымі штанамі калыватымі ногі сатрэ.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

КАЛЫВА'ЦЦА, КАЛЫТА'ЦЦА *незак.* 1. Хістацца. *Калываецца зуп.* Галубы Маст. *Вазьму зуп пальцам — ён і калываецца.* Кіралі Шчуч. *Зуп калытаецца.* Дакудава Лід. *Зубы калываюцца.* Малахоўцы Бар. 2. Вагацца. *Прыбівалі крылы да карыта, каб на вадзе не калыталася.* Граўжышкі Ашм.

КАЛЫПА'ЦЦА *гл.* КАЛУПА'ЦЦА

КАЛЫ'ПКА *ж.* Калыска. *Калыпка магла быць плецена і зроблена з дрэва.* Верхлессе Крын.; *параўн.* польск. *kolebka* 'тж'.

КАЛЫ'САЧКА *ж. памянш.* да к а л ы́ с к а 1. *Даўней калысачку зробя, трэба дзіця цягнуць на поле.* Канюкай Вільн.

КАЛЫ'СКА *ж.* 1. Тое ж, што і к а л ы́ п к а. *Вісючая калыска была.* Індра Красл. *Даўней дзяраўляная калыска вісела.* Ракаўскія Швянч. *Была калыска з дошкаў, да бэлькі вагу ўпраўлялі, вяроўкай да калыскі і да вагі прычаплялі — і калышы. Як добрая вага, то хіліцца, удол і ўверх падымая. Ці ні маеш ты якой вяровачкі да калыскі прычапіць?* Гемзы Шальч. *Калыска была анучная і плялі з жылгуцей.* Старыя Смільгіні Воран. *Калыска плеценая вісела ў хаця, а ў полі — парцяная.* Дакудава Лід. *На поля бралі лубяную калыску.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Калыска на вяроўцы, потым сталі рабіць калыску і на палу качалі.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* польск. *kołyska* 'тж'. 2. Арэлі, гушкалка. *Бывала, пойдзём на калыску калыхацца, хусткамі ногі звяжым, бо бес штаноў хадзілі.* Крэва Смарг. *Па-руску — качэлі, а па-нашаму — калыска.* Беняконі Воран. *На калысцы калыхаліся хлопцы і дзяўчаты.* Чычалі Швянч. ∇ *Посрэд хатэ мідвідь брыкае —* калыска. Дзмітравічы Кам.

КАЛЫ'СНЫЧКА *ж.* Тое ж, што і к а л ы́ с а ч к а. *Бывала, калыснычку на шнюркі — і жанеш* [жнеш] *на полі.* Быстрыца Астр.

КАЛЫТА'ЦЦА *гл.* КАЛЫВА'ЦЦА

КАЛЫ'Х-КАЛЫ'Х *выкл.* Перадача руху пры калыханні, хістанні. *І цяпер калыша галінка вірабейчыка: калых-калых.* Валодзькі Маладз.

КАЛЫХА'ЦЦА *незак.* 1. Гушкацца. *Добра калыхацца на калысцы.* Рыбчына Віл. *Калыхаліся на калысцы, адзін аднаго патпіхнуў, а гэты зваліўся.* Малькуны Ігн. *Зрабілі калыску і калыхаліся.* Ёдлавічы Брасл. 2. Зыбацца, вагацца. *Ня йдзі, тут струга, зямля калышыцца.* Мачаск Бярэз.

КАЛЫХА'ЦЬ *незак.* Гушкаць. *Мы калышым дзіця, як плача.* Стральцы Гродз. ∇ *Багатаму чорт дзеці калыша —* шанцуе, усё ідзе на карысць. Кузьмічы Люб.

КАЛЫ́ХВАЦЬ *незак.* Калыхаць, пакалыхваць. *Калыхвалі калыску за вочапку.* Малахоўцы Бар.

КАЛЬБЕ́ЛЬ *гл.* КАЛУБЕ́ЛЬ

КА́ЛЬВА, КА́ЛЬВО *гл.* КА́ЛІВА

КА́ЛЬВОЧКО *н. памянш.* да к а́ л і в а 4. *Дай кальвочко соды!* Ялова Пруж.

КАЛЬЧА́СТЫ *прым.* Калючы. *Провалакі кальчасты.* Швэды Вільн.

КАЛЬЧЭ́Й *прым. выш.* Больш калючы. *Кальчэй за асота тэй дзядоўнік.* Мішневічы Шум.

КА́ЛЬЯ *ж. бат.* Грыб-парасонік стракаты. *Калья высокая расце, яна смашная.* Баброўнікі Гарад.

КАЛЭ́БУХ *м. зневаж.* Таўстун. *Кажуць калэбух на таго, хто тоўсты.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАЛЭ́БУШЫХА *ж. зневаж.* Таўстуха. Рудня Астравітая Чэрв.

КАЛЮ́ВІНА *гл.* КАЛЮ́ГАВІНА

КАЛЮ́ГА *ж.* 1. Каляіна. *Калюга выбіваецца колам.* Крэва Смарг. *Разаб'еш коламі — калюга.* Палік Барыс. *У калюгу воз убіўся — і ні з места.* Беразіно Докш. *Вада ў калюгах стаіць.* Лоск Валож. *У калюгах вады поўна.* Беразіно Докш. 2. Лужына. *Дошч велькі падаў, аж калюгі стаяць.* Навасёлкі Свісл. *Дошч прайшоў, пасталі велькія калюгі.* Міратычы Карэл. 3. Гразкае месца, сенажаць каля рэчкі. *Калюга — сенакос такі, граскае места, паўз рэчку — скрось калюга.* Ісерна Слуц.

КАЛЮ́ГАВІНА, КАЛУ́ГАВІНА, КАЛЮ́ВІНА *ж.* Тое ж, што і к а л ю́ г а 1. *Калюгавіна — дзе колы ідуць, дзе колы праехалі — калюгавіны.* Жодзішкі Смарг. *Калюгавіны — дзе колы цёнгля ў адным месці ідуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Вада стаіць у калюгавінах.* Рыбчына Віл. *Там дрэнна ехаць— калюгавіны натта глыбокія, аш калотка да зямлі датыкаецца.* Гемзы Шальч. *Дарога граская, у калювінах вада.* Быстрыца Астр. *У калугавінах вада стаіць.* Граўжышкі Ашм.

КАЛЮ́ГАВІНЬКА *ж. памянш.* да к а л ю́ г а в і н а. *Калюгавінькі ёсць, вада бяжыць.* Солы Смарг.

КАЛЮ́ЖЫНА *ж.* Тое ж, што і к а л у́ ж а. *Во калюжына, вады многа.* Крэва Смарг. *Калюжына — лужа пасля дажджу.* Малахоўцы Бар.

КАЛЮ́ЖЫНЫ *прым.* Які мае адносіны да к а л ю́ ж ы н а. *Калюжыная вада — яна мутная.* Крэва Смарг.

КАЛЮ́ЖЫТІ *незак. экспр.* Мыць абы-як бялізну ў бруднай балотнай вадзе. *Мый добрэ біліё, а то оно калюжыш!* Курашэва Чыж.

КАЛЮКЕ́, КАЛЮКІ́ *мн.* Ігліца хвойных дрэў. *Калюке яловыя, хваёвыя прывозілі.* Міратычы Карэл. *Калюкі — калючкі з елкі і хвоі.* Семежава Кап.

КАЛЮ'ХА' *ж.* Калючка, стрэмка. *Абрэзвала слівы і калюха́ ўкалола руку, рука баліць. Забіла калю́ху ў палец з дзічак груш.* Мсцібава Ваўк.

КАЛЮ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і калю́ха́. *Загнала калючку з розгі ў нагу.* Альхоўцы Лях.

КАЛЮ'ЧКІ *мн.* Тое ж, што і калюке́. *Калючкі хвоі і ёлкі апсыпаліся.* Ёдлавічы Брасл.

КАЛЮ'ЧЫ, КАЛЮ'ШЧЫ *прым.* 1. Бадлівы. *Калючая карова, яе не падоіць чужы.* Пацаўшчына Дзятл. *Калючая карова на дзяцей можа накінуцца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Калючая карова з рагамі бяжыць біцца да чалавека.* Азяраны Раг. *Карова калюшча.* Дакудава Лід. *Наша карова ні калюшча.* Дзяніскавічы Ганц. *Натта калюшча карова, і да людзей соўвалася, прадалі яе.* Кіралі Шчуч. 2. Калючы. *Калючы асот.* Беразіно Докш. *Калючая трава.* Мярэцкія Глыб. *Мята калючая.* Саланое Віл. *Асата́ — трава калюшчая.* Ёдлавічы Брасл. *Калюшчая трава.* Быстрыца Астр., Малахоўцы Бар. *Чартапалох калюшчы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вы ўлезлі на калюшчы дрот.* Сакаляны Сакол., Номікі Бабіц.

КАЛЮ'ШАЧКІ *мн. памянш.* да калю́чкі. *Шыпулі — калюшачкі з лесу.* Нізок Уздз. *Калюшачкі з ёлкі.* Ракаўскія Швянч.

КАЛЮ'ШКА I *ж.* Тое ж, што і калю́ха́. *Забіла ў нагу калюшку.* Каўняны Гродз.

КАЛЮ'ШКА II *ж. заал.* Колюшка. *Калюшка — рыба такая, яна па ручаёх, там яе аш чорна, яе рыбы не чапаюць, бо яна калючкі мая.* Быстрыца Астр.

КАЛЮШКЕ', КАЛЮШКІ' *мн.* 1. Тое ж, што і калюке́. *Калюшке асыпаюцца з хвайнэ, скуйнэ.* Каўняны Гродз. *Калюшкі—лісці хвоі, елкі.* Чычалі Швянч., Ракаўскія Швянч. 2. Калючкі траў, хмызнякоў. *Калюшке на асоце калючыя, на шыпшыне.* Вострава Маст. 3. Асцюкі ў аўсянай муцэ. *Рашчыніць кісель с калюшкамі, а тады на рэшата цэдзіць.* Дзяніскавічы Ганц. 4. Стрыжні пер'я. *Як пер'я скубуць — калюшкі астаюцца.* Чычалі Швянч.

КАЛЮ'ШЧЫ *гл.* КАЛЮ'ЧЫ

КАЛЯ', КАЛА', КО'ЛО *прыназ.* з *род.* Каля. 1. Указвае на прасторавыя адносіны. *Ён каля Вемпіліса жывець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Каля лазні ходзім.* Груздава Паст. *Белае каля чорнага баюся вешаць — запэцкае.* Лоск Валож. *Каля гразі ішла.* Граўжышкі Ашм. *Каля нізу спадніцы шчотачку прышывалі.* Ракаўскія Швянч. *Кала нас бліска жыве.* Паляцкішкі Воран. *Гумно кала хаты стаяла.* Асавец Віл., Стральцы Гродз. *Кала берагу беглі.* Беняконі Воран. *Кала мосту сядзелі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кала печы стаіць, тупаў кала лавы.* Жодзішкі Смарг., Стральцы Гродз., Галаўні Воран. *Коло Гайнаўкі ест Пудляшэ.* Лука Нараўк.

*Воны родыліса коло нас.* Смаляніца Пруж. *Нэ садыса тут коло стола! Коло мынэ сыдыт.* Дзмітравічы Кам. 2. Указвае на аб'ект, на які накіравана дзеянне. *Сільна многа каля льна работы.* Масішкі Красл. *Каля лёну найлепшы заработак.* Альхоўка Навагр. *Многа работы кала лёну.* Старыя Трокі Трак. *Кала свіней колькі работы.* Вялікі Краснік Пруж. 3. Для, за. *Ён каля яе старайся. Хіба цёця каля яго возьмецца.* Паляцкішкі Воран. 4. Пры. *Вам лепш — каля вас мушчына е.* Ялова Пруж. *Якая жизнь коло братоў!* Горск Бяроз. 5. У час. *Дайней ніхто і не загаварвай каля работы, рабілі моўча.* Альхоўка Навагр. 6. Выражае значэнне прыблізнай колькасці. *Яна была каля дзевяноста гадоў.* Старыя Смільгіні Воран.

КАЛЯВІ'НА, КАЛЯГІ'НА *гл.* КАЛЯІ'НА

КАЛЯДА' *ж. рэліг.* 1. Вячэра напярэдадні каляд. *Прыязджаў ксёнц на каляду. На каляду ядзяць куцю.* Баброўнікі Гарад. 2. Абрадавая песня. *На ражаство спяваюць каляду.* Баброўнікі Гарад. 3. *абрад.* Прадукты, што дарылі ў час каляд. *Ксёнц, бывала, едзе па калядзе, дасі каляды, дасі грошы.* Жылі Іўеў. *Парабку бонду хлеба давалі, мяса, гароху — усё гэта называлі каляда, трэба было даваць каляду.* Апіта Іўеў. *Чаляднікy, пастуху каляду дасць, с калядой дамоў атпраўляюць.* Рагулішкі Даўг. 4. *у знач. прысл. калядою.* У час каляд. *Ён калядою радзіўся.* Вецярэвічы Пух. ∇ *Прападзі ты, паня, с калядой!* Лоск Валож.

КАЛЯ'ДКІ *мн. памянш.* да к а л я́ д ы. ∇ *Прышлі калядкі — пад'еў ды на палаткі* — пра вольны, нерабочы час. Рудня Астравітая Чэрв.

КАЛЯ'ДНАЯ *н.* Тое ж, што і к а л я д а́ 3. *Калядная давалі парапку: калбасу, сала кусок, хлеба.* Саланое Віл.

КАЛЯ'ДНІК *м.* Зграя ваўкоў у перыяд цечкі. *Тут праходзяць ваўкі, у ваўкоў каляднік бываіць.* Ністанішкі Смарг.

КАЛЯ'ДНІЦА *ж.* 1. *рэліг.* Пост перад калядамі. *Каляднiца — калядны пост, дайней каляднiцу пасцілі.* Мярэцкія Глыб. 2. Перыяд святкавання каляд. *Дайней у калядніцу ні ткуць, ні прадуць.* Лоск Валож. *Тут ідзець калядніца, трэба было гатовіцца.* Груздава Паст. 3. *у знач. прысл. калядніцай.* У час каляд. *Ехаў мужык калядніцай дамоў, а на яго ваўкі напалі.* Ваўкалатка Мядз. *Калядніцай ваўке лятаюць.* Апіта Іўеў.

КАЛЯ'ДЫ *гл.* КО'ЛЯДЫ

КАЛЯІ'НА, КАЛЯВІ'НА, КАЛЯГІ'НА *ж.* 1. Тое ж, што і к а л ю́ г а 1. *Кола прарэжа — гэто каляіна.* Дзяніскавічы Ганц. *Каляіна велька выбіта.* Галубы Маст. *Каляіна тая, што адно кола ідзе.* Альхоўка Навагр. *Ат колаў слет — каляіна.* Мсцібава Ваўк. *Каляіны поўныя вады.* Кіралі Шчуч. *Вада стаіць у каляінах.* Жылі Іўеў. *У каляінах многа калу, не мож-*

магілкай. *Над магілкамі былі капліцкі, рабілі з дошчак, дзірачкі павырэзаваны.* Дзяніскавічы Ганц.

КАПЛІ'ЧКА *ж.* Тое ж, што і капліцка 1. *Там есць каплічка, нямнога дамоў асталась — хазяінаў тры.* Скрыпчына Лудз.

КАПЛУ'Н *м. кулін.* Цура. *Каплун робіш так: хлеба, потым цыбулькі накрышыш, малачка трохі; як мелі малако, то з малаком, а як не доіцца кароўка, то з вадой.* Грыкені Вільн.

КА'ПЛЯ *ж.* 1. Тое ж, што і ка́пка I, 1. *На траве каплі расы стаяць.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Трошкі. *Яна хлеба ні з'есць ні каплі.*∇ *Ён падобны да брата, как дзве каплі вады.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАПНА' *ж.* Тое ж, што і капа́ I, 1. *Віку ў копны кладут.* Крэвені Даўг. *Длінная капна сена.* Пасіене Лудз.

КА'ПНУЦЬ *зак.* Закапаць. *У глаз капнула лякарства.* Ахрэмаўцы Брасл. *Капні трошкі мне на паляц з бутылкі.* Гемзы Шальч.

КАПО'РКА *ж.* Тое ж, што і капа́йла. *Капорка капаецца, а спору рабоці нет.* Валынцы В.-Дзв.

КАПО'Т *м. жарт.* Сукеначка для дзіцяці. *Дывы, Васічка, якого я тобі капота пошыла.* Сіманавічы Драг.

КАПО'ТА *ж.* 1. Жакет, фуфайка. *Машастовыя капоты шылі.* Быстрыца Астр. *Яна хахоча, што я на куфайку кажу капота.* Крэва Смарг. 2. Халат. *Я за рубашку нашу капоту.* Азяраны Раг.∇ *Якая работа, такая капота.* Кураполле Паст.

КАПРЫ'ЗІЦЬ, КАПРЫ'СІЦЬ *незак.* Капрызіць. *Дзіця стала капрызіць.* Кіралі Шчуч. *Чаго капрысіш?!* Старыя Смільгіні Воран.

КАПРЫ'СНЫ *прым.* Капрызны. *Капрысная дзіця было.* Быстрыца Астр.

КАПРЫ'СЫ *мн.* Капрызы. *Не зважай на капрысы.* Быстрыца Астр.

КАПТА'Н, КАФТА'Н *м.* Кофта. *Каптан з плаценкі шылі.* Саланое Віл. *І каптан кужэльны с кужалю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каптан шылі с плаценка, пат талю пашыюць просценька.* Кіралі Шчуч. *Складзі чысты каптан!* Пацаўшчына Дзятл. *Трэба другі каптан класці.* Альхоўка Навагр. *Бабскі каптан пашыла.* Вострава Маст. *У нас каптан зовут. Пошла нэ мыўшыса в зморшчаному каптанэві.* Смаляніца Пруж. *Одэнь ліпшы каптан!* Дзмітравічы Кам. *На каптане пляма.* Паляцкішкі Воран. *Купіла каптан новы.* Крэва Смарг. *Памыла ў вадзе кафтан.* Гемзы Шальч. *Кафтан буду шыць.* Жылі Іўеў. *Пашыла кафтан с хлясцікам.* Дакудава Лід.

КАПТУ'Р I, КОПТУ'Р *м. устар.* 1. Жаночы галаўны ўбор. *За маей памяццю маладзіцы насілі каптуры з вушамі.* Бакшты Іўеў. *Старушкі каптуры насілі з вушамі: длінныя вушы, вышытыя галёнам бліскучым, хустка с кутасамі, а вушы ві-*

сяць. Саланое Віл. *Каптуры шылі з лепшага.* Груздава Паст. *Каптур маладзіца клала, зупчыкі прышывалі да каптура.* Баброўнікі Гарад. *І старые бабы коптуры носылі.* Брады Пруж. 2. Дзіцячая шапачка. *Каптур шылі малым дзяцём.* Магуны Паст. *Бывала, казалі: «Пашыла я свайму дзіцяці каптур».* Кіралі Шчуч.

КАПТУ'Р II *гл.* КО'ПТАР

КАПТУ'Р III *м.* 1. Пячурка пад прыпечкам. *Каптур пад печчу быў, навярху печ была намуравана, как стол.* Пасіене Лудз. *Каптур пат прыпекам быў, туды ставілі гаршкі сушыць.* Гемзы Шальч. 2. Верхняя частка коміна. *Каптур — верхняя частка печы, дзе дымаход.* Старыя Трокі Трак. *Каптур — частка коміна над печай.* Старыя Смільгіні Воран. *На каптуры клалі што-небуць, не так есць моль.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дровы ліжаць на каптуры.* Індра Красл. *Каптур высокі на печы, на каптур ускінуць можна цыбулю.* Магуны Паст. *На каптур кладзём запалкі, каб дзеці не дасталі.* Беразіно Докш. *Даўней дзяцей не пасадзяць з гасцём есці, толькі праз каптур глядзіш.* Курамолле Паст. *Цераз каптур павіснем і слухаем.* Мішневічы Шум. 3. Прыстасаванне для вентыляцыі. *Каптур бывае над плітою, кап пара сходзіла ў комін.* Баброўнікі Гарад.

КАПТУРО'К, КАПТУ'РЫК *м.* 1. *памянш.* да к а п т у́ р I, 2. *Каптурок сашыюць дзецям, каптурком звалі.* Ракаўскія Швянч. *Шылі каптурык дзіцяці на галоўку.* Гемзы Шальч. *Каптурык дзіцяці накладзе.* Бакшты Іўеў. *Трэба рубашачку і каптурык пашыць.* Саланое Віл. 2. Рэхва. *Акоўвалі дзеравяна калясо каптурыкам.* Баброўнікі Гарад.

КАПУЗІ'ЦЦА *незак.* Ганарыцца, задзіраць нос. *Яна капузілася, не хацела з ім гуляць.* Рыбчына Віл.

КА'ПУР *м.* 1. Пяхцер. *Даўней напхнуць капур сенам і едуць у дарогу.* Азяраны Раг. 2. Гняздо, у якім выводзяцца восы. *Пат страхой капур вісіць, там вядуцца восы.* Азяраны Раг.

КАПУ'СНІК I *м.* 1. *зб. м.* Лісце капусты. *Капуснік трусы, авечкі ядуць.* Ёдлавічы Брасл. *Капуснік не очэнь хацят есць каровы.* Пасіене Лудз. *Капусніку наламала свіням.* Вострава Маст. *Капуснік — ахрап'я капусная.* Рыбчына Віл. 2. *кулін.* Боршч з капусты. *Калісь у лужан маёнтак там быў, там я рабіла, гаспадыні кажа: «Капусніку вам наварыла».* Баброўнікі Гарад.

КАПУ'СНІК II *м. заал.* Бялян-капуснік. *Капуснік — белы матылёк.* Галоўні Воран.

КАПУ'СНІСКА *н.* 1. Поле, дзе расла капуста. *Козы на капусніску ходзяць.* Галубы Маст. *Капусніска — дзе расла капуста.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і к а п у́ с н і к I, 1. *Капусніска наламала карові.* Гемзы Шальч.

КАПУ'СНІШЧА *н.* Тое ж, што і к а п у́ с н і с к а 1. *Капуснішча — як высякуць капусту, поле тое.* Пацаўшчына Дзятл. *На капуснішча кароў пусцілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАПУ'СНЫ *прым.* Капусны. *Бонды пяклі на капусным лісце.* Старыя Трокі Трак.

КАПУСНЯ'К *м.* Тое ж, што і к а п у́ с н і к II. *Капусн*я*кі — матылькі белыя.* Солы Смарг.

КАПУСНЯ'НІСКО *н.* Тое ж, што і к а п у́ с н і с к а 1. *На капусняніско пускают каровы.* Лука Нараўк.

КАПУ'СТА *ж.* 1. *бат.* Капуста. *На тым выгане садзілі капусту.* Ухвала Круп. *Капуста добра расцець па ніскіх мястах.* Відаўцішкі Вільн. *Баваіць капуста кілаватая.* Ёдлавічы Брасл. 2. *кулін.* Кіслы боршч з капусты. *Капусту варылі на бет.* Гемзы Шальч. *Капуста — кіслая страва.* Грыкені Вільн. *Будэтэ есці капусту з намі?* Смаляніца Пруж. 3. Квашаная капуста. *Шэрая капуста: зялёныя лісця крошаць і квасяць, смак харошы і соль непатрэбна, і каб вы тэй квас паспыталі!* Ухвала Круп. 4. *бат.* Капытнік. *Капуста лясная ў гразі, у вадзе расце.* Бакшты Іўеў. 5. *бат.* Кісліца. *Капуста дзікая расце ў бары, яе ад залатухі настайвалі і пілі.* Вецярэвічы Пух.

КАПУСЦЕ'НЕ, КАПУСЦЕ'НЯ *зб. н.* Тое ж, што і к а п у́ с н і к I, 1. *Капусценё — ад капусты лісты.* Старое Сяло Зэльв. *Капусту сцярэбліваем і капусценя каровам аддаём.* Кіралі Шчуч.

КАПУ'СЦІНА *ж. кулін.* Боршч з капусты. *Капусціну зварыш, паеў капусціну і добра.* Саланое Віл.

КАПУСЦЯ'НІК *м.* Тое ж, што і к а п у́ с н і к I, 1. *Ідзі наламай капусцяніку!* Малькуны Ігн.

КАПУСЦЯ'НІСКА *н.* 1. Тое ж, што і к а п у́ с н і с к а 1. *Капусцяніска пераарау̃.* Галубы Маст. 2. Тое ж, што і к а п у́ с н і к I, 1. *Дай карові капусцяніска!* Вялікія Баяры Шчуч.

КАПУСЦЯ'НЫ *прым.* Тое ж, што і к а п у́ с н ы. *Капусцяныя лісты ламалі свіням.* Быстрыца Астр., Жылі Іўеў. *Капусцяныя лісты на ток* [под] *ляпаюць.* Старыя Трокі Трак.

КАПУ'ТНІК гл. КАПЫ'ТНІК

КАПЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Выдзяляць многа копаці пры гарэнні, куродымець. *Дайней запаляць капцёлку, яна натта капцела.* Мішневічы Шум. 2. *перан. экспр.* Карпець, надакучаць (пра старых людзей). *Не хачу я жыць з імі, старыкі прыедуць, капцець толькі будуць.* Валынцы В.-Дзв.

КАПЦЁЛАЧКА *ж. памянш.* да к а п ц ё л к а. *Была такая лямпа — капцёлачка.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КАПЦЁЛКА *ж.* Газоўка. *Капцёлку палілі.* Мішневічы Шум.

КА'ПЦІ *мн.* Тапачкі, вязаныя з нітак. *Трэпы з трапак ткалі, а вязаныя з нітак — капці.* Масілавічы Сл.

КАПЦІ'ЛКА *ж.* Тое ж, што і к а п ц ё л к а. *Капцілка —*

*лямпа без сцікла.* Ёдлавічы Брасл. *Лампа вісушчая — і капцілка была, карасін налівалі.* Валынцы В.-Дзв.

КАПЦІ'ЦЬ *незак.* Вэндзіць. *Ён каждый гот там капціць мяса.* Ахрэмаўцы Брасл. *Капцяць мяса.* Рагулішкі Даўг. *Калбасы цяпер копцяць некаторыя.* Малахоўцы Бар. ◊ *Грошы капціць* — збіраць, запасіць. *Грошы капціла: накопціць грошы і дом купіць, цяпер грошы не копціць — усё прадалі.* Гемзы Шальч.

КАПЦЮ'ЛАЧКА *ж.* Тое ж, што і капцёлачка. *Яна капцюлачку запаліла і давай галасіць.* Кураполле Паст.

КАПЦЮ'Р, КАБДЗЮ'Р *м.* 1. Кіпцюр. *Капцюры, якія ў птушкі.* Глівін Барыс. *У каршуна добрыя капцюры.* Рудня Чэрв. *У каршуна капцюрэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Курыца капцюрамі дрэпае і грабе.* Багушэвічы Бярэз. 2. Пазногаць. *Гэты капцюр баліць мне, абразаю капцюры.* Мярэцкія Глыб. *У мяне павырасталі кабдзюры.* Альхоўка Навагр.

КАПЦЮ'Х *м. устар.* 1. Светач. *Быў прыроблен капцюх да сцяны, і там гарэла цёска.* Вострава Маст. 2. Курная хата. *Капцюх — казалі на ўсю хату бяз коміна; уся хата была чорна, укурэўшы курная хата.* Жылі Іўеў.

КАПЦЮ'ХА *ж.* Тое ж, што і капцёлка. *Дайней казалі: «Запалі капцюху!»* Рыбчына Віл.

КАПЦЮ'ШКА *ж. памянш.* да капцю́ха. *Дайней маленькую лямпачку капцюшка звалі.* Малькуны Ігн. *Капцюшка — лямпа без шкла.* Багушэвічы Бярэз.

КАПЧО'НКА *ж.* Вэнджанае мяса. *Дайней нясеш пастуху капчонкі.* Рагулішкі Даўг. *Як зарэжым борава, пакапцім кумпяк, то будзе капчонка.* Валынцы В.-Дзв. *Капчонка — поснае мяса, сцягно.* Азяраны Раг.

КАПЧУ'К *м. памянш.* да капе́ц 3. *Капчук на гары стаіць.* Грыкені Вільн.

КАПШУ'К *м.* 1. Кісет для тытуню. *Капшук і кісет — тое ш.* Індра Красл. *Капшук з бараняй машонкі выраблялі.* Ёдлавічы Брасл. *Капшук са скуры шылі.* Дакудава Лід., Магуны Паст. *У капшуку калісь табаку насілі курцы. Капшук шылі з раменю або палатна, выраблялі з машонкі непакладанага барана.* Баброўнікі Гарад. *Капшук для табакі з машонкі барана рабілі.* Быстрыца Астр. *Курцы куплялі капшук, тытун туды напіхаяць.* Стральцы Гродз. *Капшук — торбачка для курэцкіх прылад.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Мяшочак для грошай. *У капшуку калісь насілі грошы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дайней, калі капшук грошы мець, то і чапяла пойдзя замуш* [пра непрыгожую, але багатую дзяўчыну]. Граўжышкі Ашм. 3. Папяровы пакет для ўпакоўкі. *Капшук магазінны прынясла, а ён з дзіркай.* Жодзішкі Смарг. 4. Лушпіна, у якой сядзіць арэх. *Арэхі вылушчаюць с капшукоў.* Гемзы Шальч. ∇ *Капшук гэты!* [пра дзіця]. Граўжышкі Ашм.

КАПШУЧО'К *м. памянш.* 1. Тое ж, што і к а п ш у́ к 1, 4. *Шылі капшучок з цвёрдай скуры, адзін у адзін ссуваўся беражок у беражок.* Граўжышкі Ашм. *Як паспеюць арэхі, не дзяржацца ў капшучкох.* Гемзы Шальч. 2. Жоўцевы пузыр. *У дзікіх свіней невялікі капшучок і мала жоўці.* Крэва Смарг. 3. Ячэя. *Чмель капшучок у зямлі зробіць і мёду паложыць.* Жодзішкі Смарг. 4. Ікрынка рыбы. *Рыбка выводзіцца з маленькага капшучка.* Ёдлавічы Брасл.

КАПЫ'Л *м.* 1. Драўляны брусок у полазе саней. *Робяцца капылы найлучшэ з дубу або з бярозы.* Гемзы Шальч. *Сані на капылох.* Баброўнікі Гарад. *У палозы ўбіваюцца па тры капылы.* Быстрыца Астр. *На палазы далбаюцца чатыры капылы па адну і па другую старану.* Скрудалена Даўг. *Капылы ўбівалі ў палазы.* Пасіене Лудз. *У палазы натыкана капылоў, пяць штук с каждай стараны.* Мешкінева Лудз. *Трэба ў полазе выдзярці чатэры дзіркі і ў гэтыя дзіркі загнаць капылы, зробленныя з дубовага дзерава.* Альхоўка Навагр. *На капылы накладаецца вяз, а тады намаразень.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *шав.* Капыл (калодка). *Ён шыіць боты, капылы маіць.* Гемзы Шальч. *На капыл насаджваяцца бота чы чаравіка і падбіваяцца падноскі.* Верхлессе Крын.

КАПЫЛЯ'РКА *ж.* Матыка. *Капылярка так устроена: на адзін бок зубы, а на другі — капачка.* Лісна В.-Дзв.

КАПЫ'Т *м.*, КАПЫ'ТО *н.* Капыт. *Капыт у каровы раздзеляецца, жывец міжы капытоў.* Быстрыца Астр. *Міжы капытоў у каровы ракавіна.* Дакудава Лід. *Капыт карова паўрадзіла.* Магуны Паст. *Капыт у каня, у каровы.* Сакаляны Сакол. *Капыто заламала карова.* Вострава Маст. *Капытэ ў каровы, у кабылы.* Пацаўшчына Дзятл. *Капытамы стукаіць конь — і вада плёскаіцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАПЫТКЕ' *мн. бат.* Капытнік. *Капытке натта памагаюць ад жывата, як жывот баліць.* Кіралі Шчуч.

КАПЫ'ТНІК, КАПУ'ТНІК *м.* Тое ж, што і к а п ы т к е́. *Дзве названні гэтай траве — гускі і капытнік. У балотах расла гэта трава, бывала, пойдзім па самы пояс у ваду, лясёнкай звяжам і нясом.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пашлі мы ў капытнік, я нарвала капытніку, чуць ношку прынесла. Капытнік свіням рвалі; цяпер німа.* Вецярэвічы Пух. *Капутнік мяккі, на лугох угэ ні расце—лугі высушылі.* Пасека Ст.-Дар.

КАПЫ'ЦІЦЦА *незак.* Аступацца.∇ *Конь на чатырох нагах — і то капыціцца.* Бор Пух.

КАПЫ'ЦЦА *н.* Узор на тканіне ў форме капыта. *Пяць пар асновы — і ткуць капыцца.* Стральцы Гродз.

КАПЫ'ШАЧКА *ж.* Круглая паглыбленая частка лыжкі. *Капышачка ў лошцы і цаўё.* Лісна В.-Дзв.

КАПЯ'К *м.* 1. Тое ж, што і к а п а́ I, 1. *Сена нада складаць у капешку, а хто скажыць — у капякі. Што будзім ра-*

*біць з гэтымі капякамі?*Ністанішкі Смарг. 2. Стажок дроў. *Капяк — гэта дровы, зложаныя ў стох.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Мурашнік. *Капяк — дзе жывуць мурашкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАПЯЛЮ'Ш, КАПАЛЮ'Ш *м.* 1. Капялюш. *Раньша с саломы капялюшы плялі, а цяпер гатовыя шляпы купляюць.* Ёдлавічы Брасл. *Даўней капялюшы насілі саламянныя.* Старыя Трокі Трак. *Я капалюшы мала насіла.* Солы Смарг. 2. *перан.* Верхні сноп, якім накрываюць малую ўкладку снапоў у полі. *Вінцэнты, бяры капялюшы і накрывай мэндлі!* Гемзы Шальч. 3. Абажур. *Трэба памыць у лямпі капялюш.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* польск. *kapelusz* 'капялюш'.

КАПЯЛЮ'ШНІК *м. бат.* Лопух. *Капялюшнік прыкладаюць да галавы, як галава баліць, і ат калтуна ўкладаюць.* Рыбчына Віл.

КАПЯ'НКА I *ж.* Тое ж, што і к а п а́ I, 1. *Злажылі сена ў капянкі, усяго накасіў пяць капянак.* Валынцы В.-Дзв. *У мяне накошана дзве капянкі ржышча.* Міратычы Карэл.

КАПЯ'НКА II *ж.* Драўляная ванначка. *Капянка была, выдаўбана з дрэва, у ёй дзеці маленькія купалі.* Верхлессе Крын.; *параўн.* польск. *kąpiel* 'купанне'.

КАПЯ'ШКА *ж.* Тое ж, што і к а п я́ н к а I. *Капяшка сена стаяла.* Жодзішкі Смарг., Мярэцкія Глыб. *Трава была рэткая, дзве капяшкі награблі.*Ністанішкі Смарг.

КАПЯШО'М *прысл.* Кучай, сукупна. *Даўней прышчыкі сядзяць капяшом, як надзярэ цела* [пра каросту]. Азяраны Раг.

КАРА' *ж.* Кара дрэва. *Даўней з ліпы дралі, кара лентамі аддзіраецца.* Рагулішкі Даўг. *На бярозе кару абгані! На ляшчыне кара светлая.* Грыкені Вільн. *Кара добра гарыць.* Лоск Валож. ◊ *Ліць, што з кары* — ліць, што з вядра. *Дождж ліець, што з кары.* Мішневічы Шум.

КА'РА *ж.* Пакаранне, зняволенне. *Яна гэту кару адбывала на Літве.* Гемзы Шальч. *Мо кара якая?* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *kara* 'тж'.

КАРАБА'ТЫ *прым.* Няроўны, шурпаты. *Галубэ — грыбы такія, кожа ў іх карабатая, пад нізом шэрсць, што воўна.* Пацаўшчына Дзятл.

КАРАБА'ЦІЦЬ *незак. безас. перан.* Выклікаць дрыжыкі. *Як успомню — ажно цяперака старога і то карабаціць.* Оцкавічы Паст.

КАРАБЕ'Ц *м.* Каробка, шкатулка хатняга вырабу. *Даўней карапцы былі, у карабец ніткі, іголкі клалі, а як больш — і хустачкі зложаць.* Кураполле Паст.

КАРАБЕ'ШНЫ *прым.* Тоўсты, пузаты. *Карабешная кошка ходзіць.* Азяраны Раг.

КАРАВА'Й *м. кулін. абрад.* Пірог, які пяклі к вяселлю. *Каравай рашчыняюць на малацэ, туга замесяць, робяць ланцужок, а пасярэдзіне шышачкі, к свадзьбі каравай пяклі.* Вецярэвічы Пух. *Калісь пяклі каравай, цяпер не.*∇ *Караваю, караваю — цесцечко, чатыры калені ўмесцечко.* Бабро̃ўнікі Гарад.

КАРАВА'ЙНІЦА, КОРОВА'ЙНІЦА *ж. абрад.* Жанчына, якая пячэ вясельны пірог і частуе ім удзельнікаў вяселля. *Тры каравайніцы месілі каравай.* Бабро̃ўнікі Гарад. *Як коровайніцы выходылі на высылы, то шнуройкы надэвалі.* Брады Пруж.

КАРАВА'Н *м.* Воз з высокімі драбінамі. *На караваня сена вазілі. Дайней тарантас накладайся на караван.* Мярэцкія Глыб.

КАРАВА'ЦЬ I, КАРВА'ЦЬ *ж.* Ложак. *Караваць стаяла ў хаці.* Лоск Валож. *Ідзеця, хлопцы, у сена спаць, вазьмеця дзярушку на карваці!* Літва Івян.; *парайн.* руск. *кровать* 'тж'.

КАРАВА'ЦЬ II *незак.* Караць. *Тато вас ні біў, ні каравай.* Верхлессе Крын.

КАРАВЕ'ЙШЫ *прым. выш.* да к а р а́ в ы 1. *Каравейшую хто павесіць вопінку, а хто чысцейшую.* Ухвала Круп.

КАРАВЁНА *ж. зніж.* Благая карова. *Дайней сям'я душ восім, а каравёна адна.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАРАВЁШКА *ж.* Тое ж, што і к а р а в ё н а. *Адна каравёшка была.* Рагулішкі Даўг.

КАРАВІ'НА *ж. павел.* Вялікая карова. *Каровы, такія бальшыя каравіны.* Чычалі Швянч.

КАРА'ВКА *гл.* КАРА'ФКА

КАРАВО'ДАМ у знач. *прысл.* Чарадой. *У адвэнце вайчыца водзя вайкой караводам.* Гемзы Шальч.

КАРАВО'ДЗІЦЦА *незак.* Вадзіць каравод. *Дзейкі караводзяцца.* Малькуны Ігн.

КАРАВО'ДЗІЦЬ *незак. перан.* Кахацца. *Караводзяць дзейка с кавалерам.* Ракаўскія Швянч.

КАРА'ВЫ *прым.* 1. Брудны. *Мае рукі каравыя.* Стральцы Шальч. *У яго ногі каравыя.* Рудня Чэрв. *Свякройка ніколі каравая ні была.* Саланое Віл. *Каравыя кашулі пайду мыць.* Дакудава Лід. *Каравае бяллё замачыла нанач.* Беразіно Докш. *Вопінка карава, памый, а то ад людзей будзе стыдна.* Мачаск Бярэз. *А дайней анучу караву палілі, кап курэла, і падкурвалі пчол.* Парэчча Гродз. *У каравую* [курную] *хату прыехала.* Саланое Віл. 2. Шурпаты, з бугрыстай скурай. *Каравых жаб не бойся, не забівай іх!* Мачаск Бярэз.

КАРАВЫ' *мн.* Каровы. *Там каравы ходзяць.* Альхоўцы Лях.

КАРАВЯ'К *м. бат.* Дзіванна. *Каравяк ад горла п'юць.* Азяраны Раг.

КАРАВЯ′ТНІК *м.* Кароўнік. *Там каравятнік стаіць для кароў калхозных.* Малькуны Ігн.

КАРАВЯ′ЧАНЫ *прым.* Які адносіцца да кароў. *Каравячаная капуста ня круціць галоўкі* [без качана]. Малькуны Ігн.

КАРАВЯ′ЧЫ *прым.* 1. Які належыць карове. *Купіла каравячага мяса.* Малькуны Ігн. 2. Які адносіцца да кароў. *Каравячы пастух быў.* Вострава Маст.

КАРАГА′З *м.* Керагаз. *На карагазе напяку бліноў.* Саланое Віл.

КАРАГО′Д *м.* Карагод. *На Купалля вадзілі карагоды кала агню.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАРАГО′ДЗІЦЦА *незак.* Тое ж, што і к а р а в о́ д з і ц ь. *Два гады да арміі карагодзіўся із ёй.* Мярэцкія Глыб.

КАРАДЛІ′ВЫ *прым.* Пераборлівы. *Я не карадлівая, вып'ю, хоць што і горкая.* Кураполле Паст.

КАРАДНІ′К *м.* 1. Вулей. *Караднік выдаўбалі.* Быстрыца Астр. *Караднік закрываўся, ляжаў на камяні.* Лайпушкі Ігн. 2. Шпакоўня. *Дзеду! Калі караднік зробіш для шпакоў?* Быстрыца Астр.

КАРАЕ′Д *м.* 1. *заал.* Караед. *Караеды павыядаюць, і лес сохня.* Навасёлкі Свісл. 2. *перан.* Скупы чалавек, хто сам сабе шкадуе. *О, караед гэты: ён сам ня з'есць і другому не дасць.* Саланое Віл.

КА′РАК *м.* Карак. *У карку баліць.* Пасека Ст.-Дар. *Па карку ўдэрыў.* Лука Нараўк. *На карак валом наложаць бервяно.* Грыкені Вільн. ◊ *Сядзець на карку* — жыць за кошт другога. *Прыедзіць і будзіць на маім карку сядзець.* Кураполле Паст. *Стары карак* — стары чалавек. *На старым карку не панясеш многа.* Саланое Віл. *Даць, урэзаць па карку* — пакараць. *Даць яму па карку за гэта!* Альхоўка Навагр. *Урэжу па худым карку!* Лоск Валож. *У карак палучыш!* Парэчча Гродз.

КАРА′КУЧКІ *гл.* КАКАРЭ′ЧКІ

КАРАЛЁК *м. заал.* Маленькая птушка атрада вераб'іных. Кураполле Паст.

КАРА′ЛІ толькі *мн.* Пацеркі. *Нужна каралі насіць ад балезні, ад якой — не скажу, не знаю. Цыгані каралі насілі.* Рагулішкі Даўг. *Каралі насілі — як палачкі доўгенькія.* Гемзы Шальч. *Носіць дзеўка каралі.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* польск. *korali,* літ. *karõliai* 'тж'.

КАРАЛІ′ I *мн. заал.* Мурашкі. *Каралі — вялікія мурашкі ў мураўніку.* Новікі Гродз.

КАРАЛІ′ II толькі *мн. анат.* Сустаў задняй нагі. *Як макаўка хваста ў каровы даходзіць да каралёў, то карова доўга доіцца, а калі не дастае да каралёў — запускаецца надоўга.* Мсцібава Ваўк.

КАРАЛЮ'ШЧЫ *мн.* Лупіна ад яйка. *Каралюшчы з яец куры дзяўбуць.* Тухавічы Лях. *Выкінь вон каралюшчы!* Парэчча Гродз.

КАРАМЖАВА'ТЫ *прым.* Закарузлы. *Карамжаватыя рукі, крывыя.* Солы Смарг.

КАРАМЗА'ТЫ *прым.* 1. Разгалісты, сукаваты, крывы. Пасека Ст.-Дар. *Карамзатае дзераво — галястае.* Кузьмічы Люб. *Дзе галае балота, там расце маленькі хвойнік, карамзаты.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Прысадзісты. *Карамзаты чалавек — невысокі, некрасівы, бывае і крывы.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАРАМЗА'Ч *м.* Сукаватае разгалістае дрэва. *Карамзач — ніская сукаватая дрэва. Тры карамзачы хвояк стаяла на полі.* Бакшты Іўеў.

КАРАМЗЛЯВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і к а р а м з а́ т ы 1. *Расце сосна на полі, але што з яе — яна карамзляватая.* Гемзы Шальч.

КАРАМЗЛЯ'К *м.* 1. Тое ж, што і к а р а м з а́ ч. *Карамзляк — сукаватае няроўнае дзерава, толькі на дровы гадзіцца.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Чалавек нізкага росту, крываногі. *Не пойдзе яна за гэтага карамзляка.* Гемзы Шальч.

КАРАНА' *ж.* Цвёрдая паверхня скуры, пашкоджанай балячкамі. *У малых пархі высыпалі, карана на галаве засохла.* Валынцы В.-Дзв.

КАРАНДА'Ш *м.* Карандаш.∇ *Наш карандаш цяжэй за ваш* — фізічная работа больш цяжкая ў параўнанні з разумовай. Кузьмічы Люб.

КАРАНЁВЫ *прым.* Зроблены з карэння. *Кош бывая ракітавы і каранёвы; хваёвыя корні выцягваюць і плятуць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каранёвы кошак доўга служыць.* Мярэцкія Глыб.

КАРАНЁК *м. памянш.* Тое ж, што і к а р а н і к 3. *Была тут ёлачка, я паставіў каранёк.* Саланое Віл.

КАРАНЖА' *ж.* Сукаватае няроўнае дрэва. *Каранжа — сукаватае, раскідзістая, пакручаная дрэва.* Быстрыца Астр.

КАРАНЖА'К, КАРАНЖЛЯ'К *м.* Тое ж, што і к а р а н ж а́. Быстрыца Астр.

КАРАНІ'К, КАРАННІ'К *м.* 1. Вулей, выдзеўбаны з дрэва. *На каранік абручы нагнаныя.* Прэдэ Даўг. *Каранік дзяўбалі з дзерава.* Лісна В.-Дзв. *Каранік дзелалі з тоўстага грубага дзерава. Каранікі сдзеланыя былі, і абручы нагнаныя, і дырка досачкамі закрывалася.* Прэдэ Даўг. 2. Выдзеўбанае дупло ў дрэве для пчол. *Караннік — даўбяк такі з калоды.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Невялікі вулей, які ставілі на дрэве для прывабліванння пчол. *Каранік зацягувайся на дзерава для рою. Каранік зацягнуць на дзерава і на галэнзі паставяць.* Старыя Смільгіні Воран. *Купяць карэнь — бадаян, натруць*

*каранік, запах давай, і пчолы сядуць.* Валынцы В.-Дзв. *Чую — шуміць, у пусты каранік аселі пчолы.* Крупіца Мін. *Каранік — малы ўлейчык, куды абіралі рой.* Паляцкішкі Воран.

КАРАНІ'СТЫ *прым.* Разгалісты. *Караністы куст, каранístая сасна.* Дакудава Лід. *Гэта трава каранíста, атожылкаў многа пуская.* Парэчча Гродз.

КАРАНІ'ЦЦА *незак.* Кусціцца. *Караніцца ячмень.* Вялікі Краснік Пруж.

КАРАНІ'ЦЬ *незак.* Лаяць, знеслаўляць. *Караніць яна міне — ругая, клыне.* Вялікія Баяры Шчуч., Масілавічы Сл.

КАРА'НКА *ж.* Плеценая пасудзіна з лубу, саломы. *Былі каранкі с саломы плеценыя, ссыпалі крупы.* Жодзішкі Смарг.

КАРАНКІ' толькі *мн.* Ніжняя частка трасты льну. *Кудзеля з каранкой — зрэбі.* Міратычы Карэл., Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* к а м л і.

КАРАННЫ' *прым.* Адборны, буйны. *Каранноя зярно на семяну пакідалі.* Лісна В.-Дзв.

КАРАНТЫ'Ш, КАРАНДЫ'Ш *м. зневаж.* Прысадзісты, нізкарослы чалавек. *Ах ты, карантыш!* Ахрэмаўцы Брасл. *Карандыш, які ты малы!* Магуны Паст.

КАРАНЬКІ' *мн.* Карэньчыкі. *Караньки с пяском у льне.* Альхоўка Навагр. *Караньки ў каноплях.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КАРАНЯ'К *м.* Тое ж, што і к а р а н і к 1. *У дзядуні былі караняки, яны лучша, як доміки.* Солы Смарг.

КАРАПУ'К *м.* Тое ж, што і к а р а н т ы́ ш. *Як хто невялікага росту, то карапук празываюць.* Парэчча Гродз.

КАРАСІ'НА *ж.* Газа. *Дайней карасіну лілі ў лямпы і палілі.* Гемзы Шальч. *Я гавару карасіна, а нафта па-польску, мусіць. Можа, хто скажыць і гас.* Ракаўскія Швянч. *У газнічку налівалі карасіну.* Жодзішкі Смарг. *Быў аплятаны гляк, карасіну ў ём дзяржалі.* Магуны Паст. *Вазьмі бітон, купі карасіны!* Малыя Аўцюкі Калінк. *Паехаў за карасінай.* Саланое Віл. *Па карасіну егдзіў.* Лоск Валож.; *парайн.* руск. *керосин* 'тж'.

КАРА'СЬ I *м. заал.* Карась. *Злавіў карася, налавіў карасёў у лузе.* Баброўнікі Гарад. *Карасі ёсць у озяры.* Мельнікі Лудз.

КАРА'СЬ II *м.* Падосак. *Карась — штаба, што накладаецца на дзеравянную вось.* Гемзы Шальч. *Карасі жалезныя пад дзеравяныя осі.* Грыкені Вільн. *Карасі — што акоўваліся дзеравянныя восі.* Вязынка Маладз.

КАРАТА'ЦЬ *незак.* Гараваць. *Усю ночку каратала з бальным.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *коротать* 'бавіць, праводзіць час, займаючыся чым.-н.'

КАРАТКО' *прысл.* Коратка. *Там каратко абрэзана.* Паляцкішкі Воран.

ҚАРА'ЎҚА *ж.* 1. Брудная ануча. Лапічы Асіп. 2. *мн. груб.* Брудная бялізна. *Ідзі караўкі свое памый!* Ухвала Круп.; *парайн.* літ. *karóti* 'вісець закарэлым'.

ҚАРА'ЎҚІ толькі *мн.* Падстаўныя саначкі, якія выкарыстоўваліся для перавозкі бярвення. *Қараўкі прывязвалі броўна вазіць.* Жодзішкі Смарг.

ҚАРАЎЛО'Т *гл.* ҚАЛАЎРО'Т

ҚАРАФА'ШҚА *ж.* Брычка. *Пляменнік рашчотлівы на карафашке приехаў, арэхаў падарыў.* Валынцы В.-Дзв.

ҚАРА'ФҚА, ҚАРА'ВҚА *ж.* Графін. *Қарафка — як графін.* Старыя Трокі Трак. *Қарафку воткі аддала. Қарафка — бутэль такая.* Дакудава Лід. *Қарафка стаіць на стале.* Альхоўка Навагр. *Қаравка — гэто графін.* Быстрыца Астр., Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *karafka,* ням. *Karaffe* 'тж'.

ҚАРАЦЕ'Й *прым. выш.* Қарацейшы. *Гэта полка карацей за тую.* Пасіене Лудз.

ҚАРАЦЕ'ЙШЫ, ҚАРАЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Қарацейшы. *Гэтыя карацейшыя гвоздзі.* Чычалі Швянч. *Складзі карачэйшую сукенку!* Қіралі Шчуч.

ҚАРА'ЦЕЛЬ *м.* Қарнік. *І тут жа — карацелі. Наехала іх — недзе павярнуцца!* Астравы Мін.

ҚАРАЦЕ'ЦЬ, ҚАРАЧЭ'ЦЬ *незак.* Укарочвацца ў часе, памяншацца. *Ужо дні карацеюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ужо дзень карачэе.* Парэчча Гродз.

ҚАРА'ЦЦА *незак. безас.* Қараць. *«Чаго ты буіш? Я табе задам зараз!» — так даўней каралосё малых.* Мсцібава Ваўк.

ҚАРА'ЦЬ *незак.* Асуджаць, знявольваць. *Тэрас караюць такіх, ён прывык красці—адучыць цяжка.* Паляцкішкі Воран.

ҚАРА'Ч І *м.* 1. Брудны ручнік, сціркa. *Қарач — гразны ручнік; ён стаіць, як карач.* Альхоўцы Лях. 2. Ручнік з махрамі. *Дзіця адшарыла карачом.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *skarõčius* 'тж'.

ҚАРА'Ч ІІ *м.* Лямант, крык. *Баба нарабіла карачу на ўсё сяло.* Старое Сяло Зэльв.

ҚАРАЧЭ'Й *прысл.* Қарацей. *Қарачэй трэба пушчаць.* Альхоўка Навагр.

ҚАРАЧЭ'ЙШЫ *гл.* ҚАРАЦЕ'ЙШЫ

ҚАРАЧЭ'ЦЬ *гл.* ҚАРАЦЕ'ЦЬ

ҚАРАШО'Қ І *м. памянш.* Қарэньчык. *Апенькі, у іх тоненькі карашок.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* руск. *корешок* 'тж'.

ҚАРАШО'Қ ІІ *м. памянш.* Қорак. *Некалі пляшкі карашком закрывалі.* Дакудава Лід.

ҚАРАШЫ' *мн. кулін.* Праснакі. *З ячменнай мукі карашы пяклі.* Рагулішкі Даўг.

ҚАРБУ'ЛАЎҚА *ж.* Қарбункул, нарыў. *Қарбулаўка—страшна вялікі нарыў на карку ў каня.* Саланое Віл.; *парайн.* ням. *Karbunkel* 'тж'.

КАРБУ'ЛІЦА *ж.* Тое ж, што і к а р б у́ л а ў к а. *Карбуліца ўссела на шыі.* Саланое Віл.∇ *Каб на цябе карбуліца ўссела!* Саланое Віл.

КАРБУ'НІЦ *м.* Фурункулёз. *Карбуніц — балесь такая.* Лісна В.-Дзв.

КАРБУ'НКА *ж.* Тое ж, што і к а р б у́ н і ц.∇ *Кап цябе карбунка рушыла!* Саланое Віл. *Каб на цябе карбуніц напаў.* Груздава Паст.

КАРГА' *ж. лаянк.* Карга. *Старая карга ты!* Саланое Віл.

КАРДЭ'ЛЬ *м.* Ліна з галін дрэў. *Рабілі кардэль таўсты з лазы, дупцоў у некалькі столак, а длінны, завесяць на бальку і калышацца. Кардэль — гуж з лазовых кустоў, ім звязвалі плыт.* Рыбчына Віл.; *параўн.* польск. *kardel* 'шнур, вяроўка з лыка' (СВ, II, 266) <ням. *Kordel* 'вяроўка, шнурок, істужка'.

КАР'Е'Р *м.* Месца, дзе капаюць пясок, гліну. *Там кар'ер выбіралі.* Валынцы В.-Дзв.

КАРЖАКАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і к а р а м з а́ т ы 1. *Вярба каржакавата, яна расце нагнёна.* Міратычы Карэл.

КАРЖА'Н *гл.* КАЖА'Н

КАРЖАНЯ'К *м.* Тое ж, што і к а р а н ж а́. *Каржаняк — райставое дзерава, яно не расце ўверх.* Саланое Віл.

КАРЗІ'НА *ж.* Кашолка. *Сплянецъ карзіну: аснаваніе з лучыны і лучынай гоніць, ручка з прутоў.* Пасіене Лудз. *Карзіны з лучыны плялі і збіралі ягады.* Ахрэмаўцы Брасл. *Карзіны з кары рабілі.* Старыя Смільгіні Воран. *Карзіна высокая была, у ёй насілі за плячамі.* Індра Красл. *Усялякіх карзін есць — сплеценых з дупцоў ці кары.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* руск. *корзина* 'тж'.

КАРЗІ'НКА *ж.* 1. Тое ж, што і к а р з і́ н а. *Карзінку плелі с лучыны, а кош — з лыка.* Рагулішкі Даўг. *Карзінкі былі плеценыя з лыка, з імі егдзілі на базар.* Кіралі Шчуч. *З лучынак плялі карзінкі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Вялікі кош з квадратным дном. *З лучыны карзінкі плялі, туды сена паложаць авечкі абступяць і ядуць.* Груздава Паст.

КАРКАВІ'НА *ж.* 1. Ашыек. *Каркавіну — пяты кумпяк завуць.* Крэва Смарг. *Каркавіну ў кішку запраўлялі.* Кураполле Паст. *Каркавіна — зверху алавы, на шыі тоўста саланіна.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Каркавіна — мясэ ўкусная.* Малахоўцы Бар. *Каркавіна цвёрдая, звары, то аш трашчыць.* Кіралі Шчуч. *Каркавіна любовая на карку.* Солы Смарг. 2. Карак. *Яму выцялі ў каркавіну, і пуля вышла ў бок.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* літ. *kárka* 'калена' (пра жывёлу), 'плячо'.

КАРКАЖА' *м.* і *ж.* Тое ж, што і к а р а н т ы́ ш. *Ах ты каркажа! — хто малы, не вырас, той і каркажа.* Кіралі Шчуч.

КАРКАЛІ'НА *ж.* Тое ж, што і к а р а н ж а́. Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *kar̃klas* 'лаза'.

КАРКАЛІ'СТЫ *прым.* Сукаваты, крывы. *Каркалістая дзерава, калі з аднаго корня два або тры ствалы расцець і няроўныя, крывыя, сукаватыя; такоя дзерава нігодна нікуда.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* к а р к а л і н а.

КАРКАЛІ'ЦЦА *незак.* Кусціцца. *Еслі авёс рэтка пасеяны, ён каркаліцца. Боп каркаліцца, па тры ствалы расцець. Ячмень каркаліцца, пускаіць некалькі сцібялёў ад аднаго зірна. Сліва і вішня каркаляцца: ат каранёў пускаюць атожылкі.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* к а р к а л і н а.

КАРКА'ЛЬ *м.* 1. Каржакаватая бяроза. *Каркаль — ніская бяроза, многа сукоў, не расце высокая; на такую бярозу кажуць каркаль.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што і к а р а м з а́ ч. *Каркаль — дзерава, якое не расце, голлем абрастая.* Вецярэвічы Пух. 3. *перан.* Карантыш. *Ён малы, як каркаль.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* к а р к а л і н а.

КАРКА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і к а р к а л і с т ы. *Каркатая дзерава каля поля расцець, няроўнае, атросткаў многа, сукоў многа.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *karkõnas* 'палка, кій', *kárka* 'надкапытны сустаў'.

КА'РКАЦЬ *незак.* Сакатаць. *Куры каркаюць.* Ёдлавічы Брасл. *Куры каркаюць, німа дажджу.* Груздава Паст.; *параўн.* літ. *kárkinti* 'тж'.

КАРКО'ШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КАРЛАВА'ТЫ *прым.* 1. Тое ж, што і к а р к а л і с т ы, к а р ж а к а в а́ т ы. *Граб карлаваты расце, ён грубы, ніскі, многа ветак.* Сапоцкіна Гродз. *Карлаватыя смужнякі, ніскарастучыя, самасеяныя.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Прысадзісты чалавек. *Наш дзет стаў карлаваты.* Каўняны Гродз.

КАРЛАТА' *ж.* Гной, гразь. *У хлеве даўней такая карлата, і конь аблепіцца карлатой, грудамі карэлымі.* Магуны Паст.

КАРЛА'ЦКІ ЖУК *м. заал.* Каларадскі жук. *Карлацкі жук картофлю есць.* Вострава Маст.

КАРЛУ'П *м.* Кораб. *Быў карлуп с саломы сплецены; ссыпалі ў яго муку, зярно, века было закрываць. Плялі карлуп, салому пераплята́лі слокшынай — ляшчынавай і сасновай.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *karnà* 'лыка'+*lùpti* 'драць'.

КАРЛУ'ПЧЫК *м. памянш.* Бочачка, выдзеўбаная з калоды. *Карлупчык — бачонак такі без абручой, выдаўбаны з дрэва. Помню, я яшчэ была малая, бабуля расказвала, што мужык збіў жонку, што яна ссыпала попел і выпаліла дно ў карлупчыку.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *kar̃lubas* 'тж'.

КАРЛЮ'К *м.* 1. Карлік. *Карлюк — бох яму росту ня даў.* Старыя Трокі Трак. *От малы — як карлюк, што я за яго пайду!* Гемзы Шальч. 2. Малалетак, малалетні. *Карлюк у яе і бабка старая.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Самае маленькае па-

расё ў прыплодзе. *На плямя карлюка не пакідаем.* Жылі Іўеў.

КАРЛЮ'ШКА *ж.* Сорт бульбы. *Смачная бульба карлюшка.* Гемзы Шальч.

КАРМА' I *ж.* Задняя частка рыбалоўнай снасці. *Карма — мяшок такі ў бродні; рыба заходзіць у карму, ад кармы ідуць крылі.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАРМА' II *ж.* Корм. *Запас сухой кармы папродала.* Крупіца Мін.

КАРМАЗА' *м.* і *ж. груб.* Раскірака. *Кармаза — хто ходзіць улўкаткі.* Курapoлле Паст.

КАРМА'Н *м.* Кішэнь. *Нада сашыць і прышыць карман.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *карман* 'тж'.

КАРМА'Ш *гл.* КІРМА'Ш

КАРМЕ'ЖА *ж.* Кармленне. *Курыца, як пры добрай кармежы, пяцьсот яек знясець* [жарт]. Ахрэмаўцы Брасл.

КАРМЕ'НЯ *н.* Тое ж, што і к а р м ё ж а. *Карова пры добрым кармені многа малака даець.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАРМЕ'ШКА *ж.* Тое ж, што і к а р м ё ж а. *Гэта карова ні па кармешкі малако даець.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *кормёжка* 'тж'.

КАРМІ'ЛІЦКА *ж.* Карміцелька. *Зімля — наша карміліцка: усіх корміць.* Лісна В.-Дзв.

КАРМІ'ЦЬ, КАРМІ'ЦІ *незак.* 1. Даваць корм. *Я на ферме раблю, я іх кармлю і даю. Цэлу зіму трэба куры карміць і паіць. Я тыя каровы карміла і паіла.* Паляцкішкі Воран. *Гусі будуць жырные, калі даваць ім смашно есці, карміць.* Баброўнікі Гарад. *Панясу куркі карміць. Кармі куры зіму з рук.* Альхоўка Навагр. *Травой і мукой корміць свіней.* Кемялішкі Астр. *Ідзі ты карміць свіня!* Навасёлкі Свісл. *Воны кормат свіня.* Вялікі Краснік Пруж. *Я ўжэ іду, корміцім вас.* Смаляніца Пруж. 2. Карміць грудзьмі. *Яшчэ дзіця карміла сіськой. Яна не карміла цыцкой.* Рудня Астравітая Чэрв. *Карміла дзіця грудзямі.* Лука Нараўк.▽ *Не тады карміць сабак, як ідзеш на паляваня. Вайка ногі кормяць.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАРМУ'ШКА *ж. кулін.* Цура. *Кармушка — яда, прыгатаваная з халоднай вады, цукру або солі і накрышанага хлеба.* Стральцы Гродз.

КАРМЫ' *мн.* Корм. *Накасіў сена — буду мець кармы.* Кіралі Шчуч. *Нагатовіла для каровы кармоў. А ён кармоў не меў.* Жылі Іўеў.

КАРНА' *ж.* Ліповая кара, лыка. *З карны лапці плялі.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *karnà* 'тж'.

КАРНАВА'Л *м. абрад.* Перыяд часу ад каляд да посту, мясаед. *Бывала, на карнавал жэняцца, вечарынкі гуляюць.* Быстрыца Астр.; *параўн.* руск. *карнавал* 'народнае свята з вулічным шэсцем'.

ҚАРНА'ТЫ, ҚОРНА'ТЫ *прым.* 1. Прысадзісты. *Карнаты хлопяц, як асадзісты.* Дакудава Лід. 2. Кароткі. *Мая куртка корната.* Смаляніца Пруж.

ҚАРНА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* Невялічкі, кароценькі. *Дзе наш ножык карнаценькі і шылаваценькі — думала навастрыць.* Курополле Паст.

ҚАРНА'Ч *м.* Тое ж, што і к а р а н т ы́ ш. *Эх ты, карнач!* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kernẽžas* 'недалетак', *kẽras* 'куст'.

ҚАРНІ'СТАР *м.* Каністра. *Быў карністар на керасін.* Беняконі Воран.

ҚАРНІ'СТЫ *прым.* Пераборлівы. *Карністы чалавек не ўсё есць: то бліноў ня любя, то другога не ўжывая.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *karnùs* 'тж'.

ҚАРНО'ТКІ *прым.* Кароткі. *Карнотка сарочка.* Навасёлкі Свісл.

ҚАРО'БА *ж.* Вялікі кораб. *Кароба была бальшая, плеценая з саломы.* Судэрва Вільн.

ҚАРО'БАЧҚА *ж.* 1. *памянш.* да к а р о́ б к а 1, 2, 3, 4. *Была каробачка з ліповай кары здзелана, з яе сеялі.* Азяраны Раг. *Каробачка — такая сявенька.* Рудня Астравітая Чэрв. *У каробачку аграбалі пчол: аграбе, накрыя і завяжа.* Азяраны Раг. *На ўюны ставілі каробачкі: бралі абячэйку, апшывалі палатном, рыльца пакідалі і ставілі на дно дзіркай уверх; каробачку ўкраплялі палкай.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каробачкі былі ўюноў лавіць.* Вецярэвічы Пух. *Для ягат робяць каробачкі; каробачка — большая, а набірка — меншая. Хадзілі ў ягады, павесім каробачкі на сучкі і гамонім.* Азяраны Раг. *Даўней, як ішлі на вяселля, клалі дзве яйцэ, сала, гарнец жыта ў каробачку.* Вецярэвічы Пух. 2. Сетка, якая захоўвае ад укусаў пчол. *Рабілі з маладой ліпы каробачкі і адзівалі на ліцо, каб пчолы не кусалі.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Гронка. *Каробачка, дзе гарэхі сядзяць.* Міратычы Карэл.

ҚАРО'БҚА, ҚАРО'ПҚА *ж.* 1. Сявалка. *З ліпы, з кары рабілі каробкі, дно патшывалі, сеялі з каробак.* Рудня Астравітая Чэрв. *Была каробка з ліпы для сяўбы: дно ў каробцы прышываецца з палатна.* Азяраны Раг. *Сеюць з каробкі, а колісь з хвартуха сеялі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Каробка плецена з саломы.* Судэрва Вільн. *Каропку с саломы плялі для сяўбы.* Альхоўка Навагр. *Былі круглыя і даўгаватыя каропкі, бакі з кары; у каропцы былі вушкі, пояс чаплялі; сявец бярэ на плечы і сея.* Вецярэвічы Пух. *Каропкі плялі с саломы длуганькія, з іх сеялі.* Стральцы Гродз. *Тэсць плёў каропкі і быў швайку зрабіўшы. У каропку заводзяцца рамушкі па баках, а за рамушкі зачэпліваецца падпінька.* Гемзы Шальч. *У каропку лезло пут збожа.* Верхлессе Крын. 2. Раёўня. *Была каропка с кары с плеценым дном, як у рэшаце; пчол аграбалі ў каропку.*

Вецярэвічы Пух. 3. Снасць для лоўлі ўюноў. *Каробкі е ўюны лавіць. Каробкі плялі круглыя і рыльцо круглае. Прасек пельку і паставіў каробку, штоб налезла ўюной.* Кузьмічы Люб. 4. Кош, карзіна. *Даўней былі каробкі, дно ўшывалася з кары; з каробкамі хадзілі на радзіны, на вяселля, паску пасвяцалі ў каробках.* Вецярэвічы Пух. *Елавыя сураешкі па ельніку растуць, каропку набярэш іх.* Рудня Астравітая Чэрв. *Муку сыплюць у каропку.* Вострава Маст. *Набяры мукі каропку ўчыніць і замясіць хлеп!* Рудня Астравітая Чэрв. *Дзеруць дрань з хвоі і плетуць каробкі. Набрала ягад цэлу коробку.* Малыя Аўцюкі Калінк. 5. Пачак запалак. *Каробку сярнічак спаліла, пакуль печ растапіла.* Рыбчына Віл. *Каропка запалкаў.* Баброўнікі Гарад.

КАРО'ВА, КОРО'ВА *ж.* Карова. *Нада карове даваць.* Судэрва Вільн. *Мама траву сабіраіць каровай* [для каровы]. Ёдлавічы Брасл. *Пастух будзя караві занімаць.* Альхоўцы Лях. *Хлопяц караві доіць.* Навасёлкі Свісл. *Трэба сена каравам даці.* Ялова Пруж. *Нашы корові ідут.* Смаляніца Пруж.∇ *Катора карова дужа крычыць — мала млечка дае* — хто многа гаворыць, той мала робіць. Сапоцкіна Гродз. *По сырэдынэ двора стоіт копна: попэрук вылкы, ззаду мытла* — карова. Дзмітравічы Кам.

КАРО'ВІНА *ж.* Гавядзіна. *Купіла кілаграм каровіны.* Валынцы В.-Дзв. *Каровіны ня есць.* Вялікія Баяры Шчуч.

КАРО'ВІЦА *ж.* Тое ж, што і к а р о́ в а. *Каровіца ест.* Вялікія Баяры Шчуч. *У вайну і каровіцы не мела.* Стральцы Шальч. *Прышоў іс пляну — адна каровіца, панішчана было ўсё.* Быстрыца Астр. *Не пускаю каровіцы ў поля.* Кемялішкі Астр. *Каровіцу хаваў, карміў. Я дзве каровіцы хавала.* Івашкаўцы Смарг. *Каровіцы пасвіла.* Граўжышкі Ашм. *Каровіцы ў хляве стаялі.* Беняконі Воран. *Нада ш падаіць каровіц.* Ністанішкі Смарг., Кіралі Шчуч. *Дзікая трава расце, што і каровіцы не ядуць.* Граўжышкі Ашм. *Натта харашо сабака каровіцы пераймая.* Кіралі Шчуч. *Цэла стада каровіц.* Ліпнікі Вільн.

КАРО'ВЯЧЫ *прым.* Тое ж, што і к а р а в я́ ч ы 1. *У вас у горадзе масло каровячага можна купіць?* Стральцы Гродз. *Каровячо мясо — раньша гаварылі.* Масілавічы Сл. *Каровячае м'ясо і валовае м'ясо.* Дзяніскавічы Ганц. *Каровячэ малако.* Ялова Пруж. *Гной каровячы.* Баброўнікі Гарад.

КАРО'ДЗІЦЦА, КАРО'ЖЫЦЦА *незак.* Капрызіць. *Нешта дзіця кародзіцца, яму нядобра, плача, нэндзіцца.* Вецярэвічы Пух. *Як бальное дзіцятко, то карожыцца, прыціраяцца, плача.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАРО'ЛІК *м.* Малалетак. *Каролік — калі мала гадоў, недарослы хлопец.* Пацаўшчына Дзятл.

КАРО'ЛЬ I *м.* Манарх, правіцель. *Калісці казалі так:*∇

*«За нашым каралём усё дагары камлём».* Кудзялянцы Шальч.

КАРО′ЛЬ II *м.* Рэштка кумпяка, рулька. *Кароль астаўся, звару капусты.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *karulŷs* ′сустаў задняй нагі′.

КАРО′МІСЛА *н.*, КАРО′МЫСЕЛ *м.*, КАРО′МЫСЛО *н.*, КАРО′МІСЛЫ *мн.* 1. Каромысел. *Каромісла — што ваду насіць.* Альхоўка Навагр. *Каромысел — насіць ваду.* Пасіене Лудз. *Каромысел — драўляная палка, на якой носяць два вядры вады.* Азяраны Раг.; *гл.* ДАБМ, карта № 249. 2. Ворчык. *Каромысло ў баране.* Малахоўцы Бар. *За каромысел чапляюць плуг, барану.* Азяраны Раг. *Пастронкі чапляюць за каромысло.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Ярмо. *Валу надзівалі кароміслы.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАРО′МІСЛО *н. астр.* Малая Мядзведзіца. *На небе карамісло з зоркаў.* Каўняны Гродз.

КАРО′НКІ *гл.* КАРУ′НКІ

КАРО′ПАВА ЖА′БА *ж. заал.* Рапуха. Калясное Міхал.

КАРО′ПАЎКА *ж.* Тое ж, што і к а р о́ п а в а ж а́ б а. Калясное Міхал.

КАРО′ПКА *гл.* КАРО′БКА

КАРО′СЛІВЫ, КАРО′СТАВЫ *прым.* Які адносіцца да к а р о́ с т а I. *Рукі карослівыя.* Мачаск Бярэз. *Нейкая карослівая яна, хлопцаў у яе няма.* Дзяніскавічы Ганц. *Коні ў вайну былі кароставыя.* Асавец Віл.

КАРО′СТА I *ж. мед.* Кароста. *Кароста ў вайну на нас напала.* Беразіно Докш. *Цяпер німа каросты, дзе яна дзелася.* Альба Нясв. *Кароста часамі ў людзей е. Кароста — то не то, што свярбячка, кароста ўрэдна, набіраецца на другого. Есць такая масць, што вышмаруюцца, і ў печ трэба было лесці калісь, кап выграцца.* Баброўнікі Гарад. *Кароста бывае скрось, а ў пахвінах — найбольш.* Лука Нараўк.▽*Кароста—няпроста: панская хвароба.* Ёдлавічы Брасл. *Кароста — няпроста: рукі не гуляюць.* Рагулішкі Даўг. *Кароста — хвароба няпроста.* Старыя Смільгіні Воран.

КАРО′СТА II, КОРО′СТА *ж.* Кастрыца. *Калі лён труць ці каноплі, то сыплецца кароста.* Баброўнікі Гарад., Лука Нараўк., Старое Сяло Зэльв., Тухавічы Лях. *Каростай уцяплялі столі.* Мсцібава Ваўк., Крынкі Крын. *Кароста з лёну.* Азарычы Пін.

КАРО′СТА III *ж. бат.* Раска. *Кароста — зелле вадзяное.* Галубы Маст. *Кароста плавае па вадзе — маленькія зялёныя лісточкі. Кароста зацягнула палавіну рэчкі.* Ухвала Круп.

КАРО′СТАВАЯ ЖА′БА *ж.* Тое ж, што і к а р о́ п а в а ж а́ б а. *Кароставая жаба — паскудная.* Лісна В.-Дзв.

КАРО′СТАВЫ *гл.* КАРО′СЛІВЫ

КАРО′ТКІ *прым.* Кароткі. *Кароткія штаны купіла.* Ёдлавічы Брасл. *Кароткая зрабілася сукенка.* Міратычы Карэл. ◊

*Кароткая памяць* — дрэнная памяць. *У старога памяць кароткая.* Рагулішкі Даўг.

КАРО'ТШЫ *гл.* КАРО'ЧШЫ

КАРО'ЎКА *ж. памянш.-ласк.* да к а р о́ в а. *Кароўка прышла с поля, запёрла ў хлеў.* Груздава Паст. *Не доіцца кароўка.* Грыкені Вільн. *У мяне кароўка ест.* Стральцы Гродз.

КАРО'ЎКА-БУРО'ЎКА *ж. заал.* Божая кароўка. *Кароўка-буроўка на траве сядзіць.* Мішневічы Шум.

КАРО'ЎНІЧАК *м. памянш.* Гладышык для малака. Ісерна Слуц.

КАРО'ЎСКІ *прым.* Тое ж, што і к а р о́ в я ч ы. *Кароўская мяса худоя.* Магуны Паст.

КАРО'ЧШЫ, КАРО'ТШЫ *прым. выш.* Карацейшы. *Тут карочшыя броўны.* Паляцкішкі Воран. *Былі памералі штаны: адны карочшыя, а другія вушшыя.* Альхоўка Навагр. *Платва каротшая, карась большы.* Быстрыца Астр.

КАРП *м.* Карп. *У нас карпы хто разводзіць.* Мельнікі Лудз. *Карп у прудах гадуецца.* Сапоцкіна Гродз. *Карп любіць стаячую ваду, жыве ў ставах, за год вырастая да кіля.* Альхоўка Навагр.

КА'РПА *ж.* Бародаўка. Чычалі Швянч. *У яе карпы на руках.* Малькуны Ігн., Быстрыца Астр. *Карпы на твары і на руках.* Граўжышкі Ашм. *Калі карпы на руках ці дзе, то пашчытай і завяжы столькі ўзялкоў, укінь за голае цела — і прападуць.* Ёдлавічы Брасл. *Карпа села на руку, вырасла на тварэ.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *kárpa* 'тж'.

КАРПАВА'ТЫ *прым.* Маршчыністы. *У яго ліцо карпаватае.* Гемзы Шальч.

КАРПА'ТЫ *прым.* 1. Пакрыты бародаўкамі. *Рукі карпатыя.* Чычалі Швянч. *Рукі былі карпатыя.* Ёдлавічы Брасл. *Якія карпатыя рукі!* Старыя Смільгіні Воран. 2. Тое ж, што і к а р п а в а́ т ы. *У старога твар карпаты.* Альхоўка Навагр. *Карпаты чалавек, ліцо карпаватае.* Гемзы Шальч.; *гл.* к а́ р п а.

КАРПАЧЫ' *мн.* 1. Маршчыны. *Лоп ужо скорпаўся: на лобі карпачы, раўчакі.* Альхоўка Навагр. 2. Складачкі, зморшчкі на памятым адзенні. *Бывая і адзеня ў карпачах, а як папрасуям, то гладзенько тады ўжо.* Альхоўка Навагр.; *гл.* к а́ р п а.

КАРПНУ'ЦЬ *зак.* Капну́ць, поркнуць. *Карпне лычам свіня і пашла.* Азяраны Раг.

КАРСЭ'Т *м.* Кабат, безрукаўка. *Карсэт строчаны, толькі рукавоў і каўняра німа.* Вецярэвічы Пух.; *гл.* ґ а р с э́ т.

КА'РТА *ж.* Павестка. *Далі карту ў вармію ісці.* Дакудава Лід.

КАРТАВА'ЦЬ *незак.* Тасаваць. *На, картуй карты!* Номікі Бабіц.

КАРТАНО'СЫ *прым.* Курносы. *Кап ён быў харашэйшы, а то картаносы хлопяц.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *karkanõsis* 'тж'.

КАРТАПЛЕ'НЁ, КАРТАПЛЕ'НЯ *зб. н.* Бульбоўнік. *Картапленё карова есць.* Вострава Маст. *Пайду картапленё жаць.* Міратычы Карэл. *Картапленя схне на плоце.* Старое Сяло Зэльв., Вялікія Баяры Шчуч. *Картапленя велька.* Мсцібава Ваўк.

КАРТАПЛЕ'НІК, КАРТАФЛЕ'ННІК *м.* Тое ж, што і к а р т а п л е́ н ё. *Картапленік — увесь, а ежэлі без лісця, то цымбурэ.* Дзяніскавічы Ганц. *Картафленнік зжалі і пасушылі.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* ДАБМ, карта № 281.

КАРТАПЛІ'СКО, КАРТО'ПЛІСКО *н.* Бульбянішча. *Картапліско — дзе картопля расла.* Вострава Маст. *Мо ты жыто сеяцьмеш на картапліску?* Дзяніскавічы Ганц. *Картоплісо згаралі і ячмень пасеялі.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *kartoflisko* 'тж'.

КАРТАПЛЯ'НІШЧА, КАРТАФЛЯ'НІШЧА *н.* Тое ж, што і к а р т а п л і́ с к о. *На картаплянішчы пасцілі гаўядо.* Пасека Ст.-Дар. *На картафлянішча кароў не пускаюць, бо яны с пяском бульбы паядут, іх абдуёт і балеют.* Рагулішкі Даўг.

КАРТАПЛЯ'НЫ, КАРТАФЛЯ'НЫ *прым.* Бульбяны. *Картапляная коўбаса ўкусная.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Алаткі картафляныя на стале.* Малахоўцы Бар.

КАРТАФЛЯ'НІК *м.* Тое ж, што і к а р т а п л е́ н і к. *Картафлянік павесілі на плот.* Кіралі Шчуч. *Картафлянік сушаць на сечку.* Рудня Чэрв.

КАРТАФЛЯ'НІКІ *мн. кулін.* Бульбяныя бліны. *Картафлянікі — такія блінэ с картофлі і муке патсыплеш, яны лучшэ пякуцца.* Кіралі Шчуч.

КАРТАФЛЯ'НІСКА *н.* Тое ж, што і к а р т а п л і́ с к о. *Картафляніско трэба перагараць. У нас гарох сеюць на картафляніску.* Кіралі Шчуч., Галубы Маст.

КАРТА'ЦЬ *незак.* Пераворваць. *Поле картаць нада, нада яго змяшаць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *kartóti* 'тж'.

КА'РТАЧКА *ж.* Квіток, талон. *Аканом у пана быў — даваў картачкі на ягады.* Снягяны Смарг.

КАРТО'ПЛІ, КАРТО'ПЛЕ, КАРТО'ХЛІ *мн.,* КАРТО'ФЛЯ *ж.* Бульба. *Добра картоплі сеяць, як посныя дні.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ужэ картопле копают.* Дзмітравічы Кам. *Картопель не копала.* Старое Сяло Зэльв. *Як картохлі выкопаем, то в полі ўжэ роботы тяшкой нэ будэ.* Курашэва Чыж. *Лятась картофля павыгнівала ў людзей.* Верхлессе Крын. *Памагала картофлю перабіраць.* Старыя Трокі Трак. *Мы картофлю акурат садзілі ў маі; цяпер велька картофля парасла.* Бароўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *kartofel* 'бульбіна' < ням. *Kartoffel* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 277.

КАРТО'ПЛІНІСКО *н.* Тое ж, што і к а р т а п л і с к о. *Картопліniско пэрэору.* Дзмітравічы Кам.

КАРТО'ПЛІСКО *гл.* КАРТАПЛІ'СКО

КАРТОФЛЁВЫ *прым.* Бульбяны. *Як з'ем аладак картофлёвых, і захварэю. Картофлёвыя клёцкі варылі.* Мсцібава Ваўк.

КАРТО'ШКА *ж.* Бульба. *Мы картошку капалі.* Янова Рас. *Картошку с поля вазілі.* Груздава Паст., Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* руск. *картошка* 'тж'.

КАРУ'НКІ, КАРУНКЕ', КАРО'НКІ толькі *мн.* Карункі. *Карункі бяз шуціка робім.* Магуны Паст. *Я і карункі візала, і панчохі.* Гайна Лаг. *Яна можыць карункі выраблиць.* Кемялішкі Астр. *Як маладая была, вязала карункі; мая пасцілка с карункамі.* Саланое Віл. *Карункі на прошвы самі вязалі.* Стральцы Гродз. *Просціна аблезла ўніс, карунке вісяць.* Кіралі Шчуч. *Карункі я сама рабіла.* Солы Смарг. *Каронкі прышыла да ручніка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кашулю апшыла каронкамі.* Дакудава Лід.; *параўн.* польск. *koronki* 'тж'.

КАРУ'ШЧЫК *м.* Корак. *Затні пляшку карушчыкам!* Стральцы Гродз.

КАРХ *м.* Карак. *Ухваціў ката за карх — і нясець.* Беразіно Докш.

КАРХАВІ'НА *ж.* Спіна. *Кархавіна ўся чорная ад банак.* Беразіно Докш.; *гл.* к а р к а в і н а.

КАРХАВІ'ННЕ *н.* Жабіна ікра. *Жабы напусцілі кархавіння ў ваду.* Ухвала Круп.

КАРЦЕ'ЦЬ *незак. безас.* Хацецца. *Яму карціць скубянуць яе, ушчыпнуць.* Курапалле Паст. *Карціт ему туда пайці — на піва ілі к девкам.* Рагулішкі Даўг. *Карціць яму выпіць.* Ёдлавічы Брасл.

КАРЧАВА'ЦЬ *незак.* Выкопваць з карэннем пні, кусты. *Нада пні карчаваць, лазу карчаваць.* Істра Лудз. *Карчуюць пасеку, будуць сеяць.* Гемзы Шальч. *Карчэ карчуюць.* Кіралі Шчуч.

КАРЧАВІ'К *м.* Той, хто карчуе. *Карчавік карчэ капаў.* Бакшты Іўеў.

КАРЧАВІ'НА *ж.* Поле на выкарчаваным участку. *Па гэтых карчавінах сеялі.* Солы Смарг.

КАРЧА'ВЫ' *прым.* 1. Няроўны, грудкаваты. *Там карча́вая зямля была, многа бугроў.* Альхоўцы Лях. *Карчава́я зямля пад лесам, там былі карчэ, усё рвалі.* Кіралі Шчуч. 2. Разгалісты. *Карча́вае разложыстае дзерава расце на полі.* Пацаўшчына Дзятл.

КАРЧА'ГА *ж.* Корч. *Там куп'ё, карчагі, нічога не сеюць.* Паплавы Бярэз.

КАРЧА'ЖКА, КАРЧА'ШКА *ж.* 1. Пасудзіна для дзёгцю. *Дзёгаць лілі ў карчажку.* Беразіно Докш. *Была карчашка на*

*дзёгаць.* Мярэцкія Глыб. 2. Чарпак з доўгай ручкай. *Была карчашка на кію насаджана, нада было карчашкай катлы даліваць; яна ў дыме, чорная, закапцеўшы, і звалі карчашка.* Мярэцкія Глыб.

КАРЧА'ЖКІ *мн.* Дрэўкі, гнілушкі з карча. *Старое вядро, поўная гнілых карчажак.* Азаркі-Пудавінка Мядз.

КАРЧА'К I *м.* Тое ж, што і к а р ч á г а. *Пры карчаку хадзіла карова.* Старыя Смільгіні Воран.∇*Зрабіўся, як карчак.* Альхоўка Навагр. *Между калоткаў скручаны памёр, як карчак ляжыць.* Старыя Смільгіні Воран.

КАРЧА'К II *м.* Конь карычневай масці. *Кары, цёмна-буры конь — карчак.* Мельнікі Лудз.

КАРЧАНЕ'ЦЬ *незак.* Горбіцца, старэць. *Карчанее стары чалавек.* Парэчча Гродз.

КАРЧА'ШКА *гл.* КАРЧА'ЖКА

КАРЧМА' *ж. устар.* Карчма. *Карчма—дзе вотку і піва прадавалі.* Паляцкішкі Воран. *Была ў нас карчма, там і рыба была, алей і гарэлка.* Вецярэвічы Пух. *Даўней кáрчмы былі.* Альхоўка Навагр.

КАРЧО'К *м. памянш. да* к о р ч I, 1.∇*Яна ляжыць адна ў хаце, як карчок. Як ён плыўшы і ўтапіўся — ляжаў, як карчок.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАРЧО'НКА *ж.* Тое ж, што і к а р ч м á. Талейкі Швянч.

КАРЧУ'К *м. памянш.* да к о р ч I, 1. *Карчук маленькі прывёс.* Граўжышкі Ашм.

КАРЧЫ'ЦЦА *незак.* Кусціцца. *Шыпоўнік карчыцца, я яго высякала, а ён разрастаецца.* Вецярэвічы Пух.

КАРЧЭ'ЎЕ *н.* Месца, дзе многа пнёў. *На карчэўі сенакос быў.* Міхалёва Бярэз.

КАРЧЭ'ЎКА *ж. бат.* Відомец. *Карчэўка расце на ніскіх мясцах у балоця, тоненькія сцебялькі, пахучая трава.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАРШНЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к а р ч а н é ц ь. *Стары, ён ужо каршнеіць на печкі.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *kár-šti* 'драхлець, дажываць век'.

КАРШУ'Н *м.* Каршун. *Каршун рабый і шэрый, маленькі і бальшы. Каршун курэй дзярэць кіпцямі; бальшые кіпці, цап пат сібе — і ў балота папёр. Адзін рас шары каршун, сеўшы на курыцу, і прыехаў верхам да дзвярэй. Каршун не заб'ець хучшага, а лучшага курчонка.* Рагулішкі Даўг. *Каршун курыцу схваціт.* Чарняўскія Лудз. *Каршун крадзе курэй.* Пацаўшчына Дзятл. *У мяне каршун ухапіў курыцу.* Данілавічы Дзярж. *Каршун глаўна пуп дастае ў курэй.* Кіралі Шчуч.∇ *Каб цябе каршун! Ой, каб яе каршун тую сароку!* Саланое Віл. *Каршун каршуном!* Старыя Смільгіні Воран.

КАРШЧА'ВЫ *прым.* Кашчавы, хударлявы. *У мужыка ліцо было каршчаваё. Каршчавы твар быў у яго.* Ухвала Круп.

КАРШЭ́НЬ *м.* 1. Карак. *Прыляцеў, набіў майго ўнука ў каршэнь, надаў ні за што.* Кураполле Паст. ◊ *Даць у каршэнь.* Ракаўскія Швянч. *Даў кулаком у каршэнь.* Чычалі Швянч. *Як дам у каршэнь!* Кураполле Паст. *Вазьму за каршэнь і выкіну вон цябе!* Гемзы Шальч. 2. *зневаж.* Корч (пра старога чалавека). *Стары каршэнь на печкі ляжыць.* Гемзы Шальч. *Ён такі стары каршэнь.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *karšiñčius* 'стары чалавек, які патрабуе догляду'. 3. Кулак. *За хвост каня, тады каршнём пад пуза!* Ухвала Круп.

КАРШЭ́ЦЬ *незак.* Драхлець, дажываць век. *Стары чалавек не жывець, а каршэіць, нічога яму ні інцярэсна.* Валынцы В.-Дзв. *Стары каршэіт.* Баложы Даўг.; *параўн.* літ. *káršti* 'тж'.

КА́РЫ толькі *мн.* 1. Воз. Судэрва Вільн. *Цалы воз кары называлісь, а воз — па-польску.* Грыкені Вільн. *Сеў на кары і паехаў дамоў.* Ухвала Круп. 2. Воз для двухконнай вупражы. *Кары — параконны вос.* Дакудава Лід. *Кары былі ў пана, двухконыя.* Малахоўцы Бар. 3. Скрыня, што ставілася на калёсы для перавозкі чаго-н. *Кары — збітыя палкі, як калёсы длужылі, клаліся на калёсы, як бульбу вазілі.* Быстрыца Астр. 4. Спецыяльны воз для перавозкі бярвення. *Кары, яны раздвіжныя; калёсы, якія раздзвігаюцца, у іх доўгі дышаль.* Крэва Смарг. *Кары — каб длінныя броўны вазіць.* Беразіно Докш. 5. Воз без драбін. *Калі зняць драбіны — гэто кары.* Быстрыца Астр. *Кары — воз без драбін.* Граўжышкі Ашм. 6. Сані, прыстасаваныя для перавозкі доўгага бярвення. *Яшчэ сані называлі кары — вазіць дзерава.* Дзяніскавічы Ганц. *Пярэднія называліся кары, а заднія — сучка, а умесці навускрыж звязваюцца ланцугамі.* Калясное Міхал. *Сані кароткія; после дзелалі дліной да двух мэтраў і называлі кары і да іх прывязвалі ланцугом сучку і длінныя дзерава вазілі.* Лука Нараўк. 7. Маленькія саначкі. *Кары — маленькія санкі; бярвенні вазілі на іх.* Глівін Барыс.

КАРЫ́НА́ *ж.* 1. Кара. *Аддзяруць карыну ліповую і дзелалі сеялку.* Лісна В.-Дзв. *С карыны з ліповай рабілі раёўку.* Саланое Віл. *Адаропка с карыны ліповай здзелана, наматавалі ніткі на адаропку.* Саланое Віл. 2. Каробачка з кары. *Карына — пасудзіна з кары.* Вострава Маст. *Мядзвець лез за мёдам, закалоў лапу, паказаў чалавеку лапу ў крыві, чалавек вынуў занозу, мядзвець — мур-мур-мур і прыносіць яму карыну мёду, скрылёў поўна наклаўшы.* Валынцы В.-Дзв.

КАРЫСТА́ЦЬ *незак.* Карыстацца. *Цяпер ён карыстая з майго ўсяго.* Граўжышкі Ашм.

КАРЫ́СЦЬ, КАРЫ́СЬ *ж.* Карысць. *Такая мне карысць, ці польза, з яго.* Мярэцкія Глыб. *А якая з цябе карысць!* Рыбчына Віл. *Шта за карысць з гэтых дзяцей — адзін хлопат.* Бакшты Іўеў. *Німа карысці з гэтага.* Жылі Іўеў. *З яго*

*карысці німа.* Граўжышкі Ашм. *Німа ніякай карысці з цябе.* Беразіно Докш. *У карысць пашло.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кап карысь была з іх.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *korzyść* 'тж'.

ҚАРЫ'ТА, ҚАРЫ'ТО *н.* і *ж.* 1. Қарыта. *Вылійіць у карыта свіням.* Ністанішкі Смарг. *Такое дзеравянае — гэто карыто, кормяць у ім свіней.* Баброўнікі Гарад. *Скабёлка была карыту рабіць.* Магуны Паст. 2. Начоўкі, балея. *Дзірівяныя карыты былі бяльё мыць.* Навікі Лудз. 3. Човен. *Қарыта выдаўбаў з грубой асіны і ездзя па рэчцы.* Гемзы Шальч.

ҚАРЫТА'Ж *м.* Қалідор. *Ён у карытажу ляжыць і стогніць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *korytarz* 'тж'.

ҚАРЫ'ТҚА *н.* і *ж.* 1. *памянш.* да к а р ы́ т а 1. *Нада карытку дзяўбаць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Іншыя рэчы, якія падобны да карыта. *Зыбалка — карытка такояківалася.* Стральцы Гродз. *Веялкай веялі — з ручкай карытка такое.* Грыкені Вільн. *У возе карытка такая прырабляецца, у яе ўстаўляецца жэрдка, што злучае перадок і задок.* Чычалі Швянч. *На падушку шворань, к шворню дышаль, сзадзі карытка.* Старыя Трокі Трак.

ҚАРЫТЦО' *н. памянш.* Қарытка, куды ўстаўляецца тачыла. *Қарытцо ў тачыдле, дзе спот камня ходзя ў вадзе.* Гемзы Шальч.

ҚАРЫ'ЦА *ж. памянш.* 1. Қара. *З ліпы дзяруць карыцу.* Дакудава Лід. *Қалыску рабілі з карыцы, з ліпы.* Саланое Віл. *Қарыцай ад лазы венік вяжуць.* Саланое Віл. 2. Тонкая кара з маладых дрэў. *Қарыца — з маладой сасны.* Рыбчына Віл. *Қарыца — тонкая кара.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ҚАРЫ'ЦЦА *н.* Тое ж, што і к а р ы́ т к а 1. *Некалі расказвалі: бацька пытая ў сына: «Што ты, Фэлька, робіш? — Қарыцца.— Каму?— Не курам, а тату: можа, тата будзе з яго есці, як наш дзядуля есь?»* Гемзы Шальч.

ҚАРЫ'ЦЬ *незак.* Абчышчаць кару. *Трэба дзерава карыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ҚАРЫ'ЧҚА *ж.* Тое ж, што і к а р ы́ ц а 2. *Қарычка на бярозе тонкая.* Бакшты Іўеў.

ҚАРЫ'ЧҚІ *мн.* Сорт яблыкаў, малінаўка. *Қарычкі — паласястыі яблыкі.* Валынцы В.-Дзв.

ҚАРЫ'ЧЛІВЫ *прым.* Қарычневы. Рудня Чэрв.

ҚАРЭ'ЗІЦЬ *незак.* Қапрызіць. *Дзіця карэзіць, плача.* Рудня Астравітая Чэрв.

ҚАРЭ'ЛЫ *прым.* 1. Запэцканы. *Увесь карэлы пашоў, бо ў грась упаў, увесь у гразі.* Гайна Лаг. *Карэлая дзіця.* Лоск Валож. *Карэлыя рукі.* Альхоўцы Лях. 2. Заношаны, брудны (пра адзенне). *Адзежа карэлая.* Мярэцкія Глыб. *Прывёс торбу карэлую.* Магуны Паст. *Чорная карэлая адзежа, трэба*

*мыць карэлыя патшганікі.* Рыбчына Віл. *Карэлую простынь паслала.* Солы Смарг. 3. Неахайны. *Карэлая хазяйка была.* Магуны Паст. *Карэлая жанчына.* Стральцы Гродз. *Ты, як тая Лаўрыніха, што паехала вінчацца ў карэлай кашулі.* Кураполле Паст.∇ *Ах ты жаба карэлая!* Саланое Віл. 4. Гразкі. *Дарога карэлая, далёка ня пойдзяш.* Крэва Смарг. 5. Мутны. *Карэлай вады наліла.* Лоск Валож. 6. Дробны, няякасны. *Мы былі набраўшы кубачак ягат карэлых.* Паляцкішкі Воран.

КАРЭ'ННЯ, КАРЭ'НЯ *зб. н.* 1. Карэнне расліны. *Яна* [трава] *мая бальшыя карэня, у зямлю ўпіўшыся.* Граўжышкі Ашм. 2. Настой з карэння. *Даўней крапчэйшыя людзі былі — карэння пілі; ён гэтыя карэння капаў.* Саланое Віл. *Навару карэння і п'ю.* Альхоўка Навагр. 3. Пачаскі з валакна ніжняй часткі трасты. *Лён чэшуць рэткай жалезнай шчоткай, з аднаго канца — карэня, гэта лучша, з іх ткалі зрэбнае: радзюшкі, на штаны шаракі, з другога — галаўкі.* Стральцы Гродз.

КАРЭ'НЬ *м.* 1. Корань расліны. *Вароны цягнуць кукурузу і карэнь выцягаваюць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Стрыжань птушынага пяра. *Карэнь — цвёрдая частка пяра птушкі.* Чычалі Швянч. 3. *перан.* Род, радаслоўная. *Бацька памёр, дачка выехала ў Латвію, так вот і карэнь вон.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАРЭ'НЬЧЫК *м. памянш.* да к а р э́ н ь 1. *Цяпер і таго не ямо, і тое не смашна, а ў вайну рады былі карэньчыка з'есці.* Вецярэвічы Пух.

КАРЭ'ПКАЦЦА *незак.* Караскацца. *Дзіцятка ўжо карэпкаяцца, бярэцца за білы.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *karãpškintis* 'тж'.

КАРЭ'ТА *ж. астр.* Вялікая Мядзведзіца. *Даўней казалі: «Ужо карэта павярнулася» — і зналі сколька врэмя. У гэтай карэце Эліяш ездзіў.* Гемзы Шальч.

КАРЭ'Ц I *м.* 1. Конаўка. *Карэц — кружка такая, даўней з дзерава рабілі.* Дзяніскавічы Ганц. *Карэц медны, колісь медныя корцы былі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Карэц — жалезная кружка.* Пасека Ст.-Дар. *Прынясі карэц квасу!* Азяраны Раг. 2. Калодачка з адтулінай у верхнім камені жорнаў. *Карэц з дрэва зроблены: выдлубана дзірачка, а ў гэну дзірачку ткнеш млён.* Саланое Віл. *Карэц — калодка з дзіркай пры верхнім жарнаку, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна.* Тухавічы Лях.

КАРЭ'Ц II *м. с.-г.* Металічная планка на драўлянай аснове ніжняй часткі сахі. *Карэц — пласцінка ўпоперак на лемяшніцы калё лемяхоў. Ад карца прытаркі ідуць к аглоблям.* Істра Лудз.

КАРЯ'ЎКІ *мн. груб.* Брудная бялізна. *Каряўкі яе мыць не буду!* Мішневічы Шум.

КАРЯШО'К *м.* Лекавы корань. *Па полю ходят и собирают каряшок на лякарства.* Крэвені Даўг.

ҚАСА′ I *ж.* 1. Қаса. *У дзеўчыны каса доўга.* Альхоўцы Лях. 2. Сплеценае льняное валакно. *Натрапала, начасала лёну і ў касу спляла, доўга ляжала — і як шоўк гэты лён.* Ахрэмаўцы Брасл. *З лёну касу плялі ў тры жменькі.* Гемзы Шальч. *Каса, ці пук лёну. Чыстая валакно плялі ў касу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лён плялі ў касу і круцілі і называлі штука.* Жылі Іўеў. 3. Сабраная ў ланцужок аснова красён. *Аснова ў касу сплецена.* Баброўнікі Гарад.

ҚАСА′ II *ж. с.-г.* Қаса. *Вот вам каса і яе часці.* Альхоўка Навагр. *Прышла да таты касы прасіць.* Қураполле Паст. *Як каса гостра, то касіць добро, а як тупая, то клеплеш, клеплеш — і рады не дасі.* Баброўнікі Гарад. *Қасою косяць і тэраз.* Відаўцішкі Вільн.

ҚАСА′ III *ж. анат.* Селязёнка. *Ва ўсякай жывёлы е каса.* Альхоўцы Лях. *Вантрабянку робяць з ляхкіх, цяшкіх, касы.* Асавец Віл.∇ *На касу мы варожым: як тоўстая каса — зіма цяжкая будзя.* Лоск Валож. *Як каса грубая — зіма цішкая будзіць.* Малькуны Ігн. *Як каса шырша, то зіма будзя доўгая.* Паляцкішкі Воран. *Қасу ня еш — будуць косы ламацца, як будзіш касіць.* Қураполле Паст. *Па касе пагоду пазнаюць: як роўна каса, то роўна зіма будзе.* Баброўнікі Гарад.

ҚАСА′ IV *ж.* Прамень. *Сонца косы папуская.* Гайна Лаг.

ҚАСАВА′ЦЬ, ҚАСОВА′ТЫ, ҚАСУВА′ТЭ *незак.* 1. Забараняць. *Яны веры не касавалі.* Паляцкішкі Воран. 2. Разбураць. *Гэны плот нада касаваць і новы робіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Забіваць, рэзаць. *Буду свої куры касоваты: всі до однэі поріжу.* Сіманавічы Драг. *Рубэтыму густэну, то трэба будэ всі гусэ касуватэ.* Радастаў Драг. 4. Распускаць, што не так зроблена. *Дівчына робыла рукавыцу, да нычого* [не так], *а маты кажэ: «Қасуй гэту роботу, роскыдай всю!»* Відзібар Стол. 5. Браць развод. *Ён касуя шлюб.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *kasować* 'тж'.

ҚАСАВА′Я ДАРО′ГА *ж.* Бакавая дарога. *Адна дарога ідзе прама, а другая заварочвае ад яе — гэта касавая дарога.* Данілавічы Дзярж.

ҚАСАВІ′ДЛА, ҚАСАВІ′ЛА *н.* Қассё. *Қасавідла ў нас называюць.* Малькуны Ігн. *Трэба касавідла новае зрабіць.* Асавец Віл. *Қасавіла — што касу насаджваць.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *widły* 'вілы'.

ҚАСАВІ′ЛЬНА *н.*, ҚАСАВІ′НА *ж.* Тое ж, што і к а с а в і д л а. *Қасавільна ў нас.* Індра Қрасл. *Паламаў касавіну, трэба новую зрабіць.* Пасіене Лудз.; *гл.* ДАБМ, карта № 262.

ҚАСАВІ′СҚА *н.* Тое ж, што і к а с а в і д л а. *Қасавіска ў касе.* Қемялішкі Астр.

ҚАСАВІЧҚЕ′ *мн. памянш.* Қаснічкі. *Ні было ніякіх фіранкаў, як з бежанцаў прыехалі, тады сталі вешаць касавічке наўкас.* Малахоўцы Бар.

КАСАВІ'ШЧА *н.* Тое ж, што і к а с а в і д л а. *Купіў касу, трэба касавішча зрабіць.* Пасіене Лудз.

КАСАВО'КІ, КАСАО'КІ *прым.* Косы. *Касавокі не можа проста глядзець, усе у бок глядзіць.* Гемзы Шальч. *Касавокі, як заяц.* Кіралі Шчуч. *Е, бачытэ, касаокіх, яг гэто нідобра выглядае!* Баброўнікі Гарад.

КАСАЛА'ПЫ *прым.* Касалапы, клышаногі. Чычалі Швянч.

КАСАПЛЁТКА *ж.* Каснік. *Касаплётку ў касу ўпляцець.* Рагулішкі Даўг. *Касаплёткі ў косы заплятали, іх с крамнага рабілі.* Індра Красл., Магуны Паст.

КАСА'Р *м.* Касец. *Пракос касар гоніць.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАСАРЫ' толькі *мн. астр.* Стажары. *Касары — як дарошкі ідуць, да пяці звёздачкаў.* Лайпушкі Ігн.

КАСА'ТЫ *прым.* Які мае доўгія валасы. *Я касатая была, косы доўгія былі, заплеценыя.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* літ. *kasóta* 'тж'.

КАСАЎЁ *н.* Тое ж, што і к а с а в і д л а. *Нада касу асадзіць на касаўё.* Ёдлавічы Брасл.

КАСА'Ч *м. бат.* Касач. *Касач расце ў балоце і гародзе.* Жылі Іўеў. *Касачы жоўтым цветам цвіцяць.* Валынцы В.-Дзв.

КАСЕ'Ц *м.* Тое ж, што і к а с á р. *Касец косіць.* Відаўцішкі, Грыкені Вільн., Кіралі Шчуч. *Касцэ косяць траву.* Баброўнікі Гарад.∇ *Касец — гнусец, вот грабец — маладзец. Гэта так трэба панімаць: скошанае сена можа згніць, як дошч пойдзе, а як сухое зграбуць і звязуць, то нішто не пашкодзіць.* Кузьмічы Люб.

КАСЁРА *ж.* Качарга. Каўняны Гродз.

КАСІЕ'Р *м.* Касір. *Ён касіерам быў і ўчоччыкам.* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* польск. *kasjeř* 'тж'.

КАСІ'НКА *ж.* Волас. *Адна касінка сівая.* Масілавічы Сл.

КАСІ'Р *м.* Тое ж, што і к а с і é р. *Касір прадае білеты на Дрысу.* Якубова Рас.

КАСІ'ЦЦА *незак.* Грэбціся, грэбці кіпцюрамі. *Куры косяцца, нада кіпцюры апсікаць ці абуць. Віраб'і таксама косяцца.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *kàsti* 'тж'.

КАСІ'ЦЬ I *незак.* Касіць. *Другі красіва, чыста косіць, а другі — некрасіва.* Скрыпчына Лудз. *Яна і касіць можыць.* Рагулішкі Даўг. *Нагнаў лапатуной у касу і не косе.* Відаўцішкі Вільн. *Касцы косіць* [косяць]. Старыя Смільгіні Воран *За кустамі касілі.* Кураполле Паст.

КАСІ'ЦЬ II *незак.* 1. Разграбаць зямлю. *Курыца косіць зямлю. Куры косяць ячмень.* Кураполле Паст. *І вераб'і косяць зямлю.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *kàsti* 'тж'. 2. Скрэбці. *У сянях гразь была, касіла-касіла, чуць пакасіла.* Саланое Віл.

КА'СЛА *н.* Ручайка, жменька, пучок. *Лён у пірашкі пплялі па дзесяць каслаў.* Жодзішкі Смарг.

КА'СЛАВАЧКА *ж.* 1. *памянш.* да к á с л а. *Узяў каславачку саломы і скруціў перэвісла.* Дакудава Лід. 2. у знач. *прысл. каславачкамі.* Валаконцамі, пушынкамі, валаскамі. *Дулька каславачкамі адлятая, яе выварачуям і каровя пасцелям.* Быстрыца Астр.

КА'СЛАЎКА *ж.* 1. Тое ж, што і к á с л а. *Вазьму каслаўку лёну і трапаць буду.* Саланое Віл. *Каслаўкі кудзелі расцягавай.* Асавец Віл. *Каждую каслаўку пературу мяльніцай.* Крэва Смарг. *Возьміш каслаўку лёну, патрэш і глядзіш, ці вымак.* Кураполле Паст. *Даўней каслаўку лёну возьмя і перавяжа пупавіну.* Стральцы Гродз. 2. Касмыль. *Вырваў каслаўку валасоў.* Паляцкішкі Воран. *Як напякаў валасы на дроцік, каслаўку, можа, і атпаліў.* Дакудава Лід. 3. у знач. *прысл. кáслаўкамі.* Касмыкамі. *Каслаўкамі цягнецца воўна, як прадзеш.* Кураполле Паст.

КАСЛЯ'ВЫ *прым.* Касцісты. *Лешч і ёрш — рыба каслявая.* Рагулішкі Даўг.

КАСМА'К *м. экспр.* Касмыль. *Чаму косаў не запляцеш? Ходзіш, як касмак.* Галубы Маст.

КАСМА'ТЫ *прым.* 1. Аброслы валасамі, барадой. *Рос касматы — ета не чалавек; талковы чалавек не будзе касматы.* Вецярэвічы Пух. *У яго шэя касматая.* Кураполле Паст. 2. Варсісты. *Бархан, у ім адзін бок касматы, другі — глаткі.* Стральцы Гродз.

КАСМА'ЦІНЬКІ *прым. памянш.* 1. Махнаценькі. *Жыта калі красуя, касмацінькая станя.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Варсісты. *Касмаценькая тасемка прычэплівалася ў ніс андрачка.* Індра Красл.

КАСМА'ЦІЦЦА *незак.* Калмаціцца. *Касмацяцца ніткі, як някрута спрадзены.* Кураполле Паст.

КАСМУ'К *м.* Пучок, жменька. *Аставіў касмук сена.* Жодзішкі Смарг.

КАСМУ'ЦІЦЦА *незак. безас.* Хмарыцца. *Сягоння пахмурна, касмуціцца, будзіць дош.* Ністанішкі Смарг.

КАСМУ'ШКА *ж.* Галавешка. *Касмушка — гэта недагарэлая палена.* Дакудава Лід.

КАСМЫ'ЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і к а с м á к. *Вот касмыль гэты валасамі аброс.* Ёдлавічы Брасл. *І гэты касмыль будзя з намі?* Кіралі Шчуч. 2. Аброслы поўсцю. *І на цялёнка кажуць: касмыль, як поўсць даўгая.* Ёдлавічы Брасл.

КАСНІ'К I *м.* 1. Істужка. *Каснік — гэта стушка косы плятаць.* Малькуны Ігн. *Каснік — лента.* Чычалі Швянч. *Каснік увязалі ў валасы.* Гемзы Шальч. *Стужка, казалі і каснік.* Быстрыца Астр. *Каснік уплятали ў валасы; тое, што лента.* Магуны Паст. *Каснік — гэта акравачак ці прух.* Кіралі Шчуч.

*Каснікі ўплятали ў косы.* Новікі Гродз., Старыя Смільгіні Воран., Азяраны Раг. *Каснікі цяпер не завуць.* Кемялішкі Астр. *Жаніхі паехалі, каснікоў начэпаўшы.* Кураполле Паст. 2. Тасёмка. *Каснік з матэрыялу любога вырэзалі і прышывалі.* Гемзы Шальч. *Каснікамі абшывалі рубашкі, сукенкі.* Пацаўшчына Дзятл. *Андарак с каснікамі быў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каснікамі кішэні падшываныя.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Шнурок, сплецены з нітак, якім карысталіся пры красанні агню. *Калісь да крэсіва бралі касніка, называлі каснікам. Цяпер няма крэсіваў, няма каснікоў. Адны рабілі цунтар, другія каснік.* Баброўнікі Гарад. *З ніцей можна сплясці каснік.* Кіралі Шчуч. 4. Наогул вузкія палоскі чаго-н., шматы. *Парваў сукенку ў каснікі.* Ёдлавічы Брасл. *Пастрыгла паперу на каснікі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kasnỹkas* 'тж'.

КАСНІ'К II *м. бат.* Тое ж, што і к а с а́ ч. *Каснік — іх два сарты: адзін жоўтым цвіцець, а другі — сінім.* Рагулішкі Даўг. *Каснікі ў балоці растуць і ў гароччыку.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* к а с н і к I.

КАСНУ'ЦЦА *зак.* 1. Закрануць. *Вы толькі касніціся далёкіх людзей, гарацкіх, колькі іх тут летам.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Здарыцца. *А каснулась так; вінаватага не нашлі, а слядзілі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *коснуться* 'дакрануцца', *перан.* 'закрануць; зайсці' (пра справу, мову).

КАСНЫ', КАСНЫ'Й *прым.* Які адносіцца да к а с а́ II. *Касу кліпаць — касны малаток.* Ахрэмаўцы Брасл. *Касная банка — такоя кальцо ў касе.* Істра Лудз.

КАСОВА'ТЫ *гл.* КАСАВА'ЦЬ

КА'СТА *ж.*, КА'СТЫ *мн.* Яслі, драбіны. *Каста зроблена ў хлеве; сена кладуць у касты, вышыні, як стол, і загароджана: палачка і пустоя прастранства, куды галаву ўстаўляет. Сена кладут у касты. Былі ў іменіях касты; каровы кушают із кастов.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *kãstė* < ням. *Kasten* 'тж'.

КАСТРА' *ж.* 1. Кастрыца. *Церлі лён, кастра атпадала.* Грыкені Вільн. *Возьмеш, патрэш — кастра сыпецца, астаецца валакно, камялёк патрасеш — як шолк.* Малькуны Ігн. *Кастра сыпіцца, як мнеш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кастра з лёну высыпаецца. Кастра сыпіцца з вярхоў і камлёў.* Магуны Паст. *Як некалькі дней пералежыць лён, як трэпіш, толькі пыл, кастра з яго ідзець.* Кураполле Паст. *Пакуль прадуць, і кастра адваліваецца.* Саланое Віл. *Лён чысты, без кастры, кастра адлятала.* Грыкені Вільн. *Пätрапі с кастрой на воркі ішлі.* Старыя Трокі Трак. *Асыпаем кастрою гэту сцёпку.* Парэчча Гродз. 2. Асцюкаватыя костачкі ў рыб. *Кастра ў большай шчукі.* Рагулішкі Даўг. *Кастра вялікая ў паляц улезла, як рыбу чысціла.* Магуны Паст.

КАСТРО'Г, КАСТРО'Х *м.* Града ці стажок складзеных дроў. *Ідзі пашчапай і злажы дровы ў кастрог! Злажыў два*

*кастрогі каля сцяны ці плоту.* Паляцкішкі Воран. *Наклаў кастрох дроў.* *Вялікія* Баяры Шчуч. *Рэзалі на палены, калолі і ў кастраге ставілі дзеравы.* Пацаўшчына Дзятл.

КАСТРУКІ' *мн.* 1. Лушпіны ад зерняў аўса. *Каструкі аўсяныя с кіселя, як цэдзіш.* Кураполле Паст. 2. Асцюкі ў коласе ячменя. Магуны Паст. 3. Стрыжні пёраў. *Як скубём пер'я, каструкі вон на шуметнік выносім.* Рагулішкі Даўг.

КАСТРУ'ЛЯ *ж.* Каструля. *Каструля натта загарваецца ў печы.* Старое Сяло Зэльв. *Каструля з бляхі з вушыма.* Баброўнікі Гарад. *Пастаўлю каструлю суп варыць.* Солы Смарг.; *параўн.* руск. *кастрюля* 'тж'.

КАСТРЫВЕ'ЙШЫ *прым. выш.* да к а с т р ы́ в ы 1. *А як чэшуць, то адбіраюць камлі і вярхі. С камлёў лепшае валакно, а вярхі больш кастрывейшыя.* Кураполле Паст. *Вярхі кастрывейшыя аткідаюць на другі бок.* Саланое Віл. *Зрэбя кастрывейшая.* Асавец Віл.

КАСТРЫ'ВЫ *прым.* 1. Кастрывы. *Пакульная пасцілка грубая, кастрывая.* Быстрыца Астр. *С пакуляў кастрывых коўдры ткалі.* Кудзялянцы Шальч. 2. Касцісты. *Шчука — рыба кастрывая, кастры многа ў яе.* Рагулішкі Даўг.

КАСТРЫНА' *ж.* Костачка ад рыбы. *Кастрына ў паляц залезла.* Магуны Паст.

КАСТРЫ'ЦА, КОСТРЫ'ЦА, КОСТЭРЫ'ЦА *ж.* 1. Тое ж, што і к а с т р а́ 1. *Кастрыца ад ільну.* Беняконі Воран. *Кастрыца падае, як труць лён.* Каўняны Гродз. *Як трэпям лён — кастрыца атходзіць.* Новыя Мацалі Варэн. *Як труць лён — кастрыца сыплецца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Траплом трэплям, атлятая атрэп'я, кастрыца.* Буда Уздз. *Верх страхі ўкладалі кастрыцаю.* Міратычы Карэл. 2. Ігліца. *Кастрыца — апаўшыя ў лесі іголкі.* Мсцібава Ваўк. *Сыплецца кастрыца сухая с хвоі, ёлкі.* Вострава Маст. *Кастрыца нападала з хвоі. Награбла кастрыцы на подсціл.* Пацаўшчына Дзятл. *У лесі с хвойніку сыплецца кастрыца, з еліны, іголкі такіе — гэто кастрыца.* Баброўнікі Гарад. *Кострыца і костэрыца — іголкі на сосне.* Азарычы Пін. 3. Асцюкі. *У ячмені кастрыцы многа.* Магуны Паст.

КАСТЫ'К *м.* Драўляная спіца, пры дапамозе якой падпляталі лапці. *Кастык, бывала, дзеравяны быў патплятаць лапці лазой.* Навікі Лудз. *Кастык быў, лапці ім патплятаталі.* Янова Рас.

КАСТЫЛЕ'Ц *м.* Кастыль. *Цаўё і кастылец пат паху і ходзюць так.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАСТЫЛЁК *м. памянш.* Папярочная планачка, прыбітая зверху да дзяржання вілаў. *Кастылёк зверху прыбіваецца, кап упірацца рукой.* Ёдлавічы Брасл.

КАСТЫ'ЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і к а с т ы л е́ ц. *Адзін — кастыль, а два — кастыле. Ён кастыле ўзяў пат паху і пашоў,*

*яму нага баліць.* Кіралі Шчуч. *То як чалавек ногу паломіць, то даюць пад рукі кастыле тые.* Баброўнікі Гарад. 2. Крук. *Дайней бяроску прынясуць, кастыль уб'юць, калыску павешаяць і гопкаюць.* Стральцы Гродз.

КАСУВА'ТЭ *гл.* КАСАВА'ЦЬ

КАСУ'ЛІ толькі *мн.* Прыстасаванне для падымання грузаў. *На касулях падымалі балкі і вазілі.* Валынцы В.-Дзв.

КАСЦЕ'НЬЧЫКІ *мн. памянш.* Пянеўе ў птушак пасля лінькі. *Касценьчыкі вырастаюць у курэй, як вылязя пер'я.* Азяраны. Раг.

КАСЦЁЛ *м.* Касцёл. *Яны дваццаць лет будавалі касцёл і званіцу вышэй касцёла.* Швэды Вільн. *У касцеле былі.* Чычалі Швянч. *У касцеле я знала ўсё.* Пасіене Лудз. *У касцеле бой адкрылі.* Старыя Трокі Трак. *Касцёл каменны, ён мая ў сабе холад.* Солы Смарг.

КАСЦЁР *м.* 1. Тое ж, што і к а с т р о́ г. *Дровы складаюць у касцёр.* Альхоўка Навагр. *Накладалі кастрэ дроў.* Парэчча Гродз. *Зложаць дрова ў радочак — гэто называюць касцёр.* Альхоўцы Лях. *Дровы трэ паскладаць у касцёр. Накладаныя дрова ў касцёр, у кастры дрова ляжаць.* Дзяніскавічы Ганц. *Дрова складаюць у кастры, а як адзін, то касцёр.* Навасёлкі Свісл. *Касцёр прадалгаwasты на двары зложыў.* Мішневічы Шум. 2. *перан.* Грудок чаго-н., вельмі многа. *Напякла бліноў цэлы касцёр.* Альхоўцы Лях. *Касцёр бліноў напякла.* Малахоўцы Бар. *Ён пасуды разнае прывозіў кастрамі.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Раскладзены агонь на полі, у лесе. *Касцёр — гэто разведзены агонь.* Дзяніскавічы Ганц. 4. Вогнішча. *Касцёр — дзе быў раскладзены агонь.* Пасека Ст.-Дар. ∇ *К гатовому кастру можна прыграбаць* — калі ёсць якая-н. маёмасць, то можна разжывацца. Лісна В.-Дзв.

КАСЦЫ', КАСЦЭ' *мн. астр.* Арыён. *Ад маленства касцы знаю — тры зорачкі. Дайней казалі: «Ужо Касцы проста, трэба вячэру варыць».* Жылі Іўеў. *Касцы — тры зорачкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Касцы — звёзды ў радок.* Дакудава Лід. *Касцэ ўжэ падышлі бліжа — так казалі дайней, па іх уставалі.* Кіралі Шчуч. *Касцы накрыш па тры зорачкі на небі, людзі зналі, роўна якой парой яны явяцца, па іх уставалі, некалі казалі — касцы далёка пашлі, нада ўставаць.* Рагулішкі Даўг. *Тры зоркі стаяць адна за другою, так як касцэ адзін за другім косяць, і зоркі так скосо стаяць, таму іх называюць Касцамі. Калісьці іх называлі Трайке, казалі: «Трайко ўжэ заходзяць».* Баброўнікі Гарад.

КАСЦЮ'ЛЬКА *ж. памянш.* Асцюк. *Касцюлька ад жыта ў горле застрагла.* Мачаск Бярэз. *Касцюлькі ў дабрэ.* Ухвала Круп.

КАСЦЮ'М, КУСЦЮ'М *м.* Касцюм. *Трэба злажыць кас-*

*цюм.* Вялікія Баяры Шчуч. *Касцюм была купіўшы.* Ністанішкі Смарг. *З шараку шылі кусцюмы.* Старыя Трокі Трак.

КАСЦЮ'МІК *м. памянш.* да касцю́м. *Быў у мяне касцюмік: спадніца і сачак суконны.* Дакудава Лід.

КАСЦЯ'НАЧКІ *мн. памянш.* да касця́нкі. *Папаямо ў лесі касцяначак.* Дзяніскавічы Ганц.

КАСЦЯНІ'КА *ж. бат.* Касцяніцы. *Касцяніка ў нас у лесе, ягады касцяныя.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *костяника* 'тж'.

КАСЦЯ'НКА *ж. бат.* Дзікая груша. *У нас дзікую ігрушу называюць касцянка.* Данілавічы Дзярж.

КАСЦЯ'НКІ *мн.* Тое ж, што і касцяні́ка. *Касцянкі і паземкі растуць у нас.* Рагулішкі Даўг. *Рвем касцянкі і ямо.* Мсцібава Ваўк.

КАСЦЯНЫ' *прым.* Рагавы, зроблены з рога. *Касцяны брылік у шапцы, а бывая з мацерыі брылік.* Кіралі Шчуч.

КАСЫ' *гл.* КО'СЫ I

КАСЫ'НАЧАК *м.* Касынка. *У яе касыначак, як шапачка сшыты.* Кіралі Шчуч.

КАСЬБА' *ж.* Летні перыяд нарыхтоўкі сена. *Пачалася касьба: усе людзі палучылі дзялкі і косяць.* Кіралі Шчуч. *Тата ўжо ў хаця, прышоў с касьбы.* Ністанішкі Смарг.

КАСЬЕ', КАСЬЁ *н.* Тое ж, што і касаві́дла. *У касе касье і рукаватка.* Вострава Маст. *У мяне касьё есць.* Вялікія Баяры Шчуч.

КАСЬЛЯ' *ж.* Тое ж, што і касьба́. *Да касьле баба не гадзіцца.* Вялікія Баяры Шчуч.

КАСЯ'К *м.* Падпора пад што-н., прымацаваная наўскос. *З углоў касякі — гэта бальшое дзела для страхі.* Чычалі Швянч. *Касяке даюць пад кроквы.* Баброўнікі Гарад.

КАСЯКО'М *прысл.* Наўскасяк. *Ляжак касяком стаяў.* Івашкаўцы Смарг.

КАСЯ'РКА *ж.* Касілка. *Касяркай касілі канюшыну, пялюшку.* Альба Нясв.

КАТ *м.* Мучыцель, вылюдак. *Ён такі кат, што на свеці няма такога.* Гемзы Шальч.

КА'ТАВА'ЦЬ *незак.* Мучыць, моцна біць. *І як ён катаво́ў яго!* Малыя Аўцюкі Калінк. *Яе ка́тавалі.* Солы Смарг.

КАТАЛА'ШКА *ж. устар.* Каталажка, турма. *Гарадавы сюды, за яго ды ў каталашку.* Слабада Смал.

КАТА'НКА I *ж.* Стаячая калыска. *Катанка — стаячая калыска, была плеценая катанка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Катанку пастаў ля печы, цяплей дзяцёнку будзе.* Мачаск Бярэз.

КАТА'НКА II *ж.* Кабат, безрукаўка. *Катанку на кудзелі пашыла.* Вялікія Баяры Шчуч.

КА'ТА'Р *м. мед.* 1. Катар. *Ка́тар напаў, калі ён пяройдзя.* Мсцібава Ваўк. *Ка́тар ні так, грыпа горшая.* Магуны Паст. *Ка́тар у цябе, перамерс ты.* Рыбчына Віл. *Высыпаў ка́тар.*

Саланое Віл. *Ка́тар напаў — толька чыхаю ды чыхаю.* Кіралі Шчуч. *У яго ка́тар, ён чхая.* Міратычы Карэл., Альхоўцы Лях. *Ат ка́тару цяшко дыхаць.* Баброўнікі Гарад. *Ка́тар у мяне.* Солы Смарг. 2. Гастрыт. *У яго гостры ка́тар жалудка.* Вострава Маст. *Ката́р кішок і ката́р жалудка.* Старыя Смільгіні Воран.

ҚАТАХІ′, ҚАТАХЕ′, ҚАТУХІ′ *мн.* 1. Қаташкі. *Қатахі на вярбе.* Сапоцкіна Гродз. *На другому дэрвовы е катухі, на вэрбе.* Дзмітравічы Қам. 2. Кіяхі, шышкі. *Қатахі растуць на рагожы ў лушку.* Дзяніскавічы Ганц. *Қатахе на трасніку.* Вострава Маст.

ҚАТА′ЦЦА *незак.* Ездзіць. *Мы каталіся ў концы.* Грыкені Вільн. *Дзеці катаюцца з горкі.* Баброўнікі Гарад., Ёдлавічы Брасл.

ҚАТА′ЦЬ *незак.* 1. Скручваць у трубку. *Палатно ў трубы каталі.* Вязынка Маладз. 2. *перан.* Пісаць. *Я думаю, што ён сядзіць і чытаіць, а мой Валерык песні дзеўкам катаіць.* Ёдлавічы Брасл.

ҚАТАШҚЕ′ *мн. памянш.* да к а т а х і 1. *Қаташке на вербе растуць.* Вострава Маст.

ҚАТҚЕ′ *мн.* Шышачкі на сцяблах падарожніка. *Лісты бапкі шырокія, і катке вырастаюць.* Малахоўцы Бар.

ҚАТҚІ′ I *мн.* 1. *бат.* Раллявая канюшына. *Қаткі растуць на пасевах, мякінькія, сівенькія, касмаценькія.* Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і к а т а ш к е́. *На вярбе каткі.* Альхоўка Навагр.

ҚАТҚІ′ II *мн.* Паплаўкі ў рыбалоўнай сетцы. *Қаткі дзіравяныі робіюць, і каткі бірасцяныі, і гліняныі.* Янова Рас.

ҚАТЛЕ′Т *м.* Қатлета. *Қатлет с каркавіны можна скруціць.* Баброўнікі Гарад.

ҚАТЛЯ′Қ *м.* Нерасшчэпленае палена дроў. *Қатляк—палена непаколанае, трэба пакалоць на дрова.* Азяраны Раг.

ҚАТНАВА′ЦЬ *незак.* Қаціцца (нараджаць ягнят). *Авечка катнуіць.* Саланое Віл.

ҚАТО′ВЫ МУ′ТҚІ *мн. бат.* Тое ж, што і к а т к і I, 1. *Қатовы муткі па дзірванах растуць.* Рагулішкі Даўг.

ҚАТО′Қ I *м. памянш.-ласк.* да к о т I. ∇ *Пашоў каток пад масток, злавіў рыбку за хвасток.* Гемзы Шальч.

ҚАТО′Қ II *м.* Қола ў возе. *Трава пад каткамі памнецца.* Азяраны Раг.

ҚАТО′МҚА *ж.* Клунак, рукзак. *Ідуць з катомкамі на плячах.* Гемзы Шальч.; *параўн.* руск. *катомка* 'тж'.

ҚАТО′РЫ *займ.* 1. *пытальны.* Қолькі, які. *Қатора гадзіна?* Вялікія Баяры Шчуч. *У каторым року ты быў там?* Грыкені Вільн. 2. *неазн.* Некалькі. *Қаторы год шашкоў німа.* Гемзы Шальч. *Я каторы дзень плачу.* Парэчча Гродз. *Қарова каторы дзень стаіць у хлеве. Қаторы дзень будзіць сядзець.* Груз-

дава Паст. *Каторы час гуляя з дзіцям.* Альхоўцы Лях. *Пашла — і катора пара, а яе нема.* Кузьмічы Люб. 3. *адносны.* Некаторы, які. *Катора карова збройная, чапілі званок.* Ахрэмаўцы Брасл. *На вязы* [у дроўнях] *дзелалася гратка, катора скрапляла.* Мешкінева Лудз. 4. у знач. *прысл. каторы дзень.* Калі-н., у бліжэйшы час. *Нада мне каторы дзень ехаць у Браславе.* Ахрэмаўцы Брасл. *І я павязу каторы дзень.* Альхоўка Навагр.

КАТО'РЫСЬ *займ.* У выразе: *Каторысь год* — адзін год. *Каторысь гот была засуха, а нам картошка парасла во такая.* Мсцібава Ваўк.

КАТО'ЧАК *м. памянш.* Кружок. *На каточкі калбасу парэжу.* Азяраны Раг.

КАТУ'ЛЬ *м.* Клунак. *Катуль вялікі навязаў і панёс.* Саланое Віл.

КАТУ'РХАЦЬ *незак.* Штурхаць. *Ні катурхай мяне!* Малахоўцы Бар.

КАТУ'СЬ *м. памянш.-ласк.* да к о т І. *Катусь мой добры.* Ёдлавічы Брасл.

КАТУ'Х *м.* 1. Адгароджанае месца ў гаспадарчым будынку. *Трэба адгарадзіць катух на бульбу бальшую і дробную.* Гемзы Шальч. *Катух адгарадзіў на мякіну.* Кураполле Паст. *Катух адгарадзіў у гумне, і мякіну ссыпалі.* Кіралі Шчуч. 2. Яслі. *Перабіваюць вуглэ ці драбіну, катух робяць карове, каню на сено. Кладзі ў катух.* Баброўнікі Гарад. 3. Месца паміж сцяной і печчу, запечак. *У катуху за печаю сушылі рукавіцы, ганучы з нох.* Верхлессе Крын.

КАТУХІ' *гл.* КАТАХІ'

КАТЫ', КАТЭ' *мн.* Насенныя шышкі рагозу і іншых раслін. *Плюсня пахожа на аер, катэ, як качан.* Малахоўцы Бар. *С катоў падушкі рабілі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Велькі катэ на цімафееўцы.* Міратычы Карэл. *У чарату катэ — шышкі такія. Катамі краснаватымі расце крывоўнік.* Данілавічы Дзярж.

КАЎБАСА' *ж.* Кілбаса. *С крыві каўбаса, крывяная каўбаса.* Дзяніскавічы Ганц. *Каўбас нарабілі.* Альхоўцы Лях.

КАЎБА'ТЫ *прым.* Пузаты. *Каўбатая карова была.* Рудня Чэрв.

КАЎБЕЛЯ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і к а ў б а́ т ы. *У іх каўбелястая карова.* Палік Барыс.

КАЎБУ'Х *м.* Страўнік у жывёл. *Суп с каўбуха варылі. Цяпер у магазіня каўбухі прадаюцца.* Малахоўцы Бар. *Каўбух вычышчаюць.* Рудня Чэрв.

КАЎБУХАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і к а ў б а́ т ы. *Каўбухаватая карова многа есць.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАЎГА'Н *м.* 1. *метэар.* Хмара, кучавое воблака. *Каўган ідзе, каўган ходзіць па небя, каўганэ чорныя і сівыя ходзяць —*

*дошч будзя.* Бакшты Іўеў. *Пашлі кайганэ па небі. Хмары кайганамі цягнуцца, пацяжынамі, і спрэс цягнецца кайган.* Бакшты Іўеў. 2. *перан. зневаж.* Кепскі майстар. *Як хто плоха што зробіць, то кажуць: «Кайган ты, як ты зрабіў!» Гэта неўдалы чалавек, робіць недарэчнае, абы-як, настаяшчы кайган.* Міратычы Карэл. *Кайган — нясккладны, неахайны чалавек.* Малахоўцы Бар.

КАЎГА́НІСКО *н.* Тое ж, што і к а ў г а́ н 2. Малахоўцы Бар.

КАЎГА́НІЦЬ *незак.* Рабіць кепска, абы-як. *Вот ты робіш, толькі кайганіш гэту работу.* Міратычы Карэл.

КАЎГА́НКА *ж.* Драўляная міска. *Дайней кайганка дзеравянная была, туды ўкінуць сало, растайкуць.* Ісерна Слуц. *Кайганкі з дзерава выдоўбавалі.* Беразіно Докш.

КАЎГА́РКА *ж.* Тое ж, што і к а ў г а́ н к а. *Кайгарка — міска з дзерава.* Рудня Чэрв.

КАЎДЭ́РКО *н. памянш.* Дзіцячая коўдра. *Купіла кайдэрко для маленького дзіцяці.* Вострава Маст.

КАЎЗАНІ́НА *ж.* Слізгота. Малахоўцы Бар.

КАЎЗА́НКА, КОЎ́ЗАЛКА *ж.* Каток. *Пабеглі дзеці на кайзанку.* Лісна В.-Дзв. *Койзаюцца на койзалцы, дзе замерзня лёд.* Азяраны Раг.

КАЎЗА́ЦЦА *незак.* Катацца на каньках. *Пашлі дзеці кайзацца.* Палік Барыс. *На рэчцы дзеці на каньках кайзаюцца.* Беразіно Докш. *Выслізіцца лёд, на ляду дзеці кайзаюцца.* Азяраны Раг.

КАЎЗЕ́ЛЬ *ж.* Тое ж, што і к а ў з а́ н к а. *Дзеці ідуць на кайзель і ездзяць на каньках.* Бакшты Іўеў. *Кап у ботах на кайзель — сліжэй у ботах.* Семежава Кап.

КАЎЗЕ́НЬКА *ж. памянш.* да к а ў з а́ н к а. *Дзеці на кайзельку пабеглі.* Саланое Віл.

КАЎЗІНЯ́ЦЦА, КАЎЗІНА́ЦЦА *незак.* Катацца на каньках. *Дзеці кайзіняюцца на лёдзя.* Рыбчына Віл. *Дзеці на кайзеньку бегалі кайзіняцца.* Саланое Віл. *Кайзіняйся, пакуль пад лёт ня пойдзіш, утанеш!* Бакшты Іўеў. *Кайзінаюцца на каньках.* Жодзішкі Смарг.

КА́ЎКА *ж.* Галка. Чычалі Швянч., Старыя Трокі Трак. *Кайка, як варонка, шыйка серанькая.* Рагулішкі Даўг. *Кайкі, бывая, дзяруць адна адну.* Ракаўскія Швянч. *Кайкі пацягалі мышэй і пажрайшы.* Ёдлавічы Брасл. *Кайкі даелі нам.* Старыя Смільгіні Воран. *Кайкі водзяцца па камінах, нам залажылі комін, то ледва прапаролі.* Кіралі Шчуч. *Кайкі чорныя з варонамі лётаюць, крумкачэ лётаюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Кайкі вядуцца па дамах у коміне.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kawka* 'тж'.

КА́ЎКАЦЬ *незак.* 1. Мяўкаць. *Котка, можа, кайкала?* Гемзы Шальч. *Кот кайкая.* Рудня Чэрв. *Кошка кайкаіць.* Са-

ланое Віл. *Кошка каўкаіць, ідзі выпусці!* Кураполле Паст. 2. Каркаць. *Каўкі каўкаюць.* Лайпушкі Ігн.; *параўн.* літ. *kaũkti* 'выць'.

КА'ЎКНУЦЬ *зак. экспр.* Заплакаць. *Малая ані каўкнула.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *kaũkti* 'тж'.

КАЎНЕ'Р *м.* 1. Каўнер. *І царыца насіла пад горла каўнер.* Крэва Смарг. *Каўнер хай будзя пастаўлен.* Лоск Валож. *У сароццы даўней мушчынам адкладны каўнер шылі.* Рудня Чэрв. *Белыя каўнярэ памылі.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Пояс. *Нада каўнер да штаноў прышыць.* Валынцы В.-Дзв. *Каўнер і ў штанах.* Янова Рас. *Каўнер прышываюць да штаноў. Каўнер прышываюць і да спадніцы.* Індра Красл. ◊ *Каўнер абшыць* — абмыць, абшыць, дагледзець. *Трэба ўсю работу зрабіць і мужу каўнер абшыць.* Солы Смарг. *За каўнер яго і вон з хаты!* Ахрэмаўцы Брасл.

КАЎНЕ'РАЦ *м. памянш.* Манжэта. *Даўней рукава ў кашулі с каўнерцамі шылі.* Кіралі Шчуч.

КАЎНЕ'РЧЫК *м.* Тое ж, што і к а ў н е́ р а ц. *Каўнер і каўнерчык на рукавах вышывалі.* Ракаўскія Швянч. *Каўнерчыкі нашывалі на рукавах у кашулі.* Лоск Валож.

КАЎНЕ'РЫК *м.* Тое ж, што і к а ў н е́ р а ц. *Ушываюць рукавы с каўнерыкамі на пугавічках.* Пасека Ст.-Дар.

КАЎПА'К *м.* Зімовая шапка. *І мой мужык насіў каўпак; каўпак з барашка пашыты. Круглая шапка называецца каўпаком. Трэба адзець каўпак.* Баброўнікі Гарад.

КАЎПАЧКА'МІ *мн. памянш.* у знач. *прысл.* Пуката. *Міз лапаў белыя грыбы растуць, ёсць другі сорт і трэці, што ў іх шапачкі каўпачкамі растуць.* Альхоўцы Лях.

КАЎРЫ'ГА *ж.* Вялікі кавалак чаго-н. *Пастуху давалі выганная: каўрыгу масла два-тры хунты.* Азяраны Раг.; *параўн.* руск. *коврига* 'бохан хлеба'.

КАЎТАНУ'ЦЬ, КАЎТНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць. *Малака каўтане і ляжа.* Малахоўцы Бар. *Разы два каўтанула гарэлкі.* Вецярэвічы Пух. *Адзін рас каўтнула.* Дзяніскавічы Ганц. *Каўтнула раз.* Азяраны Раг. *Як лікарства каўтнеш.* Кузьмічы Люб.

КАЎТА'ЦЬ *незак.* Глытаць. Тухавічы Лях. *Сліну каўтае.* Дзяніскавічы Ганц. *Каўтае, бы бусько.* Дзяніскавічы Ганц.

КАЎТНУ'ЦЬ *гл.* КАЎТАНУ'ЦЬ

КАЎТО'К *м.* Глыток. *Адзін каўток каўтануў.* Малахоўцы Бар.

КАЎТУ'Н *гл.* КАЛТУ'Н

КАЎТУНАВА'ТЫ *прым.* Які з каўтуном на галаве. *Тут была каўтунаватая баба.* Вострава Маст.

КАЎТЫ'ГА *ж. зневаж.* Неахайная жанчына. *Каўтыга баба, паратку жадного німа ў яе.* Сакаляны Сакол.

КАЎША'Н *м.* Тое ж, што і к а ў г а́ н к а. *Каўшан — дзе-*

*равяна міска з ручкаю, як у кружцы.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* літ. *káušas* 'коўш'.

КАЎШНУ'ЦЬ *зак.* 1. Ударыць. *Каўшнеш у лэб лышкай, як ядуць.* Малькуны Ігн. 2. Сыпануць у час сяўбы. *Рукой каўшнула і пашла. Рукой возмеш* [зерняў] *у жменю, каўшнеш і далей ідзеш.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* літ. *užkaũšti* 'ўдарыць'.

КАЎШО'К *м. заал.* Апалонік. *Каўшок маленькі з хвосцікам, з іх лягушкі выводзяцца.* Шкаўна Лудз.; *парайн.* літ. *kaušiùkas* 'коўшык'.

КАЎШЫ'Н *м.* Тое ж, што і к а ў ш á н. *Каўшын — міска драўляная.* Каўняны Гродз.; *парайн.* літ. *káušas* 'коўш'.

КАФА'ЙКА *гл.* КУФА'ЙКА

КАФЛЁВЫЙ, КАХЛЁВЫ *прым.* Кафляны. *Пiч кафлёва.* Сіманавічы Драг. *Печ кахлёва была.* Каўняны Гродз. *У нас кахлёва печ.* Мсцібава Ваўк.

КА'ФЛЯ, КА'ХЛЯ, КА'КЛЯ *ж.* Кафля. *Выпісаў кафлі.* Галоўні Воран. *Прывіз кафлі.* Сіманавічы Драг. *Каклі выпісалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Каклі злетала ў Дайгінава.* Саланое Віл. *Кахля прывезена, трэба печ перакладаць.* Кураполле Паст.; *парайн.* польск. *kafel, kafla* 'тж'.

КАФЛЯ'НЫ, КАХЛЯ'НЫ *прым.* Тое ж, што і к а ф л ё в ы й. *Печ кафляну паставілі.* Паляцкішкі Воран. *У нас некаторыя кафляныя печы робяць.* Малахоўцы Бар. *У мяне кахляная печ з кахляў стаіць.* Гемзы Шальч. *Паставілі кахляную печ.* Вострава Маст. *Печ кахляная стаіць.* Лоск Валож.

КАФЛЯ'РНЯ *ж.* Майстэрня, дзе вырабляюць кафлю. *Кафлі в орляньськуой кафлярні купіў.* Курашэва Чыж.

КАФТА'Н *гл.* КАПТА'Н

КАХЛЁВЫ *гл.* КАФЛЁВЫЙ

КА'ХЛЯ *гл.* КА'ФЛЯ

КАХЛЯ'НЫ *гл.* КАФЛЯ'НЫ

КАЦА' *ж.* Тупы канец яйка. *Каца — пятка яйца.* Масілавічы Сл., Семежава Кап. *Доўгянькі — нос у яйку, а тупы — каца.* Малахоўцы Бар.

КАЦАЛА'ПЫ *прым.* 1. З пляскатай ступнёй. *Ён няўдалы, кацалапы, во выбрала сабе мужыка!* Пацаўшчына Дзятл. 2. Каратканогі. *Парасяты гадуны, у іх кацалапыя ношкі.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАЦА'ПЫ *мн. зневаж.* Мясцовыя стараабрадцы, перасяленцы. Чычалі Швянч.

КАЦЕ'ЛКА *ж.* 1. Драўляны круглячок, які падкладаецца пад дзяржанне вілак, каб лягчэй было ставіць гаршкі ў печ або вымаць з печы. *Пад вілкі падложыш кацелку — ляхчэй дастаць гаршчок.* Асавец Віл. *Дзе мая кацелка, цяпер іх пакасавалі.* Гемзы Шальч. 2. Скрутак лыка, кары ў выглядзе абаранка. *Кацелка лыка вісіць.* Бакшты Іўеў.

ҚАЦЕ'ЛҚІ, ҚАЦЯЛҚЕ' толькі *мн. ткац.* Брускі з колцамі, на якія падвешваюць ніты ў кроснах. *Қацелкі на аборачкі вешаюцца, важуцца нічальніцы ўверх-уніз, палучаецца зеў.* Саланое Віл. *Паглядзеце: тут кацялке, кабылке, яны падымаюць нітэ.* Малахоўцы Бар.

ҚАЦЕНЯ'ТҚО *гл.* ҚАЦЯНЁТҚА

ҚАЦЁЛ *м.* 1. Чыгун. *У печ два катлы пастаўлю, свінёнку свару.* Масішкі Красл. 2. Чан. *Қацёл умуроўвалі ў дварэ — выварваць мяхі, што другоя.* Дакудава Лід.∇ *Ня еш с катла — зайдзіш замуш за чорнага.* Кураполле Паст.

ҚАЦЁЛАЧҚІ *мн. ткац. памянш.* Драўляныя колцы ў прыстасаванні для падвешвання нітоў. *Е чапёлкі з кацёлачкамі ў кроснах.* Альхоўцы Лях.

ҚАЦЁЛҚА *ж. с.-г.* 1. Қолца ў прыстасаванні для перасоўвання сахі. *На канец рагача робяць аглоблі, прыполак і дзве кацёлкі.* Қасцюкі Уздз.∇ *Як кацёлку пакаціла. Пакаціўся, як кацёлка.* Малахоўцы Бар. 2. Вязка круглай формы. *Ці даў мне хоць кацёлку саломы!* Лісна В.-Дзв. 3. Што нагадвае круг, кола. *Настае маладзік і расце кацёлка — гэта поўна; а потым рушыла — палавінка, штодзень меньш — на схот.* Мачаск Бярэз.

ҚАЦІ'ЦЦА *незак.* 1. Қаціцца. *Клубок за ім каціўся.* Кудзялянцы Шальч. 2. Цячы. *Рэчка там ледзве коціцца, але шырокая.* Ухвала Круп. 3. Выдзяляцца. *Сліна каціласся, як нанюхалася дусту. Нямажна ставіць пры дзецях дуст.* Альхоўка Навагр.

ҚАЦІ'ЦЬ *незак.* Перамяшчаць коцячы. *Трэба бочку каціць бокам.* Жодзішкі Смарг., Рыбчына Віл. ◊ *Қотам каціць* — загадваць, прымушаць. *Я прышла прыбіраць у сем часоў, а ён мяне котам коціць вокны мыць.* Гемзы Шальч.

ҚАЦУБА' *ж.* Қій з загнутай ручкай. *Палку загнутую называюць кацубой.* Малахоўцы Бар.

ҚАЦЬ *гл.* ҚАДЗЬ

ҚАЦЮБА' *ж.* Қачарга. *Қацюбой жар с печы выграбалі.* Лука Нараўк.

ҚАЦЮ'Қ I *м. заал.* Қацяня. *Астаўся адзін кацюк, кошка кацюкоў кліча.* Жылі Іўеў.; *параўн.* літ. дыял. *kaciūkas*, літар. *kačiūkas* 'тж'.

ҚАЦЮ'Қ II *м.* Свіны страўнік. *Напхнула кацюк мясам і палажыла ў лета.* Мярэцкія Глыб.

ҚАЦЮ'ЛЬҚІ *мн.* Цацка, забаўка. *Зроп кацюлькі дзецям!* Номікі Бабіц.

ҚАЦЯЛҚЕ' *гл.* ҚАЦЕ'ЛҚІ

ҚАЦЯЛО'ЧАҚ *м. памянш.* Чыгунок. *Қацялочак проста маленькі, у ім суп вару.* Масішкі Красл.

ҚАЦЯНЁТҚА, ҚАЦЕНЯ'ТҚО *н. памянш.-ласк.* Қацяня. *Қацянётка шчэ сляпое.* Асавец Віл. *Қаценятко прынесла кош-*

*ка ў хату*. Вострава Маст. *Каценятко е ў нас. У кошкі былі каценятко*. Альхоўцы Лях.

ҚАЧАВІ'ШЧА I *н*. Стойбішча, табар. *Качавішча — дзе цыганы качуюць*. Бакшты Іўеў.

ҚАЧАВІ'ШЧА II *н*. Месца, дзе пакачаўся конь. *На качавішчы пільсць астаецца*. Бакшты Іўеў.

ҚА'ЧАЙҚА *ж*. Дзіцячы ложачак, прыстасаваны да калыхання. *В качайцэ качают дзіця, качайка стоіт на земле*. Смаляніца Пруж.

ҚАЧА'ЛАҚ *гл*. ҚАЧА'ЛҚА

ҚАЧА'ЛАЧҚА *ж*. *памянш*. Таўкачык. *Была качалачка камы таўчы*. Қураполле Паст.

ҚАЧА'ЛҚА *ж*., ҚАЧА'ЛҚО *н*., ҚАЧА'ЛАҚ *м*., ҚАЧА'ЛҚА, ҚАЧА'ЛҚІ *мн*. 1. Прылада для качання бялізны. *Нада рушнік выкачаць на качалку*. Лісна В.-Дзв. *Качалка — круглая, а пранік — зубаваты*. Қіралі Шчуч. *Палатно ў трубу качаям на качалку вельку*. Быстрыца Астр. *Скам'ячэно лежало, і качалка нэ бэрэ*. Смаляніца Пруж. *Качалко круглое і качалко рубчасто*. Малахоўцы Бар. *Зрабі новае качалко! Накручваюць на качалко і валкайніцай качаецца. Качалко і мяло*. Баброўнікі Гарад. *Качалко — папрыш, а разам — качалка*. Дзяніскавічы Ганц. *Усё простае качаю на качалак*. Міратычы Қарэл. *Качалкі былі, качалі адзежу*. Рыбчына Віл. 2. Сукнавальня. *У Парэччы качалкі былі, што сукно валілі. У тыя качалкі і плацця аджымалі*. Вецярэвічы Пух. 3. Тое ж, што і к а т ы́. *Качалкі на какарузе*. Вецярэвічы Пух. *У возяры растуць качалкі — такія кіяўкі*. Ракаўскія Швянч. *С качалак падушкі рабілі*. Рудня Астравітая Чэрв. 4. Қамячкі бруду, гразі. *Спацей — аш качалкі качаюцца, нада памыцца*. Ёдлавічы Брасл.

ҚАЧА'Н *м*. 1. Галоўка капусты. *Ссеклі качан, качарэшка асталася*. Шнёкава Қрасл. *Качаны тугія*. Мярэцкія Глыб. 2. Храпка. *Качан у сярэдзіне галоўкі капусты*. Беняконі Воран. *Качан — гэта сэрцавіна качана*. Відаўцішкі Вільн. *Крышаць капусту, астаюцца качаны*. Жылі Іўеў. *Некалі налупяць качаной у чыгуночык і ў печ; упарацца качаны, зробяцца чырвоненькія; як добра ўсмажацца, ядуць так*. Дзяніскавічы Ганц. *Качан — стрыжань у капусце, што пры галоўцы астаецца*. Дакудава Лід. *Капусту шыткуюць, астаецца качан*. Магуны Паст. *Качан у сярэдзіня капусты*. Быстрыца Астр. 3. Рэшткі храпкі з коранем. *Качан — тое, на чым расце галоўка капусты*. Лука Нараўк. *Галоўку зрэзаў, астаўся качан*. Гемзы Шальч. *Галоўку с капусты зрэжа, а качан астаецца*. Галубы Маст. *У зямлі качан*. Магуны Паст. *Качаны — дзе ссечаны пні капусты*. Рагулішкі Даўг. *Нада вырваць капусцяныя качаны, яны не гніюць*. Ёдлавічы Брасл. 4. Қатах, кіях. *Качан какарузы*. Мсцібава Ваўк. *Какаруза расце, і качаны*

*вялікія.* Дзяніскавічы Ганц. *Прынясі мне качан кукурузы!* Вялікія Баяры Шчуч. 5. Скрутак лісця тытуню. *Тытунь як здымяць, скруцяць у качан.* Малахоўцы Бар. 6. Ручка ў розных прыладах. *Качан — ручка ў рыдлёўцы.* Магуны Паст. *Качан адваліўся ад ухвата.* Ракаўскія Швянч. *Прайнік выгеблены тут, і качан вялікі.* Магуны Паст. *У пешні качан дзерайляны. Драйляныя вілы былі — качан доўгі, мэтра якое, і два сукі.* Малькуны Ігн.

КАЧА'ННІЦА *ж.* Стаячая калыска, прыстасаваная для калыхання. *У качанніцу дзіця палажы, паторхай трохі, можа засне.* Ухвала Круп.

КАЧАНО'К *м. памянш.* 1. Ручка, дзяржанне. *Нада знайсці які качанок вілы асадзіць, качаргу, чапялу.* Ёдлавічы Брасл.; гл. к а ч а́ н 6. 2. Каташок, форма кветкі. *Як зязюлькі квітнуць, то адзін качанок.* Рагулішкі Даўг.

КАЧА'НЫ *дзеепрым.* 1. Скачаны ў галушку. *Вада кіпіць, у яе кідалі галушкі, качаныя рукамі.* Малахоўцы Бар. 2 *прым.* Які прыстасаваны да калыхання. *Была калыбель вісяшчая, пазней сталі качаныя калыскі.* Данілавічы Дзярж.

КАЧАНЯ' *н.* Качаня. *У бусліно гняздо пастухе палажылі малое качаня, бусял выкінуў яго.* Куклічы Свісл. *Качанятам дам есці.* Вострава Маст.

КАЧАНЯ'ТКО *н. памянш.-ласк.* Качаня. *Качанятко кот ухапіў.* Ёдлавічы Брасл.

КА'ЧАР, КАЧУ'Р *м.* Самец качкі. *У мяне адна качка і качар.* Альхоўка Навагр. *Качара зарэжам заўтра.* Кіралі Шчуч. *Качар сівы, на хвасце закруцістыя пёры.* Саланое Віл. *У нас качкі і качур.* Пасека Ст.-Дар. *Качак мала, усё качуры будуць.* Альба Нясв.; *параўн.* польск. *kaczor* 'тж'.

КАЧАРГА' *ж.* Тое ж, што і к а ц ю б а́. *Тронак—дзеравяны, а качарга — жалезна.* Кіралі Шчуч. *Качарга—жар выграбаць.* Альхоўка Навагр. *Вілак у нас німа, качарга толькі.* Кемялішкі Астр. *Вугле адгортваюць качаргой. Качаргою боханкі патсоўваеш да краю.* Баброўнікі Гарад. *Ухваты пазней былі, а мы качаргой саганы даставалі.* Старыя Трокі Трак. ▽ *Была пекная дзеўчына, а цяпер — баба, што качарга —* старая жанчына. Сапоцкіна Гродз.

КАЧАРГЕ'ШКА *ж.* Невялікая качарга з жалезным дзяржаннем. Баброўнікі Гарад.

КАЧАРГЕ'ШНІК *м.* Качарэжнік. *Качаргешнік — дзе стаяць вілы, качарга.* Міратычы Карэл., Пацаўшчына Дзятл. *У качаргешніку таўчэцца.* Грыцавічы Свісл. *У качаргешніку кочаргі, чапляя, вілкі.* Малахоўцы Бар. *«Дзе вілы?—У качаргешніку».* Галубы Маст.

КАЧАРГІ'ШЧА *н.* Ручка, дзяржанне качаргі. *Абгарэла качаргішча ў качарзе.* Ахрэмаўцы Брасл.

КАЧАРЫ́ГА *ж.* Тое ж, што і к а ч а́ н 3. *Качарыгі — пні ад капусты, як ссякаюць.* Саланое Віл.

КАЧАРЫ́ЖНІК *зб. м.* Тое ж, што і к а ч а р ы́ г а. *Кагда ссекают капусту, астаётся качарыжнік.* Рагулішкі Даўг.

КАЧАРЫ́ЖЫНА *ж.* Тое ж, што і к а ч а́ н 2. *У качане качарыжына.* Янова Рас.

КАЧАРЫ́ШКА *ж.* Тое ж, што і к а ч а́ н 2. *Качарышка— сэрцавіна, храпка.* Рыбчына Віл.

КАЧАРЭ́ГА *ж.* Тое ж, што і к а ч а́ н. 2. *Качарэга ў качана.* Пасіене Лудз.

КАЧАРЭ́ЖКА *ж.* Мешалка. *Качарэжка — палка зáгнана памяшаць поліўку, кап апсела.* Магуны Паст.

КАЧАРЭ́ЖНІК *м.* 1. Тое ж, што і к а ч а р г е́ ш н і к. *У качарэжніку стаяць вілы, качарга, чапяла.* Рагулішкі Даўг. *У качарэжніку стаяць качэргі.* Малькуны Ігн., Жодзішкі Смарг. *Качарэжнік каля печы, дзе вілкі стаяць.* Стральцы Шальч., Беразіно Докш. 2. Тое ж, што і к а ч а р г і́ ш ч а. *Качарэжнік паламаўся, перагарэў.* Кураполле Паст. *Насадзіў на качарэжнік качаргу.* Беразіно Докш.

КАЧАРЭ́ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і к а ц у б а́. *Ідзе чалавек, патпіраючыся качарэшкай. Ён с качарэшкай ходзіць.* Жылі Іўеў. 2. Палка, якой мяшаюць вуголлі ў печы. *Качарэшка — палка з абгарэлым канцом. Качарэшкай мяшалі жар, як бульбу пяклі на полі.* Малькуны Ігн. 3. Тое ж, што і к а ч а́ н 3. *Ссеклі качан, асталася качарэшка.* Шнёкава Красл. 4. Тое ж, што і к а ч а́ н 2. *Качан капусты, а ў качане ка́чарэшка. Качарэшкі бываюць салоткія і горкія.* Ёдлавічы Брасл.

КАЧА́ЦЦА *незак.* 1. Пераварочвацца з боку на бок (у час прыступу). *Жывот балеў, па зёмлі качаўся, чорны ляжаў.* Лоск Валож. *Сын сядзіць, дзяцей троя, а я качаюся па зямлі, так балела.* Саланое Віл. 2. Стаць брудным, пакрыцца брудам. *Кал качаецца на целе, трэба памыцца.* Навасёлкі Свісл.

КАЧА́ЦЬ, КАЧА́ЦІ *незак.* 1. Качаць бялізну. *Дайней бялізну качалі; качалка круглая, а валак са зубамі.* Ёдлавічы Брасл. *Качалі бялізну на качалку.* Кіралі Шчуч. *Качалі плацця, самадзялковыя посцілкі, рушнікі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Калісь усё качалі, не было ўцюгоў.* Мсцібава Ваўк. *Буду качаці сорочку.* Смаляніца Пруж. 2. Жаваць бяззубым ротам што-н. цвёрдае. *Пашла нявестка іс свякроўкай боп жаць: свякроўка ўкінула бабіну ў рот, качала-качала ў зубах, а нявестка падумала, што яна есць і есць — увесь боп з'есць— і кажыць: «Пайдзём ячмень жаць,ніхай боп пастаіць!» Як лезла свякроўка прас плот, бабіна выvalілася з роту, а свякроўка кажыць: «А бадай ця не знаць! Адну бабіну ўзіла ў рот, і тая з роту выляціла».* Кураполле Паст. 3. Качаць што-н. у

час гульні. *На вялікадня качаюць яйкі і дзеці, і старыя.* Ахрэмаўцы Брасл.

КА′ЧАЧЫ *прым.* Качыны. *Качача мяса.* Масілавічы Сл.

КА′ЧКА *ж.* Качка. *Мая качка ўжо нясецца.* Швэды Вільн. *Каццы каб усё было пад носам: вада і яда — так гадуецца качка.* Баброўнікі Гарад. *Качкі каркаюць.* Рыбчына Віл. *Адэкылі качкі, як лёд на рэчцы растаў.* Лоск Валож. *Мы качкі гадавалі.* Старыя Трокі Трак.∇ *Хай яго качкі!* Беняконі Воран.; *гл.* ДАБМ, карта № 297.

КАЧО′ЛАЧКА *ж. памянш.* Таўкачык. *Качолачка, што камы таўком.* Азяраны Раг.

КАЧО′ЛАЧКІ *мн.* Насенныя асобіны дзеразы. *Е дзераза с качолачкамі, с качолачак шмат накалочваюць пылку.* Вецярэвічы Пух.

КАЧО′ЛКА *ж.* Тое ж, што і к а ч у́ л к а 3. *Палосья ў качолкі круцілі.* Кузьмічы Люб.

КАЧУ′ЛКА *ж.* 1. Тое ж, што і к а ц е́ л к а 1. *Дайней качулкі былі, цягнулі катлы на качулцы.* Кураполле Паст. 2. Драўлянае кола без спіц. *Ездзілі на качулках; качулка — круглае кола без спіц, адрэзанае ад балькі.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Скрутак чаго-н. *Табаку ў пучкі вязалі і скачвалі ў качулкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рабілі качулкі лыка.* Індра Красл.

КАЧУ′ЛКІ толькі *мн.* Вал, каток, якім раўнуюць зямлю і інш. *Качулкі зробляны з дрэва, імі валкуюць, яны прыжмуць груды, па валкаванаму касіць добра.* Магуны Паст.

КАЧУ′Р I *гл.* КА′ЧАР

КАЧУ′Р II *м.* Цурбан, кругляк. *Качур — адрэзаны кусок бервяна.* Мярэцкія Глыб.

КА′ЧЧЫ *прым.* Качыны. *Качча пер'я добра на падушку.* Саланое Віл.

КАЧЫ′НІК *зб. м. бат.* Раска. *Качынік расце па лугох, ім свіня кормяць.* Новікі Гродз.

КАЧЫ′ННЫ, КАЧЫ′НЫ *прым.* Тое ж, што і к а́ ч ч ы. *Качынна пер'я ня горш гусіннага.* Вязынка Маладз. *Качынна пер'я ў падушцы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Качына мяса лучча, як гусіна.* Кіралі Шчуч.

КАЧЭВЭ′ДЛО *н. зневаж.* Гультай, хто няздольны, флегматычны. *Такі чалавек незграбны да нічога, то качэвэдло.* Баброўнікі Гарад.

КАЧЭ′НЕЦ *м. бат.* Лотаць. *Качэнец на балоце расце.* Парэчча Гродз.

КА′ША *ж. кулін.* Пюрэ, каша. *Накладзі кашы бульбянай!* Мішневічы Шум. *Каша бульбяна, намалола кашы.* Баброўнікі Гарад. *Кашу з бобу дзелалі.* Янова Рас. *Каша грэцка, прасяна.* Баброўнікі Гарад. *Такая каша густа, а слабкая каша, то каша — чэрэз ложку.* Азарычы Пін.

КАШАЛА′ *ж.* Кош. ◊ *Плясці кашалу* — гаварыць недарэчнае. *Дось плясці кашалу!* Гемзы Шальч.

КАША′ЛАК *м.* Кошык. *Кашалак пляцецца з лазовых вітак і с карэнчыкаў.* Солы Смарг.

КАШАЛА′ПЫ *прым.* Касалапы. *Смяецца сват кашалапы.* Саланое Віл.

КАША′ЛАЧКА *ж.* *памянш.* да к а ш а́ л а к. *Суравешкі нада ў кашалачку добра злажыць.* Солы Смарг.

КАШАЛЁК *м.* Кашалёк. *Я кашалёк згубіў.* Яцаўляны Сідр.

КАШАЛІ′СКО *н.* *павел.* Вялікі кош. *Прынёс травы кашаліско.* Мсцібава Ваўк. *Нагрузілі цэлэ кашаліско, чуць понесла.* Вялікі Краснік Пруж.

КАШАЛЫ′ толькі *мн.* Высокія драбіны ў возе, воз з такімі драбінамі. *На вос ставілі вялікія драбіны, іх кашаламі называлі. Кашаламі сена, салому вазілі.* Альхоўцы Лях. ◊ *Кашалы гарадзіць* — гаварыць недарэчнае. *Кінь ты кашалы гарадзіць!* Старыя Трокі Трак.

КА′ШАЛЬ *м.* Кашаль. *Мучыць кашаль.* Бaброўнікі Гарад. *Зноў возьме кашаль.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ат кашлю лякарства п'ю.* Рагулішкі Даўг.

КАША′НКА I *гл.* КО′ШАНКА

КАША′НКА II *ж.*, *кулін.* Крывяная кілбаса. *Кашанка робіцца с крыві і круп грэчаных чы ечменных дабаўляюць.* Лука Нараўк.

КАШАНЯ′ *гл.* КІШЭ′НЯ

КАШАПЛЁТЫ *мн.* Хто пляце кашы. *Кашаплёты ставяць дубовыя дубінкі, завіваюць рагавікі і плятуць ялаўцом, ракітаю.* Альхоўцы Лях.

КАША′РА *ж.* Пастаўнік. *Кашара — эта выгарадзь для ската.* Мішневічы Шум.

КАША′РКА *ж.* Будка пры чыгунцы. *У гэтай кашарцы я служыла.* Старыя Трокі Трак.

КАШАРЫ′ЦЬ *незак.* Мыць, чысціць. *Трапку нада азяць, буду каструлю кашарыць.* Мярэцкія Глыб.

КАШКАНУ′ЦЬ *зак.* Ударыць. *Ой, кашкану табе!* Міратычы Карэл.

КАШЛАТА′ЦЬ *незак.* 1. Пускаць парасткі, кусціцца. *Бальшэнная роза, ужо стала кашлатаць.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Шарпаць, біць. *Пітухі сталі кашлатаць адзін другога.* Азяраны Раг.

КАШЛА′ТЫ *прым.* Марны, паніклы. *Кашлаты сат, ні разіваецца; кашлатыя яблыны.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАШЛЮ′Н *м.* Хто кашляе. *Кашлюн — на лёхкія хворы.* Граўжышкі Ашм.

КАШЛЯ′ВЫ *прым.* Касцісты. *Цырта — кашлявая рыба, касцей многа.* Быстрыца Астр.

КАШЛЯКІ' *мн.* Флегма. *Ён захлапляецца кашлякамі.* Азяраны Раг.

КА'ШЛЯЦЬ, КА'ШЛЯТЭ *незак.* Кашляць. *Кашляць хочыцца.* Едлавічы Брасл. *Ён цёнгля кашляя.* Гемзы Шальч. *Пярвей я не кашляла.* Лоск Валож. *Цылу ныч кашлюе.* Дзмітравічы Кам.

КАШМІРО'ЎКА *ж.* Шарсцяная хустка. Дакудава Лід.

КАШМЫРО'ВЫ *прым.* Шарсцяны. *Платкі кашмыровыя былі, з шэрсці.* Індра Красл.

КА'ШНАЯ МУКА' *ж.* Мука ад памолу сумесі рознага збожжа. *Кашная мука для свіней ідзе, гэто смесь: ячмень, грэчка, авёс.* Малахоўцы Бар.

КАШНІ'ЦЫ *мн.* Аканіцы. *У магазіне пазакрыты кашніцы.* Навасёлкі Свісл.

КАШО'ЛКА *ж.* 1. Снасць для лоўлі ракаў. *Сплеценую с пруццяў кашолку намазвалі цестам і глінай і апускалі ўніз у раку, так ракаў лавілі.* Мішневічы Шум. 2. Кашолка. *Кашолкі з лучыны плялі, лучыны нашчыпаюць і плятуць, слаўныі кашолкі былі.* Валынцы В.-Дзв.

КАШТАВА'ЦЬ I *незак.* 1. Мець грашовую вартасць, цану. *Веля каштуя ваш швэдар? Нядорага каштуя гэты тавар.* Паляцкішкі Воран. *Колькі гэта каштуя?* Альхоўка Навагр. *Цэмент дорага каштаваў.* Гемзы Шальч. *Ты пераплаціла, яна не каштавала тыля.* Стральцы Шальч. *Пры Польшчы пачка запалак каштавала дзесяць грошы, а яйцо — два грошы.* Мсцібава Ваўк. 2. Дорага плаціць за прыём, лячэнне. *Калісьці дохтар добра каштаваў.* Новікі Гродз.∇ *За морам і вол тры грошы каштуе* — там добра, дзе нас няма. Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *kosztować* 'тж'.

КАШТАВА'ЦЬ II *незак.* Спрабаваць на смак. *Не хачу каштаваць.* Номікі Бабіц. *Я яшчэ не каштавала, можа, і не смачна.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *kosztować* 'тж'.

КАШТАВІ'ТЫ *прым.* Каштоўны. *Мой парсюк быў некаштавіты, вядзёрачка з'есь, і папраўляўся, а гэты — каштавіты.* Валынцы В.-Дзв.

КАШТА'Н *м.* 1. *бат.* Каштан. *Есь каштаны ў нас. Я абрывала ліст каштана і мачыла ў гарэлцы націраць ногі. Дуб мацнейшы за каштана.* Баброўнікі Гарад. *Тут дубэ растуць, каштанэ, хвойкі.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Масць каня. *Разнай пайсці бываюць коні: каштан, гнеды, мышасты.* Магуны Паст. *У каня цвет каштан — цямнейшы, а буланы — святлейшы.* Быстрыца Астр.

КАШТА'НАВЫ *прым.* Які адносіцца да каштана. *Каштанавы арэх настояць і мазолі лечаць.* Ухвала Круп.

КАШУ'ЛЬКА *ж. памянш. да* к а ш у' л я 1. *Бабы кашульку пашыюць.* Гемзы Шальч. *Кашульку дамо.* Паляцкішкі Воран. *Дайней казалі: «Скарэй жа вы мне шыйця новую кашульку,*

*а то не магу паскрабацца!» А ў новай пашавеліцца — што шчоткай якой — да крові надзярэш.* Рагулішкі Даўг. ◇ *С кашулькай радзіцца* — быць шчаслівым. *Ён с кашулькай радзіўся.* Лайпушкі Ігн.

ҚАШУ'ЛЯ *ж.* 1. Сподняя і верхняя сарочка. *Паднізом — кашуля, а навярху — рубашка.* Груздава Паст. *Кашулі насілі с каўнерыкамі, распорак у кашулі быў і гузічак маленькі ўшывалі.* Гемзы Шальч. *Пачасся на кашулі пралі.* Саланое Віл. *З палатна шылі кашулі і гаці.* Новыя Мацалі Варэн. *Кужэльнае палатно ішло на кашулі мушчызнам.* Старыя Трокі Трак. *Перш звалі сарочка, а цяпер — кашуля.* Лоск Валож. *Кашулю белую купіла.* Паляцкішкі Воран. *Белыя штанічкі адныя і кашуля адна.* Чычалі Швянч.; *параўн.* польск. *koszula* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 328. 2. толькі *мн.* Бялізна. *Кашуле трэба мыць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кашулі ўчора мыла.* Кіралі Шчуч. *Я мыю кашулі.* Лоск. Валож.

ҚАШУТА' *ж.* 1. Перхаць. *Кашута сыплецца з галавы, бывае і на целе, е і ў жывёл.* Старое Сяло Зэльв. *У галаве ўвелосё многа кашуты.* Міратычы Карэл. *На карові кашута бывая.* Малахоўцы Бар. 2. Вонкавы каляплоднік арэха. *Нарвала гарэхаў с кашутою. Вылужы гарэшык с кашуты!* Дзяніскавічы Ганц. 3. Мяккая частка ў сярэдзіне гарбуза. *Гарбуз цвёрды, а ў сярэдзіне кашута. Гарбузікі сядзяць у кашуце, выбяры гарбузікі с кашуты!* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* польск. дыял. *koszaść* 'перхаць' (ВС, II, 497); літ. *kãškis* 'кароста'.

ҚАШЧАВА'ТЫ *прым.* Қастлявы. *Кашчаватая рука, усюды косці тарчаць.* Курапалле Паст.

ҚАШЧА'ВЫ *прым.* Худы, кастлявы. *Кашчава карова, адныя косці.* Вялікія Баяры Шчуч., Навасёлкі Свісл.

ҚАШЧЭ'РАВА *н. бат.* Брыца, прасянік. *Кашчэрава бульбу заглушавая.* Бакшты, Іўеў.

ҚАШЭ'ЛҚА, ҚОШЭ'ЛҚА *ж.* Қош, сумка. *Паляцеў с кашэлкаю ў краму і панакупаў усяго.* Парэчча Гродз. *Еслі з лык — то кошэлка.* Қалясное Міхал.

ҚАШЭ'ЛЬ *м.* 1. Вялікі кош. *Кашэль травы нашастала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кашэль бульбы накапала.* Вялікі Краснік Пруж. *Кашэль — такі кош выбіраць картоплі, у ім коскі, дзе сплятаюць душкі, рэбры. Нарэжуць дупцоў і плятуць кашэль.* Кузьмічы Люб. *Я спрадвеку кашалі плёў.* Данілавічы Дзярж. 2. Высокі квадратны кош з лучыны. *Быў кашэль для вотрын.* Беразіно Докш. *З лучыны сплятуць вялікі кашэль насіць умецці, мякіну.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Палукашак. *Кашэле плялі із лык, із саломы, у сані стаўлялі.* Лука Нараўк. *Кашалі плялі ліповыя і стаўлялі ля драбін: ліпу дралі і карой застаўлялі калёсы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кашэль паставілі на калёсы.* Азяраны Раг. 4. Плеценая з прутоў рыбалоўная снасць. *Кашалі плялі з ракіты і ставілі на*

*рыбу, ставілі ў прорубы.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. Сетка для сена, пяхцер. *Даўней кашэль вязалі з вяровачак; як едуць куды, кашэль сена напхнуць і паложуць на сані.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сена клалі ў кашэль, з вяровачак тоненькіх плялі, даўгаваты.* Мярэцкія Глыб. *Кашэль з вяровачак вяжуць, насунуць, і конь с дырачак таскает сена.* Рагулішкі Даўг. ◇*Плёсці кашалё* — гаварыць недарэчнае. *Гаворыць абышто — пляце нейкія кашале.* Вялікія Баяры Шчуч.

КАШЭ'ЧЫ *прым.* Каціны. Нізок Уздз. *Кашэчы хвост.* Вялікія Баяры Шчуч.

КАЯ'К *м.* 1. Човен. *Каяк з дзерава выдаўбаны, на каяку паехаў.* Жылі Іўеў. 2. Невялікая лодка. *Каяк — маленькая лодачка, плыткая.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* руск., укр. *каюк* 'тж' (Фасм., II, 215).

КА'ЯЦЦА *незак.* Раскайвацца. *Цяпер яна каяцца, што паехала.* Дакудава Лід.∇*Не будзе каяцца чалавек, рана ўстаўшы і молад ажаніўшыся.* Ухвала Круп.

КВА'ДРА *ж.* Адна з чатырох фаз Месяца. *Была перша квадра маладзіка.* Жылі Іўеў. *Другая квадра — палавіна месяца.* Жодзішкі Смарг. *Першая квадра — вятох, другая — поўная.* Солы Смарг.

КВАЙНЁВЫ *прым.* Хваёвы. *Квайнёвых дроў напілаваў.* Ёдлавічы Брасл.

КВАЙНЯ' *ж.* 1. Адно дрэва хвоі. *Спусцілі квайню і папілавалі на доскі.* Ёдлавічы Брасл. 2. *зб.* Хваёвы лес. *У тым лесі адна квайня.* Ёдлавічы Брасл.

КВА'КАЦЬ, КВА'ХАЦЬ *незак.* 1. Кракаць. *Квакаюць качкі пад акном.* Пацаўшчына Дзятл., Кіралі Шчуч. 2. Квакаць. *Жабы квахаюць у сажалцы.* Кіралі Шчуч.

КВАКТА'ЦЬ *незак.* Квактаць. *Квокчыць курыца — нада падлажыць яічкі і пасадзіць.* Саланое Віл. *Ні стала квактаць курыца, зноў нясецца.* Валынцы В.-Дзв.

КВАКТУ'ХА' *ж.* Квактуха. *Квактýха з курчукамі сядзіць.* Кемялішкі Астр. *Квактýха водзя курчат.* Ліпнікі Вільн. *Квактýха лезе ў хату.* Вострава Маст. *Дочка не мела квактýхі.* Парэчча Гродз. *Квактухá с куранятамі.* Альхоўка Навагр. *Квактухá квокча, на яйца хоча, кап не квактала, то трэба памачыць, ды ў яму.* Баброўнікі Гарад. *Квактухá ў гарод павяла куранята.* Вострава Маст.; *гл.* ДАБМ, карта № 295.

КВА'ПІЦЦА *незак.* Імкнуцца завалодаць чым-н., пасягаць на што-н. *Я на рубаль не кваплюся.* Гемзы Шальч. *На сляпую ня квапіцца ніхто.* Крэва Смарг.; *параўн.* польск. *kwapić się* 'тж'.

КВА'ПІЦЬ *незак.* Тое ж, што і к в á п і ц ц а. *Ён жадны чалавек, на спаткі квапіў.* Бакшты Іўеў.

КВА'ПНЫ *прым.* Ласы. *Котка квапная на рыбу.* Беняконі Воран.

КВА'РТА *ж.* Конаўка, кубак. *Дайней звалі кварта.* Мсцібава Ваўк. *Кварта — воду піці.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* польск. *kwarta* 'старая мера вадкасці'.

КВАС *м.* 1. Кіслая рошчына, хлебны квас. *Квас — кіслая рошчына: з ржаной мукі заквасіць, а тады дабавіць у буракі ў журку.* Быстрыца Астр. *Квас робяць з жытняй мукі, с хлеба сушонага заквашвалі.* Паляцкішкі Воран. *З мукі жытняе робим квас, як варим буракі, капусту, то квас ліем, штоб кісло було.* Горск Бяроз. *Квас у дзешках дзелалі.* Мсцібава Ваўк. 2. Закваска. *Кідаем цеста ў дзежцы, каб квас дзяржаўся, хлеб нада ўчыняць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Квас хлябовы з жытняй мукі. Хлеб не патходзіў, бо старый квас быў. Не пякла хлеба на квасе, лепш на заквасцы.* Баброўнікі Гарад. 3. Саладуха. *Квас рабілі з мукі жытняй: упараш муку жытнюю, улеяш у дзешку хлебную, кваснея, і ямо з бульбай.* Стральцы Шальч. 4. Бурачны квас. *Квас рабілі з буракоў: ачысцяць буракі, зальюць вадой, укісня, а тады выносяць у сцёпку.* Стральцы Гродз. 5. Вараная кіслая страва, поліўка. *З грыбоў вараць квас.* Вострава Маст. *На каляду навараць квасу з грыбамі.* Баброўнікі Гарад. *Вада кіпіць, варацца грыпкі, прыправы кладуць — і квас.* Малахоўцы Бар. *У квас кіслаты льюць, мяса кладуць, зажарваюць.* Пацаўшчына Дзятл. *Квасу наварыць гаспадыня, туды казлякоў накідае, і з картопляй ямо.* Дзяніскавічы Ганц. *Вараць квас з рыбы.* Азяраны Раг. *Наварыла квасу з буракоў, капуста сечанка была.* Масілавічы Сл. *Квас з цыбулі рабілі і смятанкай бялілі ці алей дабаўлялі, як халаднік.* Мсцібава Ваўк. *Кап вы тэй квас паспыталі!* Ухвала Круп.

КВА'САЧКА *ж. памянш.* да к в а́ с к а 2. *Квасачкі дзеравяныя былі, затаўку складалі ў квасачкі.* Вецярэвічы Пух. *У кваску клалі здор, туды цыбулю, часнок, перац і вярцемкам таўклі, а патом капусту можна затаўчы.* Стральцы Гродз.

КВА'СІЦЬ *незак.* 1. Дабаўляць кіслаты ў страву. *Кіслы расол быў, поліўку квасілі расолам.* Груздава Паст. 2. Паставіць кіснуць. *Калісьці так было: малако квасяць і ў бочку зліваюць.* Гемзы Шальч.

КВА'СКА *ж.* 1. Вялікая кадушка. *Дайней была кваска на жыто, с клёпак. Кваска вялікая, высокая на дваццаць пудоў.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Кубелец. *Была кваска на сала із вушкамы.* Мярэцкія Глыб. *Кваска — драйляная з клёпак з двума вушкамі, знізу вужайша, зверху шырайша, троха меншая цэбра.* Стральцы Гродз.

КВАСНЕ'ЦЬ *незак.* Кіснуць. *Хлеп кваснее і кісне.* Паляцкішкі Воран. *Рашчынялі хлеп, ён кваснея.* Стральцы Шальч. *Працэджуя на рэшата, кваснея тая гэнста. Кваснеіць варэння.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *kwaśnieć* 'скіснуць'.

КВАСНІ'К *м. кулін.* Тое ж, што і к в а с 5. *Бувала, пасты былі, кваснік варылі.* Парэчча Гродз.

КВА'СНУЦЬ *незак.* Кіснуць. *Бярозавы сок злівалі ў бочку — і квасня той сок.* Кіралі Шчуч.

КВА'СНЫ, КВА'СНЫЙ *прым.* Кіслы. *У горадзе квасная малако не такоя, як наша малако.* Ракаўскія Швянч. *Вы будзіця есці квасна малако?* Дакудава Лід. *Грачыстая мука і малако кваснае.* Гемзы Шальч. *Квасна малако, то яно ўжэ густое.* Баброўнікі Гарад. *Квасная малако, як скваснярыя.* Старыя Трокі Трак. *Квасная малако.* Граўжышкі Ашм., Паляцкішкі Воран., Быстрыца Астр. *Квасна молоко.* Дзмітравічы Кам. *Квасная вада.* Беняконі Воран. *Як пячом хлеб, то набіраем кваснага цеста.* Пацаўшчына Дзятл. *Квасную поліўку робім.* Рагулішкі Даўг. *Закалбочана ў квасным малаку.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kwaśny* 'тж'.

КВАСНЭ'К *м. кулін.* 1. Камяк цеста, што пакідаюць у дзяжы для закваскі. *Як хліб усадымо ў пич, оскрябымо* [дзежку] *і тогдэ муки тудэ і водэ, і так примісымо, і то вын называіцьця кваснэк.* Дзмітравічы Кам. 2. Перапечка з хлебнага цеста, прызначаная для закваскі. *Кваснэк саджают в пич, спычэцьця, тогдэ вымают і ў тую дыжу наломают, воно ўкісае, выносят до сынэй, налівают водою холодною, тогдэ боршч варилі з його, і так їмо хоть с хлібом, хоть с картоплямэ.* Дзмітравічы Кам.

КВАСО'К *м. памянш.* да к в а с 5. *Буду варыць квасок з грыпкамі, такі супік.* Навасёлкі Свісл.

КВАСО'ЛЬНІК *м. кулін.* Суп з фасолі. Пасека Ст.-Дар.

КВАСО'ЛЬНЫ *прым.* Фасолевы. Пасека Ст.-Дар.

КВАСЬ *ж.* Кіслата. *У журку трэба квасі якой дабаўляць.* Гемзы Шальч. *Квась добрая і квась благая.* Солы Смарг.

КВАТАРАВА'ЦЦА *незак.* Жыць на знятай кватэры, кватараваць. *Дзе вы кватаруяцяся?* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* польск. *kwaterować się* 'размяшчацца'.

КВАТАРА'НЕЦ *м.* Кватарант. *Стафан наш кватаранец — вот добры хлопіц, німа што сказаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кватаранцы знаюць, куды ісці.* Дакудава Лід. *Тут кватаранцаў няма.* Гемзы Шальч. *У яго було п'яць кватаранцы.* Пасека Ст.-Дар. *Кватаранцаў я не дзяржу.* Солы Смарг.

КВАТАРА'НКА *ж.* Кватарантка. *У нас кватаранкі ест.* Парэчча Гродз.

КВАТАРА'НТ, КВАТЭРА'НТ, КВАЦЕРА'НТ *м.* Тое ж, што і к в а т а р а́ н е ц. *Мой кватарант пашоў.* Магуны Паст. *Пусціў кватэранты, зіму празімую* [пратрымаю іх]. Альхоўка Навагр. *Азялі пусцілі квацерантаў.* Груздава Паст.

КВАТЭ'РА, КВАЦЕ'РА, КВАРЦІ'РА *ж.* 1. Хата. *Тут пустая кватэра стаіць.* Паляцкішкі Воран. *Я за ноч убяру кватэру.* Ністанішкі Смарг. 2. Кватэра ў агульным доме. *Сын у*

*горадзе, квацера хароша ў сына.* Індра Красл. *Ён маіць кварціру там.* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *kwatera,* руск. *квартира* 'жыллё, памяшканне'.

КВАТЭ'РКА *ж.* Чацвёртая частка губкі палатна. *Чтэры кватэркі — і губіца.* Крынкі Крын.

КВА'ЎКАЦЬ *незак.* Квакаць. *Кваўкаюць жабы ў стаўку.* Кіралі Шчуч.

КВА'ХАЦЬ *гл.* КВА'КАЦЬ

КВАХТА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к в а́ к а ц ь 2. *Жабы квохчаць.* Магуны Паст. *Жабы як начнуць квахтаць.* Рудня Чэрв.

КВАЦЕ'РА *гл.* КВАТЭ'РА

КВАЧ *м.* Пэндзаль. *Квач макалі ў дзёгаць і калёсы мазалі.* Ёдлавічы Брасл. *Мазалі квачом калёсы.* Мярэцкія Глыб. *Квачом шмаруюць вокна, квач зроблены ш шэрсці.* Баброўнікі Гарад.

КВА'ШАНІ'НА *ж. кулін.* Халадзец. *Свіню закалолі і разбіраюць: ногі на кваша́ніну, кумпякі соляць.* Старыя Трокі Трак. *Цяпер — халоднае, кваша́ніна — па-даўнейшаму.* Дакудава Лід., Стральцы Гродз., Рыбчына Віл. *Кваша́ніна застыгла.* Магуны Паст. *Вару кваша́ніну з вушэй і нох.* Крэва Смарг. *Кваша́ніну зварыла.* Старыя Смільгіні Воран. *Косткі варацъ доўга — і кваша́ніна застывая.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Падала на стол кваша́ніну, есця!* Лоск Валож. *Квашаніна мясная — гэта халадзец.* Індра Красл. *Зварыла квашаніны.* Баброўнікі Гарад. *Квашаніну зварыла з ножак свінячых.* Беразіно Докш. *Галовы, ногі зварацъ, парацъ, кап упрэла, тады нажом кроядь мяса, квашаніну разліваяць, застыняць і ядзяць. Квашаніну робяць, як пахарон або васэля.* Ракаўскія Швянч. *І цяпер мы квашаніну варым, застыня на халадзе, добра закусваць.* Малахоўцы Бар. *Нада наварыць квашаніны, цяпер халодная завуць.* Ёдлавічы Брасл.

КВА'ШАНЫ *прым.* Кіслы. *Піця квашаная малако!* Жодзішкі Смарг.

КВА'ШЭЛІНА *ж.* Тое ж, што і к в а́ ш а н і н а. *З головы, ног свіных квашэніну варимо.* Смаляніца Пруж.

КВЕ'РХУ *прысл.* Уверх, наверх. *Кагда нераст, рыба ідзець кверху.* Істра Лудз.

КВЕ'ТКА, КВІ'ТКА *ж.* 1. Кветка. *Кажда кветка — лякарство, але мы не знаям. Пасеялі кветкі для пчолкаў.* Альхоўка Навагр. *Вот харошы кветкі растуць! Кветкі добры пах маюць.* Кіралі Шчуч. *Кветак е, дзе сена косяць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Зарэ і кляткё расцвітуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Озьмі полі кветкі!* Смаляніца Пруж. *Назбірала квіткув.* Дзмітравічы Кам. 2. Насенная частка сцябліны аўса. *Кветка аўса яшчэ зялёная.* Граўжышкі Ашм. *Овэс высыпався, квітка показалася.* Дзмітравічы Кам.

КВЕ'ТНІК *м.* Агародчык. *Кветнікаў нема, калі хто садзіць, то перад вакном.* Баброўнікі Гарад.

КВІ'ГА *ж.* Кукіш. *А квігу табе!* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *figa* 'тж'.

КВІК *м.* Віск. *Пашоў за гумно, там не чуць гэтага квіку.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kwik* 'тж'.

КВІРЧА'ЦЬ, КВІРКЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Квакаць. *Жабы квірчаць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Квактаць. *Курыца квіркчыць — квактаць пачыная.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kveřkšti* 'тж'. 3. Вішчаць. *Свіня квірчыць, як зачэпіш яё.* Гемзы Шальч. 4. *перан.* Бурчаць. *Не квірчы, што квірчыш!* Старыя Трокі Трак.

КВІТ *м.* Распіска, квітанцыя. *Аб адзежу квіт дадзём на тры рублі.* Крэва Смарг. *Пашоў аплаціць, ні нада квіты.* Быстрыца Астр. *Мама, ідзіця да нас, правяраюць квітэ!* Нагуевічы Сл.; *парайн.* польск. *kwit* 'тж'.

КВІ'ТА у знач. *вык.* Канец, скончана. *Грошы тобіе оддав — і з намі квіта.* Курашэва Чыж.

КВІТАВА'ЦЦА *незак.* 1. Жывіцца, карміцца. *Як ён у горадзі квітуецца, як ён сам сябе ўдзержывая, дае рады, пражыўлівая?* Навасёлкі Свісл. *Чым ён квітуецца?* Міратычы Карэл. 2. Эканоміць, быць ашчадным. *Трэба квітавацца, кап і заўтра хапіла.* Рыбчына Віл.; *парайн.* польск. *wiktować* 'сталаваць, карміць, утрымліваць на сваіх харчах' (ВС, II, 668). 3. Вяртаць доўг, разлічвацца. *Ен пазычыць грошы, а я гавару яму: «Чым ты будзеш квітавацца, чым ты заплаціш, чым ты атквітуесса, а дзе ты возьмеш аддаць, калі ў цябе німа?* Дзяніскавічы Ганц.

КВІ'ТКА I *гл.* КВЕ'ТКА

КВІ'ТКА II *ж. абрад.* Вянок з жытніх каласоў. *Бувало так: последні кусочок жыта колі дожынают, оставляют часть і выполют тут же зелье і тогды зжынают, із гэтого жыта ліпшыі колоскі бэрут і робйат квітку, которую светят і сеют, як засэвают жыто.* Горск Бяроз.

КВІ'ТНУЦЬ *незак.* Цвісці. *Кветкі начынаюць квітнуць. Тыя цвяты квітнуць першыя.* Чычалі Швянч. *Касач жоўты жоўтым квітніць.* Старыя Смільгіні Воран. *Кветка сініськім квітніць.* Магуны Паст. *Наша цыбуля квітніць, у пук пашла.* Малькуны Ігн. *Яны так квітніць, але не такія кветкі. Гаштаўка бела квітніць.* Рагулішкі Даўг. *Забылася пахваліцца, што кактус квітніць.* Ёдлавічы Брасл. *А як станя квітнуць.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *kwitnąć* 'тж'.

КВІТО'К *м.* 1. Невялікі лісток паперы, картка. *Вы з бумагі пішаце на квітке? — многа работы.* Міратычы Карэл. 2. Пісьмовы дазвол, ордэр. *Дайней квітке́ бралі на лазу драць.* Вецярэвічы Пух.

КВІЦЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к в і т н у ц ь. *Лён сінікькім квіціць.* Быстрыца Астр.

КВІЦЁК *м. памянш.* Кноцік. *Квіцёк у смаркачыку быў, рабілі з мультану.* Мачаск Бярэз.; *парайн.* руск. *фитиль* 'тж'.

КВІЦЯЛЁК *м.* Тое ж, што і к в і ц ё к. *Дайней квіцялёк у бульбіну ўстаўлялі і карасіну налівалі.* Мачаск Бярэз.

КВІЧА'ЦЬ, КВЫЧА'ТЫ, КВІЧЭ'ЦЬ *незак.* 1. Вішчаць. *Свіння квічыць.* Крэва Смарг., Саланое Віл. *Паршук квічыць.* Навасёлкі Свісл. *Парасётка квічыць.* Асавец Віл. *Парася квічыць.* Альхоўцы Лях. *Свіння квічаць.* Жодзішкі, Крэва Смарг. *Свінні квічаць.* Рыбчына Віл. *Квічат свінні.* Лука Нараўк. *Свэнэ квычат.* Дзмітравічы Кам. *Квічат парасята.* Вялікі Краснік Пруж. *Парасята квічэлі.* Жодзішкі Смарг. *Воўк цягнуў парасёнка, яно так квічэла.* Асавец Віл. 2. *перан.* Крычаць. *А скруця галаву гэты хлопяц — квічыць, а я не магу перанесці.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kwiczeć* 'пішчаць' (пра свінню).

КВО'КА *ж.* Тое ж, што і к в а к т ў х а́. *Патхіліліся куранята пат квоку.* Мсцібава Ваўк.

КВО'КАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к в а к т а́ ц ь. *Квокайіць курыца.* Кураполле Паст.

КВО'ЛІЦЦА *незак.* Жаліцца, енчыць. *Цёнгля ён кволіцца, што ён хворы.* Альхоўцы Лях. *Як баліць, то кволіцца.* Вецярэвічы Пух. *Яна ўсё кволіцца і кволіцца.* Кузьмічы Люб.

КВО'ЛЫ *прым.* 1. Слабы. *Я на галаву кволая.* Гемзы Шальч. *Ён кволага здароўя.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Кволая, як курыца.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Марны, дробны. *Кволыя зерняткі ў ячмені.* Азяраны Раг.

КВЫЧА'ТЫ *гл.* КВІЧА'ЦЬ

КВЯЛІ'ЦЦА *незак.* 1. Тое ж, што к в я л і́ ц ь. *Ні квяліса ты з ім!* Вострава Маст. 2. Капрызіць. *Квеліцца дзіця — зачыная плакаць.* Старыя Трокі Трак.

КВЯЛІ'ЦЬ, КВЕЛІ'ЦЬ *незак.* Дражніць. *Ні квялі дзіця!* Кіралі Шчуч. *Квяліць — то дражніць, язык паказваць.* Баброўнікі Гарад. *Ні квялі, кап ні плакаў!* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Квяліць дзіця — падражніваць адно другога.* Навасёлкі Свісл. *Ён квеліць дзіця.* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* польск. *kwielić* 'тж'.

КВЯТНІ'К *м.* Кветнік, агародчык. *Квятнік — дзе кваткі растуць.* Саланое Віл.

КВЯ'ТЫ *мн.* 1. Вазоны, кветкі. *Кот кваты пераверне.* Старыя Трокі Трак. *Во квят у мяне многа!* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Мае кваты, трэба паліць.* Ністанішкі Смарг. *Німа квятаў, садзілі.* Старыя Трокі Трак. *Усадзіць кваты ў грудзі і ідзець да дзевак.* Асавец Віл. 2. Настой з кветак. *Кваты грыкі ад бранхіту п'юць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *kwiat* 'кветка'.

КВЯЦЯ'СТЫ *прым.* Квяцісты. *У яе хустка квяцяста.* Альба Нясв.

КЕ'БКА, КЕ'БОЧКА *ж. памянш.* Пячурка ў печы. Азарычы Пін.

КЕ'ДЫСЬ *прысл.* Калісь. *Булён кедысь варыла.* Пярэчча Гродз. *Кедысь жалі збожа сярпом, а ціпер усё машынамі робяць.* Каўняны Гродз.; *парайн.* польск. *kiedyś* 'калісьці'.

КЕ'ЗНУЦЦА *незак.* Капрызіць, непакоіцца. *Дзіця кезніцца: не то плача, не то гуляя, кезніцца, нешта яму нада.* Рыбчына Віл. *Чаго ты кезніcся?* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* літ. *keĩzotis, keĩziotis* 'валтузіцца, кідацца'.

КЕЛ, КЁЛ *м.*, КЛО *н.* Ікол. *На чацвёрты год у каня два келы вырастаюць, адзін кел з аднаго боку, другі — з другога.* Ахрэмаўцы Брасл. *Выбій кел, са дным клом. Нада клэ высякаць у парасят. У вайка клэ бальшыя.* Парэчча Гродз. *Адзін кел, клы — вялікія зубы ў свінні.* Дакудава Лід. *Адзін кёл вырас.* Кіралі Шчуч. *У свіней кла, велькаё кло.* Навасёлкі Свісл. *Клэ ў свіней, одно кло.* Міратычы Карэл. *Кла ў свіні, е кла ў свіней, у малых парасят сцінают кла.* Лука Нараўк. *У дзіка клы бальшыя.* Мсцібава Ваўк. *Клэ ў свіней, збіваюць іх, бо не харашо есць* [кабан], *як растуць клэ. І ў сабакі клэ.* Кіралі Шчуч.∇ *Вышчарый клэ, як сабака.* Кіралі Шчуч.

КЕЛБ, КЕЛП *м. заал.* Пячкур. *Келб — небальшая рыба.* Кіралі Шчуч., Бенякoні Воран. *У нас водзяцца плоткі, мяньке, келб — ведаям такую рыбу.* Малахоўцы Бар. *Келб — невялікі.* Рыбчына Віл. *Келп — харошая рыпка, дзе затока, там буйнейшыя і жырнейшыя кялбы, хрыбятная косць у іх тонкая. Бывала, матка навара шчайяй і кялбой накідая, і астудзя, і нет лепшай яды, як халаднік з гэтымі кялбамі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kiełb*, літ. *kìlbas* 'тж'.

КЕЛБА' *зб. ж.* Печкуры. *Рачная келба — маленькая. Марская келба із марэй прыходзіць па пятнаццаць — дваццаць кіль, сама рабая і дужая, жывуць у Нёмні, у азёрах іх німа, яе паймаць трудна, храняцца ў дубах на дне Нёмана, ночу ловят, гэта разумная рыба, любую сецъ парвёт.* Альхоўка Навагр.

КЕ'ЛБУК, КЯЛБУ'К *м.* Тое ж, што і к е л б. *Келбук у рэчках водзіцца.* Сапоцкіна Гродз. *Келбукі — сама грубкая рыба, па маліньків рыштоках водзіца. На кручок бярэцца, келбук па дну, як вудачку закінеш, усіх вылапаеш.* Старыя Трокі Трак. *Кялбук — рыба такая.* Груздава Паст. *Кялбукі па дну плывуць.* Магуны Паст.

КЕЛБУ'Н *м.* Тое ж, што і к е л б. *Келбуны — так піскарой завуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* літ. *kilbū̃nas* 'тж'.

КЕ'ЛБУХІ толькі *мн.* Кішкі, вантробы. *Келбухі ў каровы. Усе келбухі выкінулі.* Кузьмічы Люб.

КЕ'ЛЗА *ж.* 1. Гразь. 2. *перан. зневаж.* Мурза. Тухавічы Лях.

КЕ'ЛЗАЦЬ *незак.* Кілзаць. *Келзалі коні.* Беняконі Воран. *Цуглі — келзаць коні.* Дакудава Лід.; *параўн.* літ. *apgelžti* 'акаваць'.

КЕ'ЛІХ, КЕЛЮ'Х *м.* Чарка. *Зладзея келіх укралі с камунікантамі.* Жылі Іўеў. *Келюх з ношкай.* Азяраны Раг.; *параўн.* польск. *kielich* < ням. *Kelch* 'чаша, кубак'.

КЕ'ЛІШАК *гл.* КІЛІ'ШАК

КЕ'ЛТАЦЬ *незак.* Боўтаць, размешваць. *Бывала, вадзічкі ўлью і келтаю мілту; закелтай мілты! — дзеці прасілі.* Груздава Паст.

КЕ'ЛЬНЯ *ж. тэх.* Кельня. *Пячнік чэрпая гліну, ложа на кірпіч, гэтай кельняй паправя і ложа другі кірпіч.* Гемзы Шальч. *Кельняй гліну бéруць і муруюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кельняй пячнік рашшароўвае гліну.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *kielnia* < ням. *Kelle* 'тж'.

КЕЛЮ'Х *гл.* КЕ'ЛІХ

КЕ'МЛІВЫ *прым.* Цямлівы, кемлівы, кемны. *Ён разуме́іць, кемлівы рабёнак.* Мярэцкія Глыб. *Унук панімая добра — кемлівы.* Рудня Астравітая Чэрв.

КЕ'МНЫ *прым.* Тое ж, што і к е́ м л і в ы. *Кемны чалавек.* Магуны Паст. *Мой унук — кемны хлопяц.* Вязынка Маладз. *Кемная дзяўчына, добра вучыцца.* Рыбчына Віл.

КЕ'ПСКІ *прым.* 1. Дрэнны, благі. *Кепская пагода.* Жылі Іўеў., Жодзішкі Смарг. *Кепская шчотка.* Старыя Трокі Трак. *Ён меў добрага каня, а цепер — кепскога.* Крынкі Крын. *У нас за дарогаю суседзі, так яны кепскія.* Баброўнікі Гарад. *Скажы што матка ім — матка кепская.* Старыя Трокі Трак. 2. Неўрадлівы. *Кепская глеба, адзін кушот расце.* Навасёлкі Свісл. *Зямля ў нас кепска, пяшчана.* Заполле Скід.; *параўн.* польск. *kiepski* 'тж'.

КЕ'ПСКО *прысл.* 1. Бедна. *Ціпер ні кепско людзі жывуць.* Мсцібава Ваўк. *Кепско было даўней жыць.* Грыцкевічы Зэльв. 2. Няправільна. *Мову добра знаю, а задачы рашаю кепско.* Заполле Скід. *Кепско не ўмець рабіць.* Крынкі Крын.

КЕ'ПСТВО У выразе: *Рабіць на кепство* — рабіць з благім намерам. *Ён робіць на кепство.* Номікі Бабіц.

КЕ'ПЦІ I *гл.* КІ'ПЦІ

КЕ'ПЦІ II *мн. тэх.* Зубцы ў шасцярні. *Кепці е ў калясе ў машыня.* Вецярэвічы Пух.

КЕ'ПША *ж. зневаж.* Тоўстая непаваротлівая жанчына. *Кепша ты!* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *kepšys* 'няўмека'.

КЕРАЙША' *м.* і *ж. зневаж.* Няўклюда, нязграбны чалавек. *Ён керайша, такі няўдалы.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *kereiša* 'тж'.

КЕ'РАТ *м. тэх.* Конны прывод малатарні, манеж. *Керат быў да малацілкі, кератам малацілі, пара коні ўпрагалі, коні*

*цягнулі керат, а ён круціў малацілку. Адзін конь не пацягне керат.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *kierat* 'тж', літ. *kẽrė* 'рэпка' (у малацілцы).

КЕ'РЗАВЫ *прым.* Юхтовы. *Хай абувая керзавыя боты.* Сакаўшчына Валож.

КЕ'РЗАЦЬ *незак. экспр.* 1. Вязаць. *Сядзіць на лошку і кружава керзая.* Раўбічы Мін. 2. Блытаць. *Што ты там керзаяш? — Ніткі знявечала, збайтала іх.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *kevérzoti* 'тж'.

КЕРЗО'ЛІЦЬ *незак. экспр.* Няправільна гаварыць. *Керзоля ўжо па-літоўску, а быў паляк.* Старыя Трокі Трак.

КЕ'РКАЦЬ *незак.* Гагатаць. *Мая гусь керкая.* Альхоўцы Лях. *Керкаюць гусі пад вакном.* Галубы Маст.∇ *Керкая, як гусь — невыразна гаворыць.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* літ. *keřkti* 'кракаць'.

КЕРНО'З, КЕРНО'С *м.* 1. Кныр. *Кернос — нечышчаны паршук.* Каўняны Гродз. 2. Кабан з кароткім лычам. *Кернoз — парсюк, у яго лыч кароткі.* Гемзы Шальч.∇ *Малы, як кернос.* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *kernẽzas* 'хто нізкага росту'.

КЕРШАВА'ТЫ *гл.* КЯРШАВА'ТЫ

КЕ'РШЫ *прым.* Пярэсты. *Бывая кершы бык, карова кершая.* Івашкаўцы Смарг.

КЕРЭ'ПЛА *гл.* КІРА'ПЛА

КЕ'ТЫ *мн.* Кеды. *Давай кеты надзенем.* Пацаўшчына Дзятл.

КЕ'ЎЗАЦЦА *незак. экспр.* Качацца, дурэць. *Чаго ты кеўзаесса па чыстай пасцелі?!* Кузьмічы Люб.

КЕ'ЎЗАЦЬ *незак.* Мазаць. *Што ты кеўзаяш стольki масла — ці ты з'ясі?!* Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* літ. *kiaũzoti* 'мазаць, пэцкаць'.

КЕ'ЧА *ж.* 1. Гронка. *Кечу арэхаў сарвала.* Кураполле Паст. *Ягады сёліта кечамі вісяць. Брусніцы кечамі растуць. Арэхі кечамі растуць. Памідоры вісяць цэлымі кечамі.* Кураполле Паст. 2. Корч цыбулі. *Цыбуля кечамі расцець: у адным кургане пяць-шэсць цыбулін.* Кураполле Паст. 3. Суквецце. *На піжмя цэлыя кечы вырастаюць.* Магуны Паст.

КЕ'ЧКА *ж. памянш.* 1. Тое ж, што і к е ч а 1. *Цэлая кечка гарэхаў. Гарэхі растуць кечкамі.* Магуны Паст. 2. Тое ж, што і к в е т к а 2. *Адну кечку аўса сарваў.* Магуны Паст.

КЕ'ШКАТИ *незак.* Варушыць. Азарычы Пін.

КЕ'ШКАЦЦА *незак. экспр.* Корпацца, марудна рабіць. *Кешкацца — марудна рабіць, збірацца.* Ракаўскія Швянч., Магуны Паст. *Кешкаюся да пайдня, і скаціна стаіць ня кармлена, нада накарміць. Ты кешкаесся доўга. Кешкалася, ні спору у рабоці, кешкаецца каля дому.* Кураполле Паст. *Чаго ты кешкаясся?* Дакудава Лід., Стральцы Гродз. *Кешкаісся з дзяцьмі да пайдня.* Саланое Віл. *Памалу робіць, кешкаецца.*

Вецярэвічы Пух. *Кешкаецца, у адным месцы нешта робіць.* Альхоўцы Лях. *Я кешкалася доўга; тоя зраблю і тоя зраблю.* Рудня Астравітая Чэрв.∇ *Кешкалася, як муха ў кісялю.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *teškéntis* 'плёскацца, забаўляцца, пэцкацца ў лужыне'.

КЕШЭ'НЬ *гл.* КІШЭ'НЬ

КЁЛ *гл.* КЕЛ

КІ'БІС *м. заал.* Кнігаўка. *У кібіса сівенькі чубік.* Мішневічы Шум.; *парайн.* руск. *чибис* 'тж'.

КІБІ'ТКА *ж.* Павозка, воз. *Была кібітка на гной, гной возіць.* Жылі Іўеў.; *парайн.* руск. *кибитка* 'тж' з тат. *kibit* 'лаўка, будка'.

КІ'БЯЦЬ *м.* Кіпцюр. *Кібці ў птушак і сабак.* Азяраны Раг.; *гл.* кіпці.

КІВА'ЦЦА *незак.* 1. Хістацца (пра зуб). *Зуп віваецца, расківаўся зусім.* Едлавічы Брасл. *Ківаюцца зубы.* Быстрыца Астр. *Усе зубы ківаюцца.* Магуны Паст. *Еслі зубам цынга, яны ківаюцца.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Калыхацца. *Зыбалка была, карытка такоя ківалася.* Стральцы Гродз. 3. Віхляцца. *Не ківайся ты!* Азяраны Раг. *Ківаецца, як п'яны.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. *экспр.* Нахіліўшыся, працаваць. *Ківалася цэлы дзень на буракох* [садзіла]. Мсцібава Ваўк.

КІВА'ЦЬ *незак.* 1. Ківаць чым-н. *Не ківай пальцам!* Міратычы Карэл. 2. Хістаць. *Не ківай жэртку!* Міратычы Карэл.

КІВІ'ЛЫ *мн. заал.* Апалонікі. *Я малая была набраўшы замест рыбыківілаў, мама кажыць: «Гэта ківілы, з іх жабы выводзяцца».* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* літ. *kivýnai* 'дробныя вадзяныя насякомыя'.

КІВІТА'ЦЦА *незак.* Хістацца. *Ён ківітаецца, як п'яны.* Старыя Смільгіні Воран.

КІГІ'КАЦЬ *незак.* Кігікаць. *Кнігаўка кігікаіць.* Саланое Віл.

КІ'ДАЦЦА *незак.* 1. Кідаць, шпурляць. *Мама, ён кідаецца балотам, злаўлю, то вушы аткручу!* Кіралі Шчуч. 2. Падскокваць. *Біцца да мяне кідайся.* Вецярэвічы Пух. 3. Пачынаць цячы. *Кроў з носа кідаецца.* Саланое Віл. 4. *экспр.* Варочацца з боку на бок. *Не заснула — кідалася і кідалася ўсю ноч.* Саланое Віл. 5. Пераязджаць, мяняць месца жыхарства. *Выехаўшы былі — зноў вярнулісы, кідаюцца людзі.* Груздава Паст.

КІ'ДА'ЦЬ I *незак.* 1. Тое ж, што і кідацца 1. *Глядзі — ён кідая камяням.* Міратычы Карэл. 2. Адкідваць. *Ні кідай яблыко!* Вялікія Баяры Шчуч. *Кідай дробную бульбу ў лупіны!* Жылі Іўеў. 3. Складваць (у кучу, стог). *Кідалі салому ў сцірту.* Груздава Паст. *Кідаюць стох і закручваюць кульшы.* Малахоўцы Бар. *Стаге кідалі.* Вецярэвічы Пух. *Станавіся! — будзем кідаць сена ў стаге.* Глівін Барыс. *Трэба буракі ў кучу*

*кідáць.* Жылі Іўеў. 4. Класці. *Я ў печ дрова кідала, накідала, бо былі патухшы.* Кіралі Шчуч. *У плоця кідáлі жорткі ўдоўш.* Магуны Паст. *Перад дзвярмі кідáюць мяхі.* Саланое Віл. 5. Садзіць. *Ні буду кідаць картоплі, бо нядзелька.* Пасека Ст.-Дар. *Пайду бульбу кідáць у барозны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Мама прыдзя, кідáць бульбу паможа.* Азяраны Раг. 6. Несціся. *Зязюля буць у якоя гнездо кідáіць яйко.* Ёдлавічы Брасл. 7. Сыпаць. *Кідаем жураўліны ў капусту, солі, морквы кладзём.* Парэчча Гродз. *Я не кідала ігруш у кампот.* Лоск Валож. 8. Пакідаць. *Не было с кім дзяцей кідаць.* Кузьмічы Люб. *Не кідáйце нас!* Пасіене Лудз. 9. Разводзіцца. *Хто даўней жонку кідаў, дзяцей?* Азяраны Раг. *Ён кідаў жонку, дзяцей.* Груздава Паст. *Жонку кідáў ня рас.* Ахрэмаўцы Брасл. 10. *ткац.* Уводзіць аснову ў бёрда, ніт. *Кідаць у бердо, кідалі ўпярод ў нічальніцы, патом — у бердо.* Баброўнікі Гарад. *У нічальніцы кідая.* Альхоўка Навагр. *Кідаюць аснову ў берда і ніт.* Лоск Валож. *Ты ў ніт кідáць бýдзеш!* Груздава Паст. *Ніткі ў нічальніцы кідáюць.* Жодзішкі Смарг. *Кідáюць у ніт, а з ніту — у берда.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Кідáлі ў ніт, тады — у берда.* Кухты Віл., Солы Смарг.

КІ'ДА'ЦЬ II *незак.* 1. *мед.* Біцца, падаць у час прыступу. *Падачка кідáя.* Быстрыца Астр. *Са спужання падачка яе кідáіць.* Магуны Паст. *Яго кідая падучая балезнь.* Мсцібава Ваўк. *Прыпадак кідае хлопца.* Мачаск Бярэз. *Ат падучай кідая чалавека.* Малахоўцы Бар. *Яго валентка кідае.* Каменка Стара Сакол. *Холадна, у дрожь кідаіць.* Кіралі Шчуч. 2. Зменьваць зубы. *Конь зубы кідáіць.* Валынцы В.-Дзв. *Конь кідáіць зубы — на трэці гот пярэднія чацьвёркі.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Апаражняцца. *Трэба глядзець, ці свіння гной кідáя.* Паляцкішкі Воран. *Карова гной кідáя.* Старыя Смільгіні Воран.

КІДЗЕ'ЛЬ *выкл.* Кінуць. *Кідзель сліны яна на мяне!* Саланое Віл.

КІ'ДКА *ж.* Укладка сена ў стог. *Будзем зрана на кідцы стагоў, а там відна будзе.* Глівін Барыс.

КІЁК *м.* Калочак. *Кіёк забівалі ў сцяну — вітушку віць.* Ахрэмаўцы Брасл.

КІЁУКА *ж.* 1. *бат.* Рагоз. *У асацэ кіёўка, кіёўкай увесь свет апыліш. Балотлівая трава, яе называюць кіёўкі. Выраслі кіёўкі на балоці.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. 2. Папяровая планачка, прыбітая зверху да дзяржання рыдлёўкі. *Кіёўка дзеравянная ў цавіне.* Мельнікі Лудз.

КІ'ЖАЛЬ *м.* Слота, снег з даждҗом. *Тады буду сядзець, як кіжаль пойдзіць, тады чытаць буду.* Мішневічы Шум.; *параўн.* літ. *kēžis* 'размазня'.

КІЖЛА'ТЫ *прым.* Крываногі. *Ён малы, кіжлаты.* Рудня

Астравітая Чэрв.; *парайн.* літ. *kĕzlinti, kĕžlinti, kèzlóti, kèžlóti* 'кульгаць'.

КІЗЛА'ЦЬ *незак.* Кілзаць. *Каня кізлалі цуглямі.* Ахрэмаўцы Брасл.

КІЙ *м.* 1. Палка з загнутай ручкай. *Толькі с кіём магла ісці.* Гемзы Шальч. *Налупив хлопца кіем.* Вялікі Краснік Пруж. 2. Дзяржанне да памяла, памяльнік. *Дзе той кій, што на памяло насаджваць?* Альхоўка Навагр. *Зрабі кій на памяло!* Рудня Астравітая Чэрв.∇ *Некалі казалі: «Пій, пій! — а на старасць торба і кій»* — ісці жабраваць. Паляцкішкі Воран. ◊ *Кій адабраць* — пазбавіць апошняга сродку існавання. *Вы ў жабрака кій адабралі, як вам ня стыдна!* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *kij* 'тж'.

КІЛАВА'ТЫ *прым.* Дуплаваты. *Кілаватая капуста.* Быстрыца Астр.

КІЛА'ВЫ *прым.* Хворы на грыжу. *Ён кілавы на грыжу.* Баброўнікі Гарад.

КІЛА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і к і л а в а́ т ы. *Кілатая капуста, дзеля гэтага не расцець капуста.* Саланое Віл.

КІЛБАСА' *ж.* 1. Кілбаса. *Кілбаса смачней, як палянвдіца.* Груздава Паст. *Буду рабіць кілбасу.* Грыкені Вільн. *Рэжа кілбасу і есь.* Лоск Валож. *Кілбасы будзем рабіць.* Старыя Трокі Трак. *Тоўстыя кілбасы жараць.* Дакудава Лід. *Кілбасы копцяць некаторыя.* Малахоўцы Бар. *Пакаштуйця мае кілбасы, чы будзя вам смакаваць?* Верхлессе Крын. *Схарані кілбасы ў лядуўку!* Лука Нараўк. 2. *перан.* Рубцы. *Як смаргане падпінкай праз плечы, так і кілбасы на плічах носіш.* Гемзы Шальч.

КІ'ЛЕ, КІ'ЛЁ *гл.* КІ'ЛЯ

КІЛІ'ШАК, КЯЛІ'ШАК, КЕ'ЛІШАК *м.* Чарка. *Кілішак высокянькі.* Жодзішкі Смарг. *Кілішак з ношкай, а бяз ношкі — чарка.* Кіралі Шчуч., Дакудава Лід. *Па кілішку вып'юць і пойдуць.* Мсцібава Ваўк. *Кялішак — з ношкай, а чарка — бяз ношкі.* Ёдлавічы Брасл. *Келішак з ношкай.* Рыбчына Віл.; *парайн.* польск. *kieliszek* 'тж'; *гл.* к е́ л і х.

КІЛО' *гл.* КІ'ЛЯ

КІЛО'МАТР, КІЛОМЭ'ТЭР *м.* Кіламетр. *Восім кіломатраў праехалі, а я спала.* Дакудава Лід. *Кіломэтэр ад Рудзішак.* Старыя Трокі Трак.

КІЛУ'Н *м.* 1. Кныр. *Кілун — як кілы ня выразаны.* Валынцы В.-Дзв. *Кілун — па-простаму называюць.* Рагулішкі Даўг. 2. Нутрэц. *Кілуна не кідаюць за кнура.* Азяраны Раг.

КІ'ЛЬКА *займ. неазн.* Некалькі. *Я кілька рас бачыў. Кілька калодак стаіць.* Масілавічы Сл. *Адна кветка кілька раз на лето мяняе цвет.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* польск. *kilku* 'тж'.

КІЛЬКО'РО *ліч.* Некалькі. *Кількоро курэнят ястраб задэр.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *kilkoro* 'тж'.

КІЛЮОʹВКА *ж.* Гіра кілаграмовая. *Паршука хотіев зважыті і от сусіеда кілюовку позычыв.* Курашэва Чыж.

КІʹЛЯ *н.* і *ж.*, КІʹЛЕ, КІЛЁ, КІЛОʹ *н.* Кілаграм. *Кіля цукру купіў.* Кіралі Шчуч. *Рыбыну сухую бэрут по пойтора рубля кіля.* Брады Пруж. *Ці можно продаці кіле?* Ялова Пруж. *Кілё вовны в час счышчу рукамэ.* Дзмітравічы Кам. *Купіла два кіля памідор.* Жылі Іўеў. *Тры кіля с сотні.* Ляхавічы Навагр. *Злавіў рыбы дзве кілі.* Магуны Паст. *Жырны я — сто шэсць кіло.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Кілю сялёткі ўзяў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Свінчага мая была сто семдзесят пяць кіль.* Дакудава Лід. *Дзесяць кіль цукру купіла.* Ністанішкі Смарг. *Кіль дзве-тры грыбоў маладзейшых зашлю ў горад.* Пацаўшчына Дзятл. *Дзесяць кіль мукі прывезла.* Малахоўцы Бар. *Была з восім кіль цукру ўзяўшы.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *kilo* 'тж'.

КІМСАʹ *ж.* Купіна. *На тарфяным балоці кімсы, села на кімсу.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* літ. *kìmsa* 'тж'.

КІʹНАЦЬ *гл.* КІʹНУЦЬ

КІНДЗЮʹК, КІНДЗЮʹХ *м.*, КЭНДЮХІʹ *мн.* 1. Страўнік у жывёлы. *Кіндзюк ва ўсіх: у каровы, свінні, авечкі.* Дакудава Лід. *Кіндзюк у кожнага е; у каровы кіндзюк і кнігі. Япрукі пудоў па п'яць, і ў іх кіндзюкі папекаваны.* Альхоўцы Лях. *Кіндзюх у кабана.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Начынены мясам свіны страўнік. *У кіндзюк мяса кладуць з пятага кумпяка — з ашыйка.* Гемзы Шальч. *Рэжыць і ложыць мяса ў кіндзюк.* Ёдлавічы Брасл. *Кіндзюк у свіні; яго вымаюц і накладаюц мяса на лета.* Парэчча Гродз. *Кіндзюк напхаем і падвесім.* Новікі Гродз. 3. толькі *мн.* Вантробы. *Вэвалів кэндюхі з кабана.* Дзмітравічы Кам. 4. *пераи. зневаж.* Хто нізкага росту. *Хто малы — кіндзюк прозываюць.* Чычалі Шванч.

КІʹНЕНЫ, КІʹНЯНЫ *дзеепрым.* Кінуты. *На дошках кінена сена.* Гемзы Шальч. *Салома кінена, яна ляжыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Тут кіняны ровар.* Ракаўскія Швянч.

КІʹНУЦЦА *зак.* 1. Упасці. *Я кінулася і выцяла голаву.* Нізок Уздз. 2. Памкнуцца з пагрозай. *Кінуўсё с паленом да мяне.* Міратычы Карэл. 3. Пачаць. *Грыбы кінуліся расці.* Беразіно Докш. ◇ *Кінуцца ў глазы* — звярнуць на сябе ўвагу. *Сразу ў глазы кінулася — нікрасівая такая нявестка, як паказалася.* Мішневічы Шум.

КІʹНУЦЬ, КІʹНАЦЬ *зак.* 1. Укінуць. *Яго забілі і ў возяра кінулі.* Ёдлавічы Брасл. *Хоць чым, ды кінаць трэба, а яна пульнула глінай.* Саланое Віл. 2. Паставіць. *Кінуў веласіпед і пашоў.* Істра Лудз. 3. Разысціся. *Хадзіў і кінуў дзеўку.* Кіралі Шчуч. 4. Пакінуць дзе-н. *Ні мела с кім кінуць хворага мужа.* Жодзішкі Смарг. *А іх двух кінуў дома.* Ахрэмаўцы Брасл. *Міне кінулі і самі не паехалі.* Пасіене Лудз. 5. Ускінуць, узняць. *Кінула рукі ўверх.* Саланое Віл. 6. Перастаць,

адвыкнуць. *Кініць курыць і зноў пачынаіць.* Кураполле Паст. *Ен кінуў курыць, яна кінула піць.* Саланое Віл. ◊ *Кінуць окам* — глянуць, паглядзець. *Кінь окам на цыбулю, каб не перасмажылася, а я пайду!* Мсцібава Ваўк.

КІ'НШЧЫК *м.* Кінамеханік. *Кіншчык кіно паказвая.* Быстрыца Астр. *Кіншчык прыдзя — будзя кіно.* Гемзы Шальч.

КІ'НЯНЫ *гл.* КІ'НЕНЫ

КІ'ПА *ж.* Сноп бобу. *Боп жнуць і вяжуць у кіпы.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *kupà* 'куча; частка капы' (пятнаццаць адзінак).

КІПЕ'НІЦЬ *незак.* Кіпяціць. *Кіпеняць ваду, і яна іх была запарайшы.* Кудзялянцы Шальч.

КІ'ПЕНЬ, КІ'ПЯНЬ *м.* і *ж.* 1. Кіпецень, вар. *Галушкі качаюць і ў кіпень кідаюць, а далей можна адцэджаваць і ж жырам есці.* Дзяніскавічы Ганц. *Рэдзь* [палатно] *у кіпянь кідалі.* Стральцы Гродз. *Кіпянь — калі вада кіпіць.* Дакудава Лід. *Брала гаршчок з печы і кіпням жогнула на сябе.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Гарачыня, спёка. *Кіпень такая на дварэ.* Мішневічы Шум.

КІПЕ'ЦЬ *незак.* 1. Кіпець. *Кіпіць вада ў гаршку.* Паляцкішкі Воран. *Вада грэіцца і кіпіць.* Парэчча Гродз. 2. Варыцца. *Крупнік будзя кіпець пры боку.* Паляцкішкі Воран.

КІ'ПЦІ, КЕ'ПЦІ *мн.* 1. Кіпцюры. *Кіпці ў сабакі, у ката, у каршуна.* Лайпушкі Ігн. *У савы кіпці, як у арла.* Істра Лудз. *Арол, каршун кіпці ўпусціць у курыцу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кіпці ў сабакі, у курэй.* Парэчча Гродз. *У каршуна кіпці; ён кіпцямі дзярэ курэй; куры ўцякаюць пад хату.* Кіралі Шчуч. *Курыца кепцямі грабе і грабе грады.* Рудня Чэрв. *Кепці ў курэй, у воўка, у сабакі. Кепцямі падралі куры грады. Курыца зламала кепяць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кепці ў мядзведзя бальшыя.* Вецярэвічы Пух. 2. Пазногці. *Я чашуся кіпцямі ад кляновых жукоў.* Рагулішкі Даўг. *Ты абадраў мяне кіпцямі.* Пасіене Лудз. *Кепці адгадаваў, пазразай кепці!* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* літ. *kibčius* 'задзіра' *këpčiotis* 'задзірацца'. 3. *бат.* Спарыння. *Ва ржы чорныя кіпці растуць.* Рагулішкі Даўг. ▽ *Упусціла кіпці, што сава.* Лісна В.-Дзв.

КІПЦЮРЫ', КІПЦЮРЭ' *мн.* 1. Кіпцюры. *У курэй кіпцюрэ.* Кіралі Шчуч., Дзяніскавічы Ганц. *У каршуна кіпцюры.* Малькуны Ігн. *Распусціў кот свае кіпцюры.* Ёдлавічы Брасл. 2. Пазногці. *І на нохці можна сказаць: «Нада астрыхчы кіпцюры».* Ракаўскія Швянч. *Нада мне кіпцюры падрэзаць.* Лісна В.-Дзв.

КІ'ПЯНЬ *гл.* КІ'ПЕНЬ

КІПЯ'ТАК, КІПЯТО'К *м.* Тое ж, што і к і п е н ь 1. *Кіпятак у сагане.* Міратычы Карэл. *Не лесь, бо тут кіпятак!* Альхоўцы Лях. *Кіпятак убівая мікробы.* Мсцібава Ваўк. *Кіпяткам апарвалі высеўкі грачышныя і курам давалі.* Кіралі

Шчуч. *Мама кіпяткам грыбэ абліе.* Парэчча Гродз. *Памалу, гэта кіпяток, папарысся!* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* руск. *кипяток* 'тж'.

КІПЯ'ТКА *ж.* Тое ж, што і кіпя́так. *Залью муку кіпяткай.* Паляцкішкі Воран.

КІ'ПЯЦЬ *м.* Рагавая абалонка, якая нарастае на кончыку языка ў курэй. *У курэй на языку кіпяць нарастая ад зярна, кіпяць здзіраюць, ён шкодзіць.* Солы Смарг.

КІ'ПЯЦЯНЬ *м.* Тое ж, што і кіпень 1. *Трэба картоплі надраць, галушак накачаць і ў кіпяцянь кідаць, варыць і забельваць малаком.* Вецярэвічы Пух.

КІПЯЧО'НЫ *прым.* Кіпячоны, параны. *Малако кіпячоная з мёдам і маслам п'юць ад васпалення лёхкіх. Я мёду ўкіну і даю гарачанькага піць.* Рыбчына Віл.

КІРАВА'ЦЦА *незак.* Паступаць. *Як хоча, так няхай кіруецца.* Лоск Валож.

КІРАВА'ЦЬ, ҐІРОВА'ТІ *незак.* Упраўляць кім-н., чым-н. *Фурман кіруе.* Швэды Вільн. *Кіруй каня!* Дакудава Лід. *Кірують канём.* Стральцы Гродз. *Умея кіраваць.* Альхоўцы Лях. *Так ґіруй, коб в руов нэ в'ехав.* Курашэва Чыж. *На плыце кіруе жэрдкой наперадзе і з тылу кіруе.* Грыкені Вільн.

КІРА'ПЛА, КЯРА'ПЛА, КЕРЭ'ПЛА *ж.* і *м.* *абразл.* Разява. *Пашоў кірапла дурная, яму нічога ня рупіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хто робіць няўмела — кірапла.* Чычалі Швянч. *Ай, кярапла, няўдалы саўсем!* Малькуны Ігн. *Керэпла ты!* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *kerẽpla* 'тж'.

КІРДЗЮ'К *м.* *вет.* Яшчур. *Конь кірдзюк наядая на языку: балячка робіцца, дзіркі паяўляюцца, а тады правальваецца. Дайней лячылі кірдзюк курыным калам і часнаком: таўклі і націралі.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *kurdžiùkas, kurčiùkas* 'тж'.

КІРЗА'ВЫ *прым.* Крываногі. *Кірзава карова: ідзе і закідая нагу, косіць і косіць.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *kiùrza* 'размазня'.

КІ'РЗАЦЬ *незак.* *экспр.* Павольна ісці. *Ідзе памалу, кірзая. Куды ты кірзаеш? Нехта кірзая, трэба паўглядацца, хто там.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *kir̃zinti* 'тж'.

КІ'РКА *ж.* Кірка. *Кірка гострая, шылаватая, ёю прабіваюць грубы лёт.* Баброўнікі Гарад.

КІРМА'Ш, КЯРМА'Ш, КАРМА'Ш, КЕ'РМАШ *м.* 1. Кірмаш. *Увосянь перат пакровамі быў кірмаш.* Цеплень. Уздз. *Ці ўдайся кірмаш?* Навасёлкі Свісл. *Хадземце на кірмаш!* Пасека Ст.-Дар. *На кярмаш яна едзя.* Ракаўскія Швянч. *Кармаш рас у год: на Петра або на Спаса, на пакрову.* Азарычы Пін. *«Паедзем на кермаш» — калісь гаварылі, а цяпер: «Паедзем на рынак». Гадавые кермашэ былі рас або два на рок.*

Бабро́унікі Гарад. 2. Многа народу. *А людзей сабралася — кірмаш.* Саланое Віл.

КІ′РНА *ж.* 1. Тоўсты сук. *Кірна велька і тоўста — гэта лапа, сук. Нізка ад ствала ў нашай грушэ тры кірны. Бываюць і на ліпі кірны, калі ліпа старая. Бывая, што са днэй кірны дуба два слупкі выражаш.* Кіралі Шчуч. 2. Раздвоены корань ў караняплодах. *Бручку вырвала — дзве кірны ў яе.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *kìrna* 'корань дрэва'.

КІРНАЗАВА′ЦЬ *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі (пра свінню). *Свіня кірназуя.* Сакаляны Сакол. *Свіня кірназуя, зажэнь йіе да кнура.* Верхлессе Крын.

КІРНА′ТЫ *прым.* 1. Вілаваты, сукаваты. *Наша груша кірната.* Кіралі Шчуч. *Кірната дзерава: пень адзін, а тутака вышэй — раздвоеная, вілаватая.* Вялікія Баяры Шчуч. *Наша груша кірната: на чатыры кірны.* Кіралі Шчуч. *Кірната хвойка стаіць.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Парны, з раздвоеным караняплодам. *Найдзём брушку кірнату — дзве кірны ў яе. Бывае рэцька і морхва кірната.* Кіралі Шчуч. 3. Парныя зубы, калі, акрамя асноўнага, вырастае збоку другі зуб. *Кірнатыя зубы ў цябе — два зубы ўмесця.* Кіралі Шчуч. 4. *перан.* Крываногі. *Кірнаты — крывыя ногі, як хварэе ангелькай.* Кіралі Шчуч. *Кірнаты хлопец, а на твар прыгожы.* Пацаўшчына Дзятл. *Вот кірнаты — крывыя ногі, а сам небальшы.* Кіралі Шчуч.; *гл.* к і р н а.

КІРПІЧЫ′НА *ж.* Цагліна. *Даўней боты на кірпічыну шылі.* Ухвала Круп. *Па аднэй кірпічыне разняслі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *кирпичина* 'тж'.

КІРТА′ЦЬ *незак.* Картавіць. *Ён троха кіртая, не выгаваруя чыста слоў.* Азяраны Раг.

КІ′РХАЦЬ *незак.* Пець пісклявым голасам (пра маладых пеўнікаў). *Мае пеўнікі ўжо кірхаюць.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *kìrkauti* 'тж'.

КІРЭ′БЛА *ж.* і *м. абразл.* Раскірака. *Ідзе, як кірэбла.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* літ. *kerėpla* 'тж'.

КІСЕ′ЛЬ *м. кулін.* Аўсяны кісель. *Кісель рашчыняюць наноч, мукі ўсыплюць, вады цёплай, хлеба ўкіне кусок, і тады ён кісне, потым працэдзяць, і тады ўжэ вараць, мяшаюць, пака загусне кісель.* Бабро́унікі Гарад. *Даўней авёс высушым, стаўчом, прасеем, змелем і кісель варым.* Новікі Гродз. *Авёс апарацца, яго сушаць, меляць і кісель вараць.* Ністанішкі Смарг. *Кісель варылі з аўсянай мукі.* Лука Нараўк. *Варым густы кісель.* Дакудава Лід. *З аўсянай мукі варылі кісяле.* Парэчча Гродз.

КІСЛАГУ′БЯЦ *м. зневаж.* Губасты. *Кіслагубяц, у яго губы вялікія.* Данілавічы Дзярж.

КІСЛАТА′ *ж.* Закваска. *Калі рашчыніш у дзежцы кісель,*

*то кіслата прапала, нада дзешку націраць бураком, сыпаць мукі, тыдзянь будзя кіснуць.* Кіралі Шчуч.

КІСЛІ′ЦА *ж. бат.* Шчаўе. *Кісліца расла на поле, па межам, у хлеб дабаўлялі.* Мельнікі Лудз.

КІСЛУ′ХА *ж. кулін.* 1. Поліўка. *У гаршчок улівалі квас з буракоў, туды ўкіня ці грыбы, ці костку, і варылі кіслуху.* Дакудава Лід., Міратычы Карэл. *Кіслуху варылі с хлебнай рошчыны і закрашвалі жырам.* Мсцібава Ваўк. 2. Кулеш, заквашаны рошчынай. *Пякуць хлеп, возьме рошчыны, разбоўтае, вады ўліе, мукі і тады ў гаршку ўставіць гэту кіслуху.* Баброўнікі Гарад.

КІ′СЛЫ *прым.* 1. Квашаны. *Кіслэ малако з бульбай елі.* Лука Нараўк. *Кіслае малако аттапляем і робім сыр.* Вязынка Маладз. *Малако кісла і салотка на стале — еш!* Кіралі Шчуч. *Кісла малако ставяць у цёплая, аттопіцца, палучаецца сыр і сыроватка.* Малахоўцы Бар. *Будзеш с кіслым малаком есці?* Груздава Паст. *Кісла капуста, на зіму квасім у кадушках.* Кіралі Шчуч. *Кіслыя бліны пяклі, учынялі, і джежачкі былі.* Малькуны Ігн. 2. Кіслы па ўласцівасці. *Які кіслы яблык!* Магуны Паст. *Кіслаё яблыко.* Альхоўцы Лях. *Кіслэ яблоко.* Смаляніца Пруж.

КІСЛЯ′ *ж.* 1. Закваска. *Якая дзяжа, якую кіслю яна мая?* Крэва Смарг. *Кісля ў хлебнай дзежцы.* Мярэцкія Глыб. *Кісля высахла.* Мішневічы Шум. *Начыста не вымывалі дзешку, а штоп кісля асталася.* Старыя Трокі Трак. *Рэшта цеста ў дзяжы саскрэбваяцца, прыплескваяцца, кап кісля ні сышла.* Дакудава Лід. *Кісля дзікая — нада дзешку вымыць і нацерці дно цыбуляй.* Мярэцкія Глыб. *Кісля харошая, і хлеп харошы.* Ракаўскія Швянч. *Я ня выскрабла дзешку, кап кісля ня вывілася.* Ёдлавічы Брасл. 2. Кіслая рошчына. *У слоічак атлажу рошчыны—і стаіць кісля.* Масішкі Красл. 3. Кіслая прыправа. *Даўней бульбу ў кіслі варылі і боп у кіслі варылі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бобу ў кіслі паеў; кажух з ермяком надзеў — і цёпла.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Квашанае бацвінне. *У дзешку ставілі кіслю: батву туды — сыракваш на зіму.* Жодзішкі Смарг.

КІСЛЯ′К *м.* 1. Кіслае малако. *Атаграваям кісляк і тады тварох робім.* Магуны Паст. 2. *перан. зневаж.* Абібок, гультай. *Ляжыць, як кісляк.* Міратычы Карэл.

КІСЛЯ′ЦІНА *ж.* 1. Кіслая прыправа, закваска. *Капусту свежую кісляцінай залівалі.* Навікі Лудз. 2. *экспр.* Надта кіслая страва. *Наварыла ты нейкай кісляціны.* Мярэцкія Глыб.

КІ′СНУЦЬ *незак.* Закісаць. *Кісніць хлеп, паставіш яго рэдзенькі.* Масішкі Красл.

КІ′СТА *ж.* Тое ж, што і к в ё т к а 2. *Кіста аўса.* Галубы Маст.

КІСЦЕ′НЬ *м.* Гронка. *Кісцень гарэха бывае велькі і малы.* Бакшты Іўеў. *Кісцень гарэхаў.* Старое Сяло Зэльв. *Во які кі-*

*сцень гарэхаў!* Галубы Маст. *Нарваў гарэхаў с кісцянямі.* Міратычы Карэл. *Ягады вісяць кісцянямі цэленькімі.* Кіралі Шчуч.

КІ'СЦІ I *незак.* Тое ж, што і к і с н у ц ь. *Рашчынялі кісель, ставілі на печ, ён кісці станіць. Апячэцца дзяжа, як на печ паставяць кісці.* Саланое Віл. *Стаўлялі кісці капусту на зіму, у варыўню ставілі бочку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пачыная кісці квасок.* Азяраны Раг.

КІ'СЦІ II *мн.* Кутасы. *Платок с кісця́м.* Янова Рас.; *парайн.* руск. *кисть* 'тж'.

КІ'СЦІК *м.* Сцябло. *Хробуст кісцік выпуская і кветка такая квітня.* Солы Смарг.

КІСЦІЛІ' *мн.* Тое ж, што і к і с ц і II. *Кісцілі прышывалі да гунькі.* Янова Рас.

КІСЦІ'НА *ж.* Тое ж, што і к і с ц е́ н ь. *Сарваў кісціну арэхаў.* Пацаўшчына Дзятл.

КІ'СЦЯ *ж.* Тое ж, што і к і с ц е́ н ь. *Цэла кісця вісіць гарэхаў.* Кіралі Шчуч. *Кісця гарэхаў харошая.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *кисть* 'тж'.

КІСЯЛЁВЫ *прым.* Які адносіцца да кісяля. *Кісялёва малако выпіць палезна ад рабакоў.* Кіралі Шчуч.

КІСЯЛЁЎКА *ж.* Тое ж, што і к а л а т о́ ў к а I, 1. *Была кісялёўка дзераўляная мяшаць кісель.* Лайпушкі Ігн. *Мішалі кісель кісялёўкай і масла калацілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кісялёўкай кісель мішалі, кап не прыгарэў.* Валынцы В.-Дзв. *Кісялёўкай памешвалі кісель — такая палачка з дзюпкай.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

КІ'ТА *ж.* 1. Вязанка, цюк. *Сена б'юць і салому б'юць у кіты.* Кіралі Шчуч. *Скрутку скруця і кіту саломы звяжа.* Гемзы Шальч. 2. Сноп бобу, льну. *Кіта бобу.* Беразіно Докш., Мярэцкія Глыб. *Лён павяжам у кіты, намітусь складаям, радочкамі палажам.* Лайпушкі Ігн. 3. *перан. экспр.* Мажная, тоўстая жанчына (мянушка). *Вот ужо пагнала кіта карову!* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *kita* 'пучок'.

КІТА'ЙКА *ж.* Істужка. Дзмітравічы Кам.

КІ'ТКА *ж.* 1. Тое ж, што і к і т а 1. *Тры кіткі сена прынёс.* Альба Нясв. *Кітка саломы, сена ляжала; нясі кітку каровам даць!* Старыя Трокі Трак. *Мне абы велькую кітку саломы прынесці.* Міратычы Карэл. 2. Тое ж, што і к і т а 2. *Павязалі лён у кіткі.* Мачаск Бярэз. *Кітка канаплі — звязваюць некалькі жмень.* Гайна Лаг.

КІ'ХАТІ *незак.* Чхаць. *Чого так кіхаеш, мусі, простудівся?* Курашэва Чыж.

КІХТА'ЦЦА *незак.* Тое ж, што і к а л ы в а́ ц ц а 1. *Зуп кіхтаецца.* Тухавічы Лях.

КІХТА'ЦЬ *незак.* Хістаць. *Кіхтайце слуп, лепш даставаць будзе.* Тухавічы Лях.

КІ'ЦІЦА *ж.* Кутас. *Кіціцы ўсялякімі ніткамі вывязвалі.* Дакудава Лід.

КІ'ЧАЎКА, КІЧО'ЎКА *ж.* 1. Купіна. *Па кічаўках касіць дрэнна.* Палік Барыс. 2. Накопаны курган зямлі. *Кічоўкі — накопаныя курганкі, а на іх трава расцець.* Мішневічы Шум. 3. Тычка. *Кічоўкі ставяць, як лугі дзеляць.* Мішневічы Шум.

КІЧЫ' *мн.* Купіны. *Кічы нарастаюць самі.* Палік Барыс.

КІШАНКО'ВЫ *прым.* Кішэнны. *У кішанковую загарку цэпку купіў.* Вострава Маст.; *параўн.* польск. *kieszonkowy* 'тж'.

КІШАНЯ' *гл.* КІШЭ'НЯ

КІ'ШКА' *ж.* 1. *анат.* Кішка. *У жывіны кішка і ў чалавека. Парэзала доўгія кішкé.* Баброўнікі Гарад. 2. *кулін.* Кішкі, начыненыя чым-н. *Наліваюць картошкаю, пякуць, смачна кішка. Кішка з юшкаю, з крупою, наліў картошку да кішкі, наліваюць лошкай картофлю; як жырна кішка, то смачнейшая.* Баброўнікі Гарад. *У кішкі налівалі картошку цёртую з жырам.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Кішкі пякём.* Пасіене Лудз. *Кішкі наліваныя рабілі: бралі грэцкую муку і дрожджы, рабілі цеста, прыскварвалі кішкі, а патом пяклі.* Дакудава Лід. ∇ *У чалавека кішкá крывая — усё прымая.* Альхоўцы Лях. 3. Хамуціна. *Кап мякчэй было каню, устаўляюць кішку з раменю, з палатна і напіхаецца саломай.* Баброўнікі Гарад. *На клешчах у хамуце была кішка з саломы, з валосся, штоб не набівала персці, на самых персцях кішка.* Калясное Міхал. *Кішка да кляшчоў прылягае.* Масілавічы Сл. *Кішка ў хамуце робіцца з шэрсці.* Мсцібава Ваўк.

КІШКАВЫ' *прым.* Кішэчны. *Кішкавоя сала ў сярэдзіне ля кішок брыжы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КІ'ШКІ толькі *мн.* Мязга. *Кішкі з гарбуза павынімай!* Мачаск Бярэз.

КІШЧО'НАЯ ХУ'СТКА *ж.* Хустка з кутасамі, з махрамі. Мішневічы Шум.

КІШЧЫ'НЫ толькі *мн.* 1. Адходы пасля выціскання соку з чаго-н. *Кішчыны асталіся ў рэшаце, як кісель цадзілі.* Галубы Маст. *Кішчыны з ягат пааставаўшыся.* Вялікія Баяры Шчуч. *Сок выціснуў з смуродзіны, а кішчыны выкінуў курам.* Галубы Маст. *У кішчыны ўсыплюць муке, замяшаюць і пякуць бондачкі.* Кіралі Шчуч. 2. Тое ж, што к і ш к і. *Кішчыны — мякаць гарбуза.* Семежава Кап.

КІ'ШЧЫЦЬ *незак.* Чапляць махры, кутасы. *Вязалі сеткі* [сурвэткі] *і кішчылі.* Мішневічы Шум.

КІШЧЭ'РЫНЫ толькі *мн. экспр.* Перакіслае малако. *Я кішчэрыны гэтыя не буду есці!* Міратычы Карэл.

КІШЭ'НКА, КІШО'НКА *ж.*, КЯШЭ'НКА *н. памянш.* да к і ш э́ н ь. *Ён кішэнкі не мае.* Паляцкішкі Воран. *Маленькая*

*кішонка.* Баброўнікі Гарад. *У яе фартух с кяшэнкам.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kieszonka* 'тж'.

ҚІШЭ'НЬ, ҚЕШЭ'НЬ, ҚЯШЭ'НЬ *ж.* і *м.* Қішэнь. *У кішэнь грошы пакладзі.* Дакудава Лід. *У кішэнь сып арэхі!* Малахоўцы Бар. *Қішэнь прышый у світу!* Рудня Астравітая Чэрв. *Қішэнь, а цяпер кажуць — карман.* Рудня Чэрв. *Вым рукі с кішэня!* Навадворцы Васільк. *Дастаў рукі с кішэня́.* Крынкі Крын. *Прышыла кішэня́, два кішані; у мяне многа кішанёў.* Баброўнікі Гарад. *Қешэнь парвалася.* Старыя Смільгіні Воран. *Ушый кяшэнь, парвалася мая кяшэнь.* Гемзы Шальч. *У кяшэнь пакласці нада.* Ракаўскія Швянч. *Адзін кяшэнь, два кяшані.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *kieszeń* 'тж'. ◇ *Қішэнь не выносіла* — вельмі дарага. *Дайней вучыцца — не выносіла кішэнь.* Старыя Трокі Трак.

ҚІШЭ'НЯ, ҚІШАНЯ', ҚАШАНЯ' *ж.* Қішэнь. *Қішэня падралася.* Лоск Валож. *Яна кішэню прышывая.* Азяраны Раг. *Ушыла кішаню ў штаны. Дзве кішані арэхаў нарваў.* Лоск Валож. *У кашаню грошы не кладзі — дзюрка вялікая.* Асавец Віл.

ҚІШЭ'ЦЬ *незак.* Мітусліва рухацца ў розных напрамках. *Чэрві завяліся — кішаць.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Аш кішыць — надта многа, шмат. Чарвей у мясі — аш кішыць.* Валынцы В.-Дзв. *Палонікаў у сажалке — аш кішыць.* Лісна В.-Дзв. *Чэрві аш кішаць.* Вецярэвічы Пух.

ҚІШЭ'ЧНЫ *прым.* Тое ж, што і к і ш к а в ы́. *Қішэчны жыр на ноздрачках.* Малахоўцы Бар.

ҚІЮХА' *ж. бат.* Рагоз і насенная шышка рагозу. *На затоках расце кіюха. Қіюха пуская высокую ладыгу з таўкачэм. Адна дзяўчына пашла па затоках, нарвала кіюхоў і зрабіла падушкі.* Новікі Гродз.

ҚІЮХІ' *мн.* Тое ж, што і к і ю х а́. *Қіюхі на водзе ростут.* Қалясное Міхал.

ҚІЮЧО'Қ *м. памянш.* Қалатоўка. *Қіючок і крэжыкі* [у бойцы]. Дзмітравічы Қам.

ҚІЯ'ЎҚІ *мн.* 1. Тое ж, што і к і ю х а́. *Қіяўкі растуць на балоці.* Лайпушкі Ігн., Груздава Паст., Рыбчына Віл. *У возяры растуць качалкі такія — кіяўкі, іх у падушкі сыпаюць.* Ракаўскія Швянч. *Паляцелі і нарвалі кіяўкаў.* Магуны Паст. 2. Насенная шышачка вужоўніку. *У ванжэўніка кіяўкі растуць.* Жодзішкі Смарг.

ҚІЯЧО'Қ *м. памянш.* Қіёчак. *Қосяць пракосы, кіячком растрасаюць, сушаць, грабуць у валок, у копкі складаюць.* Паляцкішкі Воран.

ҚІЯШО'Қ *м.* 1. Тое ж, што і к і я ч о́ к. *Баба ходзіць на кіяшку.* Гемзы Шальч. 2. Пыльнікі дзеразы. *Плывун кіяшкамі расце, мука высыпаецца с таго кіяшка, як вуспяе; растапурыцца і высыпіцца. Гэту муку да раны засыпаюць.* Кузьмічы Люб.

КІЯШЭ′ *мн.* Тое ж, што і к і ю х а́. *Пух с кіяшоў гоіць раны. Як руку апячэш ці ўрэжыш, дайней прыкладалі гэтым пухам; збіралі кіяшэ.* Вецярэвічы Пух.

КЛАД, КЛАТ *м.* 1. Складзеныя дровы. *Клад дроў налажылі.* Рагулішкі Даўг. *У клад складаюць дрова.* Скрыпчына Лудз. *Дровы складаюць у клат.* Гемзы Шальч. *Нада дровы злажыць у клады ці ў стагі; стох — круглы, а клад—доўгі.* Ёдлавічы Брасл. *Два клады дроў наклала.* Мярэцкія Глыб. 2. Складзеныя снапы ў гумне. *Клады іржы, ячменя ў гумне.* Пасіене Лудз.

КЛАДАВА′Я *ж.* Свіран. *Кладавая ў калхозя, дзе зярно сыпяць.* Груздава Паст.; *парайн.* руск. *кладовая* 'кладоўка, камора'.

КЛАДАВІ′ЦЦА *незак.* Класціся спаць. *Можна самому кладавіцца.* Старое Сяло Зэльв. *Будзім кладавіцца спаць.* Номікі Бабіц. *Ідзі кладавіся, я сама ўпраўлюся.* Мсцібава Ваўк. *Кладавецесе ўжэ!* Старое Сяло Зэльв., Бакшты Іўеў. *Спаць кладовецесе!* Навадворцы Васільк. *Рана кладавяцца і рана ўстаюць.* Мсцібава Ваўк.

КЛАДАЎЁ *н.* Тое ж, што і к л а д ы́. *Там узгорак каля Літольхі, там старое кладаўё ад былых войнаў; между дзвёх сёл — Лежні і Зайцы — капяк насыпаны зямлі, цяпер раскапалі на кладаўі.* Рудня Астравітая Чэрв.

КЛАДАЎШЧЫ′К *м.* Кладаўшчык. *Кладаўшчык будзя весці ўчот.* Магільна Уздз. *Трох мушчын корміць* [сталуе] *кладаўшчык.* Груздава Паст.

КЛА′ДБІШЧЭ *н.* Могілкі. *Матка на кладбішчэ пахавана.* Пасіене Лудз.; *парайн.* руск. *кладбище* 'тж'.

КЛАДЗЕ′Й *м.* Калеснік. *Кладзей дзелая калёсы.* Паляцкішкі Воран.

КЛА′ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Спакладаны. *Баран кладзены.* Асавец Віл.

КЛАДЗІ′ШЧА *н.* Тое ж, што і к л а́ д б і ш ч э. *Парцізанскае кладзішча там.* Ухвала Круп.

КЛАДЗЬ, КЛАЦЬ *ж.* Перакладзіна ў страсе. *Кладзь — брайно, якое кладзецца на верх страхі, завуць яшчэ і пажыліна.* Груздава Паст. *На кладзь вешаюцца ключы.* Жылі Іўеў. *Клаць — самы верх пат страху.* Кіралі Шчуч. *Стоці ставіліся ўпоры к кладзям у гумне.* Магуны Паст. *У гумне клаць кладуць на казлы.* Мярэцкія Глыб. *Німа такой клаці.* Быстрыца Астр.

КЛА′ДЗЯ *зб. н.* Перакладзіны ў страсе. *Саха ў гумне, на саху кладзя кладуць.* Жодзішкі Смарг.

КЛАДНЯ′ *ж.* Застаронак, запоўнены снапамі ў гумне. *Дайней у гумне: кладня жыта, кладня ячменю, кладня айса.* Мярэцкія Глыб.

КЛАДОВЭ′ТЭ *незак.* Класці. *Як спікса хліб, тогдэ ўжэ*

*вымают, кладовят на лавку, обліваюm водою і накрываюm рушныком.* Дзмітравічы Кам.

КЛАДО'ЎКА, КЛАДУО'ВКА *ж.* Тое ж, што і к а м о́ р а 1. *У нас нетуці стопкі, кладоўка.* Янова Рас. *Кладоўка была і цяпер ёсць.* Груздава Паст. *Малако в кладуовці поставіла.* Курашэва Чыж.

КЛАДЫ' толькі *мн.* Тое ж, што і к л а́ д б і ш ч э. *Клады ў нас былі бліско; была на кладох.* Кузьмічы Люб.; *гл.* ДАБМ, карта № 318.

КЛАП-КЛАП *выкл.* Гукапераймальнае абазначэнне характэрнага для конскіх капытоў стуку. *А конікі клап-клап, клап-клап.* Швэды Вільн.

КЛАПАТА' *гл.* КЛАПО'ТА.

КЛАПАТА'ЦЬ *незак.* Хадайнічаць. *Хай клапоча, мо прымуць у школу.* Крэва Смарг. *Ён клапатаў, кап пенсію выдзялілі.* Данілавічы Дзярж.

КЛАПАТЛІ'ВЫ *прым.* Клапатлівы. *Усё пісаць і пісаць — гэта клапатлівая работа.* Гемзы Шальч.

КЛАПАТНО' *прысл.* Клапатліва. ▽ *Каму клапатно, а папу палатно.* Вецярэвічы Пух.

КЛАПАЦІ'ЦЦА *незак.* 1. Непакоіцца, турбавацца. *Па бураках, баба, не клапаціся, вырастуць.* Паляцкішкі Воран. 2. Даглядаць, выхоўваць. *Хоць ён ім чужы, але яны клапацяцца, апякуюцца над ім.* Груздава Паст. 3. Перажываць. *Яна ўзяла у галаву, клапацілася і аглохла.* Рагулішкі Даўг.

КЛАПАЦІ'ЦЬ *незак.* Надакучаць, турбаваць. *Пайду галаву клапаціць.* Міратычы Карэл. *Ты клапоціш і клапоціш мне галаву.* Старыя Смільгіні Воран.

КЛАПО'ТА, КЛАПАТА' *ж.* Клопат. *Нашто вам гэта клапота, забота, кошт!* Кураполле Паст. *Гэта клапота будзя да восені; вот надаела з гэтымі курамі, гусямі — усё клапаціся і клапаціся.* Кіралі Шчуч. *Многа клапаты ў яе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Козы гэтыя, мне клапаты з імі многа.* Навасёлкі Свісл. ▽ *Мая работа — мая клапота.* Солы Смарг.

КЛАС *м.* Клас. *Таня ўжэ ў шостом класе.* Смаляніца Пруж.

КЛА'СЦІ, КЛА'СТЫ *незак.* 1. Складваць. *У кубёл одэжу клалі і сало.* Смаляніца Пруж. 2. Ставіць. *Цяпер скрыню на вос кладуць. На кары бакоўкі кладуць.* Судэрва Вільн. 3. Сыпаць. *У скрыню картофлю кладуць.* Судэрва Вільн. *Пойлу рабілі цялятам, туды аўсянку паплесканую, сяменя клалі.* Стральцы Гродз. 4. Складваць пэўным спосабам, накладваць. *Кладут стога.* Дзмітравічы. Кам. *Другі павінен класці сена на воз.* Парэчча Гродз. *Клалі сено на кульшу.* Ісерна Слуц. 5. Распальваць. *Тут мы агонь будзім класці.* Альхоўцы Лях. 6. Апранаць, надзяваць якое-н. адзенне. *Буду класці чыстую кашулю.* Паляшкішкі Воран. *Ніахота класці кашулі.* Масілаві-

чы Сл. *Кладзі кашулю.* Вялікія Баяры Шчуч. *Буду класці чысту сарочку.* Міратычы Карэл. *Не кладу падыспад сарочку чысцейшу, бо пайду палоць.* Дзяніскавічы Ганц. *Рубашку хочаш класці? Ні разу не клаў рубашкі.* Старое Сяло Зэльв. *А сарочку класцім?* Смаляніца Пруж. *Кладзі сарочку на сябе.* Семежава Кап. *Буду сукенку класці.* Лоск Валож. *Як я была малая, мне клалі гэту сукенку.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ты плаце нэ клала, ты замазана ходзіш цэлы дэнь.* Смаляніца Пруж. *Некалі дачка як едзе ў лес, то клала суконну спадніцу — цяплей у калені.* Старыя Трокі Трак. *Кладзі халат, а то будзя дошч. Будзем класці кажух?* Галубы Маст. *Кладзі кажуха, халата. Холадна, трэбо рукавіцы класці.* Малахоўцы Бар. *Шапкі ні клалі летам.* Кіралі Шчуч. *Буду класты ганавыці.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* польск. *kłaść* 'тж'. 7. Абуваць. *Класці шкарпэткі, ці не?* Галубы Маст. *Кладзі шкарпэткі.* Альхоўцы Лях. *А ў хлеў ісці — трэбо боты класці.* Вострава Маст. *Боты трэба класці.* Альхоўка Навагр. *Боты рэзінавыя кладзі.* Кіралі Шчуч. *Трэба класты постолы.* Відзібар Стол., Сіманавічы Драг. 8. Засцілаць. *Дываны ткалі, клалі на ложак і накрываліся.* Ёдлавічы Брасл. 9. Устаўляць, укладаць, усоўваць. *Цэўку кладуць у чаўнок.* Альхоўцы Лях. 10. Несціся. *Зязюлька ў чужоя гняздо кладзець яйцо.* Лісна В.-Дзв. 11. Кастрыраваць. *Канавал коні кладзець.* Саланое Віл. 12. Змяшчаць, уносіць. *Ён клоў грошы на кнішку.* Альхоўка Навагр. ◇ *Хоць у вуха кладзі* — пра мяккахарактарнага, пакорнага чалавека. *А здавалася такая, што хоць у вуха кладзі, а яна во якая!* Лісна В.-Дзв. *Пальцы ў зубы не кладзі*—асцерагайся, будзь пільным. *Гэтаму зверу пальцы ў зубы не кладзі!* Саланое Віл. *К гатоваму пню агонь класці* — распараджацца тым, што зроблена іншым. *Яна прышла на ўсё гатовае, ведама, што к гатоваму пню і агонь добра класці.* Рудня Астравітая Чэрв. *Пад ногі класці* — зневажаць, таптаць. *Ні нада пад ногі класці чалавека. Усім людзём ні нада пад ногі класці.* Саланое Віл.

КЛА'СЦІСЯ *незак.* 1. Класці. *На крохвы кладуцца латы.* Солы Смарг. 2. Надзяваць, надзявацца. *Вобруць скураная кладзецца на каня.* Дакудава Лід. *Паўшоркі на лошадь кладуцца.* Гемзы Шальч. 3. Укладвацца спаць. *Німа як тут класціся.* Гемзы Шальч. *Трэба спаць класціся, яна лягла.* Кіралі Шчуч. ◇ *Класціся са смеху* — моцна смяяцца. *Ён расказваіць, а яны кладуцца со смеху.* Саланое Віл. 4. Несціся. *Кнігаўка там за азяром кладзецца.* Істра Лудз. *Ні лілася, а ні клалася курыца.* Валынцы В.-Дзв. *Курыца не кладзецца.* Лісна В.-Дзв. *У думблістым возіры качкі кладуцца, там і выводзяцца.* Малькуны Ігн.

КЛАТ *гл.* КЛАД

КЛА'ТКА *ж.* 1. Кладка. *Клатка — калі кінена дошка ці*

*жордачка і можна перайсці.* Гемзы Шальч. *Гіпкая клатка — можна ўпасці.* Дзераўное Стаўб. *Паложана клатка прайсці.* Малькуны Ігн. *Баюся прас клатку праходзіць. Кепско паласкаць бялізну на высокай клатцы.* Баброўнікі Гарад. 2. Кладзь, перакладзіна. *Клатка на сохах кладзецца ў гумне.* Бакшты Іўеў. *Цягнулі два брусэ і называлі клаткі, за іх чаплялі ключэ, а послі ключоў латамі лацілі гумно.* Міратычы Карэл.

КЛАЎСА' *м.* і *ж. зневаж.* Хлус. *Як хто гаворыць ні тоя, што трэба, то скажуць: «Клаўса ты!»* Магуны Паст.; *параўн.* літ.*klausýtis* 'падслухоўваць'; *гл.* к л а ў с ю к.

КЛАЎСЮ'К *м. зневаж.* Непісьменны, цёмны чалавек. *Клаўсюк — просты невучоны чалавек. Клаўсюке — паследнія людзі.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *klausiùkas* 'хто любіць падслухоўваць'.

КЛАЦЬ *гл.* КЛАДЗЬ

КЛАЧАВЫ' *прым.* Вытканы з пачасных нітак. *З клочча клачавыя посцілкі ткалі, тонкія мяшкі.* Баброўнікі Гарад.

КЛЕБА'НІЯ *ж.* Памяшканне, дзе жыве настаяцель касцёла, царквы. *Клебанія — дзе ксёнц жыве.* Гемзы Шальч. *Клебанія — дзе ксёнц ці бацюшка жыве.* Мсцібава Ваўк. *Ксёнц клебанію ставіў.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *plebania,* літ. *klebonijà* 'тж'.

КЛЕ'ВАЦЬ *гл.* КЛЯ'ВАЦЬ

КЛЕВЕРЫ'СКО *н.* Канюшынішча. *На клеверыску лён сеялі.* Мсцібава Ваўк.

КЛЕ'ВІР *м.* Канюшына. *Я магла п у клевір лехчы і ліжаць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* руск. *клевер* 'тж'.

КЛЕЙ, КЛЕЙ ПЧАЛІ'НЫ *м.* Прапаліс. *Клей пчаліны, калі яго размякчыць і прылажыць да скулы, выцягаваіць добра.* Валынцы В.-Дзв. *Клей пчаліны харошы, запах у ім какой!* Саланое Віл. *Праполяц цяпер, а даўней клей звалі.* Крэва Смарг. ◊ *Выбраць клей* — адабраць здароўе, сілу, моц. *Увесь клей выбрала свякроўка ў нявесткі.* Кураполле Паст.

КЛЕ'ЙКА *ж. заал.* Верхаводка. *Клейка — мала рыпка.* Воўкуш Ліпск.

КЛЕ'ЙКІ *прым.* Ліпкі. *Гліна така клейкая, што до чэрэвік наклеіласе.* Курашэва Чыж.

КЛЕ'ЙНА, КЛЕ'ЙНЯ, КЛЯЙНЯ' *ж. плыт.* Адно звяно плыта. *Лес валялі, вясною вязалі ў клейны і гналі ў Свіслач.* Лапічы Асіп. *Клейны збівалі і гналі лес.* Саланое Віл. *У клейні дзесяць бярвён збівалі, а ў плыце—дзесяць клейняў.* Саланое Віл. *Адна кляйня, клейні звязвалі плятнёю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лес звязвалі клейнямі ў лаву, лава доўгая — дваццаць — трыццаць клейнь.* Багушэвічы Бярэз. *Клейні па рацэ гоняць. Мужчыны на клейні хадзілі.* Азяраны Раг.

КЛЕ'КНУТЭ *гл.* КЛІ'КНУЦЬ

КЛЕ'МБЫ *гл.* КЛУ'МПІ

КЛЕ'МІКІ *мн. памянш.* Тапці. *Забрав клеміков той внук.* Дзмітравічы Кам.; *гл.* к л у́ м п і.

КЛЕ'МПА *ж. зневаж.* Пра бездапаможную павольную жанчыну. *С такою клемпою ніхто нэ вжывэ.* Курашэва Чыж.; *парайн.* літ. *klùmpė* 'распусніца'.

КЛЕ'НСКА *ж.* Паражэнне, разгром. *І яшчэ адна кленска на іх будзя.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *klęska* 'тж'.

КЛЕ'НЧЫЦЬ *незак.* 1. Укленчыць. *Я туды кленчу і не магу ўстаць.* Рагулішкі Даўг. 2. Кланяцца. *Кленчылі бацькам.* Жодзішкі Смарг.

КЛЕНЬ *м. заал.* Галавень. *Клень — рыба вялікая, сільна шырокая.* Быстрыца Астр. *Клень — рыба плотная і дужая, па восем — дзесяць кіль; луска бела-жаўтаватая, сам круглы, водзіцца, дзе ляжаць дубы на дне.* Альхоўка Навагр. *Кляні нападобія платвы; да васьмі кілаграм вырастаюць.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *kleinùs* 'клейкі, ліпкі, слізкі'.

КЛЕПА'ДЛО *н.* Бабка. *Ёсць клепадло, што косу клепаць.* Мсцібава Ваўк.

КЛЕ'ПАЦЦА *незак.* Вастрыцца ўдарамі малатка. *Каса клепеццэ на бапцы малатком.* Чорная Весь Касцельная Чорна-Беласт.

КЛЕ'ПКА *гл.* КЛЁПКА

КЛЕПЯШНЯ' *ж.* Клюшня. Ахрэмаўцы Брасл.

КЛЕ'РЫК *м.* Семінарыст. *Клерыкі вучыліся тут, кляштар быў.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* грэч. *klēros* 'жэрабя'.

КЛЕ'ТКА *ж.* 1. Клетка. *Зрабі на куры клетку — павязу прадаваць.* Альхоўцы Лях. *Нада збіць клетку і парсюка вясці прадаваць.* Мярэцкія Глыб. *Чуць кабана ў клетку пасадзіўшы.* Груздава Паст. *Парасят вазіў прадаваць у клетцы.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Складзеныя дровы ў форме клеткі. *Клетка дроў.* Міратычы Карэл. *Дрова зложаны ў клетку.* Малькуны Ігн. *Дровы складаюць у клеткі.* Малахоўцы Бар. *Дрова склаў у клетку.* Кузьмічы Люб. 3. Склеп. *Даўней строілі клеткі, хто ў шулкі зрубіць, прыкрывалі дзёрнам, вадой палея зверху, каб не сохла, сырэнька стаяла.* Азяраны Раг. 4. Узор у форме клеткі, квадрата. *Лантук — як мяшок для сена, вялікімі клеткамі пароблямы.* Жодзішкі Смарг.

КЛЕ'ТЧАТЫЙ *прым.* Клятчасты. *Клетчатыі платкі.* Навікі Лудз.

КЛЕ'ТЫ *мн.* У выразе: *У клёты* — клятчасты ўзор на тканіне. *У клеты вялікія плаценка ткалася.* Старыя Трокі Трак.

КЛЕ'ЦКІ *гл.* КЛЁЦКІ

КЛЕЦЬ, КЛЕТЬ *ж.* Свіран. *Клець называлі раньшэ, а патом свіран.* Курамолле Паст. *Засекі у клеці — хлеп ссыпаўся.* Пасіене Лудз. *У клеці былі засекі.* Скрудалена Даўг. *Раньшэ стыдзіліся маладыя бацькоў —у клеці маладыя спалі зіму.*

Кузьмічы Люб. *Спецыяльна былі клеці, там перагароткамі падзелана.* Індра Красл. *У клеці ссыпалі пашню, там стаялі дзежкі з мукой, былі засекі. Цяпер клецяў німа.* Азяраны Раг. *Некалі былі клеці.* Бакшты Іўеў. *Будаваліся клеці на слупах з паўметра вышыні, клалі падлогу. Клеці былі першапачальна, паслей свірням называлі. У клеці ставілі кваскі, у іх насыпалі зярно, хавалі ўсе збож'я.* Дзяніскавічы Ганц. *У каждого клець була. Ходзем, Таня, до вас у клець!* Смаляніца Пруж. *Тэпэр нэма клетей, а колісь амбарчыка на збожжэ клеттю называлі.* Горск Бяроз.; *парайн.* літ. *klẽtis,* руск. *клеть* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 239.

КЛЕ'ШНЯ *ж.* 1. Галёнка, сцягно. *У нас могуць сказаць: сцягно і клешня.* Міратычы Карэл. 2. Клюшня. *У рака клешні.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Калашына. *Клешні ў штанах, адна клешня.* Старое Сяло Зэльв. *У ганавіцах клешні.* Вострава Маст.

КЛЕШЧ I *м. заал.* Клешч. *Клешч ўчапіўса і напіўса. Клешч нападобія клапа. Кляшчэй есць у лясох.* Ахрэмаўцы Брасл. *Клешч у авечак бывая.* Івашкаўцы Смарг. *Кляшчэ е на яліне.* Дзяніскавічы Ганц.

КЛЕШЧ II *м.* Адна палавіна драўлянай асновы хамута. *Дзве дзюры ў кляшчу.* Гемзы Шальч.

КЛЕШЧАВІ'НА *ж.* Тое ж, што і клешч II. *Клешчавіна — адна частка кляшчэй.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

КЛЕШЧО'ТКІ толькі *мн.* Драўляныя ціскі. *Клешчоткі бяруць і воск давяць.* Глівін Барыс.

КЛЕ'ШЧЫ I толькі *мн.* 1. Тое ж, што і к л е ш ч о́ т к і. *Клешчы драўляныя былі, імі выціскалі мёд, воск.* Старыя Смільгіні Воран. *У клешчы ціснеш вашчыну, астаюцца жмачкі.* Саланое Віл. *Клешчы для воску.* Ухвала Круп. *Дзеравянныя клешчы былі, мед выціскалі, воск: у дзяружную торбу абернуць і ціснуць.* Азяраны Раг. 2. Абцугі. Грыкені Вільн.

КЛЕ'ШЧЫ II, КЛЯШЧЭ', КЛЯШЧЫ' *мн.* Драўляная аснова хамута. *Клешчы ў хамута.* Пасіене Лудз., Грыкені Вільн., Мешкінева Лудз., Чычалі Швянч. *У хамуце клешчы.* Быстрыца Астр. *Кляшчэ робяць з дрэва для хамута.* Вялікія Баяры Шчуч. *У хамуце кляшчэ.* Малахоўцы Бар., Тухавічы Лях. *Кляшчы ў хамуце.* Гемзы Шальч.

КЛЕ'ШЧЫК *м. бат.* Чарада. Магуны Паст.

КЛЁВАЦЬ, КЛЯВА'ЦЬ *незак.* Брацца на кручок, торкаць. *Рыба клёвая, клёў харошы.* Азяраны Раг. *Як рыба клюе, то клюне і пацягне на дно гачык.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* руск. *клевать* 'тж'.

КЛЁК *м.* Расол ад селядцоў. *Дайней клёк ад селядцоў елі з картофляю.* Кіралі Шчуч. ◇ *Выматаць (выбраць, выцягнуць, выціснуць, адбіць) клёк (клёкі)* — адабраць здароўе, сілу; *не мець клёку*—не мець сілы, моцы. *Выматай ты*

*клёк з яго.* Ухвала Круп. *Выбралі з яго клёк, пабілі сільна, вымучылі.* Старыя Трокі Трак. *Усе клёкі выцягнула з яго. З мяне ўсе клёкі выцягнуты.* Мішневічы Шум. *Самы клёк выцягнены з мукі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Выціснуў з чалавека ўвесь клёк.* Мішневічы Шум. *Ён адбіў мне клёкі.* Жодзішкі Смарг. *Худы, высахшы чалавек, ужо відаць, што ў ім клёку няма.* Гемзы Шальч. *Сілна перагаладаваў у час вайны, ня можыць клёку ўзяць і цяпер.* Груздава Паст. *Клёку німа* — толку няма. *Клёку німа з гэтай работы.* Рыбчына Віл. ▽ *Каб табе такі клёк, як ты зрабіў!* — Каб табе такое здароўе, моц! — *так гукаюць, як зробіць хто блага.* Мярэцкія Глыб.

КЛЁМБЫ, КЛЁМНЫ, КЛЁМПЫ *гл.* КЛУ'МПІ

КЛЁН I *м. бат.* Клён. *Адзін клён расце.* Рудня Астравітая Чэрв., Кіралі Шчуч. *Клёну ў нас мала.* Мельнікі Лудз. *Кляны растуць.* Чычалі Швянч., Галоўні Воран.

КЛЁН II *м.* Праклён. *Яе клён не даходзіць да мяне. Хай клёны твае на лес ідуць.* Вострава Маст.

КЛЁНУЦЬ *зак.* Кануць. *Усё клёнула.* Груздава Паст.

КЛЁПАТ *м.* Крык, лямант. *Падняўся клёпат на ўсю хату.* Жыдзевічы Іўеў.

КЛЁПАЦЬ *гл.* КЛО'ПАЦЬ

КЛЁПКА, КЛЕ'ПКА *ж.* Клёпка. *Клёпкі ў кадушках.* Дакудава Лід. *Клёпка выламалася, клёпкі ўстаўлялі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кубял і фаску с клёпак рабілі.* Стральцы Гродз. *Цэбар с клёпак.* Быстрыца Астр. *Клепка папсавалася, у кадушцы клепкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дзешка, цэбар зроблены з клепак, кадаўб выдзяўбляны з дзерава, бяз клепак.* Малахоўцы Бар. *Дзесяць клепак зрабіў.* Дзяніскавічы Ганц. *Клепкі ў бойцы.* Мсцібава Ваўк. *Даёнка с клепак была.* Кіралі Шчуч.

КЛЁХІ *мн. кулін.* Галушкі, клёцкі. *Клёхі рабілі, гатавалі з мясам, мясо ўкладалі.* Новікі Гродз.

КЛЁЦКІ, КЛЕ'ЦКІ *мн.* Тое ж, што і клёхі. *Цёрлі картошку і дзелалі клёцкі.* Янова Рас. *Клёцкі з цеста варылі бялёныі ці прыкідаваныі.* Лісна В.-Дзв. *Клецкі варацца з драной бульбы: дзяруць бульбу, атцэджваюць у клінок, у варок кідаюць і беляць.* Рыбчына Віл. *Клецкі з бульбы варылі.* Стральцы Гродз.

КЛЁЦЫ *мн.* Камякі. *Замок* [змок] *кумбікорм і ў клёцы ўзяўся.* Граўжышкі Ашм.

КЛЁШКІ *мн.* Адзенне, пашытае клёшам, у клёш. *Дзеўкі ў клёшкі ўбраліся і танцавалі.* Ракаўскія Швянч.

КЛІ'КАТНІ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *У клікатнях перарэзана падэшва, а ў дзеравяшках — суцэльная.* Рагулішкі Даўг.

КЛІ'КАЦЬ *незак.* 1. Зваць, гукаць. *Ён клікаець мяне.* Чычалі Швянч. *Ідзі, вунь дзет кліча!* Міратычы Карэл. *Ідзі, ён*

*кліча!* Старое Сяло Зэльв. *Ізноў кліча.* Альхоўка Навагр. *На што ты міне клікала?* Кіралі Шчуч. *Ідзі, клічуць цябе! Клічуць яго па імю.* Крынкі Крын. 2. Запрашаць. *Клікай людзей есці!* Граўжышкі Ашм. *Я клікала яе есці кашу.* Кіралі Шчуч. 3. Крычаць. *Сусет кліча: «Забяры качара, гусі паб'е!»* Кіралі Шчуч.

КЛІ'КНУЦЬ, КЛЕ'КНУТЭ *зак.* Пазваць, гукнуць. *Ідзі клікні, хай ідзе.* Рыбчына Віл. *Бапка была старая, клікнулі яе да малога.* Каўняны Гродз. *Наташу клекну, хай прэдэ.* Дзмітравічы Кам.

КЛІ'МАТ *м.* Метэаралагічныя ўмовы. *Гады былі лепшыя, і мёду было больш, цяпер клімат стаў ня той — і мёду меняй.* Груздава Паст.; *параўн.* руск. *климат* 'тж'.

КЛІН *м.* 1. Завостраны з аднаго канца кавалак дрэва. *Клін заганяецца ўвярху крокваў, каб яны не разышліся.* Гемзы Шальч. 2. Невялікі клінок. *Клін служыць для замацавання касы.* Пасіене Лудз. *Клін у касе.* Істра Лудз. 3. *крав.* Устаўка ў адзенні клінападобнай формы. *Клін у рукаў устаўлялі.* Старыя Трокі Трак. *Нада ўставіць клін — натта вуска рукаво. Клінэ ўстаўляюць у порткі. Ушывай клінэ ў порткі, бо натто вуско, я не прысяду.* Кіралі Шчуч. 4. Прарэх, шырынка. *Зашпілі клін у портках!* Кіралі Шчуч. *Клін у штанах.* Грыкені Вільн. *Закрой кліны свае!* Дакудава Лід., Крэва Смарг., Рыбчына Віл. 5. Месца ў кроку штаноў, дзе сыходзяцца калошыны. *Цвіклі ўстаўлялі ў клін.* Парэчча Гродз. 6. *мн.* Спосаб крою, фасон пашыву. *Андаракі шылі з кліноў.* Індра Красл. *Шые ў кліны.* Грыкені Вільн. *Спадніцы ў дванаццаць кліноў шылі.* Міратычы Карэл.

КЛІ'НІЦЬ *незак.* Навучаць, прывучаць, пераконваць. *Адмаленця мама клініла нас, каб работу любілі, каб рабілі акуратня, каб добрымі былі хазяйкамі. Малых дзяцей клініла да работы, не шкадавала іх.* Солы Смарг.

КЛІНО'К *м.* Мяшочак трохвугольнай формы, у які зліваюць адтопленае малако. *Малако аттапілася, выліваюць у клінок, шшыты з палатна.* Альхоўка Навагр. *Уліць аттопленая малако ў клінок, яно сцякая, і сыр робяць.* Кіралі Шчуч. *Тварох у клінок вылівалі—у такую торбачку.* Баброўнікі Гарад.

КЛІНЦЫ' *мн.* Макуха. *Як алей выціснуць са льну — астаюцца клінцы.* Беразіно Докш.

КЛІП-КЛІП *выкл.* Перадача характэрнага скрыпу абутку на драўлянай падэшве. *Пасля вайны хадзілі ў клікатнях, клікатні гібаліся, і як ідзеш — кліп-кліп.* Рагулішкі Даўг.

КЛІПА'НІКІ *мн.* Тое ж, што і к л і к а т н і. *Бывала, кліпанікі абуіць і пашоў.* Саланое Віл.

КЛІ'ПША *м.* і *ж.* *зневаж.* Крываногі чалавек. *Кліпша такі, ногі крывыя, як палазы.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *klìpšas* 'хто кульгавы'.

КЛІПЯШНЯ′ *гл.* КЛЯПЕ′ШНЯ

КЛІЦ *м.* Клец. *У дзеравяннай баране два вярча дзержаць кліц дзеравянный. Кліцы на дзеравянных кольцах закрапляліся; кліц забіваецца ў барану.* Азяраны Раг.; *параўн.* ням. *Klotz* 'калода, цурбан, пацурбалак'.

КЛІШАВА′ТЫ *гл.* КЛЫШАВА′ТЫ

КЛІША′ВЫ *гл.* КЛЫША′ВЫ

КЛІШАНО′ГІ *гл.* КЛЫШАНО′ГІ

КЛО *гл.* КЕЛ

КЛОК *м.* Касмык. *Вырваў клок валос.* Парэчча Гродз. *Валасы внэт вылязлі клакамі.* Стральцы Гродз.; *параўн.* руск. *клок* 'тж'.

КЛО′МЛЯ *ж.* Рыбалоўная снасць. *Кломля — як кош чатырохкантовы, плецены з дупцоў.* Альхоўка Навагр. *Была кломля рыбу лавіць — плялі з ніцей; ловяць удвох.* Дзяніскавічы Ганц.

КЛО′НА *ж.* Тое ж, што і к л у́ н я. *На адрыну некалі казалі клона.* Парэчча Гродз.

КЛОНІ′ЦЯ *ж.* Ручка вузгалаўя ў возе. *Клоніця зломаласе і пув фуоры сіена вываліласе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *kłonica* 'дубіна, ручка'.

КЛОП, КАЛО′П *м. заал.* 1. Пасцельны клоп. *Дайней, дзе бальшыя сем'і, там і клоп. Без чалавека клапа ні будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Раслінаедны клоп. *Клоп лесавы — смярдзючы, як раздавіш.* Беразіно Докш. *Ёсць палявы калоп.* Рыбчына Віл.

КЛО′ПАННЯ *н.* Квактанне. *Клопання прайшло ў курыцы; я памачыла ў халодную ваду, жара прайшла, як пасядзела пад начоўкамі, зямля адцягнула.* Рудня Астравітая Чэрв.

КЛО′ПАТ I *м.* Тое ж, што і к л а п о́ т а. *Нашто мне лішні клопат.* Вецярэвічы Пух. ▽ *Ня мела баба клопату — купіла парася.* Вецярэвічы Пух.

КЛО′ПАТ II *м.* Тое ж, што і к л о́ п а н н я. *Курыца ня лезя ў клопат — жара прайшла.* Рудня Астравітая Чэрв.

КЛО′ПАЦЬ, КЛЁПАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к в а к т а́ ц ь. *Клопая курыца, і другая будзя клопаць. І як высядзя курыца курчата, яна клопая.* Граўжышкі Ашм. *Клопая курыца, курчатка ззывая.* Жылі Іўеў. *Катора ня клопая кура, белыя куры ня клопаюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Адна курыца клопая.* Солы Смарг., Парэчча Гродз. *Курыца хоча садзіцца на яйца і клёпая, трэба прывязаць.* Навасёлкі Свісл. *Квактуха́ клёпае, не нясецца.* Баброўнікі Гарад.

КЛО′ТНІК *м. бат.* Васілёк лугавы. *Клотнік і васількі ў жыця, толька клотнік больша фалетавы* [фіялетавы]. Быстрыца Астр.

КЛО′ЎСІЧКА *ж.* Жанчына, якая часта ўжывае слова

«паслухай». Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *klausýtis* 'слухаць', *klausýk* 'слухай'.

КЛО'ЦІ *мн.*, КЛОЦЬ *ж.*, КЛО'ЦЯ *н.* Тое ж, што і к а л а ц ё. *Як корч упадае, клоці такія бальшыя робяцца. Клоць пры сударге.* Старыя Трокі Трак. *Клоця мяне апанавала.* Гемзы Шальч.

КЛО'ЧА, КЛО'ЧЧО *зб. н.* Пачаскі, пачассе. *Як чэша, то клоча астаецца, трасем клоча верацяном, пасцілкі, ходнікі тчэм, с клоча радзюшкі ткуць.* Баброўнікі Гарад. *Пасля ачэсання астаецца клоча.* Вострава Маст. *Чэшуць лён жалезнай шчоткай, на ей кудзеля астаецца — гэто клоччо.* Стральцы Гродз.

КЛУБ, КЛУП *м.* 1. *анат.* Бядро, тазасцегнавы сустаў. *Яна ў клубі ногу зламала.* Верхлессе Крын. *Болят мне клуб, куосточка скочыла ў клубові.* Горск Бяроз. *У клубя баліць.* Дзяніскавічы Ганц. *Клуп баліць.* Жодзішкі Смарг. *Андарак на клубах не дзяржыцца.* Стральцы Гродз. *Збіла клуп карова.* Міратычы Карэл., Быстрыца Астр. *У ўсякай жывіны клуп.* Міратычы Карэл. *Клуп выбіла карова.* Рудня Астравітая Чэрв. *Карова збіла клуба.* Дзяніскавічы Ганц. *Клубэ ў каровы.* Малькуны Ігн. *Два клубы ў карові.* Пацаўшчына Дзятл. *Як сытая карова, то клубы меншыя, а як худая, то клубы павытыркаўшы.* Гемзы Шальч. 2. у знач. *прысл. у клуп.* Клубком, сукупна. *На зіму пчолы садзяцца ў клуп і грэюць адна другую.* Вецярэвічы Пух.

КЛУ'БАМ *прысл.* Моцна, многа. *Клубам сліна ідзець.* Мярэцкія Глыб.

КЛУБІ'ЦЦА *незак.* Звівацца, кружыцца. *Большой рой пчол клубіцца.* Гемзы Шальч.

КЛУБНІ'ЦЫ толькі *мн.* Трускалкі. *Клубніцы е ў нас.* Кузьмічы Люб.; *парайн.* руск. *клубника* 'тж'.

КЛУБО'К *м.* 1. Зматаныя ніткі ў форме шара. Грыкені Вільн. *З вітухі вілі на клубок, вірок быў.* Латыгаль Віл. *Клубок ніцей.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кужаль у клупкох быў.* Солы Смарг. *С клупкоў снавалі кросна.* Альхоўка Навагр. 2. Скрутак. *Бывала, лыкі вілі ў клубок, бо ў баранку высыхала, а с сухіх лык лапцей не спляцеш.* Ахрэмаўцы Брасл. *Клубок лык.* Беразіно Докш. *Бывала, клупкі ліпы напляце, лапці спляце, падшыяць і носіць.* Старыя Трокі Трак. ∇ *Крутосто, выпросто, на ім крижив ізо сто* — клубок. Дзмітравічы Кам.

КЛУ'МАК, КЛУ'МОК *гл.* КЛУ'НАК

КЛУ'МПІ, КЛУ'МПЫ, КЛУ'МБЫ, КЛЮ'МБЫ, КЛЕ'МБЫ, КЛЁМБЫ, КЛЁМПЫ, КЛЁМНЫ *мн.* Драўляны абутак, на драўлянай падэшве. *Клумпі—абутак поўнасцю з дрэва.* Чычалі Швянч. *Дайней клумпі насілі.* Грыкені Вільн. *Клумпі з дрэва рабілі, у клумпях польку танцавалі—ні зляталі з нох.* Старыя Трокі Трак. *Клумпі з дрэва вычаша, скурой абі-*

*валі.* Стральцы Гродз. *Клумпі купляліся і самі рабілі: верх скураны, а падэшва з дзерава.* Старыя Смільгіні Воран. *Клумпы дзеравяныя насілі.* Малькуны Ігн., Бакшты Іўеў., Галоўні Воран. *Клумпы трэба было даўбаць, яны, як туфлі.* Парэчча Гродз. *Абівакі і клумпы — адно і тое ж. У клумбах танцавалі даўней.* Гемзы Шальч. *У клумбах шкрумбаеся.* Кураполле Паст. *Клюмбы нямецкія з дрэў, як калошы, і верх і спот—усё драўлянае.* Жодзішкі Смарг. *Клюмбы—дзеравяшкі, скурай абівалі верх. Гаворацъ клюмбы і клумбы.* Крэва Смарг. *Клембы—абутак на дзеравянай падэшве.* Мярэцкія Глыб. *Клёмбы чылі трэпы мелі дзеравяную падэшву, апшытыя былі кожай. У войску клёмбы былі.* Лука Нараўк. *Кедысьці праве ўсе хадзілі ў клёмбах.* Верхлессе Крын. *Клёмпы з дзерава роблены, падэшва з дрэва і абіты скурай.* Сапоцкіна Гродз. *Клёмны на драўлянай падэшве.* Тухавічы Лях.; *парайн.* літ. *klùmpės* 'тж'.

КЛУ'НАК, КЛУ'МОК, КЛУ'МАК *м.* Ношка. *Завяжы клунак!* Магуны Паст. *Клунак навязала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Клунак згубіў.* Вецярэвічы Пух. *Пашла с каравамі, клунак за плячыма.* Мсцібава Ваўк. *Добры клунак насыпала жыта.* Азяраны Раг. *Забрала сваё клункі і пашла.* Верхлессе Крын. *Куды ты са сваім клумкам прэшся?!* Ухвала Круп. *Клумок понесла.* Калясное Міхал. *Клумак трапак панесла каравачніку.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пашоў, апчапіўшыся клумкамі.* Гемзы Шальч.

КЛУ'НАЧАК, КЛУ'МАЧАК *м. памянш.* да к л у́ н а к. *Павязалі клуначкі дзеці. Клумачак узяла таго-сяго, каб было што есці.* Вецярэвічы Пух.

КЛУНДА' *ж.* і *м. экспр.* Хто сварлівы, бурклівы. *Вот клунда гэта — клундзіць і клундзіць.* Валынцы В.-Дзв.

КЛУНДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Дакараць, лаяць. *Пірастань ты клундзіць, ужо надаела слухаць! Яна клундзіла на міне, ляжыць і клундзіць, клянець, праклінаіць — далёка чуваць.* Валынцы В.-Дзв. 2. Балбатаць. *Індзюк клундзіць і клундзіць на дварэ.* Валынцы В.-Дзв.

КЛУНДЗЮ'К *м.* Страўнік, начынены мясам. *Клундзюк рабілі: наложыш мяса ў трубушок небальшымі кускамі —і вісіць да лета.* Валынцы В.-Дзв. *Клундзюк дзелалі: у жалудак авячый ілі свіной мяса складывалі і весілі на чэрдаке, усё лета висела.* Рагулішкі Даўг. *Клундзюк зрабіла: нарэзала буйна мяса, палажыла ў трыбушок і падвесіла ўлета.* Курапалле Паст. *Клундзюк з'ем скора, ня вешала. Ложым цыбулю, перац, соль і мяса ці пічані, патціснеш пат камень і па скібя рэжаш і ясі па скібацца іс хлебам, ён трывалны.* Курапалле Паст. △ *Малы, як клундзюк.* Курапалле Паст.; *парайн.* літ. *skilandžiùkas* 'тж'; *гл.* к і н д з ю́ к.

КЛУ'НЯ *ж.* Пуня. *Стога забралі до клуні.* Лука Нараўк.

*У клуні на току.* Смаляніца Пруж. *Снопы звозят до клуні. Подпалеле с клуні.* Дзмітравічы Кам. *В клуні снопы, сіно.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол. *Сено ў клуні.* Ялова Пруж. *Всэ там кладут — звэцца клуня.* Горск Бяроз. *У гумне была клуня, куды зложавалі збожжа.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Старана жыта ў клуні.* Лука Нараўк. *Запалілі клуню.* Азарычы Пін. *В клунях сено лежыт.* Вялікі Краснік Пруж.; *гл.* ДАБМ, карта № 236.

КЛУП *гл.* КЛУБ

КЛУСАВА'ТЫ *прым.* Хлуслівы. *Хлусаваты ён, чаўпець абы-што.* Магуны Паст.

КЛУСНАТА', КЛУСТАТА' *ж.* Растоплены тлушч. *Клуснаты дабавіла і паставіла тушкаваць бульбу. Грыбы жаўтавінькії жаруцца, крышу туды луку, клустаты дабаўляю, як утушкуюцца—язык можна праглынуць, якая смаката!* Лісна В.-Дзв.

КЛУ'СТА *ж.* 1. Капелька тлушчу на паверхні стравы. *Ат калбасы — ні адной клусты.* Гемзы Шальч. 2. *прысл.* Тлуста. *Гэта сытка, як клуста з'еш, а посна — адышоўшы, есці хочыцца.* Ракаўскія Швянч.

КЛУСТАТА' *гл.* КЛУСНАТА'

КЛУ'СТАЦЬ *ж.* Тое ж, што і к л у с н а т á. *Клустасць зліла ў цёрліцу.* Мярэцкія Глыб. *Клустасць плавяць.* Магуны Паст. *Кішэчны жыр топяць, клустасці многа.* Стральцы Гродз. *Клустасць — пережараная сланіна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Палажы клустасці ў кашу.* Лоск Валож. *Клустасці многа.* Рыбчына Віл. *На клустасці спяку глатке* [аладкі]. Вострава Маст. *На клустасці пяку бліны.* Альхоўцы Лях. *Свінская клустасць.* Сакаляны Сакол., Верхлессе Крын.

КЛУ'СТЫ' *прым.* 1. Тлусты. *Страва клýстая, як запраўлена.* Ракаўскія Швянч. *Клýстая капуста.* Гемзы Шальч. *Клýстае м'ясо.* Тухавічы Лях. *Ні адной клýстай скварачкі не было.* Гемзы Шальч. *Клýста сланіна.* Кіралі Шчуч. *О, коб ему ўсе клýстэ м'ясо!* Лука Нараўк. *Клустая куцця.* Магуны Паст. *Клустóя сала добра распускаецца.* Мярэцкія Глыб. *Клустáя сланіна.* Магуны Паст. *Клустóе мяса.* Груздава. Паст. *Клустóе мяса не хоча есці.* Беразіно Докш. 2. Сыты. *Зрабіўся клýсты, распасвіўся ў нас.* Новікі Гродз. *Клýсты можа быть і паршук, і чалавек.* Верхлессе Крын. *Надрала лою цэлу міску — вот мая авечка клýста.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *tłusty* 'тж'.

КЛУХ-КЛУХ *выкл.* Перадача характэрных выгукаў квактання курыцы. *Клух-клух — квокчыць курыца.* Валынцы В.-Дзв.

КЛУ'ХАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к в а к т á ц ь. *Курыца клухала, клухала, а пісклят ня йдуць.* Беразіно Докш.

КЛУ'ЦІ *мн.* Тое ж, што і к а л а ц ё. *Як схвацілі мяне клуці.* Малькуны Ігн.; *параўн.* польск. *kłucie* 'тж'.

КЛУШЧ *м.* Тлушч. *Сала,ператопленае на клушч. Ідзі прынясі клушчу! Узяла клушчу на нош.* Ністанішкі Смарг. *Я маю клушчу. Клушч стаіць зверху стравы — свіням зліваю.* Гемзы Шальч. *С клушчам страва. Мяса клушчам заліваем.* Новікі Гродз. *Плейка з малака паранага — самы верх, самы клушч.* Галубы Маст.; *парайн.* польск. *tłuszcz* 'тж'.

КЛЫ *гл.* КЕЛ

КЛЫБА'ТЫ, КЛЫНБА'ТЫ *прым.* Кульгавы. *Пашоў клыбаты чалавек, што-та яму нага баліць.* Кіралі Шчуч. *Пашоў клыбаты, то мой сусед.* Пацаўшчына Дзятл. *Ідзе клыбаты.* Старое Сяло Зэльв., Яцаўляны Сідр. *У нас клыбатая курыца, нагу паламалі.* Саланое Віл. *Клыбатая карова.* Сапоцкіна Гродз. *З нейкай клынбатай удавой сышоўся.* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *klìbis* 'тж'.

КЛЫ'БАЦЬ, КЛЫ'МБАЦЬ, КЛЫГА'ЦЬ, КЛЫ'ПАЦЬ *незак.* Кульгаць. *Ён клыбая, яму нага ўсыхая.* Кіралі Шчуч. *Клыбая клыбаты.* Старыя Смільгіні Воран. *Клыбая курыца, зламала нагу.* Саланое Віл. *Яна клымбая па хаце.* Парэчча Гродз. *Ён клыгая — ні мая нагі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нага балела, ён клыгоў.* Вецярэвічы Пух. *Кабыла клыгая.* Рудня Чэрв. *Кульгавы клыпая.* Міратычы Карэл. *Карова да цялення клыпала на пярэднюю нагу.* Жылі Іўеў.; *парайн.* літ. *klibúoti, klibė́ti, klipúoti* 'тж'.

КЛЫБА'Ч *м. зневаж.* Той, хто кульгавы, крываногі. *Як храмы, то дражняць: «Вун клыбач ідзе».* Паляцкішкі Воран.; *гл.* к л ы́ б а ц ь.

КЛЫБЗУ'Н *м.* Тое ж, што і к л ы б а́ ч. Яцаўляны Сідр.

КЛЫГУ'Н *м.* Тое ж, што і к л ы б а́ ч. *Гэты клыгун парасят ганяіць.* Вецярэвічы Пух.

КЛЫК *м.*, КЛЫКІ' *мн.* 1. Тое ж, што і к е л, к л о. *Клыкі ў свіні.* Пасіене Лудз., Беразіно Докш. *У сабакі два клыкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Клыкі ў дзікіх кабаноў.* Ёдлавічы Брасл. *Клыкі на баку тарчаць, па бакох, ежэлі клыком шарпане, то разарве.* Гемзы Шальч. 2. Корань зуба. *Зуп на тры клыкі.* Валынцы В.-Дзв.

КЛЫКА'ЦІ, КЛЫКА'ТЫ *незак.* Глытаць. *Клыкаеш, як што есі.* Смаляніца Пруж. *Як йісы, то жуеш, посля клыкаіш.* Сіманавічы Драг.

КЛЫМЗА' *м.* і *ж. зневаж.* Тое ж, што і к л ы б а́ ч. *Ён кульгавый — клымза; вышла замуш за клымзу.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *klipsà* 'тж'.

КЛЫНБА'ТЫ *гл.* КЛЫБА'ТЫ

КЛЫ'НБЭЛЬ *м.* Завостраны калочак для вязання снапоў, кулёў. *Клынбэль — то колочок вязаці куле.* Смаляніца Пруж.

КЛЫ'НДА *ж.* 1. *кулін.* Мачанка, прыгатаваная з льнянога семя ці з маку. *Сем'я паруць, у ступе стаўкуць, прасеюць, гу-*

*ставаценько развядуць, кап бралася за картоплю, і называлі клында. Каб сем'я, дык клынды зварыла бы. У клынду цыбулькі, перчыку ўкінуць, тады смачна клында. Вады закіпяці, туды ўсыпаць тоўчанага сем'я с прыправамі. Мак мялі і клынду рабілі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *ж.* і *м. перан. зневаж.* Тое ж, што і клыба́ч, клыгу́н. *Клында таго празываюць, хто пахотку такую мае, ідзе пакульгаваючы.* Дакудава Лід. *Клында ідзе і клыгае, вунь клында пацяглася, чуць пашла.* Вецярэвічы Пух. *Клында, клышаногі і на ба́баў заглядаецца.* Малахоўцы Бар. 3. толькі *мн. перан. зневаж.* Ногі. *Ходзя, клынды раставіўшы.* Крэва Смарг. *Вот ідзе, як клында, раскірачыўшыся, сваіх клындаў не падымя!* Бакшты Іўеў. *Чуць цягаю клынды, чуць прыцёх клынды.* Рудня Астравітая Чэрв.

КЛЫ'НДАЦЬ *незак. экспр.* Хадзіць без мэты, бадзяцца, швэндацца. *Чаго ты клындаеш тут?* Рыбчына Віл.

КЛЫНДА'Ч *м.* Тое ж, што і клыба́ч. *Клындач ты! — у нас так дражнят.* Ялова Пруж.

КЛЫПА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і клыба́ты. *Вунь клыпаты пашоў.* Вецярэвічы Пух. *Гэты гаспадар, што нас проці, яму нага на вайне адмерзла, то мы яго называем клыпаты.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* літ. *klipyta̋* 'тж'.

КЛЫ'ПАЦЬ *гл.* КЛЫ'БАЦЬ

КЛЫЧО'К *м. памянш.* да клык. *Клычкі ў парасят войстрыя, як іголкі.* Лайпушкі Ігн.

КЛЫ'ЧЫЦЦА *незак.* Прарастаць. *Даўно пасадзіла часнок, і толькі цяпер пачыная клычыцца — яшчэ зямля мёрзлая.* Масюкоўшчына Мін.

КЛЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Шморгаць, рваць, шарпаць. *Паклала мех, дык свіні пацяглі і клычаць.* Азяраны Раг.

КЛЫШАВА'ТЫ, КЛІШАВА'ТЫ *прым.* Крываногі, касалапы. *Клышаваты конь.* Малькуны Ігн. *Клышаватая карова.* Старыя Смільгіні Воран. *На клышаватага скажаш: «Чаго ты клындаіш?»* Рыбчына Віл. *Клішаваты конь.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *klìšas* 'тж'.

КЛЫШАВЕ'НЬ *м. лаянк.* Хто касалапы. *Клышавень ты! Клышавы як ідзець — ногі ёлачкай. Ах ты клышавень, адна нага ў Мінск, а другая — у Дзвінск!* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *klìšas* 'тж'.

КЛЫШАВІ'К *м.* Тое ж, што і клышаве́нь. *У клышавіка ногі куды каторая.* Лісна В.-Дзв.

КЛЫША'ВЫ, КЛІША'ВЫ *прым.* Касалапы, крываногі. *Ен клышавы.* Парэчча Гродз. *Клышавы пашоў, ногі крывыя.* Валынцы В.-Дзв. *Клышавы—хто ходзя і ногі раскідавая: дзеўка ці мужчына.* Рыбчына Віл. *Клышавы — ногі ў бакі.* Кіралі Шчуч. *Клышавыя ногі.* Лісна В.-Дзв. *Клышавы ідзе, як клыбаты.* Каўняны Гродз. *Клышавы чоловек, ногі в роскидку.* Азарычы Пін.; *парайн.* літ. *klìšas* 'тж'.

КЛЫШАНО'ГІ, КЛІШАНО'ГІ *прым.* 1. Тое ж, што і к л ы ш а́ в ы. *Клышаногі ідзе, раскідаючы ногі.* Галоўні Воран. *Ён такі клышаногі.* Саланое Віл. *У клышаногага чалавека пяты с пятамі сходзяцца.* Івашкаўцы Смарг. *Клышаногі калена ап калена трэ. І на карову можна сказаць: «Купіў клішаногу карову».* Мсцібава Ваўк. *Клішаногі — гэта такі, што ногі ў бакі выкідывая.* Старыя Трокі Трак. *Удаўся такі: і крывароты, і клышаногі.* Лука Нараўк. *Клышаногі — ногі ў бакі.* Пацаўшчына Дзятл. *Клышаногая баба.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і к л ы ш а в е́ нь. *Хто крывы кажуць на яго: «Клында клыша́нога».* Малахоўцы Бар. *Клышаногі — нага каля нагі шаруя, як ідзе.* Жылі Іўеў.; *парайн.* літ. *klìšas* 'тж'.

КЛЫША'Ч *м.* Тое ж, што і к л ы ш а в е́ н ь. *Хто клышавы, клышач празываюць.* Парэчча Гродз.

КЛЫ'ШНІ *мн.* Клюшні. *Клышні ў рака.* Кураполле Паст. ▽ *Мае рукі, як клышні ракавыя.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *klišnìs* 'калашына штаноў'.

КЛЫ'ШЫ *прым.* Крываногі. *Клышая карова — добрая на малако.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *klìšas 'тж'.*

КЛЮБ, КЛЮП *м.* Клуб. *У клюп пойдзем, кіно там будзя.* Быстрыца Астр.; *парайн:* польск. *klub* 'тж'.

КЛЮ'БА *ж.* Тоўстая шчэпка. *Адбіваюць клюбу, як чэшуць бярвення на хату. Трэска тонкая, а клюба тоўстая, доўгая — паўмэтра даўжыні. Адбіваюць клюбы, як чэшуць дрэва.* Рыбчына Віл.; *парайн.* польск. *kluba* 'блок, клямар; дужка, скаба', літ. *kliū̃bas* 'прут, вітка для прымацавання жэрдак у плоце'.

КЛЮБА'Ч *м.* Загадчык клуба. *Пашоў клюбач у клюп.* Магуны Паст.

КЛЮ'БЫ толькі *мн.* Ціскі, прэс. *Клюбамі ціскаюць воск.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* к л е́ ш ч ы І.

КЛЮВА' *ж.* Дзюба. *Каршун клювой лупя курыцы сразу плечы.* Гемзы Шальч.; *парайн.* руск. *клюв* 'тж'.

КЛЮ'КА *ж.* 1. Тое ж, што і к л ю в а́. *Клюка ў каршуна войстрая, і цярэбіцца ёю, і дзяўбе, і бароніцца.* Багушэвічы Бярэз. 2. Дэталь ярма ў форме кручка. *Палачка з клюкаю былі ў ярме.* Навасёлкі Свісл. 3. Вочап у студні з жураўлём. *Есць клюка ваду цягаць с калодзеся.* Пасека Ст.-Дар.; *парайн.* літ. *kliùkas* 'тж'.

КЛЮКАВА'ТЫ *прым.* Гарбаносы. *У яго клюкаваты нос.* Мсцібава Ваўк.

КЛЮ'МБЫ *гл.* КЛУ'МПІ

КЛЮ'НКА *ж. памянш.* Дзюбка. *Курыца клюнкай клюе.* Асавец Віл.

КЛЮНКШЧ *выкл.* Бух. *Падняла вядро — клюнкшч, і ўраніла.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *kliùnkšt* 'тж'.

КЛЮП *гл.* КЛЮБ

КЛЮЧ I *м.* 1. Ключ, якім замыкаюць і адмыкаюць замок. *Я ключы згубіла.* Альхоўцы Лях. 2. Прылада для адсоўвання і засоўвання засаўкі ў дзвярах. *Ключ дзеравяны е і язычак, што ўкладаецца ў дзюрку і адцягуе засаўку.* Дзяніскавічы Ганц. ◊ *Насіць ключы на пупе* — быць скупым. *Яна і цяпер носіць ключы на пупе, у яе ўсё пад замком: сала, смятана, масла.* Саланое Віл. 3. Тое ж, што і к л ю к а 3. *У студні да сцябла прымацоўваюць ключ, а на яго вешаюць вядро.* Кнышэвічы Бабіц. *Ключом чэрпем ваду.* Дзяніскавічы Ганц. *Да ключа вядро прычэпліваюць.* Саланое Віл.

КЛЮЧ II *м.* Крыніца. *Ключ — дзе вада ідзець с-пад зямлі.* Валынцы В.-Дзв.

КЛЮ'ЧАМ *прысл.* Сукупна, разам. *Масляке, падрашэтнікі, радоўкі ключам растуць.* Вецярэвічы Пух.

КЛЮ'ЧАЧКА *ж. памянш.* Драўляны крук для віцця вяровак. *Пугі вілі ключачкамі. Ключачкі паробяць і вяроўкі віюць.* Каўняны Гродз.

КЛЮ'ЧКА *ж.* 1. Кій, палка з загнутым канцом, на што апіраюцца пры хадзьбе. *Пашоў з ключкай чалавек.* Азяраны Раг. 2. Прылада, якой размешвалі страву. *Ключка — загнёная доўгая палка, мяшалі ключкай кісель, зацірку, не даставючы з печы. Ключка была выдзіраная і капаная с караня.* Мярэцкія Глыб., Кураполле Паст. *Ключка была такая, аршкі мяшалі ў печы. У нас ключка цёнгле была; мяшалі ключкай.* Парэчча Гродз. 3. Пожаг. *Ключка — палка, якой мяшалі вуголлі.* Мярэцкія Глыб. 4. Бусак. *Ключка — цягаць бярвення з ракі.* Якубова Рас. 5. Тое ж, што і к л ю ч 3. *На ключку вядро чапляюць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ключка да асвера прычэплена.* Старыя Смільгіні Воран. *Ключка прывязана да ковара.* Кіралі Шчуч. 6. Прылада для выцягвання сена. *Ключка — такі кручок сена цягаць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ключкай скубалі сена.* Лука Нараўк. 7. Тое ж, што і к л ю ч а ч к а. *Ключкай вілі вяроўкі.* Стральцы Гродз. 8. Кручок для вязання, шыдэлак. *Ключкаю рукавіцы вязалі і панчохі, толькі потым паявіліся прутке.* Вострава Маст. *Была драцяная ключка і вязалі з валу цюпы.* Мсцібава Ваўк. 9. *спарт.* Клюшка. *Ключка — што дзеці гуляюць у шайбу, калодачкі гоняць ключкай.* Дзяніскавічы Ганц.

КЛЮЧЫ', КЛЮЧЭ' *мн.* Кроквы ў гаспадарчым будынку, да якіх прымацоўваюцца латы. *У доўгае палена заганяюць драўляны штыр і чапляюць ключы.* Мярэцкія Глыб. *Ключы чапляюцца за пажыліну.* Кураполле Паст. *Ключэ стаўляюць, потым латы налачваюць і саломай крыюць.* Кіралі Шчуч. *Ключы ў гумне за асволак чаплялі.* Альхоўцы Лях. *Ключы ў будынку.* Вязынка Маладз.

КЛЮШНЯ' *ж. анат.* Тазасцегнавы сустаў. *Баліць мне клюшня ў перагібе.* Рудня Астравітая Чэрв. *Карова звіхнула клю-*

*шню ў клубе.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *kùlšnis, kùlkšnis* 'шчыкалатка'.

КЛЮ'ШНЯ *ж.* 1. Клюшня. *У рака клюшні.* Гемзы Шальч. 2. Ніжняя канечнасць палявога коніка. *Узяў і адламаў клюшню казлу.* Гемзы Шальч.

КЛЮШНЯ'К *м.* 1. Сцягно. *Сабака за клюшняк укусіў.* Вецярэвічы Пух. 2. Тое ж, што і к л ю ш н я 1. *У клюшняку ўсе мяса рака.* Гемзы Шальч.

КЛЯВА'ЦЬ *незак.* Дзяўбці. *Куры, клюйця зярно!* Граўжышкі Ашм. *Сын засяе аўсом і куры не клююць. Куры клююць траву.* Азяраны Раг.; *параўн.* руск. *клевать* 'тж'.

КЛЯ'ВАЦЬ, КЛЕ'ВАЦЬ *незак. экспр.* Хварэць, ледзьве дыхаць. *Адзін памрэ, а другі клявая, клявая —і жые.* Гемзы Шальч. *Як хто ледва клевая, то ўжэ памрэ, малая надзея, што выжыве. Курыца ледва клевала, хацела здохнуць.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* літ. *klė̃voti* 'тж'.

КЛЯВЕ'Ц *м.* 1. Спецыяльны малаток набіваць жорны. *Клявец — малаток, якім б'юць жорны.* Быстрыца Астр. *Клявец для жорнаў.* Чычалі Швянч. *Клявец — малаток жорны біць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Калодачка з адтулінай у верхнім жарнаку, у якую ўстаўляецца ніжні канец млёна. *Клявец быў у жорнах дзеравяны і жалезны, сагнёны кручок, закладаюць млён у яго.* Альхоўцы Лях.

КЛЯЁК *м.* Пропаліс. *Пшчолы ўжо шчыльна рамкі заклеілі кляйком.* Гемзы Шальч.

КЛЯІ'СТЫ *прым.* Клейкі. *Е кляістая гліна.* Дзяніскавічы Ганц.

КЛЯЙКІ' *прым.* Ліпкі. *Хлеп з закальцам кляйкі.* Жодзішкі Смарг.

КЛЯЙМАВА'ЦЬ *незак.* Клеймаваць. *Кляймуюць лес.* Ёдлавічы Брасл.

КЛЯЙНЯ' *гл.* КЛЕ'ЙНА

КЛЯК *м.* Сук. *Тоўсты кляк зламаў вецяр у грушы.* Навасёлкі Свісл.

КЛЯКАТА'ЦЬ, КЛЯКАТА'ТИ *незак.* 1. Клекатаць (пра бусла). *Буцян клякочыць.* Лайпушкі Ігн. *Клякочыць бацян.* Саланое Віл. *Бацян у нашай вёсцы вядзецца, калі на ранку ён клякоча, пачне клякатаць.* Кіралі Шчуч. *Бусял клякеча.* Малахоўцы Бар. *Буслы клякоча* [клякочуць]. Старыя Смільгіні Воран. *Буслы клякочаць.* Рыбчына Віл. *Клякечуць буслы.* Пасека Ст.-Дар. *Буслы клякочуць.* Семежава Кап. *Буслы клякочут.* Лука Нараўк. 2. Булькаць. *Клякочыць каша, суп—нада даліць.* Ёдлавічы Брасл. *Бульба клякоча, як варыцца.* Стральцы Гродз. *Бульба пачала клякатаць, яе нада адцэжваць.* Кіралі Шчуч. *Картопля клякеча—ужо зварылася.* Альхоўцы Лях. *Клякеча картофля.* Галубы Маст. *Клякеча картопля — ужэ*

*зварылася.* Кузьмічы Люб. 3. Бразгаць, звінець. *Клякоткі дзін-дзін-дзін і клякочуць.* Парэчча Гродз.

КЛЯКА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к л я к а т а' ц ь 1. *Клякая бацян, галаву закіня.* Гемзы Шальч.

КЛЯ'КНУЦЬ *зак. экспр.* Згінуць, страціцца. *Клякло яго хадзяйство.* Мсцібава Ваўк.

КЛЯКО'ТКА *ж.,* КЛЯКО'ТКІ *мн.* Трашчотка, драўляны званок. *Дзеравяна клякотка на шыі ў каровы была.* Вялікія Баяры Шчуч. *Чаплялі клякотку карові на шыю — тады чуеш, дзе карова паварочваецца.* Мсцібава Ваўк. *Каб карова не ўцякла, вешаюць ей клякотку на шыю.* Галубы Маст. *На шыі ў каровы дзве дзеравяныя клякоткі — і яны барабаняць.* Альхоўцы Лях. *Клякоткі дзін-дзін-дзін — і клякочуць. Клякоткі найбольш із клёну.* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *klekẽtas* 'тж'.

КЛЯКУ'ШКА *ж.* Клякса. *Клякушка чарніла на паперы.* Гемзы Шальч.

КЛЯ'МАР *м. тэх.* Скаба, жалезны прут для ўмацавання сцяны. *Каваль клямар з прэнта зробіць і канцы завостра, каб лезлі ў бервяно, куды я ганю.* Гемзы Шальч. *Клямар — збіваць доскі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Клямарам прыціскаюць бэльку, кап ні качалася.* Магуны Паст.; *параўн.* ням. *тэх. Klemmer* 'заціскачка, клема'.

КЛЯ'МБРА *ж.* Жалезная завала, штаба. *Зрабій клямбру, ужэ каня злодзей не ўхопіць.* Номікі Бабіц.

КЛЯ'МЗА *ж.* Пляма. *Вот клямзы пасадзіла на сукенку.* Вецярэвічы Пух.

КЛЯ'МКА *ж.* Клямка. *Клямка закладаецца, а патом заложыцца замок. Згубій ключа, трэбо прыбоя вырываць с клямкою.* Баброўнікі Гарад.

КЛЯ'МРА *ж.* Папярочны брусок, што набіваецца на капылы ў санях, накапыльнік. *Адна клямра, а на капылы надзяваліся клямры — пяць-шэсць.* Пасіене Лудз.; *гл.* к л я' м а р.

КЛЯ'МША *ж.* і *м.* Тое ж, што і к л ы б а' ч. *Клямша с крывымі нагамі клямшаіць і клямшаіць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *klem̃šinti* 'цяжка хадзіць'.

КЛЯНІ'НА *ж.* Адно дрэва клёну. *Адзін год у кляніну машына ўдарыла і паламаўшы яе.* Скрыпчына Лудз. *Кляніна — адно дзерава.* Малахоўцы Бар.

КЛЯНО'ВІК *м.* Кляновы сок. *Кляновік цячэ з клёну.* Азяраны Раг.

КЛЯНО'ВЫ, КЛЯНАВЫ' ЖУК *м. заал.* Хрушч. *Кляновыя жукі, як год быў на іх, падралі ўсе лісточкі на дзеравах.* Рагулішкі Даўг. *Клянавы жук чэпіцца — няможа аддзёрць.* Ёдлавічы Брасл.

КЛЯНО'ВЫ СОК *м.* Тое ж, што і к л я н о' в і к. *Кляновы сок саладзейшы.* Ахрэмаўцы Брасл.

КЛЯ'ПА *ж. крав.* Борт. *Ярмяк быў глаткі, кляпа была.*

Старыя Трокі Трак. *Кап штыбно было, у кляпы ўстаўлялі рэтко палатно.* Быстрыца Астр. *Пальто с кляпамі.* Касілавічы Дзярж.; *парайн.* польск. *klapa*<ням. *Klapp* 'тж'.

КЛЯПА'ННЕ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова к л я п а' ц ь 1. *Ляпаўка на касе папэнкала пры няўмелым кляпанні.* Івашкаўцы Смарг.

КЛЯ'ПАЦЬ *незак.* Ударацць па чым-н., ляпаць. *Павесяць карові на шыю клякотку — дзве дошчачкі і яны кляпаюць.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *klèpyti, klepsėti* 'тж'.

КЛЯПА'ЦЬ *незак.* 1. Ударамі малатка вастрыць лязо касы. *Малаток — што касу кляпаць.* Гемзы Шальч. *Буду касу кляпаць.* Вялікія Баяры Шчуч. *На бапку клепляць касу.* Данілавічы Дзярж. *Кляпай касу!* Відаўцішкі Вільн. *Ён кляпе касу.* Паляцкішкі Воран. *Малатком касу клепляць.* Малахоўцы Бар. *Ён клепля косы.* Альхоўцы Лях. *Кляпаць косу.* Навасёлкі Свісл. 2. *перан.* Паклёпнічаць, нагаворваць. *Ты языком не кляпі!* Міратычы Карэл. *Ён клепіць на людзей.* Саланое Віл.

КЛЯ'ПАЧКА *ж. памянш.* да к л я п а. *За кляпачку залажыў наган і ідзе.* Гемзы Шальч.

КЛЯПЕ'ШНЯ, КЛІПЯШНЯ' *ж.* Тое ж, што і к л ю ш н я 1. *Кляпешня ў рака.* Кураполле Паст. *У рака кляпешні, кляпешняй ушчыпнець за паляц.* Лісна В.-Дзв. *Рак учэпіцца кліпяшнёй сваей, сашчэміць і не атпусціць.* Ахрэмаўцы Брасл. *У рака кліпяшні.* Рагулішкі Даўг., Валынцы В.-Дзв.

КЛЯ'ПКА *ж. памянш.* да к л я п а. *Кляпкі ў каптане аткладныя.* Гемзы Шальч.

КЛЯПО'Н *м. асудж.* Паклёпнік. *Кляпон клепіць і клепіць на людзей.* Саланое Віл.

КЛЯРАВЕ'ЦКАЯ ХУ'СТКА *ж.* Квяцістая хустка. *Кляравецкая хустка ўся ў кветках. Бывая вялікая і меншая, не разбярэш за кветкамі, якое поля, бо яна ўся ў цвятох, цвяты драбнаватыя.* Бакшты Іўеў.

КЛЯ'СА *ж.* Клас. *Сын скончыў тры клясы.* Гемзы Шальч. *В якуой клясі ваш сын учыцце?* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *klasa* 'тж'.

КЛЯ'СЦІ', КЛЯСЦЬ *незак.* Праклінаць. *Не клыніце вы яго!* Талейкі Швянч. *Яна клыне мяне і ён клёў.* Вялікія Баяры Шчуч. *Клыне карову.* Баброўнікі Гарад. *Яна міне клыне, а я не клыну.* Кіралі Шчуч. *Ты клянеш мае дзеці.* Міратычы Карэл. *Кляне, пракліная, будзя клясці дзень цэлы.* Паляцкішкі Воран. *Ужо кляну жысь.* Саланое Віл. *Пачала клясці і клынець мяне, праклынаіць.* Ністанішкі Смарг. *Яна пачала яе клясці.* Кіралі Шчуч. *Будзіць клясць усіх, яна і матку клянець.* Ёдлавічы Брасл.

КЛЯСЦІ'СЯ *незак.* 1. Праклінаць адзін аднаго. *Бабы клынуцца, гэта баба клялася на гэту.* Ністанішкі Смарг. *Яна клы-*

*неццаі, яе клён не даходзіць да мяне.* Вострава Маст. 2. Пераконваць, упэўніваць. *Ён клынецца, што не брaў, і ты клынешся — каму верыць?* Вялікія Баяры Шчуч.

КЛЯТБА′ гл. КЛЯЦЬБА′

КЛЯ′ТВА *ж.* Прысяганне, прысяга. *Во, даю табе клятву да смерці!* Солы Смарг.; *параўн.* руск. *клятва* 'тж'.

КЛЯ′ТЫ толькі *мн.* Праклёны. *Ні прыстануць твае кляты.* Груздава Паст.

КЛЯХА′ТЫ *прым.* З тоўстымі, шырокімі бёдрамі. *Ідзе кляхатая баба с тоўстым задам.* Вецярэвічы Пух.

КЛЯХА′Ч *м. зневаж.* Тоўсты, мажны чалавек, хто марудна, павольна ходзіць. *Чаго ты цягаешся, кляхач?!* Вецярэвічы Пух.

КЛЯЦ *м.* Тое ж, што і к л і ц. *Кляц з бараны ўзяла і таўку, што нада.* Ухвала Круп.

КЛЯЦЬБА′, КЛЯТБА′ *ж.* Праклён. *Кляцьба твая не прыстане.* Альхоўка Навагр. *Клятба стаіць, клянуць усіх.* Дакудава Лід.

КЛЯШНЫ′ *прым.* Клёшны. *Ні нада кліны кляшныя на каўнер атстрыгаць.* Ёдлавічы Брасл.

КЛЯШНЯ′ *ж.* Вуглавая частка гумна, закутак для захавання збожжа. *Кляшня — куток у гумне, тая і тая старана, заложаная дабром: кляшня жыта, кляшня аўса, кляшня ячменю. У таку кляшня, адну кляшню залажыў.* Рудня Астравітая Чэрв.

КЛЯШНЯ′К *м. заал.* Тое ж, што і к л е ш ч I. *Кляшняк любіць у цёпла места залесць: ці пат паху, ці пат сцяглі залезя і ўп'ецца. Кляшнякé ўпіваюцца і, як ґанґалé, вісяць каля лымя ў каровы — тоўстыя, трыбухатыя, сівыя, напіўшыся, атарвеш, а галава астаецца. Бывала, у гавечак кляшнякоў найбольш, як пачнеш стрыхч — пад ножнямі аш трашчаць, чак — і перарэзаў: зад упадзе, а галава сядзіць упіўшыся.* Кіралі Шчуч.

КЛЯШЧО′К *м. памянш.-ласк.* да к л е ш ч I. *Атнясла* [дзіця] *у сат, а ён учапіўся за шыю, як кляшчок, не магла атарваць.* Курaполле Паст.

КЛЯШЧЫ′ I, КЛЯШЧЭ′ гл. КЛЕ′ШЧЫ II

КЛЯШЧЫ′ II, КЛЯШЧЭ′ *мн.* Клюшні. *Кляшчы ў рака.* Дакудава Лід. *У рака кляшчэ велькія, распасцёршыся. Гнібая кляшчамі, загнібіць моцно.* Кіралі Шчуч.

КЛЯЯ′НКА *ж.* Цырата. *Кляянкай укрыю агурцы.* Ракаўскія Швянч.

КМЕН, КМІН *м.* 1. *бат.* Кмен. *Кмен на лугу рос.* Багушэвічы Бяроз. *Кмен у хлеп сыплюць, нарвала кмену.* Кіралі Шчуч. *Кмен па равох расце.* Дзяніскавічы Ганц. *Кмен пахучы.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Кмен сыпалі до хлеба. Каўбасы с кменам рабілі.* Баброўнікі Гарад. *Калісьці кмін лажылі ў*

*капусту.* Малькуны Ігн. *Хлеб растварають у квашні; німнога кміну сыпюць.* Індра Красл. *На пастбішчы очэнь многа кміну.* Скрыпчына Лудз. *Кмін сыпіць у капусту.* Ёдлавічы Брасл. *Кмін у капусту добра.* Быстрыца Астр. *Капальку кміну ўкіняш — і пахня хлеп.* Стральцы Шальч. *Кмін добра настояць з воткай.* Гемзы Шальч. 2. Настой з кмену. *Кмін палезна піць ад жалутка.* Солы Смарг.

КМІНО'ЎНІК *зб. м.* Сцяблы кмену. *Кміноўнік ад кміну вынесь.* Курaполле Паст.

КНА'ЙПА *ж.* Шынок. *Зайшлі да кнайпы і выпілі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *knáipė,* ням. *Kneipe* 'тж'.

КНАТО'ВІКІ *мн.* Вераўчаныя лапці. *Кнатовікі насілі, з канаплі, пянькі вязалі.* Крэва Смарг.

КНАТО'К *м. памянш.* да к н о т 1. *У маленачкай лампачкі быў кнаток.* Ракаўскія Швянч.

КНІ'БАЦЦА *незак. экспр.* Рухацца, варушыцца. *Хто заўзяты да работы, той кнібацца мусіць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *knìbinti* 'карпатліва працаваць'.

КНІ'БЕЛЬ *м.* Тое ж, што і к л ы' н б э л ь. *Кніблем як крутне, то і пэрэв'яжэ снопа.* Азарычы Пін.; *парайн.* ням. *Knüppel* 'дубіна'.

КНІ'ГА I *ж.* Кніга, кніжка. *І рускія кнігі чытала.* Малькуны Ігн. *У кнізе чытаў.* Саланое Віл.

КНІ'ГА II *ж. заал.* Кнігаўка. *Кніга чубаценькая, кнігі крычаць — кігі!* Пацаўшчына Дзятл., Сапоцкіна Гродз., Старыя Смільгіні Воран. *Кнігі прылятаюць вясной.* Каўняны Гродз. *Кнігі былі, яны крычалі — кігі! Як сіва варона, на галаве імея чубок.* Мсцібава Ваўк. *У нас кніга завуць, мо і чайка дзе.* Воўкуш Ліпск. *Забіў кнігу, што ляцела. Лятаюць кнігі.* Баброўнікі Гарад. *Кніга пры мокрум месці, на болоці.* Лука Нараўк.

КНІ'ГАВІЦА *ж.* Тое ж, што і к н і г а I. Галубы Маст.

КНІ'ГАЎКА *ж.* Тое ж, што і к н і г а II. *Кнігаўка — менш галубка, большы па ніскіх местах каля возера бываіць. Кнігаўка там кладзецца.* Істра Лудз. *Кнігаўкам нет гдзе гнязда зрабіць.* Пасіене Лудз. *Кнігаўка кігікаіць.* Саланое Віл. *Кнігаўка крычыць — ґіві-ґіві!* Ёдлавічы Брасл. *Кнігаўка крычыць, кап ты да яе не падышоў.* Кіралі Шчуч. *Скора дош пойдзя — кнігаўка піць прося.* Рыбчына Віл.

КНІ'ГІ толькі *мн.* Страўнік каровы. *Кнігі ў каровы.* Малькуны Ігн. *Засор кніг у каровы.* Ухвала Круп. *Ля каўбуха кнігі, як лісты з кніжкі.* Мачаск Бярэз.; *парайн.* літ. *knỹgos* 'тж'.

КНІ'ЖКА, КНІ'ШКА *ж.* Тое ж, што і к н і г а I. *Стаіць шафа кніжок, чытаў кнішку, кнішке́ стаяць.* Баброўнікі Гарад.

КНІЖЫ'ЦЬ *незак. экспр.* Капрызіць, плакаць, вішчаць.

*Дзіця малоя кніжыць, як парасё благоя.* Крэва Смарг.; *парайн.* літ. *knigždėti* 'тж'.

КНІЖЭ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і к і ш э́ ц ь. *Чэрві ў мясе, як завядуцца, аж кніжаць.* Гемзы Шальч. 2. Гусці, кружыцца. *Мухі кніжаць над каструляй.* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* літ. *gnižėti, gniždėti* 'тж'.

КНІЗЕ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к н і ж э́ ц ь 1. *Там чарвей многа — аш кнізяць.* Івашкаўцы Смарг.

КНІ'ПАЦЬ *незак. экспр.* Вязаць. *Вазьму кніпаць панчоху.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* літ. *knỹpoti* 'карпатліва працаваць, калупацца'.

КНІ'ПЦІ, КНЫ'ПЦІ, КНІ'ПЦЫ, КНЭ'ПЦІ *мн.* 1. Тое ж, што і к і п ц і 1. *Кніпці ў каршуна.* Старыя Трокі Трак. *Кныпці ў курыцы.* Жыдзевічы Іўеў. *У каршуна кнэпці аш захіліўшыся.* Гемзы Шальч. 2. Клешні. *Кніпці ў рака, ён шчыпіцца.* Івашкаўцы Смарг. 3. Пазногці. *Апстрыжы свае кніпцы!* Гемзы Шальч. 4. *перан.* Рукі, пальцы. *Куды ты суніш свае кнэпці! Куды ты лезіш сваімі кнэпцямі!* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *knìbliai, knabliaĩ* 'тж'.

КНІЦЕ'ЦЬ, КНЫЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Балець, ныць. *Нешта мне кныціць жывот.* Бакшты Іўеў. *Кніціць зуп.* Старыя Трокі Трак. 2. Свярбець і балець. *Кныцяць пальцы на нагах.* Граўжышкі Ашм. *Як пальцы папарацца, то кныцяць.* Жылі Іўеў. *Ад свежай вады прэюць і кныцяць пальцы — свярбіць і баліць.* Старыя Смільгіні Воран. 3. *безас.* Карцець, хацець. *Мне кніціць ушчыпнуць цябе за бок.* Гемзы Шальч. *Яму аж кніціць, кап выпіць.* Гемзы Шальч., Старыя Смільгіні Воран. 4. Кусаць, бегаць (пра паразітаў). *Блоха кныціць за плечамі.* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *knitėti, knìtinti* 'тж'.

КНО'ЙСАЦЬ *незак.* Трэсці, рваць. *Кнойсаіць свіня мех.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *knáisioti* 'рыць'.

КНО'ПКА *ж.* Кнопка. *Цяпер кнопка, а калісьці машынкі называлі.* Пасека Ст.-Дар. *Ушыла кнопку ў каптан.* Кіралі Шчуч.

КНОР *гл.* КНУР

КНО'РАС *м.* Тое ж, што і к н у р. *Кнаразом закалі, то мяса шчакамі смярдзіць.* Кудзялянцы Шальч.

КНОТ *м.* 1. Кнот. *Зробяць, бывала, кнот з ільну і ліюць воск у форму.* Граўжышкі Ашм. *Красала было і кнот уцягваўся ў бляшку, кап карман не прапаліць.* Кураполле Паст. 2. Тонкая вяроўка. *Даўней лапці з кнатоў рабілі.* Бакшты Іўеў.; *парайн.* польск. *knot* 'кнот' <ням. *Knoten* 'вузел' (Фасм., II, 265).

КНУР, КНЮР, КНЫР, КНОР *м.* Кныр. *Кнур ёсць, здаём яго на загатоўкі.* Крэва Смарг. *Кнур — непакладаны кабан.* Пацаўшчына Дзятл. *Свіню дожэну до кнура́.* Смаляніца Пруж. *Свіня гу́кая, нада гнаць да кнура.* Кіралі Шчуч. *Кнюр*

*быў*. Старыя Смільгіні Воран., Вострава Маст. *Кныра не было ў нас. Кнора забіў і бяседу спраўляў.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* ДАБМ, карта № 291; *параўн.* польск. *knur* 'тж'.

КНУРАВА'ЦЬ, КНЮРАВА'ЦЬ, КНЫРАВА'ЦЬ *незак. біял.* Спароўвацца. *Свіння кнуруя.* Рыбчына Віл. *Свіня кнюруя.* Старыя Смільгіні Воран. *Кныруя свіня.* Альхоўцы Лях.

КНУРАВЕ'НЕ *н. экспр.* Сперма. *Ён цяпер кнуравенем смярдзіць, нацто ён ей такі!* Парэчча Гродз.

КНУТ *м.* Пуга. *Кнут, а не — пуга — тое самае.* Быстрыца Астр. *Кнутом памахают і стебанут.* Скрудалена Даўг. *Як жарну кнутом!* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *кнут* 'пуга'.

КНУТАВЕ'ЙЦА *н. памянш.* Пугаўё. *Кнутавейца паламаў.* Скрудалена Даўг.

КНУТЫ' *мн.* Крута звітыя вяроўкі. *Дайней кнуты вілі с пакулы, патпляталі лапці кнутамі.* Саланое Віл.; *гл.* к н о т 2.

КНЫ'ПЦІ *гл.* КНІ'ПЦІ

КНЫ'ПЯЛЬ *м. плыт.* Завостраны кол, які выкарыстоўваецца для замацавання бярвенняў у плыце. *Закручвалі гардзель, а за гардзель — кныпяль і стаіць зверху на лайках.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* ням. *Knüppel* 'тоўстае палена, дубіна, рычаг'.

КНЫР *гл.* КНУР

КНЫРАВА'ЦЬ *гл.* КНУРАВА'ЦЬ

КНЫ'САЦЬ *незак.* Варочаць, рыць. *Паршук кнысае, а ні есць.* Номікі Бабіц.; *гл.* к н о́ й с а ц ь.

КНЫЦЕ'ЦЬ *гл.* КНІЦЕ'ЦЬ

КНЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Поўзаць; кусаць. *Кныча нехта, шавяліцца за кайняром.* Івашкаўцы Смарг.; *гл.* к н і ц е́ ц ь.

КНЭБЛЁВАЦІ *незак.* Закладаць завалу. Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *kneblować* 'затыкаць рот; засоўваць'.

КНЭ'БЛІ толькі *мн.* Ціскі. *Кнэблі — ціскі такія.* Валынцы В.-Дзв. ◇ *Дзяржаць у кнэблях* — строга абыходзіцца. *Сядзець у кнэблях* — быць прыгнечаным, не мець самастойнасці. *Там жонка мужыка дзяржыць у кнэблях. Зяць у цёшчы ў кнэблях сядзіць.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* к н і п ц і.

КНЭ'БЭЛЬ *м.* Завала. *У старой хаці дзверы на кнэбэль замыкалісе.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *knebel* 'корак'; *гл.* к н і б е л ь.

КНЭП *выкл.* Хоп, цап. *Кнэп за нагу зубамі воўк!* Старыя Смільгіні Воран.

КНЮР *гл.* КНУР

КНЮРАВА'ЦЬ *гл.* КНУРАВА'ЦЬ

КНЯ'ВАЦЬ *незак.* 1. Мяўкаць. *Котка княваіць.* Магуны Паст. *Котка княвыіць.* Ракаўскія Швянч. 2. *перан. экспр.* Прасіць, прыставаць. *Книвала і княвала, кап купілі касцюм.* Лісна В.-Дзв. *Як возьмюць міску, княваіш, княваіш, кап прыняслі назат.* Валынцы В.-Дзв.

КНЯ́ГАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к н я́ в а ц ь 1. *Нейкі кот княгаіць. Чаго ты княгаіш? — малако стаіць, хлеба хочаш?* Мярэцкія Глыб.

КНЯ́ЎКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к н я́ в а ц ь 1. *Кошка княўкаіць.* Малькуны Ігн. *Кот княўкаіць.* Чычалі Швянч. *Котка княўкаіць.* Быстрыца Астр.; *парайн.* літ. *kniaũkti* 'тж'.

КОБ *гл.* КАБ

КО́БАЧКА, КО́ПАЧКА *ж.* 1. *анат.* Пад лыжачкай. *Кобачка пад грудзьмі, падвярнула пад кобачку.* Ністанішкі Смарг. *Пад грудзямі ў кобачкі баліць.* Ракаўскія Швянч. *Пад грудзьмі кобачка.* Магуны Паст. *У копачцы баліць мне пад грудзям.* Лайпушкі Ігн. 2. Ямачка. *Як скорчыш пальцы, дык кобачкі на руках, як сытыя рукі, а ў мяне адны косці.* Кураполле Паст.; *гл.* к е́ б к а.

КО́БЛЫКЬ, КО́ВБЫК *м. заал.* Тое ж, што і к е л б. *Худімо колбыкув наловымо!* Радастаў Драг. *Бало мы кошыком в каналы ковбыкув ловылы.* Сіманавічы Драг.

КО́ВАРАТ, КО́ВОРОТ *м.*, КО́ВАРАЦЬ *ж.* 1. Асвер. *Нат студняй быў коварат.* Сапоцкіна Гродз. *Коварат і баба.* Кіралі Шчуч. *Коварат — доўга жэртка і баба.* Мсцібава Ваўк. *Коварацъ з бабою і ключка ў колодзежы. Баба — у што коварацъ устаўлена.* Пацаўшчына Дзятл. *Коворот у калодзезі, шчо ключ прычэплены.* Смаляніца Пруж. *Калодзеж с коварацню.* Галубы Маст. 2. Брама, вароты. *Закрыты коварат, як едзе, то атчыняе. Не зачыняў коваратаў.* Баброўнікі Гарад.

КО́ГЦІ, КО́КЦІ *мн.* 1. Тое ж, што і к і п ц і 1. *Когці ў ката, сабакі.* Рагулішкі Даўг. *Когці ў каршуніхі.* Азяраны Раг. *У ката кокці такія, што абадраць можыць.* Пасіене Лудз. *Кокцямі хапая і дзярэ курыцу каршун.* Гемзы Шальч. 2. Пазногці. *У яе такія кокці вырашшы на пальцах.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *когти* 'тж'.

КО́ЖА *ж.* Скура. *З яго кожа ласкутамі злазіла.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* руск. *кожа* 'тж'.

КО́ЖАВЫ *прым.* Скураны. *Кожавыя хадачкі с кожы.* Швэды Вільн.

КО́ЖДЫ, КО́ЖНЫ *гл.* КА́ЖДЫ

КО́ЗАК *м.* Казачок. *Козак — танец. Скачэ только козака.* Навадворцы Васільк.

КО́ЗКА *ж. заал.* Страказа. *Козка з крыламі, на балоце лётае.* Любішчыцы Івац.

КО́ЗЛІК *м. заал.* Конік. *Козлік, у яго доўгія ношкі, я давала яму randaйкі скусываць.* Крэва Смарг. *Козлікі — скакуны, па траве прыгаюць.* Шкаўна Лудз.

КО́ЗЛІКІ толькі *мн. памянш.* 1. Падстаўныя ножкі ў выглядзе козлаў пад лаву, памост. *Козлікі паставіць, дошак накладзе.* Баброўнікі Гарад. 2. Падстаўка пад калодачны вулей.

*Калотку клалі наўскасы: адзін канец на зямлі, а пад другі патстаўлялі козлікі.* Мсцібава Ваўк.

КО'ЗЛЫ толькі *мн.* 1. Прыстасаванне для пілавання дроў. *Ёсць козлы пераносныя і козлы, убітыя ў зямлю. На козлах перарэзаў палена.* Рудня Астравітая Чэрв. *На козлах дрова пілуюць.* Паляцкішкі Воран. 2. Апора ў выглядзе перакрыжаваных слупкоў. *Палок быў каля печы на козлах.* Малахоўцы Бар.

КОЗЛЫ' *мн. бат.* Казялец. *Козлы — высокія жоўтыя краскі на лугу.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КО'ЗЫТ *м.* Козыт. *Баюся я козыту.* Малахоўцы Бар. *Ён козыту баіцца.* Жылі Іўеў. *Казытае мене, баюся я козыту.* Лука Нараўк.

КОЗЭ'ЛЕЦЬ *м. бат.* Васілёк. *В жыті мнуого козыльцю вырослo.* Курашэва Чыж.

КО'ЙРАЧКА *ж.* Ляўша. *Мой дзяцька ўсё с койрачкі рабіў: мастравау, санькі рабіў, яго і прызывалі койрачка.* Малькуны Інг.; *параўн. літ.* kairỹs 'тж'.

КО'КАТ *м.* Тоўсты сук у вілаватым дрэве. *Раздзяліўся ствол на адзін і другі кокат. Як раздвоіцца дзерава, то дзерава на два какаты́ раздваілася, з аднаго станя прыбываць і пойдзя другі кокат расці. Бывая ў хвойках вяршок зломіцца, тады пойдзя з ніжняга галля два ко́каты расці, два стволікі. Пашло дзерава ў два какаты́, на два какаты́.* Азяраны Раг. *Вот хвоя: два како́ты велікія.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КО'КАШКІ, КО'КАШЫ, КО'КІШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КО'КЛІ *мн.* Тое ж, што і к а́ ф л я. Чычалі Швянч.; *параўн. літ.* kõkliai<ням. *Kachel* 'тж'.

КО'КЛЮШ *м. мед.* Коклюш. *Коклюш дванаццаць нядзель дзяржыць, як зойдзіцца дзіця і ўмірая.* Кіралі Шчуч. *Коклюш б'е, аж сінее дзіця.* Лука Нараўк. *Як вайна пачаласа, то хварэлі на коклюш.* Крынкі Крын.

КО'КНУЦЬ *зак. экспр.* Памерці, забіцца. *Я с печы звалілася ды пабілася, за маленькім не кокнула.* Дзераўное Стаўб.

КО'КЦІ *гл.* КО'ГЦІ

КО'КШНУЦЬ, КО'ЎШНУЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, выцяць. *Кокшнула венікам і муху забіла. Глядзі, па балючаму пальцу ня коўкшні!* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *káukšnoti* 'тж'.

КО'Л *м.* 1. Кол, шост. *Кол нада зачасаць.* Масілавічы Сл. *Я табе калом па галаве!* Лоск Валож. *Я тады кала́ па ём* [ваўку]. *Калы ўб'юць і віткамі заўюць.* Грыкені Вільн. 2. Кій, палка для падпоры. *Калом падпіралі велькі навой. Калы паставіць і падвесіць калыску на полі.* Старыя Смільгіні Воран.

КО'ЛА *н.* 1. Кола. *Кола ў возе.* Кіралі Шчуч. *Кола апкоўваецца шынай.* Вялікія Баяры Шчуч. *Колы былі драўляныя.* Грыкені Вільн. *Колы былі таксама дзеравяныя, акованы жа-*

*лезам.* Альхоўка Навагр. 2. толькі *мн.* Воз. *Колы драўляныя, на іх едуць.* Грыкені Вільн. *У пуні ставілі колы.* Старыя Смільгіні Воран. *Дай ты колаў саломы прывесці!* Гемзы Шальч.∇ *Бягуць чатыры браты, адзін аднаго даганяюць і ніколі не дагонюць* — колы ў возе. Саланое Віл. 3. Светлы круг вакол месяца. *Калі кола ад месяца далёка, то будзя ў дватры дні дошч, а ежэлі блізка, то дошч на заўтра. Гэта іменна прымета.* Гемзы Шальч.

КО'ЛАМАЗЬ *ж.* Каламазь. *Купяць коламазь — у бляшанку і стаіць.* Малахоўцы Бар.

КО'ЛАС *м.* 1. Колас. *Выплывае колас жыта, пшаніцы, аўса.* Відаўцішкі Вільн. 2. *мн.* Верхняя частка снапа. *Возьміш за каласы і трасеш куль.* Саланое Віл.

КО'ЛАТ *м. рыб.* Доўгі шост, якім заганяюць рыбу ў сетку. *Колат — палка такая, патоўшчаная на канцы, таўчы* [заганяць] *рыбу.* Саланое Віл. *Колат — палка, якой заганяюць рыбу ў таптуху.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

КО'ЛАТЫ *дзеепрым.* Праколаты. *У каждай дзяўчыны колатыя вушы.* Ахрэмаўцы Брасл.

КО'ЛАЦІНА *ж.* Праколатае месца ці разрэз на шыі забітай жывёлы. *Колаціну абразаюць, не ядуць.* Кураполле Паст.

КО'ЛАЧКА *н. памянш.* Кружок, лустачка. *Адно колачка калбасы з'ела — і не дабрыцца.* Граўжышкі Ашм.

КОЛГОТА' *ж.* Клопат, турботы. Азарычы Пін.

КО'ЛДРА *гл.* КО'ЎДРА

КОЛЕ'ЙКА *гл.* КАЛЕ'ЙКА І

КОЛЕ'НЦЫ *гл.* КАЛЕ'НЦЫ

КО'ЛЕСЦІК *м.* Спадніца з даматканага палатна. *Колесцік — спадніца з белага палатна, яе надзевалі наверх.* Кузьмічы Люб.

КО'ЛЕШКІ *мн.* Тое ж, што і к а л ё н ь к і. *Трэба було на колешках выстоять.* Азарычы Пін.

КО'ЛІКІ *гл.* КО'ЛЬКІ

КОЛІ'СЕЧКА *прысл.* Калісьці. *А колісечка нам нэ было гэтак.* Смаляніца Пруж.

КО'ЛІСЬ, КО'ЛЕСЬ *гл.* КАЛІ'СЬ

КО'ЛІСЬНІ, КО'ЛІШНІ, КОЛІШНЫ' *прым.* Даўнейшы, стары. *Спэвают колісьні пэсьне.* Горск Бяроз. *Колісьні бабы знают.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Вона старая, колісьнэ показкі знае.* Горск Бяроз. *Вона росказвае колісьнэ байкі.* Смаляніца Пруж. *То колішня байка.* Навасёлкі Свісл. *Шчэ колішнэ слова.* Горск Бяроз.

КО'ЛКА І *ж.* Тое ж, што і к а л а ц ё. *Колка ўзяла мяне.* Лука Нараўк.

КО'ЛКА ІІ *н.* Абруч. *У буч колка ставіцца, кап пукаты быў.* Быстрыца Астр.

КО′ЛКАСЦЬ *ж.* Тое ж, што і к а л а ц ё. *Колкасць ходзіць па целу.* Магуны Паст.

КО′ЛКІ *мн.* Тое ж, што і к а л а ц ё. *Пад грудзі колкі даюць.* Мярэцкія Глыб. *Колкі у грудзях.* Быстрыца Астр. *Колкі мне патходзяць.* Граўжышкі Ашм.

КО′ЛКО *н.* Тое ж, што і к а л а ў р ó т. *На колко пралі.* Каўняны Гродз.

КО′ЛО *гл.* КАЛЯ′

КОЛО′ДА *ж.* Абрубак тоўстага бервяна, на якім сякуць што-н. *Дрова рубают на колодзе.* Горск Бяроз.

КОЛО′ДКА *ж.* 1. Драўляная аснова, у якой замацоўваецца шпень матавіла. *Кійка становлят в колодку, крыла накладают, а на крыла накладают мотка і розматвают.* Горск Бяроз. 2. Калодка ў коле воза. *У колодку спіцы ўбіваюцца.* Калясное Міхал.

КОЛО′ДЫЦЯ *ж.* Тое ж, што і к о л ó д к а 2. *Колодыця ў колісовэ, грязь по самэ колодыці.* Дзмітравічы Кам.

КОЛО′ДЭЗЬ *гл.* КАЛО′ДЗЕЗЬ

КОЛУПА′ЦІ *гл.* КАЛУПА′ЦЬ

КОЛХО′ЗНЫ *гл.* КАЛХО′ЗНЫ

КО′ЛЦА *н.* Кружок, лустачка. *Дай мне колца кілбасэ!* Кіралі Шчуч.

КО′ЛЫСЬ *гл.* КАЛІ′СЬ

КОЛЫ′ШКА *ж.* Калыска. *Колышка на вэроўках вісэла.* Смаляніца Пруж.

КО′ЛЬБА *ж.* 1. Вал з ручкай, пры дапамозе якога дастаюць ваду са студні. *Ціпер студні на кольбе, кольбай воду дастаюць.* Сапоцкіна Гродз. 2. Прэнт з ручкай, на які насаджваецца тачыла. *Кольба ў тачыле, яе трэба круціць і гастрыць сакеры, нажэ.* Мсцібава Ваўк. 3. *ткац.* Кола навоя ў кроснах. *Кольба ў навойцы, кап палатно накручваць.* Навасёлкі Свісл. 4. Ручка, рычаг у іншых прыладах. *Кольба — чым круцілі кругелькі* [матавіла]. Мсцібава Ваўк. *Вінда дзелаецца із двух дручкоў, устаўляецца кольба, як у калодцы, прыцэплівают ланцугі, зачэплівают за браўно і падцягвают.* Лука Нараўк.; *параўн.* ням. *Kolben* 'поршань'.

КО′ЛЬВЕ, -КО′ЛЬВЕК *прысл.* 1. Калі-н. *А гэта кольве акажыцца.* Ракаўскія Швянч. 2. У выразах: *што-кольвек* — што-н., *як-кольвек* — як-н. *Добра купіць што-кольвек.* Крэва Смарг. *Даставайця як-кольвек.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *jakkolwiek* 'як-небудзь'.

КО′ЛЬКА I *гл.* КО′ЛЬКІ

КО′ЛЬКА II *ж.* Тое ж, што і к а л а ц ё. *Такая войстрая колька ў сэрца.* Груздава Паст. *Колька колола, як поставілі банкі, так і полепшало.* Горск Бяроз.

КО′ЛЬКІ, КО′ЛЬКА III, КО′ЛІКІ *займ.* 1. Колькі. *Колькі ён мая гадоў?* Ахрэмаўцы Брасл. *А колька рублей заплаці-*

*ла?* Ністанішкі Смарг. *Колька славоў запісалі?* Рыбчына Віл. 2. Некалькі. *Колькі раз давала ніць.* Гемзы Шальч. *Колькі рас хадзілі ў лес.* Парэчча Гродз. *Яшчэ колькі дней, і пашлі б авечкі ў поля.* Магуны Паст. *Разоў колька чуць, здэцца, ня заб'е.* Цеплень Уздз. 3. у знач. *прысл. ко́лькі, ко́лікі.* Многа часу, з таго часу. *Колькі я пасідзела ў больніцы!* Смаляніца Пруж. *Колікі я помню, то нэ говорылі так.* Тухавічы Лях.

КО'ЛЬНУЦЬ *зак.* Кальнуць. *А тады як кольніць, як іголкай хто, такая войстрая колька ў сэрцы.* Груздава Паст. *Так кольніць хвароба.* Жодзішкі Смарг.

КО'ЛЬЧЫКІ I *мн.*, КО'ЛЬЧЫК *м.* Завушніцы, завушніца. Грыкені Вільн. *Кольчыкі купіў.* Снягяны Смарг. *Кольчыкі ў вушы, у бліночкі ўводзяць.* Солы Смарг. *Кольчыкі ў вушы ўцягвалі.* Старыя Трокі Трак., Дакудава Лід. *Кольчыкі да вушэй чаплялі.* Новікі Гродз. *Кольчыкі насілі, адзін кольчык згубіла.* Старыя Смільгіні Воран. *Якія файныя кольчыкі ў цябе!* Галубы Маст. *Трэба купіць кольчыкі і ўвясці, бо вушы пракалола. Згубіла кольчык, адзін астаўся.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *kolczyki, kolczyk* 'тж'.

КО'ЛЬЧЫКІ II *мн.* Абручы. *У буч кольчыкі ўстаўляюць дзеравяныя.* Рагулішкі Даўг.

КОЛЮ'ШКІ *мн.* Ігліца. *У ёлы колюшкі.* Дзмітравічы Кам.

КОЛЯ'ВЫ *прым.* Калючы. *Дрот колявы.* Азарычы Пін.

КОЛЯДОВА'ТЫ *незак.* Калядаваць. *На коляду калядовале.* Дзмітравічы Кам.

КО'ЛЯДЫ, КАЛЯ'ДЫ, КАЛЁДЫ *мн. рэліг.* Каляды. *На коляды спекла пірох.* Вялікія Баяры Шчуч. *Варажылі дайней, як коляды заходзілі.* Старыя Смільгіні Воран. *На коляды гулялі.* Альхоўцы Лях. *На коляды каўбасу гатовяць.* Баброўнікі Гарад. *На каляды варат куццю, кісель, грушы.* Лука Нараўк. *Каляды — рочна свята.* Быстрыца Астр. *О колядах на другі дзень прыехаў.* Смаляніца Пруж. *На калёды многа зорак.* Палік Барыс.∇ *Калі коляды на вадзе, то Казімера на лядзе* — прыкметы на пагоду. Бакшты Іўеў. *Як зорачак многа ў каляды — будзя грыбоў многа.* Лапічы Асіп. *Ад каляд да Новага года дайней не шылі, іголкі папрачуць, кап не было наверсе. Калі пасцель не выходзіла ў каровы пасля цялення, то казалі, што гаспадыня калядмі прышыла — было такое павер'е.* Кіралі Шчуч. *Каляды — бяды.* Ахрэмаўцы Брасл.

КО'ЛЯК *прысл.* Калісьці. *Коляк ні гаварылі так.* Солы Смарг.

КО'ЛЯР, КО'ЛЕР, КАЛЁР *м.* Колер. *З мочанага лёну палатно лехча ткаць, лепшы коляр.* Магуны Паст. *Вот харошы коляр у гэтых ніцях!* Кіралі Шчуч. *Такі ладны колер!* Швэды Вільн. *Накшага коляру хустка.* Рыбчына Віл. *Тасёмкі былі розных калёраў.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kolor* 'тж'.

КО'ЛЯСО *гл.* КАЛЯСО'

КОМ *м.* 1. *кулін.* Бульбяная каша. *Дзіця кому просіць.* Міратычы Карэл. *Дайней варылі ком з канапліма.* Бакшты Іўеў.; *гл.* к а м ы́. 2. Камяк чаго-н. *Ком воску прадаў.* Гемзы Шальч.∇ *Стаіць у кутку ком, што не падыміць і конь* — загадка пра печ. Саланое Віл. *З малаком і ком зямлі праглоціш.* Мішневічы Шум. ◇ *Ко́мам-ло́мам* — брудна, непрыбрана. *Двор пасля зімы комам-ломам, трэба прыбраць.* Буцэвічы Мін.

КОМБА'ЙН *гл.* КАМБА'Й

КОМБІНЗО'Н *м.* Камбінезон. *Ны накладай комбінзона!* Дзмітравічы Кам.

КОМБІНКО'РМ *м.* Камбікорм. *Ня продае мукі, хватае комбінкорму.* Альхоўцы Лях.

КО'МЕЛЬ *гл.* КО'МЛЯ

КО'МЖА *ж. царк.* Доўгае, з шырокімі рукавамі адзенне рэлігійнага культу. *Паслугачы ў белых комжах адзеты.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *komża* 'стыхар'.

КО'МІН *м.* 1. Комін. *Птушкі на коміне сядзелі.* Саланое Віл. *Згарэла вёска, толькі камяны асталіся.* Івашкаўцы Смарг. 2. Адтуліна ў коміне, праз якую выходзіць дым. *Ляцяць с коміна іскры. У коміне есь люфты.* Баброўнікі Гарад. *Юшка, што комін закрываюць.* Грыкені Вільн.

КО'МІНАК *гл.* КАМІ'НАК

КО'МКАЦЦА *незак.* Камячыцца. *Спадніца будзіць добрая, ня будзіць комкацца.* Ёдлавічы Брасл.

КО'МКАЦЬ *незак.* Камячыць. *Будзіць комкаць адзежу.* Мішневічы Шум.

КО'МЛЯ *ж.*, КО'МЕЛЬ *м.* Тое ж, што і к л о́ м л я. *Ловаюць рыбу комляй, комлю плетуць з лозы, з дуба, бы кош.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Комля — сетка, нацягнутая на дугу.* Вецярэвічы Пух. *Комель робіцца з лазы рыбу лавіць, шыракаваты, у канец вужэй, як васкавік, што сыры робяць.* Кузьмічы Люб.

КО'МНАТА *ж.* Пакой. *Яму комната дана.* Паляцкішкі Воран. *Ні велька комната.* Альхоўка Навагр. *У іх дзве комнаце і кухня.* Мсцібава Ваўк. *На тры комнаці меш дрова купляць.* Старое Сяло Зэльв.; *парайн.* руск. *комната* 'тж'.

КОМНЯКІ' *мн.* Тое ж, што і к о м 1. *Комнякэў нэ хочэмо, прыеліса комнякі.* Азарычы Пін.

КОМО'РА *гл.* КАМО'РА

КО'МПЕЛЬ *ж.* Купальня. *Была компель, дзе паны купаліся.* Паляцкішкі Воран.; *парайн.* польск. *kąpiel* 'купанне'.

КО'МСА *ж.* Камяк. *Калі рашчыняеш хлеп і ўльеш гарачае воды, хлеб будзя, як комса, клеіцца.* Крэва Смарг.

КОМСЦЬ *м.* 1. Кулак. *Кулак сагне — то комсць.* Парэчча Гродз. 2. Мера глыбіні на шырыню далоні. *Дошч, пэўна, на*

*комсць зямлю прамачыў.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *kùmštis* 'тж'.

КО'МШАЦЬ *незак. экспр.* Жаваць. *Комшаю, комшаю — ніяк не жжаваць мяса — зубоў німа.* Валынцы В.-Дзв.; *парайн.* літ. *kim̃šti* 'пачыняць'.

КОНА'ЦІСЕ *незак.* Цягнуць жэ́рабя на першынство перад пачаткам дзіцячых гульняў. *Дієті конаюцце, которэ начнэ ігру.* Курашэва Чыж.

КО'НАУКА *ж.* 1. Драўляная пасудзіна з доўгай ручкай. *Конаўка была дзеравянная, у ей дзірка пракручана з аднаго боку вышэй, а з другога — ніжэй, куды ўстаўлялі цаўё доўгая; конаўкай гаршкі ў печы далівалі. Конаўкі выраблялі, выдоўбавалі з грушкі, з яблыны.* Кіралі Шчуч. *Конаўка — пасудзіна далівадь катлы.* Данілавічы Дзярж. *Конаўку дзеравянную паставіў хтосьці на гарачае, яна і рассохлася.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Металічная пасудзіна пераважна для піцця вады. *Конаўка з бляхі была.* Каўняны Гродз. *Конаўка жалезная ці медная была.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дай конаўку, вады нап'юся!* Ухвала Круп.; *гл.* к á н а; ДАБМ, карта № 248.

КО'НДРА *гл.* КО'ЎДРА

КО'НІК I *м.* 1. *памянш.-ласк.* да к о н ь. Конік. *Дайней валамі араць, а конік — паехаць у мельніцу.* Швэды-Вільн. 2. Карак у каня. *Конік ля сядзёлкі ў каня, такое павышэнне карка.* Вялікія Баяры Шчуч. 3. Планачка з выемкай, прыбітая да сцяны, куды закладваюцца памытыя лыжкі. *У кухні на лышкі ліштва прабіта. Лышкі палажы ў конік!* Старыя Смільгіні Воран.

КО'НІК II *м.*, КО'НІКІ *мн. заал.* Конік. *Конікі на лугу скачуць.* Лоск Валож., Рыбчына Віл. *Конікі на лонцы скачуць.* Новікі Гродз. *Конікі скачуць на сенажаці.* Дакудава Лід. *Конікі большыя зялёныя, як дзыгне далёка.* Кіралі Шчуч. *Конікі зялёныя такія.* Старыя Смільгіні Воран. *Конікі е, іх лісэ ловяць.* Вецярэвічы Пух.

КО'НКУЛЬ *м. бат.* Куколь. *Конкуль расцець у жыці — такая шышка, а там семяно.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* польск. *kąkol* 'тж'.

КО'ННА *прысл.* Вярхом на кані. *Ён конна праз дзярэўню праехаў.* Магуны Паст. *Сеў конна і паехаў, дарога лядачая.* Кіралі Шчуч.

КО'ННЫ *прым.* у знач. *назоўніка.* Коннік. *А пасля едзе адзін конны, я вышла ваду браць.* Веркалы Пух.

КОНОВЭ'РТ *гл.* КАНВЭ'РТ

КОНОПА'ТЫЙ *прым.* Васпаваты. *Конопатый чоловек после оспы.* Азарычы Пін.; *парайн.* літ. *kanapė̃tas* 'вяснушкаваты'.

КОНОПЛІ'СКО *гл.* КАНАПЛІ'СКО

КОНОПЛЯ′НІК *м. заал.* Верабей. Малыя Аўцюкі Калінк., Ісерна Слуц.

КО′НСКІ, КО′НЬСЬКІ *прым.* Конскі. *Ён меў конскую сілу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Конскі воўк убіўся.* Дакудава Лід. *Конскі ґіль кусаецца моцна.* Гемзы Шальч. *Мурог — сена конская.* Стральцы Гродз. *Коньська торба.* Смаляніца Пруж.

КОНТОВНІ′ЦЯ *ж.* Цяслярскі трохвугольнік. *Прынесі контовніцю, зобачым, чы угло добрэ зроблянэ.* Курашэва Чыж.

КОНТРАКТОВА′НЕ *н.* Заключэнне дагавору па кантрактацыі. *Солтыс за контрактоване пара злоты мае.* Курашэва Чыж.

КОНЦЫ′ *гл.* КАНЦЫ′

КОНЧЛЯ′ *н.* Слабы, худы, змарнелы конь. *За туолькі грошы навэт кончлята нэ купіт.* Курашэва Чыж.

КО′НЧЫЦЦА *зак. экспр.* Памерці. *Кончыцца дзіця крычачы.* Паляцкішкі Воран. *Бывала, кап хто на вёсцы раней мяне ўстаў — я п кончылася.* Саланое Віл.∇ *Ні ад нас пачалоса, ні ад нас кончыцца.* Парэчча Гродз.

КО′НЧЫЦЬ *зак.* Даесці што-н. *На, рыс кончы!* Ністанішкі Смарг.

КОНЫ′СКО *гл.* КАНІ′СКА

КОНЬ I *м.* 1. Конь. *Нада каня запрэч.* Пасіене Лудз. *Пару коні запраглі.* Істра Лудз. *Ацёсы надзяваюцца, коб воз добра ішоў, лёгча каневі здзелаць паварот.* Лука Нараўк. 2. у знач. *прысл. канём, каньмі, коньмі.* На возе, конна; плугам. *Канём ехаў.* Валынцы В.-Дзв. *Едуць канём.* Жылі Іўеў. *Канём паеду.* Лоск Валож. *Яны канём капалі бульбу.* Лісна В.-Дзв. *Канём павязём.* Старыя Смільгіні Воран. *Паедзям канём!* Вялікія Баяры Шчуч. *Не канём ехаці, а машынаю.* Парэчча Гродз. *Кап канём паехаў ды нарвоў бабоўніку.* Кузьмічы Люб. *Паехалі за таварам канём.* Малахоўцы Бар. *Хто канём паехаў?* Мсцібава Ваўк. *Буду канём вазіць, вазоў два будзе гнюю.* Альхоўцы Лях. *Каньмі вазілі.* Гемзы Шальч. *Я тры-чатыры разы коньмі абыйду.* Швэды Вільн. *Коньмі ездзілі.* Лоск Валож., Альхоўцы Лях.∇ *Стары конь з баразды не звядзець.* Валынцы В.-Дзв. *Быў конь, ды з'ежджаны.* Кураполле Паст. *Быў конь, ды з'ездзіўса.* Парэчча Гродз. *Як каню перакаціцца, дык яму заснуць.* Ухвала Круп. *Баба была і на кані і пад канём —* жыла добра і блага. Саланое Віл. *Ня вер каню ў дарозе, а жонцы дома.* Кураполле Паст.

КОНЬ II *м. астр.* Тое ж, што і К а л я с н і ц а. *Нада ўставаць, ужо Конь павярнуўся.* Лісна В.-Дзв.

КО′НЬКА *ж.* Конка. *Даўней конька хадзіла ў Вільні — пара конікаў цягнулі; пяць капеек заплаціў, і едзь; я на коньцы ездзіў.* Швэды Вільн.

КО′НЬСЬКІ *гл.* КО′НСКІ

КОПА′ЛЬНЯ *ж.* Шахта. *З нашого сёла колькох хлопців выехало на работу в копальнях.* Курашэва Чыж.

КО′ПАНІКІ *гл.* КО′ПАНКІ

КО′ПАНКА *ж.* Сажалка. *У копанцы мачылі пяньку.* Рудня Астравітая Чэрв. *Конопле возылі мочыты в копанку.* Горск Бяроз. *Капалі копанкі і пранікамі плацце пралі.* Кузьмічы Люб.

КО′ПАНКІ, КО′ПАНІКІ толькі *мн.* Тое ж, што і капані́. *Копанкі рабілі с корэнняў.* Вязынка Маладз. *Копанікі былі, разразаліся на два палазы.* Рудня Астравітая Чэрв.

КО′ПАНЬ, КО′ПЕНЬ *ж.* 1. Тое ж, што і ко́панка. *Копань дайно ў нас, вады ў ёй многа.* Мішневічы Шум. *Мачылі ў копень пяньку.* Мачаск Бярэз. 2. *зб.* Агульная назва выкарчаваных карчоў. *Колькі копані выкапалі, як лес выкарчоўвалі, трэба было ачысціць усё.* Міратычы Карэл.

КОПА′ТЫ, КОПА′ЦІ *гл.* КАПА′ЦЬ

КО′ПАЦЦА *гл.* КАПА′ЦЦА

КО′ПАЦЬ *м.* Капыт, край капыта. *Копаць заламала карова.* Рудня Астравітая Чэрв.

КО′ПАЧКА I *ж. памянш.* 1. Купінка. *Жаваранак пат копачкай зямлі гняздзечка робіць.* Саланое Віл. 2. Ямачка. *Маленькая копачка на зямлі — залезіць, абагрэіць і выводзіць дзяцей.* Саланое Віл. *Калі ставілі хату, у копачку пакладзеш пяць рублей і залатнік, кап грошы вяліся.* Магуны Паст.; *гл.* ко́бачка.

КО′ПАЧКА II *ж. памянш.* Малая ўкладка снапоў льну на полі. *Лён ставілі ў копачкі.* Грыкені Вільн.

КОПА′ЧКА *ж.* Бульбакапалка. *Купів трактора і копачку.* Курашэва Чыж.

КО′ПЕНЬ *гл.* КО′ПАНЬ

КОПЕ′Ц *гл.* КАПЕ′Ц

КОПІСКЭ′ *мн.* Копы сена. *Копіскэ трэба варочаць.* Чорная Весь Касцельная Чорна-Беласт.

КОПІ′ЦА *гл.* КАПІ′ЦА

КО′ПКА I *ж.* 1. Малая ўкладка сена на полі. *Копка сена стаяла.* Чычалі Швянч., Беняконі Воран., Мсцібава Ваўк. *Да копкі сена не магла дайсці.* Рагулішкі Даўг. *Копку сена забралі.* Дзяніскавічы Ганц. *Накасілі дзесяць копак на пяці гаспадароў.* Ністанішкі Смарг. *Копкі сена зробім.* Малькуны Ігн. *У копкі складаюць сена.* Відаўцішкі Вільн., Ёдлавічы Брасл. *Сена ў копкі ставілі.* Беняконі Воран. *Зложыла сена ў копку. Сена з валоў у копкі ставяць.* Парэчча Гродз. 2. Малая ўкладка снапоў на полі. *Копка — дзесятка снапоў, у ёй шапка.* Грыкені Вільн., Чычалі Швянч. *Копкі жыта па дзесяць снапоў ставілі. Ячмень і авёс ставілі ў копкі па шэсць снапоў.* Кемялішкі Астр.

КО′ПКА II *ж.* 1. Бакавая частка прыпека, куды выгортва-

юць жар, попел. *Трэба жар выгарнуць у копку. Загартвалі ў копку жар.* Рыбчына Віл. *Попіл выгортвалі ў копку. Яна нажы ў копку зарыла ў попел, каб не нашоў.* Саланое Віл. 2. Пячурка. *Копка з боку печы і ўвярху сушыць рукавіцы, панчохі.* Гайна Лаг. 3. Адтуліна ў жорнах, куды засыпаюць зерне. Быстрыца Астр. *Копка ў жорнах, у копку сыпіш збожа і меліш.* Саланое Віл. 4. *перан. абразл.* Мурза, бруднюха. *Копка замурзаная ходзіць.* Кіралі Шчуч. 5. *анат.* Тое ж, што і к о б а ч к а 1. *Копка пад грудзьмі.* Ракаўскія Швянч., Граўжышкі Ашм. *У самай копцэ баліць.* Гемзы Шальч. 6. Бакавая ўпадзіна ў каровы. *Збоку копка ў каровы.* Кураполле Паст. 7. Ямачка на твары. *Яна як смяецца, на шчаках — копкі.* Солы Смарг. ∇ *Вочы — копкі* — пра зайздроснага. Саланое Віл.

КО'ПКАЦЦА *незак. экспр.* Павольна ісці, правальвацца. *Як снег разбіты, перасыпаецца, конь копкаецца, яму цяжка ісці.* Гемзы Шальч.

КО'ПКІ *прым.* Рассыпісты. *Копкі на дарозе снех, разбіты, рассыпаецца, копкая дарога, каню цяшка ісці.* Гемзы Шальч.

КО'ПНУЦЬ *зак. экспр.* Забіць. *Баюся, кап снарад мяне не копнуў.* Гемзы Шальч.

КОПНЭ'ТЭ *незак.* Складваць у копы. *Буду сено копнэтэ.* Дзмітравічы Кам.

КОПР *м. бат.* Кроп. Жылі Іўеў.

КО'ПТА *гл.* КО'ФТА

КО'ПТАР, КО'ПТУР, КАПТУ'Р *м.* У выразах: *С ко́птарам, с каптуро́м* — вышэй берагоў, з верхам; *сесці ко́птурам* — верхам. *Брусніц назбірала поўная вядро с ко́птарам.* Лісна В.-Дзв. *Набрала ягад поўна вядро з каптуро́м.* Лісна В.-Дзв. *Насыпала гарнец гарэхаў с каптуро́м.* Гемзы Шальч. *Індык на мяне ко́птурам сеў, хай яго задаўкі бяруць!* Галубы Маст.

КО'ПТАЧКА *ж. памянш.* да к о́ п т а. *Хусткі і коптачкі робяць пруткамі.* Дзяніскавічы Ганц.

КОПТІ'ЕНЕ *н.* Копаць. *От коптіеня с пэчы ціела хата почэрніела.* Курашэва Чыж.

КОПТУ'Р *гл.* КАПТУ'Р І

КО'ПЧЫК *м. памянш.* 1. Курганок, насып. *Копчык зямлі насыпаў.* Ухвала Круп. *Памрэ свой хто, пахаваюць, каля яго займая для сябе месца, копчык робіць.* Малахоўцы Бар. 2. Невялікі капец. *Бульбу ў копчык закапалі.* Азяраны Раг.

КО'ПШКАЦЦА *незак. экспр.* Корпацца, марудзіць. *Ана копшкалася на вірандзе, а гнездо с пэнцам упала на голаву.* Скрудалена Даўг. *Як устаня, і копшкаецца: пакуль ганучы найдзя, пакуль абуіцца. Што ты там длуга копшкаесся, пара выходзіць на работу!* Гемзы Шальч. *Копшкалася каля дому, ні работа, ні аддуха.* Курополле Паст.

КОР *м. мед.* Адзёр. *На кор хварэлі, дзеці атсыпаліся.* Саланое Віл. *Дытя захворэло на кор.* Горск Бяроз.; *парайн.* руск. *корь* 'тж'.

КО'РАБ, КО'РАП *м.* Кораб. *Карабэ с саломы плеценные, кругловатыя былі, клалі там лахманэ.* Баброўнікі Гарад. *Вялікія карабы былі, ссыпалі муку. Карабы былі плеценыя для мукі, с саломы плялі.* Індра Красл. *Корап рабілі: злупяць кару з ліпы і шыюць корап, дно с кары патшываюць, бок сшываюць, сшывалі лыкамі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* ням. *Korb* 'кораб, карзіна'.

КО'РАК *м.* Корак, затычка. *Жоўценькі корак, і тым коркам затыкалі бутэлькі.* Кіралі Шчуч. *Корак выцягні с фляшкі!* Жодзішкі Смарг. *Коркам затыкалі бутэлькі.* Магуны Паст.; *парайн.* польск. *korek* 'тж'.

КО'РАНЬ I *м.*, КАРЭ'НЯ *зб. н.* 1. Корань, карэнне. *Корань у сасне бураком расцець.* Саланое Віл. *Слівы с кораня растуць.* Вецярэвічы Пух. *Каля самага кораня выкапаў ямачку.* Кіралі Шчуч. *Кветка пусціць корань — і аш нанiс. Абрубаў кораня, навыцягавалі карэняў пырэйца.* Баброўнікі Гарад. *Бобр нанясе карэняў, што возам не павязеш.* Швэды Вільн. 2. Настой з кораня. *Корані дзівасілу ад жывата п'юць.* Лісна В.-Дзв.∇ *Што расцець без кораня?* Ахрэмаўцы Брасл. *Шчо ростэ бэз кориня?* — камень. Дзмітравічы Кам.; *гл.* к а р э́ н ь 1.

КО'РАНЬ II *м.* Калодачны вулей. *Корань ліповы ставілі на дрэва, прыманьвалі пчол.* Саланое Віл.

КО'РАП *гл.* КО'РАБ

КО'РАТКА *прысл.* Коратка.∇ *Дзе коратка, там ірвецца, а дзе баліць, там б'ецца.* Ахрэмаўцы Брасл.

КО'РБА *ж. тэх.* 1. Вал з ручкай у розных прыладах. *Круцяць корбу, гаронцай вады паліваюц, патом пераціраюць — так валілі.* Старыя Трокі Трак. *Чым сечку кроілі — там корба.* Быстрыца Астр. *Корба каля студні, што ваду дастаюць.* Вялікія Баяры Шчуч. *У кола ўсаджваецца корба, бо кола не будзе круціцца без корбы.* Вецярэвічы Пух. *Корба ў калодзязі.* Малахоўцы Бар. 2. Свердзел. *Корбай дзюркі круцяць.* Магуны Паст. *Корба — свярло з ручкай.* Дакудава Лід. *Корба — інструмент дыркі круціць.* Індра Красл.; *парайн.* польск. *korba* 'ручка'.

КО'РДЛА *гл.* КО'ЎДРА

КОРЖ *м.* 1. *кулін.* Праснак, перапечка. *Пяклі каржы з льнянога семя, яны сытныя.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Зляжалае сена. *Як зложыш сыраватая сена, пляснівая сена каржамі падзелаецца. Цэлы воз каржоў прывёз.* Азяраны Раг.

КО'РЖЫК *м. памянш.* да к о р ж 1. *Коржыкі з мукі пяклі.* Альхоўцы Лях. *Коржыкаў напячэш і ў малако кідаеш — смачна.* Азяраны Раг.

КО'РКА *ж.* Абалонка на паверхні зерняў збожжа. *Як на-*

*праста рож молата — ена с коркай, а перачышчаюць — корка атходзіць.* Філіпаўцы Красл.

КО'РКІШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КО'РЛА *гл.* КО'ЎДРА

КОРМ *м.* Корм. *Корму хватая для кароў.* Азяраны Раг. *Летам назапасілі кармоў, хваціць на зіму.* Кіралі Шчуч. *Корму сыпнула курам.* Азяраны Раг.

КО'РМА *ж.* Тое ж, што і корм. *Кормы нет.* Малькуны Іги.

КО'РМЛЯНЫ *дзеепрым.* Кормлены. *Яшчэ скаціна ня кормлена.* Ракаўскія Швянч.

КО'РМНЫ, КО'РМНЫЙ *прым.* Які адкормліваецца на забой. *Кормная свіння, яе будуць калоць к калядам.* Саланое Віл. *У нас кормныя свіні і надворныя або племяныя.* Груздава Паст. *Кормны парсюк.* Воўкуш Ліпск. *Кормный парсюк быў.* Янова Рас.

КОРНА'ТЫ *гл.* КАРНА'ТЫ

КОРО'БКА *ж.* Тое ж, што і каро́бка. Дзмітравічы Кам.

КОРО'ВА *гл.* КАРО'ВА

КОРОВА'ЙННІЦА *гл.* КАРАВА'ЙНІЦА

КОРО'СТА *гл.* КАРО'СТА II

КО'РПАЦЦА *незак. экспр.* Марудна рабіць што-н. *Чаго ты корпаешся там!* Магуны Паст. *Корпаюса і корпаюса каля хаты, і работа находзіцца.* Кузьмічы Люб.

КО'РПУШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КО'РСТАЦЦА *незак. экспр.* Забаўляцца. *Хваціць табе корстацца, ідзі дахаты!* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *kárstytis* 'тж'.

КОРТ *м. тэкст.* Корт. *Корт куплялі на штодзень насіць.* Сакаўшчына Валож.

КО'РУП *м.* Скінутая гадзюкай ці вужом скура ў час ліўкі. *Коруп скінуў уш.* Гемзы Шальч.; *гл.* ленібо.

КО'РФА *ж.* Кашолка. *Корфа з лазы плеценая. Цяпер корфы купляюць. Я купіла корфу да яблыкаў.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* ко́раб.

КОРХ *м.* Мера, роўная шырыні далоні ці кулака. *Даўней казалі: «Сплёў лапаць на тры корхі».* Кузьмічы Люб.; *гл.* комсць.

КОРЧ I *м.* 1. Пень з карэннем, вывернуты з зямлі. *Як выкапаюць пень — то корч.* Альхоўка Навагр. *У лесі зрэжэ хто хвою, і астаецца корч у зямле. Корч у сярэдзіне смольны. Даўней пайду выкапаю карча на лучыну.* Баброўнікі Гарад. *Даўней карчы капалі ўручную, цяпер ірвуць карчы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дастаюць карчэ з вады.* Вострава Маст. *Нада ў карчы ісці, як дроў няма.* Саланое Віл. *Павыцягавалі карчы.* Ёдлавічы Брасл. *Адныя карчы асталіся, алешнік вырубілі.* Альхоўцы Лях. 2. Куст. *Тут былі корчэ лозы — павыру-*

*балі. Богон ростэ корчамі.* Смаляніца Пруж. 3. Каліва з клубнямі, выкапанае з зямлі (пра бульбу, цыбулю і інш.). *Корч картоплі выкапала — добрая картопля.* Вецярэвічы Пух. *Вырвала корч цыбулі, трэ карэньчыкі і махры абломваць.* Дзяніскавічы Ганц. 4. *перан.* Пра акачанелага, нежывога; пра старога. *Некалі яго найдуць, як карча, нежывога.* Саланое Віл. *Ён сядзеў на возе, а пакуль прыехалі ў Тухавічы, ён карчом стаў.* Гарэлец Пух. *І гэты стары корч разгуляўся, яшчэ і яму трэба нешта.* Старыя Смільгіні Воран.

КОРЧ II *м. мед.* Сутарга, параліч. *У руку ўпадае корч.* Старыя Трокі Трак.

КО'РШАК, КАРША'К *м. заал.* Каршун. *Коршак куры давіць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Коршак палапаў куры.* Сакаляны Сакол. *Мусі, вашу курыцу каршак задзёр, бо пёро ляжыць на полі.* Яцаўляны Сідр.

КО'РШАСЦЬ *гл.* КО'ШАСЦЬ

КО'РШТАЦЬ *незак.* Варочаць дровы ці жар у печы. *Ні корштай у пячэ, бо жар пасыпяцца на падлогу.* Яцаўляны Сідр.; *гл.* к о́ р с т а ц ц а.

КОРЭНЬКОВА'ТЫ *прым.* Каржакаваты. *Вуон нэ высокі, але корэньковаты.* Курашэва Чыж.

КО'СІНА, КОСЫ'НА *ж.* Адзін волас. *Вырвала сівую косіну.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Одна косына нэ ўпадэ з головы.* Горск Бяроз.

КО'СКІ *мн.* 1. *памянш.* да к а с а́ I, 1. *Во якія тонкія коскі ў яе!* Быстрыца Астр. *Коскі заплецены дзве.* Гемзы Шальч. 2. Вычасанае льновалакно. *Начэшам гарсць лёну, коскі з адной і другой стараны.* Старыя Трокі Трак. 3. Узор на тканіне ў выглядзе косых радкоў, тканіна з такім узорам. *Ткуць коскі — ручнікі ў чатыры ніты.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КО'СО *прысл.* Коса. *Барана ішла косо.* Мсцібава Ваўк.

КОСОВЫ'ЦА *ж.* Касавіца. *Як косят, то звут косовыца.* Горск Бяроз.

КО'СТАЧКА *ж.* Ядро, семя, пакрытае цвёрдай шалупінай. *Костачка — ўсё ройна, як камянец, яе не раскусіш. У сліве костачку разаб'еш.* Баброўнікі Гарад.

КО'СТАЧКІ *мн.* Суставы пальцаў рукі, нагі. *Я стучу костачкамі.* Рагулішкі Даўг. *Пазбівала костачкі на руках.* Гемзы Шальч. *Ногі ў костачкох так круцяць ад хады.* Альхоўка Навагр.

КО'СТКА *ж.* 1. Косць. *Кухар нясе костку з мясам. Дайце мне костку з мясам!* Баброўнікі Гарад. 2. Кадык. *У яго пад горлам костка.* Вецярэвічы Пух. *Пад горлам костка.* Баброўнікі Гарад.

КОСТНІ'ЦЯ *ж.* Трупярня. *С костніці нэбуошчыка забралі.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *kostnica* 'тж'.

КОСТОПРА'В *м.* Той, хто ўпраўляе косць пры вывіхах.

*Колісь, як хто ўпадэ і порушыт куосточку, то ішлі до костоправа, вуон вправыт, поставыт на міесто.* Горск Бяроз.

КОСТРУБА′ *ж. абразл.* Неахайная жанчына. *То такая коструба, шчо дівітісе на йійе нэ хочэце.* Курашэва Чыж.

КОСТРУБА′Ч *м. абразл.* Неахайны мужчына. Курашэва Чыж.

КОСТРЫ′ЦА, КОСТЭРЫ′ЦА *гл.* КАСТРЫ′ЦА

КОСТУ′ХА *ж.* Смерць. *Я ўжэ стары, жду покуоль костуха прыдэ.* Курашэва Чыж.

КОСЦЬ *ж.* Косць. *Рыба мае гострыя косці і ест рыба без косці.* Баброўнікі Гарад. *Яна с касцей мяса абрэжа, заверніць — і ў попіл, то не порціцца.* Рагулішкі Даўг. ◊ *Выскачыць з касцей* — напружыцца, напяцца. *Бывала, лашадзёнка худзенькая, маленькая, воз бальшы — яна аж гатова выскачыць з касцей.* Мішневічы Шум.

КО′СЫ I, КО′СЫЙ, КАСЫ′ *прым.* Касавокі. *Ён косы быў.* Рудня Астравітая Чэрв., Вострава Маст. *Косая вока.* Саланое Віл. *Косый чалавек.* Ністанішкі Смарг.*Косыя вочы.* Жодзішкі Смарг. ▽ *У касога адно вака — у Альшаны, а другоя — у Ашмяну.* Граўжышкі Ашм.

КО′СЫ II *мн.* 1. Валасы. *Косы павырывала.* Бакшты Іўеў. *Трэбо прычэсаты косы.* Горск Бяроз. *Косы белые.* Азарычы Пін. *Косы зачасала на радочак.* Парэчча Гродз. *Косы — валасы.* Пасека Ст.-Дар., Масілавічы Сл. *Як схвачу — усе косы павырву.* Кузьмічы Люб. 2. Пляцёнка цыбулі. *Нада цыбулю паплясці ў косы.* Ёдлавічы Брасл. 3. Доўгія пёры ў пеўня. *У пеўня е косы, барада і шышка.* Азяраны Раг. *Косы ў пявуна ў хвасце.* Дзераўное Стаўб. 4. Ніткападобныя атожылкі ў некаторых раслін. *Агурке косы пускаюць.* Вецярэвічы Пух.

КОСЫ′НА *гл.* КО′СІНА

КОТ I *м. заал.* Кот. *Кот жывушчы.* Рыбчына Віл. *Дай котэві есці!* Вялікі Краснік Пруж.▽ *Ты, як той кот, адкуль быўшы — ды на сонейка.* Груздава Паст. *Ты нарабіў, як кот наплакаў.* Саланое Віл. *Кот есць пырнік — будзіць дошч.* Рагулішкі Даўг.

КОТ II *м.* Коўдра. *Як холадна зімой, яна котам апкруціцца і прадзець.* Рагулішкі Даўг.; *гл.* к о ц.

КО′ТАВАЦЬ *незак. біял.* Каціцца (пра казу, авечку). *Каза котавая.* Гемзы Шальч.

КО′ТАЧКА *ж. памянш.-ласк.* да к ó т к а. *Котачка прыхадзіла паесці.* Магуны Паст.

КОТВІ′ЦЯ *ж.* Калодачка ў верхнім камені жорнаў, куды ўсталяецца млён. *Котвіця пэнкла і млюон вылетів.* Курашэва Чыж.

КО′ТВІШЧА, КО′ТЛІШЧА, КО′ЦЬВІШЧА *н.* Месца, дзе пакачаўся конь, сабака. *Конская котвішча і сабачая котвішча, дзе сабака пакачаецца. Адны котвішчы, дзе коні кача-*

*юцца,— на пашні ці на пяску.* Рудня Астравітая Чэрв. *Конская котлішча — дзе конь пакачаўся; бывала, як ідом ці бягом цераз яго, дык плюніш на яго.* Азяраны Раг. *Конь нарабіў котлішчаў на пасеве, павыкачваў увесь пасеў.* Вецярэвічы Пух. *Котлішча сабачча, не ідзі на тоя места, дзе сабака пакачаўся.* Азяраны Раг. *Не трэба ступаць на конскае коцьвішча, бо лішаі нападуць.* Кузьмічы Люб.

КО'ТКА *ж.* Кошка. *Паросна котка.* Сакаляны Сакол. *Была ў мяне котка: акоціцца і пажрэць сваіх кацінят.* Рагулішкі Даўг. *Котка калбасы з'ела. Гэта котка і гадá не імела, як пачала пацукоў цягаць. Котка дзярэ дзверы.* Лоск Валож. *Котка акацілася.* Кемялішкі Астр. *Котка кяўкаіць.* Кураполле Паст. *Котка мурлыча.* Дакудава Лід. *Котка князвыіць.* Ракаўскія Швянч., Магуны Паст. *Котка мяўчыць.* Воўкуш Ліпск. *Котка курну спявае.* Быстрыца Астр. *Котка пільнуіць мышэй.* Жодзішкі Смарг. *Нехта мне нараіў котку. Котка вылактала малако.* Парэчча Гродз. *Аднесла котку ў Лойці.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *kotka* 'тж'.

КОТЛІ'НА *ж.* Катлавіна, нізіна. *В котліне жыто зусіем вымокло.* Курашэва Чыж.

КО'ТЛІШЧА I *гл.* КО'ТВІШЧА

КО'ТЛІШЧА II *н.* Сядзіба. *Там котлішча было маё, ды нічога не засталося.* Мачаск Бярэз. *Ён на сваём котлішчы сядзіць.* Міратычы Карэл.

КОТЛОВА'ТІСЕ *незак. экспр.* Забаўляцца, дурэць. *Дієті, нэ котлуйтэсе!* Курашэва Чыж.

КО'ТНА, КО'ТНАЯ *прым.* Цяжарная (пра некаторых жывёл і гадаў). *У нас кажуць — авечка котна і кошка котна.* Кіралі Шчуч. *Авечка котна.* Воўкуш Ліпск, Сакаляны Сакол., Кемялішкі Астр. *Котная кошка.* Пацаўшчына Дзятл. *Як укусіць котная гадзіна, то малака квасьнага нада напіцца.* Малькуны Ігн.

КОТУ'Х *м.* Тое ж, што і к а т у́ х. Дзмітравічы Кам.

КОТЫ'ТЫСЯ *незак.* Слацца. *Дэм* [дым] *котыться по-над зымлёю.* Дзмітравічы Кам.

КО'ЎБЫК *м.* 1. Страўнік у жывёл. *Коўбык — то трыбушок.* Азяраны Раг., Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Начынены вантробамі ці мясам свіны страўнік. *Коўбык начыняць і вараць.* Азяраны Раг. *Коўбыка спякла.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КО'ЎДРА, КО'ЛДРА, КО'НДРА, КО'РДЛА, КО'РЛА *ж.* і *н.* 1. Даматканая коўдра. *Раней шылі коўдру з дзвюх пасцілак і клалі кудзелю ў сярэдзіну: дзве палотнішчы і благога лёну ў сярэдзіне, перашывалі ў скрыначкі, наўкос ішлі радочкі і называлі коўдра. Коўдра была ўрадная, у ёлачку тканая.* Рыбчына, Саланое Віл. *Коўдра — ето ў дзве столкі дзяруга.* Пасека Ст.-Дар. *Даўней коўдры ткалі с пакулаў, а цяпер адзіяла зовіць.* Ёдлавічы Брасл. *Коўдрай укрываліся.* Саланое

Віл. *Коўдрай накрываяцца.* Лоск Валож. *Трэба ўкрыцца коўдрай. Коўдры суконныя ткалі.* Мярэцкія Глыб. *Коўдрай акруціўшыся, сядзіць. Колдра с пакулаў зроблена.* Старыя Трокі Трак. *Колдры шылі: плаценкі вытчыць, верх другі, апштабнуіць — і колдра.* Лайпушкі Ігн. *Кондраў тры выткала, іх на кудзелі шылі.* Азяраны Раг. 2. Коўдра фабрычнага вырабу. *Коўдра, куплёная з сукна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цяпер коўдра шыюць з пуху, я акрываюса коўдрам.* Баброўнікі Гарад. *З ватай колдра.* Грыкені Вільн. *З ваты колдра.* Беняконі Воран. *Коц, як салдацкая кордла.* Быстрыца Астр. *Корлы — гэта адзіялы.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *kołdra* 'тж'.

КОЎЖ *гл.* КОЎШ

КО'ЎЗАЛКА *гл.* КАЎЗА'НКА

КО'ЎЗАЦЦА, КО'ЎЗАЦЦЯ *незак.* 1. Тое ж, што і к а ў з а́ ц ц а. *Дзеці коўзаліся на ляду.* Рудня Астравітая Чэрв. *Паляцелі дзеці коўзаццяя.* Кіралі Шчуч. *Хлопцы там коўзаюцца найболій, яны толькі і бягуць на лёд.* Азяраны Раг. 2. Хадзіць на лыжах. *Я коўзаўся на гары на лыжах.* Літва Івян. 3. *перан. экспр.* Баранаваць мокрую раллю. *Дзесяць рас будзя коўзацца з бараной па бульбя.* Вецярэвічы Пух. 4. Валтузіцца, дурэць. *Дзеці да крычаць, да пішчаць, да коўзаюцца адно па другом.* Дзяніскавічы Ганц. *Дзеці коўзаюцца па пасцелі.* Кузьмічы Люб.

КО'ЎЗКА *прысл.* Слізка. *Коўзка так, не ўпадзі!* Мачаск Бярэз.

КО'ЎКА *ж.* Доўгі шост з патаўшчэннем на канцы. *Рыбу глушылі коўкай, палку выражуць і на канцы тоўста.* Янова Рас.; *параўн.* літ. *kúoka* 'дубіна'.

КОЎП *м.* Страўнік, трыбух. *Коўп у свіней.* Глівін Барыс. *Коўп у каровы, і ў свіней жалудак — коўп.* Палік Барыс.

КОЎТАНУ'ЦЬ, КОЎТНУ'ЦЬ *зак.* Праглынуць. *Два разы коўтанула палыну.* Вецярэвічы Пух. *Коўтнула дзіця копейку.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КОЎТУ'Н *м.* 1. Каўтун. *Звіўся коўтун.* Рудня Астравітая Чэрв. *Коўтун заводзіцца, такая болесь.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. *мн. перан.* Пакручанае валакно льну, касмыкі кудзелі. *Як не ўмее хто калаціць верацяном, то коўтуноў накруціць.* Вецярэвічы Пух.

КО'ЎЧА *зб. ж.* Пакручаная траста льну. *Коўча палучаецца, як падымаюць лён і пераблытаюць яго. Коўчу вазілі здаваць; раней коўчу прымалі на здачу.* Слабада Смал.

КОЎШ, КОЎЖ *м.* 1. Вялікая драўляная лыжка, апалонік. *Коўш драўляны быў вялікі, ачэшуць тапаром, выгаблююць габэльчыкам, расцом выкалупліваді с сярэдзіны, сціклінай ачысцяць, кап гладзінька было — вот і коўш, а цяпер — палонік.* Мярэцкія Глыб. *Коўш з дзерава, як лышка, толькі большы.* Кураполле Паст. *Коўш, як лышка вялікая.* Саланое Віл.

*Коўш, як бальшая лышка.* Кураполле Паст. *Коўш з алешыны, з асіны выдзёўбавалі цяслою суцэльны.* Рудня Астравітая Чэрв. *Каўшом с катла чэрпалі.* Гемзы Шальч., Чычалі Швянч. *У каўшу прынясі мне мукі!* Старыя Смільгіні Воран. *Калісь быў коўж з ручкай выдзяўбаны з алехавага дзерава ці асінавага дзерава, чарэпалі жыта, муку, курам што зачэрплюць і вынясуць.* Вецярэвічы Пух. 2. Конаўка драўляная з доўгай ручкай. *Коўш рабілі с клёпачак — састаўленыя клёпачкі, два абручыкі надзеты, палачка праходзіць аш у другую сценку; каўшом засілялі ваду і далівалі гаршкі, і пілі з каўша; я сама з яго піла.* Рыбчына Віл. *Коўш — крушка дзеравяная.* Пасека Ст.-Дар. *Коўш із ручкаю.* Дзяніскавічы Ганц. *Коўш — драўляная пасудзіна для піцця.* Крупіца Мін. *Калісьці быў коўш вялікі дзеравяны: каўшом пілі ваду, капусны расол бралі каўшом тым, каўшом далівалі саганы.* Івашкаўцы, Солы Смарг. *«Чым мне зачэрпнуць вады?» — «Каўшом» — так гаварылі калісьці.* Валынцы В.-Дзв. 3. Каструля з ручкай. *У каўшу сагрэю вады.* Валынцы В.-Дзв. 4. Прыстасаванне ў жорнах, у млыне, куды засыпаюць збожжа. *Як у жорны малолі, у коўш засыпалі па жменьцы зярна.* Мельнікі Лудз. *У млыне коўш — сыпаць дабро. І ў арпі* [арфе] *коўш.* Саланое Віл.∇ *Коўш ты альховы!* — дурань. Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *káušas* 'тж'.

КО́ЎШНУЦЬ *гл.* КО́КШНУЦЬ

КО́ЎШЫК I *м. памянш.* да к о ў ш 1, 2. *Коўшык быў, соль бралі.* Вецярэвічы Пух. *Коўшыкам есці ліюць.* Малькуны Ігн. *Быў коўшык чэрпаці і піці ваду, ліць есці з гаршка.* Парэчча Гродз. *Коўшыкі былі дзераўляныя.* Лайпушкі Ігн.

КО́ЎШЫК II *м. астр.* Вялікая Мядзведзіца. Нізок Уздз.

КО́ФТА, КО́ПТА *ж.* 1. Кофта. *Кофта з аборачкай пашыта.* Янова Рас. *Трэба копту падрубіць маленькім рубчыкам.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Ватоўка. *Кофта зімова на ваце.* Кемялішкі Астр.

КО́ХАЛЬ *м.* Тое ж, што і к о́ к л ю ш. *У дзіця кохаль, натта б'ець.* Саланое Віл.

КО́ХЛІК I, КО́ХЛЮК *м. мед.* Коклюш. *Напаў кохлік, у грудзях баліць ад яго.* Малахоўцы Бар. *Кохлюк дзецкі.* Азарычы Пін.

КО́ХЛІК II *м. заал.* Ласка. *Кохлік грывы пляце каню, ён сядзіць на кані і шчакоча, а конь тупая.* Гемзы Шальч.

КО́ХЛІШ, КО́ХЛЮШ *м.* Тое ж, што і к о́ х л і к I. *Кохлішы, скарлаціны, дзіхцерыты былі.* Пасіене Лудз. *Мая сястра с кохлюша ўмерла. Возьмецца за акно і так кашляе, і што ш — адарвалосо ёй плюцо ці што.* Баброўнікі Гарад.

КО́ХЛЮК *гл.* КО́ХЛІК I

КОЦ *м.* 1. Коўдра фабрычнага вырабу з шэрсці ці бавоўны. *Коц, як салдацкая кордла.* Быстрыца Астр. *Коц, як сал-*

*дацкая адзіяла.* Малахоўцы Бар. *Коц — кагда-та так называлі адзіяла шарсцяная. Даўней так называлі суконную коўдру; коц купіў.* Рыбчына Віл. *Коц шарсцяны.* Беняконі Воран. *Купіла летні коц акрывацца, зімою ім не акрываюцца.* Міратычы Карэл. *Коц — баевая адзіяла.* Ахрэмаўцы Брасл., Мярэцкія Глыб., Саланое Віл. *Коц купованы.* Навасёлкі Свісл. *Далі добрага коца.* Саланое Віл. *Коцам накрыўся.* Пацаўшчына Дзятл. *Куплялі цёплыя коцы.* Старыя Трокі Трак. 2. Вязаная коўдра. *Я сама звязала коца.* Навасёлкі Свісл.; *параўн.* польск. *koc* 'плед', ням. *Kotze* 'грубая шарсцяная коўдра'.

КО'ЦІК *м. памянш.* да к о т І. *Вам трэбо маленькаго коціка.* Верхлессе Крын.

КО'ЦІКІ *мн. бат.* Канюшына раллявая. *Сівыя коцікі на жыце растуць.* Альхоўцы Лях.

КО'ЦЬВІШЧА *гл.* КО'ТВІШЧА

КОЦЮБА' *ж.* Качарга. Дзмітравічы Кам.

КОЦЮ'БНЫК *м.* Палка, на якую насаджана качарга. Дзмітравічы Кам.

КОШ *м.* 1. Кош. *Кош плятуць з лазы бульбу садзіць і капаць.* Лісна В.-Дзв. *Кош — бульбу капаць. Дзе дзеў яблыкі з каша?* Рудня Астравітая Чэрв. *Два кашэ накопаю бульбы.* Смаляніца Пруж., *Сразу ў кашы бульбу — і на поле.* Гемзы Шальч. *Кашы ўмеў рабіць.* Курaполле Паст. *Кашы плятуць не з адной лазы.* Гемзы Шальч. *Кашэ́ плятом з ракіты.* Вецярэвічы Пух. 2. Палукашак. *У воз кош ставілі такі вялікі.* Грыкені Вільн. *Кош у воз, сані плецецца і з дошчак збіваюць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Плеценая з прутоў рыбалоўная снасць. *Кош зімой устаўляюць на ўюноў.* Глівін Барыс. 4. Тое ж, што і к о ў ш 4. *У млыні быў кош; з коша бяжыць крупа.* Малахоўцы Бар.

КО'ШАНКА, КАША'НКА *ж.* Пасеў сумесі аўса і вікі на корм жывёле. *На карчах кошанку пасеялі — гавёс і віку.* Кіралі Шчуч. *Сеюць на корм выку з аўсом і кашанкаю завуць.* Вялікія Баяры Шчуч.

КО'ШАР *м.* Рытуал, звязаны з забоем жывёлы ў яўрэяў. *Разнік атарве кусок касы і брося — і гэта ён зрабіў кошар.* Гемзы Шальч.

КО'ШАСЦЬ, КО'РШАСЦЬ, КО'ШЭРСЦЬ, КО'ШУСЦЬ, КО'ШУСЬ, КО'ШУЦЬ *ж.* Тое ж, што і к а ш у т а́ 1. *Кошасць завялася ў галаве.* Жылі Іўеў. *Кошасць у галаве заводзіцца.* Вострава Маст. *У галаве, у валасох кошасць.* Баброўнікі Гарад. *Бела кошасць у галаве.* Старыя Смільгіні Воран. *Кошасць у галаве ест, трэба памазаць мазяй. У каня, каровы бывая кошасць.* Кудзялянцы Шальч. *Кошасць і струпы пахваяцца пасля кошасці.* Дакудава Лід. *Як завядзецца кошасць у галаве, то галава натта свярбіць. На грэбянь счэсвалася кошасць.* Кіралі Шчуч. *І на скуры ў кароў кошасць.* Дакудава

Лід. *Коршасць у галаве.* Вялікія Баяры Шчуч. *Коршасць сыплецца з галавы. Кошэрсць у галаве, як луска.* Парэчча Гродз. *Кошусць у галаве.* Каўняны Гродз. *Кошусць у галаве завялася.* Вострава Маст. *Скуль у цібе только кошусці ў галаве?!* Верхлессе Крын. *Кошусь у галаве.* Мсцібава Ваўк. *Кошуць з галавы падае. Кошуць і ў карой бывае.* Лука Нараўк.

КО'ШКА, КЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і к о т к а. *Кошка пільнуя мышэй.* Рыбчына Віл. *Кошка наша котна. Кошка басню бая, каб не баяла, яна б чалавека з'ела — такая сярдзітая.* Кіралі Шчуч. *Кышка будэ драпатэ пазурамэ.* Дзмітравічы Кам.

КО'ШКАЦЦА, КО'ШКАТЫСЬ *незак.* 1. Капацца, грэбціся (пра курэй). *Куры кошкаюцца, усё выкапалі на гародзе.* Старыя Смільгіні Воран. *Куры кошкаюцца, грэбаюцца. Курыца кошкаецца ў гняздзе.* Мсцібава Ваўк. 2. *перан.* Корпацца, марудна рабіць. *Яна кошкаецца і кошкаецца кала сібе.* Малькуны Ігн. *Стары выляс с пасцелі і нешта кошкаяцца, а тады будзя стагнаць.* Жылі Іўеў. *Кошкаецца длуга.* Чычалі Швянч. *Кошкалась кала печы.* Галоўні Воран. *Не кошкайся, аўтобус зараз прыдзя!* Пацаўшчына Дзятл. *Кошкаецца цэлу раніцу.* Кузьмічы Люб. *Цілый вэчор кошкалась, покыль гусь до ладу довыла.* Сіманавічы Драг. *Памалу кошкаецца, як курыца на гразі.* Жылі Іўеў. *Чаго ты там кошкаешся, як курыца?!* Пацаўшчына Дзятл. *Кошкаецца, як варона тут.* Крэва Смарг.; *парайн.* літ. *kóškytis, kõškurtis* 'капацца'.

КО'ШКАЦЬ *незак.* 1. Капаць, грэбаць. *Кошкаюць куры грады.* Жодзішкі Смарг. 2. *перан.* Разграбаць, раскідваць. *Мама, ён кошкая нагою смецё.— Я табе кашкану!* Міратычы Карэл.; *парайн.* літ. *kõškurtis, kóškytis* 'капацца'.

КО'ШЛЯ *ж.* 1. Дзеянне паводле значэння дзеяслова к а с і ц ь. *Якая там кошля!* Навасёлкі Свісл. 2. Час касьбы. *Кошля ў гэтым годзе позняя.* Ісерна Слуц.

КОШТ *м.* Выдаткі, грошы, вартасць затрат. *Ецця на свой кошт!* Дакудава Лід. *Ты ш браў на Чэськаў кошт.* Сакаўшчына Валож.

КО'ШУСЦЬ, КО'ШУСЬ, КО'ШУЦЬ *гл.* КО'ШАСЦЬ

КОШУЯ' *ж.* Тое ж, што і к о ш а с ц ь. *Кошуя ў каровы, каня, як чэшут.* Лука Нараўк.

КО'ШЫК *м.* Тое ж, што і к о ш 1. *Кошык плялі так: два абруча, берыш лазу і настаўляіш рэбра.* Індра Красл. *Плёў кошык мой дзед, а я віткі прынясу для кошыка. Таргаваў кошыкамі мой дзед.* Грыкені Вільн. *Нада жэбры ўставіць у кошык.* Чычалі Швянч. *Кошык плятуць з лазовых вітак і пераплятаюць.* Ёдлавічы Брасл. *Кошыкі плялі, душкі і раберкі з пруцікаў; з сасновага корня дзелалі кошыкі.* Лісна В.-Дзв.

*Жыльвіцё нарэжаш і пляцеш кошыкі. З арэшніку кошыкі плятуць.* Асавец Віл.

КОШЫ'СКО *н.* Тое ж, што і к а ш а л і с к о. Відзібар Стол.

КОШЭ'ЛКА *гл.* КАШЭ'ЛКА

КОШЭ'ЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і к о́ ш 1. *Кошэль для картопляў, у ім дужка, бручы, вушы заплёў, паставіў спіцы.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Кашолка. *Кошэль очэплены скорачэм.* Азарычы Пін.

КО'ШЭРСЦЬ *гл.* КО'ШАСЦЬ

КО'ЯЦЦА *незак.* Здзекавацца. *Нявестка над свякроўю коіцца. Пачалі над мацер'ю кояцца.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *koić* 'аблягчаць, сцішваць, сунімаць, уціхамірваць'.

КРА I *ж.* Шарош, крыгі. *Кра на Нёмне, як замярзая і пакуль не спыніцца Нёман.* Каўняны Гродз. *Па Нёмане ідзе кра кавалкамі велькімі; кра пашла, кра ідзе, як растае Нёман.* Новікі Гродз.; *парайн.* польск. *kra* 'крыга, ільдзіна'.

КРА II *ж. заал.* Ікра. *Жабія кра есць — цёпла будзе.* Глівін Барыс.

КРАВА'ЎКА *ж.* Тое ж, што і к р ы в а́ ў к а. Мярэцкія Глыб.

КРАВЕ'Ц *м.* Той, хто шые адзенне. Грыкені Вільн. *Мой сын кравец, але не шые тут — у Беластоку шые.* Баброўнікі Гарад. *Фрэнч краўцы шылі.* Магуны Паст. *Яго сын Кастант — краўцом.* Гемзы Шальч.

КРАВЦЕВА'ТІ *незак.* Займацца кравецтвам. *Володя ўжэ з дэсэть ліет кравцюе.* Курашэва Чыж.

КРА'ГІ *мн.* Скураныя рукавіцы. *Ён крагі надзеў і дастаў змяю з-за абояў. Крагі — шафёрскія рукавіцы.* Лісна В.-Дзв.

КРАГЛІ'ЦА *ж.* Труска. *Крагліца з краглянятамі была.* Вострава Маст.

КРАГЛЯНЯ' *н.*, КРАГЛЯНЯ'ТА *мн.* Трусяня, трусяняты. Вострава Маст.

КРАДКО'М, КРА'ТКАМ *прысл.* Употай, цішком, крадучыся. *Крадком я нікагда не робіў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Рыбу лавілі краткам.* Стральцы Гродз. *Пашлі краткам у журавіны.* Вецярэвічы Пух.

КРАЁК *м.* 1. *памянш.* да к р а й 2. *На крайку вёскі асталася адна хата, усё згарэла.* Азяраны Раг. 2. Бераг, венца пасудзіны. *Наліла малака ў крушку па самый краёк.* Навікі Лудз.

КРАЖ *м.* 1. Камель, цурбан. *Краж — тоўстая часць бервяна, два-тры метры даўжыні.* Пасека Ст.-Дар. 2. Тоўстае дрэва. *Даўней цягалі вуллі на кражы.* Ухвала Круп.; *парайн.* руск. *кряж* 'цурбан'.

КРАІ'НА *ж.* Дзяржава. *Паехаў на чужую краіну.* Талейкі Швянч.

КРАЙ *м.* 1. Тое ж, што і к р а і н а. *З другіх краёў прыяжджаюць у Гродна паглядзець.* Паляцкішкі Воран. 2. Ускраіна. *На край лесу вышаў.* Палік Барыс. *Пры краю была панская зямля.* Курaполле Паст. 3. у знач. *прысл., прыназ. край, краем.* Каля краю, на край. *Ішлі краем лесу.* Альхоўка Навагр. *Сяджу я край стала. Дарога ідзе край рэчкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Край свету з'ехаў і жывець там.* Граўжышкі Ашм.

КРАЙЗЭ'ГА *ж.* Цыркулярная піла. *Крайзэга пілуе дзерава. Крайзэгай дровы рэжуць.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* ням. *Kreissäge* 'тж'.

КРА'ЙКА *ж.* Спавівіч. *Крайка — доўга стужка, якой спавіваюць дзіця.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *krajka* 'пруг'.

КРА'ЙКІ толькі *мн.* Лупіны ад бульбы.. *Абразаю бульбу, крайкі аддаю карові.* Валынцы В.-Дзв.

КРАКАВІ'НА *ж.*, КРАКАВІ'НЫ *мн.* Жабурынне. *Жабы пускаюць кракавіну.* Гемзы Шальч. *Кракавіны на вадзе, з іх жабы выводзяцца.* Ракаўскія Швянч.

КРАКАВІ'ННЯ *гл.* КРАКТАВІ'ННЕ

КРАКАВЯ'К *м.*, КРАКАВЯ'КА *ж.* Кракавяк. *Кракавяка многа пар танцавалі.* Ухвала Круп. *Ест такі танец — кракавяка. Кракавяку і тэраз танцуюць.* Грыкені Вільн.

КРА'КАНЕ *н.* Карканне. *Воруон налетіело, бо кракане чуті.* Курашэва Чыж.

КРАКАЎНЯ' *ж. заал.* Разнавіднасць дзікай качкі, крыжанка. *Кракаўня большая за чыранку.* Ахрэмаўцы Брасл.

КРА'КАЦЬ *незак.* 1. Кракаць. *Вутка кракаіць.* Пасіене Лудз. *Качкі кракаюць, нада есці даць.* Саланое Віл. *Вароны кракаюць на дошч.* Верхлессе Крын. 2. Квакаць. *Жабы кракаюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Жэбы* [жабы] *кракаюць.* Старыя Смільгіні Воран.

КРАКВІНА' *ж.* Кроква. *Кракві́на ідзе на сцяну, а ўвярху звязваецца.* Крэва Смарг.

КРАКО'ВІК *м.* Тое ж, што і к р а к а в я́ к. *Краковік у чатыры пары танцавалі.* Ухвала Круп.; *парайн.* польск. *krakowiak* 'тж'.

КРАКО'С *м. бат.* Наготкі. *Пучэчак кракосу пасушу.* Дзяніскавічы Ганц. *Кракос у гароччыку расце.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *krokus* 'шафран'.

КРАКТАВІ'ННЕ, КРАКТАВІ'ННЯ, КРАКАВІ'ННЯ *н.* Тое ж, што і к р а к а в і н а. *Жабіну ікру завуць кракtавінне.* Беразіно Докш. *Кракtавіння ў рукі бярэць.* Мярэцкія Глыб. *Кракtавіння — жабя ікра.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *С кракtавіння палонікі выводзяцца.* Саланое Віл. *Жабіна кракавіння зверху плаваіць.* Жодзішкі Смарг.

КРАКТА'ЦЬ *незак.* 1. Квакаць. *Жабы крэкчуць у балоці.* Рагулішкі Даўг. *У кутнім балоці гады кракталі.* Альхоўка На-

вагр. 2. *перан.* Булькаць. *Пачала крактаць ужо каша, скора зварацца, бо ўжо крэкчыць.* Саланое Віл. 3. Скрыпець. *Бывая, што і кола крэкча: спіца трэцца ап калотку — і крэкча.* Гемзы Шальч. 4. Стагнаць. *Крэкчыць і крэкчыць чалавек, як баліць што.* Чычалі Швянч.

КРА'ЛІ толькі *мн.* Қара́лі. *Ён кралі мне купіў.* Ухвала Круп. *Павесь кралі і пойдзем!* Мішневічы Шум.

КРАМ *м.* Матэрыял фабрычнага вырабу. *Купіла чырвоны крам. Цяпер крам у клеткі.* Пасека Ст.-Дар.

КРА'МА *ж.* 1. Магазін. *Да крамы паеду, палатна пагляджу, людзей.* Баброўнікі Гарад. *Ён ідзець у краму, а крама замкнёная.* Ністанішкі Смарг. *Пашлі ў краму.* Кіралі Шчуч. *Ты папытай, можа, ёсць яшчэ мука ў краме.* Навасёлкі Свісл. 2. Тое ж, што і к р а м. *Трэба злажыць краму ўдоўш ці ўпоперак і кроіць.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *kram* 'тж'.

КРА'МАЛЬ *м.* Спражка. *Крамаль у папрузе бліскушчы.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* ням. *Klammer* 'тж'.

КРА'МАР *м.* Прадавец, лавачнік. *Крамар прадае ў лаўцы. За царом гаварылі так, цяпер не разумеюць.* Баброўнікі Гарад.

КРА'МГАЦЬ *незак.* Квакаць. *Жабы крамгаюць.* Смаляніца Пруж.

КРАМЕ'НЬ *гл.* ҚРЭ'МЕНЬ

КРАМЗЛА' *ж.* Храсток. *Мой дзевяр зламаў крамзлу ў носе, нос у крыве. Як зубы маеш, так і крамзлу скусаеш.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kremzlė*'тж'.

КРАМЗЛЯВА'ТЫ *прым.* Қасцісты. *Ён сухі, худы, крамзляваты чалавек.* Гемзы Шальч.; *гл.* к р а м з л а́.

КРАМІНА' *ж.* Бугаркі на карэнных зубах у маладога каня. *Конь чатыры гады мяняя зубы, на вярху зуба — краміна.* Івашкаўцы Смарг.

КРА'МКА *ж. памянш.* да к р а́ м а 1. *Ён крамку дзяржаў, багаты быў.* Гемзы Шальч. *Была крамка, яўрэй сядзеў.* Азяраны Раг.

КРАМНАТА' *зб. ж.* Адзенне фабрычнага вырабу. *Калі-то ўсё тканае насілі, а цяпер — крамната.* Стральцы Шальч.

КРА'МНІК *м.* Уласнік крамы. *Крамнік меў сваю краму, былі крамнікі.* Солы Смарг.

КРА'МНІНА' *ж.* 1. Тое ж, што і к р а м н а т а́. *Крамніна́ цяпер — усё куплёная.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Баваўняная аснова красён. *Даўней сачак насілі, сукном патыканы па крамніне́.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Паношанае адзенне фабрычнага вырабу. *Кра́мніны надзерым многа і дываны ткалі.* Малькуны Ігн.

КРА'МНЫ *прым.* Қуплены ў краме, фабрычны. *Гэта крамная посцілка.* Магуны Паст. *Усе ў крамным ходзюць.* Абчуга Круп.

КРАМО′ВЫ *прым.* Тое ж, што і к р а́ м н ы. *Гэта крамовы матэрыял.* Старыя Смільгіні Воран.

КРАМПА′ДЛО *н.* Калочак для звязвання снапоў, кулёў. *Крампадлом можна туга звязаць сноп і куль саломы.* Масілавічы Сл.; *парайн.* польск. *kręроwać* 'звязваць'.

КРАМУ′ХА *ж.* Тое ж, што і к р э́ м е н ь. *Дайней крамуху ап крамуху білі і агонь высякалі, выкрасалі.* Мсцібава Ваўк.

КРАМУ′ШКА *ж. памянш.* да к р а м у́ х а. *Крамушка — такі камень.* Старое Сяло Зэльв. *Залезом сэчэ по крамусцы — і сып'юцца іскры.* Смаляніца Пруж.

КРА′МЫНЬ *гл.* КРЭ′МЕНЬ

КРАМЯНІ′СТЫ *прым.* Цвёрды, шчыльны (пра драўніну). *Биваіць крамяністая ёлка, сасна: адзін бок красны, а другі — нармальны.* Ахрэмаўцы Брасл.

КРАМЯНО′ *н.* Тое ж, што і к р а м і н а́. *Крамяно на зубах у каня; па гэтых крамёнах апрэдзеляюць, скольні каню гадой.* Гемзы Шальч.

КРАМЯ′НЫ *прым.* Каляны, пруткі. *Торба крамяная, з нітак звязаная, і гэтай торбай падлогу шаруюць.* Вецярэвічы Пух.

КРАМЯ′НЯНЬКІ *прым. памянш.* Сакавіты. *Гэты крамяняньні парастак.* Азяраны Раг.

КРАМЯ′СТЫ *прым.* Праліўны, буйны. *Крамясты дошч падая велькімі каплямі.* Новікі Гродз.

КРАНА′ЦЬ *незак.* 1. Чапаць. *Ня бойся яго, ён не краня цябе!* Гайна Лаг. 2. Прыводзіць у рух. *Кранай каня, паедзем!* Гайна Лаг.

КРАНКА′Ч *м.* Тое ж, што і к р у м к а́ ч. Гемзы Шальч.

КРАНУ′ЦЦА *зак.* 1. Даткнуцца. *Яго вушэй кранецца пальцамі — і схаваецца.* Граўжышкі Ашм. *Яна чуць кранулася да яго нагой.* Мярэцкія Глыб. 2. Зрушыцца з месца. *Цяшка з мейсца крануцца.* Рыбчына Віл. *Крануўся і паехаў.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРАНУ′ЦЬ *зак.* 1. Парушыць. *Як кранулі столь — усё паляцела.* Саланое Віл. 2. Зрушыць з месца. *Ня мох з места крануць вос.* Рыбчына Віл. 3. Паварушыць, шавяльнуць. *Рукой не кране — так баліць.* Вецярэвічы Пух.

КРА′ПАЦЦА *незак.* Загаворвацца. *Гады бальшыя, я крапаюся ўжо ў разгаворы.* Валынцы В.-Дзв.

КРА′ПА′ЦЬ I, КРАПА′ТЫ *незак.* Капаць, пырскаць. *Кра́паіць дошч.* Чычалі Швянч. *Дошч кра́пая.* Мсцібава Ваўк. *Ужэ дошч кра́пае.* Вялікі Краснік Пруж. *Крапа́е дошч.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.; *парайн.* польск. *kropić* 'тж'.

КРАПА′ЦЬ II *незак.* Начыняць, фаршыраваць. *Буду рыбу крапаць: насяку мяса, у кожу напіхаю. Печань, лёхкія і почкі крышылі і крапалі трыбух.* Лісна В.-Дзв. *Нада рыбу крапаць: мяса выбяруць, дабавюць манкі ці батона, яйко, луку, перцу,*

*зрубіць уместа і тады крапаць пат кожу; як накрапаюць — ставяць варыць, тады астужаваюць і ядуць.* Валынцы В.-Дзв. *Нада рыбу крапаць.* Ёдлавічы Брасл. *Дайней атмочуць грыбой, ссякуць тапаром і камы крапаюць. Мы і цяпер грыбы сушым і камы крапаям. Камы месюць з бульбы цёртай і мукі, тады крапаюць — і ў кіпяток. Атварыш і атцэдзіш крупы, сала і цыбулі зварыш, і кішкі крапаеш.* Лісна В.-Дзв.

КРАПЕ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і к а п ё ж 2.*Крапель — дзе страха звісая. Чаго ты такі малы крапель зрабіў? Іс крапля капая. Крапель — дзе сцякае дошч іс страхі.* Крэва Смарг. *Ня стой пат краплём, як дошч ідзе!* Рыбчына Віл.

КРА'ПЕЛЬКІ *мн.* Крапінкі. *У жабурэнні чорныя крапелькі.* Кіралі Шчуч.

КРАПЕНЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к р а́ п а́ ц ь І. *Дошч крапеняя і крапеняя.* Старыя Смільгіні Воран.

КРАПЕ'Ц *м. бат.* 1. Свінакропнік. *Крапец добра свіні ядзяць.* Альхоўцы Лях. 2. Сіт. *Крапец па лугох расце, па ніскіх местах, яго завуць яшчэ—жабіна цыбуля.* Альхоўцы Лях.

КРАПІ'ВА' *ж. бат.* Крапіва. *У нас крапіва расцець, крапіву індыкі любяць.* Пасіене Лудз. *Нічога там не расцець — адна крапіва.* Асавец Віл. *Крапіва розная расце: крапіва жычкая пячэцца, глухая — не пячэцца.* Данілавічы Дзярж. *Крапіва расце пат плотам.* Вецярэвічы Пух. *Крапіва́ расце каля плоту.* Альхоўка Навагр. *Кусонца крапіва́.* Быстрыца Астр. *Глухая крапіва́ — лякарства. Крапіву́ апарыш, зварыш — і смачна.* Кудзялянцы Шальч. *Крапіва́ ад жалутка очань лечыць. Крапіва́ — жыгуха, ад кашлю добра піць.* Солы Смарг. *Будзя табе да вясны крапівы́. У крапіву́ залес кот. Варацць крапіву́, і свіня ядуць; я нажала кошык крапіве́ свіням.* Кіралі Шчуч. *Крапівы́ багата пайс плата.* Азяраны Раг. ▽ *Крапіва ваніць на гразу.* Рагулішкі Даўг.

КРАПІ'ДЛО *н.* Кадзіла. *Ён абмочыць у воду крапідло і зробіць крэст ім. Зрабілі с каласкоў крапідло.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *kropidło* 'тж'.

КРАПІ'ЎКА І *ж. бат. памянш.* да к р а п і в а́. *Сусетка крапіўкі нажала.* Кураполле Паст.

КРАПІ'ЎКА ІІ *ж. мед.* Вятранка. *Крапіўка, як высыпіць, сільна свярбіць.* Кураполле Паст.

КРАПІ'ЎНІК *м.* 1. *пагард.* Пазашлюбнае дзіця. *Сынок у яе — крапіўнік.* Мішневічы Шум. 2. *мн.* Кураняты, выседжаныя ўпотай ад гаспадыні. *Адзін рас наша курыца крапіўнікаў вывела.* Магуны Паст.

КРАПІ'ЦЦА *незак.* Набірацца сілы. *Чалавек крэпіцца, як з'есць сала.* Кузьмічы Люб.

КРАПІ'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і к р а́ п а́ ц ь І. *Крапіць дождж невялічкі.* Парэчча Гродз. 2. Пырскаць, паліваць. *Як роіцца пчолы, нада вадой крапіць іх. Трава ёсць пахню-*

*чая, яе настойваюць і крапяць улей, кап прыманіваць пчол.* Саланое Віл. *Мы хадзілі жукі крапіць.* Навасёлкі Свісл. *У саўхозі машына крапіла сат.* Малахоўцы Бар.

КРАПЛІ'СТЫ, КРАПЛЫ'СТЫЙ *прым.* Буйны. *Такі краплісты дошч, але рэдкі.* Азарычы Пін. *Пачынаецца краплісты дошч, бліская маланка.* Альхоўка Навагр. *Дошч ны вылікый, алэ краплыстый: як упадэ крапля, то всю лыстыну намочыть.* Сіманавічы Драг.

КРА'ПЛЯ *ж.* 1. Капля. *Крапля дошчу ўпала.* Азарычы Пін. *Дошч рідкый, алэ краплі вылікы.* Сіманавічы Драг. *Дві краплі впало.* Відзібар Стол. 2. Вельмі мала. *Кавы осталась адна крапля, можэ, з повшклянкі, остатню всю выпылы. В колодязы воды одна крапля, выдро дна достае, як чэрпаеш.* Сіманавічы Драг. *Молока одна крапля — і кубка ны будэ.* Відзібар Стол.; *парайн.* польск. *kropla* 'капля'.

КРАПЛЯ'СТЫЙ *прым.* 1. Тое ж, што і к р а п л і с т ы. *Такый краплястый дошч пошов.* Сіманавічы Драг. 2. Узор на тканіне ў кропачкі, гарошкі. *В Нюры було краплястэ платте, сыны крапылькы по білому.* Сіманавічы Драг.

КРАПЧЭ'ЙШЫЙ *прым. выш.* Дужэйшы, здаравейшы. *Ля гэтай палкі ляжыць камень, падымі, твае рукі крапчэйшыйі.* Валынцы В.-Дзв. *Я крапчэйшая за цябе.* Ахрэмаўцы Брасл. *Дайней крапчэйшыя людзі былі.* Саланое Віл.

КРА'ПШТАЦЬ *незак.* Драпаць. *Кот крапштаў дзверы.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *krapštýti* 'здзіраць'.

КРАСА' *ж.* 1. Цвіценне злакавых раслін, садоў, апыленне. *Краса зрываецца з жыта, вецяр абганяе.* Крэва Смарг. *Дош красе не перашкодзіць.* Вецярэвічы Пух. *На галі сат расце, ужэ цвіце, марос не пайрадзіў красе, а пры лесу пайрадзіў, там сонцо апаліло.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Хараство, прыгажосць. *Яна ні з красы, но харошая.* Мішневічы Шум. ▽ *Краса бэз ума — што фанар бэз свячы.* Кураполле Паст.

КРАСАВА'ЦЦА *незак.* 1. Цвісці (пра злакавыя расліны), апыляцца. *Ужо жыта пачынае красавацца.* Рыбчына Віл. *Жыта красуіцца.* Мярэцкія Глыб., Беразіно Докш. 2. Спароўвацца, апладняцца. *Зімой ваўкі красуюцца.* Мярэцкія Глыб.

КРАСАВА'ЦЬ, КРАСОВА'ТЫ *незак.* 1. Тое ж, што і к р а с а в а́ ц ц а 1. *Красуе жыта.* Відаўцішкі Вільн. *Як выплыюць каласкі, красуя жыта.* Гемзы Шальч. *Жыта красуя і налівая.* Ліпнікі Вільн. *Жыта выплывая, патом красуя, патом наліваяцца.* Быстрыца Астр. *Жыта красуя, кажуць і расуя.* Міратычы Карэл. *Жыто начынае красоваты.* Горск Бяроз. 2. Пышна развівацца, квітнець. *Гэта роза ўсю зіму красавала.* Дзераўное Стаўб.

КРАСА'ДЛО *н.* Крэсіва. *Красадло складалася із трох прадметаў: красадло із сталі, крэмень і чэр — грып, што рос на дзераве.* Лука Нараўк.

КРА′САННЕ *н.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова к р а с і ц ь 2. *Я за гэтым красаннем хаты свету ня відзела, цэлы месяц красіла.* Кіралі Шчуч.

КРАСАТА′, КРАСОТА′ *ж.* Тое ж, што і к р а с á 2. *Якая тут у старога красата!* Груздава Паст. *Дзе ш яе дзелася красата? — Такая неўдалая стала.* Вецярэвічы Пух. *Была калісь красіва, а ціпер ужэ па красаце.* Мсцібава Ваўк. *Мой чалавек быў быстры і красаты не меняў.* Парэчча Гродз. *Красата на дну мінюту.* Кузьмічы Люб.∇ *Як бог красоту дэліў — я спала, а як бог шчастье дэліў — я встала* — пра непрыгожую, але шчаслівую. Горск Бяроз.; *параўн.* руск. *красота* 'краса, харавство, прыгажосць'.

КРАСА′ЦЦА *незак. безас.* Крэсіць. *Красалосо красівом.* Крынкі Крын.

КРАСА′ЦЬ, КРАСІ′ЦЬ, КРЭ′СІЦЬ *незак.* Крэсіць, высякаць агонь. *На той губе красаў яшчэ лепш, як на кудзелі красаць агонь.* Крынкі Крын. *Калісь трэба было красаць агонь.* Баброўнікі Гарад. *Калісьці красілі агонь: на крэмянь кнот з нітак паложаць або гупку і красівом красілі.* Івашкаўцы Смарг. *Крэсівом жалезным красілі.* Жодзішкі Смарг. *Некалі агонь красілі, дык гупку бралі.* Стральцы Гродз. *Крэсідлам агонь крэсілі.* Кемялішкі Астр. *Крэся напільнік ап скалку.* Быстрыца Астр.

КРА′САЧКА *ж. памянш.* да к р á с к а I, 1. *Вясной у лясу многа красачак сінянькіх.* Асавец Віл.

КРАСЁНЦЫ толькі *мн. памянш.* да к р ó с н ы 1. *Красёнцы такія былі повяс ткаць.* Дакудава Лід.

КРАСІ′ВА *прысл.* Прыгожа; правільна. *Можна красіва і ламана сказаць.* Судэрва Вільн. *Наморшчына красіва ў зборку.* Солы Смарг.; *параўн.* руск. *красиво* 'прыгожа, хораша'.

КРАСІВЕ′ННЫ *прым.* Вельмі прыгожы, харошы. *Сат красівенны ў нас.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КРАСІВІ′ДЛА *н.* Крэсіва. *Калісь красілі агонь красівідлам.* Сапоцкіна Гродз.; *гл.* к р а с á д л о.

КРАСІВО′ *гл.* КРЭ′СІВА

КРАСІ′ВЫ, КРАСІ′ВЫЙ *прым.* Прыгожы. *Дзеўка была красівая за ўсіх.* Ахрэмаўцы Брасл. *Пяру вырваў с хваста пітуху самую красівую.* Рагулішкі Даўг. *Мама красіва была.* Парэчча Гродз.; *параўн.* руск. *красивый* 'тж'.

КРАСІ′ДЛА, КРАСІ′ЛА *н.* Тое ж, што і к р а с і в í д л а. *Красідла было, бывала, агонь выкрасалі.* Кіралі Шчуч. *Красідла было жалезнае, с пільніка рабілі.* Баброўнікі Гарад. *Як добрае красіла, то іскры ляцяць.* Кураполле Паст.

КРА′СІЦЬ *незак.* 1. Фарбаваць. *Даўней вольхай красілі ў карычневый цвет.* Рагулішкі Даўг. 2. Пакрываць слоем фарбы, бялiламі. *Вясной вокны будзім красіць.* Лоск Валож. *Па-*

*ехаў ён у Масты па краску школу красіць.* Вострава Маст.; *параўн.* руск. *красить* 'фарбаваць, маляваць'.

КРА'СКА I *ж.*, КРА'СКІ *мн. бат.* 1. Кветка, кветкі. *Саснулькі — невялікія краскі філатавыя, на стаўбунках.* Быстрыца Астр. *Краскі на полі расцвілі.* Беразіно Докш. *Краскі там, пчолы лятаюць. Красак нарваў букет.* Вецярэвічы Пух. 2. Тое ж, што і к р а с á 1. *Туман напаў на краску, жыта будзе неймалотнае.* Багушэвічы Бярэз.

КРА'СКА II *ж.* Фарба. *Калісь не куплялі красак, фарбавалі ў цыбулі, у альшыне́.* Мсцібава Ваўк.

КРАСЛЯ'К *м.* Зуб мудрасці. *У яго краслякі растуць.* Мярэцкія Глыб. *Краслякі пакрышыліся і ні балелі.* Асавец Віл.; *параўн.* літ. *krėslìnis* 'каранёвы'.

КРАСНАГАЛО'ВІК *м. бат.* Падасінавік. *Краснагаловікаў назбіраў.* Пасіене Лудз. *Краснагаловікі ў асінніку растуць.* Глівін Барыс., Дзяніскавічы Ганц.

КРАСНАПЁРА *ж. заал.* Краснапёрка. *Краснапёра — рыба такая.* Чычалі Швянч. *У краснапёры перкі красныя, яна кружыць с платвой.* Быстрыца Астр.

КРАСНАПЁРКА *ж.* Тое ж, што і к р а с н а п ё р а. *У краснапёркі хвост і плаўнікі краснавата-карычневыя, яна, як плотка.* Пасіене Лудз. *Краснапёрка да плоткі падобна.* Лайпушкі Ігн.

КРАСНІ'НА *ж.* Бакавая частка ткацкага станка. *У варстаці адна і другая краснiна — бакавая краснiна.* Дзераўное Стаўб.

КРАСНОГОЛУ'ОВЭЦЬ *м.* Тое ж, што і к р а с н а г а л ó в і к. Курашэва Чыж.

КРА'СНЫ *прым.* 1. Чырвоны. *Красныя ягады буйныя.* Вязынка Маладз. 2. Прыгожы. ∇ *Ні радзіся красным, а радзіся шчасным.* Крупіца Мін.

КРА'СНЫЯ *мн.* у знач. *назоўніка.* Савецкая армія. *Як ужо прышлі красныя, дык мы зямлю цалавалі, неяк не верылася.* Якшыцы Бярэз.

КРАСНЮ'К *м.* Тое ж, што і к р а с н а г а л ó в і к. Азарычы Пін. *Назбіралі ціелы кошык краснюкуов.* Курашэва Чыж. *Краснюкоў багата ў лесе.* Лука Нараўк.

КРАСОВА'ТЫ *гл.* КРАСАВА'ЦЬ

КРАСТАВІ'НКІ толькі *мн.* Матавіла. *Краставінкі ўстаўлялі ў калоду і разматавалі маткі.* Лісна В.-Дзв.

КРАСТЫ' *мн.* Спосаб малой укладкі снапоў на полі. *Ячмень ставілі ў копы, у красты.* Альхоўцы Лях.

КРАСУ'К *м.* Мянушка жывёлы рыжай масці. *У нас быў велькі бык — красук.* Кіралі Шчуч.

КРАСУ'ЛЬКА *ж.* Вясёлка, радуга. *Красулька ваду бярэ з мора.* Вецярэвічы Пух.

КРАСУ'ХА *ж.* Красуня, прыгажуня.▽ *Маць — таўстуха, а дачка — красуха* — печ і полымя. Саланое Віл.

КРА'СЦІ, КРАСЬ *незак.* 1. Употай браць без аплаты. *Ён злодзяй: у людзей крадзець і з гэтага жывець.* Ністанішкі Смарг. *Даўней коні кралі: ты будзіш спаць, ён прыдзіць, замок паломіць, каня возьміць, сядзіць і паедзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яму не прывыкаць, ён век крадзець.* Кіралі Шчуч. *Дзеці крадуць агурке ў гародзе.* Вецярэвічы Пух. 2. Хапаць. *Сарока куранята крадзе.* Альхоўцы Лях. *Воўк краў гусей.* Азяраны Раг. 3. Збіраць, зносіць. *Бацяны крадуць мётлы і венікі гнёзды латаць.* Рагулішкі Даўг.▽ *Калі хочаш прапасць — ідзі красць!* Кудзялянцы Шальч. *Нільзя маткі* [матцы] *крась, як бярэмінная — дзяцёнак будзіць злодзій.* Валынцы В.-Дзв.

КРА'СЦІСЯ *незак.* Падкрадвацца, ісці ўпотайкі. *Нашыя парцізаны краліся да шашы.* Гемзы Шальч.

КРАСЫ' толькі *мн.* 1. Перыяд цечкі ў ваўкоў. *У святкі перат раштвом — ваўчыныя красы.* Янова Рас. *Як красы, ваўкі ходзюць, выюць, яны тады красуюцца.* Мярэцкія Глыб. *Красы ў ваўкоў перад калядмі.* Груздава Паст. *Красы ў ваўкоў бываюць.* Беразіно Докш. *Красы бываюць у дзекабрэ.* Кураполле Паст. 2. у знач. *прысл. красамі, красамы.* У перыяд цечкі. *Красамі палююць ваўкі.* Саланое Віл. *Красамы ваўкі хадзілі.* Мярэцкія Глыб.

КРАСЯНУ'ЦЬ *зак.* Секануць адзін раз крэсівам па крэмені. *Бывала, як красянём — так і агонь сыпецца.* Гемзы Шальч.

КРАТАВЕ'НЕ *зб. н.*, КРАТАВЕ'НЯ *мн.* Наточаныя кратамі кучкі зямлі. *Дзе краты наточаць — кратавене. Найбольш на астравох гэтыя кратавеня.* Дзяніскавічы Ганц. *На луццэ много кратавеня.* Воўкуш Ліпск.

КРАТАВІ'НА, КРЭТАВІ'НА *ж.* Тое ж, што і к р а т а в е́ н е. *Ідзі на гэну пожню, там адны кратавіны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нарыюць краты кратавінаў — касіць нягможна.* Магуны Паст. *Крэтавіну крот нарыў.* Сакаляны Сакол.

КРАТАВІ'ННІК *м.* Тое ж, што і к р а т а в е́ н е. *Крот натачыў кратавінніку.* Гемзы Шальч.

КРА'ТАЦЦА *незак.* 1. Павольна рухацца, хадзіць. *Вот ходзя — ледзва кратаіцца.* Гемзы Шальч. *Стары, а яшчэ кратаіцца. Як ты яшчэ кратаішся? — Мала кратаюся: пахаджу, пахаджу, і нада паляжаць.* Кураполле Паст. *«Як тваё здароўе?— Чуць кратаюся».* Ахрэмаўцы Брасл. *Пакуль краталася матка, памагала: і ахрап'я збірала, і палола, а цяпер ляжыць.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Варушыцца, шавяліцца. *Пячэш угра, а ён яшчэ кратаіцца.* Гемзы Шальч. *Нехта кратаіцца за спіной.* Кураполле Паст.; *парайн. літ. kratýtis* 'шавяліцца, трэсціся'.

КРА'ТАЦЬ *незак.* 1. Чапаць. *Каб мяне ні краталі, я б адышла.* Асавец Віл. *Ні кратала я яго.* Азяраны Раг. 2. Браць. *Ні кратай ты чужога!* Мачаск Бярэз. 3. Боўтаць, мяшаць. *Суп не*

*кратала, мо не скіс.* Пасека Ст.-Дар. 4. Рухаць. *Ён кратая і кратая ротам.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 5. Варочаць. «*Ты ні кратала сена? — Кратала*». Рыбчына Віл.∇ *Як мужык раджаецца — кратаіць рукамі і нагамі, а як яўрэй раджаецца — кратая галавой.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *kratýti* 'шавяліць, трэсці'.

КРА'ТАЧКІ *мн. памянш.* да к р а́ т к і. *Плаценак у кратачкі ткалі: адна нітка такая, адна такая, аснова лляная.* Быстрыца Астр.

КРАТОВА'ТІ *незак.* Устаўляць краты. *В склепя окна кратуют, коб злодій нэ вліес.* Курашэва Чыж.

КРАТОВНІ'ЦЯ *ж. тэх.* Рашотка. *З грубого дроту коваль кратовніцю зробів.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *kratownica* 'тж'.

КРА'ТКІ *мн.* У выразе: *У краткі* — клятчасты ўзор на тканіне. *Купіла хустку ў краткі.* Номікі Бабіц.

КРА'ТЫ *мн.* Краты. *В окна краты повставлялі.* Курашэва Чыж.

КРАЎЖЫ'СТЫ *гл.* КРАЎША'СТЫ

КРАЎНЯ' *ж.* Карчаваты бераг ракі. *Як пашлі ў краўню рэчкі, вот ракаў налапалі. Дзе краўня, там вады німа. Усуніш рукі ў краўню, а рак табе ґнібая за пальцы.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kriaunà, kriaũnos* 'тронкі нажа'.

КРАЎНЯКІ' *мн.* Сваякі, радня. *Ён з маім бацькам краўнякі.* Гемзы Шальч. *Краўнякі — гэта дзяцька, швагер ці брат.* Грыкені Вільн. *Краўнякі нашы там жылі.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *krewniak, krewniaczka* 'сваяк, сваячка'.

КРАЎНЯ'ЧКА *ж.* Сваячка. *Мая краўнячка зная гэту траву.* Солы Смарг.

КРАЎЦО'ВА *ж.* Жонка краўца. *Яна краўцова была.* Сняганы Смарг.

КРАЎЦО'ЎСКІ *прым.* Кравецкі. *У мене ест краўцоўскія ножна.* Каменка Стара Сакол.

КРАЎЧЫ'ХА *ж.* 1. Швачка. *Краўчыха шые адзеня.* Кіралі Шчуч. *У нас у вёсцы німа ніводнай краўчыхі, німа каму шыць.* Бабро̀унікі Гарад. 2. Тое ж, што і к р а ў ц о́ в а. *Ідзе краўчыха.* Бабро̀унікі Гарад.

КРАЎША'СТЫ, КРАЎШЫ'СТЫ, КРАЎЖЫ'СТЫ *прым.* Высокі, стромы, круты. *Краўшасты берах — стоцевы берах.* Ракаўскія Швянч. *Бываіць рака патходная, а бываіць краўшыстая — можна ўкуліцца ў раку.* Малькуны Ігн. *Там краўжысты берах, с краўжыстага берага вады не дастанеш, вада далёка.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *kriaũšis* 'абрыў'.

КРА'ХАЦЬ *незак.* Кракаць. *Вуткі крахаюць.* Мярэцкія Глыб. *Качкі крахаюць.* Мачаск Бярэз. *Вуцёнык крахыіць.* Якубова Рас.

КРАХЕ′ЛКІ *мн.* Кроквы. *Крахелкі ставяць і крыюць хату.* Саланое Віл.

КРАХМА′ЛКІ *прым.* Накрахмалены, каляны, пруткі. *Са сноўніцы ніткі сабіраям у пляцёнку, парым, б'ём пранікам ніткі, каб яны былі такія крахмалкія.* Дзераўное Стаўб.

КРАХМА′ЛЬНЯ *ж.* Прадпрыемства, дзе вырабляюць крухмал. *Крахмальня калісь тут была.* Баброўнікі Гарад. *Крахмальня ў Вязыні была.* Латыгаль Віл.

КРАХТА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к р а к т а́ ц ь 2. *Ужо кісель крэхча, дастань і памяшай, кап не прыгарэў.* Кіралі Шчуч.

КРА′ШАНЫ *прым. кулін.* Прыпраўлены тлушчам, мясам. *Суп крашаны елі; суп крашаны с картошкай і мясам ці салам.* Навікі Лудз.

КРАШУЛІ′ *мн.* Згусткі запечанай крыві. *Крашулі — як кроў скрашэіць, кускі такія.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *krešuliaĩ* 'тж'.

КРАШЭ′ЦЦЕ *н.* Седала. *На крашэцце куры паселі.* Пасіене Лудз.

КРАШЭ′ЦЬ *незак.* Запякацца, гусцець. *Кроў крашэіць, нада пасаліць і памяшаць, кап не крашэла.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *krešė̃ti* 'тж'.

КРАЮ′ШАЧКА *ж. памянш.* да к р а ю́ ш к а. *Яна мне толькі краюшачку хлеба адламаўшы.* Альхоўка Навагр.

КРАЮ′ШКА *ж.* Акрайчык. *У мамы краюшка хлеба, бо Гэля прыедзець.* Пасіене Лудз.; *параўн.* руск. *краюшка* 'тж'.

КРВОПІ′ЙЦЯ *м. пагард.* Крывапівец. *За ніемця давсе людям во знакі, крвопійцёю був.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *krwiopijca* 'тж'.

КРО′ВАЦЬ *ж.* Ложак. *Ён на кровацъ лёх. Мы павынасілі ўсе кроваці на двор.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* руск. *кровать* 'тж'.

КРО′ВАЧКА *ж. памянш.* Дзіцячы ложачак. Талейкі Швянч.

КРО′ГЛІК *гл.* КРО′ЛІК

КРО′ІННЯ *н.* Кроенне. *Якое тваё кроіння, няўмека ты!* Мярэцкія Глыб.

КРО′ІЦЦА *незак.* Крышыць, разразаць на кавалачкі. *Кроіцца трыбушок, ныркі, язык у вантрабянкі.* Солы Смарг.

КРО′ІЦЬ *незак.* 1. Адразаць часткі ад цэлага. *Будзіш хлеп кроіць.* Груздава Паст., Паляцкішкі Воран., Ністанішкі Смарг., Гайна Лаг. *Хлеп кроіць лустачкамі.* Вязынка Маладз. *Лусты хлеба кроілі.* Старыя Трокі Трак. *Як булкі хлеба, то кроім.* Баброўнікі Гарад. *Яна кроіла хлеп.* Масілавічы Сл. *Кумпякі соляць і вешаюць, а потым кроящь есці.* Старыя Трокі Трак. 2. Крышыць, разразаць на кавалачкі. *Дэнка малая і бальшая, сала на ёй кроящь. Галовы, ногі зварацъ, у печы*

*парацъ, кап упрэла, потым нажом кроящь мяса, разліваяць квашаніну, яна застынець і ядзяць.* Ракаўскія Швянч. *Бадылі ад буракоў у бочку клалі, патом кроілі.* Старыя Трокі Трак. *Пашлі машыны сечку кроіць, а даўней рукамі кроілі: цэлую ноч кроіць сечку ў хаце.* Грыкені Вільн. *Што сечку кроілі, там корба.* Быстрыца Астр. 3. Шчапаць. *Кроім шакалі.* Старыя Трокі Трак. 4. Араць, рэзаць плугам. *Нарох зямлю кроіць.* Данілавічы Дзярж.; *параўн.* польск. *krajać* 'кроіць, рэзаць'.

КРОК *м.* 1. Шырынка. *Нада аблажыць крок у штанах.* Мярэцкія Глыб. *Называюць крок і кятурка, крок бытта далікатней.* Магуны Паст. 2. у знач. *прысл. у краку.* Паміж калашын штаноў. *У краку ўстаўлялі кліны.* Саланое Віл. ◇ *(Даць) у крок* — ударыць, выцяць. *Ты мне ў крок і я табе ў крок.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *krok* 'шаг'.

КРО'КВЫ, КРО'КЛЫ, КРО'ХВЫ, КРО'ХЛЫ *мн.* Кроквы. *Па ачэпах ідуць кроквы, а па іх — латы.* Малахоўцы Бар. *Ставяць кроквы, а па іх — латы хваёвыя ці яловыя.* Дзяніскавічы Ганц. *Кроквы паставіў, збіў банды.* Старыя Смільгіні Воран. *Кроклы на латы клалі.* Лайпушкі Ігн. *Мурлаты паследнія кладуцца, а патом кроклы.* Індра Красл. *Кроклы паставяць і латы прыб'юць.* Валынцы В.-Дзв. *Кроклы нада на дах вешаць.* Ёдлавічы Брасл. *Кроклы ставяць на даху.* Альхоўцы Лях. *Крохвы далей запушчаны пат сцяну.* Старыя Трокі Трак. *Звязваюць крохвы.* Парэчча Гродз. *Перапускныя бярвення, на іх ставяць крохвы.* Рыбчына Віл. *Ставяць крохвы і застрэшваюць хату.* Стральцы Гродз. *Раньша ставіліся стоці, а патом — крохвы.* Магуны Паст. *Крохвы ложацца на ачэпчык і апіраюцца на даўжнік.* Гемзы Шальч. *На крохвы страха апіраецца.* Беразіно Докш. *Спрэку-веку называюць крохвы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Крохлы падпіраюць страху.* Ракаўскія Швянч. *Грабястуюць крохлы.* Быстрыца Астр.; *параўн.* польск. *krokiew* 'тж'.

КРО'ЛІК, КРО'ГЛІК *м.* Трус. *Здзічэлі кролікі.* Грыкені Вільн. *Кролікі ў яго ест.* Гемзы Шальч. *У клетках гадуюць кролікі.* Баброўнікі Гарад. *У нас кроглік і крагліца.* Востраў Маст.; *параўн.* руск. *кролик* 'тж'.

КРОЛЬ *м.* Тое ж, што і к р о́ л і к. *Кралё бываюць прастыя і пухавыя.* Баброўнікі Гарад.

КРО'МАЧКА *ж. памянш.* да к р о́ м к а. *Атрэж кромачку хлеба!* Мішневічы Шум.; *параўн.* руск. *кромка* 'пруг, кант'.

КРО'МІ *прыназ.* з *род.* Акрамя, апрача. *Калі што хачу сваей дачке даць, то нада кромі яго даць, каб ён не знаў.* Валынцы В.-Дзв.; *параўн.* руск. *кроме* 'тж'.

КРО'МКА *ж.* Акрайчык, лустачка, скарыначка. *Ні кромкі хлеба не было.* Стральцы Гродз.; *параўн.* руск. *кромка* 'беражок лёду'.

КРО'НАЧКА *ж. памянш.* Кружок. *Парэзала на кроначкі*

*каўбасу, паляндвіцу. То вазьмі кроначку м'яса!* Дзяніскавічы Ганц.

КРОП *м. бат.* Кроп. *Пайду кропу нарву ў халаднік.* Груздава Паст. *Мы па кроп хадзілі.* Паляцкішкі Воран. *Кроп расце.* Крынкі Крын. *Кроп стары, кроп маю марынаваўшы.* Старыя Трокі Трак. *Да гуркоў даюць кроп.* Баброўнікі Гарад. *Бяру кроп для запаху.* Солы Смарг.

КРО'ПІЛЬКА *ж. памянш.* Кропелька. *Вот малако жырнóя, аш кропількі тлушчу навярху.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *kruopẽlės* 'крупінкі'.

КРО'ПІНА *ж.* Адно каліва кропу. *Кропіну скруціць у кружалачку і пятнаццаць капеяк просіць.* Курапалле Паст.

КРО'ПЛЯ *ж.* 1. Кропля, капля. *Кропля дажджу ўпала на твар.* Старое Сяло Зэльв. *Кроплі мёду напацеўшы на лістах стаяць, пчолы часта бераць гэты мёт.* Груздава Паст. *Кроплямы выступаіць жывая смала.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* польск. *kropla* 'тж'. 2. *мн.* Лякарства. *Купіла кропляў ад сэрца.* Кнышэвічы Бабіц.; *гл.* к р á п л я.

КРО'ПШТАЦЦА *незак. экспр.* Корпацца, марудзіць. *Так кропштайіцца каля хаты.* Чычалі Швянч. *Сама сядзіш і кропштаешся.* Малькуны Ігн. *Бабушка сядзіць і кропштаецца патрошку.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *krapštýtis* 'капацца, калупацца'.

КРО'ПШТАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к р ó п ш т а ц ц а. *Цэлы дзень кропштаю, а німа чаго паказаць, што зрабіла.* Старыя Смільгіні Воран. *Што ты тут кропштаеш?!* Малькуны Ігн.

КРО'СНЫ, КРО'СНА толькі *мн.* 1. Ткацкі станок. *Кросны — гэта варстат.* Швэды, Грыкені Вільн. *Давай унясём у хату кросны, няхай пасохнуць, сагрэюцца!* Ёдлавічы Брасл. *Трэба ўнясці кросна, будзем ткаць.* Паляцкішкі Воран. *Даўнейшыя простыя — кросна, а пазней — варстат.* Дакудава Лід. *Кросна прадала. Пазыч мне красён. Фабрыка такого не вытчэ, як яны здзелаюць на гэтых кроснах.* Баброўнікі Гарад. 2. Аснова палатна. *Пайду снаваць кросна. «На што ты прадзеш? — На кросна». Адбіваюць, выпарваюць, сушаць — гэто ўсе кросна.* Альхоўцы Лях. 3. Навітая на ткацкі станок аснова ў працэсе ткання. *Баба канчая кросны ткаць.* Гемзы Шальч. *Пойдзем да Волькі, у яе кросна стаяць.* Малахоўцы Бар. *Доткалы кросна.* Горск Бяроз. *Кросна — свая фабрыка.* Альхоўка Навагр.∇ *Жилкі пнуцьця, рот трасэцьця, дэ розявицьця, там упрэцьця* — кросны. Дзмітравічы Кам. 4. Станок для вырабу алею. *Такія мелі кросны і ціскалі алей с сямення.* Канюкай Вільн.

КРОТ *м.* Крот. *Крот зямлю рые.* Грыкені Вільн. *Крата забілі, зямлю крот парыў.* Лоск Валож. *Котка прывалакла крата.* Парэчча Гродз. *Карэне пад'ядае крот. Кратэ перавязістыя, доўгія. Крот пад вярхом ходзіць.* Баброўнікі Гарад. *Кратэ*

*зямлю точуц.* Парэчча Гродз. *Крот дарогаў не рабіў, а таму здыхая, як вылязя на дарогу.* Жылі Іўеў. *Краты парылі гарот, сыпала дуст — ні хваробы не памагаіць, а сягоня пагляджу— кучы нарыўшы.* Рагулішкі Даўг.

КРОЎ *ж.* і *м.* Кроў. *Кроў шла, не маглі адзержаць.* Баложы Даўг. *Кроў праз жылы не праходзіў.* Малькуны Ігн. *Як даў з носу кроў — і ніяк не маглі задзержыць.* Ёдлавічы Брасл. *Кроў так цёк, кроў гусценькі. Кроў рыштокам пацёк.* Старыя Смільгіні Воран. *Сэрца аблілося кроўем.* Талейкі Швянч. *Увесь у крыве.* Вялікія Баяры Шчуч. *Гной с крыве ідзе з вачэй.* Парэчча Гродз. *Крывею панабягала ўсе ў сярэдзіне.* Кузьмічы Люб. *Дзяўчына крывёй сплыла — ляжыць чуць жывая.* Солы Смарг. *Ад едлаўца каровы мочацца крыўлёю. Многа людзей было пабітых, озеро напоўніцца крыўлёю.* Мсцібава Ваўк. *Случаі такія бываіт* [бываюць]: *карова падаілась кроўю, таму што ластаўка пераляцела пад карову — гаварат так, а я думаю, што ад ластаўкі не можэт карова кроўю даіцца.* Рагулішкі Даўг. ◇ *Кроў на свеце пакінуць* — быць раненым у час вайны. *Мой сын кроў на свеця пакінаў.* Саланое Віл.

КРОЎШ, КРОЎЖ *м.* 1. Бераг ракі. *Нада сматрэць, штоб плыт не ўдарыўся ў кроўш, а бываіць у кроўш каля завароту ракі ганок упрэцца, балтышы ідуць і атпіхаюць плыт, кап у кроўш не ўдарыўся. Пат краўжом ракаў ловяць.* Кураполле Паст. 2. Высокі абрывісты бераг. *Высокая гара ля ракі, што ўзлесці нельзя — кроўш. Па краўжах паземкі цвытуць.* Ракаўскія Швянч. *С краўжа можна ўкуліцца ў раку.* Малькуны Ігн. 3. Завадзь. *Упала ў кроўш; трава расцець у краўшу.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *kriaũšis* 'абрыў, круча', *kriaušlỹs* 'сухі край берага з глыбокімі норамі'.

КРО'ХАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Свіня крохаіць.* Магуны Паст.

КРО'ХВЫ *гл.* КРО'КВЫ

КРО'ХІ, КРО'ХЫ *прысл.* Трохі. *Наросла бульба, крохі буду копаці.* Азарычы Пін. *Сходы крохы дров прынысы!* Сіманавічы Драг.

КРО'ХКІ *прым.* 1. Сухі, крохкі. *Крохкія баранкі, я іх размачу і ем.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Рассыпісты. *З грачышнай мукі, як бульбы прытрэш, ускварыш — бапка крохка, файна.* Галубы Маст. 3. Крамяны. *У ласей у мяся няма плеваў, яно любовая, але яно крохкая: можна кусаць удоўшкі і папярок.* Крэва Смарг. 4. Ломкі. *Жульвіца — вродзе лаза, крохкая, лісты, як у лазе, расце таўстая, раскідзістая.* Індра Красл. *Белая лаза — крохкая, а с краснай — кошыкі плятуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Фасоль крохкая — паламаецца, як куры будуць хадзіць.* Валынцы В.-Дзв.

КРО'ХЛЫ *гл.* КРО'КВЫ

КРО'ХЫ *гл.* КРО'ХІ

КРО′ША *ж.* Тое ж, што і к р о ў ш 1. *Кроша ў берага ракі: пад'ём уверх — і кроша.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kriaū-šis* 'тж'.

КРО′ШКА *ж. памянш.* 1. Маленечкі кавалачак хлеба. *Як ужэ наскідаеш, то хлеп там накрышыцца — гэто крошка. Пазбірай тые крошкі, кап не валяліся!* Баброўнікі Гарад. *Крошкі хлеба на стале.* Альхоўцы Лях. *Крошка хлеба ўпала.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Вялікі кавалак чаго-н. *Вось табе крошка сала — вазьмі, а то мне цяшка ў руцэ трымаць.* Ухвала Круп. 3. Невялікі ўчастак зямлі. *Крошка сваёй зямлі ў мяне была, лугі касілі.* Скрыпчына Лудз.

КРО′ШКУ *прысл.* Трохі. *Крошку папалола свяклу, лук.* Навікі Лудз.

КРО′ЯНКА *зб. ж.* Вузкія палоскі лыка, прыгатаваныя для пляцення чаго-н. *Як плятуць што, то наразаюць палоскі і называюць кроянка.* Глівін Барыс.

КРО′ЯНЯ *н. крав.* Кроенне. *Якое тваё кроя ня, трэба было па форме кроіць, не бярыся лепей і не гацься!* Кіралі Шчуч.

КРУГ I *м.* 1. Спрасаваны воск у форме круга. *Даўней кругі воску прадавалі.* Рыбчына Віл. 2. *мед.* Лішай. *Надзя набралася ад некага: кругі пашлі.* Магуны Паст. 3. Ходнік круглай формы. *Панясу круг с-пад нох патраплю.* Азяраны Раг.

КРУГ II *м.* Акруга. *Ён быў масцер на ўвесь круг.* Ахрэмаўцы Брасл.

КРУГ III *прыназ. з род.* Вакол, навокал. *Людзі круг света знялі нас.* Саланое Віл. *Зародышы яек праверу круг сонца.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КРУ′ГА′ *прысл., прыназ.* з *род.* Вакол, навокал. *Пашла кру́га.* Магуны Паст. *Кругá апкопваем.* Крэва Смарг. *Дож абходзіць кругá.* Пасека Ст.-Дар. *Падрубы ўжо завёў — паклаў па перваму палену кругá.* Рыбчына Віл. *Селі кругá.* Старое Сяло Зэльв. *Латыгаль — было голае месца, а кругá лес быў.* Латыгаль Віл. *Дзеці бегаюць кругá хаты.* Мярэцкія Глыб. *Дзеці лётаюць кругá стала.* Рыбчына Віл. *Вядзе кругá століка.* Крынкі Крын. *Кругá хаты пасеяла траву.* Саланое Віл. *Яны кругá стала сідзяць.* Кураполле Паст. *Кругá дзерава бегая кот.* Старое Сяло Зэльв. *Ходзя кругá хлева.* Лоск Валож.

КРУГАВУ′Ю *прысл.* Тое ж, што і к р ý г á. *Абыдзя кругавую.* Жылі Іўеў. *Кошык плятуць кругавую.* Стральцы Гродз.

КРУГАВЫ′ *прым.* Круглы. *Там кругавое балота.* Старыя Трокі Трак.

КРУГАЛЯ′ *прысл.* Тое ж, што і к р ý г á. *Ён едзе кругаля, аб'яжджая рэчку. У канаву перакуліўся ні нашны шофяр, не аб'ехаў кругаля.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРУГА′НЧЫК *м. памянш.* Невялікая хмарка. *Круганчык надышоў — і дошч пашоў.* Жыдзевічы Іўеў.

КРУГЕ′ЛЬКА *ж.,* КРУГЕ′ЛЬКІ, КРЫГЭ′ЛЬКІ *мн.* Мата-

віла. *Паламалася кругелька.* Бабро́ўнікі Гарад. *Можна мата́ць тые матке на такіе кругелькі і развіваць маток на клубок. На кругелькі маталі, а потым снавалі аснову. С кругелькаў кросны снавалі і на кругелькі клалі маткі і маталі ніткі з маткоў.* Мсцібава Ваўк. *Крыгелькі былі.* Каўняны Гродз.

КРУГЕ'ЛЯ *ж.* Тое ж, што і к р у г е́ л ь к а. *Кругеля зроблена так: дзеравянных штэры чы шэсць калочкаў у крушкі, на яе навіваюць ніткі із шпулі, як хто хоча.* Лука Нараўк.

КРУГІ' толькі *мн.* Тое ж, што і к р у г е́ л ь к а. *І клупкі вілі, і на кругі вілі, а з іх снавалі кросна.* Навасёлкі Свісл.

КРУГІ'-КРУГІ' *выкл.* Перадача рохкання, вішчання. *Свінка лятая і — кругі-кругі! Нада ей даць есці.* Кудзялянцы Шальч.

КРУГІ'КАЦЬ, КРУГІ'ЧЫЦЬ *незак.* Рохкаць, вішчаць. *Парасёнак усё кругікаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кругічаць маленькія парасяты.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kriugénti* 'тж'.

КРУГЛАВІ'ДЫ *прым.* Круглатвары. *Быў харошы круглавіды чалавек.* Гемзы Шальч. *Круглавіда дзеўчына.* Мсцібава Ваўк.

КРУГЛАЛІ'ЦЫ *прым.* Тое ж, што і к р у г л а в і́ д ы. *Мой брат круглаліцы.* Мярэцкія Глыб. *Гэтая дзевачка круглаліцая.* Парэчча Гродз.; *параўн.* руск. *круглолицый* 'тж'.

КРУГЛЕ'Ц *м. бат.* 1. Асака. *Круглец — такая асака, яе ніхто ні есь.* Ахрэмаўцы Брасл. *Круглец — круглая асака.* Азяраны Раг. 2. Сіт. *Круглец на ніскіх мястах расцець, і называюць яшчэ конская цыбуля.* Мярэцкія Глыб.

КРУ'ГЛІНА *ж.* Нізіна круглай формы. *Там кругліна невялікая.* Вецярэвічы Пух.

КРУ'ГЛІЦА *ж.* Капа круглай формы. *Адна кругліца сена стаіць. Сена складаюць у капешкі і ў кругліцы.* Груздава Паст.

КРУГЛО'ВІНА *ж.* 1. Участак круглай формы, які выдзяляецца ў якіх-н. адносінах ад акаляючага асяроддзя. 1. Балота. *Там балацявіна, кругловіна такая, ніская места, асака расце, трасіна.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. Лужына. *Кругловіна вады е на лузі.* Азяраны Раг. 3. Вымаклы ўчастак пасеву. *Кругловіна жыта вызаліла.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Грудок сярод балота. *У балоці бывая сухая кругловіна.* Рудня Астравітая Чэрв. *Сярот балота кругловіна такая, там кусочак бору, брусніцы растуць, яшчэ называюць тую кругловіну верацейкай.* Ухвала Круп. 5. Участак лесу, кустоў, сенажаці. *Там кругловіна лесу, баравікі раслі.* Беразіно Докш. *Там добрая кругловіна малін.* Мярэцкія Глыб. *Кругловіну выкасіў, высек.* Рыбчына Віл.

КРУГЛО'ВІНКА *ж. памянш.* Кружочак, лапінка. *Толькі кругловінка хусткі была відаць, а ўся* [жанчына] *была зямлёй засыпана.* Саланое Віл.

КРУ'ГЛЫ *прым.* Круглы. *Рашка нізенькая, шырокая і круглая.* Судэрва Вільн.

КРУГЛЯ'К *м.* 1. Бервяно. *Спілуюць хвою і прывязуць кругляк дахаты.* Кіралі Шчуч. *Сцены ў хаце былі с круглякоў, іх, бывала, вышуруюць, яны жоўтыя-жоўтыя, ведама ўсмаленыя.* Граўжышкі Ашм. *Абпілованая хвоя — кругляк.* Вострава Маст. *Сцяна с круглякоў была.* Гемзы Шальч. *Зразаюць дзерава з пня і на круглякі распілоўваюць.* Азяраны Раг. 2. Тое ж, што і к р у г л е́ ц 1, 2. *Кругляк — асака с круглым сцяблом, расце па хвойніку, кругла шорстка трава.* Альхоўцы Лях. *Балота там і лес, кругляк расце.* Якшыцы Бярэз. *Кругляк — тое, што і сітнік, пучком расцець.* Ухвала Круп. *Кругляк — не яткáя трава.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кругляк каровы не ядуць.* Вецярэвічы Пух.

КРУ'ГЛЯНЬКІ *прым.* Кругленькі. *Круглянька сетка.* Малахоўцы Бар.

КРУГО'М *прысл.* Тое ж, што і к р у́ г а́. *Кругом дым, гарыць усё.* Рагулішкі Даўг. *Даўней кругом лясы былі.* Мсцібава Ваўк. *Я кругом была адважна.* Баброўнікі Гарад. *Кругом азіра ў нас лух.* Істра Лудз. *Там жа дачнікаў кругом азяра.* Лісна В.-Дзв. *Пашлі кругом лесу.* Ёдлавічы Брасл. *Лётая кругом хаты.* Лоск Валож.; *парайн.* руск. *кругом* 'тж'.

КРУЖА'ЛАЧКА *ж. памянш.* Кружок. *Кропіну скруціць у кружалачку.* Кураполле Паст.

КРУЖА'ЦЬ *незак.* Кружыць. *Надаела муха — кружаіць і кружаіць.* Валынцы В.-Дзв.

КРУ'ЖКА, КРУ'ШКА *ж.* Конаўка, кубак. *Даўней кружкі былі самадзелкавыя, гліняныя.* Пасіене Лудз. *Дай крушку вады напіцца!* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *кружка* 'тж'.

КРУЖКА', КРУШКА' *прысл.* Тое ж, шо і к р у́ г а́. *Калі снавалі кросны, кружка нітка ідзець.* Старыя Трокі Трак. *Як ісці крушка, то кілометры тры будзя.* Лоск Валож. *Як ужо канчалі жаць, то аставяць чубок жыта, абагнуць яго, хлеба пакладуць, кап у будучым расло, крушка ходзяць, спяваюць.* Дакудава Лід. *Ідзіця там крушка!* Ракаўскія Швянч. *Мы крушка апходзілі.* Старыя Смільгіні Воран. *Абракаліся, бывала, кружка цэрквы пойдзя на каленках.* Азяраны Раг.

КРУ'ЖНА *прысл.* Кружна, далёка. *Кружна будзіць так ехаць.* Валынцы В.-Дзв.

КРУЖНІ'К *м.* Скрутак у форме абаранка. *Кружнік лык.* Лісна В.-Дзв. *Скруціў лыка ў кружнік.* Беразіно Докш. *У кружнік круцілі лазу.* Палік Барыс. *Кружнік лазы. Бывала, кружнікі на шост начапаюць, навешаюць кружнікоў цэлы шост.* Мярэцкія Глыб.

КРУЖНЮХА' *ж.* Тое ж, што і к р у ж н і к. *Наматываяш лыкаў на руку ў кружнюху, кружнюхі лыкаў.* Лісна В.-Дзв.

КРУЖНЯ' *ж.* 1. Тое ж, што і к р у ж н і к. *Кружня лазы.*

Мярэцкія Глыб. 2. Куча камення. *Там кружня камення ляжыць.* Мярэцкія Глыб. 3. Гняздо яек. *Я кружню яйік нашла пат плотам.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* к р у́ ш н я́.

КРУЖНЯ́ЦЬ *незак.* Кружыць. *Мы заблудзілі і кружнялі ў лясу.* Лісна В.-Дзв.

КРУЖО́К I *м.* 1. Драўляны кружок, на якім рэжуць што-н. *Кружок — рэзаць сало.* Лука Нараўк. *Дай кружка порэзаці сало!* Калясное Міхал. *Подэй мне кружок, я порэжу сало!* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Лустачка кілбасы. *Адрэж мне кружок каўбасы!* Азяраны Раг.

КРУЖО́К II *м. анат.* Чапец. *Кружок на кішках, як разбіраюць кабана, здымаюць яго і скручваюць.* Гемзы Шальч.

КРУЖО́ЛКА *ж.* Тое ж, што і к р у ж н і́ к. *Даўней кружолкі круцілі з лазы і нізалі ў вясло, а зімою размочвалі кружолкі і плялі лапці.* Вецярэвічы Пух.

КРУЖЫ́ДЛО *н.* Тое ж, што і к р у г е́ л ь к а. *Было кружыдло, с кружыдла маткі маталі.* Мсцібава Ваўк.

КРУ́ЖЫК *м.* Кубак. *Налей у кружык малака! Купіла кружыкаў.* Баброўнікі Гарад.

КРУЖЫ́ЛІНЫ *мн.* Абручы ў рыбалоўнай снасці. *Кружыліны абцягуюць сеткай, і дзе гразкія ямы, там таптухаю ловяць рыбу.* Азяраны Раг.

КРУЖЫ́ЦЦА *незак.* Кружыцца. *Як падумаю — галава кружыцца.* Міратычы Карэл.; *парайн.* руск. *кружиться* 'тж'.

КРУЖЫ́ЦЬ *незак.* Замаўляць, абводзячы кругі. *Як ускочыць крух — кружыць нада; хто ўмеіць, той тады кружыць.* Мярэцкія Глыб.

КРУ́ЖЫЧАК *м. памянш.* да к р у́ ж ы к. *Шчэ і кружычак свой накіпяціце чаю!* Баброўнікі Гарад.

КРУЖЭ́ЧАК *м.* Накрыўка. *Кружэчак быў накрываць гаршкі.* Дзяніскавічы Ганц., Нізок Уздз.

КРУЗ *прыназ.* з *род.* Праз, скрозь. *Я пралезла круз плота.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Кышка* [кошка] *круз окэнычко в комору лазыть.* Сіманавічы Драг.

КРУК I, КРЮК *м.* 1. Драўляная прылада з кручком на канцы для выскубвання сена. Данілавічы Дзярж., Рыбчына Віл. *Крукам цягалі сена.* Ахрэмаўцы Брасл. *Крукам цягаюць сена іс сташка.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Драўляны калок, жалезны гак. *Ад вядзмедзяў крукі ўбівалі ў борці і насціл клалі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Крук такі згінаецца, каб не зляцела калыбель.* Баброўнікі Гарад. *Да палазоў прывінчвалі крукі.* Лука Нараўк. *Крюкі жалезныя, падвешваюот на чём.* Скрудалена Даўг. *Дзверы на круках. Завес есь, а крука няма. Крукамі цяпер не называюць.* Баброўнікі Гарад. 3. Прылада для скопвання гною. *Даўней быў крук дзеравяны гной скідаць.* Вецярэвічы Пух. *Крук быў навозны навоз скідаць, гной.* Мельнікі Лудз. *Крук — вілы з загнёнымі зубамі.* Мярэцкія Глыб.

*Крук — на тры зубы загнутыя; з вазá гной скопвалі крукам.* Малькуны Ігн., Ёдлавічы Брасл. *Гнаявы крук — гной з воза скідаць.* Індра Красл. *Бяры крукá, сцягвай гной!* Магуны Паст. 4. Матыка. *Крукам дзяўбуць грады.* Гайна Лаг. 5. *ткац.* Прыстасаванне для падвешвання набіліц, нітоў у кроснах. *На крукі вешалі набільніцы, ніты.* Вецярэвічы Пух.

КРУК II *м. заал.* 1. Крумкач, груган. Грыкені Вільн. *У нас крукі вялікія, чорныя, страшныя, крычаць: кро-кро!* Ёдлавічы Брасл. *Крук і курыцу заклюе.* Баброўнікі Гарад. *Крукі нападают на гусей малых.* Лука Нараўк. *Крукі з доўгімі дзюбамі.* Крэва Смарг. *Крукé кромкаюць, нападаюць на куры.* Кіралі Шчуч. *Цяпер поўны лес крукоў.* Парэчча Гродз. 2. Грак. *Крук з белым дзюбам.* Старыя Смільгіні Воран.

КРУКАВА'ТЫ *прым.* Загнуты кручком. *Крукаватыя вілы, імі гной скідалі.* Дакудава Лід.

КРУКАВА'ЦЬ *незак.* Матычыць. *Крук на два зубы, ім крукуюць на рысах, дзе цвёрда.* Рудня Чэрв.

КРУ'КАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Свіні крукаюць.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* літ. *kriuksėti* 'тж'.

КРУЛЬ *м. заал.* Самец гадзюкі. *У гадзюкаў ёсць круль.* Ёдлавічы Брасл.

КРУ'МГАЦІ *гл.* КРУ'МКАЦЬ

КРУМЕ'ЛЬ *м. заал.* Пячкур. *Крумель на пясочку, па пішчаных містах водзіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Крумелі — кругленькія.* Кураполле Паст.; *гл.* к у р м é л ь.

КРУ'МКАЦЬ, КРУ'МГАЦІ *незак.* Квакаць. *Жабы крумкаюць.* Малахоўцы Бар. *Крумкаюць жабы ў балотах.* Малькуны Ігн., Мсцібава Ваўк. *Жабы крумгают.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* літ. *krañkti,* дыял. *kruñkti* 'тж'.

КРУМКА'Ч I, КРУНКА'Ч *м.* Тое ж, што і к р у к II, 1. *Крумкач — гэта груган.* Чычалі Швянч. *Крумкач прыляцеў чорны.* Малькуны Ігн. *Крумкач уваб'е курыцу: падляціць наперад і ўсё ў галаву б'е. Крумкачэ́ чорныя.* Пацаўшчына Дзятл. *Чорныя крункачы лётаюць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. дыял. *krunkõčius,* літар. *kranklỹs* 'тж'.

КРУМКА'Ч II *м. заал.* Лягушка, вадзяная жаба. *Гэто ў вадзе такі крумкач е, той па разу крумкае — жаба такая, яна мае іншы голас, штось не чуць іх цяпер.* Баброўнікі Гарад.

КРУМКЛА'Н *м. заал.* Грак. *Ёсць воран і крумклан.* Чычалі Швянч.; *парайн.* літ. *kranklõnas* 'тж'.

КРУМПЛІ', КРУНКЛІ' *мн. анат.* Суставы пальцаў. *Крумплі малыя і велькія, крумплямі пастукаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Крунплі рукі.* Чычалі Швянч. *Па другіх крумплёх адрэзана.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *krumpliaĩ* 'тж'.

КРУПАВО'Е *н.* Дробныя крупы. *Куранятам даюць тылько крупавое, куцявого нельзя даваць.* Стральцы Гродз.

КРУ'ПАЧКІ *мн.* У выразе: *У крупачкі* — шурпатая скура

ад холаду. *Рукі сталі аш у крупачкі — так пазяблі.* Саланое Віл.

КРУПЕ'НІЦА *ж. кулін.* Крупнік. *Крупеніцы налівалі ў міску.* Каўняны Гродз.

КРУПЕ'НЯ *ж.* Тое ж, што і к р у п е́ н і ц а. *Дайней крупені наварацъ вядзернік і за дзень з'ядуць.* Валынцы В.-Дзв. *Крупеню варылі с круп.* Малькуны Ігн. *Зачэрпай мне палонік крупені.* Пасіене Лудз. *Вот крупені наварыла!* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* літ. *kruopienė* 'тж'.

КРУПІ'НА *ж.* Крупіна. ∇ *Крупіна крупіну гоніць, а трэцяя шыю ловіць* — пра рэдкую страву. Бакшты Іўеў.

КРУ'ПКІ толькі *мн. памянш.* да к р у́ п ы 1. *Мед зрабіўся, як крупкі.* Саланое Віл.

КРУ'ПНА *прысл.* Буйна. *Дайней малолі ў жорны і казалі: «Ня сып пойную копку — крупна ідзець!»* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *крупно* 'тж'.

КРУ'ПНІК *м.* 1. Тое ж, што і к р у п е́ н я. *Дайней на бет навара матка крупніку якога, а цяпер не прыдумаеш, што варыць, распанелі людзі.* Крэва Смарг. *Была наварыўшы крупнік ды прасаліла.* Паляцкішкі Воран. *З ячменю наварыш крупніку; як густой — то каша, а як рэткі — то крупнік. Укінь у крупнік кусочак кумпяка!* Баброўнікі Гарад. *Хто крупнік варыць, хто — кашу.* Дакудава Лід. *Дайней крупнік варылі і елі — аж за вушамі трашчала.* Пацаўшчына Дзятл. 2. *абрад.* Памінальны абед. *Робяць крупнік па пакойніку: пераспяваюць песні, паядуць, могуць крупнік адлажыць за нядзелю, як няма часу.* Мсцібава Ваўк.

КРУ'ПНЫ' *прым.* 1. Буйны. *Кру́пную салому ў куле вяжуць.* Парэчча Гродз. *Яму вязець: зярно ў яго крупно́я, як боп.* Курàполле Паст. *Там маліны раслі кру́пныя.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *крупный* 'тж'. 2. Зроблены з круп. *Крупна́я мука — мука з абдзёртых круп, крупчатка. Крупна́я каша — каша з ячменных круп.* Жодзішкі Смарг.

КРУПЧА'ТЫ *прым.* 1. Крупчасты. *Снег такі крупчаты, буйны.* Ухвала Круп. 2. *вет.* Трыхінозны. *Крупчаты паршук.* Баброўнікі Гарад.

КРУ'ПЫ', КРУПЭ' толькі *мн.* 1. Крупы. *Дайней кру́пы рабілі ў ступе.* Беняконі Воран. *Кру́пы з ячменю.* Грыкені Вільн. *У кара́нкі ссыпалі кру́пы.* Жодзішкі Смарг. *Беры кру́пы ды вары кашу!* Малыя Аўцюкі Калінк. *Крупэ робат.* Дзмітравічы Кам. *Купіла крупо́ў.* Кіралі Шчуч. 2. Крупнік. *Кру́пы беленыя — гэто кру́пы ячменныя з малаком.* Ракаўскія Швянч. *Зварыла круп.* Мярэцкія Глыб. *Ячменныя крупы́ вару, будзіця есці?* Мсцібава Ваўк. *Можа, крупо́ў звару.* Парэчча Гродз.

КРУПЭ'РНЯ *ж.* Крупадзёрка. *У мельніцы была крупэрня.* Магуны Паст.

КРУПЯ'НІЧКІ толькі *мн. памянш.* Крывяная каўбаса. *Як*

*кішке надзівалі, крупы мяшалі с крывею і налівалі кішке — крупянічкі звалі.* Новікі Гродз.

КРУПЯНЫ′ *прым.* Тое ж, што і к р у́ п н ы́ 2. *Дзяшар пякуць крупяны і крывяны.* Ёдлавічы Брасл. *Сягоня каша крупяная.* Мярэцкія Глыб.

КРУ′ПЯНЬ *м.* Тое ж, што і к р у п е́ н я. *Густы крупянь уставіла, малаком развесці трэба. У адзін гаршчок налея капусты, у другі — крупянь.* Рудня Чэрв. *Крупянь пярловы варыла.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРУ′СНЯ *гл.* КРУ′ШНЯ′

КРУ′ТА, КРУ′ТО *прысл.* 1. Надта скручана. *Крута спрадзеныя ніткі, крута напрала.* Паляцкішкі Воран. *Крута і плоска прадзе.* Лука Нараўк. *Крута спрадзеныя ніткі — крутыя, а някрута — простыя.* Гайна Лаг. *Крута прадзе.* Магуны Паст. *Круто прадзе.* Номікі Бабіц. *Не прадзі так круто!* Крынкі Крын. *Круто напрала воўны на дыван.* Верхлессе Крын. 2. Вельмі хутка, быстра, паваротліва. *Глаша крута робіць.* Валынцы В.-Дзв. *Тая баба яшчэ крута паварочаваецца.* Кураполле Паст. 3. Строга, патрабавальна. *Наш прадсядацель перш крута брау́.* Рагулішкі Дауг. 4. Бурна. *Вада крута кіпіць.* Індра Красл.

КРУТА′ВЫ *прым.* Бурны, круты. *Крутава мяцеліца курганэ́ снегу панавеяла.* Новікі Гродз.

КРУТАГАЛО′ЎКІ *мн. заал.* Апалонікі. *Крутагалоўкі ў лужах вясной.* Лоск Валож. *Крутагалоўкі, з іх лягушкі робяцца.* Крэва Смарг. *Бацян глытая крутагалоўкі; як карова п'е — можа ўцягнуць іх.* Гемзы Шальч.

КРУТАНУ′ЦЦЯ *зак.* Павярнуцца. *Не магу крутануцця — так калацё коля ў хлябу. Хоць трошка крутанісь, дай мне сесць!* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *krutėti* 'шавяліцца'.

КРУТА′ХІ *мн.* Тое ж, што і к р у т а г а л о́ ў к і. *Ай, ня пі ты вады з лужыны, сколькі тут крутах!* Курапоўле Паст.

КРУ′ТАЦЦА *незак.* Круціцца, віцца. *Крутаюцца гадзюгі ў карчах.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *krutėti* 'шавяліцца'.

КРУ′ТАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і к р у́ т а ц ц а. *Віюны крутаюць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Шавяліцца. *Хто-та за плечы залез і крутая.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Спяшацца, завіхацца, хутка рабіць. *Скарэй крутаю, кап ісці работаць.* Малькуны Ігн. *Ужо ляціць, крутаіць на работу. «Куды ты крутаіш ісці? — давай пагаворым, ня крутай!» Відзіш, як яна крутала, а яшчэ толькі дзевіць часоў. Крутай дома, крутай туды-сюды — памерці некалі будзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Даглядаць. *Ляжыць хворы, баба каля яго крутаіць.* Курополле Паст.; *парайн.* літ. *krutėti* 'шавяліцца'.

КРУ′ТКА *ж.* Перавясла. *Крутка — чым снапы вяжуць.* Пасека Ст.-Дар.

КРУ́ТНЯ′ *ж.* Закрутка для прымацавання аглабель да полаза. *Крутня ў санях, крутню трэба закруціць.* Жыдзевічы Іўеў.

КРУТУ′ХА *ж.* Завіруха. *Як узнімецца крутуха, то снех круціць.* Лоск Валож.

КРУТЫ′ I, КРУТЫ′Й *прым.* 1. Надта скручаны. *Крутая нітка.* Ракаўскія Швянч., Паляцкішкі Воран. *Можа быць вольная нітка і крутая.* Старыя Трокі Трак. *Крутыя ніткі: адна прадзець крута, а другая — свабодна.* Рагулішкі Даўг. *Крутыя і вольныя ніткі.* Чычалі Швянч. *Як ты напрала ніцей крутых.* Кіралі Шчуч. 2. Хуткі, рухавы. *Яна яшчэ крутая на работу мая баба была.* Лісна В.-Дзв. *Крутый у рабоця чалавек.* Саланое Віл. *Мой Іван яшчэ крутый і я крутая, як выпраўлюся бехчы — не дагоніш.* Саланое Віл. *Не лянівая, крутая бапка і ўмелая.* Кураполле Паст. 3. Пакручасты (пра драўніну). *Вот крутое дзерава — не парубаеш.* Беняконі Воран. *Крутое моцы дэрэво, аж его нэ пэрэрэзаты.* Горск Бяроз. *Вот крутоя дзерава, не парубаеш яго, ні раздзярэш, такоя крутоя.* Кіралі Шчуч. *Крутоя дзерава, яго няможна ні ўпілаваць, ні ўгабляваць.* Солы Смарг. 4. Няроўны, крывы. *Крутая дарога: то ў той бок, то ў той бок.* Міратычы Карэл. 5. Стромы. *Берах крутый, не можно спусціцца.* Баброўнікі Гарад. *У нас крутая крыша.* Скрудалена Даўг. 6. *перан.* Востры на язык, дасціпны. *Тая баба на работу крутая і на язык крутая.* Саланое Віл. 7. Мянушка непаваротлівага чалавека. *У нас кажуць круты на тоўстага чалавека, ён чуць паварочваецца і гаворыць, як ня еўшы, і ходзіць, як не спаўшы; як гукаеш на яго: «Круты!» — і адзываецца.* Мярэцкія Глыб.

КРУТЫ′ II *прым.* Густы. *Крутая каша выйшла — круп многа насыпала.* Ухвала Круп. *Крутую кашу зварыла.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРУХА′ВЫ *прым.* 1. Крохкі. *Як спячэш, палучаецца пячэння крухавая.* Крэва Смарг. *Ёсь баранкі крухавыя. Як малако перагрэта — сыр крухавы.* Кураполле Паст. 2. Пульхны. *Калі смятаны кіну ў рашчыну, бліны натта крухавыя.* Крэва Смарг. 3. Крамяны. *Натта крухавая расада, крухавінькая.* Саланое Віл.; *гл.* к р о́ х к і.

КРУ′ХАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Крухаіць кабан.* Валынцы В.-Дзв. *Свінні крухаюць.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *kriuksėti* 'тж'.

КРУ′ХІ толькі *мн. кулін.* Саладуха, страва з запаранай мукі. *Крухі даўней рабілі: запарвалі муку, кідалі ў воду, закісня, падліваюць вады і кісня, тады бяром цыбулю, крышам у крухі і ямо з картошкаю.* Міратычы Карэл.

КРУХМА′Л *м.* Крухмал. *У крухмале іе груткі, трэба прасеіць.* Дзяніскавічы Ганц.

КРУЦЕ′Й *прысл.* 1. Хутчэй. *Іванова круцей ходзіць, чым я.*

Валынцы В.-Дзв. *Гэты чалавек стары, а круцей ходзіць за гэтага маладога.* Кураполле Паст. 2. Больш скручана. *Спускліва наматвалі на ўток, круцей — на аснову.* Быстрыца Астр.

КРУЦЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Рухавейшы. *Атца цётка старая, але за мяне круцейшая, на грудзях здаровая.* Станіслаўцы Глыб. *Вера круцейшая за мяне.* Валынцы В.-Дзв.

КРУЦЕ'ЛЬ I *м.* 1. Скручаны дубец, вітка. *Зробіць круцель і прывязвае салому да латы, як даўней стрэхі крылі.* Кіралі Шчуч. *Віткі рубаюць і круцялё круцяць.* Каўняны Гродз. *Круціў круцяле з лазэ на кол, як платэ гародзяць. Круцяле круцяць з бярозаў.* Кіралі Шчуч. 2. Перавясла. *Круцель круцілі і сноп вязалі.* Вострава Маст. *Перавясло круцяць круцялём.* Навадворцы Васільк. 3. Скрутак лазы. *Круцель лазы надраў.* Саланое Віл. 4. Скрутак льновалакна. *Сколькі круцялёў натрапала?* Магуны Паст. *Можа, адзін круцель спрала.* Навікі Лудз. 5. Згорнутая ануча для падпальвання. *Круцель зробіць, запаліць і кініць пад будынак, кап пажар зрабіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 6. Сукаратка. *Круцялі на крутых нітках.* Валынцы В.-Дзв.

КРУЦЕ'ЛЬ II *м.* Вір. *Папаў на круцель і ня выплыў.* Кіралі Шчуч.

КРУЦЕ'ЛЬ III *м.* Ашуканец, падманшчык. *Круцель — паскудны чалавек. Там у іх сям'і круцялі, абманшчыкі адны, ніводнага не было, кап справядлівы быў.* Парэчча Гродз. ▽ *Бох відзіць круцяля.* Ёдлавічы Брасл.

КРУЦЕ'НЬ *м.* Тое ж, што і к р у ц е́ л ь I, 1. *Ідзі галін нарубай і зрабі круцень палажыць жэрткі! Нада чатыры круцяне жэрткі класці: у адным канцэ два і ў другом два.* Кіралі Шчуч.

КРУЦЕ'НЬКІ *прым. памянш.* да к р у т ы́ I, 2. *Ты круценькая яшчэ.* Саланое Віл.

КРУЦЕ'НЯ *н.* Абкручванне. *Каб ня гэтая круценя — кожды дроцік нада абкруціць паперкай — ня высядзеў бы столькі.* Вецярэвічы Пух.

КРУЦЁЛКА *ж.* 1. Дзвярная зашчапка. *У дзвярах была круцёлка і засаўка.* Скрудалена Даўг. *У дзвірах была круцёлка дзіравяная і дзіравяная засаўка.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бывала, запрэць хату і круцёлкай закруціць, кап дзверы не атчыняліся.* Валынцы В.-Дзв. 2. Драўляны вал з жалезнай ручкай у студні. *Круцім круцёлкай і ваду дастаём.* Ёдлавічы Брасл. 3. Вяртлюг. *У ланцузе есь круцёлка, яна круцiцца.* Парэчча Гродз. *Ланцух закручваецца без круцёлкі, а с круцёлкай—не.* Ёдлавічы Брасл. 4. Прыстасаванне, якое рэгулюе падыманне і апусканне жарнавога каменя. *Круцёлка падымая камянь угору ці ніжай апуская; за круцёлку зачэплена вяроўка.* Кіралі Шчуч. 5. Млён. *Круцёлка — што круціць жорна.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРУЦІ'ЦЦА I *незак.* 1. Абвівацца. *Маўра круціцца кала нох.* Гемзы Шальч. 2. Вярцецца вакол сваёй восі. *Круціцца кола ў калёсах.* Грыкені Вільн. *Круціцца камянь у жорнах.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Рабіць павароты. *Айшышска рэчка каля нас круціцца.* Кудзялянцы Шальч. 4. Кучаравіцца. *Круціліся валасы ў яе.* Альхоўцы Лях. 5. *безас.* Тое ж, што і к р у ж ы́ ц ц а. *Мне круціцца ў галаве.* Парэчча Гродз. *Мне ў галаве так круціцца — не магу работаць.* Кіралі Шчуч. ▽ *Калясы красныя круціліся ў галаве.* Рагулішкі Даўг. ◇ *Круціцца на ўме* — мільгаць у памяці. *Мне круціцца на ўме, но ні скажу.* Парэчча Гродз.

КРУЦІ'ЦЦА II *незак. біял.* Бегаць у час цечкі. *Карова круціцца, трэба весці да быка.* Магуны Паст. *Сýка круціцца.* Вострава Маст.

КРУЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Прыводзіць у рух. *Чалавек млён круце і меле.* Грыкені Вільн. 2. Збіваць, біць (пра масла). *Даўней круцілі масла ў чашке.* Рагулішкі Даўг. 3. Скручваць у скруткі. *У нас круцяць кудзелю і прадуць.* Малахоўцы Бар. *Пáкулі трасём, кудзелі круцім і прадзімо кудзелю.* Старыя Смільгіні Воран. *Здор круцяць у скрутак.* Малахоўцы Бар. 4. Выкручваць мокрае адзенне. *Адзежу пад ногі не круці — будуць падэшвы часацца.* Кураполле Паст. 5. Дзьмуць, веяць. *Круціць на дварэ круцеліца.* Старыя Смільгіні Воран. 6. *безас.* Балюча пранізваць. *Мне круця, баліць нага.* Гемзы Шальч. *У мяне раматус круця косці.* Солы Смарг. 7. *перан.* Махляваць, ашукваць. *Ён усім гэдак круціць.* Груздава Паст.

КРУЦЬ *выкл.* Крута павярнуць, крутануць. *Я крыкнула, а лось — круць на другі бок канавы і паляцеў.* Рагулішкі Даўг.

КРУЦЯ'КА *ж. асудж.* Гуляшчая, разгульная жанчына. *Яна круцяка, басцялася, нядобра вяла сябе.* Саланое Віл.

КРУЦЯЛА' *ж.* Доўгая жэрдка з загнутым дротам на канцы. *Круцялой дастаюць вядро, як упадзе ў калодзеж на дно.* Ісерна Слуц.

КРУЦЯЛЁК *м. памянш.* да к р у ц é л ь I, 4. *Круцяалькамі пакруціла кудзелю.* Ракаўскія Швянч.

КРУЦЯ'ШЧЫ I *дзеепрым.* Рухомы, прызначаны для намотвання. *Снуйка — круцяшча.* Дакудава Лід. *Круцяшча матавіла стаіць у станку, яго круцім за ручку.* Кіралі Шчуч.

КРУЦЯ'ШЧЫ II *прым. асудж.* Разгульны, гуляшчы. *Круцяшчы хлопец яе, нягодны.* Лука Нараўк.

КРУ'ЧА *ж.* 1. Завіруха. *Зімой бывая круча, вецер снех мяце.* Міратычы Карэл. 2. Вір. *Папоў у кручу і ўтонуў молоды чоловік. Круча — у рэчцы ямы такія.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КРУЧАНІ'НА *ж.* Тое ж, што і к р ý ч а 2. *Там кручаніна ў букця.* Бакшты Іўеў.

КРУ'ЧАНЫ I *дзеепрым.* Суканы. *Вір'юком кручаныя ніткі звіваюць.* Быстрыца Астр.

КРУ'ЧАНЫ II *прым.* 1. Хітры, дасведчаны. *Мы людзі не кручаныя, у гэтым не разбіраемся.* Бакшты Іўеў. 2. Шалёны. *Сабака кручаны бех.* Малахоўцы Бар. *Ай, але ж даўней і жызня была — мудрэй кручанага сабакі.* Грабёнка Чэрв.

КРУЧА'СТЫ *прым.* Кучаравы. *У яго кручастыя валасы.* Дакудава Лід.

КРУ'ЧКА *ж.* 1. Бручка. *Пасадзіла кручку, велька вырасла. Я кручку садзіла.* Стральцы Шальч. *Многа дуплістай кручкі.* Гемзы Шальч. *Кручкі каровя прынесла.* Быстрыца Астр. *Крўчкі ў нас ёсь.* Люск Валож. *Барбіць кручка, як пустая.* Солы Смарг. *Кручку садзяць і зварацьь. Парасла картошка, як кручка.* Кудзялянцы Шальч.; *гл.* ДАБМ, карта № 276. 2. Страва з бручкі. *Люблю натта белену кручку.* Гемзы Шальч.

КРУЧКАВЕ'НЯ *зб. н.* Лісце бручкі. *Даўней і кручкавеня варылі сабе.* Кудзялянцы Шальч.

КРУЧКО'ЎНІК *м.* Тое ж, што і к р у ч к а в е́ н я. *Кручкоўнік ядуць каровы.* Гемзы Шальч. *Наламала кручкоўніку.* Крэва Смарг.

КРУЧО'К I *м.* 1. Драўляная прылада для віцця вяровак. *Вяроўкі кручкамы вілі.* Мярэцкія Глыб. *Кручок — палачка с сучком абчышчаная, вілі вяроўкі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Драўляны клец, убіты ў сцяну. *Сіта вісіць на кручку.* Ухвала Круп. 3. Тое ж, што і крук I, 1. *Сена цягаюць кручком.* Ёдлавічы Брасл. *Кручком сена выскубваюць.* Беразіно Докш. 4. Тое ж, што і крук I, 3. *Кручок спецыяльны гной скідаваць.* Беразіно Докш. *Кручок каваль зробя: на два пальцы захіленыя, уха ест, штоб усадзіць палку. Кручком гной скідаюць.* Гемзы Шальч. 5. Рыбалоўны кручок. *На кручок ловім рыбу.* Беразіно Докш. *Кручок, што рыбу лавіць.* Саланое Віл. 6. Шыдэлак. *Кручком вяжуць карункі.* Старыя Смільгіні Воран. *Кручком рукавіцы можна вязаць; вяжуць хадачке́ малым.* Кіралі Шчуч. *Кручок зламаўся, чым вязаць.* Беразіно Докш. 7. Гаплік. *Кручок і афтку ўшываюць зашпіляць.* Грыкені Вільн. 8. *перан.* Што нагадвае форму кручка. *У каршуна нос кручком.* Рагулішкі Даўг.

КРУЧО'К II *м. заал.* Разнавіднасць авадня ці сляпня. *Кручок як хопіць ці карову, ці каня, дык ён з скуры выверчваецца.* Пацаўшчына Дзятл. *Кручкі садзюць гніды, а конь іх баіцца.* Гемзы Шальч. *Кручкі — мухі куслівыя, коні кусаюць.* Паляцкішкі Воран. *Кручкі каня кусаюць за храпу.* Старыя Смільгіні Воран. *Кручкі спанавалі коні.* Кураполле Паст. *Кручкі натта сядаюць на каня.* Івашкаўцы Смарг. *Кручке́ коні кусаюць.* Кіралі Шчуч.

КРУЧО'К III *м. устар.* Чацвярцінка, якая змяшчае 250 г гарэлкі. *Была маленькая бутылачка — поўкручка, а боль-*

*шанькая — кручок.* Бакшты Іўеў. *Кручок гарэлкі і поўкручок.* Номікі Бабіц. *Калісь вотка продалася ў гэтых кручках.* Баброўнікі Гарад.

КРУ'ЧЧА *зб. н. буд.* Тое ж, што і к л ю ч ы́. *Колісь крышу ставілі на круччы: на прагон чапляецца кручча, кладуць жордкі і ставяць крышу.* Азяраны Раг.

КРУША'ВЫ *прым.* Тое ж, што і к р у х а́ в ы 1. *Сыр крушавы.* Кураполле Паст.

КРУ'ШАЧКА *ж. памянш.* Кавалачак, крошачка. *Сала ўкрышыш крушачак чатыры.* Пасека Ст.-Дар.

КРУШКА' *гл.* КРУЖКА'

КРУ'ШНА *гл.* КРУ'ШНЯ'

КРУШНІ'К *м.* Кругловіна. *Крушнік лесу разрабілі на поле.* Бакшты Іўеў.

КРУ'ШНЫ *прым.* Сакавіты, крамяны. *Крушная трава лябяда.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* к р у х а́ в ы.

КРУ'ШНЯ', КРУ'СНЯ, КРУ'ШНА *ж.* 1. Куча камення. *Кру́шня — куча каменя, камні адны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ляжыць кру́шня камень.* Баброўнікі Гарад. *Кру́шня камней — дзе зваліны камні.* Рагулішкі Даўг. *Кру́шня — куча каменняў.* Быстрыца Астр., Нізок Уздз. *Кру́шня — дзе многа камень. Кру́шня камень на полі ест.* Каўняны Гродз. *Кру́шня каменяў ляжыць.* Дакудава Лід. *Кру́шня каменяў, там іх шмат, цэлая кру́шня наложана, яшчаркі вяліся ў кру́шня. Шчуры плодзяцца ў кру́шні.* Малькуны Ігн. *Набралі кру́шню каменяў.* Ракаўскія Швянч. *Збіраюцца вапельныя каменьчыкі, накладаюць кру́шню.* Крэва Смарг. *На полі кру́шня велькая камення.* Пацаўшчына Дзятл. *Вялікая кру́шня камення.* Беразіно Докш. *Там кру́шня каменя ляжала, воўк сядзіць на кру́шні і выіць.* Кудзялянцы Шальч. *Наскладалі кру́шню каменняў.* Магуны Паст. *Каля кру́шні расце гэта трава.* Вострава Маст. *Камення звозяць і складаюць у кру́шні.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ласічкі ў кру́шні вядуцца.* Кіралі Шчуч. *Кру́шня гадамі расце.* Рыбчына Віл. *Бухайка вядзецца па кру́шнях.* Гемзы Шальч. *Крушня́ каменя, на крушні́ сядзелі.* Бакшты, Жыдзевічы Іўеў. *Крушня́ — груд камення.* Ухвала Круп. *Там ляжала камення крушня́ вялікая, я ўскачыў на крушню́. На полі многа кру́шань камення — дзве, тры кру́шні.* Саланое Віл. *Крусня камені.* Чычалі Швянч. *Крусню каменяў насыпалі, там шчуры плодзяцця.* Малькуны Ігн. *Каля крусні гадзіны жывуць, вужы і дрозд у крусне вядзецца. Каля крушны паземнік расце.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Камяністы ўчастак поля. *Кру́шня — дзе каменямі кусок поля заняты. У ялавіне кру́шні парасцёгавалі, а на тых местах паставаліся камні, камяніца. Дзе кру́шні — выключайся!* [выключай трактар]. Мсцібава Ваўк. 3. Куча чаго-н. *Кру́шня жагароў ляжала.* Старыя Трокі Трак. *Цэлая кру́шня дзёрнаў ляжыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кру́шня*

*аполкаў ляжыць вялікая.* Гемзы Шальч. *Ляжыць крўшня провалакі калючай.* Мярэцкія Глыб. 4. *перан.* Значная колькасць, многа чаго-н. *Ён нашоў крўшню яец.* Рыбчына Віл. *Я ўжо цэлу крўшню бліноў напякла.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *krūsnė, krūsnis* 'куча камення'.

КРУШЫ'НА' *ж. бат.* 1. Крушына. *Крушына есь у балоці.* Навікі Лудз. *На крушыні е сочная ягада.* Баброўнікі Гарад. *Крушына — кустарнік такі.* Чычалі Швянч., Галоўні Воран. *Крушына чорная.* Грыкені Вільн. 2. Настой з крушыны. *Крушына ад язвы добро.* Альхоўцы Лях. *Крушыну ад нястраўнасці п'юць.* Гемзы Шальч. *Кары крушыны наскрабі, напар, напіся — зразу будзя вольнасць.* Кіралі Шчуч.

КРУШЫ'НАВІКІ *мн. бат.* Баравікі. *Ужо крушынавікі ў лесе ёсць, заўтра пайду. Яна крушынавікаў насушыла цэлы маток.* Мачаск Бярэз.

КРУШЫ'НІНА *ж. бат.* Адно дрэва крушыны. *Крушыніна расце каля мяне.* Баброўнікі Гарад.

КРЫАЛІ'НЫ *мн. крав.* Фасон пашыву з абручамі. *Даўней спадніцы шылі с крыалінамі — такія дзеравяныя абручы, адзін-два ўшывалі.* Жылі Іўеў.; *парайн.* руск. *кринолин* 'шырокая спадніца з абручамі' <франц. *crinoline* 'тж'.

КРЫВАВА'ЦЬ *незак.* Зайздросціць, пазіраць скоса. *Крывуюць на яе, што яна добра жыве, і на тую крывуюць.* Кузьмічы Люб.

КРЫВА'ВІЦЬ *незак.* Кроватачыць. *Крывавяць пальцы, як парэжаш. Бывала, балото было, грабеш сено дзень — ты мокры і два мокры, калі ле агню высушыш ганучы, і датаго папрэюць пальцы на нагах, што крывавяць, пааблазіць скура міс пальцаў і пад валакамі, кроў вочы залівае, як баліць.* Дзяніскавічы Ганц.

КРЫВА'ВЫ *прым.* 1. Напоўнены крывёю. *Крывавыя мазалё садавяцця.* Кіралі Шчуч. 2. *кулін.* Прыгатаваны з крыві. *Крывавыя кілбасы прадаюць.* Рагулішкі Даўг. *Крывавыі бліны пяклі даўней.* Лісна В.-Дзв.

КРЫВА'ВЫ ПАНО'С *м. мед.* Дызентэрыя. *Захварэла баба, крывавы панос падкінуўся.* Ухвала Круп.

КРЫВАЛА'ПЫ *прым.* Крываногі. *А той крывалапы кукіш даў мне і пайшоў.* Пацаўшчына Дзятл.

КРЫВАЛУ'ПЕЦ *м.* 1. Крываroты. *Ён крывалупец, рот набаку.* Старыя Смільгіні Воран. *С крывой лупай ён — крывалупец.* Гемзы Шальч. 2. Абдзірала, хапуга. *Крывалупец дзярэ грошы, як прадае.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *kreivalūpis* 'крывагубы, крываroты'.

КРЫВАЛУ'ПЫ *прым.* Крываroты. *Ён крывалупы, з крывымі губамі.* Галоўні Воран. *Ён крывалупы, рот крывы.* Чычалі Швянч. *І той крывалупы да яе сватаўся.* Пацаўшчына Дзятл. *Юзюк крывалупы.* Саланое Віл. *Але ш крывалупы, не*

*дай божа, які крывалупы!* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *kreivalūpis* 'тж'.

КРЫВАМО'ЧКА *ж. вет.* Цысціт. *Крывамочка ў каровы; па сасновым лясу папасі — яна ад кляшча, ад укусу паяўляецца.* Мельнікі Лудз. *Крывамочка ў каровы, можа сырыя картошкі даць?* Ухвала Круп.

КРЫВАНО'ГІ *прым.* Тое ж, што і к р ы в а л а́ п ы. *Ён крываногі, у яго ногі, як палазы.* Граўжышкі Ашм. *У крываногага ногі, як крывулі.* Кіралі Шчуч. *Не хацела п крываногого мужыка.* Баброўнікі Гарад.

КРЫВАРО'ТЫ *прым.* Тое ж, што і к р ы в а л у̂ п ы. *У нас там баба была такая крываротая, у маіх гадах, то яґ засмяецца, то рот набаку.* Баброўнікі Гарад.

КРЫВАТО'КА *ж. мед.* Крывацячэнне. *У маткі крыватока была, рана памёрла, мяне бабулька вырасціла.* Малькуны Ігн.; *парайн.* польск. *krwotok* 'тж'.

КРЫВА'ЎКА I, КРЫВО'ЎКА *ж.* 1. Тое ж, што і к р ы в а м о́ ч к а. *Крываўка ў кароў бывае; як цвіце еліна, наесца еліны, можа забалець.* Лука Нараўк. 2. *мед.* Дызентэрыя. *Крываўка патпала, трэба ехаць да доктара.* Кіралі Шчуч. *І адкуль тая крываўка падкінулася?* Беразіно Докш. *Чалавек на крываўку хварэў, а як лечыць — не зналі.* Ёдлавічы Брасл. ∇ *Кап цябе крывоўка ганяла!* Рудня Астравітая Чэрв. *Кап на цябе крывоўка напала!* Вецярэвічы Пух.

КРЫВА'ЎКА II *ж. кулін.* Крывяная каўбаса. *Даўней крываўкі рабілі з крыві.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРЫВА'ЎКА III *ж.* Тое ж, што і к р ы в а́ ў н і к 1. *Як каровы мачыліся кроўю, мы варылі крываўку і паілі. І ад язвы чалавека вылечвалі.* Навікі, Пасіене Лудз.

КРЫВА'ЎНІ'К, КРЫВО'ЎНІК *м. бат.* 1. Чыстацел. *Па-нашаму — крыва́ўнік, а па-кніжнаму — чыстацел.* Рудня Астравітая Чэрв. *Крыва́ўнік, а хто чыстацел кажа.* Гемзы Шальч. 2. Крываўнік. *Крыва́ўнік бела і ружавата квітніць, як парэжыць хто паліц — прыкладаваюць.* Ёдлавічы Брасл. *Крыва́ўнік белай шапачкай расцець.* Быстрыца Астр. *Крыва́ўнік, яго пацёр, прылажыў — чыста-глатка, кроў ня будзя ісці.* Граўжышкі Ашм. *Крыва́ўнікам прыложым.* Баброўнікі Гарад. *Як кроў ідзе сільна, кладуць крываўнік.* Дакудава Лід. *Крываўнік ад жалудка.* Бакшты Іўеў. *Крываўнік белым цветам цвіце; патры і прылажы — кроў перастаня ісці.* Пацаўшчына Дзятл. *Крываўнік лечыць вантробы.* Солы Смарг. *Крываўнік прыкладаюць, як урэжыш паляц, і ад жывата — вольнасць здзержывая.* Кіралі Шчуч. *У крывоўніку́ дробныя лісцікі.* Данілавічы Дзярж.

КРЫВАЎНЫ' *прым.* Крывавы. *Ні магу на ногі нічога нацягнуць: баліць крываўны мазоль.* Асавец Віл.

КРЫВАШЛА'ПЫ *прым.* Касалапы. *Крывашлапы — з вывернутымі нагамі.* Рыбчына Віл.

КРЫВЕ'ЖЫНА *м.* і *ж. абразл.* Хто крывы. *От крывежына нішчасная, некуды папёрся!* Гемзы Шальч.

КРЫВЕ'НЬКІ *прым.* ∇ *Маленькі, крывенькі ўсё поле абяжыць і дамоў прыбяжыць* — серп. Саланое Віл.

КРЫВІ'НА *ж.* Крывое дрэва. *Бываіць крывіна: северныя слаі цвёрдыя, як костка, і такоя дзерава бываіць крывоя.* Кураполле Паст.

КРЫВІНЫ' *мн.* Бакавыя жэрдкі ў санях-развалках. *Крывіны нада дабіраць да галовак, палажыць папярэчную палку, можна пераплясці вяроўкамі — і будуць тады розвальні.* Ахрэмаўцы Брасл.

КРЫВІ'ЦЦА *незак.* Скоса паглядаць. *Жонка крывіцца на яго.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРЫВІ'ЦЬ *незак.* Крыўдзіць. *Ні крыві дзіця!* Рудня Астравітая Чэрв.

КРЫ'ВО *прысл.* Крыва. *Крыво ходзіць.* Стральцы Гродз.

КРЫВО'ЎКА *гл.* КРЫВА'ЎКА I

КРЫВО'ЎНІК *гл.* КРЫВА'ЎНІ'К

КРЫВУ'ЛІ толькі *мн.* 1. Саначкі для перавозкі бярвення. *Нагрузяць дзерава на санькі і на крывулі і вязуць.* Кіралі Шчуч. 2. Заднія колы воза, якія выкарыстоўваюцца для перавозкі доўгага бярвення. *Клалі калоду на перадок і на крывулі і везлі куды нада.* Альхоўка Навагр. *Некалі былі крывулі дзераво вазіць — дзве калясе.* Дзяніскавічы Ганц. *Крывулі — вясной у калёсах для доўгага дзерава.* Пацаўшчына Дзятл. *Крывулі — задняя частка воза з крэсламі і коламі.* Жылі Іўеў. 3. у знач. *прысл. крыву́лямі, крыву́лькамі.* Крыва, зігзагамі. *Крывулямі цячэ раўчачок.* Азяраны Раг.

КРЫВЫ' *прым.* 1. Крываногі, кульгавы. *Мужык у яе крывы.* Мачаск Бярэз. *Ён крывы, кульгаіць.* Мярэцкія Глыб. *Крывую жонку ўзяў.* Саланое Віл. 2. Крывы, няроўны. *Ежэлі дупля есць — сосна крывая, дуплятая.* Стральцы Гродз. *Крывоя дрэва расло.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Крывая дарога з прамой смяецца.* Кураполле Паст.

КРЫВЯНДЗЯ' *м.* і *ж. зневаж.* Кульгавы чалавек. *Вышла за крывяндзю.* Кіралі Шчуч.

КРЫВЯ'НКІ *мн.* Тое ж, што і к р ы в а́ ў к а II. *Крывянкі пяклі.* Валынцы В.-Дзв. *У кішкі налівалі кроў, грэчку вараную, жыр і варылі—гэто крывянкі.* Малахоўцы Бар. *Крывянкі рабілі так: печань, лёхкія, сэрца, почкі нада пакрышыць надробненька і кроў улёяць, прыправы дадаць: перац, ліст, укроп, у бальшыя кішкі наліваць і абварыць, а тады ўжарыць на жыры — гэта крывянкі.* Вецярэвічы Пух. *Крывянкі рабілі: бралі свінную кроў, грэцкія крупы ці муку, сала, клалі прыправы, усё налівалі ў кішкі і пяклі.* Азяраны Раг.

КРЫВЯ'НЫ' *прым.* 1. Прыгатаваны з крыві. *Крывяную каўбасу дзелалі: варылі крупу, залівалі крою і пяклі.* Пасіене Лудз. *Дзяшар пякуць крывяны.* Рагулішкі Даўг. 2. Які адносіцца да крыві, напоўнены крывёю. *Крывяны мазоль на пальцу.* Саланое Віл. *Крывяны мазоль лопнуў.* Любішчыцы Івац.

КРЫ'ГА І *ж.*, КРЫ'ГІ *мн.* Ільдзіна, ільдзіны. *Цёпла стала, пашлі крыгі, прыбіла крыгі да берага.* Ёдлавічы Брасл. *Лёт паламало, пашлі крыгі.* Баброўнікі Гарад. *Крыгі плывуць — астаткі лёду.* Альхоўка Навагр. *Крыгі паперло.* Навасёлкі Свісл.

КРЫ'ГА ІІ *ж.* Рыбалоўная снасць з драўлянай асновай— палазамі. *Крыга з палазамі.* Азяраны Раг. *Крыга — з палазамі сетка. Два палазы, канцы загнуты, за канцы бяруць і цягнуць.* Глівін Барыс. *Сеткаю лавілі і крыгаю лавілі; крыгай лавілі рыбу, крыга большая; у крызе палазкі былі, састаўляліся ўместа, і цягалі крыгу; прышывалася сетка к паласкам.* Рудня Астравітая Чэрв. *У крыгі крылья.* Янова Рас.

КРЫ'ГЛЫ *мн.* Тое ж, што і к р ы в і н ы́. *Крыглы ў санях; сані са крыглами.* Навасёлкі Свісл.

КРЫГЭ'ЛЬКІ *гл.* КРУГЕ'ЛЬКА

КРЫЖ, КРЫШ *м.* 1. Крыж. *Некалі на крыжы вешалі каснікі.* Мярэцкія Глыб. *Даўней стаўлялі памятнікі дзеравяныя— крыжы; крыш паставяць велькі, а цяпер усё цамантовыя.* Кіралі Шчуч. *Я крыш па сабе зрабіў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Крыш у крыжавых дарогах стаіць.* Асавец Віл. 2. Крыжык. *Ішоў на вайну, матка крыж здымае з шыі і дае ад сябе.* Гемзы Шальч. 3. *анат.* Ніжняя частка хрыбетніка. *Крыж забаліць, тады чалавек не можа сагнуцца.* Баброўнікі Гарад. *Мне крыж баліць, баліць у крыжы.* Рыбчына Віл. *Я крыж была праляжаўшы.* Кемялішкі Астр. *Крыж як ня свой: не згінаецца спіна.* Беразіно Докш. *Крыж натта баліць.* Гемзы Шальч. *Крыж баліт.* Лука Нараўк. 4. Задняя частка тулава жывёлы. *Крыш рашчапіўся — сыты конь.* Мярэцкія Глыб.

КРЫЖАВА'НАЯ ДАРО'ГА *ж.* Тое ж, што і к р ы ж а в а́ н к а. *Дзе крыжавая дарога, там школа і мая хата.* Пацаўшчына Дзятл.

КРЫЖАВА'НЕЦ *м.* Козлы пад калодачны вулей. *Стамаўка ставілі калоду або зробяць крыжаванца і пакладуць.* Дакудава Лід.

КРЫЖАВА'НКА *ж.* Скрыжаванне дарог. *Тут крыжаванка, не стаў машыну!* Рагулішкі Даўг. *Мы на крыжаванцы стаялі.* Мярэцкія Глыб.

КРЫЖАВА'НЯ *н.* Звязаныя жэрдкі, якімі ўмацоўваюць верх стога. *Нада зрабіць на стох крыжаваня, каб вецер не разнёс сена.* Кіралі Шчуч.

КРЫЖАВА'ЦЬ *незак.* Бліскаць крыж-накрыж. *Крыжуя бліскавіца.* Старыя Смільгіні Воран.

КРЫЖАВА'Я ДАРО'ГА *ж.* Тое ж, што і к р ы ж а в а́ н к а. *Спаткаліся на крыжавой дарозе.* Ёдлавічы Брасл. *Крыжавая дарога — як перасякаюцца дарогі.* Пацаўшчына Дзятл. *Ідзем на крыжавую дарогу варажыць.* Баброўнікі Гарад.

КРЫЖАВІ'НА *ж.* Тое ж, што і к р ы ж 3. *Баліць мне крыжавіна.* Мярэцкія Глыб. *Крыжавіну адняло яму, ня можыць хадзіць.* Ёдлавічы Брасл.

КРЫЖАВІ'НЫ *мн.* Драўляныя планкі, якія перакрыжоўваюцца ў матавіле. *Са шпулі маталі на матавідла — чатыры крыжавіны збітыя.* Быстрыца Астр.

КРЫЖАВУ'ХА *ж.* Тое ж, што і к р ы ж а в а́ н к а. *Крыжавуха — дзе адна дарога перасікаіць другую.* Валынцы, Лісна В.-Дзв.

КРЫЖА'К *м.* Матавіла для размотвання маткоў. *Быў крыжак — талькі развівалі.* Быстрыца Астр.

КРЫЖАКІ' толькі *мн.* 1. Тое ж, што і к р ы ж а в а́ н е ц. *Лежакі ляжалі на крыжаках.* Гемзы Шальч. 2. Рамка ў калодачным вуллі. *У каранікі ставілі крыжакі, да чаго пчолы мелі б воск ляпіць.* Гемзы Шальч. 3. Падстаўка пад хлебную дзяжу. *Дайней стаўлялі крыжакі пад дзешку.* Ракаўскія Швянч. *Дзяжу на крыжакі ставілі: зробіш крыжы і ставіш.* Магуны Паст. 4. Тое ж, што і к р ы ж а́ к. *Крыжакі такія робя, на разматкі ніткі разматуя.* Быстрыца Астр. *Крыжакі, на іх размотуем маткі.* Паляцкішкі Воран. 5. Дэталь бойкі, калатоўка. *А дзе гэта крыжакі ад бойкі?* Гемзы Шальч. 6. Цацка, зробленая з лучынак. *Дайней дзеці просяць: «Дзядуль, нашчапай лучыны!». Лучыну выхіляюць і робяць крыжакі.* Гемзы Шальч.

КРЫЖА'НКА *ж.* Посцілка, у якой носяць траву, салому і інш. *У Сяргеевічах посцілку, што траву носяць, называюць крыжанка, бо звязваецца накрыш.* Вецярэвічы Пух.

КРЫЖА'СТЫЯ ДАРО'ГІ *мн.* Тое ж, што і к р ы ж а в а́ н к а. Номікі Бабіц.

КРЫЖАЧКІ' толькі *мн. памянш.* да к р ы ж а к і 5. *Крыжачкі ў бойцы — такая палка з крыжыкамі.* Малькуны Ігн. *Крыжачкамі бульбу цёрлі: булён зварацъ і патрэць.* Малькуны Ігн.

КРЫЖАЧО'К *м. памянш.* да к р ы ж а к і 2. *Крыжачок уставяць у стаяк, кап пчолы маглі вашчыну рабіць.* Старыя Смільгіні Воран.

КРЫЖО'ВА ДАРО'ГА *ж.* Тое ж, што і к р ы ж а в а́ н к а. Старыя Трокі Трак.

КРЫЖО'ВІНА I *ж. анат.* 1. Тое ж, што і к р ы ж 3. *Крыжовіна баліць, не магу хадзіць.* Лоск Валож., Старыя Смільгіні Воран., Міратычы Карэл. 2. Хрыбетнік. *Карова крыжовіну зламала — і зарэзалі.* Пацаўшчына Дзятл.

КРЫЖО'ВІНА II *ж.* Тое ж, што і к р ы ж а́ к. *Была крыжо-*

*віна, у яе ставілі чатыры верацяне і маталі ніткі.* Малахоўцы Бар.

КРЫЖО'ЎКА *ж.* Тое ж, што і к р ы ж а в а́ н к а. *Мы разміналіся на крыжоўцы.* Малькуны Ігн.

КРЫЖО'ЎНІК *м. бат.* Агрэст. *Крыжоўнік расцець у саду і кала ракі займаецца.* Кураполле Паст.

КРЫЖЫ' толькі *мн.* 1. Тое ж, што і к р ы ж а в а́ н е ц. *На крыжах стаяў корань, галава вышы была.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і к р ы ж а́ к. *Крыжы былі маткі разматаваць.* Кураполле Паст. 3. Спосаб малой укладкі снапоў на полі. *Снапы кладуць у крыжы.* Асавец Віл. 4. у знач. *прысл. у крыжа́х.* У развіліне крыжавых дарог. *Ён жыве там, што ў крыжах хата.* Асавец Віл.

КРЫ'ЖЫКІ *мн.* 1. *памянш.* да к р ы ж ы́ 3. *Авёс ставілі ў крыжыкі па пятнаццаць снапоў.* Лоск Валож., Саланое Віл. 2. Дэталь бойкі, калатоўка. *Крыжыкі ў бойцы, імі б'юць масла.* Магуны Паст.

КРЫ'ЖЫСТЫ *прым.* З шырокім крыжам (пра каня). *Конь крыжысты.* Вялікія Баяры Шчуч.

КРЫЖЭ' *мн.* Тое ж, што і к р ы ж 3. *Крыжэ баляць.* Азяраны Раг.

КРЫК *м.* Крык, лямант. *Надаела ена сваім крыкам.* Баброўнікі Гарад. *Прышлі гурбой, нарабілі крыку і пашлі.* Міратычы Карэл.

КРЫ'КАЦЬ *незак.* Каркаць. ∇ *Паляцела ў вароны — і крыкай, як варона!* — у якую кампанію пайшла, адпаведна і паводзь сябе. Азяраны Раг.

КРЫКЛІ'ВЫ, КРЫКСЛІ'ВЫ *прым.* 1. Плаксівы. *Рабёнак быў крыклівы.* Саланое Віл. *Які ш ты крыкслівы!* Парэчча Гродз. 2. Сварлівы. *Мая бабуля была крыклівая, але не плахая.* Гемзы Шальч. *Ён натта крыклівы чалавек.* Саланое Віл. *Крыклівы ў кажнай хаці ёсь.* Лоск Валож.

КРЫ'КСА *м., ж.* і *н.* Крыклівы. *Крыкса — хто крычыць. Бывая і дзіця крыкса.* Жылі Іўеў.

КРЫ'КСЫ толькі *мн. устар.* Назва дзіцячай хваробы. *Даўней, як дзіця малоя плача, гаварылі, што крыксы напалі, і лячылі — няслі пат куры, дзе куры сядзяць, падносілі і прыгаваравалі: «Куры-куры, бярыця мае крыксы-плаксы, як буду жаніцца, буду ў вяселля прасіць». Казалі, што і мая мама некалі мяне лячыла ад курыных крыкс і пат куры насіла.* Рыбчына Віл. *Бывала, як дзіця малоя плача, нясуць у свіны хлеў і гушкаюць над свіным карытам; і казалі, што крыксы мінаюцца.* Рудня Астравітая Чэрв. *Крыксы на его напалі, всё плачэт, нехто поворочыў* [сурочыў] *его.* Азарычы Пін.

КРЫ'ЛА *мн.* 1. Бакавыя часткі рыбалоўнай снасці. *Венцяр з горлам, па старанам — крыла.* Быстрыца Астр. 2. Тое ж, што

і к р ы ж а в і н ы. *Становлят колодку, крыла накладают, а на крыла накладают мотка і розматвают.* Горск Бяроз.

КРЫ'ЛАЧКІ *мн. памянш.* Крылцы. ▽ *Хто ляціць без крылачак?* — вецер. Ахрэмаўцы Брасл.

КРЫЛЕ'Ц *м.* Веранда. *Пры доме крылец, а па-тaперашняму — віранда.* Скрудалена Даўг.

КРЫ'ЛЛЯ *мн.* Тое ж, што і к р ы́ л а 1. *У венцяры тры душкі круглыя, прыроблены крылля, а на канцах — тры колікі.* Саланое Віл.

КРЫЛО' *н.*, КРЫ'ЛІ *мн.* 1. Крыло. *Нешта крыло курыца апусціла.* Парэчча Гродз. *Як кінеш мятлу — куры на крылях ходы!* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Крысо. *Падралася крыло ў пінжаку, трэба залапіць.* Рыбчына Віл. ◊ *Маччына крыло* — умовы жыцця, апека, ласка, прыхільнасць. *Маччына крыло цяплейшае, як свякроўчына — не пашла да свякроўкі жыць, а да маткі.* Кузьмічы Люб.

КРЫ'ЛУШКІ *мн. памянш.* Плаўнікі ў рыбы. Пасіене Лудз. *Рыба крылушкі распастрэ і плыве.* Баброўнікі Гарад.

КРЫ'ЛЦЫ *мн.* Тое ж, што і к р ы́ л у ш к і. *У рыб хвост і крылцы.* Лоск Валож.

КРЫЛЬЦО' *н.* Ганак. *Мы крыльцо перарабілі.* Асавец Віл.; *парайн.* руск. *крыльцо* 'тж'.

КРЫ'ЛЬШЧЫК *м.* Майстар, які крые стрэхі. *Крыльшчык крыў крышы.* Крэвені Даўг.

КРЫ'ЛЯС *м. царк.* Клірас. *Хор спявае, пеўчыя спяваюць на крылясе.* Баброўнікі Гарад.

КРЫНІ'ЦА *ж.* 1. Невялікі вадаём каля выхаду падземных вод. *Вада с крыніцы чыстая, укусная.* Пасіене Лудз. *Як крыніца не замярзая, гаворацъ: «Паруя крыніца».* Стральцы Гродз. *Пціч с крыніцы выцякая і ўпадае ў Бярэзіну.* Вецярэвічы Пух. *Крыніца — рэчка жывая.* Дакудава Лід. *Крыніца ніколі не высыхае. У крыніцы вада чыстая, жывіну пояць і самі п'юць.* Баброўнікі Гарад. 2. Вір. *Там крыніца ў азярэ, таму вада круціцца.* Індра Красл. 3. Прорва, багна. *У крыніцы правальваюцца ногі, дзе балота.* Крэва Смарг. *Крыніца на балоце, дзе трасушчая месца, дзе калышыцца, як пераходзіш.* Пацаўшчына Дзятл.

КРЫНІ'ЦКА *ж. памянш.* да к р ы н і ц а 1. *Крыніцка была там.* Курaполле Паст.

КРЫНІ'ЧНЫ *прым.* Які адносіцца да крыніцы. *Крынічная вада халодная, чыстая.* Лоск Валож. *Там крынічнае мейсца.* Чычалі Швянч.

КРЫНІ'ЧНЫ ШЧАЎНІ'К *м. бат.* Конскае шчаўе. Рыбчына Віл.

КРЫ'ПА *ж.* Кармушка, яслі, скрыня. *У крыпу аброк сыплюць.* Сакаляны Сакол. *У каня ўжэ пустая крыпа, усып яму сечкі чы аўса.* Верхлессе Крын.

КРЫПА'НКІ толькі *мн.* Зацямненне зроку пры склерозе. *Галава баліць, кап хоць гэтых крыпанак не было ў вачах!* Кураполле Паст.

КРЫ'ПЛЫ *прым.* Посны (пра мяса). *Забілі свінню, многа мяса і ўсё крыплаё, сала мала. Крыплаё мяса дзеці любяць.* Ухвала Круп.

КРЫПЫ'ТНІК *м. бат.* Падарожнік. *Крыпытнік каля дарог расце, стаўбунок іе.* Вецярэвічы Пух.

КРЫ'СА' *ж.* Тое ж, што і к р ы л о́ 2. *Кры́са падраная.* Пасека Ст.-Дар. *Кры́самі трасе.* Багушэвічы Бярэз. *Даўней казалі крыса́, а цяпер — пала.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРЫ'ТНІК *м.* Тое ж, што і к р ы́ л ь ш ч ы к. *Крытнік страху дзелая.* Жылі Іўеў,

КРЫ'ТЫ *дзеепрым.* 1. Пакрыты страхой. *У каторых былі яшчэ хаты не крыты.* Кемялішкі Астр. 2. Пацягнуты тканінай (пра верхняе адзенне). *Прывёз яму крытую шубу.* Мішневічы Шум. 3. Заваскаваны. *Мёд у рамках крыты.* Ухвала Круп.

КРЫ'ЎДА *ж.* Пачуццё горычы, нездаволенасці. *Не кажы ты ей — будзе многа крыўды.* Альхоўка Навагр. ◊ *Жыць крыўдай чалавечай* — рабіць людзям зло. *Ён крыўдай чалавечай жыве.* Граўжышкі Ашм.

КРЫЎДАВА'ЦЦА *незак.* Крыўдзіцца. *Нас называюць бульбешнікамі, але мы не крыўдуімся.* Ракаўскія Швянч. *Я крыўдавалася на маму: ні памагала мне дзяцей гадаваць.* Данілавічы Дзярж. *Харошыя людзі — нельзя крыўдавацца на іх.* Парэчча Гродз.

КРЫ'ЎДЗІЦЦА *незак.* Адчуваць крыўду. *Яна крыўдзіцца, што я грошы не выслала.* Дакудава Лід. *На бацьку крыўдзіцца, што біў яго малога беспатрэбня.* Жылі Іўеў. *Можа, яна крыўдзіцца?* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *krzywda* 'крыўда, шкода, урон', *krzywdzić* 'крыўдзіць'.

КРЫ'ЎДНА *прысл.* Крыўдна. *Мне крыўдна, што яна на мяне так сказала.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРЫ'ХУ *прысл.* Трохі. *Крыху прыносяць грыбоў.* Навасёлкі Свісл.

КРЫЦЬ *незак.* 1. Крыць. *Нада нам хату крыць.* Беняконі Воран. *Саломай крылі, а патом пачалі крыць бляхаю, дахоўкаю, гонтамі дзеравяннымі. Каласамі ўніс крыюць пamазурску на захадзе. Харашэ крыюць пат шчотку: распасцірае салому каласамі ўверх і шчоткаю падбівае, прывязвае да поўзін тонкіх. Не ўсе ўмелі пат шчотку крыць.* Баброўнікі Гарад. 2. Васкаваць паверхню мёду ў рамках. *Крыюць пчолы мёд.* Ухвала Круп.

КРЫЧ *м.* Тое ж, што і к р ы́ л ь ш ч ы к. *Падаецца салому крычу, ежэлі крыч добра покрые, то двадцаць лет гарантавано стрэха будзе стаяць.* Баброўнікі Гарад.

КРЫЧА'ЦЦА *незак.* Крычаць, сварыцца. *Хазяін стаў крычацца.* Крэва Смарг.

КРЫЧЭ'ЦЬ, КРЫЧА'ЦЬ *незак.* 1. Плакаць. *Не чапай дзіця — будзе крычэць!* Лоск Валож. 2. Моцна гаварыць, крычаць. *Я крычэла ім, што аміяк выліваяцца, а яны ня чулі.* Крэва Смарг. 3. Лаяць, злаваць. *Не рабі так — бацька будзіць крычэць.* Саланое Віл. *На хлапца крычэла матка.* Лоск Валож. *Чаго ты крычыш! — ужо горла разявіла.* Кіралі Шчуч. 4. Крычаць ад болю. *Дзядука білі, а дзядук крычаў, як толькі мог.* Грыкені Вільн. 5. Рыкаць. *Кароўка крычыць — піць хочыць.* Рагулішкі Даўг. 6. Вішчаць. *Свіня крычыць.* Дакудава Лід., Кіралі Шчуч. *Чаго твае свінні крычаць?* Беразіно Докш. 7. Пець (пра пеўня). *Крычыць пятух.* Саланое Віл. 8. Кракаць, гагатаць і інш. *Крычыць гусь.* Старыя Смільгіні Воран. *Гусь крычыць.* Мярэцкія Глыб. *Качкі крычаць.* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Варона крычыць на змену пагоды.* Ахрэмаўцы Брасл. ◊ *Крычма крычаць* — моцна крычаць. *Я крычма крычала: боль гэдакі, велька вопухаль была.* Міратычы Карэл. *Крычма крычаў і ў дзверы бег.* Пацаўшчына Дзятл. *Крычма крычала дзеўка.* Альхоўцы Лях.

КРЫШ *гл.* КРЫЖ

КРЫ'ША *ж.* Страха. *Крыша даўней саломай была крыта.* Старыя Трокі Трак. *Йіскры папалі ў крышу.* Пасіене Лудз. *Пчолы сідзят под крышай.* Прэдэ Даўг. *Нада крыць крышу.* Палік Барыс.; *параўн.* руск. *крыша* 'тж'.

КРЫШАНЫ', КРЫШАНЭ' *мн.* 1. Скрылькі бульбы. *Як картоплю крышаць — кажуць крышаны.* Дзяніскавічы Ганц. *Крышанэ асталіся.* Міратычы Карэл. *Крышаны — парэзаная бульба, як смажыць.* Лука Нараўк. 2. Булён. Азарычы Пін. *І даўней варылі крышанэ.* Лоск Валож. 3. Друзачкі. *Бульба не зварылася, крышаны ў кашы пааставаліся.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРЫ'ШАЧКА *ж. памянш.* Дошчачка, на якой крышаць што-н. *Вазьмі парэж сала на крышачке!* Мішневічы Шум.

КРЫ'ШКА I *ж.* Верхні сноп, якім накрывалі малую ўкладку снапоў на полі. *Крышка — дзесяты сноп, што накрывают бабурку.* Крэвені Даўг. *Бапка снапоў і навярху крышка.* Янова Рас.

КРЫ'ШКА II *ж.* Тое ж, што і к р о́ ш к а 1. *Крышка хлеба, крышке́ хлеба на стале.* Вострава Маст.

КРЫ'ШКІ *мн. кулін.* Тое ж, што і к р ы ш а н ы́ 2. *Крышкі — картапляны суп.* Пасека Ст.-Дар.

КРЫ'ШКУ *прысл.* Крыху, трошкі. *Крышку масла была зрабіўшы.* Альхоўка Навагр. *Дай крышку хлеба!* Кіралі Шчуч. *Там курган харошы, абапал бы ніжы крышку — лес.* Дзяніскавічы Ганц.

КРЫШ-НА'КРЫШ *прысл.* Накрыж. *Нада матаць ніткі*

*крыш-накрыш, як спаўзець — маток разабраць няможна.* Едлавічы Брасл.

КРЫШЧЫ'НЫ толькі *мн.* Лупіны ад зерняў, цвёрдыя рэшткі ягад, выжымкі. *Як працэдзім кісель, крышчыны курам аддаямо. Як меліш каноплі ў церлі і ўльеш вадэ, і сцэдзіш, крышчыны астаюцца на сподзі. Ягады на марлю атцісім — астаюцца крышчыны.* Кіралі Шчуч.

КРЫШЧЭ'ННЕ *н. рэліг.* Хрышчэнне. *Калі крышчэнне было даўней, да ракі ішлі.* Ухвала Круп.; *парайн.* руск. *крещение* 'тж'.

КРЫШЫ'ЦЬ *незак.* 1. Рэзаць на дробныя кавалачкі. *Крышаць сала дробнымі кусочкамі.* Мярэцкія Глыб. *Крышу картоплі, буду варыць крышэні.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Крышаць зелья, картофлю крышыш, а патом крапіву пакрышыш.* Баброўнікі Гарад. *Пітуна́* [тытуна] *лістоў дваццаць скруціш і крышыш.* Солы Смарг. 2. Шаткаваць. *Трэбо ўжэ капусту на зіму крышыць.* Верхлессе Крын. 3. Церушыць крошкамі. *Ні крышы хлеба, не раскідай!* Верхлессе Крын.

КРЫШЭ'НЬ *м.* Скрылік. *Адзін крышэнь картоплі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КРЫШЭ'ЦЬ *незак.* Запякацца (пра кроў). *Кроў пачала крышэць, кроў скрышэўшы, крышэіць.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *krešéti* 'тж'.

КРЭ'ДЭНС *м.* Буфет. *Гэты крэдэнс быў вынесены на двор.* Малькуны Ігн. *Крэдэнс стаіць у нас там.* Мсцібава Ваўк. *Купілі крэдэнс новы для пасуды.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *kredens* 'тж'.

КРЭ'ЖАВЫ *прым.* Цвёрды, дуплаваты, каржакаваты. *Крэжаву сасну не разрэжаш, яна дуплястая.* Малахоўцы Бар.

КРЭ'ЙГА гл. КРЭ'ЙКА I

КРЭ'ЙДА *ж.* Мел. *Вапнай беляць, крэйдай, а раньша такая глінка была.* Быстрыца Астр. *Крэйдай* [гарбар] *пашаруя скуру, дык лепяй мяздра атстае, лепяй скрабецца.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *kreda* 'тж'.

КРЭ'ЙКА I, КРЭ'ЙГА *ж.* Верх страхі, вільчык. *Крэйка — верх страхі, крэйку і акрэйку вецер здзёр.* Беняконі Воран. *Крэйка цячэ ў хаці.* Івашкаўцы Смарг. *Накладаяць на крэйку, каб ня цякло.* Кудзялянцы Шальч. *На крэйку сыпалі кастрыцу.* Ракаўскія Швянч. *На крэйку накладалі кастрыцы; яна злежыцца; сохі длінныя — аж да крэйкі. Сарока сядзя на крэйку, на хлеў. Бацян сеў на крэйку. Налажыў два тарпы сена — аж пад крэйку.* Гемзы Шальч. *Крэйка — самы вяршок страхі.* Малькуны Ігн., Чычалі Швянч., Жылі Іўеў., Магуны Паст., Быстрыца Астр., Жодзішкі Смарг., Старыя Смільгіні Воран. *Ходзя па крэйцы; у крэйцы дзюра засталася.* Граўжышкі Ашм. *Бацян крэйгу спіхаў нагамі.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *kraĩkas, kraĩgas* 'тж'.

КРЭ'ЙКА II *ж.* Пояс, спавівіч. *Крэйка суконная, крэйкаю спавівалі дзіця, і спавівач называлі. У каго крэйка е, а ў каго — нема. Пояс шыршы, крэйка вушша.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* польск. *krajka* 'пруг'.

КРЭКАВІ'НЫ, КРЭКТАВІ'НЫ толькі *мн.* Тое ж, што і к р а к а в і н а. *Як нападзе бацян, от глытая гэтыя крэкавіны.* Гемзы Шальч. *Жаб'я крэктавіны ў лужані.* Курaполле Паст.; *парайн.* літ. *krekėti* 'гусцець'.

КРЭ'КАЦЬ *ж.* Глыбокае топкае месца ў балоце. *Крэкаць чорная, не высыхае летам, замярзае зімою. Як у крэкаць улезе конь, то не вылезе. Кінуліса ў тую крэкаць — там чтэры коні засело. У крэкаці вада, зямлі не аддаць.* Баброўнікі Гарад.

КРЭ'МЕНЬ, КРАМЕ'НЬ, КРА'МЫНЬ *м.* Крэмень. *Бальшога крэменя не бывая. Гостры, як крэмень.* Гемзы Шальч. *Краменя многа на полі.* Каўняны Гродз. *З краменя аселкі ня робяць.* Парэчча Гродз. *Бралі крамынь, вырбовэ порохно, стальную подкову і йію красалы.* Хмялёва Кам.

КРЭМІНА' *ж.* Бугаркі і ямачкі на карэнных зубах у каня. *На сёмы гот у каня будзіць крэміна, а да дванаццаці лет конь з'ядая краміну. Еслі есь крэміна — конь малады, нет крэміны — конь стары. Крэміна — ямачка ў зубах, ячменіну палажы — схаваецца.* Ахрэмаўцы Брасл.

КРЭМУ'Х *м.* Крэмень. *Крэсалі крэмухом.* Мсцібава Ваўк.

КРЭМЯ'НЬ *м.* Тое ж, што і к р а м і н а́. *Крэмянь — ямкі ў зубах у каня.* Быстрыца Астр.

КРЭ'НДЗЕЛЬ *м. асудж.* Ашуканец, злодзей. *Ён такі крэндзель, зладзюга.* Парэчча Гродз.; *парайн.* руск. *крендель* 'кручаны здобны пірог'.

КРЭНКАСЛУ'П *м. анат.* Хрыбетнік. *Крэнкаслуп мне баліць.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *kręgosłup* 'тж'.

КРЭНЬ *м.* Крывое дрэва з цвёрдымі слаямі драўніны. *Крэнь — крамяністая дзерава — сасна, ёлка аднабока: адзін бок красны, а другі — нармальны.* Ахрэмаўцы Брасл.

КРЭ'ПАСЦЬ *ж.* Моц, моцнасць. *Як война кароткая — і крэпасці ў нітках нет.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *крепость, прочность* 'тж'.

КРЭ'ПАСЬ *ж. ваен.* Крэпасць. *Мы забралі крэпась.* Якшыцы Бярэз.

КРЭПА'ЦЦА *незак.* Звівацца. *Стаў кайтун крэпацца, і я запусціла яга.* Беразіно Докш.

КРЭ'ПКА *прысл.* 1. Моцна, голасна. *Крычаў крэпка, глосна.* Мярэцкія Глыб. *Крэпка кашляў ён.* Курaполле Паст. 2. Моцна, з вялікай сілай. *Еслі крэпка бурыць вецяр — пурга.* Індра Красл. 3. Вельмі. *Ён крэпка бальшы. Каторы крэпка старыя, не знаюць. Матка яё крэпка цэніць. Яна крэпка красавіца.* Ахрэмаўцы Брасл. *На поля крэпка далёка не нада хадзіць.* Індра Красл. *Угорыш крэпка рана жыруіць.* Ахрэмаўцы

Брасл. *Учацца яны крэпка добра. Яна крэпка дзяцьмі даражыла.* Саланое Віл. *У яе крэпка доўгі нос.* Груздава Паст. *Медная змяя крэпка едавітая.* Рагулішкі Даўг. 4. Часта. *У кампаніі, у свадзьбах я была, але каб дужа крэпка — ніхто і ні відзіў.* Індра Красл. 5. Многа, добра. *Цяпер жыць — уміраць ні трэба: плоцяць крэпка, і на работу ідуць, і свайго сколькі насея.* Азяраны Раг. *Некрэпка іх ёсць у лесе.* Гемзы Шальч. 6. Заможна, багата. *Яны жывуць натта крэпка.* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *крепко* 'моцна, вельмі'.

КРЭ'ПКАЦЬ *незак.* Кракаць. *Качка крэпкая, просіць есці.* Быстрыца Астр.

КРЭ'ПКІ *прым.* 1. Заможны, багаты. *Ён быў хазяін крэпкі.* Саланое Віл. *Гаспадары былі крэпкія.* Ракаўскія Швянч. *Дом добры, відаць, крэпкі гаспадар.* Мацясы Мядз. 2. Моцны, вялікі. *Быў крэпкі марос.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* руск. *крепкий* 'моцны, дужы'.

КРЭ'ПНУЦЬ *незак.* Зябнуць, мерзнуць. *Крэпнуць рукі, золка ў рукі.* Саланое Віл.

КРЭ'ПЧЫЙ *прым. выш.* Крапчэйшы. *Ліповыя лапці крэпчыя, чым лазовыя.* Навікі Лудз.

КРЭ'СІВА, КРЭСІВО', КРАСІВО' *н.* Кавалак сталі для высякання агню. *Крэсіва — із жалеза стальнога, а, бывала, і тронкам жалезным высякалі агонь. Дайней ідуць к кавалю крэсіва зрабіць. Із старого серпа рабілі крэсіва.* Вецярэвічы Пух. *Скалка і крэсіва.* Вялікія Баяры Шчуч. *Губу вуварвалі і тады яе малатком білі — мякая рабілася, ґеґу кладзе і крэсіва — як шарахне — і гарыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Крэсіво, скалка і губа — і высякалі агонь.* Малахоўцы Бар. *Крэсіво і губка для крэсіва.* Ялова Пруж. *Крэсівом жалезным красілі.* Жодзішкі Смарг. *Красіво было, што высякалі агонь.* Мярэцкія Глыб. *Бралі крэмень, да яго дабайлялі красіво і губу.* Рыбчына Віл. *Красіво было ў майго дзеда: жалеска, скалка і губка.* Кураполле Паст.

КРЭСІ'ДЛА *н.* Тое ж, што і к р э́ с і в а. *Крэсідлам агонь крэсілі.* Кемялішкі Астр.

КРЭ'СІЦЬ *гл.* КРАСА'ЦЬ

КРЭ'СЛА I *н.* 1. Крэсла (від мэблі). *А сястра звалілася с крэсла.* Крэва Смарг. *Дайней крэслаў не было, каля стала зэдыль дзелалі, табурэткі каля печы.* Ракаўскія Швянч. 2. Крыжападобная падстаўка пад хлебную дзяжу. *Крэсла пад дзешку было — крыжаваня такоя рабілі.* Кіралі Шчуч.

КРЭ'СЛА II, КРЭ'СЛО *н.* Вузгалаўе ў возе. *Крэсла на пярэднюю вось накладалася.* Старыя Трокі Трак. *У возя пярэдняя і задняя крэслы.* Ракаўскія Швянч. *У крэсло ўстайляліся ручкі, да якіх прымацоваліся драбіны.* Грыкені Вільн. *Крэсла да колаў воза робяць з чачоткі.* Гемзы Шальч. *Тыльная крэсла і на пярэднюю вось накладаецца крэсла.* Быстрыца

Астр., Жодзішкі, Крэва Смарг. *Паламалася крэсла — а якоя: задняя ці пярэдняя?* Мярэцкія Глыб. *Крэсла пярэдня і задня ў возе.* Старыя Смільгіні Воран.

КРЭ′СЛА III, КРЭ′СЛО *н.* 1. Клін, які ўстаўляецца ў заднюю частку штаноў. *Крэсла іззадзі ўшывалі ў штаны.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Шырынка. *Зашпілі крэсло!* Малахоўцы Бар.

КРЭ′СЦІК *м. памянш.* Крыжык. *Як бацько ўмрэ паджылы — паставяць крэсцік з цёскі, хвартушок засцеляць.* Альхоўцы Лях.; *параўн.* руск. *крестик* 'тж'.

КРЭ′СЬБІНЫ толькі *мн.* Хрэсьбіны. *У латушках маглі пячы яечню на крэсьбіны.* Магуны Паст.

КРЭТАВІ′НА *гл.* КРАТАВІ′НА

КРЭ′ЎНІКІ *мн.* Радня, сваякі. *Крэўнікі мае прыехалі ў госці.* Рыбчына Віл.

КРЭ′ЎНЫ *прым.* Родны. *З'ехалася ўся радня крэўная на вяселя.* Мярэцкія Глыб. *Сваякі — ні крэўная радня.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *параўн.* польск. *krewny* 'сваяк'.

КРЭ′ЎЧЫК *м.* Кравец. *Калісь тутацька на базары крэўчыкі сядзелі. Слабы з яго крэўчык: усё тапырыцца, як надзенеш.* Ухвала Круп.

КРЭ′ХАЦЬ *незак.* Квакаць. *Жабы крэхаюць. Цяпер лугоў нет і жабам німа дзе жыць.* Рудня Астравітая Чэрв.

КРЭХТА′ЦЬ *незак.* Пузырыцца, булькаць. *Ужэ крэхча кісель; кісель стаў крэхтаць, зварыцца скора.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *krekëti* 'запякацца (пра кроў), гусцець'.

КРЭЧ *м.* Крык, лямант. *Ні чапай яго, бо як крэчу наробіць, то будзя ўсім.* Старое Сяло Зэльв.

КРЭ′ЧВЫ *мн.* Драўляная аснова бродня. *Крэчвы — палазы ў брэдні, да іх прыцэплена сетка.* Дакудава Лід.

КРЮК *гл.* КРУК I

КСЕНДЗ *м.* Ксёндз. *Быў ксендз на пахаванні. Ён учыўся на ксендза.* Гемзы Шальч. *Тут быў ксендз.* Старое Сяло Зэльв.

КСЁНШКА *ж.* Кніжка. *Яны ксёншку выдумаўшы. Ён ксёншку чытаў.* Паляцкішкі Воран.; *параўн.* польск. *książka* 'тж'.

КСЦІ′ВЫ *прым.* Хцівы. *У ксцівага чалавека не выпрасіш нічаго.* Старыя Смільгіні Воран.

КСЦІ′НЫ толькі *мн.* Тое ж, што і к р э́ с ь б і н ы. *Яна будзя ксціны строіць.* Ракаўскія Швянч.

КСЦІ′ЦЬ *незак.* Хрысціць. *Бывала, вазілі ксціць дзіця.* Індра Красл. *Ксцілі дзяцей.* Палік Барыс.; *параўн.* польск. *chrzcić* 'тж'.

КУ′БАК I *м.* Конаўка. *Кубак вады засалодзіць — аш цягнецца ад гэтага сахару, от любя салоткая!* Гемзы Шальч. *Кубак маслянкі выпіў.* Мсцібава Ваўк. *Не руш кубка!* Пацаўшчына Дзятл. *Падай кубак!* Саланое Віл.; *параўн.* польск. *kubek* 'тж'.

КУ'БАК II *м.* Паглыбленне ў верхнім камені жорнаў. *Верхні камянь іс купкам, куды сыпяць зярно.* Жодзішкі Смарг.

КУ'БА'Р *м.* Каробачка з кары для ягад. *З дуба дзелалі ку́бар, з алешчыны, з асіны — асінавы ку́бар. Ку́бар здзела́ў для ягад.* Азяраны Раг. *З бярозы, з кары рабілі куба́р: знізу — вузенькі, а ўверх — шырокі, ягады набіралі ў лясу.* Мачаск Бярэз. *Куба́р дзелаецца з бярозы; пастух пасець і зробіць сабе куба́р ягад назбіраць. У куба́ры дзве дзіркі і прасоўваецца палачка.* Ухвала Круп.; *параўн.* руск. *устар. кубарь* 'дзіцячая цацка, ваўчок'.

КУ'БАРАМ *прысл.* Стрымгалоў. *Як піхнуў, кубарам паляцеў.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *кубарем* 'тж'.

КУБА'РКА *ж.* 1. Апалонік, вялікая лыжка. *Кубарка з дрэва выдзяўбана, як палонік. Кубаркай ваду з бочкі беруць і ліюць на дух* [у лазні]. Мярэцкія Глыб. 2. Паглыбленая частка лыжкі. *Адламалася цаўё або дзяржална, асталася адна кубарка ў дзеравяннай лысцы.* Рыбчына Віл. *Кубарка ў лыжцы.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. Кошык з вечкам. *Рыбу ў кубаркі кладуць.* Дакудава Лід. 4. Кошык для чаго-н. *Кубарка на ягады.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кубарка картопляў.* Вялікія Баяры Шчуч. 5. Каструлька. *Кубарка — невялікая пасудзіна, у якую штонебудзь наліваюць.* Мсцібава Ваўк. 6. Банка. *Кубарку была заклаўшы пад валасы.* Жылі Іўеў. *Кубарка — баначка такая; купляеш кансервы ў кубарках. Кубарка ад хварбы. Усыплю свіням кубарку муке, травэ кошык — і ядуць.* Кіралі Шчуч. *Кубарка — жасцяная такая, с-пад гарошку.* Крэва Смарг. *Кубарка — гэта пушка, якая бадзяецца.* Старыя Трокі Трак. *Кубарка — банка ад гароху.* Стральцы Гродз. 7. Бляшаная пасудзіна для каламазі. *Кубарка бляшана с шмаравідлам была калёсы падмазываць.* Старыя Смільгіні Воран.

КУ'БАРКА *ж.* Прымурак. *Кубарка — выступ у коминувэ.* Радастаў Драг.

КУБАСА' *ж.* 1. Тое ж, што і к а ў б а с а́. *Врізала сала і кубасы кавалок на закуску. Закололи свынню, то кубасы почынила, топытыму піч да пычы́му.* Сіманавічы Драг. 2. Печанае на скавары́дзе сала або сала з кусочкамі мяса. *Напычу кубасы або картоплюв.* ∇ *Шоб вам картоплі рослы вылікы, як попікы, мыцны як горыхы, сылны як роса, смачны як кубаса. Круглый — табы кубаса.* Сіманавічы Драг.

КУБА'СНІК *м. бат.* Дзікі часнок. *Кубаснік — трава, замяняе часнок.* Навасёлкі Свісл.

КУБЕЗДА'ЛЬ *гл.* КУБІ'ЗДЗЕЛЬ

КУ'БЕЛ, КУБЁЛ, КУ'БЯЛ, КУ'БІЛ *м.* 1. Вялікая пасудзіна з клёпак для захоўвання палатна і адзення. *Кубел на адзежу і закрывайса веком.* Дзяніскавічы Ганц. *Кубел — на палатно, скрыня — на адзежу.* Крэва Смарг. *Пасажны кубел.* Малькуны Ігн. *У кублі праталі празнічнае, выхадное, а ў маё*

*врэмя — сундук. Кубел дзелаецца із вушкамі, з клёпак, у ім складаюць трубкі, дзяругі.* Ухвала Круп. *Кубел быў, як бочка, высокі быў кубел. Свойцы ў кублe добро трымаць.* Баброўнікі Гарад. *У бабулі кубёл быў, з ім замуш ішла.* Ракаўскія Швянч. *У Марцэлі быў кубёл.* Малькуны Ігн. *Кубёл — то высокі ўшаток с покрыўкой, адэжу клалі.* Смаляніца Пруж. *У кубял калісь складалі адзежу.* Жодзішкі Смарг. *У кубял складалі свої палатна.* Дакудава Лід. *У кубял складалі даўней дзяругі, палатно, рушнікі, абрусы. Не было куфроў.* Кіралі Шчуч. *Кубял — на адзежу з вушкамі і векам. Былі кублы роўно с чалавекам ці па бараду чалавеку, а пазней — сундук, куфар.* Рудня Астравітая Чэрв. *У кубіл складалі адзежу.* Валынцы В.-Дзв., Саланое Віл. *У кублы палатно складалі.* Быстрыца Астр. *У кублы людзі накладалі трубы палатна здавён-даўна.* Магуны Паст. *Кублэ былі для прыданага.* Кіралі Шчуч. *Мая мама ішла з кублом замуж.* Рудня Астравітая Чэрв. *Даўней маладая ідзець с кублам; адзежу клалі ў кублы.* Рыбчына Віл. *У кублах дзіржалі адзеня.* Лайпушкі Ігн. *Замуш некалі ішлі с кублямі, века было, і палкай замыкаўся.* Крэва Смарг. 2. Вялікая дзежка для захоўвання збожжа. *Быў кубял на ссыпшчыну.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кубял рабілі бальшы с клёпак, века закрывалася, у вушках—дзірачкі, занозу засадзіш і замок яшчэ замкне.* Лапічы Асіп. *Быў кубял муку ссыпаць.* Старыя Смільгіні Воран. *У дзеда кубял быў, насыпаў збожа кубял.* Вострава Маст. *Збожа ссыпалі ў кублы.* Быстрыца Астр. *Кублы былі дзяржаць муку.* Старыя Трокі Трак. *Як сталі куфрэ, то ў кублэ сталі ссыпаць збожа.* Кіралі Шчуч. 3. Пасудзіна для захоўвання сала. *У кубёл сланіну маглі лажыць.* Гемзы Шальч. *Сала складалі ў кублы, закрывалі крышкай.* Ёдлавічы Брасл. *Кублы на сало.* Судэрва Вільн. 4. Кадушка, у якой мыліся. *Кубёл быў вялікі, даўней у кублe мыліся.* Ёдлавічы Брасл. 5. Плецены кораб. *Былі кублэ, плеценыя с саломы, нападобіе кадушкі.* Баброўнікі Гарад. *Плялі кублы і вечкі рабілі.* Крэва Смарг.; *параўн.* літ. *kùbilas* 'тж'.

КУБЕ́ЛЕЦ, КУБЕ́ЛЯЦ *м. памянш.* да к у́ б е л 3. *У кубелец складалі сала.* Дзяніскавічы Ганц. *У кубельцы сала трымалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Я яшчэ не хадзіла ў кубеляц* [па сала]. Міратычы Карэл.

КУБЕ́ЛЦА *н. памянш.* да к у б л о́. *Воробейка мосціць кубельца, несе яечкі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КУБЕ́ЛЬНІК *м. абрад.* Той, каму даручалі ў час вяселля адвозіць пасажны кубел маладой да маладога. *Кубельнік назначаны ў дзень свадзьбы вязці сундук, а некалі — кубел нявесты.* Якубова Рас.

КУБЕ́ЛЬЦО *н.* Тое ж, што і к у б е́ л е ц. *Цяпер у яшчык складаюць сало, а раньшэ было кубельцо.* Малахоўцы Бар.

КУБЕ́ЛЯЦ *гл.* КУБЕ́ЛЕЦ

КУБЁЛ гл. КУ′БЕЛ

КУБЁЛАК м. Тое ж, што і к у б ё л е ц. *Наклаў поўны кубёлак сала.* Глівін Барыс. *Сала рэзалі на кускі і шчыльна складалі ў кубёлак.* Вецярэвічы Пух.

КУБІ′ЗДЗЕЛЬ, КУБЯЗДЗЕ′ЛЬ, КУБЕЗДА′ЛЬ м. *бат.* Порхаўка. *От кубіздзеляў нарасло!* Старыя Смільгіні Воран. *Кубяздзель — белы грыб.* Чычалі Швянч. *Кубездаль — белы, яго брыкнуў нагой — толькі пыл пакурыўся.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *kùbezdalis* 'тж'.

КУ′БЛІК м. *памянш.* да к у́ б е л 3. *Кублік — бочачка на сала.* Мачаск Бярэз.

КУБЛО′ н. Гняздо. *Гусь зрабіла кубло собе і спусціла пер'я.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Гарабэй сэдіт у кублові.* Смаляніца Пруж.

КУ′БЫРКА *прысл.* Стрымгалоў. *Кубырка полытів.* Сіманавічы Драг.

КУБЭ′ЧАК м. *памянш.* да к у́ б а к I. *Ваду п'юць с кубэчка.* Кемялішкі Астр.

КУБЯЗДЗЕ′ЛЬ гл. КУБІ′ЗДЗЕЛЬ

КУБЯЛО′К м. *памянш.* да к у́ б е л 3. *У кладовацца ў кубялку сала ляжыць.* Груздава Паст. *Кубялок быў.* Валынцы В.-Дзв.

КУВА′ДЛА гл. КАВА′ДЛА

КУВА′КНУЦЬ *зак.* Кугакнуць. *Перад вайной совы крычалі, а цяпер штоб адна сава кувакнула.* Азяраны Раг.

КУВА′ЦЬ, КУВА′ЦІ, КАВА′ЦЬ *незак.* Кукаваць. *Зязюля прарочa, як куе, колькі чалавек будзя жыць.* Мсцібава Ваўк. *Зязюля куе ў саду.* Альхоўцы Лях. *Зязюлька куе.* Номікі Бабіц. *Зозуля куе по вэсне.* Смаляніца Пруж. *Бросіць каваць зазуля скоро.* Тухавічы Лях. *Кукушка кавала, у сад прылятала.* Пасіене Лудз. ▽ *Калі зязюля куе ў саду — будзе смерць.* Кузьмічы Люб.

КУВЭ′КАЦЬ *незак.* Кугакаць. ▽ *Сава кувэкаіць — на радзіны варожыць.* Лайпушкі Ігн.

КУГА′КАЦЬ, КУГА′ЎКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к у в э́ к а ц ь. *Кугакаіць сава.* Рагулішкі Даўг. *Сава кугаўкая: яна ведая, што ў некага будзя дзіця.* Вострава Маст.

КУ′ГАЛЬ гл. КУ′КО′ЛЬ

КУГА′Ч м. Сава. *Кугач кугакае.* Старое Сяло Зэльв.

КУ′ҐЕЛЬ I м. *кулін.* 1. Каша з цёртай бульбы, бабка. *Будзем есці куґель.* Гемзы Шальч. 2. Тушаная бульба з прыправамі. *Можна ў куґель насыпаць фасолі, а некаторыя папалам з морхвай тушаць.* Гемзы Шальч. *Трэба бульбу мелка накрышыць, бапковага лісту, цыбулі, мяса і паставіць у печ, яно вродзе насўха вываpыцца — і куґель.* Гемзы Шальч.; *парайн.* ням. *кулін. Gugelhupf* 'бабка', літ. *kùgelis* 'тж'.

КУ'ГЕЛЬ II *м.* Шапка з аўчыны. *Куґель — зімова шапка, шылі з аўчыны.* Старыя Смільгіні Воран.

КУДА' *гл.* КУДЫ'

КУДА'КАЦЬ *незак.* Кудахтаць. *Кура кудакаіць.* Пасіене Лудз.; *параўн.* літ. *kudakúoti* 'тж'.

КУДА'КТАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к у д а́ к а ц ь. *Курыца кудактая.* Гемзы Шальч.

КУ'ДАСА, КУ'ДОСА *ж.* Мяцеліца, завіруха. *Усхадзілася кудаса — свету ні відаць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кудаса — як зімой мяцеліца, завея, няможна носу вытнуць, што за кудаса!* Жылі Іўеў. *Кудаса сёня, німа як на двор высці.* Кіралі Шчуч. *Як велькі снех сходзіцца, завея — то кудаса.* Вострава Маст. *О, якая кудаса схадзілася!* Галубы Маст. *А на двары такая кудаса была: снег і вецер.* Пацаўшчына Дзятл. *Кудаса — мяцеліца.* Дакудава Лід. *Кудаса—як снех ідзе з ветрам. Кудаса сёння, нягода.* Галубы Маст. *Усхадзілася кудаса велька.* Навасёлкі Свісл. *Кудаса з ветрам велькім.* Малахоўцы Бар. *Кудаса — завейка, як мяце снех і падае снех.* Мсцібава Ваўк. *Кудаса на дварэ — снех з дажджэм.* Дзяніскавічы Ганц. *Кудоса зімою: снех мэтэ, нэсэ, в'юга, бура; до зімовой погоды — кудоса.* Смаляніца Пруж. *Такая кудоса взялась на дворі, так мытэ.* Сіманавічы Драг.

КУДЗЕ'ЛЕНКА *ж. памянш.* да к у д з е́ л я 1. *Даўней бабы кудзеленку пралі.* Старыя Трокі Трак.

КУДЗЕ'ЛІНА *ж.* Тое ж, што і к у д з е л я 1. *Вярцець нада кудзеліну.* Мачаск Бярэз. *Кудзеліну круцілі.* Ністанішкі Смарг.

КУДЗЕ'ЛІЦА *ж.* Тое ж, што і к у д з е́ л я 1. *Кудзеліцу спрала.* Лоск Валож.

КУДЗЕ'ЛЬКА *ж.* 1. *памянш.* да к у д з е́ л я 1. *Кудзельку ў прасніцу ўвяжуць і прадуць.* Саланое Віл. *Кудзелькі рабілі, пралі і ткалі.* Стральцы Шальч. 2. Тое ж, што і к у д з е́ л я 2. *Як чэшуць лён, кладуць у кудзелькі, кончыкі згорнуць; сціртy велькy накладуць кудзелькаў.* Альхоўцы Лях. *Абдзярэш шэсць палоечэк і згорнеш у кудзельку, бы фічка.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Згорненая воўна для прадзіва. *Кудзелька воўны.* Мачаск Бярэз.

КУДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Папрадуха. *Кудзельніца з кудзеляю ішла прасці.* Альхоўцы Лях. *Кудзельніцы сабіраліся прасці і спявалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Кагдась насабіраецца кудзельніцаў у адну хату.* Груздава Паст. *Прыходзілі кудзельніцы с кудзеляю і пралі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кудзельніцы калі ідуць с кудзеляю днём.* Малахоўцы Бар. *Кудзельніцаў колько назбіралосо, хлопцы папрыходзілі, хватаюць іх, смешкі былі.* Баброўнікі Гарад.

КУДЗЕ'ЛЯ *ж.* 1. Згорненае валакно для прадзіва. *Траслі, раскладалі валакно і скручвалі кудзелю.* Грыкені

Вільн. *Кудзелю трасуць, кудзелю робяць.* Беняконі Воран. *Кудзеля скручваецца.* Грыкені Вільн. *Кудзелю круцілі.* Рыбчына Віл. *Як кудзелю робім, трэба мецъ файну шчотку.* Старыя Трокі Трак. *Із лёну робяць кудзелю.* Міратычы Карэл. *Трэбо некалькі пасем лёну, каб зрабіць кудзелю. Зрабіла велькую кудзелю і пашла с кудзеляю на вячоркі.* Баброўнікі Гарад. *Даўней кудзелі пралі, прадут, ткут.* Парэчча Гродз. *Рабілі кужэльну кудзелю.* Дзяніскавічы Ганц. *Трўсім, зробім кудзелю і прадом.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Кудзеля — калі ў прасніцу ўвязваюць.* Стральцы Гродз. 2. Скрутак, вязка валакна. *Кудзеля — сорак жмень.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ляжаць дзве кудзялé галавок, дзве кудзялькé пачася.* Малахоўцы Бар. 3. Валакно з адходаў, пачассе. *Тоўстыя ніткі с кудзелі пралі, а з лёну на сарочкі пралі.* Міратычы Карэл. *Кудзелі на мяшкі маю трохі.* Буда Уздз. *Часалі лён на шчэтках, вычэсвалася кудзеля — на грубое палатно.* Дзераўное Стаўб.

КУ'ДЗЕРКА *ж.* 1. *памянш.* да к ý д р а І, 4. *Кудзерка — малы луг, такі мокры.* Чычалі Швянч. 2. *памянш.* да *кýдра* І, 5. *Кудзерка — кусочак лесу сярод поля. Кудзерка там, а за ёй Нёман.* Галубы Маст. *Кудзерка — там лес, трохі балота і лушка.* Дзяніскавічы Ганц.

КУДЗЁРАЧКА *ж. памянш.* да к ý д р а І, 5. *Там лапіна на прагаліне і адна кудзёрачка лесу.* Рудня Астравітая Чэрв.

КУ'ДЗЯР *м.* Тое ж, што і к ý д р а І, 5. *Там кудзяр харошы лесу расцець, многа кудзяроў.* Кураполле Паст.

КУ'ДЗЯРАЧКА *ж. памянш.* да к ý д р а І, 1. *Кудзярачка там небальшая, крыніца.* Відэйшы Ашм.

КУ'ДЗЯРКА *ж. памянш.* да к ý д р а І, 4. *Кудзерка — санажатка такая; як дажджы ідуць, там вада стаіць, асака расце.* Гемзы Шальч.

КУДЛАВА'ЦЬ *незак. экспр.* Тармасіць, трэсці. *Сядзіць дзяўчук і кудлуе ляльку.* Галубы Маст.

КУДЛАВЕ'ШКА *ж.* Галавешка. *Затушыла ў печы кудлавешку.* Пацаўшчына Дзятл.

КУДЛА'ТЫ *прым.* 1. З доўгай поўсцю. *Наш сабака кудлаты, на ім шэрсць натта доўгая.* Кіралі Шчуч. *Кудлаты сабака.* Ахрэмаўцы Брасл., Быстрыца Астр. 2. Зарослы валасамі, валасаты. *Каб мая права была, я п выстрыгла грыву ў кудлатых мальцаў.* Старыя Трокі Трак. 3. Футравы. *Кудлата шапка с скуркі маленькага ягнаці.* Кіралі Шчуч. 4. Бухматы. *Хвашчэўнік у жыця расце кудлаты.* Жодзішкі Смарг. *Кудлаты хвашчай на палях расце.* Кіралі Шчуч.

КУДЛА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да к у д л á т ы 4. *Дурнап'ян — кудлаценькі.* Гемзы Шальч.

КУ'ДЛІК *м. ласк.* Кудлаты сабака. *Дзе наш кудлік?* Старыя Смільгіні Воран.

КУДЛО'СІЦЬ *незак. экспр.* Часаць. *Дайней кудлосюць войну на шчотку.* Саланое Віл.

КУ'ДЛЫ *мн. экспр.* Валасы. *Кудлы свае рашчашы!* Номікі Бабіц.

КУДЛЫ'ЧЫЦЦА *незак.* Блытацца. *Кудлычацца ніткі.* Кузьмічы Люб.

КУ'ДОСА *гл.* КУ'ДАСА

КУ'ДРА I *ж.* 1. Невялікі прыродны вадаём, азярко. *Уперат санажаць у нас была, на той санажаці быў лужок — кудра называлі.* Псярцы Шчуч. *У кудры заўсягда лён мачылі, каменьмі накладалі.* Вострава Маст. *Сярод лесу бываюць кудры, там вада і трава кала яе расце. У кудру хадзілі купацца, там п'явак многа.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Затокі ў час паводкі. *Вясной кудры каля ракі.* Ністанішкі Смарг. 3. Сажалка, ставок. *Там кудра за паншчызнай капаная для вадапою, а цяпер зарошшы; а была бальшая кудра, вады было многа, а цяпер высыхая.* Граўжышкі Ашм. 4. Забалочаная мясцовасць, балота, амшарына. *«Ідзі ў кудры моху надзяры!— А ці ест там кудра?» Была кудра, ялавец рос, кусты. У нас на кудрах мох. У кудры капалі торф.* Жылі Іўеў. *Кудра — там вада, балота нібальшоя.* Стральцы Гродз. *Кудра па леся, па амшарыне, ягады па кудрах растуць.* Жодзішкі Смарг. *Кудра — купчыстая балота, на купінах журайліны растуць.* Кіралі Шчуч. *Кудра — санажатка такая, вясной мокра там.* Гемзы Шальч. *Кудра — забалочанае места, между гор кусок.* Лісна В.-Дзв. *Есь крынічная кудра, белая ружа* [лілія] *расце на вадзе.* Граўжышкі Ашм. *Кудры па лясох бываяць, як сажалкі, і аброшшы травой. Яны на кудрах укасілі сена.* Кудзялянцы Шальч. *У кудрах балоты і ройсты былі.* Івашкаўцы Смарг.; *парайн.* літ. *kūdra* 'мокрае месца, балота'. 5. Участак лесу. *Кудра — лапінка лесу.* Багушэвічы Бярэз. *Дайней казалі: «Кудру лесу купіў».* Кіралі Шчуч. *Кудра — круглы ўчастак аднародных дрэў у лесе: дубова кудра.* Галоўні Воран. *Кругом выразалі, адна кудра лесу стаіць; бярозавая кудра; у лугавой кудры альха расце.* Бакшты Іўеў. *Кудра — еслі лес, бяроскі кругом кудравыя, участак леса такі.* Крэва Смарг. *Кудра — лясок густы, а кругом — поля.* Альба Нясв. *Кудра — кусочак лесу сярод поля.* Галубы Маст. *Мы называлі мяста кудра, дзе зелень лесавая цененькая.* Дакудава Лід. *У кудры грыбы растуць.* Івашкаўцы Смарг. *Паміж поля стаіць кудра— лясок такі.* Пацаўшчына Дзятл. (*гл.* «Мікратапанімія Беларусі», Мн., 1974, 130).

КУ'ДРА II *ж.* Хто кучаравы. *От кудра пашла!* Ахрэмаўцы Брасл.

КУДРАВЕ'Ц *м. бат.* Палявы хвошч. *Кудравец — хвошч такі, як мяцёлачка ў яга.* Беразіно Докш.

КУДРАВЕ'ШКА *ж.* Галавешка. *Кудравешку трэба заліць.* Альхоўка Навагр.; *гл.* к у д л а в е́ ш к а.

КУДРА'ВЫ *прым.* 1. Кучаравы. *Хлапец быў увесь кудравы і дзеўка кудравая.* Мярэцкія Глыб. 2. *метэар.* Кучавы. *Сягодня добрая пагода—воблакі кудравыя.* Ёдлавічны Брасл.; *парайн.* руск. *кудрявый* 'кучаравы'.

КУДРА'ВЫ ЛЕС *м.* Малады хвойнік. *Кудравы лес — то такі маладняк. У кудравым лесе сама сасна і многа кастрыцы.* Баброўнікі Гарад.

КУДРАЎНЯ' *ж.* Тое ж, што і к у д р а в е́ ш к а. *Кудраўня дыміць, курыць, трэба заліць вадой.* Вострава Маст.

КУДЫ', КУДЭ', КУДА' *прысл.* Куды. *Куды ты ідзеш? І скажуць: «Гдзе ты ідзеш?»* Чычалі Швянч. *Куды ён пашоў?* Саланое Віл. *Порозйізджаліся хто кудэ.* Дзмітравічы Кам. *Кудэ глядзець?* Номікі Бабіц. *«Куда, цётка, ідзяце? — Па ягады».* Альхоўка Навагр. *Куда гэта дзела гадзіцца!* Саланое Віл.; *парайн.* руск. *куда* 'тж'.

КУДЭ'МА *прысл.* Тое ж, што і к у д ы́. *Кудэма ты бех?* Малахоўцы Бар.

КУДЭ'Ю *прысл.* Куды, дзе. *Кудэю яго везлі?* Вецярэвічы Пух. *«Кудэю ты шла? — Мэжэю».* Ялова Пруж.

КУЕ'Т *м.* Кювет. *У кует скінуў камень.* Нізок Уздз.

КУЖАЛЁВЫ *прым.* Кужэльны. *Кужалёвая палатно—тонкая.* Лайпушкі Ігн.

КУ'ЖАЛЬ, КУ'ЖЭЛЬ *м.* 1. Ачышчанае валакно льну. *Кужаль — вычасаны лён.* Навікі Лудз. *Кужаль пралі на салфеткі.* Салады Лудз. *Самы лепшы лён — гэта кужаль.* Гайна Лаг. *Як абдзярэш на грэбянь — астаецца кужаль.* Азяраны Раг. *Другі раз чэшаш, то кужаль выходзіў.* Грыкені Вільн. *Кужаль — чыстый.* Янова Рас. *Кужаль чысцянькі; са зрэбя мяшкі рабілі.* Пацаўшчына Дзятл. *Абдзіралі лён — палучаўся кужэль і зрэб'е.* Латыгаль Віл. 2. Пража, аснова палатна. *Кужаль у клупкох.* Солы Смарг. *Пралі кужаль ценка.* Новыя Мацалі Варэн. *Кужаль тонкі.* Лоск Валож. *Крутэй кужэль, от напрала так круто.* Дзмітравічы Кам. *По кужэлеві поткано сукніною.* Смаляніца Пруж. 3. Палатно з часанага льну. *Кужаль — найлепшэ палатно.* Лука Нараўк. *Выткала кужалю тры гупкі.* Мярэцкія Глыб. *Кужалю выткала, выбеліла і свой скачала і палажыла.* Вялікія Баяры Шчуч. *На сарачке ткалі кужаль, а на плахты — зрэбніну.* Яцаўляны Сідр. *Выткала дванаццаць губак кужалю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Шылі кашулі с кужалю.* Буда Уздз. *Кужаль ткуць.* Каўняны Гродз. *Але я наткала харошэго кужалю, палатна белого па беле. С кужалю шылі сарачке, простыні. Купіла свой кужалю. Рубашкі с кужалю шылі.* Баброўнікі Гарад.

КУ'ЖАН *займ.* Кожны. *Кужан працуя. Кужан ахраняец-*

*ца, як можа. Гаспадар на кужно дабро меў засек.* Кудзялянцы Шальч.

КУ'ЖДЫ *гл.* КА'ЖДЫ

КУЖО'ЛНЫ *гл.* КУЖЭ'ЛЬНЫ

КУЖО'ЛЬНІНКІ *прым. памянш.* да кужо́лны. *Кужольнінка спадніца, крамнага не было.* Саланое Віл.

КУЖУ'РКА *ж.* Тужурка. *Хто там прыехаўшы ў кужурцы?* Альхоўка Навагр.

КУ'ЖЭЛЬ *гл.* КУ'ЖАЛЬ

КУЖЭ'ЛЬНЫ, КУЖО'ЛНЫ, КУЖЭ'ЎНЫ *прым.* Зроблены з кужалю. *На кашулі кужэльная палатно ішло.* Груздава Паст. *Кужэльнае палатно — тонкае.* Пасека Ст.-Дар. *Кужолная кашуля была.* Рыбчына Віл. *Кужолныя кашулі шылі і насілі.* Саланое Віл. *Кужолная палатно куплялі.* Вязынка Маладз. *Кужэўная адзежа была.* Лоск Валож.

КУЗАВО'К *м.* Каробачка з кары для ягад. *Кузавок з бяросты здзеланы быў ягады збіраць.* Лісна В.-Дзв. *У кузавок ягады збіралі.* Янова Рас.; *гл.* ку́ба́р.

КУЗА'КА *ж. заал.* Кузурка. *Кузака нейка поўзая.* Малахоўцы Бар. *Бегая кузака, скінула кузаку с курткі, папаўзла кузака. На зіму кузакі хаваюцца ў дрова, у хвораст.* Баброўнікі Гарад.

КУ'ЗАП *м.* Тое ж, што і кузаво́к. *Ножам зрэжыш кару, сагнеш, ражончыкам праколіш — і кузап ягады сыпаць.* Крэва Смарг.

КУЗА'ЎКА *ж.* Тое ж, што і куза́ка. Тухавічы Лях.

КУ'ЗАЎЧЫК *м. памянш. да* кузаво́к. *Кузаўчык з кары зробяць і ягады збіраюць.* Граўжышкі Ашм.

КУЗЕ'НЬКА *ж. памянш.* да кузёмка. *Здзярэш бяросты, рашкі пазагортаеш, а туды ў тыя рашкі цурачку заложыш, каб яна не раскідалася. Васіль, зрабі кузеньку! Я пайду ягад набяру.* Дзяніскавічы Ганц. *Бяросценку здзяром, загорням, кіёчка расколям і заложым кіёчак у бяросцінку ды п'ём ваду кузенькаю на балоце.* Дзяніскавічы Ганц. *Абдзіралі той бераст і рабілі кузенькі, палачкай праколвалі, яна перакідаецца, воду п'ём і ягады ў кузеньку бяром.* Кузьмічы Люб.

КУЗЁМКА, КУЗЁПКА, КУЗО'ПКА *ж.* Тое ж, што і кузаво́к. *Кузёмку рабілі так: абдзярэ кару, праніжа ражном уверсі, кап трымалася, і збірая ягады. З алешыны, з асіны драліі кару на кузёмкі.* Альхоўцы Лях. *Пастухі, як маюць ножыка, то зробяць кузёмкі з вярбы, з асіны: абдзярэ кару, праніжа ражном і збірая ягады ў кузёмку.* Старое Сяло Зэльв. *Кузёмку рабілі з кары і збіралі ягады.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кузёпку рабілі з карэ, ражэнчыкам з елаўцу ператкне. Я набрала поўну кузёпку ягад.* Кіралі Шчуч. *Кузопку рабілі з кары.* Вялікія Баяры Шчуч.

КУ'ЗЛА *н.* Закрутка з каласоў на ніве жыта, зробленая

з мэтай чараўніцтва. *Даўней кузла зазязвалі ў жыці, урэд рабілі гаспадару, зачаруюць, і пашлі.* Кураполле Паст.

КУЗЛА'К *м.* 1. Камячок засохлага гною на поўсці жывёлы. *Кузлакі дзяруцца с каровы, с кумпякоў і каленкаў. І я сваю абдзёрла, кап чысцейшая была.* Ёдлавічы Брасл. 2. у знач. *прысл. кузлако́м.* Касмыком, кучай, клокам, пучком. *Сабака як хваціў — кузлаком пёры пасыпаліся с курыцы.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУЗНЕ'Ц *м.* Каваль. *Папа кузняцом работал.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* руск. *кузнец* 'тж'; *гл.* ДАБМ, карта № 314.

КУ'ЗНЯ *ж.* Майстэрня, дзе займаюцца коўкай. *У вёсцы кузня была.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Кузня згарэла.* Рудня Астравітая Чэрв. *У аднэй кузні толькі нас чатырох кавалёў рабілі.* Раўбічы Мін. *Трэба паехаць да кузні — паткаваць каня ці пагастрыць плуга.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* польск. *kuźnia* 'тж'.

КУЗО'ПКА *гл.* КУЗЁМКА

КУЗО'ЎЧЫК *м. памянш.* да к у з а в о́ к. *Кузоўчык з карыны рабілі.* Мішневічы Шум.

КУЗУ'ЛЬКА *ж. памянш.-ласк.* да к у з а́ к а. Тухавічы Лях.

КУЗУ'ПКА *ж.* Тое ж, што і к у з ё м к а. *Кузупку рабілі із альховай кары, з асіны маладой.* Рудня Астравітая Чэрв.

КУЗУ'РКА *ж.* Тое ж, што і к у з а́ к а. *Чорная кузурка пайзе.* Рыбчына Віл. *Пойзаюць кузуркі нейкія.* Беразіно Докш. *Пчала — кузурка разумная, хітрая, інцярэсная.* Рыбчына Віл.

КУЗЫ'НСТВА *зб. н.* Радня, сваякі, кампанія. *Нейкае кузынства ў іх было, збіраліся, гасцілі.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *kuzyn* 'дваюрадны брат'.

КАЗЮ'КА *ж. бат.* Кармавая бручка. *Учатырох апелям кузюку.* Жылі Іўеў. *Салодка кузюка.* Старое Сяло Зэльв.

КУЗЮ'ТАЧКА *ж. памянш.-ласк.* Жарабё. *Кузютачка мая!* Кураполле Паст.

КУЗЯ'ЛЬКА *ж.* Тое ж, што і к у з а́ к а. *Кузялька і та панімая, куды пайзці, ляцець. Кузялькі е ў забурачках весялкоў.* Альхоўцы Лях.

КУ'ЙЛА *м.* і *ж. зневаж.* Хто надакучлівы, звяглівы. *Куйла ты, куйла!* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kùila* (<бел. *кіла*) 'размазня'.

КУЙЛІ'ЦЬ *незак.* Надакучаць, звягаць. *Ты куйліш і куйліш — кінь!* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kuĩlinti* 'тж'; *гл.* к у́ й л а.

КУ'КА *ж.* Вялікі драўляны молат, які выкарыстоўваецца для розных мэт. 1. Для глушэння рыбы. *Куку рабілі з дзерава: калотка такая, а ў ёй пракручана дзірка і ўстаўлена ручка. Куку рабілі рыбу глушыць, як замярзаіць лядок.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кука робіцца так: бяруць кусок палена, выкруцяць*

*дзірку, ручку ўсодзяць і хвошчаць.* Ухвала Круп. 2. Для драблення засохлых камоў раллі. *Былі камы на полі, іх разбівалі дзеравянымі кукамі. Кука—як дзеравяны малаток.* Рагулішкі Даўг. *Кука была — калодачка дзесяць санціметраў, дзірачка пракручана і ручка ўстаўлена, як дзеравяны малаток. Кукай камы разбівалі, камоўя на нівах разбівалі кукамі; я сама біла кукай і мама мая, а там гліна была — пяты пазбіваеш.* Кураполле Паст. 3. Для прасавання гліны. *Даўней кукі дзелаюць і б'юць печ з гліны. Кукі — калоткі такія.* Ухвала Круп. 4. Для расшчэплівання дроў. *Кука — пабаешка: і дровы шчапалі кукай, і рыбу глушылі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *kukà* 'тж'.

КУКАБА'КА *ж.* Скаба, шпень. *Кукабака ў ярме заторкаваецца.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

КУКАБЯ'ШКА *ж.* Папярочная калодачка, прымацаваная зверху да ручкі рыдлёўкі і іншых прылад. *Кукабяшку робяць у лапаце, кап руку ня муліла і капаць ляхчэй.* Кураполле Паст.

КУ'КАЛКА I *ж. памянш.* да к у́ к л а I, 1. *Кужаль у кукалкі скручвалі.* Янова Рас.

КУ'КАЛКА II *ж. бат.* Суквецце канюшыны. *У краснага клевера кукалкі велькія.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КУ'КАЛЬ *гл.* КУ'КО'ЛЬ

КУ'КАН *м.* Нізка рыбы. *Кукан — калі рыбу на дупчык, на вяроўку, на лёску наніжуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

КУКА'РДА *ж.* Бант. *Упляталі стужкі ў валасы, рабілі кукарды.* Ракаўскія Швянч. *Завязвалі кукардай каснікі каля шыі і паясок у сукенцы завязвалі на кукарду.* Кураполле Паст. *Завязана стужка, як вухо — во і кукарда.* Крэва Смарг. *Кукарды рабілі да галавэ.* Новікі Гродз. *Во прыбрана, кукарда ўплецена ў валасы.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *kokarda* 'тж'.

КУКАРЭ'КІ *мн. зневаж.* Скручаныя ад падагры пальцы. *І з такімі кукарэкамі трэба рабіць.* Саланое Віл.

КУКАРЭ'ЧКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУ'КАЧКА *ж. памянш.* Рытуальны хлеб. *Як даўней хлеп замесіш, первжагнаеш і тады выбярэш гэты крыж, с крыжа пяклі кукачку — маленькую булачку, гэта бытта каровам давалі.* Магуны Паст. *Кукачкі — маленькія булачкі, пяклі іх на ўбогіх.* Ракаўскія Швянч. *Кукачкі пяклі і ўбогім давалі.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *kùkė, kukẽlė* 'баханка'.

КУКАШЫ'НА *ж.* Драўлянае дзяржанне ў бродні. *Дзве кукашыны ў бродні—такія длінныя палкі, удвух ловюць броднем.* Лісна В.-Дзв.; *гл.* к у́ к а.

КУ'КІШ *м. груб.* Фіга. *Яна мне кукіш паказала.* Лісна В.-Дзв. ∇ *Лабуніў, лабуніў — і дастаў кукіш.* Гемзы Шальч. *А кукіша хочаш?* Пацаўшчына Дзятл. *На табе кукіш на поўны рот! Бяз кукіша не падхадзі!* Азяраны Раг.

КУ'КІШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУ'КЛА I *ж.*, КУ'КЛЫ *мн.* 1. Скрутак валакна льну, канапель. *Кукла чыстага кужалю.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Кукла — дваццаць жмень абдзіранага лёну, абоя канцы ўместа—і скруціш.* Азяраны Раг. *У куклу скруціш жменьку лёну.* Рагулішкі Даўг. *Апяньку і лён круцілі ў куклы, па тры павесмы, а павесма — адна жменька.* Мярэцкія Глыб. *Валакно ў куклах пакручана.* Лоск Валож. *Лён чэшуць на шчатках, а потым у куклы зверчываюць.* Галубы Маст. *Трапалі лён, па чатыры-пяць жмень скручвалі ў куклы.* Солы Смарг. 2. Жаночая прычоска. *Куклу робяць з валасоў прэнтка.* Быстрыца Астр. *Куклу закручу, а хто касу носіць.* Солы Смарг. 3. *абрад.* Звязаны пучок нязжатых каласоў, што пакідалі ў час дажынак жыта. *Трэба куклу закруціць, казалі раней, палолі, каменьчыкамі апкладалі, хлеп клалі, дажынкі спявалі.* Жылі Іўеў. 4. Тое ж, што і к у́ з л а. *Нехта закруціў куклу ў жыцця, мусіць, нешта заваражыў, кап ты галавой налажыў! Куклу не выжыналі.* Жылі Іўеў. 5. Сусла. *Нажуй малому куклу! — так даўней казалі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КУ'КЛА II *ж.* Лялька. *Купіў куклу дзецям.* Ахрэмаўцы Брасл. *Што кукла, дзяўчына.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *кукла* 'тж'.

КУ'КЛАЧКА ж. 1. памянш. да к у́ к л а I, 1. *Чэшуць лён на другую шчотку і круцяць у куклачкі.* Лоск Валож. 2. Тое ж, што і к у́ к л а I, 3. *Як дажыналі, то чыстага поля не пакідалі: пакінуць жменьку каласоў, кусочак хлеба клалі ў жыцця, а каласочкі ў куклачку закруціш.* Граўжышкі Ашм.

КУ'КНУЦЬ *зак.* Адзін раз пракукаваць. *Прыляцела ў сат зязюля, рас пяць кукнула.* Валынцы В.-Дзв.

КУКО'БІЦЦА *незак.* 1. Гняздзіцца. *Курыца ў сваёй ґулце кукобіцца — будзя нясціся.* Гемзы Шальч. 2. *перан. экспр.* Варочацца з боку на бок. *Кукобійся, кукобійся — і заснуў.* Гемзы Шальч.

КУКО'БІЦЬ *незак. экспр.* Накопліваць. *Грошы ўсе сабе кукобіць і кукобіць.* Кузьмічы Люб.

КУКО'ЛІЦА *ж.* Тое ж, што і к у́ к о́ л ь. Азарычы Пін.

КУКО'ЛКА *ж. памянш.* Маленькі пучок чаго-н. *Часнок звязвалі — куколкі рабілі, па вярхох закруціш яго ценціво.* Беняконі Воран.

КУ'КО'ЛЬ, КУКУ'ЛЬ, КУ'КАЛЬ, КУ'ГАЛЬ *м. бат.* Куколь. *Ку́коль вішневаценькім цвіце.* Дзяніскавічы Ганц. *Куко́ль у збожы расце.* Сапоцкіна Гродз. *Куко́ль такі чорны, як мак.* Стральцы Гродз. *Калі прасеяць на рэшато, то куко́ль вылезе.* Баброўнікі Гарад. *Куко́ль — ад яго п'яніць, што ад гарэлкі. Кукалю́ многа, яго выполаваюць.* Рудня Астравітая Чэрв. *У пшаніцы кукалю́ многа было.* Бакшты Іўеў. *Куко́ль уністожылі, ён урэдны.* Быстрыца Астр. *Кукуль расце на полі,*

*у ячмені, у жыці было да халеры, ціпер мала дзе.* Кіралі Шчуч. *Кукуль расце.* Ялова Пруж. *Кукаль даўней рос у пшаніцы — як зарасцець адным кукалям.* Ёдлавічы Брасл. *Куґаль у пшаніцы і ў ячменю бываіць.* Пасіене Лудз.

КУКО'ЛЬНІКІ *мн. абрад.* Валачобнікі. *А на вялікдзень кукольнікі хадзілі, ім валачанье выносілі: яйца крашаныя, м'яса, каўбасу.* Дзяніскавічы Ганц.

КУКРЫ'Ш *м. с.-г.* Дышаль для парнай запрэжкі валоў. *Кукрыш ідзе с калёсаў у яром между валамі — палка здарова, штоб не паламалі валы.* Кузьмічы Люб.

КУ'КСА I *ж.* Пакалечаная кісць рукі. *Кукса ў бацькі, рука бяз пальцаў.* Дакудава Лід. *Кукса — рука без пальцаў.* Пацаўшчына Дзятл., Ракаўскія Швянч., Малькуны Ігн. *У яго рукі няма — кукса тылько асталаса.* Каўняны Гродз. *Прышоў з вайны з куксай, левай прызвычаіўся рабіць.* Беразіно Докш. *У нас быў Фядос с куксай — адарваны пальцы.* Ёдлавічы Брасл. *Адны куксы асталіся.* Лісна В.-Дзв. *З гэтымі куксамі штаноў не пашыць.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *kuksà* 'рука без пальцаў', руск. *кукса* 'тж'.

КУ'КСА II *ж.* Лабатая, бязрогая карова. Альба Нясв. *Карову бяз рагоў называюць кукса.* Дакудава Лід.

КУКСА'К *м.* Бязрукі. *Ён і сам куксак, які з яго работнік.* Кураполле Паст.

КУКСА'ТЫ *прым.* Бязрукі. Старыя Трокі Трак. *Куксаты ён.* Малькуны Ігн., Кураполле Паст.

КУКСА'Ч *м.* Тое ж, што і к у к с á к. *Куксач ён, якая з яго дапамога.* Кураполле Паст. *Хто безпалцы — кукса, куксач такі.* Парэчча Гродз.

КУ'КСАЧКА *ж. памянш.* да к ý к с а I. *Толькі куксачка астаўшыся.* Пацаўшчына Дзятл.

КУКСАЧЭ' *мн.* Кулакі, кухталі. *Куксачоў надаваў.* Пацаўшчына Дзятл.

КУКСІ'ЦЬ *незак. экспр.* Біць, лупцаваць. *Ён пачаў яго куксіць. Я табе зарас аткукшу!* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *kuksìnti* 'тж'.

КУКУ'ЛІЧКІ *мн. памянш.* Плады шыпшыны. *Кукулічкі на розе лесавой вельмі ядраныя, шкурачку варацъ на варэнне.* Кураполле Паст.

КУКУ'ЛЬ *гл.* КУ'КО'ЛЬ

КУКУ'ЛЬКІ *мн. памянш.* да к ý к ó л ь. *Кукулькі па жыці растуць.* Вецярэвічы Пух.

КУКУ'ЛЯ *ж.* Зязюля. *Кукуля сытаўцы паткідая яйцо.* Вецярэвічы Пух.

КУКУ'ШКА *ж.* Тое ж, што і к у к ý л я. *Кукушка ня робіць гнязда.* Жодзішкі Смарг. ∇ *Начная кукушка як накукуйіць — тады і места дома ня будзіць* — нявестка супраць свекрыві. Кураполле Паст.

КУКУШУ'Т *м.* Жмуркі (назва гульні). *Як у кукушут гуляім, вочы завяжам хусткай і ловім, каго зловім, тады таму завязаваюць вочы.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* літ. *kùkti* 'згінацца'.

КУКШТАЛІ' *мн.* Тое ж, што і к у к с а ч э́. *Кукшталёў табе насаджу ў каршэнь. Ён надаў, надаў кукшталёў у каршэнь.* Кураполле Паст.

КУКШЫ'НЧЫКІ *мн. бат.* Гарлачыкі. *Кукшынчыкі жоўтыя, а белыя — лілії.* Навікі Лудз.

КУКЯРЭ'ЧКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУЛА'ГА *ж. кулін.* 1. Саладуха. Пасека Ст.-Дар. *Кулагу варылі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кулагу дзелалі восенню: жытную муку закалачвалі і ў печ ставілі, яна засаладжвала; яшчэ каліну дабаўлялі.* Ухвала Круп. *Кулагу рабілі: гарачую бульбу з мукой патаўкці — і стаіць у дзежкі, каб укісла трошку, і ставілі ў печку, а потым выцягніш, каб прастыла, густая, як каша, ета кулага.* Мішневічы Шум. 2. Зацірка. *Звары, мама, кулагі на сняданя! Кулагі наварылі.* Саланое Віл. 3. Кулеш з грэцкай мукі. *Грэцкую муку запаруюць і стаўляць на печку, тады яе закіпяцяць, і гэта называлі кулага.* Азяраны Раг.

КУЛА'ГАЦЦА *незак. экспр.* Плюхацца, пялёскацца. *Дзяўчына кулагаяцца ў вадзе.* Магуны Паст.

КУЛА'К I *м.* Кулак. *Хлеп падышоў, тадыка трэба замясіць кулакамі.* Асавец Віл. *Ён кулака́м* [кулакамі] *махаіць.* Рагулішкі Даўг.

КУЛА'К II *м. цясл.* Драўляны малаток. *Прарэзана дзірка і ручка забіта ў кулак.* Дзяніскавічы Ганц.

КУЛАКІ' *мн. крав.* Буфы. *Даўней с кулакамі кофты шылі.* Янова Рас.

КУЛА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* Сагнуты, гарбаты. ▽ *Кулаценькі, гарбаценькі ўсё поле абляцеў і назат прыляцеў* — серп. Кемялішкі Астр.

КУЛА'ЧЧА *зб. н.* Кулакі. *Што кулачча, бульба парасла.* Лісна В.-Дзв.

КУЛДО'БА *ж.* Вір, яма ў рэчцы. *Кагда астановіцца рака, рыба са ўсёй полані ідзе ў кулдобы.* Беразіно Докш.

КУЛДО'БІНА *ж.* Тое ж, што і к у л д о́ б а. *Кулдобіна глыбокая ў рэццы вясной, там вірок быў, мы пашлі ўтрох вобаратніку нарваць.* Саланое Віл.

КУЛДУНЫ' *мн. кулін.* Бульбяныя галушкі. *На кулдуны бульбу шаруя на тарку, выцясня і пакачая: калдуной зварыла.* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *kołduny* 'тж'.

КУЛДЫ'КАЦЬ *незак. экспр.* Невыразна гаварыць, лепятаць. *Кулдыкая малая дзіця.* Гайна Лаг.

КУЛДЫЧЫ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к у л д ы́ к а ц ь. *Кулдычыць дзяўчына.* Лісна В.-Дзв.

КУЛЕ'ГА *ж.* Сябар, таварыш. *Кулега мой прышоў, пайду пагавару.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *kolega* 'тж'.

КУЛЕ'ЙКА I *гл.* КАЛЕ'ЙКА I

КУЛЕ'ЙКА II *гл.* КАЛЕ'ЙКА II

КУЛЕ'ЧКА *ж. памянш.* Камячок цеста. *Кулечку заставіла ў дзяжы для закваскі.* Ухвала Круп.

КУЛЕ'Ш *м. кулін.* 1. Прэсная густая страва з мукі. *Кулеш варылі: закіпеў кіпяток, калатоўкай ваду калаціць і сыпаць муку.* Мішневічы Шум. *Кулеш калісь варылі: разбоўтае ў місцы муку, скіпіць вада, заліе—і кулеш такі; я помню, як варылі кулеш.* Баброўнікі Гарад. 2. Кісель. *Кулеш варылі з каліны, жытняй мукой перасыпалі.* Глівін Барыс. 3. Каша. *Кулеш з круп варылі.* Малыя Аўцюкі Калінк. 4. Грыбок. *Кулеш спякла: разбоўтала калатоўкай муку, яечкі — і на скавародку, дзе сала растоплена.* Ухвала Круп.

КУЛЕ'Я *гл.* КАЛЕ'Я I

КУЛЁК I *м.* 1. *памянш.* да к у л ь I, 2. *Кулёк — чатыры жменькі льну звяжуць — і кулёк.* Глівін Барыс. *Лён падымалі і ў кулькі вязалі.* Быстрыца Астр. *Кулькі лёну ставілі сушыць.* Старыя Трокі Трак. 2. Скрутак льновалакна; тое ж, што і к у д з е́ л ь к а 1. *Лён расцягнеш на стол і скруціш у кулёк, як бярэшся прасць.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Невялікі снапок саломы, прызначаны для крыцця страхі. *Стріхі крыют кулькамэ.* Дзмітравічы Кам. 4. У выразе: *У кулькý* — пра збожжа, якое яшчэ не выкаласавала. *Ячмень, жыто ў кульку, як колас яшчэ не выплыў. Трэба сеяць ячмень, покі жыта ў кульку.* Старыя Смільгіні Воран.

КУЛЁК II *м.* Пінжак з даматканага матэрыялу. *Саматканы кулёк адзеў.* Лісна В.-Дзв. *Кулёк — кароткі суконны пінжак.* Валынцы В.-Дзв. *Кулёк кароткі с сукна шылі, мушчыны насілі, летам фрэнч адзеніць ці кулёк.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кулёк свайго сукна, акуратна сшыты, кароткі, як цяпер кухвайка.* Ухвала Круп. *Кулёк ад бацькі дастаўся.* Беразіно Докш. *А які ты кулёк надзеў?* Ёдлавічы Брасл. *Кулёк нада купіць.* Мярэцкія Глыб.

КУЛЁК III *м. рыб.* Задняя частка рыбалоўнай снасці з вузкім праходам. *Чарпак з нітак і абручы там, і кулёк узенькі, і варата пашырэй.* Чычалі Швянч.

КУЛЁК IV *м.* Напоўнены мяшок, пачак чаго-н. *Купіў кулёк мукі — шэсдзесят чатыры кілі, і кулёк цукру — сорак кілі.* Гемзы Шальч.

КУЛЁМ *прысл.* 1. Балахонам, мехам (пра фасон адзення). *Сукенка пашыта кулём ад верха да ніза.* Рыбчына Віл. 2. Хутка, мігам. *Я кулём да гэтай рэчкі, а гэта мая ўнучка была.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kūliaĩs* 'хутка'.

КУЛЁР *м.* Колер. *На Йвана сонца іграіць: прыгаіць разнымі кулёрамі — цёмная і выясніцца.* Вецярэвічы Пух.; *параўн.* польск. *kolor* 'тж'.

КУЛЁЎКА *ж.* Жменька, ручайка. *Кулёўка — горсць патрапанага лёну.* Мішневічы Шум.

КУЛІГА'Н *м.* Хуліган. *Куліганы пабілі яго.* Паляцкішкі Воран.

КУЛІ'ДА *ж.* Вялікая баханка хлеба. *Вяліку куліду на полё прынёс.* Пасека Ст.-Дар. *Куліда хлеба веліка.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КУЛІ'ДКА *ж. памянш.* да к у л і д а. *Кулідка хлеба, што самі качаем і пяком.* Азяраны Раг.

КУ'ЛІК I *м.* 1. Тое ж, што і к у л ё к I, 1. *Збіралі ў кулікі лён і ў кулік каноплі вязалі.* Лука Нараўк. 2. Тое ж, што і к у л ё к I, 2. *Кулік кужалю — дваццаць ручэек.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Снапок кулявой саломы для крыцця страхі. *По тры штэры жмэні на кулік — і будэ.* Дзмітравічы Кам.

КУ'ЛІК II *м.* 1. Тое ж, што і к у з а в о́ к. *Кулік рабілі з карыны, трэба зламжыць удзвейгу і пратнуць. Зрабі кулік — назбіраям ягат!* Міратычы Карэл.; *гл.* к у з ё м к а. 2. Назва рыбалоўнай снасці. *Міс язоў у брамкі ставіцца кулік, у кулікў шчэ кулічок ест.* Бакшты Іўеў.

КУЛІ'К III *м. заал.* Кулік. *Кулік—птушка балотная.* Саланое Віл. *Кулікі жывуць на балоці.* Мсцібава Ваўк.

КУЛІ'ТАЧКА *ж. памянш.* Тое ж, што і к у́ к л а I, 1. *Лён вяжуць у кулітачкі і здаюць.* Міратычы Карэл.

КУЛУБЕ'ЛЬ *гл.* КАЛУБЕ'ЛЬ

КУЛЬ I *м.* 1. Тоўсты сноп жытняй саломы. *У кулю пут саломы, калі зважыць.* Гемзы Шальч. *Звяжы куля саломы!* Баброўнікі Гарад. *Прынясі куль саломы і патсцялі свіне!* Верхлессе Крын. *Траслі кулі такія з жыта хаты крыць.* Беняконі, Галоўні Воран. *Самую вялікую салому вытрасалі і вязалі ў кулі.* Груздава Паст. *Крупную салому вязалі ў кулі, перавяслам звязваецца куль, як звяжаш палачкай — пальца пат перавясла не патсунеш.* Гемзы Шальч. *З акалоту траслі кулі.* Лоск Валож., Саланое Віл. *Кулі выбіралі крыць хату, хлеў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Вязалі буйную салому ў кулі і крылі крышу.* Гайна Лаг. 2. Вялікі сноп трасты льну. *Лён падымаюць і вяжуць у кулі.* Рагулішкі Даўг., Беняконі Воран. *Як падбярэш лён із лежні, у кулі вяжыш.* Крэва Смарг., Жыдзевічы Іўеў., Магуны Паст., Малыя Аўцюкі Калінк. *Як лён высахніць, звязваем у кулі і звозім з поля.* Мішневічы Шум. *Як апкалоцяць лён — вяжуць у куле.* Кіралі Шчуч. *Кагда вымакнець лён, выташчам і сцелям радкамы, чтобы сонцам збяліла; станет валакно адставаць — паднімеш і вяжаш у кулі.* Навікі, Пасіене Лудз. 3. Вязка льновалакна. *Дзесяць жмень — куль лёну.* Ахрэмаўцы Брасл. *Чатыры жмені — куль лёну.* Рагулішкі Даўг. 4. Вязка кары. *Куль лык надраў.* Мачаск Бярэз. *Кулі лыкаў прадавалі даўней; кулі лазы.* Валынцы В.-Дзв.

КУЛЬ II *м.* Тое ж, што і к у л ё к III. *Нерат ставяць, там*

*куль ёсць і чатыры рамачкі, нацягнута сетка, куль у нераці з дугі заведзены.* Азяраны Раг. *Куль у венцяры.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *У невадзі вывязаўся куль.* Бакшты Іўеў. *Сетка с кулём і немат с кулём.* Баброўнікі Гарад. *Куль — сетка для рыбы.* Дакудава Лід.

КУ'ЛЬБА *ж.* 1. Кій з загнутай ручкай. *Кульбу робяць так: палку параць у кіпятку, тады загне яе, яна служыць старому чалавеку. Стары чалавек с кульбаю ходзіць.* Мсцібава Ваўк. 2. Кавяла. *Нага баліць — на кульбя ходзіць.* Мсцібава Ваўк. 3. *перан. зневаж.* Кульгавы, непаваротлівы. *Вун кульба пашоў!* Рудня Астравітая Чэрв. *Ну павярніся, кульба ты!* Мярэцкія Глыб. 4. *ткац.* Задні навой у кроснах. Стральцы Гродз.; *парайн.* літ. *kuĩbė* 'тж', польск. *kolba* 'катах'<ням. *Kolben* 'катах, поршань'.

КУЛЬБА'КА *ж.* 1. Тое ж, што і к у́ л ь б а 1. *Ідзе баба з кульбакай.* Навасёлкі Свісл. *На кульбаку апіраюцца, як хто кульгае.* Дзяніскавічы Ганц. *Кульбака — такая палка, як качарэшка. Крывы чалавек ідзе с кульбакай.* Вецярэвічы Пух. *Купляюць і зрабіць можна гэту кульбаку: асіну сырую выразаў, загнуў, вяровачкай яе завязаў, да другой прывезаў — і будзе кульбака, ці кулька.* Баброўнікі Гарад. 2. *ткац.* Палка, якая служыць тормазам навоя. *На заднім навоі была кульбака, каторая дзержала задні навой, каб не круціўся.* Лука Нараўк. *І ў пярэднім навоі кульбака.* Пацаўшчына Дзятл. *Кульбака ні пушчая раскручвацца навою дзяржыць навой.* Стральцы Гродз. 3. Шпень у ярме. *Ярмо, а ў ярме е кульбака: з аднаго боку кульбака, а з другога — прэнт закладаецца.* Кузьмічы Люб.

КУЛЬБА'ЧКА *ж.* Падсядзёлак. *Кульбачка на спіну каню, наверх накладаецца патпінка.* Дакудава Лід., Вялікія Баяры Шчуч. *У кульбачку два паскі ўцягваліся: адзін — пад трыбух, а другі — з аглаблі на аглаблю цераз кульбачку.* Пацаўшчына Дзятл. *Кульбачка і пасак да яе.* Альхоўцы Лях. *Паскам кульбачка ўкрапляецца.* Малахоўцы Бар.

КУЛЬГА'ВЫ, КУЛЬГА'ВЫЙ *прым.* Тое ж, што і к л ы б а́ т ы. *Кульгавы ідзе с кіем.* Баброўнікі Гарад. *Кульгавы човек коб не ўпаў, як будзе скрозь калюжыну пераходзіць.* Лука Нараўк. *Кульгавый ён.* Ёдлавічы Брасл. *Жонка ўзяла кульгавага мужыка.* Лайпушкі Ігн. *Ее мужык кульгавый буў.* Смаляніца Пруж.

КУЛЬГА'ЦЬ, КУЛЬГА'ТЫ *незак.* Тое ж, што і к л ы́ б а ц ь. *Калена ўспухла — кульгаю, платы лічыла.* Дакудава Лід. *Нага баліць, кульгае чалавек.* Дзяніскавічы Ганц. *Як у клубу куостачку нэ ўправят, то кульгают.* Горск Бяроз. *Карова кульгая, напаў на ногі макрэц.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КУЛЬКА *ж. памянш.* 1. Тое ж, што і к у́ л ь б а 1. *Апіраюцца на кульку. Вырубае ў лесі ядлоўчыну і апіраецца, ею*

*ходзіць, ходзіць с кулькаю.* Баброўнікі Гарад. 2. Ручка, лучок у касе. *Правай рукой за кульку трымаюць, як косяць.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Тое ж, што і к у к а б я́ ш к а. *Кулька насаджваецца на тронак лапаты, вілаў, каб лепей было трымаць.* Парэчча Гродз.

КУЛЬНУ'ЦЦА *зак.* Упасці, паваліцца. *Мы ішлі і кульнуліся абедзве.* Гемзы Шальч. *Бех — і кульнуўся.* Чычалі Швянч. ∇ *Вочы ў лэб кульнуцца* — здзівіцца ад нечаканасці. *Прыехала дачка — і мае вочы ў лэб кульнуліся.* Саланое Віл.

КУЛЬНУ'ЦЬ *зак.* Упасці, зваліцца. *Ён шыпка ехаў і кульнуўся пад каня.* Груздава Паст.

КУЛЬТУ'РА *ж.* Адукаванасць, выхаванне. *Гэта высокай культуры быў чалавек.* Кураполле Паст.

КУЛЬТУ'РНЫ *прым.* Адукаваны, выхаваны. *Ён быў культурны чалавек.* Саланое Віл.

КУЛЬЦЯ' *ж.* Астатак пакалечанай рукі, нагі. *Кульця — як нагі ці рукі нет.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *культя* 'тж'.

КУ'ЛЬША I *ж. анат.* 1. Бядро, тазасцегнавы сустаў. *Кульша — нага од клуба да калена.* Альхоўка Навагр. *Ад калена — кульша.* Паляцкішкі Воран. *Круціць кульшу мне.* Ракаўскія Швянч. *Кульша — ляшка.* Галоўні Воран., Сапоцкіна Гродз. *Во здаровая кульша!* Жодзішкі Смарг. *Кульша ад калена да хрыбяціны.* Кіралі Шчуч. *Даў укол у кульшу.* Пацаўшчына Дзятл. *Далі ўкол у кульшу — стаў нарыў.* Кузьмічы Люб. *Кульша мякішэ, увесь мякіш на задніцы, а сустаў—клуб завом.* Дзяніскавічы Ганц. *Якія кульшы ў яе, от баба здаровая!* Кураполле Паст. *Кульша — кумпяк, кульшу вывярнуў, як ішоў.* Ёдлавічы Брасл. *Кульша здаровая.* Кураполле Паст. *Кульшу пабіў, ногі ў кульшах баляць, як пасядзела. Віцька цяпер нагу паламаўшы, палом нагі ў кульшы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Кульша баліць, як пасяджу, кульшу паўрадзіла.* Валынцы В.-Дзв. *У старога чалавека кульшы ўжэ сухія.* Верхлессе Крын. 2. Тое ж, што і к у л ь ц я́. *Як у чалавека рука абмерзла ці абламаны ступак — то кульша.* Міратычы Карэл. 3. Бядровая частка тушы, кумпяк. *Кульша — кумпяк.* Жодзішкі Смарг., Малькуны Ігн. *Ляціць воўк, ухваціў быка за кульшу і вырваў, так і быў бык бяз кульшы.* Кіралі Шчуч. *Кульша ў курыцы і ў качкі.* Старыя Трокі Трак., Бакшты Іўеў., Мсцібава Ваўк. *На кульшы найбольш мяса ў пятуха.* Парэчча Гродз. *Кульша ў каровы і курыная кульша.* Мярэцкія Глыб. *Кульша ў чалавека і ў жывёлы.* Чычалі Швянч. ∇ *Мужыку праўды не кажы і цалай кульшы не пакажы!* Парэчча Гродз.; *параўн.* літ. *kùlšis* 'тж'.

КУ'ЛЬША II *ж.* 1. Вуглавы застаронак у гумне. *Чатыры кульшы ў гумне.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Месца пад звісаючай часткай страхі гумна. *Кульша — прыстаўлены лабок у гумне, дзе складалі сена, салому.* Бакшты Іўеў. *Налажыў*

*кульшу сена.* Старыя Смільгіні Воран.3. Канцавая частка воза, спосаб укладкі воза. *Я табе сено кладу на кульшу — гэто связь сама рагавая; кульша — скручанае сено, яго ўкладаюць, штоб крапчэй дзяржалосё; сено трэба ўлажыць плотно: паложыцца пласт, патом заварачваецца, а тады кладзецца другі пласт сена і палучаецца свясь — як кірпіч за кірпіч.* Альхоўцы Лях. *Класці на кульшу — вазы выкладваць па рагах.* Данілавічы Дзярж. *Чатэры кульшы выкладалі па рагах воза, як ложаць сено чі салому на вос.* Мсцібава Ваўк. *Падай мне на кульшу сена, бо кульша выехала!* Дакудава Лід. *Класці сена на кульшу — раскладаць па вуглах.* Масілавічы Сл. *Кульша— вос шырокі, кладуць па баках, а патом пасярэдзіне.* Семежава Кап. *Кульша — кант в хуры сіна.* Сіманавічы Драг. *Кладзі на кульшу сено! Вуглы на возе, накладзеного сена, называліся кульша.* Лука Нараўк. *Кульша зылязла — раскідваецца вос.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* к у́ л ь ш а I.

КУЛЬША′ВЫ *прым.* Шырокі ў бёдрах. *Якія кульшы ў яе здаровыя, кульшавая баба!* Кураполле Паст.

КУЛЬША′К I *м.* 1. Тое ж, што і к у́ л ь ш а I, 1. ∇ *За харошым мужыком трасець баба кульшаком* — здаровая, сытая. Валынцы В.-Дзв. 2. Тое ж, што і к у л ь ц я́. *Кульшак астаўся, а нагі нет.* Кураполле Паст.

КУЛЬША′К II *м.* 1. Тое ж, што і к у́ л ь ш а II, 1. *Залажыў па кульшак, па кульшак займаў жытам.* Граўжышкі Ашм. 2. Сціртa ў гумне. *Пярэднія тарпы называюць кульшакі. Чатыры кульшакі бярэжныя налажыў сена.* Жылі Іўеў.

КУ′ЛЬШАЧКА *ж. памянш.* да к у́ л ь ш а́ I, 3. *Кульшачка курачыны.* Жыдзевічы Іўеў. *Паны кульшачкі зялёных жаб елі.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУЛЬШАЧО′К *м.* Тое ж, што і к у́ л ь ш а ч к а. *Кульшачок у курыцы.* Валынцы В.-Дзв.

КУЛЬШЫ′СТЫ *прым.* Тое ж, што і к у л ь ш а́ в ы. *Яна кульшыстая баба.* Парэчча Гродз.

КУЛЭ′ГАЦЬ *незак. экспр.* Мыць, боўтаць. *Што ты тут кулэгаеш у карэлай вадзе!* Груздава Паст.

КУЛЭ′ГАЦЦА *незак. экспр.* Купацца, боўтацца. *У сажалцы не нада кулэгацца!* Груздава Паст.

КУ′ЛЯ I *ж.* Куля. *Куля разгарала шчэль і ўбіла яе напавал.* Гемзы Шальч. *Срэліў — і куля не папала ў яго.* Талейкі Швянч. *Куля ў назе засела, як пастарэў, куля стала дакучаць.* Парэчча Гродз. *Яму адарвала морду куля.* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *kula* 'тж'.

КУ′ЛЯ II *ж.* 1. Тое ж, што і к у́ л ь б а 2. *Бязногі с куляй пашоў.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Тое ж, што і к у л ь б а́ к а 2. *На заднім навоі была куля, ці кульбака, каторая дзяржала задні навой, каб не круціўся.* Лука Нараўк.

КУЛЯ′ У выразе: *Даць куля* — загінуць, прапасці. *Калі*

*воўк за горла канюгў захваціў — так і дась конь куля.* Альхоўка Навагр.

КУЛЯ́ВЫ *прым.* Тое ж, што і к л ы б а́ т ы. Быстрыца Астр. *А там людзі: то курносы, то кулявы, то гарбаты. Чалавек кулявы: адна нага кароткая ці баліць.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* польск. *kulawy* 'тж'.

КУЛЯВЫ́ *прым.* Адносны да к у л ь I, 1. *Кулявой саломай накрывалі крышы.* Пасіене Лудз.

КУЛЯКО́М *прысл.* Кулём, стрымгалоў. *Куляком бегла на дарогу.* Пацаўшчына Дзятл.

КУЛЯ́СА *м.* і *ж. зневаж.* Хто крываногі, кульгавы. *Ідзе куляса кульгаючы.* Гемзы Шальч.

КУЛЯ́ЦЦА *незак.* 1. Перакульвацца праз галаву. *Як першы раз учуюць гром — куляліся. Куляйся праз галаву — расці будзяш!* Бакшты Іўеў. *Як першы раз гром загрыміць — куляцца нада.* Кураполле Паст. *Нада куляцца, як первый рас гром пачуіш.* Лісна В.-Дзв. *Куды я буду куляцца?* Гемзы Шальч. *Куляцца праз галаву.* Галоўні Воран. *Раньшэ сабяромся, касцёр гарыць, весела: старыя пяюць, а маладыя куляюцца — так гулялі на Яна.* Скрыпчына Лудз. 2. Абарочвацца, перакульвацца (з машынай). *Усе маладыя шафяры куляюцца, пакуль напрактыкуюцца вадзіць машыну.* Ёдлавічы Брасл. 3. Падаць, валяцца. *Снегу на кандалы налэпаяцца — ідзеш і куляісся.* Магуны Паст. 4. *экспр.* Хутка злазіць. *Матка пачне крычаць, мы тады куляемся з печы, як ветрам здуе.* Вязынка Маладз.

КУЛЯ́ЦЬ *незак.* Перамяшчаць што-н. перакульваючы. *Бочку нада куляць. Мы і дровы куляім да кучы, што ня можам каціць, тоя куляім.* Ёдлавічы Брасл. *Дном уверх—куляць бочку, а бокам — каціць.* Мачаск Бярэз. *Куляў, куляў з дна ўверх.* Магуны Паст. *Сюды камянь куляй!* Вязынка Маладз. *Куляй бочку!* Жодзішкі Смарг. ▽ *Як запяець курыца, яе куляюць, што пападзе на парох, тое атрубліваюць, калі галавой ляжыць — галаву, калі хвастом — хвост.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трэба курыцу куляць ад кута да парога, а галаву ў нас не атсе́калі.* Бакшты Іўеў.

КУМ *м.*, КУМА́ *ж.* Хросныя бацька і маці. *Сяць да кума, там место асталосо!* Стральцы Гродз. *Кумя, бяры яе, добрая дзеўчына!* Новікі Гродз. *Я кума яму, кумы брала.* Лоск Валож. *Звалі нас — складаныя кумы: часта прасілі за куму мяне і яшчэ аднаго хлопца.* Ухвала Круп. ▽ *Як адзін кусочак хлеба не даясі і другі возьмеш аткусіш, то за куму нехта папросіць.* Беняконі Воран.

КУМАРЭ́ЧА *зб. н.* Мноства камароў. *Кумарэча заела.* Азарычы Пін.

КУ́МКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к р у́ м к а ц ь. *Кумкая жаба.* Старыя Трокі Трак. *Кумкаюць жабы ў лужку, там вада*

*есць*. Кіралі Шчуч. *Кумкаюць жабы ў балоці*. Парэчча Гродз.

КУ′МПАЛ *м*. Купал. *На кумпал хрэст ставілі*. Ухвала Круп.

КУМПА′НІЯ *ж*. Кампанія. *Кумпанія іх, адзін да другога дабіраецца*. Кураполле Паст.

КУМПА′НКА *ж*. Сяброўка, таварышка. *Там кумпанка мая, я паляту да яе босая*. Магуны Паст.

КУМПІ′СТЫ *прым*. Тое ж, што і к у л ь ш а́ в ы. *Кумпіста кабета была*. Старыя Смільгіні Воран.

КУМПЯ′К, КУНПЯ′К, КУНБЯ′К *м*. 1. Кумпяк, сцягно. *Свіню закалолі і разбіраюць: ногі — на квашаніну, кумпякі соляць*. Старыя Трокі Трак. *Як заколюць паршука, то кумпяке ўпірот соляць, а потым вэндзяць*. Верхлессе Крын. *Кумпякі два і лапаткі дзве*. Грыкені Вільн. *Паложыць на бляху таго кумпяка, патом хлебам абмажа і пасадзіць. Калісь мая мама кумпяка ў булку хлеба ўсадзіла*. Груздава Паст. *Укінь у крупнік кусочак кумпяка! Некаторыя вэндзяць кумпяк, але много выцякае з яго жыру*. Баброўнікі Гарад. *Вэнджаны кумпяк*. Магуны Паст. *Кумпяк ванджоны*. Быстрыца Астр. *Урэш кумпяка вэндзонага*. Пацаўшчына Дзятл. *Кумпяк найсмачнейшы*. Кіралі Шчуч. *Ён толькі кумпяк любіць*. Ністанішкі Смарг. *Вешалі сала і кумпяке*. Кіралі Шчуч. *Кунпяк у каровы*. Навікі Лудз. *У свінні кунбяк*. Мярэцкія Глыб. *Сцягно, ці кунбяк, называюць*. Кураполле Паст. 2. Бядро ў чалавека. *Боль пяройдзе ў адзін кумпяк і ў другі*. Гемзы Шальч. *Нагу адабрала ад самага кумпяка, не магу перавярнуць*. Альхоўцы Лях. *Кунбяк толькі астаўся, а сам без нагі*. Кіралі Шчуч. 3. Бёдры. *От баба харошая — кумпяк, то кумпяк!* Малькуны Ігн.; *парайн*. літ. *kum̃pis* 'сцягно'.

КУМПЯЧО′К *м. памянш*. да к у м п я́ к 1. *Кумпячок падвешавалі*. Янова Рас. *Хто дасць кумпячок?* Малькуны Ігн. *Там кумпячкоў паўнюткі сверан*. Парэчча Гродз.

КУМПЯЧЫ′НА *ж. павел*. да к у м п я́ к 2. *У вены, у кумпячыны ўколы давалі*. Індра Красл.

КУМША′ *ж. бат*. Сівец. *Кумшой зарасло — і каровы ня ходзяць. Глыбокай восяню і кумшу ядуць. Ганіца кароў у кумшу, там яны паходзіць* [паходзяць]. Ёдлавічы Брасл.; *парайн*. літ. *kìmsa* 'мох'.

КУМШЧО′К, КУМШТО′К *м. памянш*. Жмут, шматок. *Бярэць кумшчок шэрсці*. Старыя Смільгіні Воран. *Вазьмі кумшток паперы, то што ўложыш*. Чычалі Швянч.; *парайн*. літ. *kùmštis* 'кулак'.

КУМЯ′К *м*. 1. Тое ж, што і к о м 1. *Кумяк — таўчоная каша з бульбы*. Вялікія Баяры Шчуч. 2. Тое ж, што і к у з л а́ к 1. *Кумякі ад гною пазбіваліся на шэрсці, то абрэзвала*. Парэчча Гродз.

КУМЯ'ЦІЦ *незак.* Церці, мяць. *Не кумяц рукамі цыбулю, не трэба яе кумяціц.* Парэчча Гродз.

КУНА' *ж. заал.* Куніца. Жодзішкі Смарг. *У нас забілі зімой куну.* Лоск Валож.; *парайн.* польск. *kипа* 'тж'.

КУНА'ДЫ *мн.* Бульба. *Вырвала курч кунадаў, буду варыць кунады.* Старое Сяло Зэльв.

КУНА'ТЫ *прым.* 1. Галінасты. *Кунаты дуп стаяў: голля дліннaя, шырокі кругом.* Рудня Астравітая Чэрв. *Елка высокая, кунатая такая.* Ухвала Круп. *Кунатая бяроза.* Рудня Чэрв. 2. Бухматы. *Каноплі былі галавістыя, кунатыя.* Рудня Чэрв.

КУНА'ЦЦА *незак.* Спатыкацца, аступацца. *На балоце курганы, толькі кунаешся на іх.* Беразіно Докш.

КУНБЯ'К *гл.* КУМПЯ'К

КУНДЗЮ'К *м.* 1. Тое ж, што і к і н д з ю́ к 1. *Кундзюк — трыбух.* Міратычы Карэл. *Кундзюк бывае свінячы, каровячы, цялячы, авечы.* Пацаўшчына Дзятл. *У кундзюк ложаць крышаныя вантробы і вараць.* Лісна В.-Дзв. *Кундзюк вычысцяць і мяса паложаць, вуха, абрэскі, язык наложаць і да восені ляжыць.* Кіралі Шчуч. *У кундзюк здор кладуць.* Бакшты Іўеў. *Кундзюк гатовілі.* Гемзы Шальч. 2. Страўнік у птушак. *Кундзюк — гэта пуп у курэй. Кундзюк у пташак.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Валлё. *Гусянята нанач набіваюць кундзюке́ свае.* Кіралі Шчуч.

КУ'НДЛЯ *м.* і *ж. зневаж.* Дурань, балван. *«Кундля ты! — дзе ты дзеў мяшкі? Трэба, кап пятнасця было», — так лаяў войт пры паншчыне.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *kundùlis* 'хто захутаны'.

КУ'НДРЫ *мн.* Апорнае прыстасаванне для вясла на плыце. *У кундры ўкладаецца апачына, на папярэчку кладзецца. У кундрах пальцы два і пярэчка.* Рыбчына Віл.

КУНЕ'ЖЫЦЦА *незак. безас.* Хмарыцца. *Кунежыцца — можа, будзіць дош.* Саланое Віл.

КУНЕ'ЧНЕ, КУНЕ'ЧНА, КУНЕ'ШНЯ *прысл.* Абавязкова, неабходна. *Не кунечне ўсё гэта пісаць!* Гемзы Шальч. *А кунечна старому ісці? Не кунешня ехаць табе!* Кемялішкі Астр. *Як гром заб'е чалавека — кунешня трэба ў зямлю ўкапаць.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *koniecznie* 'тж'.

КУНІ'ЦА *ж. заал.* Тое ж, што і к у н а́. *Куніцы ядуць куры.* Рудня Астравітая Чэрв.

КУНПЯ'К *гл.* КУМПЯ'К

КУНУ'ЦЬ *зак.* Акунуць, намачыць. *Я схваціла адзежу і кунула ў рэку.* Мішневічы Шум.

КУНЧУ'ОВЛЕ *зб. н.* Тое ж, што і к а н ц ы́ 1. *Кужыэльнэ кончуовле прыдасие в хаті.* Курашэва Чыж.

КУНЭ'СКО *н.* Тое ж, што і к а н і с к а 1. *С тым кунэском можна мнэго дров прывэстэ.* Радастаў Драг.

КУНЮ'ТКА *ж.* 1. Тое ж, што і к у́ л ь б а 1. *Іду і апіраюся на кунютку.* Граўжышкі Ашм. 2. Парастак. *Дрэва выпусціла кунюткі.* Альхоўцы Лях. 3. *бат.* Падвей. *Кунютка цвіце, як клачок белай ваты.* Белы Бераг Іўеў.

КУ'ПА *ж.* 1. Куча чаго-н. *Купа торфу.* Каўняны Гродз. *Трэба жэто згортатэ до купы. Гный скідаем у купэ. Ізгрыбаем сыно до купы ў валок.* Дзмітравічы Кам. *Купа пыску.* Сіманавічы Драг. 2. Торф, багна, дрыгва. *Купа гарыць.* Кураполле Паст. *Купа — гэта плаў на вазёрах.* Лісна В.-Дзв. *У купу ўваліўся, з гразей купа.* Мярэцкія Глыб. 3. *зб.* Купіны. *На тым болоты купа, там тяжко косыты.* Сіманавічы Драг. *Там корчі лозовы купа.* Відзібар Стол. *Косою купу вырэзалі і досталі гада.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яга не дагоніш, так па купах ідзець быстра.* Беразіно Докш. 4. Грудок. *Купа — сухое места ў балоці, вазвышанасць.* Лісна В.-Дзв. 5. Кучкі зямлі, натачаныя кратамі. *Купы нарывая крот, трэба ўліць карасіну.* Кіралі Шчуч. 6. *перан.* Вельмі многа, шмат. *Ён багатшы, у яго купа грошы.* Старое Сяло Зэльв. 7. Група, сукупнасць. *Всі в купу зобралысь.* Сіманавічы Драг. 8. у знач. *прысл. ку́паю, ку́пай.* Чарадой. *Бегаюць ваўкі цэлаю купаю.* Кіралі Шчуч. 9. Кустом, бухмата. *Плюсы* [грыбы] *растуць купай, сладкія, зварыш з імі булёнчык.* Пасека Ст.-Дар. *Салата расце купаю.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* польск. *kupa* 'куча'.

КУПАВА'ЦЬ *незак.* Купляць. *Цяпер вагі купуюць.* Новікі Гродз.

КУ'ПАВІЦА *ж.* Тое ж, што і к а р ч э́ ў к а. Рудня Астравітая Чэрв.

КУПА'ЙЛА *гл.* КУПА'ЛА

КУПА'ЙЛО I *н. бат.* Пярэсна. *Купайло — кветка, на яе варожаць.* Дзяніскавічы Ганц.

КУПА'ЙЛО II *гл.* КУПА'ЛА

КУПА'ЛА, КУПА'ЛЛЯ, КУПА'ЙЛА, КУПА'ЙЛО *н.* Старажытнае свята. *На Купала зёлкі збіраюць. Ян на другі дзень пасля Купалы.* Мярэцкія Глыб. *Купалля перат Пятром, а назаўтра Ян.* Рыбчына Віл. *Даўней гулялі Купалля: клалі сярот вуліцы агонь, сядзелі кругом, вадзілі карагот.* Рудня Астравітая Чэрв. *На Купайла зеля збіраюць.* Старое Сяло Зэльв. *Заўтра Купайло, а в понедельнік Ян.* Азарычы Пін.

КУПА'ЛКА *ж. бат.* Купальнік. *Купалкі на высокіх містах растуць, даўней затыкалі за ікону, кап распускаліся.* Вецярэвічы Пух. *Купалка—краска такая. Як бывала, купалак, а раней, казалі, купавак нашчыпаюць, нарвуць сколькі душ і затыкаюць за абраз — і еслі разаўюцца ўсе за ноч — усе будуць жывы, а як некаторая завяня — нехта памрэ.* Рудня Астравітая Чэрв.

КУПА'ЛЛЕ *н.* Тое ж, што і К у п а́ л а. *Бывае ўвечары Купалле, а зоўтра — Ян.* Кухты Віл.

КУПА'ЛЬНІК *м.* 1. Тое ж, што і к у п а́ й л о І. *Купальнік жоўтым цветам цвіце, высокі, як у шчаўе стаўбун.* Пацаўшчына Дзятл. 2. Настой. *Купальнік ад зрушэння п'юць.* Альхоўка Навагр.

КУПА'ЛЬНЯ *ж.* Месца купання ў рэчцы, возеры. *Пойдзім купацца на купальню! Паласкалі бяльё на купальні.* Ёдлавічы Брасл.

КУ'ПАР *гл.* КУ'ФАР

КУПА'ЦЦА, КУПА'ЦСА *незак.* 1. Купацца ў вадзе. *Ходзім купацца ў азяро.* Ёдлавічы Брасл. 2. Грэбціся ў пяску, у зямлі (пра птушак). *Куры купаюцца ў пяску, на зямлі.* Ёдлавічы Брасл. *Куры купаюцца, дают крылкамі па пяске.* Рагулішкі Даўг. *Куры бегают купацса ў сечку.* Крынкі Крын. ◇ *У масле купацца* — жыць заможна, багата. *Ён жывець — у масле купаецца.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУПА'ЦЬ *незак.* Мыць. *Як сапсуецца дзешка хлебная, цыбуляй націралі і купалі.* Азяраны Раг.

КУ'ПАЧКАМІ *мн.* у знач. *прысл.* Кучкамі, курганком. *Смаршке купачкамі растуць.* Новікі Гродз.

КУПЕ'ЛІНА, КУПЯЛІ'НА *ж.* Лужына, азярко. *Купеліна — лужына, у якой не высыхае вада.* Палік Барыс. *Памочыш і паложыш палатно лі якой купеліны, дзе вада есць. Купеліны былі, палотно памочыш — і на расіцу.* Купяліна — *дзе лужок з вадой. Бабок у купяліне расцець.* Саланое Віл.

КУПЕ'ЛІШЧА *н.* 1. Тое ж, што і к у п а́ л ь н я. *Купелішча —мясціна ў возяры, усе там купаюцца.* Магуны Паст. 2. *мн.* Выдраныя ямкі, дзе куры купаюцца. *Што парабілі куры — адны курыныя купелішчы на гародзі!* Ахрэмаўцы Брасл.

КУПЕ'Ц *м.* Пакупнік, купец. *Мочаны лён купцы лепяй куплялі на палатно.* Магуны Паст. *Еслі на базары палавіну цаны даець — гэта купец, а еслі і палавіны не даець за тавар — гэта не купец.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУПЕ'ШКА *ж.* Камяк зямлі. *Я купешку вазьму і пульну, кап адігнаць ад сябе жабу.* Міратычы Карэл.

КУП'Ё, КУ'П'Я *зб. н.* Купіны. *Там куп'ё, пойдзем сена грэбсці, станеш і падаеш.* Мачаск Бярэз. *Куп'ё на балоце велькае.* Пацаўшчына Дзятл. *Куп'ё адно.* Жылі Іўеў. *Адно куп'ё, касою не замахнеш. На галах пасвілі, кагда-та лес быў, вада стаяла, мох рос і куп'ё было, а цяпер поля.* Рудня Астравітая Чэрв. *У лушку мох, мшэчак і куп'я.* Альхоўцы Лях. *Куп'я такоя высокая.* Цяпінцы Віл.

КУ'ПІНА *ж.* 1. Купіна. *Купіна ў балоця ўзвышаецца.* Крупіца Мін., Новікі, Стральцы Гродз. *С купіны на купіну пераходзіць.* Жылі Іўеў. *Купа — венкшая, а купіна невялікая.* Саланое Віл. *Журавіны растуць на купінах.* Парэчча Гродз. *З дзвёх купін набралі вядро ягат.* Вецярэвічы Пух. *Купіны такія на балоця.* Жодзішкі Смарг. *Купіны, іх зразаюць — ка-*

*сіць плоха.* Граўжышкі Ашм. 2. Яма, вір. *Купіна сярот ракі глыбока.* Мсцібава Ваўк. 3. *памянш.* у знач. *прысл. кýпінкамі.* Няроўна, бугрыста. *Ён купінкамі паарай поле.* Старыя Смільгіні Воран.

КУ'ПІ'СТЫ *прым.* 1. Пакрыты купінамі. *Поля купістая.* Граўжышкі Ашм. *Купістая места там.* Рыбчына Віл. *Купіста балота — там куп'ё.* Кіралі Шчуч. *Якое ж там купістае балота, цяжка ісці.* Пацаўшчына Дзятл. *Кýпістая места, купа там.* Саланое Віл. 2. *перан.* Шырокі ў бёдрах, прысадзісты. *Як купістая баба, то і кумпякі мела харошыя. Як баба небальшая — купістая.* Гемзы Шальч.

КУ'ПІЦЦА *незак.* Тлець, гарэць. *Як гарыць торф, то гавораць — купіцца торф, яго не патушыш.* Мішневічы Шум.

КУПІ'ЦЦА *незак.* Купіць. *Пайду хлеба куплюся. Добра мне было: хатку купілася.* Ракаўскія Швянч.

КУПІ'ЦЬ, КУПЫ'ТЫ, КУПІ'Ц *незак.* Купіць. *Купій хустку кваткамі.* Номікі Бабіц. *Хату ён купіць.* Старыя Смільгіні Воран. *Давай купем на спадніцу!* Міратычы Карэл. *Хто мая сілу — купя.* Старыя Трокі Трак. *Ён табе не купя.* Гемзы Шальч. *Одное воды нэ купыў.* Горск Бяроз. ∇ *Ляпей дац і прадац, чым купіц.* Парэчча Гродз.

КУ'ПКА *ж.* Проламка, палонка. *Купку нада прасеч на рэчцы. Купку прасяку — і буду рыбу лавіць.* Беразіно Докш.

КУПКО'ВЫ *прым.* Бухматы. *Купковая салата — харошая.* Быстрыца Астр.

КУПЛЁНАЕ *н.* Адзенне з матэрыялу фабрычнага вырабу. *Куплёнага дайней ня насілі.* Ракаўскія Швянч.

КУПЛІ'ЦЦА *незак.* Купацца, грэбціся. *Чалавек купліцца ў рацэ. У пайдні не купліся, бо вада халодна. Куры куплюцца ў зямлі: крыламі дае па пяску і купліцца, грабуць і куплюцца.* Бакшты Іўеў.

КУ'ПЛЯ *ж.* Дзеянне паводле значэння дзеяслова к у п л я́ ц ь. *Сталі мы гаварыць пра куплю.* Кураполле Паст.

КУПЛЯ'НЫ *прым.* Куплёны. *Купляныя буракé, свайго насеня не было.* Вялікія Баяры Шчуч. *Купляныя ніткі, шолкам аттыкаюць.* Малькуны Ігн.

КУПЛЯ'ЦІСА *незак.* Купляцца. *Шчэ пры поляках куплялась моя хустка.* Смаляніца Пруж.

КУПЛЯ'ЦЬ *незак.* Купляць. *Купляць палазы не нада было: вырубіл ёлку, абцясал — і полас.* Пасіене Лудз. *Ездзілі купляць лес.* Грыкені Вільн. *Ён куплёў скот.* Вецярэвічы Пух. *Я куплёў у палякоў лес.* Латыгаль Віл.

КУПНУ'ЦЦА *зак.* Акунуцца, нырнуць у ваду. *Ён купнуўся, даў нырца, далёка заплыў і папёрло яго.* Альхоўка Навагр.

КУПНЯ'К *м.* Тое ж, што і к у п'ё. *Там купняк, дужа купінаў многа.* Старыя Смільгіні Воран.

КУПО'ВАНЫ *прым.* Куплёны. *Купованая спадніца.* Новi-

кі Гродз. *Купованэ палатно.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *kupować* 'купляць'.

КУПО'ВІШЧА *н.* Тое ж, што і к у п е́ л і ш ч а 2. *Куповішчы ў ячмені куры парабілі.* Бакшты Іўеў.

КУ'ПОЧКА *ж. памянш.* да к у́ п а 1. *Купочка горихов.* Горск Бяроз.

КУПО'ШКАЦЦА *незак. экспр.* Корпацца. *Купошкуюся з дзецьмі цэлы дзень.* Азяраны Раг.

КУ'ПРА *ж.*, КУПРО' *н.* 1. Горб. *Баба с купрай ідзе да зямлі прыхіліўшыся. Не родзіцца с купрай, але послі находзіцца купра.* Малькуны Ігн. *Расце купро.* Старыя Смільгіні Воран., Ракаўскія Швянч. *Купро — то горп.* Парэчча Гродз. 2. Карак. *У купру дам зарас!* Стральцы Гродз. 3. Бядро. *У купрэ баліць, я аблежала сабе купро.* Мсцібава Ваўк. 4. Клуб у каровы. *Збіла карова купро.* Навасёлкі Свісл. 5. Пупок у птушак. *Яда ў пташак ідзе ў вуголё, а патом у купро.* Альхоўка Навагр.; *парайн.* літ. *kuprà* 'горб'.

КУПРАВА'ТЫ *прым.* Гарбаты. *Куправатая карова, як гарбатая.* Ракаўскія Швянч.; *гл.* к у́ п р а.

КУПРА'ТЫ *прым.* Гарбаты. *Ён быў купраты, памёр ужо.* Малькуны Ігн., Ракаўскія Швянч. *У нас Броня купратая.* Ёдлавічы Брасл. *Купрата баба, на плячах купро.* Быстрыца Астр. *Купраты стары, скупрыўся пат старасць.* Граўжышкі Ашм. *Ён купраты стаў.* Старыя Смільгіні Воран., Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *kuprótas* 'тж'.

КУПРА'Ч *м. зневаж.* Гарбель. *Купрач — хто гарбаты. Ён купрач такі.* Парэчча Гродз.; *гл.* к у́ п р а.

КУ'ПЧА *ж. устар.* Купленая зямля ў адносінах да спадчыннай. *Паны часта продалі зямлю, вяскоўцы аткупліваді ат паноў, і гэта зямля — купча. На купчу сына пасадзіў.* Вецярэвічы Пух. *На купчы арай.* Рудня Астравітая Чэрв. *Якая купча? — Калісь закупяць надзел зямлі, і яна называецца купча.* Кузьмічы Люб.

КУПЧА'СТЫ *прым.* Бухматы. *Купчаста салата.* Галубы Маст., Вялікія Баяры Шчуч., Каўняны Гродз.

КУПЧА'СЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да к у п ч а́ с т ы. *Купчасценькая ў мяне брушка* [бручка]. Вецярэвічы Пух.

КУ'ПЧЫЙ *прым.* Куплёны. *Я хожу в купчуй кофты.* Залессе Кам.

КУПЧЫ'СТА *прысл.* Няроўна, дзе многа купін. *Там купчыста, жураўліны растуць.* Кіралі Шчуч.

КУПЭ'РТА *ж.* Канверт. *Дзеньгі ў купэрце прышлюць.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *koperta* 'тж'.

КУ'П'Я *гл.* КУП'Ё

КУПЯЛІ'НА *гл.* КУПЕ'ЛІНА

КУПЯ'ЛІШЧА *н.* Тое ж, што і к у п е́ л і ш ч а 2. *Куры купялішчы падзелалі на агародзі.* Азяраны Раг.

КУПЯНЫ′ *прым.* Тарфяністы. *Купяное места — дзе сухі торф, агонь туды як учупіцца — і гарыць купа.* Лісна В.-Дзв.

КУР *м.* Копаць, сажа. *Дайней паталок блішчыць у курной хаце ат куру.* Крэва Смарг.

КУ′РА′ *ж.* Курыца. *Можа, ку́ра знёшшыся.* Паляцкішкі Воран. *Кура́ благая.* Лісна В.-Дзв. *Дзікая кура́, кура́ ходзіць, кура́ забалела.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кура́ здохла, няма куры́.* Азяраны Раг. *За куро́й пабегла, куру́ злавіла.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КУ′РАВА *н.* і *ж.* 1. Пыл пры апрацоўцы льну і інш. *Курава ідзе ад ільну.* Пасека Ст.-Дар. *Дульке — гэта курава такоя.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ой, курава наберацеса!* Пасека Ст.-Дар. *Надыхалася куравай. Іс ку́раў трэба задушыцца, як лён трэплеш. Машыны ідуць, якая курава ідзе.* Кузьмічы Люб. 2. Курэнне. *Што гэта курава дае!* Саланое Віл.

КУРАВО′ТКА *ж.* Кураводка. *Куравотку наважую* [навязваю], *кап не капала.* Крэва Смарг. *Піскляты і куравотка на гарот пашлі.* Груздава Паст.

КУ′РАВЫ *прым.* Цёмна-карычневы. Семежава Кап.

КУРА′ВЫ *прым.* 1. Курны. *Некалі куравыя хаты былі.* Вецярэвічы Пух. *А вот я яшчэ помню, як дайней хаты куравыя былі.* Парэчча Гродз. 2. Які апылкоўвае (пра мужчынскія асобіны). *Каноплі куравыя — пласкуні называюць.* Альхоўка Навагр. ▽ *Куравыя вочы дыму не баяцца* — пра чалавека, які сораму не мае. Вецярэвічы Пух.

КУРАДЫ′М гл. КУРО′ДЫМ

КУРАДЫ′МКА *ж.* 1. Дымар. *Курадымка з бляхі пчолы падкураваць.* Груздава Паст. 2. Газоўка. *Курадымка — лямпачка без шкла.* Быстрыца Астр.

КУРАДЫ′МІЦЦА *незак.* Дыміцца, курэць. *Курадыміцца галаўня.* Мішневічы Шум.

КУРА′Й *м.* Свойская птушка з невыразнымі палавымі адзнакамі: курыца падобна да пеўня, гусь — да гусака і наадварот. *Ён курай — ні гуска, ні гусак. У курэй і гусей бываюць кураі. Курай і гускі не вяснуя.* Вострава Маст. *Курай ні пяецца, ні нясецца, с курмі не іграіць.* Кураполле Паст.

КУРА′К *м.*, КУРАКІ′ *мн.* Петлі ў лапцях, куды зацягваліся аборы. *Куракі — пяцелья ў лапцях.* Навікі Лудз. *Куракі здзеланы, а ў куракі зацягвалі аборы анучыну закруціць. Атарвайся курак.* Валынцы В.-Дзв.

КУРА′КА *ж.* Тое ж, што і к у р а́ й. *Курака — пеўня называюць, яго з восені ўгадаюць і ні кідаюць у племя з курамі.* Азяраны Раг.

КУРАЛЕ′СІЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць недарэчнае, балбатаць. *Дакуль ты будзеш куралесіць?* Груздава Паст.

КУРАЛЁК *м. памянш.* 1. Газнічка. *Дайней баба запаля куралёк і прадзе пры куральку, керасіна дарагая была.* Гем-

зы Шальч. *Куралёк — такая лямпачка.* Быстрыца Астр. 2. *перан.* Частка кумпяка каля галёначна-бядровага сустава. *Атсекла куралёк ад кумпяка і зварыла — не такі салёны. Паатсікай куралькі ці жужалкі на квашаніну.* Саланое Віл.

КУРАНЁК *м. памянш.* да к у р э́ н ь II. *Сталі дзелаць куранёк, бо не было дзе жыць.* Азяраны Раг.

КУ'РАНКА *ж.* Тое ж, што і к у р а д ы́ м к а 1. *Цяпер есць куранка для пчол, падкурваеш.* Парэчча Гродз.

КУ'РАННЯ *н.* Курэнне. *Ад курання кашаль б'ець.* Валынцы В.-Дзв.

КУРАНЯ', КУРАНЁ *н.* Кураня. *Кураня загразла ў балоці.* Кіралі Шчуч. *Куранё прапала.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ня будзя ні аднаго кураняці.* Кіралі Шчуч. *Мае куранята есці хочуц. Чацвёра куранят вывела, пару куранят панёс каршун.* Парэчча Гродз.; *гл.* ДАБМ, карта № 296.

КУРАНЯ'ТКО *н.*, КУРАНЯ'ТКА *мн. памянш.-ласк.* да к у р а н я́. *Адно куранятко здохло.* Воўкуш Ліпск. *Адно куранятко прапала.* Міратычы Карэл. *Двоя кураняткаў задушыў шашок.* Кіралі Шчуч. *Кот ухапіў куранятко.* Альхоўка Навагр. *Куранятка прыбеглі, нада іх пакарміць.* Альхоўцы Лях. *Нада куранятка пакарміць. Яна даглядая кураняткаў.* Тупічаны Ваўк.

КУРАПА' *ж.* Курапатка. *Курапа дзіка дзвох сартаў: шаранькая і белянькая.* Пацаўшчына Дзятл.

КУРАПА'ТА *ж.* Тое ж, што і к у р а п а́. *Курапата ў лясу водзіцца.* Асавец Віл. *Курапаты ў нас водзяцца.* Вязынка Маладз.

КУРАПА'ТКА *ж.* Тое ж, што і к у р а п а́. *Курапатка — падобіе курыцы.* Істра Лудз. *Курапаткі па зямлі ходзяць.* Гемзы Шальч. *Курапаткі многа яіц кладуць—да дваццаці дзвюх.* Чарняўскія Лудз. *Курапаткі па полю лётаюць.* Кіралі Шчуч.

КУРАСА'Д *м.* Седала. *Куры спяшаць на курасад. Куры пашлі на курасад.* Ёдлавічы Брасл. *Куры сядзяць на курасадзя.* Ракаўскія Швянч.

КУРАСА'ДНЯ, КУРУСА'ДНЯ, КУРУСЭ'ДНЯ *ж.* Тое ж, што і к у р а с а́ д. *Куры на курасадне.* Пасіене Лудз. *На курасадні куры нясуцца.* Валынцы В.-Дзв. *Курусадня — гэта дзе куры сідзяць.* Якубова Рас. *На курусэдні куры сідзяць.* Валынцы В.-Дзв.

КУРАСЛЕ'П, КУРАСЛЁП *м. бат.* Кураслеп. *Кураслеп белы, расце па пушчах, па лахчынах.* Глівін Барыс. *Кураслеп цвіце белым.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кураслеп цвіце вясной.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Кураслёп у лясу, беляныкія цвяточкі.* Лапічы Асіп.

КУРАСЛЕ'ПКА *ж.* Сорт бульбы, скараспелка. *Кураслепка нічаво была, як зварыш — рассыпаецца.* Ухвала Круп.

КУРАТА′ *ж.* Тое ж, што і к у р. *Курата з дыму печага!* Номікі Бабіц.

КУРА′ТНІК *м. заал.* Ястраб, каршун. *Куратнік—бальшой, нападает на курэй, а галубятнік — паменьшэ.* Пасіене Лудз.

КУРА′ЎКА *ж.* 1. Скручаная ануча, якой дымілі пчол. *Дайней кураўкай курылі пшчол.* Саланое Віл. *Кураўку закурыць і нясе да вулія. Кураўка — скручана і падпалена анучка.* Старое Сяло Зэльв. 2. Дымар. *А патом жалезну кураўку зрабілі курыць пшчол.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Газніца. *Кураўка — такі куралёк без шкла палілі.* Гемзы Шальч. 4. *бат.* Порхаўка. *Кураўка — грыб такі, з яго пыл курыць.* Міратычы Карэл.

КУРАЦЁ *зб. н.* Спарахнелыя сухія дрэўкі для абкурвання пчол. *Дайней ня было кураця гэтага, анучу запаляць і кураць.* Граўжышкі Ашм.

КУРА′ЦІНА *ж.* Курынае мяса. *Кураціны ўкінула ў суп.* Лоск Валож.

КУ′РАЦЦА *гл.* КУ′РЫ′ЦЦА

КУ′РАЦЬ *гл.* КУ′РЫ′ЦЬ

КУРА′Ч І *м.* 1. Тое ж, што і к у р а́ ў к а 1. *Курач — пчол акурваць.* Міратычы Карэл. *Бралі курач — і пчол падкурвалі.* Галубы Маст. *Курачом пчол падкурвалі.* Пацаўшчына Дзятл. *Курачамі дымяць пчол. Мачаск Бярэз.* 2. Матэрыял, якім наўмысна падпальвалі будынак, стог, лес. *Дайней падсуня курача і спаліць гумно, стога сена, як мая хто на каго злосць. Як хто леса спаліў, то кажуць — нашлі курача. Возьме ганучу, зверціць і патпаля і падапхне — вот і курач.* Навасёлкі Свісл. 3. Хто курыць, курэц. *Цяпер не набрацца курачам табакі, спічак, а дайней скалкай курачы пользаваліся.* Валынцы В.-Дзв.

КУРА′Ч ІІ *м.* 1. Тое ж, што і к у р а́ й. *Курач — курыца, падобная да пеўня.* Мачаск Бярэз., Жылі Іўеў. *Курач — ні курыца, ні пятух.* Дакудава Лід. *Урадзіўсё курач — або прадаць яго, або секчы.* Міратычы Карэл. *Быў у нас адзін гот курач: с курмі не іграя, ходзіць развеяны.* Кіралі Шчуч. *Было дванасця куранятак, то восім курак, тры пеўнікі і, мусіць, адзін курач.* Альба Нясв. *Курач — ні пятух, ні курыца.* Малахоўцы Бар., Нізок Уздз. *Курач с курмі не іграя.* Вецярэвічы Пух. *Курач — пятух, як курыца.* Тухавічы Лях. *Курач — ні курыца, ні пятух.* Альхоўцы Лях. *Курач — ні то курка, ні вядома што.* Лука Нараўк. *І ў гусей бывае нейкі курач, не іграе.* Дзяніскавічы Ганц. 2. *перан.* Гермафрадыт (пра чалавека). *Курач — ета бес семяна, і певянь, і людзі ё. Быў Хведар — курач.* Лапічы Асіп.

КУРА′Ч ІІІ *м.*, КУРАЧЫ′ *мн.* Сані з бакавымі жэрдкамі: прыстасаванне для пашырэння плошчы саней. *Як на базар егдзілі, то запрагалі сані с курачом: па баках палазоў курачы, трэба пераплесці курач.* Альхоўцы Лях.

КУРА'ЧА СЛЕПАТА' *ж. бат.* Казялец. Вялікія Баяры Шчуч.

КУ'РАЧКА *ж.* 1. *памянш.-ласк.* да к у́ р а́. *Курачка ці ест? Ці нашлася?* Альхоўка Навагр. *Ці ўсе курачкé?* Старое Сяло Зэльв. 2. Маладая курка. *Курачкі ўжо каркаюць, увосень будуць нясціся.* Ёдлавічы Брасл. *Ці ты курачкі замкнула?* Кудзялянцы Шальч.

КУРАЧКЕ' толькі *мн. астр.* Плеяды, сітцо. *Ужэ курачке да поўдня даходзяць, ужэ зарас поўнач будзе. Горбачка зорак у адном месцы. Апоўначы ўжэ курачке пазбіваліса.* Баброўнікі Гарад.

КУ'РАЧКІ I *мн. бат.* 1. Від грыбоў. *Курачкі: у іх шапачкі жаўтавенькія, кудлаценька каля ношкі — панчошка. Курачкаў набрала.* Кіралі Шчуч. *Курачкі на пнях расцець* [растуць]. Ёдлавічы Брасл. 2. Белыя і жоўтыя гарлачыкі. *Курачкі белыя і жоўтыя ў затоках каля рэчкі.* Саланое Віл.

КУ'РАЧКІ II *мн.* Жмуркі. *У курачкі гулялі.* Магуны Паст.

КУ'РАЧКІ III *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУРА'ЧНІК *м.* 1. Куратнік. *У курачніку куры сядзяць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Курачнік — дзе куры сядзяць.* Дзяніскавічы Ганц. *Каршун ляціць у курачнік; я рас венікам забіла каршуна.* Кіралі Шчуч. 2. *мн.* Тое ж, што і к у р а с á д. *Куры паселі на курачнікі, змерзлі.* Пацаўшчына Дзятл.

КУРАЧО'К *м. памянш.* 1. Камячок цеста, што пакідалі ў хлебнай дзежцы для закваскі. *Курачок цеста астаўлялі для кіслі.* Асавец Віл. 2. Маленькая бахапачка. *Курачок — патскрэбіш з дзяжы, маленькі хлябок з паследняго цеста.* Груздава Паст. 3. *рыт.* Баханачка хлеба, якую дарылі. *У Міколу, каб каровы вяліся, пяклі курачкі: адзін — бацюшку, другі — жабракам раздзеляць, а трэці — сабе бралі.* Кураполле Паст.

КУРА'ЧЫ *прым.* Курыны. *Курача пер'я скубала.* Кіралі Шчуч. *Курачо мясо люблю.* Масілавічы Сл. *Курачыя яйца вару.* Вострава Маст. *Ёсць курачыя вошы.* Альхоўка Навагр. *Курачыя лапы сабака грызе.* Навасёлкі Свісл. *Падрос гус, як яйцо курачо.* Альхоўцы Лях. ▽ *Курача цела* — зябкасць на скуры. *Курача цела стала — купоўся шмат.* Галубы Маст. *Курача цела стала ад холаду.* Пацаўшчына Дзятл. *На курачай назе свіран паставіла* — пра маленькі прымітыўны будынак. Жыдзевічы Іўеў.

КУРА'ЧЫНА *ж.* Тое ж, што і к у р á ц і н а. *Паеў добра курачыны.* Ахрэмаўцы Брасл. *С курачыны звару суп.* Крэва Смарг. *Зварыла булён з курачыны.* Старыя Смільгіні Воран., Альхоўцы Лях., Дзяніскавічы Ганц.

КУРА'Ш *м.* Тое ж, што і к у р а ц ё. *Кураш — спархнелыя дрэўкі, што падкурваць пшчол.* Бакшты Іўеў.

КУРА'ШКА *ж.* Тое ж, што і к у р á ў к а 1. *Дайней курашку с трапкі рабілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

КУРА'ШНІК *м.* Тое ж, што і курáчнік 1. *У курашніку куры. Котка пацука прэ с курашніку.* Гемзы Шальч.

КУРА'ШЧЫ *дзеепрым.* Хто курыць. *Ён курашчы быў.* Кіралі Шчуч.

КУРАЯ', КУРУЯ' *ж.* і *н.* Тое ж, што і курáй. *Курая нейкая ўдалося — ні пятух, ні курыца. Мая курая не нясецца.* Саланое Віл. *Курая ні пяець і ні нясецца.* Кураполле Паст. *Курая можа быць певянь, алі на курыцу пахож, яго завуць курая.* Рудня Астравітая Чэрв. *Куруя ні нясецца, нада зарэзаць. Гэны пятух — як куруя, вушлаты, нідалэнга.* Мярэцкія Глыб.

КУРВЯ'ЎЧАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Кот курвяўчая, пачаў курвяўчаць.* Мсцібава Ваўк.

КУРГА'Н I *м.* 1. Узгорак, узвышша. *Курган — меншы, а большы — гара.* Валынцы В.-Дзв. *Астравы на балоці, а курган у лесе, дзе вышшае места, брадок будзе, лес і курган; галешнік расце, лахчына, зноў брадок і курган.* Дзяніскавічы Ганц. *Курган — дзе адзін пясок, пяшчаная зямля.* Галубы Маст. *У нас курганэ, пясок на курганох.* Парэчча Гродз. 2. Грудок сярод балота, купіна. *Станавіліся, дзе вышэй — на курганы, а то зацягне балота.* Ракаўскія Швянч. *На балоце мохам абросшыя ўзгоркі — курганы. Курганы на балоця, сенажаці.* Магуны Паст. *І на пожні бываюць курганы.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Старажытны магільны насып. *У нас на лугу ёсь курган, казалі, што ат французаў астаўшыся.* Мярэцкія Глыб. *Курган — дзе салдаты пахаваны; казалі, што відзілі, як агоньчык былі паліцца на курганя і салдат стаіць, апёршыся на саблю.* Жылі Іўеў. *Курган найболее ад бітвы.* Ухвала Круп. *Гэто курган, яго шапкамі насыпалі ў турэцку вайну.* Баброўнікі Гарад. 4. Куча. *Курган камення накладзена.* Старое Сяло Зэльв. 5. Гурба, сумёт. *Але навеяло велькі курган снегу. Пойдзем на курган вазіцца.* Баброўнікі Гарад. *Курганэ снегу навеяла каля хат.* Новікі Гродз. *Курганэ снегу намяло.* Пацаўшчына Дзятл. *Навеяло курганоў, і аўтобус заграс у кургане.* Баброўнікі Гарад. 6. Невялікі ўчастак. *Нашлі курган ягат.* Лісна В.-Дзв.

КУРГА'Н II *м.* Гронка, куст. *У адным кургане пяць-шэсць цыбулін.* Кураполле Паст.

КУРГАНЕ'Ц *м.* Узгорак. *Курганец — то менша горка, а курган — то велька горка.* Баброўнікі Гарад.

КУРГА'ННЯ *зб. н.* 1. Сукупнасць курганоў, старажытныя пахаванні. *Кургання там ёсць: кагда-та вайна была, там пробувалі раскапуваць, находзілі косці людзей і лашадзей.* Азяраны Раг. 2. Куп'ё. *Ляхаўка была панская, там кургання — купіна на купіне, пан забраў абалонь і аддаў сялянам Ляхаўку.* Рыбчына Віл.

КУРГАНО'К *м.* 1. *памянш.* да курга́н I, 2. *С курганка*

*на курганок пірабіраесся ў Гарэлым балоці.* Валынцы В.-Дзв. *С курганка на курганок переступіш.* Ёдлавічы Брасл. *Курганкі на балоці, там журавіны.* Жодзішкі Смарг. *Курганкі — купістая места.* Мярэцкія Глыб. *Ідзі па курганках!* Вялікія Нястанавічы Лаг. 2. у знач. *прысл.* к у р г а н к о́ м. Сукупна. *Апенкі курганком растуць.* Курaполле Паст.

КУРДЗЮ'К *м. вет.* 1. Рана пад языком у жывёлы. *Курдзюк падбіўся каню пад язык — язык адваліўся. Ат ячменнай мякіны наядаецца курдзюк — рана такая.* Старыя Трокі Трак. *Коні наядаюць курдзюк ат цвёрдага вехатніку.* Глівін Барыс. *Ад ячменнай мякіны карова курдзюк наядая, сінім камяням мажуць.* Івашкаўцы Смарг.; *параўн.* літ. *kurzìūkas* 'тж'. 2. Цвёрдая нарасць на кончыку языка ў курэй. *У курыцы курдзюк на языку.* Верхлессе Крын. *І ў мае курыцы, мусі, есць курдзюк, бо не можэ есці ўжэ; здзіралі курдзюка.* Баброўнікі Гарад.

КУРДО'ПЛЯ *ж. устар.* Бульба. *Картоплю кадась называлі курдопля.* Вострава Маст.; *параўн.* літ. *kurdùpelis* <ням. *Kartoffel* 'тж'.

КУРДУЯ'ЧЫЦЬ *незак. экспр.* Лепятаць. *Во нешта курдуячыць малоя дзіцё.* Гайна Лаг.

КУРЗО'ЛІЦЦА *незак. экспр.* Боўтаць пысай пойла, бурболіць. *Цялушка ня п'ець пойла, а толькі курзоліцца — мала ўсыпала мукі і памыйкі ўліла.* Кураполле Паст.

КУРИ'ТЫ *гл.* КУРЫ'ЦЬ

КУРКІ'ШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУРКУРУ'ЗА *ж.* Кукуруза. *Куркуруза была парошшы бальшая.* Валынцы В.-Дзв.

КУРЛІ'ВЫ *прым.* Дымны, курны. *Дровы курлівыя, надымлівая.* Рудня Астравітая Чэрв.

КУРМА'НКА *ж.* Фурманка. *Ехалі курманкі, вязлі хлеп.* Паляцкішкі Воран.

КУРМЕ'ЛЬ *м. заал.* Пячкур. *Курмель — маленькая круглая рыпка.* Валынцы В.-Дзв. *Курмель па дну плаваіць, бальшыя не бываюць.* Пасіене Лудз. *Курмель — серая рыбка, што пескарь, грам пядзесят.* Мішневічы Шум. *Курмель зовіцца небальшы.* Ёдлавічы Брасл. *Курмель жырный, чэшуя, як у платвы, светлая.* Пасіене Лудз. *Курмялі пад камнямі — маленькія рыбачкі.* Рагулішкі Даўг., Саланое Віл. *Курмялі з луской.* Лісна В.-Дзв. *Курмялі па мелкіх рэках — шчуплая круглая рыба.* Кураполле Паст. ∇ *Круглы, здаровы, як курмель.* Кураполле Паст. *Тоўсты, як курмель.* Баложы Даўг.; *параўн.* літ. *kurm̃tis* 'рыцца'.

КУРМЯЛЁК *м. памянш.-ласк.* да к у р м е́ л ь. *Аднаго курмялька выцягнуў і таго ў раку пусціў.* Кураполле Паст. *Курмялькі—кругленькія, іх многа не паймаіш, іх ловяць чарплом.* Лісна В.-Дзв.

КУРНА′ *ж.* Мурканне. *Кот курну спявае.* Івашкаўцы Смарг.

КУРНА′ТКА *ж.* Галавешка. *Маўчы, як дам курнаткай!* Рогавічы Віл.

КУРНА′ТКЫЙ *прым.* 1. Кірпаносы, кірпаты. *В його курнаткый ныс.* Дзмітравічы Кам. 2. Кароткі. *Ны зав'яжу гэтым мотузом, бо вын курнаткый.* Дзмітравічы Кам.

КУ′РНІК *м.* Тое ж, што і к у р а́ ч н і к 1. *Куры сідзяць у курніку.* Ліпнікі Вільн. *У курніку лакты* [седала]. Малькуны Ігн. *Куры ў курніку.* Вострава Маст. *Курнік — дзе куры сядзяць.* Парэчча Гродз.; *параўн.* польск. *kurnik* 'тж'.

КУ′РНІЧАК *м. памянш.* Газовачка. *Курнічак быў — шкла не было, кнаткі толькі. Бывала, у печы цепліць да дня с курнічкам.* Ракаўскія Швянч.

КУРНО′СЫ *прым.* Тое ж, што і к у р н а́ т к ы й 1. *Нос малы, задраны, курносы.* Баброўнікі Гарад. *То курносы, то кулявы, то гарбаты.* Старыя Трокі Трак.; *параўн.* руск. *курносый* 'тж'.

КУ′РНЫ′ *прым.* Тое ж, што і к у р а́ в ы 1. *Ку́рная хата даўней была.* Рагулішкі Даўг., Лісна В.-Дзв., Вострава Маст., Альхоўцы Лях., Галавачы Скід. *Ку́рная хата скора награецца.* Ёдлавічы Брасл. *Ку́рны дом быў, я помню чатыры ку́рных дома.* Ахрэмаўцы Брасл. *Былі ку́рныя хаты, дым ішоў праз дзверы.* Парэчча Гродз. *Калісь хаты былі ку́рныя.* Кудзялянцы Шальч. *У ку́рных хатах жылі, людзі дымам смярдзелі: якія дровы, такім дымам смярдзяць — яловым, хваёвым.* Кіралі Шчуч. *У ку́рных хатах сядзелі, смярдзелі дымам людзі.* Саланое Віл. *У ку́рнай хаці вокнаў ні было.* Стральцы Гродз. *Калісьці ку́рныя хаты былі, унізу палягуць на таку.* Мсцібава Ваўк. *Было ку́рных хатаў многа.* Грыкені Вільн. *Курна́я хата была.* Груздава Паст. *Курна́я хата была, і я яшчэ помню.* Кураполле Паст. *Былі курны́я хаты, стаіш на каленьках, дзверцы адчыніш, дым выходзіць.* Саланое Віл. *Курны́я хаты былі, дым увесь ішоў на хату, сцены ўкапцеўшы былі.* Рыбчына Віл. *У курно́й хаця вярхнік быў.* Лайпушкі Ігн., Ёдлавічы Брасл. *Наша хата была курна́я.* Пасека Ст.-Дар. *Курны́я печы былі.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *курной* 'тж'.

КУРНЯ′, КУРНА′ *ж.* Мурканне, варкатанне. *Котка курню гурчыць.* Магуны Паст. *Кошка курню вядзець.* Валынцы В.-Дзв. *Котка курну вядзець.* Ёдлавічы Брасл. *Котка курну пяець.* Саланое Віл. *Котка курну спявая.* Быстрыца Астр.

КУРНЯ′ВАЦЬ, КУРНЯ′ЎКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і к у р в я́ ў ч а ц ь. *Кацёнак курняваіць.* Якубова Рас. *Кот курняўкаіць.* Чычалі Швянч. *Котка курняўкае.* Галоўні Воран., Гемзы Шальч. *Котка курняўкая — кліча кіцянят, прынясла ім мыш.* Верхлессе Крын.; *параўн.* літ. *kurniuoti* 'тж'.

КУРО′ДЫМ, КУРАДЫ′М *м.* Дымар. *У куродым засыпа-*

*юць парахню сухую, а раней курэль с трапак быў.* Бакшты Іўеў. *Куродым раней рабілі с парцянак, с старога палатна і паткуразалі пчол, бяростай апкручвалі, кап не пускала быстра гарэць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Рой абярэш, куродымам матку шукаяш, нашоў — можна смела рой садзіць.* Данілавічы Дзярж. *Быў курадым, курадымам адкурваюць пчол.* Беразіно Докш.

КУРО'ЖЫЦЦА *незак.* Капрызіць. *Натта благі рабёнак, нешта курожыцца, можа, што баліць.* Мярэцкія Глыб.

КУ'РОЛКІ толькі *мн.* Асобіны канапель з пыльнікамі. *Куролкі — шчо ў коноплях напэрот спэют. Пойду вырву куролкі.* Смаляніца Пруж.

КУРО'ПАЧКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУРО'САЛЬНІК *м.* Седала. *На куросальніку крычыць курыца.* Крэва Смарг.

КУРО'САННЕ, КУРО'САННЯ, КУРО'САНЬЕ *н.* Тое ж, што і к у р о́ с а л ь н і к. *Куры на куросанне паселі.* Мачаск Бярэз. *Куры ўсе на куросанні.* Асавец Віл. *Паселі куры на куросання.* Саланое Віл., Рудня Чэрв. *На куросанье ўзбіліся куры.* Глівін Барыс.

КУРО'САНЬ *ж.*, КУРО'СТАНЬ, КУРО'СТАН *м.* Тое ж, што і к у р о́ с а л ь н і к. *На куросані куры сядзяць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Разваліўся мой куростань.* Рыбчына Віл. *На куростан куры садзяцца.* Вязынка Маладз.; *гл.* к у р а с а́ д н я.

КУ'РПА *ж.* Тое ж, што і к у́ п р а. *У яе курпа расце.* Старыя Смільгіні Воран.

КУРПА'ТЫ *прым.* Гарбаты. *Ён ні курпаты быў.* Старыя Смільгіні Воран.

КУ'РПІШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУ'РСТАЦЦА *незак.* 1. Дыміць, тлець (пра сырыя дровы, якія дрэнна гараць). *Печка чуць курстаецца.* Едлавічы Брасл. *Сырыя дровы курстаюцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Курстаецца, не гарыць у печы, не гараць дровы, дыміць, дымок курстаецца, курстаюцца сырыя трэскі.* Кураполле Паст. *Курстаіцца ў печы агонь.* Індра Красл. 2. *перан. экспр.* Корпацца, марудна рабіць. *Што ты курстаешся?* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Курстаюся да паўдня ў печы.* Магуны Паст. *Не курстайся ўжо!* Крэва Смарг. 3. Церабіцца. *Курстаіцца курыца: суня голаву ў пёры; будзіць курстацца, еслі вшы нападуць.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *kùrstyti* 'распаліць, паліць у печы'.

КУ'РСТАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і к у р с т а́ ц ц а 1. *Галавешка курстая ў печы.* Стральцы Гродз. 2. Вэндзіць. *Смалістым* [дрэвам] *нельзя мяса курстаць.* Рагулішкі Даўг. 3. *перан. экспр.* Будзіць спячага. *Яго курстай, курстай, а ён не чуя.* Гемзы Шальч. *Курстай, курстай яго — няможна разбудзіць яго.* Граўжышкі Ашм., Жылі Іўеў.

КУ'РТА I *ж.* Пінжак. *Курты шылі з сукна свое роботы.* Азарычы Пін.

КУ'РТА II *ж.* Сучка. *Ідзі туды, дзе курта брэша!* Гемзы Шальч. ∇ *Выберыш з гурту курту. З гурту выбралі курту* — горшага, горшую. Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *kùrtas* 'паляўнічы сабака'.

КУРТАЛО'ВЫЯ *мн. заал.* Апалонікі. *Чапля есць курталовых.* Парэчча Гродз.

КУРТА'ТЫ *прым.* 1. Бясхвосты. *Куртаты сабака — сабака без хваста.* Гемзы Шальч., Дакудава Лід., Галоўні Воран. *Куртатая карова.* Гемзы Шальч., Саланое Віл., Кураполле Паст. *У Драбняка была карова куртатая, без хваста.* Кіралі Шчуч. 2. Кароткі. *Сподніца куртатая.* Азарычы Пін. 3. Малы, прысадзісты. *Яна дзеўка куртатая.* Пацаўшчына Дзятл. *Куртатая деўка.* Азарычы Пін.

КУ'РТАЧКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУ'РТКА *ж.* Жакет. *Пашыла с палатна куртку, куртка была с каўнером, заборамі, з брыжамі.* Баброўнікі Гарад.

КУ'РТЫ *прым.* Тое ж, што і к у р т а́ т ы 1. *Курты сабака— бясхвосты.* Крэва Смарг. *Курта карова — бяс хваста.* Стральцы Гродз. *Наша карова курта.* Гемзы Шальч.

КУРУ'НКІ *мн.* Карункі. *Курункі прышывалі да кашуляў, да станічкаў і да спадні̇чкаў споднiх.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *koronki* 'тж'.

КУРУСА'ДНЯ, КУРУСЭ'ДНЯ *гл.* КУРАСА'ДНЯ

КУРУЯ' *гл.* КУРАЯ'

КУ'РЦІШКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУРЧ *м. мед.* Сутарга. *Курч у ногі ўпаў, прыкорчыла нагу.* Мярэцкія Глыб. *Аж курч угналі ў ногі ад натугі.* Магуны Паст. *Курч у ногі ўпаў.* Граўжышкі Ашм. *Курч злапаў: пальцы на руках гне чы ногу.* Лука Нараўк. *Курч в ногу, в палэць уліз.* Сіманавічы Драг. *Курч хваціў — і ён утапіўся.* Быстрыца Астр. *Як улезеш у халодну воду, можа курч злапаць.* Баброўнікі Гарад. *Дастаў курча с холаду.* Номікі Бабіц. *Ламле, крутэт курч ногу.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Кап табе курч уваліўся!* Альхоўцы Лях.; *парайн.* польск. *kurcz* 'тж'.

КУРЧА'К *м.* Кураня. *Курчак здох.* Лайпушкі Ігн. *Курчакі ходзяць па гародах.* Ліпнікі Вільн. *Курыца высідзіла курчакоў.* Русакі Паст. *Курыца хлопала крыламі і запудзіла курчакоў.* Груздава Паст. *Вароны курчакоў дусяць.* Ракаўскія Швянч. *Павыклі курчакі хадзіць у гарот.* Старыя Смільгіні Воран.

КУРЧАЧО'К *гл.* КУРЧУЧО'К

КУРЧО' *н.* Кураня. *Курчо дзюбая.* Граўжышкі Ашм. *Заморак яйко, ня выходзіць курчо.* Магуны Паст. *У яе німа ні курчаці, ні кураняці.* Кузьмічы Люб.

КУРЧО'НАК *м.* Тое ж, што і курчо́. *Курчонак хоць адзін будзя калека.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУРЧУ'К I *м.* Тое ж, што і курчо́. *Курчук прыбіўся.* Гемзы Шальч. *Курчук здох.* Старыя Трокі Трак. *Вароны курчука панядлі.* Ёдлавічы Брасл. *Ужо папёрла варона курчука. Трэба курчуку даць есці.* Паляцкішкі Воран. *Курчук здудуліўся.* Старыя Смільгіні Воран. *Яна курчукі мая.* Кудзялянцы Шальч.

КУРЧУ'К II *м. вет.* Рана ў храпе. *Карова хварэе курчуком, алей перажарым і алеем шмаруям язык.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *kurčiūkas* 'тж'.

КУРЧУЧО'К, КУРЧАЧО'К *м. памянш.-ласк.* да курчу́к I. *Курчучок лётая.* Старыя Смільгіні Воран. *Курчачок прапаў, німа курчачка.* Курaполле Паст.

КУ'РЧЫВІНЫ *мн.* Кроквы. *Курчывіны в крыше.* Пасіене Лудз.

КУ'РЧЫК I, КУРЧЮ'К *м.* Тое ж, што і курч. *Курчык упаў у ногі — не магу хадзіць. «Чаго твая курыца качаецца?— Курчык упаў у ногі».* Кіралі Шчуч. *Курчюк — хвароба, калі старчом паставіць палец, нагу.* Чычалі Швянч.

КУ'РЧЫК II *м. кулін.* Маленькая баханачка з рэшткаў хлебнага цеста. *Курчык — гэта патскрэбак.* Саланое Віл.; *гл.* курачо́к 2.

КУ'РЧЫКІ *гл.* КАКАРЭ'ЧКІ

КУРЧЮ'К *гл.* КУ'РЧЫК I

КУ'РЫ I *мн. заал.* Куры. *Я табе казала куры выгнаць.* Новыя Мацалі Варэн. *Каршун куры дзярэ.* Гемзы Шальч. *Я куры карміла.* Альхоўка Навагр. *Курэй кралі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Яшчэ курам дам.* Горск Бяроз.

КУ'РЫ II *мн. бат.* Тое ж, што і ку́рачкі I, 1. *Куры — грыбы жоўценькія, курацінай пахнуць.* Чарняўскія Лудз. *Куры — сівенькія грыбы.* Беразіно Докш.

КУРЫ'ЛА *н.* Тое ж, што і кура́ўка 1. *Дзед скручваў вярчом трапку і шоў падглядаць пчол. Дзед казаў: «Зрабіця курыла!»* Лапічы Асіп.

КУРЫ'ЛКА *ж.* 1. Тое ж, што і куро́дым. *Курылка — што пчол паткурваць, туды кладзецца парахня, дым з яе ідзець.* Валынцы В.-Дзв. *Ёсь курылкі паткураваць пчол.* Курaполле Паст. 2. Тое ж, што і куралёк 1. *Курылка без шкла.* Старыя Трокі Трак. *Калісь запаліць курылку, і пры курылцы пралі.* Рагулішкі Даўг.

КУРЫ'НАЯ СЛЕПАТА' *ж. бат.* Казялец. *Курыная слепата жоўценькая.* Беразіно Докш.

КУРЫ'НЫ I *прым.* Тое ж, што і кура́чы. *Звару курынага мяса.* Кіралі Шчуч. ◇ *Курынэе тіло* — зябкасць на скуры, скура ў крупкі. *Од холоду зробыцца курынэ тіло, вжэ курынэе тіло стало.* Відзібар Стол. *Курынага малака не хва-*

*таць* — пра таго, хто жыве ў поўным дастатку, заможна. *Ён жывець так крэпка, што яму ні хватаіць толькі курынага малака.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУРЫ́НЫ II *мн. бат.* Чорныя парэчкі. Дакудава Лід.

КУ́РЫ́ЦА́, КУ́РИЦА *ж.* Тое ж, што і к у́ р а́. *Ку́рыца нясецца.* Ліпнікі Вільн. *Ку́рыца залезла да цэбра.* Вострава Маст. *Поймэтэ ку́рицу!* Горск Бяроз. *Цётка, паменяймо ку́рыцамі!* Паляцкішкі Воран. *Курыца адбараніла курчат ад ката.* Рагулішкі Даўг. *Курыца прышла.* Лоск Валож. *Курыца высядзіць цыплятаў.* Ракаўскія Швянч. *Курыца бывая і сытая, але мяса ўкусная.* Малькуны Ігн. *Крычыць баба, кап курыца пад ейную хату ні падышла.* Магуны Паст. *Курыцу нада асачыць.* Асавец Віл. *Бывая, і курыца пяе, тады галаву ёй адсякаюць.* Вязынка Маладз. *Пяець курыца.* Саланое Віл. *Курыца драла грады.* Груздава Паст. *Арол задраў курыцу.* Якубова Рас. *Курыцы галаву адсекла.* Быстрыца Астр. *Курыцу засекла і зварыла.* Кураполле Паст. *Курыцу пасадзіла.* Жодзішкі Смарг. *Німа ў яе ні каровы, ні курыцы.* Магуны Паст. *Не далічыўся, як бы аднэй курыцы няма.* Гемзы Шальч. *Яна курыцы шукая, а курыца — даўно ў гаршку.* Солы Смарг. *Ліса тры курыцы ўкрала.* Лоск Валож. *Задушыў мне сабака курыцы і пітуха.* Граўжышкі Ашм. *Было тры курыцы.* Саланое Віл. *Пятух с курыцо́ю.* Талейкі Швянч.

КУ́РЫ́ЦЦА, КУ́РАЦЦА *незак.* 1. Дыміцца. *Будзіць курыцца галавешка, я яе аптушу.* Валынцы В.-Дзв. *Дым курыцца, а агню няма.* Ракаўскія Швянч. *Курацца дровы, як гнілоя дзерава, паланім не гарыць.* Лісна В.-Дзв. *Сінія дранкі з абалоні не курацца.* Дзяніскавічы Ганц. *Кураюцца дрова, як сырыя.* Кузьмічы Люб. ▽ *Як казала мая мама: папрасіў чалавек паесці, а баба сказала: «Хлеп сыр* [сыры], *у печы ку́рыцца», а чалавек думаў: хлеб, сыр і курыца.* Кураполле Паст. 2. Выдзяляць пыл. *Сена сапрэла — ку́рыцца, сплеснявела.* Саланое Віл.

КУ́РЫ́ЦЬ, КУ́РАЦЬ, КУРИ́ЦІ, КУРИ́ТЫ *незак.* 1. Курыць. *Табаку ня ку́рыў, а цяпер стаў ку́рыць.* Валынцы В.-Дзв. *Ён ку́рыў, а ціпер не ку́рыць.* Лісна В.-Дзв. *Ён ку́рыць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кінуў ку́рыць — не стаў кашляць, як ку́рыў, то кашляў дужа. Нехта ку́рыў і спаліў царату.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я ку́ру, а яны кінулі курыць.* Саланое Віл. *Ня кур ты ўжо!* Рыбчына Віл. *Юзюк ку́ра.* Лоск Валож. *Курыць курыў і, біваіць, выпіць.* Саланое Віл. *І мой мужык ку́рит.* Смаляніца Пруж. *Мушчына ку́рит.* Горск Бяроз. 2. Дыміць. *Печка ку́рыць — дым ідзець на хату.* Старыя Смільгіні Воран. *Галавешка можа курыць.* Любішчыцы Івац. *Не гарыць мокрае палено, а курыць.* Кузьмічы Люб. *Не гараць, а ку́раюць дрова. Сырыя дрова будуць ку́раць.* Вецярэвічы Пух. 3. Абкурваць дымам. *Кадась занозу ку́рылі: бяруць трап-*

*ку, запалюць і ку́руць занозу, а патом яе выбіраюць. Быльнікам ку́руць хату.* Рагулішкі Даўг. *Дайней дзіцей ку́рылі зёлкамі.* Лісна В.-Дзв. *Ку́рыць пчол.* Валынцы В.-Дзв. 4. Пыліць, падымаць пыл. *Пыл куры́ць, калі вецер.* Любішчыцы Івац. *Пыл курйт на гуліцы, як овэчкы́ ідут чи коровы́.* Горск Бяроз. 5. Выдзяляць пыл. *Сена папляснела — і куры́ць.* Жылі Іўеў. *Порхайка бела, а потым будзя куры́ць.* Парэчча Гродз. 6. З сілай гнаць, пераносіць (пра снежную буру, завею). *Мяцеліца вялікая, снех ку́рыць каля зямлі, ку́рыць — аж заміта́іць.* Саланое Віл.

КУ'РЭВА *н.* Пыл. *Дошча нэма, да курэва.* Азарычы Пін.

КУРЭ'ДЫМ *м.* Тое ж, што і к у́ р э в а. *Дзікі як далі ў хвайну — аш курэдым пашоў.* Парэчча Гродз.

КУРЭ'ЛЬ *м.* 1. Тое ж, што і к у р а́ ў к а 1. *Курэль запальвалі і падкурвалі пчол.* Бакшты, Жылі Іўеў., Груздава Паст. 2. Сухое спарахнелае дрэва, якім дымілі пчол. *Альховы пень згніўшы высахніць, запаліш яго, і ён курыў, называлі курэль.* Рыбчына Віл. 3. Недагарэлае палена. *Курэль астаўся, хата згарэла.* Рыбчына Віл. 4. Дымар. *Гнілякі ложыш у курэль, я куралём пачаў дыму даваць у гэту дзюру.* Гемзы Шальч. *Да пчол с куралём іду.* Крупіца Мін. *Курэль адганяя пчол.* Жодзішкі Смарг. *У курэль кладуць гнілякі сухія, яны пломеня не маюць, дым толькі.* Гемзы Шальч. *Курэль — дымар.* Малыя Аўцюкі Калінк. ◊ *Курэль паткінуць* — спаліць што-н. *Курэль паткінуў нехта, згарэла гумно, адно вогнішча асталося.* Рыбчына Віл.

КУРЭ'НЬ I *м.* Дымар. *Курэнь — курадымка.* Рыбчына Віл.; *гл.* к у р э́ л ь 4.

КУРЭ'НЬ II *м.* Будан. *Ахотнікі хадзілі па лясу і дзелалі курані ў лесі, мяса навязувалі — і пільнуюць у куранях.* Азяраны Раг. *Куране рабілі з лапак, як вёску спалілі немцы; куране парабілі за рэчкаю, жылі, як зайцэ.* Кузьмічы Люб.

КУРЭ'Ц *м.* Той, хто курыць. *Ён курэц бальшы: адну за другой папіросу паліць.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУРЭ'ЦЬ, КУРЭ'ТЫ *незак.* 1. Дыміць. *Печка будзе курэць.* Старыя Смільгіні Воран. *Курэла печка.* Паляцкішкі Воран. 2. Тлець, дыміць. *Залью галавешку, бо яна будзе курэць.* Кіралі Шчуч. *А дайней анучу караву палілі, кап курэла.* Парэчча Гродз. *Закурэвся той быван — і курэв, курэв.* Дзмітравічы Кам. 3. Падгарваць. *На сухой скварадзе не падагрэеш кашы, яна будзя курэць.* Мсцібава Ваўк.; *гл.* к у́ р ы ц ь.

КУС У выразе: *Кус на кус* — укусіць адзін раз, другі раз. *Я без зубоў — кус на кус, а трэці с кроўю.* Кураполле Паст.

КУСА'НЯЦ *м.* Недаедзены кавалачак хлеба. *Кусанцы не кідайце на стале, а свінням!* Азяраны Раг.

КУСА'ТЫ *прым.* Куслівы. *Кусатыя мухі.* Глівін Барыс.

КУСА'ТЫСЬ *незак.* Кусацца. *Е малэй собака, вын кусаіцця.* Дзмітравічы Кам.

КУСА'ЦЬ *незак.* 1. Кусаць, джаліць. *Гадзіна за вымя кусая карову.* Альхоўка Навагр. *Сабака кусае за нагу.* Гемзы Шальч. 2. *безас.* Шчыпаць, пячы. *Як памазала мазью — страшна кусала.* Баложы Даўг. ◊ *За нос не кусаць* — не чапаць, не перашкаджаць жыць. *Як жыў, ды жыў. Ніхто за нос не кусаў.* Саланое Віл.

КУСА'ШЧЫ, КУСУ'ШЧЫ *прым.* Куслівы. *Гілі кусашчыя, ґіляў баяцца коні.* Дакудава Лід. *Кусашчыя мухі.* Жылі Іўеў. *Кусашчая муха.* Новікі Гродз. *Кусашчы сабака.* Альхоўка Навагр. *Кусашчыя мухі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Блашчыцы — заразы кусушчыя.* Вострава Маст.

КУ'СЛА *ж. зневаж.* З'едлівая жанчына. *Кадась на заловак казалі кусла, сядзіць кусла ў хаці.* Кураполле Паст.; *параўн.* літ. *kąslùs,* дыял. *kūslùs* 'кусл́івы'.

КУСЛІ'ВЫ *прым.* 1. Тое ж, што і к у с а́ ш ч ы. *Кусліві сабака мажэ ўкусіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ні бяры кусліваго каня бульбу разганяць!* Лісна В.-Дзв. *Кусліўыя мухі.* Мярэцкія Глыб., Міратычы Карэл., Старыя Смільгіні Воран., Рудня Астравітая Чэрв. *Кусліўыя авадні.* Рыбчына Віл. *Рудыя мурашкі кусліўыя.* Гемзы Шальч. *Вадзяная яшчарка кусліўая.* Грыкені Вільн. 2. Пякучы. *Жычка крапіва кусліўая.* Саланое Віл. 3. *перан.* З'едлівы. *Вы — кусліўая.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУ'СНІК *зб. м.* Кусты, хмызняк. *Пройдзеш куснік, і крыніца будзе.* Журавок Бярэз.

КУСО'К *м.* 1. Частка чаго-н. (пра харчовыя прадукты). *Кусок хлеба ўзяў.* Чычалі Швянч. *Ленін с паследнім куском дзяліўся; трэба, кап і мы так жылі.* Валынцы В.-Дзв. *Кусок сала вісіць.* Саланое Віл. *Сала вешалі куском.* Пасіене Лудз. *Сала кускам злажыла.* Лайпушкі Ігн. ◊ *Ласы кусок* — што-н. смачнае. *«Сяць і паеш! — Не, ня хочацца, а як на ласы кусок — найдзіцца куток».* Кураполле Паст. 2. Невялікая колькасць вадкасці, вады. *Кусок вады дасі, абы кусок глынуў.* Асавец Віл. *Прынясі кусок вады!* Цяпінцы Віл. *Каб далі кусок малака — так хочацца.* Кухты Віл. *Кусок ні хватая, пачці літр.* Рыбчына Віл. 3. Адрэзак тканіны. *Астаўся кусок палатна.* Паляцкішкі Воран. *Палатно рэзалі на два кускі і бялілі.* Саланое Віл. 4. Участак зямлі. *Куском зямлю давалі.* Грыкені Вільн. 5. у знач. *прысл.* Крыху, нядоўга, няпэўны час. *Ідзі ляж, кусок паспі!* Крэва Смарг. *Кусок часу заняло.* Гемзы Шальч. *Сын пааддыхнець кусок. Ты кусок раней прыгнаў карову.* Асавец Віл. *Дома была, кусок да Настасі вышла. І ў дзень кусок паспала. Хай ба пабыла кусок! Пліта цёплая, трэба кусок пагрэцца, ды лехчы спаць.* Рыбчына Віл. *Паляжаў кусок, аддыхнуў кусок.* Латыгаль Віл.

КУСО́НЦЫ *прым.* Пякучы. *Кусонца крапіва.* Быстрыца Астр.; *парайн.* польск. *kąsać* 'кусаць'.

КУСО́ЧАК *м. памянш.* да к у с о́ к 1, 2, 5. *Кусочак цукру дала.* Калясное Міхал. *Кап гарэлкі кусочак выпіла — нямо́жна.* Асавец Віл. *Бацька, паляжы кусочак! Пасядзі ты кусочак!* Рыбчына Віл.

КУСТ *м.* 1. Куст. *Куст лазы, ягодных культур. Куст алешніку, куст малін.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Куст лазовы, арэхавы куст.* Рудня Астравітая Чэрв. *Куст лазы, куст бэзу.* Дакудава Лід. *Куст маліны.* Рудня Астравітая Чэрв., Мярэцкія Глыб. *Куст ядлоўцу, ядловец расце кустамі на мяжэ, на полі; на межах такі куст будзе, што яго не абнімеш. Пат кустам сядзіць курыца.* Баброўнікі Гарад. *Каля куста стаяла.* Старое Сяло Зэльв. *Моцна паспала пат кустам.* Лоск Валож. *Кусты тыя стаяць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Многа кустоў.* Мярэцкія Глыб. *За кустамі касілі.* Кураполле Паст. *Мы пашлі кустамі.* Вецярэвічы Пух. *Ляшчына расце па кустах.* Грыкені Вільн. *У кустах хто-та крычыць.* Пасіене Лудз. *Сініцы ў кустох дзеці выводзяць.* Лоск Валож. 2. Гронка клубняў з націнай. *Вырвала куст цыбулі.* Мярэцкія Глыб. *Куст бульбы вырвала.* Жыдзевічы Іўеў. *Куст бульбы, цыбулі.* Магуны Паст. *Я вырвала велькі куст цыбулі.* Кіралі Шчуч. 3. Пучок травяністай расліны. *Куст травы вырвай.* Мішневічы Шум., Малахоўцы Бар. ◊ *С харошага куста* — з добрага роду. *Мы с харошага куста. З харошага куста жонку брай. С харошага куста харошая птушка вылітаіць* — з добрага роду — добры чалавек. Саланое Віл. *Ні с куста рвана* — на кусце не знойдзеш. *Восемдзесят рублей за май палучыла — ні с куста рвана.* Рагулішкі Даўг.

КУСТАВА́ТЫ *прым.* Кусцісты. *Кустав́ата жыта.* Парэчча Гродз.

КУСТА́Р *м.* Тое ж, што і к у́ с н і к. *Кустар павырываем і поле робім. Кустар — там рос ядловец.* Лука Нараўк.

КУСТА́РНІК *м.* Хмызняк. *Па полі, па лесе кустарнікі растуць.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* руск. *кустарник* 'тж'.

КУСТАРНЯ́ *зб. ж.* Хмызнякі. *Кустарня ад дарогі, заросшы кустарнёй магілкі, кустарнямі заросшы.* Ракаўскія Швянч.

КУСТАЎЁ, КУСТО́ЎЯ *зб. н.* Куп'ё, кусты. *Сенакос неглаткі — адно кустаўё.* Альхоўцы Лях. *Многа на сенажаці кустаўя.* Рудня Чэрв. *Зарасло кустоўям.* Рудня Астравітая Чэрв.

КУСТРАВЕ́ШКА *ж.* Галавешка. Вязынка Маладз.; *гл.* к у д р а в е́ ш к а.

КУСУ́ШЧЫ *гл.* КУСА́ШЧЫ

КУСЦЕ́НЬ *м.* Гронка. *Кусцень гарэхаў сарваў, кусцянямі гарэхі вісяць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кусцень гарэхаў, многа кусцянёў.* Кіралі Шчуч.; *гл.* к е́ ч а.

КУСЦЮ́М *гл.* КАСЦЮ́М

КУСЦЯ́РНІК *м.* Тое ж, што і к у с т а́ р н і к. *Кусцярнік зарос.* Жылі Іўеў. *А кругом пяскі, кусцярнікі.* Старыя Смільгіні Воран.

КУСЦЯРО́К *м. памянш.* Невялікі ўчастак лесу. *На Кундраўскія клаткі пойдзіш, там кусцярок лесу.* Курраполле Паст.; *гл.* к у́ д з е р к а 5.

КУСЮ́ЛЯ *н.* Жарабя. *Вэн кусюля бяжыць, пазірай!* Азяраны Раг.

КУТ *м.* 1. Покуць. *На куце стол стаіць.* Лоск Валож. *Лямпачка ў куце стаіць.* Беняконі Воран. 2. Вуглавая частка поля. *Ест кусок поля ў куце.* Альхоўка Навагр. ◇ *Жыць на куце, кутам* — жыць у чужой хаце, не мець сваёй хаты. *Яна ў нас на куту жыла.* Ёдлавічы Брасл. *Кутам матку садзіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ен на куце жыў, ні ў сваей хаця.* Ракаўскія Швянч. *Пятнасця гадоў па чужых кутох жыла.* Гемзы Шальч. *Кутам сядзіць, своей хаты не мае.* Рыбчына Віл. *Кутам сядзелі.* Саланое Віл. *Ён кутам сядзеў.* Груздава Паст.

КУТАВА́Я КІШКА́ *ж. анат.* Прамая кішка. Гемзы Шальч.

КУТАВЫ́ ЗУБ *м. анат.* Трэці карэнны зуб. *Кутавы зуб забалеў.* Гемзы Шальч.

КУ́ТАНЫ *дзеепрым.* Вымыты. *Хусткі бы нэ кутанэ — только ў водзе прокутанэ.* Смаляніца Пруж.

КУТА́С *м.*, КУТАСЭ́, КУТАСЫ́ *мн.* Кутас. *Кутас да пояса прышыты, велькія кутасэ ў тваей хусцэ.* Кіралі Шчуч. *Кутасы вісяць.* Беразіно Докш. *Пояс із кутасамі.* Пасека Ст.-Дар. *Хустка с кутасамі.* Рыбчына Віл.

КУТА́СІК *м. памянш.* да к у т а́ с. *Кутасік на тканым поясе.* Багушэвічы Бярэз. *Кутасік і ў куплёным поясе.* Гемзы Шальч.

КУТАСО́ВЫ *прым.* Які з кутасамі. *Хустка кутасова с цветамі.* Азарычы Пін.

КУ́ТАЦІ *незак.* Мыць (пра бялізну). *Буду кутаці плаце, буду кутаці п'яць мінют. Ніц нэ зроблю, дома сэдзячы і плаце кутаючы. Ужэ плаце кутала.* Смаляніца Пруж.

КУ́ТАЦЬ *незак.* Гарадзіць. *Плот кутаць не будуць.* Азяраны Раг.

КУТКАВА́Я КІШКА́ *ж.* Тое ж, што і к у т а в а́ я к і ш к а́. *Куткавая кішка рвецца.* Альхоўцы Лях.

КУ́ТНІ, КУ́ТНЫ ЗУБ *м.* Тое ж, што і к у т а в ы́ з у б. *Кутні зуб вырвалі.* Лука Нараўк. *Кутнія зубы баляць.* Альба Нясв. *Самы кутні зуп баліць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кутны зуп баліць.* Малькуны Ігн., Номікі Бабіц.

КУ́ТНІК *м. устар.* Батрак, парабак, беззямельны селянін, хто не меў сваёй хаты. *Кутнік кутам сядзеў.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Жодзішкі Смарг., Вялікія Нястанавічы Лаг. *Кутнік сядзіць у таго і ў таго на куце.* Гемзы Шальч. *Салда-*

*ты, што калісь дваццаць пяць гадоў былі ў царскай арміі, іх звалі кутнікамі, бо ім зямлі не было.* Кураполле Паст.

КУ'ТНІЦА I *ж. устар.* Батрачка. *І ў нас была Міхаліна-кутніца, сядзела на куту.* Ёдлавічы Брасл.

КУ'ТНІЦА II *ж.* Тое ж, што і кутава́я кішка́. Дакудава Лід., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв., Глівін Барыс., Пасека Ст.-Дар., Нізок Уздз. *Кутніца ў свіні, каровы, авечкі.* Пацаўшчына Дзятл., Лука Нараўк. ▽ *Кап табе кутніцу выгнала!* Бакшты Іўеў. *Кап табе выпярла кутніцу!* Жылі Іўеў.

КУТО'К I *м.* 1. Адзін з кутоў у хаце, акрамя покуці, чырвонага кута. *У кутку на лошку ляжыць, усё хварэя.* Стральцы Шальч. *Кідай сукенку ў куток — памыю!* Кіралі Шчуч. 2. Уласная хата. *Куплю лесу, пабудую, буду мець свой куток.* Гемзы Шальч. 3. Вуглавы ўчастак агарода, поля. *У кутекві пад накрыццём гарбузы мусі вырастут.* Лука Нараўк.▽ *У кутку стаіць ком, што не падыміць і конь* — печ. *Мілы той куток, дзе рэзаны пупок* — радзіма. Кіралі Шчуч.

КУТО'К II *м.* Тое ж, што і кутава́я кішка́. Саланое Віл.

КУТРУ'Н *м. кулін.* Сальцісон. *Трыбух гэты напхаюць гэтым: там пячонка, сала нарэжуць — і такі кутрун.* Баброўнікі Гарад.

КУЎСЦЯ'К *м.* Жмут сена. *Куўсцяк — гарсць сена, як хто выцягне з воза чы са стараны ў стадоле.* Яцаўляны Сідр.

КУЎШЫ'Н *м.* Гляк. *У куўшыне горлышка вускае.* Навікі Лудз.; *парайн.* руск. *кувшин* 'тж'.

КУФА'ЙКА, КУХА'ЙКА, КАФА'ЙКА *ж.* Фуфайка. *Куфайка расхрыстана.* Лоск Валож. *Цяпер—куфайка, а дайней—катанка і верхняя, і споднял.* Вецярэвічы Пух. *Скінула куфайку.* Міратычы Карэл. *Куфайку купіў.* Жылі Іўеў. *Кухайка і кажух.* Дзяніскавічы Ганц. *Мая кафайка на ваце.* Каўняны Гродз.

КУ'ФАР, КУ'ФЭР, КУ'ХАР, КУ'ПАР *м.* Куфар. *Як замуш ішла, брала с сабою куфар.* Баброўнікі Гарад. *Куфар або скрыня, што з досак збіта.* Паляцкішкі Воран. *Во куфар мой, у ём было палатно, рушнікe, абрусы — усё маё дабро.* Кіралі Шчуч. *Куфэр стаіць, куфры ўжэ патом, далікатнейшыя, культурнейшыя.* Судэрва Вільн. *Кухар аж трашчыць, усяго там пойна.* Мачаск Бярэз. *Шчэ купар мой стаіць.* Паляцкішкі Воран. *У купар адзежу складавалі.* Рыбчына Віл. *У маей мацяры не было ні купра, ні падушак.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* польск. *kufer* 'тж' <ням. *Koffer* 'чамадан, скрыня'.

КУФЭ'РАК *м. памянш.* Невялікі куфар, куфэрак. *Куфэркі невялічкія, як цяпер чамадан. У куфэрак свой паглядзі!* Магуны Паст.

КУХА'ЙКА *гл.* КУФА'ЙКА

КУ'ХАН *м.*, КУХАНЫ' *мн.* Здобнае печыва, перапечка.

*Вазьмеця яечка, мукі і напячэця куханоў хлопчыку*! Пасека Ст.-Дар.; *парайн.* ням. *Kuchen* 'пірог, торт, пячэнне'.

КУ'ХАР *гл.* КУ'ФАР

КУХЕ'НАЧКА *ж. памянш.* да к ӯ х н я. *Сяджу ў кухенаццы.* Стральцы Шальч.

КУ'ХЛІК *м.* Кубак. *А кухлік гліняны — чай піць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Кухлік — кубак такі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

КУХМЕ'РЫЦЦА *незак. экспр.* Упарадкоўваць, наводзіць парадак. *Нада мне кухмерыцца ў хаце.* Груздава Паст.

КУ'ХНЯ *ж.* Кухня. *У кухні — печ, пліта.* Грыкені Вільн. *Трэба кухню замесці.* Альхоўка Навагр. *Пайду на кухню.* Лоск Валож. *Кухнею іді!* Смаляніца Пруж.

КУ'ХТА *ж.* Пустэча. *Кухта — гэта такое пустое месца, нешта пустое.* Кухты Віл.

КУХТА'ЛЬ *гл.* КУШТА'ЛЬ

КУ'ХЦЯ-КУ'ХЦЯ-КУ'ХЦЯ *выкл.* Дзю-дзю-дзю. *Кухцякухця-кухця! — так свіней падзываюць.* Ліпнікі Вільн.; *парайн.* літ. *kūkūtis* 'парася'.

КУЦ-КУЦ-КУЦ *выкл.* Выгук, якім падзываюць авечак. Пацаўшчына Дзятл.

КУ'ЦАЦЬ *незак. экспр.* Доўга перажоўваць што-н. *Кот скварку куцая, куцая, а не есь, а куцая, скуцоў скварку. Як зубоў няма, то куцаеш і сам.* Вецярэвічы Пух.

КУЦІНЯ'ЦЦА *незак.* Казытаць. *Не куціняйся ты!* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kutinėti, kuténti* 'тж'.

КУЦІНЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і к у ц і н я́ ц ц а. *Яна куціняя мяне за падпаху.* Гемзы Шальч. *Не куціняй мяне! — баюся шчакоткі; можна і закуціняць.* Малькуны Ігн. *Як пачала мяне куціняць, а я ат смеху чуць ні пэнкла.* Гемзы Шальч. *Не куціняй, досьць!* Быстрыца Астр.

КУЦУВА'ЦЬ *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі (пра авечку). *Авечкі куцуюць — хочаць да барана.* Асавец Віл.

КУЦУ'К *м.*, КУЦУКЕ' *мн.* Тое ж, што і к у з л а́ к 1. *Куцуке на карове, то хадзіла абрэзваці.* Парэчча Гродз.

КУЦУЧКІ' *мн. бат.* Падвей. *Куцучкі на лонках растуць.* Кудзялянцы Шальч.

КУЦЬ *незак.* Каваць. *Ёсць малаток каня куць. Я куў і гвось загнаў.* Ахрэмаўцы Брасл.

КУЦЬ-КУЦЬ-КУЦЬ *выкл.* Тое ж, што і к у ц-к у ц-к у ц. *Куць-куць-куць! — звалі авечак.* Стральцы Гродз.

КУЦЮ'К *м.* 1. *анат.* Страўнік, трыбух. *Куцюк у свінні.* Беразіно Докш. 2. *кулін.* Страўнік, начынены мясам. *Куцюк — трыбух, напхнуты мясам. Куцюк напхалі, а цяпер паложым пат камінь, кап ён стаў тугі, і ў лета пакідаем.* Мярэцкія Глыб. *Я напхнула куцюк, няхай будзя, як пойдзям сена касіць — будзям есці.* Рыбчына Віл.; *гл.* к і н д з ю́ к 2.

КУЦЮ'РЫЦЦА *незак.* Натапырвацца, надзімацца. *Куцюрацца індзючкі — хочуць садзіцца.* Рыбчына Віл.

КУЦЯ', КУЦЦЯ' *ж.* 1. Ячныя крупы. *Калісь здзіралі скурку з ячменю, і гэто ўжэ куця.* Баброўнікі Гарад. *Куця — буйныя крупы ечменныя.* Лука Нараўк. *Куця — крупа ячменная.* Стральцы Гродз. *Ячменныя крупы — куця называлі; панцак — як у мельніцы сталі рабіць.* Тухавічы Лях. *Калісь загадая мацяра куццю таўчы, дзеці не натаўкуць, дык яна ім з цэлага зярна наварыць.* Вецярэвічы Пух. 2. *кулін.* Крупяная каша. *Куця робіцца с круп. «Што ты рабіла? — Куцю варыла». Куця з гарохам, куця с картохлей, куця адна варацца.* Бабpoўнікі Гарад. *Куццю варылі з перловых круп.* Валынцы В.-Дзв. *Аптаўкеш пшаніцу ў ступі і куццю варыш.* Янова Рас. *На дзень куцці ўставіш.* Вецярэвічы Пух. *Куцці з мясам паясі!* Рудня Астравітая Чэрв. 3. *абрад.* Назва абрадавай стравы, прыгатаванай з круп. *Каша, якую елі ў час вячэры перад калядамі, перад Новым годам. Куццю на каляды варацць.* Азяраны Раг. *Куцця — каша панцаковая, у яе накладзена маку цёртага салодкага; варылі куццю перад калядамі.* Груздава Паст. 4. Назва ўрачыстай вячэры перад калядамі, Новым годам, вадохрышчам. *Куця посная перад ражствам.* Індра Красл. *Первая куця посная.* Жыдзевічы Іўеў. *Была посная куця і тлустая куця.* Стральцы Гродз. *На куцю варылі квас, галушкі пяклі, груцу варылі, сіляцэ, рыба — посна ўсё.* Кіралі Шчуч. *Патсыту рабілі на куцю.* Стральцы Гродз. *Бедная куцця.* Мярэцкія Глыб. *Другая куця багатая.* Жыдзевічы Іўеў. *Багатая куцця перад вадохрышчам.* Рудня Астравітая Чэрв. ▽ *Камары куцю таўкуць — будзя цяпло.* Мсцібава Ваўк. *Як звёзды на куцю, то зародзя картошка.* Жыдзевічы Іўеў. *Дзякуй богу, прышла куця — пад'ела хаця* — перад калядамі пасцілі даўней. Жылі Іўеў. *Багатая куцця із свінным хвастом* — з мясам і салам. Рудня Астравітая Чэрв.

КУЦЯВО'Е *н.* Каша, гушча ў варанай страве. *Куцявога нічога малым курчукам нільзя даваць — тыко крупавоя.* Старыя Трокі Трак.

КУЦЯНЯ'НЯ *н.* Казытанне. *Куцяняняў болей баюсь.* Быстрыца Астр.; параўн. літ. *kuténti* 'казытаць'.

КУ'ЧА *ж.* 1. Тое ж, што і к р у́ ш н я́ 1. *Куча каменяў наложана там.* Ёдлавічы Брасл., Рудня Астравітая Чэрв. *Куча камянёў навезена.* Мярэцкія Глыб. *Каменя ляжаць на полі ў кучах.* Альхоўка Навагр. 2. Ссыпаная гародніна, бульба. *Насыпалі вялікую кучу буракоў.* Ёдлавічы Брасл. *Цэлая куча буракоў на полі.* Мярэцкія Глыб., Пацаўшчына Дзятл. *Выкапалі бульбу — куча велькая.* Лоск Валож. 3. Знесеныя ў адно месца галіны, дошкі. *Нясі сукі ў кучу, тады спалім.* Ахрэмаўцы Брасл. *Куча аполкаў ляжыць.* Гемзы Шальч. 4. Наваленьі гной. *Тры кучы гною ляжаць каля канюшні.* Лоск Ва-

лож. *Выкінь кучы гавячыя, а то яны пазмярзаліся.* Кіралі Шчуч. *Гной параскідуем кучаю.* Малыя Аўцюкі Калінк. 5. Гурба. *Навеяла кучаў снегу, я лапатай аткідала.* Парэчча Гродз. 6. *перан.* Вялікая колькасць чаго-н. *Некалі напякалі бліноў цэлую кучу і складалі ў лупку.* Ністанішкі Смарг. *Кучу бліноў напікла.* Саланое Віл. 7. Кампанія, група, гурт. *Хадзіця ў кучу! — усе мы здзешнія. Куча дзяцей сабралася.* Рагулішкі Даўг. *Куча бабаў стаіць.* Паляцкішкі Воран. *Забраліся ў кучу.* Грыкені Вільн. 8. Вялікая сям'я. *У саседкі куча рібят і спраўляецца з імі.* Мішневічы Шум. 9. Чарада. *Ляціць куча варон.* Рыбчына Віл. *Плыве цэлая куча дзікіх качак.* Кіралі Шчуч. *Шпаке ў кучы сабіраюцца, у палёт гатовяцца.* Малахоўцы Бар. *Не толькі чалавек — вераб'е і тыя сабіраюцца ў кучу.* Кузьмічы Люб. 10. Мноства. *У карчах кучы вужоў.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Куча камароў — мак таўкуць камарэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Куча камароў.* Галубы Маст. 11. у знач. *прысл. кучамі, кучай.* Сукупна, разам; шмат. *Кучамі пасабіраліся курапаткі.* Альхоўцы Лях. *Машкара таўчэцца на дожч кучай вялікай.* Рагулішкі Даўг. *Апенькі растуць цалымі кучамі.* Кіралі Шчуч. *Грыбы кучамі растуць.* Галоўні Воран. *Сядзяць кучамі мушчыны каля магазына.* Ракаўскія Швянч. ◊ *Вока ў кучы не бывае* — не закрываецца, не спіцца. *Выдасца ноч такая доўгая, што маё вока ў кучы не бывае.* Мачаск Бярэз. *Куча смеху* — многа смеху, надта смешна. *Меў вялікую кучу смеху.* Альхоўка Навагр.

КУ'ЧАР *м.* Фурман. *Кучар паехаў.* Мішневічы Шум.; *парайн.* руск. *кучер* 'тж'.

КУЧАРА'ВЫ *прым.* Кучаравы. *Ён кучаравы, як баран.* Парэчча Гродз. *Чалавек пасля грыпка — лішая — на галаве робіцца кучаравы.* Кіралі Шчуч.

КУ'ЧАЦЬ *незак.* Пускаць парасткі, кусціцца. *Жыта кучала, як мае быць.* Старое Сяло Зэльв.

КУ'ЧКА I *ж.* 1. *памянш.* да к у ч а 2. *Кучка буракоў, бручкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Насыпя кучку аўса.* Лоск Валож. 2. Малая ўкладка на полі снапоў збожжа, льну. *Ячмень і авёс ставілі ў кучкі.* Гемзы Шальч., Чычалі Швянч. *Пайдзі кучке паперакідай, кап сохлі.* Баброўнікі Гарад. *Ячмень вязалі ў пучкі і састаўлялі ў кучкі.* Лоск Валож. *Лён ставілі ў кучкі па пяць снапоў.* Гемзы Шальч. *Лён пастаўляна ў кучкі.* Міратычы Карэл. *Лён пабіралі і ў кучкé вязалі.* Вострава Маст. *Падбіраюць лён, ставяць у кучкі, кап высах.* Кіралі Шчуч. *Кучка льну.* Лука Нараўк. *Грыку рвалі і ставілі ў кучкі.* Мсцібава Ваўк. *Лён ставілі кучкамі.* 3. Тое ж, што і к ў к л а I, 2. *Кучку закруціла і шпількамі ўшпіліла.* Новікі Гродз. 4. *мн.* у знач. *прысл. кучкамі.* Сукупна, адно каля аднаго. *Лён ставілі кучкамі.* Навасёлкі Свісл. *Апенкі растуць кучкамі.* Малахоўцы Бар.

КУ'ЧКА II *ж.* 1. Катух. *Отгороджэна в хліві ля скотэнэ: кучка ля свынэй, кучка ля овэчок, городыле із досок, із кавалочкув досок.* Дзмітравічы Кам. 2. *перан.* Невялікая хата. *Асталася кучка — хата. Як кепская хата, то кажуць кучка.* Вострава Маст. *Як кучка, гэта хата стаіць.* Міратычы Карэл. *Хаты — бы кучкі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Малая хата — бы кучка, нэ повэрнутысь.* Горск Бяроз. 3. Бакавая частка прыпеку. *Кучка — жар загрібаты.* Дзмітравічы Кам.

КУ'ЧМА *ж.* Вязанка чаго-н. *Кучму хворасту несла і спатыкнулася.* Ухвала Круп.

КУЧУ'К *м. анат.* Страўнік у чалавека і ў жывёл. *Конь кучук бабі разбіў.* Кіралі Шчуч. *Кучук верхні баліць.* Галубы Маст. *Кучук — трыбух і ў чалавека. Кучук у свіней, барана.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кучук — трыбух у свіней, кароў.* Галубы Маст. *У свіней кучук, а ў каровы трыбух.* Кіралі Шчуч.; *гл.* к і н д з ю́ к.

КУЧУ'Р *м.* Цурбан, кругляк дроў. *Кучуры дроў ліжаць. Дровы ляжалі — кучуры мэтровыя.* Мярэцкія Глыб.

КУЧУРО'К *м. памянш.* да к у ч ý р. *Кучурок выдаўбаны — ступка, мак таўклі.* Мярэцкія Глыб.

КУ'ЧЫЦЬ *незак.* 1. Асыпаць, акучваць. *Трэба картофлю кучыць, я ўжо акучыла.* Міратычы Карэл. 2. *перан.* Надакучваць, напамінаць. *Трэба яму кучыць, каб ён зрабіў.* Старое Сяло Зэльв.

КУША'К *м.* Пояс, дзяга. *Некалі рубашку насілі пад кушак, ілі пад пояс. Кушакі — такійі кручоныі, із нітак.* Навікі Лудз. *Вісокі быў патпіразаўшыся белым кушаком.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *кушак* 'тж'.

КУ'ШАЦЬ, КУ'ШАЦІ *незак.* Есці. *Ты мне кушаць дасі?* Пасіене Лудз. *Дайней кісель пракініць алеям і кушаіць. Часнок кушалі — і не хварэлі.* Рагулішкі Даўг. *Мы кушалі добра.* Кемялішкі Астр. *Дайней кушалі саладуху — і здаровы былі.* Кудзялянцы Шальч. *Куды хадзілі кушаці?* Парэчча Гродз. *Буду выцягаці кушаці.* Смаляніца Пруж.; *парайн.* руск. *ку́шать* 'тж'.

КУ'ШЛА *ж.* і *м. абразл.* Неахайны. *Абуўся, накруціў многа ганучаў і ходзіць, як кушла.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *kūšlas* 'хто аброслы валасамі'.

КУШЛА'ТЫ *прым.* Лахматы. *Галава кушлатая ў куры́.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Куры́ца кушлатая: ногі аброшшыя. Вот кушлаты пашоў: бакамі аброшшы, валасамі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* к ý ш л а.

КУШЛА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* да к у ш л á т ы. *Ку́ра кушлаценькая.* Гемзы Шальч.

КУ'ШЛЫ' *прым.* 1. Няздатны, хворы, слабы. *Ужо ку́шлы чалавек.* Чычалі Швянч. 2. Блізарукі, сляпы. *Ку́шлы чалавек троха недабачыць. Ку́шлы — гэта сляпы.* Парэчча Гродз.

*Кушлы — той, хто ніскі зрок мая.* Кудзялянцы Шальч. *Адна дачка кушлая і дачкі дзеці кушлыя.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kùšlas* 'тж'.

КУШМА'К *м. анат.* Лабок. Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *kūštakas* 'палавыя органы жанчыны'.

КУ'ШНЕ'Р, КУШНІ'Р *м.* 1. Рымар. *Кушнер шыя хамуты.* Жылі Іўеў. 2. Гарбар. *Кушнёр апрацоўвае шкуры.* Калясное Міхал. *Кушнір вырабляе скуры.* Мсцібава Ваўк., Тухавічы Лях.; *парайн.* польск. *kuśnierz* 'гарбар'.

КУШНЕ'РЫЦЦА *незак.* Гартавацца, рабіцца моцным. *Кушнерыліся людзі ў курных хатах, капціліся і былі здаровыя, укапцеўшы, нарот быў здаровы.* Рыбчына Віл.; *парайн.* к у ш н е р.

КУШО'Т *м. бат.* Сівец. *Кепская глеба, нічога не расце, толькі адзін кушот.* Навасёлкі Свісл.; *парайн.* літ. *kešetŷs* 'трава, падобная на хвошч'.

КУШТА'ЛЬ, КУХТА'ЛЬ *м.* Удар кулаком. *Кушталя як дала ў спіну.* Валынцы В.-Дзв. *У спіну надаеш кушталі.* Кураполле Паст. *Кухталёў надаюць і ў плечы.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *kùkštera* 'карак'.

КУШЫЛЭ'СКО *н.* Тое ж, што і к а ш а л і с к о. Радастаў Драг.

КШЧО'НЫ *прым.* Хрышчоны. *Сыны мае ня кшчоныя. Тата і мама кшчоны, а мы не.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *chrzczony* 'тж'.

КШЧЭ'НСКАЯ КУЦЯ' *ж. абрад.* Вячэра перад хрышчэннем. *Хрышчэнская куцця, вячэра перад вадохрышчам.* Ахрэмаўцы Брасл.

КШЭ'СЛО *н.* Частка воза з ручкамі, да якіх прымацоўваецца драбіна. Судэрва Вільн.; *парайн.* польск. *krzesło* 'стул', літ. *krēslas* 'папярочка ў возе'.

КЫЛЁ *н.* Кілаграм. *Вэлікі клубок — кыль дэв'яць.* Горск Бяроз.

КЫЦЬ-КЫЦЬ *выкл.* Ціп-ціп. *Кыць-кыць! — так у нас падзываюць курэй.* Старыя Трокі Трак.

КЫ'ШКА *гл.* КО'ШКА

КЭ'БКА, КЭ'БОЧКА *ж. памянш.* Прымурак. *Кэбка, кэбочка, што лэсти на печ, там кладут спічкі.* Азарычы Пін.

КЭ'ДЫСЬ *прысл.* Калісьці. *Кэдысь то було?* Відзібар Стол.; *парайн.* польск. *kiedyś* 'тж'.

КЭ'ДЫШНЭ *н.* Колішняе, мінулае. Відзібар Стол.

КЭ'ЙСТРА *гл.* КА'ЙСТРА

КЭНДЮХІ' *гл.* КІНДЗЮ'К

КЭЧ-КЭЧ-КЭЧ *выкл.* Тое ж, што і к у х ц я-к у х ц я. *Кэч-кэч-кэч! — так звалі свіня.* Стральцы Гродз.

КЭ'ШКАТЫСЬ *незак.* Тое ж, што і к о ш к а ц ц а 1. Сіманавічы Драг.

КЯ'БЛЫ *прым.* Вялы, стары, друзлы. *Ужо кябла баба, кяблы чалавек — ня весь чалавек, ні сам пры сібе.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *kẽblas* 'слабы, хілы'.

КЯЛБУ'К *гл.* КЕ'ЛБУК

КЯЛБУ'Ш *м. зневаж.* Няўклюда. *Ах ты, кялбуш!* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *kėbla,* дыял. *keblùšius* 'хто нехлямяжы, нязграбны, няспрытны'.

КЯЛІ'ШАК *гл.* КІЛІ'ШАК

КЯЛО'ЙША *ж.* 1. Тое ж, што і к а л о́ ш а. *Кялойша падралася ў гацях.* Старыя Смільгіні Воран. 2 *перан.* Хто неахайны. *Ходзіць, як кялойша.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *keleĩšė* 'тж', *kelŷs* 'калена'.

КЯЛТУЯ' *ж.* Цапільна. *Кялтуя ў цэпя, што ў руцэ дзержыш — кялтуя.* Магуны Паст.; *гл.* ДАБМ, карта № 257; *парайн.* літ. *keltojà* 'тж'.

КЯНЬ *ж.* Праём у сцяне. *У кянь упускаецца сцяна, урэзваецца ў кянь.* Магуны Паст.

КЯРАВА'ЦЦА *незак.* Рухацца, быць рухомым. *Ён кяруецца гэты перадок.* Беняконі Воран.; *парайн.* польск. *kierować się* 'накіроўвацца'.

КЯРАВА'ЦЬ *незак.* Кіраваць, правіць. *Ён кяруя намі.* Кудзялянцы Шальч.; *парайн.* польск. *kierować* 'тж'.

КЯРА'ПЛА *гл.* КІРА'ПЛА

КЯ'РКАЦЬ *незак.* 1. Каркаць. *Варона кяркаіць.* Курополле Паст. 2. Стракатаць. *Сарока бывая крэкча, бывая кяркая.* Гемзы Шальч. 3. Ціўкаць больш грубым голасам. *Піскляты каркаюць.* Мярэцкія Глыб. 4. Выгукваць «кяр». *Курыца кяркая і кяркая, муся, кіпяць у яе на языку.* Солы Смарг.

КЯРМА'Ш *гл.* КІРМА'Ш

КЯРНО'З, КЯРНО'С *м.* Тое ж, што і к е р н о́ з 1. *Кярноз — кныр.* Быстрыца Астр. *Кярнос у нас быў; ён выляхчаў кярноса.* Жылі Іўеў. *Мы кярноса мелі.* Гемзы Шальч.

КЯРШ *м.* Мянушка вала. *Кярш быў, хрыбет белы.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *kéršas* 'рабы'.

КЯРШАВА'ТЫ, КЕРШАВА'ТЫ *прым.* Стракаты, пярэсты, рабы. *Быў кяршаваты вол.* Старыя Смільгіні Воран. *Кяршаватая карова: хрыбет белы, астальное рыжае.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *kéršas* 'тж'.

КЯ'РШЫ' *прым.* 1. Тое ж, што і к я р ш а в а́ т ы. *Кя́рша карова — яна рабая.* Гемзы Шальч. 2. *выкл.* Выгук на вала адпаведнай масці. *Кяршы! — на вала так крычаць. Як заґілюють валы — саху паламаюць, ярмо, так бывала; валы медлена хадзілі, за раніцу гонцы загарэ.* Гемзы Шальч.

КЯТУ'РКА *ж.* 1. Клін, які ўшываўся паміж калашын штаноў. *Кятурку ўшывалі мушчынам у штаны!* Ракаўскія Швянч. *Кятурка ў сподніх штанах.* Індра Красл. *У споднія штаны ўстаўлялі кятурку. Парваў кятурку, нада налатаць.* Ахрэмаў-

цы Брасл. *Мушчынам кятурку ўшывалі ў штаны. Кятурка ў штанах рвецца, порыцца.* Кураполле Паст. *У штанах кятурка парвалася. Штаны ў кятурцы парваліся.* Мярэцкія Глыб. 2. Тое ж, што і к л і н 5. *Нада клінок у кятурку ўставіць.* Валынцы В.-Дзв. 3. Шырынка. *Кятурка — прарэха ў штанах.* Ракаўскія Швянч. *Кятурка—разрэз у штанах.* Рагулішкі Даўг. *Кятурка рашпіліўшыся ў п'янага.* Ёдлавічы Брасл. *«Зашпілі кятурку!» — так казалі даўней. Таўкачок матка ўшыіць у штаны, так зашпілялі, і добра было.* Валынцы В.-Дзв. *Кятурку ні зашпіліў.* Граўжышкі Ашм. *Закрый сваю кятурку!* Гемзы Шальч., Чычалі Швянч., Быстрыца Астр. ∇ *Ты ўжо, як кятурка старога дзеда!* — кажуць на неакуратнага чалавека. Рагулішкі Даўг.; *параўн.* літ. *ketùrka* 'шырынка'.

КЯ'ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Котка кяўкаіць. Слухай, як котка кяўкаіць!* Кураполле Паст. *Некі кот кяўкаіць.* Мярэцкія Глыб.; *параўн.* літ. *kiáukčioti* 'гучна крычаць, тонкім голасам крычаць'.

КЯ'ЎКНУЦЬ *зак. экспр.* Падаць голас, абазвацца. *Як даўся аб камінь — і ні кяўкнуў. Звалілася яна — і ня кяўкнула.* Кураполле Паст. *Я кяўкнула, як паміраючы.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *kiáuktelėti* 'тж'.

КЯШЭ'НКА *гл.* КІШЭ'НКА

КЯШЭ'НЬ *гл.* КІШЭ'НЬ

# Л

ЛАБАЗА', ЛАБУЗА' *ж.* 1. *бат.* Від асакі. *Лабаза — такая асака расце вялікая на балоце, ня хоча конь есці. Лабаза — асака такая вялікая расце па лахчынах падобна да ляжніка.* Рыбчына Віл. *Лабаза на балоце расце.* Саланое Віл. *Лабаза — жосткая трава, чуць пацягні — і руку парэжаш, з яе жосткае сена, не ядуць яго каровы.* Скрыпчына Лудз. 2. Жорсткае, няякаснае сена. *Прывёс нейкай лабазы — так скажуць на ліхоя сена, на абы-якоя сена.* Дакудава Лід. *Лабаза — жосткае сена, не ядуць яго каровы.* Скрыпчына Лудз. 3. Пустазелле. *Лабаза — усялякая трава. Пасееш — збожа не расце, толькі лабаза.* Граўжышкі Ашм. *Зрасло лабузою: рознай травой, як у Воступі.* Пацаўшчына Дзятл.; *параўн.* руск. *лабазина* 'дубец, кій', укр. *лабу́з* 'сцяблы пустазелля', польск. *łabuź* 'вадзяная расліна' (Фасм., II, 442).

ЛАБАЗАВА'ТЫ *прым.* Жорсткі (пра сена). *Накасіў сена, але лабазаватая, ня хоча скаціна есці.* Рыбчына Віл.

ЛАБА'Н *м.* Бязрогая карова. *Лабан — бязрогая карова.* Рыбчына Віл.

ЛАБАРА'НТ *м.* Лабарант. *Лабарант бярэць аналіз.* Саланое Віл.

ЛАБА'ТКА *ж.* Тое ж, што і л а б а́ н. *Мая лаһатка ната добрая на малако.* Гемзы Шальч.

ЛАБА'ТЫ, ЛОБА'ТЫЙ *прым.* 1. З вялікім ілбом. *В коровы і рожыска вылікы і лоб вылікый, такая лобата. Лобатый чоловік — такый лобыско вылікый в його.* Сіманавічы Драг. 2. Бязрогі. *Лабата карова.* Старыя Трокі Трак. *Карова лабатая на малако добра.* Кіралі Шчуч. *Лабатая карова — бяз рох.* Магуны Паст. *Лабатая карова — без рог.* Пасіене Лудз. *Я вельмі баюся лабатай каровы. Лабатай каровы ўсе дзеці баяцца.* Дварчаны Паст. *Лабатая карова ў нас была, Малютай звалі.* Беразіно Докш. *У нас у вёскі была лабатая карова, шкодная, збройная карова, у шкоду ляціць, дрэнна ўпасціць яе.* Ёдлавічы Брасл. *Добрая карова, але лабатая.* Гемзы Шальч. *Бязрогая карова, ці лабатая.* Глівін Барыс. *Карова лабатая — німа рох.* Багушэвічы Бярэз. *Лабатая карова.* Рыбчына, Саланое Віл.

ЛАБА'ЦЕНЬКІ *прым. памянш.* Тупы.▽ *Насок шылаваты, а пятка лабаценькая* — яйка. Саланое Віл.

ЛАБА'ЦІНА, ЛАБЭ'ЦІНА *ж. экспр.* Лоб. *Разабіў слоік, а кап папаў у вока ці ў лабаціну?* Альхоўка Навагр. *У смех гаворацць, а баліць лабаціна.* Міратычы Карэл. *Лабаціна — бычынны лоп.* Мярэцкія Глыб. *Лабэціна между вушэй. Лабэціна — лоб у свіней.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛАБО'НЯ *ж.* Тое ж, што і л а б а́ н. *Як без рог карова — лабоня.* Мішневічы Шум.

ЛАБО'ШЧЫК *м. неадабр.* Бабнік. *Лабошчык — хто ходзіць па бабах.* Парэчча Гродз.

ЛАБУДЗЕ' *зб. н.* Ламачча, кавалкі сцяблоў, трэскі. *Лабудзя куча награбана на падворку.* Парэчча Гродз.

ЛАБУДЗІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць глупства, блюзніць. *Лабудзіў, лабудзіў — гаварыў не ў толк.* Рагулішкі Даўг.

ЛАБУЗА' *гл.* ЛАБАЗА'

ЛАБУЗАВА'ТЫ *прым.* Распусны (пра дзіця). *Лабузаваты хлопец, лабус.* Граўжышкі Ашм.

ЛАБУ'К I *м.* Тое ж, што і л а б а́ н. *Лабук — карова лабатая.* Саланое Віл. *Лабук мой пасецца. Лабук — бязрогая карова.* Чычалі Швянч.

ЛАБУ'К II *м.* Нехлямяжы чалавек. *Ён такі лабук.* Малахоўцы Бар.

ЛАБУ'К III *м.* Страха над ганкам. *Хата з лабуком.* Саланое Віл.

ЛАБУ'НІЦЬ *незак.* Прывабліваць, мілаваць. *Лабуніла,*

*лабуніла і не прылабуніла.* Саланое Віл. *Лабуніў, лабуніў і дастаў кукіш.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *lābintis* 'тж'.

ЛАБУ'РЧЫКІ *мн. памянш.* да л а б у р ы́ 1. *З лабурчыкаў сянік, спаць добро, не пераціраецца.* Мсцібава Ваўк.

ЛАБУРЫ' *мн.* 1. Стрыжні ў птушыным пер'і. *Лабуры ад пер'я, з іх сянікі робяць. З лабуроў робяць матрасы. Лабурчыкі, лабуры — ад пер'я, напіхаем матрацы.* Мсцібава Ваўк. 2. Сцяблы ў лісцях. *Лабуры — з буракоў, з бручкі — цвёрдая частка ліста.* Мсцібава Ваўк.

ЛА'БУС *м. зневаж.* Неразумны чалавек. *Лабус — ні умны, дурнаваты.* Старыя Трокі Трак.

ЛАБЫ'Р *м.* Тое ж, што і л а б а́ н. *Лабыр — лабатая карова.* Мярэцкія Глыб.

ЛАБЭ'НДЗІ *мн.* Парода гусей (з гузамі, японскія гусі). Вялікія Баяры Шчуч.; *парайн.* польск. *łabędź* 'лебедзь'.

ЛАБЭ'ЦІНА *гл.* ЛАБА'ЦІНА

ЛАБЯ'К *м.* Вільчык. *Лабяк у канцы крышы.* Кураполле Паст. *Варона сядзіць на лабяку. Сядзіць кот на лабяку.* Ёдлавічы Брасл. *Вясной, як ужо лабякі бэс снегу, і бацян, прыляцеўшы, стаіць бедны на гэтым лабяку.* Гемзы Шальч.

ЛА'ВА I *ж.* Лава для сядзення. *Зайшоўшы ў хату, ён прысеў на лаву.* Дварчаны Паст. *Лава — з шырокай дошкі, сядзелі на лаве.* Мярэцкія Глыб. *Дайней лава на калотках стаяла і прыбітая, кап яна не соўгалася туды-сюды.* Граўжышкі Ашм. *Лава дзяравяная, ат кута да кута.* Дакудава Лід. *Лава — бальшая дліная, а лаўка — карацейшая.* Ёдлавічы Брасл. *Лава — катора нерухома, яна прыбіваецца.* Дзяніскавічы Ганц. *Лава ўздоўж сцяны.* Гайна Лаг. *Селі мы на лаве.* Грыкені Вільн. *Сядзіць ён на лаве. Лава прыбітая.* Гемзы Шальч. *Лава — дошка адтулека да кута́.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Лавы ў хаця вакрух стала. Лава доўгая, стаіць каля сцяны, каля стала.* Рыбчына Віл. *У нас былі лавы і слон: лава — доўгая, слон — карочай.* Вострава Маст. *Садзіся на лаву. Скразявыя лавы ў хаці, на якіх сядзелі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лава стаіць вылётно пакрай сцянэ. Лава можэ стаяць і ўдоль і ўпапярок у хаці. Яґ робяць вяселе, то сехчы нема дзе, бо лавай нема. Лава ад вугла да вугла.* Бабpоўнікі Гарад. *Лавы вакруг стала каля сцен стаялі.* Кемялішкі Астр. *Кругом стала лавы стаялі, пусціў дзеці, і яны лазяць па лавах.* Кіралі Шчуч. *Лавы былі і зэдлікі.* Рагулішкі Даўг.▽ *Сей лён на Станіслава, а вырасце, як лава.* Мсцібава Ваўк. *От кутка до кутка лыжыт баба бэз пупка* — лава. Дзмітравічы Кам.; *парайн.* літ. *lóva* 'тж'.

ЛА'ВА II *ж.* 1. Шырокі загон. *Цэлу лаву выжала, доўгую і шырокую. Лава шыршая, як два, тры загоны. Лава жыта; як жалі, цэлу лаву заніла і жне.* Жылі Іўеў. *Два загоны зганы ў адно называюць лава.* Старыя Смільгіні Воран. *Лава—*

*шырокі загон.* Галубы Маст. *Вельку лаву пажала ячменю. Заняла лаву ды выжала.* Кіралі Шчуч. *Шырокі загон — лава. Засеяў цэлу лаву жыта. Заняла цэлу лаву.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лава жыта; лава аўса стаіць яшчэ. Яшчэ стаяць лавы збожжа.* Міратычы Карэл. *У яе засталася лава — шырокі загон, кусок велькі; як не дажне, то кажаць: цэла лава асталася ў яе.* Старое Сяло Зэльв. *Гарэш у лаву. Заняла цэлу лаву.* Вецярэвічы Пух. *Лава — дванаццаць баразён. Гаралі ў лавы. Шэсць баразён — загон, тэраз гаруць у адну скібу.* Паляцкішкі Воран. *Лава — шырокі загон. Нагараў адну лаву. Пасадзіў картоплі ў дзве лаві.* Навасёлкі Свісл. *Гарэ ў лаву. Шырокія загоны называюць лавы. Загон — вузкі, у яго ўходзя шэсь баразён, узараных усклат. Лава — шырокі загон; дванаццаць-пятнаццаць баразён у лаву ўходзя.* Гемзы Шальч. 2. Вузкая паласа поля. *Як былі палосы, то гаварылі лава жыта, як вялікая — палоса.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лава — паласа засеянай зямлі.* Палік Барыс. 3. Вялікі ўчастак поля. *Бальшы масіў, бальшы абшар бульбы — лава.* Саланое Віл. *Лава жыта пасеяна. Адна лава — гектараў дзесяць.* Альхоўка Навагр. *Лава — поля велько калічаства. Цэлу лаву жыта засеяў.* Малахоўцы Бар. *Бальшая лава пасеяна жыта.* Альхоўцы Лях. *Заняў, захваціў цэлу лаву — шырока паласа поля.* Дзяніскавічы Ганц. *Лава — шаснаццаць дзесяцін.* Крупіца Мін. *Вэлікая лава поля.* Азарычы Пін. *Тры гектары — лава.* Глівін Барыс. *Лава жыта, пшаніцы — вялікая плошча.* Рудня Астравітая Чэрв. 4. Паласа, участак сенакосу. *Лава — шырокая паласа сенакосу.* Дзяніскавічы Ганц. *Лавы на сенакосе. Сенакос падзелены на лавы. На лавы дзялілі сенакос.* Дакудава Лід. 5. Участак аднаго гаспадара. *Лава — аднаго хазяіна ўчастак.* Крупіца Мін. 6. Загуменная дарога. *Як с канём едуць, то лава па загуменню паўс платы ідзе.* Азяраны Раг. 7. Абочына дарогі. *На соші так слыско тыпэрычка, шчо вжэ одна машына влытіла в лаву.* Ушкавіца Кобр.; *параўн.* літ. *lóva* 'загон'.

ЛА'ВА III *ж.* Падоўжаная ўкладка дроў. *Цэлу лаву дроў зложыла.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *lóva* 'капа сена'.

ЛА'ВА IV *ж.* Адно звяно плыта (пры сплаве лесу). *Лава плыта.* Рудня Астравітая Чэрв.; *параўн.* літ. *lóva* 'тж'.

ЛАВА'ЦЬ *гл.* ЛАВІ'ЦЬ

ЛА'ВАЧКА *ж.* 1. *памянш.* да л á в а I. *Лавачка — на печку лазіць.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і л á в а IV. *Па дзесяць-дванаццаць бравён і ўсе прывязаны да шаршавіны — палучалася лавачка. Лавачкі ставяцца адна да аднэй і звязваюцца муздаком.* Лісна В.-Дзв.

ЛА'ВАЧНІК I, ЛА'ВАШНІК, ЛА'ВОЧНІК, ЛА'ВОЧНЫК *м.* Прадавец. *Вася, куды ты паехаў, німа ш лавачніка.* Лешня Кап. *Лавашнік у магазіне.* Пасека Ст.-Дар. *У нас зарэ два*

*лавочнікы в лавцы. Наш Павэл був лавочныком.* Сіманавічы Драг.

ЛА'ВАЧНІК II *м.* Плытнік. *Лазой вязалі, накруцяць віткі, як вяроўка, лавачнікі лаўкі гоняць.* Саланое Віл.

ЛА'ВАЧНІЦА, ЛА'ВОЧНІЦА, ЛА'ВОЧНЫЦЯ *ж.* Прадаўшчыца. *Лавачніца ў магазін прышла.* Альба Нясв. *Спытаю лавочніцы, чы хліб тыпэр прывызуть. Вжэ лавочныця лавку замыкае.* Сіманавічы Драг.

ЛАВЕ'НЁ, ЛАВЕ'НЯ, ЛОВІ'ННЕ *н.* Лоўля. *Якое там лавенё!* Альхоўцы Лях. *Якое там лавеня!* Альхоўка Навагр. *Мало рыбы наловыв, ныякэ ны ловінне.* Сіманавічы Драг.

ЛАВІ'ЦЦА *незак.* 1. Лавіцца. *Такім холадам рыба ня будзіць лавіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Хапацца за што-н. *Іду і за сцены лаўлюся.* Саланое Віл.

ЛАВІ'ЦЬ, ЛОВІ'ЦІ, ЛАВА'ЦЬ *незак.* 1. Лавіць. *Кот злавіў мышў. Кот мышэй ловіць.* Дварчаны Паст. *Кот мухі ловіць.* Ністанішкі Смарг. *Пашлі лавіць рыбу. Кот добры, натта мышы ловіць — штодзень ловіць мышку, і яму хватае.* Кіралі Шчуч. *Ловюць рыбу. Буду лавіць. Я лаўлю, ён ловіць, мы лавілі.* Мярэцкія Глыб. *Я лаўлю, ён ловя, яны лавілі. Лавіць курыцу. Лавіць рыбу.* Рыбчына Віл. *Ловяць рыбу. Пашлі лавіць.* Альхоўцы Лях. *Курэй лавіць. Шчупакоў лавіць. Курэй лавілі.* Ёдлавічы Брасл. *Бучамі лавілі рыбу, сеткамі лавілі; ракаў лавілі.* Грыкені Вільн. *Невадам лавілі рыбу.* Швэды Вільн. *Я не лаўлю яну* [рыбу]. Малькуны Ігн. *Буду лавіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Я коб цэлы дэнь ловіла, то нэ пойняла б і одное.* Смаляніца Пруж. *Оксці — што рыбу лаваць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Адсюль лавая чайнок. Сыты кот, лаваў гусі.* Пасека Ст.-Дар. *Пойдам лаваць рыбу. Рыбу лавалі. Лаваюць дзевачак молодых.* Малыя Аўцюкі Калінк.2. Пераймаць на ляту. *Лаві цукерку, скарэй піраймай на ляту.* Саланое Віл. *Ты кідай мячык, а я буду лавіць.* Дварчаны Паст. *Лаваюць мячыка.* Пасека Ст.-Дар.

ЛА'ВКА I *гл.* ЛА'ЎКА I

ЛА'ВКА II *гл.* ЛА'ЎКА II

ЛА'ВОЧНІК, ЛА'ВОЧНЫК *гл.* ЛА'ВАЧНІК

ЛА'ВОЧНІЦА, ЛА'ВОЧНЫЦЯ *гл.* ЛА'ВАЧНІЦА

ЛАВУ'ШКА *ж.* 1. Невялікі вулей для прываблівання раёў пчол. *Лавушка — шафка збітая, у ёй летка, павешаны тры рамкі з вашчынай, я пчол лавіў.* Гемзы Шальч. *На дзерава ставілі лавушкі.* Шкаўна Лудз. *Лавушку ставяць, каб рой прывабіць.* Глівін Барыс. 2. Прыстасаванне для лоўлі шашкоў. *Трэба паставіць лавушку на шашка, а то шашок усіх курэй падавіць. Лавушка на шашка больш чым паўметра даўжынёй, шырынёй пятнаццаць санціметраў і высатой пятнаццаць санціметраў, з аднаго боку дзверцы, а з другога — жалезная сетка, унутр сала ложыцца, мяса, а на дзверы кір-*

*падбавіць лагва, кап цяплей было. Воўк не бярэ ля лагва авец.* Вецярэвічы Пух. *Лагво робяць ваўкі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Берлог воўчыцы, у свіней лагво.* Малыя Аўцюкі Калінк.∇ *Два мядзведзі ў адным лагву ціха не ляжаць — вурчаць.* Азяраны Раг. 2. Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 2. *Пашлі куры ў ячмень і логвы парабілі.* Кіралі Шчуч.

ЛАГЕ′ЗІНА *ж.* Дубец, лазіна, прут. *Лаґезінай як дам!* Жылі Іўеў.

ЛА′ГЕР *м.* 1. Месца ўтрымання ваеннапалонных, вязняў. *У лагерах пабыўшы, лупіну збіралі па шметніку.* Швэды Вільн. 2. Летні загон для жывёлы ў полі. *Лагер здзелан на полю для кароў.* Быстрыца Астр.

ЛАГЕСЫ′ *гл.* ЛАГЯСІ′

ЛАГЕ′СЬ *м. бат.* Капытнік. *Лаґесь вазярны свіням збіралі.* Магуны Паст.; *парайн.* літ. *legėsȳs* 'тж'.

ЛАГО′ВІШЧА *н.* Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 1. *Дзе вядзецца воўк — ле свайго лаговішча ён нічога не возьмя.* Вецярэвічы Пух.

ЛАГОВЭ′ТЫСЯ *незак.* Тое ж, што і л я г а́ ц ь 2. *Будэм лаговэтыся спатэ. Я лаговлюся.* Дзмітравічы Кам.

ЛАГО′ДНЫ *прым.* 1. Добры, шчыры. *Такі добры, такі лагодны, як ніколі.* Дварчаны Паст. 2. Рахманы. *Курыца як лагодная, то зловіш, а бывая дзікая.* Жодзішкі Смарг.; *парайн.* польск. *łagodny* 'тж'.

ЛАГО′ЖЫ, ЛАГО′ЖЫ, ЛАГО′ШЫ, ЛАГЯЖЫ′ толькі *мн.* 1. Сані-развалкі або выязныя сані. *Лагожы — сані для перавоза сена і саломы. Лагожы — сані без спінкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Лагожы — санкі, падбіваюць зялезам.* Ракаўскія Швянч. *У лагожах не драбінкі, а заставы бакавыя з дасок.* Рудня Астравітая Чэрв. *Конь харошы і лагожы добрыя.* Мачаск Бярэз. *Лаґожы — сані, большыя за вазок, апшытыя берагі; на млын, на кірмаш вазілі ў лаґожах, ездзілі ў мястэчка.* Мярэцкія Глыб. *Лаґошы — від саняй, яны ўшыроны, больш парадныя.* Індра Красл. 2. Рама для саней, воза. *Лагожы зрабіў, каб шырэйшы воз быў.* Бакшты Іўеў. *Кладуць лагожы на санкі, як возяць салому, драва.* Вецярэвічы Пух. *Лагяжы трэба зрабіць, вусы нада зрабіць да саней, лагяжы па салому ехаць.* Гемзы Шальч. *Лагяжы кладуцца на санях; на гэтых лагяжах кладуць гнаеўкі.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *lùgės* 'дрэнныя сані ці воз з кузавам', *lùgnios* 'прыгожыя, добрыя сані'.

ЛАГО′ЎЯ *н.* Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 3. *Лагоўя на снягу.* Рыбчына Віл.

ЛАГО′Ш *м.* Выязныя сані. *Паехаў лагош апшыты.* Мачаск Бярэз.; *гл.* л а г о́ ж ы.

ЛАГО′ША *ж.* Воз з бакавымі дошкамі замест драбін. *Ла-*

*гоша — воз з бакавымі дошкамі.* Рудня Астравітая Чэрв.; *гл.* л а г о́ ж ы.

ЛАГО'ШЫ *гл.* ЛАГО'ЖЫ

ЛАГУ'Н *м.* Палеглы лён. *Не ўстае лён, усенькі лагун.* Жылі Іўеў.

ЛАГУНЫ' *мн.* Падваліны. *Падлогу кладут на лагуны.* Лука Нараўк.; *гл.* л а́ г а.

ЛАГЧАІ'НА *ж.* Тое ж, што і л а г ч ы́ н а. *Лагчаіна—гэта лахчына.* Ісерна Слуц.

ЛАГЧЫ'НА, ЛАХЧЫ'НА' ЛАШЧЫ'НА *ж.* Нізіна сярод адхонных схілаў. *Нізіна на полі, а лагчына бы ў лузі.* Тухавічы Лях. *У лахчы́не трава лепшая.* Дварчаны Паст. *Лахчы́на па адзін бок вёскі, там трава харошая расла і называлі аселіца.* Саланое Віл. *У той лахчы́не і вада стаіць.* Беразіно Докш. *Пайдзём сядзім у лахчы́ну, дзе халадней. Лахчы́на, дзе ніска места.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нейкая лахчы́на, што трава не расце, толькі мох.* Гемзы Шальч. *Вярэцяга толькі ў лесе, на балоце, а на полі — лахчы́на.* Дзяніскавічы Ганц. *Лахчына́, дзе трава расце, чыстая мейсца, а кругом лес на тэй лахчыне́.* Граўжышкі Ашм. *Вымакла бульба ў лахчыне́.* Рыбчына Віл. *Лашчына ліхая, і трава на ёй не расце.* Жылі Іўеў. *На лашчыні расце асака, а на грудзі расце мурожная сена. На санажаці лашчына і грут. У лашчыня асака расце.* Альхоўка Навагр. *У канцы гарода лашчына — там нізка.* Ухвала Круп. *Лашчына с кустамі. Лашчына — то ніскае места. Не касі той лашчыны, бо той травы жывіна не есць. У гэтой лашчыны жыта німа, вымакло.* Бброўнікі Гарад.

ЛАГЯ'ЖЫ' *гл.* ЛАГО'ЖЫ

ЛАГЯЗА' *ж.* 1. Хто шустры, жвавы. *Гэткая ўжо лаѓяза.* Дварчаны Паст. 2. *неадабр.* Шалахвостка. *Добрую дзяўчыну кінуў, а гэткую лаѓязу ўзяў, ці ён з ёй жыць будзя.* Дварчаны Паст.; *параўн.* літ. *laigesŷs* 'беганіна'.

ЛАГЯСІ', ЛАГЯСІ', ЛАГЕСЫ' толькі *мн. бат.* Асот ланцэтападобны. *Лагясі — трава такая, лісты шырокія, у зупкі. Лаѓясі — лісця шырокія.* Быстрыца Астр. *Лаѓясі растуць у гаі; нарвала лаѓясёў і свіней накарміла.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лаѓясі — трава такая, чула, але не ведаю.* Малькуны Ігн. *Лаѓясі сабіралі свіням — дліnаватыя лісце, як шнітка ствол і наварху белая шышка.* Рагулішкі Даўг. *Лаѓесы — трава такая.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. дыял. *lagesŷs,* літар. *legėsŷs* 'тж'.

ЛАД, ЛАТ *м.* 1. Парадак, зладжанасць. *Як бы ўсё было ў лад.* Дварчаны Паст. *Няма ладу, як лезе дзіця.* Кузьмічы Люб. *Покы шэ був старый, то й лад був у хаты, а як вмэр, то й ладу ны стало.* Сіманавічы Драг.∇ *Атклат не йдзе ў лад.* Дварчаны Паст. *Як сядзіш у раду, то пільнуйся ладу, бо як будзеш вырабляцца, то возьмуць ды выкінуць.* Кіралі Шчуч. *Ні красна хата вугламі, а ладамі.* Кураполле Паст. *Дэ лад,*

*там і клад.* Сіманавічы Драг. 2. Звычай. *Так цяшка прывыкнуць да чужога ладу.* Граўжышкі Ашм. ◊ **Зрабіць да ладу, давесці да ладу** — упарадкаваць. *Чалавек марудны зробіць да ладу.* Парэчча Гродз. *Довыду лён до ладу, пообыраю, почышчу, а тоды вжэ поіду.* Сіманавічы Драг. *У лад* — зладжана, у такт. *У лад малаціць.* Чычалі Швянч. *Цапамі ў лат стукаюць.* Саланое Віл.

ЛАДАВА'ЦЬ I, ЛАДОВА'ТІ *незак.* Упарадкоўваць. *Пайду ладаваць картоплі.* Навасёлкі Свісл. *Учоро ладовав, наладовав такую фуору сіена, што чуть куонь дав раду тягнуті.* Курашэва Чыж.

ЛАДАВА'ЦЬ II *незак.* Падымаць бярвенні на воз пры дапамозе ляда. *Ладаваць — падымаць, грузіць дзерава на вос лядаю.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* ням. *laden* 'грузіць'.

ЛА'ДАДА *ж.* Праснак з кіслага цеста. *Мама, спячы ладада на скарвадзе.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛА'ДАЧКА *ж. памянш.* Гліняная місачка. *Гліняная ладачка была. Даўней па дзірэўнях вазілі і прадавалі гаршчочкі і ладачкі.* Лісна В.-Дзв.

ЛА'ДДЗЯ *зб. кўлін.* Дранікі. *На тарку таркуем картошку і камы дзелалі, і ладдзя пяклі — картафляныя бліны.* Навікі Лудз.; *параўн.* руск. *оладьи* 'аладкі'.

ЛАДЗЕ'ЙКА *ж.* Карыта для свіней. *Ладзейка — карыта для свіней выдаўбанае. Ладзейка бывае з дасок збіта.* Рыбчына Віл.

ЛА'ДЗЕНЬКА *прысл.* Акуратна, шчыльна. *Пчолы запечатываюць мёд ладзенька.* Саланое Віл.

ЛАДЗІ'Н *прым.* Тое ж, што і л а́ д н ы 3.∇ *Адзін сын, і той не ладзін.* Альхоўцы Лях.

ЛА'ДЗІЦЦА *незак. безас.* Ісці на лад. *Мне жыць не ладзілася.* Валынцы В.-Дзв.

ЛА'ДЗІЦЬ I *незак.* Жыць у згодзе. *Нявестка ладзіць з свякровай.* Гемзы Шальч. *Усе яны ладзяць, жывуць ціха, а заґеліў жаніцца.* Малькуны Ігн.

ЛА'ДЗІЦЬ II, ЛА'ДЫТЫ *незак.* 1. Рамантаваць. *Яны ладжаць трахтар.* Стральцы Шальч. *Матацыкл ладзіў.* Дварчаны Паст. *Машына шось ны шые, трэба ладыты.* Сіманавічы Драг. *Ладят чоботэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Навіваць кросны. *Будэмо ладыты кросна — навываты, накідаты.* Горск Бяроз. 3. Складваць, упарадкоўваць (снапы ў гумне). *Помытаю, прывіз я дьві хуры жыта до клуні, одну хуру зладыв, шэ другу хотів ладыты, дай Вася прыіхав.* Сіманавічы Драг.

ЛА'ДЗІЦЬ III *незак.* Падыходзіць, быць прыдатным. *Сукно ніґды не цераець фасон, абы дзе ладзіць.* Малькуны Ігн.

ЛА'ДЗЬБІ'НЫ, ЛАЗЬБІ'НЫ, ЛАЦЬБІ'НЫ толькі *мн.* Частаванне ў час выбірання мёду з вулля. *Вот дзісь ладзьбіны гулялі. Ладзьбіны — як падглядаюць пшчолы, як часту-*

*юць мёдам.* Саланое Віл. *Ла́дзьбіны—калі падглядаюць пчол і частуюць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Дзісь лазьбіны, мёт выбіраюць.* Жылі Іўеў. *Будзем лазьбіны рабіць. Пойдзем на лазьбіны.* Граўжышкі Ашм. *Лазьбіны — мёт прыхадзіця есць.* Быстрыца Астр. *Лазьбіны — калі мёт абіраюць; хто хоча, ідзе на лазьбіны мёду паспытаць.* Солы Смарг. *На аспажу падбіраяць пчол, тады лазьбіны. Падборка мёду — называюць лацьбіны.* Груздава Паст.

ЛА′ДКА·*гл.* ЛА′ТКА II

ЛА′ДНА , ЛА′ДНО *прысл.* 1. Добра, хораша. *Ідзі ты, дзядзька, трэба, кап усе жылі ладна.* Лісна В.-Дзв. *Салавейчык ладна спявае.* Кудзялянцы Шальч. *С коровыю шось ны ладно, мусыть, хвора.* Сіманавічы Драг. 2. Многа. *Кап я была дужэйшая, мне гадоў ладна.* Груздава Паст. *Соды ладна ўсыпала.* Багушэвічы Бярэз. 3. Даўно. *Я ўжо ладна прышоўшы с поля.* Селішчы Ашм.

ЛА′ДНАГА *прысл.* 1. Доўгі час. *Яна ладнага тут жыла, гадоў пяць.* Кіралі Шчуч. *Вы ўжо ладнага жывяце ў нас?* Азяраны Раг. 2. Тое ж, што і л а́ д н а 2. *Ты ўжо ладнага выжнула* [зжала], *а я спраквала́, не стараюся. Ладнага пабралі ў армію. Ладнага нас сабралася.* Азяраны Раг.

ЛА′ДНАСЦЬ *ж.* Акуратнасць, прыгажосць. *На ладнасць — ладны быў хлопец.* Кудзялянцы Шальч.

ЛА′ДНЕ, ЛА′ДНЯ *прысл.* 1. Прыгожа. *Дзеўкі буракамі ружаваліся, і ладне было.* Старыя Трокі Трак. *Так ладне ў хаце было. Ён ладне танцуе.* Паляцкішкі Воран. *Ладне косы ўплецены.* Стральцы Шальч. *Юра ладне спявае.* Дварчаны Паст. *Скручвалі ладне кудзелю.* Грыкені Вільн. *Ладны хлопяц і ладня спяваў.* Гемзы Шальч. 2. Добра. *Мая мама ладне прала. Цяпер жыве ладне. У кажусе рукаво ладне ўстаўлена.* Паляцкішкі Воран. *У яго так ладня выходзіць.* Жылі Іўеў. 3. Акуратна. *У мяне ладня было ў хаце.* Кудзялянцы Шальч. 4. Прыемна. *Як згодня жыюць, то ладня паглядзець.* Кудзялянцы Шальч. 5. Тое ж, што і л а́ д н а 2. *Ужо ладне гадоў хадзілі спісываць песняў. Як ладне гною паложым, у нас такія яблыкі рыпштэйны!* Крэва Смарг. *Прадукцыі ладне прынялі.* Ністанішкі Смарг. *Палучала ладне грошы.* Жыдзевічы Іўеў. *Яна ладне заняўшы лёну.* Жылі Іўеў. *Ладне гадоў яму.* Бакшты Іўеў. *Яму месяцаў ладне, але яно марнае было.* Граўжышкі Ашм. *Іх ладне перабілі. Сала ладне даў.* Лісна В.-Дзв. *Ладня яго пасеялі.* Азаркі-Пудавінка Мядз. 6. Далёка. *Пограп ладне ад хаты.* Крэва Смарг. 7. Доўга. *Яно там ладне стаяла.* Дварчаны Паст.

ЛАДНЕ′Й *прысл.* Прыгажэй. *Трохі лепей, ладней адзенься.* Грыкені Вільн. *Кажуць: матка і мама, мама — ладней казаць.* Паляцкішкі Воран.

ЛАДНЕ'ЙШЫ *прым.* Прыгажэйшы. *Калісьці насілі з папяру хустачкі, быў ладнейшы папяр.* Старыя Трокі Трак.

ЛА'ДНО *гл.* ЛА'ДНА

ЛА'ДНЫ *прым.* 1. Добры. *Жэрткі ладныя прывёз з лесу. Ладная пагода, чыстае неба. Які ладны дом паставіўшы.* Паляцкішкі Воран. 2. Прыгожы. *Ладна кабета. Касцюм ладны купілі.* Паляцкішкі Воран. *Ладна сукня.* Беняконі Воран. *Прыехаўшы, матцы ладную рубашку дачка падаравала.* Чыжуны Воран. *Ладны кажушок. Ладны хлопец.* Дварчаны Паст. *Быў ладны хлопяц.* Гемзы Шальч. *У яго былі ладныя усы.* Пацаўшчына Дзятл. 3. Разумны, цікавы. *З людзіма ладнымі сяджу.* Стральцы Шальч. *Ладныя дзеці.* Ністанішкі Смарг. 4. Буйны, урадлівы. *Ладныя растуць арэхі.* Рудня Чэрв. *Ладна картофля.* Кемялішкі Астр. *У яе ладныя свіня.* Паляцкішкі Воран.

ЛА'ДНЯ *гл.* ЛА'ДНЕ

ЛА'ДНЯНЬКІ *прым. памянш.* да л а́ д н ы 2. *Шчотачкі да падолкаў падшывалі, ладнянькія такія.* Старыя Трокі Трак.

ЛАДОВА'ТІ *гл.* ЛАДАВА'ЦЬ

ЛАДО'НЬ *ж.* і *м.*, ЛАДО'НЯ *ж.* Далонь. *На ладоні. Мая ладонь.* Мярэцкія Глыб., Малькуны Ігн. *Сала ў ладонь — сала толстая ў чэцверць.* Рагулішкі Даўг. *Я скалечыў руку з ладонём.* Баброўнікі Гарад. *Мая ладоня. Па маёй ладоні.* Вострава Маст.; *парайн.* руск. *ладонь* 'тж'.

ЛАДУ'ШАЧКІ *мн. памянш.* да л а д у́ ш к і II. *Мой ладушачкі ня любіць — толькі тонкійі бліны.* Валынцы В.-Дзв.

ЛАДУ'ШКІ I *мн.* ◇ *Пляскаць ладушкі* — пляскаць у ладкі. *Ладушкі плешчаць.* Дакудава Лід.

ЛАДУ'ШКІ II *мн. кулін.* Аладкі. *Ладушкі пяклі.* Валынцы В.-Дзв.

ЛАДЫ' толькі *мн.* Змовіны. *На ладах батько молодое обіцяв даті м'яса пуд вэсіеле, корову і два гэктары поля.* Курашэва Чыж.

ЛАДЫ'ГА, ЛАДЫ'ҐА *ж.* 1. Сцябло расліны. *Якая ладыґа! Кветка на высокай ладызя.* Жылі Іўеў. *Ладыґа доўга сохня. Трава на высокай ладыдзя.* Граўжышкі Ашм. *Ходнікі ткалі з іхніх ладыґаў.* Магуны Паст. *Грачыха на добрым мейсцы вырасла ў ладыґі і незярністая.* Гемзы Шальч. *Ладыгі ў сланэчніку.* Лука Нараўк. 2. Ліст бурака са сцяблом. *Ладыґаў з бурака наламала.* Беняконі Воран. 3. Кветканоснае сцябло цыбулі. *Ладыґі з цыбулі.* Беняконі Воран.

ЛА'ДЫТЫ *гл.* ЛА'ДЗІЦЬ

ЛАДЫ'Ч *м.* У выразе: *Даць ладычá* — адлупцаваць. *Во дам табе ладыча!* Валынцы В.-Дзв.

ЛАДЫ'Ш *м.* 1. Гладыш. *Ладышы — збанкі такія былі.* Мсцібава Ваўк. 2. Круглая вонкавая частка коміна. *Калісь каміны ў хатах былі з ладышоў.* Мсцібава Ваўк.

ЛАДЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і л а д ы ш 1. *Ладышка без ручкі.* Кемялішкі Астр. *Збанок — з гушком, а ладышка — быз гушка.* Сіманавічы Драг.

ЛАЖМЕ'Й *м.* Пахілая страха. *Лажмей — шлапаватая страха.* Курасполле Паст.; *парайн.* лат. *lęzns* 'пахілы' > літ. *leznùs* 'тж'.

ЛАЖО'К *м. памянш.* да л о г. *Навяжаш цялуху на лашку. На лажок завядзець каня.* Саланое Віл. *Там лажок ёсць.* Рыбчына Віл. *На агародзе небальшы лажок.* Ухвала Круп.

ЛАЖЫ'ЦЦА, ЛОЖЫ'ЦІСА, ЛАЖЫ'ТЫСЬ, ЛЯГА'ТЫСА *незак.* 1. Укладвацца (пра падлогу). *Падлога ложыцца на бэлькі.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Класціся спаць. *Трэба лажыцца спаць.* Быстрыца Астр. *Трэба лажыцца спаць, сяння ні спала.* Рыбчына Віл. *Пара ўжо спаць лажыцца.* Дварчаны Паст. *Лажэмся тут.* Вострава Маст. *Цяпер лажуся спаць і богу не памалюся.* Рагулішкі Даўг. *Мая мама гаварыла: я лажася і ўстая памалюся.* Пасіене Лудз. *На снезя начавалі — наломіш ветак, паложыш і лажысся.* Вецярэвічы Пух. *Самы ложымоса. Зроду нэ было, штоб ты ложыласа рано.* Смаляніца Пруж. *Вжэ пора спаты лажытысь.* Сіманавічы Драг. *Я простылю, будымо лягатыса.* Відзібар Стол.

ЛАЖЫ'ЦЬ I *незак.* 1. Класці. *У прас ложаць углі, а ў уцюг — не.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лажы падушку сюды.* Дварчаны Паст. *Палажылі чатыры камені і лажылі бервяно.* Грыкені Вільн. 2. Укладваць. *Камені ложыш* [як дарогу рабілі]. Грыкені Вільн. *Дранаш лажылі, і дарогу дзелалі.* Рагулішкі Даўг.∇ *Хоць у уха лажы* — вельмі мяккія. Ахрэмаўцы Брасл.

ЛАЖЫ'ЦЬ II, ЛАЖЫ'Ц *незак.* 1. Апранаць. *Адгаварвае, кап не лажыла зімняга пальта.* Мсцібава Ваўк. *Сукенку красіву, ніхай катору ложыц.* Парэчча Гродз. 2. Надзяваць. *Ярмо ложаць на вала і гаруць.* Кудзялянцы Шальч.

ЛАЖЫ'ЦЬ III *незак.* Пакладаць. *Канавал лажыў лашадзей, быкоў і свіней.* Гемзы Шальч.

ЛАЖЭ'ТНІК I *м.* Від загароды (у вадаёме для лоўлі рыбы). *Трэба лажэтнік здзелаць і наловім рыбы.* Жылі Іўеў.

ЛАЖЭ'ТНІК II *м.* Ручка лыжкі. *У лошцы за што дзяржацца — то лажэтнік.* Кузьмічы Люб.

ЛАЗ *м.* Адтуліна ў столі для праходу на гару. Дварчаны Паст.

ЛАЗА' *ж.* Лаза. *Куст лазэ вырас. Нарэш лазэ і кошык запляці.* Кіралі Шчуч. *Сусет усю лазу пасек у канаве.* Дварчаны Паст. *Лазою, ольхаю плялі частакол.* Грыкені Вільн. *Лаза ў нас за гарою есць.* Чычалі Швянч. *Лаза ў балоце расціць.* Рагулішкі Даўг. *Лозу дралі.* Вецярэвічы Пух. *З лазэ плятуць кашэ і палукашкі да воза.* Яцаўляны Сідр.

ЛАЗА'НКА, ЛАЗА'НЬКА *ж.*, ЛАЗА'НКІ, ЛАЗА'НЬКІ *мн.* 1. Крохкае печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе. *Лазанкі*

*рабілі так: муку мяшалі з вадою, трошка соды, раскачвалі і рэзалі на маленькія кусочкі.* Міратычы Карэл. *Лазанкі пячэм: мукі мяшаям з вадою, трошка соды, раскачаваям і парэжам на маленькія кусочкі. Лазанкі пяклі: малолі мак, саладзілі воду і налівалі на іх з семя малако. Посная куця: варачь кісель, лазанкі. Муку мяшаем з вадой, трошка соды, замяшаць цеста і раскачаць, парэзаць на кавалачкі — і гэто лазанькі пячэм.* Вострава Маст. *Лазанькі рабілі і пяклі.* Міратычы Карэл. 2. Галушкі з цёртай бульбы. *Лазанкі: таркавалі картошку, і мукі ў воду, скварылі.* Старыя Трокі Трак. 3. Локшыны. *Адна лазанка. Лазанкі з мукі кантовыя рабілі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лазанка — адна. Лазанкі робяцца так: цеста раскачваецца, як на блін, пакроіцца яно і варацца, тады на талерку і ядуць.* Ракаўскія Швянч. *Лазанькі пякуць: цеста раскачваецца, рэжыцца трохугольнікамі і варуцца, як макароны. Адна лазанька.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* польск. *łazanki* 'сорт локшын'.

ЛА'ЗАЦЬ *гл.* ЛА'ЗІЦЬ

ЛАЗБАВА'ЦЬ *незак.* Падглядаць пчол. *Лазбуюць — дастаюць мёт.* Жодзішкі Смарг. *Пчолы лазбавалі.* Магуны Паст.

ЛАЗБЕ'НЬ *м.* 1. Пасудзіна для мёду з ліпавай кары або з дрэва. *Абдзяруць кару з ліпу, шшыюць чатырохкантовы лазбень, вечко ў ім було.* Кузьмічы Люб. *Лазбень рабілі з ліпы. З лазбенем хадзілі па мйод у лес.* Пасека Ст.-Дар. *Лазбень дзе ваш?* Рудня Астравітая Чэрв. *Лазбень з ліпавай кары рабілі для меду. Наброў меду поўный лазбень. Лазбень — драўляная пасуда на мед.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. *перан. зневаж.* Няўклюда, расцяпа. *Лазбень ты!* Рудня Астравітая Чэрв., Чычалі Швянч.

ЛА'ЗІВА *н.* Прыстасаванне з вяровак для ўзнімання на дрэва. *Па лазіве падымаліся. Па лазіві падымаяцца барцялазы на борць.* Бакшты Іўеў. *На лазівах, на вяроўках лазілі лапаць пшчол.* Старыя Трокі Трак. *Лазіва — плецць, па якой лезлі на дрэва, вяроўка, па якой лазілі на дрэва. Лазіва — лазіць на дрэва, плецць і седзелка называюць лазіва.* Азяраны Раг.

ЛАЗІ'НА', ЛОЗЫ'НА *ж.* 1. зб. Куст лазы. *Астатняя хата, дзе лазіна́ расцець.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Галіна, прут з лазы. *Вазьмі лазіну, загані качара ў яму.* Кіралі Шчуч. *На лазіну чапаеш рыбу, як мала наловіш.* Лісна В.-Дзв. *Лазіно́й дам табе!* Бакшты Іўеў. *Вазьмі лазіну́, будзіш кароў падганяць.* Дварчаны Паст. *Вырызав лозыну.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол.∇ *Якый корч, такая лозына, якый батько, такая дытына.* Сіманавічы Драг.

ЛА'ЗІЦЬ, ЛА'ЗАЦЬ, ЛА'ЗІТІ, ЛА'ЗЫТЫ *незак.* 1. Узбірацца на што-н. ці апускацца ўніз. *Дзеці лазяць па дрэвах.* Кіралі Шчуч. *Лазіць па дрэвах: я лажу, яны лазюць.* Мярэц-

кія Глыб. *Па дрэвах лазілі.* Дварчаны Паст. *Лазя і лазя па дрэве.* Гемзы Шальч. *Кот лазая па дрэве. Ён лазаў па дрэве.* Паляцкішкі Воран. *Я лазыв на гольшыну.* Сіманавічы Драг. *На вышню вдвох лазылы.* Відзібар Стол. 2. Лезці праз што-н. *У дзяцінстве я любіў лазіць праз вакно раніцой.* Дварчаны Паст. *Трэба загарадзіць плот, а то сабакі лазяць.* Кіралі Шчуч. *Кышка круз окэнычко в комору лазыть.* Сіманавічы Драг. 3. Хадзіць па чым-н. *Чаго лазіш па гародзе?* Дварчаны Паст. *Лазае па расе. Чаго ты лазаеш па кутах?* Старыя Смільгіні Воран. *Ні лазайця па буракох.* Жылі Іўеў. *Чого вона лазыть по городы?* Сіманавічы Драг. 4. Сноўдацца. *Выдзе і лазае.* Паляцкішкі Воран. *Дэ ты так довго лазів?* Курашэва Чыж. *Лазыла абы чого од хаты до хаты.* Сіманавічы Драг.

ЛАЗНІ́К *м.* Зараснік лазы. *Адзін лазнік кала ракі.* Кураполле Паст. *Там адзін лазнік каля возіра.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лазнік — адна лаза.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛА́ЗНЯ *ж.* 1. Памяшканне, дзе мыюцца і парацца. *У лазні печка з камянёў.* Саланое Віл. *Пайду ў лазню.* Рыбчына Віл. *Лён сушылі ў лазні.* Быстрыца Астр. *Лён сушаць у лазні.* Кемялішкі Астр. *Сушылі ў лазнях лён.* Жодзішкі Смарг. *Сёня трэба выцепліць лазню. Буду лазню цепліць.* Дварчаны Паст. *Чаму ты ня ідзеш у лазню?* Груздава Паст. *Многа лазняў у нас.* Мярэцкія Глыб. *Лазня ў Сапацкіні была.* Новікі Гродз. *Раньша звалі лазня, а цяпер — байня.* Лісна В.-Дзв. *Трэба ісці лазні глядзець.* Альхоўцы Лях. *На цалую вёску дзве лазні. Я не меў лазні.* Грыкені Вільн. *Прад лазней галава будзе кружыцца.* Чычалі Швянч. *Пойдзям, палядзім нашу выгоду — усё тут на месцы: і сена, кармы, а тут лазня.* Ракаўскія Швянч. *Нада тапіць лазню.* Рагулішкі Даўг. *На станцыі ест лазня.* Парэчча Гродз. *У каго на беразе лазня.* Латыгаль Віл. *У лазні на палок лезуць парыцца. У лазні сені раздзяляюцца.* Солы Смарг. *Лазня — што мыяцца.* Кудзялянцы Шальч. 2. *перан.* Пакаранне. *Палучыла лазні ў карак.* Парэчча Гродз.

ЛАЗНЯ́К, ЛЫ́ЗНЯК *м.* Тое ж, што і л а з н і к. *Лазняк — дзе лаза, дзе лазы многа.* Галоўні Воран. *Лазняк — дзе лозы адны растуць.* Граўжышкі Ашм. *У нас лазняку зусім німа.* Дварчаны Паст. *Там такый лызняк, нычого будэ косыты.* Сіманавічы Драг.

ЛАЗО́ВЫ, ЛОЗО́ВЫЙ, ЛУЗО́ВЫ *прым.* Які зроблены з лазы ці мае дачыненне да яе. *Лазовыя лапці з лазы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лазовы дубец.* Дварчаны Паст. *Кашалкі плятуць з лазовых вітак.* Солы Смарг. *Лазовыя лыкі дралі, звязка лыкі.* Івашкаўцы Смарг. *Лозова кора.* Сіманавічы Драг., Відзібар Стол. *Лузова кура.* Радастаў Драг.

ЛАЗО́ЎКА *ж. бат.* Від канюшыны. *Лазоўка — такая ка-*

*ношына, бальшая расце, цвяты такія, што пчолы мёду не могуць дастаць; яны па гэтай маленькай.* Швэды Вільн.

ЛАЗО'ЎНІК *м.* Тое ж, што і л а з н і к. *Лазоўнік расце.* Кіралі Шчуч.

ЛАЗУ'РАК *м.* Сінька. *Лазурак быў куплёны.* Лайпушкі Ігн.; *парайн.* польск. *łazurek* 'тж'.

ЛАЗУРКАВА'ЦЬ *незак.* Падсіньваць. *У нас лазуркавалі бялізну. Я помню лазуркавалі кала нашай клаткі.* Ёдлавічы Брасл. *Адзення лазуркуюць.* Лайпушкі Ігн.; *парайн.* польск. *łazurkować* 'тж'.

ЛА'ЗЫ толькі *мн.* Дзверцы ў склепе. *Лазы — дзверцы ў сцяне склепа.* Груздава Паст.

ЛА'ЗЫТЫ *гл.* ЛА'ЗІЦЬ

ЛАЗЬБІ'НЫ *гл.* ЛА'ДЗЬБІ'НЫ

ЛА'ІЦЦА *гл.* ЛА'ЯЦЦА

ЛА'ІЦЬ *гл.* ЛА'ЯЦЬ

ЛА'ЙБА *ж.* 1. Вялікі воз для перавозкі сена. Дзягілі Мядз. 2. *перан. зневаж.* Тоўсты чалавек. *Гэта яе завуць лайба.* Ёдлавічы Брасл.; *парайн.* літ. *láiva* 'воз з кузавам'.

ЛАЙДАВА'ЦЬ *незак.* Гультаяваць. *Лайдуя — слаба робіць.* Быстрыца Астр. *Лайдаваць — слаба рабіць. Лайдуя — нічога ня робіць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛАЙДА'К *м.* Гультай. *Ён не лайдак які.* Быстрыца Астр. *Ты гэтакі самы лайдак, як і ён.* Дварчаны Паст. *Гэты лайдак лайдуя, слаба робіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Лайдакі культуры не маюць.* Солы Смарг. *Такый вжэ лайдак, ныц ны хочэ робыты.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *łajdak* 'тж'.

ЛАЙДА'ЧКА *ж.* Гультайка. *Я ні лайдачка якая.* Быстрыца Астр.

ЛАЙДА'ЧЫНА *м.* і *ж.* Гультай, гультайка. *Яны лайдачыны.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛАЙНІ'НА *ж.* Рэч з тканіны. *Лайніна ляжыць.* Рудня Чэрв. *Трэба мне лайніны памыць — трапкі, палаценцы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛАЙНО' *н.*, ЛО'ЙНЫ, ЛА'ЙНЫ, ЛА'ЙНА *мн.* 1. Адзежына, рэч з тканіны. *Каждая лайно нада паасопку мыць.* Кураполле Паст. *Лайно — адзежына якая-небудзь.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вазьмі якое-небудзь лайно надзень.* Рагулішкі Даўг. *Дай якоя лайно на плечы!* Палік Барыс. *Адно лайно звалілася.* Мішневічы Шум. *Лайно — калі адно. Лойны — уся адзежа, што трэба мыць. Трэба памыць лойны.* Саланое Віл. *Лойны памыла. Анно лайно: рубаха, кохта.* Мачаск Бярэз. *Лайны мылі. Лух робяць — трэба лайны мыць. Два лайны пашыла ці тры лайны.* Мярэцкія Глыб. *Лайны памыла ўчора.* Беразіно Докш. *Паварыш лайна з мучанікам, тады ў цэбар, і суткі цэлыя стаіць, аттуль вымаеш і папалошчыш, і яно чорнае, не пускае краскі.* Азяраны Раг. 2. *зб.* Бялізна. *Як*

*памочыш лайно, то б'юць пранікам. Нада памыць лайно.* Мярэцкія Глыб. *Прудзяць лайно ў бані.* Беразіно Докш. *Лайно каравая.* Палік Барыс. *Лайно памыла.* Ухвала Круп. 3. Посцілка, у якой што-н. носяць за плячыма. *Азьмі лайно і прынесі ношку сена.* Вялікія Аўцюкі Калінк.

ЛАКЕ'Й *м. гіст.* Стаячы лучнік. *У лакей утыкалі лучыну.* Мішневічы Шум.

ЛА'КНУЦЬ *незак.* Вельмі хацець. *Лакніць дужа піць.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* л а к т а́ ц ь.

ЛАКО'МА *прысл.* Прагна. *Лакома ясі.* Лука Нараўк.

ЛАКО'МЫ *прым.* Прагны. *Ён лакомы на чужое дабро; ён браў бы і браў — яму мала.* Кіралі Шчуч. *Ён лакомы, жадны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ні такая лакомая.* Граўжышкі Ашм.; *парайн.* польск. *łakomy* 'тж'.

ЛАКТА'ЦЬ *незак.* 1. Хлябтаць (праката, сабаку). *Сабака, кот локчыць малако.* Рагулішкі Даўг. *Разбэсціцца кот, малака ня локчыць.* Ракаўскія Швянч. 2. *экспр.* Многа і прагна піць. *Лэкчыш вотку гэту; хопіць ужо лактаць!* Дварчаны Паст. *Гарэлку локчуць. Лакталі віно.* Мярэцкія Глыб. *Лактаў гэту вотку.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* літ. *làkti* 'хлябтаць', руск. *лакать,* укр. *локати* 'тж'.

ЛА'КТЫ толькі *мн.* Седала. *Куры начуюць на лактах у куратніку.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *lãktos* 'тж'.

ЛАКУ'ШЫ толькі *мн.* Прыстасаванне для сушкі сена. *Лакушы рабілі: вершаліны дрэў рубалі, сукі каротка абрубалі і састаўлялі ўвярху, як козлы. На іх сушылі пошар, нацягвалі на лакушы.* Івашкаўцы Смарг.

ЛАКЧЫ'ВЫ *прым.* Прагны да яды. *Да яды натта лакчывы бывае чалавек і жывёла.* Гемзы Шальч.

ЛАЛО'ЎНІКІ, ЛАЛА'ЎНІКІ *мн.* Валачобнікі. *Лалоўнікі хадзілі, пеялі на першы дзень вялікадня. Лалоўнікі ў вялікую суботу дайней хадзілі, звалі лалоўнікі, ці валоўнікі.* Кураполле Паст. *На вельканоц пяюць, водкі, хто яек дасць, збіраюць лалоўнікі.* Чычалі Швянч. *Ідуць і співаюць лалайнікі.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *lalàuninkas* 'валачобнік'.

ЛАМАВА'ТЫ *прым.* Каляны (пра тканіну). *Той лантух такі каравы, ламаваты.* Альхоўцы Лях.

ЛАМА'КА *ж.* 1. Паламаная рэч. *Нейкія ламакі ляжаць, нехта паламаны стол выкінуў.* Дварчаны Паст. 2. Старая ці няякасна зробленая рэч. *Гэта ўжо ламака, а не стол, трэба новага купляць.* Дварчаны Паст. 3. *перан.* Няўмелы чалавек. *Ламака — чалавек, як ламака, зробя няўдаля.* Граўжышкі Ашм. 4. Церніца для першапачатковай апрацоўкі льну, канапель. *Ламакай толькі паламаць, а другая мяліца — чысцяць, тры бабы ломяць, а тры чысцяць. Ламака ламае трасту, а мяліца мне пасля ламакі.* Рыбчына Віл. *Была мяліца ла-*

*мака і чысцёха, мяліца ламака ломе лён, яна выдзеўбана.* Латыгаль Віл.

ЛАМА'НА *прысл.* На мясцовай гаворцы. *Можна красіва і ламана сказаць.* Судэрва Вільн.

ЛАМА'НКА *ж.* Від паляўнічай стрэльбы. *Узяў ламанку і пашоў у лес.* Жылі Іўеў.

ЛАМА'НЦЫ *мн.* Тое ж, што і л а з а́ н к а 1. *Ламанцы рабілі з мукі; туды соды, вады, раскачая на лішачкі і пячэ на скварадзе. Як спяклі ламанцы, елі з макам, намочаным і падсалоджаным.* Стральцы Гродз. *Пякуць ламанцы на куцю перад раждзжаством: вада і мука, раскачваюць тоненька, печ паліцца, на скавараду, здымаюць, крышаць, мелюць мак, засалодзяць і абліваюць скрышанае, і ядуць.* Пацаўшчына Дзятл. *Ламанцы тоненькія; на куццю перат раждзяством пякуць.* Дакудава Лід. *Напякла ламанцоў: мука, сода, вада, і пякуць на бляхах, ядуць з малаком. Ламанцы пякуць: цеста размяшаў натуга, замясіў гэта цеста, раскачаў, як макароны, потым шклянкаю нарэзаў, на скварaду, абліваюць жырам і паставяць у печ — называюць ламанцы.* Кіралі Шчуч. *Ламанцы рабілі з вады і мукі: раскачаяш тонянькія,градачкі вілкаю наробіш; елі з таўчоным намочаным макам.* Малахоўцы Бар.

ЛАМА'НЫ *прым.* У выразе: *Ламаны язык* — мясцовая гаворка. *Бульба — калі ламаным языком сказаць.* Відаўцішкі Вільн.

ЛАМАТА' 1. *зб. ж.* Ламачча. *Ламаты поўно, як дрова ці яблына апцярэблена.* Міратычы Карэл. *Ламата — дробныя палачкі.* Старое Сяло Зэльв. *Ламата ў кучы ляжыць.* Парэчча Гродз. 2. *м.* і *ж. перан.* Няўмелы чалавек. *Ламата ты!* Рыбчына Віл. *Ну і ламата якая!* Стральцы Гродз. 3. У выразе: *Есці ламату* — есці ўсё, што папала. *Маладыя былі, так ламату елі.* Масілавічы Сл.

ЛАМА'ЦЬ I, ЛАМА'ЦІ *незак.* 1. Ламаць што-н. *Ён ужо ламаў нагу ў тым годзе, а цяпер зноў паламаўшы нагу.* Беняконі Воран. 2. Церці лён, каноплі. *Каноплі ламалі.* Рыбчына Віл. *Мяліца-ламака ломе лён.* Латыгаль Віл. 3. Перагінаць і надломліваць салому ў снопе каля перавясла. *Шапку* [верхні сноп у малой укладцы снапоў] *будзяш ламаці і накрываці дзесятак.* Парэчча Гродз.

ЛАМА'ЦЬ II *незак.* Араць цаліну. *Цальнік ломяць і ў загон гаруць.* Рагалоўка Ліпск.

ЛАМА'ЧКА *ж. с.-г.* Прылада для пераціpання канапель, льну. *У ламаццы ламаюць каноплі, лён. Будземо ў ламаццы ламаць лён. Ламачка большу часць на каноплі. Дзесь у мяне стаіць ламачка і пераціpачка.* Баброўнікі Гарад.

ЛАМА'ЧЧА, ЛАМА'ЧО, ЛАМАЧЧО', ЛОМА'ЧЧЭ *зб. н.* 1. Тое ж, што і л а м а т а́ 1. *Спалі гэта ламачча!* Дварчаны

Паст. *Ламачо палілі ў лесе.* Альхоўцы Лях. *Ня гэткая ламачо палілі.* Саланое Віл. *Гэтэ ломаччэ трэба порубаты да в пучкы пов'язаты, будэ на повзымы рубку топыты.* Сіманавічы Драг. 2. *перан.* Мала прыгодны для будаўніцтва лес. *Гэто ломаччэ, а ны ліс! Чы ж з гэтого ломачча хату робыты!* Сіманавічы Драг.

ЛАМА'Ш *м.* Тое ж, што і л а й д а́ к. *Вот ламаш — толькі спіць, сябе не абмыя!* Кіралі Шчуч.

ЛАМБУ'К, ЛЫМБУ'К, ЛАМБЯ'К, ЛЭМП, ЛОМБ, ЛОМП *м.*, ЛАМБУКІ', ЛАМБУКЕ', ЛЫМБУКІ', ЛАМБЯКІ', ЛА'МБЫ', ЛАМБЭ', ЛЭ'МБЫ *мн.* 1. Сцябло. *Ламбук — ствол сланэчніка. Ламбы́ табаку. Боп абіраяш, ламбы́ астаюцца.* Дакудава Лід. *На доўгум полі адзін ламбук. Бабовіны — ламбукі, пруткі ад бобу. Ад маку лэмбы.* Альхоўка Навагр. *Ламбуке велькія. Адзін ламбук. Ламбэ — што табак рос. Ламбэ ад маку выкідаюць на потсціл. Ламбэ збіваюць — і ссеклі. Лэмбы велькія.* Кіралі Шчуч. *Ламбук слонэчніку, з маку. Ламбук і лісцё ў картофлі. Сухі лымбук.* Міратычы Карэл. *Бульба на ламбукі вырасла. Ламбы́ сланэчніка. Лэмп сланэчніка.* Жылі Іўеў. *Ломб у сланечніка дзеці зламалі. Ламбэ тутуна. Лэмбы ў сланечніка.* Галубы Маст. *Ламбы́ бурачныя. Адзін ломп.* Гемзы Шальч. *Ла́мбы буракоў.* Старыя Смільгіні Воран. *Лісця абрывае ад табаку, астаюцца ламбэ.* Пацаўшчына Дзятл. *Лэмбы маку.* Альхоўцы Лях. *Лэмбы ад зелля.* Каўняны Гродз. 2. Ліст бурака са сцяблом. *На бураках ламбукі.* Парэчча Гродз. *Выламаў ламбяк з бурака. Наламаў ламбякоў ад буракоў, абшморгаў ліст, пакрышыў і зварыў. Наламала ла́мбаў ад буракоў.* Гемзы Шальч. *Трудна прыучыць свіня да ламбякоў. Ламбякі — ад буракоў, буркавеня. Пакрышыў ламбякі і вару бацвіня.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Кветканоснае сцябло цыбулі. *Ламбякі цыбулі. Адзін ламбяк.* Паляцкішкі Воран. 4. Стрыжань птушынага пяра. *Ламбук цвёрды, з пяра.* Дакудава Лід. *Лэмбы цвёрдыя, яны с пер'я. Ламбук с пяра.* Альхоўка Навагр. *Лэмбы — атходы ад пер'я. Цвёрдая частка пяра — ламбук.* Альхоўцы Лях. *Ламбякі с пёраў. Адзін ламбяк.* Гемзы Шальч. *Ламбэ цвёрдыя с пяра, с крылаў і хваста птушкі, курыцы.* Галубы Маст.; *параўн.* літ. *lam̃bas* 'сцябло'.

ЛАМБУКАВА'ТЫ *прым.* Таўставаты, грубаваты (пра сцяблы). *Ламбукаватаё картапленё цяжко жаць.* Міратычы Карэл.

ЛАМБЯЧО'К *м. памянш.* да л а м б у́ к 2. *Аднаго ламбячка не астанецца.* Граўжышкі Ашм. *Ламбячкі ў бураках, іх варацць.* Кудзялянцы Шальч.

ЛАМІ'НА' *м.* і *ж.* Вялікі, мажны чалавек. *Гэткая ламіна грукнуўся — вялікі, здаровы ўпаў. Яна здаровая, такая ламіна́!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛАМО'К *м.* Куча галля ў лесе. *Палес на ламок.* Рыбчына Віл.∇ *Жылі як зайцэ — дзе ламок, там дамок.* Кузьмічы Люб.

ЛАМО'ЦЯ *н.* Ламачча, лам'ё. *Гэдакая ламоця на халеру!* Альхоўка Навагр.

ЛАМПА'ТКА *ж. памянш.* Лампадка. *Лампатка прад іконаю.* Вецярэвічы Пух.

ЛАМПЕ'КА *ж.* Кавалак дрэва. *Закладаецца лампека — кавалачак дзерава.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *lampẽkas* 'сырое дрэва'.

ЛА'МТУХ *м. пагард.* Абжора. *Ну і ламтух, ну і прэ.* Малахоўцы Бар.; *гл.* л á н т ý х.

ЛАНАВА'ЦЦА *гл.* ЛЕНАВА'ЦЦА

ЛА'НДЫШ, ЛА'НДАШ *м. бат.* Ландыш. *Ландыш у лесі, белы цвяток, лісткі шылаваценькія, зялёныя.* Кіралі Шчуч. *Ландыш пахнючы.* Беразіно Докш. *Ландыш пахне.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Ландыш на дзве лісцінкі расцець і цвяток белы, пахучы.* Валынцы В.-Дзв. *Ландаш белы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ландашы беленькім цвіцят у бару.* Навікі Лудз.

ЛАНДЫ'ШЧЫХА *ж. зневаж.* Дужая, мажная жанчына. *Ландышчыха — прызывалі здаровых баб, як лантух.* Кураполле Паст.; *парайн.* літ. *lìnda* 'гультай'.

ЛАНЕ'Й *прысл.* Раней. *Ланей я садзіла куру. Ланей не было жукоў.* Парэчча Гродз.

ЛА'НІ *прысл.* Летась. *Лані дачка з цаліны прыяжджала.* Вострава Маст.

ЛАНО' *н.* 1. Палажэнне рукі для накладання на яе бярэмя дроў. *Накладаем дрова на лано.* Вецярэвічы Пух. 2. Абярэмак. *Лано дроў прынесла. Лано дроў набрала да нясу.* Пасека Ст.-Дар. *Набярэш лано дроў, на ток кладзеш.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Калені. *Андрэй і трымая на лане.* Вецярэвічы Пух. *Вазьмі яе на лано, прывыкла з лана ні злазіць.* Пасека Ст.-Дар. *Вазьмі дзіця на лано. На лане сядзіць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛА'НПА *ж.* Лямпа. *Ланпа такая высокая.* Пасіене Лудз.

ЛА'НТУ'Х *м.* і *ж.* 1. Сплецены з вяровак мех для сена. *Лантýх — як мяшок для сена, вялікімі клеткамі пароблены.* Жодзішкі Смарг. *Лантýх з вяровак на сена для каня.* Асавец Віл. 2. Посцілка. *Шылі лáнтухі на шэсць полак роўно і ўдоўш і папярок. Лáнтухі былі белыя, а после сталі друкаваць, ён каравы, ламаваты, гэто набіваны наверх, а белы — пад спод і казалі коўдра. Лáнтух белы із льну, а патом сталі ткаць у дубальты, у чатыры ніткі, наверх выходзіць стужачкамі, называецца дзяружка.* Альхоўцы Лях. 3. *перан.* Гультай. *Такі лантýх, ляніцца рабіць.* Магуны Паст. *Лантýх ты!* Жодзішкі Смарг. *Лáнтух — гультай, гультаяваты да работы чалавек. Ах лáнтух ты, чаго ляжыш! Ну, лáнтух гэта, наесца і ляжыць.*

Kурaполле Паст. *Не пайду ла́нтуху гэнаму рабіць. Такая апушчоная баба, бяз дзела, як ла́нтух, баба, спіць, пакуль хочыць.* Саланое Віл. *Ах ты, ла́нтух!* Кіралі Шчуч. *Ляжыць, як ла́нтух.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ах, ты, ла́нтух!* Мярэцкія Глыб. 4. *перан.* Тоўсты і непаваротлівы. *Ланту́х — празываяць: разрабілася, як ланту́х, а рабіць ня хоча. Здаровая, як ла́нтух, ляжыць.* Кураполле Паст. *Разрабілася, як ла́нтух, а рабіць не хоча.* Рыбчына Віл. *Пашла, як ла́нтух — такая грамадная баба, тоўстая.* Кіралі Шчуч. 5. *перан.* Вялікі жывот. *Ідэ і своім ла́нтухом трасэ.* Сіманавічы Драг.; *параўн.* руск. *лантух* 'мяшок' (Фасм., II, 458).

ЛАНТУ'Ш *м. бат.* Тое ж, што і ла́ндыш. Мярэцкія Глыб.

ЛАНЦУ'Г, ЛАНЦУ'Х, ЛАНЦУ'К, ЛЫНЦЮ'Г *м.* 1. Ланцуг. *Прынясі ланцуг.* Старыя Смільгіні Воран., Рыбчына Віл., Альхоўцы Лях. *Сабакі былі на ланцугох.* Кудзялянцы Шальч. *Ланцуг у снег закапаў, і воўк не возьме.* Цяпінцы Віл. *Вазьмі ланцуг, наважай карову на пожне.* Дварчаны Паст. *Ланцуг вешалі на шыю карові, каб не ўцякла.* Пацаўшчына Дзятл. *Кароў навязваюць на ланцух. І на ланцугу гізавалі каровы.* Ёдлавічы Брасл. *Карову на ланцух павядзець і навяжыць. На ланцугу карову вядуць.* Лайпушкі Ігн. *Ланцугом навязвалі карову.* Лука Нараўк. *Ланцук прынёс.* Старыя Смільгіні Воран. *Возьму лынцюга да прыпалюю коня.* Сіманавічы Драг. 2. *перан.* Пляцёнка пражы. *У ланцугі збіраям аснову: робяць петлямі.* Старыя Трокі Трак. *Аснова здымаецца з снавідла ў ланцуг.* Грыкені Вільн. 3. Ключ, размяшчэнне птушак у час палёту. *Вун які велькі ланцух жураўлёў!* Гемзы Шальч.; *параўн.* польск. *łańcuch* 'ланцуг'>літ. *lenciū̃gas* 'ключ птушак пры палёце'.

ЛАНЦУЖО'К, ЛЫНЦЮЖО'К *м. памянш.* Ланцужок (упрыгожанне). *Ланцужок на шыі насілі.* Старыя Трокі Трак. *Ланцужок на шыі. Крыжык на ланцушку.* Солы Смарг., Чычалі Швянч. *В його булы часы на лынцюжку.* Сіманавічы Драг.

ЛАНЬ *ж. перан.* Малады, здаровы, выпешчаны чалавек. *Ляжаць дзве лані на лошку.* Кіралі Шчуч.

ЛА'ПА *ж.* 1. *анат.* Нага млекакормячых, птушак, насякомых і інш. *Бедны кот — лапу ўшчаміў у дзверы.* Дварчаны Паст. *Лапы ў курэй, лапамі раскошкаюць куры грады.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лапа ў рака, як ушчыпне.* Мсцібава Ваўк. *Заганялі кала ў лапу ваўчанёнку, і ваўчыха адносіла іх далёко, пакуль не здохне, крычыць, абзываецца, і яна нясе яго.* Дзяніскавічы Ганц. *У лапах панёс арол ціплёнка.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Кыт бэз лапы, бэз однэйі. Гусяча лапа.* Дзмітравічы Кам. *Мняса табы на курячых лапах. Свыннячы лапы взавтра звару. Корова свэю лапыю в выдро стукнула, чуть молоко ны*

*розлыла.* Сіманавічы Драг. 2. *анат.* Ступня. *Лапу пракалола на цвек, моцна балела.* Малькуны Ігн. *Мне самыя лапы баляць.* Рагулішкі Даўг. 3. *экспр.* Нага чалавека. *Чы ж на твоі лапы гэты чырывыкы!* Сіманавічы Драг. 4. *перан.* Ножка ў мэблі. *В столі, в ослоновы, в ослынчыковы, крысловы, шкаповы, табурэтцы, в сундуці, в кроватюх по штыры лапы.* Сіманавічы Драг. 5. Галіна, сук дрэва. *Нарубаў яловых лапаў, зацягнуў драбіны і прывёс шыльніку. У елцы лапы. Еловыя лапы і суке еловыя.* Кіралі Шчуч. *У хвоі лапы, кастрыца з хвоі злятае.* Пацаўшчына Дзятл. *Апціналі лапы еліны і гарадзілі частакол.* Мсцібава Ваўк. *Дзеравіна глатка·да самых лапаў. Сук, ці лапа, лапіста, сукавата дзеравіна. Дзе лісця на дрэве растуць, там лапы.* Альхоўцы Лях. *Лаза апусціла лапы. Нагнуў лапу гарэшыны і адламаў.* Міратычы Карэл. *Яловых лапаў прыняслі. Лапамі закрыецца. Адсек адну яловую лапу.* Гемзы Шальч. *Яловыя лапы. Дубовыя лапы.* Дзяніскавічы Ганц. *Лапы ў ёлцы.* Азяраны Раг. 6. *перан.* Ручка ў плузе, сасе або яе частка. *У сасе паліца е, ручкі дзеравяныя, а лапа — жалезная часць ручкі ў плузе.* Альхоўцы Лях. *У плузе ручкі; уся ручка — лапа, як к плугу прыклеплена; лапа поўнасцю ўся.* Дзяніскавічы Ганц. 7. *гіст.* Удар лінейкай па далоні. *Калісь настаўнік лапу біў, лапаў с пяць дась, то далонь спухня.* Мсцібава Ваўк. *Даўней у школі лапу білі лінейкай.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бало, як дасьць лапу, то тыхо сыдітымэш.* Сіманавічы Драг. ◇ *Даць у лапу* — даць хабар. *Некалі, як у лапу дасі, дык добра лечыць.* Альхоўка Навагр.

ЛАПА'НКА *ж.* 1. Пастка. *Лапанкі рабілі па лясу.* Быстрыца Астр. 2. у знач. *прысл. лапа́нкай.* У час аблавы. *Лапанкай немцы злапалі брата.* Гемзы Шальч.

ЛАПА'ТА *ж.* 1. Хлебная лапата. *Лапата — што хлеп садзіць.* Вострава Маст. *Лапата — хлеб сажаць.* Беняконі Воран. *Каля печы з лапатай завіхаецца маці.* Дварчаны Паст. *Лапатай дзеравяннай хлеб садзяць, кілаграма чатыры бохан і болей, крыжыка зробяць на першым бахане.* Пацаўшчына Дзятл. *Лапата — гдзе хлеб садзюць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лапата — хлеп садзілі ў печ. На лапату — і ў печ.* Старыя Трокі Трак. *Была лапата хлеп пячы.* Малькуны Ігн. *Лапата — як хлеб пяклі.* Чычалі Швянч. *Тъкая лъпата — хлеп на пот содзюць.* Філіпаўцы Красл. *Да вайны бляхаў не было, была лапата, вымятуць памялом, і такую булку на лапаці загладзяцца, і хлеп упечэн.* Бброўнікі Гарад. *Лапата на доўгум чаранку, зроблена з дзерава хлеб саджаць.* Лука Нараўк. 2. Драўляная лапата, акаваная жалезам, для расчысткі снегу. *Робляна з дзерава, абкована бляхаю, снег адкідаць лапата.* Лука Нараўк. 3. Шуфель. *Лапата — завуць шуфіль, пясок, снег аткідаць, насыпаць тарфу.* Ёдлавічы Брасл. 4. Рыдлёўка. *Даўней звалі рыдлёўка, а цяпер — лапата.* Руд-

ня Астравітая Чэрв. 5. *перан. экспр.* Магіла. *Лапата мяне вылячыць. Лапата мне зубы ўставіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 6. Прылада для выраўноўвання саломы пры пакрыцці страхі. *Лапатай раўнуяш салому, калі крыяш страху.* Магуны Паст. *Страху лапатай падганяюць.* Гемзы Шальч. 7. Шпала. *Лапаты пад рэйкі ложацца.* Гемзы Шальч.

ЛАПАТА'ЦЦА *незак.* Абгаворваць. *Другі лапатаіцца, а ён не любя лапатацца.* Гемзы Шальч.

ЛАПАТА'ЦЬ *незак.* 1. Гаварыць недарэчнае, балбатаць. *Лапатня якая: сядзіць і лапоча, і лапоча. Што я буду лапатаць?!* Старыя Трокі Трак. *Языкам лапачу.* Міратычы Карэл. *Ён лапоча абы-што.* Гемзы Шальч. 2. Гаварыць, размаўляць. *Старыкі лапочаць па-просту.* Відаўцішкі Вільн. *Я ўжо лапачу тады.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 3. *перан.* Грукатаць. *Трактар лапоча.* Вецярэвічы Пух. 4. Скубці траву, дрэнна касіць (пра няякасна адкляпаную касу). *Каса лапоча.* Масілавічы Сл.

ЛАПА'ТАЧКА *ж.* 1. Мешалка. *Лапатачка — выбіраць тоўчаную картоплю, цесто.* Мсцібава Ваўк. 2. Дэталь калаўрота. *Лапатачка на оську надзявалася, і круціць кола.* Гемзы Шальч.

ЛАПА'ТКА I *ж.* 1. Прылада для вымання скаварады з печы. *Лапаткай вымаюць скварады.* Кемялішкі Астр. *У нас не пякуць чапялою, а толькі лапаткай.* Кіралі Шчуч. *Яна лапаткай бліны пячэ.* Кудзялянцы Шальч. 2. Мешалка. *Лапаткай мяшаю.* Мачаск Бярэз. 3. Тое ж, што і л а п а́ т а 6. *Лапатка да крыцця даху.* Старыя Трокі Трак. 4. Прылада для снавання красён. *Дай лапатку, пайду снаваць кросна.* Кіралі Шчуч.

ЛАПА'ТКА II *ж. анат.* Лапатка. *У каровы кумпакі два і лапаткі дзве.* Грыкені Вільн. *У мяне калацё пад левую лапатку і ў плячах калаццё.* Альхоўка Навагр. *Кумпяк — задні, лапатка — пярэдняя.* Солы Смарг.

ЛАПА'ТКІ *мн. бат.* Тонкі, з неразвіўшыміся зернямі струк гароху. *Гарох ужо перацвіў, ужо лапаткі ёсць.* Альхоўцы Лях. *Высахлі ўжэ ў гарохаўю лапаткі.* Верхлессе Крын.

ЛАПАТЛІ'ВЫ *прым.* Балбатлівы. *Алеся гарлата, лапатліва.* Малахоўцы Бар.

ЛАПА'ТНІК *м.* Той, хто вырабляў драўляныя лапаты. *Лапатнік рабіў лапаты хлеб саджаць.* Мачаск Бярэз.

ЛАПАТНЯ' *м.* і *ж.* Балбатун. *Лапатня якая: сядзіць і лапоча, і лапоча.* Старыя Трокі Трак.

ЛАПАТО'К *м.* Зазубіна. *Лапаткоў у касе нарабіў.* Малахоўцы Бар.

ЛАПАТУ'Н *м.* Тое ж, што і л а п а т о́ к. *Пераб'е малатком касу і зробе лапатун. Лапатуны ў касе. Нагнаў лапатуноў у касу і не косе.* Відаўцішкі Вільн.

ЛАПАТУ'ХА I *ж.* Тое ж, што і л а п а т о́ к. *Лапатуху нагнаў на касе.* Жылі Іўеў. *Лапатухі — зазубіны, зазоры на лязе*

*касы.* Масілавічы Сл. *Лапатуху набіў — зазубіў касу.* Гайна Лаг. *Лапатуху ўвагнаў у касе.* Номікі Бабіц.

ЛАПАТУ'ХА II *ж.* Балбатуха. *Яна такая лапатуха, як і я.* Парэчча Гродз.

ЛАПАТУ'ШКА *ж. памянш.-ласк.* да л а п а т у́ х а II. *Лапатушка та лепей, як балтун.* Баброўнікі Гарад.

ЛАПА'ТЫЙ *прым.* Шыракалісты. *Хорошэ лапатэ жэто.* Дзмітравічы Кам.

ЛАПАЦЕ'НКА *ж.* Планка з адтулінай, у якую ўстаўляецца верхні канец млёна. *Лапаценка ў жорнах.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛАПАЦЕ'НЬ *м.* 1. Тое ж, што і л а п а ц е́ н к а. *Лапацень у жорнах.* Мярэцкія Глыб. *Лапацень у жарнах.* Янова Рас. 2. *перан.* Балбатун. *Ах ты, лапацень!* Рыбчына Віл.

ЛАПА'ЦІШЧА *н.* Драўляная ручка ў рыдлёўцы. *Зламала лапацішча, нада новае дзелаць. Лапацішча паламалася.* Мішневічы Шум.

ЛА'ПАЦЬ *м.*, ЛА'ПЦІ *мн.* Лапаць (від абутку). *Лапці плялі.* Рыбчына Віл. *Усе лапці насілі.* Саланое Віл. *Мой бацька ў дзяцінстве насіў лапці.* Дварчаны Паст. *Лапці с аборак.* Мярэцкія Глыб. *Лапці сплецены із ліпы і патшыты альбо скураю, альбо халстом, із длінныімі аборкамі, каторыя закручваліся да калена.* Альхоўка Навагр. *Лапці з лыку плялі.* Ёдлавічы Брасл. *З лыкаў лапці.* Швэды Вільн. *Ліповыя лапці.* Грыкені Вільн. *Лапці дзелалі з лыкі ліповай і зацягівалі аборы; анучы, трапкі накруцяць аборкамі, сав'юць ногі, і так хадзілі.* Рагулішкі Даўг. *Лапці — троха шліхатней сказаць, а пасталы — па-даўнейшаму.* Парэчча Гродз. *У лапцёх хадзілі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.▽ *Лапці мае — чатыры аборкі, хачу — дома заначую, хачу — у Ягоркі.* Валынцы В.-Дзв.

ЛА'ПА'ЦЬ *незак.* 1. Лавіць. *Хадзіў рыбу ла́паць. Ла́паюць рыбу.* Вялікія Баяры Шчуч. *Кошка ла́пае мышэй, шчурой.* Лука Нараўк. *Натта мой папа любіў лапа́ць рыбу. Лёт прарубалі і будзя рыбу лапа́ць.* Старыя Смільгіні Воран. *Лапа́й ты гэту карову.* Паляцкішкі Воран. *Лапа́лі ліса, той ліс паабдзіраў, ні зналі, што шалёны.* Жылі Іўеў. *Будзя лапа́ць рыбу. У бухця рыбу лапа́ў. Лапа́ць курыцу трэба.* Быстрыца Астр. *Карову лапа́лі на полі. Венцір, што рыбу лапа́ць.* Кіралі Шчуч. *Кот лапа́я мыш, злапаў мыш. Там саджалка, туды хадзілі рыбу лапа́ць. Хадзіў рыбу лапа́ць, цэлу балею налапа́я.* Вострава Маст. *Бацян жабы лапа́я.* Кудзялянцы Шальч. *Хадзілі ракі лапа́ць. Рэка была, рыбу лапа́лі.* Старыя Трокі Трак. *Цялёнка лапа́лі-лапа́лі і не злапалі. Тут лапа́юць рыбу.* Парэчча Гродз. *Рыбу лапа́юць.* Сакаляны Сакол., Крынкі Крын., Воўкуш Ліпск. 2. Аграбаць пчаліны рой. *Борці былі ў лясу, на лазівах лапа́ць пшчол лазілі.* Старыя Трокі Трак. 3. Хапаць, мацаць. *Валасы ла́паў. За твар ла́паю.* Альхоўка

Навагр. *Лáпаю за сцяну і так іду.* Саланое Віл. ◊ *Лапáць языком* — гаварыць недарэчнае. *Яны пачалі лапáць языком.* Саланое Віл.; *парайн.* польск. *łapać* 'лавіць; хапацца'.

ЛА'ПАЧКА *ж.* Кручок у вочапе, за які чапляецца вядро. *Да ключкі прыбіта лапачка і чапляецца вядро.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *lãpė* 'тж'.

ЛАПЕ'КА I *ж.* Невялікі ўчастак, заняты чым-н., пад што-н. *Лапека бульбы вымакла. Там лапека яленцаў, арэшніку. Я найшла адну лапеку грыбоў, точна таўстухі.* Вецярэвічы Пух. *Найшла лапеку ягад, ды браць німа куды.* Азяраны Раг.; *парайн.* літ. *lõpas* 'тж'.

ЛАПЕ'КА II *ж.* Тое ж, што і л а м п é к а. *Закладаецца лапека — кавалачак дзерава.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛАПЕ'НІК *м. зневаж.* Той, хто ходзіць у латаным адзенні. *Ах ты, лапенік, у лапленым ходзіш.* Парэчча Гродз.

ЛАПЕ'НЬ *м.*, ЛАПЕ'НЯ *ж., зб. н.* 1. Тое ж, што і л á п і к. *Лапень прышываюць, дзе находзіцца дзірка. Лапеню прышыла.* Парэчча Гродз. ◊ *Лапень на лапень* — увесь пералатаны. *Вот падраны — лапень на лапень.* Парэчча Гродз. 2. Акраўкі ад старога адзення. *Дзе мае лапеня, я зраблю матус.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* літ. *lopiñys* 'тж'.

ЛАПЕ'ЧКА *ж. памянш.* да л а п é к а I. *Лапечка лесу за ракой.* Вецярэвічы Пух.

ЛА'ПІК *м.* Латка. *Лапікі по плечах.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* літ. *lõpas* 'лата'.

ЛА'ПІКЛА *н.* Тое ж, што і л á п і к. *Лапікла прышыць, чым латаць.* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* літ. *lopỹklas* 'тж'.

ЛА'ПІКЛО, ЛА'ПІКО *н.* Тое ж, што і л а п é к а I. *Бывае лапікло меньшэ галі. Бывае лапіко па аб'ёму меньшэ, галя больша.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛА'ПІНА *ж.* 1. Тое ж, што і л á п і к. *Дайце лапіну паляц завярцець!* Кіралі Шчуч. *Лапіну прышыла.* Істра Лудз. 2. *экспр.* Адзежына. *Усялякіх лапінаў накідаюць.* Міратычы Карэл. 3. Ануча. *Сабака з лапінай гуляя.* Кіралі Шчуч. 4. Тое ж, што і л а п é к а I. *Абарвала лапіну ягат.* Лісна В.-Дзв. *Лапіна на прагаліне, адна кудзёрачка лесу, паляначка ольхі малая.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. Лапіна на засеяным полі, дзе не ўзышло збожжа, або абсеў. *Лапіны на аўсе.* Багушэвічы Бярэз. 6. Месца, дзе пакачаўся конь. *Лапіна—дзе конь пакачаўся, ня ідзі па лапіні, а то кругі будуць па ліцу ці па руках.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* літ. *lopiñys* 'кавалак матэрыі, рыззё, ануча; прагаліна'.

ЛА'ПІНКА I *ж. памянш.* да л á п і н а 3. *Трэба гурке ўсыпаць у лапінку і палажыць у цёплае і прарасціць; пахрышчаныя гурке садзіла.* Міратычы Карэл. *Ідзём траіх, грошы ўвязаны ў лапінкі.* Малахоўцы Бар. *Як робіць лух — насыпая*

*ў лапінку попелу, звяжа — і папяльнік.* Альхоўцы Лях. 2. *памянш.* да л а п е́ к а I. *Лапінка лесу — кудра.* Багушэвічы Бярэз.

ЛА'ПІСТЫ I *прым.* Галінасты. *Лапіста дзеравіна на полі і ў лесе расце.* Міратычы Карэл. *Лапісты верх у дзеравіне. Лапіста бяроза — многа галля.* Альхоўцы Лях.

ЛА'ПІСТЫ II *прым.* Плямісты. *Пастаў у печку — то яна* [майка] *зробіцца лапіста.* Навасёлкі Свісл.; *парайн.* літ. *lõpas* 'пляма'.

ЛА'ПІЦЬ *незак.* Латаць. *Бяры голку, навучу лапіць, вялікая дзеўка, а не ўмееш.* Беразіно Докш.; *парайн.* літ. *lópyti* 'тж'.

ЛА'ПІЧАК *м. памянш.* Акравак. *Сукенку пакраіла, а лапічкі дзецям аддала гуляць.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* л а́ п і к.

ЛА'ПКА *ж.* 1. *анат. памянш.* да л а́ п а 1. *Лапкі ў гусей і ў качак лапкі.* Кіралі Шчуч.∇ *У цябе, жапка, чатыры лапкі.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Кісць рукі. *У лапках крой не работала, рукі млелі. Я прыстану чыста.* Рагулішкі Даўг. 3. Тое ж, што і л а́ п а 6. *Ручкі ў сасе называюцца лапкі.* Альхоўцы Лях. 4. Дэталь калаўрота. *У калаўроце лапка — адзін канец да восі, другі — да педаліка.* Ёдлавічы Брасл. *У калаўроце лапка паламалася.* Баброўнікі Гарад. 5. Тое ж, што і л а п а ц е́ н к а. *Лапка ў жорнах, прыб'е і ўстаўляе меленіс.* Старыя Смільгіні Воран. 6. Лыжка для надзявання абутку. *Дзе тая лапка, што я туфлі абуваю?* Парэчча Гродз. 7. Матыка. *Лапкай буду акопваць бульбу.* Мярэцкія Глыб. 8. Галінка хваёвага дрэва. *Лапкі яловыя, а на лапках шышкі растуць.* Рыбчына Віл. *Яны паехалі ў лес за яловымі лапкамі. Адламаў лапку.* Дварчаны Паст. *Ліжаў чалавек, лапкамі прыкрыты.* Кураполле Паст. *Лапкі ядловыя.* Беняконі Воран. *Падголено дзерава стаіць у лесе. Яго падцярэбліваюць, а лапкі — ды плот гародзяць.* Міратычы Карэл. *Наламалі лапкаў. Даўней лапкі слалі пад ногі.* Ёдлавічы Брасл. ◇ *Даць у лапку* — даць хабар. *Трэба было ў лапку даць.* Гемзы Шальч.

ЛА'ПЛІНЫ *прым.* Латаны. *Лаплінуюю насіла адзежу.* Палік Барыс.; *гл.* л а́ п і ц ь.

ЛА'ПНУЦЦА *зак.* Схапіцца. *Яна, мусі, вот так лапнулася за твар. Гэдак яна лапнулася рукой за ліцо.* Саланое Віл.

ЛА'ПНУЦЬ *зак.* Схапіць. *Яна лапнула за шэю. Пажар быў, яна лапнула рукой, дык усё ліцо чырвоная, аш сіняя.* Саланое Віл.; *парайн.* літ. *lápt* 'цап, хап'.

ЛАПУ'Н *м.* Тоўсты пульхны блін. *Лапуны пяклі: зварыш бульбы с шалупінамі, а тады налупіш, у ступі стаўчэш і пячэш, з мукой вытаўчыш і за таўкачом цягніцца.* Саланое Віл. *Я ім лапуной напяку. Лапун — блін таўсты.* Валынцы В.-Дзв. *Лапун на скаварадзе пякуць.* Масішкі Красл. *Лапуны з жмы-*

*хі пяклі.* Мішневічы Шум.; *параўн.* літ. *lapūnas* 'ліст папаратнікавых', *lapūnis* 'такі, як ліст'.

ЛАПУ'Х *м.*, ЛАПУХА' *ж. бат.* 1. Лопух. *На лапуху калючыя дзяды. На лапух нешта паўліяла, мала яго цяпер.* Быстрыца Астр. *Ля плоту лапух.* Дварчаны Паст., Ёдлавічы Брасл. *Як галава баліць, апкладваюць лапухамі і перастае балець.* Солы Смарг. 2. Капытнік. *Лапух рвалі і свіня кармілі.* Парэчча Гродз. 3. Лотаць. *Лапух расце на мокрым месці.* Каўняны Гродз. *Лоней гэтаю парою ўжэ лапух цвіў.* Яцаўляны Сідр. *Лапуха жоўтая.* Лісна В.-Дзв. *З берагу лапуха расцець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лапуха — лісця зялёнінькія, а цвяточкі жоўцінькія.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Лапуха — лісцікі круглыя, жоўтым цвіце, свіня едзят.* Навікі Лудз.; *параўн.* польск. *łopucha*, руск. *лопух* 'тж'.

ЛАПУ'ШКА *ж.* Хабар. *Лапушку нада даць.* Kураполле Паст.; *гл.* л а́ п а.

ЛАПУ'ШНІК *м. бат.* Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Лапушнік на балоце.* Мярэцкія Глыб. *Лапушнік цвіціць жоўтым.* Кураполле Паст.

ЛАПУШО'К *м.* Пялёнка.∇ *Адзін у лапушку, а другі ў трыбушку.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *lopinȳs* 'пялёнка; вялікая хустка'.

ЛАПУШЫ'СТЫ *прым.* Лапушны. *Капуста наша лапушыста. Рэцька лапушыста.* Вострава Маст. *Лапушыстая салата.* Саланое Віл.

ЛАПЦЁЎКА *ж.* Матэрыял, якім падшывалі лапці. *Лапцёўкай падшывалі лапці.* Дакудава Лід.

ЛА'ПЦІКІ *мн. памянш.* Абутак, плецены кручком з нітак. *Лапцікі вязала кручком.* Малахоўцы Бар.

ЛАПЦЮ'Х *м.* 1. *зневаж.* Лапатнік. *Хто ў лапцях ходзіць, той лапцюх.* Жылі Іўеў. 2. *перан.* Апушчаны, занядбаны чалавек. *Лапцюх — апушчаны чалавек. Лапцюга ня відзіла.* Граўжышкі Ашм.

ЛАПЦЯВА'ТЫ *прым.* 1. Пляскаты. *Лапцяваты боп.* Рыбчына Віл. *Ёсць бобу дробнага, а наш лапцяваты.* Ёдлавічы Брасл. *Лапцяватая страха.* Рыбчына Віл. 2. *перан. экспр.* З шырокім пляскатым тварам. *Лапцяватая нехарошая дзеўка.* Рыбчына Віл.

ЛАПША'К *м.* Сорт бобу (буйны і пляскаты). *Боп — лапшак, ён шырокі.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *lãpas* 'ліст'.

ЛАПШУ'К *м. бат.* Абабак. *Лапшука знайшла.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *lepšiùkas* 'тж'.

ЛАПШЫ'ВА, ЛАПШЫ'ВО, ЛАПЧЫ'ВА *прысл.* Прагна есці, піць. *Есць лапшыва.* Мярэцкія Глыб. *Як яна есь лапшыва, з такім апецітам, што, здаецца, усё са стала змяцець.* Груздава Паст. *Лапшыва есць.* Малькуны Ігн. *Есць лапшыво.* Міратычы Карэл. *Натто есць лапшыво.* Навасёлкі Свісл.

*Лапчыва есць.* Рудня Астравітая.; *параўн.* літ. *lapčióti, lapnóti* 'прагна есці'.

ЛАПШЫ'ВЫ, ЛАПЧЫ'ВЫ, ЛАХЧЫ'ВЫ *прым.* 1. Прагны да яды, да піцця. *Лапшывы чалавек — гэта ўсё роўна, што прагавіты. О, гэта лапшывы чалавек — гэта ўсё роўна, што пражорлівы.* Груздава Паст. *Лапшывая карова.* Глыбокае Паст. *Лапшывы многа есць. Лапшывая мая карова. Ён такі лапшывы, прагны.* Маґуны Паст. *Я ні лапшывая. Лапшывы — прагавіты на яду.* Рыбчына Віл. *Лапшывы есць лапшыва.* Мярэцкія Глыб. *Не набярэсся ёй яды — такая лапшывая карова. Вот карова лапшыва, яе хутка абдуне, як да канюшыны даляціць. Нейкі лапшывы, яму хоць што дай, ён з'есць.* Кіралі Шчуч. *Лапшывая — абжорыстая карова.* Пацаўшчына Дзятл. *Лапшывы — калі, як свіння, хватая. Лапшывы есць з апяцітам, натта хватая.* Альхоўка Навагр. *Лапшывы хватая, абы-што есць лапшыво і скаціна лапшыва, абжорыста. Да таго да ежы лапшывы.* Міратычы Карэл. *Лапшывы — еслі конь ці карова, кабан много есць, то кажуць: лапшывы конь, карова, і чалавек много есць — лапшывы. Лапшыва карова есць много.* Альхоўцы Лях. *А які ты лапшывы — хватая і хутко есць.* Навасёлкі Свісл. *Ён такі лапшывы да воткі.* Старыя Трокі Трак. *Конь лапшывы на сечку, багато есць, што яму наравіцца. Лапшывы конь аб'еўса, хто ахвотна есць, есць ахвотаю.* Дзяніскавічы Ганц. *Лапшывы чалавек, то абжорысты такі, нажарэцца, а потым хварэе.* Баброўнікі Гарад. *Ён такі лапчывы.* Жылі Іўеў. *Праготная* [прагная] *карова, лапчывая такая.* Жодзішкі Смарг. *У кага ты такі лапчывы ўрадзіўся?* Беразіно Докш. *Карова жырна, лапчыва карова, лапчывы многа есь.* Кіралі Шчуч. *Лапчывы спяшаецца есці. Карова лапчыва, і ўся жывёла, і на чалавека скажаць — лапчывы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Хто натта лапчывы, хоча гэтай воткі.* Гемзы Шальч. *Які ты лапчывы!* Глівін Барыс. *Лапчывы — жадны да яды, жадна есць. Лапчывы да яды — добра есць; кабан лапчывы; бывая і чалавек добра і многа есць, кажуць — лапчывы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лапчывая — жырлівая на яду.* Рудня Чэрв. *Хто ната лахчывы, хоча воткі, так ён не можа пасідзець, ён першы пачынае піць.* Гемзы Шальч. *Такі лапчывы, усё п з'еў, усё п пераеў.* Дакудава Лід., Пацаўшчына Дзятл. 2. Зайздросны. *Лапчывы на чужоя.* Рыбчына Віл. *Ой, скупы, лапчывы!* Пацаўшчына Дзятл.

ЛАПЯ'СТЫ *прым.* Стракаты, рознакаляровы (пра тканіну). *Лапястага купіла на сукенку.* Альба Нясв.; *параўн.* л а́ п і с т ы II.

ЛАР *м. с.-г.* Невялікая скрыня для збожжа. *Ідзі прынясі з лара жыта. Былі велькія лары.* Баброўнікі Гарад.

ЛА'САЧКА, ЛА'СОЧКА *ж. заал.* Ласка. *Ласачка некаторых коні любіць, папляцець косы і кончыкі завяжыць.* Сала-

ное Віл. *Ласачкі ў нас ест. Ласачка такая невелькая.* Грыкені Вільн. *Ласачкі былі белыя і рудзенькія.* Чычалі Швянч. *Пырыіхалы мы моста, да кынь і брыкнув, упав, а батько кажэ: «Можэ, ласочка дорогу пырыбігла?»* ▽ *«Ласочка, пасочка, дэ була? — В лісы.— Шо робыла? — Кросна ткала.— Шо заткала? — Кусок сала.— Дэ поділа? — Мышка ззіла.— Лясь. Плясь».* Сіманавічы Драг.

ЛАСЕ'ЙШЫ *прым. выш.* Смачнейшы. *На куццю боп варылі, удзень елі, цягаім і ядзём цэлы дзень, бо ўвечары ласейшая было. Сама ласейшая было. Сама ласейшая з'есць.* Груздава Паст. *Як ажаніўся, нявестка да печы старую ні пусціла, што ласейшага — з'есць сама.* Пузыры Мядз.

ЛАСІ'НЫ, ЛАСІ'НЫЙ *прым.* Які мае адносіны да лася, належыць яму. *Ласіны слет.* Дварчаны Паст. *У лесі цяпер вядуцца ласіныі вошы, цяпер ласёў многа.* Валынцы В.-Дзв.

ЛАСІНЯ', ЛАСЯНЁ *н.*, ЛАСЯНЁНАК *м.* Дзіцяня лася. *Ласіня перайшло дарогу.* Дварчаны Паст. *Ласянё пабегла за ласіхай.* Кіралі Шчуч. *Ласіха пашла з ласянёнкам.* Ёдлавічы Брасл.

ЛАСІ'ХА *ж.* Самка лася. *Ласіха стала ручной.* Жодзішкі Смарг. *Ласіха выйшла на дарогу.* Дварчаны Паст. *Пабегла ласіха.* Кіралі Шчуч., Ёдлавічы Брасл. *Ласіха вышла з лесу.* Масілавічы Сл.

ЛА'СІЦА *ж. заал.* Тое ж, што і л á с а ч к а. *Ласіца ўбегла ў хлеў.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Якубова Рас. *Ласіца па каню лазіць, пака пот пацячэ.* Дакудава Лід. *Ласіца па дрэве скача і ў хляве есць, як пярод коні дзяржалі, то грыву гэдак сайе каню, зробіць, як каўтун; ласіца ўбілася ў хлеў і звіла каню грыву.* Міратычы Карэл. *Ласіца запляце грыво, у косы пазаплятае. Ласіца ў начэ грыво спляце.* Баброўнікі Гарад.

ЛАСІ'ЦА *ж.* Тое ж, што і л а с í х а. *Ласіца выбегла.* Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Бачыў ласіцу з малым, яна часта выходзіць з лесу.* Вязынка Маладз. *Ласіцу ўбілі.* Кузьмічы Люб.

ЛА'СІЦКА *ж. заал.* Тое ж, што і л á с а ч к а. *Ласіцка на каня ўзлезла.* Якубова Рас.

ЛА'СІЧКА *ж. заал.* Тое ж, што і л á с а ч к а. *Ласічка — звярок, пат трыбушком беленькі. Ласічка перабігала с крушанкі на крушанку. Ласічка пітаецца мышамі. Ласічкі ў крушні вядуцца.* Кіралі Шчуч.

ЛА'СКА I *ж.* Праяўленне дабраты і пяшчотнасці. *Я на яго ласкі не мела.* Альхоўцы Лях. *Не трэба мне такой ласкі!* Дварчаны Паст. *Я цябе прашу ласкаю, паляжы ідзі ў бальніцу.* Парэчча Гродз. *Коня нэ трэба біті, трэба ласкою до його путходіті.* Курашэва Чыж.▽ *Ліпш пырыбудь гнів, чым ласку.* Сіманавічы Драг. ◊ *З ласкі* — па сваёй ахвоце, без аплаты.

*Робіт, як з ласкі.* Курашэва Чыж. *Робіті ласку* — выконваць работу без аплаты. *Вуон ласкі нэ робіт, бо мы ёму грошы платім.* Курашэва Чыж. *Жыті (быті) на чужуой лацці* — знаходзіцца на чыімсьці ўтрыманні. Курашэва Чыж. *Бэз ласкі* — без дапамогі. *Я сам зробіў, без ласкі.* Курашэва Чыж. *З ласкі на ўтіеху* — без прычыны. Курашэва Чыж. *Нэ ласка* — дастаткова, хопіць. *Як дам двацэть злоты, то нэ ласка.* Курашэва Чыж.

ЛА'СКА II *ж. заал.* Тое ж, што і л а́ с а ч к а. *Ласка ў каня грыву заплятая.* Жодзішкі Смарг. *Пад брухам у каровы ласка праляцела, і карова сапсавалася, не дае малака.* Ёдлавічы Брасл. *Ласка на жывёла не будзя сядаць.* Гемзы Шальч. *Ласкі бывают у хлявах, ані і лашадзей, і кароў мучают.* Рагулішкі Даўг.

ЛАСКАВЕ'Й *прысл.* Больш ласкава. *Ты ласкавей папрасі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЛАСКА'ВЫ, ЛАСКА'ВЫЙ *прым.* 1. Пяшчотны. *Ласкавая дзіця.* Жодзішкі Смарг. *Ласкавы хлопчык.* Дварчаны Паст. 2. Рахманы. *Ласкавая курыца.* Рыбчына Віл. *Была ласкавая курыца, да адзічэла.* Мярэцкія Глыб. 3. Ліслівы. *Цяля ласкава.* Стральцы Гродз.∇ *Ласкавае цялятка дзве маткі ссець.* Кураполле Паст. *Ласкавая ціля дзвюх матак ссець, а ніласкавая — ні аднэй.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ласкавэ тылятко дьві маткы сцэ.* Сіманавічы Драг.

ЛАСКУ'Т, ЛАСКУ'ЦЬ *м.* 1. Акравак. *Усё парвала ў ласкутэ.* Кіралі Шчуч. *Пашыла кофту, і астаўся ласкут.* Валынцы В.-Дзв. *Німа тут ласкута ніякага, можа, на печы астаўшысі?* Лайпушкі Ігн. *Усё на ласкуты парвала.* Рагулішкі Даўг. *З ласкуцеў зрабілі лялькі.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Шматок (скуры). *Ласкутамі кожа злазіла.* Ёдлавічы Брасл. 3. *экспр.* Бялізна. *Ласкуты нада памыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Памыла я сваe ласкутэ.* Кіралі Шчуч.

ЛАСКУЦІ' *мн.* Дробныя кавалачкі чаго-н. *У курыцы ў жалудке ўсякія ласкуці, жвірок.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛАСОВА'ТІ *незак.* Ласавацца. *Кэт ласуе.* Азарычы Пін.

ЛА'СОЧКА *гл.* ЛА'САЧКА

ЛАСТ *м.* Застаронак. *Сёлета цэлы ласт налажыў снапоў.* Ухвала Круп.

ЛА'СТАВАЧКА *ж. заал. памянш.-ласк.* да л а́ с т а ў к а. *Ластавачка з балота гняздо робіць, і адна ўкладвае, а другая балота носіць. Ластавачкі вараб'я замуравалі — адна сядзела, а другая балота насіла.* Кіралі Шчуч.

ЛА'СТАЎКА *ж. заал.* Ластаўка. *Ластаўка ляціць.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб., Альба Нясв., Грыкені Вільн., Чычалі Швянч., Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар. *Ластаўка зляпіла гняздо пад страхой.* Дварчаны Паст. *Ластаўка ўся чорная, дзе ў гумне, пры лаце.* Пацаўшчына Дзятл. *Ластаўка*

*пшчалы не бярэ.* Граўжышкі Ашм. *Ластаўка ў хляве гняздо зрабіла.* Ёдлавічы Брасл. *Ластаўкі, бываяць, лепяць з балота гняздэчка.* Солы, Нарбуты Смарг.

ЛА'СТАЎКІ, ЛА'СТАЎКЕ толькі *мн.* Рабацінне, вяснушкі. *Ён увесь у ластаўках.* Ракаўскія Швянч. *Ластаўке — рабацене на твары.* Парэчча Гродз.

ЛА'СТАЎЧЫНЫ *прым.* Які належыць ластаўцы. *Бачыш, як высока ластаўчына гняздо.* Дварчаны Паст. ◇ *Ластаўчына рабінне* — тое ж, што і ла́стаўкі. *Ластаўчына рабінне на ліцэ.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЛА'СТАЧКА *ж. заал.* Тое ж, што і ла́стаўка. *Ластачка лепіць гнёзды.* Пасіене Лудз.

ЛА'СТКА *ж.* Клін у нагавіцах. *Ласткі ў портках.* Малахоўцы Бар.

ЛАСУ'Н *м.* Той, хто вельмі любіць прысмакі. *Ласун мой зяць — стравы не есць.* Саланое Віл. *Вось дык ласун у мяне сын — усё варэнне з'еў.* Дварчаны Паст.▽ *А ласун такый, шо ну — всюды носа вын уткнув.* Сіманавічы Драг.

ЛАСУ'НІКІ *мн.* Прысмакі. *Ці пячэ твая баба такія ласунікі?* Вецярэвічы Пух.

ЛАСУ'НКІ *мн.* Тое ж, што і ласу́нікі. *На ласункі ёсь грошы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛА'СЫ, ЛА'СЫЙ *прым.* Які вельмі любіць прысмакі. *Ласа карова.* Каўняны Гродз. *Наш малый ласый до цюкэркув.* Сіманавічы Драг.▽ *Ласы кот на кілбасы.* Дварчаны Паст.

ЛАСЮ'К *м.* Малады лось. *Два ласюкі ўтапіліся — улезлі ў канаву і загразлі.* Гемзы Шальч.

ЛАСЯ'К *м. зневаж.* Лысы чалавек. *Ласяк ты!* Мярэцкія Глыб.

ЛАСЯНЁ, ЛАСЯНЁНАК *гл.* ЛАСІНЯ'

ЛАСЯНЯ'ТКА *н. памянш.-ласк.* Дзіцяня лася. *Ласі мызы пастаўлялі ля гэтага ласянятка.* Вецярэвічы Пух.

ЛАТ I *гл.* ЛАД

ЛАТ II *м. гіст.* Грашовая адзінка ў буржуазнай Латвіі. *Шэсць лат за мейсца ў бальніцы плацілі. Лат — пяць рублёў.* Рагулішкі Даўг.

ЛА'ТА I ж., ЛА'ТЫ *мн.* 1. Невялікі кавалак тканіны, вырабленай скуры. *Латы — кускі матэрыі. Куды мне сваё латы палажыць?* Крэва Смарг. *Астаюцца латы — шматы ад шыцця.* Рыбчына Віл. *Вічарамі сядзіш і латаяш латамі штаны.* Індра Красл. *Дай лату залатаць!* Солы Смарг. *Трэба латы прышыць на пяткі да валенак.* Дварчаны Паст.▽ *Лата на лаця, а ў лаця дзіра.* Дакудава Лід. *Лата на латы і дыркы ны знаты.* Сіманавічы Драг. 2. Старая адзежына. *Латы здавалі анучніку. Латы здавалі да жонду.* Быстрыца Астр. *Старое адзенне — латы.* Солы Смарг. *Во латы надзела!* Крэва Смарг. *Ныякыі одэжы ныма, одны латы.* Сіманавічы Драг.

3. *экспр.* Адзежа. *Штодзень латы свежыя, памытыя.* Навасёлкі Свісл. *Як беспараткі ў хаця, то латамі ўсё пазакідавана. Дзіця ў латы закутана.* Солы Смарг. *Схопіла свае латы і пошла.* Азарычы Пін. *Повный шкап латэй.* Сіманавічы Драг. 4. *экспр.* Бялізна. *Трэба латы памыць.* Старыя Смільгіні Воран. *Трэба помыті гразные латы.* Азарычы Пін. *Шэ трэба латы помыты.* Сіманавічы Драг. 5. Пляма іншай афарбоўкі ў жывёліны. *Рабая карова — латамі белымі і чырвонымі.* Быстрыца Астр. 6. *экспр.* Невялікі ўчастак сенажаці. *Трэба лату сенажаці скасіць на вос.* Граўжышкі Ашм.

ЛА'ТА II *ж.*, ЛА'ТЫ, ЛА'ТЭ *мн.* 1. *буд.* Жэрдка, якую прыбіваюць да крокваў. *Калісь будынкі без пілы сякерай будавалі, латы дзеравяннымі гваздамі прыбівалі.* Старыя Смільгіні Воран. *Латы клаліся па крохлах.* Магуны Паст. *Як паставяць крохлы і тагды латы.* Быстрыца Астр. *Да крохваў латы прыбіваюць.* Беразіно Докш. *Латы прыбівалі да ключоў, а салому на страсе прыціскалі прышывальнікамі, прывязвалі лазой.* Мярэцкія Глыб. *Латы прыбіваюць да ключоў.* Кіралі Шчуч. *Латы пакрываліся саломаю, калі крыюць страху. Латы пакрываліся дранкаю.* Стральцы Гродз. *Латы ёсць, адно грэбесту няма. Лата тоўстая. Грабясціна доўгая.* Пацаўшчына Дзятл. *Латы — як строяць дом, к кроквам латы прыбівалі. Латы прывівалі да кроклаў.* Валынцы В.-Дзв. *На крохвы кладуцца латы.* Солы Смарг. *Чаплялі ключы і да іх прыбівалі латы.* Альхоўцы Лях. *На кроквы латы прыбіваліся.* Мсцібава Ваўк. *Па ачэпах ідуць кроквы, а па іх — латы.* Малахоўцы Бар. *Латы гваздзямі прыбівалі.* Дзяніскавічы Ганц. *Як соломою крылі, то до латуов прывэзувалі кулікі.* Курашэва Чыж. *Латэ прыбэв. До лат увязуемо солому.* Дзмітравічы Кам. *Латы до кроквэй прыбыты.* Сіманавічы Драг. 2. Жэрдка, якою прымацоўваюць зверху салому на страсе. *Латы на страсе.* Магуны Паст. *Латы па саломе; лата, як жэрдзь, тонкая, прыкрэпляе салому.* Грыкені Вільн. 3. Бервяно, якім змацоўваюць плыт. *Круцілі дзюркі, у латы звязвалі зат і перад.* Рыбчына Віл.; *параўн.* польск. *łata,* ням. *Latte* 'тж'.

ЛАТАЖЫ'ЦЬ *гл.* ЛАТАШЫ'ЦЬ

ЛАТА'К, ЛАТО'К *м.* 1. Жалабок, па якім сцякае вада, сок. *Латак — па якім вада сцякае.* Быстрыца Астр. *Вада ў карыта па латаку збігала. На страсе латак.* Кураполле Паст. *Латак — такі жалабок, па ім сцякае сок з бярозы.* Мярэцкія Глыб. *Вада цячэць с крышы ў латак.* Валынцы В.-Дзв. *Латак дзеравяны, падвязаваўся, кап вада сцякала с крышы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Латак — дошчачка, па ёй сцякае сок з дрэва, вада з крышы.* Дзяхань Смал. *Трэба зрабіць латок, сок пусціць с клёну.* Дварчаны Паст.∇ *Вада ліецца, як з латака.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. *перан.* Тоўсты чалавек. *Які латак — гэта такі тоўсты дужа.* Жылі Іўеў.

ЛАТАКО'М у *знач. прысл.* 1. У выглядзе жалабка. *Збівалі доскі латаком.* Кураполле Паст. 2. Струменем. *З яго латаком цячэ вада.* Граўжышкі Ашм.

ЛАТАТЫ' *гл.* ДАВА'ЦЬ

ЛАТАЦЕ'НЁ *н.* Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Латаценё расце на мокрых месцах.* Старое Сяло Зэльв.; *параўн.* укр. л а т а т т я (Грынч., II, 347) 'тж'.

ЛАТА'ЦЬ, ЛАТА'ТЫ, ЛАТА'ТЭ *незак.* 1. Латаць. *Трэба латаць адзення.* Кемялішкі Астр. *Вось трэба штаны латаць. Праз увесь вечар латала штаны.* Дварчаны Паст. *Латаюць штаны.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вічарамі сядзіш і латаяш, латалі штаны.* Індра Красл. *Мо ты латала?* Кузьмічы Люб. *Лататыму ганавыці, бо дэсь попрорывав.* Сіманавічы Драг. *Латкою латают. Буду лататэ.* Дзмітравічы Кам. 2. Рамантаваць страху. *Буду страху латаць, каб не цякла.* Дварчаны Паст.

ЛА'ТАЧ *ж.* Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Латачы — жоўтым квітня, як толькі з зімы.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛА'ТАЧКА *ж. памянш.* да л а́ т к а I, 1. *Латачкі — недарэзкі, кусочкі матэрыялу, астаткі. Ператрусіць усе латачкі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛА'ТАЧКІ *мн. памянш.* Плямы іншай афарбоўкі жывёліны. *Ласіца ў латачкі: чорная і белая.* Вязынка Маладз.

ЛАТАЧО'К, ЛАТАШО'К *м.* 1. *памянш.* да л а т а́ к 1. Мярэцкія Глыб. *Латачок робяць сабіраць дажджавую ваду.* Магуны Паст. *Трэба зрабіць латачок, прасвідраваць у клёне дзюрку і загнаць латачок; з латачка цячэ сок у пасуду.* Гемзы Шальч. *Латачок — дошчачка, па якой сцякая сок з дрэва.* Данілавічы Дзярж. *Патстаўляюць латачок пад капеж.* Рудня Астравітая Чэрв. *Латачкі падвешувалі для сцёку вады.* Азяраны Раг. *Падсек бярозу, трэба пакласці латашок, сок будзе бегчы.* Мачаск Бярэз. 2. Жалабок у арфе. *Латачок у арфе.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛАТА'ШНІК *м.* Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Латашнік —на кветкі па поплаве яго рвалі, бо першы зацвітаў, і кураслеп зацвітаў, кветкі жоўтыя, а лісты круглыя, ён першы зацвітае на поплаве вясной, як карова галонна, то грызане і латашнік.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛАТАШЫ'ЦЦА *незак.* 1. Таптацца, аблюбоўваць месца. *Пятух латошыцца на тым месцы, гняздо робіць.* Бакшты Іўеў. 2. *перан.* Старацца, клапаціцца. *Латашылася, кап зарабіць. Латошыца — то б'ецца, стараецца.* Ракаўскія Швянч.

ЛАТАШЫ'ЦЬ, ЛАТАЖЫ'ЦЬ *незак. экспр.* 1. Рваць. *Налаташыў цвятоў і яблыкі латошыць, страсець.* Кураполле Паст. *Убійся ў сат і латашыў яблыкі.* Альхоўка Навагр. *Улезла ў сат і яблыкі латошыць і латошыць.* Вецярэвічы Пух. *Думаем ісці латашыць яблыкі.* Крынкі Крын. 2. Красці, грабіць. *Латашыў — скоро браў, краў.* Альхоўка Навагр. *Быва-*

*ла, прыедзя латашыць — дзерці, абчышчаць.* Граўжышкі Ашм. 3. Насіць што-н. вялікімі бярэмамі. *Мы латашылі сена — пярлі бярэмамі.* Солы Смарг. 4. Біць, лупцаваць. *Узяў рэмінь і латашыў па спіне.* Лісна В.-Дзв. *Латошыць тады яго палкамі.* Чычалі Швянч. *Прывёз жонку і пачаў яе латажыць. Латажыць — тое, што і біць. Златожыць яе.* Кіралі Шчуч. 5. Страляць па кім-н. *Парцізаны як сталі немцаў латашыць, страляць, а яны — паўсці.* Валынцы В.-Дзв.

ЛА'ТВА *прысл.* Лёгка, добра. *Ня так латва ў нас, ня сразу прывязуць гас.* Магуны Паст. *Гэта саўсём латва зрабіць. Латва — першая слова, яно абазначае — лёгка зрабіць. Латва табе жыць, табе матка памагае.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* польск. *łatwo* 'тж'.

ЛАТВЕ'Й *гл.* ЛАЦВЕ'Й

ЛАТВОВЕ'РНЫ *прым.* Легкаверны. *Латвоверны ён.* Номікі Бабіц.

ЛА'ТВЫ *прым.* Лёгкі. *Латва работа.* Номікі Бабіц.; *параўн.* польск. *łatwy* 'тж'.

ЛА'ТІНА *ж. буд.* Лата, жэрдка для замацавання саломы на страсе. *Одна латіна.* Азарычы Пін.

ЛА'ТІТІ *гл.* ЛА'ЦІЦЬ

ЛА'ТКА I *ж.* 1. Лапік. *Латка ест, палапіць трэба.* Гемзы Шальч. *Пашукай латку, трэба залатаць штаны.* Дварчаны Паст. *В ліетнікові на луокті трэба латку наложыті.* Курашэва Чыж. *Палят лён, на чырвону латку — і прыкладаюот, коб рожы не было.* Лука Нараўк. *Трэба дэ латку якую найты да рукава залататы.* Сіманавічы Драг. 2. Незасеянае месца, лапіна. *Латка на полі.* Глівін Барыс. ◊ *Прышыті латку* — зганьбаваць. *Такую латку ёму прышылі, што тэпэр і до роботы нэ можэ достатісе.* Курашэва Чыж.

ЛА'ТКА II, ЛА'ДКА *ж.* 1. Гліняная або драўляная міска. *Латка шурпатая, непаліваная. Гліняная латка была.* Кураполле Паст. *Латка — міска гліняная, яна чорная.* Ахрэмаўцы Брасл. *Латка — гліняная міска, паліваная.* Азяраны Раг. *Гліняныі ладкі былі.* Лісна В.-Дзв. *Ладкі — называлі чашкі такія з гліны, бліны разбівалі ў іх. Латка маленькая.* Пасіене Лудз. *Латкі шырокія, як чашкі, гліняныя, ладдзе складвалі. Латкі гліняныі, небальшыя з блінамі ілі на кашу.* Навікі Лудз. *Дзеравяныя латкі высокія, а мелкая, як талерка — лаханка.* Мярэцкія Глыб. 2. Цёрла. *Латка гліняная, у ёй масла калацілі.* Кураполле Паст. *Латка — для пражонкі, макалі бліны.* Валынцы В.-Дзв. 3. Пасудзіна з абабітымі краямі. *Латка — абабіты чарапок.* Валынцы В.-Дзв. 4. Невялікі збан з адной ручкай. Курашэва Чыж.

ЛА'ТКА III *ж.* Складка. *Былі спадніцы, то ў латкі гарнулі.* Семажава Кап.

ЛА'ТКА IV *ж.* Пярэбірак. *Наладзіў латку. Кладуць радом латкі.* Ісерна Слуц.

ЛАТО'ЖЫЦЬ *незак.* Заганяць рыбу ў буч. *Латожыш рыбу.* Бакшты Іўеў.

ЛАТО'К *гл.* ЛАТА'К

ЛАТО'КА *ж.* Гразкае месца. *Дзе гразка, нізкі, гразкі ченакос — гэта латока.* Беразіно Докш.

ЛА'ТОЧКА *ж. памянш.* 1. Невялікі кавалак тканіны. *Одрізала латочку.* Дзмітравічы Кам. *На латочкы позізала матерыю.* Сіманавічы Драг. 2. Сцірка. *Латочка стола стыратэ.* Дзмітравічы Кам.

ЛАТО'ЧЫШЧА *н.* Лежыва. *Латочышча — дзе ліжаў звер.* Янова Рас.

ЛАТРУ'ГА *м.* і *ж. зневаж.* Нягоднік, ліхадзей. *Зладзюга ты, валацуга, латруга!* Альхоўка Навагр.; *парайн.* польск. *łotr* 'тж'.

ЛАТУ'ННЯ *зб. н.* Старое адзенне, рыззё. *Колісь латуння понадзеюць і ходзяць.* Альхоўцы Лях.

ЛАТУ'ШАЧКА *ж. памянш.* Невялікая металічная пасудзіна. *Латушачка чыгунная, блінцы пяклі, ніская, круглая.* Солы Смарг.

ЛАТУ'ШКА I *ж.* 1. Тое ж, што і л а́ т к а II, 1. *Латушка — міска гліняная.* Быстрыца Астр. *Латушка — непаліваная міска.* Лайпушкі Ігн. *Латушка з гліны і дзерава. У латушку ўлей яды, стравы есць. Міскі не называлі, а латушкі; гліняныя былі і дзеравяныя латушкі, а еслі з ручкай, то коўш.* Рудня Астравітая Чэрв. *Латушкі рабілі з гліны, у ёй пяклі бапку.* Жодзішкі Смарг. *Гліняныя міскі былі, латушкі звалі.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і л а́ т к а II, 2. *Цёрліца і латушка — адно. У латушках маглі пячы яечню на крэсьбіны. У латушкі цёрлі мак, маглі яечню спячы ў ей. У латушках цёрлі мак, пяклі яечню.* Магуны Паст. 3. Тое ж, што і л а́ т к а II, 4. Баброўнікі Гарад. 4. Шырокая нізкая металічная пасудзіна для выпечкі хлеба. *Латушкі былі, што булкі пячы.* Солы Смарг.

ЛАТУ'ШКА II *ж.* Юшка ў коміне. *Закладзі комін латушкай!* Мішневічы Шум.

ЛАТЫ'ГАЛЬ *ж.* Прагаліна ў лесе. *Латыгаль между леса, голае месца, пусташ. Там латыгаль была такая сярод леса, нічога не расло.* Латыгаль Віл.

ЛАТЫ'Ш *м.* Вялікі збан з адной ручкай. *Такі з вухам, гліняны такі збанок; як велькі, то кажуць латыш.* Баброўнікі Гарад.

ЛАЎЖ *м.* 1. Куча галля. *У лесе навернута сукоў — як лаўж.* Малькуны Ігн. 2. *перан.* Куча нямытых рэчаў. *Лошкі нямытыя ляжаць, як лаўж.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *láužas* 'тж'.

ЛАЎЖО' I *н.* 1. Брудная бялізна. *Усё лаўжо перамыла: і*

*добрае, і дрэнае. Усё лаўжо там: і кашуля, панчохі, і анучы — усё ўходзіць у лаўжо. Мне ш трэба лаўжо мыць. Лаўжо — уся бялізна: рубашка, сукенка, хустка, кашуля пад нізом, рубашка навярху; усё лаўжо рабяцкая перамыла.* Груздава Паст. 2. *перан.* Лахманы. *Лаўжо — благая адзежа; гэтага лаўжа ўсюды поўна, пратаеш, а яго поўна.* Кураполле Паст. *Лаўжо — трапкі ўсякія. У лаўжы спіць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Лаўжа поўна ў складах — адзежа плахая.* Кураполле Паст.; *гл.* л а ў ж.

ЛАЎЖО′ II *н.* Ваўчынае логава. *Ваўчыныя норы, дзе ваўкі плодзяцца,— ваўчыная лаўжо.* Мярэцкія Глыб.; *гл.* л а ў ж.

ЛАЎЖО′ III *н.* Вузкая прадаўгаватая дошка, якой закрывалі бакавую адтуліну ў калодачным вуллі. *Лаўжо адкрываюць, мёт выбіраюць.* Глівін Барыс.; *гл.* л а ў ж.

ЛАЎЖЫ′ШЧА *н.* 1. Тое ж, што і л а ў ж ó II. *Лаўжышча воўк зрабіў і плодзіцца.* Кураполле Паст. 2. Лежыва. *Конь выкачаў во якое лаўжышча. Лаўжышча нашла, можа, воўк ліжаў. Лаўжышча — воўк ліжаў. О, якоя бальшоя лаўжышча нашлі! Як лось ліжаў — тожа лаўжышча, дзе свінні дзікія ліжалі — лаўжышча.* Валынцы В.-Дзв.

ЛА′ЎЗА *м.* і *ж. неадабр.* Бадзяга, валацуга. *Ой, лаўза ідзе.* Лука Нараўк.; *параўн.* літ. *láužas* ’тж’.

ЛА′ЎКА I, ЛА′ВКА, ЛО′ЎКА *ж.* Тое ж, што і л á в а I. *Прысядзь на лаўку, дзед, ногі, напэўна, прытаміліся.* Дварчаны Паст. *Лаўка — для сядзення.* Палік Барыс. *Лаўкі ў сцяну ўрубліваліся.* Азяраны Раг. *Лаўка ў хаце.* Баброўнікі Гарад. *На лавці сідят.* Курашэва Чыж. *Колесь у старых хатах буле лавкы.* Дзмітравічы Кам. *На задняй лоўца сядзелі.* Вецярэвічы Пух.∇ *Сварка ў хаце пад лаўкай* — жывучы ў адной хаце, нядоўга пасварыцца. Саланое Віл. *На чужой лоўца сяджу, таму і песні пяю.* Вецярэвічы Пух. *Махаіцьця, махаіцьця, дай пуд лавку схаваіцця — гэто віньк.* Сіманавічы Драг.

ЛА′ЎКА II, ЛА′ВКА, ЛО′ЎКА *ж.* Магазін, крама. *Пайду ў лаўку, куплю хлеба; скажуць: лаўка і крама.* Дварчаны Паст. *Яўрэі лаўкі дзіржалі.* Кураполле Паст. *Купіла ў лаўцы.* Саланое Віл. *Бегчы трэба ў лаўку.* Альхоўцы Лях. *Лаўка аткрытая, пойдзім у лаўку хлеба ці мыдла купім.* Ёдлавічы Брасл. *Ён лаўку (лоўку, краму) дзяржаў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Даўно на ўсе Дарогі адна лаўка была. І цяпер кагу: «Пайду ў лаўку».* Пасека Ст.-Дар. *Лаўка — гэто магазін. Купілі ў лаўцы.* Баброўнікі Гарад. *Копейкі віновата ў лаўцы.* Азарычы Пін. *Наша школа коло лавкі стоіт.* Смаляніца Пруж. *В лавці можна всё купіті.* Курашэва Чыж. *Сходжу в лавку, хліба куплю.* Сіманавічы Драг. *У лоўцы пераўчот.* Мачаск Бярэз.

ЛА′ЎКА III, ЛО′ЎКА *ж.* Тое ж, што і л á в а IV. *Лаўкі*

[у плыце] *збівалі гваздамі, а лаўку з лаўкай шарцугамі звязавалі. Лаўка — частка плыта на даўжыню аднаго берваяна. Дванаццаць лавак у адзін ганок.* Рыбчына Віл. *Гналі лаўкі і берагі разбілі, а цяпер пазарасталі.* Саланое Віл. *Плыт з семвосем лаўкаў.* Бакшты Іўеў. *Лаўка — у плыце.* Дакудава Лід. *Лаўка (лоўка) — чатыра с палавінай метры шырына і дзевяць метраў доўжыны па дванаццаць-чатырнаццаць бравён. Лоўкі, пазбіваныя, патанулі ў Пцічы.* Вецярэвічы Пух.

ЛА'ЎКА IV *ж.* 1. Папярочная баразна. *Лаўкі — папярэчныя барозны бульбы. Лаўка — адна баразна.* Мярэцкія Глыб. 2. Участак лесу. *Купіў цэлу лаўку лесу.* Дакудава Лід.

ЛАЎЛЯ' *ж.* Лоўля. *Лаўля рыбы бродам. Трэці чалавек за прамую палку нажымая брот да зямлі — гэта называюць лаўля бродам.* Альхоўка Навагр.

ЛАЎРЫ'Н, РАЎЛЫ'НЕЦ, ВАЎЖЫ'НЕЦ *м. рэліг.* Рэлігійнае свята, якое адзначаецца 10 жніўня. *Лаўрын, ці Ваўжынец — свята дзесятага серпня. На Раўлынца бацяны адлятаюць.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* літ. *Raulýnas*<*Laurýnas*< лац. *Laurinus* 'тж'.

ЛАЎШЭ'НЬ *м.* і *ж.* Ляўша. *Лаўшэнь — гэта хто левай рукой робіць. Лаўшэнь будзіць, еслі левай сіськой корміць.* Саланое Віл.

ЛА'ХА *ж.*, ЛА'ХІ *мн.* 1. Старая адзежына, рызман. *Лахі — адзежа старая.* Жылі Іўеў. 2. *перан. экспр.* Адзежына. *Купіла лаху ў магазыня.* Граўжышкі Ашм. 3. *перан. экспр.* Бялізна. *Перамыць сваі лахі нада.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Шматок. *Парвалі кашулю на лахі.* Парэчча Гродз.

ЛАХАДЗІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць недарэчнае. *Ён лахадзіць языком.* Міратычы Карэл. *Яна ходзіць па хатах і лахадзіць на ўсіх.* Солы Смарг.

ЛАХА'НАЧКА *ж. памянш.* Невялікая драўляная міска. *Лаханачка — місачка дзеравянная, елі з яе, купляли.* Солы Смарг.

ЛАХАНЫ', ЛАХАНЭ' *мн. бат.* Буякі. *Там лаханы растуць. Нарвала лаханоў.* Альхоўцы Лях. *Лаханэ большыя, дурэяш ад іх.* Малахоўцы Бар. *Лаханэ рвалі на балоці.* Тухавічы Лях.

ЛАХА'НЬ *ж.* Гліняная міска. *Гліняныя лахані былі, бапку, яечню пяклі ў іх.* Новікі Гродз.; *гл.* л а х а́ н ь к а.

ЛАХА'НЬКА, ЛАХА'НКА *ж.* 1. Тое ж, што і л а х а́ н ь. *Лаханька — з гліны міска, кажуць і ганчарова міска.* Альхоўцы Лях. 2. Балея. *Лаханька — выдаўбленая з дзерава бяльё мыць.* Тухавічы Лях. *Лаханка дзеравяная.* Бакшты Іўеў.; *параўн.* руск. *лохань* 'балея'.

ЛА'ХАЦЬ *экспр. незак.* 1. Тое ж, што і л а х а д з і́ ц ь. *Яна вечна лахае, не звяртай увагі.* Дварчаны Паст. *Вясковыя лахты лахаяць.* Кураполле Паст. *Ходзіць і лахае языком.* Га-

лубы Маст. *Лахаюць бабы.* Крэва Смарг. 2. Хадзіць без справы, бадзяцца. *Лахаіць па вёсцы, нічога ня робіць, так лахаіць с кута ў кут.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лахаіць баба па хатах.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛАХА'Ч *м. неадабр.* 1. Пляткар. *Лахач — што пляткуя.* Старыя Трокі Трак. 2. Бадзяга. *Цягаецца, як лахач.* Пацаўшчына Дзятл.

ЛАХАЧЫ', ЛАХАЧЭ', ЛОХАЧЭ', ЛОХАЧІ' *мн. бат.* Тое ж, што і л а х а н ы́. *Лахачы — ягады чорныя, ядуць, харашо варэнне зварыць.* Альхоўцы Лях. *У лесе хто за чым: хто за лахачамі, хто за брушніцамі.* Вялікі Краснік Пруж. *Лахачэ растуць у балоце.* Пацаўшчына Дзятл. *Лахачэ нараслі.* Тухавічы Лях. *Ходіла в лохачэ.* Азарычы Пін. *Ходыла в лохачі, то кошычок прынысла.* Сіманавічы Драг.

ЛАХАЧЫ'ЦА *ж. неадабр.* Бадзяга. *Цягаецца, як лахачыца.* Пацаўшчына Дзятл.

ЛАХВА' *ж.* 1. Раскоша, удача. *Во, лахва табе!* Быстрыца Астр., Дварчаны Паст. *Вот была лахва!* Альхоўцы Лях. *Табе лахва была.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ну табе сягоні лахва!* Кузьмічы Люб. 2. Хвальба. *Вот лахву мая, і маеш ты гэта за лахву* — маеш ты чым хваліцца. Гемзы Шальч.

ЛАХІ'НА *ж.*, ЛАХІ'НЫ *мн.* Ягада буякоў. *Лахіны; адна лахіна.* Масілавічы Сл. *Тамака велькія лахіны.* Навасёлкі Свісл.

ЛАХІ'ННІК *м.* Зараснік буякоў. *Тамака много лахінніку і велькія лахіны.* Навасёлкі Свісл.

ЛАХМА'Н *м.*, ЛАХМАНЫ' ЛАХМАНЭ' *мн.* 1. Тое ж, што і л а́ х а 1. *Скінь гэты лахман, няўжо не сорамна табе.* Дварчаны Паст. *Ад нажуткі адны лахманы асталіся. Нясець сабака красны лахман з грашмі.* Едлавічы Брасл. *Лахманы паначапляюць, кілбас назбіраюць, двох нясуць.* Альхоўка Навагр. *Панчошкі дзецям з лахманоў пашыяш, цёпла ім у хаця. Лахманы ўсякія падбіраяш і на ходнікі рвеш.* Старыя Трокі Трак. *Як дієт в лахманы одягнувсе і до люді пушов.* Курашэва Чыж. 2. *перан. экспр.* Тое ж, што і л а́ х а 3. *Лахманоў набралася, нада памыць.* Рагулішкі Даўг. *Нада мне лахманэ свае памыць.* Кіралі Шчуч. *Лахманэ памыла.* Вострава Маст. 3. Тое ж, што і л а́ х а 2. *Надзеў лахманоў на сябе. Горша ці лепша адзежа — усё раўно лахманэ.* Баброўнікі Гарад. *Лахманы на сабе.* Гемзы Шальч. *Дієті батькам навэть лахмана нэ куп'ят.* Курашэва Чыж. 4. *пагард.* Бednякі. *Богатырыэ з лахманамі навэть говорыті нэ хотіелі.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *łachman* 'рызман'.

ЛАХМАНЁ *зб. н.* Лахманы. *Збераш лахманё!* Жодзішкі Смарг.

ЛАХМАНО'К *м. памянш.* Невялікі кавалачак тканіны. *Дай мне лахманок завязаць паляц!* Гемзы Шальч.

ЛАХМА'ТЫ *прым.* Калматы. *Зусім ужо лахматы, пайшоў бы пастрыгся.* Дварчаны Паст.

ЛАХМАЦЕ'ЦЬ *незак.* Станавіцца калматым. *Мая карова лахмацеіць, худзеіць, равець, слёзы цякуць.* Валынцы В.-Дзв.

ЛАХМА'Ч *м.* 1. Тое ж, што і л а́ х а 1. *Падай мне які лахмач надзець!* Вецярэвічы Пух. 2. *пагард.* Чалавек у старым, паношаным адзенні і абутку. *Куды вы высылаіця лахмача: ні абуты, ні адзеты.* Валынцы В.-Дзв.

ЛАХНЯ' *ж. неадабр.* Тое ж, што і л а х у́ д р а. *У злосці як завядуцца, скажуць — лахня ты, ці лахудра!* Парэчча Гродз.

ЛА'ХТА *ж. неадабр.* Пляткарка, балбатуха. *Вясковыя лахты лахаяць.* Кураполле Паст.

ЛАХУ'ДАЧКА *ж. памянш.* Паношаная адзежына. *Хай лахудачка, а яна будзя вымытая.* Вецярэвічы Пух.

ЛАХУ'ДРА *ж.* і *м. неадабр.* Неахайны чалавек. *На бабу скажа — лахудра.* Старыя Трокі Трак. *С такім лахудрою ніхто говорыті нэ хочэ.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *łachudra* 'абадранец'.

ЛАХУ'ТРЫ *толькі мн.* Скамечаная пасцель. *Лахутры — перамешана пасцель.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЛАХЧА'ВІНА, ЛАХЧЫВІНА' *ж.* Тое ж, што і л а г ч ы́ н а. *У гэным мейсцу лахчавіна.* Гемзы Шальч. *У лахчывіну не буду садзіць.* Магуны Паст.

ЛАХЧА'К *м.* Невялікая лагчына. *Лахчакі е кругом палянак, сцёкі вады. І цяпер нізіны е.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛАХЧЫ'ВЫ *гл.* ЛАПШЫ'ВЫ

ЛАХЧЫ'НА' *гл.* ЛАГЧЫ'НА

ЛАЦВЕ'Й, ЛАТВЕ'Й *прысл.* 1. Лепш. *Лацвей так, як маяш. Лацвей табе, як у цябе жызня ўдалася.* Магуны Паст. *Вам лацвей, вас двое. Табе лацвей, маючы двух сыноў.* Дварчаны Паст. *Пісаць — ні рабіць — лацвей.* Асавец Віл. *Цяпераka лацвей табе, лацвей.* Саланое Віл. *Лацвей цяпер людзём жыць.* Абчуга Круп. *Рубашка была кужэльная, латвей дабіцца.* Мсцібава Ваўк. 2. Зручней. *Садзіся лацвей.* Дварчаны Паст.; *парайн.* польск. *łatwo* 'лёгка'.

ЛА'ЦІЦЬ, ЛА'ТІТІ *незак.* Прыбіваць латы да крокваў. *Па кроквах лацяць.* Малахоўцы Бар. *Латы гваздзямі прыбівалі, лацілі.* Дзяніскавічы Ганц. *Латы тыя, што лацяць дах.* Калясное Міхал. *Буду клуню латіті.* Курашэва Чыж.

ЛАЦНО' *прысл.* Лёгка, добра. *Што ш, пагляджу, цяпер лацно жыць.* Оцкавічы Паст. *Лацно табе.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* польск. *łacnie* 'тж'.

ЛАЦУ'БІКІ *мн.* Тое ж, што і л а с у́ н і к і. *Не пячэ твая баба такіх лацубікаў.* Вецярэвічы Пух.

ЛАЦУ'Й *м.* Гультай. *Лацуй ты! Лацуй — хто рабіць не хоча.* Кузьмічы Люб.

ЛАЦЬБІ'НЫ *гл.* ЛА'ДЗЬБІ'НЫ

ЛАЧЧА'НКА *ж.* Палавік, у якім аснова з нітак, а ўток з палосак тканіны. *Потыкают латкамэ в полоску, а потом і сшывают; с платтюв старых лаччанкі.* Дзмітравічы Кам.

ЛАЧЧА'НЫЙ *прым.* Вытканы з палосак тканіны. *Лаччанэ намного тыплійшэ.* Дзмітравічы Кам.

ЛАША'НКА *ж. бат.* Ядомы грыб. *Лашанкі красныя зверху, трэба мачыць, саліць.* Беразіно Докш.

ЛАШАНЯ' *н.* Ласяня. *Бачыла ласіцу з лашанятам.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛАШЧА'ВІНА *ж.* Тое ж, што і л а г ч ы н а. *Перавяжы карову ў лашчавіну.* Ёдлавічы Брасл.

ЛАШЧА'К *м.* Тое ж, што і л а г ч ы н а. *Лашчак там, дзе ніская места.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛАШЧЫ'НА *гл.* ЛАГЧЫ'НА

ЛА'ШЧЫЦЦА *незак.* Мілавацца, галубіцца. *Перастань лашчыцца.* Дварчаны Паст.

ЛА'ШЧЫЦЬ *незак.* Песціць. *Трэба ката лашчыць.* Лісна В.-Дзв. *Яго дабром трэба лашчыць.* Граўжышкі Ашм. *Ты вельмі часта лашчыш яго.* Дварчаны Паст.

ЛАШЧЫ'ЦЬ *незак.* Вашчыць. *Нітку лашчыць воскам.* Дварчаны Паст. *Як вяроўку спусцяць, яе лашчылі воскам, каб глачшэйшая была. Воскам лашчылі ніткі, як шылі. Ніткі і вяроўкі лашчылі воскам.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛАЯВЫ' *прым.* Лоевы. *Лаявой свечкай пяты закладаюць, як пашчапаюцца.* Саланое Віл.

ЛА'ЯЦЦА, ЛА'ІЦЦА *незак.* 1. Сварыцца, лаяцца. *Як зберуцца, то лаюцца.* Чычалі Швянч. *Перастань лаяцца!* Дварчаны Паст. *Усяк лаецца Юрка.* Вецярэвічы Пух. *А сварацца, а лаяцца, спакою няма.* Кузьмічы Люб. *Лаіцца, выгавараваіць чалавеку, што ён на яго прыдумаў.* Лісна В.-Дзв. *Кажды лаіцца, не хоча пасвіць.* Старыя Трокі Трак. *Брытка старой бабі так лаіцца.* Кіралі Шчуч. 2. Скардзіцца, наракаць. *Ён лаіцца і лаіцца, бо хворы, енча і енча.* Канюкай Вільн.

ЛА'ЯЦЬ, ЛА'ІЦЬ *незак.* Лаяць. *Усю пору лая і лая.* Кіралі Шчуч. *Нас трох вышла, лаялі мы, лаялі іх.* Раўбічы Мін. *Лаіць ён яго.* Мярэцкія Глыб.

ЛГАР *м.* Хлус. *Ён лгар першай клясы.* Мсцібава Ваўк. *Лгару, ні лжы, а то ніґды праўды ні скажаш.* Верхлессе Крын.

ЛГАЦЬ, ЛГА'ТІ *незак.* Хлусіць. *Яна моцна лгала.* Кіралі Шчуч. *Вуон лжэ, гэто нэправда.* Курашэва Чыж.

ЛГАЧ *м.* Тое ж, што і л г а р. *Вын лгач, лгав, а я нэ лжу.* Дзмітравічы Кам.

ЛГА'ЧКА *ж.* Ілгуння. Дзмітравічы Кам.

ЛГУН *м.* Тое ж, што і л г а р. *Ты, лгунэ, встыдавсе п так лгаті в жывые очы.* Курашэва Чыж.

ЛГУ′НКА *ж.* Тое ж, што і л г а́ ч к а. *Вона лгунка, нэправду казала.* Курашэва Чыж.

ЛЕ *гл.* ЛЯ І

ЛЕ′БЕДЗЬ *м.*, ЛЕ′БЯЦЬ *ж.* Лебедзь. *Лебедзі белыя.* Вялікія Баяры Шчуч. *У нас лебядзі не лятаюць.* Дварчаны Паст. ◊ *Белая лебяць табе!*— пажаданне чыстай, добра вымытай бялізны таму, хто мые. Бакшты Іўеў.

ЛЕБЯДА′, ЛЯБЯДА′, ЛІБІДА′, ЛОБОДА′ *ж. бат.* Лебяда. *Лебяда расце.* Гемзы Шальч., Пасека Ст.-Дар. *Лебяды нарвала.* Рудня Астравітая Чэрв. *Колькі хочаш лебяды ў гародзе.* Дварчаны Паст. *Лебяда парасла ў рост чалавека.* Ёдлавічы Брасл. *Лебяду свіням збіраям.* Солы, Нарбуты Смарг. *Лебяду збіралі і лубін горкі елі.* Канюкай Вільн. *Нарвала лебяды.* Буйвіджай Вільн. *З лебяды свірэпу варылі.* Баброўнікі Гарад. *Лябяду свіня ядуць, бывала, і людзі елі, з вясны наварацъ і ядуць.* Кіралі Шчуч. *Лібіду кормім свінням.* Рагулішкі Даўг. *В городі лобода завэласе.* Курашэва Чыж.

ЛЕБЯДЗІ′НЫ *прым.* Які належыць лебедзю. *Лебядзіная шыя такая доўгая.* Дварчаны Паст. ◊ *Лебядзінае малако*— птушынае малако. *Ён жывець харашо: толькі лебядзінага малака не хватаіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЕВУША′К *м.* Тое ж, што і л а ў ш э́ н ь. Ністанішкі Смарг.

ЛЕ′ВЫ, ЛІ′ВЫЙ *прым.* Адваротны. *Ты што рубашку надзеў на левы бок?* Дварчаны Паст. *Правы і левы бок у палатне.* Міратычы Карэл. *Правы бок і левы бок у адзенні. Ты на левы бок кладзеш сукенку.* Альхоўцы Лях. *Нашто злажыла сарочку на левы бок?* Дзяніскавічы Ганц. *Лівый і правый бык. На лівый бык сорочку зложыла.* Дзмітравічы Кам. *Колысь, як жыто жялы, то чясом на лівый бык кладэш кохту, спідныцю. Гэта матерыя на лівый бык шэ хорішча, чым на правый.* Сіманавічы Драг.

ЛЕ′ГАР *м.* Рычаг для падымання бярвенняў. *Ле́ґарамі падымая тоя поленца дубовая.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *парайн.* ням. дыял. *lôger* ’тж’.

ЛЕГА′ЦІ *гл.* ЛЯГА′ЦЬ

ЛЕ′ГМА *гл.* ЛЁГМА

ЛЕ′ГЧЫ, ЛЕ′ГЦІ *зак.* 1. Легчы. *Ляжэм паляжом, пасядзем.* Паляцкішкі Воран. *Яны лягле ўжо.* Вялікія Баяры Шчуч. *Легла паспала. Легла спаць.* Альхоўка Навагр. *Ляшча паляжэця!* Старое Сяло Зэльв. *Лягу полежу.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Не магу легці.* Азяраны Раг. 2. *перан.* Настаць. *За трэцім зазімкам зіма ляжа.* Рыбчына Віл.

ЛЕДА′ЧЫ, ЛЕДА′ШЧЫ, ЛЕДА′ШТЫ, *гл.* ЛЯДА′ЧЫ

ЛЕДА′ЯК *прысл.* Нязручна, кепска. *Як зламаецца туфля, то ледаяк, а з лапаткай добра.* Парэчча Гродз.

ЛЕ′ДВА, ЛЕ′ДВО, ЛЕ′ДВЯ, ЛЕ′ДЗЬВА, ЛЕ′ДЗЬВЕ, ЛЕ′ДЗЬВЯ *прысл.* Ледзь. *Ледва прыду.* Старыя Смільгіні Во-

ран. *Чорт гаспадара як кінуў, той ледва падняўся.* Паляцкішкі Воран. *Ледва іду і ледва нясу.* Дакудава Лід. *Ледва аставілі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ён стары чалавек, ледва ходзіць, слабенькі. Ледва жывы, так умарыўся. Ледва здужыў успець.* Галубы Маст. *Ледва іду.* Пацаўшчына Дзятл. *Ледва сяджу — такая слабасць.* Новікі Гродз. *Як стаў аплоцінаю біць, то ледва яго ўнялі.* Калядзічы Ваўк. *Ледва выбіўся на дарогу.* Малахоўцы Бар. *Ледва даехаў.* Любішчыцы Івац. *Ледва ішла, так нага балела. Набралі багато ягад, ледва прынеслі.* Дзяніскавічы Ганц. *Ледва панесла.* Вялікі Краснік Пруж. *Ледва ідзеш, накасіўся. Вот так мне балела галава, я ледва-ледва ўстала.* Кіралі Шчуч. *Я сама ледва жыю.* Кудзялянцы Шальч. *Ледва я прышла дахаты. Ледво смерці прычакала.* Парэчча Гродз. *Ледво жыву.* Вострава Маст. *Ледво ходзіць наш тата, і я ледво прышла дахаты. Ледво даплялася. У старой ледво дух уносіць.* Мсцібава Ваўк. *Яна ледвя лазая, ледвя ходзіць.* Жылі Іўеў. *Ледвя падняў.* Граўжышкі Ашм. *Ледзьва дыхая жонка яго.* Альхоўцы Лях. *Ледзьве ўспакоіла ўнучка.* Паляцкішкі Воран. *Ледзьве даехалі дадому.* Чычалі Швянч. *Ледзьвя я дачакаўся канца: як атстроіў мост, адразу пабех за махоркай у горат.* Кастровічы Зэльв.

ЛЕДЗЬ, ЛЭДЬ, ЛЭ'ДЬШО *прысл.* Тое ж, што і л е́ д в а. *Ледзь дахаты прывалокся.* Жылі Іўеў. *Як улез у мулю, то ледзь вылез.* Ялова Пруж. *Я лэдь зайшла на станцію.* Відзібар Стол. *Я лэдь прышла.* Радастаў Драг. *Лэдь пудняв гэтого мышка. Лэдьшо загнала корову в хлів, ныяк ны хотіла йты.* Сіманавічы Драг.

ЛЕ'ДЗЬБЫ, ЛЭ'ДЬБО, ЛЭ'ДЬБОШЧО *прысл.* Тое ж, што і л е́ д в а. *Ледзьбы я не паваліўся. Ледзьбы не злавіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лэдьбо звалылы гэту скрыню на вуз.* Відзібар Стол. *Так схавався, шо лэдьбо знайшлы ёго. Лэдьбошчо встав — такый хворый.* Сіманавічы Драг.

ЛЕ'ДЗЬВА, ЛЕ'ДЗЬВЕ, ЛЕ'ДЗЬВЯ *гл.* ЛЕ'ДВА

ЛЕДЗЯ'НКА *ж.* Лядзянка. *Ледзянку здзелаем — з гары скацімся, выдаўбеш, як карыта, сядзеш і едзеш.* Мельнікі Лудз.

ЛЕДЗЯЧКІ' *мн. памянш.* Ільдзінкі. *Вада халодная, ледзячкі плаваюць.* Вязынка Маладз.

ЛЕ'ДНІК *м.* Лядоўня. *Как у ледніку, у касцеле холадна.* Скрыпчына Лудз.

ЛЕДНІЧО'К *м. памянш.* да л я д н і к II. *Леднічкі не разварываюцца, крэпенькія, чорненькія.* Ухвала Круп.

ЛЕ'ЖА *ж.* Ляжанне. *Кап лён удаўсе ў лежы і ў пасле.* Міратыцы Карэл.

ЛЕЖА'К *гл.* ЛЯЖА'К

ЛЕЖАКО'ВЫ *прым.* Які мае адносіны да ляжачага кало-

дачнага вулля. *Лежаковая калодка на козліках.* Бакшты Іўеў.

ЛЕЖАКО́М *прысл.* Лежма. *Вулі ставілі старчаком і лежаком.* Старыя Трокі-Трак.

ЛЕ́ЖАНЬ, ЛЭ́ЖЭНЬ *м.* 1. Ляжачы калодачны вулей. *Дуплі находзілі і ставілі, і лежні, пяць-шэсць лежняў было.* Дварчаны Паст. *Пяць-шэсць лежняў было, зверху крышкі з кары яловай; укрыюць, каб не гніў лежань.* Груздава Паст. *Лежні былі; лежнямі звалі.* Кураполле Паст. *Лежні на козлах.* Мярэцкія Глыб. *Лежань дужа даваў мёду. Лежань на козліках, любюць пчолы ў лежнях жыць.* Валынцы В.-Дзв. 2. *перан.* Гультай, абібок. *Лежань — гультай.* Альхоўка Навагр. *Такый лэжэнь, ныц ны хочэ робыты.* Сіманавічы Драг.∇ *Прымавіска гэткая: «Лежань, лежань, пабі свіней!»* Мярэцкія Глыб.

ЛЕЖА́ЦЬ *гл.* ЛЯЖА́ЦЬ

ЛЕЖАЧКА́ *дзеепрысл.* Лежачы. *Лежачка, рэзаў нажом дзярно.* Крынкі Крын.

ЛЕЖДЖА́Й *гл.* ЛЯГДЖА́Й

ЛЕ́ЖМА *гл.* ЛЁГМА

ЛЕ́ЖНІК *м.* Тое ж, што і л е́ ж а н ь 2. *Лежнік ты!* Міратычы Карэл.

ЛЕ́ЖНЯ, ЛЭ́ЖНЯ *ж.* 1. Ляжанне. *Што ж тая лежня чалавеку?* Пацаўшчына Дзятл. *Лежня не памагая мне.* Сапоцкіна Гродз. *Дось лежні яму!* Гемзы Шальч. 2. Вылежванне. *Яшчэ мала лежні лёну.* Кураполле Паст. *Прызнаюць мала лежні, лён шорсткі, а як мяхкі, тады падымаюць.* Гемзы Шальч.∇ *За лэжнію ныма колы посыдіты.* Сіманавічы Драг.

ЛЕ́ЗВА *н.* Тое ж, што і л а́ з і в а. *Бортнік лез на дзерава, лезва было. Лезва з канапель ці з лёну, апасаецца бортнік і лезе на борць, даўбе борці.* Парэчча Гродз.

ЛЕЗГІ́НКА *ж.* Танец «Лезгінка». *Пакажы, як танцаваць «Лезгінку».* Ухвала Круп.

ЛЕ́ЗЦІ, ЛЕ́СЦІ, ЛІЕ́ЗТІ, ЛІ́ЗТЫ *незак.* 1. Лезці, залазіць. *Трэба лесці на хату.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лесьма на гару. Лесьма ў склеп.* Жылі Іўеў. *Ліез на пiеч спаті і ўпав.* Курашэва Чыж. 2. Падыходзіць, дакранацца. *Нэ лезтэ до стола!* Смаляніца Пруж. *Ны лізь до огню, бо опычэсься.* Сіманавічы Драг. 3. *перан.* Надакучаць. *Чаго ты да яе лезіш?* Лісна В.-Дзв. 4. Умяшчацца. *У карзіну два вядры лезіць.* Лісна В.-Дзв. 5. Ісці, уваходзіць куды-н. ці ў што-н. *Каровы лезуць у лес, бо на полі халадно.* Кіралі Шчуч. *Ён ня лёс у раку.* Старыя Смільгіні Воран. *Не лесь першы ў кут.* Солы Смарг. *Дзікія свінні ні да кога так ня лезуць, як да цябе, атаўсюды пазбіраўшыся, сколькі слядоў на бульбі.* Груздава Паст. 6. Вылазіць, выпірацца. *Талхаіш* [хлеб] *у квашню, а ён лезіць абратна.* Індра Красл. 7. Поўзаць. *Змія ліезла по зэм-*

*ліе.* Курашэва Чыж. 8. Марудна ісці. *Як будэш так ліезті, то на час нэ поспіеш.* Курашэва Чыж.∇ *А цяпер есце, хоць на лоб лезце! На старога чалавека гразь лезець.* Саланое Віл. *Нянька будзе хлеб есці, ляляка будзе дух лезці.* Гемзы Шальч. ◊ *Лезці на галаву* — назаляць. *Куры на галовы лезуць.* Саланое Віл. *Лезці на сцéну* — мучыцца ад болю. *Гарачка паліла да саража, як схопіцса — на сцену лезла.* Крынкі Крын. *Не лезці ў рукі* — не ідзе работа. *Як паедуць дзеці з дому — плачу, не лезе работа ў рукі.* Солы Смарг. *Ракам ліезті* — паўзці на карачках. *Коб ніхто нэ зобачыв, то ракам ліез.* Курашэва Чыж.

ЛЕ'ІЦЬ *незак.* Ліць. *Вады лееш, яно гусня на глазах.* Крэва Смарг.

ЛЕЙ *м.*, ЛЕ'І *мн.* Алей. *Лей білі з льнянога семя.* Кузьмічы Люб. *Леі ў глёках білі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛЕ'ЙЗІЦЬ *гл.* ЛЯ'ЙДЗІЦЬ

ЛЕ'ЙКА *ж.* Прыстасаванне ў выглядзе конуса для пераліванння вадкасці. *Лейка — ліць у бутэльку.* Альхоўцы Лях.

ЛЕЙКАЦЕ'ЦЬ *гл.* ЛЕКАЦЕ'ЦЬ

ЛЕ'ЙЦЫ толькі *мн.* Лейцы. *Ен лейцы трымаў.* Старыя Смільгіні Воран. *Ой, мой рысак: толькі лейцы ў рукі ўзяў — і панёс.* Курапалле Паст. *Зачэпім лейцы — і трасану крэпка рой.* Саланое Віл. *Лейцы пяньковыя або раменныя.* Рыбчына Віл. *Лейцы з вяровак, вілі з апянькі, былі тасьмовыя лейцы.* Мярэцкія Глыб. *Лейцы — кап кяраваць канём.* Ёдлавічы Брасл. *Вожжы — лейцы па-нашаму.* Швэды Вільн. *Лейцамі ўправляем конем, погоняем коні.* Смаляніца Пруж. *Лейцамі залейцаў каня.* Рудня Астравітая Чэрв. *Трымай за лейцы!* Альхоўцы Лях., Калясное Міхал.

ЛЕ'ЙЧАЦЬ *незак.* Прымацоўваць лейцы да аброці. *Лейчаць — абапал у вобраць прывязваць лейцы.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛЕ'ЙЧЫКІ *мн. памянш.* да л е́ й ц ы. *Знаеш што, дачка — гавары, што будзіш за яго выходзіць замуж, а не — вот лейчыкі.* Саланое Віл.

ЛЕ'КАВЫ *прым.* Лекавы. *Лекавае зелье, катора з лісцем расце.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛЕ'КАЖ *м.* Урач, лекар. *Я ж не лекаж.* Шалкуні Даўг.; *парайн.* польск. *lekarz* 'тж'.

ЛЕКА'Й *гл.* ЛЯКА'Й

ЛЕКА'РСТВА *н.* Лякарства. *Лекарства лекарствам, а сон сном.* Курапалле Паст.

ЛЕКАЦЕ'ЦЬ, ЛЕЙКАЦЕ'ЦЬ, ЛЯКАЦЕ'ЦЬ, ЛЁКОТІ'ТЫ, ЛЯКАТА'ЦЬ *незак.* 1. Дрыжаць, калаціцца (пра сэрца). *Патрупнелі, уцякаючы, аш сэрца лекаціць маё.* Беняконі Воран. *Лекаціць сэрца. Лекацело сэрцо, дрыжало ад страху.* Каўняны Гродз. *Лекаціць маё сэрца. Як бывая сэрца лекаціць, во*

*б'ецца.* Дакудава Лід. *Лекацело, дрыжало сэрцо.* Мсцібава Ваўк. *Мaё сэрца аж лекаціць.* Пацаўшчына Дзятл. *Лекацець ат холаду, ат перапалоху.* Малахоўцы Бар. *Патрупнелі, уцякаючы, аш сэрца лекаціць. Уся лейкаціць, дрыжыць. Так сэрца лейкаціць, так баялася — у лесе была і нехта страшный.* Вялікія Баяры Шчуч. *Я яго* [качара] *зарэзала п і рука не лекацела. Тут пад грудзьмі лякаціць і лякаціць, як нявестка яе патрасла.* Кіралі Шчуч. *Злякаісся, будыш лёкотіты.* Дзмітравічы Кам. *Злякався, лёкотыть.* Сіманавічы Драг. 2. *перан.* Даражыць, берагчы што-н. *А бацька за канём аж лекацей.* Галубы Маст.; *параўн.* літ. *leketúoti* 'біцца, трапятацца'.

ЛЕ'КЧЫ *прысл.* Тое ж, што і л я г ч э́ й. *Гэту падушку скінем, кап лекчы было.* Парэчча Гродз.

ЛЕЛЕ'ЦЬ *гл.* ЛЯЛЕ'ЦЬ

ЛЕ'ЛЯХ *м. зневаж.* Жывот. *Яна ходзіць па хатах, лелях наставіўшы.* Кіралі Шчуч. *У яго лелях вялікі.* Яцаўляны Сідр.

ЛЕЛЯХАВА'ТЫ *прым. зневаж.* З вялікім жыватом. *Леляхавата баба.* Кіралі Шчуч.

ЛЕ'МАНТ *м.* Лямант. *Колькі голасу, колькі леманту!* Пасека Ст.-Дар.

ЛЕМАНТА'Р *м.* Буквар. *Сам вучыўся, нам лемантары купіў.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *elementarz* 'тж'.

ЛЕ'МЕХ, ЛЕ'МЕШ, ЛЕ'МЯШ *м.* Лямеш. *Лемех у плугу.* Пасіене Лудз. *У сахе лемяшніца дзеравянная, а на канцэ два лемеха аткованныя. Лемеш у плугу.* Істра Лудз. *У сасе былі лімяшы жалезныя, а лапата дзіравяная.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лімяшы надзеты на канцы ў сахе.* Валынцы В.-Дзв.

ЛЕМЯШНІ'ЦА *ж.* Плоская драўляная аснова ніжняй часткі сахі. *У сахе лемяшніца дзеравянная, а на канцэ два лемеха аткованныя.* Істра Лудз.

ЛЕНАВА'ТЫ *прым.* Крыху лянівы. *Ленаваты конь.* Міратычы Карэл.

ЛЕНАВА'ЦЦА, ЛЕНАВА'ЦА, ЛАНАВА'ЦЦА *незак.* Ленавацца. *Гультай лянуецца рабіць.* Паляцкішкі Воран. *Ён ні хочыць рабіць і лянуецца.* Жылі Іўеў. *Раней не ленавалася так.* Лісна В.-Дзв. *Лянуюся ўставаць рана.* Альхоўка Навагр. *Не ленаваліся бярэзніку наламаць.* Альхоўцы Лях. *Алі лянуецца рабіць.* Новы Свержань Стаўб. *Лянуецца схадзіць у хлеў.* Новыя Мацалі Варэн. *Трымая жывёл, не лянуецца.* Стральцы Шальч. *Ён лянуецца рабіць. Котка лянуецца мышы лапаць.* Гемзы Шальч. *Калі не лянуюся, то прасую.* Старыя Трокі Трак. *Лянуецесь рабіць.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Ён лянуецца.* Номікі Бабіц. *Лето не лянуйса, то ўсе мецьмеш: і картоплі, і бурачкі, і куры, і свіня.* Кузьмічы Люб. *Я не лянуюся, алі не магу.* Кудзялянцы Шальч. *Ленаваца не трэба. Гультай лянуеца.* Грыкені Вільн. *Натта ён лануяца.* Паляцкішкі Воран.

ЛЕНА'ЦЦА *незак.* Ліняць. *Змяя ленаіцца і карова ленаіцца.* Чычалі Швянч.

ЛЕНІ'ВАЯ КАПУ'СТА *ж.* Страва з варанай свежай капусты. *Ленівая капуста — мы ее зроду елі, а батько буў охотнік: мнясо козінэе, з діка, нарэжэ капусту, докладвае пасэльку, лье воду, упрэе пасоля, зварыцца.* Азарычы Пін.

ЛЕНІ'ВО, ЛЕНІ'ЛО, ЛІНІ'ЛА *н.* Скінутая гадзюкай ці вужом скура ў час ліньки. *Леніво прыкладалі, колі вогнала дэрво* [стрэмку] *да нэ могу выняті, то прыложыш леніво, і дэрво выйдэ.* Азарычы Пін. *Вуж леніло скідая і далей ідзе. Леніло вельмі добро лекарство ад нарыву, і як жывёла аслепне, то ў вушы кладуць леніло, і памагае.* Кузьмічы Люб. *Годзюка покідае лініло.* Конкавічы Петр. *Лініла — скура гадзюкі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛЕ'НКІ *мн.* Ачоскі льну. *Ад лёну ляцяць ленкі.* Малахоўцы Бар.

ЛЕНЧА'РЫ *мн.* Бразготкі, шамкі. *Ленчары на шыю каню павесіць.* Грыкені Вільн.

ЛЕ'НЫ' *гл.* ЛЯНЫ'

ЛЕНЬ *ж.* 1. Лянота. *Бох памагай, а лень не ляжы — у нас так кажуць перад началам работы, асобянна, як прыдзіць у ягады, каб набраць ягад.* Ёдлавічы Брасл. 2. Гультай. *Ён лень, ляніцца рабіць.* Малькуны Ігн. *Вэн лень, гультай.* Азарычы Пін.; *параўн.* руск. *лень* 'тж'.

ЛЕНЯВІ'ШЧА *н.* Тое ж, што і л е н і в о. *Гужова ленявішча.* Бакшты Іўеў.

ЛЕНЯ'НЕ *н.* Тое ж, што і л е н і в о. *Вужово леняне. Я думала, вуж леняне пускае.* Вялікі Краснік Пруж.

ЛЕ'ПЕЙ, ЛЕ'ПЯЙ, ЛЕ'ПІЙ, ЛЕ'ПІ *прысл.* Лепш. *Я апасаюсь — лепей не даесць.* Саланое Віл. *Лепей мы дадзем грошы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Трохі лепей, ладней.* Грыкені Вільн. *Пласты робіць, то лепей складаць сена.* Відаўцішкі Вільн. *Лепей так зрабі.* Чычалі Швянч. *Я стаў лепей касіць.* Цяпінцы Віл. *На запусты, бывала, лепей з'ядуць.* Кухты Віл. *Можа, будзе лепей.* Крынкі Крын. *Не гавары адно і тое колькі раз, не глеваздай, лепей скажы адзін раз добра.* Яцаўляны Сідр. *Табе лепяй, у цябе і матка, і сястра, яны памогуць, ты прыдзеш з работы і пасніш.* Кіралі Шчуч. *Коля жаў лепій, чым я.* Індра Красл. *После гэтага выпатку парцізаны сталі верыць яму лепі.* Бобравічы Іўеў. *За старыком усе ш лепі.* Валынцы В.-Дзв. *Там лепі жыць.* Альхоўка Навагр.

ЛЕ'ПШЫ, ЛЕ'ПІ, ЛІ'ПШЫЙ *прым. выш.* Лепшы. *Над усіх кароў лепшая. Лепшага ніхто ні дась.* Груздава Паст. *Ён лепшы, харашэйшы.* Мярэцкія Глыб. *Валуёў ні бяром, у нас лепшых хватаіць.* Асавец Віл. *За маіх дачок німа лепшых.* Ахрэмаўцы Брасл. *Што ж там лепшэ у яе?* Ахрэмаўцы Брасл. *Грачыха лепшая расла.* Старыя Трокі Трак. *Лепшы быў хлеб,*

*як тэраз.* Грыкені Вільн. *Лепшага кабана прадам.* Кузьмічы Люб. *Адна добрая, другая яшчэ лепяя.* Кураполле Паст. *Вын роботу ліпшу найдэ. Ліпша тая за гэту.* Дзмітравічы Кам. *Той добрый, а той шэ ліпшый.* Сіманавічы Драг.

ЛЕПЯСНІ'К *м. бат.* Рагоз. *Пайдзеця нарвеця лепясніку, што каты растуць. Калачы называюць, як лепяснік паспее.* Альхоўцы Лях.

ЛЕПЯТА'ЦЬ *незак.* Многа гаварыць, балбатаць. *Ляпечыць і ляпечыць лепятун гэты.* Кураполле Паст. *Ляпешча языком.* Міратычы Карэл.

ЛЕПЯТЛІ'ВЫ *прым.* Балбатлівы. *Вот лепятлівая баба, вот лепятуха, налепетала мех іс торбай і пашла.* Рагулішкі Даўг. *Лепятлівая баба, многа гаворыць.* Саланое Віл.

ЛЕПЯТУ'Н *м.* Балбатун. *Ляпеча языком гэты лепятун.* Кураполле Паст.

ЛЕПЯТУ'ХА *ж.* Балбатуха. *Вот лепятлівая баба, вот лепятуха.* Рагулішкі Даўг.

ЛЕПЯТУ'ШКА *ж. памянш.* да л е п я т у́ х а. *Лепятушка, які ў цябе муш? Лепятушка ляпеча, гаворыць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЕС, ЛІС *м.* 1. Лес. *Лесам ідуць парцізаны.* Бакшты Іўеў. *Малады лес.* Рыбчына Віл. *Наша вёска пры лесі, і мы знаям добра лес. Бывала, пасвілі па лесі.* Лісна В.-Дзв. *Дзе ў лесе па мелкіх азірах.* Істра Лудз. *Гэта ўсё былі леса.* Паляцкішкі Воран. *Лясоў было тут.* Саланое Віл. *Былі велькія лясэ.* Кіралі Шчуч. *Там лесоў мало.* Грыкені Вільн. *Па лясох тут горы.* Барок Стаўб. *Кудры па лясох бываюць, як сажалкі, і аброшшы травой. Тут лясоў мала.* Солы Смарг. *Нам, буўшы там, далі леса.* Крынкі Крын. *Ходэла в ліс.* Дзмітравічы Кам. ∇ *Як лес няроўны, так і людзі.* Лісна В.-Дзв. *Няроўны лес — няроўныя людзі.* Кіралі Шчуч. *Чым дальшы ў лес, тым большы дроў.* Парэчча Гродз. *Ліс нырымный і людэ нырымны. Ліс говорыть — полэ чуе.* Сіманавічы Драг. 2. Будаўнічы матэрыял з драўніны. *Раньша рабілі з лесу: не разрубваюць, а цэлыя ішлі на ношкі, дзе ўбіваюць навоі.* Стральцы Гродз. 3. у знач. *прысл. лёсам.* Праз лес, па лесе. *Лесам ідзе.* Альхоўцы Лях. *Вын ішов лісом і полём.* Дзмітравічы Кам. 4. у знач. *прысл. перан. лёсам.* Без догляду. *Лесам расцець хлопчык, ніхто яго не вучыць.* Кураполле Паст.

ЛЕСАВА'ТЫ *прым.* Тое ж, што і л е с а в ы́ 1. *Лесавата трава.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛЕСАВЫ', ЛІСАВЫ', ЛЯСАВЫ', ЛЕСАВУ'Й *прым.* 1. Лясны. *Лесавая дарога — дарога праз лес.* Дзяніскавічы Ганц. *С Падлесся лесавыя людзі, у лясной мясцовасці жылі.* Вецярэвічы Пух. *Лісавая дарога, а трава лісная.* Мярэцкія Глыб. 2. Дзікі. *Лесавыя пчолы ў дупляных хвоях водзяцца.* Вецярэвічы Пух. *Лесавы яблык. Лясавыя яблыкі. Лясавая*

*яблына*. Рудня Астравітая Чэрв., Пасека Ст.-Дар. *Лесавуя яблыкі растуць*. Кузьмічы Люб.

ЛЕ'СВІЦА ж., ЛЕ'СВІЦЫ толькі *мн*. Прыстаўныя драбіны. *Пастаў лесвіцу і палезім на дах, на хату, нада павесіць бялізну на хаце*. Едлавічы Брасл. *Пастаў лесвіцы, каб узлесці*. Масішкі Красл.

ЛЕ'СКА *ж*. Кій. *Вырэзав леску, ходыты з ею*. Горск Бяроз.

ЛЕ'СКІ толькі *мн*. Тое ж, што і л е́ с в і ц а. *Лескі — лесці на хату, калок у лесках зламаецца*. Дзяніскавічы Ганц. *Лескі зламаліся*. Мачаск Бярэз. *Рабій чалавек лескі лі балота і памёр*. Ухвала Круп.

ЛЕСНІ'К *гл*. ЛЯСНІ'К

ЛЕ'СНІЦА *ж*. Тое ж, што і л е́ с в і ц а. *Пастаў лесніцу да злезь*. Чычалі Швянч.

ЛЕСНІЧО'ЎКА, ЛІСНІЧО'ЎКА *ж*. Сядзіба лесніка. *Мы шлі дарогай до Рубаняк, дзе была леснічоўка*. Груздава Паст. *Там ліснічоўка была*. Кураполле Паст. *Ліснічоўка — дзе ляснік жыў, там ягона хата стаяла, ціпер у Замошшы ліснічоўка, а лес тут*. Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЕ'СТАЧКІ *мн. памянш*. Лёстачкі ў драбінах. Вецярэвічы Пух.

ЛЕ'СТО *прысл*. Гразка. *Дужо лесто дарога, ні праехаць, конь замучыўсё*. Навасёлкі Свісл.

ЛЕ'СТЫК *м. памянш*. Лісток. *Як лестык узынькый, то благое жэто*. Дзмітравічы Кам.

ЛЕ'СЦІ *гл*. ЛЕ'ЗЦІ

ЛЕ'ТА *н*. і *ж*. ЛЕ'ТО, ЛІЕ'ТО, ЛІ'ТО *н*. 1. Лета (пара года). *Былі адно лета бэз каровы*. Парэчча Гродз. *Бываіць, як лета сухая — пчолы много нанясуць мёду. Тут была крыніца, вада ёсь, як сухая лета, то высыхая*. Малькуны Ігн. *Лето па зіме пашло*. Кузьмічы Люб. *Побула літо*. Дзмітравічы Кам. *Гэтэ літо було мокрэ, а госэнь сухая*. Сіманавічы Драг. 2. *мн*. Гады. *Тыя лета былі добрыя*. Вялікія Баяры Шчуч. *Раньшыя леты вспомню*. Старыя Трокі Трак. *Лята прашлі, лет много. Тыя леты чашчэвікаў, земяніц, а лісіц, аж лес жоўты*. Альхоўцы Лях. *Мне было восемдзесят пяць лет. Ён лет пятнаццаць мей*. Грыкені Вільн. *Я мела дваццаць лет*. Стральцы Шальч. *Адлох — як два лет не гаруць*. Рыгалоўка Ліпск. *Людзі гаворацъ, што сем лет не будзя ні зімы ні вясны*. Мсцібава Ваўк. *Семдзесят лет жыці. Дзесець лет малочшы за мэне. У такіх лецех не хадзіці*. Ялова Пруж. *Вон пяць лет старшы за мэнэ*. Смаляніца Пруж. *У такіх летех, як я*. Горск Бяроз. ▽*Спусця лета за ягадамі не ідуць* — пра таго, хто позна жэніцца. Ухвала Круп. ◇ *Як галоднае лета* — марудна. *Цягнецца, як галоднае лета*. Мішневічы Шум. *У лietax* — сталы, дарослы. *Вона вжэ в лietax, можэ замуж выходіті*. Курашэва Чыж.

ЛЕ'ТАВАЦЬ *незак.* Знаходзіцца, жыць дзе-н. на працягу лета. *Зялёнскі брот вясной навылёт прыпіраецца да гуліцы, але пат ровік сцягае воду, а дале астаецца пасярэдзіне броду вада і летавая.* Дзяніскавічы Ганц. *Летавала і зімавала.* Пасека Ст.-Дар.

ЛЕТАЁНЦЫ *прым.* Які любіць бегаць. *Летаёнцая карова: ляціць і ляціць.* Старыя Трокі Трак.

ЛЕ'ТАМ *прысл.* Улетку. *Летам вярнуўся.* Лісна В.-Дзв. *Летам мухі загілявалі.* Швэды Вільн. *Мы ездзілі летам на той бок ракі.* Вецярэвічы Пух.

ЛЕТАНІ'НА *ж.* Беганіна. *Тут усё адна летаніна.* Кіралі Шчуч.

ЛЕ'ТАСЬ, ЛЕ'ТОСЬ, ЛЁТОСЬ, ЛІ'ТУСЬ, ЛІ'ТЮСЬ *прысл.* У мінулым годзе. *Летась прыяжджаў да мяне ўнук.* Мярэцкія Глыб. *Гэта было летась.* Рыбчына Віл., Навасёлкі Свісл. *Летась ён доўго быў. Летась быў пажар.* Альхоўцы Лях. *У прошлым годзе, летась было гэта.* Тухавічы Лях. *Летась яны пажаніліся, скоро гот будзе, як паехалі ў Салігорск.* Любішчыцы Івац. *Летась было трошкі мёду паспытаць.* Руднае Кап. *Летась быў мокры год. Летась на кляввяру дваццаць пяць кароў лопнуло, дзвесці пяцьдзесят кароў выдуўшы, бульбай накармілі — і кароў выдула.* Ёдлавічы Брасл. *Летось уродыло жыто.* Горск Бяроз. *Летось так жураўлін нэ было.* Смаляніца Пруж. *Лётось зіма була морозява.* Азарычы Пін. *Літусь чы позалітусь мы булі в Бэрысті.* Дзмітравічы Кам. *Літюсь була ранна высна й тэпла, а гэтого року не.* Сіманавічы Драг.

ЛЕ'ТАЎНІК *м.* Дровы, нарыхтаваныя на наступны год. *Летаўнік — дрова, каторыя сяголета насабіралі і будуць на той год.* Пасека Ст.-Дар.

ЛЕ'ТАЦЬ, ЛЕ'ТАЦІ, ЛЕ'ТАТІ, ЛЕ'ТАТЫ, ЛЭ'ТАТЫ *незак.* 1. Лятаць. *Птушкі летаюць стадамі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Муха летала.* Альхоўка Навагр. *Летаюць пташкі. Ужэ летаюць пчолы. Камары летаюць, будзе цёпло.* Мсцібава Ваўк. *Летаюць галубы.* Валынцы В.-Дзв. *Самалёты летаюць.* Навасёлкі Свісл. *Летают птухі.* Смаляніца Пруж. *Летом летала з Ленінграда на Сахалін.* Азарычы Пін. *Голубэ летают.* Дзмітравічы Кам. *Вжэ нашы ластовчынята нагучылысь лэтаты.* Сіманавічы Драг. 2. *перан.* Бегаць. *Летаюць па надворку.* Альхоўка Навагр. *Летаеш, як кабыла. Ні трэба летаць, сяць пасядзі. Летаў бык да майіх кароў.* Вялікія Баяры Шчуч.; *гл.* л ё т а ц ь, л я т а́ ц ь.

ЛЕ'ТАШАК *м.* Пярэзімак. *Перазімуя цялё — і леташак.* Багушэвічы Бярэз.

ЛЕ'ТАШКА *ж.* Цялушка, якая перазімавала. *Як перазімуя — то леташка.* Рудня Чэрв.

ЛЕ'ТАШНІ *прым.* Леташні. *Сала леташняя ляжыць.* Лісна В.-Дзв.

ЛЕ'ТАШНІК *м.* Тое ж, што і л е́ т а ш а к. *Леташніка свайго пасу.* Мярэцкія Глыб., Янова Рас.

ЛЕ'ТКА, ЛЕ'ТКО *прысл.* Лёгка. *Ён летка адзеўшыся.* Лісна В.-Дзв. *У хадачкох летка.* Старыя Трокі Трак. *Папрывыкалі летко рабіць.* Мсцібава Ваўк. *Летко адзеўса.* Номікі Бабіц. *Касу меньціць трэба часто, будзе летко касіць.* Чорная Весь Касцельная Чорна-Беласт.

ЛЕ'ТКАЕ *н.*, ЛЕ'ТКІЯ *мн. анат.* Лёгкае. *Леткаго нема, выразалі.* Воўкуш Ліпск. *Леткія ў чалавека і ў жывёл.* Каўняны Гродз.; *гл.* л ё г к е.

ЛЕ'ТКІ *прым.* 1. Хуткі, рухавы. *Во дзе леткі чалавек.* Старое Сяло Зэльв. 2. Аптымістычны, ураўнаважаны. *Леткі чалавек, у яго лёхка на душы.* Быстрыца Астр. 3. Гаваркі. *Леткі язык мае.* Номікі Бабіц.

ЛЕ'ТКІЯ ВАНТРО'БЫ толькі *мн.* Тое ж, што і л е́ т к а е. *Вантробы леткія і цяшкія.* Ліпнікі Вільн. *Леткія вантробы.* Новыя Мацалі Варэн. *Леткія вантробы выжай.* Старыя Трокі Трак.

ЛЕ'ТКО *гл.* ЛЕ'ТКА

ЛЕ'ТНІ *прым.* 1. Лёгкі, тонкі (пра тканіну, адзенне). *Зайяжэш летню хустку.* Смаляніца Пруж. 2. Цеплаваты. *Калі рашчыняяш хлеп, вада трэба летняя.* Крэва Смарг. *Чутко* [ледзь-ледзь] *летнюю ваду раблю.* Быстрыца Астр. *Нясі пойла, ужо летня.* Кіралі Шчуч. *Летняя вода.* Смаляніца Пруж. *Не бойцеса, летня вада.* Номікі Бабіц. 3. Яравы. *Зімняя* [азімая] *і летняя пшаніца.* Мельнікі Лудз. *Летняя пшаніца.* Навікі Лудз.

ЛЕ'ТНІК I *м.* Дарога, па якой ездзяць летам. *Летнікам паеду.* Азяраны Раг.

ЛЕ'ТНІК II, ЛІЕ'ТНІК *м.* Пінжак. *У летніках не ходзяць. Усё калісь ткалі і мушчынам летнікі шылі з маленькаго ў чатыры нічальніцы, война па войні.* Баброўнікі Гарад. *Купів нагавіці і ліетніка.* Курашэва Чыж.

ЛЕ'ТНІКАВАЯ ДАРО'ГА *ж.* Дарога, па якой ездзяць толькі летам. *Летнікавай дарогай паехаў.* Азяраны Раг.

ЛЕТНЯ'К *м.* Паўгодак (пра цялё). Гемзы Шальч.

ЛЕ'ТО *гл.* ЛЕ'ТА

ЛЕ'ТОСЬ *гл.* ЛЕ'ТАСЬ

ЛЕТУ'ЧАЯ МЫШ *гл.* ЛЯТУ'ЧАЯ МЫШ

ЛЕЎША'К *гл.* ЛЯЎША'К

ЛЕЎШНЯ' *м.* і *ж.* Тое ж, што і л а ў ш э́ н ь. *Ён леўшня, толькі левай грабе. Яна рэжа толькі левай рукой.* Любішчыцы Іван.

ЛЕ'ХА *ж.* Града. *У леху згарэш орлам, скуолько есць зямлі.* Баброўнікі Гарад. *Лехі скапаў.* Чычалі Швянч.

ЛЕХА′ *гл.* ЛЯХА′

ЛЕ′ХАВЫ *прым.* Алешнікавы. *Лехавы шыпекі* [шышачкі]. Альхоўка Навагр.

ЛЕ′ХІ *мн.* Рыззё. *О ля! Усе лехі пападалі с печы.* Навасёлкі Свісл.

ЛЕХКАВУ′ХА *ж.* Легкавая аўтамашына. *На лехкавухі прыехалі госці.* Валынцы В.-Дзв.

ЛЕ′ХЧАЙ *прысл.* Лягчэй. *Лехчай старому з дзецьмі жыць, сын лясні́чым.* Ністанішкі Смарг.; *парайн.* руск. *легче* 'тж'.

ЛЕ′ХЧЫ *зак.* Легчы. *Ляшча ды ляжыце.* Валынцы В.-Дзв. *Я легла выгнаўшы карову.* Альхоўка Навагр. *Пашла легла, а ты выхоць с хаты.* Міратычы Карэл. *А магла ў хлеве лехчы і ляжаць.* Рагулішкі Даўг.

ЛЕЦВЯ′К *гл.* ЛІТВЯ′К

ЛЕ′ЦЕЙКА *н. памянш.* да л е́ т а 1. *Лецейка адгаравала там.* Палік Барыс.

ЛЕЦЕ′ЦІ *гл.* ЛЯЦЕ′ЦЬ

ЛЕ′ЦЕЦЬ, ЛЕ′ЦІЦЬ *незак.* 1. Ляцець. *Як жураўлі ляцяць, то зіма блізка.* Мсцібава Ваўк. *Птушка леціць.* Любішчыцы Івац. *Ня будуць леціць на галаву куры.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. *перан.* Імчацца. *Леціў на матацыкле.* Альхоўцы Лях.; *гл.* л я ц е́ ц ь.

ЛЕЦЯ′ШЧЫ *дзеепрым.* Ляцячы. *Як відзіш бусла лецяшчого, то будзеш леткі, а як стаяшчаго на балоці, то будзіш цяшкі.* Крынкі Крын.

ЛЕЧАЯ′, ЛІЧАЯ′ *ж.* Адтуліна ў верхнім камені жорнаў. *Лечая ў жорнах, дзе сыплюць зернета; усып жыта ў лечаю ды мялі.* Дзяніскавічы Ганц. *У лечаю сыплеш па жмені і меліш у жорнах.* Вецярэвічы Пух. *У лечаю сыплеш — да мелецца.* Малыя Аўцюкі Калін. *Лечая — у жорнах. У камені дзірка — лічая.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* а ч а́ й.

ЛЕЧНІ′ЧЫ, ЛЯЧНІ′ЧЫ *прым.* Лекавы. *Спарыш — лечнічы, у каласе жыта.* Лука Нараўк. *Сухавеянкі — лячнічо зельe.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* польск. *leczniczy* 'тж'.

ЛЕ′ЧЫЦЦА *незак.* Лячыцца. *Вы будзяця лечыцца.* Быстрыца Астр. *Яна лечылася, хацела мець дзіця.* Ракаўскія Швянч.

ЛЕ′ЧЫЦЬ, ЛІЕ′ЧЫТІ *незак.* Лячыць. *Ён добра лечыў.* Вязынка Маладз. *Узяўся лечыць дзет. Мама мая лечыла.* Быстрыца Астр. *Не зналі, як лечыць без снёмкі.* Беразіно Докш. *Нада лечыць яе аддаць.* Ракаўскія Швянч. *Калі малавеле, то доктар лечыць.* Малькуны Ігн. *Тарчыцу лечыць трэбо, карою вылечыла тарчыцу, злечыла так.* Баброўнікі Гарад. *Сама буду яго лечыць.* Сакаляны Сакол. *Мо лет два лечыць.* Номікі Бабіц. *Колісь дохторыэ нэ ліечылі, оно бабы, шчэ і тэпэр од жывота лепі часом баба поможэ, як дохтор.* Курашэва Чыж.; *гл.* л я ч ы́ ц ь.

ЛЕ'ШАЧКА *ж.* 1. *памянш.* да л е́ ш к а. 2. *Маці лешачку лну пасее. Лешачка — шэсць баразён, тры мэтры на сто длініна.* Масілавічы Сл. 2. Тое ж, што і л я х а́ 1. *Зрабіла лешачкі на бацвіня.* Рагулішкі Даўг.

ЛЕ'ШКА *ж.* 1. Тое ж, што і л я х а́ 1. *Уародзя лешка цыбулі, лешка буракоў.* Быстрыца Астр. *Адну лешку праравала.* Вострава Маст. *Нада ў гародзі парабіць лешкі, а рускія кажуць — грады.* Ёдлавічы Брасл. 2. Загон. *Лешка лну. Лешка — сотак пяць.* Масілавічы Сл. *Дзве лешкі пасеяла лну.* Малахоўцы Бар.

ЛЕ'ШКІ *прысл.* Лежма. *Ляжак ставілі лешкі.* Старыя Трокі Трак.

ЛЕШЧ *м.,* ЛЯШЧЫ' *мн. заал.* Лешч. Альхоўцы Навагр., Швэды Вільн., Істра, Пасіене, Мельнікі Лудз.

ЛЕ'ШЧАТКІ, ЛЭ'ШЧАТКЫ *мн.* Медыцынскія шыны. *Паламала ногу, узялі ў лешчаткі.* Старое Сяло Зэльв. *Поламала руку, то в лэшчаткы взялы.* Сіманавічы Драг.

ЛЕШЧЫ'НА *гл.* ЛЯШЧЫ'НА'

ЛЕ'Я *ж.* Лівень. *Такая лея ўчора пад вечар была.* Ісерна Слуц., Новае Палессе Лельч.

ЛЕ'ЯЦЬ *незак.* Ліць. *Дошч лея, як із луба, верхавотка на лёдзі. Леялі і леялі ваду. Стаіць і памыі лея.* Рудня Астравітая Чэрв. *Алей леялі ў кісель і елі. Леяў дошч.* Вецярэвічы Пух. *Дошч лея. Папацелі вокны, цячэ з вакон, пот лея.* Багушэвічы Бярэз. *Дож лея як з вядра.* Азяраны Раг.

ЛЁГКЕ, ЛЁХКО *н.,* ЛЁХКАЯ, ЛЁХКА *ж.,* ЛЁГКІЯ, ЛЁХКІЯ, ЛЁКІЯ, ЛЁГКІ, ЛЯХКІ'Я *мн. анат.* Лёгкае. *Прызналі ёму затэмненне лёгкого.* Дзмітравічы Кам. *Печань і лёхко.* Міратычы Карэл. *Лёхкая е ў чалавека. Кусок лёхкай.* Вецярэвічы Пух. *Божэ, перасёк лёхку!* Кузьмічы Люб. *Лёгкія ў грудзях.* Лісна В.-Дзв., Грыкені Вільн. *Разбіраюць свіню: дастаюць лёхкія і цяшкія, запоны аддзяляюць. Лёхкія і цяшкія. Лёхкія — гэта плюцы, цяшкія — печані.* Магуны Паст. *Лёхкія застудзіў, у грудзях баліць.* Дварчаны Паст. *У гаршку якварыш, лёхкія выплываюць.* Альхоўцы Лях. *Лёхкія баляць, дыхаць цяшка.* Лісна В.-Дзв. *Захварэў на лёкія.* Паляцкішкі Воран. *Лёкія ўвялічыліся.* Старыя Смільгіні Воран. *Балеў на лёкія.* Вялікія Баяры Шчуч. *Яму было васпаленія лёкіх.* Новыя Мацалі Варэн. *Всі лёгкі буле в крыві.* Дзмітравічы Кам. *Ляхкія — гэта плуцы, а цяшкія вантробы — печань.* Солы Смарг. *У свіней ляхкія.* Асавец Віл.∇ *«Што ты нясеш? — Лёхко. — А чаго ты стогнеш? — Цяшко».* Старое Сяло Зэльв.; *гл.* л е́ т к а е.

ЛЁГКІ, ЛЁХКІ, ЛЁККІ, ЛЁКІ, ЛЁХКЫЙ *прым.* 1. Нецяжкі. *Ноша лёхкая.* Дварчаны Паст. *Землі лёхкія былі пры пяску.* Сасноўка Смарг. *Лёкай зямлі трэба накапаць.* Старыя Смільгіні Воран. 2. Немарозны, адліжны. *Дзве зімы былі*

*лёгкія, адліга была.* Грыкені Вільн. *Тая зыма була лёхка, а гэта — морозяна.* Сіманавічы Драг. 3. Рухавы, імклівы. *Лёккі конь.* Паляцкішкі Воран. 4. Свежы (пра паветра). *Пашоў лёхкі воздух.* Лісна В.-Дзв. *Окно очынила, то лёхкый дух у хату найшов.* Сіманавічы Драг. 5. Немудрагелісты, нескладаны. *То такая лёка задача, што кажны зробіт.* Курашэва Чыж. ◊ *Лёхкі хлеб* — лёгкая работа. Міратычы Карэл. *Лёхкі на нагу* — той, хто лёгка, хутка ходзіць. *Ён лёхкі на нагу. Хай збегае сын — ён ляхчэйшы на нагу, хоць і ты на нагу лёхкі.* Дварчаны Паст. *Лёхкі на язык* — той, хто многа гаворыць. *І яна лёхкая на язык, як і я.* Кураполле Паст. *Лёка хвороба* — смерць. Курашэва Чыж.

ЛЁГМА, ЛЕ'ГМА, ЛІ'ГМА, ЛО'ГМА, ЛЕ'ЖМА *прысл.* Лежма. *Ляжала лёгма.* Нізок Уздз. *Легма ляжала.* Альхоўцы Лях. *Як захворіла, то дён ш чотыры лыжяла лігма, а посля стала крохы вставаты.* Сіманавічы Драг. *Жыта логма ляжыць.* Кіралі Шчуч. *Яна логма не ляжыць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Логма ляжыць маці.* Малахоўцы Бар. *Маці логма ляжала.* Парэчча Гродз. *Лежма ляжаў.* Жылі Іўеў.

ЛЁГОМЭ'НТА *м.* і *ж.* Легкадумны чалавек. *От ты, лёгомэнта!* Дзмітравічы Кам.

ЛЁД, ЛЁТ, ЛІД *м.*, ЛЯДЫ' *мн.* 1. Лёд. *Прынясі лёду!* Ністанішкі Смарг., Дварчаны Паст. *Зімой па лёдзі людзей чорна — рыбакі.* Солы Смарг. *Лёд ідэ.* Смаляніца Пруж. *Лёт разрубалі зімой.* Старыя Смільгіні Воран. 2. у знач. *прысл. лёдам.* Па лёдзе. *Давай паедзем рэчкай, лёдам паедзем. І так мы паехалі лёдам дахаты.* Гемзы Шальч. 3. у выразе: *Лёдам стаяць* — быць замёрзлым (пра вадаём). *Гэта зімой было, рэчка стаяла лёдам.* Гемзы Шальч.∇ *В його взыму лёду ны достаныш. Холодный як лід.* Сіманавічы Драг. *Ногі, што ляды.* Жодзішкі Смарг. ◊ *Як лёду* — вельмі многа. *Дывчят — як лёду.* Сіманавічы Драг.

ЛЁЖКІ *прысл.* Тое ж, што і лежакóм. *Ляжак ставілі лёшкі.* Старыя Трокі Трак.

ЛЁЗНЫ *прым.* Ласкавы, ветлівы. *Лёзная дзяўчына, лашчыцца, як лісіца.* Мярэцкія Глыб. *Лёзная баба, і як дзяўчына, вот лёзная.* Кураполле Паст. *Спрытнінькі мальчык, лёзны мальчык.* Валынцы В.-Дзв. *Татка мой кажыць мне: «Бяры, яна лёзная дзяўчына».* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* літ. *liúožti* 'паважаць'.

ЛЁК *м.* 1. Селядзечны расол. *Лёк — селятцовы расол. Мачанку з лёку рабілі.* Крэва Смарг. *Даўней набяруць лёку ў збанке і ядуць с картофляю.* Кіралі Шчуч. *У бочцы лёку много, а сіляццоў мало.* Навасёлкі Свісл. *Лёк купялі ў пост, елі с картопляю.* Малахоўцы Бар. *Лёк — расол з сялёдак. Дайця лёку мне, каб свіня елі.* Альхоўцы Лях. *Лёк з сялёдак.* Рудня

Чэрв. 2. Вада, падсалоджаная мёдам. *Нешто звалі лёк — некі м'ёт, сіроп цяпер.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛЁКА *гл.* ЛЁХКА

ЛЁКА'ЛА *н.* Латок, па якім пчолы запаўзаюць у вулей. *Лёкала — латок такі, достачка апшываецца з двух старон палатном, па ім пускаюць пчол у вуляй.* Рыбчына Віл.; *парайн.* літ. *lakẽlė* 'тж' (АЛМ, І, 176).

ЛЁКА'ТОР *м.* Кватарант. *Лёкатор у нас жыў.* Лука Нараўк.; *парайн.* польск. *lokator* 'тж'.

ЛЁКІ *гл.* ЛЁГКІ

ЛЁКІЯ *гл.* ЛЁГКЕ

ЛЁККІ *гл.* ЛЁГКІ

ЛЁКОТІ'ТЫ *гл.* ЛЕКАЦЕ'ЦЬ

ЛЁКУ'ТКО *прысл.* Вельмі лёгка. Курашэва Чыж.

ЛЁКУ'ТЭНЬКО *прысл.* Лёгенька. Курашэва Чыж.

ЛЁКШ *прысл.* Лягчэй. *Тэпэр куды ўчытэлям лёкш учыты.* Якоўчыцы Кам. *Мэнч нагрузыв мышка, то лёкш ныстьі.* Сіманавічы Драг.

ЛЁКШЫ *прым. выш.* Лягчэйшы. *Курка мнуого лёкша, як піевэнь.* Курашэва Чыж.

ЛЁМ *м. бат.* Ільма. *Лём нападобія ясені, толькі суча ў бакі.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЁМБАСЕ' *мн.* Сцяблы чаго-н.∇ *Лёмбасе — ні маліны.* Гемзы Шальч.

ЛЁН *м.*, ЛЯНЫ', ЛЯНЭ', ЛЬНЫ, ЛНЫ *мн.* 1. Лён. *Бабы лён пашлі рваць.* Дварчаны Паст. *Лён білі пранікам. Лён змяты.* Рыбчына Віл. *У нас лён ня сеялі: лес, мала зямлі.* Лісна В.-Дзв. *Па лёня пабег, дзе лён пасеялі.* Грыкені Вільн. *Кала лёну работы многа было.* Канюкай Вільн. *Ляны харошыя.* Быстрыца Астр. *Насявалі ляноў—і ткалі, і пралі. Тэрас не сеюць людзі ляноў.* Гемзы Шальч. *Ляны сеюць.* Саланое Віл. *У маі лён сеялі. Ужо лянэ парвалі.* Парэчча Гродз. *Трэба лянэ абіваць.* Бакшты Іўеў. *Ешчэ льны былі не сланые.* Вялікі Краснік Пруж. *Хорошый лён. Дэсэть кучок лну нарвала. Того року такыі хорошы лны в людэй зародылы.* Сіманавічы Драг. 2. Льновалакно, льняныя ніткі. *Панчохі рабілі з лёну.* Кухты Віл. 3. Ільнянішча. *Па лёня пасеялі жыта.* Грыкені Вільн. *По лновы посіяв жыто.* Сіманавічы Драг.

ЛЁНДРАЧКА *ж.* Від міскі. *Лёндрачка, як міска.* Ракаўскія Швянч.; *парайн.* польск. *rondel* 'каструля'.

ЛЁНСА *ж.*, ЛЁНСЫ *мн. буд.* Папярочная бэлька пад падлогай. *Лёнсы пад падлогі кладуць, прыбіваецца падлога на лёнсы. Лёнса згніла.* Парэчча Гродз.

ЛЁПНУЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Жанко, сядзі, а то лёпну.* Стральцы Гродз.

ЛЁС І *м.* 1. Доля. *Такі яе лёс — без маткі расла, мужык благі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лёс няшчасны, доля няшчасная.*

Старыя Смільгіні Воран. *Цяшкі лёс у яго быў.* Дварчаны Паст. *Поганый ёго лёс. Такый іі лёс, шо мало з мужыком побула.* Відзібар Стол. 2. Жэрабя. *Ну то кому лёс выпав за канал іхаты?* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *los* 'тж'.

ЛЁС II *м.* Вузкі прамежак, лаз. *Лёс пускаецца міжду сцяны і печкай.* Бакшты Іўеў.

ЛЁСТАЧКІ *мн.* Лісліваcць. *Скажа ўвочы, лёстачкамі душу выме.* Альхоўцы Лях.

ЛЁСТКІ *мн.* Драбы (у кашы). *Лёсткі — драбы, за каторыя чапляюць.* Данілавічы Дзярж.

ЛЁТ *гл.* ЛЁД

ЛЁТАМ *прысл.* Вельмі хутка (ісці, бегчы, ехаць). *Каб баба ехала, яны п ляцелі лётам. Я лётам туды.* Лісна В.-Дзв. *Лётам ліцела курыца.* Валынцы В.-Дзв.

ЛЁТАЦЦА *незак.* Пра перыяд палавой актыўнасці жывёлы. *Авечка лётаіцца.* Ахрэмаўцы Брасл. *Сучка лётаецца і сабак многа.* Ёдлавічы Брасл. *Авечка лётаецца.* Рагулішкі Даўг.

ЛЁТАЦЬ *незак.* 1. Лятаць. *Бусляняты ўжо лётаюць.* Дварчаны Паст. *Самалёт лётаіць.* Палік Барыс. *Сягоння яны лётаюць.* Лісна В.-Дзв. *Мяцеліца, як быстра снех лётаіць, круціць.* Магуны Паст. 2. Хутка хадзіць, бегаць. *Лётаюць пад дубы, там растуць баравікі. Паляўнічы сабака на паляванне лётаіць.* Магуны Паст. *Пашлі лётаць хлопцы. Ляці ўперад.* Дварчаны Паст. *Куды вы лётаеце? Як яна лётала да яга!* Саланое Віл. *Лётаць ня будзіш — і замерзніш. Лёталі тут воўкі. Кот, сабака, як падпалены, лётае.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лётаіць праз дзень. Лётаіць па хаця.* Ракаўскія Швянч.∇ *Рабяты лётаяць, як маланння; знясло яга, як маланнёй.* Груздава Паст. *Лётаіць, як чортам патшыты.* Дварчаны Паст. 3. Хадзіць да каго-н., заляцацца. *Нашы хлопцы лётаюць да дзяўчат у Ананічы.* Дварчаны Паст.

ЛЁТКА *ж.* Ляток (у вуллі). *У лётку пчолы ляцяць.* Мярэцкія Глыб., Саланое Віл., Старыя Смільгіні Воран., Жодзішкі Смарг., Груздава Паст. *Пчолы сідзяць на лётках; лёткі называліся.* Саланое Віл. *У доміках верхняя і ніжняя лётка.* Прэдэ Даўг. *Лётка — куда ўлятаюць пчолы.* Шкаўна Лудз.

ЛЁТНІК *м.* Лётчык. *Яго сын лётнік.* Альхоўцы Лях.

ЛЁТНІ'СКА, ЛЁТНІ'СКО *н.* Аэрадром. *Лётніска — дзе самалёты сядаюць.* Старыя Смільгіні Воран. *Кап прашчэй, напрасты сцежка, а там лётніско.* Альхоўцы Лях. *Коло Бырэзы лётніско блысько, там завшы самолёты гудуть.* Сіманавічы Драг.

ЛЁТНІШЧА *н.* Тое ж, што і лётніска. *Самалёты на лётнішчы.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛЁТОСЬ *гл.* ЛЕ'ТАСЬ

ЛЁЎКІ толькі *мн. мед. вет.* Запаленне калявушнай зало-

зы. *Лёўкі бываюць ат простуды; націраюць трапатынам.* Ёдлавічы Брасл. *Лёўкі свіню схвацілі, можа і здохнуць. Свіня захварэла на лёўкі — гузы бываюць каля горла.* Гемзы Шальч.; *параўн.* літ. *liaũkos* 'тж'.

ЛЁХ *м.* 1. Склеп. *Даўно ізуіты зрабілі лёх пад касцёл і хадзілі маліцца, жылі яны там, дзе цяпер бальніца.* Жодзішкі Смарг. *Картоплі в лёх поносымо.* Сіманавічы Драг. 2. Падземная прамоіна. *Лёх прамыла, кажуць, як дзірка дзе якая.* Тухавічы Лях. *Лёх пад зямлёю праpве, патом выб'еццa наверх, у яму, у скляпэ ідзе.* Міратычы Карэл.; *гл.* лёха.

ЛЁХ-ЛЁХ-ЛЁХ *выкл.* Тое ж, што і люх-люх-люх. *Вада лёхая — лёх-лёх-лёх.* Солы Смарг.

ЛЁХА *ж.* Нара, падземны ход. *Мышы нарабілі лёхаў.* Дакудава Лід. *Лёхі — гэта норы.* Старыя Смільгіні Воран. *Лёхі парабілі мышы; адна лёха.* Белы Бераг Іўеў. *Мышы лёхі патачылі ў каморы і ў лесе.* Кіралі Шчуч., Рыбчына Віл. *На адных лёхах поле.* Галубы Маст. *Лёха — падземная нара.* Мярэцкія Глыб. *Мышы парабілі лёхі.* Альхоўцы Лях. *Мышы надзелылі лёх.* Якубова Рас. 2. Тое ж, што і лёх 2. *Лёха выбілась пад бераг. На гэтай закрутцы выбілася лёха.* Гемзы Шальч. *У вадзе, пад вадой павымывала лёхі; лёха вымытая. Вада размыла лёхі пад зямлёй; лёха размытая.* Рыбчына Віл. *Лёхі ад вады; як велька вада пашла, то папрыбівала велькія лёхі.* Міратычы Карэл. *У ямі вада прамыя лёху, дзе картоплі.* Альхоўцы Лях. *Лёхі вада прамывая.* Вецярэвічы Пух. 3. Падземны ход. *Лёха ідзець ад Полацка і невядома куды.* Мярэцкія Глыб. *У Іўю лёхі ад касцёла, лёха — роў закрыты. Даўней лёхі пракопвалі. З Гаранёнскага замка да Жамаслава была падземная лёха, што коньмі ехалі.* Жылі Іўеў. *Такія лёхі — страх, свету там німа, пад гэты берах прывялі.* Сасноўка Смарг. 4. Адтуліна, дымаход. *Праз лёху дым праходзіць.* Курaполле Паст.; *параўн.* польск. *loch*, ням. *Loch* 'тж'.

ЛЁХАЦЬ *незак.* Булькаць (пра ваду). *Вада лёхая — лёх-лёх.* Солы Смарг.

ЛЁХКА, ЛЁХКО, ЛЁКА *прысл.* 1. Лёгка. *Табе лёхка нясці?* Дварчаны Паст. *Цяпер лёхка рабіць.* Альхоўка Навагр. *Мешок с пухом лёгко падняць.* Баброўнікі Гарад. *Мало наклав — лёхко нысты.* Сіманавічы Драг. *Узяў паплешчыну, кап было лёка ісці.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. *перан.* Без цяжкасцей, без намагання. *Саўсім лёхка жывуць яны.* Ракаўскія Швянч. *Лёхка пражыў. Лёхка дастаў.* Малькуны Ігн.

ЛЁХКА, ЛЁХКАЯ *гл.* ЛЁГКЕ

ЛЁХКІ *гл.* ЛЁГКІ

ЛЁХКО І *гл.* ЛЁХКА

ЛЁХКО ІІ *гл.* ЛЁГКЕ

ЛЁХКЫЙ *гл.* ЛЁГКІ

ЛЁХО *н.* Рэха. *У лесі ш гукаюць, а лёхо ідзе.* Малахоўцы Бар.

ЛЁШАНЬКА *ж.* Паз у бервяне. *Выбіраюць лёшанькі і састаўляюць шула ў гумне.* Быстрыца Астр.

ЛІ *гл.* ЛЯ I

ЛІБІ'ВЫ *гл.* ЛЮБІ'ВЫ

ЛІБІДА' *гл.* ЛЕБЯДА'

ЛІ'БІДЗІЦЬ *незак.* Лавіць ракаў. *Лібідзіў ракі на аблупленую жабу.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛІБІ'ЛА *н.* Прыстасаванне для лоўлі ракаў. *Лібілам ракаў лавілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛІБІРО'ЙТ *м.* Рубероід. *Лібіройт узялі ў магазіня, пакрываць хлеў — там цячэ.* Кіралі Шчуч.

ЛІБЛІ'ВЫ *гл.* ЛЮБІ'ВЫ

ЛІ'ВЕНЬ, ЛІ'ВЯНЬ *м.,* ЛІ'ВАНЬ *ж.* Тое ж, што і л е я. *Сёння ноччу такі лівень быў.* Дварчаны Паст. *Лівянь учора быў.* Рудня Астравітая Чэрв., Вецярэвічы Пух. *Навальніца велькая, лівань.* Пацаўшчына Дзятл.

ЛІВО'РВЭР *м.* Рэвальвер. *Стрыляті ліворвэром. Забілі з ліворвэра.* Курашэва Чыж.

ЛІ'ВЫЙ *гл.* ЛЕ'ВЫ

ЛІГА'РЫ *гл.* ЛЯГА'РЫ

ЛІГА'ЦЦА *незак.* Брыкацца. *Лігаюцца конь з канём.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛІ'ГМА *гл.* ЛЁГМА

ЛІД *гл.* ЛЁД

ЛІДАВІ'НЫ *мн.* Участкі зямлі, пакрытыя лёдам. *Ня ецьпа гэтых лідавінах.* Кураполле Паст.

ЛІДА'ІК, ЛІДА'ЕК *м.* Моташнасць. *Лідаік замучыў.* Беразіно Докш. *Ташніць, лідаек мучыць. Лідаек — каго ташніць.* Ухвала Круп.

ЛІДАКІ' *мн.* Тое ж, што і л і д а в і н ы. *Ня едзе па гэтых лідавінах, лідакі такія.* Кураполле Паст.

ЛІДА'ЦЬ *незак.* Нудзіць. *Мне лідае, ташніць.* Мачаск Бярэз.

ЛІДА'ШНА *прысл.* Моташна. *Мне лідашна.* Беразіно Докш.

ЛІДЗЯ'НКА *ж.* Вялікі кавалак лёду, на якім каталіся дзеці. *Высікалі з лёду лідзянку і на лідзянкі вазіліся.* Лісна В.-Дзв.

ЛІДКА'ВЫ *прым.* Ліслівы. *Нека лідкава дзіця, свет не бачыў.* Галубы Маст.

ЛІЕ'ЗТІ *гл.* ЛЕ'ЗЦІ

ЛІЕ'СКА *гл.* ЛЯ'СКА

ЛІЕ'ТНІК *гл.* ЛЕ'ТНІК II

ЛІЕ'ТО *гл.* ЛЕ'ТА

ЛІЕ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Лечаны. *Ліечаным конём мало найіедэш.* Курашэва Чыж.

ЛІЕ'ЧЫТІ *гл.* ЛЕ'ЧЫЦЬ

ЛІ'ЖА *ж.* Хлебная лапата. *Лажы хлеб на ліжу.* Старыя Смільгіні Воран.; *парайн.* літ. *lìžė* 'тж'.

ЛІЖА'К I *м.* Від самапрадкі. *Дзірывянны камод спалілі, ліжак спалілі — як санапрялка, на трох нагах, на трох ножках, маленькі каточак, як тазік, сільна харашо прасці.* Мішневічы Шум.

ЛІЖА'К II *гл.* ЛЯЖА'К

ЛІЖА'ТКА *ж.* Ніжняя перакладзіна драбін. Мярэцкія Глыб.

ЛІЖА'ЦЬ *гл.* ЛЯЖА'ЦЬ

ЛІЖАЧО'К *м. памянш.* да л я ж а́ к 1. *Ліжачок быў, на козліках канчычок.* Кураполле Паст.

ЛІЖА'ЧЫ *дзеепрым.* Ляжачы. *Ліжачы камень.* Дварчаны Паст.∇ *Пад ліжачым — вош, пад бягучым — грош.* Саланое Віл.

ЛІЗА'ЦЬ *незак.* Лізаць. *Кот сваю лапку лізаў.* Дварчаны Паст. *Карова цілёнка ліжа.* Парэчча Гродз.

ЛІЗЕ'РКА *ж.* Лінія, граніца дзялянкі ў лесе. *Лізерка — лінія дзялянкі, дзе ссякуць дзерава, а дзе падчэшуць, калі шырэй і можна праехаць,— то лінія. Прасякаюць лізерку, зазначуюць, мяжуюць дзялянку, каб відаць было, дакуль яна ідзе.* Азяраны Раг.; *парайн.* літ. *lýžė* 'больш глыбокая баразна ў полі, куды сцякае вада'.

ЛІЗНУ'ЦЬ *зак.* 1. Лізнуць. *Лізнуў языком мёд.* Дварчаны Паст. 2. *перан.* Ударыць. *Я зарас цібе лізну дзягай.* Номікі Бабіц.

ЛІ'ЗТЫ *гл.* ЛЕ'ЗЦІ

ЛІЗУ'Н *м.* Ласун. *Лізун ты, толькі на прысмаках жывеш.* Альхоўка Навагр.

ЛІЗУ'ХА *ж.* Ласкавае дзіця. *Лізуха — ліслівая, ласкавая дзіця.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛІ'КА *гл.* ЛІ'ХА

ЛІКА'Й *гл.* ЛЯКА'Й

ЛІКА'ННЕ *н.* Спалох. *Спужайся, із лікання стала.* Саланое Віл.

ЛІКЧЭ'Й *гл.* ЛЯГЧЭ'Й

ЛІЛЕ'Я, ЛІ'ЛІЯ, ЛЯЛЕ'Я *ж. бат.* Гарлачык. *І белая і жоўтая лілея на возеры.* Пасіене Лудз. *Лілія бывая і белая і жоўтая.* Быстрыца Астр. *Лілія жоўтая і белая ў атоках.* Валынцы В.-Дзв. *Лялея жаўцейшая, памаранчова.* Кураполле Паст.

ЛІЛІ'ТЫ *гл.* ЛЯЛЕ'ЦЬ

ЛІЛІ'Я *ж. бат.* Лілія. *Білу лілію посію.* Сіманавічы Драг.

ЛІМІ'НА *ж. бат.* Тое ж, што і л ё м. *З ліміны кару дра-*

*лі.* Мішневічы Шум. *Ліміна падобная да вяза, лісце, як у вяза.* Мачаск Бярэз.

ЛІМІ'НАВЫ, ЛІМІ'НЕВЫЙ, ЛІМІ'НЯВЫ, ЛІМЕ'НЁВЫЙ *прым.* Алюмініевы. *Лімінавы гаршчок купіў.* Асавец Віл. *Гаршкі былі лімінєвыі і гліняныі.* Навікі Лудз. *Фляшкі былі лімінєвыі.* Пасіене Лудз. *Кана — млячарны збан, лімінявы.* Быстрыца Астр. *Ліменёвый чыгун.* Сіманавічы Драг.

ЛІМІ'ННЯ *зб. н.* 1. Зараснікі ільмы. *Пайду ў лімі́ння.* Лапічы Асіп. 2. Кара ільмы. *З лімі́ння лапці плялі.* Лапічы Асіп.

ЛІМІ'НЬ *м.* Алюміній. *Гаршчкі з ліміня робяць.* Асавец Віл.

ЛІМЯГІ' толькі *мн.* Франтон у гаспадарчых будынках. *Трэба чапялу* [вертыкальны брусок у франтоне] *паставіць і закідаць новыя лімягі. Мае лімягі закіданы. У такох, у хлеві лімягі рабілі з броўнышкаў. Шчыты — у хаця, а лімягі — у гаспадарчых будынках.* Саланое Віл.

ЛІН, ЛІНЬ, ЛЫН *м. заал.* Лінь. *Лін рэдка ловіцца.* Дварчаны Паст. *Я сёня паймаў ліна, велькі ён і смашны. Лін, лінке — найукуснейшая рыба.* Кіралі Шчуч. *Лін — харошая рыба.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лін — такая рыба ест.* Швэды Вільн. *Лін — такая рыба.* Альхоўка Навагр. *Злавіў ліна.* Малахоўцы Бар. *Лін — такая рыба. Няма ляна. Ляны, многа ляноў.* Альхоўцы Лях. *Злавілі тры шчукі і льна злавілі.* Кухты Віл. *Два кусочкі ліна з'еў.* Івашкаўцы Смарг. *Такая рыба — лінь.* Пасіене, Мельнікі Лудз. *Лінь укусны.* Шкаўна Лудз. ∇ *Хлопці хорошы, як лыны.* Сіманавічы Драг.

ЛІ'НА, ЛЫ'НА *ж.* Канат. *Ліна — трос. Ліну круцілі з дроту, бралі некалькі столак дроту і круцілі ліну. Трахтарэ, машыны цягнуць на ліне. Цяпер называюць трост, а па-нашаму — ліна. Ліны за паншчынай рабілі с канапель. Лінамі навяжуць шліхты, каб вада шліхтаў не пазносіла.* Бакшты Іўеў. *Ліна драцяная, рабілі і с канапель; цягнуць ліну, падымаюць што-небудзь.* Жылі Іўеў. *Ліна — тоўстая вяроўка з лёну.* Граўжышкі Ашм. *На Каўказе аўтобус на лінах спускаецца.* Чычалі Швянч. *Самохот так в болоті ўстрах, што лінамі вытягалі.* Курашэва Чыж. *Ліна — плець, што вулля цягне на дзерава, увярху на суку калясо, ліна падвязваецца да яго. Увярху на суку вешаецца калясо дзеравяннае, падвязваецца ліна і вулля цягнуць на дзерава.* Ухвала Круп. *Лынамы прыв'язувалы дэрыво.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *lina* 'тж'.

ЛІНА'ЦЬ *гл.* ЛІНЯ'ЦЬ

ЛІНВА' *ж.* Вяроўка. *Гэта вужышча, а танчэйша вяроўка — лінва, і снапы, і сена ўвязваюць.* Масілавічы Сл.

ЛІНЕ'ЙКА *ж.* Выязны воз. *Лінейку на рысорах быў куўшы на чацвярых коні.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лінейка — была цілега.* Лісна В.-Дзв. *Лінейка — рысорная, нізінькія лінейкі*

*былі.* Скрудалена Даўг. *У лінейках людзі ездзілі, садзеня са спінкай.* Індра Красл. *Лінейкі былі праезныя, дзе дваём сесці, начальства ездзіла.* Навікі Лудз.

ЛІНЕ'ЦЬ *гл.* ЛІНЯ'ЦЬ

ЛІНІ'ЛА, ЛІНІ'ЛО *гл.* ЛЕНІ'ВО

ЛІ'НІЯ *ж.* 1. Роўны контур чаго-н. *У нас гарот пат адну лінію.* Лісна В.-Дзв. 2. Вузкая роўная прасека ў лесе. *Лінія прасечана ў лесе; у гэтай лініі стаіць стоўп.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Чыгунка. *Встымніна хата стояла блысько коло лініі.* Сіманавічы Драг.

ЛІ'НКА *ж.* Вяроўка, пры дапамозе якой падымаюць вулей на дрэва. *Лінкі — вяроўкі спецыяльныя паднімаць вулей.* Быстрыца Астр. *Драбіну і лінку цягнулі.* Старыя Смільгіні Воран.; *гл.* л і н а.

ЛІНОВА'ТІСЕ *незак.* Ленавацца. *Лінуецце до склепу пойті.* Курашэва Чыж.

ЛІНО'ВІСКО *н.* Тое ж, што і л е н і в о. *Ліновіско гужовае. Ліновіско; як ягады бяром, бяруць ліновіско на нешто дадому, на нешто яго бяруць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛІНО'ВІШЧА, ЛЫНО'ВЫШЧЭ *н.* Тое ж, што і л е н і в о. *З гаду ліновішча і з вужоў бяруць ад трасцы.* Альхоўцы Лях. *Ліновішча вужовае, смушка.* Жыдзевічы Іўеў. *Лыновышчэ — шо гуж іспускае с сыбэ шкуру.* Відзібар Стол.

ЛІНОГУ'З *м.* Гультай. *Такі лiногуз, нічого робіті нэ хочэ.* Курашэва Чыж.

ЛІ'НУ'ЦЬ *зак.* 1. Лінуць. *Ліні ва́ды на рукі.* Дварчаны Паст. *У лазне лінёш ваду на камянёў.* Саланое Віл. *Лінуць з міскі ваду.* Ахрэмаўцы Брасл. *Ліпей лінула газы.* Мсцібава Ваўк. 2. Хлынуць. *Быў коклюш, так станя рваць кашэль, кроў патом ліне ротам і носам.* Крынкі Крын.

ЛІНЦЕ'Й *м.* Від кадрылі. *Дзед Міхалка на жалейке іграў, а баба лінцій танцуіць. Лінція танцавалі, нападобіе кадрылі.* Мішневічы Шум.

ЛІНЬ І *гл.* ЛІН

ЛІНЬ II *ж.* Тое ж, што і л і н к а. *Лінь бралі на дзерава лезці пчол падглядаць.* Мачаск Бярэз.

ЛІ'НЬКА *ж.* Лінія. *Нада працяць* [правесці] *ліньку.* Альхоўка Навагр.

ЛІ'НЯ І *ж.* Тое ж, што і л і н к а. *Вяроўка, каторай вулья цягаюць, называюць ліня; гэто тоўста, як канат, вяроўка і доўга.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛІ'НЯ II *ж.* Тое ж, што і л і н і я 2. *Ліня — гэто вуская прасека.* Малахоўцы Бар. *Ішла ліняй, перайшла ліню.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛІНЯ'НЯ *н.* Тое ж, што і л е н і в о. *Вужова лiняня нашоў я. Вужова ліняня памагае ад каросты ў каня. Нашоў*

*вужова ліняня, трэба яго схаваць дзе.* Кіралі Шчуч. *Ліняня ўжова.* Галубы Маст., Пацаўшчына Дзятл.

ЛІНЯ'ЦЬ, ЛІНА'ЦЬ, ЛІНЕ'ЦЬ *незак.* 1. Траціць першапачатковы колер, выцвітаць. *Ачэрняцца маткі і ліняслі.* Пасека Ст.-Дар. *Лінаіць ад сонца.* Асавец Віл. 2. Мяняць у пэўныя перыяды пер'е, поўсць. *Лініяць курыца, пні выходзюць, сколькі пней у яе.* Валынцы В.-Дзв. *Кура ліняе, вылініла, аш блішчыць.* Альхоўцы Лях. *Як ліняюць, усе пімплі растуць.* Лайпушкі Ігн. *Куры ліняюць, астаюцца асцюке.* Парэчча Гродз. *Конь лінае і карова стала лінаць, еслі пачасала п час, то ўсю шэрсць атцягнула п.* Мсцібава Ваўк. *Курыца лінаіць.* Ракаўскія Швянч. *Конь лінея.* Старыя Трокі Трак. 3. Лупіцца (пра скуру). *Скура лініяіт — ліцо ў ямачкі.* Рагулішкі Даўг.

ЛІ'ПА' *ж.* 1. *бат.* Ліпа. *Ліпа зацвіла. З ліпы зваліўся Янак.* Дварчаны Паст. *Усе ліпы зрэзалі. Ліпа каля хаты.* Рыбчына Віл. *Ліпа расце. У вёсцы велькія ліпы ест.* Кіралі Шчуч. *Высокая ліпа.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Многа ліпаў нарошшы.* Едлавічы Брасл. *Ліпаў бываіць многа.* Чычалі Швянч. *Ліпа — рэдкій случай у нас.* Навікі Лудз. *Ліпу лупілі, сявок рабілі.* Кузьмічы Люб. *У нас ліпá за хатай.* Галоўні Воран. *Як ліпá стаяла тут.* Паляцкішкі Воран. *З ліпы́ мялі мяздру і дабаўлялі ў хлеп.* Жылі Іўеў. *Палосся ліпы́.* Жыдзевічы Іўеў. *Ліповачка рабілася з ліпы́.* Солы Смарг. *На ліпé цвету многа. Гэта ліпá здаўна тут, бацька садзіў.* Асавец Віл. *Ліпá стаіць каля сельсавету.* Крэва Смарг. *На ліпé цвет. Дупля зарасла ў ліпé.* Старыя Трокі Трак. 2. Ліпавы цвет. *Ліпý на лекарства збіраюць.* Жылі Іўеў. 3. Кара з ліпы. *Дралі ліпý.* Альхоўка Навагр. *Лапці рабілі з ліпы́, хадакі — са скуры.* Старыя Трокі Трак.

ЛІ'ПАВЫ, ЛІПО'ВЫ *прым.* Ліпавы. *Ліпавы мёт.* Дварчаны Паст. *Самы лепшы мёт з палявых цвятоў, ліпавы ні такі.* Груздава Паст. *Прысады ліповыя.* Галоўні Воран. *Ліповы мёт.* Жылі Іўеў. *Цвету ліповага зварылі.* Жыдзевічы Іўеў. *Ліповая лыка. Ліповыя начоўкі.* Быстрыца Астр. *Ліповая бочка.* Граўжышкі Ашм. *Ліповы мёт с ліповага цвету.* Саланое Віл. *Ліповая міска. Лапці з ліповага лыка.* Рыбчына Віл. *Ліповы цвет добра ад кашлю.* Кіралі Шчуч. *Лыка ліповая.* Малахоўцы Бар. *Ліповыя лапці з кары ліповай.* Грыкені Вільн. *Ліповы цвет памоцны ат кашлю.* Номікі Бабіц. *Ліповы цвет ад прастуды.* Солы Смарг. *Ліповае гальє.* Дзяніскавічы Ганц. *Ліповая карыта. Плялі лапці з ліповага лыка.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лупкі з ліповай кары рабілі.* Палік Барыс. *Мёд трымалі ў кадках ліповых.* Глівін Барыс. ∇ *Будуць галовы бараны, а зубы ліповыя* — пра ўпартага, але неразумнага, няўдачлівага чалавека. Індра Красл.

ЛІ'ПАЎКА, ЛІПО'ЎКА *ж.* Бочка, выдзеўбаная з ліпы. *Лі-*

*пайка звалі, дабро ссыпалі, калапні — насыпка такая, ссыпалі ў яе ўсё. У ліпаўцы мука стаіць, з ліпы выдоўблівалі. Ліпоўка — з ліпы.* Саланое Віл. *З ліпавай калоды бочкі рабілі — ліпаўкі.* Ухвала Круп. *Некалі дзелалі ліпаўкі із вушкамі і ў лес ішлі падразаць мёт.* Лапічы Асіп. *Ліпоўкі выдаўбвалі з ліпы.* Быстрыца Астр.

ЛІ′ПЕНЬ *м.* Месяц ліпень. *У тым годзе быў месяц ліпень дажджлівы.* Дварчаны Паст.

ЛІПЕ′НЬ *м. заал.* Харыус. *Ліпень — красівая рыба, ока да сэрца пахожа, пярына на цэлым хрыпце, па быстраводам ходзіць.* Быстрыца Астр. *Ліпені ў кропачкі, блішчонцы, як гузічкі, вялікая рыба. Злапаў ліпеня.* Гемзы Шальч.; *парайн.* польск. *lipień* 'тж'.

ЛІ′ПЕЦ *м.* Тое ж, што і л і п е н ь. *У ліпцы прыехала.* Жодзішкі Смарг. *У ліпцы сын прыедзе.* Дварчаны Паст.; *парайн.* польск. *lipiec* 'тж'.

ЛІПЕ′ЦЬ *незак.* 1. Балець, ныць. *У мяне ліпяць зубы.* Кудзялянцы Шальч. 2. Вельмі хварэць, ледзь жыць. *Адна дачка ліпіць.* Саланое Віл. *Яна ледзь ліпіць.* Дварчаны Паст.; *парайн.* літ. *lypėti* 'выжыць', *léipėti* 'млець'.

ЛІ′ПІН *м.* Лубін. *Ліпін сеялі, уродзі клевіру.* Пасіене Лудз.

ЛІ′ПІНА *ж.* Тое ж, што і л і п á 1. *Усякая дзеравіна ў мяне: ліпіна, чаромшына, а каштану недзе расці.* Скрыпчына Лудз.

ЛІ′ПІНСКІ *прым.* Лубінавы. *Ліпінскае поле, ліпін сеялі.* Пасіене Лудз.

ЛІ′ПКІ *прым.* Клейкі. *Ліпкі хлеб ліпне за зубы, хоць конікі ляпі.* Кіралі Шчуч. *На таполі ліпкія лісты.* Дварчаны Паст. *Сільна ліпкая зямля.* Ахрэмаўцы Брасл. *На чорнаольсе лісты ліпкіе.* Грыкені Вільн. *Смала ліпкая.* Лісна В.-Дзв.

ЛІПЛЯ′ВЫ *прым.* Заразны. *Ліплявая балезнь — якая заражае.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛІПНЁХ *м.* Ліпняк. *У ліпнягу сядзелі. Забеглі ў ліпнёх.* Рыбчына Віл.

ЛІПНЯ′К І, ЛІПНІ′К *м.* Тое ж, што і л і п н ё х. *Дайней, дзе адзін ліпняк — на лапці дралі.* Кураполле Паст. *Луцця дзяруць з ліпніку.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛІПНЯ′К ІІ *м.* Камяк чаго-н. ліпкага. *С піску і гліны робілі ліпнякі і білісе.* Курашэва Чыж.

ЛІПО′ВАЧКА *ж. памянш.* да л і п а ў к а. *Ліповачка рабілася с цэлай ліпы, як бочачка невялікая.* Солы Смарг. *Ліповачка — з ліпы.* Саланое Віл., Нарбуты Смарг.

ЛІПО′ВЫ *гл.* ЛІ′ПАВЫ

ЛІПО′ЎКА *гл.* ЛІ′ПАЎКА

ЛІПУ′ШЧЫ *прым.* Тое ж, што і л і п л я́ в ы. *«Ці ліпу-*

*шчая хвароба рак? — Каторыя гавораць: неліпушчая».* Ракаўскія Швянч.

ЛІ'ПЦІК, ЛІ'ФЦІК *м.* Ліфчык. *Ліпцікі дзеўкі насілі.* Палік Барыс. *Ліфцік пашыла, скажуць і станік.* Гайна Лаг.

ЛІПЦО'ВЫ *прым.* Тое ж, што і л і п а в ы. *Ліпцовы мёт сама лучша.* Дакудава Лід. *Ліпцовы мёт.* Жылі Іўеў., Граўжышкі Ашм.

ЛІ'ПЦЫ толькі *мн.* Прыманка з жабы, на якую ловяць ракаў. *Ліпцы рабілі: жабу зловяць, закасваюць кожу на галаву, увязваюць шнурком і пускаюць у воду; ракаў пазурамі набярэцца за тую жабу, і завуць гэту жабу ліпцы.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* літ. *lipti* 'прыліпаць'.

ЛІ'ПШЫЙ *гл.* ЛЕ'ПШЫ

ЛІПЯ'НКА *ж.* Сыраежка. *Ліпянкі параслі.* Азяраны Раг.

ЛІ'ПЯЦ *м.* Пропаліс. *Ліпяц — клей, якім пчолы заліваюць шчыліны ў вуллі.* Масілавічы Сл.; *парайн.* літ. *lìpčius* 'мядовая раса'.

ЛІС I *м.* Ліса. *Ліс у нары вывoдзіцца. Тут вяліся лісы і барсукі.* Гемзы Шальч. *Бачу—ліс пабег.* Грыкені Вільн. *Лісы і зайцы ёсць. Бачу — ліс, і вушкі, і хвасток.* Лайпушкі Ігн. *Ліс курэй ловіць.* Рудня Астравітая Чэрв. *Я бачыла ў лесі ліса. Ліс прышоў па куры.* Баброўнікі Гарад. *Брат мой травіў лісоў. Як у ліса нару заткнуць, а ён у другую.* Цяпінцы Віл.

ЛІС II *гл.* ЛЕС

ЛІ'СА' *ж.* Тое ж, што і л і с I. *Ліса ідзець да курэй, адзін учуў, што ліса ідзець, нешта меў у руках і забіў.* Лайпушкі Ігн. *Ліса́ курыцу ловіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛІСА'ВІНЬКІ, ЛІСА'ВЯНЬКІ *прым. памянш.* да л і с а́ в ы 1. *Лісавінька дзеўчына. Лісавянькі хлопчык.* Жылі Іўеў.

ЛІСА'ВЫ *прым.* 1. Ласкавы. *Лісавы — калі дзіця гэта лісавая, ласкавая.* Кіралі Шчуч. *Лісавая дзіця.* Дакудава Лід. *Мой брат лісавы, і людзі да яго хіляцца.* Солы Смарг. 2. Ліслівы, хітры. *Яна патхот мая, яна лісавая.* Дакудава Лід. *Лісавы чалавек.* Тухавічы Лях.

ЛІСАВЫ' *гл.* ЛЕСАВЫ'

ЛІСАПЕ'Д, ЛІСАПЕ'Т, ЛІСАФЕ'Т *м.*, ЛІСАПЕ'ТА, ЛІСАФЕ'ТА *ж.* Веласіпед. *Лісапед купіў.* Пасека Ст.-Дар. *На лісапедзе, на роварэ катаецца.* Дварчаны Паст. *Ровар, ці лісафет.* Рыбчына Віл. *Мой лісафет.* Рудня Астравітая Чэрв. *Мая лісапета.* Азяраны Раг. *Мая лісафета. Паехаў на лісафеце.* Саланое Віл.

ЛІСІВА'ТЫ *прым.* Ліслівы, хітраваты. *Прыбехшы была лісіватая дзяўчына.* Валынцы В.-Дзв.; *гл.* л і с а́ в ы 2.

ЛІСІ'НЫ *прым.* Лісіны. *Лісіная нара. Лісіныя норы.* Мярэцкія Глыб., Рудня Астравітая Чэрв. *Каля лісінай нары пер'я мы знайшлі.* Дварчаны Паст. *У нашым лесе тожэ ёсць*

*лісіныя норы, лісяняткаў малых выводзяць у норах.* Ёдлавічы Брасл.

ЛІСІ'ЦА I *ж. заал.* Ліса. *Лісіца пабегла.* Дварчаны Паст., Грыкені Вільн., Чычалі Швянч., Рудня Астравітая Чэрв. *Лісіцаў тожа было і цяпер ёсць. От дзейка хітрая, як лісіца.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Праўда, як лісіца на леташнім ламе скваркі пякла.* Груздава Паст.

ЛІСІ'ЦА II *ж. бат.* Лісічка (грыб). *У нас многа лісіцаў, яны не ўчарвеюць.* Кіралі Шчуч. *Нападобія лісіцаў расце грып падарожнік.* Дакудава Лід. *Усякія грыбэ ў леся: савячке, бапкі, лісіцы.* Малахоўцы Бар. *Цяпер збіраюць лісіцы. Мы ўчора прыняслі два кошыкі лісіцаў.* Баброўнікі Гарад. *І лісіцы там раслі.* Кудзялянцы Шальч. *Грыбы лісіцы.* Дзяніскавічы Ганц. *Такі грыб — лісіца.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛІСІ'ЦА III *ж.*, ЛІСІ'ЦЫ *мн.* 1. Скручаная вітка, або планка, якая змацоўвае палазы саней. *У палазах лісіцы, вязы. Лісіцы перш рабілі з лазы — лазяныя, а тады — с палак.* Мярэцкія Глыб. 2. Прыстасаванне для выпрамлення скрыўленай сцяны. *Узяць хату ў лісіцы.* Альхоўцы Лях. 3. Планка, у якую ўстаўляецца верхні канец млёна. Дакудава Лід.

ЛІСІ'ЧКА I, ЛІСІ'ЦКА *ж. бат.* Тое ж, што і л і с і ц а II. *Лісічкі растуць. Адну лісічку знайшла.* Дварчаны Паст., Грыкені, Швэды Вільн., Чычалі Швянч., Пасіене, Істра Лудз. *Лісічкі кусточкамі сядзяць.* Вялікі Лес Круп. *А можа, па лісічкі сходзіце.* Парэчча Гродз. *Лісіцка жоўтая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лісіцкі растуць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛІСІ'ЧКА II *ж.* Металічная планка з паглыбленнем у верхнім камені жорнаў. *Между каменямі, верхнім і сподні́м, удоўблена жалезная лісічка, яна круціцца разам з каменям.* Кіралі Шчуч.

ЛІ'СКА *ж. бат.* Тое ж, што і л і с і ц а II. *Цяпер збіраюць ліскі.* Баброўнікі Гарад.

ЛІСЛІ'ВЫ *прым.* 1. Тое ж, што і л і с а́ в ы 1. *Лісливая дзіця.* Масілавічы Сл. *Яна лісливая дзяўчынка.* Ёдлавічы Брасл. 2. Тое ж, што і л і с а́ в ы 2. *Дзяцёнак лагодны, ліслівы, як ліса.* Ёдлавічы Брасл. *Такі быў ліслівы, хітры чалавек, з ім асцярожна трэба было.* Беняконі Воран. *Ліслівы чалавек.* Міратычы Карэл. *Дзеўчынка такая лісліва!* Малахоўцы Бар.

ЛІ'СНІК *м. бат.* Ліснік. *Ліснік дзецям ад вольнасці.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЛІСНІ'К *гл.* ЛЯСНІ'К

ЛІСНІЧО'ЎКА *гл.* ЛЕСНІЧО'ЎКА

ЛІ'ССІ *прым.* Тое ж, што і л і с і н ы. *Лісся нара тут была.* Жодзішкі Смарг.

ЛІСТ I *м.* 1. Ліст расліны. *Сарваў ліста з бярозы.* Дварча-

ны Паст. *На лістох дубовых хлеб пеклі. На чорнаольсе лісты ліпкіе.* Грыкені Вільн. 2. *зб.* Лісце. *На дэрэвы ліст. Ужэ осэнь, ліст падае.* Горск Бяроз. ∇ *Як запяю — лісту не пара́, а ён атваліваіца.* Саланое Віл.

ЛІСТ II *м.* Пісьмо. *Напісала яму ліст.* Кухты Віл. *Ліст палучыла ад брата.* Дварчаны Паст. *Ліст палучыў. Ліст паслаў, а ён мне нешта длуга не атпісвае.* Гемзы Шальч. *Получыла ліста. Ліста напысала.* Горск Бяроз.; *параўн.* польск. *list* 'тж'.

ЛІСТАВЫ' *прым.* Лісцевы. *Ліставы лес.* Рыбчына Віл., Дакудава Лід. *Ліставы лес, там зара́сло гушча́ром.* Гемзы Шальч.

ЛІСТАНО'ША *м.* і *ж.* Паштальён. *Лістаноша пісьмо прынёс.* Чычалі Швянч.

ЛІСТО'К *м.* Тонкая пласцінка, слой чаго-н. *У корань [вулей у дрэве] устаўлялі лісток воску.* Саланое Віл.

ЛІ'СЦВЯННЫ, ЛІ'СЦВІННЫ *прым.* Тое ж, што і л і с т а в ы́. *У нас лісцвянныі ліса.* Пасіене Лудз. *Гэта лісцвінный лес.* Мельнікі Лудз.

ЛІСЦЁВЫ *прым.* Тое ж, што і л і с т а в ы́. *Лісцёвы лес.* Мярэцкія Глыб.

ЛІСЦІНА' *ж.* Тое ж, што і л і с т I, 1. *Адна лісціна бабоўніку.* Саланое Віл.

ЛІСЦЯ'СТЫ *прым.* Тое ж, што і л і с т а в ы́. *Лісцясты лес.* Кемялішкі Астр. *Дзерава лісцястая.* Старыя Трокі Трак.

ЛІСЯНЁ *н.* Лісяня. *Лісінята ў нарэ выводзяцца. Лісянё з нары вылезла.* Кіралі Шчуч.

ЛІСЯ'НКІ *мн. бат.* Лісічкі (грыбы). *Лісянкі па хвойніках.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛІСЯ'ЧЫ *прым.* Тое ж, што і л і с і н ы. *Лісячы каўнер.* Номікі Бабіц.

ЛІ'ТАРА *ж.* Літара. *Літары латышскія, як польскія.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* польск. *litera* 'тж'.

ЛІ'ТАСЦІВЫ *прым.* Міласэрны. *Наш нарот літасціва, да ўсіх хіліцца.* Кіралі Шчуч. *Муш быў літасцівы, узяў яго за пастушка.* Новікі Гродз.

ЛІ'ТАСЦЬ, ЛІ'ТОСЦЬ *ж.* Міласэрнасць. *Той стары такую літасць меў.* Новікі Гродз. *Літосці не мелі, а мы глядзём на той хлеп.* Паляцкішкі Воран.

ЛІТВІ'Н, ЛІЦВІ'Н *м.*, ЛІТВІНЫ', ЛІЦВІ'НЫ *мн. этн.* 1. Літовец. *Жывуць у нас палякі, літвіны. Быў літвін прыехаўшы.* Магуны Паст. *За Польшчы літвінаў у нас не было.* Дзераўное Стаўб. *Ён ліцвін і яна ліцвінка. У Чычалях найбольш ліцвіны.* Чычалі Швянч. *Да нас быў ліцвін прыехаўшы.* Дварчаны Паст. 2. Беларус з пэўнай мясцовасці. *За Паставамі жывуць ліцвіны.* Магуны Паст. *Тутэйшэ населене называе жыхароў Гродзенскай вобласці ліцвінамі.* Вялікі

Краснік Пруж. *Хто жывэ ў Рожані, коло Рожані, мы іх ліцвіны называемо.* Смаляніца Пруж.

ЛІТВІ'НКА *ж.* Жанчына літоўскай нацыянальнасці. *Мама мая літвінка была.* Стральцы Шальч. *Тут у нас літвінка, з Літвы дзеўчыну ўзялі.* Навасёлкі Свісл.

ЛІТВЯ'К, ЛЕЦВЯ'К, ЛІЦВЯ'К *м.* Літовец. *Яе муш літвяк. Пры лецвякох жыём; была пры лецвякох.* Старыя Трокі Трак. *І ліцвяке адзін другога не панімаюць.* Парэчча Гродз.

ЛІ'ТО *гл.* ЛЕ'ТА

ЛІТО'ВЕЦ *м.* Тое ж, што і л і т в і н 1. *Літоўцы ў нас канавы капалі.* Цяпінцы Віл. *За літаўца ідзе замуш.* Кудзялянцы Шальч.

ЛІ'ТОСЦЬ *гл.* ЛІ'ТАСЦЬ

ЛІТО'ЎКА I *ж.* Тое ж, што і л і т в і н к а. *У нашай вёсцы ёсць літоўка, ужо год восемдзесят ёй.* Дварчаны Паст. *Гутарка адметная ў той літоўкі.* Дзераўное Стаўб.

ЛІТО'ЎКА II *ж. с.-г.* Від касы. *На Сібіры касу завуць літоўка, наперат, відаць, каса паявілася з Літвы.* Кураполле Паст.

ЛІТО'ЎЧЫК *м. цясл.* Від сякеры. *Літоўчык зовіцца тапор, як сячэш ім — рука ні дрыжыць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Літоўчык і тапор завуць.* Кураполле Паст.

ЛІТР *м.* Літр (мера). *Я ніводнага літру не купіла малака.* Парэчча Гродз.

ЛІ'ТРА *ж.* Тое ж, што і л і т р. *Літру малака ўлеяла.* Вецярэвічы Пух.

ЛІ'ТУСЬ *гл.* ЛЕ'ТАСЬ

ЛІТЭ'РКА *ж.* Дэталь калаўрота (колца) для замацавання стрыжня, на які насаджваецца шпуля. *Літэрка закрываецца, штоп шпуля дзіржалась.* Саланое Віл.; *параўн.* ням. *Mutter,* польск. *muterka* 'гайка'.

ЛІ'ТЮСЬ *гл.* ЛЕ'ТАСЬ

ЛІ'ФТА *ж.* Ліфт. *Вінда — у гарадах ліфта.* Магуны Паст.

ЛІ'ФЦІК *гл.* ЛІ'ПЦІК

ЛІ'ХА *н.* і *ж.,* ЛІ'ХО, ЛІ'КА *н.* Няшчасце, бяда. *Няўжо ш ты мысліш ліха свайму брату?* Міратычы Карэл. *Хай іх ліха!* Відаўцішкі Вільн. *Ліха яго бяры!* Ахрэмаўцы Брасл., Дварчаны Паст. *Мухі — каб іх ліха!* Саланое Віл. *Багдай цябе ліха!* Граўжышкі Ашм. *Яна ліха мне ня жычыла.* Кудзялянцы Шальч. *Нэ думала, шчо такое ліхо будэ.* Смаляніца Пруж. *Ліка яго ведая.* Старыя Смільгіні Воран. ▽ *Ён ціха і я ціха — было п ліха.* Кураполле Паст. ◇ *Ліхам тварыць* — шумець, скандаліць. *Мужык выпісаўся з бальніцы і ўжо ліхам твора: выпівае, ругаецца.* Раўбічы Мін. *Ліха яго зная* — невядома. Жылі Іўеў. *Да ліха* — многа. *У яе да ліха адзежы, скаціны, свіней.* Лісна В.-Дзв. *У нас даўгу да ліха.* Граўжышкі Ашм. *Якого ліха* — навошта. *Якого ліха сіуды прышоў.* Курашэва

Чыж. *Ліхо нэ возьмэ* — нічога дрэннага не здарыцца. *Ліхо його нэ возьмэ, выздоровіе.* Курашэва Чыж.

ЛІХА′ *гл.* ЛЯХА′

ЛІХАДЗЕ′Й *м.* Вораг, зладзей. *Найбольшаму ліхадзею не жычу дрэнна.* Гемзы Шальч. *Ліхадзей ты, ліхадзей!* Альхоўка Навагр.

ЛІХІ′, ЛІХІ′Й, ЛІХЫ′Й *прым.* 1. Благі, дрэнны. *Быў ліхі пан да жэншчын.* Мішневічы Шум. *Ліхі чоловіек.* Курашэва Чыж. *Ух, ліхій вуон чоловек, ругаецца.* Горск Бяроз. *Чы ліхая баба можэ зробэтэ зло-быду? Ліхый чоловік.* Дзмітравічы Кам. 2. Злы (пра сабаку). *Ліхі собака можэ за ногу ўкусіті.* Курашэва Чыж. *Сабакі ліхія ёсць. У нас ліхі сабака быў. Сабакі ліхія, рвуць авечку. Дужа ліхій сабака, кусаецца.* Валынцы В.-Дзв. 3. Няякасны, састарэлы. *Прывёс нейкай лабазы* — так скажуць на ліхое сена. Дакудава Лід. *Дзе ліхая будыніна, залазяць вярэпайкі.* Вецярэвічы Пух. *Сіеты мішок ужэ ліхі, можна його ўжэ выкінуті.* Курашэва Чыж. ∇ *Усе бабры дабры, толькі адна выдра ліхая; выдра на чалавека нападая. А дзе ш тыя добрыя дочкі дзяюцца, а ліхія нявесткі бяруцца?!* Бакшты Іўеў. 4. Адваротны бок адзення. *Не буду класці сукенку на ліхі бок, а на добры бок.* Вострава Маст. *Сукенку злажыла на ліхі бок.* Навасёлкі Свісл. *Злажыла куртку на ліхі бок.* Номікі Бабіц.

ЛІ′ХО I *гл.* ЛІ′ХА

ЛІ′ХО II *прысл.* Дрэнна, кепска. *Ліхо насіць галлё з лесу. Ні хадзілі ў школу, то і ліхо. Хадзіць ліхо на раллі.* Пасека Ст.-Дар.

ЛІ′ХО ПАДУ′ШЧАЕ *н. мед.* Падучая хвароба, эпілепсія. *Пабівана, пабівана ад гэтага ліха падушчага. Яна хвора на ліхо падушчае. У нас багато хворых на ліхо падушчае.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛІХОРА′ТКА *ж.* Ліхаманка. *Колісь з ліхораткі мнуого люді ўмірало.* Курашэва Чыж.

ЛІХТА′Р, ЛЫХТА′Р *м.* Асвятляльны прыбор. *Ліхтар свеціць.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Запалі ліхтар, а то цёмна ў лазні.* Дварчаны Паст. *Ліхтар вазьмі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Бало скажуть: возьмы лыхтаря да посвыты.* Сіманавічы Драг.

ЛІХТА′РНЯ *ж.* Від ліхтара. *Ліхтарня, як ідзём лён мяць: чатыры слупкі і насцяклённая.* Магуны Паст. *В ночыэ, до хліва ідучы, трэба взяті ліхтарню.* Курашэва Чыж.

ЛІХЫ′Й *гл.* ЛІХІ′

ЛІЦ *гл.* ЛІЦЬ

ЛІЦВІ′Н *гл.* ЛІТВІ′Н

ЛІЦВЯ′К *гл.* ЛІТВЯ′К

ЛІЦЕ′ *н.* 1. Тое ж, што і л і ц ó. *З ліца гожа діевчына, але ногі тонковаты мае.* Курашэва Чыж. 2. Правы бок матэрыі, адзення. *Замісь наложыті сорочку на ліце, то наложыв*

*на выворот. Сіету хустку можна носіті на ліце і на выворот.* Курашэва Чыж.

ЛІЦЁВАНЫ *дзеепрым.* Ніцаваны. *Ліцёвана спудніця выгледае, як нова.* Курашэва Чыж.

ЛІЦЁВА′ТІ *незак.* Адпавядаць пэўным нормам, правілам. *То нэ ліцюе, коп такая молодая выходіла замуж за старого і брыткого.* Курашэва Чыж.

ЛІЦІНА′НТ *м.* Лейтэнант. *У мяне было два сыны: адзін вучыўся на ліцінанта, а другі ў арміі быў.* Парэчча Гродз.

ЛІЦІРЫНА′Р *м.* Ветэрынар. *Ліцірынарам быў і па старасці памёр.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛІЦО′ *н.* Твар. *З ліца — пасмотрыш — красівая.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* руск. *лицо* ’тж’.

ЛІ′ЦЦА *незак.* 1. Цячы. *Ні бачыш, вада ліецца.* Асавец Віл. *Льецца вада з крана.* Дварчаны Паст. *Ліецца алей.* Гемзы Шальч. 2. Абліванца потам. *Уся льюся, пот цячэ.* Дакудава Лід. 3. Выходзіць, ісці (пра дым з коміна). *Ля, зноў льецца з коміна дым.* Калядзічы Ваўк. ∇ *Яна плача, што бяроза ліецца* — горка плача. Дзяніскавічы Ганц. ◊ *Ліцца ракой* — горка плакаць. *Плачуць бабы: слёзы проста ракой ліюцца.* Саланое Віл.

ЛІЦЬ, ЛІЦ *незак.* 1. Ліць (ваду ці іншую вадкасць). *Яна многа вады ліець.* Асавец Віл. *Пачакай, цётка лле табе малака.* Стральцы Гродз. *Чую, ліюць на мяне ваду.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Будзе ліць ваду.* Рыбчына Віл., Мярэцкія Глыб. *Банкаю леця.* Парэчча Гродз. 2. Ісці (пра вялікі дождж). *Ні дабрысці, дошч ільець.* Магуны Паст. *Дождж лье як з вядра.* Дварчаны Паст. *Дош лье, праліўны дошч ідзе.* Кіралі Шчуч. *Гэдакі дошч ліе мо гадзін дзве.* Альхоўка Навагр. *Дош ліець.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як сталі ліць дажджы.* Ёдлавічы Брасл. *Дошч льець як з вядра.* Лісна В.-Дзв. *Дошч ліе.* Грыкені Вільн. *Дождж ліе.* Чычалі Швянч. *Ліе дошч.* Дзяніскавічы Ганц. *Трошкі ліе.* Старыя Смільгіні Воран. ∇ *Як ліць разлілася* — бясследна знікла. *Была ігрушка — і як ліць разлілася, прапала і нет следу. Купілі ігрушкі, пасадзілі ў кусцік і быта ліць разлілася. Бутта ліць разлілася, куды дзевалася, як вадой разлілася.* Ахрэмаўцы Брасл. ◊ *Ліць слёзы* — горка плакаць. *Гналіся на багаства, а цяпер слёзы лея. Будзе слёзы ліц.* Парэчча Гродз.; *парайн.* літ. *lýti* ’дажджыць’, *lỹja* ’ідзе дождж’.

ЛІ′ЧАНЫ, ЛЫ′ЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Палічаны. *Вядома — лічаныя грошы.* Дварчаны Паст. *Я свої грыбы полычыв, мої грыбы лычаны.* Сіманавічы Драг. 2. Вельмі малы па колькасці, адзінкавы. *Лічаныя дні засталіся.* Дварчаны Паст. *У лічаных хазяяваў елася многа.* Магуны Паст. ∇ *Воўк і лічаная бярэ.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вовк і лычанэ бырэ. Злодэй і лычанэ возьмэ.* Сіманавічы Драг.

ЛІЧАЯ' *гл.* ЛЕЧАЯ'

ЛІ'ЧБЫ *прысл.* Толькі б, хоць бы. *Лічбы яно розум мела.* Галубы Маст.; *параўн.* руск. *лишь бы* 'тж'.

ЛІ'ЧЫТЫСЬ *гл.* ЛЯЧЫ'ЦЦА

ЛІЧЫ'ЦЦА I *незак.* Расцэньвацца якім-н. чынам, успрымацца як-н. *Як ні ў бакешы, то й не хлапец лічыўся.* Грыкені Вільн. *Сані лічуцца рабочыя, а санкі — выхадныя.* Судэрва Вільн. *Тут лічыцца Літва.* Кудзялянцы Шальч.

ЛІЧЫ'ЦЦА II *гл.* ЛЯЧЫ'ЦЦА

ЛІЧЫ'ЦЬ *незак.* 1. Устанаўліваць колькасць. *Лічыў, пералічыў, чатыры сотні налічыў.* Паляцкішкі Воран. *Трэба грошы лічыць, палічы грошы.* Рыбчына Віл. *Лічыць грошы; грошы лічаныя.* Мярэцкія Глыб. *Лічыць грошы ўмею.* Альхоўка Навагр. *Лічыць, шчытаць грошы.* Старое Сяло Зэльв. *І зноў лічуць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лічыць грошы.* Калясное Міхал. *Добра лічы грошы.* Мачаск Бярэз. *Лічы мяхі.* Кузьмічы Люб. 2. Прытрымлівацца пэўнай думкі. *Як ты лічыш, дзе нам стол лепш паставіць?* Дварчаны Паст. ◊ *Лічыць платы* — ісці, трымаючыся за плот. *Калена ўспухла, кульгаю, платы лічу.* Дакудава Лід.

ЛІША'Й *м. мед.* Лішай. *Як распладзіцца лішай, ліцо псуе, трэба да доктара ехаць.* Кіралі Шчуч. *Лішай на твары.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лішай на лета выгаіцца.* Парэчча Гродз.

ЛІ'ШАЧКА *ж. памянш.* Тонка раскатаны кавалачак цеста. *Цесто качая на тонкія доўгія галушкі, парэжа, раскачая на лішачкі і пячэ — гэто ламанцы.* Стральцы Гродз.

ЛІ'ШКА *ж.* 1. Няцотны лік. *У вас тут пара ці лішка?* Магуны Паст. *Цотка ці лішка?* Дварчаны Паст. *Ці цот, ці лішка, я не ўганула — сказала лішка, а там быў цот.* Кіралі Шчуч. *У мяне пара, а ў цябе лішка.* Малахоўцы Бар. *Пара чы лішка?* Сіманавічы Драг. 2. Пэўная колькасць грошай, звычайна невялікая. *Там лішку зарабіў.* Рагулішкі Даўг.

ЛІ'ШНЕ, ЛІ'ШНЯ, ЛІ'ШНЁ *прысл.* Надта, празмерна. *Доўгія лішня* [сукенкі] *я ні люблю насіць. Як лішне стаіць хлеп у печы, запаліцца.* Дакудава Лід. *Лішне просіць.* Номікі Бабіц. *Ні трэба табе лішня расхадзіцца.* Кіралі Шчуч. *Таквеля сахару, бо ўжо лішнё.* Альхоўцы Лях.

ЛІ'ШНІ *прым.* Залішні. *Лішняга шмат.* Жылі Іўеў. *Нічога ў мяне лішняга няма.* Дварчаны Паст. *Гэта лішняё. Узяў з мяне лішняга.* Мярэцкія Глыб. *Нашто ты даеш лішняе мне, даў лішняго.* Гемзы Шальч.

ЛІ'ШНІЦА *ж.* Лішак. *Німа тут лішніцы, ні ўзяла яна лішніцы.* Міратычы Карэл. *У яго перабор, лішніца. У іх пяць сотак лішніцы.* Альхоўцы Лях.

ЛІ'ШТА *ж.* Перакладзіна ў прыстасаванні для снавання красён. *Ліштa — перапонкі пакладзены ў снуйцы.* Альхоўка

Навагр.; *парайн.* літ. *lýsta* (<ням. *Leiste* 'планка') 'перакладзіна'.

ЛІ'ШТВА *ж.* 1. Драўляная планка. *На лышкі ліштва прыбіта ў коніку.* Старыя Смільгіні Воран. *На канцах сталявання прыбіваецца ліштва.* Стральцы Гродз. *Нада ліштву падлажыць. Замного ліштву паднялі.* Малахоўцы Бар. *Ліштва е ў лошку, на якую кладуць дошкі.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Падгорнутая або нашытая паласа матэрыі ў адзенні. *Ліштва ў спадніцы, што падгінаецца.* Парэчча Гродз. *Ліштву вышывалі.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *lisztwa* 'тж'.

ЛІ'ШТВАЧКА *ж. памянш.* да ліштва 1. *Ліштвачка ўкладаецца пат сподам.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛІШЧЭ'НА *гл.* ЛЯШЧЫ'НА'

ЛІШЭ'ННЕ *н. с.-г.* Разбіванне поля на палосы. *Пасеялі, а лішэнне толькі пачалі.* Індра Красл.

ЛЛЯ'НЫ', ЛЯ'НЫ, ЛЯ'ННЫ, ЛЯНЫ'Й *прым.* Льняны. *Лляная семеня патаўчом. У бярловы хлеб лляную мякіну дабаўлялі.* Крэва Смарг. *Аснова ў палаценачку лляна́я.* Быстрыца Астр. *У ходніках аснова — нітка лляна́я.* Старыя Трокі Трак. *Талакно рабілі з ллянóга сем'я.* Дакудава Лід. *Ллянóя семя сеілі дайно.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Ляныя ніткі патбелівалі. Кофты ляныя насілі.* Гемзы Шальч. *Ляныя ручнікі.* Жылі Іўеў. *Ляная мякіна.* Бакшты Іўеў., Рыбчына Віл. *Ляную мякіну добра свіня ядуць.* Альхоўка Навагр. *Ляную мякіну свіням давалі, прысыпіш мукой.* Лісна В.-Дзв. *Лянная семя.* Вецярэвічы Пух. *З ляного полотна шылы сорочкы. Ляная основа і ляный вток.* Сіманавічы Драг.

ЛНІ'СКО, ЛНЫ'СКО *н.* Ільнянішча. *На лніскові картохлі будэмо садіті.* Курашэва Чыж. *Шэ осталось лныско згораты.* Сіманавічы Драг.

ЛОБ I, ЛОП, ЛЭБ, ЛЭП *м.* 1. *анат.* Лоб. *Як стукну па лобе.* Саланое Віл. *На лобі зрабіліся маршчыны. Зморшчаны лоп. У барана і рогі вельке, і лоп моцны.* Баброўнікі Гарад. *Вона лоба розбыла.* Горск Бяроз. *Лоба розоб'еш, по дорозэ ходячэ.* Дзмітравічы Кам. *Лоп разаб'еш.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як дам у лэб!* Кудзялянцы Шальч. *Я п яму была дайшы ў лэп. Разбіў лэба.* Паляцкішкі Воран. *Каўшні па лэбе.* Старыя Смільгіні Воран. *Лышкай па лэбя дайця!* Жылі Іўеў. *На лэбі, каля лэбу.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лэп — у нас кажуць. Селі есці пры стале, а сын маццы ў лэп шклянкаю.* Кіралі Шчуч. *Царава дачка адбіла на лэбе сонца і пярсцёнак узлажыла на паляц.* Дзесятнікі Валож. *Гус мае на лэбя.* Старыя Трокі Трак. *Лэп у хволдах, зморшчыўся увесь.* Ракаўскія Швянч. 2. *перан.* Галава. *Што мне нешта ў лэп стрэліла.* Быстрыца Астр. *Што ей дало ў лэп.* Граўжышкі Ашм. 3. *перан.* Валасы. *Рашчашу табе лэп.* Вялікія Баяры Шчуч. ◊ *Во лбе кружыцца* — галава кружыцца. Малыя Аўцюкі

Калінк. *За лабы драцца* — біцца. *Потым за лабы будзіця драцца, як вочы заплюшчу.* Парэчча Гродз.

ЛОБ II *м.* Франтон. *Окола стрэхі два лобы.* Смаляніца Пруж. *Лоб — у хаты, шчэ ест з окэнычком, ужэ поставылі лоба в хаты.* Горск Бяроз.

ЛОБА'ТЫЙ *гл.* ЛАБА'ТЫ

ЛОБА'Ч *м. экспр.* Чалавек з вялікім лбом. Курашэва Чыж.

ЛОБОДА' *гл.* ЛЕБЯДА'

ЛО'БУС *м.* Гарэза. *Надаеў мне гэты лобус.* Граўжышкі Ашм.; *параўн.* польск. *łobuz* 'тж'.

ЛОВІ'ННЕ *гл.* ЛАВЕ'НЕ

ЛОВІ'ЦІ *гл.* ЛАВІ'ЦЬ

ЛО'ВКО *гл.* ЛО'ЎКА I

ЛО'ВКОСЦЬ *гл.* ЛО'ЎКАСЦЬ

ЛО'ВЫ *гл.* ЛОЎ

ЛОГ, ЛОХ *м.* Лагчына. *Лагі там за полем. Лох каля балота.* Саланое Віл. *Лог — дзе кусты.* Азяраны Раг. *Лох (сенакос мокры) мне папаў.* Глівін Барыс. *Пашлі мыць на лох бяллё.* Глівін Барыс. ◊ *Логам узяцца* — густа зарасці травою. *Кап логам узялося* — каб добрая трава расла. Саланое Віл.

ЛО'ГАВА *н.* Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 1. *Сёння ён знайшоў ваўчынае логава, сем ваўчанят было.* Дварчаны Паст. *У лесе нашлі воўчая логава.* Ёдлавічы Брасл. *Ваўчынае логава разбурылі.* Глівін Барыс.

ЛО'ГАВІСКО *н.* Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 1. *Логавіско ваўкоў было на мышарыне.* Малахоўцы Бар. *Логавіско воўча.* Лука Нараўк. *Воўчае логавіско.* Баброўнікі Гарад.

ЛО'ГВА *н.* Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 2. *Вот паўгрэбалі куры логва, і кублы паўварачалі на картоплях, і ў ячмяне гэта зробяць.* Кузьмічы Люб.

ЛО'ГВІСКА *н.* 1. Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 1. *Логвіска — дзе ваўкі плодзяцца.* Гемзы Шальч. 2. Месца, дзе пакачаўся конь. *Логвіска — дзе конь пакачаўся, няможна ступаць, дрэнна — будуць кругі на твары.* Гемзы Шальч.

ЛО'ГВІШЧА, ЛО'ГМІШЧА *н.* 1. Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 1. *Логвішча робяць ваўкі пад выскіддзю.* Рудня Астравітая Чэрв. *Логмішча ваўкоў.* Дакудава Лід. 2. Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 2. *Так пакапалі ячмень куры — адны логвішчы.* Кіралі Шчуч.

ЛО'ГМА *гл.* ЛЁГМА

ЛО'ДАР *м.* Гультай. *Ён — лодар, ані нідзе робіць.* Быстрыца Астр. *Ён быў пры лодару — ляжыць на печы; параўн.* руск. *лодырь* 'тж'.

ЛО'ДАРНІЧАЦЬ *незак.* Гультаяваць. *Ён лодарнічыць.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *лодырничать* 'тж'.

ЛО'ДКА, ЛО'ТКА *ж.* Лодка. *Фалі былі высокія, дрэнна было ехаць на лоткі.* Ёдлавічы Брасл. *Я даў яму лоткі.* Швэды Вільн.

ЛО'ЖА *ж.* Ложак. *Кнігі на ложу палажы, каля падушкі.* Магуны Паст.

ЛОЖАВІ'СКО *н.* 1. Свіное логава. *Ложавіско свіня робіць.* Сапоцкіна Гродз. 2. Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 2. *Куры ложавіскаў нарабілі ў гародзе.* Сапоцкіна Гродз.

ЛО'ЖАК, ЛЫ'ЖОК *м.* Тое ж, што і л о́ ж а. *Мой ложак не засланы.* Саланое Віл. *Яга ложак стаяў каля печы.* Груздава Паст. *Усё самадзялоўя, ложак сам збіў.* Малахоўцы Бар. *Лошка купіла Ірка.* Кемялішкі Астр. *Не мае дзе лошка паставіць.* Паляцкішкі Воран. *Лошка паставіць пазволіў. Саломай слалі ў лошкі.* Крэва Смарг. *На лыжку спалы. В коморы лыжок стояв.* Сіманавічы Драг.

ЛО'ЖАНЫ *дзеепрым.* Спакладаны. *Бугай — не ложаны бык. Валы — гэта ложаныя быкі.* Альхоўка Навагр.

ЛО'ЖАЧАК *м. памянш.* Дзіцячы ложак. *Ложачак на ношках для дзіцяці.* Кемялішкі Астр.

ЛО'ЖАЧКА I *ж. памянш.* да л о́ ж к а I. *Усыплю ложачкаў тры мукі.* Альхоўка Навагр. *Поомый ложачкі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛО'ЖАЧКА II *ж.* Тое ж, што і л о́ ж а ч а к. *Бацька зрабіў ложачку, мяне страсяне.* Альхоўка Навагр. *Запраўця ложачку.* Ракаўскія Швянч.

ЛО'ЖАЧКА III *ж. анат.* Сонечнае спляценне. *Даў пад ложачкай і паваліўся. Пад ложачкай баліць.* Лісна В.-Дзв., Рудня Астравітая Чэрв.

ЛО'ЖКА I, ЛО'ШКА *ж.* Лыжка. *Ложку нэсі до ложок.* Смаляніца Пруж. *Лошка дзеравяная.* Лісна В.-Дзв. *Лошкай ядуць.* Вострава Маст. *Лазару не было лошкі, хай рукой есь. Лошка на стале ляжыць.* Дзяніскавічы Ганц. *Гарачая лошка, папёк рота.* Калясное Міхал. *Лошкай бярэця смятану с-пад боку гушчэйшай.* Парэчча Гродз. *Раней ложкі дзеравянныя былі.* Асавец Віл. *Ложкі дзераўяныя.* Пасека Ст.-Дар. *Лошкі і вёдры былі дзіравяныя.* Індра Красл. *Лошкі былі дзеравянные. Лошкі памыла.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лашке́ памыла.* Старыя Смільгіні Воран. *Лашкі памыла.* Навасёлкі Свісл. *Лашка́мі ядуць. А дзе нашы лашкі?* Альхоўцы Лях. *Лашкі не мыты.* Ялова Пруж. *Шэ в мынэ лошкы́ ны мыты.* Сіманавічы Драг.

ЛО'ЖКА II *ж.*, ЛО'ШКА *ж.* і *н.*, ЛО'ШКО, ЛЫ'ЖКО *н.* Тое ж, што і л о́ ж а к. *Лошка тошча. Лошку купілі.* Старыя Смільгіні Воран. *Яна лошку пасламася.* Талейкі Швянч. *Пасцеля лошку і ляжа.* Солы Смарг. *Іду спаць на другую лошку.* Бакшты Іўеў. *Звалілася із лошкі.* Дакудава Лід. *Віця ляжыць на лосцы. «Марш з лошкі! — Ні хачу». Скочыў з*

*лошкі і паляцей сабаку біць. Уставай, Валька, я лошку засцялю.* Кіралі Шчуч. *Нада здзелаць лошку.* Лісна В.-Дзв. *Ідзі на лошку! На лосцы ляжала.* Альхоўка Навагр. *Я не данясу яе да лошкі. Ляжала на лосцы. Узялася лошку перасцілаць.* Гемзы Шальч. *Напроць печы лошка стаяла дзераўляная. Лошка закрыта ў мяне.* Ракаўскія Швянч. *Жылка лопнула ў галаве, каля лошкі падхвацілі.* Малькуны Ігн. *Хлопчык ляжыць на лошцы. Яна яго прыперла да лошкі.* Парэчча Гродз. *Лошкі паставілі п і палажыліся п.* Стральцы Шальч. *Маё лошка стаіць у спальні.* Вялікія Баяры Шчуч. *Дыван ткуць на кросна і засцілаюць на лошко.* Вострава Маст. *Можа, лошко заслаць?* Мсцібава Ваўк. *Я лошка запраўлю.* Ракаўскія Швянч. *Купіў новае лошко. Калісь не было лошкаў, толькі нары, пале, прымасткі.* Баброўнікі Гарад. *По лышковэ ны лазь! На лыжковы сыдят. Лыжко застылю.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* польск. *łóżko* 'тж'.

ЛО'ЖМА *прысл.* 1. Тое ж, што і л ё г м а. *Ложма ляжала Ліля, як хварэла на ціф.* Груздава Паст. 2. У гарызантальным палажэнні. *Ложма нёс саху.* Рыбчына Віл.

ЛО'ЖНЫ *прым.* Пахілы. *Ложная страха.* Саланое Віл., Мярэцкія Глыб.

ЛОЖЫ'ЦІСА *гл.* ЛАЖЫ'ЦЦА

ЛО'ЗНІК *м.* Тое ж, што і л а з н і к. *Там лознік зарос, ні прайсці.* Валынцы В.-Дзв.

ЛОЗО'ВЫЙ *гл.* ЛАЗО'ВЫ

ЛОЗЫ'НА *гл.* ЛАЗІ'НА

ЛОЙ, ЛЫЙ *м.* Тлушч авечы ці каровін. *У каровы, у авечкі лой каля чароў.* Асавец Віл. *Авечы жыр называюць лой і каровін жыр — лой.* Альхоўцы Лях. *Лой ад каровы і авечак прадаюць.* Ліпнікі Вільн. *Авечы лой піла ат асмы: глаткі тры-чатыры глану кажны дзень, можа, гот, трохy большы, летам не п'ю, большы к зімы.* Скрыпчына Лудз. *Почкі ў лаі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Калісь як у нас была авечка, то больш гэтого лою было, як у паршука сала было.* Баброўнікі Гарад. *Напыкла лою. Лый — оно з говэчкы чы барана, а с коровы чы свынні — не.* Сіманавічы Драг. ◊ *Ні лой ні масло* — ні сёе ні тое. *Ні лой ні масло, ні гарыць ні пагасло.* Мсцібава Ваўк.

ЛО'КАЦЬ, ЛО'КЕЦЬ *м.* 1. *анат.* Локаць. *Локаць увязваецца.* Альхоўцы Лях. *Як зачне калоць ад локця.* Лісна В.-Дзв. *У локці рука баліць, каля локця.* Дзяніскавічы Ганц. *Локець баліт.* Лука Нараўк. *У лакцёх круціць.* Вострава Маст. *Локець збіў.* Сакаляны Сакол. *Баліць мне локець, на локці жыжайка.* Баброўнікі Гарад. 2. *гіст.* Старадаўняя мера даўжыні роўная прыкладна 0,5 м. *Локець — мера, карочай аршына.* Мсцібава Ваўк.

ЛО'КНУЦЬ *зак.* Хлёбнуць. *Я локнула стограмоўку.* Асавец Віл.; *парайн.* руск. *лакнуть* 'тж'.

ЛО'КШЫНЫ *мн. кулін.* 1. Локшыны. *Зварыла локшыны, сама раблю.* Старыя Смільгіні Воран. *Локшыны нада зрабіць.* Ракаўскія Швянч. *То наліваті локшыны?* Азарычы Пін. *Локшыны накачаім з прастой мукі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Макароны. *Локшыны прыварыш.* Старыя Смільгіні Воран. *Локшыны з макарон.* Масілавічы Сл. *Макароны звуць локшынамі.* Міратычы Карэл. *Локшыны зварыла.* Лука Нараўк. *Локшыны можна йіесті окрашаны або з молоком.* Курашэва Чыж.

ЛОМ *м.* 1. Тое ж, што і л а ў ж 1. *Кладзі сукі ў лом.* Дварчаны Паст. *Сёлята ніхто лому ні паліў.* Груздава Паст. *Лом спальваем у лесе.* Беразіно Докш. *Лом — куча галля.* Дакудава Лід. *Лом папалілі ў лесе. Лом у лесе запалілі.* Пацаўшчына Дзятл. *Лом — куча галля ў лесе, лоўж. Сабіраюць галё ў ламы і паляць.* Альхоўцы Лях. *Лом — груда сучча.* Старыя Трокі Трак. *Галлё нада злажыць у лом, а ламы паляць.* Рыбчына Віл. *Ламоў нанасілі бацяны.* Жодзішкі Смарг. *Каля кустоў ламоў ёсь.* Граўжышкі Ашм. *Будзім ламы паліць.* Навасёлкі Свісл. *Насеклі ламоў у печку.* Солы Смарг. *Ламы паляць.* Вялікія Баяры Шчуч. 2. Вогнішча. *Лом раскладалі і бульбу пяклі — раскладалі агонь і ў ломе бульбу пяклі.* Магуны Паст. *Распалі лом, хоць трошкі пагрэемся. Нясіце ў лом таўсцейшыя сукі, бульбу будзем пячы. Распалілі б ужо лом ці што, а то дошч ідзе, холадна. Пашлі лом распалім. Распалілі лом. Кідай ламачча ў лом.* Дварчаны Паст.∇ *Пошлы дывкы по горіхы, наламалы лому, которая впадэ в танці, то пыйдэ додому.* Сіманавічы Драг.

ЛОМА'ЧЧЭ *гл.* ЛАМА'ЧЧА

ЛОМБ, ЛОМП *гл.* ЛАМБУ'К

ЛО'МКІ *мн.* Складкі. *Як качаеш трупку палатна, глядзіш, кап ломкаў не было, ты добра дзяржы.* Рагулішкі Даўг.

ЛО'НАЧКА *ж. памянш.* да л о́ н к а. *Лоначку скасіў і сена прывёс.* Рагулішкі Даўг.

ЛО'НІ *прысл.* Летась, у мінулым годзе. *Шчэ лоні ён прыяжджаў.* Лука Нараўк. *Лоні была лепша пагода.* Баброўнікі Гарад. *Добрэ нэ помэтаю, чы то було лоні, чы позалоні.* Курашэва Чыж.; *парайн.* польск. *łoński* 'леташні'.

ЛО'НКА *ж.* Луг, лугавая сенажаць. *Лонка — дзе косяць.* Кемялішкі Астр. *Лонка — як дзе канаўкай прыкідаецца пожня із вадзічкай.* Кураполле Паст. *Скасілі сваю лонку.* Беняконі Воран. *У лесе, дзе лонка, можна пазёмкі збіраць.* Кіралі Шчуч. *Лонка ні кошана. Лонка сенажаці — участак нібальшы; гэто польскае слова.* Дакудава Лід. *Каровы пасуцца на лонцы.* Каўняны Гродз. *Лонка мурожная. Сцешка была пратаптана па лонкі.* Ёдлавічы Брасл. *Роў асушыў,*

*зрабіў лонку харошую. Тэраз слалі лён на лонку.* Грыкені Вільн. *Скасілі лонку сваю.* Чычалі Швянч. *На гэту лонку булку яму вынесла.* Малькуны Ігн. *Выберуць добрую лонку і пасцеліць лён.* Рагулішкі Даўг. *На лонца пасла гусі.* Ялова Пруж. *На лонцы касілі.* Лука Нараўк. *У нас німа лонкі каля хаты, трэбо далёко ездзіць сянаваць.* Верхлессе Крын. *Мурожна лонка.* Рыгалоўка Ліпск. *Лонку скасіў. Лонкі былі ў Мазюнах, касіць ездзілі.* Старыя Трокі Трак. *На лонках палатно белілі, расцілалі.* Сапоцкіна Гродз. *Нет у нас лонак, кап атаву можна было касіць.* Купчалі Брасл. *Лонкі пакасілі.* Стральцы Шальч. *Ой, у нас гадаў е, па лонках, па балоці.* Вялікі Краснік Пруж. *Пакацілася імла па лонках.* Сакаляны Сакол.; *параўн.* польск. *łąka* 'тж'.

ЛО'НКІ *прым.* Дугападобны, паўкруглы. *Бераг лонкі ў тым месцы рэчкі, такі, як лук, як цыркулям адведзены.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *lankùs* 'пакаты'.

ЛОНКО'ВЫ *прым.* Лугавы. *Лонкова трава.* Шалкуні Даўг.; *гл.* л о́ н к а.

ЛО'НОК *м.* Тое ж, што і л о́ н к а. *Сіно з доброго лонку й на погоды зроблянэ.* Сіманавічы Драг.

ЛО'НСКІ, ЛУО'НЬСКІ *прым.* Мінулы. *Лонскі ці пазалонскі рок?* Баброўнікі Гарад. *Лонскі рок.* Каменка Стара Сакол. *Лонскі рок быў вельмі мокры.* Верхлессе Крын. *Луоньске ліето было хоруошчэ, як сёголітне.* Курашэва Чыж.; *параўн.* польск. *łoński* 'тж'.

ЛО'НТКА *ж.* Вертыкальны слуп у сцяне, які злучае бярвенні. *Каторые маюць кароткіе куске, то ставяць лонтку, а каторые маюць сцяну, то без лонткаў.* Баброўнікі Гарад.

ЛО'НЧЫК *м.* 1. Палачка для рэгулявання нацягнутасці пілы. *Пілка з дыркамі такімі, у пілку лончык затыкаецца.* Кемялішкі Астр. 2. Круты паварот ракі. *Лончык — дуга, загіб ракі.* Рыбчына Віл.

ЛО'НЧЫЦЦА *незак.* Змацоўвацца. *Брызґуль і ў нічэльніцах ест, каторые лончацца з панажамі.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* польск. *łączyć się* 'тж'.

ЛО'НЯЙ *прысл.* Тое ж, што і л о́ н і. *Лоняй мы накапалі много картоплі.* Верхлессе Крын.

ЛОП *гл.* ЛОБ

ЛО'ПАТІ *гл.* ЛО'ПАЦЬ

ЛОПА'ТЫ *прым.* Стракаты. *Лопатая спонніца, у кветкі.* Азарычы Пін.; *параўн.* літ. *lopúotas* 'тж'.

ЛО'ПАЎКА І *ж.* Тое ж, што і л а п а т о́ к. *Угнаў лопаўку, касу кляпаўшы.* Быстрыца Астр. *Лопаўкі наб'еш, як крывулькамі паб'еш.* Кураполле Паст. *Лопаўка на касе, нагнаў лопавак на касе.* Ахрэмаўцы Брасл., Івашкаўцы Смарг.

ЛО'ПАЎКА ІІ *ж.* Трэшчына, расколіна. *Пасуда, каторая*

*лопаўку маіць, браждэжыць, ці чыгунная, ці фурфуровая.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛО'ПАЦЕ'НЬ *м.* 1. Тое ж, што і л а п а ц е́ н к а. *Лопацень у гарэ жорнаў.* Саланое Віл. 2. Лопасць. *Лопацень — лопасці ў турбіня.* Рыбчына Віл. 3. *перан.* Той, хто многа гаворыць, балбатун. *Во лопацень, гаворыць і гаворыць.* Крэва Смарг. *Ах ты, лопацень! Лопацень ты, што ты гаворыш?* Рыбчына Віл.

ЛО'ПАЦЦА *незак.* Трэскацца. *Саскі ў каровы лопаюцца.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЛО'ПАЦЬ, ЛО'ПАТІ *незак.* 1. Разрывацца. *Каля вушэй снарады лопаюць.* Гемзы Шальч. 2. Моцна стукаць. *Як ідэ, то так голосно двэрыма лопае.* Курашэва Чыж. 3. *перан.* Здыхаць. *Як апсоіш — цялята лопаюць, як мухі.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛО'ПКА *прысл.* Лёгка, зручна. *Казляк, лупіннік лопка дзярэцца.* Жылі Іўеў.

ЛО'ПНУЦЬ, ЛО'ПНУТІ *зак.* 1. Трэснуць. *Бутылка лопнула.* Альхоўцы Лях. *Нашоўся пузырок і лопнуў.* Малькуны Ігн. 2. Парвацца. *Паясы лопнулі і спанніца валіцца.* Саланое Віл. 3. *перан. экспр.* Многа выпіць. *Як лопнув шклянку горыэлкі, то одразу став п'яны.* Курашэва Чыж. 4. *перан.* Здохнуць. *Этага року тры-чатыры каровы лопнула.* Старыя Смільгіні Воран. *Бывая, карову як абдуня — змарнуецца, лопне.* Мсцібава Ваўк. *Карова як з'есь блёкату, так і лопніць; такі час пападзець, як блёкат шчэніцца, тады шкодна. Яна нажала блёкату і дала, абедзві карові лопнулі.* Ахрэмаўцы Брасл. *На клевяры многа кароў лопнула.* Ёдлавічы Брасл. *Лопнуў жарабок. Як карову абдуваіць — можыць лопнуць.* Валынцы В.-Дзв. 5. *экспр.* Памерці. *З голаду лопнулі.* Швэды Вільн. 6. Прапасці. *Збірай, збірай багаство, удэрыў пярун і ўсё лопнуло.* Верхлессе Крын.

ЛО'ПУХ *м. бат.* 1. Тое ж, што і л а п у́ х 1. *Лопух — капялюшнік, з шышкамі.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Лопух жоўтым цвіце.* Рыбчына Віл., Багушэвічы Бярэз. *Лопух у гае расце, жоўтым цветам цвіце, а лісткі, як капыта, каровы ядуць, як з зімэ — гэта перша пашня для кароў. На вялікдзень яйка хварбавалі ў лопусе, такое жоўценькае, зелянькаваценькае, харошае.* Кіралі Шчуч. *Лопух жоўтым цвіце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лопух жоўтым цветам зацвіў. Лопух на балоце расцець.* Беразіно Докш. *Лопух жуўтым цветам цвіце — у вадзе.* Галубы Маст. *У лопуха жоўтыя цвяты.* Глівін Барыс. *Лопух расце на балоці. Лопух цвіце — малачко пагусцее.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛО'СТАЧКАЙ у знач. *прысл.* ◊ *Лостачкай ляжаць* — панікнуць, завянуць. *Буракі паднялі вушы, а ўдзень лостачкай ляжаць.* Беразіно Докш.

ЛОСЬ I *м. заал.* Лось. *Лось выйдзіць, як сонца заходзіць, саберыць ношкі ўместа і скок на той берах.* Едлавічы Брасл. *Лось быў прышоўшы ў агарод.* Лісна В.-Дзв. *Відзелі лося, такі вялікі лось, як жарабук.* Грыкені Вільн. *Ласей павыстралялі.* Чычалі Швянч. *Як ехалі с Краслаўкі, лось як матануў машыну на касагор, але і сам шыю скруціў.* Рагулішкі Даўг. *Есць свінні і лосі ў нас.* Пасіене Лудз. *Ласёў многа было.* Істра Лудз. *Аб'едае лозу лось.* Кузьмічы Люб. *Лосі былі ў нас. Ну што ты з лася наясіся?!* Цяпінцы Віл.

ЛОСЬ II *м. бат.* Пеўнік стракаты (грыб). *Лось — знізу шпількі, шпілёчкі гусценькія.* Рыбчына Віл. *Ласі сівыя, пат сподам, як бархат.* Саланое Віл.

ЛОТ *м.* Пачак фарбы. *Купіш лот сінькі і абсініш, так і насілі.* Азяраны Раг. ◊ *На лот* — ні на ёту. *В туом, што вуон говорыт, і на лот праўды нэма.* Курашэва Чыж.; *параўн.* ням. *Lot* 'мера вагі'.

ЛО'ТАР *м.* Тое ж, што і л о́ д а р. *Лотар ты! Труцень ты! Байбак ты!* Курaполле Паст.

ЛОТАЦЕ'НЕ *н. бат.* Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Лотаценё на балоце расце, жоўтым цвіце.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛО'ТАЦЬ *ж. бат.* Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Лотаць на балоце.* Альхоўка Навагр., Альхоўцы Лях. *Лотаць на балоці расце, жоўтыя цвятэ.* Малахоўцы Бар. *Лотаць цвіце вясной на крыніцы.* Рудня Чэрв. *Не прыносяць лотаці, букет не робяць з яго.* Баброўнікі Гарад.

ЛО'ТАШНІК *м.* Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Лоташнік цвіце жоўтым цветам, у лузе расце.* Кузьмічы Люб.

ЛО'ТКА *гл.* ЛО'ДКА

ЛОЎ *м.*, ЛО'ВЫ *мн.* Лоўля, паляванне. *Гэтага лову рыбы асцямі не разрашалася. Там такія ловы рыбы забараняліся.* Альхоўка Навагр. *Пашоў кот у ловы — на паляванне.* Саланое Віл.

ЛОЎЖ, ЛОЎШ *м.* 1. Тое ж, што і л а ў ж 1. *Лоўж — куча галля.* Пасека Ст.-Дар. *Лоўж — для спалкі голляў. Давай мы скідаям галлё ў адзін бальшы лоўж. Галлё зносяць у лаўжы.* Азяраны Раг. *Цэлы лоўж хмырэзніку. Дробныя сучкі калі складсці ў ворах, і называюць лоўж.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Лоўж — куча галля; ламачча — лоўж; лаўжы паляць.* Багушэвічы Бярэз. *Даўней гаварылі лоўж, спаліла лаўжа, а цяпер — лом.* Кузьмічы Люб. *У леся накладзе гальля лоўш, як патчыстка леса.* Нізок Уздз. *Спалілі лоўш ды пасеялі проса, на вогнішчы расла добра. Нашлі лоўш і столькі малін было ля лаўжа. Лоўш дубцоў сярод хаты.* Вецярэвічы Пух. *Дрова сячэш, а дупцы, сучча ў лоўш.* Рудня Чэрв. *Буран у лоўш паскідаў сучча. Нада скідаць галлё ў лоўш. Лоўж спалілі.* Мачаск Бярэз. *Складзена сучча; грут сучча ў лесі — лоўш.* Палік Барыс. *Лоўш, лаўжы — куча галля.* Лапічы

Асіп. *Лаўжы спальваюць.* Ухвала Круп. *Лаўжы — падбор галля ў лесі. Скідаюць у лаўжы.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Куча бруднай бялізны. *Кажуць: лоўж бялізны і груд бялізны.* Багушэвічы Бярэз. *Цэлы лоўж наскідала плацця, буду жмаць.* Пасека Ст.-Дар. *Лоўж наскідала адзежы.* Азяраны Раг. *Лоўш бялья, толькі мый.* Вецярэвічы Пух. *Пагрузілі ўсю адзежу лаўжом. Лоўш бялля наскідала.* Рудня Чэрв. 3. Вялікая колькасць чаго-н. *Лоўж луччых яблык прадалі.* Азяраны Раг. *Гэтакі лоўш наважыць і стоіць дваццаць капеек.* Вецярэвічы Пух. 4. Рэчы, складзеныя ў пэўным парадку. *Пасцель складалі ў лоўш, як спалі на палку.* Рудня Астравітая Чэрв. 5. *перан. зб.* Рыззё. *Лаўжа гэтага наскідала куча.* Саланое Віл.; *параўн.* літ. *láužas* 'тж'.

ЛО'ЎЖЫШЧА *н. перан.* Беспарадак. *Што ты аставіў лоўжышча, не могуць прыбраць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *параўн.* літ. *láužas* 'тж'.

ЛО'ЎКА I, ЛО'ЎКО, ЛО'ВКО *прысл.* 1. Зручна. *Увечары ідацца шыць, але не так лоўка.* Ёдлавічы Брасл. *От ловко гэтыю голкыю вышываты, ны то шо тэю.* Сіманавічы Драг. 2. Спрытна, умела. *От вона ловко вміе жяты.* Сіманавічы Драг. 3. Удала. *Паставілі хату ўжэ не так лоўко.* Крынкі Крын.

ЛО'ЎКА II *гл.* ЛА'ЎКА I

ЛО'ЎКА III *гл.* ЛА'ЎКА II

ЛО'ЎКА IV *гл.* ЛА'ЎКА III

ЛО'ЎКАСЦЬ, ЛО'ВКОСЦЬ *ж.* Спрытнасць. *Лоўкасць была: я каждую каслаўку пяратру мяльніцай, а ня пажмякаю.* Крэва Смарг. ∇ *Вкрасты — ловкосць рук — ныякого мошэнства.* Сіманавічы Драг.

ЛО'ЎКІ *прым.* 1. Спрытны. *Лоўкі чалавек — спрытны да работы, да ўсяго; што ня возміць, тое зробіць.* Ёдлавічы Брасл. 2. Прыгожы. *Маланія — лоўкая людзіна.* Малькуны Ігн. 3. Добры, якасны. *Трава лоўкая расла.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЛО'ЎЛЯ *ж.* Тое ж, што і л а в е́ н ё. *Цяпер самая лоўля рыбы.* Вялікія Баяры Шчуч. *Якаё там лоўля!* Альхоўцы Лях.

ЛОЎШ *гл.* ЛОЎЖ

ЛОХ *гл.* ЛОГ

ЛОХАЧІ', ЛОХАЧЭ' *гл.* ЛАХАЧЫ'

ЛО'ШАДЗЬ *ж.*, ЛО'ШАЦЬ *м.* Конь. *На лошадзь сядзя і паедзя.* Стральцы Шальч. *Лашадзе ходзяць.* Старое Сяло Зэльв. *Рабой лошаць.* Быстрыца Астр.; *параўн.* руск. *лошадь* 'тж'.

ЛО'ШКА I *гл.* ЛО'ЖКА I

ЛО'ШКА II, ЛО'ШКО *гл.* ЛО'ЖКА II

ЛУБ *м.* ◊ *Як з лубу* — як з вядра. *Навальнічны дош ідзе, як з лубу.* Ністанішкі Смарг.

ЛУБАВЕ'НІСКО *н.* Поле, дзе рос лубін. *Лубавеніско гараць буду.* Галубы Маст.

ЛУБАВЕ'НІШЧА *н.* Тое ж, што і лубавéніско. *Лубавенішча — як убяруць лубін. Сеялі лубін на пяшчанай зямлі.* Пацаўшчына Дзятл.

ЛУ'БАЧКА *ж.* 1. Лубянка. *Свекар лубачкі плёў с саломы.* Крэва Смарг. *І лубачкі плялі с саломы і потым з ліпы.* Солы Смарг. 2. Пачак запалак. *Дзесяць грошай стояла лубачка спічак.* Казлы Міёр.

ЛУ'БІН, ЛУ'БЫН *м.,* ЛУБІНЫ' *мн. бат.* Лубін. *Лубіну пасеялі гэты рок.* Відаўцішкі Вільн. *От прошлы гот пасеялі лубіну гактараў мусіць с пяцьдзесят.* Гарэлец Пух. *Што лубіноў насеяна.* Граўжышкі Ашм. *Сыют лубын і прыоруют.* Дзмітравічы Кам.; *параўн.* літ. *lubìnai* 'пасевы лубіну'.

ЛУ'БІНІШЧА, ЛУ'БІНІШЧО, ЛУБЯ'НІШЧА *н.* Тое ж, што і лубавéніско. *Лубін убралі, а лубінішча заоралі.* Беразіно Докш. *Па лубінішчы пасеялі ж жыта.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Сёнячы лубінішчо аралі.* Малахоўцы Бар. *Лубянішча аралі.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Багушэвічы Бярэз. *На лубянішчы пасеяў жыта.* Саланое Віл. *На лубянішчы пасцілі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лубянішча — поле пасля лубіну.* Пасека Ст.-Дар.

ЛУ'БКА, ЛУ'ПКА *ж.* 1. Лубянка. *Лубка з абечком, абечак, як рэшато. Лупка ліпава, з кары, у ягады хадзіць.* Дзяніскавічы Ганц. *Лупку плялі з саломы і лазой пераплятаді.* Саланое Віл. *А лупка была сорак фунтаў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лупка пудавая, з лупкі сеялі, у лупку і пчол аграбалі.* Лісна В.-Дзв. *З лупкі сеялі жыта, зроблена с саломы.* Ракаўскія Швянч. *Лупку з лазы плялі.* Навікі Лудз. *З лупкі сеялі.* Валынцы В.-Дзв., Янова Рас. *З лубу лупку рабілі.* Мачаск Бярэз. *Лупкі былі ляшчыновыя, з саломы.* Быстрыца Астр. *Лупкі плялі з лазы і саломы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лупкі плялі с саломы, з лубак сеялі.* Ёдлавічы Брасл. 2. Раёўня. *Раёўня, раёўніца — раней называлі, а цяпер — лупка.* Міратычы Карэл. *Збярэш у лупку рой і паставіш, стаіць да вечара.* Груздава Паст. 3. Посуд для мёду. *Лубку выдзелалі з ліпы ці з клёна. Былі мядовыя лубкі: выскаблены, з абручамі, і дзенца, а зверху вечка закрывае. Лубка-мядоўка — знаходзілі ліпу з гнілым дуплом, устаўлялі дно.* Азяраны Раг. 4. Калыска. *Былі лупкі сплецеnыя з ракіты, прадаўгаватыя, у лупках за Наваградак дзяцей калыхалі. Лупкі плялі з карэння, з хвойкі і елаўцовыя; вельмі моцныя доўнішнія лупкі.* Міратычы Карэл.

ЛУ'БНЯЧКА *ж.* Выязныя сані. *Лубнячку зрабіў, можна ў касцёл ехаць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *lubnià* 'рабочыя сані'.

ЛУБО'К *м.* Тое ж, што і лýбка 1. *Есь лубок, толькі*

*Стахваніха яго забраўшы.* Якубова Рас. *Лубок — яічкі качалі.* Валынцы В.-Дзв.

ЛУ'БЫН *гл.* ЛУ'БІН

ЛУБЫНЭ'ЧНЫСКО *н.* Абмалочаны лубін. *Лубынэчныско склав в громаду.* Дзмітравічы Кам.

ЛУБЯ'НАЧКА *ж.* 1. *памянш.* да л у б я н к а 1. *Лубяначкі плялі с саломы, лазой пераплятаді.* Мярэцкія Глыб. *Ліпу дзеруць і з ліпы робяць лубяначкі.* Беразіно Докш. 2. *памянш.* Калыска. *Рабілі з ліпы: сагнуць лубяначку, таркнуць тры калочкі, траяны, абапнеш посцілкай.* Саланое Віл.

ЛУБЯ'НІСКА, ЛУБЯ'НІСКО, ЛУ'БЫНЫСКО *н.* Тое ж, што і л у б а в е́ н і с к о. *Па лубяніску жыта сеялі.* Быстрыца Астр. *Лубяніска — лубін забралі.* Кіралі Шчуч. *Лубяніска — дзе лубін рос.* Гемзы Шальч. *Лубяніско — тое ж, што і лубавеніско. Па лубяніску кароў пагналі.* Галубы Маст. *Лубяніско — лубяное поле, лубін ўвабралі.* Лука Нараўк. *По лубыныскові буў посіяв жыто.* Сіманавічы Драг.

ЛУБЯ'НІШЧА *гл.* ЛУ'БІНІШЧА

ЛУБЯ'НКА *ж.* 1. Тое ж, што і л у́ б к а 1. *Ліпу дзеруць і робяць з ліпы лубянку.* Беразіно Докш. *Каробка-сявалка — з лубу дзелалі; кары надзяруць і шыюць лубянку.* Азяраны Раг. *Зробі мне лубянку, бо ўжэ ягоды поспелі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Лубянкі плялі с сасновага корня і саломы, салому пераплятаді сасновым корням, муку, зярно дзіржалі.* Лісна В.-Дзв. *Сівалка была, і лубянку сабяру, абвяжу абрусом, вечарком садзілі.* Валынцы В.-Дзв. *Ціпер ні робяць ужэ, купляюць лубянкі на рынку.* Баброўнікі Гарад. 2. Калыска. *Лубянка — рабілі з ліпы, падвешвалі да зыпкі* [жэрдкі], *а з дасок звалі калыска.* Мярэцкія Глыб. *Лубянка — калыска, калыбель, як у сіце абечак, такая выгінаецца доўгенькая, палатном абцягвалі, абручамі і лубяначкай называлі.* Альхоўцы Лях. *Лубянка — калыска, гнутая з лубка.* Азяраны Раг.

ЛУ'БЯННЕ *н.* Тое ж, што і л у б а в е́ н і с к о. *Лубянне — дзе лубін рос.* Глівін Барыс. *На лубянне кароў ганяюць.* Мачаск Бярэз.

ЛУГ I, ЛУХ *м.* 1. Заліўны луг. *Луг — заліўны, сенажаць каля Друці.* Азяраны Раг. *Мне далі дваццаць сотак лугу.* Дзераўное Стаўб. *Луг асобенны, луг бесканечны, там тапіліся каровы, а цяпер поле.* Кузьмічы Люб. *Лух бальшы кала ракі.* Жодзішкі Смарг. *На ўзваллі* [узвышшы] *вакол луга, нібы бераг у катлавіне. Ніякага скацяці німа на гэным лугу. Лух — назва сенакосу, назва ўрочышча кала ракі, вясной заліваецца вадой.* Рыбчына Віл. *Лух — сенакос; лух — бальшы, лужок — маленькі.* Дакудава Лід. *У нас луге скрось.* Новікі Гродз. *Лух вадой занімаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лух — заліўной, а пожня — сухая, не заліўная.* Валынцы В.-Дзв. *Лух — каля ракі.* Лісна В.-Дзв. *Лух — дзе много вады, па калені,*

*там лугавая трава.* Альхоўцы Лях. *У лузе дрыгва. У лузе багато вады. Гэты лух не пераходзіла нішто — вада, грась вялікая. Лух — дзе вада стаіць; лух неграскі, як высахне, каровы ходзяць па ём.* Дзяніскавічы Ганц. *Лух, лужок — забалочаны сенакос пры балоці, там была вада, расла балацяная трава. Лух — ета пожня такая называецца къля рэчкі.* Лядзінкі Віцеб. *У лузе каровы ходзяць.* Крынкі Крын. *Каля рэк лугі, дзе вада разліваіцца вясенняй павоткай. Лух — урочышча, там ёсць пожня, лух і кругом балота.* Мярэцкія Глыб. *Пожня — маленькая, каля пахаты, а лух — бальшы, лугі каля ракі, іх дзялілі палосамі.* Янова Рас. *Лух — дзе вада бывая і трава расце. Гэты гот невядома які лух — высах. Дзе даліна, вада стаіць, то луга.* Вялікія Баяры Шчуч. *У лесі луга бываюць мокрыя.* Бакшты Іўеў. *Луге—балото такое, вада там, сітнік расце.* Парэчча Гродз. *Каровы ходзяць па лугах.* Чычалі Швянч. *Лятась па лугох много вадэ стаіць.* Яцаўляны Сідр. 2. Забалочанае месца, парослае хмызняком і дрэвамі. *Лух — граскі, у лузе расце альха ўсо́ка.* Кузьмічы Люб. *Бярозавы лух у лесе — там бяроза расце; гарэхавы лух, баравы лух у лесе — там косяць і вада пасярэдзіне.* Міратычы Карэл. *Лух е ў лесе, там альха расце ў лузе, вады много вясной і восянью. Па лугох расла смародзіна, ці япручнік. Як бор, лес — так лух; лес — галешыны, лух — ніскае места.* Дзяніскавічы Ганц. *І на полі ёсь лух; дзе вада, алешнік, там лух.* Міратычы Карэл. 3. Невялікі вадаём, які часам перасыхае летам. *Луг глыбокі буў.* Кузьмічы Люб. *Ехалі купацца ў лух; у лузі вада цёпла, мяка, мылка.* Навасёлкі Свісл. *Лух — дзе вада стаіць; лух неграскі, як высахне, то зельe на ём не расце.* Скідаль Гродз. *Лух як высахня, то зелье не нарасце — як высахне, хоць ты качайся.* Дзяніскавічы Ганц. *У лузі вады много. Каля луга каровы ходзяць.* Баброўнікі Гарад. *По лузі качкі плавают.* Курашэва Чыж.▽ *Калі Мікола высушыць берагі, то Пятрок замочыць луге* — калі ў маі не будзе дажджоў, то ў час сенакосу будуць ісці вялікія дажджы. Вецярэвічы Пух. *Вовка в плуг, а вын в луг.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *ług* 'стаячая вада', літ. *l͂ūgas, lıūgas* 'лужына; багністае месца; невялікае возера; балота, якое зарастае асакой, дзе летам не высыхае вада'.

ЛУГ II, ЛУХ *м.* Луг, шчолак. *Луг зробімо, ён мылкі.* Старыя Смільгіні Воран. *Лугам мылі.* Галоўні Воран. *У лузе паварыла бялізну і залью вадою. Лух робяць, мочаць — і на сонца.* Паляцкішкі Воран. *Я нарабіла лугу — мылі голаву.* Бакшты Іўеў. *Зробіш лух і як вымыяш бялізну. Аловы мылі лугам.* Быстрыца Астр. *Лух — вада іс попялам.* Жодзішкі Смарг. *Сыпіць попел і кажуць лух; лугу нарабіла.* Груздава Паст. *Варам залівалі попел і лугу наробіш. Лух рабілі: надзежнік пасцеліш, попелу насыпіш, ліеш гарачую ваду;*

*лугам мылі.* Саланое Віл. *Лух с попелу; мылі лугам адзежу, залівалі лугам.* Рыбчына Віл. *Вада з попелам — лух.* Беразіно Докш. *Лугу нада зрабіць з попелу. Нада зрабіць лугу. Залівають лугам палатно, бялізну.* Мярэцкія Глыб. *Лух рабілі — мылі ім.* Дакудава Лід. *Лух рабілі і плутна запажáлі і бялілі.* Каўняны Гродз. *Лух рабілі с попелу.* Парэчча Гродз. *Дайней мыла не было, у лугу мылі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лугу зробіш, попіл прасеіш і паставіш у печ; абліваюць палатно, яно мокніць, тады пранікам б'юць і палошчуць.* Лісна В.-Дзв. *Лух рабілі і палатно мачылі ў цэбрах.* Альхоўка Навагр. *Луг — вада з попелам. Альховы попял зальеш і ў лузя мылі.* Малахоўцы Бар. *Лугам бяльё мыць.* Мішневічы Шум. *Лугам быллё жлукціць, заліць.* Мачаск Бярэз. *Лух рабілі: попел высеялі на сітку і кіпятной вадой заліваем, дабаўляем сырой — і ў печ.* Гемзы Шальч. *Мылі ў лугу; мыдла было, але куплялі рэтка.* Старыя Трокі Трак. *Лух с попелу наробім, адзенне моем.* Ракаўскія Швянч. *Бяльё мама лугам мыла.* Рагулішкі Даўг. *Лугам бялілі палатно. Лух варылі с попялу і ў ём бялілі палатно.* Яцаўляны Сідр. *Лугам мылі бялізну сваёй работы.* Солы Смарг. *У лугу сціралі, у балійку зліваецца лух. Лух трэбо рабіць — беліць матке; попелу навaрыш, чырвона гэта вада, лепій, як сода гэта. Намочыш так матке, вымакнуць — так лух ад'есць, такіе бялые робяцца.* Баброўнікі Гарад. *Лух с попелу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Цяпер парашок ест, лугоў не варaць.* Жылі Іўеў. *В луговэ мэла одэжу. Лён намочують у луговэ.* Дзмітравічы Кам. *В луговы одэжу мылы, самы мылысь.* Сіманавічы Драг.

ЛУГАВА'Я Е'ЛКА *ж. бат.* Вадзяны хвошч. *Лугавая елка па вадзе расце, памагая ат почак. Лугавое елкі парыць і піць ат почак.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛУГАВА'Я КАПУ'СТА *ж. бат.* Бабоўнік. *Лугавая капуста ў макрыне расце.* Шашкі Іўеў. *У лугу капуста е, лугавая капуста.* Бакшты Іўеў.

ЛУГАВІ'ШЧА *н.* 1. Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 2. *Куры пакапалі лугавішчы.* Кураполле Паст. 2. Свіное логава. *Лугавішчаў свіння нарабіла — адны лугавішчы. Ёсць лугавішча, дзе свінні ліжалі.* Кураполле Паст.

ЛУГАВЫ' *прым.* Нізінны. *Рыба ідзе ў лугавую ваду нэраставаць.* Бакшты Іўеў. *У лузе лугавая трава, там много вады.* Альхоўцы Лях. *Лугавая трава расце.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛУГО'ВІНА *ж.* Тое ж, што і л у г І, 3. *У луговіне дзікіе свіні п'юць воду, буслы, жабы збіраюцца.* Баброўнікі Гарад.

ЛУГО'ЎЯ *н.* 1. Месца, дзе пакачаўся конь. *Лугоўя — што конь пакачаўся, няможна ступаць у гэна лугоўя.* Саланое Віл. 2. Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 2. *Куры лугоўяў нарабілі.* Саланое Віл.

ЛУ'ДЗІЦЬ *незак.* Пакрываць палудай. *Я медную пасуду лудзіў цінам.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛУДЗІ'ЦЬ *незак.* Сварыцца на каго-н. *Нам не трэба яго лудзіць.* Раўбічы Мін.

ЛУ'ДКА *ж.* Палуда. *Да лудкі пакупаеш нашатырнага спірта і сальной кіслаты.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛУ'ЖА *ж.* Лужына. *Лужа — калдоба вялікая і глыбокая, там мяккая вада.* Груздава Паст. *Такая лужа вялікая!* Дварчаны Паст. *Лужа зарасла травой.* Гемзы Шальч. *Пошлі на лужу.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Наліло лужу, лужы — каляя, вада ў каляі стаіць.* Мярэцкія Глыб. *Пройшов вылікый дошч, то скрызь лужі.* Сіманавічы Драг.

ЛУ'ЖАНА *гл.* ЛУ'ЖЫНА

ЛУЖДЖЫ'ЦЬ *незак.* Церці лён, аддзяляючы валакно ад кастрыцы. *Церніца луждзжыць лён — аддзяляя валакно ад кастрыцы.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *lùgždin-ti, lukšdénti* 'лушчыць'.

ЛУ'ЖКА *ж. памянш.* да л у́ ж а. *Лужкі посталі.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛУЖО'К *м. памянш.* 1. Нізіна, якая часова залліваецца вадою, балоцістая сенажаць. *Там лужок быў, расла асака.* Вострава Маст. *У нас лужок: вада вясной залівая, гэта наш сінакос.* Раўбічы Мін. *У лесі е лужок — трава расце.* Альхоўцы Лях. *На Папоў лужок завядзе. К аднаму боку лужок харошы, а з другога — бор, верас рос па бары.* Дзяніскавічы Ганц. *У лушку касіў.* Рудня Астравітая Чэрв. *Дак ён уцёк у лес, лёх у лушку на купіні, ляжаў дванаццаць дзён.* Лешня Кап. *У лушку мала вады — паілі коней, кароў; былі і бальшыя лушкі.* Скідаль Гродз. *Лушкі ёсць на полі.* Саланое Віл. 2. Невялікая балаціна, дзе не высыхае вада. *Дзе вада не высыхаіць — лужок.* Беразіно Докш. *У лушку не расце дзерава, а трава расце. Лужок — нізіна, у ём вада стаіць, а лух — дзе альха расцець, ніскае места. Як повен лужок — і вална б'е.* Дзяніскавічы Ганц. *Лужок — там вада не высыхае.* Малахоўцы Бар. 3. Невялікі ўчастак, які часова заліваецца вадою. *В болоты довго вода стоіть, а в лугу, в луговы — мэнч, лужок мэнчый за луга, алэ чясом всэ зовуть і луг і лужок. В Зосі два лужкы: одын коло хаты так соток дэсэть, а другый в корчях, його звалы Гомх — з гыктар, на гэтого можна сказаты і лужок і луг.* Сіманавічы Драг. 4. Участак лугу, які належаў аднаму гаспадару. *Той Гомх, шо до Пархомця́, до Суботы, до Шытыкыв, вылікый, гыктарув сім, гэто луг, алэ скажуть: «Пархомэць свого лужка скосыв, а Субота шэ ны докосыв».* Сіманавічы Драг.

ЛУЖО'НЫ *дзеепрым.* Луджаны. *Лужоны самавар.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛУ'ЖЫНА, ЛУ'ЖАНА *ж.* Тое ж, што і л у́ ж а. *Лужы-*

*на з вадой.* Мярэцкія Глыб. *Акола лужыны пасядзела.* Пасіене Лудз. *Лужыны пасталі.* Рудня Астравітая Чэрв. *Многа лужын, ідзі ў лужыну памый.* Ністанішкі Смарг. *Прайшоў дош, аж лужы, лужыны сталі.* Рыбчына Віл. *Послі дожджу былі вялікія лужыны.* Ёдлавічы Брасл. *Лужыны вады стаяць.* Малькуны Ігн. *Лужана на дварэ.* Старое Сяло Зэльв. ∇ *Кажэца, у лужыну лягу — такія рэзі ў мяне. Так піць хочэца — каб бы з лужыны.* Саланое Віл.

ЛУ′ЖЫНКА *ж. памянш.* Тое ж, што і л у́ ж а. *Лужынка велькая, ня лесця ў лужынку, вада ест.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛУ′ЖЫЦЦА *незак.* 1. Лупіцца, аблупліваецца. *Маладая бульба лужыцца, яе трэба шкрэбці.* Азяраны Раг. 2. Адвальвацца (пра пабелку). *Печ абіваіцца, лужыцца печ.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛУЖЫ′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і л у з а́ ц ь. *Струкі бобу, боп лужаць, трэ палузаць боп.* Дзяніскавічы Ганц. *Лужаць пасолю і боп гэтак.* Семежава Кап.

ЛУЖЭ′ЙКА *ж. памянш.* Поплаў, лужок. *Лужэйка там була.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛУЖЭ′ЧАК *м. памянш.* Невялікая ўпадзіна, яміна. *Там згорак, быў лужэчак, машыны затапталі.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛУЗА′ЦЬ *незак.* Лушчыць. *Трэба лузаць фасолю, боп.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лузаць рэхі, павылузуваць.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛУЗГА′ *ж.* Жамерыны. *Лузга ад ільну.* Лука Нараўк.; *парайн.* літ. *lùzgana* ’тж’.

ЛУЗГА′ЦЬ *незак.* Тое ж, што і л у з а́ ц ь. *Лузгаць арэхі, боб.* Гайна Лаг.

ЛУЗО′ВЫ *гл.* ЛАЗО′ВЫ

ЛУК I *м.* 1. Лук (для стральбы). *Лук і страла — і када-та ваявалі так.* Гемзы Шальч. *Колысь воёвалы лукамы, а зарэ лукамы оно діты забавляюцьця.* Сіманавічы Драг. 2. Абруч у кашы, калысцы і ў рыбалоўных снасцях. *Лук у каша адзін ідзе пат спот і ўверх, другі — кругом.* Быстрыца Астр. *Лук — жэбры ўставяць, шлоксні і плятуць кошык. Каля лука ў кошыку такія вочкі робяць. Лук палатном абцягнуць, на пэртакі вешаяць — і палучаяцца калыска на полі.* Старыя Трокі Трак. *Сачок з луком, круглы лук.* Бакшты Іўеў. *Сетка на луку рыбу лавіць: вельца, лук.* Жылі Іўеў. *Бралі трыношкі, такія калкі, лук апшыты палатном, і за гэты лучок прывязаны вяроўкі і — калыска. У кашу лукі з ляшчыны. Венцер — без лукоў.* Гемзы Шальч. *У бучу два лукі: адзін лук большы і лучок меншы. У кошыку лукі і скабы.* Старыя Смільгіні Воран. *У кошыку два лукі, жэбры і віткі; наўкола лук.* Грыкені Вільн. *Накрыш ставяцца луке ў кошыку.* Кіралі Шчуч. *Кошык з лазы плятуць, два лукі ўстаўляюць.* Дакудава Лід.

*Кош пляцецца з двух лукоў, лучок дубовы.* Мсцібава Ваўк. 3. Сагнуты дугападобны сук ці тонкі ствол. *Лук сагне.* Вецярэвічы Пух. *Зогнув туюю бырэзынку, прыгнув до самыі зымні, лука з йійі зробыв.* Сіманавічы Драг. 4. Ручка ў кашы. *У кошыку — лук.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лук — у кашы ручка.* Вострава Маст. *Лук — у кашалку, за яго бярэш.* Солы Смарг. *Лук у кошыку — дзяржаць.* Грыкені Вільн. 5. Дугападобная частка драўлянай бараны. *Лук кругом бараны.* Жылі Іўеў. *Была барана дзеравянная, а пры баране лук, прымацаваны да канцоў барэ́; на лук накладалася абаранка з лазэ.* Кіралі Шчуч. *Лук — што зачэпліваяцца каромысла ў баране.* Малахоўцы Бар. *Наўкола адведзена драўляная барана луком з ляшчыны, зубы дубовыя зачапяліся между пруткоў, у зубах зарупка вырубана, з бярозавых вітак рабілі абаранку.* Гемзы Шальч. *У баране лук, па тры ляскі складаецца, віткі і дваццаць зубоў.* Відаўцішкі Вільн. *Лук у баране такі, па тры лясачкі і дзве абаранкі. Драўляныя абароны з лукамі.* Грыкені Вільн. 6. Драўляны каблук у рэзгінах. *Рэзьгіні з лукоў зроблены.* Кудзялянцы Шальч. *У рэзьгінах два лукі і пераплецены вяровачкай.* Івашкаўцы Смарг. 7. у знач. *прысл. лу́кам.* Крута, выгнута. *Такім лукам выкручана сенажаць.* Паляцкішкі Воран.

ЛУК II *м. бат.* Цыбуля. *Пойдзіць у ствол лук.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* руск. *лук* 'тж'.

ЛУ'КА' *ж.* Дугападобны, паўкруглы бераг ракі ці возера. *Лу́ка паўкругам, як лук, а затока вузкая далёка ўдаецца ў раку, і на затоцы трава расце.* Чычалі Швянч. *Наша озіра імеіць тры лу́кі.* Ахрэмаўцы Брасл. *А ля ў нас есць лу́кі, яна зыгзагамі, тая рэчка.* Баброўнікі Гарад. *Тут рэчачка і лука́, выгінастая такая.* Новікі Гродз. *Возіра лука́мі заходзіць.* Лісна В.-Дзв. *Лука́ — сенажаць каля рэчкі, Крывая Лука́ — называюць сенажаць.* Гемзы Шальч. *Лука́ — ежэлі рэчка не проста, а крывая.* Рыгалоўка Ліпск.

ЛУКАВА'ТЫ *прым.* Звілісты. *Санажаць Лукі, бо берах лукаваты, туды-сюды выкручываўся.* Крэва Смарг. *Лукаватая рака.* Кіралі Шчуч. *Лукаватая рака — звілістая рака. Лукаватая рака ідзе ў лукаткі, а то прамая рака.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛУ'КАТАЧАК *м. памянш.* У выразе: *У лукатачку* — скруціўшыся (пра змяю). *У лукатачку ляжала гадыня.* Рыбчына Віл.

ЛУ'КАТКА *ж.* Лукавіна. *Тут рака ідзе ў лукаткі, лукаватая рака.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛУКО'ШКА *н.* Кош, лубянка. *Узяў лукошка і пашоў сеіць.* Лісна В.-Дзв.; *параўн.* руск. *лукошко* 'тж'.

ЛУКШТ *м. бат.* Белы і жоўты гарлачык. *Лукшт у возяры расцець. Лукштам дзяцей лечыць, абкладваіць і шэрсць бы-*

*ваіць на плячах вылазіць, як апкладуць гэтымі лістамі. Сарвала тры цвяты лукшта. Лукшт бываіць на возяры; белы і жоўты лукшт.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *lùkštas* 'тж'.

ЛУ'КШТЫ *мн.* Высеўкі. *Пайду высыплю лукшты.* Старыя Смільгіні Воран.; *параўн.* літ. *lùkštai* 'тж'.

ЛУКШЧЫ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і л у́ ш ч ы ц ь 1. *Боп, арох лукшчым.* Быстрыца Астр.; *параўн.* літ. *lùkštyti,* дыял. *lùkštyc* 'тж'.

ЛУ'МІНА *ж.* 1. Балота без кустоў. *Луміна завецца, як балота без кустоў, чыстая балота і вада.* Мярэцкія Глыб. 2. Нізіна. *Ідзі ў луміну, нарві травы. Луміна — нізіна, мокрае месца.* Ёдлавічы Брасл. 3. Яма, паглыбленне на дне рэчкі, возера. *Папалі ў луміну, чуць не ўтапіліся. Луміна — яма ў рэчкі, у возеры.* Ёдлавічы Брасл.; *параўн.* літ. *lugm̃ėnė* 'багна, твань'.

ЛУ'МКА *ж.* Палонка. *Лумку прасек.* Мішневічы Шум.

ЛУНА' I *ж.* Невялікая хмара. *Луна цёмная ідзе. Луна светлая ідзе.* Новікі Гродз. *Нэвэлікую хмарку звут луною. Зайшоў міесяц за луну.* Горск Бяроз.

ЛУНА' II *ж.* ◊ *Хадзіць па луне* — быць лунацікам. *Тут адзін хадзіў па луне. Ён па луне ходзіць.* Саланое Віл.

ЛУНА'ЦІК *м.* і *ж.* 1. Чалавек, хворы на лунацізм. *Яна — луніцік, мы тры разы відзелі, як яна ходзіць па крышы.* Мсцібава Ваўк. *Лунаціку прысніцца сон, ён бярэ сваю пасцель і лезе на дах.* Баброўнікі Гарад. 2. *перан.* Той, хто вельмі рана прачынаецца. *Ён нібы быў лунацік — устаніць і пойдзіць.* Валынцы В.-Дзв. 3. *перан.* Той, хто трызніць. *Лунацік блюзніць, абы-што гавора, ліж ба як, без памяці гаворыць.* Азяраны Раг.

ЛУ'НАЦЬ *гл.* ЛУ'НУЦЬ

ЛУНЕ'Ц *м.* і *ж.* Тое ж, што і л у н а́ ц і к 1. *Лунцэ ёсць, што ў начэ ходзяць, не спіць лунец, людзі спяць, а ён ходзіць.* Мсцібава Ваўк.

ЛУНЁК *м. памянш.* Хмарка. *Лунёк найшоў.* Рыбчына Віл.

ЛУНІ' толькі *мн.* Багністая мясціна. *Зыпкія месты тоже завуць луні.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *liūnas* 'тж'.

ЛУНІ'СТЫ *прым.* Хмарны. *Луні на небе, неба луністая, многа лунёў.* Рыбчына Віл.; *гл.* л у н ь II.

ЛУНІ'ЦА *ж.* Хто пасіўны, прыгнечаны. *Баба біз мушчыны ходзіць, як луніца.* Саланое Віл.

ЛУ'НКА, ЛУ'НЬКА *ж.* Тое ж, што і л у́ м к а. *Прасякалі лунку — прадуху, кап рыба магла дыхаць.* Ахрэмаўцы Брасл. *Папала ў лунку і начэрпала ў боты.* Ёдлавічы Брасл. *Луньку прасек і рыбу лавіў.* Беразіно Докш.

ЛУ'ННІК *м.* Тое ж, што і л у н а́ ц і к 1. *Спіць дзіцятко, устане і ідзе на двор і мажэ ў другуя хату прысці — ета лун-*

*нік. Луннік-лазіць — залезя на крышу.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛУ'НУЦЬ, ЛУ'НАЦЬ *зак.* Памерці, прапасці. *Нада робіць, пакуль луніш.* Ахрэмаўцы Брасл. *На месці чалавек лунуў.* Палік Барыс. *Лунуў ён — неласкавае слова. Як не ў ласцы бываюць, то кажуць: «Лунуў, а не памёр».* Рудня Астравітая Чэрв. ∇ *Кап ты лунаў!* Саланое Віл. *Кап ты лунаў — кап ты памёр, кап ты прапаў!* Рудня Астравітая Чэрв.; *парайн.* руск. *лунуть* 'памерці', *луна* 'смерць, канец' (Даль, II, 708; Фасм., II, 533).

ЛУНЫ' *мн.* ◊ *Луны ходзюць* — блішчыць, пераліваецца, ільсніцца. *Дайней выкачаюць бяллё, палатно, ажны луны ходзюць па палатне.* Лісна В.-Дзв.

ЛУНЬ I *м. заал.* Драпежная птушка сямейства ястрабіных. *Лунь — птушка, дарайіць* [падобна] *да каршуна, днём сядзіць.* Кураполле Паст. *Саву лунь паймаў.* Мішневічы Шум. *У луня пад нізам рудавата.* Палік Барыс.

ЛУНЬ II *м.* і *ж.* 1. Воблака, хмара. *Лунь — хмара. Луні на небе, неба лунiстая, трэба сягання пасадзіць агуркі. Многа лунёў на небе: там ясны лунь, а там цёмны лунь. Лунь найшоў, будзя дош. Нейкі быў дожджык закапаў з луня. На Жаўніне дошч сікануў з луня каплямі бальшымі. Лунь найшоў — дош будзя, ясны лунь і цёмны лунь, з цёмнага дош, а з яснага пагода.* Рыбчына Віл. ∇ *Ходзя, як лунь, па небу.* Рыбчына Віл. 2. Здань. *Лунь ходзіць — начная цень. Цень — гэта табе здалося, гэта лунь ішла.* Рудня Астравітая Чэрв. 3. Хто марудлівы, пасіўны. *Стары лунь — чалавек, ніякай энэргіі ў яго, і загаварыць да яго — ён, як дурны.* Кураполле Паст. *Курыца бес пітуха ходзіць, як лунь.* Саланое Віл. *Кот стары ўжо, дык ходзіць, як лунь. Гэта старая курыца ходзіць, як лунь. Лунь — такі пацераны ходзіць і па месяцы ходзіць. Дайней мама на мяне: «Лунь ты!» Ходзіць с кутка ў куток, як лунь. Ходзіць, як лунь, стары чалавек.* Мярэцкія Глыб. *Як чалавек ходзіць быта нідапечаны, то зовюць лунь, ходзіць алунеўшы. Рухаесся ты, як лунь, паварачываісся, як лунь. Ходзіць, як лунь.* Ахрэмаўцы Брасл. 4. Той, хто ходзіць без справы, гультай. *Ён ходзіць, як лунь, ён бацькін сынок, яму ўсё добра.* Валынцы В.-Дзв. *Ходзіць, як лунь — ходзіць без дзела.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *На гультая кажуць лунь. Лунь ты! Нікчэмны чалавек!* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Хто дурнаваты, зацюканы. *Лунь — ні натта разумны. Лунь — дурнаваты чалавек. Лунь абазначае дурнаватага чалавека; ходзіць, як лунь.* Мярэцкія Глыб. *Дурны хужы, як лунь.* Валынцы В.-Дзв. *Як нялюцкая свякроўка, яна нявестку здурніць, зглуміць, і будзіць хадзіць, як лунь, будзіць баяцца, што і так ні так, і так ні так. І разумнага чалавека зробяць на луня, аблунеіць, калі будуць на яго казаць, што ён ніякі*

*чалавек, зглумяць саўсём.* Кураполле Паст. ∇ *Лунь ты балотны!* Мішневічы Шум. *Лунь ты баракоўскі! — Хто стары — ходзіць, як сонны.* Кураполле Паст.; *параўн.* руск. *лунь* 'цьмянае святло, бляск, белізна' (Даль, II, 708; Фасм., II, 534), літ. *lùina* 'гультай; дурнаваты, зацюканы'; *launỹs, luinỹs* 'бязрогі', *lūnius* 'разява', польск. *lunać* 'лінуць', *lunać się* 'лінуцца' (СВ, III, 52—53).

ЛУ'НЬКА *гл.* ЛУ'НКА

ЛУНЯВА'ТЫ *прым.* Някемлівы. *Старыя людзі луняватыя, як ежа бяс солі.* Кураполле Паст. *Луччы бедны развіты, чым багаты луняваты. Луняваты чалавек дурнаваты.* Саланое Віл. *Луняваты маліц, яго дзеўкі ня любяць.* Мярэцкія Глыб. *Луняваты чалавек плахі, нідалугі, нічога не вартуе.* Парэчча Гродз.

ЛУО'НЬСКІ *гл.* ЛО'НСКІ

ЛУ'ПА I *ж. анат.* Губа. *Ніжняя лупа ў каровы, каня. Для чаго лупы ў горадзі красяць?* Кураполле Паст. *У яго лупы велькія. Адна лупа.* Галоўні Воран. *Лупа верхняя і сподняя. Верхняя лупа каня.* Старыя Смільгіні Воран. *Лупы ў каня, конскія лупы, разбіла каніна лупу.* Вялікія Баяры Шчуч. *У каня лупы вісяць. Лупа ў каровы, каня.* Кіралі Шчуч., Саланое Віл. *Лупы ў яго бальшыя. Юліку хлопцы лупы пабілі.* Галубы Маст. *Уробіш рукі і пасуняш да луп.* Стральцы Гродз. *У каровы, у каня лупы.* Каўняны Гродз. *Лупы расквасіў.* Беразіно Докш. *Кап не гэтыя лупы, быў бы красівы.* Мсцібава Ваўк. *Лупы, адна лупа.* Вялікія Баяры Шчуч., Чычалі Швянч. *Лупа ў каня.* Гемзы Шальч. *Лупы атквасіў.* Пацаўшчына Дзятл. *Яґ дам табе па лупах. У чалавека то ўжэ гавораць лупы, як празываюць. Лупы — то губы ў каня.* Баброўнікі Гарад. *Ніжняя там лупа.* Ракаўскія Швянч. *У яго лупы некрасівыя.* Малькуны Ігн. *У яе тоўстыя лупы.* Крэва Смарг. ◊ *Лу́пы адста́віць* — зафанабэрыцца. *Як хто зніважаіць, кажуць: «Лупата, атставіўшы лупы, пашла». Атставіўшы лупы, пашла, як хадак.* Кураполле Паст. *Лу́пы надуць* — пакрыўдзіцца. *Надуў лупы і, аказваяцца, чагосьці абразіўся.* Яцаўляны Сідр. *Лупы надуўшы.* Саланое Віл. *Лу́пы разве́сіць (наве́сіць, паве́сіць, адве́сіць)* — стаць няўважлівым, вялым. *Лупы развешаўшы, ходзіць.* Лісна В.-Дзв. *Навесіла лупы.* Кіралі Шчуч. *От лупу атвесіў, як конь.* Кураполле Паст. *Конь лупу навесіўшы.* Гемзы Шальч. *Разявіць лупы* — слухаць з вялікай цікавасцю. *Разявіла свае лупы.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *lū̃pa* 'тж'.

ЛУ'ПА II *ж. бат.* Губа. *Лупа расце на ствале, на пнях.* Дварчаны Паст.

ЛУ'ПА III *ж.* Яечня, падкалочаная мукой. *Таўстую яешню ў Гумнах называюць лупай.* Ухвала Круп. *Разбіла некалькі*

*яец, малако ўліла і падкалаціла мукой — лупа гатова.* Гумны Круп.

ЛУ'ПА IV *ж.* Высеўкі. *Лупу высыпала з сіта.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛУ'ПА V *ж.* Металічны каўпачок у лямпе. *У лампы лупы есь.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* літ. *Іūра* 'тж'.

ЛУПАВІ'НА *ж.* 1. Тое ж, што і лупіна 1. *Лупавіна з бульбы.* Тухавічы Лях. *Лупавіны ат бобу. Адна лупавіна.* Малахоўцы Бар. 2. Шалупайка (ад яйка). *Лупавіны куры расцягалі.* Малахоўцы Бар.

ЛУПА'ЙКА, ЛУПЭ'ЙКА *ж.* 1. Тое ж, што і лупіна 1. *Старую картоплю, лупайкі абрэзваем.* Дзяніскавічы Ганц. *Лупайка з бульбы.* Пасека Ст.-Дар. 2. Тое ж, што і лупавіна 2. *Лупайка ад яйца.* Дзяніскавічы Ганц. *Лупайка на яйцы.* Пасека Ст.-Дар. *Лупэйка ейца.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Вонкавы каляплоднік арэха. *Е гарэхі ў лупайках. Лупайкі з гарэхаў.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛУПАНУ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Можа, ён яе і лупануў гэтай бярэзінай.* Саланое Віл.

ЛУПА'ТЫ I *прым.* Губасты. *Лупаты — з велькімі губамі.* Галоўні Воран. *Лупаты — з тоўстымі губамі. Кажуць, будзе лупаты, калі сысолку ссець.* Магуны Паст. *Якая лупатая — нікрасівая.* Кураполле Паст. *Вось вусны добрыя, нелупатыя.* Саланое Віл. *Лупаты чалавек.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Лупаты чалавек — з тоўстымі губамі.* Крэва Смарг. *Некрасівы, лупаты хлопец урадзіўся.* Беразіно Докш. *Лупаты, як конь.* Кіралі Шчуч. *У лупатага бальшыя губы.* Ёдлавічы Брасл. *Лупаты такі.* Лісна В.-Дзв. *Лупаты чалавек.* Пацаўшчына Дзятл. *Некрасівы, лупаты, як чорт асмалоўскі.* Ухвала Круп. *Лупаты такі, непрыгожы.* Глівін Барыс. *Лупаты — лупы велькія.* Лука Нараўк. *Лупаты, на бацьку не падобны.* Калясное Міхал. *Лупатая дзеўка.* Солы Смарг. *У каго лупы вялікі, то кажэ: «О, які лупаты!»* Баброўнікі Гарад. *Ён натта лупаты, як пачне гаварыць, толькі сліна брызгая.* Гемзы Шальч. *Лупаты — з вялікімі губамі.* Чычалі Швянч. *Лупаты — чалавек з тоўстымі губамі.* Ракаўскія Швянч. *Чалавек лупаты, лупы вялікія.* Малькуны Ігн.; *гл.* лу́па I.

ЛУПА'ТЫ II *прым.* Вірлавокі. *Сава лупатая.* Вецярэвічы Пух. ◇ *Лупатая яешня* — яечня (нераскалочаная). *Лупатая яешня — цалкам яйца.* Лапічы Асіп.

ЛУ'ПАЦЬ, ЛУ'ПАТЫ, ЛУ'ПАТЭ *незак.* Лыпаць. *Лупала ачыма.* Вострава Маст. *Вуон лупае очыма.* Горск Бяроз. *Чы мыні з-за тыбэ гочыма лупаты. Чого ты лупаіш?* Сіманавічы Драг. *Будэ лупатэ очэма. Вын лупае очэма.* Дзмітравічы Кам.

ЛУПА'Ч *м.* Губасты чалавек. *Лупач ты нешчасны — усты*

*грубыя.* Гемзы Шальч. *Як празываюцца, то гавораць: «Лупачу ты!»* Баброўнікі Гарад.; *гл.* л у́ п а I.

ЛУПЕ'НІКІ *мн. бат.* Маслякі. *Набрала грыбоў-лупенікаў. Лупенікі — іх нада лупіць, іх згадне перабіраючы, яны слізкія.* Кіралі Шчуч. *Лупенікі склізкія, тожа смашныя грыбы.* Малахоўцы Бар.

ЛУ'ПІН *м.* Тое ж, што і л у́ б і н. *Лупін запахуім.* Стральцы Шальч.

ЛУПІ'НА *ж.*, ЛУПІ'НЫ *мн.* 1. Вонкавая абалонка плода, семя, стручка. *Лупіны з бульбы.* Галоўні Воран., Быстрыца Астр. *Аблупіў бульбу, асталася лупіна. Лупіны ад бульбы.* Старыя Смільгіні Воран. *Ад бульбы лупіны.* Солы Смарг. *Лупіны ад бульбы вараць свіням. Картопля з лупінамі. Памыць лупіны, хай пакіпяць, накрыць, няхай пастаяць і піць па паўкубачка ад даўлення.* Кіралі Шчуч. *Лупіны ад картопля.* Вострава Маст. *Лупіны с картофлі выкінь!* Пацаўшчына Дзятл. *Лупіны с картошкі.* Міратычы Карэл. *Лупіны ад семячка. Грубая лупіна.* Альхоўка Навагр. *Занясі лупіны карові!* Альхоўцы Лях. *Адчышчэна бульба — вот і лупіна. Картошку з лупінай варылі. Налушчылі гароху, шмат лупіны.* Гемзы Шальч. *Лупіны — як бульбу чысціш. Адна лупіна.* Чычалі Швянч. *Лупіны дай карові!* Лука Нараўк. *Лупіна на гарбузе. Лупіны ад бобу.* Крэва Смарг. *Лупіна — то ў картофле, у памараньча, то, што аткідаецца.* Баброўнікі Гарад. *Лупіны вараць свіням, а кедысці аддавалі іх авячкам або карові.* Верхлессе Крын. *Лупіны ат ягат.* Старыя Трокі Трак. *Лупіны з гароху.* Рыбчына Віл. *Лупіну збіралі на шметніку.* Швэды Вільн. 2. Тое ж, што і л у́ п а IV. *Лупіну высыпала ў цэбар.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Тое ж, што і л у п а в і́ н а 2. *Лупіна з яйца.* Рыбчына Віл., Баброўнікі Гарад. *Лупіна ад яйка.* Кіралі Шчуч., Кудзялянцы Шальч., Солы Смарг. *Трэба патаўчы лупіны ад яйца і даць малым* [куранятам]. Асавец Віл.; *параўн.* літ. *lupỹnos* 'лупіна'.

ЛУПІ'НКА, ЛУПІ'НЬКА *ж. памянш.* 1. Тое ж, што і л у п і́ н а 1. *Абразаюць лупінку з бульбы.* Лісна В.-Дзв. *Лупінкі ад бульбы.* Альхоўка Навагр. 2. Тое ж, што і л у п а в і́ н а 2. *Лупінка з яйка.* Альхоўка Навагр. 3. Лупіна цыбулі. *Лупінькі з цыбулі, імі фарбавалі.* Мсцібава Ваўк. *Лупінку с цыбулі снялі.* Ністанішкі Смарг.

ЛУПІ'ННІК *м. бат.* Масляк. *Лупіннік лопка дзярэцца.* Жылі Іўеў.

ЛУПІ'ЦЦА, ЛУПІ'ЦЦЯ *незак.* 1. Лушчыцца, абдзірацца. *Лупіцца бульба маладая.* Ахрэмаўцы Брасл. *Добра будзе кара лупіцца.* Грыкені Вільн. 2. Аблазіць. *Скура ўся лупіцца. Загарэла моцна скура, будзе лупіцця.* Кіралі Шчуч.; *параўн.* літ. *lùptis* 'тж'.

ЛУПІ'ЦЬ I, ЛУПІ'ТІ, ЛУПЫ'ТЫ *незак.* 1. Знімаць лупі-

ну, кару. *Лупілі бярэзнік.* Бакшты Іўеў. *Лупяць парану картоплю, яблыка, яйцо, гурок.* Вострава Маст. *Лупець картошкі, а то астыня.* Мсцібава Ваўк. *Лупіш бульбу сідзя.* Лісна В.-Дзв. *Трэ картоплю лупіць, знімаць лупіну. Лупіць гарбузікі. Налупі дзіцяці гарбузікаў!* Дзяніскавічы Ганц. *Лупілі бульбу.* Дзёрнавічы В.-Дзв. *Лупіць бульбу сырую і варанаю.* Чычалі Швянч. *Добры нож лупіць бульбу. Будзя табе бульбу лупіць!* Азяраны Раг. *Буду лупіць картоплі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Сыриі картоплі обрізуваты, а вароны чы пычоны лупыты.* Сіманавічы Драг. 2. Знімаць скуру з забітай жывёліны. *Лупіць барана — шкуру здымаць.* Дзяніскавічы Ганц. *Зарізав барана, буду лупыты.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* літ. *lùpti* 'тж'.

ЛУПІ'ЦЬ II, ЛУПІ'ТІ, ЛУПЫ'ТЫ *незак. экспр.* 1. Лупцаваць. *Ён гатоў палкай лупіць — толькі плачу. Па твару будзе мяне лупіць.* Саланое Віл. *Гумай лупя яе.* Солы Смарг. *Лупів його.* Курашэва Чыж. *Зловыв злодыя, дай лупыть його.* Сіманавічы Драг. 2. Моцна стукаць. *Ён лупіў дзвярэй.* Старыя Смільгіні Воран. 3. Вырываць. *Ідзеш і лупіш.* Старыя Смільгіні Воран. 4. Разрываць на часткі. *Гэта так машына лупіць — рве бялізну ў час мыцця.* Азяраны Раг. 5. Моцна ліць (пра дождж). *Дождж лупіць добры.* Беняконі Воран. 6. Многа і прагна піць. *Лупіць гарэлку ўсё ўрэмя.* Дзёрнавічы В.-Дзв. ◊ *Остатню скуору лупіті* — забіраць апошняе. Курашэва Чыж.; *парайн.* літ. *lùpti* 'лупцаваць; моцна ліць; прагна піць', *óžius lùpti* 'вырываць'.

ЛУ'ПКА І *гл.* ЛУ'БКА

ЛУ'ПКА ІІ *ж. памянш.* да л у́ п а І. *У дзеўкі харошая лупка.* Гемзы Шальч.

ЛУПЛЁНКІ *мн.* Аблупленая кара. *Луплёнкі лупілі — кару лупілі.* Кураполле Паст.

ЛУПЛЯКЕ' *мн.* Тое ж, што і л у п е́ н і к і. *Лупляке адварваюць, хто як здумае, марынуюць.* Пацаўшчына Дзятл.

ЛУ'ПЛЯНЫ *дзеепрым.* Абчышчаны (пра бульбу). *Скробаны картохлі ліепшы, як лупляны.* Курашэва Чыж.

ЛУПНУ'ЦЦА *зак.* Ударыцца, стукнуцца. *Лупнулася ў ходнік, ступіла нагамі.* Граўжышкі Ашм.

ЛУПНУ'ЦЬ, ЛУ'ПНУТЫ *зак.* Маргнуць, лыпнуць. *Вейкамі не лупні.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Стыдно стало, то лупнув гочыма дай пошов. Будыла, то оно лупнув гочыма, а ны прочнувсь.* Сіманавічы Драг. *Одын раз лупнув, моргнув.* Сіманавічы Драг.

ЛУПО'НЫ *мн.* Суквецце сланечніку. *Шчотка слонэчніку, лупоны слонэчніку.* Міратычы Карэл.

ЛУ'ПОТЭНЬ *м.* Лупцоўка. *Такого лупотня справіў, што будэ доўго помэтаті.* Курашэва Чыж.

ЛУПУХА′ *ж.* Тое ж, што і л а п у́ х 3. *Лупуха жоўтым цвіце.* Прэдэ Даўг.

ЛУПЫ′ТЫ I *гл.* ЛУПІ′ЦЬ I

ЛУПЫ′ТЫ II *гл.* ЛУПІ′ЦЬ II

ЛУПЭ′ЙКА *гл.* ЛУПА′ЙКА

ЛУПЯ′КІ, ЛУПЯКЕ′ *мн.* Тое ж, што і л у п е́ н і к і. *Лупякі аблупліваюцца.* Дакудава Лід. *Лупяке, ці масляке — адно і тое ж. Бяром іх, і савякоў бяром, і лісіц.* Пацаўшчына Дзятл. *Лупякі — трэба лупіначку здымаць.* Альхоўка Навагр.

ЛУПЯЧКІ′ *мн. памянш.* Тое ж, што і л у п е́ н і к і. *Лупячкі — грыбы лупячы.* Навасёлкі Свісл.

ЛУСКА′ I *ж.* 1. Перхаць; лускавіны на скуры жывёлы. *Луска ў каровы бывая. Свярбіць алава, поўная лускі.* Быстрыца Астр. *Луска ў худой каровы.* Магуны Паст. *Луска ў галаве. Луска падае с каровы.* Пацаўшчына Дзятл. *Луска спанавала карову; і ў чалавека луска; няможна луску вывясці нічым.* Едлавічы Брасл. *Луска па галаве стала падымацца ад гарачай вады.* Ахрэмаўцы Брасл. *Луска ў галаве; у галаве многа лускі.* Малькуны Ігн. 2. Луска (рыб, змей). *Зверху рыбы луска.* Быстрыца Астр. *Злавіў рыбу — луску трэба лускаць.* Магуны Паст. *Зловяць рыбу і скрабуць луску.* Жодзішкі Смарг. *Рыба мае луску.* Баброўнікі Гарад. *Луска на рыбі, трэба луску апчысціць нажом.* Кіралі Шчуч. *Луска ў рыб. Па лусцэ віджу, якая рыба. Угорыш без лускі.* Ахрэмаўцы Брасл. *На гаду такая луска, як на рыбі.* Вялікі Краснік Пруж.

ЛУСКА′ II, ЛУЦКА′ *ж.* 1. Тое ж, што і л у п і́ н а 1. *Буракі атпару з лускай, абяру, вадой залію.* Старыя Трокі Трак. 2. Тое ж, што і л у п а в і́ н а 2. *Луска ад яйка.* Старыя Смільгіні Воран., Старыя Трокі Трак. *Як курыца выклява яйко, то ў скуры, бэз лускі.* Ліпнікі Вільн. 3. Тое ж, што і л у́ п а IV. *Луску ад грачыхі жорны не пераціраюць, уся луска ў рэшаце астаецца.* Гемзы Шальч. *Луску абтаўчэш з ячменю.* Грыкені Вільн. *Луска ад грэчанай мукі.* Лука Нараўк. *Грачысная луска атстае.* Солы Смарг. *Луска ад грэчкі.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Луцка грэцкая.* Азяраны Раг. 4. Луска цыбулі. *Мала лускі, пасохла ўжо цыбуля, нада больш забавіць, яйкі не фарбуюцца.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛУ′СКА′ЦЬ, ЛУ′СКАТЭ *незак.* 1. Лушчыць. *Лу́скаю семячкі.* Саланое Віл. *Не луска́й зубамі арэхаў, паломіш зубы.* Бера́зіно Докш. *Лускатэ слонэчныкы.* Дзмітравічы Кам. 2. Хрустаць. *Пальцы лу́скаюць.* Мсцібава Ваўк.

ЛУСО′К *м.* Скура гадзюкі, скінутая ў час ліནькі, лінавішча. *Вот гадзіна выляняла і пакінула свой лусок. Лусок гадзіны тошчы калі крушні ляжыць.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛУСТ *м.* Плоскі кавалак хлеба, адрэзаны ад булкі. *Луст*

*хлеба адрэзаў.* Чычалі Швянч.; *параўн.* літ. *lùstas, luĩstas* 'тж'.

ЛУ'СТА *ж.* 1. Тое ж, што і л у с т. *Лусту хлеба адрэзаў.* Беняконі Воран., Галоўні Воран., Лісна В.-Дзв., Чычалі Швянч. *Луста праз усю булку хлеба.* Жодзішкі Смарг. *Паналажыла лусты хлеба.* Ністанішкі Смарг. *Луста — кругом буханкі, скіпка — да паловы буханкі.* Рыбчына Віл. *Скіпка меншая, а луста большая.* Солы Смарг. *Ой жа ты лустаў нарэзаў! Адрэш лусту хлеба.* Кіралі Шчуч. *Велька луста хлеба* Каўняны Гродз. *Лусту хлеба аткроіў.* Парэчча Гродз. *Лусту адвярні кругом булкі хлеба.* Ёдлавічы Брасл. *Лусту хлеба з'еў.* Пацаўшчына Дзятл. *Лусту хлеба атрэш.* Янова Рас. *Аткроя лусту хлеба і падзеля. Адрэзала лусту хлеба і з'ела.* Гемзы Шальч. *Лусты хлеба кроілі.* Старыя Трокі Трак. *Одрэзаў лусту хлеба.* Смаляніца Пруж. *Луста хлеба — кругаля булкі, а скіпка — да паўбулкі, адрэжаш са днаго боку і другога.* Рудня Астравітая Чэрв. *Як быў хлеп, па лусця адрэжаш.* Багушэвічы Бярэз. *Во лусту ўвабрала!* Рудня Чэрв. *Луста хлеба — адрэзана да палавіны.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Лусту хліба намазала маслом.* Сіманавічы Драг. 2. Ежа, якую бралі з сабою ў поле. *Забылася лусты ўзяць — як ідуць на работы.* Кіралі Шчуч. *Лусту бярэм, калі ідзіма на поля, скіпка — як есці зара.* Дакудава Лід. *На работу ў поля ідзеш, а лусту ўзяла? Скердзя кармілі і паілі, і лусту давалі ў поля.* Парэчча Гродз. *Абет пастыру называлі лустай, што с сабой бярэць у поле.* Беразіно Докш. *Пастыр бярэць лусту: хлеб, сала, яйкі. Пастух бярэць лусту ў поле.* Саланое Віл. *Абед, што пастыр бярэць у поле з сабою, называецца луста.* Беразіно Докш. *Ячную лусту ўсе даюць.* Малыя Аўцюкі Калінк.; *гл.* л у с т.

ЛУ'СТАЧКА, ЛУ'СТОЧКА *ж. памянш.* Плоскі кавалачак хлеба, скрылік сала. *Лустачка хлеба.* Чычалі Швянч. *Лустачку хлеба атрэш.* Рагулішкі Даўг. *Аткрой лустачку сланіны.* Солы, Нарбуты Смарг. *Намажу лусточку хліба.* Сіманавічы Драг.; *гл.* л у с т.

ЛУ'СТКА *ж.* 1. Тое ж, што і л у́ с т а ч к а. *Лустка хлеба — меншая за лусту.* Галоўні Воран. *Лустка хлеба.* Баброўнікі Гарад. 2. Тое ж, што і л у́ с т а 1. *Калісь такія вялікія булкі хлеба пяклі і лустка — на ўсю булку.* Баброўнікі Гарад.

ЛУСЬ *выкл.* Лоп. *Рыбны пузыр, як станіш, ён лусь; дай мне пузыр, я стрэльну.* Кураполле Паст.

ЛУТ *м.*, ЛУТЫ' *мн.* 1. Лыка з ліпы, ляшчыны і інш. *Луты ляшчынавыя на райніцу, бяруць пруты з ляшчыны танейшыя і аплятаюць лутам. Лупка — дно с саломы, а тут луты, пчолы суткі-двоя можна дзяржаць, воздуху хватаіць, міняецца воздух.* Груздава Паст. *Белыя луты — садраная ліпа.* Ку-

раполле Паст. *Лут — кара з ліпы. З магазіна прывозілі луты.* Палік Барыс. *Лут, а потым скруціш — паласа, палоска лыка.* Глівін Барыс. *З лута дзелаюць жгут і закладаюць карові, як згубіць жвачку, ена мулiт его. Лапці з лутоў, з лазы.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Галіна, з якой дзяруць лыкі. *Лутоў ліповых нарэзаў, лыка надзёр і лапці сплёў.* Ахрэмаўцы Брасл. 3. Галіна, з якой садрана кара. *Лут — з гарэшыны, абдзёртая гарэшына — гэта лут, з іх ляскі ўстаўляюць у кошык.* Міратычы Карэл. *Як абдзіралі палоску ліпы, то лут заставаўся.* Дзяніскавічы Ганц. ◇ *Лутам цяць* — прыйсці ў нягоднасць. *Гэтыя штаны за тры гады, як лутам, цяло — сталі дзюравыя, парваліся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Як лут* — тоўсты, укормлены. *У Цімаха былі свіня, як лутэ, сытыя.* Вецярэвічы Пух.; *парайн.* літ. *lùtis* 'укормлены'.

ЛУТО'ВЫ *прым.* Лыкавы. *Лутовыя лапці плялі — лапці з лыкаў.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛУТО'К *м.* 1. Ручка ў касе. *Луток выразаў у косу.* Альхоўцы Лях. 2. Вушак у дзвярах. *Луткі ў дзвярах.* Мачаск Бярэз.

ЛУТЫ' *гл.* ЛУТ

ЛУТЫШЫ' *мн. этн.* Латышы. *У Шкавенскай воласці большэ лутышоў.* Мельнікі Лудз.

ЛУХ I *гл.* ЛУГ I

ЛУХ II *гл.* ЛУГ II

ЛУХЧАВІ'НА *ж.* 1. Калдобіна. *Там лухчавіна на дарозі.* Кураполле Паст. 2. Тое ж, што і л а г а в і ш ч а 2. *Зложаць куры агарот, адны лухчавіны, адны лугавішчы.* Кураполле Паст.

ЛУЦЕ'Ц *м.* Тое ж, што і л у т о́ к 1. *Луцец — у касе ручка.* Рыбчына Віл.

ЛУ'ЦІК *м.* Тое ж, што і л у т о́ к 1. *Луцік, лут выразаў у косу. Дарабіў да косы луціка.* Альхоўцы Лях.

ЛУЦКА' *гл.* ЛУСКА' II

ЛУ'ЦЦЕ, ЛУ'ЦЦЯ *зб. н.* 1. Ліпавыя лыкі. *Дзяруць луцця з ліпы.* Вецярэвічы Пух. *Луцця надзерэ.* Малыя Аўцюкі Калінк. 2. Ліпавыя пруты. *Луцця — ліповыя пруцця.* Рудня Астравітая Чэрв. *Нарэзаў луцця на лапці.* Азяраны Раг.

ЛУЧ *м.* Прамень. *У нашае акно пападаюць лучэ. У акно б'юць лучэ слонка, бо не расце дзераво перад акном.* Баброўнікі Гарад.; *парайн.* руск. *луч* 'тж'.

ЛУЧА'Й *м.* Тое ж, што і л е ч а́ й. *Лучай у жарнох.* Каўняны Гродз. *На верхнім камяні пасярэдзіні выдаўблін лучай; у лучай сыплюць зерня.* Навасёлкі Свісл.

ЛУЧА'ЦЦА *незак.* Сватацца. *Хлопцы добрыя лучаліся, але яна не пашла. Замуш лучаўся, алі ні пашла, шкода было сынка.* Саланое Віл.

ЛУЧА'ЦЬ *незак.* 1. Штурхаць (нагой). *У мяне лучаіць*

*нагой.* Груздава Паст. 2. Улоўліваць. *Грамаатвот стрэлы пяруна не лучая.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЛУ'ЧКА I *ж.* Тое ж, што і л у́ к а́. *Лучка — бальшы лух удоль рэчкі, паміж сенакосам, лесам і рэчкай.* Вязынка Маладз. *Лучка — сенакос, акружаны ракою. Лучка — еслі рака кругом агінае.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛУ'ЧКА II *ж.* 1. Баваўняныя ніткі. *Лучкай тканае.* Рыбчына Віл. 2. Мулінэ. *Былі вышываныі лучкай, розавая лучка.* Лісна В.-Дзв. *А цяпер і лучкаў купляюць. Лучка — бліскучыя ніткі.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* польск. *włóczka* 'баваўняныя ніткі'.

ЛУЧКО'ВЫ, ЛЫЧКО'ВЫ *прым.* Бавaўняны. *На кашулю было лучковая палатно.* Дакудава Лід. *Лычковые платкі.* Азарычы Пін.

ЛУ'ЧНІ'К, ЛУ'ШНІ'К *м.* Прыстасаванне для асвятлення лучынай. *Лу́чнікі булі — труба такая, у крышу вялі, а пазней камінкі началі рабіць пры печах збоку. Комін аддзельна выводзіўся. Сярод хаты вісеў колісь лу́чнік, ён быў пераплецены; жалеза вешалі на яго і палілі смалякі, бляху падсцілалі — і жар падае, а труба аддзельна ад печы і комін наўлёт.* Кузьмічы Люб. *Лу́чнік — дзе лучыну затыкалі, сярот хаты вісеў. А дзе асвятленне — лучнік.* Дзяніскавічы Ганц. *На лучнік смалячке ложуць: жасцянка такая, рашотка, каб угальке падалі.* Малахоўцы Бар. *Лучнік быў, вісеў на дроці, як вядро дагары дном, труба да яго праведзена, і дым ідзе ў комін. Некалі не было газы, лучнікі рабілі, і смалякоў накладзём — аш цёпла.* Альхоўцы Лях. *Лу́шнік гарэў на прыпачку.* Беразіно Докш. *Не было газы, асвятлялі лу́шнікам, быў лушнік такі, лажылі лучыну.* Глівін Барыс. *Лу́шнік рабілі — у столь праводзілі, із дупцоў плялі, доўгі-прадоўгі, на гару выводзілі, быў у курных хатах. Лу́шнік — падвешаны комін, унізе бляха, а праз лу́шнік выходзіў дым. Лу́шнікі — з палатна, абмазвалі глінай і з лазы плялі, і дзірка была ў столі.* Вецярэвічы Пух. *Наклалі на лу́шнік смалячкоў і малацілі. Лу́шнік з цэглы, гліны вродзе на камянок.* Мачаск Бярэз. *Колісь лампаў не было, лушнякі віселі, утыркалі лучынку. Лушнік вісіць сярод хаты — лучынку драную лажылі і свяцілі.* Азяраны Раг.

ЛУЧНЫ' *прым.* Які расце на луцэ, скошаны на луцэ (пра сена, траву). *Лучны сенакос, лучноя сена, каля рэк, з лукі.* Саланое Віл.

ЛУЧО'К *м. памянш.* 1. Тое ж, што і л у к I, 2. *Лучкі да кошыка рэзалі.* Альхоўка Навагр. *Лучок у бучыку; малы бучык устаўлены ў велькі буч.* Старыя Смільгіні Воран. *Ворак, зашыя лучок, соўгая воркам па рэчцы, дзе маўра.* Гемзы Шальч. 2. Тое ж, што і л у к I, 4. *Лучок — ручка ў кошыку. Лучок паламаўся ў кошыку.* Магуны Паст. *Бярыся за лу-*

*чок — і разам кошык панясём.* Галубы Маст. 3. Тое ж, што і л у т о́ к 1. *Лучок е ў касе, і косё, рэхва, і запатылак.* Альхоўцы Лях.

ЛУЧЧЭ'ЙШЫ *выш.* Лепшы. *Тэй луччэйшы хлопец.* Ухвала Круп.

ЛУ'ЧШЫ, ЛУ'ЧШЫЙ, ЛУ'ЧЧЫЙ *прым.* 1. Лепшы. *У льне камле лучшыя.* Кіралі Шчуч. *Той добрый, а той ішчэ луччый.* Відзібар Стол. 2. Правы бок матэрыі. *Гэта лучшый бок палатна.* Рагулішкі Даўг.

ЛУ'ЧШЭ, ЛУ'ЧШО, ЛУ'ЧЧЭ *прысл.* Лепш. *Што лучшо сабе застаўляюць. Што ты наварыла нясмашна, лучшо есці нішчымніцу.* Мачаск Бярэз. *Вун зробыв луччэ, чым ты.* Відзібар Стол. ∇ *Лучшэ дзевяць дзевяроў, чым адна залоўка.* Саланое Віл.

ЛУЧЫ'НА *ж.* 1. Тонкая доўгая трэска. *Даўней лучыну палілі: да бэлькі прыбіта цвяком, запалюям і прадзём.* Паляцкішкі Воран. *Шчапаць лучыну, дрова біць.* Рыбчына Віл. *Лучына з сасны.* Мярэцкія Глыб. *Лучына, цёска із хвойкі.* Альхоўцы Лях. *Ідзі насячы лучыны.* Грыкені Вільн., Галоўні Воран. *Сакераю трэба накалоць лучыну.* Лука Параўк. *Лучыны ідзі насячы.* Кузьмічы Люб. 2. Вузкая дошчачка. *Цялё зламая нагу — лучыну прывяжа і зарасце.* Гемзы Шальч. 3. Лучыннае асвятленне. *Я прала пры лучыне.* Стральцы Гродз. *Пралі на верацяно пры лучыня.* Альхоўка Навагр.

ЛУЧЫ'НКА *ж.* 1. памянш. да л у ч ы́ н а 1. *У чатырнаццатым гаду і лучынкаю асвяшчаліся.* Пасіене Лудз. 2. Палоска драўніны для пляцення каша. *З лучынак карзіны пля-лі.* Ахрэмаўцы Брасл. ∇ *Жых, як лучынка* — пра запальчывага чалавека. Саланое Віл.

ЛУЧЫ'НКІ *мн.* Аснова буча. Істра Лудз.

ЛУЧЫ'ННІК I *м.* Кош з лучыны. *Лучыннік — кашэль з лучыны. Лучыннік з лучыны, прадаўгаваты, і початка ў лучынніку, картоплю выбіралі.* Вецярэвічы Пух.

ЛУЧЫ'ННІК II *м.* Тое ж, што і л у́ ч н і к. *Быў такі лучыннік, лучынай свяцілі.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛУ'ЧЫЦЦА *зак.* Наведацца. *А, можа, хто да мяне лучыцца пагасціць.* Кураполле Паст. ∇ *Што рабіць, буду мучыцца, пакуль смерць лучыцца.* Кураполле Паст. *Нада мучыцца, пакуль смерць лучыцца.* Валынцы В.-Дзв.

ЛУ'ЧЫЦЬ *зак.* Папасці, трапіць. *Выстралю і ня лучу. Пака ты лучыш. Нешта я не лучу. Яна ў тоя лучыла, дзе мялчэй.* Саланое Віл. *Гэтак жа ня лучыш, кап была свежанькая.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Хто гэто цэлну ноч блытаўса, не лучыў дадому?* Дзяніскавічы Ганц.

ЛУШАЯ', ЛУШУЯ' *ж.* 1. Тое ж, што і л у с к а́ I, 1. *У цябе ў галаве лушая завялася — цяпер завуць перхаць. Лушая ў каровы, свінні.* Рыбчына Віл. *У каровы, свінні лушуя* [у су-

седніх вёсках], *шалуха* [у Мярэцкіх]. Мярэцкія Глыб.; *гл.* л і ш á й 2. Каласковая луска аўса. *Авёс патпарыцца, яга сушаць, таўкуць, лушая астаецца пахучая, і крупы рабілі, смашныя крупкі.* Салапое Віл.

ЛУ'ШНІ'К *гл.* ЛУ'ЧНІ'К

ЛУШПІ'НА *ж.*, ЛУШПІ'НЫ *мн.* 1. Вотруб'е. *Муку прасеяў, асталіся самыя лушпіны.* Номікі Бабіц. 2. Тое ж, што і л у п í н а 1. *Лушпіны ад гароху. Адна лушпіна.* Солы Смарг. 3. Тое ж, што і л у п а в í н а 1. Яцаўляны Сідр.

ЛУШПІ'НЬКІ *мн. памянш.* Тое ж, што і л ý п а IV. *Грачысны лушпінькі аткінь.* Солы Смарг.

ЛУШУЯ' *гл.* ЛУШАЯ'

ЛУШЧАВІ'НА *ж.* Тое ж, што і л у п í н а 1. *Лушчавіны ад маку, як мак лушчаць, то гэтыя галоўкі.* Міратычы Карэл. *Лушчавіны із семя канопляў асядаюць на дне.* Альхоўка Навагр. *Лушчыць нада боп і высыпаць лушчавіны. Адна лушчавіна.* Малькупы Іп.

ЛУШЧА'К *м.* Ачышчаны арэх. *Дай хлопцу* [маламу] *лушчакоў.* Гайна Лаг.

ЛУШЧАНЕ'Ц *м.* Спелы арэх. *Бацька два пуды лушчанцоў прынёс.* Бакшты Іўеў. *У лушчанцы лупінка тоненькая, а зярня крупнае.* Пацаўшчына Дзятл. *Лушчанцы — калі самі лушчацца.* Альхоўка Навагр. *Пашоў у гарэхі і адніх лушчанцоў набраў. Патрасеш арэхі — самі сыплюцца, такія лушчанцы.* Гемзы Шальч.

ЛУШЧАПІ'НЫ *мн.* Адходы ад палання круп. *Лушчапіны высыпала.* Вострава Маст.

ЛУ'ШЧЫК I *м.* Расколаты прут. *Лушчыкі — кашы плясці, дупчыкі шчэпяць і плятуць кашы. А то і лушчыкамі, як рашчэплівайіць дупцы.* Кураполле Паст.

ЛУ'ШЧЫК II *м.* Тое ж, што і л у ш ч а н é ц. *Лушчыкі навылушчываў з арэшніку.* Асавец Віл.

ЛУ'ШЧЫЦЦА *незак.* Лузацца, аблуплівацца. *Гарэхі добра лушчацца.* Гемзы Шальч. *Скура лушчыцца ад сонца.* Лука Нараўк.

ЛУ'ШЧЫЦЬ, ЛУ'ШЧЫТЫ *незак.* 1. Ачышчаць ад лупін, шалупіння. *Фасоль лушчылі.* Старыя Смільгіні Воран. *Сядай і лушчы пасолю.* Беразіно Докш. *Лушчыць гарох.* Мярэцкія Глыб. *Я боп лушчыў.* Гемзы Шальч. *Лушчыць нада боп.* Малькупы Іп. *Лушчылі боп.* Пасіене Лудз. *Лушчыць боб, фасолю.* Лука Нараўк. *Лушчыт буоб, горох, достае з лупыны.* Горск Бяроз. *Нада лушчыць арэхі з шалупак.* Мярэцкія Глыб. *Сядзіць, лушчыць і есць гарбузінята.* Кіралі Шчуч. 2. Ачышчаць вараныя ракі. *Лушчаць гэтыя ракі і ядуць.* Гемзы Шальч.

ЛУШЧЫ'ЦЬ I *незак.* Узорваць цаліну, аблогу. *Восянню*

*арэцца, патом вясной араць, сеяць, а новае — лушчыць.* Нізок Уздз.

ЛУШЧЫ'ЦЬ II *незак.* Шамацець паперай. *Лушчыць бумагай. Не лушчы, перастань!* Валынцы В.-Дзв.

ЛЫ'БАЦЬ *незак. экспр.* Многа, прагна піць, жлукціць. *Ён гарэлку лыбаіць і лыбаіць.* Валынцы В.-Дзв.

ЛЫ'БІЦЦА *незак. экспр.* Ухмыляцца. *Яшчэ ты будзеш лыбіцца мне. Лыбіцца, як майская роза. Я сказала, а ён лыбіцца.* Раўбічы Мін.

ЛЫГА'ЦЬ I *незак.* Лгаць. *Я ні крышачкі ні лыгу.* Дакудава Лід. *Гаворыць няпраўду, лыжэ.* Міратычы Карэл.

ЛЫГА'ЦЬ II *незак.* 1. Абкручваць вакол чаго-н. *Валокі доўгі лыгаюць, лягаюць кругом нагі.* Семежава Кап. 2. Плесці. *Лыгалі лапці.* Семежава Кап.

ЛЫГА'ЦЬ III *незак.* Глытаць. *Наш сабака такі агарны, што як дасі яму есць, то цалком лыґая.* Яцаўляны Сідр. *Лыґаць яду, сліну, што не возьмеш, то лыґаеш.* Баброўнікі Гарад.

ЛЫГА'Ч *м.* Лгун. *Лыгач неправільна гаворыць, лыжэ.* Кіралі Шчуч.

ЛЫГНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць. *Я першая лыгну вады, бо недамагаю.* Рагулішкі Даўг. *Лыгнеш і дзярэ ў горле.* Навасёлкі Свісл. *Лыгнуць адзін толькі рас.* Номікі Бабіц.

ЛЫГУ'Н *м.* Тое ж, што і лыга́ч. *Лыгун ты, лыжэ і лыжэ. Дында — лыгун такі.* Дакудава Лід. *Лыгун — свет не бачыў.* Кіралі Шчуч.

ЛЫДА'ШЧЫЙ *гл.* ЛЯДА'ЧЫ

ЛЫДАШЧЫ'ЦЯ *ж.* Гультайка. ▽ *Ходыты біло* [чыста, акуратна] — *скажуть гонорыцця; ходыты чорно* [брудна, неакуратна] — *скажуть лыдашчыця.* Сіманавічы Драг.; *гл.* ляда́чы.

ЛЫ'ЖАЧКА, ЛЫ'ЖЫЧКА *ж.* 1. *памянш.* да лы́жка. *Лыжачку вазьмі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Падай мне лыжачку!* Лісна В.-Дзв. 2. *анат.* Сонечнае спляценне. *У лыжачкі баліць.* Старыя Смільгіні Воран. *Даў у лыжачку, забалела ў лыжачца.* Граўжышкі Ашм. *Пад лыжычкай ударыў — як больна!* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЫ'ЖКА, ЛЫ'ШКА *ж.* Тое ж, што і ло́жка I. *Як сядзім, толькі лыжкі пляскаюць.* Старыя Смільгіні Воран. *Дзе мая лышка, буду борш есь.* Лісна В.-Дзв. *Мой прышоў з вайны і лышку ў кармані прынёс.* Кураполле Паст. *Драўляная лышка.* Грыкені Вільн. *Прынясу лышку, ешце.* Чычалі Швянч. *Ем лышкай.* Паляцкішкі Воран. *Зрабіў лышку мёт класці.* Альхоўка Навагр. *Лышкай мяшаю. Лышкі памыла.* Груздава Паст. *Лышкай мяшаю суп. І лышкі былі дзіравяныя.* Рыбчына Віл. *Рабіў лышкі, палонічкі рабіў.* Гемзы Шальч. ◊ *Утапіць у лыжцы вады*—з-за нязначнай прычыны зрабіць каму-н.

вялікую непрыемнасць. *Бываіць, што яна гатова цібе ў лыжцэ вады ўтапіць.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЫ'ЖКО *гл.* ЛО'ЖКА II

ЛЫ'ЖОК *гл.* ЛО'ЖАК

ЛЫ'ЖЫ *прым.* Хлуслівы. *Яна натта лыжая, моцна лжот.* Кіралі Шчуч.

ЛЫ'ЖЫЧКА *гл.* ЛЫ'ЖАЧКА

ЛЫ'ЗНЯК *гл.* ЛАЗНЯ'К

ЛЫЙ *гл.* ЛОЙ

ЛЫК I *м.* Тое ж, што і лы́ка. *Дзе мой лык? Я лык дзёр. Нада надзерці лыку.* Ёдлавічы Брасл.

ЛЫК II *м.* Глыток. *Глытнуў адзін лык.* Старыя Трокі Трак.

ЛЫК-ЛЫК *выкл.* Перадача гуку пры глытанні. *Малака закіпяціла, часнаку накроіла, лык-лык — і выпіла.* Старыя Трокі Трак. *Лык-лык — і выпіў кубак вады.* Кудзяляпцы Шальч.

ЛЫ'КА *н.* і *ж.*, ЛЫ'КО, ЛЭ'КО *н.* Тонкія доўгія палоскі кары, з якіх плялі лапці. *Лыка на лапці дралі, з лык лапці плялі, лычаныя лапці.* Саланое Віл. *З лыка дайней сявенькі плятуць.* Парэчча Гродз. *Дзяруць лыка з лазы.* Альхоўцы Лях. *Ён мая лыка.* Жылі Іўеў. *Маё лыка на двары ляжыць.* Пацаўшчына Дзятл. *Лыка — гэто садрана з ліпы кара.* Дзяніскавічы Ганц. *Падай лыку! Лыкі дралі. З лык добрыя лапці, лепшыя, як з лазы.* Валынцы В.-Дзв. *Пайду за лыкай. Пойдзем у лыку. Лыкі вілі ў клубок, бо ў баранку высыхала.* Ахрэмаўцы Брасл. *А лапці з лыкі плялі.* Стральцы Шальч. *З лыкі лапці былі.* Малькуны Ігн. *Лыку драў і рабіў тыя лапці. Дужа надзярэ гэтай лыкі ў запас.* Старыя Смільгіні Воран. *Мая лыка. З лыкі плецена.* Граўжышкі Ашм. *Лыку дзяруць. Дзяруць лыкі.* Вялікія Баяры Шчуч. *Надраў многа лыкі. Нашто жы ўзяў маю лыку? Буду драць лыкі. Лыкі былі елаўцовыя, арэхавыя, йівіныя і самыя лепшыя — ліпавыя. Надзяруць лыкаў з елаўцу.* Кіралі Шчуч. *На калку дзверы былі і лыку закруціць.* Івашкаўцы Смарг. *Лыкі надзярэ і лапці сплёў.* Кудзялянцы Шальч. *Мае лыкі. Надзёр многа лыкаў. Узяў адну лыку. Паплятаць гэтай самай лыкой.* Ракаўскія Швянч. *Дзерлі з ліпы лыко.* Малахоўцы Бар. *Выходыть до йіх чорт і кажэ: «Чого, дід, прышоў у наш край лыка дэрты? — Добрэ лыко».* Сасноўка Пруж. *Мое лыко. З лыка постолы плылы.* Відзібар Стол. *Пустулэ плылэ з лэка; мое лэко.* Радастаў Драг. *Дайней памешчык ні даваў лыкі драць, яленку дралі і лапці плялі.* Лісна В.-Дзв. *Лык надзеруць, прадавалі лыкі на рынку, куплялі лыкі і плялі лапці.* Мярэцкія Глыб. *Нада надзёрць лыкаў з лазы, з ліпы маладой налупіць.* Гемзы Шальч. *З лыкаў лапці.* Швэды Вільн. *Лыкі на лапці.* Чычалі Швянч. *Дзёрлі лыкі з ліпаў і плялі лапці.*

Солы Смарг.∇ *«Сіка, сіка, падай лыку! — А нашто лыка? — Пугу віць.— А нашто пуга? — Сіку біць».* Валынцы В.-Дзв.

ЛЫ'КАВЫ *прым.* Зроблены з лыка. *Лыкавыя лапці, да іх аборы вілі.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛЫКА'ВЫ *прым. вет.* Пра каня, у арганізме якога не хапае некаторых вітамінаў і мікраэлементаў. *Конь грызе жолуп ці жэрдкі грызе, завецца такі конь лыкавы, такую балесь меў.* Гемзы Шальч.

ЛЫ'КА'ЦЬ *незак.* 1. Глытаць што-н. *Таблеткі лыкайце, калі не спіце.* Мсцібава Ваўк. *Не еў вішні, а так лыкаў.* Беняконі Воран. 2. Прагна, са смакам есці, піць. *Канфеты лыкала без канца і зубы спорціла. Хутка лыкая малако.* Мсцібава Ваўк. *Во як лыкаеш млечка.* Стральцы Шальч. *Лыкаеш, як індык.* Старыя Смільгіні Воран. ◇ *Лыкаць сліну* — з прагнасцю глядзець на што-н. прывабнае, але недаступнае. *Сліну лыкае.* Паляцкішкі Воран.

ЛЫ'КНУ'ЦЬ *зак.* Глынуць, трохі папіць. *Лыкнула адзін лык.* Старыя Смільгіні Воран. *Троха каб лыкнуць вады.* Гемзы Шальч. *Лыкні малака хоць с пайшкляначкі.* Кудзяляпцы Шальч.

ЛЫ'КО *гл.* ЛЫ'КА

ЛЫМБУ'К *гл.* ЛАМБУ'К

ЛЫМІ'Ш *гл.* ЛЯМЕ'Ш II

ЛЫ'МЯ *гл.* ВЫ'М'Я

ЛЫН *гл.* ЛІН

ЛЫ'НА *гл.* ЛІ'НА

ЛЫ'НДА *ж.* і *м. зневаж.* Гультай, абібок. *Тая лында ходзіць, лындае.* Кіралі Шчуч. *Ах ты, лында — лындаеш і лындаеш по вёсцы.* Малькуны Ігн.; *парайн.* літ. *linda* 'гультай', *lándauti* 'ўсюды лезці'.

ЛЫ'НДАЦЬ, ЛЫ'НТАЦЬ *незак. экспр.* Гультаяваць, бадзяцца. *Што ты тут лындаіш каля ўголля, як лодар які?* Кураполле Паст. *Лындаіць і лындаіць біз работы. Ён лындаіць і лындаіць па ўсім свеце.* Саланое Віл. *Нічаго не робя: так ходзя і лындая.* Гемзы Шальч. *Лындаць — хадзіць без справы.* Старыя Трокі Трак. *Буду лындаць без работы; пралындаў без работы.* Чычалі Швянч. *Лындаеш і лындаеш па вёсцы.* Малькупы Ігн. *Лындаць — хадзіць без дзела.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Пралындаў, прабегаў — нічога не зрабіў, усё лындаў.* Беняконі Воран. *Лындаюць па надворку; на печцы лындаць не будзіць.* Кіралі Шчуч. *Усё лындаеш і лындаеш, а хто рабіць за цябе будзе?* Пацаўшчына Дзятл. *Лынтайіць, швіндайіць, бонькі б'ець.* Кураполле Паст. *Усё лынтаіць і нічога ня робіць.* Якубова Рас.; *парайн.* літ. *lindoti* 'гультаяваць, унікаць працы'.

ЛЫ'НДЫ, ЛЫ'НТЫ *мн. экспр.* 1. Ногі. *Чуць цягніць свае лынды.* Ёдлавічы Брасл. 2. Калені. *Лынды — голыя калені.*

*Лынды выставіўшы і ходзя.* Гемзы Шальч. *Схавай сваі лынды!* Старыя Смільгіні Воран. *Места ног чуць вышэ калена называюць лынды.* Рагулішкі Даўг. 3. Лыткі. *Спадніца па лындах б'е.* Кудзялянцы Шальч. ◊ *Лынды, лынты біць, лынды абіваць* — гультаяваць. *Лынды б'ець каля таго ўголля, работы ня хочыць рабіць. Работы не хочыць рабіць, толькі лынды б'ець.* Кураполле Паст. *Гультай нічога ня робіць, толькі лынды б'ець, ходзіць без работы.* Ахрэмаўцы Брасл. *Нічаго не дзелаеш, толькі лынды б'еш.* Лісна В.-Дзв. *Што ты бйеш лынды?* Рагулішкі Даўг. *Лынды біць пазаўголлю.* Якубова Рас. *Абіваеш лынды, нічога не робіш.* Старыя Смільгіні Воран. *Пашоў лынты біць.* Валынцы В.-Дзв. *Лынды збіць* — схадзіць дарэмна, не дасягнуць мэты. *Дарма збіў лынды — дарма схадзіў.* Старыя Трокі Трак.; *гл.* л а н д ы́ ш ч ы х а, л ы́ н д а ц ь.

ЛЫНО'ВЫШЧЭ *гл.* ЛІНО'ВІШЧА

ЛЫНЦЮ'Г *гл.* ЛАНЦУ'Г

ЛЫНЦЮЖО'К *гл.* ЛАНЦУЖО'К

ЛЫНЫ'ВЫЙ *гл.* ЛЯНІ'ВЫ

ЛЫНЫ'ТЫСЬ *гл.* ЛЯНІ'ЦЦА

ЛЫ'ПАЦЬ *незак.* 1. Маргаць. *Чаго ты лыпаеш?* Дварчаны Паст. 2. Бліскаць. *Маланка лыпаіць.* Магуны Паст.

ЛЫ'ПКА *ж.* Вейка. *Якія вялікія лыпкі, аш вочы закрылі.* Ністанішкі Смарг.; *параўн.* літ. *lìpė* 'крышка, клапан'.

ЛЫСА'К *м.* Лысы чалавек. *І Сцяпан ужо лысак.* Мярэцкія Глыб.

ЛЫСА'Ч *м.* Тое ж, што і л ы с а́ к. *Лысый чоловік — лысач.* Дзмітравічы Кам.

ЛЫСЕ'ЦЬ *незак.* Станавіцца лысым. *Ён ужо лысеіць.* Дварчаны Паст. *Кудравы, але лысеіць.* Малькуны Ігн.

ЛЫ'СІНА *ж.* 1. Лысіна (у чалавека). *Лысіна на галаве ў чалавека, хоць і не стары.* Дварчаны Паст. *Лысіна на галаве.* Баброўнікі Гарад. 2. Пляма на лбе жывёліны. *У каня лысіна.* Дварчаны Паст. *Конь з лысінай зародзіцца і здохніць, ні ападаіць лысіна.* Лісна В.-Дзв. 3. Паляна ў лесе. *Лысіна ў лесе.* Глівін Барыс.

ЛЫСО'ХА *ж.* Карова з плямай на лбе. *Выдаіла сваю лысоху.* Старыя Трокі Трак.

ЛЫСУ'Н *м.* Тое ж, што і л ы с а́ к. *На лысаго чалавека гаворань лысун.* Баброўнікі Гарад.

ЛЫСУ'ХА *ж.* Узвышанае пясчанае месца. *Лысуха — дзе пагурык і нічога не расце, адзін пясок жоўты — гэта лысуха, на той лысуся бяруць пясок дарогі строіць.* Вецярэвічы Пух.

ЛЫ'СЫ, ЛЫ'СЫЙ, ЛЭ'СЫЙ *прым.* 1. Той, у каго вылезлі валасы на галаве. *Янук ужо лысы.* Грыкені Вільн. *Ішоў лысы і пляшывы, нашлі яны грэбінь.* Кураполле Паст. *Лысы, як палена.* Саланое Віл. *Лысы — як месяц свеціць на галаве.* Кі-

ралі Шчуч. *Лысы, як калено, як бляшанка, як бубен.* Номікі Бабіц. *Ёсць такі, што зусім голы, ніц нема валасоў — лысы чалавек.* Баброўнікі Гарад. *Стыпан став вжэ зусім лысый.* Сіманавічы Драг. *Лэсый чоловік.* Дзмітравічы Кам. 2. З плямай на лбе (пра жывёлу). *Галава лысая ў каровы, рабая.* Парэчча Гродз.

ЛЫ'ТАЦЬ *незак.* Гультаяваць. *Цяперашнія дзеці лытаюць, бонькі б'юць.* Кураполле Паст.

ЛЫ'ТАЧКА *ж. памянш.* Сцягно ў курыцы. *Дзве лытачкі с курыцы зварыла.* Малькуны Ігн.; *гл.* л ы́ т к а.

ЛЫ'ТКА *ж. анат.* Акругленая мышца задняй часткі нагі чалавека. *Лытка на нaзе.* Мярэцкія Глыб., Малькуны Ігн. *Мяхкая — лытка і опшчая — лытка. Уся лытка сіняя.* Асавец Віл. *Лытка — задняя часць нагі.* Рыбчына Віл. *Натрудзіла ногу, уся лытка баліць.* Беразіно Докш. *Лытка тоўста ці тонка.* Вялікія Баяры Шчуч. *Лытка — задня часць нагі.* Старое Сяло Зэльв. *Лытка тоўста.* Вецярэвічы Пух., Сакаляны Сакол. *Лытка мякка.* Воўкуш Ліпск. *Пакажы мне лытку.* Гемзы Шальч. *Тонка лытка.* Альхоўцы Лях. *Лытка пачырванела.* Лука Нараўк. *Аджару віткай па лытках. Сукенку пашыла ў палавіну лыткі. Сукенку пашыла кароткую, усе лыткі голыя. І вышы калена лытка.* Ёдлавічы Брасл. *Я хадзіла па поле, дак лыткі сталі рабыя.* Крынкі Крын. *Лыткі ў яе, як шакалі.* Старыя Трокі Трак. *Лыткі ў дзявок бываюць красівыя ні ва ўсех.* Малахоўцы Бар. *Лыткі тоўстыя, тонкія.* Рудня Астравітая Чэрв. *Крапівай па лытках цябе!* Дварчаны Паст. *Вот харошыя лыткі, як аточаныя, не то што гузаватыя.* Кіралі Шчуч.∇ *Во дзе лыткі — нікому не брыткі.* Старое Сяло Зэльв.

ЛЫ'ХАЦЬ *незак. экспр.* Шнырыць. *Яна прывыкла лыхаць. «Дзе ты лыхала? — Лыхала па гародзі».* Валынцы В.-Дзв.

ЛЫХТА'Р *гл.* ЛІХТА'Р

ЛЫЧ *м.* Рыла ў свінні. *У свіне лыч. Свіня раздзерла каля лыча. Лычом рыя.* Кіралі Шчуч. *Лыч доўгі ў свінні.* Беразіно Докш. *Каля лыча.* Мярэцкія Глыб. *Свіня лычом рыя.* Дакудава Лід. *Дай па лычу, ля лыча.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лычам свіня рыя.* Багушэвічы Бярэз. *Лычом рые землю свіня.* Лука Нараўк. *Свіня рые лычом.* Баброўнікі Гарад.

ЛЫЧА'НЫ' *прым.* Тое ж, што і л ы́ к а в ы. *Лыча́ныя лапці плялі.* Саланое Віл. *Лыча́ныя лапці плялі з лыкаў.* Валынцы В.-Дзв. *Рэшато было лычанбе.* Мсцібава Ваўк.

ЛЫ'ЧАНЫЙ *гл.* ЛІ'ЧАНЫ

ЛЫЧА'ТЫ *прым.* Які мае лыч. *Лыч няможна ясці, бо будзіця лычатыя.* Кураполле Паст.

ЛЫЧКО'ВЫ *гл.* ЛУЧКО'ВЫ

ЛЫ'ЧЫКІ I *мн.* Край баханкі хлеба. *Хлеб добра запіка-*

*іцца, задзіраюцца лычыкі кверху.* Мярэцкія Глыб. 2. Галоўка караняплода бурака. *Буракі цярэбюць, лычыкі адразаюць, складаюць у цэбры і квасюць.* Саланое Віл.

ЛЫ′ЧЫКІ II *мн.* Стружка, трэскі з ляшчыны. *Лычыкі — выструшкі з ляшчыны.* Старое Сяло Зэльв.

ЛЫ′ЧЫНА *ж.* Палоска лубу з карой. *На лычыну навешаяш вяртушак лыка, як баранкаў, чуць цягняш.* Малахоўцы Бар. *Лычыны наматвая на руку, палучаяцца, як кацёлачак. Адну лычыну ўзяў.* Валынцы В.-Дзв.

ЛЫЧЫ′НКА *ж. памянш.* да л ы́ ч ы н а. *Скрутачкі лыка на лычынку навязвалі.* Малахоўцы Бар.

ЛЫ′ШКА *гл.* ЛЫ′ЖКА

ЛЫ′ШКО *гл.* ЛО′ЖКА II

ЛЫ′ШНЫ *прым.* Лыкавы. *Лышныя і вярёвашныя лапці ў вайну насілі.* Мішневічы Шум.

ЛЬГА *прысл.* Можна, магчыма. *Каму льга трымаць, той трымае. Кап льга было — каб можна было.* Нізок Уздз. *Льга жыць з жонкай.* Вецярэвічы Пух.

ЛЬГО′ТА *ж.* Ільгота. *Адзін сын у бацькі — то была льгота.* Парэчча Гродз.

ЛЬНАВЫ′ *прым.* 1. Тое ж, што і л л я́ н ы́. *Льнавоя атмывалася харашо попілам.* Індра Красл. 2. Прызначаны для апрацоўкі льну. *Былі льнавыя нажы, абразалі лён, патом вязлі ў ваду, мачылі.* Навікі Лудз.

ЛЬНІ′СКА, ЛЬНІ′СКО *н.* 1. Ільнянішча. *Льніско — дзе лён рос і быў пасланы.* Мсцібава Ваўк. *Льніско — после лёну.* Смаляніца Пруж. *По льніскові картохлі будэмо садіті.* Курашэва Чыж. 2. Сцелішча лёну. Мсцібава Ваўк. 3. Сена з рэшткамі льну, скошанае на полі пасля ўборкі льну. *На льніску паслаўсё і спіць. Паеду, прывязу льніско.* Міратычы Карэл.

ЛЬНІ′ШЧА, ЛЬНІ′ШЧО *н.* Тое ж, што і л ь н і с к а 1. *Льнішча — дзе быў лён.* Пасека Ст.-Дар. *Льнішчо — там лён рос.* Малахоўцы Бар.

ЛЬНЯ′НІСКО *н.* Тое ж, што і л ь н і с к а 1. *На льнянішчэ добрая трава.* Саланое Віл. *На льнянішчы астаецца свінакроп.* Малькуны Ігн. *Па льнянішчу пасеялі буракі.* Рагулішкі, Скрудалена Даўг.

ЛЬНЯ′НЫ′ *прым.* Льняны. *Льня́на вяроўка.* Альхоўцы Лях. *Льня́ная насеня. Семяне льня́но.* Навасёлкі Свісл. *Льняна́я сукенка.* Дварчаны Паст. *Льняна́я ці ваўняная аснова?* Грыкені Вільн. *З семя льняны́ алей.* Саланое Віл. *Льняно́е полотно кужэлём звут.* Курашэва Чыж.

ЛЬЯ′НІШЧА *гл.* ЛЯНІ′ШЧА I

ЛЭБ *гл.* ЛОБ

ЛЭДЬ, ЛЭ′ДЬШО *гл.* ЛЕДЗЬ

ЛЭ′ДЬБО, ЛЭ′ДЬБОШЧО *гл.* ЛЕ′ДЗЬБЫ

ЛЭ'ЖНЯ *гл.* ЛЕ'ЖНЯ

ЛЭ'ЖЫ *мн.* Бакі (у свойскай жывёлы). *Вовна на лэжах горіша.* Дзмітравічы Кам.

ЛЭ'ЖЭНЬ *гл.* ЛЕ'ЖАНЬ

ЛЭЙНО' *н.* Тое ж, што і л а й н ó 3. *Лэйно — траву насілі; німа ніякага лэйна і сумка голая. Лэйно — распора мешок і ідзе по траву, увязуя корзіну ў лэйно.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛЭ'КО *гл.* ЛЫ'КА

ЛЭ'МЗА *м.* і *ж. экспр.* Разява. *Лэмза ты лэмза: ты ўсё забыў.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *lémza* 'тж'.

ЛЭ'МЗАЦЬ, ЛЭ'МЗАТЫ *незак.* 1. Аблізваць языком. *Чого ты лэмзаіш языком, закрый рота.* Сіманавічы Драг. 2. *перан. экспр.* Спрабаваць скубці траву. *Ныма травы, то корова оно лэмзае, оно лыжэ по зымні, а ныц ны схвачуе в рот. Оно лэмзала цілый дэнь корова по грудку, алэ смачна трава, то молока дала.* Сіманавічы Драг. 3. *перан. экспр.* Балбатаць. *Пашла і лэмзая языком.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *lem̃zyti* 'тж'.

ЛЭМП *гл.* ЛАМБУ'К

ЛЭП I *гл.* ЛОБ

ЛЭП II *выкл.* Хап, цап. *Лэп тут на галаве — аш тут жук улес.* Ракаўскія Швянч. *Яна лэп гэта вядзёрка.* Саланое Віл.

ЛЭ'ПАЦЬ *незак.* Пляскаць, шлёпаць. *Па лужы лэпая нагамі.* Рудня Чэрв.

ЛЭ'ПНУЦЬ *зак.* Пляснуць, шлёпнуць. *Рукой лэпнула па дзіцяці.* Гемзы Шальч. *Магу лэпнуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЛЭ'СЫЙ *гл.* ЛЫ'СЫ

ЛЭ'ТАТЫ *гл.* ЛЕ'ТАЦЬ

ЛЭ'ТНЫ *мн.* Абкручаныя анучамі курыныя лапы (каб не граблі град). *Куры паломяць гарбузэ лэтнамі.* Вецярэвічы Пух.

ЛЭ'ХІ *мн.* Старое адзенне, анучы. *Гэтыя лэхі павыкідаю і есці вам настрою. Лэхі памыла і пасушыла. Анучніку аддае лэхі старыя.* Мсцібава Ваўк.

ЛЭШ *ж.* Хлусня. *Не гавары мне, гэта лэш!* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* руск. *ложь* 'тж'.

ЛЭ'ШЧАТКЫ *гл.* ЛЕ'ШЧАТКІ

ЛЮ'БА *прысл.* Падабаецца (ужываецца пры выказванні прыемнага ўражання). *Еш, то табе люба.* Паляцкішкі Воран.

ЛЮБАВІ'НА, ЛЮБАВІ'ЗНА *ж.* Нятлустае мяса. *Сала з любавінай.* Беразіно Докш. *Любавізны прынясу.* Мярэцкія Глыб. *Любавізну люблю.* Рагулішкі Даўг.

ЛЮБАТА' *ж.* Любата, пацеха. *Абуецца хораша — і любата.* Ахрэмаўцы Брасл. *Любата з хлопца.* Міратычы Карэл.

ЛЮБЕ'ННЯ, ЛЮБЕ'НЯ *н.* Каханне. *Завялі кахання, любення.* Мярэцкія Глыб. *Завёў са старой дзеўкай любення.*

*Якое там любеня — яна старая. Яна ў любеня натта ўходзіць.* Кіралі Шчуч. *Любеня завёў з дзяўчынай.* Вялікія Баяры Шчуч. *І ў пісьме пра любеня напісаў. А ён залажыў любеня з аднаею ўдавою, тады папасмяяліся з іх. Любеня ўжо заклала, ашчэ ні пара.* Вострава Маст.

ЛЮБЕ′НЯЦ *м.* Нарачоны. *Нарачоны і любеняц — адно і тоя ш.* Старыя Трокі Трак.

ЛЮБІ′ВЫ, ЛЮБЛІ′ВЫ, ЛІБІ′ВЫ, ЛІБЛІ′ВЫ, ЛЮБО′ВЫ, ЛЮБЫ′ВЫЙ *прым.* Нятлусты (пра мяса). *Сланіна з любівым мясам. Не хачу сланіны, кап гэта любівага мяса. Адрэзала любівага мяса і зварыла ці спякла. З любівага мяса робяць катлеты і жараць.* Кіралі Шчуч. *З любівым мясам.* Вялікія Баяры Шчуч. *Любівая мяса.* Каўняны Гродз. *Любівае мяса лепша за ўсё.* Пацаўшчына Дзятл. *Любіво мясо.* Старое Сяло Зэльв. *Любіваё мясо.* Міратычы Карэл. *Любівое мьясо.* Калясное Міхал. *Любівэ, худое м'ясо.* Лука Нараўк. *Любівого мяса нарэжу.* Каменка Стара Сакол. *Сало абрэжаш, і любівае мясо на кумпякі астаецца. Нікаторые людзі тлустае любяць, некаторые — любівае.* Баброўнікі Гарад. *Слой люблівага ест у сланіне.* Парэчча Гродз. *Свіноё люблівае мясо.* Альхоўцы Лях. *Люблівое м'ясо.* Тухавічы Лях. *Любліво мясо.* Масілавічы Сл. *Люблівае м'ясо.* Дзяніскавічы Ганц. *Лібіва мяса.* Дакудава Лід. *Асталося адно лібліво мясо.* Малахоўцы Бар. *Любовая мяса.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Выбяры любовага мяса. У ласей у мяся няма плеваў, яно любовая, але крохкая. У дзікіх свіней і ў нашых у сланіны — любовая часць і сытая.* Крэва Смарг. *Любовага мяса не люблю.* Валынцы В.-Дзв. *Любовую скварку давай, сытага ні ядуць.* Вялікія Нястанавічы Лаг. *Любовая мяса — шынка, паляндвіца. Каркавіна любовая на карку.* Солы Смарг. *Я люблю любовая мяса. Любовая мяса — худоя мяса.* Івашкаўцы Смарг. *Любовая шынка.* Гемзы Шальч. *Сала абрэжуць, любовае — а тады солюць.* Індра Красл. *Усе хватаюць, кап любовае, а жырнае — не.* Масішкі Красл. *Любовая мяса.* Рудня Чэрв. *Любывэ мнясо. Вріж дэ любывого мняса, нытлустого.* Сіманавічы Драг.

ЛЮБІ′СТРА *ж. бат.* Любіста. *З любістры ванны робяць, як почкі балеюць.* Рагулішкі Даўг.; *параўн.* лац. *ligustrum* 'тж'.

ЛЮБІ′ЦЦА, ЛЮБЫ′ТЫСЬ *незак.* Любіцца, кахацца, любіць адзін другога. *Маладыя любяцца.* Кухты Віл. *Як ляжала ў бальніцы, ён два разы ў дзень прыходзіў да мяне — на раніцы прыдзя і ўвечары, дактары смяяліся, што любіцца прыяжджаў.* Солы Смарг. *Коля наш любіўся з ёю.* Стральцы Гродз. *Хадзіў да Дзмітрачыхі любіцца.* Груздава Паст. *Яны любяцца.* Быстрыца Астр., Магуны Паст., Малахоўцы Бар. ∇*Мы любіліся, як птушачкі ў стрэся, а прышлося растаціся,*

*як ягадца ў леся.* Саланое Віл. *Любылысь, кохалысь, пропала любов, розрізалы сэрцэ, ны канула кров.* Сіманавічы Драг.

ЛЮБІ'ЦЬ, ЛЮБІ'Ц, ЛЮБІ'ЦІ, ЛЮБЫ'ТЫ *незак.* 1. Любіць. *Пчолы сільна ёлку любяць, а калі сасновая рамка, то кап настаяшча гніль была.* Груздава Паст. *Пчолы любяць елку і крушыну.* Рыбчына Віл. *Ён любя мясноя.* Лісна В.-Дзв. *Муш любя выпіць. Я люблю гаварыць.* Гемзы Шальч. *А я любіла рыбную поліўку.* Рагулішкі Даўг. *Люблю кісялю, трэбо зварыць.* Ракаўскія Швянч. *На чом ветэ любітэ ездзіці?* Смаляніца Пруж. 2. Кахаць. *Яна любіла таго хлопца і ён яе любіў.* Дварчаны Паст. *Ён любячы яе браў, ён яе любіў.* Альхоўка Навагр. *Яна так свайго папу любя.* Солы Смарг. *Ён не любіц мяне.* Парэчча Гродз. *Як я його буду любіці.* Смаляніца Пруж. *Воны любылы однэ одного.* Сіманавічы Драг. 3. Патрабаваць адпаведных прыродных умоў. *Гарох любіць гліну, на гліне добра расце.* Мсцібава Ваўк. 4. Мець асаблівасць, уласцівасць. *Шэрсць любіць ссувацца.* Магуны Паст.∇ *Ён любіць, як сабака палку.* Саланое Віл. *Кап цябе бох любіў!* Лісна В.-Дзв. *У городы капустыця, ныгодного качана; усі дывкы хлопцюв люблеть, а я шэно почала.* Сіманавічы Драг.

ЛЮБІ'ЦЯЛЬ *м.* Аматар. *Любіцяль добра паесці.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* руск. *любитель* 'тж'.

ЛЮБЛІ'ВЫ, ЛЮБО'ВЫ *гл.* ЛЮБІ'ВЫ

ЛЮБО'СЦЬ, ЛЮБО'СЬ *ж.* 1. Каханне. *Любосць была ў іх. По любосці яна сохнець.* Саланое Віл. *Я і слухаць не хачу, што ета любось.* Вецярэвічы Пух. 2. Ласкавасць. *Не люблю я гэтай любосці.* Вецярэвічы Пух.

ЛЮБО'ЎНЫ *прым.* Які мае адносіны да кахання. *Любоўныя ж песні ў яе ёсь.* Дзёрнавічы В.-Дзв.

ЛЮБО'ШЧЫ, ЛЮБОШЧІ' толькі *мн.* Каханне, мілаванне. *З любошчаў дзіця зрабілі.* Альхоўцы Лях. *Любошчі ныверныі.* Дзмітравічы Кам.∇ *Коб ны ты, коб ны ты, коб ны твоі любошчі, ны стояв бы мый конычок всю нычыньку на дошчі.* Сіманавічы Драг.

ЛЮ'БЫ *прым.* Мілы, каханы. *Цяпер палюбюцца і жэняцца — ні глядзяць, ці багатая, а бяруць, абы любая.* Дзягілі Мядз.

ЛЮБЫ' *прым.* Усякі. *Пчолка садзіцца на любы цвет.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЮБЫ'ВЫЙ *гл.* ЛЮБІ'ВЫ

ЛЮБЫ'ТЫ *гл.* ЛЮБІ'ЦЬ

ЛЮБЫ'ТЫСЬ *гл.* ЛЮБІ'ЦЦА

ЛЮ'БЯ *н.* Нятлустае мяса. *Квашаніна робіцца з вушкаў, ношкаў, і якога любя прыбаўляіцца.* Солы Смарг.

ЛЮД *зб. м.* Народ, людзі. *Ні ведаю: чы гэта быў крапчэйшы люд.* Саланое Віл.

ЛЮДАЕ'ДЛІВЫ, ЛЮДАЕ'ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Людаедлівы ні хоча нічого есці.* Тухавічы Лях. *Людаежлівая карова слабо есць, слабо ў полі ходзіць, да зімы плахая.* Мсцібава Ваўк.

ЛЮ'ДЗІ, ЛЮ'ДЭ толькі *мн.* 1. Людзі. *Два людзі прыехаўшы.* Паляцкішкі Воран. *Ёсць такія людзі.* Кураполле Паст. *Людзей сабралася столькі многа, што не прадыхнуць.* Дварчаны Паст. *Прадавалі людзём мёд.* Саланое Віл. *Такіх людзей я не відзяла. Такіх людзей у свеце многа.* Ахрэмаўцы Брасл. *Там людзей ня ходзіць.* Ёдлавічы Брасл. *Я ўсё ўрэмя пры людзях. Там людзі акуратныя жывуць.* Парэчча Гродз. *Можна пры сваіх людзях і быць.* Лісна В.-Дзв. *З людзіма ладнымі сяджу.* Стральцы Шальч. *У нас людзей поўна хата. Ёсць людзей і добрых.* Рагулішкі Даўг. *Людзям шыла.* Солы Смарг. *Людзі ўжо даўно жнуць.* Вецярэвічы Пух. *С тэма людьмэма. Трэба і людём датэ. Ох, було много людэй; даты гэтым людюм; дывлюся на людэй; я ходэв з гэтымы людьмы. Людэ звыле, сказале, шо ны твоя дытэна.* Дзмітравічы Кам. 2. *устар.* Сяляне, рамеснікі, рабочыя. *Цыганы і людзі ездзілі.* Грыкені Вільн. *Там булэ і людэ і панэ.* Радастаў Драг. *Я думала, тут людэ жывуть, аж тут студенты.* г. Пінск. ∇ *Ёсць людзі: чы быць, чы не быць, чы жыць, чы не жыць.* Саланое Віл. *Праз людзі — у людзі, а праз анелі — у небе.* Парэчча Гродз. *Ак жнуць — і бабы людзі.* Дзяніскавічы Ганц. *З людзьмі жывеш — не прападзеш.* Кузьмічы Люб. *Чырыз гору да в долыну, в Сымоновыч ны загыну, в Сымоновыч добры людэ, добрэ було, добрэ будэ.* Сіманавічы Драг.

ЛЮДЗІ'НА', ЛЮДЫ'НА *ж.* Чалавек. *Адышлася людзіна, а грошы дасталі.* Ракаўскія Швянч. *Старая людзіна́, яна вам патскажа ў Лайпушках. Яна ад сэрца людзіна.* Малькуны Ігн. *Одна ты людзіна.* Смаляніца Пруж. *А дзе наша людзіна? Усе разышліся, адна людзіна́ асталася.* Ёдлавічы Брасл. *Богушыка — людзіна́ спраўная. Такая людзіна́ памятная. Яна подлая людзіна́.* Магуны Паст. *Удалая людзіна́.* Снягяны Смарг. *Яна не старэйшая за гэту людзіну́. Яна не старэйшая за тую людзіну́. Старая людзіна, а гаворыць не к толку.* Кураполле Паст. *Ніна — добра людына.* Дзмітравічы Кам. *З гэтыі дытыны выростэ людына. Воно хоч шэ в колысцы лыжыть, але сёромно людына.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* укр. *людина* 'тж'.

ЛЮДЗІ'НКА *ж. памянш.-ласк.* да л ю д з і н а́. *А мая ты людзінка, што гаварыць?!* Груздава Паст. *Стаіць бапка, як карчок, і пытайіць: «Аткуль гэта людзінка?»* Кураполле Паст.

ЛЮДЗІ'СКА, ЛЮДЫ'СКА *мн. павел.* да л ю д з і. *Людзі, есць і людзіска.* Гемзы Шальч. *А вочарац, а людзіска там!* Альба Нясв. *Там булы такыі врэдны, нычогы* [дрэнныя] *людыска.* Сіманавічы Драг.

ЛЮДЗКІ', ЛЮДСЬКЭ'Й *прым.* Сялянскі. *Людзкія бабы сена займалі: дзве капы пану, адну сабе.* Гемзы Шальч. *З уднуго боку був паньські сынукіс, а з другого — людськэй.* Радастаў Драг.

ЛЮ'ДЗЬКА *прысл.* Па-людску. *І касы людзька не пабіў.* Курaполле Паст.

ЛЮДЗЯ'ЦЦА *незак.* Жыць, апранацца па-людску. *Каб устаў, паеў і пашоў, таму добра людзяцца. Добра людзяцца тым, як ест за кім.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛЮДЗЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і людзя́цца. *Добра людзяць, як ест за кім.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛЮ'ДЗЯЧКІ *мн. памянш.-ласк.* да лю́дзі. *Людзячкі, памажыце!* Пасека Ст.-Дар.

ЛЮДНО'СЦЬ *зб. ж.* Людзі. *Як завод, то, канечне, там людносці будзе многа.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* польск. *ludność* 'насельніцтва'.

ЛЮ'ДНЫ, ЛЮ'ДНЫЙ *прым.* 1. Добры, чалавечны. *Людны і нялюдны. Ой, які ён нялюдны!* Рыбчына Віл. *Шоб с кым людным дружыв. Собі людного косьцюмчыка купыў.* Сіманавічы Драг. 2. Мнагалюдны. *Кірмаш быў вельмі людны.* Дварчаны Паст.

ЛЮДСЬКЭ'Й *гл.* ЛЮ'ДЗКІ

ЛЮДЫ'НА *гл.* ЛЮДЗІ'НА'

ЛЮДЫ'СКА *гл.* ЛЮДЗІ'СКА

ЛЮ'ДЭ *гл.* ЛЮ'ДЗІ

ЛЮДЯ'ЧЫЙ *прым.* Тое ж, што і людзкі́. *Людячый хліб. Людячэ полэ чы панськэ.* Дзмітравічы Кам.

ЛЮЗ *гл.* ЛЮС

ЛЮ'ЗНА *прысл.* Шырока, свабодна. *Як люзна яна табе — гэта адзежа!* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *luźnie* 'тж'.

ЛЮ'ЗНЕЙ *прысл.* Шырэй, свабадней. *Каб люзней было, цвіклю ўстаў у рукаў.* Пацаўшчына Дзятл.; *гл.* лю́зна.

ЛЮ'ЗНЫ *прым.* Шырокі, свабодны. *Люзная адзежа, як люзна, яна табе.* Солы Смарг.; *парайн.* польск. *luźny* 'тж'.

ЛЮ'КТА *гл.* ЛЮ'ХТА

ЛЮ'ЛЬКА I *ж.* Прылада для курэння. *Пры агні сеў, закурывае люльку.* Бакшты Іўеў. *Мой дзед любіў курыць люльку.* Дварчаны Паст. *Тая люлька зіхаціць, люльку памінaлі, чуць аччапіўся ад яго чорт, забраў люльку.* Вецярэвічы Пух. *Наш дзетко люльку курыць.* Верхлессе Крын. *Стары дієт люльку курыт.* Курашэва Чыж. *Артэмый на скрыпцы грав і люльку курыв.* Сіманавічы Драг.

ЛЮЛЬКА II *ж.* 1. Калыска. *Люлька стаячая, пад ногі падбівалася пайколка, і ногі ўпушчаны і войлакам падбіта і ціха ідзе.* Гемзы Шальч. *Люльку вісушчую зрабіў для малой. Люлька стаюшчая ў яе, з узорамі.* Ухвала Круп. 2. Каляска ў

матацыкле. *Матацыкл з люлькай купіў.* Дварчаны Паст.; *гл.* люля.

ЛЮЛЮ'ШКА *ж.* Адростак на храпцы ў выглядзе невялікага качана. *Пасаначкі кругом качана — люлюшкі завуць, яны слабенькія, зялёныя, маленькія качанчыкі.* Кураполле Паст.

ЛЮ'ЛЯ *ж. дзіцяч.* Калыска. *Вітічка вжэ хочэ спаткы, Вітічка в люлю пыйдэ, я його буду люляты, колыхаты буду.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* літ. *liūlė* 'тж'.

ЛЮЛЯ'К *м. бат.* Дурнап'ян. *Люляк — сівавато зелье, брыдќ, як яго поеўшы, то можно захварэць.* Мсцібава Ваўк.

ЛЮЛЯ'ЦЬ *незак.* Калыхаць. *Садзіся і люляй люльку.* Пацаўшчына Дзятл.; *парайн.* літ. *liūliúoti* 'тж'.

ЛЮН *м.*, ЛЮ'НА' *ж.*, ЛЮ'НЫ', ЛЮНІ', ЛУНІ' *мн.* 1. Багна, дрыгва. *Люн у балоце, там правальваюцца.* Чычалі Швянч. *У люн паляцеў.* Малькуны Ігн. *Люн — непрахадзімая балота, ідзеш і аш калышысся. Люн — как ступіш — тонеш, па нём прайсці нельзя, люн апходзят, можна так засесць, што і не вылезеш.* Рагулішкі Даўг. *Люны—дзе зыбаіцца, вокны ёсь. Зыпкія месты зовуць луні.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Зыбун. *Люн калышэцця, як ідзеш.* Малькуны Ігн. *Люны — зарошшая травой озяра.* Быстрыца Астр. *Люны, люні — дзеці калышацца на люнях.* Ёдлавічы Брасл. 3. Вір. *Люна́ — глыбокая месца ў рацэ, дзе вада круціцца.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *liūnas* 'дрыгва, багністая мясцовасць'.

ЛЮ'ПАТЭ *незак.* Упарадкоўвацца. *Чоловік люпае.* Дзмітравічы Кам.

ЛЮ'РБА *ж.* 1. Тоўстая трэска. *Люрба — трэска такая, калі чэшам бярвяня.* Старыя Трокі Трак. *Якія грубыя люрбы. Люрбы адбіваюць каля шнура.* Жылі Іўеў. *Трэскі ляцяць, а люрбы не.* Саланое Віл. *Бандаш — сякера люрбы адбіваць.* Гемзы Шальч. 2. *перан.* Тоўсты пласт зямлі. *Арэ глыбока — зямля перавярнулася люрбамі.* Гемзы Шальч. 3. *перан.* Тоўсты кавалак сала. *Пакроіла сланіну люрбамі — хто будзя есці.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *liùrba* 'тоўстая трэска'.

ЛЮ'РКА *ж.* Дэталь калаўрота. *Люрка — рагач у калаўроці.* Лісна В.-Дзв.

ЛЮС, ЛЮЗ *м.* Невялікі прамежак паміж чым-н. *Люс небальшы даюць. Нада, каб люс быў.* Ахрэмаўцы Брасл. *Хай будэ крохы люз помыз шкапом і стыною.* Сіманавічы Драг.; *парайн.* польск. *luz* 'тж'.

ЛЮ'СТРА, ЛЮ'СТРО *н.* Люстэрка. *Яна красавалася перад люстрам.* Дварчаны Паст. *Перад Новым годам дзяўчаты варожаць на люстро.* Вострава Маст. *Люстро стаіць, ідзі брыцца.* Дзяніскавічы Ганц. *Люстро ўпадэ.* Смаляніца Пруж. *В люстро подывытысь.* Дзмітравічы Кам.

ЛЮСТЭ'РКА, ЛЮСТЭ'РКО *н.*, ЛЮСТЭ'РАК *м.* Тое ж,

што і л ю с т р а. *Гляджу ў люстэрка.* Гайна Лаг. *Паглядзіся ў люстэрка, яно на стале.* Дварчаны Паст. *Харошая люстэрка — чалавек добра выглядая.* Кіралі Шчуч. *Пабіў люстэрка брэючыся.* Лісна В.-Дзв. *У люстэрка не магу нагледзецца.* Солы Смарг. *Люстэрко на стале паставіла.* Старое Сяло Зэльв. *Велька люстэрко.* Крынкі Крын. *Ні ўзірайса ў люстэрко.* Номікі Бабіц. *Гаварылі — люстэрак, цяпер — зеркала.* Асавец Віл. *Люстэрак куплены.* Індра Красл.

ЛЮТАЕ'ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Лютаежлівая карова, не хоча нічого есці.* Лука Нараўк. *Лютаежлівая жывёла.* Кузьмічы Люб.

ЛЮ'ФЦІК *м.* Фортка ў акне. *Устаўшы, люфцік атчыніла, бо накурыў.* Солы Смарг.; *параўн.* польск. *lufcik* 'тж'.

ЛЮХ-ЛЮХ-ЛЮХ *выкл.* Плюх-плюх. *Люх-люх — малако ляціць. Вада ляціць з бляшанкі: люх-люх-люх.* Кіралі Шчуч.

ЛЮ'ХА' *ж.* Тое ж, што і л ю х т а 4. *Люха была ў курной хаці.* Саланое Віл.

ЛЮХНУ'ЦЬ *зак.* Лінуць (пра вялікі дождж). *Алі дошч люхнуў. Можа дошч люхнуць.* Кіралі Шчуч.

ЛЮХТ, ЛЮФТ *м.* 1. Праход для дыму (газаход) у сценцы печы, служыць для абагравання. *Люхт — праход для дыма ў сценцы печы, люхт — для абагравання сценкі. У каждай печы тры люхта.* Грыкені Вільн. 2. Гара на хаце. *Люхт — чардак. Нешта з люхту зляцела.* Быстрыца Астр. *Палезла на люфт.* Кемялішкі Астр.; *параўн.* ням. *Luft* 'паветра'.

ЛЮ'ХТА, ЛЮ'КТА *ж.* 1. Юшка ў коміне. *Трэба комян люктай зачыніць.* Старыя Смільгіні Воран. *Люхта ў комынові, люхтою комын закладают.* Горск Бяроз. 2. Тое ж, што і л ю х т 1. *Няма цёнгу, трэба люхты чысціць. Люхты каля пліты зімнія.* Магуны Паст. 3. Прамежак паміж печчу і сцяной. *Люхта — паміж печчу і сцяной. Печ атступлена, там люхта: там пол і спалі.* Малахоўцы Бар. 4. Адтуліна для выхаду дыму ў курнай хаце. *Люхта была для дыму ў курнай хаце.* Саланое Віл.; *гл.* л ю х т.

ЛЮХТКІ' *мн.* Буйны шрот. *Люхткі — крупная дроб, як сіканеш — адразу ўпадзе мёртвым.* Альхоўка Навагр.

ЛЮ'ЦІК *м. бат.* Казялец. *Люцік на пожні сустракаецца.* Глівін Барыс. *Люцік едавіты.* Азяраны Раг.

ЛЮ'ЦКІ', ЛЮЦЬКІ' *прым.* 1. Чалавечы. *Касцей падаставалі люцкіх.* Лоск Валож. *Люцькі след.* Талейкі Швянч. 2. Тое ж, што і л ю д н ы 1. *Лю́цкі сын у бацькі.* Парэчча Гродз. *Чалавек лю́цкі.* Дзяніскавічы Ганц. *Лю́цка дзяўчына.* Вострава Маст. *Люцкі жаніх. У яга ўсё люцко́я.* Асавец Віл. ∇ *З людзьмі жыць — па-лю́цку рабіць.* Вострава Маст.

ЛЮЦТВО' *н. экспр.* Чалавек. *Чага ты тут крычыш? Дык гэто люцтво з яго будзіць?!* Груздава Паст.

ЛЮЦЦЫ' *мн. памянш.-ласк.* да л ю д з і 1. *Што люццоў*

*пераварачваецца ў іх!* Саланое Віл. *Люццы добрыя, памажыце!* Дварчаны Паст. *Ідзіця, люццы, ляшця тут!* Груздава Паст.

ЛЮ'ШКА *ж.* Тое ж, што і лю́хта 1. *Ці залажыў ты люшку?* Кураполле Паст. *Люшкай закрываям. Люшка ў печы.* Дакудава Лід. *Люшка была — укладалі ў сярэдзіну і закрывалі комін.* Кіралі Шчуч. *Люшкаю печ закладаюць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Комін закрываюць люшкай.* Вострава Маст. *Засунь люшку, дух выйдзя. Засунь люшку. Закрый комін люшкаю.* Альхоўка Навагр. *Трэ зачыніць люшку.* Дзяніскавічы Ганц. *Люшка ў коміне.* Азарычы Пін.

ЛЮ'ШНІ *мн.* Дугападобны ўпор, які злучае верх ручкі з воссю. *Люшні — натточваць ручкі ў калёсах і патпоркі на вось і да ручак. Люшня ў калёсах.* Малахоўцы Бар.; *параўн.* польск. *luśnia* 'тж' (СВ, II, 780).

ЛЮШНЯ' *ж.* і *м.* Тое ж, што і лаўшэ́нь. *Люшня — ляўша.* Навасёлкі Свісл.

ЛЮ'ШЫЦЬ *незак.* Ліць як з вядра (пра дождж). *Дошч люшыць цэлы дзень.* Солы Смарг.

ЛЯ I, ЛЕ, ЛІ *прыназ.* 1. Пры ўказанні месца адносна прадмета ці асобы. Каля. *Селі ля хаты.* Кураполле Паст. *Ля гумна. Ля лесу ўзвалля.* Рыбчына Віл. *Стаіць конь ля канюшні.* Лісна В.-Дзв. *Ля зуба нарыў.* Альхоўцы Лях. *Хлопцы ля дзявок сідзяць. Змітрук капая ля зялёнкаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Ле хлява папасеш, мусяла пасвіць.* Альхоўцы Лях. *Усе дзівіліся лі мяне.* Груздава Паст. *Лі Мясрэды сенакос.* Ухвала Круп. *Лі вас пасяджу.* Азяраны Раг. 2. Пры абазначэнні асобы, для якой што-н. прызначаецца. Для. *То росказовала ля мэнэ тая.* Дзмітравічы Кам. *Ля тэбэ шчэ яблык дам.* Відзібар Стол. *Ля Мані і ля Ганны будэ. Гэто будэ ля тэбэ, а тое ля мэнэ.* Сіманавічы Драг.∇ *Ля мэнэ — далэй мэнэ* — а мне ўсё роўна. Сіманавічы Драг.

ЛЯ II *выкл.* 1. Бач, глянь. *Панэ ў вёсцы, во, ля!* Вострава Маст. *Сястра, ля, паляняця на яе!* Навасёлкі Свісл. *Ля, хто ідзе?* Мсцібава Ваўк. *О, ля, што ему зрабіласо. Ля, хлеб чорны есь. Ля, якая красівая!* Баброўнікі Гарад. 2. Пабочнае слова. *Ён, ля, чуць калекаю не стаў.* Калядзічы Ваўк. *Бярэця, ля, гэто!* Навасёлкі Свісл. *Ля, мама, падзівецеса.* Вялікі Краснік Пруж. *О, ля, бывало ў яе просяць. Шчэ, ля, адзін сын е.* Баброўнікі Гарад. *Ля, я вчора Мыхалка бачыла. Ля, чужопанці прыіхалы сіно косыты.* Спорава Бяроз.

ЛЯБЯДА' *гл.* ЛЕБЯДА'

ЛЯВО'НІХА *ж.* Танец «Лявоніха». *«Лявоніху» пры балу танцуюць.* Грыкені Вільн.

ЛЯВУ'Ш *м.* Ляўша. *Ён лявуш — робіць левай рукой.* Міратычы Карэл.

ЛЯВУША' *м.* і *ж.* Тое ж, што і л я в у́ ш. *Лявуша, але неўдалы.* Кіралі Шчуч.

ЛЯВУШНЯ', ЛЯЎШНЯ' *м.* і *ж.* Тое ж, што і л я в у́ ш. *Ён лявушня.* Ністанішкі Смарг. *Лявушня ты, ляўшня! Ён лявушня.* Старое Сяло Зэльв. *Амаль усё ён робіць левай рукой, бо ён ляўшня.* Дварчаны Паст.

ЛЯГА'К *м.* Вялікі камень. *Лягакоў многа; лягаке трэба ссоўваць.* Пасека Ст.-Дар.

ЛЯГА'РЫ, ЛІГА'РЫ, ЛЯГАРЭ' *мн.* 1. Падваліны. *Лягары под падлогу кладуць.* Старыя Смільгіні Воран. *Лягары кладуць на землю.* Быстрыца Астр. *Лягары пат падлогай.* Галубы Маст. *У нас ляґарэ ложаць памост.* Стральцы Гродз. 2. Бярвенні, якія падкладаюцца пад штабелі лесу, дроў. *Ліґары — лес як валяюць, ляжыць у ярусах і паткладаюць пад ніс і называюць ліґары, іх кладуць падыспад, на самы дол. Ліґары і як пад дровы кладуць.* Дзяніскавічы Ганц.; *гл.* л е́ ґ а р.

ЛЯГА'ТЫСА *гл.* ЛАЖЫ'ЦЦА

ЛЯГА'ТЭ *гл.* ЛЯГА'ЦЬ

ЛЯГА'ЦЬ, ЛЕГА'ЦІ, ЛЯГА'ТЭ *незак.* 1. Лажыцца. *На падворку лягаць не хоча карова, устае. Яна лягае, а я не магу лягаць. Лягай, а не сядай!* Паляцкішкі Воран. *Мама, ідзі лягай у мяне!* Старыя Смільгіні Воран. *Ты ні лягай, бо потым ні ўстаніш.* Калядзічы Ваўк. 2. Класціся спаць. *На лошку лягай і спі!* Паляцкішкі Воран. *Лягле спаць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Трэба легаці спаці.* Ялова Пруж. *Будэм лягатэ спатэ. Лягаймо спатэ. Лягай, мамо, спатэ.* Дзмітравічы Кам. ◇ *Лягатэ со смыху* — моцна смяяцца. *Усі лягают со смыху.* Дзмітравічы Кам.

ЛЯГДЖА'Й, ЛЯГДЖА'Й, ЛЯ'ЖАЙ, ЛЯЖДЖА'Й, ЛЕЖДЖА'Й *м. бат.* 1. Від асакі. *Лягджай, або ляґджай — трава такая. Нарві лягджаю. Лягджай каравы і свіня ядуць.* Навасёлкі Свісл. *Ляжай на балоце.* Багушэвічы Бярэз., Лапічы Асіп. *Ляжай — густая трава, боляй ляжыць. Ляжай — балотная трава.* Азяраны Раг. *Ляжджай у балоце расце.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ляжджай расце каля возяра — як авёс, мяцёлка бальшая.* Дакудава Лід. *Ляжджай па нізкіх мясцах расце, каля зямлі лісця сцеліцца.* Вострава Маст. *Ляжджай расце ў возяру з берагу, ядуць каровы.* Альхоўка Навагр. *Ляжджай расце ў возяры, яго ядуць каровы.* Альхоўцы Лях. *Ляжджай шыршэ, чым асака.* Тухавічы Лях. 2. Рагоз. *Ляжджаём плятуць цыбулю, на лісточкі ляжджая плятуць. З булавак ляжджая рабілі падушкі, за паншчынай было так. Ляжджай — дзе булаўкі растуць, у нас цыбулю йім плятуць.* Бакшты Іўеў. *Лежджай тоўсты, круглы, высокі, у рэчцы расце.* Мсцібава Ваўк.; *гл.* л я ш ч I.

ЛЯ'ГІР *м.* Нікацін. *Лягір — некацін у люльца і ў мушту-ку. Выкалупі лягір. На зуп клалі лягір.* Рыбчына Віл.

ЛЯГО'ШАЙ *прысл.* Лягчэй. *Было і лягошай мне, дзеці слухалі.* Мішневічы Шум.

ЛЯГУ'ХА *ж.* Рапуха. *Кароставая лягуха ёсь.* Лісна В.-Дзв.

ЛЯГУ'ШКА *ж.* Жаба. *Лягушка бальшая.* Лісна В.-Дзв. *Лягушка жыве ў вадзе.* Азяраны Раг.

ЛЯГЧЭ'Й, ЛЯКЧЭ'Й, ЛЯХЧЭ'Й, ЛІКЧЭ'Й *прысл.* Лягчэй. *Мне лягчэй несці, чым табе.* Дварчаны Паст. *Другі тыдзянь будзя лякчэй.* Кіралі Шчуч. *Душыць кашаль, але ціперыка лякчэй. Лякчэй мне, як хаджу.* Новікі Гродз. *Крышку перадрамала, і мне лякчэй.* Мсцібава Ваўк. *Памыўся, дык лякчэй стала.* Вецярэвічы Пух. *Як хаджу, мне ляхчэй.* Груздава Паст. *Як пашмаруеш — лікчэй станя.* Каўняны Гродз.

ЛЯГЧЭ'ЙШЫ, ЛЯКЧЭ'ЙШЫ, ЛЯХЧЭ'ЙШЫ *прым. выш.* Лягчэйшы. *Гэты мяшок лягчэйшы за таго.* Дварчаны Паст. *А камлі з мятага лёну лякчэйшыя, іх аткідаюць на другі бок. Калоткі з дрэва ляхчэйшыя, як с каменя.* Солы Смарг.

ЛЯ'ДА I *ж.* і *н.*, ЛЯ'ДЫ *мн.* 1. Высечаны ўчастак лесу. *Ляда выкарчоўвалі, выцяробвалі лес — ляды зваліся потым. Выцяробвалі ляду.* Ухвала Круп. *Ляды — чысты, высечаны ўчастак.* Мішневічы Шум. *Ляды — высякаюць лес, распахаваюць і называюць ляды, у лядах сеялі.* Янова Рас. 2. *перан.* Непарадак. *Ляда нарабіў у хаця.* Мярэцкія Глыб. *Ляда ў хаці.* Лісна В.-Дзв.

ЛЯ'ДА II *ж.* і *н.*, ЛЯ'ДО *н.* 1. Прыстасаванне для падымання бярвенняў. *Ляда — дзве дошкі пакручаны на дзіркі і два шваране: адзін ніжы, другі вышы; ест такі крук, патціскае то на гэты, то на гэты і падымае хвою ўгору.* Кіралі Шчуч. *Ляда — падважваць на вос дзерава. Калісь адзін чалавек мох злажыць дзерава лядаю на вос.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ляда — падымаць дзерава.* Дакудава Лід. *Дошкі збітыя і ў дошках дзіркі пакручаны, і ў дзве дзіркі шварані жалезныя ўсаджаны — параменьваюць з дзіркі ў дзірку і падымаюць — гэта ляда.* Галубы Маст. *Ляда — падымаць дзерава, любую дзеравіну паложа.* Альхоўцы Лях. *Браўно класці бяруць ляду.* Тухавічы Лях. *Тая ляда — грузіць дзераво на вос.* Дзяніскавічы Ганц. *Ляда — паднімаць бярвенні.* Нізок Уздз. *Лядыю дэрыво пуднымалы.* Сіманавічы Драг. *Лядо — падымаць дзераво, залезны дзяржак, дліны, і вагаяш.* Малахоўцы Бар. 2. Набіліцы ў кроснах. *У краснах ест ляда. Зрабіў набіліцы на лядзе.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ляда— ёю прыбіваяш палатно.* Галубы Маст. *У варстаце — ляда, а ў краснах — набіліцы.* Дакудава Лід. *У варстаці ляда. Набіліцы чапляюць на стацівы, а ў варстаці ляда.* Міратычы Карэл. *Ляда такая была, укладалася туды берда.* Дзераўное Стаўб. *Бёрда ўкладаецца ў ляда. Яна, ляда, у кроснах.*

Пацаўшчына Дзятл. *Ляда была ў краснах.* Старыя Трокі Трак. *Лядо ў кроснах.* Малахоўцы Бар. 3. Прыстасаванне для рэзання саломы на сечку, травы і інш. *Лядэй рэзалі сечку. Часткі ляды: казёл, лук, нагой патціская; жыхць-жыхць — рэжа сечку.* Граўжышкі Ашм. *Ляда — што сечку каліські рэзалі, магу расказаць пра тую ляду.* Мсцібава Ваўк. *Лядо — сечку рэзаці.* Смаляніца Пруж. 4. Скрынка ў сячкарні, у якой рэжуць салому. *Ляда пры сечкарне, ляда — гэто зелья крышыць.* Крынкі Крын. *З одного пучка соломы будэ штыры ляды і пув міеха сіечкі.* Курашэва Чыж. *Лядо — карыцічко, куды салому кладзе і разаком рэжа.* Вострава Маст. *Лядо ў сечкарні, солому ў лядо кладуць і рэжуць.* Навадворцы Васільк. *Лядо — то ў сечкарні.* Верхлессе Крын. 5. Верхняя частка церніцы. *У церніцы навярху ляда.* Галубы Маст. 6. Кавальская прылада. *Ляда ў кузні. Ляда жалезная, як піла.* Старыя Трокі Трак.; *парайн.* літ. *liódė,* ням. дыял. *lôd* 'тж'.

ЛЯ'ДА III *ж.*, ЛЯ'ДО *н. бат.* Гарошак. *Ляда — гарохава смесь, зелле, расце ў жыце.* Альхоўцы Лях. *Лядо — зерне такоя, як паспее — стручкі, як у гароха, у жыце расце.* Стары Свержань Стаўб.

ЛЯ'ДА IV *прысл.* Цяжка. *Ой, ляда было!* Галубы Маст.

ЛЯ'ДА V *прыназ.* Абы. *Нігды добрэ нэ зробіт, усе ляда як. Ляда дэ положыт молотка і послі забудэ дэ. Ляда што скажэ, а всіе сміюцце. Ляда хто скажэ, а вуон думае, што правда. Нэ ляда с кім ожэнівсе, выбрав найхоруошчу діевчыну с ціелого сёла.* Курашэва Чыж. ◇ *Ляда дзень, ляда дэнь* — з дня на дзень, у бліжэйшы час. *Як чалавек прысмерці, то кажуць: «Ляда дзень».* Мсцібава Ваўк. *Ляда дэнь сподіваемосе, што прыйіедут гості з Росіеі.* Курашэва Чыж.

ЛЯДАВА'ЦЬ *незак.* Падымаць бярвенні пры дапамозе вінды. *Лядуюць лядаю велька дзераво на вос.* Кіралі Шчуч. *Лядаваць — падымаць дзераво на вос.* Дзяніскавічы Ганц.; *парайн.* польск. *ladować*<, ням. *laden* 'тж'.

ЛЯДА'КА, ЛЯДА'ЙКО *прысл.* Дрэнна, кепска. *Пайду пакую жорна, натта лядака мелюць.* Кіралі Шчуч. *Лядайко іці. Без ракі лядайко. Мажэ зрабіцца лядайко.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛЯДА'КІ, ЛЯДА'ЙКІ, ЛЯДА'ІКІ *прым.* 1. Тое ж, што і л я д а́ ч ы 1. *Яго лядайка ігра, ты мне пайграй. Граска дарога — лядайка. Лядайкі парос лён. Страха лядайка, працекае, трэ крыць.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Паганы, сярдзіты. *Нюры — я добра, а для цябе — лядака. Лядакі — крыклівы, робіць урэд людзям. Баба лядака.* Міратычы Карэл. *Наша сабака лядака. Лядакі, трудна яму і раду даць, дрэнны чалавек, урэдны, злы.* Малахоўцы Бар. *Сабака лядакі. Хвароба лядайка.* Дзяніскавічы Ганц. *Біліся бабы лугаўскія. Вот лядаікі.* Семежава Кап. 3. Плаксівы (пра дзіця). *Маё ляда-*

*каё дзіця, не дае ўночы спаць.* Міратычы Карэл. *Дзіця лядако, крыклівы, плаксівы. Малы лядакі быў.* Альхоўцы Лях. 4. Слабы, нездаровы. *Які лядакі ты стаў! Ён жыве адзін, ды лядакі.* Альхоўцы Лях. 5. Тое ж, што і л я д а́ ч ы 7. *Містыднік гаворыць лядайкае слово.* Дзяніскавічы Ганц. 5. Спешчаны. *Які лядакі ты стаў, каніско ты!* [на дзіця]. Альхоўцы Лях.

ЛЯДАКІ′ *мн.* ◊ *Як лядакі* — адубелыя ад холаду. *Рукі, як лядакі, зробяцца, адубеяць ногі, робяцца, як драўляныя.* Груздава Паст.

ЛЯ′ДАМ-ГРА′ДАМ *прысл.* У беспарадку. *Лядам-градам у хаці, як капаіш бульбу.* Лісна В.-Дзв.

ЛЯДА′НКА *ж.* Галалёдзіца. *Лядапка такая — аблівень на дварэ.* Магуны Паст.

ЛЯДАЎНІ′ЦА *ж.* Жалезная акоўка скрынкі ў ручной сячкарні. *Лядаўніца ў лядзе.* Номікі Бабіц.

ЛЯДА′ЧАК *м.* Гарэза, свавольнік. *Цёця будзе смяяцця, што ты лядачак такі.* Пацаўшчына Дзятл.

ЛЯДА′ЧЫ, ЛЕДА′ЧЫ, ЛЯДА′ШЧЫ, ЛЕДА′ШЧЫ, ЛЯДА′ШТЫ, ЛЕДА′ШТЫ, ЛЫДА′ШЧЫЙ *прым.* 1. Дрэнны, нізкай якасці. *Такая ў мяне лядача падлога. Мая печ лядачая. Ток натта лядачы.* Пацаўшчына Дзятл. *Боты лядачыя, як парвуцца.* Курапалле Паст. *Лядачыя трапкі дзерлі і ткалі ходнікі.* Галубы Маст. *Лядашчая хата. Агурке лядашчыя.* Вецярэвічы Пух. *Кладзі гэтыя порткі лядаштыя.* Кіралі Шчуч. *Лядаштая дарога — вельмо калаціла, плоха ездзіць. Лядашты андарак. Міска лядаштая — нягодная, нікудышная, дрэнная.* Рудня Астравітая Чэрв. 2. Неўрадлівы (пра зямлю). *Лядача зямля.* Галубы Маст. 3. Непрадукцыйны. *Работа яго лядача, рабіў-рабіў і мала зарабіў.* Кіралі Шчуч. 4. Пра курыцу, якая мала нясе яец. *Курыца ледашчая — нэчого* [дрэнна] *нэсэцца.* Смаляніца Пруж. 5. Тое ж, што і л я д а́ к і 2. *Лядачы — кепскі чалавек і быдла, лядачая карова.* Жылі Іўеў. *Ён лядачы — злы, плахі.* Дакудава Лід. *Лядача жонка. Натта нявеста была лядача.* Кіралі Шчуч. *Але ш і лядачы быў пан!* Маскалі Жалуд. *Гаворыць, што маці ў яго лядача.* Пацаўшчына Дзятл. *Каровы біў, такі лядачы пастух быў. Як вып'юць, дык лядачыя, ня слухаюць. Натта брат лядачы, ды вадзяцца. Кусашчы сабака ў Камара, злы, лядачы.* Альхоўка Навагр. *Лядашчы — сярдзіты.* Тухавічы Лях. *Якіе дзеці ледашчые — позломалі слонэчніка.* Смаляніца Пруж. *Ледашты муж. Я думала, што ён лядашты.* Вялікія Баяры Шчуч. *Натта лядашта карова, да шкоды ляціць, рады не дасі. Чалавек лядашты.* Рудня Астравітая Чэрв., Лапічы Асіп. 6. Капрызны, спешчаны. *Тога не з'еў, а крычыць, будзя лядачы кацянёнак.* Альхоўка Навагр. 7. Брыдкі, непрыстойны. *Ніхто не сказаў лядачага слова.* Кіралі Шчуч. 8. Стары, слабы. *Можа, і мы будзем ледаштыя.* Парэчча

Гродз. 9. Лянівы. *Такый вжэ лыдашчый, такый гультаіско.* Сіманавічы Драг.

ЛЯДА'ЯК *м.* Непагадзь, вельмі дрэннае надвор'е. *Зімою лядаяк, завірухі.* Кіралі Шчуч.

ЛЯДЗЕ'ЦЬ *незак.* Глядзець. *Лядзела ў вакно.* Саланое Віл. ◊ *Лядзець з рук* — чакаць літасці. *З рук лядзець мне не выходзіла.* Саланое Віл.

ЛЯДЗІ'НКА *ж.* Льдзінка. *Але і лядзінкаў у вядры есць.* Баброўнікі Гарад.

ЛЯДЗЯ'Ш *м.* Лядзяк. *Лядзяшы вісяць, адзін лядзяш.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛЯДНІ'К I *м.* Тое ж, што і л я д з я́ ш. *Вот сэплі вісяць, ляднікі. Доўгі ляднік.* Ністанішкі Смарг.

ЛЯДНІ'К II *м. бат.* Абабак. *Бабка і ляднік тое ж.* Ухвала Круп.

ЛЯ'ДО I *гл.* ЛЯ'ДА II

ЛЯ'ДО II *гл.* ЛЯ'ДА III

ЛЯДО'К *м. памянш.* да л ё д. *Лядок быў дужа слізкі.* Рагулішкі Даўг.

ЛЯДУ'ЎКА *ж.* Халадзільнік. *Схарані кілбасы ў лядуўку.* Лука Нараўк.; *параўн.* польск. *lodówka* 'тж'.

ЛЯ'ДЫ *гл.* ЛЯ'ДА I

ЛЯ'ЖА *ж. бат.* Тое ж, што і л я г д ж а́ й 1. *Ляжа ў балоце расце, балотная асака.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛЯ'ЖАЙ I *гл.* ЛЯГДЖА'Й

ЛЯЖА'Й II, ЛЯЖА'Ч *м.* Тое ж, што і л е́ ж а н ь 2. *Ляжай або ляжач — гультай, гультаяваты чалавек.* Навасёлкі Свісл.

ЛЯЖА'К, ЛЕЖА'К, ЛІЖА'К *м.* 1. Калодачны вулей, які ўстанаўліваецца на козлах. *Ляжак — калодны вуляй на казлах.* Рыбчына Віл. *Ляжак — улей, у ім дно і шапка.* Старыя Смільгіні Воран. *Ляжак на козлах ляжаў, а стаяў — борць, барцявы вулей.* Пацаўшчына Дзятл. *Ляжак ставілі лешкі.* Старыя Трокі Трак. *Ляжак — калодны вуляй.* Рудня Чэрв. *Ляжак — калодны вулей на козлах.* Рудня Астравітая Чэрв. *Ляжак касяком стаяў.* Сасноўка Смарг. *Лежакі і называлі улы, а цяпер — скрынкі.* Гемзы Шальч. *Былі лежакі.* Рагулішкі Даўг. *Ліжакі ліжалі на крэставінах.* Шкаўна Лудз. 2. Гарызантальная частка дымахода. *Ляжак на сталяванні ляжыць.* Кіралі Шчуч. *Ляжак — ад печкі комян.* Міратычы Карэл. *Ляжак — комін з печкі, праходзіць у комін вялікі і называецца ляжак.* Альхоўцы Лях. 3. Ляжанка. *Я спаў на ляжаку.* Навасёлкі Свісл. 4. Паваленае бурай дрэва. *Ляжак — як дзерава зломіць буран: і пахаць няма як, і касіць няма як.* Альхоўка Навагр.

ЛЯЖА'ТКА *ж.* Аглабіна. *Ляжатка верхняя і сподняя — у возе планка на драбіне.* Граўжышкі Ашм. *Ляжатка сподня*

*і верхня ў возе.* Старыя Смільгіні Воран. *У драбінах ляжаткі верхнія і ніжнія.* Дакудава Лід. *Ляжатка зверху ў драбінах.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЛЯЖА'ЦЬ, ЛЕЖА'ЦЬ, ЛІЖА'ЦЬ *незак.* 1. Ляжаць. *Сена ляжыць, згніецъ лежачы.* Ністанішкі Смарг. *Яблыкі ляжаць, згніюць, лежачы пад яблынай.* Альхоўка Навагр. *Ляжмо с табою, будзем ляжаць.* Міратычы Карэл. *Марыся прышла, і грошы ляжыць (адз.* у знач. *мн.).* Ёдлавічы Брасл. *Тут ліжа і то цяшка, цяшка, хоць і ляжу. Тут, ліжа на лошку, я нашчытаў шэсцьдзесят двух дармаедаў у нашай вёсцы, ляжу і лічу.* Ахрэмаўцы Брасл. *Я яго лежачы мыю, як ляжыць ён.* Лісна В.-Дзв. *Не пячэцца табе там, лежачы, як ты ляжыш?* Вецярэвічы Пух. *Крычаць бабы ляжа́, ляжаць бабы.* Рагулішкі Даўг. *Грошы ліжаць—яны мёртвыя.* Ахрэмаўцы Брасл. 2. Быць хворым. *Мой-то ляжыць як нежывы.* Старыя Смільгіні Воран. *Ат пярэпалаху сем тыдняў ляжала.* Солы Смарг. *Я ў бальніцы ляжала, а лежачы не ела.* Саланое Віл. *Месяц ляжаў у бальніцы.* Вецярэвічы Пух. *У Мозыры ляжыць.* Малыя Аўцюкі Калінк. 3. Пра зямлю, якая непрыгодна для апрацоўкі. *Ляжыць ніўдобія, не гаруць.* Солы Смарг. ▽ *На яе нічога не ляжала: ні гразь, ні бяда* — да яе нічога не прыставала. Саланое Віл. *Ні ля́жаць мне* — ніхто мне нічога не зробіць. Альхоўцы Лях.

ЛЯЖА'Ч *гл.* ЛЯЖА'Й II

ЛЯЖА'ЧЫ *дзеепрым.* Лячажы.▽ *Ляжачага не б'юць.* Дварчаны Паст. *Пад ляжачым — вош, а пад бягучым — грош.* Саланое Віл.

ЛЯЖБЕ'ЛЬ *м.* Тое ж, што і л е́ ж а н ь 2. *Ляжбель — гэта лежабока.* Альхоўцы Лях.

ЛЯЖДЖА'Й *гл.* ЛЯГДЖА'Й

ЛЯЖНЁЎКА *ж.* Дарога, замошчаная бярвеннямі. *Ляжнёўка — дарога, вымашчаная броўнамі: кладуць броўны паўдоль, і машыны ходзюць па ляжнёўцы. На балоці і на пяску дзелаюць ляжнёўку: масцяць не ўсю дарогу, а толькі пад калёсы, кап машына магла прайці, высланая калія.* Лісна В.-Дзв. *Ляжнёўка — мошчаная дарога, лес ляжаў мастом.* Азяраны Раг.

ЛЯ'ЖНІК *м.* Тое ж, што і л я г д ж а́ й 1. *Ляжнік пад відам явара, і толькі лісточкі драбнейшыя. Ляжнік і мячэўнік — адна і тая трава. Ляжнік — такая асака. Лабаза — асака такая пахожа да ляжніка.* Рыбчына Віл.

ЛЯЖО'ЙКА *ж. пчал.* Прыстасаванне з вяровак для ўзнімання на дрэва. *Плець перакладваецца ў ляжойку, там дзеравянны кручок для ходу плеці. Ляжойка звіта, сплецена з чыстага лёну для ходу плеці, зачэплівалі сядло ў плеці.* Ухвала Круп.

ЛЯЖЭ'ЙКА I *ж. муз.* Жалейка. *Пастушок выігрываў на ляжэйца.* Магуны Паст.

ЛЯЖЭ'ЙКА II *ж.* Тое ж, што і л я ж á т к а. *У драбінах ляжэйкі верхнія і ніжнія. Ляжэйкі накладаюцца на шчобла.* Быстрыца Астр. *Ляжэйка — планка на спіцах у калёсах.* Рыбчына Віл. *Ляжэйка верхняя і сподняя.* Гемзы Шальч. *Ляжэйка — палка, у якую ўстаўляюцца ляскі ў драбінах. Ніжнія і верхнія ляжэйкі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЛЯЗО' *н.* Лязо. *У сякеры лязо.* Гемзы Шальч., Івашкаўцы Смарг.

ЛЯЙДА' *м.* і *ж. асудж.* Пляткар, балбатун. *Ляйда ты, што ты ляйдзіш!* Навасёлкі Свісл.

ЛЯ'ЙДЗІЦЬ, ЛЕ'ЙЗІЦЬ *незак.* Гаварыць недарэчнае, пляткарыць. *Ляйдзіць, меля языком пустыя слава.* Вострава Маст. *Ляйдзіць, плёткі разносіць. Што ты мне ляйдзіш! Ляйдзіць, трэпля языком трапач.* Навасёлкі Свісл. *Я буду ляйдзіць.* Міратычы Карэл. *Лейзіць быле што; ужэ пачаў лейзіць.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *liežùviais, léidinti* 'абгаворваць, пляткарыць'.

ЛЯК I *м.* Лёк. *Ляк ад сялёдкі.* Тухавічы Лях. *Ляк ат следзяў.* Лука Нараўк. *Колісь ляк продавалі, а людэ куплялі і с картохлямі йіелі. Солоны, як ляк.* Курашэва Чыж.

ЛЯК II *м.* Гляк. *Ляк быў з гліны. Ляк на газу і ляк быў на алей з горлышкам і з вушкамі.* Мсцібава Ваўк. *Ляк апленены на гас.* Номікі Бабіц. *Зверху шырэ, там вузенька трубачка выходзіць — така бутэлька, гэто ляк называецца.* Баброўнікі Гарад.; *параўн.* літ. *lẽkas* 'тж'.

ЛЯК III *м.* Спалох. *Ну тыбэ с твоім ляком, вжэ й злякався.* Сіманавічы Драг.

ЛЯК IV *м.* У выразе: *Другі ляк* — іншая справа. *«Ты бачыў тых хлапцоў? — А гэта другі ляк, гэта зусім не тыя хлопцы».* Ракаўскія Швянч.

ЛЯКА'Й, ЛЕКА'Й, ЛІКА'Й *м.* Лакей. *Ён быў лёкаём у пана, ён быў лякай.* Чычалі Швянч. *Ён быў лякаём у Карэцкага.* Гемзы Шальч. *У паноў лекаі былі.* Кудзялянцы Шальч. *У пана лікаі ў печы тапілі.* Кухты Віл.; *параўн.* літ. *lekãjus,* ням. *Lakai,* франц. *laquis* 'тж'.

ЛЯКА'РСТВА *н.* Лекі. *Чыстацел ад язвы перша лякарства.* Солы Смарг.

ЛЯКАТА'ЦЬ I *незак.* Клекатаць (пра бусла). *Буслэ лякочуць, будзе дош. На дош бусел лякоча стаіць, махае дзюбкаю і лякоча.* Вецярэвічы Пух.

ЛЯКАТА'ЦЬ II *гл.* ЛЕКАЦЕ'ЦЬ

ЛЯКА'ТЫСЬ, ЛЯКА'ТЫСЯ *незак.* Пужацца. *Буду лякатыся вовка. Я лякаюсь, вонэ лякаюцьця.* Дзмітравічы Кам. *Лякатымось, як ітымо чырыз ліс.* Сіманавічы Драг.

ЛЯКАЦЕ'ЦЬ *гл.* ЛЕКАЦЕ'ЦЬ

ЛЯКОВА'ТІ *незак.* Пакрываць лакам. *Бутлі так лякуют, што нэ откорковаті.* Курашэва Чыж.

ЛЯКСУ'ХА *ж. мед.* Панос. *Баліць жывот: ляксуха напала.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *парайн.* польск. *laksa* 'тж', лац. *laxare* 'хварэць на панос'.

ЛЯ'КСЫ толькі *мн.* Тое ж, што і л я к с у́ х а. *Спанавалі мяне ляксы, бруха баліць, і дзень і ноч гоня.* Міратычы Карэл. *Ляксы напалі.* Вялікія Нястанавічы Лаг.

ЛЯКЧЭ'Й *гл.* ЛЯГЧЭ'Й

ЛЯКЧЭ'ЙШЫ *гл.* ЛЯГЧЭ'ЙШЫ

ЛЯ'КЫ толькі *мн. міф.* Паводле старадаўніх павер'яў, праяўленне злой, нячыстай сілы. *Колысь старыі людэ в някы лякы вірылы, нішо іх лякало, то казалы: «Лыхый в кота чы в тыля пырыкыныцьця, да той кыт чы тыля лякало, чы шэ шо», а зарэ ныякых лякув ныма.* Сіманавічы Драг.

ЛЯЛЕ'ЦЬ, ЛЕЛЕ'ЦЬ, ЛІЛІ'ТЫ *незак.* 1. Пераліваццa, зіхацець. *Як цватоў многа, харошыя яны, то гаворацць: «Проста лялеюць, ай, якія цваты, аш лялеюць!» Кветкі лялеюць.* Рыбчына Віл. *Красак многа, лялеюць.* Мярэцкія Глыб. *Сукенка дужа красівая, аж лялеіць.* Беразіно Докш. *Флагі нясуць, аж усё лялее, бліщчыць, зіхаціць.* Ухвала Круп. *А яшчэ з жычкі зробяць стужкі, аш лялея ўсё красіва.* Рубеж Кліч. 2. Адблісквацць (пра водную паверхню). *Тут вялікі луг, за маю памяць тут вада лялела, волны білі, гаць была, рыба была, а цяпер абашло ўсё ў грут.* Альхоўцы Лях. *Бліщчыць, лялея вада.* Дзяніскавічы Ганц. *У мяне на сотках вада лелея, плаваюць картоплі, заплыло вадою.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Пройшов дошч вылікый, то зарэ в яругах вода ліліе.* Сіманавічы Драг. 3. *перан.* Квітнець. *Дзяўчына лялея.* Рыбчына Віл. *Дужа красівая, аж лялеіць.* Беразіно Докш. *Добра было ёй жыць, лялела ў маткі.* Жодзішкі Смарг. 4. Калыхацца (пра збожжа, траву). *Аер вялікі рос, як вецер пагоня, аш лялея. Як вецер ганяя і трава лялея, калышацца.* Масцішча Смал. *Жыта лелея.* Малыя Аўцюкі Калінк. 5. Чырванець (пра рану). *Гніе нага, лялея нага.* Дакудава Лід.; *парайн.* польск. дыял. *lelać*, літ. *liulėti* 'тж'.

ЛЯЛЕ'Я *гл.* ЛІЛЕ'Я

ЛЯ'ЛЬКА I *ж.* 1. Лялька (цацка). *А мне мама ляльку купіла.* Дварчаны Паст. *Яніна ласкуткоў, стужачкаў набраўшы, а хто мне лялькай* [ляльцы] *сашыіць плаця.* Едлавічы Брасл. *Нашыла дівчыны лялёк, хай забавляіцьця.* Сіманавічы Драг. 2. *абрад.* Бутэлька, у якую насыпаюць жыта і даюць хлопцу, калі дзяўчына згодна ісці за яго замуж. *Тады даюць яму* [жаніху] *ляльку — насыпяць у бутэльку жыта.* Крэва Смарг.

ЛЯ'ЛЬКА II *ж.* Зрэнка. *У воку чорнянькая — гэта лялька.* Асавец Віл.

ЛЯЛЮ'ШАЧКА *ж. памянш.* Маленькі качанчык-парастак

у качане капусты. *Лялюшачкі ў качане — пасынкі, маленькія качанчыкі.* Кураполле Паст.; *гл.* л я л ю́ ш к а.

ЛЯЛЮ'ШКА *ж.* Капуста з дробнымі качанчыкамі паміж лістамі. *Нет капусты, лялюшка толькі вырасла.* Гемзы Шальч.; *парайн.* літ. *leliuškà* 'тж'.

ЛЯ'ЛЯ *ж.* 1. *дзіцяч.* Тое ж, што і л я́ л ь к а I, 1. *Таньцы лялю пошыю.* Сіманавічы Драг. 2. *дзіцяч.* Малое дзіця. *А-а-а, лялю, папа купя балю* [абаранак]. Гемзы Шальч. *Будымо лялю колыхаты.* Сіманавічы Драг. 3. Спешчанае дзіця. *Ляля нікуды ні судна* [нягодна], *не пашлёш нікуды, гэта пешчаная дзяўчына.* Жылі Іўеў.

ЛЯЛЯШЫ'ЦЬ *незак.* Балбатаць. *Ляляшылі на вёсцы бабы.* Альхоўка Навагр.

ЛЯМАНТАВА'ЦЦА *незак.* Крычаць ад болі. *Жывот баліць, лямантуецца Тарэса.* Вялікія Баяры Шчуч.

ЛЯМАНТАВА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і л я м а н т а в а́ ц ц а. *Чаго ты лямантуеш? Лямантуе, як што просіць ці што баліць.* Вялікія Баяры Шчуч. *Ні лямантуйця!* Вострава Маст.; *парайн.* польск. *lamentować* 'тж'.

ЛЯ'МЕЦ, ЛЯ'МЯЦ, ЛЯ'МЭЦЬ *м.* 1. Падхамутнік. *Лямец у хамуце.* Яцаўляны Сідр., Рудня Астравітая Чэрв., Глівін Барыс. *Лямец, надайкола, што под персці кругом.* Калясное Міхал. *У хамуце па лямцу хамуціна кладзецца.* Малахоўцы Бар. *В хамутіе лямэць протэрсе і конёві муляе шыю.* Курашэва Чыж. *Лямэць в хамуті.* Сіманавічы Драг. 2. Збітая, зваленая воўна. *Воўна саб'ецца ў лямец.* Каўняны Гродз. *Воўна збілася ў лямец.* Номікі Бабіц.

ЛЯМЕ'Ш I *м.* Тое ж, што і л е́ м е х. *Я каваў лямяшы для сахі.* Ахрэмаўцы Брасл. *Лямеш у плузе, каторы падразае.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛЯМЕ'Ш II, ЛЫМІ'Ш *м.* Від печыва. *Лемяшоў была даўшы, кап ня ўцёк.* Ёдлавічы Брасл. *Лямеш — яда з грэцкае мукі з салам.* Азяраны Раг. *Шэ колысь някы лымышi пыклы з мукы.* Сіманавічы Драг.

ЛЯМІ'НА *ж. бат.* Тое ж, што і л ё́ м. *Бераст і ляміна называецца.* Тухавічы Лях.

ЛЯ'МКА *ж.* Палоска тканіны, якой падшываюць ніз адзення. *Трэба падлямаваць лямку; падлямуе і шчотачку падаш'е.* Крэва Смарг.; *парайн.* польск. *łatka* 'пояс'.

ЛЯМО'ВЫ *прым.* Ільмовы. *Лямовыя палазы робілі з лёму.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЯ'МПА *ж.* Лямпа. *У нас адна лямпа гарыць.* Стральцы Шальч. *Керасін наліваецца ў яе, лямпу.* Швэды Вільн. *Лямпа цьмеце.* Номікі Бабіц. *Дзве лямпы вісела.* Дварчаны Паст. *Дайтэ Остапковы лямпу.* Дзмітравічы Кам.

ЛЯ'МПАЧКА, ЛЯ'МПОЧКА *ж.* Электрычная лямпачка. *На сталбе каля саседа лямпачка гарыць кожны вечар.* Двар-

чаны Паст. *До батарэйкі лямпочку купілі.* Курашэва Чыж. *Трэба лямпочку купыты, бо в сінюх пырыгоріла.* Сіманавічы Драг.

ЛЯМПЕ'ШКА *ж.* Планка, у якую ўстаўляецца верхні канец млёна. *У гарэ прыбіта лямпешка з дошчачкі, у яе ўстаўляецца млён, у канцы дзірка.* Кіралі Шчуч.

ЛЯМПЭ'РЫЯ *ж. буд.* Ліштва (у акне). *Лямпэрыя — абшыўка, абналічка знадворку апРавы акна, калі на асадку прыбіваюць тонкія доскі, знадворная аправа акна. Унутраная і знадворная лямпэрыя, аблямоўка.* Мярэцкія Глыб.; *парайн.* польск. *lamperja* 'тж'.

ЛЯМУО'ВКА *ж.* 1. Аконная рама. Курашэва Чыж. 2. Аблямоўка. *Бэрэгі плахты лямуовкою опшыла.* Курашэва Чыж.

ЛЯ'МША *ж. зневаж.* Нікчэмны чалавек. *Лямша нікуды ні гадзяшчы чалавек.* Лісна В.-Дзв.; *парайн.* літ. *lamšẽlis* 'тж'.

ЛЯМЭ'НТЫ толькі *мн.* Аліменты. *Прысудзілі лямэнты.* Чычалі Швянч.

ЛЯ'МЭЦЬ *гл.* ЛЯ'МЕЦ

ЛЯМЯ'К *м.* Ліпкі, няўдалы хлеб. *Твой хлеп не ўдаўся, як лямяк, пашчапаўся. Булкі, як лемяке.* Бакшты Іўеў.

ЛЯ'МЯЦ *гл.* ЛЯ'МЕЦ

ЛЯНАВА'ТЫ *прым.* Гультаяваты. *Лянаваты, лянушчы чалавек.* Альхоўка Навагр.

ЛЯНДРЫ'НКІ *мн.* Ледзянцы. *Прывязі ляндрынкі! Даўней былі канфеты — ляндрынкі, у форме звёздачак.* Ахрэмаўцы Брасл.; *парайн.* польск. *landrynki* 'тж'.

ЛЯНДЭ'РАК *м.* Невялікая каструля. *Ляндэрак з ручкаю, дзецям кашу варылі ў ём.* Кіралі Шчуч.; *парайн.* польск. *rondel* 'каструля'.

ЛЯ'НЕЦ *м.* Хамуціна. *Лянец шылі з палатна, набівалі саломай, а січас — хамуціна.* Старыя Трокі Трак.

ЛЯНІ'ВЫ, ЛЫНЫ'ВЫЙ *прым.* Лянівы. *Такі лянівы кот, мышэй ня ловіць.* Дварчаны Паст. *І такі чалавек: ні драмлівы, ні лянівы.* Саланое Віл. *Такі лянівы чалавек!* Чычалі Швянч. *На лянівага кажуць: «Ходзіць, як лось».* Вецярэвічы Пух. *Хорошый* [прыгожы], *алэ лынывый, робыты ны хочэ.* Сіманавічы Драг.

ЛЯНІ'СКА, ЛЯНІ'СКО *н.* 1. Ільнянішча. *Па 'ляніску жыта сеялі.* Быстрыца Астр. *Пайдзі пакасі тоя ляніска: натта травэ многа.* Кіралі Шчуч. *Ляніска — дзе лён рос.* Гемзы Шальч. 2. Трава, скошаная на полі, дзе рос лён. *Паедзьмо ляніско забярэм.* Міратычы Карэл.

ЛЯНІ'ЎКА *ж. кулін.* Падкалочаны селядзечны расол. *Лянійка — гэта паткалоцяць сіляццову жышку і ядуць.* Лісна В.-Дзв.

ЛЯНІ'ЦЦА, ЛЫНЫ'ТЫСЬ *незак.* Ленавацца. *Ляніцца нават паварухнуцца.* Дварчаны Паст. *Казу і тую ляніўся пры-*

*гнаць у поля. Цяпер ляніцца ён робіць.* Саланое Віл. *Ён не ляніцца і пагаварыць.* Кіралі Шчуч. *Лыныцьця сам собі повботінкы паваксоваты.* Сіманавічы Драг.

ЛЯНІ'ШЧА І, ЛЬЯ'НІШЧА *н.* Тое ж, што і л я н і с к а 1. *Лянішча — пасля лёну.* Крэва Смарг., Рыбчына Віл., Груздава Паст., Лісна В.-Дзв. *Па лянішчу сеялі.* Жодзішкі Смарг. *Лянішча трэба скасіць.* Вязынка Маладз. *Лянішча — дзе рос лён.* Вострава Маст. *Карой па льянішчу пагналі.* Галубы Маст.

ЛЯНІ'ШЧА ІІ *н.* Тое ж, што і л е н і в о. *Гужова лянішча, ім замайляюць.* Бакшты Іўеў.

ЛЯ'НКА *ж.* 1. Тое ж, што і л я н і с к а 2. *Лянка — трава з-пад лёну, як лянішча косяць. Тры вазы лянкі накасіў. Лянку вазілі і яго бралі с сабой.* Жылі Іўеў. *Лянькі накасіў. Лянка — трава на лянішчы.* Бакшты Іўеў. 2. Тое ж, што і л я н і с к а 1. *Лянкі косяць, хоць кап была травіста* [*трава на лянішчы*]. Жылі Іўеў.

ЛЯ'НКСАМ *прысл.* Павольна, не спяшаючыся. *Я раблю лянксам, не спяшаючы.* Мсцібава Ваўк.; *парайн.* ням. *langsam* 'тж'.

ЛЯНО'К БО'ЖЫ *м. бат.* Крапінец. *Божы лянок пры Польшчы здавалі на лякарства, ён сінінькім цвіце.* Рыбчына Віл.

ЛЯНУ'ХА *ж. кулін.* Суп з гароднiны, запраўлены малаком. *Капуста, бульба, морквінкі, малаком забеляць — вот і лянуха.* Кураполле Паст. *Малако с кваском, суп прэсны с капусты і бульбы лянухай называем. Лянуху варылі і малаком бялілі.* Янова Рас. *Лянуху варылі: бульба, качан і забеліш, і паставіш у печ, і смашна.* Вецярэвічы Пух.

ЛЯ'НУЦЬ *зак.* Глянуць. *Лянь, хто там ідзе.* Лісна В.-Дзв.

ЛЯНУ'ШЧЫ *прым.* Тое ж, што і л я н і в ы. *Ён такі лянушчы.* Альхоўка Навагр.

ЛЯ'НЫ, ЛЯ'ННЫ *гл.* ЛЛЯ'НЫ'

ЛЯ'НЫ ВЫ'ХАД *м.* Рабочы дзень на ўборцы льну. *Ляны выхад добра аплачваюць.* Міратычы Карэл.

ЛЯНЫ', ЛЕ'НЫ' *прым.* Тое ж, што і л я н і в ы. *Ён не ляны, ахоту мее рабіць.* Вецярэвічы Пух. *Кап ляная була, то нічого не магла б рабіць.* Кузьмічы Люб. *Лéны конь быў у нас, яго б'еш, а ён ні з места.* Бакшты Іўеў. *Ленáя карова, у поле не хацела ісці.* Пасіене Лудз.

ЛЯНЫ'Й *гл.* ЛЛЯ'НЫ'

ЛЯНЮ'Х *м.* Гультай. *Такі лянюх, рабіць не хоча.* Грыкені Вільн.

ЛЯП-ЛЯП *выкл.* Лясь, ляп. *Воўк бяжыць ды ляп-ляп зубамі.* Лісна В.-Дзв.

ЛЯ'ПА І *ж.* 1. Пашча. *Разяўляіць воўк ляпу.* Магуны Паст. *Ну і ляпа, ну і зяўра ў ваўка вялікая.* Ёдлавічы Брасл.

*Ляпа ў вайка, сабакі.* Рыбчына Віл., Ракаўскія Швянч. *Разявіў воўк ляпу.* Мярэцкія Глыб., Малькуны Ігн. *Воўк распасцёр ляпу.* Рудня Чэрв. *Воўк раскрыў ляпу. Бёх воўк, разявіў ляпу.* Рудня Астравітая Чэрв. *Разінуў воўк ляпу.* Мачаск Бярэз. *Воўк ляпу разіня і на авечак.* Азяраны Раг. 2. *перан. груб.* Рот. *Закрый сваю ляпу!* Дварчаны Паст. *Ляпа, як у вайка.* Рыбчына Віл. *Ні разяўляй ляпу!* Азяраны Раг. 3. *перан.* Морда ў жывёлы. *Ляпа ў ласіхі.* Ахрэмаўцы Брасл.; *параўн.* літ. *lepà, lẽpas* 'тж'.

ЛЯ'ПА II *ж.* 1. Нарасць на чым-н. *На дзераве нараставае ляпа. Бывае, атсекаюць ляпу, выдоўбуюць дзірку і робяць кайша.* Дзяніскавічы Ганц. *Гурзалкі такія на целя, як ляпы.* Вецярэвічы Пух. 2. Пухліна. *Я ўпала і схвацілася такая ляпа і так разгнілася. Упала з арэшыны — схвацілаca ляпа на руцэ, доўго ляпа вісела на руцэ.* Кузьмічы Люб.; *параўн.* укр. *япина* 'нарасць на дрэве' (Грынч., IV, 541), літ. *lẽpis* 'шырокая страха на хаце; выступ'.

ЛЯ'ПА III *ж.* Слата, хлюпота. *Ляпа — мокры снех, грась.* Ракаўскія Швянч.; *параўн.* літ. *šlãpia* 'мокра'.

ЛЯПАНІ'НА *ж.* Тое ж, што і л я́ п а III. *Ляпаніна — снех мокры ляпаецца, у хату наляпаецца, на ногі падае мокры снег, бы растае, мы кажам — то ляпаніна.* Дзяніскавічы Ганц.; *параўн.* укр. *ляпанина* ў выразе «Яка ляпанина, така і хватанина» (Грынч., II, 392).

ЛЯ'ПАЎКА I *ж.* Тое ж, што і л я́ п а I, 2. *Раскрыла ляпайку і зявая.* Крэва Смарг.

ЛЯ'ПАЎКА II *ж.* Тое ж, што і л я́ п а III. *Ляпайка на дварэ.* Крэва Смарг.

ЛЯ'ПАЎКА III *ж.* Драўляны званок, які вешалі карове на шыю. *Ляпайка — званок дзеравянны.* Жылі Іўеў.

ЛЯ'ПАЦЦА I *незак.* Моцна стукаць. *Хто будзя з камяням у хату ляпацца?* Вецярэвічы Пух.

ЛЯ'ПАЦЦА II *незак.* Падаць (пра снег). *Снег мокры ляпаецца.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛЯ'ПАЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і л я́ п а ц ц а I. *Хопіць табе ляпаць дзвярмі!* Дварчаны Паст. *Дзяцька ляпая ў акно.* Вецярэвічы Пух. 2. Трашчаць (пра бразготку). *Ляпушка ляпаіць.* Ракаўскія Швянч. 3. Клекатаць (пра бусла). *Ляпаюць дзюпкамі.* Пасіене Лудз. *Буцяны ляпаюць дзюпкамі.* Мішневічы Шум. *Буслы ляпаюць дзюпкамі, страляе, як з пулямёта.* Глівін Барыс. *Буслы дзюпкай ляпаюць, голасу іх не чулі.* Мачаск Бярэз. 4. Ляскаць зубамі. *Воўк зубамі ляпаіць.* Ахрэмаўцы Брасл. 5. Кідаць. *Капусцяныя лісты на ток [у печы] ляпаюць.* Старыя Трокі Трак. 6. Тое ж, што і л я́ п а ц ц а II. *Сягоння ляпська, снех ляпаіць, дошч ідзець.* Магуны Паст. *У вочы ляпая снех, заляпаў снех вочы.* Старыя Смільгіні Воран. *Снег і дошч ляпая.* Кудзялянцы Шальч.

*Мокры снег ляпаіць.* Лайпушкі Ігн. 7. *перан.* Гаварыць недарэчнае, балбатаць. *Ляпаіш і ляпаіш языком.* Валынцы В.-Дзв. *Ён ляпая і ляпая языком.* Навасёлкі Свісл.

ЛЯПЕ'ЗА *ж. груб.* Нязграбны, непаваротлівы чалавек. *Ляпеза — незграбная, ні фігуры, сідзіт, як ляпеза, прышоўшы на вечарынку.* Рагулішкі Даўг.; *парайн.* літ. *leperza* 'тж'.

ЛЯПЕ'ЗІЦЬ *незак. экспр.* Беспадстаўна настойваць на сваім. *Ляпезіць і ляпезіць, яму гавары, а ён будзіць правіць другоя.* Валынцы В.-Дзв.

ЛЯПЕ'Й I *прысл.* Тое ж, што і лепей. *Ляпей ідзі да Міраноў.* Стральцы Гродз. *Вы ляпей знаяце, колькі кілаграм у пудзе. Ён ляпей раскажа. Мы ляпей гадавалі цяля.* Парэчча Гродз. *Мне там ляпей бес цібе жыць.* Альхоўка Навагр. *Днём ляпей капаць. Неяк ляпей, калі печ пакрасіла, белая стала.* Малахоўцы Бар. *З ліпы зрабіць ляпей. Табе ляпей зрабіць, як каму.* Альхоўцы Лях. *Рас пан с пастухом паспорылі, хто ляпей зробіць.* Падлессе Лях.

ЛЯПЕ'Й II *м.* Муляр, пячнік. *Ляпей печы кладзе, трэба леляя пазваць.* Азяраны Раг.

ЛЯПЁХА *ж. асудж.* Сядун. *Такія сядзяць ляпёхі і ня выгнаць да работы.* Ёдлавічы Брасл.

ЛЯПЁШКА I *ж.* Праснак. *Мішалі з мукой ляпёшкі.* Дзёрнавічы В.-Дзв.; *парайн.* руск. *лепешка* 'тж'.

ЛЯПЁШКА II *ж. бат.* Лісічка (грыб). *Ляпёшкі растуць у леся. Адну ляпёшку знайшла.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛЯПІ'ЦЦА *незак.* Прыставаць. *Леліцца да малой.* Бакшты Іўеў. *Чаго ты лепішся да яго, у яго няма часу займацца табой.* Дварчаны Паст.

ЛЯПІ'ЦЬ *незак.* 1. Ляпіць што-н. *Дзеці ляпілі снежную бабу.* Дварчаны Паст. 2. Тое ж, што і ляпацца II. *Снех лепіць.* Вецярэвічы Пух.

ЛЯ'ПКА *ж. памянш.* Рот рыбы. *Рыпкі нізалі за іх ляпку ў кучы.* Ракаўскія Швянч.; *гл.* ляпа I.

ЛЯПЛЁНІК *м.* Тое ж, што і ляпей II. *Ляплёнік быў, гаршкалёп.* Ністанішкі Смарг.

ЛЯПЛЁНКА *ж.* Глінабітная пабудова. *Ляплёнка — з гліны і саломы.* Ахрэмаўцы Брасл.

ЛЯПЛІ'ВЫ *прым. экспр.* Балбатлівы. *Натта яна ляплівая: замнога гаворыць.* Магуны Паст. *Ой, ляплівы чалавек! Ляпліває дзіця. Ляплівы чалавек — баўтлівы.* Саланое Віл.

ЛЯ'ПНУЦЬ *зак.* 1. Моцна стукнуць. *Выходзячы с хаты, ён так ляпнуў дзвярыма, што сцёклы затрасліся.* Дварчаны Паст. *Вот ляпнуў дык ляпнуў, аш у галаве зазвінела.* Кураполле Паст. *Ляпнуў дзвярыма і пашоў.* Кіралі Шчуч. *Як ляпнула ап цэглу і пабіла шклянку.* Вострава Маст. 2. *экспр.* Сказаць недарэчнае, неўпапад. *Другі абы-што ляпня.* Граўжышкі Ашм. *Ляпнула слова бы якое.* Саланое Віл. *А той у*

*кузню пайшоў, а сусетка вазьмі ды ляпні.* Камена Лаг. *Стары так ляпне якоя слова.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛЯПНЯ'К *м.* Тое ж, што і л я п е́ й II. *Ляпняк — што гаршке лепіць; у Нарчах робяць гаршке.* Кіралі Шчуч.

ЛЯ'ПСЬКА *прысл.* Слотна. *Сягоня ляпська, снег ляпаіць, дошч ідзець.* Магуны Паст.; *гл.* л я́ п а III.

ЛЯ'ПУШКА I *ж.* Бразготка. *Ляпушка ляпаіць.* Ракаўскія Швянч.

ЛЯ'ПУШКА II *ж.* 1. Мокры снег. *Ляпушка ляпыіць.* Ракаўскія Швянч. 2. Тое ж, што і л я́ п а III. *Ляпушка такая ўсе тры дні.* Ракаўскія Швянч.

ЛЯПУ'ШКА *ж.* Ляжанка. *Там на ляпушкі сідзела, грэлась.* Мішневічы Шум.

ЛЯ'ПША *ж. асудж.* Тое ж, што і л я п е́ з а. *Села, як ляпша, і сідзіць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *lẽpšė* 'вялы чалавек, цюхцяй'.

ЛЯПШУ'К *м. бат.* Абабак. *Ляпшукоў цэлы кошык прынёс. Ляпшукі ёсць у нас.* Швэды Вільн. *Ляпшукі ў ройсце растуць.* Малькуны Ігн.; *параўн.* літ. *lepšiùkas* 'тж'.

ЛЯПЯТЛІ'ВЫ *прым. экспр.* Тое ж, што і л я п л і в ы. *Ляпятлівая баба.* Саланое Віл.

ЛЯСАВЫ' *гл.* ЛЕСАВЫ'

ЛЯ'САЧКА *ж. памянш.* да л я́ с к а 5. *Драўляныя бароны, лук такі, па тры лясачкі і дзве абаранкі.* Грыкені Вільн.

ЛЯСЁНАЧКА *ж. памянш.* да л я с ё н к а. *Лясёначку травы прынёс.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛЯСЁНІШЧА *ж. павел.* да л я с ё н к а. *Еўгіння лясёнішчу напакавала папараці і панесла.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛЯСЁНКА *ж.* Посцілка насіць сена, траву, салому. *Лясёнка с шкутамі, джгурамі, пляцёнкамі* [доўгімі матузамі па рагах]. *Лясёнка сена, саломы. Лясёнка — жгуры, скуты, папрышываныя па канцах. На сабе носіш лясёнкі. Нясе лясёнку травы.* Рудня Астравітая Чэрв. *Добрую лясёнку саломы набраў.* Рудня Чэрв. *Лясёнка траву насіць.* Вецярэвічы Пух. *Хто ў посцілку, хто ў лясёнку связвая.* Палік Барыс. *Кладзі ў лясёнку і нясі.* Багушэвічы Бярэз.

ЛЯСІ'НА *ж.* Адно дрэва, якое расце ў лесе. *Мядзвець узлес на лясіну.* Вецярэвічы Пух.

ЛЯСІ'СТЫ *прым.* Зарослы лесам. *У нас места лясістая.* Лісна В.-Дзв. *Лясістае балота, на ім растуць дрэвы.* Дварчаны Паст.

ЛЯ'СКА, ЛІЕ'СКА *ж.* 1. Кій. *Ляску ў рукі ўзяўшы, я пашла.* Курaполле Паст. *Цяпер ён ходзіць з ляскай, бо вельмі стары.* Дварчаны Паст. *Я цябе ляскай змалачу.* Кіралі Шчуч. *На ляску апіраецца чалавек.* Асавец Віл. *Ён на ляску наваліўся.* Ахрэмаўцы Брасл. *Вышаў з ляскай, папіраецца.* Гемзы Шальч. *Стары чоловіек ліескою путпіраецце.* Курашэва

Чыж. 2. Выгнутая палка ў вертыкальным плятні. *З яловых сукоў ляскі робяць, платы гарадзілі лыскамі. Абгарадзіў садок ляскамі. Дастань слупа, разбяры ляскі і загарадзі.* Кіралі Шчуч. 3. Гарызантальная жэрдка ў агароджы. *Шчыкеціны да ляскаў прыбіты.* Малахоўцы Бар. 4. Лёстка ў драбінах. *Ляска ў драбінах.* Вялікія Баяры Шчуч. *У драбіні выламаў ляску.* Старое Сяло Зэльв. *Ляскі ўстаўляюцца ў дронгі.* Парэчча Гродз. *Ляскі ў драбінах.* Малахоўцы Бар., Масілавічы Сл. *Ляскі ў калёсах: у білах дзіркі і ў мосця дзіркі, і набіваюць тонкія ляскі.* Лапічы Асіп. 5. Планка круглага сячэння ў драўлянай баране. *У баране тры ляскі і зуб, вітка шчэ; тры ляскі складаецца, накруціць вітку і зуб гоніцца.* Відаўцішкі Вільн. 6. Планка ў венцеры. *Венцер — пяць абручэй у сярэдзіне горлы, атходзяць два крыла на лясках, чатыры ляскі, куль расмаргіваецца — і бяры рыбу.* Глівін Барыс. 7. у выразе: *Як ляска* — уезджаны (пра дарогу). *Дарога, як ляска, аш блішчыць, а зімой вот добра ехаць у санях!* Кіралі Шчуч.

ЛЯСКАТА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і л я́ п а ц ь 1. *Ён ляскатаў у дзверы.* Асавец Віл. 2. *безас.* Моцна грымець і бліскаць (пра маланку і гром). *Ляскала цэлу ноч.* Дзяніскавічы Ганц. 3. Тое ж, што і л я́ п а ц ь 3. *Бусял ляскоча.* Рудня Чэрв.

ЛЯ'СКАЎКА *ж. бат.* Званец. *Адны ляскаўкі нараслі.* Лапічы Асіп.

ЛЯ'СКАЦЬ *незак.* Тое ж, што і л я́ п а ц ь 3. *Бацяны ляскаюць дзюбкамі.* Беразіно Докш.

ЛЯСКО'ВЫ *прым.* Ляшчынавы. *Гасён — валоў падганялі, прамы прут лясковы.* Масілавічы Сл.

ЛЯСНІ'К, ЛЕСНІ'К, ЛІСНІ'К *м.* Ляснік, палясоўшчык. *Ён быў ляснікам.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Яго брат ляснікам.* Вецярэвічы Пух. *Ён прыехаў да лесніка.* Новыя Мацалі Варэн. *Леснік быў богаты, хорошэ ў яго было ў хаце.* Калясное Міхал. *Пітнаццаць лет лісніком быў.* Істра Лудз.

ЛЯСНІ'ЦТВА *н.* Лясніцтва. *У лясніцтве куплялі лес.* Грыкені Вільн.

ЛЯСНІ'ЧАСКІ *прым.* Які належыць лясніцтву. *Лясніча-скі сенакос, як ідзеш па Трўбацкай дарозе.* Беразіно Докш.

ЛЯСНІ'ЧЫ *м.* Ляснічы. *Ён цяпер ляснічы.* Ністанішкі Смарг.

ЛЯСНІ'ЧЫСТВА *н.* Тое ж, што і л я с н і ц т в а. *Да ляснічыства даехалі.* Істра Лудз.

ЛЯ'СНУЦЬ *зак.* Моцна стукнуць. *Кулаком ляснець аб стол мой тата.* Саланое Віл.

ЛЯСНЫ', ЛЯСНЫ'Й *прым.* 1. Тое ж, што і л е с а в ы́ 1. *Лясной травы прынесла.* Грыкені Вільн. *Лясная трава.* Рыб-

чына Віл. *Нейкая лясная птушка прыляцела.* Дварчаны Паст., Кухты Віл. *Лясныя цвяты. Лясныя людзе — вёска ў лесе стаяла.* Ёдлавічы Брасл. *Лясны чалавек — каля лесу жыве.* Парэчча Гродз. *Ёсь лясный асот.* Янова Рас. 2. Тое ж, што і л е с а в ы́ 2. *Лясныя яблыкі кіслыя.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. *Лясныя пчолы ў лесе жывуць.* Жылі Іўеў. *Лясныя пчолы злыя, яны жывуць у дуплах.* Рудня Астравітая Чэрв. *Лясныя пшчолы злыя.* Старыя Смільгіні Воран.

ЛЯСО'К *м. памянш.* да л е с 1. *Паміз балатоў ляскі невялікіе.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛЯСО'ЎКА *ж.* Дзікая яблыня. *Пасадзілі лясоўку.* Палік Барыс.

ЛЯ'СТКА *ж.*, ЛЯ'СТКІ *мн.* 1. Тое ж, што і л ё с т к і. *Трэба нарэзаць лястак кош плясці. Лясткі стругалі з бярэзніку.* Дзяніскавічы Ганц. 2. Тое ж, што і л я́ с к а 4. *Лясткі ў вос устаўляюць, у драбіну. Выламалася лястка ў драбіне, трэба зрабіць нову лястку.* Альхоўцы Лях. *Лясткі ў драбінах.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛЯСУ'ШКА *ж.* Плод дзікай яблыні. *Лясушкі горка-кіслыя.* Глівін Барыс.

ЛЯСЬ *выкл.* Бразь, плясь. *Бег, бег, да лясь аб брук.* Дварчаны Паст.

ЛЯ'ТА *ж.* Тое ж, што і л е́ т а 2. ∇ *Яка лята, таке ґжыбы.* Шалкуні Даўг.; *параўн.* польск. *lata* 'тж'.

ЛЯТА'Р *м.* Тое ж, што і л і х т а́ р. *Фанар быў, або лятар.* Тухавічы Лях.

ЛЯТА'РНЯ *ж.* Тое ж, што і л і х т а́ р. *У лятарню ўстаўлялі свечку — нібальшы агонь, ноччу хадзілі з ім, калі цёмно.* Стральцы Гродз. *Бывала, газоўку ўставіш у лятарню і пашоў у хлеў.* Кіралі Шчуч.

ЛЯ'ТАСЬ *прысл.* Тое ж, што і л е́ т а с ь. *Лятась я ездзіла да сына.* Яцаўляны Сідр.

ЛЯ'ТА'ЦЬ *незак.* 1. Тое ж, што і л ё т а ц ь 1. *Самалёты сталі ля́таць.* Альхоўцы Лях. *Ля́таюць качкі.* Дзяніскавічы Ганц. *Будзе ля́таць птушка.* Семежава Кап. 2. Тое ж, што і л ё т а ц ь 2. *Куды я ля́тала за дзецьмі!* Міратычы Карэл. *Ні ля́таць мне!* Альхоўцы Лях. *Па грыбэ лята́я па лесе.* Парэчча Гродз. 3. *перан.* Скакаць (пра ваверку). *Ваверка ля́тая па дрэвах.* Альхоўцы Лях.

ЛЯТВО' *н. пчал.* Ляток. *Шырокая лятво ў вуллі.* Груздава Паст.

ЛЯТНІ'ЧЫ *прым.* У выразе: *Лятнічыя каша́ры* — аэрадром. *Былі лятнічыя кашары і кухня была, прывучылі варон, так яны і цяпер тут.* Дакудава Лід.

ЛЯТНЯ'К *м.* Пералетак. *Лятняк — першага лета цяля, як пагадуеш.* Альхоўка Навагр.

ЛЯТО'К *м.* Тое ж, што і л я т в о́. *Ляток у вуллі.* Бакш-

ты Іўеў., Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Раг. *У ляток пчолы ўлятаюць.* Пацаўшчына Дзятл.

ЛЯТО'М *прысл.* Бягом, хутка. *Я лятом ляту дахаты. Я лятом да машыны. Лятом занясла тыя грошы.* Паляцкішкі Воран. *Можа, звалі? Так я лятом.* Крэва Смарг. *Лятом ляціць назат.* Кіралі Шчуч.

ЛЯТО'НЦЫ *прым.* Рухавы. *Яна кабета жвава, лятонца.* Вялікія Баяры Шчуч. *Вот ён у нас чалавек лятонцы, і баба яго лятонца — натта быстра ў хадне і ў рабоце.* Кіралі Шчуч. *Лятонцы чалавек — быстра лётая.* Гайна Лаг.

ЛЯТО'СІ *прым.* Леташні. *Быў ён у нас лятосі рок.* Каменка Стара Сакол. *Лятосі рок.* Яцаўляны Сідр.

ЛЯТУ'ЧА, ЛЯТУ'ЧАЯ МЫШ *ж. заал.* Кажан. *Лятуча мыш лятая, калі цёмна.* Дакудава Лід. *Лятучая мыш малая.* Рыбчына Віл. *Летучая мыш паскудная — голая, некрасівая, как лягушка.* Чарняўскія Лудз.

ЛЯТУ'ЧЫ *прым.* Цякучы (пра ваду). *Там лятучая вада бліска ракі.* Лісна В.-Дзв.

ЛЯЎТРА' *м. і ж. лаянк.* Гультай. *Уцікай, ляўтра!* Мярэцкія Глыб.

ЛЯЎША' *м. і ж.* 1. Тое ж, што і л я в ў ш. *Васіль ляўшэю жыў.* Вецярэвічы Пух. *У нас баба ляўша.* Кіралі Шчуч. 2. Левая рука (у ляўшы). *З ляўшы мáґла* [моцна і рэзка] *б'е.* Гемзы Шальч. *Яна жала ляўшой і ўсё рабіла ляўшой.* Кіралі Шчуч.

ЛЯЎША'К, ЛЕЎША'К *м. і ж.* Тое ж, што і л я в ў ш. *Ляўшак левай рукой робіць.* Рыбчына Віл., Дакудава Лід., Парэчча Гродз. *Ён ляўшак.* Старыя Трокі Трак. *Яна ляўшак — бярэ левай рукой.* Паляцкішкі Воран. *Леўшак ужо каню як дасць, то скуру можа рассеч.* Гемзы Шальч.

ЛЯЎША'ТЫ у знач. *назоўніка.* Тое ж, што і л я в ў ш. *Ляўшаты левай рукой робіць.* Рудня Астравітая Чэрв.

ЛЯЎШНІ'К *м. і ж.* Тое ж, што і л я в ў ш. *Ляўшнік левай рукой усё робіць.* Мярэцкія Глыб.

ЛЯЎШНЯ' *гл.* ЛЯВУШНЯ'

ЛЯЎШУ'Н *м. і ж.* Тое ж, што і л я в ў ш. *Ляўшун левай рукой робіць.* Вострава Маст., Рудня Астравітая Чэрв., Баброўнікі Гарад.

ЛЯЎШЭ'НЬ *м. і ж.* Тое ж, што і л я в ў ш. *Ляўшэнь будзіць, калі мама корміць грудзю левай.* Саланое Віл.

ЛЯ'ХА *ж.* Рэха. *Ляха ідзе, згук ідзе па лесе.* Альхоўцы Лях.

ЛЯХА', ЛЕХА', ЛІХА' *ж.* 1. Града. *Трэба цыбулю выбіраць з ляхі.* Ністанішкі Смарг. *Ляху нада палоць.* Лайпушкі Ігн. *Я ў ляхах была, рукі гразныя.* Ракаўскія Швянч. *Куры дзяруць лехі, здзёрлі лехі.* Саланое Віл. *Куры пасыпалі ўсе лехі.* Малькуны Ігн. *Прылех между лехамі. Мы большы ле-*

*хамі завём, чым граткі.* Пасіене Лудз. *На лехах лён сеют.* Смаляніца Пруж. *Выпалала ляху. Картошку садзілі ў лехі. На полі лех нет. Адна ліха будзіць.* Рагулішкі Даўг. *Лехі, адна ліха, многа лех.* Мярэцкія Глыб. *Лехі куры капаюць, адны ямы. Ліха пакапана.* Валынцы В.-Дзв. *Лехі капаюць куры. Адна ліха.* Ахрэмаўцы Брасл. *Агурочкі на ліхе цвіцяць.* Індра Красл. *Ліха так зарысла, што капусты не відаць. Па-торнім семяну ў ліху.* Якубова Рас. *Ліха зърасла.* Мішневічы Шум. *Ліха — града ў гародзе.* Палік Барыс. *Ліха пазарастала тровамі.* Беразіно Докш. *На ліхах пасадзіла ўжо.* Дзёрнавічы В.-Дзв. 2. Равок на градзе, дзе сеюць агуркі, моркву. *Напісалі лехі — правялі равочкі, дзе сеюць.* Лайпушкі Ігн.

ЛЯХАВА'ЦЦА *незак.* Моцна кіпець, клекатаць. *Вада ляхуецца.* Ухвала Круп., Міхеевічы Бярэз.

ЛЯХАТА'ЦЬ *незак.* Тое ж, што і л я х а в а́ ц ц а. *Бульба ляхочыць, скора будзіць гатова.* Магуны Паст.

ЛЯХІ', ЛЯ'ХЫ *мн. этн. гіст.* Палякі. *Ляхі ў Слабадзе жылі. У Слабадзе ляхі і цяпер жывуць.* Азяраны Раг. *На палякув чясом дэхто скажэ — ляхы.* Сіманавічы Драг.∇ *Йідуть ляхы по-пуд шляхы ў саму Полтаву.* Сіманавічы Драг.

ЛЯХКАТА'ЦЬ *незак.* Рохкаць (пра парасят). *Парасята хочуць есці, галодныя будуць ляхкатаць.* Навасёлкі Свісл.

ЛЯХКІ'Я толькі *мн. анат.* Лёгкія. *Ляхкія — гэта плуцы, а цяшкія вантробы — печань.* Солы Смарг. *У свіней ляхкія.* Асавец Віл.

ЛЯХЧА'ЦЬ *незак.* Пакладаць. *Ён ляхчаў коні, быкі.* Гемзы Шальч.

ЛЯХЧО'НЫ *прым.* Спакладаны. *Ляхчоны баран.* Мельнікі Лудз.

ЛЯХЧЫ'НА *гл.* ЛЯШЧЫ'НА

ЛЯХЧЭ'Й *гл.* ЛЯГЧЭ'Й

ЛЯХЧЭ'ЙШЫ *гл.* ЛЯГЧЭ'ЙШЫ

ЛЯ'ХЫ *гл.* ЛЯХІ'

ЛЯЦЕ'ЦЦА *незак. перан.* Бегчы. *Яна ўжо ляціцца, хутка заляціць.* Крэва Смарг.

ЛЯЦЕ'ЦЬ, ЛЕЦЕ'ЦІ *незак.* 1. Ляцець. *Рой ляцеў — рукамі сабраў.* Сасноўка Смарг. *Птушка ляціць у сваё гняздо.* Ністанішкі Смарг. *Ляцяць крукі на поле — атліга будзе. Як журайлініско ляцяць, то зіма бліско.* Мсцібава Ваўк. *Стуль будзе птушка лецеці.* Смаляніца Пруж.∇ *Ляціць — выіць, сядзіць — рыіць* — жук. Саланое Віл. 2. *перан.* Тое ж, што і л я ц е́ ц ц а. *Ляту босая.* Кемялішкі Астр. *Яны лятуць і крычаць: «Пажар!» Ляці скарэй, здагоніш. Бачу — лятуць даяркі. Ну, ляту ўжо.* Магуны Паст. *Авечкі лятуць да рук.* Груздава Паст. *На аўтобус ляту. Ён ляцеў з нажам.* Крэва Смарг. *Ляцелі і бабы, і мушчыны.* Саланое Віл. *Ляціць, уцякая.* Паляцкішкі Воран. *Ляцела кабыла праз мост. Карова*

*ляціць у лес.* Старыя Смільгіні Воран. *Ляціць хтосьці.* Старыя Трокі Трак. *Касцы паедуць касіць, усе ляцяць на машыну.* Дакудава Лід. *Я ляту, павалюся — і мне хваціць.* Граўжышкі Ашм. *Я ляцела.* Едлавічы Брасл. *Лятуць у гэтых разінавых сапагах.* Ракаўскія Швянч. *Бачу — ляціць ліса да курэй.* Лайпушкі Ігн. *Чаго ляціш?* Індра Красл. *Ляціць да яе.* Вялікія Нястанавічы Лаг. 3. *перан.* Хутка ісці. *Лятуць бабы жаць.* Беняконі Воран. *Хазяін кажа: «Ляту на ферму».* Магуны Паст. *Нада ляцець да Вэрці на савет.* Груздава Паст. *Па буракі трэба ляцець.* Ністанішкі Смарг. *Ляці дой карову! Скарэй за міне ляціць на работу.* Альхоўка Навагр. 4. Павольна падаць (пра снег). *Снех ляціць.* Едлавічы Брасл. 5. Імкліва цячы. *Вада ляціць ручаём.* Граўжышкі Ашм. *Вада ў старану ляціць.* Гемзы Шальч. *У нас вада ракой ляціць.* Кухты Віл. 6. Добра намотвацца (пра ніткі). *Ніткі, наматаныя на вітушку, добра лятуць.* Крэва Смарг. 7. *перан.* Перасяляцца. *Лятуць із вёскі.* Магуны Паст. *Маладыя лятуць у гарады.* Вялікія Нястанавічы Лаг.; *гл.* л é ц е ц ь.

ЛЯЧАЯ′, ЛЯ′ЧА *ж.*, ЛЯЧА′Й *м. бат.* Плюшчай. *Лячая — трава, расце паўз канаву, на ей шырозныя лісця, яна бы на рагожу пахожа.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Нарвала Маруська лячы. Ляча ў лузе расце — такая шырокая трава, каровы ядзяць. Прынясла мне Маруська таго лячаю; лячай мякі, не дзярэца, а асака дзярэца.* Кузьмічы Люб.; *гл.* л я ш ч І.

ЛЯЧНІ′ЧЫ *гл.* ЛЕЧНІ′ЧЫ

ЛЯЧНЫ′ *прым.* Тое ж, што і л е ч н í ч ы. *Алеш — лячноё зелё. Божа расічка — уся мокранькая, яе збіралі, расце на мокрум балоце і ў жары на ёй ніколі раса не спадзе, яна лячная раса. Белыя корні пырніка лячныя, трэба рваць ранняй вясной. Усякае зелё лячное. І на балячкі гэты грыб лячны.* Альхоўцы Лях.

ЛЯЧО′БА *ж.* Лячэнне. *Яна к лячобе не паддалася.* Мачаск Бярэз.

ЛЯЧО′К *м. памянш.* да л я к ІІ. *Лячок — гліняны аршчок, вуская горла.* Быстрыца Астр.∇ *Хто мае дачку, той мае гарэлку ў лячку.* Номікі Бабіц.

ЛЯЧЫ′ЦЦА, ЛІЧЫ′ЦЦА, ЛІ′ЧЫТЫСЬ *незак.* Лячыцца. *Лячыцца ісці не можа.* Жылі Іўеў. *Нічым ні лячылася.* Кіралі Шчуч. *Я не лічўся, як трэба.* Лісна В.-Дзв. *Хвора, то лічуся.* Сіманавічы Драг.

ЛЯЧЫ′ЦЬ *незак.* Лячыць. *Будзіць яго лячыць. Я яго лячу. Доктар лечыць.* Мярэцкія Глыб. *Цяпер лечаць добро.* Альхоўцы Лях.; *гл.* л é ч ы ц ь.

ЛЯЧЭ′НЯ *н.* Тое ж, што і л я ч ó б а. *Яе здалі на лячэня.* Гемзы Шальч.

ЛЯ′ШКА І *ж. анат.* Сцягно. *Атрубай ляшку, буду варыць халадзец.* Кіралі Шчуч. *Баліць ляшка.* Мярэцкія Глыб.

ЛЯ'ШКА II *ж.* Малая ўкладка снапоў у полі. *Ляшка — дванастка, тры снапы накрываюць, каб як дажджэ, то не намоклі каласэ.* Баброўнікі Гарад. *Жыто ў ляшкі ставілі па дзесяць-пятнаццаць снапоў. Шэсць ляшак — капа жыта, пшаніцы. Ён у ляшках начаваў.* Мсцібава Ваўк. *Жыта жалі і станавілі ў ляшкі.* Навасёлкі Свісл. *Ляшка — дзесяць снапоў. Ляшкі на зямле стаят.* Лука Нараўк. *Жыто ставят у ляшкі по дэсэть снóпов. Снопэ зносят і ставят ляшкі. Одна ляшка.* Дзмітравічы Кам.

ЛЯШО'К *м.* Тое ж, што і л я́ ш к а II. *Той ляшок някый забокуватый, трэба поправыты. Зжялы всэ жыто і в ляшкы́ поставылы.* Сіманавічы Драг. *За дэнь нажалі п'ять ляшкуо́в жыта і два пшэніці.* Курашэва Чыж.

ЛЯШЧ I *м. бат.* Тое ж, што і л я г д ж а́ й. *Ляшч — дробненька расце, як цыбуля, расце па краю балота, скаціна есць.* Глівін Барыс.; *параўн.* літ. *lę̃šis* 'від асакі'.

ЛЯШЧ II *м. заал.* Тое ж, што і л е ш ч. *І ляшчы бываюць у нашай рэчцы. Такі ляшч вялікі.* Чычалі Швянч.

ЛЯШЧА'ЦЬ, ЛЯШЧЯ'ТЫ *незак.* Звінець у вушах. *Аш у вушах ляшчыць.* Багушэвічы Бярэз. *Аж у гушях ляшчыть од твого розговору.* Сіманавічы Драг.

ЛЯШЧО'ТКІ *мн.* 1. Тое ж, што і л е́ ш ч а т к і. *Зламіў руку ці нагу і ўзялі ў ляшчоткі. Ляшчоткі робяцца з лучынак — лучынкі кладзём набапал нагі, рукі, тады ўкручваям тасьмаю або якім шпагатам, каб яна ні гнулася, бо яна цяляпкаецца туда-сюда.* Міратычы Карэл. 2. Прыстасаванне для адціскання сыру. *Зліў малако ў клінок і заціснуў у ляшчоткі, будзя сыр.* Старыя Смільгіні Воран. *Бяруць ляшчоткі, клешчы і ціскаюць сыр.* Рыбчына Віл.

ЛЯШЧЫ'НА', ЛЕШЧЫ'НА, ЛЯХЧЫ'НА, ЛІШЧЭ'НА *ж. бат.* Арэшнік. *На ляшчы́нах многа гарэхаў.* Магуны Паст. *Ляшчы́на расце каля дарогі.* Галоўні Воран. *Лыкі з ляшчы́ны.* Вялікія Баяры Шчуч. *Шлоксні дралі з ляшчы́ны.* Старыя Трокі Трак. *Ляшчы́на расце па кустах.* Грыкені Вільн. *На ляшчы́не арэхі растуць.* Малькуны Ігн. *На ляшчы́ну глядзі добра і знойдзеш арэхі.* Беразіно Докш. *Птушка села на ляшчыне́.* Гемзы Шальч. *Там ляшчына́ расце, арэхі на ляшчыне́.* Парэчча Гродз. *Слокшыны вышмарґваюць з ляшчыны́.* Кудзялянцы Шальч. *Ляшчына́ расце.* Жылі Іўеў., Вострава Маст. *Выструшку рэзалі з ляшчыны́.* Старое Сяло Зэльв. *З лешчыны робяць тапарыско.* Мсцібава Ваўк. *Ляхчына расце за дарогай.* Навасёлкі Свісл. *Лішчэна ростэ коло клуні.* Дзмітравічы Кам.

ЛЯШЧЫ'НІНА *ж.* Сук ляшчыны. *Зламаў ляшчыніну.* Мярэцкія Глыб.

ЛЯШЧЫ'ННІК *м.* Зараснік ляшчыны. *Ляшчыннік за тым полем.* Мярэцкія Глыб., Галоўні Воран. *Ляшчыннік — там ку-*

*сты.* Гемзы Шальч. *У ляшчынніку сягання каровы ходзюць* Беразіно Докш.

ЛЯШЧЫНО́ВЫ *прым.* Ляшчынавы. *Лучкі былі ляшчыновыя, с саломы.* Быстрыца Астр.

ЛЯШЧЭ́ВІНА I *ж.* Куст ляшчыны. *Якая ляшчэвіна высокая! На ляшчэвіне ранкі арэхаў.* Рыбчына Віл.

ЛЯШЧЭ́ВІНА II *ж.* Тое ж, што і лагчы́на. *У ляшчэвіне было сыра.* Рыбчына Віл.

ЛЯШЧЭ́ЎНІК, ЛЯШЧЭ́ЙНІК *м.* Тое ж, што і ляшчы́ннік. *Пойдзем у ляшчэўнік. На ўзваллі лес і ляшчэўнік.* Рыбчына Віл. *Ляшчэйнік — дзе ляшчыны многа.* Солы Смарг.

ЛЯШЧЭ́ЦЬ *незак.* 1. Ляскаць зубамі. *Зубы ляшчаць.* Рыбчына Віл. 2. Моцна крычаць. *Моцна ляшчыць, на ўсё горла. Будзя ляшчэць, як даведаецца.* Рыбчына Віл.

ЛЯШЧЯ́ТЫ *гл.* ЛЯШЧА́ЦЬ

ЛЯШЫ́ЦЬ *незак.* Разбіваць участак на палосы. *Аралі ў загоны, а потым барозны рабілі, гэта называецца ляшыць. Буду ляшыць жыта.* Рыбчына Віл., Малькуны Ігн.

---


**СЛОВАРЬ БЕЛОРУССКИХ ГОВОРОВ СЕВЕРО-ЗАПАДНОЙ БЕЛОРУССИИ И ЕЕ ПОГРАНИЧЬЯ, т. 2**

Издательство «Наука и техника». На белорусском языке

Рэдактар Н. М. ЦАРОВА. Мастак В. В. СІМАНЕНКА. Мастацкі рэдактар В. Ф. ГРЫНКЕВІЧ. Тэхнічны рэдактар І. В. ВАЛАХАНОВІЧ. Карэктар З. А. ГУСЕЛЬЦАВА

ІБ № 1090

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 10.03.80. Падпісана да друку 19.08.80. АТ 13611. Фармат 60×90¹/₁₆. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 45,5. Уч.-выд. арк. 47,5. Тыраж 1580 экз. Зак. № 717. Цана 3 р. 20 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68

